Mika Waltari

# Sinuhe Egyptaläinen

*Viisitoista*
*kirjaa lääkäri Sinuhen*
*elämästä n. 1390 – 1335 e. Kr*

Porvoo - Helsinki
WSOP
1945

Міка Валтары

# Сінухе егіпцянін

*Жыццяпіс Сінухе, лекара фараона Эхнатона і Неферціці,*
*за гады 1390 – 1335 да н.э.,*
*у пятнаццаці папірусах, напісаных ім самім*

Мінск
Выдавец Колас
2006

УДК 821.511.111-31
ББК 84(4 Фин)-44
В 15

*Серыя заснаваная ў 2005 годзе*

Пераклад з фінскай *Якуба Лапаткі*

Рэдактар перакладу *Зміцер Колас*

**Валтары** Міка.
В 15 Сінухе егіпцянін : Жыццяпіс Сінухе, лекара фараона Эхнатона і Неферціці, за гады 1390 – 1335 да н.э., у пятнаццаці папірусах, напісаных ім самім / Міка Валтары; пер. з фін. Я. Лапаткі.— Мінск : Зміцер Колас, 2006.— 628 с.— (Літаратурная скарбонка)
ISBN 985--6783-12-7

Міка Валтары (1908–1979) – адзін з самых папулярных і вядомых пісьменнікаў Фінляндыі. Аўтар шматлікіх раманаў, аповесцяў, навелаў і артыкулаў. Раман «Сінухе егіпцянін» – першы з серыі гістарычных раманаў аўтара, якія вызначаліся вялікай рэалістычнасцю ў апісанні тагачаснага жыцця і падзеяў. Твор перакладзены на некалькі дзесяткаў моваў.

Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі.

**УДК 821.511.111-31**
**ББК 84(4 Фин)-44**

**ISBN 985-6783-12-7**



# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ПАПІРУС ПЕРШЫ
### Трысняговы човен

**1**

Я, Сінухе, сын Сэнмута і яго жонкі Кіпы, пішу гэта. Не дзеля ўслаўлення багоў зямлі Кэмет, бо ўстылі мне ўсе багі. Не дзеля ўслаўлення фараонаў, бо ўстылі мне іх здзяйсненні. Толькі дзеля сябе самога пішу я гэта. Я не чакаю прыхільнасці ні багоў, ні зямных цароў, не адчуваю перад імі страху і не спадзяюся на будучыню. За сваё жыццё я перажыў столькі выпрабаванняў і стратаў, што марныя страхі мяне не турбуюць, бо ад безнадзейнай веры ў неўміручасць я стаміўся гэтак сама, як ад уладароў і багоў. Толькі дзеля сябе самога пішу я гэта і тым, думаю, адрозніваюся ад усіх, хто пісаў у мінулым і будзе пісаць у будучыні.

Бо ўсё напісанае да гэтага дня пісалася дзеля багоў або дзеля людзей. А фараонаў я лічу звычайнымі людзьмі, бо яны ва ўсім падобныя да нас — і ў нянавісці і ў страху, і ў жарсці і ў расчараванні. І хай тысячу разоў іх назавуць багамі, яны ўсё адно застануцца людзьмі, такімі самымі, як усе астатнія. Яны маюць дастатковую ўладу, каб спагнаць сваю злосць і пазбегчы страхаў, але ад жарсці і расчаравання іх не ўратуе ніякая ўлада. Такім чынам, усё напісанае раней пісалася ці па загадзе ўладароў, ці дзеля ўслаўлення багоў, ці дзеля таго, каб падманам прымусіць людзей паверыць у тое, чаго не было ніколі. Або прымусіць паверыць, што ўсё адбывалася зусім іншым чынам, чым было напраўду, і што ўдзел таго ці іншага чалавека ў падзеях мінулага больш ці меншы, чым было на справе. А таму я сцвярджаю, што з самай сівой даўніны і да нашых дзён усё пісалася дзеля ўслаўлення багоў ці людзей.

Усё вяртаецца да свайго пачатку і нічога новага няма пад сонцам, не змяняецца чалавек, хоць і змяняюцца яго ўбранні і словы ў ягонай

мове. А таму я лічу, што і ў прышлыя часы нічога не зменіцца ў пісаннях, як не змянілася ў іх нічога да гэтага часу, бо сам чалавек застаецца нязменны. Людзі таўкуцца вакол хлусні, як мухі вакол мядовага сачня і словы казачніка для іх — чароўны водар. Хай сабе самі яны і сядзяць у кучы гною на рагу вуліцы, але праўды пазбягаюць як толькі могуць.

Я, Сінухе, сын Сэнмута, у дні сваёй старасці і расчаравання, стаміўся ад хлусні і падману. Таму я пішу для сябе самога і пішу толькі пра тое, што пабачыў на свае вочы або пра што дакладна ведаю, што пачутае мною — чыстая праўда. Тым я і адрозніваюся ад усіх, хто жыў да мяне, і ад усіх, хто будзе жыць потым. Бо чалавек, які крэсліць свае словы на папірусе, а тым болей чалавек, які загадвае высекчы сваё імя і свае здзяйсненні на камяні, жыве ў спадзяванні, што далёкія нашчадкі прачытаюць ягоныя словы і ўславяць яго здзяйсненні і мудрасць. У маіх жа словах знойдзецца няшмат вартага ўсхвалення, мае дзеянні не вартыя падзякі, а ў маёй мудрасці столькі палыновага смаку для сэрца, што яна нікога не ўзрадуе. Дзеці не будуць крэсліць мае словы на гліняных таблічках, спасцігаючы майстэрства напісання іерогліфаў. Людзі не стануць паўтараць мае словы, каб узбагаціцца маёй мудрасцю. Таму я выракаюся спадзявання, што мой аповед некалі прачытаюць і мяне зразумеюць.

Чалавек у сваім глупстве болей жорсткі і скамянелы ў пачуццях, чым кракадзіл, што жыве ў рацэ. Яго сэрца цвярдзейшае за камень. Яго марнасць лягчэйшая за пыл на дарозе. Кінь яго ў рэчку — і як толькі прасохне вопратка, ён адразу стане такім, як раней. Ахіні яго бядой і адчаем — і як толькі яму ўдасца падняцца, ён адразу стане такім, як раней. Я, Сінухе, пабачыў за сваё жыццё шмат зменаў, але ўрэшце ўсё засталося так, як раней, і чалавек не змяніўся. Ёсць тыя, хто кажа, нібы адбылося нешта, чаго раней не бывала, але ўсё гэта пустаслоўе.

Я, Сінухе, бачыў, як сын да смерці збіваў свайго бацьку на рагу вуліцы. Я бачыў, як бедныя паўставалі супраць багатых, а багі паўставалі супраць багоў. Бачыў, як чалавек, які раней піў віно з залатых чашаў, схіляўся ў жабрацтве, каб далонямі зачэрпнуць вады з рэчкі. Тыя, хто ўзважваў золата, жабравалі на вуліцах, а іхнія жонкі прадавалі сябе размаляваным неграм за кальцо медзі, каб толькі купіць дзецям хлеба.

Але тое самае было і раней. І ў часы пастаральных уладароў пад раскошным балдахінам мог ляжаць чалавек, які раней спаў на гліняной падлозе. А тады прыходзілі чужынцы і разбівалі галовы дзяцей аб парогі дамоў, звязвалі і гналі ў рабства жанчын у адзенні з царскага льну, а мужчын, якія пабудавалі сабе грабніцы ў Заходніх гарах, забівалі і іхнія целы кідалі ў раку.

Так што нічога новага не пабачылі мае вочы, і тое, што адбылося ў мінулым, адбудзецца і ў будучыні. Чалавек як да гэтай пары не змяніўся, так і не зменіцца ў прышлым. Нашы нашчадкі будуць такія ж, як нашы продкі. А таму — якім чынам яны змогуць спасцігнуць маю мудрасць? Як мне спадзявацца на тое, што яны прачытаюць мае словы?



Вось я, Сінухе, і пішу гэта дзеля самога сябе, бо веды раз'ядаюць маё сэрца падобна шчолаку і я страціў усю радасць жыцця. На трэцім годзе майго выгнання я пачынаю гэтую кнігу, на самым краі пустэльні непадалёк ад падножжа гор, дзе старажытныя фараоны бралі камень на свае выявы, на ўсходнім беразе мора, адкуль плылі караблі ў краіну Пунт. Я пішу гэта таму, што віно стаіць палыном у маім горле. Я пішу гэта таму, што страціў радасць ад жаночай ласкі, а мае сад і сажалка, поўная рыбы, больш не радуюць мае вочы. Халоднымі зімовымі начамі чорная дзяўчына саграваe мой ложак, але няма ў мяне радасці ад яе. Я прагнаў ад сябе спевакоў, а гукі струнаў і флейтаў толькі раздражняюць мяне. Таму і пішу гэта я, Сінухе, якому не патрэбна багацце, залатыя чашы, мірра, чорнае дрэва і слановая косць.

Таму што ўсё гэта ёсць у мяне і нічога ў мяне не адабрана. Параненйшаму рабы баяцца майго кійка, а стражнікі схіляюць галовы, апускаючы рукі да каленяў. Але адмераны межы крокаў маіх і ніводзін карабель не пасмее прыстаць да берага ў белай пене прыбою. Таму што я, Сінухе, ніколі не пачую водар чорнай зямлі веснавою ноччу, таму я і пішу гэта.

Але маё імя было ўсё ж аднойчы запісана ў Залатую кнігу фараона і я жыў у Залатым палацы фараонаў на правым беразе. Слова маё значыла болей, чым слова самых магутных людзей краіны Кэмет, а знатныя вяльможы пасылалі мне падарункі і залатыя ланцугі абвівалі маю шыю. У мяне было ўсё, што толькі можа пажадаць чалавек, але, як і звычайны чалавек, я хацеў большага, чым мог дасягнуць. Таму я і апынуўся тут. Мяне выслалі з Фіваў на шостым годзе праўлення фараона Харэмхеба і забілі б, як сабаку, калі б я толькі пасмеў вярнуцца назад, мяне раздушылі б, як жабу паміж камянёў, калі б я толькі насмеліўся хоць бы на крок пераступіць мяжу адведзенай мне жыццёвай прасторы. Такі быў царскі загад, загад фараона, які некалі быў маім сябрам.

А чаго іншага можна чакаць ад нізкароднага, які загадаў выцерці імёны фараонаў-папярэднікаў са спісу ўладароў і загадаў пісарам занесці ў царскі спіс імёны сваіх бацькоў, каб узвялічыць іх. Я прысутнічаў на яго каранацыі і бачыў, як на галаву яму ўсклалі чырвоную і белую кароны. А шасцю гадамі пазней ён адправіў мяне ў выгнанне. Хоць па разліках яго пісарчукоў гэта адбылося на трыццаць другім годзе яго праўлення. Дык ці не хлусня ўсё тое, што пісалася раней і пішацца сёння?

Што да таго, хто жыў праўдай, то я ставіўся да яго з пагардай — за

ягоную слабасць, і я жахаўся ад бедаў, да якіх ён дзеля сваёй праўды давёў краіну Кэмет. Дык вось жа цяпер ён і помсціцца мне: цяпер я прагну жыць праўдай, хоць, зрэшты, і не дзеля ягонага бога, а дзеля сябе. Праўда — гэта востры нож, праўда — гэта невылечная язва, праўда — гэта шчолак, які раз'ядае чалавечае сэрца. І таму мужчына ў пару сваёй маладосці і сілы бяжыць ад праўды ў дамы ўцехаў, слепіць свае вочы працай і разнастайнай дзейнасцю, падарожжамі і забавамі, уладай і будаўніцтвам. Але настае дзень, калі праўда працінае яго наскрозь, як дзіда, і пасля гэтага яму ўжо не ў радасць ні вясёлыя думкі, ні творы ягоных рук, бо ён застаецца ў самоце, адзін сярод людзей і нават багі не могуць уратаваць яго ад гэтай самоты. Гэта пішу я, Сінухе, з поўным усведамленнем таго, што мае ўчынкі і дзеянні былі нядобрыя, а шляхі — няпростыя. Я пішу гэта з поўным усведамленнем таго, што ніхто не знойдзе нічога вартага прыкладу, калі нават і прачытае гэта. А таму я пішу гэта толькі дзеля самога сябе. Няхай хто іншы адмывае свае грахі ў святой вадзе Амона, а я, Сінухе, ачышчаюся тым, што апісваю свае здзяйсненні і справы. Хай іншыя ўзважваюць няпраўду сваіх сэрцаў на вагах Асірыса, а я, Сінухе, буду ўзважваць сваё сэрца на чаратовым пісале.

Але перш чым пачаць сваю кнігу, я хачу выказаць жальбу свайго счарнелага сэрца выгнанніка.

Хто хоць бы адзін раз напіўся вады з Ніла, той будзе заўсёды з тугою імкнуцца назад да вялікай ракі. І ягоную смагу не зможа спатоліць ніякая іншая вада ў свеце. Той, хто нарадзіўся ў Фівах, будзе заўсёды з тугою імкнуцца назад, бо няма на зямлі другога горада, падобнага да Фіваў. Той, хто нарадзіўся ў маленькім завулку, будзе заўсёды тужыць і імкнуцца назад, у гэты завулак. Ён будзе імкнуцца з кедравага палаца назад, у глінабітную хаціну і сярод водару каштоўнага алею яму будзе мроіцца дымок сухога гною і пах падгарэлай перасмажанай рыбы.

Усе свае залатыя сасуды я прамяняў бы на адзін гліняны глечык, каб толькі яшчэ адзін раз ступіць на мяккую глебу зямлі Кэмет. Сваё ільнянoе адзенне я памяняў бы на скураны фартух раба, каб толькі яшчэ адзін раз мець магчымасць пачуць, як шапаціць рачны чарот пад веснавым ветрам.

Разліваецца Ніл і, як каштоўныя камяні, высяцца над зялёнай вадой гарады, прылятаюць ластаўкі, ходзяць па топкаму ілу жоравы, а мяне там няма. Чаму я не ластаўка, чаму я не журавель з моцнымі крыламі, каб паляцець, мінуўшы стражнікаў, назад у зямлю Кэмет?

Я звіў бы сваё гняздо між размаляваных калонаў Амона, дзе палымяным золатам гарацць абеліскі, дзе ўздымаецца ў неба водар чабору і густы дым прынесеных багам ахвяраванняў. Я звіў бы сабе гняздо пад страхою глінянай хаціны бедняка. Быкі цягнуць плугі, рамеснікі склейваюць папірус, гандляры нахвальваюць свае тавары, жук-скарабей коціць свой гноевы шар па высланай брукам вуліцы.



Светлай была вада майго юнацтва, салодкім было маё маладое шаленства. Горкае і кіслае віно маёй старасці і ніякі самы смачны мядовы хлеб не заменіць мне чэрствы загубак хлеба маёй беднасці. Павярніцеся гады, панясіце мяне назад у мінулыя леты, паплыві Амон з захаду на ўсход, каб змог я зноў вярнуцца ў сваю маладосць! Я не памяняю ніводнага слова і не пазбегну ніводнага ўчынку. О маё стройнае чаратовае пяро, о гладкі папірус, дайце мне зноў вярнуцца ў шаленства маладосці і зноў перажыць мае марныя здзяйсненні!

Гэта напісаў я, Сінухе, выгнанец, бяднейшы за ўсіх беднякоў краіны Кэмет.

**2**

Сэнмут, якога я называў бацькам, быў лекарам беднякоў у Фівах. Кіпа, якую я называў маці, была ягонаю жонкай. Дзяцей у іх не было. Я трапіў да іх толькі ў дні іхняй старасці. Яны прастадушна называлі мяне дарам багоў і нават не падазравалі, якія няшчасці прынясе ім гэты дар. Мая маці, Кіпа, назвала мяне імем казачнага героя Сінухе: яна любіла казкі і ўяўляла, што я трапіў да яе, ратуючыся ад нейкай небяспекі — гэтак сама, як казачны Сінухе, які выпадкова падслухаў у шатры фараона страшную таямніцу, а потым мусіў уцякаць і шмат гадоў вандраваць па чужых краінах, церпячы шматлікія нягоды і беды.

Але ўсё гэта было толькі вынікам яе прастадушнага ўяўлення, і яна шчыра спадзявалася, што мне ўдасца пазбегнуць бедаў і няшчасцяў на маім жыццёвым шляху. Аднак жрацы Амона сцвярджаюць, што імя чалавека — гэта прадвесце ягонага лёсу. І, напэўна, маё імя зацягнула мяне ў небяспечныя прыгоды і завяло ў далёкія краіны. Напэўна, праз яго я спасціг жудасныя таямніцы фараонаў і іхніх жонак, таямніцы, якія могуць давесці да пагібелі. І ўрэшце маё імя зрабіла мяне ўцекачом і выгнанцам.

Зрэшты, наіўная ідэя небаракі Кіпы не болей наіўная, чым думка, што імя можа мець нейкае значэнне ў чалавечым лёсе. Я мяркую, што са мною адбылося б тое самае, нават калі б маё імя было Кепру, ці Кафран, ці Мосэ. І ўсё ж нельга адмаўляць, што Сінухе стаў выгнанцам, а вось Хеб, Сын сокала, каранаваўся пад імем Харэмхеба чырвонай і белай каронамі як уладар Ніжняга і Верхняга Егіпта. А таму кожны можа думаць аб прадвесці і знатамках свайго імя ўсё, што хоча. Кожны ў сваёй веры знойдзе сабе суцяшэнне ад жыццёвых бедаў і навалаў.

Я нарадзіўся ў часы царавання вялікага фараона Аменхатэпа III, і тым самым годам нарадзіўся той, хто хацеў жыць у праўдзе і чыё імя

цяпер нельга згадваць, бо гэта праклятае імя, хоць тады, безумоўна, ніхто гэтага не ведаў. А таму з выпадку яго нараджэння ў палацы было вялікае свята, фараон прынёс шматлікія ахвяры Амону ў храме, які быў некалі пабудаваны па яго загадзе, і народ весяліўся, не ведаючы, што чакае яго наперадзе. Вялікая фараонава жонка Тэйе доўга і безнадзейна чакала нараджэння сына, хоць ужо дваццаць два гады была Вялікай жонкай уладара і яе імя было высечанае ў храмах побач з імем фараона. Таму адразу пасля таго, як жрацы зрабілі яму абразанне той, чыё імя нельга згадваць, з вялікай урачыстасцю быў абвешчаны спадкаемцам царскай улады.

Але ён нарадзіўся падчас веснавой сяўбы, а я, Сінухе, з'явіўся на свет яшчэ ўвосень, калі разводдзе было ў самай сіле. Дзень майго нараджэння невядомы, бо я прыплыў па Ніле ў маленькім трысняговым чоўне, абмазаным варам, і мая маці, Кіпа, знайшла мяне сярод узбярэжнага трысягу амаль побач з парогам — так высока тады стаяла вада. У той жа момант прыляцелі ластаўкі і зашчабяталі ў мяне над галавой, але сам я маўчаў, і яна падумала, што я нежывы. Яна занесла мяне ў дом, пастаралася сагрэць ля агменя і дула мне ў рот, пакуль я не пачаў ціха плакаць.

Мой бацька Сэнмут вярнуўся дадому пасля абыходу хворых, несучы дзвюх качак і кошык мукі. Ён пачуў мой енк і падумаў, што Кіпа прывяла ў дом кацяня, а таму пачаў яе лаяць. Але маці сказала: «Гэта не кот — гэта хлопчык. Радуйся, мой муж Сэнмут, у нас нарадзіўся сын».

Мой бацька яшчэ больш раззлаваўся і сказаў, што яна звар'яцела, але калі Кіпа яму мяне паказала, мая бездапаможнасць кранула бацькава сэрца. Вось так яны прызналі мяне сваім сынам і прымусілі нават суседзяў паверыць, што мяне нарадзіла Кіпа. Зрэшты, гэта ўсё яе пустахвальства, а напраўду я і не ведаю, ці шмат хто ёй паверыў. А вось трысняговы човен, у якім я прыплыў, Кіпа зберагла, і ён вісеў пад столлю над маім ложкам. Што да бацькі, дык ён узяў найлепшы ў хаце мядзяны сасуд і занёс яго ў храм, каб мяне запісалі ў кнігу народжаных, як яго ўласнага сына, народжанага Кіпаю. Але абразанне мне ён зрабіў сам, бо баяўся даверыць гэта жрацам: іх нажы пакідалі гнойныя раны, і таму ён не дазволіў ім да мяне дакранацца. А можа, ён зрабіў гэта з ашчаднасці, бо жыў не надта заможна, лекуючы беднякоў.

Вядома, я гэтага ўсяго сам не памятаў, мне пра гэта распавялі бацькі, і расказвалі яны гэта так падрабязна, так часта і заўсёды аднымі словамі, што ўрэшце я ім паверыў, дый не бачу падстаў, каб яны захацелі мне схлусіць. Аднак у маленстве я лічыў іх сапраўднымі сваімі бацькамі, і мае дзіцячыя гады не азмрочвала ніякая туга. Праўду мне паведамілі толькі тады, калі абстрыглі мае дзіцячыя кудзеры і я стаў падлеткам. Яны гэта зрабілі таму, што баяліся і шанавалі багоў, і мой



бацька не хацеў, каб я ўвесь свой век пражыў у падмане.

Але хто я такі і адкуль, хто мае сапраўдныя бацькі — я так ніколі і не даведаўся. Сёння я маю наконт гэтага пэўныя думкі — і пра іх я распавяду пазней,— але гэта толькі мае развагі і меркаванні.

Дакладна мне вядома толькі тое, што я ў той час быў не адзінае немаўлятка, адпраўленае ўніз па рацэ ў прасмоленым трысняговым чоўне. Фівы са сваімі храмамі і палацамі, вакол якіх грудзілася безліч гліняных бядняцкіх хацінак, былі вялікім горадам.

У часы вялікіх фараонаў Егіпет захапіў шмат краінаў і валодаў многімі землямі, але разам з павелічэннем і ўзбагачэннем краіны мяняліся звычаі і норавы, у Фівы панаехала шмат замежных гандляроў і рамеснікаў, якія будавалі ў горадзе храмы сваім багам. Аднак якімі вялікімі былі раскоша, бляск і багацце храмаў і палацаў, такою ж вялікаю была і нэндза па-за іх мурамі. Многія беднякі пакідалі сваіх дзяцей на літасць лёсу, але шмат і багатых жанчын, чые мужы былі ў ад'ездзе, адсылалі ў трысняговых лодачках уніз па рацэ сведчанні сваёй нявернасці шлюбным повязям. Можа, мяне падкінула жонка мараплаўцы, якая здрадзіла свайму мужу з сірыйскім гандляром. А можа, я быў сынам чужаземцаў, бо мне не зрабілі абразання. Калі мне абстрыглі дзіцячыя кудзеры і мая маці схавала іх у маленькую скрынку, дзе зберагала і першыя мае сандалеты, я доўга разглядаў трысняговы чоўнік, які мне паказала Кіпа. Некалі жоўтыя сцяблінкі трысягу патрэскаліся і счарнелі ад дыму агменя. Трысцінкі былі скручаныя вузламі, якія звычайна робяць птушкаловы, але болей нічога распавесці пра маіх бацькоў лодачка мне не магла. Так я атрымаў першую рану ў сэрцы.

## 3

Калі надыходзіць старасць, душа чалавека птушкай ляціць назад, да дзіцячых дзён. У дні старасці дзяцінства зіхціць у памяці светла і чыста, нібыта ўсё было тады прыгажэйшым і лепшым, чым сёння. І ў гэтым, напэўна, бядняк і багаты зусім не адрозніваюцца, бо няма ў свеце такога бедняка, які не ўбачыў бы ані пробліску святла і радасці ў сваім дзяцінстве, успамінаючы яго ў старым веку.

Мой бацька Сэнмут жыў у шумным і бедным квартале вышэй па цячэнню ад храмавых муроў. Непадалёк ад яго дома, яшчэ вышэй па рацэ, былі вялікія каменныя прычалы, каля якіх разгружаліся нільскія караблі. На вузенькіх вулачках было шмат піўных і вінных крамак для прыезджых купцоў і мараплаўцаў, і тамсама размяшчаліся дамы ўцех, куды на сваіх насілках часцяком наведваліся заможныя мужчыны з цэнтра горада. Па суседстве з намі жылі зборшчыкі падаткаў, малодшыя афіцэры, шкіперы ды жрацы пятай ступені. Як і мой бацька, яны стваралі эліту квартала беднякоў, узвышаючыся над іншым бедным

людам гэтак сама, як мур узвышаецца над роўнай паверхняй вады.

Наш дом быў вялікі і прасторны ў параўнанні з глінянымі бядняцкімі хацінкамі, якія панурай чарадой цясніліся сцяна да сцяны ўздоўж вузенькіх завулкаў. Перад нашым домам быў нават невялічкі, на некалькі крокаў, сад, дзе расла сікамора, якую пасадзіў мой бацька. Кусты акацыі аддзялялі сад ад вуліцы, а вадаёмам быў абкладзены каменем басейн, куды вада набіралася толькі пад час разводдзя. У доме было чатыры пакоі, у адным з якіх маці гатавала ежу. Снедалі мы на тэрасе, праз якую можна было трапіць у пакой, дзе бацька прымаў пацыентаў. Мая маці любіла чысціню, і таму да нас двойчы на тыдзень прыходзіла прыбіральшчыца і яшчэ раз на тыдзень — памывачка, якая забірала нашае адзенне і ішла мыць яго ў пральні на беразе ракі.

Пасярод неспакойнага беднага квартала, які ўсё больш напаўняўся прышлым людам, чыю разбэшчанасць я спазнаў, калі стаў юнаком, мой бацька разам з суседзямі трымаўся старых традыцыяў і зберагаў даўнія добрыя звычаі. Тым часам нават у цэнтры горада даўнія звычаі паступова занепадалі, асабліва сярод багацеяў і знаці, а мой бацька і людзі ягонага класу па-ранейшаму і з каменнаю непарушнасцю ўвасаблялі сабой стары Егіпет з яго шанаваннем багоў, сардэчнаю чысцінёй і бескарыслівасцю. Яны нібыта супрацьпастаўлялі сябе кварталу і людзям, сярод якіх жылі і працавалі, падкрэсліваючы сваю адасобленасць адмысловымі паводзінамі і ладам жыцця.

Але навошта я распавядаю пра тое, што спасціг значна пазней? Ці не лепей успомніць шурпаты ствол сікаморы і шолах лістоты, калі я адпачываў у яе густым цені, хаваючыся ад палючай спёкі? Чаму б не ўспомніць і пра маю ўлюбёную цацку, драўлянага кракадзіла, якога я цягаў за сабою паўсюль па каменнай вуліцы: ён разяўляў сваю чырвоную пашчу і ляскаў сківіцамі, а ўсе суседскія дзеці збягаліся паглядзець на гэтае дзіва. Шмат мядовых прысмакаў, бліскучых каменьчыкаў і мядзяных драцінак я атрымаў ад дзяцей за тое, што дазваляў ім пацягаць сваю цацку і пагуляць з ёю. Такія цацкі былі толькі ў сем'ях знаці, і мой бацька атрымаў яе ад царскага цесляра за тое, што прымочкамі пазбавіў яго ад нарыву, які яму не даваў сядзець. Звычайна ўранні мая маці брала мяне з сабою на рынак. Праўда, ёй не трэба было рабіць шмат пакупак, але каб выбраць вязку цыбулі, яна магла патраціць цэлую меру вадзянога гадзінніка, а на выбар новага абутку траціўся перадабедзенны час усяго тыдня. Па яе размовах можна было зразумець, што яна багатая і набываць хоча толькі ўсё самае лепшае. А калі не купляе ўсяго запар, дык толькі каб прывучыць мяне да ашчаднасці. Так яна казала. «Не той багаты, хто валодае золатам і срэбрам, а той, хто задавальняецца малым», — пераконвала яна мяне, але ў той жа час яе старыя гаротныя вочы з захапленнем глядзелі на стракатыя ваўняныя тканіны з Сідона і Бібла, тонкія і лёгкія, як пух. Яе пацямнелыя, загрубелыя ад працы рукі пяшчотна краналі ўпрыгожванні са слановай косці і страўсавых пёраў. Гэта ўсё непатрэбныя дробязі — запэўнівала яна мяне і, напэўна, сябе. Але мая дзіцячая душа паўставала супраць такіх павучанняў: я з вялікім задавальненнем купіў бы сабе мартышку, што абдымала за шыю свайго гаспадара, ці стракатую птушку, што выкрыквала сірыйскія і егіпецкія словы. І я нічога не меў супраць нашыйных залатых ланцужкоў і залачоных сандаляў. Толькі нашмат пазней я зразумеў, што ў глыбіні душы бедная старая Кіпа была таксама не супраць зрабіцца багатай.

Але паколькі яна была ўсяго толькі жонкай беднага лекара, яна задавальняла свае мары казкамі. Вечарамі перад сном яна ціхім голасам расказвала мне ўсе казкі, якія ведала. Яна распавядала пра Сінухе і пра мараплаўца, які пасля караблекрушэння трапіў да змяінага цара і вярнуўся дадому з вялікім багаццем, яна распавядала пра багоў і чарадзеяў, пра заклінальнікаў і старажытных фараонаў. Мой бацька часта бурчэў на яе, кажучы, каб яна не дурыла мне галаву ўсякай лухтой і глупствам, але як толькі ён пачынаў храпці, маці расказвала свае гісторыі далей — больш, напэўна, дзеля свайго задавальнення, чым дзеля маёй забавы. Нават цяпер я памятаю тыя спякотныя летнія вечары калі сяннік абпальваў цела і сон ніяк не прыходзіў, я чую яе нізкі закалыхваючы голас і мне зноў робіцца ад гэтага спакойна і ўтульна. Наўрад ці родная маці была б са мною дабрэйшай і болей пяшчотнай, чым прастадушная Кіпа, якая верыла ў забабоны і казачныя цуды, дзякуючы якім усе сляпыя і пакалечаныя казачнікі заўсёды маглі зарабіць неблагі абед.

Казкі захаплялі маю душу, але іх поўнаю супрацьлегласцю было жыццё на вуліцы —вотчыне мух, напоўненай разнастайнымі пахамі і смуродам.

Вецер з порта разносіў па вуліцы хвалюючы пах кедраў і водар духмянай смалы. А часам на зямлю падала кропелька вохнага алею, калі знатная дама выглядвала са сваіх насілак, каб палаяцца на вулічных хлапчукоў. Вечарамі, калі залаты човен Амона схіляўся да Заходніх гор, з усіх тэрасаў і гліняных хацінак над вуліцай уздымаўся чад ад смажанай у алеі рыбы, які мяшаўся з пахам свежага хлеба. Я з дзяцінства прызвычаіўся да гэтага паху бядняцкай часткі Фіваў і палюбіў яго так, што забыць ужо не змагу ніколі.

Падчас абедаў на тэрасе я атрымліваў першыя навучанні з бацькавых вуснаў. Стомленай хадою ён прыходзіў з вуліцы праз сад або выходзіў з прыёмнага пакою, і ад ягонай вопраткі востра пахла лекамі і масцямі. Маці палівала яму на рукі, мы садзіліся за стол, і маці падавала ежу. Бывала, што ў гэты час па вуліцы праходзіла хеўра п'яных маракоў, якія гарлалі песні і лупілі палкамі па сценах дамоў. Часам яны

спыняліся і спраўлялі патрэбы пад кустамі акацыі. Мой бацька быў чалавек асцярожны і нічога не казаў, пакуль яны не праходзілі міма. Толькі тады ён павучаў мяне:

— Толькі варты жалю негр ці брудны сірыец спраўляе патрэбы на вуліцы. Егіпцянін робіць гэта ў сценах дома.

Або ён казаў:

— Віно — гэта дарунак багоў, які весяліць сэрца, калі піць яго ў меру. Адна чаша нікому не шкодзіць, дзве робяць язык балбатлівым, а той, хто бярэцца за цэлы гарлач, прачнецца ў вулічным рыштку, пабіты і абрабаваны.

Часам да тэрасы далятаў водар духмяных масцяў — гэта міма нашага дома праходзіла адна прыгожая жанчына; яе цела агортвала празрыстая тканіна, шчокі, вусны і бровы былі ярка нафарбованыя, а вочы свяціліся вільготным бляскам, якога я ніколі не бачыў у іншых жанчын. Аднойчы ўбачыўшы, што я зачаравана гляджу на яе, мой бацька сурова сказаў:

— Сцеражыся жанчыны, якая скажа: «Прыгожы хлопчык»,— і павабіць цябе за сабой, бо яе сэрца — сіло і пастка, а абдымкі абпальваюць мацней, чым агонь.

Не дзіва, што пасля такіх павучанняў я ў дзіцячай сваёй прастадушнасці пачаў з жахам глядзець на сасуды з віном і прыгажунь, не падобных да тых кабет, што я бачыў звычайна вакол. Зрэшты, адначасова, і тое і другое, як усё невядомае і страшнае, выклікала ў маёй душы прыцягальнае і небяспечнае зачараванне.

З дзяцінства бацька дазваляў мне быць з ім у час прыёму хворых. Ён паказваў мне прылады, нажы і сасуды пад лекі, расказваючы, як і чым трэба карыстацца. Калі ён аглядаў хворага, я стаяў побач і падаваў яму то сасуд з вадой, то павязкі, то алей ці віно. Мая маці, як і ўсе жанчыны, не магла глядзець на раны і нарывы, а таму ўвесь час дзівілася маёй дзіцячай цікаўнасці да розных хваробаў. Дзіцё не можа разумець пакутаў і болю, пакуль само іх не паспытае. Чыстка нарываў здавалася мне захапляючай справай, і я з гонарам распавядаў пра ўсё ўбачанае хлопцам на вуліцы, і праз гэта яны ставіліся да мяне з павагай. Калі прыходзіў новы хворы, я заўсёды ўважліва сачыў, як бацька яго аглядае, слухаў і запамінаў усе бацькавы пытанні і чакаў, як ён скажа на заканчэнне: «Гэтую хваробу мы вылечым»,— ці: «Бяруся дапамагчы». Але былі і такія хворыя, лячыць якіх ён і не пачынаў, а пісаў на папірусе колькі радкоў і адсылаў іх у храмавы Дом жыцця. Калі такі наведнік сыходзіў, бацька звычайна ўздыхаў, трос галавою і прамаўляў: «Небарака!»

Не ўсе, хто звяртаўся да майго бацькі, былі беднякамі. З дамоў уцех да яго прыносілі на перавязку мужчын у адзенні з тонкага льну, з караблёў часам прыходзілі сірыйскія капітаны — палячыць хворы зуб ці



флюс. Таму я не здзівіўся, калі на прыём прыйшла жонка гандляра прыправамі, уся ў упрыгожаннях і з каштоўнымі камянямі на каўнярь. Бацька ўважліва яе агледзеў, слухаючы няспынныя стогны і скаргі на незлічоныя немачы, а потым, на вялікае маё расчараванне, пачаў нешта пісаць на лісточку. Я ж думаў, што бацька вылечыць гэтую хворую, за што атрымае шмат падарункаў і розных прысмакаў. Таму я толькі сумна ўздыхнуў, паківаў галавой і шапнуў: «Небарака!»

Хворая спалохана здрыганулася і з жахам зірнула на бацьку. Але той, перанёсшы на лісток некалькі радкоў са старых пісьмёнаў і малюнкаў са старажытнага скрутку, перамяшаў у сподачку алей і віно, апусціў у іх лісток і папаласкаў яго, пакуль чарніла не растварылася ў сумесі. Потым пераліў прыгатаваную мікстуру ў маленькую гліняную баначку і аддаў яе жонцы гандляра прыправамі, загадаўшы прымаць лекі кожны раз, калі забаліць галава ці жывот. Калі жанчына пайшла, я пытальна зірнуў на бацьку. Той трошкі збянтэжыўся, некалькі разоў кашлянуў і сказаў:

— Ёсць шмат хваробаў, што вылечваюцца ад чарніла, якім былі напісаны магутныя заклінанні.

Болей ён не сказаў мне нічога, а праз пэўны час прамармытаў сам сабе: «Ва ўсякім разе такія лекі хвораму не пашкодзяць».

Калі мне споўнілася сем гадоў, я атрымаў паяснічную павязку падлетка і маці павяла мяне ў храм, дзе падносіліся ахвяраванні. У той час храм Амона быў самы вялікі храм у Егіпце. Ад храмавай сажалкі багіні Месяца праз увесь горад да яго ішла алея, абапал якой стаялі сфінксы з галовамі бараноў. Вакол храма з усімі яго будынкамі ўздымаліся магутныя цагляныя сцены, утвараючы сапраўдны горад у горадзе. На версе высокіх, як горы, пілонаў пляскаліся рознакаляровыя сцягі, а велічэзныя статуі фараона па баках медных варотаў вартавалі ўваход на тэрыторыю храма.

Мы прайшлі праз вароты, і маю маці з усіх бакоў пачалі тузаць за рукавы гандляры Кнігамі мёртвых; яны то шапталі ёй штосьці на вуха, то гучна гарлалі, прапануючы зрабіць пакупку. Маці завяла мяне ў сталярню, дзе стаялі выразаныя з дрэва фігуркі рабоў і прыслужнікаў, якія па заклінанні жрацоў мусілі на тым свеце адказваць за свайго гаспадара і рабіць за яго ўсю працу, каб яму і пальцам варухнуць не давялося. Але нашто я распавядаю ўсім вядомыя рэчы, бо цяпер усё стала зноў як раней, не змянілася толькі чалавечае сэрца. Маці заплаціла патрэбную плату, каб паглядзець, як прыносяць ахвяру. Жрацы ў белай вопратцы спрытна закалолі і рассеклі быка, між рагоў у якога на сплеценай з чароту вяровачцы вісела пячатка, пацвярджаючы, што бык не мае ніякіх заганаў і на ім няма ніводнай чорнае валасінкі. Жрацы былі дзябёлыя, іх паголеныя галовы ільсніліся ад алею. На прынясенні

ахвяры прысутнічала каля дзвюх соцень чалавек, але жрацы не звярталі на іх увагі і спакойна размаўлялі пра нешта сваё. Я з цікаўнасцю разглядаў карціны бітваў на сценах і быў уражаны велічынёю калонаў храма. Я не мог зразумець, чым усхваляваная мая маці: калі мы вярталіся дахаты, у яе на вачах былі слёзы. Дома яна зняла з мяне дзіцячыя пантофлі, і я атрымаў новыя сандалі, якія мне моцна мулялі. Але калі я на гэта паскардзіўся, бацька добразычліва пасмяяўся і сказаў, што хлопчык з прыстойнай сям'і не можа хадзіць па горадзе басанож — час цяпер змяніўся. Ён расказаў, што яшчэ за яго дзедам нават вялікія начальнікі маглі павесіць сандалі на шыю і хадзіць босыя. Звычаі тады былі болей простыя і здаровыя, чым цяпер. Жанчыне хапала вузкай сукенкі без рукавоў, а сёння кожная кабета, якая дбае пра сваю годнасць, патрабуе шырокіх строяў са стракатымі каўнярамі. Раней, калі б мужчына надзеў вопратку з сабраным у зборкі накрухмаленым фартухам ды яшчэ з шырокімі рукавамі, яго засмяялі б. Далібог, дзед цяпер не пазнаў бы Фіваў, каб паўстаў з магілы паглядзець на горад, наўрад ці ён зразумеў бы нават сённяшнюю гаворку, настолькі мова засмецілася сірыйскімі назвамі і словамі. Чым больш чалавек ужывае чужамоўных словаў, тым больш вытанчаным ён сам сабе здаецца, так гаварыў мой бацька.

Але пасля абеду бацька стаў сур'ёзны, ён паклаў мне на галаву сваю вялікую руку майстра і, з баязлівай пяшчотай пакруціўшы мой дзіцячы віхор ля скроні, сказаў:

— Табе ўжо сем гадоў, Сінухе, і трэба вырашаць, кім ты хочаш быць.

— Воінам,— імгненна адказаў я і ніяк не мог зразумець, чаму яго добры твар стаў такі расчараваны.

Найлепшымі гульнямі ў хлопцаў на вуліцы лічыліся ваенныя гульні. Я бачыў, як воіны дужаліся і вучыліся валодаць зброяй перад вайсковым домам, я бачыў, як баявыя калясніцы нясліся на вучэнні за горад з грукатам колаў і трапятаннем пышных султанаў вазніц. І не магло быць больш паважанай і ганаровай справы, чым кар'ера ваяра. Апроч таго, воіну не трэба было вучыцца пісаць, што для мяне было ледзь не вырашальным довадам, бо старэйшыя хлапчукі расказвалі жахлівыя гісторыі пра тое, якою цяжкай была навука пісьменнасці і як балюча жорсткія настаўнікі цягаюць за валасы, калі незнарок выпусціш гліняную таблічку ці калі трысняговае пісала паламаецца ў няўмелых руках.

Напэўна, мой бацька быў з маленства не надта адораны здольнасцямі, іначай ён дасягнуў бы большага, а не застаўся простым бядняцкім лекарам. Але ён быў уважлівым і старанным у працы, не рабіў шкоды хворым і з гадамі набыў вялікі досвед. Ён ведаў, які я быў самалюбны і ўпарты, і таму нічога не сказаў пра мае намеры.

Але неўзабаве ён папрасіў у маёй маці сасуд, пайшоў у працоўны пакой і напоўніў яго танным віном са жбанка. «Хадзем, Сінухе»,— паклікаў ён і павёў мяне на бераг ракі. Я са здзіўленнем пайшоў за ім. На прычале ён спыніўся і паказаў мне на барку, з якой насільшчыкі, сагнуўшы спацелыя спіны, выгружалі зашытыя ў дываны тавары. Сонца схілялася да Заходніх гор за Горадам мёртвых, а мы, сытыя і задаволеныя, назіралі за тым, як грузчыкі бесперапынна цягалі цяжкую паклажу, задыхаючыся і абліваючыся потам. Наглядчык падганяў іх бізуном, а пад павеццю спакойна сядзеў пісар і для памяці адзначаў трысняговым пісалам кожны перанесены мех.

— Ты хацеў бы стаць такім, як яны? — спытаўся бацька

Пытанне падалося мне настолькі неразумным, што я нават не адказаў на яго, а толькі здзіўлена зірнуў на бацьку, бо стаць падобным да гэтых насільшчыкаў, вядома ж, ніхто не хоча.

— Яны працуюць так з самага рання і да позняга вечара,— сказаў бацька.— Іх скура зрабілася грубай і шурпатай, як у кракадзіла, іх рукі загрубелі, як кракадзілавы лапы. І толькі з надыходам цемры яны разыдуцца па сваіх убогіх гліняных хацінах, а ежай ім будзе кавалак сухога хлеба, цыбуліна ды глыток кіслага квасу. Вось такое жыццё ў насільшчыка. Гэтак сама жывуць і земляробы. Так жывуць усе, хто працуе рукамі. Ты, пэўна, ім не зайздросціш?

Я паматаў галавою і здзіўлена паглядзеў на бацьку. Я ж хацеў стаць воінам, а не якім-небудзь насільшчыкам ці земляробам, што вечна капаецца ў глею, палівальшчыкам палёў ці пастухом.

— Яны ніколі не змогуць змяніць свой лёс,— сур'ёзна сказаў мой бацька.— Пасля смерці іх целы ў лепшым выпадку прасоляць і закапаюць у пясок. Іх не чакае бяссмерце і радаснае жыццё ў краіне Захаду, як тых, хто можа пабудаваць сабе трывалую грабніцу і заплаціць за бальзамаванне свайго цела, каб яно і пасля смерці зберaглося навечна. А чаму так, ты ведаеш гэта, Сінухе?

Я глядзеў на Горад мёртвых, дзе вечаровае сонца афарбавала белыя храмавыя грабніцы фараонаў у крывава-чырвоны колер, і ніжняя сківіца мая задрыжала, бо я здагадаўся, да чаго вядзе бацька.

— Таму што яны не ўмеюць пісаць,— вельмі сур'ёзна прамовіў ён.— Ні ў жыцці, ні ў смерці не спасцее той, хто не ўмее пісаць.

Ён задуменна падняў сасуд з віном, азірнуўся, нібыта баючыся, што Кіпа за ім падглядае, пакаштаваў глыток, выцер вусны і, узяўшы мяне за руку, павёў далей. Я рушыў за ім з цяжкім сэрцам, але мой намер стаць воінам быў непахісны.

— Бацька,— сказаў я, ледзь паспяваючы следам,— жыццё воінаў такое прыемнае. Яны жывуць у вайсковым доме і добра харчуюцца, вечарамі яны п'юць віно ў доме ўцех, а жанчыны глядзяць на іх з вялікай прыхільнасцю. Лепшыя з іх носяць на шыі залатыя ланцугі, хоць яны і не ўмеюць пісаць. З ваенных паходаў яны прывозяць здабычу і

рабоў, якія працуюць за іх і выконваюць іхнюю працу на службе. Дык чаму б і мне не стаць воінам?

Але бацька не адказаў нічога, і толькі паскорыў хаду. Непадалёк ад вялікай звалкі, дзе нас апанавалі гудлівыя хмары мух, ён нахіліўся і зазірнуў у нізенькую гліняную хацінку.

— Інтэб, дружа, ты тут? — пазваў бацька, і на яго кліч з хаціны, абапіраючыся на кіёк, выбраўся кульгавы стары, увесь паедзены вошамі, у заскарузлай ад бруду паяснічнай павязцы. Адна рука ў яго была адсечана амаль да пляча, высахлы ад старасці твар пакрывалі густыя маршчыны, а ў роце зусім не было зубоў.

— Няўжо, няўжо — гэта сам Інтэб? — шэптам спытаў я ў бацькі, з жахам гледзячы на старога.

Інтэб быў славуты герой, які выявіў у сірыйскіх паходах найвялікшага з фараонаў, Тутмоса III, пра ягоныя подзвігі і ўзнагароды, якія ён атрымаў ад фараонаў, хадзілі легенды.

Стары ўскінуў руку, вітаючы нас на вайсковы лад, а мой бацька працягнуў яму сасуд з вінам. Яны селі проста на зямлю, бо ў гэтага дзеда не было нават лавачкі перад хацінкай. Інтэб дрыготкімі рукамі паднёс сасуд да вуснаў і пачаў прагна глытаць віно, асцерагаючыся, каб ніводная кропля не пралілася на зямлю.

— Сын мой Сінухе збіраецца стаць воінам, — усміхаючыся сказаў бацька. — Я прывёў яго да цябе, бо ты, Інтэб, адзіны, хто застаўся жывы з герояў вялікіх паходаў і войнаў. Я хачу, каб ты распавёў майму сыну пра доблеснае жыццё ваяроў і пра іх слаўныя подзвігі.

— У імя Сэта, Ваала ды іншых злых сілаў! — выгукнуў стары і, пранізліва зарагатаўшы, утаропіўся на мяне блізарукімі вачыма. — Няўжо хлопец зусім звар'яцеў?

Ягоны бяззубы рот, патухлыя вочы, павіслая кукса рукі і зморшчаныя брудныя грудзі былі такія страшныя, што я схаваўся бацьку за спіну і ўхапіў яго за рукаў.

— Хлопча, хлопча! — сказаў Інтэб і захіхікаў. — Калі б мне далі па глытку віна за кожны праклён, які я прамовіў, бэсцячы свой нікчэмны лёс і праклінаючы той дзень і час, калі я стаў воінам, дык я напоўніў бы вінoм цэлае возера, якое фараон, кажуць, стварыў дзеля адной сваёй бабы. Праўда, сам я тое возера не бачыў, у мяне проста няма грошай, каб заплаціць за перавоз цераз раку, але я думаю, яно напоўнілася б да краёў і нават яшчэ засталося б дастаткова, каб цэлая армія напілася ўшчэнт.

І ён зноў пачаў прагна жлукціць віно.

— Але ж прафесія воіна — самая ганаровая прафесія ў свеце, — прамовіў я дрыготкім голасам.

— Гонар і слава, — адказаў тутмоскі герой Інтэб, — гэта бруд і гной, прыдатныя на пракорм толькі мухам. На сваім веку я шмат чаго набрахаў пра вайну і геройства прастачкам, якія слухалі мяне, раззявіўшы ляпы, — каб яны паілі мяне вінoм, але твой бацька — прыстойны чалавек, і я не хачу хлусіць яму. А таму, скажу табе, хлопча, што з усіх прафесіяў — прафесія воіна самая разапошняя і вартая жалю.

Віно разгладзіла зморшчыны на ягоным твары і ў шалёных старэчых вачах запаліўся змрочны агонь. Ён падняўся і адзінай сваёй рукою схапіўся за горла.

— Глядзі, хлопчык! — выгукнуў стары. — Некалі гэтую схуднелую шыю ўпрыгожвалі пяць залатых ланцугоў. Фараон сваімі рукамі начапіў іх на мяне. Хто можа пералічыць адсечаныя рукі, якія я склаў перад яго шатром? Хто першы ўзлез на сцены Кадэша? Хто, нібы раз'юшаны слон, наносіў смяротныя ўдары, сеючы страх і смерць у варожых шэрагах? Гэта быў я, Інтэб, славуты герой. І хто сёння мне плаціць падзякай за гэта? Маё золата разышлося па дарогах свету, рабы, якіх я здабыў на вайне, разбегліся ці памерлі ў жабрацтве. Мая правая рука засталася ў землях Мітанні, і сядзець бы мне жабраком на рагу вуліцы, калі б не добрыя людзі, якія часам прыносяць мне сушанай рыбы ды піва за тое, што расказваю іхнім дзецям праўду пра вайну. Я, Інтэб, вялікі герой, але паглядзі на мяне, хлопча. Маладосць мая засталася ў пустэльні, сярод голаду, хваробаў ды цяжкай працы. Там высахла мяса на маіх касцях, там задубела мая скура, там маё сэрца стала цвярдзейшым за камень. А самае горшае, што ў бязводных пустэльнях высах мой язык і я захварэў на вечную смагу, як кожны воін, якому пашчасціла вярнуцца з паходу ў далёкія краіны жывым. З той пары, як я страціў руку, маё жыццё нагадвае цясніну ў падземным царстве. Я нават не хачу і ўспамінаць пра боль ад ранаў, прычыненую мне мяснікамі-лекарамі, бо яны спачатку адпілоўваюць руку, а потым абварваюць абрэзак у кіпячым алеі, — твой бацька гэта добра ведае. Хай будзе блаславёнае тваё імя, справядлівы і добры Сэнмут, але віно скончылася.

Стары змоўк, аддыхаўся, сеў на зямлю і з гаротным выглядам перакуліў гліняны сасуд дном да гары. Дзікі агонь у яго вачах згас, і перад намі зноў быў стары няшчасны чалавек.

— Затое воіну не трэба ўмець пісаць, — баязліва прашаптаў я.

— Х-м-м, — прамовіў Інтэб і паглядзеў на майго бацьку. Бацька хуценька зняў з рукі медны пярсцёнак і даў яго старому. Той нешта гучна крыкнуў, і на гэты крык прыбег брудны хлопчык, які, схапіўшы пярсцёнак, пабег у вінную лаўку купіць яшчэ віна.

— Не купляй лепшага! — устрывожана крыкнуў Інтэб яму наўздагон. — Вазьмі кіслага, яго дадуць болей!

Потым ён зноў задуменна паглядзеў на мяне.

— Ты кажаш праўду, — сказаў ён. — Воіну не трэба ўмець пісаць, яму патрэбна ўмець толькі ваяваць. Калі б ён умеў пісаць, дык быў бы на-

чальнікам і аддаваў бы загады нават самым доблесным воінам і пасылаў бы на бітву іншых паперадзе сябе. Таму што любы пісьменны можа камандаваць простымі воінамі, але нават камандзірам сотні не пастаяць таго, хто не ўмее крэмзаць на папірусе. Які толк з тых залатых ланцугоў ды ўзнагародаў, калі камандуе той, у чыіх руках трысняговая палачка для пісьма? Але так яно было і будзе заўсёды. А таму, сыне, калі хочаш камандаваць воінамі і кіраваць імі, навучыся спачатку пісаць. Тады ўсе з залатымі ланцугамі будуць схіляцца перад табой, а рабы панясуць цябе ў крэсле на поле бою.

Брудны хлопчык вярнуўся з гарлачом і конаўкаю, поўнымі віна. Твар старога асвяціўся радасцю.

— Твой бацька Сэнмут — добры чалавек,— сказаў ён дружалюбна.— Ён умее пісаць і лячыў мяне, калі ў дні сваёй маладосці і сілы я, перапіўшы віна, пачынаў бачыць паўсюль кракадзілаў і бегемотаў. Ён добры чалавек, хоць і ўсяго толькі лекар і не пад сілу яму напяць цеціву лука. Дзякуй яму!

Я спалохана паглядзеў на поўны гарлач віна, за які Інтэб мерыўся ўзяцца, і пачаў нецярпліва тузаць бацьку за шырокі, прапахлы лекамі рукаў. Я баяўся, што ад гэтага віна мы прачнёмся ў якой-небудзь канаве, пабітыя і абрабаваныя. Бацька засмучана паглядзеў на гарлач, ціхенька ўздыхнуў і павёў мяне прэч. Інтэб старэчым голасам зацягнуў нейкую сірыйскую ваенную песню, а голы, да чарнаты спалены сонцам вулічны хлопчык слухаў яго і смяяўся.

Так я, Сінухе, пахаваў сваю мару аб вайсковай кар'еры і ўжо не працівіўся, калі на другі дзень бацька і маці павялі мяне ў школу.

**4**

Мой бацька, вядома ж, не меў дастаткова сродкаў, каб аддаць мяне ў вялікую храмавую школу, дзе навучаліся сыны — а часам і дочкі — знаці, багацеяў і жрацоў вышэйшых ступеняў. Маім настаўнікам стаў стары жрэц Анех, які жыў праз два кварталы ад нас і праводзіў заняткі на старой тэрасе свайго дома. Ягонымі вучнямі былі дзеці рамеснікаў, гандляроў, партовых наглядчыкаў і малодшых афіцэраў, чыёй славалюбнаю марай была кар'ера пісарчука. Анех некалі быў пісарам на складзе ў храме нябеснай Мут і, такім чынам, мог даць пачатковыя навыкі пісьменства дзецям, якія пазней будуць запісваць вагу тавараў, колькасць мераў зерня, пагалоўе скаціны ды выпісваць рахункі за харчы для воінаў. У Фівах, гэтым вялізным горадзе, былі дзесяткі, ато і сотні такіх школак. Навучанне было таннае, бо вучні былі павінны проста забяспечваць утрыманне старога Анеха. Сын вугальшчыка прыносіў драўляны вугаль у яго агмень, сын гандляра зернем забяспечваў мукой, сын ткача — вопраткай, а мой бацька лячыў яго ад шматлікіх старэчых



немачаў і даваў лекі ад болю — настоі разнастайных траваў, якія трэба было прымаць з вінам.

Такая залежнасць рабіла Анеха рахманым настаўнікам. Хлопчыка, які задрамаў над пісьмоваю дошчачкай, не дралі за валасы, замест гэтага ён павінен быў назаўтра прынесці старому што-небудзь смачнае. Часам сын гандляра зернем прыносіў з дому гарлач піва. Такімі днямі мы асабліва ўважліва слухалі свайго настаўніка. Стары Анех захоплена расказваў пра дзівосныя прыгоды на тым свеце, баяў казкі пра нябесную Мут ці пра Пта, творцу ўсяго існага, ды пра іншых багоў, якіх ён ведаў. Мы задаволена пасмейваліся, думаючы, што за півам ён ужо на ўвесь дзень забыў пра цяжкія заданні і нудныя практыкаванні ў пісьме. Толькі нашмат пазней я зразумеў, што Анех быў мудрэйшы і разумнейшы настаўнік, чым я меркаваў. Паданні, якія ён ажыўляў сваім падзіцячаму чыстым уяўленнем, мелі сваю мэту. Такім чынам ён вучыў нас маральным законам старога Егіпта. Ніякі зладзейскі ўчынак не застанецца беспакараным. Настане час, і перад высокім тронам Асірыса будзе бязлітасна ўзважана сэрца кожнага чалавека. Кожны, чые зладзейскія ўчынкі выявяцца на вагах бога з галавою шакала, будзе кінуты на з'ядзенне Пажорцу, а Пажорца — гэта кракадзіл і бегемот у адной асобе, але страшнейшы за іх абодвух.

Ён расказваў таксама пра лютага бога з тварам, павернутым назад, жахлівага перавозчыка праз воды Царства мёртвых, без чыёй дапамогі ніводзін нябожчык не трапіць у край вечнага спакою. Гэты бог вяслуе, гледзячы толькі назад, а не наперад, як робяць зямныя весляры-перавозчыкі на Ніле. Анех прымусіў нас вывучыць напамяць заклінанні, пры дапамозе якіх можна ўлагодзіць і задобрыць Таго, хто глядзіць назад. Ён прымушаў нас па некалькі разоў па памяці перапісваць усе пісьмёны з гэтымі заклінаннямі і з вялікай цярплівасцю выпраўляў нашы памылкі. Ён настойліва даваў нам зразумець, што самая маленькая памылка адрыне нас ад шчаслівага жыцця на тым свеце. Калі мы дадзім Таму, хто глядзіць назад, ліст з памылкамі, нас назаўсёды пакінуць блукаць на змрочных берагах цёмных водаў, ато яшчэ горш — мы можам трапіць у жудасныя цясніны Падземнага царства.

Я наведваў школу Анеха некалькі гадоў. Пасылаючы мяне туды, мой бацька меў свае разлікі. На яго думку, прымусіць чалавека займацца справай, да якой у яго не ляжыць душа, проста немагчыма. І калі б я не выявіў здольнасцяў, ён і не прымушаў бы мяне стаць пісарам. А вось калі б я паказаў зацікаўленасць да заняткаў, то Анех пазней парэкамендаваў бы мяне ў храмавую школу, і ўжо адтуль мне адкрываўся б жыццёвы шлях, па якім і хацеў накіраваць мяне бацька. У іншым выпадку для пракорму мне заставалася б кар'ера дробнага пісарчука ці наглядчыка вайсковых складаў. Праўда, тады я гэтага не ведаў.

Самым цікавым маім прыяцелем у школе быў Тутмес, хлопчык, старэйшы за мяне на два гады, чый бацька камандаваў групай баявых калясніцаў. Тутмес з дзяцінства ўмеў даглядаць коней і ведаў прыёмы барацьбы. Яго бацька насіў знак камандзіра групы калясніцаў — бізун з уплеценымі ў яго меднымі ніткамі. Ён марыў зрабіць з сына вялікага палкаводца, а таму адправіў яго вучыцца майстэрству пісьма. Але слаўнае сынава імя, Тутмес, не стала прадвесцем таго, на што так спадзяваўся бацька: паступіўшы ў школу Тутмес занядбаў свае практыкаванні з калясніцамі і кіданне дроцікаў. Знакі пісьменства даваліся яму лёгка, і пакуль іншыя няшчасныя дзеці старанна гнуліся над сваімі дошчачкамі, ён пачынаў маляваць на сваёй розныя карціны. Ён маляваў калясніцы, уздыбленых коней і воінаў, якія біліся на полі бою. Ён прынёс у школу гліны і ажывіў Анехавы казкі, аздобіўшы іх вобразамі піўны гарлач. Ён вылепіў выяву пацешнага Пажорцы з раззяўленай пашчай, які хацеў праглынуць маленькага, лысага, згорбленага дзядка з круглым жыватом, у якім лёгка пазнаваўся Анеха. Але Анех не раззлаваўся. Дый ніхто не мог злавацца на Тутмеса. У яго быў шырокі твар простага селяніна і кароткія, тоўстыя ногі, але ў яго вачах заўсёды свяціўся радасны агеньчык, а яго ўмелыя рукі спрытна ляпілі з гліны фігуркі звяроў і птушак, якія вельмі нас забаўлялі. Спачатку я шукаў яго дружбы таму, што ён быў звязаны з вайскоўцамі, і хоць высветлілася, што Тутмес мала цікавіцца ваеннай кар'ерай, нашае сяброўства з часам толькі мацнела.

Падчас вучобы са мной адбылося адно дзіва. Гэта здарылася раптоўна, і я сёння ўспамінаю тое імгненне, як прарочы знак. Быў ласкавы вясенні дзень, без спёкі, у паветры звінела птушынае шчабятанне, буслы рупліва правілі свае гнёзды на стрэхах гліняных хацін. Вада ўжо сышла, і зямля зазіхацела яркаю зеленню. На гародах рассаджвалі флянсы. Такі дзень спакушаў на прыгоды, і мы не маглі спакойна сядзець на старой рассохлай Анехавай тэрасе, дзе нават ад лёгкага дотыку са сцен выкрышваліся цагліны. Я безуважна крэсліў абрыдлыя знакі, што высякаюць на камянях, а побач — скарапісныя скарачэнні, якімі пішуць на папірусе. І раптам выява аднаго забытага Анехава слова, дзіўная і незразумелая, зварухнула нешта ўва мне, і напісанае ажыло. Слова раптам выразна паўстала з малюнка, са слова выдзеліўся кожны склад, са складу — літара. Спалучэнне малюнкаў-літараў нараджала новыя словы, жывыя і дзіўныя, якія ўжо ніякім чынам не звязваліся з малюнкамі. Адзін малюнак мог бы зразумець нават просты палівальшчык палёў, але сэнс двух малюнкаў, пастаўленых побач, зразумець здольны быў толькі той, хто валодае майстэрствам пісьма. Думаецца, кожны, хто спасцігаў навуку пісьменства і вучыўся чытаць, перажываў падобныя ўражанні. Гэтае спасціжэнне было для мяне сапраўднай прыгодай, нават больш прывабнай і захапляльнаю, чым гранат, скрадзены з гандлярскага кошыка, болей салодкай, чым сушаны фінік, і такою пяшчотнаю, як вада, знойдзеная змучаным смагаю чалавекам.

З той пары мяне ўжо не трэба было ўгаворваць. З той пары я гэтак сама прагна паглынаў Анехаву навуку, як ссохлая глеба паглынае ваду ў час разводдзя Ніла. Я хутка навучыўся пісаць. Памалу я навучыўся чытаць і тое, што пісалі другія. На трэцім годзе навучання мне давяраўся стары, зношаны скрутак папіруса, і я чытаў з яго, каб іншыя вучні пісалі пад маю дыктоўку розныя павучальныя гісторыі.

У той самы час я заўважыў, што я не такі, як іншыя. Мой твар быў вузейшы, скура святлейшая, і па целаскладзе я выглядаў болей кволым, чым іншыя хлопчыкі. Я быў больш падобны да дзяцей знаці, чым тых людзей, сярод якіх жыў, і калі б я меў такія самыя строі, як багатыя хлопчыкі, якіх рабы насілі на паланкінах ці суправаджалі па вуліцах, мяне наўрад ці можна было б ад іх адрозніць. Часам гэта выклікала насмешкі. Сын гандляра зернем, паспрабаваўшы аднойчы мяне абняць за шыю, сказаў, што я — як дзяўчынка. Ад яго дрэнна пахла, і яго блізасць была мне да таго непрыемная, што я мусіў пырнуць яго пісалам. Я хацеў сябраваць з Тутмесам, але ён ніколі да мяне нават не датыкаўся.

Але аднойчы Тутмес нясмела сказаў: «Не хочаш трошкі пасядзець перада мной — я цябе вылепіў бы».

Я прывёў яго да нас у двор, і пад сікаморай ён вылепіў з гліны фігуру, вельмі падобную да мяне, і палачкай напісаў на сырой гліне маё імя. Мая маці Кіпа вынесла нам аладак, а калі ўбачыла выяву, моцна спалохалася і сказала, што гэта чарадзейства. Але бацька запярэчыў, сказаўшы, што, калі Тутмес пойдзе вучыцца ў храмавую школу, дык стане царскім мастаком. Я жартам схіліўся перад Тутмесам, апусціўшы да каленяў рукі, як робяць, вітаючы знатных людзей. Вочы ў Тутмеса заблішчалі, але ён уздыхнуў і сказаў, што бацька патрабуе, каб ён вярнуўся ў вайсковы дом і паступіў у школу малодшых камандзіраў баявых калясніц, бо для малодшага камандзіра ён чытае і піша ўжо дастаткова добра. Мой бацька пайшоў, Кіпа яшчэ доўга нешта бурчэла сама сабе на кухні, а мы з Тутмесам ласаваліся тлустымі і смачнымі аладкамі. Нам было вельмі добра.

Я быў тады яшчэ шчаслівы.

### 5

І вось настаў дзень, калі мой бацька апрануўся ў найлепшае, толькі што памытае Кіпай адзенне і ўсклаў на шыю вышыты жонкай шырокі каўнер. У гэтым убранні ён накіраваўся ў вялікі храм Амона, хоць патаемна, у глыбіні сэрца, не любіў жрацоў. Але без іх дапамогі і ўдзелу

нічога не адбывалася — не толькі ў Фівах, але і ва ўсім Егіпце. Жрацы чынілі суд і выносілі прысуды, так што нават які-небудзь нахабнік, звярнуўшыся да суда жрацоў храма, мог паскардзіцца на царскі прысуд і атрымаць апраўданне. У руках жрацоў было ўсё навучанне вышэйшым прафесіям. Яны прадказвалі, наколькі падымецца вада ў час разліву, і вызначалі велічыню будучага ўраджаю, а тым самым і велічыню падаткаў па ўсёй краіне. Але навошта я тлумачу гэта, калі ўсё зноў вярнулася да былых парадкаў і ўрэшце нічога не змянілася.

Майму бацьку, я думаю, было нялёгка пайсці на паклон да жрацоў. Ён усё жыццё пражыў лекарам беднякоў у бядняцкім квартале і зусім адвык ад храма і Дома жыцця. А тым днём яму, як і ўсім небагатым бацькам, давялося стаяць у чарзе перад канторай храма і чакаць, пакуль вярхоўны жрэц зробіць ласку прыняць яго. Як цяпер я бачу іх перад сабою, усіх тых бедных бацькоў у святочных строях. Яны сядзелі ў двары храма, поўныя ўзвышаных мараў аб тым, як наладзяць сваім дзецям жыццё, лепшае за тое, што давялося пражыць ім самім. Шмат хто з іх прыехаў у Фівы здалёк, яны доўга плылі на лодках, узяўшы з сабой харчы, яны трацілі грошы на хабар стражнікам ля храмавых варот і пісарам, каб толькі трапіць да залатакніжнага, нацёртага дарагім духмяным алеем жраца. Ён грэбліва верне нос ад іхняга паху, размаўляе з імі груба і нявветла. Але ж Амону ўвесь час патрабуюцца новыя прыслужнікі. Яго багацце і моц няўхільна растуць, і яму трэба ўсё болей пісьменных служак, а кожны бацька лічыць боскаю літасцю, калі яму ўдаецца ўладкаваць сына ў храм, хоць на справе гэта ён прыносіць храму дарунак даражэйшы ад золата, аддаючы ў яго свайго сына.

Майму бацьку пашанцавала, бо, прачакаўшы амаль да надвячорка, ён убачыў, як праз двор ідзе яго стары прыяцель па вучобе Птахор, які на той час ужо стаў царскім трэпанатарам чарапоў. Бацька насмеліўся да яго звярнуцца, і той паабяцаў, што завітае да нас уласнай высокай асобай, каб зірнуць на мяне.

На дамоўлены дзень бацька купіў гусь і найлепшага віна. Кіпа пякла хлеб і лаялася. З кухні разносіўся такі багавейны водар гусінага тлушчу, што жабракі і сляпыя сабраліся перад нашым домам і пачалі граць ды спяваць, спадзеючыся атрымаць сваю долю. Урэшце Кіпа вымушаная была такі выйсці і, лаючыся, дала кожнаму па кавалку хлеба з гусіным тлушчам — толькі тады яны згадзіліся пайсці прэч. Мы з Тутмесам падмялі вуліцу ад нашага дома ў напрамку горада (бацька параіў Тутмесу на ўсялякі выпадак быць побач, бо раптам высокі госць захоча пагутарыць і з ім). Мы былі звычайныя хлопцы, але і мы адчулі ўрачыстасць моманту, калі бацька запаліў курыльню і веранда запоўнілася вохным водарам, як у храме. Я пільнаваў сасуд з духмянай вадой і адганяў мух ад белага льнянога ручніка, які маці, увогуле, берагла на



сваё пахаванне, але цяпер дастала са скрыні, каб Птахору было чым выцерці рукі.

Чакаць давялося доўга. Сонца зайшло, паветра пахаладнела. Курыльня на тэрасе дагарэла, і гусь сумна сквірчэў на патэльні. Мне хацелася есці, а ў маці твар выцягнуўся і застыў. Бацька маўчаў, а калі апусцілася цемра, запальваць свяцільнік адмовіўся. Мы сядзелі на тэрасе, і глядзець адно на аднаго нам не хацелася. Тады я спазнаў, якія боль і расчараванне могуць прычыніць багатыя і знатныя людзі — проста так, мімаходзь — бедным прасталюдзінам.

Нарэшце ў канцы вуліцы ўзніклі агні паходняў, і бацька ўскочыў. Ён кінуўся на кухню па гарачы вугельчык і паспяшаўся зноў запаліць абедзве алейныя свяцільні. Я, дрыжучы, прыціскаў да грудзей сасуд з духмянай вадой. Побач горача дыхаў Тутмес.

Царскі трэпанатар Птахор прыбыў у простых насілках, якія неслі два чорныя рабы. Перад насілкамі ішоў яўна п'яны слуга з факелам. З радасным клічам Птахор падняўся з насілак, каб прывітаць майго бацьку, а той схіліўся перад ім, апусціўшы да каленяў рукі. Прахор палажыў яму рукі на плечы, ці то жадаючы паказаць, што гэткая ўрачыстасць зусім не патрэбна, ці то каб проста абаперціся. Так, трымаючыся за бацькава плячо, Птахор даў выспятка носьбіту паходні і загадаў яму як след праспацца ў двары пад сікаморай. Негры кінулі насілкі пад кустом акацыі і селі, не чакаючы дазволу.

Па-ранейшаму трымаючыся за бацькава плячо, Птахор падняўся на тэрасу. Я паліў яму на рукі і падаў ільняны ручнік, але ён папрасіў, каб я сам выцер яму рукі, калі ўжо сам іх намачыў, а калі я выканаў гэтую просьбу, назваў мяне мілым хлопчыкам. Мой бацька пасадзіў яго на ганаровае месца, на крэсла са спінкай, якое нам пазычыў гандляр прыправамі. Госць сеў і агледзеўся вакол бліскучымі цікаўнымі вачыма. Пэўны час усе маўчалі. Потым Птахор выбачальна кашлянуў і папрасіў чаго-небудзь папіць, бо за доўгае падарожжа ў горле ў яго моцна перасохла. Бацька ўзрадавана наліў яму віна. Птахор недаверліва панюхаў чашу, але асушыў яе не хаваючы задавальнення, а потым з палёгкай уздыхнуў.

Гэта быў маленькі крываногі чалавечак з паголенай галавой; адрузлыя грудзі і жывот звісалі пад тонкаю вопраткай. Яго каўнер упрыгожвалі каштоўныя камяні, але і сам каўнер, і ўсё адзенне былі запэцканыя шматлікімі плямамі, і ад госця пахла віном, потам і нейкімі масцямі.

Кіпа падала яму аладкі з прыправамі, маленькіх рыбак у алеі, садавіну, смажаную гуску. Птахор ветліва крыху паеў, хоць было бачна, што нядаўна ён добра паабедаў. Ён пакаштаваў усяго патроху і хваліў кожную страву, што вельмі радавала Кіпу. На яго просьбу я вынес неграм яды і піва, але яны сустрэлі мой ветлівы пачастунак брыдкімі словамі і

спыталіся, ці доўга яшчэ іх таўстапуз збіраецца тут сядзець. Слуга натужліва хроп пад сікаморай, і будзіць яго я не меў ніякага жадання.

Вечар пайшоў даволі бязладна, бо і мой бацька, як ніколі, піў шмат віна, а Кіпа ад гэтага ўцякла ў кухню і сядзела там, абхапіўшы галаву і гайдаючыся туды-сюды ўсім целам. Прыкончыўшы гляк з добрым віном, яны ўзяліся за тое, якое мой бацька ўжываў на прыгатаванне лекаў, а калі і яно скончылася, у ход пайшло звычайнае піва, бо Птахор абвясціў, што ён чалавек не грэблівы.

Яны ўспаміналі дні вучобы ў Доме жыцця, расказвалі жарты пра сваіх настаўнікаў і ў абдымку бадзяліся сюды-туды па тэрасе. Птахор распавядаў пра свой досвед царскага трэпанатара і запэўніваў, што гэта самая паганая лекарская прафесія, якая пасуе больш Дому смерці, чым Дому жыцця. Але затое яна не патрабуе шмат працы, а ён, як Сэнмут павінен памятаць, заўсёды быў лайдаком. Таму ён і вырашыў вывучыць чалавечы чэрап, бо, на яго думку, у вывучэнні гэта самая простая частка чалавечага цела, калі не лічыць зубы, горла ды вушы, на якія патрэбны адмысловыя знаўцы-лекары.

— Але,— сказаў ён,— калі б я быў сапраўдны мужчына, то быў бы звычайным сумленным лекарам і даваў бы людзям жыццё замест таго, што раблю цяпер. Цяпер мой лёс — прыносіць смерць, калі родзічам надакучыць даглядаць за старым або невылечна хворым. Я прыносіў бы жыццё, як ты, мой сябра Сэнмут. Я быў бы бяднейшы, але затое маё жыццё было б больш паважанае і цвярозае, чым цяпер.

— Не верце яму, хлопцы,— сказаў нам бацька, бо Тутмес таксама побач, трымаючы ў руках маленькую чашу з віном.— Я ганаруся тым, што магу назваць сябе сябрам царскага трэпанатара Птахора, найвялікшага знаўцу сваёй справы ва ўсім Егіпце. Хіба я не памятаю тых цудоўных трэпанацыяў чэрапа, якія ён калісь рабіў і якія ратавалі жыццё шмат якім знатным асобам і прасталюдзінам, выклікаючы агульнае захапленне? Ён выпускаў злых духаў, якія даводзілі людзей да вар'яцтва, і вырэзваў іх круглыя яйкі з мазгоў у хворых. Удзячныя пацыенты адорвалі яго золатам і срэбрам, каштоўнымі нашыйнымі ланцужкамі і чашамі.

— Але яшчэ большыя паднашэнні мне дастаюцца ад удзячных родзічаў,— перарывістым голасам сказаў Птахор.— Бо калі мне і ўдаецца выпадкова вылечыць аднаго з дзесяці ці з пяцідзесяці, а, лепш сказаць, аднаго з сотні, дык усім астатнім я непазбежна прыношу смерць. Ты чуў хоць пра аднаго фараона, які пасля ўскрыцця чэрапа пражыў бы больш за тры дні? Не, паспытаць майго крамянёвага нажа пасылаюць толькі невылечных хворых або вар'ятаў, і робяць гэта тым ахвотней, чым яны знатнейшыя і багацейшыя. Мая рука пазбаўляе іх ад пакутаў, а іншым дорыць спадчыну, маёнткі, скаціну і золата, мая рука ўзводзіць на трон фараонаў. Таму ўсе баяцца мяне і ніхто не адважваецца мне



запярэчыць: я надта шмат ведаю. Але чым больш ведаеш, тым больш скрухі ў тваёй душы, і таму я вельмі гаротны чалавек.

Птахор расплакаўся і выцер нос Кіпіным ільняным саянам.

— Ты бедны, але сумленны чалавек, Сэнмут,— усхліпваў ён.— За гэта я люблю цябе, бо я хоць і багаты, але жыву ў грахах.

Ён зняў з сябе каўнер з каштоўнымі камянямі і надзеў яго на шыю бацьку. Потым яны заспявалі, і я не мог зразумець у іх спевах амаль ніводнага слова, але Тутмес зацікаўлена слухаў, а потым шапнуў мне, што нават у казарме не чуў больш сакавітых і ёмкіх песень. Кіпа на кухні заплакала ўголас, а адзін негр, з тых, што сядзелі пад кустамі акацыі, падышоў, узяў Птахора на рукі і панёс да насілак, бо ўжо даўно было б пара класціся спаць. Але Птахор пачаў адбівацца, крычаць, што негр хоча яго забіць, і клікаў на дапамогу стражнікаў. Чакаць дапамогі ад майго бацькі было немагчыма, і таму мы з Тутмесам самі накінуліся на негра з палкамі. Той злосна вылаяўся, адпусціў Птахора і ўцёк разам з таварышам і насілкамі.

Тады Птахор выліў сабе на галаву гляк піва і запатрабаваў духмянага алею, каб ім намасціцца, а потым вырашыў пакупацца ў нашым дваровым вадаёме. Тутмес шапнуў, што старых пара класці спаць, і неўзабаве бацька з царскім трэпанатарам у абдымку паваліліся на Кіпін ложак, ледзь варочаючы языкамі, пакляліся ў вечнай дружбе і заснулі.

Кіпа плакала, ірвала на сабе валасы і пасыпала галаву попелам. Мяне непакоіла, што скажуць суседзі, бо шум і песні разносіліся далёка ў начной цішыні. Але Тутмес быў спакойны. Ён сказаў, што бачыў і большыя вар'яцтвы, калі ў казармах ці ў хаце ў ягонага бацькі збіраліся кіроўцы баявых калясніц і ўспаміналі былыя часы і карныя паходы ў Сірыю ці краіну Куш. Ён запэўніваў, што вечар прайшоў вельмі ўдала, бо старыя нават не паслалі ў дом уцех па дзяўчат і музыкаў. Яму ўдалося супакоіць Кіпу, і мы, прыбраўшы сляды банкету, пайшлі спаць. Слуга па-ранейшаму хроп пад сікаморай, а Тутмес лёг са мною. Ён абняў мяне за шыю і завёў гаворку пра дзевак, бо таксама выпіў віна. Але я быў на два гады маладзейшы, і мяне гэта не цікавіла. Я хутка заснуў.

Уранні я прачнуўся ад грукату і валтузні, якія чуліся ў спальні. Я зазірнуў туды і ўбачыў, што мой бацька яшчэ моцна спіць — у вопратцы і ў Птахоравым каштоўным каўняры,— а Птахор сядзіць на падлозе, абхапіўшы галаву рукамі, і жаласна пытаецца: «Дзе гэта я?»

Я пачціва схіліўся перад ім, апусціўшы рукі да каленяў, і сказаў, што ён знаходзіцца ў доме Сэнмута, бядняцкага лекара ў раёне порта. Гэта яго супакоіла, і ён — дзеля Амона — папрасіў піва. Я напомніў яму, што ўчора ён выліў апошні гляк сабе на галаву, што добра відаць па яго вопратцы. Тады ён падняўся, з важным выглядам нахмурыў бровы і выйшаў з пакоя. Я паліў яму на рукі, а ён, нахіліўшыся, папрасіў паліць

яшчэ і на галаву. Тутмес прачнуўся таксама і пачціва паднёс яму кіслага малака і салёнай рыбы. Падсілкаваўшыся такім чынам, ён павесялеў і падышоў да слугі, які ўсё яшчэ моцна спаў на двары. Птахор пачаў біць яго палкай, пакуль той не прачнуўся і не ўскочыў, спрасоння ўвесь пакамечаны і перапэцканы травой і зямлёю.

— Паганая свіння! — сказаў Птахор і яшчэ раз ударыў яго палкай.— Вось як ты клапоцішся пра свайго гаспадара і асвятляеш яго шлях паходняй! Дзе мае насілкі? Дзе маё чыстае адзенне? Дзе мае лекавыя ягады? Прэч з маіх вачэй, паганец, злодзей, свіння!

— Я злодзей і свіння майго ўладара,— пакорліва адказаў слуга.— Што загадае мой гаспадар?

Птахор аддаў яму загады, і слуга кінуўся на пошукі насілак. Птахор зручна ўсеўся пад сікаморай, абапёршыся спінаю аб ствол, і пачаў напеўна чытаць верш пра лотас, ранак і царыцу, якая купалася ў рацэ, а потым распавёў шмат чаго такога, што з задавальненнем слухаюць хлопчыкі. Кіпа таксама прачнулася, яна распаліла агонь і пайшла ў спальню будзіць бацьку. Яе голас чуўся нават на двары, а калі бацька паказаўся нарэшце ў дзвярах у чыстым адзенні, выгляд у яго быў даволі сумны.

— У цябе прыгожы сын,— сказаў Птахор.— У яго постаць царскага сына, а вочы пяшчотныя, як у газелі.

І хоць я быў яшчэ малы, але разумеў, што ён кажа гэта, каб мы забылі яго ўчорашнія паводзіны. Тады ён спытаў:

— А што твой сын умее? Ці вочы яго душы такія ж прыгожыя, як вочы цела?

Тады я прынёс сваю дошку для пісьма, а Тутмес — сваю. Няўважна пазіраючы на вяршыню сікаморы, царскі трэпанатар прадыктаваў мне верш, які я памятаю дагэтуль. Вось ён:

Радуйся, юнак, сваёй маладосці,
бо ў старасці горла — поўнае праху,
і не смяецца набальзамаванае цела
ў непрагляднай цемры сваёй магілы.

Я стараўся як мог і спачатку запісаў верш па памяці звычайным пісьмом. Потым накрэсліў малюнкамі, а пад канец напісаў словы «старасць», «прах», «цела» і «магіла» усімі спосабамі, якімі толькі можна напісаць гэтыя словы: складамі і літарамі. Потым я паказаў дошку Птахору, і той не знайшоў у напісаным ніводнай памылкі. Я ведаў, што бацька ганарыцца мною.

— Ну, а другі юнак? — спытаўся Птахор і працягнуў руку па дошку Тутмеса.

Той нешта на ёй маляваў, седзячы трошкі ўбаку. Перш чым аддаць дошку, ён крыху павагаўся, але яго вочы смяяліся. Калі мы нахіліліся паглядзець, то ўбачылі намаляванага Птахора, які надзяваў на плечы



майму бацьку свой каштоўны каўнер, на другім малюнку Птахор паліваў сабе галаву півам, а на трэцім — у абдымку з маім бацькам спяваў песню: гэты малюнак быў такі пацешны, што адразу было відаць, якую песню яны спяваюць. Мяне разбіраў смех, але засмяяцца я не адважваўся, баючыся ўгнявіць Птахора. А вось Тутмес, трэба сказаць, дагадзіць яму зусім не стараўся. На малюнках Птахор быў такі ж маленькі і лысы, крываногі і пузаты, як у сапраўдным жыцці.

Доўгі час Птахор не казаў нічога, толькі востра глядзеў то на малюнкі, то на Тутмеса. Тутмес крыху спалохаўся і насупіўся. Нарэшце Птахор спытаў:

— Што ты хочаш за сваю дошку, сынку? Я куплю яе.

Але Тутмес пачырванеў і адказаў:

— Мая дошка не прадаецца. Але сябру я яе падараваў бы.

Птахор засмяяўся:

— Добра, тады будзем сябрамі, і дошка мая.

Ён яшчэ раз уважліва паглядзеў на дошку, усміхнуўся і разбіў яе на кавалкі аб камень. Мы ўсе здрыгануліся, а Тутмес збянтэжана папрасіў у Птахора прабачэння, калі нечым яго пакрыўдзіў.

— Ці магу я крыўдаваць на ваду, у якой бачу свой адбітак? — лагодна сказаў Птахор.— Зрэшты, рука і вока мастака — гэта больш, чым вада. Я ведаю, як выглядаў учора, і не хачу, каб хто-небудзь мяне бачыў у такім выглядзе. Таму я і разбіў дошку. Але тое, што ты мастак, я прызнаю.

Тутмес аж падскочыў ад радасці. Тады Птахор павярнуўся да майго бацькі і, паказваючы на мяне, урачыста прамовіў старадаўняе абяцанне лекара на пачатку лячэння:

— Я бяруся яго паправіць.

І дадаў, паказваючы на Тутмеса:

— Зраблю ўсё, што магу.

Яны абодва засмяяліся, вельмі задаволеныя. Бацька паклаў мне руку на галаву і спытаў:

— Сінухе, мой сыне, ці хацеў бы ты стаць лекарам, як і я?

Слёзы накацілі на мае вочы, і камяк засеў у горле. Я не мог нічога сказаць і толькі кіўнуў. Я круціў вакол галавой, і наш двор, і сікамора на ім, і выкладзены каменем басейн — усё здавалася мне такім чароўным.

— Сінухе, мой сыне,— зноў сказаў бацька.— Ці хацеў бы ты стаць лепшым за мяне лекарам — болей дасведчаным, сапраўдным уладаром жыцця і смерці, якому чалавек незалежна ад свайго багацця і стану давяраў бы сваё жыццё з надзеяй і верай?

— Не такім, як ён ці як я,— дадаў Птахор, і яго спіна выпрасталася, а позірк стаў праніклівы і мудры,— а сапраўдным лекарам. Бо сапраўдны лекар вышэй за ўсіх. Перад ім і фараон стаіць голы, і багацей робіцца роўняю бедняку.

— Вядома, хацеў бы ,— нясмела прамовіў я, бо яшчэ нічога не цяміў у жыцці, не ведаючы, што старасць заўсёды імкнецца захаваць свае мары, а расчараванні перакласці на маладосць.

Тады Птахор паказаў Тутмесу залатую бранзалету ў сябе на прыцэўцы і загадаў:

— Чытай!

Тутмес па складах разабраў гравіраваныя малюнкі-іерогліфы, хвілінку памаўчаў і прачытаў:

— Хачу сабе поўную чашу.

— Не смейся, гарэзнік,— сур'ёзна і з пэўным папрокам сказаў Птахор.— Тут гаворка не пра віно. Калі хочаш стаць мастаком, ты павінен патрабаваць сваю чашу напоўніцу. У сапраўдным мастаку перад людзьмі з'яўляецца сам Пта, творца і будаўнік усяго існага. Мастак — гэта не проста вада ці люстэрка, а нешта большае. Праўда, мастацтва часта бывае ліслівае, а люстэрка — хлуслівае, але ў любым выпадку мастак — гэта болей чым вадзяная роўнядзь. Патрабуй сваю чашу напоўніцу, не задавальняйся толькі тым, што кажуць, а больш давярай сваім светлым вачам.

Потым ён паабяцаў, што хутка мяне запросяць у Дом жыцця вучнем і што ён паспрабуе зрабіць усё магчымае, каб Тутмеса ўзялі ў мастацкую школу пры храме Пта.

— А цяпер, хлопчыкі,— сказаў ён,— слухайце мяне ўважліва і адразу забудзьце, што я вам скажу, прынамсі, забудзьце, што гэта казаў вам царскі трэпанатар. Хутка вы трапіце ў рукі жрацоў, а праз пэўны час Сінухе і сам стане жрацом, як у свой час жрацамі ніжэйшай ступені сталі мы з яго бацькам, бо ніхто не мае права быць лекарам, не маючы сану жраца. Але трапіўшы ў рукі храмавым жрацам, будзьце недаверлівымі, як шакалы, і хітрымі, як змеі, каб не страціць сябе і не аслепнуць. З выгляду ж будзьце ласкавымі, як галубкі, бо толькі пасля дасягнення галоўнай мэты чалавек можа раскрыць сваё аблічча. Памятайце гэта.

За размоваю мы дачакаліся, пакуль вярнуўся Птахораў слуга, які прынес гаспадару чыстае адзенне і нанятыя насілкі. Яго ўласныя насілкі рабы заклалі ў бліжэйшым доме ўцех і ўсё яшчэ спалі там. Птахор загадаў, каб слуга зараз жа пайшоў у той дом і выкупіў насілкі разам з рабамі. На гэтым ён развітаўся з намі, запэўніў бацьку ў нязменнай дружбе і рушыў дадому, у арыстакратычную частку горада.

Так я трапіў у Дом жыцця пры вялікім храме Амона. А наступным днём Птахор, царскі трэпанатар, прыслаў Кіпе ў падарунак свяшчэннага скарабея, вытачанага з каштоўнага каменя, каб Кіпа магла пакласці яго пасля смерці пад ільнянымі спавівамі каля свайго сэрца. Ён не мог бы падарыць маёй маці большую радасць, і таму Кіпа яму ўсё прабачыла і перастала дапякаць майго бацьку за выпітае віно.

# ПАПІРУС ДРУГІ
## Дом жыцця

### 1

У тыя часы жрацы Амона ў Фівах трымалі ў сваіх руках права на ўсе віды вышэйшай адукацыі, і вывучыцца, каб займаць якую-небудзь значную пасаду, без пасведчання жрацоў было немагчыма. Кожнаму зразумела, што і Дом жыцця, і Дом смерці са старадаўніх часоў належалі храму і знаходзіліся ў яго сценах, гэтак сама, як вышэйшая багаслоўская школа, дзе рыхтавалі жрацоў самых высокіх ступеняў. Тое, што навучанне матэматыцы і астраноміі адносіцца да ведама жрацоў, яшчэ можна было зразумець, але жрацы падпарадкавалі сабе нават навучанне ў гандлёвых школах і школах законазнаўцаў, і сярод адукаваных людзей пачалі выказвацца думкі, што жрацы ўмешваюцца ў справы, якія спрадвеку належалі фараону і падатковаму ўпраўленню. Праўда, каб стаць гандляром ці чыноўнікам пасвячэння ў жрэцкі сан не патрабавалася, але таму, што амаль пятай часткай земляў у Егіпце валодалі храмы Амона і ўплыў жрацоў ва ўсіх праявах жыцця быў надзвычай вялікі, тыя, хто хацеў дабіцца поспехаў у гандлі ці вылучыцца на чыноўнай службе, з прадбачлівай мудрасцю здавалі іспыты на ніжэйшы жрэцкі сан і прысягаліся ў пакорнасці Амону.

Самай вялікай навучальнай установай, вядома, была школа законазнаўцаў, бо яе заканчэнне забяспечвала пачэснае становішча і давала магчымасць паспяховага прасоўвання ўверх на любой службе, ці гэта быў збор падаткаў, ці дзяржаўная або ваенная справа. Маленькая група астраномаў і матэматыкаў, паглыбіўшыся ў свае навукі, жыла асобным, безуважным да ўсяго жыццём, глыбока пагарджаючы выскачкамі, якія карцела займацца каморніцтвам ці разлікамі ў сферы гандлю. Але яшчэ болей адасобленымі былі тыя, хто вучыўся ў Доме жыцця і Доме смерці, нават на тэрыторыі храма акружаных уласнымі сценамі, і ўсе астатнія навучэнцы ставіліся да іх з пачцівасцю і страхам.

Аднак перш чым пераступіць парог Дома жыцця, мне давялося вытрымаць багаслоўскі іспыт на жраца ніжэйшай ступені. На гэта пайшло тры гады, бо адначасова я хадзіў з бацькам да хворых, набіраючыся досведу дзеля будучай працы. Я жыў дома і бавіў час амаль так, як раней, толькі кожны дзень абавязаны быў хадзіць на якія-небудзь заняткі. Тыя, хто хацеў вывучыцца на законазнаўцу і меў высокіх сяброў ці заступнікаў, маглі здаць іспыт на жраца ніжэйшай ступені ўсяго за

некалькіх тыдняў. Апроч пачаткаў пісьма, чытання і лічэння, у яго ўваходзіла толькі веданне напамяць свяшчэнных тэкстаў і чытанне старажытных паданняў пра свяшчэнную тройку і дзевятку багоў, на чале якіх, вядома, стаяў цар усіх багоў Амон. Але мэта такога завучвання напамяць і бяздумнага паўтарэння тэкстаў заключалася ўрэшце ў тым, каб знішчыць у вучнях іх прыродную патрэбу мысліць самастойна і прывучыць бяздумна верыць механічна зазубраным фразам. Толькі слепа скарыўшыся ўладзе Амона малады вучань мог дасягнуць першай ступені жраца. Пасля кожнага іспыту група радзела і рабілася ўсё старэйшай па ўзросце. Не ведаю, як і чаму вучылі далей — на трэцяй, чацвёртай і пятай ступенях,— бо ў вышэйшых санах жрацы мелі свае, свята ахоўваныя і патаемныя прыёмы і дзеянні. Ужо на другой ступені, напрыклад, жрэц павінен быў умець на вачах у натоўпу ператварыць свой посах у змяю. Вучыліся яны і іншым штукарствам, займаючыся на дварах перад храмам. У іх навучанне ўваходзілі пасты і медытацыі сярод ночы, яны маглі тлумачыць сны і відзежы. Пра канчатковыя мэты навучання нічога пэўнага ніхто не ведаў, апроч тых, хто сам прайшоў ужо ўсе ступені. Праўда, часам жрацы другой ступені балбаталі ўсякае-рознае, але на маёй памяці, каб жрацы вышэйшых ступеняў раскрывалі таямніцы багоў перад непасвечанымі,— такога не здаралася.

Я пазнаёміўся з храмам, і мая хлапечая душа была глыбока ўражаная яго веліччу і нязмерным багаццем. Натоўп, які з рання да позняга вечара напаўняў залы і пераходы храма, уяўляў сабой дзіўнае відовішча. Усе станы, усе мовы, усе колеры і адценні скуры, усе народы сцякаліся адусюль, каб узнесці хвалу Амону і вымаліць у яго ўдачу сабе, сваёй справе і родзічам. Яны прыносілі Амону багатыя дарункі, якія ён заслужыў, камусьці збярогшы здароўе, камусьці дапамогшы ў гандлі ці ўдалай здзелцы. Мае вочы стаміліся разглядаць незлічоныя скарбы, каштоўныя сасуды, вырабы са слановай косці і разнога чорнага дрэва. Мой нюх затупіўся ад водару курніц і каштоўных духмяных смол. Маім вушам надакучыла слухаць бясконцы гоман на розных мовах і казані жрацоў, у якіх народ не нічога ўжо разумеў. Веліч Амона абрынулася на мяне з такой сілай, што па начах я сніў страшныя сны і стагнаў у непрытомнасці.

Тых, хто здаваў іспыты на ніжэйшую жрэцкую ступень, падзялілі на групы ў залежнасці ад іспытаў, якія ім трэба было здаваць. Мы, як будучыя навучэнцы Дома Жыцця, стваралі асобную групу, але нікога з маіх блізкіх сяброў і таварышаў у ёй не было. Мудрая перасцярога, дадзеная Птахорам, моцна запала мне ў душу, і я замкнуўся ў сабе, пакорліва выконваючы любы загад і прыкідваючыся прыдуркам, калі іншыя жартавалі і па-блюзнерску, па-хлапечы дасціпнічалі. У нашай групе былі дзеці лекараў, якія лячылі толькі знаць. Свае парады і прыёмы лекавання іх бацькі цанілі на вагу золата. Былі тут і дзеці простых вясковых лекараў, часта старэйшыя за іншых, ці нават зусім дарослыя. Прапаленыя сонцам і няўклюдныя, яны імкнуліся неяк прыхаваць сваю баязлівасць і старанна завучвалі ўрокі. Былі і дзеці з нізоў, надзеленыя прыроднаю прагай ведаў, якія любой цаной імкнуліся парваць з заняткам бацькоў і вырвацца са свайго стану. Але жрацы ставіліся да іх з падазронасцю і патрабавалі больш, чым ад іншых, бо не надта любілі тых, хто не хацеў задавальняцца наканаваным яму лёсам.



Абачлівасць пайшла мне на карысць, і ў хуткім часе я пачаў заўважаць, што сярод нас, навучэнцаў, жрацы маюць і сваіх віжаў, і сваіх прыслужнікаў. Неасцярожнае слова, выказаны ўголас сумнеў ці нават жарт у коле сяброў хутка рабіліся вядомыя жрацам, вінаваты выклікаўся на допыт і атрымліваў пакаранне. Некаторым хлопцам давялося паспытаць лупцоўку палкамі, а некаторыя былі нават выгнаныя з храма, і дзверы Дома жыцця былі перад імі назаўжды зачыненыя як у Фівах, так і па ўсёй егіпецкай зямлі. Маючы дастатковую ўпартасць і сілу духу, яны маглі стаць памочнікамі гарнізонных лекараў, што адпілоўвалі параненым рукі і ногі, хіба толькі дзе-небудзь у заваяваных землях, у краіне Куш ці ў Сірыі: егіпецкія лекары славіліся па ўсім свеце. Але пераважная большасць выкінутых скочвалася ўніз і, самае большае, магла спадзявацца на пасаду дробнага пісарчука, калі яны ўвогуле паспявалі да таго часу навучыцца пісаць.

Уменне пісаць і чытаць дало мне вялікую перавагу над многімі старэйшымі паплечнікамі. Я лічыў сябе цалкам падрыхтаваным, каб увайсці ў Дом жыцця, але маё пасвячэнне ў жрэцкі сан усё адкладвалася, а спытацца чаму я не адважваўся, бо гэта лічылася вальнадумствам і непакорлівасцю Амону. Я бавіў час, проста перапісваючы з Кнігі мёртвых тэксты, якія прадаваліся перад уваходам у храм. Мая душа паўставала супраць гэтага марнага занятку, і мяне агортваў сум. Шмат якія мае таварышы, будучы поўнымі няздарамі, тым не менш, ужо сталі навучэнцамі Дома жыцця. А я ж атрымаў ад бацькі намнога лепшую падрыхтоўку! Толькі потым я зразумеў, што жрацы Амона былі нашмат разумнейшыя за мяне. Яны бачылі мяне наскрозь, добра адчувалі маё ўпартае нежаданне ім падпарадкавацца і здагадваліся пра ўсе мае сумневы, а таму цягнулі, адкладаючы мой іспыт.

Мая журбота расла, сны былі неспакойныя, і вечарамі я часта шукаў адзіноты на беразе Ніла, назіраючы, як заходзіць сонца і ў небе запальваюцца зоркі. У мяне было пачуцце, быццам я цяжка хворы. Дзявочы смех на вуліцы выклікаў у мяне трывогу і злосць. Я сумаваў, сам не ведаючы па чым, мядовая атрута з казак і вершаў пранікала мне ў душу, расслабляючы сэрца, і калі я заставаўся адзін, слёзы каціліся з маіх вачэй. Бацька пазіраў на мяне і нечаму ўсміхаўся сабе пад нос, а

Кіпа з яшчэ большым натхненнем расказвала гісторыі пра каварных жанчын, якія ў адсутнасць мужоў запрашалі прыгожых юнакоў, каб весяліцца з імі.

Нарэшце было абвешчана, што мая чарга прайсці выпрабаванне настала. Цэлы тыдзень я павінен быў правесці ва ўнутраных пакоях храма, не пакідаючы яго тэрыторыі. Я павінен быў ачысціцца і поставаць, а таму бацька паспяшаўся абстрыгчы мае хлапечыя кудзеры і запрасіў суседзяў на пачостку ў гонар майго паўналецця. Цяпер я лічыўся дарослым і быў падрыхтаваны для ўзвядзення ў жрэцкі сан, хоць на праўдзе ўзрост меў тут не вялікае значэнне. Затое гэта ўзвышала мяне над бліжэйшымі суседзямі і аднагодкамі.

Кіпа зрабіла ўсё найлепшым чынам, але мядовыя аладкі мне здаваліся нясмачнымі, а весялосць суседзяў ды іхнія грубыя жартачкі не радавалі мяне. Вечарам, калі суседзі сышлі, мая журбота перадалася Сэнмуту і Кіпе. Сэнмут пачаў расказваць гісторыю майго нараджэння, Кіпа дапамагала яму, успамінаючы падрабязнасці, а я глядзеў на трысняговую лодачку, што вісела над іхнім ложкам. Яе пачарнелыя, паламаныя сцяблінкі прымусілі балюча сціснуцца маё сэрца. Выходзіць, сапраўдных бацькоў у мяне не было нідзе ў цэлым свеце. Я быў адзін пад гэтымі зоркамі, у гэтым вялікім горадзе. Можа, я ўсяго толькі нікчэмны чужаземец у краіне Кэмет? А можа, маё паходжанне — гэта нейкая ганебная таямніца? У мяне была рана ў сэрцы, калі я пайшоў у храм, несучы пасвячальную вопратку, якую мне старанна і з любоўю падрыхтавала Кіпа.

**2**

Нас было дваццаць пяць падлеткаў і маладых мужчын, якія рыхтаваліся да пасвячэння. Пасля абмывання ў храмавым возеры нам пагалілі галовы, і мы пераапрануліся ў грубае адзенне. Жрэц, які наглядаў за намі, аказаўся не вельмі прыдзірлівы. Па старым звычаі ён мог бы прымусіць нас прайсці шматлікія прыніжальныя працэдуры, але ў нашай групе былі сыны знатных людзей і дарослыя законнікі, якія ўжо даўно здалі свае прафесійныя іспыты, але дзеля забеспячэння лепшай кар'еры ім трэба было стаць яшчэ і прыслужнікамі Амона. Яны мелі шмат усялякай ежы і напаілі жраца віном, а некалькі чалавек нават уцяклі на ноч у дом уцех, бо пасвячэнне для іх было пустою фармальнасцю. Я ж быў няздольны заснуць, пакутуючы ад невядомай раны ў сэрцы, і мяне апаноўвалі сумныя думкі. З ежы я абмежаваўся толькі кавалкам хлеба і кубкам вады — чым, па звычаі, і павінен быў харчавацца — і чакаў, што будзе далей, поўны спадзяванняў і змрочных сумневаў.

Я быў зусім малады, і мне яшчэ вельмі хацелася верыць. Казалі, што падчас пасвячэння Амон з'яўляецца і размаўляе з кожным, хто праходзіць выпрабаванне, і для мяне было б вялікае аблягчэнне, каб я змог



пазбыцца сваіх сумневаў і спасцігнуць сутнасць усяго існага. Бо перад лекарам і фараон мусіць быць голы! Зрэшты, я яшчэ хлопчыкам, суправаджаючы свайго бацьку, пабачыў і хваробы, і смерць, а таму меў вастрэйшы позірк і заўважаў больш, чым мае аднагодкі. Лекар нічому не павінен надаваць празмернае святасці і ні перад чым не схіляцца, апроч смерці,— так вучыў мяне бацька. Таму я ставіў усё пад сумнеў, і ад таго, што я за тры гады ўбачыў у храме, мае сумненні толькі ўзраслі.

Але я думаў, што там, за заслонай, у цемры святога храма, ёсць нешта такое, чаго я яшчэ не ведаў. І можа, Амон, а ўзнікшы перада мной, супакоіць маё сэрца?

Я разважаў пра гэта, блукаючы па адкрытых простым наведнікам храмавых калідорах, разглядаючы каляровыя свяшчэнныя карціны і чытаючы свяшчэнныя пісьмёны, якія паведамлялі пра незлічоныя дарункі фараонаў вялікаму Амону пасля паспяховых ваенных паходаў. Тады мне і сустрэлася прыгожая жанчына, апранутая ў такія лёгкія і празрыстыя ільняныя строі, што скрозь іх прасвечвалі яе грудзі і клубы. Яна была тонкая і стройная, з падмаляванымі вуснамі, шчокамі і брывамі. Яна глядзела на мяне з бесцырымоннай цікаўнасцю.

— Як цябе завуць, прыгожы юнак? — спытала яна, гледзячы зялёнымі вачыма на маю шэрую накідку, якая ўказвала на тое, што я рыхтуюся да пасвячэння.

— Сінухе,— збянтэжана адказаў я, не адважваючыся паглядзець ёй у вочы. Але яна была такая прыгожая і ад кропелек алею на яе ілбе струменіўся такі незвычайны водар, што мне захацелася, каб яна папрасіла мяне правесці яе па храму. Да навучэнцаў часта звярталіся з такімі просьбамі.

— Сінухе,— паўтарыла яна і, нібы ў роздуме, зноў паглядзела на мяне.— Значыць, ты спалохаешся і ўцячэш, калі даверыць табе таямніцу?

Яна мела на ўвазе казачныя прыгоды Сінухе, і гэта раззлавала мяне, бо яшчэ ў школе мяне часта дражнілі гэтаю казкай. Я выпрастаўся і паглядзеў ёй у вочы, і яе позірк быў такі дзівосны, цікаўны і светлы, што мой твар запалаў агнём і жар ахапіў усё цела.

— Чаго мне палохацца,— адказаў я.— Будучы лекар ніякіх таямніц не баіцца.

— Вось як! — сказала яна з усмешкай.— Куранятка ціўкае, яшчэ не вылупіўшыся з яйка. А ці няма сярод тваіх таварышаў юнака на імя Метуфер? Ён сын царскага будаўніка.

Менавіта Метуфер паіў жраца віном, а потым з нагоды свайго пасвячэння падараваў яму залатую бранзалетку. Нешта балюча мяне ўкалола, але я сказаў, што ведаю яго і прапанаваў паклікаць. Можа, гэтая жанчына яго сястра ці сваячка, падумаў я. І гэтая думка прынесла палёгку. Я смела паглядзеў ёй у вочы і ўсміхнуўся.

— Але як я змагу паклікаць яго, калі не ведаю твайго імя? Як я змагу сказаць, хто яго пытаецца? — адважыўся сказаць я

— Ён сам ведае, — адказала жанчына, нецярпліва пастукваючы па каменнай падлозе сандаляй, багата ўпрыгожанай каштоўнымі камянямі, і я міжволі зірнуў на яе маленькія ножкі з прыгожа абточанымі, пакрытымі яркай чырвонаю фарбай пазногцямі, на якіх не было і следу дарожнага пылу. — Ён выдатна ведае, хто яго пытаецца. Можа, ён мне сёе-тое вінаваты. А можа, мой муж адправіўся ў падарожжа і я чакаю, каб ён суцешыў мяне ў гэтым няшчасці.

Думка, што гэтая жанчына мае мужа, засмуціла маё сэрца, але я смела сказаў:

— Ну што ж, незнаёмка, хай будзе па-твойму! Я зараз жа пайду і паклічу яго. І скажу, што яго кліча дзяўчына прыгажэйшая і маладзейшая за маладзік. Тады ён адразу здагадаецца, хто ты, бо, без сумневу, той, хто хоць раз пабачыў цябе, забыць е ўжо ніколі не зможа.

Я спалохаўся сваёй смеласці і павярнуўся хутчэй сысці, але яна затрымала мяне, задуменна прамовіўшы:

— Ты надта спяшаешся! Затрымайся крыху, можа, мы знойдзем, аб чым пагаварыць.

Яна зноў паглядзела на мяне так, што маё сэрца растала ў грудзях і ў жываце стала пуста. Тады яна працягнула ўпрыгожаную бранзалетамі і кольцамі руку і ласкава дакранулася да маёй паголенай галавы.

— Ці не холадна тваёй галаве без хлапечых віхроў? — і адразу пяшчотна дадала. — Ты кажаш праўду? Я, па-твойму, сапраўды прыгожая? Паглядзі на мяне ўважлівей.

Я зноў паглядзеў на яе: яе строі былі з царскага ільну, і ў маіх вачах яна была настолькі прыгожай — прыгажэйшай за ўсіх жанчын, якіх я дагэтуль бачыў. І яна нават не спрабавала схаваць сваю прыгажосць. Я глядзеў на яе, забыўшыся пра рану ў сэрцы, пра Амона і Дом жыцця, і яе блізкасць агнём апякала ўсю маю істоту.

— Ты нічога не кажаш, — сумна прамовіла яна. — Дый не трэба нічога казаць. Ты, напэўна, думаеш, што я старая і брыдкая і зусім не радую твае вочы сваёй прыгажосцю. Ну, дык ідзі ды пакліч Метуфера — так ты хутчэй пазбавішся ад мяне.

Я не зрушыў з месца, але і не мог нічога сказаць, хоць разумеў, што яна проста з мяне смяецца. Велічныя калоны храма агортваў змрок. І толькі ў яе бліскучых вачах адбівалася святло, якое сачылася праз каменную рашотку пад столлю. Нас ніхто не бачыў.

— А можа, яго і не трэба клікаць, — сказала дзяўчына і ўсміхнулася мне. — Мне хапіла б, каб ты сам пагадзіўся мяне пацешыць ці павесяліўся са мною, — у мяне ж нікога няма, хто мог бы мяне парадаваць.

Тут я ўспомніў, што расказвала Кіпа пра жанчын, якія запрашаюць



маладых прыгожых хлопцаў павесяліцца з імі. Гэты ўспамін быў такі раптоўны, што я з жахам адступіў назад.

— Ну вось, я такі адгадала, што Сінухе напалохаецца, — сказала жанчына і падступіла бліжэй.

Я падняў руку, нібыта спрабуючы абараніцца:

— Цяпер я ведаю, хто ты. Твой муж выправіўся ў дарогу, а тваё сэрца — падступная пастка, і твае абдымкі горшыя за пякучы агонь.

Сказаўшы гэта, але быў няздольны зрушыць з месца.

Яна крыху збянтэжылася, але зноў усміхнулася і падышла да мяне зусім блізка.

— Ты так думаеш? — ласкава прамовіла яна. — Але гэта няпраўда. Мае абдымкі зусім не абпальваюць, як агонь. Наадварот — кажуць, што яны вельмі салодкія. Паспрабуй сам.

Яна ўзяла маю бязвольную руку і паклала яе на свае грудзі, і праз тонкую тканіну я адчуў іхняе хараство, мяне ажно ўсяго скаланула, і мае шчокі запалалі агнём.

— Ты, усё ж, не верыш, — расчаравана прамовіла яна. — Напэўна, перашкаджае гэтае палатно, пачакай, я зараз прыбяру яго.

Яна расхінула свае строі і прыціснула маю руку да агаленых грудзей так, што я адчуў, як тахкае яе сэрца і якія ў яе пругкія і прахалодныя грудзі.

— Хадзі, Сінухе, — зусім ціха шапнула яна. — Хадзі са мною, мы вып'ем віна і павесялімся разам.

— Я не магу пакідаць межы храма, — у адчаі прамовіў я. Пагарда да ўласнай баязлівасці выпальвала маё сэрца, я баяўся яе, як смерці, і адначасова шалёна яе жадаў. — Я павінен заставацца чысты да самага пасвячэння, іначай мяне выганяць з храма і ніколі не дапусцяць у Дом жыцця. Злітуйся з мяне!

Я казаў гэта і ведаў, што пайду за ёй, калі яна яшчэ раз мяне пакліча. Але яна была спрактыкаванай жанчынай і зразумела маю трывогу.

У роздуме яна агледзелася вакол. Мы ўсё яшчэ заставаліся сам-насам, хоць недзе паблізу хадзілі людзі, нейкі жрэц гучна расказваў падарожнікам, што прыехалі ў Фівы, пра багацце і дзівосы храма, абяцаючы паказаць новыя цуды, калі яны заплацяць яшчэ некалькі мядзяных кольцаў.

— Які ты сарамлівы, Сінухе, — сказала яна. — Знатныя і багатыя людзі прапанавалі мне ўпрыгожванні і золата, каб я запрасіла іх павесяліцца са мною. Але ж ты хочаш застацца чысты.

— Ты, мабыць, хочаш, каб я паклікаў Метуфера? — у адчаі спытаўся я, бо ведаў, што Метуфер не вагаючыся ўцёк бы з храма, хоць сёння была яго чарга не спаць усю ноч і маліцца. Ён мог дазволіць сабе такое, бо яго бацька быў царскі будаўнік, і я быў гатовы забіць яго за гэта.

— Здаецца, я ўжо не хачу, каб ты клікаў Метуфера,— адказала жанчына, гарэзліва паглядаючы мне ў вочы.— Цяпер, Сінухе, мне больш хочацца, каб мы разышліся сябрамі. І таму я скажу табе, як мяне завуць. Маё імя Нефернефернефер, бо мяне лічаць вельмі прыгожай, і той, хто вымавіць маё імя хоць раз, не ўтрымаецца, каб паўтарыць яго яшчэ двойчы і тройчы. Апроч таго, ёсць звычай, паводле якога сябры на развітанне дораць падарункі, каб не забыць адзін аднаго. Дык падаруй мне што-небудзь.

Тут я зноў адчуў сваю беднасць, бо не меў зусім нічога ёй даць — ні самай маленькай аздобы, ні меднага кальца,— хоць прапанаваць такое я ёй не адважыўся б. Мяне з'ядаў пякучы сорам, і я стаяў, апусціўшы галаў і не ведаючы, што сказаць.

— Зрабі мне падарунак, які ажывіць маё сэрца,— сказала яна і, падняўшы пальцамі мой падбародак, ушчыльную наблізіла да мяне свой твар. Зразумеўшы, чаго яна хоча, я дакрануўся губамі да яе мяккіх пяшчотных вуснаў. Яна ціха ўздыхнула і прамовіла:

— Дзякуй, гэта цудоўны падарунак, Сінухе. Я не забуду яго ніколі. Але ты, напэўна, чужаземец з далёкіх краёў, і прыехаў нядаўна, бо не ўмееш яшчэ цалавацца. Іначай як божа быць, каб фіванскія дзяўчаты не навучылі цябе гэтаму мастацтву да таго, як табе абстрыглі твае хлапечыя віхры.

Яна зняла з вялікага пальца пярсцёнак з золата і срэбра, з зялёным каменем і ўклала яго мне ў далонь.

— Я таксама павінна зрабіць табе падарунак, Сінухе, каб ты мяне не забываў,— сказала яна.— Калі будзеш пасвечаны ў сан і трапіш у Дом жыцця, ты зможаш выразаць на гэтым камяні свой сыгнет і станеш упоравень са знатнымі і багатымі. Запомні толькі, што камень гэты зялёны таму, што мяне завуць Нефернефернефер і вочы мае зялёныя, як Ніл спякотным летам.

— Я не магу ўзяць твой пярсцёнак, Нефер,— сказаў я і паўтарыў: «Нефернефер». Паўтарэнне яе імя было невыказным задавальненнем.— Я і так ніколі цябе не забуду.

— Дурненькі,— адказала яна,— бяры, калі я так хачу. Вазьмі яго хоць бы дзеля майго свавольства, можа, у будучым гэты пярсцёнак яшчэ прынясе мне вялікі прыспор.

Яна паківала мне сваім тонкім пальцам, яе вочы смяяліся, і яна гарэзліва дадала:

— Памятай, заўсёды сцеражыся жанчын, чые абдымкі горшыя за пякучы агонь.

Павярнуўшыся, яна рушыла прэч, але не дазволіла мне сябе правесці. З дзвярэй храма я бачыў, як яна села ў прыгожыя багатыя насілкі. Наперадзе пабег слуга, крыкамі расчышчаючы дарогу, а людзі расступаліся і перашэптваліся, гледзячы ўслед насілкам. Калі яна знікла, мяне апанавала такое адчайнае пачуццё пустаты, быццам я ляцеў у нейкую цёмную бездань.



Праз некалькі дзён Метуфер згледзеў на маім пальцы пярсцёнак і нават не паверыў сваім вачам. Ён схапіў мяне за руку і ўтаропіўся на яго.

— Вой, усе сорак чыстамудрых павіянаў Асірыса! Нефернефернефер, ці не так? Вось на цябе я ніколі не падумаў бы.

Ён амаль з пачцівасцю глядзеў на мяне, хоць жрэц прымушаў мяне падмятаць падлогі і рабіць усю брудную працу ў храме, бо я не рабіў яму падарункаў.

У тую хвіліну я ненавідзеў Метуфера так страсна і горка, як толькі можа ненавідзець неспакушаны юнак. Як мне хацелася яго распытаць пра Нефер, але да такога прыніжэння я не апусціўся. Я захаваў таямніцу ў сваім сэрцы, бо хлусня заўсёды прывабней за праўду, а мроя святлей за зямную рэчаіснасць. Я ўглядаўся ў зялёны камень на сваім пальцы, успамінаў яе зялёныя вочы і прахалодныя грудзі, і мне здавалася, што ад майго пальца струменіцца водар яе духмянага алею. Я дакранаўся да яе, і яе пяшчотныя вусны датыкаліся да маіх і суцяшалі мяне, бо Амон да таго часу перада мной не з'явіўся і вера мая абрынулася.

А таму я шаптаў з палаючым тварам: «Сястра мая!». І гэтыя словы лашчылі мае вусны, бо з самай сівой даўніны гэта азначала і будзе азначаць векавечна: «Каханая мая!»

**3**

Але я распавяду яшчэ, як Амон усё-ткі з'явіўся перада мною.

Чацвёртай ноччу наступіла мая чарга ахоўваць спакой Амона. Нас было сямёра юнакоў: Мата, Мосэ, Бек, Сінуфер, Нефру, Ахмосэ і я, Сінухе, сын Сэнмута. Мосэ і Бек таксама збіраліся паступіць у Дом жыцця, і я ведаў іх раней, астатнія ж былі незнаёмыя.

Ад посту і напружання душы я саслабеў. Усе мы былі настроеныя вельмі сур'ёзна, а таму без усмешак пайшлі за жрацом — хай забудзецца ягонае імя назаўсёды! — калі той павёў нас у зачыненую для ўсіх частку храма. Амон праплыў на сваім залатым чоўне на Захад, за горы, пратрубілі срэбныя вартавыя трубы, і дзверы храма зачыніліся. Жрэц, які прывёў нас, удосталь наеўся смачнага мяса ахвярных жывёлаў, салодкіх пладоў і хлеба, па яго твары цёк алей, а шчокі чырванелі ад віна. У душы пасмейваючыся над намі, ён падняў заслону і даў нам пабачыць святое святых. Сярод нішы, высечанай у велізарнай каменнай глыбе, стаяў Амон, каштоўныя камяні на яго кароне і нашыйных аздобах пераліваліся ў святле свяшчэнных лямпаў чырвоным, зялёным, сінім і здаваліся жывымі вачыма бога. На досвітку пад кіраўніцтвам жраца

мы павінны былі нацерці яго духмяным алеем і апрануць у новыя строі, бо кожны ранак богу патрабавалася новае адзенне. Мне ўжо даводзілася бачыць Амона раней, калі яго выносілі ў залатым чоўне ў двор храма падчас вясенняга свята і людзі кідаліся ніц перад магутным божышчам. Я бачыў яго падчас найвышэйшай вады разводдзя, калі ён плыў на кедравым чоўне па святому возеру. Але тады я быў простым бедным вучнем і бачыў яго толькі здаля, а таму яго пурпуровае ўбранне ўразіла мяне не так ашаламляльна, як цяпер, пры святле лямпаў у непарушнай цішыні вялізнага свяцілішча. Барвяную вопратку насілі толькі багі, і калі я паглядзеў на высокае аблічча бога, у мяне ўзнікла пачуцце, нібыта на грудзі мне навалі́ліся каменныя пліты, і я пачаў задыхацца.

— Пільнуйце і маліцеся перад заслонай,— сказаў жрэц, ухапіўшыся за край гэтай самай заслоны, бо не зусім цвёрда трымаўся на нагах.— Можа ён і пакліча вас, бо мае звычку паказвацца тым, хто чакае пасвячэння, ён можа назваць іх імя і гаварыць з імі, калі палічыць іх гэтага вартымі.

Потым ён хуценька зрабіў рукамі свяшчэнныя знакі, мармычучы святыя імёны Амона, адчапіўся ад заслоны і выйшаў, нават не схіліўшыся перад богам і не апусціўшы рукі да каленяў.

Мы сямёра засталіся адны перад свяшчэннай заслонай у зачыненай зале, каменныя пліты яе падлогі моцна халадзілі нашы босыя ногі. Але як толькі жрэц пайшоў, Мосэ дастаў з-пад наплечнай накідкі лямпу, а Ахмосэ без усякага страху зайшоў у святая святых і прынёс адтуль свяшчэннага агню Амона, каб запаліць кнот.

— Такія мы дурні сядзець упоцемках,— сказаў Мосэ, і нам стала ўтульней, хоць было і страшнавата. Ахмосэ дастаў з-пад адзення хлеб і мяса, а Мата і Нефру пачалі гуляць у цыркі на каменнай падлозе, і рэха ягоных азартных крыкаў загуло па ўсім храме. Ахмосэ, наеўшыся, захінуўся ў сваю накідку і лёг спаць, але спачатку вылаяў цвёрдае каменне, а праз пэўны час да яго прыціснуліся Сінуфер і Нефру, бо спаць разам было цяплей.

Але я быў малады і не спаў, хоць ведаў, што жрэц тым вечарам, атрымаўшы ад Метуфера гляк віна, запрасіў яго да сябе ў келлю разам з яшчэ двума знатнымі юнакамі, якія таксама праходзілі пасвячэнне, а таму да самага рання правяраць нас не прыйдзе. Я не лёг спаць, хоць і раней чуў аповеды пра тое, што падчас пасвячэння юнакі зазвычай употай п'юць, ядуць ды гуляюць у цыркі. Мата пачаў расказваць пра храм ільвінагаловай Сэхмет, дзе нябесная дачка Амона з'яўлялася перад фараонамі-ваярамі і абдымала іх. Гэты храм стаяў за храмам Амона, але цяпер быў не ў пашане. Дзесяткі гадоў фараоны не зазіралі туды, і трава прарастала праз пліты на прыдворку храма. Але Мата сказаў, што быў бы не супраць правесці гэтую бяссонную ноч там,



абдымаючы аголенае цела багіні, а Нефру, падкідваючы на далонях цыркі, пазяхаў і лаяў сябе за тое, што не дапяў захапіць віна. Потым яны абодва заснулі, і я застаўся адзін бяссонна пільнаваць перад свяшчэннай заслонай.

Ноч цягнулася бясконца доўга, і пакуль іншыя спалі, мяне апаноўвалі глыбокая багавейнасць і смутак — такі я быў малады і так спадзяваўся, што, посцячы і выконваючы ўсе старажытныя настаўленні, змагу ачысціцца і Амон паўстане перада мною. Я паўтараў яго святыя імёны і напружана прыслухоўваўся да кожнага шолаху, але храм заставаўся пусты і халодны. Толькі пад ранне свяшчэнная заслона пачала гайдацца ад скразняку, а больш нічога так і не адбылося. Калі святло пачало пранікаць у храм, я патушыў лямпу і — глыбока расчараваны — разбудзіў таварышаў.

Воіны пратрубілі ў трубы, варта на сценах змянілася, і з панадворку пачаў даносіцца нізкі шум, нібы пад ветрам плешчацца вада,— так мы даведаліся, што настаў дзень і ў храме аднавілася штодзённая праца. Нарэшце прыйшоў наш жрэц, які ўсім сваім выглядам паказваў, што вельмі спяшаецца, і — на маё вялікае здзіўленне — разам з ім прыйшоў Метуфер. Ад іх тхнула моцным перагарам, яны трымаліся за рукі, а жрэц дзеля раўнавагі махаў ключамі ад святых куфраў. Перш чым павітацца з намі, ён з дапамогаю Метуфера паўтарыў свяшчэнныя лічбы.

— Пасвячэнцы Мата, Мосэ, Бек, Сінуфер, Нефру, Ахмосэ і Сінухе,— прамовіў жрэц,— ці напраўду вы не спалі і маліліся, як гэта было зададзена, каб заслужыць пасвячэнне?

— Напраўду, мы не спалі і маліліся,— адказалі мы ў адзін голас.

— Ці з'яўляўся перад вамі Амон, як гэта было і вам абяцана? — запытаўся жрэц і адрыгнуў, зіркаючы на нас порсткімі вачыма.

Мы паглядзелі адзін на аднаго і сумеліся. Нарэшце Мосэ нерашуча адказаў:

— Ён з'явіўся, як і абяцаў.

— Ён з'явіўся,— адзін за адным паўтаралі мае таварышы.

— Напраўду, ён з'явіўся,— цвёрда заключыў Ахмосэ ўрачыстым голасам.

Ён глядзеў жрацу проста ў вочы, а я не мог вымавіць ні слова, нібыта нейкая жорсткая рука сціснула маё сэрца, бо ўсё, што казалі мае таварышы падавалася мне блюзнерствам і зневажаннем бога.

Метуфер нахабна абвясціў:

— Я таксама не спаў і маліўся, каб заслужыць пасвячэнне, бо не магу быць тут яшчэ адну ноч, у мяне неадкладныя справы. Амон таксама з'яўляўся перада мною, і жрэц можа засведчыць гэта, яго постаць нагадвала агромністы вінны збан і бог шмат чаго мне сказаў пра такія святыя рэчы, якія я не магу расказаць вам, і яго словы лашчылі мой

слых падобна таму, як віно лашчыць вусны, і я прагнуў слухаць яго яшчэ і яшчэ да самага рання.

Тады Мосэ набраўся смеласці і сказаў:

— Мне ён з'явіўся ў абліччы свайго сына Гора, і святы сокал сеў на маё плячо і сказаў: «Будзь жа блаславёны, Мосэ, хай будзе блаславенне на тваёй сям'і, хай будзе блаславенне на тваёй працы, каб настаў такі дзень, калі ты будзеш сядзець у доме з дваімі дзвярыма і валодаць шматлікімі слугамі».

Пасля гэтага і іншыя пасвячэнцы пачалі таксама паспешліва расказваць, што сказаў ім Амон, яны палка гаманілі ўсе разам, а жрэц слухаў, падсмейваючыся і хітаючы галавой. Не ведаю, ці яны напраўду расказвалі, што бачылі ў сне, ці проста хлусілі.

Я ж пачуваў сябе самотным, як сірата, і не казаў ні слова.

Нарэшце жрэц звярнуўся і да мяне. Ён сярдзіта насупіў падголеныя бровы і строга спытаў:

— Ну, а ты, Сінухе, ты што — не варты пасвячэння? Ці нябесны Амон не з'явіўся перад табой ні ў якім абліччы? Няўжо ты не бачыў яго нават у выглядзе маленькай мышкі, бо вялікі бог можа з'яўляцца ў тысячах абліччаў?

Гаворка ішла пра маё паступленне ў Дом жыцця, і я, набраўшыся смеласці, адказаў:

— На досвітку я бачыў, як загайдалася свяшчэнная заслона, а болей не было нічога і Амон не прамаўляў да мяне.

Тут усе зарагаталі, а Метуфер так развесяліўся, што ляпнуў рукамі па каленях і сказаў жрацу:

— Ён проста дурань.

Потым ён тузануў жраца за рукаў, абліты віном, і штосьці шапнуў яму на вуха.

Жрэц зноў сярдзіта паглядзеў на мяне і сказаў:

— Калі ты не чуў голасу Амона, я не магу дапусціць цябе да пасвячэння. Але гэта яшчэ можна паправіць, бо я хачу думаць, што ты, усё ж, малады шчыры вернік і маеш добрыя намеры.

Сказаўшы гэта, ён прайшоў у свяцілішча і знік. Метуфер падышоў да мяне і, пабачыўшы мой няшчасны твар, па-сяброўску ўсміхнуўся і сказаў:

— Не бойся.

Але ў наступную хвіліну мы ўсе закалаціліся, бо ў змроку храма загрымеў жахлівы голас, у якім не было нічога чалавечага. Ён даносіўся адусюль: са столі, са сцен, ён лунаў паміж калонамі, і мы спалохана круцілі галовамі, стараючыся адгадаць, адкуль даносіцца гэты голас. А голас грымеў:

— Сінухе, Сінухе-засоня, дзе ж ты? Зараз жа паўстань перад маімі вачыма і пакланіся мне, бо няма ў мяне часу чакаць цябе ўвесь дзень.



Метуфер адгарнуў заслону, упіхнуў мяне ў свяцілішча і, прыгінаючы маю галаву да самай падлогі, прымусіў стаць на калені. У такой позе звычайна віталі багоў і фараонаў. Але я хутка ўзняў галаву і ўбачыў, што ўсё свяцілішча напоўнілася яркім святлом, а голас ляцеў з вуснаў Амона і вяшчаў:

— Сінухе, ты свіння і малпа! Ці ты быў п'яны, што не пачуў, як я клікаў цябе? Належала б акунуць цябе ў нечыстотнік і глеем карміць да скону, але ты яшчэ малады, і я злітуюся з цябе, хоць ты дурны, лянівы і брудны, бо літую я кожнага, хто верыць у мяне, а іншых скідаю ў апраметную.

І шмат чаго іншага сказаў мне голас, лаючы, праклінаючы і бэсцячы мяне.

Але я не памятаю ўсяго, дый не хачу ўспамінаць: такое зняважлівае і горкае пачуццё апанавала мяне, калі я прыслухаўся і пазнаў у тым нялюдскім голасе голас жраца. Гэта мяне так уразіла і жахнула, што болей я нічога не чуў і не слухаў. Хоць голас змоўк, я так і застаўся ляжаць перад постаццю Амона, пакуль не з'явіўся жрэц і выспяткам падняў мяне з падлогі. Мае таварышы сталі паспешліва выносіць духмяныя алеі і курныя смолы, касметыку і пурпуровыя строі.

Абавязкі кожнага былі размеркаваныя загадзя, я ўспомніў пра свае і пабег у прытвор храма па сасуд са свяшчэннай вадой і свяшчэннымі ручнікамі, каб памыць божы твар, рукі і ногі. Але калі я вярнуўся, то ўбачыў, як жрэц пляваў Амону ў твар і выціраў яго сваім рукавом, пакрытым бруднымі плямамі. Потым Мосэ і Нефру нафарбавалі яму вусны, шчокі і бровы. Метуфер нацёр бога духмяным алеем, а потым, смеючыся, мазануў свяшчэнным алеем па твару сабе і жрацу. Нарэшце са статуя знялі вопратку, абмылі бога, абсушылі, і ўмасцілі яму дзетародны член і пачалі апранаць у чыстыя ўборы. На яго надзелі добра адпрасаваную спадніцу ў складкі, абвінулі фартухам, накінулі наплечную накідку і прасунулі рукі ў рукавы.

Калі абрад скончылі, жрэц сабраў старое адзенне, ручнікі і сасуды са святой вадой і занёс іх у сховішча, бо потым усё гэта рэзалі на кавалкі і кожны дзень прадавалі багатым паломнікам, а вада прадавалася, як лекавы сродак ад розных скурных хваробаў. Скончылі працу, мы выйшлі ў храмавы двор. Тут я званітаваў. У маім жываце было гэтак сама пуста, як пуста было цяпер на сэрцы і ў галаве, бо я больш не верыў у багоў. Але праз тыдзень маю галаву нацерлі свяшчэнным алеем і пасвяцілі ў жрацы Амона, я прынёс клятву жраца і атрымаў пасведчанне. На пасведчанні стаяла пячатка вялікага храма Амона, там было напісана маё імя, і гэта давала мне права паступлення ў Дом жыцця.

Так мы,— Мосэ, Бек і я — увайшлі ў Дом жыцця. Яго вароты расчы-

ніліся перад намі, і маё імя ўпісалі ў Кнігу жыцця, як перада мною — імя майго бацькі, Сэнмута, а перад ім — імя ягонага бацькі. Але я ўжо не быў шчаслівы.

**4**

Лічылася, што навучаннем у Доме жыцця вялікага храма Амона кіруюць царскія лекары — кожны ў сваёй галіне. Але мы іх бачылі рэдка, бо кола іх пацыентаў было шырокае, яны атрымлівалі багатыя дары ад знатных і заможных людзей і жылі ў вялікіх дамах за горадам. Але калі ў Доме жыцця з'яўляўся хворы з цяжкай хваробай, якую пастаянныя храмавыя лекары не адважваліся лячыць па сваім разуменні, бо ў іх не хапала ведаў, тады прыходзіў царскі лекар і паказваў навучэнцам сваё ўменне. Такім чынам нават самы апошні хворы бядняк мог пакарыстацца паслугамі царскага лекара, на славу Амона.

У Доме жыцця з хворых бралі плату адпаведна іх маёмаснаму стану, і многія мелі пасведчанне ад гарадскога лекара, дзе значылася, што звычайны лекар няздольны вылечыць іх хваробу, а самыя бедныя прыходзілі ў Дом жыцця адразу, і з іх не бралі ніякай платы. Усё гэта было выдатна і справядліва, але я не хацеў бы быць адным з гэтых хворых беднякоў, бо на іх удасканальвалі майстэрства неспрактыкаваныя лекары ці дзеля практыкі іх лячылі вучні, яны мусілі пакутаваць ад абцугоў, нажа і агню без ніякага абязбольвання. Таму з пярэдніх пакояў храма, дзе прымалі самых бедных пацыентаў, часта чуліся стогны і лямант.

Нават таленавіты лекар павінен вучыцца і практыкавацца даволі доўга. Нам належала прайсці навуку аб леках і зёлках, ведаць лекавыя травы і найлепшы час іх збору, навучыцца правільна сушыць і здабываць з іх гаючыя сокі, бо лекар, калі трэба, павінен сам умець прыгатаваць неабходнае зелле. Многія мае таварышы, дый сам я, часта наракалі на гэта, мы не бачылі ў гэтых ведах ніякай карысці і лічылі іх непатрэбнымі: у Доме жыцця па напісаным рэцэпце можна было атрымаць любыя вядомыя лекі, як след змяшаныя і прыгатаваныя і, апроч таго, падзеленыя на дозы дзеля прыёму. Але пазней, пра што я потым распавяду, гэтая навука саслужыла мне добрую службу.

Нам належала вывучыць назву ўсіх частак цела, работу кожнага чалавечага органа і яго прызначэнне. Мы павінны былі навучыцца спрытна карыстацца нажом і зубнымі абцугамі, але найперш — прывучыць свае рукі распазнаваць чалавечыя хваробы як у западзях, так і праз скуру, навучыцца чытаць немачы па вачах пацыента. Мы павінны былі навучыцца прымаць роды ў жанчын, калі павітуха не магла ўжо нічым дапамагчы.

Мы вучыліся прычыняць боль і ўтаймоўваць яго па меры неабходнасці. Нас вучылі адрозніваць лёгкую нямогласць ад цяжкай хваробы, пакуты душэўныя ад цялесных. Нам даводзілася адсейваць праўду ад падману ў аповедах пацыентаў, каб дайсці да ісціны і, умела задаючы пытанні, скласці правільную карціну захворвання.

А таму зразумела, што чым больш я паглыбляўся ў вучобу, тым больш усведамляў, як мала ведаю. Такім чынам, вынікала, што лекар навучаецца толькі тады, калі пакорна ўсведамляе, што на праўдзе ён нічога не ведае. Аднак казаць пра гэта недасведчаным было не варта, бо самае важнае заключалася ў тым, каб хворы верыў у лекара і яго майстэрства. Гэта аснова ўсякага лекавання і ўсё на гэтым грунтуецца. А таму лекару ні ў якім разе нельга памыляцца, бо няўдалы лекар ганьбіць не толькі сябе — ён няславіць усіх лекараў.

З гэтай прычыны, калі ў багатых дамах пасля наведвання аднаго лекара ў асабліва цяжкіх выпадках запрашаюць яшчэ двух, а то і трох — дзеля нарады,— яны лепей схаваюць хібы першага, чым будуць выкрываць іх на сорам усяму лекарскаму саслоўю. Таму і кажуць, што ўсе лекары хаваюць сваіх хворых разам.

Але тады я ўсяго гэтага яшчэ не ведаў і ўступаў у Дом жыцця з верай знайсці ў ім усю дабрыню і мудрасць зямлі. Першыя тыдні былі асабліва цяжкія, бо навічок — гэта служка ўсім астатнім і нават самы ніжэйшы служыцель Дома жыцця стаіць вышэй за яго і камандуе ім, як захоча.

Першым чынам навічок павінен прывучыцца да чысціні, і няма такой бруднай працы, якую ён не выконваў бы, часам хварэючы ад агіды, пакуль нарэшце не прызвычаіцца. Затое неўзабаве ён ужо нават і ў сне памятае, што нож чысты толькі, калі яго ачысціць агнём, а вопратка — толькі калі яе праварыць у вадзе са шчолакам.

Але ўсё, што тычыцца лекарскай навукі, ужо апісана ў іншых кнігах, і я ў гэта больш паглыбляцца не буду. Я распавяду пра тое, што пабачыў на свае вочы, што пачуў сваімі вушамі і пра што не пісаў ніхто іншы.

Па заканчэнні доўгага выпрабавальнага тэрміну настаў дзень, калі мяне апранулі ў белыя строі, і пасля святога абраду ачышчэння я атрымаў дазвол практыкавацца ў прыёмным пакоі храма, дзе вучыўся вырываць зубы ў дужых мужчын, перавязваць раны, ачышчаць нарывы ды накладваць лубкі на зламаныя косці.

Усё гэта не было для мне новым і, дзякуючы бацькавай навуцы, я вучыўся так паспяхова, што па некаторым часе стаў распарадчыкам і настаўнікам сваіх таварышаў. Я пачаў атрымліваць падарункі, як сапраўдны лекар, і загадаў выграваць сваё імя на зялёным камяні, які мне падаравала Нефернефернефер, каб ставіць на рэцэптах сваю пячатку.

Мне давалі ўсё цяжэйшыя даручэнні і дазволілі нават працаваць у залах, дзе ляжалі невылечныя хворыя. Я назіраў там, як працуюць славутыя лекары, як яны робяць самыя цяжкія аперацыі, пасля якіх дзе-

сяць чалавек памірала і ачуньваў толькі адзін. Там я зразумеў, што для лекара смерць — звычайная справа, а для хворага часта — літасцівы сябар, і што пасля смерці твары ў хворых выглядаюць болей шчаслівымі, чым у гаротныя дні пакутлівага жыцця.

Але я заставаўся сляпы і глухі, пакуль не настаў мой дзень абуджэння, як ужо некалі было ў дзяцінстве, калі для мяне раптам ажылі малюнкі, словы і літары. Настала хвіліна, калі мае вочы расплюшчыліся, і я, нібыта абудзіўшыся ад глыбокага сну, з радасным хваляваннем спытаўся: «Чаму?» А гэтае пытанне — чаму? — самы застрашальны ключ сапраўднае мудрасці. Для мяне яно было мацнейшае за трысцінку Тота і трывалейшае за любы высечаны на камяні надпіс.

Здарылася гэта так. У адной жанчыны не было дзяцей і яна лічыла сябе бясплоднай, бо ёй споўнілася ўжо сорак гадоў. Але раптам у яе зніклі месячныя, і яна, спалохаўшыся, прыйшла ў Дом жыцця, бо думала, што злы дух увантробіўся ў яе і атруціў ейнае цела. Як і належала ў такіх выпадках, я ўзяў некалькі зярнят і пасадзіў у зямлю. Адны я паліў вадой з Ніла, другія — вадой з цела жанчыны. Выставіўшы зямлю з пасевамі на сонца, я загадаў жанчыне прыйсці праз некалькі дзён. Да таго, калі яна прыйшла, я ўбачыў, што зярняты прараслі, але палітыя вадой з Ніла ледзь узышлі, а другія далі багатую прорасць. Усё напісанае спраўдзілася, і я, сам гэтаму дзівячыся, сказаў жанчыне:

— Радуйся, жонка, бо прасвяты Амон у бязмернай сваёй літасці блаславіў тваё ўлонне і ў цябе будзе дзіця, як у іншых блаславёных жанчын.

Небарака аж заплакала ад радасці і падаравала мне срэбны бранзалет з рукі вагою два дэбены, бо даўно страціла ўсялякую надзею. Цяпер жа, павярыўшы, адразу спыталася:

— Гэта будзе хлопчык?

Мусіць яна думала, што я ведаю ўсё. Набраўшыся смеласці я адказаў, гледзячы ёй прама ў вочы:

— Гэта будзе хлопчык.

Верагоднасць супадзення была роўная палавіне, а мне ў той час шанцавала ў гульні. Жанчына ўзрадавалася яшчэ больш і падаравала другі срэбны бранзалет таксама вагаю два дэбены.

Аднак калі жанчына пайшла, я задумаўся: як можа быць, каб ячменнае зярнятка ведала тое, што немагчыма даследаваць, спазнаць і ўбачыць, пакуль не выявяцца ўсе адзнакі цяжарнасці? Набраўшыся смеласці, я папрасіў свайго настаўніка растлумачыць мне гэта, але той паглядзеў на мяне, як на вар'ята, і сказаў толькі: «Так напісана». Аднак гэта быў зусім не адказ на маё вечнае пытанне: «Чаму?» Насмеліўшыся, я спытаў тое самае ў царскага лекара ў радзільным доме. Той адказаў:

— Амон — уладар усіх багоў. Яго позірк пранікае ва ўлонне жанчыны, якая прыняла семя. Калі ён дазваляе адбыцца зачаццю, дык чаму б яму не дазволіць і ячменнаму зерню прарасці ў зямлі, палітай водамі з цела цяжарнай жанчыны?



Ён паглядзеў на мяне, як на апошняга дурня, але і гэта быў не адказ на маё спрадвечнае пытанне: «Чаму?»

Тады мае вочы прасвятлелі і я ўбачыў, што лекары з Дома жыцця ведаюць толькі старыя тэксты ды ўсталяваныя здаўна звычаі і абрады — і болей нічога. А калі я пытаўся, чаму гнойныя раны трэба прыпякаць, а простыя лячыць мазямі і павязкамі, або чаму цвіль і павуцінне загойваюць нарывы, мне проста адказвалі: «Так рабілі спрадвечна». З такой самай прычыны і лекар, які лячыў людзей з дапамогай нажа, меў права зрабіць толькі сто восемдзесят дзве раней апісаныя аперацыі, і ён рабіў іх адпаведна свайму досведу і ўменню, лепей ці горш, хутчэй ці павольней, без болю ці прычыняючы залішні боль, але нічога больш ён рабіць не мог, бо толькі гэтыя аперацыі былі апісаныя і намаляваныя ў старых кнігах, а іншых раней не рабілі.

Некаторыя людзі худнелі, іх твары цалкам трацілі колер, а лекар не мог вызначыць у іх ніякай хваробы, ані пашкоджання,— і потым яны ажывалі і нават выздараўлівалі, калі, за вялікія грошы, ім давалі з'есці печань ахвярнай жывёлы. Аднак пытацца, чаму так, было нельга. Бывала, што ў людзей балеў жывот, гарэлі рукі і твар. Яны атрымлівалі нутрагонныя ці болепатольныя лекі, але адны выздараўлівалі, а другія паміралі, і ніякі лекар не мог сказаць загадзя, хто паправіцца, а каму жывот раздзьме так, што ён памрэ. А чаму адзін памірае, а другі ачуньвае — ніхто не пытаўся, дый пытацца было нельга.

Неўзабаве я заўважыў, што задаю шмат залішніх пытанняў: на мяне пачалі касавурыцца, а тыя, хто прыйшоў у Дом жыцця пазней, ужо мяне апярэдзілі і пачалі мне самі загадваць. Тады я скінуў белае адзенне, ачысціўся і выйшаў з Дома жыцця, і было ў мяне з сабою два срэбныя бранзалеты, агульнай вагаю два дэбены.

## 5

Сярод белага дня — упершыню за шмат гадоў — я выйшаў з храма, і мне адразу кінулася ў вочы, што, пакуль я вучыўся і працаваў, Фівы вельмі змяніліся. Я заўважыў гэта, ідучы па Алеі Баранаў і перасякаючы плошчу: паўсюль панавала новая, невядомая мне ўзрушанасць, вопратка на людзях стала больш дарагою і пышнай, гледзячы на плісаваныя спадніцы і парыкі, цяжка было адрозніць мужчыну ад жанчыны. З тавернаў і дамоў уцех ляцеў грукат сірыйскай музыкі, на вуліцах часцей чулася чужынская гамана, сірыйцы і багатыя негры ўсё нахабней трымаліся сярод егіпцян. Багацце, веліч і моц Егіпта былі бязмежныя, вораг стагоддзямі не ўступаў у егіпецкія гарады, і сярод людзей сярэдняга веку амаль не было такіх, хто спазнаў цяжар вайны. Зрэшты,

не ведаю, ці дадало гэта людзям радасці: позіркі ва ўсіх былі трывожныя, паўсюль панавала неспакойная хапатлівасць і адчувалася нейкае напружанае чаканне, змяшанае з незадаволенасцю сённяшнім днём. Я блукаў па вуліцах Фіваў і быў адчайна самотны, маё сэрца поўнілася смуткам і жалем. Я прыйшоў дадому і ўбачыў, што мой бацька Сэнмут састарэў, яго спіна згорбілася, і ён ужо не мог разабраць літары на папірусе. Я ўбачыў, што мая маці Кіпа таксама састарэла, яна ледзь хадзіла па хаце і задышліва гаварыла толькі пра сваю магілу. А мой бацька ўжо купіў на свае зберажэнні магілу на дваіх у Горадзе мёртвых на заходнім беразе Ніла. Я бачыў яе, гэта была ахайная магілка з сырой цэглы, са звычайнымі малюнкамі і надпісамі на сценах. Побач і вакол месціліся яшчэ сотні і тысячы такіх магіл, бо жрацы Амона па дарагой цане прадавалі месцы прыстойным і ашчадлівым людзям, якія жадалі забяспечыць сабе несмяротнасць. На радасць маці я перапісаў дзеля іх Кнігу мёртвых, якую потым мусілі пакласці ў магілу разам з іх целамі, каб яны не заблукалі на далёкай дарозе ў Царства спачыўшых. Я перапісаў яе без памылак, і Кніга атрымалася выдатная, хоць і без малюнкаў, як у тых Кнігах, што прадаюць у кніжным двары храма Амона.

Маці падала мне ежу, а бацька пачаў распытваць пра маё навучанне, і аказалася, што гутарыць нам больш не было пра што: дом стаў мне чужы, і вуліца стала чужая, і людзі на той вуліцы — таксама чужыя. Маё сэрца поўнілася ўсё большым смуткам, і тады я ўспомніў пра храм Пта і свайго сябра Тутмеса, які збіраўся стаць мастаком. «У мяне ў кішэні чатыры дэбены срэбра. Пайду-ткі я наведаю свайго сябра Тутмеса, павесялімся мы разам ды пацешым сябе віном, а на свае пытанні я ніколі не атрымаю адказаў».

Я развітаўся з бацькамі, сказаўшы, што мушу вяртацца ў Дом жыцця. На схіле дня я знайшоў храм Пта, потым, спытаўшыся дарогу ў кустода, дайшоў да школы мастакоў і папрасіў, каб мне паклікалі вучня Тутмеса. У адказ я пачуў, што яго са школы даўно ўжо выгналі. Прамаўляючы яго імя, вучні, чые рукі былі запэцканы ў гліне, плявалі перада мной на зямлю. Адзін з іх сказаў:

— Калі шукаеш Тутмеса, то хутчэй за ўсё знойдзеш яго ў піўнушцы ці ў доме ўцех.

Другі прамовіў:

— Калі пачуеш, як хтосьці блюзнерыць і бэсціць багоў, дык і Тутмес будзе непадалёку.

А трэці дадаў:

— Там, дзе бойка, дзе набіваюць гузакі і сінякі, там і шукай свайго прыяцеля Тутмеса.

Яны плявалі перада мной на зямлю, бо я назваўся Тутмесавым сябрам, але рабілі гэта пад пільным вокам настаўніка, а як толькі той адвярнуўся, параілі мне завітаць у таверну пад назвай «Сірыйскі збан».



Я адшукаў тую таверну на мяжы бядняцкага квартала і раёна багацеяў, над яе дзвярыма быў надпіс, які ўсхваляў вінаграднікі Амона і розныя гатункі віна. А ўсярэдзіне ўсе сцены былі пакрытыя вясёлымі малюнкамі, на якіх павіяны лашчылі танцоўшчыц, а козы гралі на флейтах. На падлозе сядзелі мастакі і старанна малявалі на папірусах, а нейкі стары журботна глядзеў на апусцелы кухаль перад сабой.

— Сінухе, клянуся глінянай таблічкай! — здзіўлена выгукнуў хтосьці, радасна ўзняўшы рукі і вітаючы мяне.

Я пазнаў Тутмеса, хоць яго наплечная накідка была брудная і падраная, вочы пачырванелі, а на лбе красаваўся вялізны гузак. Ён схуднеў і выглядаў пастарэлым, вакол рота ўзніклі складкі, хоць ён быў яшчэ малады.

Але ў яго ў вачах кіпела жывая смелая радасць. Гледзячы на мяне, ён схіліў галаву так, што нашыя шчокі дакрануліся, і ў тую хвіліну я адчуў, што мы па-ранейшаму сябры.

— Маё сэрца поўнае смутку, і ўсё вакол — марнатраўства,— сказаў я сябру.— Я адшукаў цябе, каб мы разам маглі ўзвесяліць віном нашыя сэрцы, бо ніхто і нічога мне не адказвае, калі я задаю пытанне: «Чаму?»

Але Тутмес прыўзняў фартух, паказваючы, што за віно заплаціць яму няма чым.

— У мяне на прыцэўцы чатыры дэбены срэбра,— горда адказаў я.

Тады Тутмес паказаў на маю галаву, якая была гладка выгаленая, бо мне хацелася, каб людзі бачылі, што я жрэц першай ступені,— больш мне было нечым ганарыцца. Цяпер я пашкадаваў, што не адрасціў валасы.

— Я не жрэц, а лекар,— з прыкрасцю сказаў я.— На дзвярах напісана, што тут падаюць прывазное віно. Дык вось і пакаштуем, ці такое ўжо яно добрае.

Я пабразгаў бранзалетамі на прыцэўцы, і гаспадар борздзенька падбег да мяне і схіліўся ў глыбокім паклоне, апусціўшы рукі да каленяў.

— У сваім склепе я маю віно з Сідона і з Бібла. Пячаткі на сасудах яшчэ непарушаныя, і віно смачнае, нібы міра,— сказаў ён.— А можна змяшаць некалькі гатункаў у размаляваных чашах. Ад іх, як ад дзявочай усмешкі, кружыцца галава, а сэрца поўніцца радасцю і весялосцю.

Гаспадар так доўга і нястомна пералічваў вартасці розных вінаў, што я ажно разгубіўся і пытальна зірнуў на Тутмеса. Той замовіў змяшанага віна. Раб паліў нам на рукі і паставіў на нізкім століку місу з падпражанымі зярнятамі лотаса. Тутмес падняў чашу, выліў некалькі кропель на зямлю і абвясціў:

— Нябеснаму ганчару! Каб чума забрала мастацкую школу і яе настаўнікаў! — і ён пайменна пералічыў усіх самых ненавісных.

Я таксама падняў чашу і выліў некалькі кропляў на дол.

— У імя Амона,— сказаў я,— хай назаўсёды працячэ яго човен, хай лопнуць жываты ягоных жрацоў і хай чума забярэ ўсіх невукаў-настаўнікаў у Доме жыцця.

Але я сказаў гэта прыцішаным голасам, азіраючыся вакол, каб ніхто не пачуў маіх словаў.

— Не бойся,— супакоіў мяне Тутмес.— У гэтым шынку столькі разоў білі Амонавых падслухоўцаў, што ім самім ужо ўстыла падслухоўваць. Калі ўжо мы тут, значыць мы ўсё адно кончаныя людзі. Я не здабыў бы й кавалку хлеба, ужо не кажучы пра піва, калі б не дадумаўся размалёўваць кніжкі дзецям багацеяў.

Ён паказаў скрутак папіруса з малюнкамі, якія зрабіў да майго прыходу, і я не змог стрымаць смеху: на адным малюнку была крэпасць, у якой, калоцячыся ад жаху, хаваўся кот, а мышы ішлі ў атаку на крапасныя муры. А на другім — бегемот спяваў, седзячы на вяршыні дрэва, на якое па прыстаўленых да ствала драбінах з цяжкасцю стараўся ўзлезці голуб.

Тутмес глядзеў на мяне, і яго цёмныя вочы смяяліся. Ён разгарнуў папірус далей, і мне зрабілася не да смеху: там маленькі пляшывы жрэц цягнуў у храм на вяроўцы вялікага фараона, нібы той быў ахвярнай жывёлай, якую належала аддаць смерці. Потым ён паказаў мне малюнак, дзе маленечкі фараон у ліслівым паклоне схіляўся перад вялізным статуём Амона. Я пытальна зірнуў на сябра, а той паківаў і спытаўся:

— Хіба ўсё не так? Нават мае бацькі па сваёй неразумнасці смяюцца з такіх малюнкаў. І напраўду — смешна, што мышы нападаюць на ката, а яшчэ болей смешна, што жрэц цягне за сабой фараона. Але ж людзі дасведчаныя задумваюцца, і таму ў мяне будзе заўжды хапаць на хлеб і піва,— прынамсі, пакуль жрацы не прышлюць ахоўнікаў, каб тыя забілі мяне да смерці кіямі дзе-небудзь у цёмным завулку. Такое ўжо здаралася.

— Давай вып'ем,— прапанаваў я, і мы пачалі піць віно, але весялей на душы не рабілася.

— Няўжо пытанне «чаму» такое страшнае? — пацікавіўся я.

— Вядома, страшнае,— адказаў Тутмес.— У чалавека, які задае дзёрзкае пытанне «чаму?», не будзе ні дома, ні прытулку ва ўсёй краіне Кэмет. Ты ж ведаеш, што ўсё павінна заставацца такім, як раней, без ніякіх зменаў. Памятаеш, Сінухе, як я аж калаціўся ад радасці, калі трапіў у школу мастакоў? Я адчуваў сябе, нібы чалавек спалены смагай, які прыпаў да халоднай крыніцы, як галодны, што дарваўся да хлеба. І я даведаўся шмат карыснага. Я даведаўся, як мастак павінен трымаць аловак, як трэба працаваць разцом і як рабіць узор з воску да таго, як перанесці выяву ў камень, я навучыўся шліфаваць камень і складаць узоры з каляровых каменьчыкаў, я даведаўся, як трэба распісваць алебастр. Але як толькі я загарэўся прагай ажыццявіць свае мары ў жывых формах, перада мной адразу паўстала сцяна і мяне прымусілі мясіць гліну для іншых. Бо па-над усім стаіць адзіны нязменны ўзор. У мастацтве, гэтак сама, як у напісанні літар, пануе нязменны шаблон, і адступніка чакае праклён. Ён пануе паўсюдна, і той, хто адступае ад пракаветнага ўзору, не можа быць мастаком. Спрадвечна вызначана ўсё: як маляваць стаячага чалавека і як — сядзячага. Спрадвечна вызначана, як ставіць ногі конь і як бык цягне свой воз. Спрадвечна вызначана, як павінен працаваць мастак, а хто адступае ад тых канонаў, таго выганяюць з храмаў, у таго адбіраюць камень і разец. О Сінухе, любы мой сябра, я таксама пытаўся «чаму». Я зашмат пытаўся «чаму», таму і сяджу тут з гузакамі на галаве.



Мы пілі віно, і на душы ў мяне лягчэла, а на сэрцы рабілася весялей, нібы ў ім вычысцілі нарыў: нарэшце я быў не адзін. Тады Тутмес казаў:

— Сінухе, мой сябра, мы нарадзіліся ў дзіўны час. Усё рухаецца і змяняецца, нібы гліна на ганчарным крузе. Мяняецца адзенне, словы і звычаі, людзі ўжо не вераць у багоў, хоць яшчэ і баяцца іх. Сінухе, мой сябра, напэўна, мы нарадзіліся перад канцом свету, бо свет надта ўжо састарэў — прайшла тысяча і яшчэ дзве тысячы гадоў з таго часу, як пабудавалі вялікія піраміды. Калі я думаю пра гэта, мне хочацца схіліць галаву на рукі і плакаць, як дзіцянё.

Але ён не плакаў: мы пілі віно з размаляваных чашаў, а шынкар усё напаўняў і напаўняў іх, кожны раз кланяючыся і апускаючы да каленяў рукі. Час ад часу да нас падбягаў раб і паліваў на рукі. Маё сэрца стала лёгкае і імклівае, нібы ластаўка на пачатку вясны, мне хацелася ўголас чытаць вершы і абняць увесь навакольны свет.

— Пойдзем у дом уцех,— сказаў Тутмес і засмяяўся.— Пойдзем паслухаем музыку, паглядзім на танцоўшчыц і ўзвяселім нашыя сэрцы, каб больш не пытацца «чаму» і каб нам не давялося выпіць нашу горкую чашу напоўніцу.

Я заплаціў гаспадару адным срэбным бранзалетам, але папрасіў абыходзіцца з ім асцярожней, бо ён яшчэ ўвесь вільготны ад мачы цяжарнай жанчыны. Гэтая думка вельмі мяне развесяліла, і шынкар, таксама да душы пасмяяўшыся, даў мне ў якасці рэшты такую гурбу клеймаванага срэбра, што я кінуў крыху і рабу. Той схіліўся перада мной аж да зямлі, а шынкар правёў нас да дзвярэй і папрасіў не забывацца на «Сірыйскі збан». Ён намякнуў таксама, што ведае шмат маладых і вясёлых дзяўчат без усялякіх забабонаў, якія будуць рады, калі я завітаю да іх з глякам віна з ягоных запасаў. Але Тутмес сказаў, што з сірыйскімі дзяўчатамі спаў яшчэ ягоны дзядуля, так што лепей назваць іх бабулькамі, чым сястрычкамі. Такі жартаўлівы настрой апанаваў нас пасля выпітага віна.

Мы крочылі па вуліцах, дзень ужо дагарэў, і я пазнаёміўся з Фівамі,

дзе ніколі не было ночы, бо людзі дзеля сваіх забаваў зрабілі гэтую частку горада такой жа светлай уначы, як і ўдзень. Перад дамамі ўцех палалі паходні, а на скрыжаваннях стаялі слупы з ліхтарамі на вяршынях. Рабы ўподбег праносілі насілкі, і крыкі бягучых наперадзе слуг змешваліся з музыкай і п'яным лямантам, якія даносіліся з дамоў уцех. Мы зазірнулі ў дзверы віннай лаўкі краіны Куш, адкуль чуўся аглушальны грукат, і ўбачылі неграў, якія што моцы лупілі рукамі і палачкамі па бубнах. З імі спаборнічаў бразгат прымітыўнай сірыйскай музыкі, якая нязвыкла біла па вушах, але сваім навязлівым рытмам распальвала кроў.

Я ніколі яшчэ не хадзіў да дзяўчат і трошкі баяўся, але Тутмес смела завёў мяне ў дом пад назваю «Кот і вінаград». Гэта быў невялікі і чысты дамок з мяккімі кілімамі на сядзеннях, асветлены спакойным жоўтым святлом, там ігралі флейты і чуліся гукі струнаў, а маладыя і, на мой погляд, прыгожыя дзяўчаты адбівалі такт пафарбаванымі ў чырвоны колер далонямі. Калі музыка скончылася, дзяўчаты падселі да мяне і папрасілі пачаставаць іх віном, бо горлы ў іх перасохлі, як сухая салома. Зноў загучала музыка, і дзве аголеныя танцоўшчыцы пачалі складаны танец, які патрабаваў вялікага майстэрства. Я сачыў за імі з вялікай цікаўнасцю, бо хоць, будучы лекарам у Доме жыцця, і паспеў наглядзецца на голых жанчын, але там іх клубы і грудзі не калыхаліся так спакусліва.

Зрэшты, ад музыкі мяне зноў апанавала журбота і я засумаваў невядома па чым. Прыгожая дзеўка ўзяла мяне за руку, прытулілася да мяне ўсім целам і сказала, што ў мяне вочы мудраца. Але ў яе вочы былі не такія зялёныя, як Ніл у разгары лета, і апранутая яна была не ў царскі лён, хоць і ў гэтай вопратцы яе грудзі былі адкрытыя позірку. Таму я працягваў піць віно, не зазіраючы ёй у вочы і не маючы ніякага жадання назваць яе сястрой ці папрасіць, каб яна са мною павесялілася. Апошнімі маімі ўспамінамі пра той дом сталі моцны грымак, атрыманы мною ад раззлаванага негра, і гузак на галаве, які я набіў, вылецеўшы за вароты. Здарылася дакладна так, як прадказвала мая маці. Без адзінага медзяка ў кішэні, у падраным адзенні і з гузаком на галаве я ляжаў на рагу вуліцы, пакуль мяне не падняў Тутмес. Толькі абапіраючыся на ягонае моцнае плячо, я змог дабрысці да Ніла, абмыцца і наталіць смагу рачной вадой.

Я дабраўся да Дому жыцця з прыпухлым ад п'янкі тварам і балючым гузаком, у пашкуматанай вопратцы і без ніякага жадання пытацца *чаму*. Тым днём я павінен быў працаваць у аддзяленні глухіх і хворых на вушы, а таму хуценька прывёў сябе ў парадак і апрануўся ў белае лекарскае адзенне. Аднак мой настаўнік і наглядчык, сустрэўшы мяне ў калідоры і зірнуўшы ў твар, пачаў мяне лаяць словамі, якія я даўно ўжо прачытаў у кнігах і ведаў напамяць.



— Што з цябе выйдзе,— ушчуваў ён,— калі па начах ты ўцякаеш і п'еш без меры віно? Што з цябе выйдзе, калі ты бавіш час у дамах уцех, б'еш паленам па гаршчках і палохаеш людзей? Што з цябе выйдзе, калі ты калечыш людзей у бойках і ўцякаеш ад варты?

Але выканаўшы свой абавязак настаўніка, ён усміхнуўся, з палёгкаю ўздыхнуў і, завёўшы ў свой пакой, даў папіць зёлак, каб прачысціць страўнік. Я адчуў сябе лепей і зразумеў, што віно і ўцехі ў Доме жыцця не забараняюцца, калі не задаваць пытання *чаму.*

**6**

Так Фівы запалілі сваёй ліхаманкаю маю кроў і я пачаў любіць ноч болей за дзень, трапяткое полымя паходняў — болей за яркае сонца, сірыйскую музыку — болей за стогны хворых, а прывабны шэпт прыгожых дзяўчат — болей за старыя запісы ў зжаўцелых папірусах. І за гэта не пачуў ніводнага папроку, бо няблага спраўляўся са сваімі абавязкамі ў Доме жыцця, удала праходзіў іспыты, а рукі мае не трацілі цвёрдасці. Усё гэта было будзённае жыццё пасвячэнцаў, сярод якіх мала хто з меў дастаткова сродкаў, каб ажаніцца і завесці сваю гаспадарку. Таму настаўнікі і давалі нам зразумець, што лепш суняць свае баддівыя рожкі ды аддавацца суцяшэнню плоці, радуючы гэтым сэрца. Але я не меў яшчэ справы з жанчынамі, хоць лічыў, быццам ведаю, што іх абдымкі пякуць мацней за агонь.

Пара была неспакойная, вялікі фараон хварэў. Я бачыў яго старэчы высахлы твар, калі ў час восеньскага свята яго неслі ў храм. Упрыгожаны золатам і каштоўнымі камянямі, ён быў нерухомы, як выява вялікага бога, але яго галава схілялася пад цяжарам падвойнай кароны. Фараон хварэў, і ўсе зёлкі царскіх лекараў не дапамагалі яму, а таму пайшлі пагалоскі, што яго час мінуўся і неўзабаве трон зойме наследнік. Але фараонаў спадкаемец быў такі ж малады, як я.

У храме Амона прыносілі ахвяры і чыталі модлы, але Амон не хацеў дапамагчы свайму нябеснаму сыну нягледзячы на пабудаваны Аменхатэпам III у яго гонар вялікі храм, якога не было ад пачатку ўсіх часоў. Казалі, што фараон я ўгнявіўся на ўсіх багоў Егіпта і паслаў ганца да свайго цесця, цара Мітанні, з просьбаю прысланы цудадзейную Іштар Ніневійскую з Нахарынскай зямлі, каб тая вылечыла яго. Але гэта была настолькі ганьба Амону, што ў храме і ў Доме жыцця ўсе казалі пра фараонаў загад толькі шэптам.

Статуй Іштар быў прывезены ў Фівы, і я бачыў, як барадатыя жрацы ў дзіўных па форме шапках, абліваючыся потам пад грубымі шарсцянымі мантыямі, неслі яго праз горад пад гукі дудак і грукат бубнаў. Але на вялікую радасць егіпецкіх жрацоў чужаземныя багі не дапамаглі фараону, і калі настаў час разліву, у палац паклікалі царскага трэпанатара.

За ўвесь перыяд навучання ў Доме жыцця я ні разу не бачыў Птахора, бо ўскрыццё чарапоў рабілася вельмі рэдка і мне яшчэ ніколі не даводзілася бачыць такія складаныя аперацыі. Цяпер жа Птахора спешна прынеслі ў Дом жыцця з ягонага лецішча. Ён ачысціўся ў адмысловым пакоі для ачышчэння, і я пастараўся апынуцца як мага бліжэй да яго. Ён быў па-ранейшаму лысы, зморшчын на твары стала больш, а шчокі паныла віселі абапал незадаволенага старэчага рота. Ён пазнаў мяне, усміхнуўся і спытаў: «Гэта ты, Сінухе? І даўно ты тут, сын Сэнмута?» Ён падаў мне куфэрак з чорнага дрэва, дзе зберагаліся яго інструменты, і загадаў ісці за ім следам. Для мяне гэта быў незаслужаны гонар, якому мог бы пазайздросціць нават царскі лекар, і я стараўся як мог.

— Я павінен праверыць цвёрдасць рукі, — сказаў Птахор. — Ускрыем пару чарапоў тут і пабачым як пойдзе справа.

Яго вочы слязіліся, а рукі крыху дрыжэлі. Мы зайшлі ў пакой, дзе ляжалі невылечна хворыя, паралізаваныя і хворыя з пашкоджаннямі галавы. Птахор агледзеў некалькі хворых і выбраў старога, смерць якому была б толькі збаўленнем ад бясконцых пакутаў, і магутнага раба з прабітай каменем у вулічнай бойцы галавою, які не мог ні гаварыць, ні рухацца. Ім далі дурманнага напою, аднеслі ў аперацыйны пакой і ачысцілі. Свае інструменты Птахор сам памыў і ачысціў свяшчэнным агнём.

Маёй задачай было пагаліць хворым галовы танюткаю брытвай. Потым іх яшчэ раз ачысцілі і памылі, і ўцерлі ў скуру абязбольвальную мазь, а тады Птахор узяўся за справу. Спачатку ён разрэзаў скуру на галаве старога і, не зважаючы на моцнае крывацячэнне, адгарнуў яе ў бакі. Потым хуткімі спрытнымі рухамі прасвідраваў полым свердлам чэрап і выняў кавалак косці. Стары пачаў задыхацца, і твар ягоны пасінеў.

— Я не бачу ў яго ў галаве ніякай заганы, — сказаў Птахор. Ён спрытна ўставіў на месца косць, зашыў рану і забінтаваў галаву, пасля чаго стары сканаў.

— Рукі мае крыху дрыжаць, — прамовіў Птахор. — Хай бы хто маладзейшы прынёс мне чашу віна.

Апроч настаўнікаў з Дома жыцця, за нашай аперацыяй сачылі ўсе навучэнцы, якія збіраліся лекаваць хваробы галавы. Выпіўшы віна, Птахор падышоў да прывязанага раба. Той сядзеў і шалёна круціў вачыма, нягледзячы на выпітае адурманьвальнае зелле.

Птахор загадаў прывязаць яго мацней, а галаву замацаваць у спецыяльнай падстаўцы, якую не змог бы зрушыць з месца ніякі волат. Птахор разрэзаў скуру на галаве раба, але гэты раз пастараўся спыніць крывацёк. Сасуды па краях разрэзанай скуры прыпяклі, а крывацячэнне спынілі з дапамогай лекаў. Гэтым займаліся іншыя лекары, бо Птахор не хацеў натамляць рукі. Праўда, у Доме жыцця быў адмысловы памагаты, чалавек невучоны, які мог умомант спыніць кроў толькі сваёй прысутнасцю, але Птахор хацеў зрабіць паказальную аперацыю і зберагчы сілы для фараона.



Ачысціўшы паверхню галавы, Птахор паказаў усім месца, дзе косць была ўціснутая ў чэрап. З дапамогаю свердла, пілы і абцугоў ён выразаў кавалак галаўной косці памерам з далонь, а потым паказаў усім, што паміж белымі складкамі мазгоў запяклося шмат нацёклай крыві. Незвычайна асцярожна, кропелька за кропелькай, ён убраў усю кроў, а потым гэтак сама асцярожна выдаліў з мазгавога рэчыва друзачку косці. Усё гэта цягнулася вельмі доўга, і кожны вучань мог прыглядзецца да работы майстра і пабачыць, як выглядаюць мазгі ўжыве. Потым Птахор закрыў адтуліну срэбнай пласцінкай, якую за гэты час зрабілі па форме выразанага кавалка косці, і замацаваў яе на галаве маленькімі запінкамі. Зашыўшы рану, ён перавязаў рабу галаву і загадаў: «Разбудзіце яго!» Хворы ўжо даўно страціў прытомнасць.

Раба вызвалілі ад путаў, залілі ў глотку віна і далі панюхаць нейкае рэзкае зелле. У наступны момант ён сеў і пачаў лаяцца. Гэта быў цуд, у які немагчыма было б паверыць, калі б не бачыў сам на свае вочы: да аперацыі хворы доўгі час не мог гаварыць і рухацца.

— Калі не памрэ праз тры дні, дык паправіцца, а праз пару тыдняў яшчэ і дасць дыхту таму, хто праламаў яму галаву, — сказаў Птахор. — Я думаю, ён не памрэ.

Потым ён добразычліва падзякаваў усім за дапамогу, у тым ліку ўзгадаўшы мяне, хоць я толькі падаваў патрэбныя інструменты. Я й не здагадваўся, які быў яго намер, калі ён даручаў мне гэтую справу: аказваецца, падаючы мне эбенавы куфэрак, ён тым самым выбіраў мяне сваім падручным у палац фараона. Цяпер, калі я падаваў яму інструменты пад час дзвюх аперацыяў, я станавіўся ў гэтым болей карысным знаўцам, чым царскія лекары. Але я яшчэ не разумеў гэтага і вельмі разгубіўся, калі Птахор сказаў:

— Ну што, Сінухе, цяпер мы, бадай, можам узяцца і за царскі чэрап. Ты гатовы?

Так я, у сваім простым убранні лекара сеў побач з Птахорам у царскія насілкі. Супыняльнік крыві задаволіўся тым, што сеў на аглоблі, і царскія рабы панеслі нас на прыстань, прычым беглі так мерна, што насілкі нават не гайдаліся. Нас ужо чакаў вялікі царскі човен з адборнымі веслярамі, і яны веславалі так зладжана, што здавалася, човен ляціць у паветры, а не плыве па вадзе. З царскай прыстані нас гэтак сама шпарка панеслі ў Залаты палац, і я не здзіўляўся з гэткай паспешлівасці, бо па вуліцах Фіваў ужо маршыравалі воіны, а гандляры зносілі тавары ў склады і сховішчы і зачынялі дзверы ды аканіцы. Усё гэта прадказвала, што фараон неўзабаве сканае.

# ПАПІРУС ТРЭЦІ
## Фіванская ліхаманка

### 1

Вялізныя гурбы людзей збіліся пад сценамі Залатога палаца, і нават ля забароннага берага цясніліся шматвёславыя драўляныя баркі багацеяў і маленькія трысняговыя чаўны беднякоў. Калі мы наблізіліся, у натоўпе пачуўся неспакойны гоман, падобны на аддалены пошум вады пад ветрам, і з вуснаў у вусны пабегла вестка, што прыехаў царскі трэпанатар. Людзі пачалі гаротна ўздымаць рукі, несуцешныя стогны і енкі, апярэджваючы нас, нясліся да палаца, бо ўсе добра ведалі, што ніводзін фараон не пражыў больш за тры дні пасля такой аперацыі.

Ад Лілейнай брамы нас павялі ў царскія палаты, і ўсе прыдворныя нізка схіляліся перад намі, гатовыя выканаць любую нашую просьбу, бо на сваіх руках мы неслі смерць. Нас даставілі ў пакой, часова абсталяваны для ачышчэння, Птахор абмяняўся некалькімі словамі з асабістым фараонавым лекарам, узняў у жальбе рукі і абыякава прайшоў цырымонію ачышчэння. Свяшчэнны агонь пранеслі за намі праз доўгі шэраг дзівосных пакояў у царскую спачывальню.

Вялікі фараон ляжаў пад залатым балдахінам на ложку, які падтрымлівалі фігуры ільвоў, а па кутах стаялі калоны з выявамі багоў-заступнікаў. Фараон ляжаў у непрытомнасці, гэта быў стары знямоглы чалавек без усякіх адзнак улады, яго бяссільнае цела было аголенае, высахлая старэчая галава звісала набок, ён цяжка хрыпеў, з рота выцякала сліна. Якія ж былі марныя і падобныя да ценю слава і зямная ўлада, калі цяпер фараона нельга было адрозніць ад звычайнага старога бедняка, які паміраў у прыёмным пакоі Дома жыцця! Толькі на сценах яго палаца ўсё яшчэ імчалі ўпрыгожаныя султанамі коні, упрэжаныя ў царскую калясніцу, а яго моцная рука напінала лук, і трапныя стрэлы праціналі неўтаймоўных ільвоў. Барвяным, залатым і сінім зіхцелі сцены яго спачывальні, і плавалі на падлозе рыбы, і ўзляталі з ціхім шолахам крылаў качкі, і гнуўся пад ветрам трыснёг.

Мы схіліліся да зямлі перад паміраючым фараонам, і кожны, хто бачыў смерць, ведаў, што тут ужо не дапаможа ніякае майстэрства Птахора. Аднак ва ўсе часы ўскрыццё чэрапа фараону лічылася апошнім сродкам, калі той не паспяваў памерці сваёю смерцю. Так павінна было адбыцца і гэтым разам, а таму мы ўзяліся за справу. Я адчыніў эбенавы куфэрак, яшчэ раз ачысціў у агні нажы, свярдзёлкі ды абцугі і падаў





Птахору свяшчэнны крамянёвы нож. Асабісты фараонаў лекар паспеў пагаліць і памыць галаву паміраючаму, і Птахор загадаў супыняльніку крыві сесці на ложак і моцна трымаць фараонаву галаву.

Тут Вялікая фараонава жонка Тэйе падышла да ложа і адмяніла загад. Да гэтага часу яна стаяла ўбаку, узняўшы рукі ў жалобе, нерухомая, нібы статуя багіні. За ёю стаялі малады наследнік Аменхатэп і яго сястра Бэкетамон, але я не адважваўся нават зірнуць на іх.

Цяпер жа, калі ў пакоі ўзнікла няёмкасць, я пазнаў іх па малюнках у храме. Наследнік быў майго ўзросту, але вышэйшы. Ён высока трымаў галаву, выставіўшы наперад падбароддзе і шчыльна заплюшчыўшы вочы. Яго члены былі хваравіта тонкія, веі і шчокі торгаліся. У прынцэсы Бэкетамон былі прыгожыя высакародныя рысы твару і вялікія авальныя вочы. Яе вусны і шчокі былі падмаляваныя чырвоным, а цела прасвечвала праз строі з царскага ільну, нібы цела багіні. Але болей значна і моцна выглядала Вялікая фараонава жонка Тэйе, маленькая і па-старэчы дзябёлая жанчына. У яе была вельмі смуглая скура, шырокі твар і выступаючыя скулы. Казалі, што яна паходзіла з простай сялянскай сям'і і што ў ёй цячэ негрыцянская кроў, але я нічога не магу сказаць пра гэта, бо ўсё чуў толькі ад іншых. Ведаю толькі, што яе бацькі не мелі ніякіх тытулаў; позірк у яе быў мудры, бясстрашны і востры і ва ўсёй паставе праглядала ўладнасць. Як толькі яна махнула рукой і зірнула на супыняльніка крыві, той, здаецца, імгненна ператварыўся ў пыл пад яе шырокімі смуглымі нагамі. Зразумела, гэта быў нізкародны валагон, які не ўмеў ні чытаць, ні пісаць. Ён стаяў з жывёльна разяўленым ротам і тупым выразам на твары, сагнуўшыся і бездапаможна звесіўшы рукі. Ён не меў ніякіх заслуг, ані талентаў, але меў прыродную здольнасць спыняць крывацёк толькі сваёю прысутнасцю, дзеля чаго яго ўзялі ад сахі і быкоў платным служыцелем у храм. Нягледзячы на ўсе ачышчальныя працэдуры вакол яго заўсёды адчуваўся невынішчальны пах гною, і сам ён не мог сказаць нічога пра гэтую сваю здольнасць, як не мог і растлумачыць адкуль яна ўзялася. Гэта не было майстэрствам, ані вынікам трэніроўкі сілы волі. Гэта было ў ім, як каштоўны камень можа быць у кучы друзу, і гэтую здольнасць нельга было набыць ніякім вучэннем і ніякім практыкаваннем.

— Я не дазволю яму дакрануцца да божышча, — сказала Тэйе. — Калі трэба, я сама патрымаю галаву бога.

Птахор паспрабаваў запярэчыць, кажучы, што аперацыя будзе крывавай і непрыемнай, але боская фараонава жонка села на край ложка і беражліва падняла галаву свайго мужа, не зважаючы на сліну, што бесперапынна капала ёй на рукі.

— Ён мой, — прамовіла царыца, — і хай ніхто іншы не дакранаецца да яго. З маіх абдымкаў ён пяройдзе ў Царства мёртвых.

— Дык хай жа ён, бог, узыдзе на човен сонца, свайго бацькі, і плыве проста ў Краіну шчасця, — казаў Птахор, разразаючы крамянёвым нажом скуру на галаве фараона. — Ад сонца ён нарадзіўся і вернецца да сонца, і хай узнясуць у славе яго імя ўсе народы на вечныя часы. У імя Сэта і ўсіх злых сілаў, чаго чакае супыняльнік крыві!

Ён знарок гаварыў што папала, каб адцягнуць увагу царскай жонкі ад самой аперацыі. Так спрактыкаваны лекар прамаўляе да хворага, якому прычыняе боль. Нарэшце ён сярдзіта рыкнуў на супыняльніка крыві — той стаяў з дрымотна прыплюшчанымі вачыма, абапёршыся на вушак, — бо кроў пачала заліваць фараону галаву і нават пацякла на адзенне царскай жонкі, ад чаго тая скаланулася, і яе твар стаў жоўта-шэрым. Супыняльнік крыві схамянуўся і адарваўся ад сваіх думак. Напэўна, ён задумаўся пра быкоў ды арашальныя канавы і, толькі цяпер успомніўшы свой абавязак, падышоў бліжэй. Ён узняў рукі і ўперыўся позіркам у фараона. Кроў адразу перастала, і я абмыў галаву.

— Выбачайце, уладарыня, — сказаў Птахор і ўзяў з маёй рукі свярдзёлак. — Вядома, ён скіруецца проста да свайго сонечнага бацькі ў залатым чоўне, хай блаславіць яго Амон.

Кажучы гэта, ён па-майстэрску спрытна круціў свярдзёлак у далонях, і той з храбусценнем уваходзіў у косць. Тут наследнік выступіў наперад і, уздрыгваючы тварам, прамовіў:

— Не Амон, а Рахерахці, што з'яўляецца нам у вобразе Атона, блаславіць яго.

Я пачціва ўзняў рукі, хоць і не ведаў, пра што ён кажа, бо хто можа ведаць ё ўвесь тысячны сойм егіпецкіх багоў? І менш за ўсё гэта вядома пасвячэнцу Амона ніжэйшай ступені, якому і без таго хапіла клопату разабрацца хоць бы з усімі святымі тройцамі ды дзевяціцамі.

— Ну, вядома, Атон, — прымірэнча мармытаў Птахор. — Вядома, Атон. Як гэта ў мяне язык павярнуўся? — Ён зноў узяў крамянёвы нож і малаток з эбенавай ручкай і, ціха пастукваючы, пачаў аддзяляць косць. — І праўда, я памятаю, што ён у сваёй боскай мудрасці пабудаваў храм Атону. Гэта, здаецца, было неўзабаве пасля нараджэння прынца, ці не так, чароўная Тэйе? Ну вось, яшчэ хвіліначку...

Ён занепакоена паглядзеў на наследніка, што стаяў каля ложка, сціснуўшы кулакі. Яго твар сутаргава торгаўся.

— Па праўдзе, зараз было б нядрэнна выпіць крыху віна, гэта ўмацуе маю руку, дый прынцу гэта не пашкодзіла б. А на заканчэнне варта было б зламаць пячатку на гарлачы з царскім віном. Хоп!

Я падаў яму абцугі і ён з хрустам аддзяліў косць.

— Пасвяці, Сінухе.

Птахор з палёгкай уздыхнуў, бо самае дрэннае мінулася. Я таксама міжволі ўздыхнуў, здаецца, гэтае пачуццё палёгкі перадалося і непрытомнаму фараону, бо яго члены варухнуліся, дыханне запаволілася, і ён яшчэ больш паглыбіўся ў забыццё. Мазгавое рэчыва было шэра-сіняга колеру і пацепвалася.



— Хм-м-м, — сказаў Птахор. — Што зроблена — тое зроблена, а далей хай аб ім клапоціцца ягоны Атон, бо гэта ўжо справа не людзей, а багоў.

Лёгка і асцярожна ён уставіў выразаную косць на сваё месца, замазаў шчыліну клеем, нацягнуў на яе скуру і перавязаў рану. Царская жонка апусціла галаву фараона на разное падгалоўе з каштоўнага дрэва і пытальна паглядзела на Птахора. Кроў засохла на яе руках і адзенні, але жанчына не звяртала на гэта ўвагі. Птахор бясстрашна сустрэў яе позірк і, нават не схіліўшыся ў паклоне, сказаў нізкім голасам:

— Ён дажыве да світання, калі дазволіць ягоны бог.

Потым ён узняў рукі ў знак жальбы, і я зрабіў тое самае. Але калі Птахор узняў рукі другі раз у знак спачування і спагады, я не адважыўся паўтарыць гэты жэст, бо хто я такі, каб выказваць шкадаванне царскай асобе. Я ачысціў на агні інструменты і паклаў іх назад у Птахораў эбенавы куфэрак.

— Ты атрымаеш вялікія дары, — сказала Вялікая царская жонка і зрабіла рукой знак, што мы можам ісці.

Нам падалі абед у адной з царскіх залаў, і Птахор павесялеў, калі ўбачыў ля сцяны цэлы шэраг гарлачоў з віном. Ён уважліва прачытаў надпіс на пячатцы і загадаў адкаркаваць адзін з гарлачоў, пасля чаго раб паліў нам на рукі. Я спытаў у Птахора, як ён адважыўся гэтак непачціва размаўляць з наследнікам і царскаю жонкай.

— Фараон, сапраўды, — бог пры жыцці, — адказаў Птахор і ўсміхнуўся, ад чаго стаў падобны да старога павіяна. — Яму ў пашану, сапраўды, узводзяць храмы і прыносяць ахвяры нават на краі зямлі, але ты, як лекар, бачыў, што фараон — усяго толькі чалавек, смяротны і падобны да нас. І вялікая царская жонка таксама чалавек з усімі жаночымі рысамі. Мае прамовы — усяго толькі зык мухі ў вушах уладароў, і калі б я зыкаў гэтак сама, як зыкаюць астатнія мухі, ніхто з уладарных асобаў не схіліў бы да мяне сваё вуха. А так яны кажуць: «Птахор чалавек дзіўны, але сумленны. Даруем яму ягоныя дзівацтвы дзеля яго старасці і добрых намераў». І яны памятаюць мяне і даюць мне каштоўныя дарункі. Памятай і ты: калі хочаш, каб уладар пачуў твае словы, гавары з ім не так, як усе, а звяртайся, як да сабе падобнага. Тады ён або пачуе твае словы, або загадае выгнаць цябе палкамі з палаца, але ў любым выпадку цябе ён запомніць. А гэта вялікая справа, калі ўладар памятае пра свайго падданага.

Птахор выпіў віна і павесялеў. Супыняльнік крыві прагна піхаў рукамі ў рот мядовае мяса і, забыўшыся на сваю дрымоту, прыгаворваў:

— Мы тут не ў глінянай хаціне.

Ён таксама піў віно, але жлукціў яго столькі, быццам гэта было звычайнае піва, і вельмі хутка вочы ў яго заблішчалі, а твар счырванеў. Ён увесь час паўтараў:

— Не, гэта табе не ў глінянай хаціне.

Раб зноў паліў яму на рукі, і ён паласкаўся так заўзята, што пырскі ляцелі па ўсёй зале. Птахор добразычліва зірнуў на яго і параіў пайсці паглядзець царскія стайні, калі ўжо выпала такая магчымасць: мы ўсё адно не маглі пакінуць палац, пакуль фараон не выпусціць дух ці не паправіцца. Такі быў звычай. А калі фараон памрэ, нам належала засведчыць смерць.

Супыняльнік крыві прыняў навіну блізка да сэрца і зажурыўся. Але потым узрадаваўся, што фараон усё-ткі памрэ не ў глінянай хаціне, і пайшоў глядзець стайні. Клікнуўшы раба, які мусіў суправаджаць супыняльніка крыві, Птахор сказаў, што лепей бы ён там і заначаваў — ён будзе сябе адчуваць там, як дома.

Калі мы засталіся сам-насам, я адважыўся спытаць у Птахора пра Атона, бо напраўду не ведаў, што Аменхатэп III пабудаваў у Фівах храм гэтаму богу. Птахор растлумачыў, што Рахерахці быў родавым богам Аменхатэпаў, бо найвялікшы сярод ваяроў-фараонаў Тутмос I убачыў у пустэльні каля сфінкса сон, у якім гэты бог з'явіўся перад ім і прадказаў, што яго павянчаюць дзвюма каронамі краіны Кэмет, хоць, мяркуючы па ўсім, Тутмос у той час не меў ніякай магчымасці дабіцца ўлады — тады было многа нашмат мацнейшых наследнікаў царскага пасада. І калі ў дні маладосці Птахор падарожнічаў да пірамідаў, ён на свае вочы бачыў паміж лапамі сфінкса храм, узведзены ў памяць аб тым цудоўным з'яўленні бога Тутмосу. Храм упрыгожвалі роспісы, на якіх сам вялікі фараон распавядаў, як гэта здарылася.

З тае пары род Аменхатэпаў ушаноўваў Рахерахці, які жыў у Геліяполісе, у Ніжнім Егіпце, і з'яўляўся ў выглядзе Атона. Атон быў старадаўнім богам — нашмат старажытнейшым за Амона,— але забытым да тае пары, пакуль Боская царская жонка пасля паездкі ў Геліяполіс і ўзнясення малітваў у храме Атона не нарадзіла фараону наследніка. У гонар гэтага Атону ўзвялі ў Фівах храм, хоць яго ніхто, апроч царскай сям'і, не наведвае. Атон выступае ў храме ў выглядзе быка, які нясе на рагах сонца, а Гор — у выглядзе сокала.

— Адпаведна, наследнік з'яўляецца нябесным сынам Атона,— сказаў Птахор і выпіў віна,— бо царская жонка зачала сына пасля таго, як атрымала прадвесце ў храме Рахерахці. З Геліяполіса яна прывезла з сабой надзвычай прагнага да ўлады жраца, да якога адчувае вялікую прыхільнасць. Яго завуць Эйе, і яго жонка была карміцелькаю спадкаемцы. Эйе мае дачку, якую завуць Неферціці і якую выкармілі тыя



самыя грудзі, што і спадкаемцу. З дзяцінства яны гулялі разам у палацы, як брат і сястра, і ты можаш сабе ўявіць, што з гэтага выйдзе.

Птахор падліў сабе віна, уздыхнуў і прамовіў:

— Гэх, нішто так не прыемна старому чалавеку, як папіваць віно ды маракаваць аб справах, якія зусім яго не датычаць. О Сінухе, мой сыне, каб ты ведаў, колькі таямніц крыецца за чалом старога трэпанатара царскіх чарапоў. Можа быць, там схаваныя самыя таемныя царскія справы. Шмат хто здзіўляецца, што на жаночай палове насуперак законам лекарскай навукі хлопчыкі ніколі не нараджаюцца жывымі. А той, што цяпер ляжыць з прасвідраваным чэрапам, калі быў пры сіле, ніколі не пляваў на чашу з віном і радаваўся жыццю. Ён быў вялікі паляўнічы і за сваё жыццё ўпаляваў тысячу ільвоў і пяцьсот дзікіх буйвалаў, а колькі маладых дзяўчат ён уклаў пад балдахін свайго ложка, не злічыць, бадай, і сам наглядчык царскага гарэма. Але сын у яго толькі адзін — ад Боскай Тэйе.

Мне стала не па сабе ад выпітага віна. Я ўздыхнуў і пачаў разглядаць зялёны камень на сваім пальцы. Але Птахор працягваў бязлітасна:

— Сваю Вялікую жонку ён адшукаў падчас палявання. Кажуць, Тэйе была дачкой простага птушкалова ў трыснягах Ніла, але фараон узвысіў яе за мудрасць і акружыў пашанай яе нізкародных бацькоў, напоўніўшы самымі каштоўнымі дарункамі іх магілы. І Тэйе не працівілася яго забавам, калі ў гарэме ўсё адно ніколі не нараджалася хлопчыкаў. У гэтым ёй, далібог, шанцавала, ды так незвычайна, што й немагчыма было б паверыць, каб тое не было праўдай. Але калі той, што сёння ляжыць на смяротным ложку, трымаў у сваёй руцэ выгнутае жазло і бізун, Боская жонка заўсёды была яму ў помач. Калі ж дзеля дзяржаўных меркаванняў, каб назаўсёды пакончыць з войнамі ў Нахарыне, краіне, дзе рэкі цякуць уверх, фараон ажаніўся з дачкою цара Мітанні, Тэйе здолела пераканаць яго, што ў прынцэсы на тым месцы, куды больш за ўсё прагне трапіць жаданне мужчыны,— казліны капыт, дый ад самой прынцэсы тхне казліным смуродам. Кажуць, што ад гэтага прынцэса ўрэшце і звар'яцела.

Птахор паглядзеў на мяне, азірнуўся вакол і таропка сказаў:

— Але ты, Сінухе, ніколі не давай веры падобным байкам, бо гэта плёткі зламысных людзей, а ўсім вядома дабрыня і мудрасць Вялікай царскай жонкі і яе ўменне збіраць вакол сябе і вакол трона здольных і таленавітых людзей. І гэта праўда.

Птахор выліў некалькі кропель віна з чашы на падлогу і богабаязна ўзвёў вочы ўгору. Потым азірнуўся па бакох і засмяяўся:

— Здароў, носьбіт мухабойкі! — выгукнуў ён.— Ці ты гэта? Праходзь, сядай, ды выпі кропельку з намі. Мы ж даўно не сустракаліся.

Я ўскочыў і нізка схіліўся, датыкнуўшыся рукамі да падлогі, бо сваёю

прысутнасцю нам зрабіў гонар чалавек, які захоўваў царскую пячатку і заўсёды насіў сімвалы царскай улады праваруч ад фараона. Ён прыйшоў адзін і рэгаліі ў руцэ выглядалі зусім не ўрачыста, а на твары ляжаў адбітак гора. Па шчоках цяклі слёзы, і гэта былі шчырыя слёзы, бо ён аплакваў фараона і ўласны лёс. На мяне ён нават не глянуў, бо паводле звычаю вяльможа не павінен звяртаць увагі на ніжэйшых. Яны вакол яго — як тое паветра. Сеўшы, ён выпусціў з рук жазло і бізун, цяжка ўздыхнуў і сярдзіта прамовіў:

— Табе даруюцца многія дзівоты, лекар царскіх чарапоў, але і табе не пасуе смяяцца ў доме плачу і жальбы,— і ён зрабіў запытальны жэст рукой.

— Да рання,— адказаў Птахор.— Але калі ўжо мы не ў глінянай хаціне, як сказаў адзін мудры чалавек, дык і табе належала б выпіць з намі чашу віна, бо віно дазволена піць і ў радасці, і ў смутку. Але, сябра мой, чаму ты адзін і блукаеш, як цень? Чаму слугі і вяльможы не кружаць вакол цябе роем, як мухі каля мядовага пірага?

Захавальнік царскай пячаткі выцер слёзы і сумна ўсміхнуўся.

— Улада — гэта трысняговая сцяблінка ў руках чалавека,— сказаў ён.— Трысцінка зламаецца, але мудрая птушка своечасова пераляціць на кончык другой трысцінкі. Я, мабыць, вып'ю з табою віна, Птахор, хоць гэта і не ў маіх звычаях, але ты правільна сказаў, што віно лечыць журботнае сэрца.

— Так хутка? — спытаў Птахор. Захавальнік пячаткі развёў рукамі, паказваючы сваё бяссілле.

— Мяне не дапусцілі нават да смяротнага ложка майго ўладара,— сказаў ён.— Клянуся Амонам, няўдзячнасць — вось адплата за ўсё на гэтым свеце. Вялікая царская жонка забрала фараонаву пячатку, і ахова слухаецца толькі яе. Каля яе неадлучна знаходзіцца гэты ілжывы жрэц, а спадкаемца... праўду кажучы... спадкаемца глядзіць толькі перад сабой, нібы цяля, якога пастух цягне, куды захоча.

— Дарэчы, пра жрацоў,— сказаў Птахор, наліваючы віна захавальніку пячаткі, бо ўсе слугі, як толькі ён прыйшоў, зніклі.— Гаворачы пра жрацоў, я толькі што распавёў свайму сябру Сінухе, як некалі ў маладыя гады пабываў каля пірамідаў і, на ўзор іншых падарожнікаў, надрапаў на лапе Вялікага сфінкса сваё імя, каб яно не забылася ніколі.

Захавальнік ветліва зірнуў у маім напрамку, але мяне не заўважыў.

— Цьху, Атон! — сказаў ён і богабоязна зрабіў аберагальны знак Амона.— Уладар ужо шмат гадоў туды не завітваў, і завесы на браме ягонага храма даўно паржавелі. Але ён вырашыў запрасіць чужаземнага бога, каб той яго вылечыў. Такая была яго прыхамаць.

Ён зноў зірнуў на мяне і гэтым разам, напэўна, убачыў, бо паспяшаўся дадаць:



— Багам дазваляюцца такія прыхамаці, бо прырода багоў — сама па сабе ўжо прыхамаць.

— Але і спадкаемца гаворыць пра Атона,— зазначыў Птахор.

— Спадкаемца? — пагардліва прамовіў захавальнік пячаткі.— Спадкаемца трона — хворы вар'ят. Папомніце мае словы, не паспее фараон адправіцца ў Дом смерці, як Вялікая царская жонка прывяжа сабе бараду, апяражацца ільвіным хвастом і пачне чыніць суд з царскай каронай на галаве. Вядома, яе падбухторвае жрэц. Але можаце ёй перадаць мае словы: калі яна хоча цараваць у Егіпце, то павінна заключыць саюз з Амонам.

Ён выпіў віна, і яго вочы павільгатнелі.

— Напраўду,— сказаў ён,— у багоў шмат прыхамацяў. Я прыносіў Амону ахвяру за ахвярай, шанаваў вярхоўнага жраца, як роднага бацьку; будучы вярхоўным будаўнікам, я забудаваў увесь Егіпет храмамі Амона, а падзяку атрымаў толькі ад Сэта са злымі духамі.

Ён выпіў яшчэ і заплакаў.

— Я ўсяго толькі стары сабака,— усхліпваў ён.— Я стары верны сабака, стары аблезлы сабака. О, я быў падстаўкай пад ногі майму ўладару, і ён пяшчотна ўтоптваў маю галаву ў пыл пад сваімі нагамі.— Ён зноў выпіў, шпурнуў залаты бізун на падлогу і пачаў рваць на сабе дарагое ўбранне.— Усё наймарнейшая марнасць,— прамовіў ён.— Але ў мяне ёсць магіла, яна добра ўпарадкаваная, і яе ўжо яны не змогуць у мяне адабраць. Яны не змогуць пазбавіць мяне вечнага супакою праваруч ад майго ўладара, хоць я ўсяго толькі стары аблезлы сабака.

Ён апусціў галаву на рукі і зарыдаў. Птахор, каб супакоіць вяльможу, пачаў гладзіць яго па галаве, мацаючы па лекарскай звычцы бугры на чэрапе.

— У цябе цікавая галава,— сказаў ён.— Проста дзеля свайго майстэрства я мог бы ўскрыць яе нават бясплатна.

Захавальнік пячаткі вырваў з рук Птахора сваю галаву і спалохана паглядзеў на яго. Птахор зрабіў выгляд, што не зразумеў яго і знарок ліслівым тонам працягваў:

— Праўда, зусім бясплатна, без аніякіх тваіх дарункаў, толькі дзеля нашай старой дружбы, бо ў цябе цікавы чэрап.

Захавальнік пячаткі рэзка ўстаў, але пахіснуўся і мусіў абаперціся аб стол, ледзь стрымліваючы гнеў, але Птахор моцна трымаў яго за руку і настойліва працягваў:

— Гэта ж адно імгненне. Я зраблю ўсё вельмі чыста, і ты ўжо заўтра зможаш пайсці следам за сваім гаспадаром у Краіну Захаду.

— Ты блюзнерыш,— прамовіў захавальнік пячаткі. Ён зноў набыў вяльможны выгляд і падняў з падлогі бізун.— Ты не верыш у Амона,— сказаў ён, дзеля пэўнасці абапіраючыся на стол.— Гэта дрэнна, гэта

вельмі дрэнна. Але я дарую табе твае выхадкі, бо ўжо не маю караючай улады.

Ён пайшоў, матляючы ў левай руцэ бізуном і жазлом. Яго спіна выяўляла бясконцую стому і смутак. Як толькі захавальнік пячаткі сышоў, аднекуль адразу зноў узніклі слугі, палілі нам на рукі і нацерлі дарагім алеем.

— Сінухе, мой сыне, правядзі мяне, бо я ўжо стары і ногі ў мяне аслабелі, — сказаў Птахор.

Я вывеў яго на двор. Ноч ахінула зямлю, а на ўсходзе неба адсвечвала барвовымі водбліскамі фіванскіх агнёў. Садовыя кветкі струменілі свой водар, у небе трымцелі зоркі — усё гэта разам з выпітым віном кружыла галаву, і я зноў адчуў у крыві ліхаманкавы жар Фіваў.

— Птахор, — сказаў я, — я прагну кахання, калі ў начным небе гараць вогненныя водблескі Фіваў.

— Кахання няма, — рашуча адказаў Птахор. — Мужчына смуткуе, калі не мае жанчыны, з якою мог бы пераспаць. А калі ляжа з ёй ды пераспіць, то смуткуе яшчэ больш. Так яно было і будзе заўсёды.

— Чаму? — спытаў я.

— Гэта не ведаюць нават багі, — адказаў Птахор. — Не кажы мне пра каханне, ато я прасвідрую табе чэрап. Я зраблю гэта бясплатна і не выпрошваючы ўзнагароды, і тым самым пазбаўлю цябе ад шматлікіх пакутаў.

Тады я палічыў за лепшае выканаць абавязкі раба, падняў Птахора на рукі і занёс у адведзеныя нам пакоі. Ён быў такі стары і маленькі, што, несучы яго, я нават не задыхаўся. Я апусціў Птахора на ложак, і ён хутка заснуў, марна стараючыся адшукаць побач з сабою чашу віна. Я накрыў яго мяккімі футрамі, бо ноч была халодная, і зноў вярнуўся на квітнеючую тэрасу, таму што быў малады, а маладому не спіцца ў ноч смерці ўладара.

Да маёй тэрасы, нібы шум чароту пад ветрам, далятаў гоман людзей, якія вырашылі правесці ноч пад сценамі палаца.

## 2

Мяне ахінаў водар кветак, неба палала на ўсходзе барвовымі агнямі Фіваў, а я сядзеў на тэрасе і ўспамінаў зялёныя, як вада Ніла пад летняю спёкай, вочы, калі раптам адчуў, што я не адзін.

Вузенькі серп маладзіка толькі прарэзаўся, трапяткое зорнае святло слабела ў водблісках фіванскіх агнёў, і я не мог разгледзець, хто набліжаецца да мяне — мужчына ці жанчына. Але гэты нехта падышоў і зазірнуў мне ў твар. Я паварушыўся, і тут пачуўся па-дзіцячы звонкі, але ўладны голас:

— Гэта ты, Самотнік?



Па голасе і тонкай паставе я пазнаў наследніка і кінуўся перад ім на зямлю, не адважваючыся прамовіць ні слова. Але наследнік з прыкрасцю пхнуў мяне нагой і сказаў:

— Падымайся, не курчы з сябе дурня! Нас ніхто не бачыць, і табе не абавязкова кідацца перада мной ніцма. Зберажы свае паклоны дзеля божышча, чыім сынам я ёсць, бо гэта адзіны бог, а ўсе астатнія багі — толькі розныя формы яго ўвасаблення. Табе гэта вядома? — Не чакаючы адказу, ён на імгненне задумаўся і дадаў:

— Усе багі, за выключэннем Амона, таму што Амон ілжывы бог.

Я зрабіў адмоўны жэст і вохнуў, паказваючы, як мяне палохаюць такія словы.

— Кінь! — сказаў наследнік. — Я бачыў, як ты стаяў ля майго бацькі і падаваў нож і малаток старому дзіваку Птахору. І я назваў цябе Самотнікам. А мая маці назвала Птахора Старою малпай. Калі вам давядзецца прыняць смерць, дык, перш чым пакінуць палац, вы атрымаеце такія імёны. Але тваё імя прыдумаў я.

Я спачатку падумаў, што наследнік сапраўды хворы вар'ят і кажа абы што, але ўспомніў, што і Птахор таксама казаў, што нас чакае смерць, калі фараон памрэ, і супыняльнік крыві паверыў яму. Адрастаючыя валасы на маёй галаве заварушыліся, і я засланіўся рукой, бо не хацеў паміраць.

Наследнік стаяў побач, рукі ў яго торгаліся, і праз перарывістае гарачае дыханне чуліся словы:

— Мяне гняце непакой... Я хацеў бы апынуцца дзе заўгодна, толькі не тут... Хутка перада мной з'явіцца маё божышча, я гэта ведаю і баюся гэтага... Пабудзь са мною, Самотнік, бо, калі мой бог з'явіцца, ён сцісне сваёй сілай маё кволае цела і мой язык забаліць...

Я задрыжаў, падумаўшы, што наследнік хворы і трызніць. Але ён загадаў: «Хадзем!» — і я рушыў за ім. Мы спусціліся з тэрасы, абмінулі царскае возера, і з-за каменных муроў палаца да нас, як шум марскога прыбою, данеслася гамана засмучанага народу. Мы прайшлі паўз царскія стайні і псярні і выйшлі з палаца праз брамку для слуг, так што варта не звярнула на нас ніякай увагі. Мне было вельмі страшна, бо Птахор казаў, што, пакуль фараон не памрэ, нам нельга пакідаць палаца, але пярэчыць наследніку я не адважваўся.

Напружваючыся ўсім целам, ён, нібыта слізгаючы, ішоў так шпарка, што я ледзь паспяваў следам. На ім была толькі паяснічная павязка, і ў месячным святле было добра відаць яго белую скуру, тонкія лыткі і шырокія, як у жанчыны, клубы. Я бачыў яго адтапыраныя вушы і твар, на якім адбіваліся жарсць і пакута, быццам там, удалечыні, ён бачыў нешта недаступнае ўсім іншым.

Мы спыніліся на беразе ракі, і ён сказаў:

— Возьмем лодку. Я павінен ісці на Ўсход, насустрач свайму нябеснаму бацьку.

Не выбіраючы, ён сеў у адзін са шматлікіх трысняговых чаўноў, я ўскочыў следам, і мы пачалі веславаць упоперак цячэння. Хоць човен у нас быў крадзены, нас ніхто не спыніў. Ноч была неспакойная, па рацэ сюды-туды сноўдалі лодкі, а неба наперадзе ўсё больш барвянела ў водблісках фіванскай паланіцы. Дасягнуўшы другога берага, ён кінуў човен і, не азіраючыся, рушыў наперад, нібы ішоў гэтай дарогай не першы раз. Мне нічога не заставалася, як пайсці следам, хоць маё сэрца сціскалася ад страху. Гэтай ноччу на вуліцах было шмат людзей, бо ў Фівах ужо было вядома, што фараон памірае, а таму варта не спыніла і не аклікнула нас.

Ён нібыта хацеў знясіліць сябе шпаркай хадой, і я дзівіўся трываласці яго слабага цела. Я ледзь паспяваў за ім, і хоць ноч была даволі халодная, у мяне па спіне струменіўся пот. Становішча зорак змянілася, маладзік на небасхіле блізіўся да далягляду, а наследнік усё ішоў ды ішоў, з даліны мы падняліся да бясплоднай пустэльні, Фівы засталіся ззаду, і вось у небе на ўсходзе перад намі паўсталі тры чорныя гары, тры адвечныя ахоўнікі Фіваў. Я прыкідваў, дзе і як можна здабыць насілкі і вярнуцца ў палац, бо разумеў, што на дарогу назад сілы яму не хопіць.

Нарэшце ён апусціўся на пясок і задышліва сказаў спалоханым голасам:

— Трымай мяне, Сінухе, бо мае рукі дрыжаць і ў мяне калоціцца сэрца. Час блізіцца, сусвет спусцеў і не засталося нікога, апроч мяне і цябе, але ты не можаш пайсці са мною туды, куды я кірую. Хоць я й не хацеў бы застацца зусім адзін.

Я ўзяў яго за рукі і адчуў, што ўсё яго цела дрыжыць і торгаецца, пакрытае халодным потам. Усё вакол нас было чужым і пустым, і здалёк чуўся брэх шакала, нібы той брахаў на смерць. Зоркі паволі бляднелі, а паветра стала нейкае мёртва-шэрае. Раптам наследнік вырваўся з маіх рук, устаў і падняў твар да гор, насустрач сонцу.

— Бог набліжаецца,— ціха сказаў ён, і яго хваравіты твар загарэўся полымем самазабыцця.— Бог набліжаецца,— паўтарыў ён гучней.

— Бог набліжаецца! — выгукнуў ён у пустэльню, і ў гэтую хвіліну вакол нас успыхнула яркае святло, горы перад намі запалалі залатым агнём, і ўзышло сонца.

Тады ён пранізліва крыкнуў і, самлеўшы, я ўпаў на пясок. Яго цела закалацілася ў курчах, рот скрывіўся, ногі пачалі сутаргава мясіць пясок. Але гэтага я ўжо не баяўся: у двары Дома жыцця я ўжо не раз чуў падобныя крыкі і ведаў, што гэта і што трэба рабіць. Шкада толькі, што ў мяне не было палачкі — уставіць яму між зубоў, але я адарваў кавалак сваёй паяснічнай павязкі і, склаўшы яго ў некалькі столак, прасунуў яму ў рот, а тады пачаў расціраць наследніку мышцы. Я ведаў, што апрытомнеўшы ён адчуе сябе слабым і хваравіта стомленым, а таму пачаў азірацца, шукаючы дапамогі, але Фівы былі далёка, а паблізу не віднелася нават якой-кольвек маленькай хацінкі.



У гэты час побач са мной з пранізлівым крыкам праляцеў сокал. Ён нібы вылецеў прама з вогненных сонечных промняў і зрабіў над намі высокі круг.

Потым ён зноў апусціўся ніжэй і, здавалася, намерыўся сесці наследніку на лоб. Я быў так уражаны, што інстынктыўна зрабіў свяшчэнны знак Амона. А можа, наследнік, кажучы мне пра свайго бога, меў на ўвазе Гора, і бог з'явіўся яму ў выглядзе сокала? Наследнік застагнаў, і я нахіліўся, каб дапамагчы яму. А калі ўзняў галаву, то ўбачыў, што сокал прыняў аблічча чалавека. Перада мною ў праменях а ўзыходнага сонца стаяў прыгожы богападобны юнак. У руках ён трымаў кап'ё, а на ім была бядняцкая вопратка. Я, вядома, не надта верыў, што перада мною бог, але на ўсякі выпадак кінуўся ніц на зямлю.

— Што здарылася? — спытаў юнак гаворкай Ніжняга Егіпта і паказаў на наследніка.— Гэты хлопец хворы?

Мне зрабілася сорамна, і, я ўстаўшы на калені, я павітаўся з ім, як са звычайным зямным чалавекам.

— Калі ты рабаўнік, —сказаў я,— дык ад нас ты нічым не разжывешся, але са мной, сапраўды, хворы хлопец, а калі ты нам дапаможаш, думаю, багі цябе блаславяць.

З яго вуснаў пачуўся сакаліны крык, і аднекуль з вышыні прама яму на плячо каменем я ўпаў сокал. Я падумаў, што варта было б перасцерагчыся, бо, можа, гэта ўсё-такі бог, няхай і з самых малых. Таму я загаварыў пачціва і ветліва і папытаўся, хто ён, адкуль і куды кіруе.

— Я сын сокала Харэмхеб,— ганарліва адказаў ён.— Мае бацькі простыя сыравары, але ўпры маім нараджэнні было прадказана, што я буду загадваць многімі. Цяпер жа я проста ішоў, куды ляцеў сокал, і такім чынам апынуўся тут. У горадзе мне не знайшлося прытулку, бо з надыходам ночы фіванцы баяцца чалавека з кап'ём. А ўвогуле я збіраюся наняцца ў фараонава войска, бо кажуць, што фараон хварэе, дык, мабыць, яму патрэбны моцныя рукі на абарону ягонай улады.

Цела ў юнака было моцнае, як у маладога ільва, а позірк — пранізлівы, як смертаносная страла. І я з зайздрасцю падумаў, што знойдзецца нямала жанчын, якія скажуць яму: «Прыгажунчык, табе не хацелася б пацешыць мяне ў маёй адзіноце?»

Тут наследнік жаласна застагнаў. Ён пачаў абмацваць сабе твар, а яго ногі яшчэ сутаргава торгаліся. Я выняў у яго з роту тканіну і пашкадаваў, што не маю з сабой вады, якой яго можна было б асвяжыць. Харэмхеб паглядзеў на яго і з халоднай цікаўнасцю запытаўся:

— Ён памірае?

— Не,— раздражнёна адказаў я.— Ён хворы на свяшчэнную хваробу.

Харэмхеб паглядзеў на мяне і сціснуў кап'ё.

— Табе не варта пагарджаць мною, хоць я хаджу басанож і пакуль што бедны,— сказаў ён.— Я даволі добра пішу і чытаю і стану ўладарыць над многімі. Які бог усяліўся ў яго?

У народзе лічыцца, што вуснамі хворага на свяшчэнную хваробу гаворыць бог — таму ён і задаў такое пытанне.

— У яго свой адмысловы бог,— адказаў я.— Па-мойму, ён крыху ненармальны. Спадзяюся, калі ён апрытомнее, ты дапаможаш мне данесці яго да горада. А там знойдзем насілкі, на якіх я дастаўлю яго дамоў.

— Яму холадна,— сказаў Харэмхеб. Ён зняў з сябе плашч і накрыў ім наследніка.— Ранне ў Фівах халоднае, але ў мяне гарачая кроў, і яна грэе мяне. Апроч таго, я ведаю шмат багоў і магу назваць табе з іх нямала, якія былі да мяне прыхільныя. А мой асабісты бог — Гор. Мусіць, гэты хлопец з багатай сям'і, бо скура ў яго белая і далікатная, дый рукі ніколі не ведалі працы. А хто ты сам?

Ён гаварыў шмат і з запалам, чым выдаваў у сабе бядняцкага сын, якому давялося пераждыць па дарозе да Фіваў нямала нягодаў і людской непрыветнасці.

— Я лекар,— адказаў я.— І апроч таго, я пасвечаны ў сан малодшага жраца Амона.

— Ты, я мяркую, прывёў яго ў пустэльню, каб вылечыць,— сказаў Харэмхеб.— Але табе варта было б яго апрануць цяплей. Толькі не падумай, што я сумняваюся ў тваім лекарскім майстэрстве,— ветліва дадаў ён.

Халодны чырвоны пясок палаў у промнях а ўзыходнага сонца, наканечнік Харэмхебава кап'я пабліскваў барвовым полымем, і над намі з крыкам кружыў сокал. Наследнік сеў, зубы ў яго ляскалі, ён ціха стагнаў і здзіўлена азіраўся.

— Я бачыў Яго,— нарэшце абвясціў ён.— Гэтае імгненне цягнулася, як цэлае стагоддзе, я не меў узросту, і Ён прасцёр над маёй галавою тысячу рук, каб мяне блаславіць, і ў кожнай руцэ працягваў адвечны знак жыцця. Як мне Яму не верыць?

— Спадзяюся, ты не параніў язык,— заклапочана спытаў я.— Я стараўся цябе ўберагчы, але ў мяне не было палачкі, каб уставіць табе між зубамі.

Але мой голас у яго вушах быў падобны да зыку мухі. Ён зірнуў на Харэмхеба вялікімі бліскучымі вачыма, і ўсмешка здзіўлення ўпрыгожыла яго твар.

— Цябе паслаў Атон, Адзіны? — крыху збянтэжаным голасам спытаў наследнік.



— Мой сокал паказваў мне шлях, а я ішоў следам,— адказаў Харэмхеб.— Так я і апынуўся тут, а больш я нічога не ведаю.

Тут наследнік згледзеў ё ў руках Харэмхеба кап'ё і нахмурыўся.

— У цябе кап'ё,— з дакорам прамовіў ён.

Падняўшы кап'ё, Харэмхеб сказаў:

— Яго дрэўка з выдатнай драўніны, а наканечнік з каванай медзі прагне крыві фараонавых ворагаў. Маё кап'ё згарае ад смагі, а імя яму — Гарларэз.

— Не трэба крыві,— адказаў наследнік.— Кроў жахае Атона. Няма нічога страшнейшага за патокі крыві.

Яшчэ калі Птахор ускрываў фараонаў чэрап, я заўважыў, як наследнік шчыльна заплюшчыў вочы, але тады я не ведаў, што ён — адзін з тых, хто баіцца крыві і, пабачыўшы яе, можа нават знепрытомнець

— Кроў ачышчае народы і дазваляе ім стаць мацнейшымі,— адказаў Харэмхеб.— Багі мажнеюць ад крыві і мацуюць ёю сваё здароўе. Пакуль будуць войны, датуль будзе ліцца кроў.

— Больш ніколі не будзе войнаў,— запярэчыў наследнік.

— Хлопец, напэўна, з'ехаў з глузду,— засмяяўся Харэмхеб.— Войны былі і будуць заўсёды, бо вайна — адзіны сродак выпрабавання жыццёвай моцы народаў.

— Усе народы — Ягоныя дзеці, усе мовы і колеры скуры, Чорная і Чырвоная землі — роўныя,— прамовіў наследнік і паглядзеў на сонца.— Я ўзвяду Яго храмы ва ўсіх краінах і пашлю сімвалы жыцця ўладарам усіх земляў, бо я Ім народжаны, я бачыў Яго і да Яго вярнуся.

— Ён сапраўды вар'ят,— сказаў мне Харэмхеб, спачувальна трасучы галавой.— Цяпер я разумею, што яго трэба лячыць.

— Яго бог толькі што з'явіўся яму,— сур'ёзна прамовіў я, жадаючы перасцерагчы Харэмхеба, які ўжо тады прыйшоўся мне даспадобы.— Свяшчэнная хвароба дазволіла яму ўбачыць свайго бога, і не нам судзіць тое, што сказаў яму бог. Кожны шукае дапамогі ў сваёй веры.

— Я веру толькі свайму кап'ю ды сокалу,— адказаў Харэмхеб.

Але ў гэты момант наследнік узняў рукі, вітаючы сонца, і яго твар раптам стаў прыгожы і натхнёны, быццам ён убачыў зусім не той свет, які быў вакол нас. Не перашкаджаючы, мы далі яму памаліцца і потым павялі да горада. Ён не супраціўляўся. Прыпадак да такой ступені яго знясіліў, што ён ледзь перастаўляў ногі, хістаўся і ціха стагнаў. Урэшце мы панеслі яго, сплёўшы нашыя рукі, а сокал ляцеў наперадзе.

Здалёк убачыўшы край засеянага поля, куды даходзілі арашальныя канавы, мы ўбачылі, што нас там ужо чакаюць царскія насілкі. Рабы адразу кінуліся на зямлю, а з насілак насустрач нам вылез высакарослы жрэц з паголенай галавой і змрочным смуглявым тварам. Я схіліўся перад ім, апусціўшы да каленяў рукі, бо, мяркуючы па тым, што распа-

вядаў Птахор, гэта быў Эйе, жрэц Рахерахці. Але ён не звярнуў на мяне ніякай увагі. Распасцёршыся перад наследнікам, ён павітаў яго, як уладара. І я зразумеў, што фараон Аменхатэп III памёр. Тады рабы кінуліся дапамагаць фараону. Яго памылі, расцерлі яму стомленыя рукі і ногі і памазалі духмяным алеем. Потым апранулі ў царскія строі з тонкага ільну, а надзелі на галаву царскі галаўны ўбор. Пакуль усё гэта адбывалася, Эйе спытаў у мяне:

— Ну, дык ці сустрэў ён свайго бога, Сінухе?

— Сустрэў,— адказаў я.— Я аберагаў яго, каб не здарылася нічога дрэннага. Але адкуль ты ведаеш маё імя?

Ён усміхнуўся і адказаў:

— Мая задача і ёсць ведаць усё, што адбываецца ў палацы, пакуль не надыдзе мой час. Я ведаю тваё імя і ведаю, што ты лекар. Таму я і дазволіў табе аб ім паклапаціцца. Але я ведаю таксама, што ты жрэц Амона і прынёс яму клятву,— ён прамовіў гэта з падкрэсленай пагрозай.

Я развёў рукамі і спытаў:

— Якое значэнне мае клятва Амону?

— Ты ўсё зрабіў правільна,— адказаў жрэц,— і не шкадуй аб гэтым. Проста ведай, што ён заўсёды робіцца неспакойны, калі бог набліжаецца да яго. Тады нішто не можа ўтрымаць яго на месцы, і ён не дазваляе ісці за сабой нават ахоўнікам. Тым не менш, усю гэтую ноч вам не пагражала ніякая небяспека. Толькі вось адкуль узяўся гэты кап'ёўшчык? — спытаў Эйе, паказваючы на Харэмхеба, які стаяў воддаль з кап'ём у руцэ і сокалам на плячы.— Можа, лепей, каб ён памёр, бо фараонавы тайны не павінны быць шырока вядомыя.

— Ён накрыў фараона сваім плашчом, калі было холадна,— адказаў я.— Ён гатовы ўзняць кап'ё супраць фараонавых ворагаў. Я думаю, ад яго жывога вам будзе болей карысці, чым ад нябожчыка.

Тады Эйе зняў з рукі бранзалет і няўважна кінуў яго Харэмхебу.

— Можаш як-небудзь завітаць у Залаты палац, каб пабачыць мяне, кап'ёўшчык.

Але Харэмхеб дазволіў бранзалету ўпасці ў пясок пад нагамі і паглядзеў на жраца з пагардай.

— Я выконваю толькі загады вялікага фараона,— сказаў ён.— І калі не памыляюся, фараон — гэта той, хто сядзіць у царскай кароне. Сокал прывёў мяне да яго, і мне дастаткова гэтага знаку.

Эйе нават не раззлаваўся.

— Золата — рэч дарагая і заўсёды патрэбная,— сказаў ён і, падняўшы з пяску залаты бранзалет, зноў надзеў яго сабе на прыцэўку.— Пакланіся ж свайму фараону. Толькі кап'ё табе давядзецца аддаць, калі хочаш пайсці за ім.

Наследнік падышоў да нас. Твар у яго быў бледны і стомлены, але сам ён увесь свяціўся натхненнем і незвычайнаю радасцю, што вельмі парадавала маё сэрца.



— Так, ідзіце за мной! — сказаў ён.— Ідзіце за мной па новым шляху, бо мне адкрылася ісціна.

Мы рушылі за ім да насілак, а Харэмхеб буркнуў сабе пад нос:

— Ісціна — у кап'і.

І ўсё ж ён згадзіўся перадаць кап'ё ахоўніку, які бег перад насілкамі. Нам дазволілі сесці на аглоблі, і мы рушылі. Насільшчыкі беглі на ўвесь дых, каля прыстані нас чакала лодка, і мы вярнуліся ў палац, не прыцягваючы нічыёй увагі, хоць народ тоўпіўся ля муроў царскага палаца.

Нам дазволілі ўвайсці ў пакоі наследніка, і ён паказаў нам вялікія амфары з Крыта, распісаныя рыбамі і жывёламі, якія здаваліся жывымі на глінянай паверхні. Мне хацелася, каб гэтыя роспісы пабачыў Тутмес, бо яны сведчылі, што мастацтва можа быць не такім, як у Егіпце. Стомлены наследнік супакоіўся, ён гаварыў ужо разумна і паводзіў сябе з намі, як звычайны наш аднагодак, не патрабуючы асаблівай пашаны і залішніх знакаў пакорлівасці. Потым абвясцілі, што Боская фараонава маці ідзе пакланіцца маладому ўладару, і той развітаўся, паабяцаўшы пра нас не забываць. Калі мы выйшлі, Харэмхеб разгублена зірнуў на мяне:

— Я вельмі хвалююся. І мне няма куды ісці.

— Дык заставайся тут,— параіў я.— Фараон абяцаў пра цябе не забываць, але лепш быць паблізу, бо ў багоў памяць дрэнная.

— Нашто мне заставацца сярод гэтых мух,— сказаў ён, паказваючы на рой прыдворных, якія гудзелі нібы сапраўдныя мухі ля дзвярэй у пакоі наследніка.— Не, для хвалявання ў мяне іншая, сапраўдная прычына,— змрочна абвясціў ён.— Што будзе з Егіптам, калі яго фараон баіцца крыві і лічыць, што ўсе народы, мовы і колеры скуры — роўныя? Я народжаны воінам, і розум воіна кажа мне, што гэты шлях нічога добрага воінам не прадвяшчае. Ва ўсякім выпадку пайду я лепш пашукаю сваё кап'ё. Яно ў таго ахоўніка, што бег наперадзе.

Развітваючыся, я сказаў Харэмхебу, што, калі яму спатрэбіцца сябар, ён зможа знайсці мяне ў Доме жыцця.

Птахор чакаў мяне ў нашым пакоі з пачырванелымі вачыма і незадаволеным выглядам.

— Чаму цябе не было на досвітку, калі фараон зрабіў свой апошні ўздых? — сказаў ён з папрокам у голасе.— Цябе не было, а я спаў, і ніхто з нас не ўбачыў, як фараонава душа ў выглядзе птушкі вылецела праз яго нос і паляцела проста да сонца, як пра тое кажуць шматлікія сведчанні. Я з вялікім задавальненнем падзівіўся б на гэта, бо вельмі люблю такія дзівосы, а ты не пабудзіў мяне. З якой дзеўкай ты праспаў усю ноч?

Я падрабязна расказаў, што са мной адбылося, і ён з жахам ускінуў рукі.

— Хай беражэ нас вялікі Амон! — усклікнуў ён. — Значыць, новы фараон сапраўды вар'ят.

— Не думаю, — запярэчыў я, бо, на дзіва, маё сэрца гарнулася да гэтага хворага юнака, якога мне давялося аберагаць уначы і які быў да мяне такі прыветны. — Па-мойму, ён проста спазнаў новага бога. Калі яму ўдасца самому разабрацца ў сваіх думках, то, магчыма, мы ўбачым у зямлі Кэмет розныя цуды.

— Крый нас Амон ад такога! — з жахам сказаў Птахор. — Лепш налі мне віна, бо глотка ў мяне так перасохла, як пыл на дарозе.

Слуга прывёў са стайняў супынялньніка крыві і той захоплена пачаў распавядаць, што коні фараона п'юць з медных сасудаў, а іх стойлы ўпрыгожаныя роспісамі і рознакаляровымі камянямі.

— А вось быкоў пабачыць не давялося, — засмучана сказаў ён. — Баюся, у фараона наогул няма быкоў. Затое пакуль я спаў на посцілцы з мяккай саломы, я ўбачыў шмат дзіўных сноў. Я бачыў, што Сінухе вядзе белую кабылу ў храм на ахвяру, потым бачыў, што мая нябожчыца-маці, як жывая, завіхаецца ля печы ў Краіне Захаду.

— Гэты сон лёгка растлумачыць, — сказаў Птахор. — Белая кабыла — гэта ты, а твая маці гатуе табе вітальную вячэру ў краіне спачылых, бо, калі не памыляюся, нам усім тром сёння наканаваная смерць.

Супыняльнік крыві скарыўся перад такой непазбежнасцю.

— Спадзяюся, у Краіне Захаду ёсць шмат вялікіх прыгожых быкоў, — сказаў ён. — Калі маці перасцерагала, каб я не ўпэцкаў адзенне, паблізу чулася мычанне вялікага статку. Ад гэтых гукаў я нават прачнуўся і адразу пачуў, што ў жываце ў мяне бурчыць, а паясьнічная павязка ўся мокрая. Гэта ўсё праз віно. Я не прывык яго піць, піва мне больш даспадобы.

Ён нагаварыў яшчэ шмат рознага глупства, пакуль нас не павялі ў Дом правасуддзя, дзе стары захавальнік пячаткі сядзеў у крэсле перад сарака скуранымі скруткамі, на якіх былі напісаныя законы. Каб мы не маглі ўцячы, абапал нас сталі ўзброеныя воіны, а захавальнік пячаткі пачаў чытаць са скруткаў законы і абвясціў, што нам таксама належыць прыняць смерць, бо пасля ўскрыцця чэрапа фараон не паправіўся. Я паглядзеў на Птахора, але ён толькі ўсміхнуўся, калі з'явіўся кат з мечам.

— Пачніце з супыняльніка крыві, — сказаў Птахор, — ён спяшаецца больш: яго маці ўжо гатуе яму гарохавую кашу ў Краіне Захаду.

Супыняльнік крыві па-сяброўску развітаўся з намі, зрабіў свяшчэнны знак Амона і пакорліва ўкленчыў перад скуранымі скруткамі. Кат рэзка — так, што ажно пачуўся прарэзлівы свіст, — занёс над яго галавою меч але потым, стрымаўшы ўдар, паволі апусціў яго і ледзь дакрануўся да



шыі асуджанага. Але супыняльнік усё адно ўпаў на падлогу, і мы падумалі, што ён проста самлеў, бо на шыі ў яго не было ніводнае драпіны.

Калі падышла мая чарга, я бязбоязна ўкленчыў, а кат, прыязна мне ўсміхнуўшыся і не жадаючы напалохаць, толькі паднес да маёй шыі меч, але нават не дакрануўся. Што да Птахора, дык той, відаць, палічыў сябе такім нізкарослым, што нават не стаў на калені, і кат проста млява махнуў над ім зброяй. Так мы «памерлі», прысуд быў здзейснены, і нам далі новыя імёны, якія выгравіравалі на цяжкіх залатых бранзалетах. На Птахоравым бранзалеце было напісана: «Падобны да павіяна», а на маім: «Самотнік». Пасля гэтага Птахору адмералі золатам яго лекарскую ўзнагароду і адважылі крыху золата мне. Нас убралі ў новыя строі, і я ўпершыню ў жыцці надзеў плісаваную спадніцу з царскага ільну і каўнер, абцяжараны срэбрам і каштоўнымі камянямі.

Але калі слугі паспрабавалі падняць з долу супыняльніка крыві і прывесці яго ў прытомнасць, аказалася, што ён нежывы. Я бачыў гэта на свае вочы і магу прысягнуцца. Але чаму ён памёр, я зразумець не магу, хіба што занадта моцна паверыў у смяротны прысуд і няўхільную смерць. Нягледзячы на сваю дурноту, ён умеў спыняць кроў, а такі чалавек не падобны да іншых.

І пры ўсеагульнай жалобе вестка пра яго дзіўную смерць разбеглася па ўсёй краіне, і кожны, хто яе чуў, не мог стрымаць рогату. Людзі ляскалі рукамі сабе па каленях і рагаталі, бо выпадак быў, сапраўды, ужо надта забаўны.

Я быў таксама палічаны афіцыйна памерлым і з гэтай пары не мог падпісаць ніводнага дакумента, не дадаўшы да імя Сінухе сваёй новай мянушкі «Самотнік». А ў палацы мяне на старое імя не называў ужо ўвогуле ніхто.

### 3

Калі я ў новых строях і з залатымі бранзалетамі вярнуўся ў Дом жыцця, настаўнікі, вітаючы мяне, нізка схіліліся і апусцілі да каленяў рукі. Але я ўсё-ткі быў навучэнцам, і таму быў абавязаны даць падрабязную справаздачу, як праходзіла ўскрыцце царскага чэрапа, і гэтак сама дакладна апісаць смерць фараона, пацвердзіўшы ўсё сваім подпісам. Гэта заняло ў мяне шмат часу, а закончыў я апісаннем, як фараонава душа ў выглядзе птушкі вылецела праз нос і паімчала проста да сонца.

У мяне ўпарта дапытваліся, ці не апрытомнеў фараон перад самаю смерцю і ці не прамовіў разам з апошнім выдыхам: «Хвала Амону!» — як гэта сцвярджалі шматлікія сведкі. Напружыўшы памяць, я ўрэшце палічыў за лепшае пацвердзіць і гэтае сведчанне, і з вялікаю радасцю потым чуў, як маё сачыненне чыталі перад народам ля храмаў на пра-

цягу сямідзесяці дзён, пакуль фараонава цела рыхтавалі ў Доме Смерці да вечнага жыцця. На ўвесь перыяд жалобы ўсе дамы ўцех, шынкі і піўныя ў Фівах былі зачыненыя, таму купіць віна і паслухаць музыку можна было, толькі трапіўшы ў іх праз чорны ход.

А калі мінула семдзесят дзён, мне абвясцілі, што я ўжо добра падрыхтаваны лекар і магу распачаць лекаванне хворых у любой частцы горада. Калі ж я хачу вучыцца далей і стаць лекарам у якой-небудзь спецыяльнай галіне — напрыклад, зубным ці вушным лекарам, акушэрам, кастаправам ці лекарам, які лечыць з дапамогай нажа, або выбраць любую іншую з чатырнаццаці галін лекарскага майстэрства, якім вучаць у Доме жыцця лепшыя знаўцы сваёй справы пад кіраўніцтвам царскіх лекараў, дык мне трэба толькі сказаць, якая мне больш даспадобы. Гэта сведчыла аб адмысловай прыхільнасці і паказвала, як шчодра Амон узнагароджвае сваіх служкаў.

Я быў малады і навукі Дома жыцця мяне больш не вабілі. Я заразіўся ліхаманкаю Фіваў, мне хацелася стаць багатым, славутым і паспець скарыстацца з таго, што імя Сінухе-Самотніка стала раптам добра вядомае. У мяне было дастаткова золата, і я купіў невялікі дом на ўскраіне багатага квартала, абсталяваў яго ў адпаведнасці са сваімі сродкамі і купіў раба, які, праўда, быў худы і аднавокі, але цалкам прыдатны, каб справіцца з абавязкамі службы.

Яго звалі Каптах, і ён мяне пераконваў, што яго аднавокасць нават пойдзе нам на карысць, бо ён будзе распавядаць хворым у чарзе, што я купіў яго сляпога, а я яму потым выратаваў адно вока. За гэта я і купіў яго. Сцены ў прыёмным пакоі, дзе павінны былі чакаць хворыя, я загадаў размаляваць карцінамі. На адной мяне, Сінухе, навучаў сам мудры Імхатэп, бог-заступнік усіх лекараў. Як таго патрабавала традыцыя, я выглядаў перад богам вельмі маленькім, але знізу быў подпіс: «Мой самы разумны і здольны вучань — Сінухе-Самотнік, сын Сэнмута». На другой карціне я прыносіў ахвяру Амону, каб аддаць вялікаму богу належнае і каб хворыя мне давяралі. А яшчэ на адной — вялікі фараон у вобразе птушкі глядзеў на мяне з нябёсаў, а ягоныя слугі важылі для мяне золата і ўскладалі на мяне новыя ўборы.

Усе гэтыя малюнкі зрабіў мне Тутмес, хоць і не быў законна прызнаным мастаком, а яго імя не было занесенае ў кнігу храма Пта. Затое ён быў маім сябрам, таму і я зрабіў яму гэты заказ. А ён, шануючы нашую дружбу, выканаў роспіс цалкам паводле старых канонаў і з такім незвычайным майстэрствам, што, зірнуўшы на зіхоткія карціны, зробленыя, аднак, простым пурпурам ды таннаю охрай, кожны ў здзіўленні ўздымаў рукі і казаў: «Відаць, сапраўды, Сінухе-Самотнік, сын Сэнмута, варты даверу і будзе па-майстэрску лячыць сваіх пацыентаў».

І вось, калі ўсё было скончана і падрыхтавана, я сеў і пачаў чакаць нявечных і хворых, каб распачаць іх лекаванне. Я доўга сядзеў у чаканні, але ніхто не прыходзіў. А калі настаў вечар, я пайшоў у вінную лаўку дадушы накупляў віна, бо ў мяне яшчэ заставалася колькі срэбра і золата са шчодрых дароў фараона. Я быў малады, лічыў сябе спрактыкаваным майстрам-лекарам, і будучыня мяне зусім не палохала. А таму разам з Тутмесам я весяліў сваё сэрца віном, і мы гучна абмяркоўвалі падзеі і справы ў абодвух землях Егіпта, бо апошнімі днямі паўсюль — на рынках, перад лаўкамі гандляроў, у шынках і ў дамах уцех — толькі пра гэта і гаманілі.



Усё паварочвалася так, як і прадказваў стары захавальнік царскай пячаткі. Калі цела старога фараона падрыхтавалі да вечнага жыцця і перанеслі ў магільны склеп у Даліне Цароў, а дзверы ў магільнік запячаталі царскай пячаткай, Вялікая царская маці села на трон са знакамі вышэйшай улады — з бізуном і жазлом у руках; да падбароддзя ёй, як і належыць фараону, была прывязаная барада, а стан апяразваў яшчэ адзін знак царскай улады — ільвіны хвост. Наследнік яшчэ не каранаваўся і не быў афіцыйна абвешчаны фараонам, казалі, што ён хоча ачысціцца і памаліцца багам, перш чым прыняць уладу над краінай. Аднак калі Вялікая царская маці прагнала старога захавальніка пячаткі і пасадзіла праваруч ад сябе амаль невядомага жраца Эйе, які такім чынам я ўздымаўся вышэй за самых знатных людзей у Егіпце і, заняўшы пасад перад сарака скуранымі скруткамі законаў у Доме правасуддзя, пачаў распараджацца зборшчыкамі падаткаў і царскімі будаўнікамі,— тады ўвесь храм Амона загуў, як растрывожаны вулей, і шмат дзе з'явіліся дрэнныя знакі-прадвеснікі, а багі перасталі прымаць царскія ахвяраванні. Людзі бачылі дзіўныя сны, і жрацы тлумачылі іх кожны па-свойму.

Вятры насуперак усім законам прыроды змянілі кірунак, і ў Егіпце два дні запар ліў дождж, і тавары на пристанскіх складах прамоклі і сапсаваліся, а зерне ў кучах загніла. Вада ў некаторых азёрах і сажалках непадалёк ад Фіваў ператварылася ў кроў, і вялікія натоўпы людзей хадзілі глядзець на гэтае дзіва. Аднак людзі яшчэ не адчувалі страху, бо такое было заўсёды, калі жрацы пачыналі гневацца.

У тыя часы было шмат неспакою і плётак, але наёмным воінам фараона ў кашарах — егіпцянам, сірыйцам, сарданам і неграм — прыносілі багатыя дары ад Вялікай царскае маці, а іхнім начальнікам кідалі з балкона залатыя ланцугі і іншыя ганаровыя знакі, і парадак у краіне захоўваўся. Нічога не пагражала веліччы Егіпта, бо ў Сірыі парадак падтрымлівалі размешчаныя там гарнізоны, а правіцелі Бібла, Сіміры, Сідона і Газы, якія правялі дзяцінства ля ног фараона і атрымалі выхаванне ў Залатым палацы, так смуткавалі па смерці фараона, нібы страцілі роднага бацьку, і пісалі Вялікай царскай маці пасланні, у якіх называлі сябе пылам пад яе нагамі.

Але на памежжы Нубіі, Судана і краіны Куш негры заўжды мелі звычку пачынаць войны пасля смерці старога фараона, нібыта хацелі выпрабаваць доўгацярпенне новага ўладара. Таму наменнік паўднёвых земляў, сын бога ў паўднёвых гарнізонах, пачуўшы аб смерці Аменхатэпа III, не чакаючы, сам перайшоў з войскам мяжу, спаліў шмат паселішчаў і вярнуўся з багатай здабычай: статкамі быдла, рабамі, ільвінымі хвастамі і страўсавымі пёрамі. Пасля гэтага дарогі ў краіну Куш зноў сталі бяспечныя, а зладзейскія плямёны змушаныя былі горка аплакваць смерць фараона, гледзячы на сваіх верхаводаў, павешаных дагары нагамі на мурах памежных умацаванняў.

На марскіх выспах таксама журыліся, аплакваючы смерць фараона, а ўладары Вавілона і краіны хетаў прысылалі да Вялікай царскай маці пасланні на гліняных таблічках, дзе выказвалі жальбу і спачуванне з нагоды фараонавай смерці і прасілі золата, каб паставіць у сваіх храмах выявы вялікаму Аменхатэпу III, бо гэты фараон быў ім як родны бацька і любы брат. А цар Мітанні прыслаў з Нахарына сваю дачку ў жонкі будучаму фараону, як тое самае зрабіў некалі яго бацька і як было дамоўлена з нябесным фараонам задоўга да яго смерці. Тадукіпа, як звалі прынцэсу, прыехала ў Фівы са шматлікімі слугамі, рабамі і асламі, якія везлі шмат дарагіх пажыткаў. Яна была шасцігадовым дзіцём, але наследнік узяў яе ў жонкі, бо Мітанні служыла сцяной між багатаю Сірыяй і паўночнымі краінамі, абараняючы ўсе караванныя шляхі з Двухрэчча да марскога ўзбярэжжа. Такім чынам жрацы нябеснай дачкі Амона — ільвінагаловай багіні-разбуральніцы Сэхмет страцілі радасць, і завесы на брамах іхняга храма заіржавелі.

І вось мы з Тутмесам любілі гучна абмяркоўваць усё гэта, цешачы свае сэрцы віном, слухаючы сірыйскую музыку і любуючыся на танцоўшчыц. У маёй крыві палала ліхаманка Фіваў, кожную раніцу да майго ложка падыходзіўаднавокі слуга, кланяўся мне, апускаючы да каленяў рукі, і падаваў хлеб, салёную рыбу і піва. Я ачышчаўся і садзіўся прымаць хворых, выслухоўваў іхнія скаргі і лячыў.

Але я так і не забагацеў са сваёй працы, бо наведнікаў было мала, а тыя, што прыходзілі, былі такія бедныя, што ім было лепш дапамагчы адразу, не вымушаючы траціцца на дарагія лекі, якія ўсё адно не дапамагалі, але нікому й не шкодзілі. Я вырываў зубы, перавязваў і прыпякаў язвы і раны, палягчаў боль у жываце і збіваў жар. Прыходзілі да мяне і жанчыны, якія скардзіліся на бясплоднасць і прасілі іх вылечыць; яны дзёрзка і панадна глядзелі мне ў вочы, а потым скідалі вопратку, але я раіў ім звярнуцца ў храм да жрацоў Амона, бо жаночую бясплоднасць маглі лячыць толькі яны. Хаваючы твары, да мяне прыходзілі маткі і прасілі дапамагчы іх дочкам, якія панеслі ад маракоў або чужаземных воінаў, але я не браўся дапамагаць ім, бо яны былі не такія багатыя, каб пакрыць мае страты, калі б маё імя было выкрасленае са спісаў Дома жыцця, а мяне самога выгналі б з Фіваў. А жанчынам, якія прасілі вярнуць ім былую прыгажосць, я гатаваў бясшкодныя напоі. Дапамагаў я і тым кабетам, што скардзіліся на халоднасць і абыякавасць сваіх мужоў — я даваў ім лекавыя ягады, якія яны павінны былі цішком распусціць у віне, і яны часта вярталіся пасля з падарункамі, адпаведнымі сваім сродкам, хоць былі і такія, што прыходзілі са скаргамі, што іх мужы скіравалі сваё жаданне на іншых жанчын. Але тут я ўжо дапамагчы быў бяссільны, бо лекар можа абудзіць жаданне ў мужчыны і нават прымусіць яго называць жанчыну сястрой і адорваць яе рознымі ласкамі, а вось на якую жанчыну ён скіруе сваё жаданне — гэтага лекар прадбачыць і прадказаць не можа. Я проста разлічваў, што хутчэй за ўсё ён скіруе сваё жаданне на жонку, бо звычайна яна заўжды побач, і так яно ў большасці выпадкаў і здаралася, а таму мне часцей прыносілі падарункі, а не прыходзілі скардзіцца.

Часам маткі прыходзілі з дзецьмі, і калі кабета была зусім худая, а яе дзіцё кволае, з паедзенымі мухамі вачыма, я пасылаў раба Каптаха купіць мяса і садавіны і аддаваў харчы ім. Маё багацце ад гэтага не расло, затое на другі дзень перад дзвярыма ўжо стаялі пяць ці дзесяць такіх матак з дзецьмі. Але ж я не мог дапамагчы ўсім, і тады адпраўляў іх да храма Амона, дзе пасля асабліва вялікіх ахвярапрынашэнняў, калі жрацы былі проста няздольныя з'есці ўсё, беднякам раздавалі мяса.

На сямідзесяты дзень па фараонавай смерці перад храмам было згаданае маё імя, і я думаў, што гэтая слава прынясе мне шмат багатых пацыентаў, але памыліўся. Да майго дома на насілках сапраўды прыбывалі заможныя наведнікі, але іх вабіла мая слава памочніка трэпанатара, і яны прапанавалі мне багатыя падарункі, калі я ўскрыю чэрап таму, хто стаіць між імі і багатаю спадчынай. Такім кліентам я раіў звярнуцца да царскага трэпанатара Птахора. А калі мне прыносілі невылечнага хворага, жыццё якому было толькі пакутай, я загадваў аднесці яго ў Дом жыцця, дзе яму маглі б скараціць пакуты.

Кожную ноч на вуліцах Фіваў па-ранейшаму палалі паходні і ліхтары, у дамах уцех грала музыка і неба над горадам гарэла барвамі. Я паранейшаму хацеў цешыць сваё сэрца віном, але радасць да мяне ўжо не вярталася, і каб апранацца належным чынам і набываць віно, я мусіў закласці свой дом у храме.

**4**

Ізноў настала пара разліву, і рака падступіла да самых муроў храма, а калі вада спала, зямля пырснула зеленню, птушкі пачалі віць гнёзды, на азёрах зацвіў лотас, і акацыя распусціла ў паветры свой духмяны водар. Адным такім днём да мяне завітаў Харэмхеб. Ён быў апрануты ў

царскі лён, на шыі красаваўся залаты ланцуг, а ў руках ён трымаў бізун, як знак немаленькага чына царскага военачальніка. Але кап'я ў яго ўжо не было. Я ўскінуў рукі ўгору, паказваючы, што шчыра рады бачыць сябра, і ён усміхнуўся, адказаўшы мне такім самым прывітаннем.

— Я прыйшоў спытаць у цябе парады, Сінухе-Самотнік, — сказаў ён.

— Не разумею, — здзівіўся я, — ты здаровы, як бык, смелы, як леў, і табе наўрад ці патрэбна парада лекара. Я табе не дапамагу.

— Я прыйшоў спытаць параду ў сябра, а не ў лекара, — сказаў Харэмхеб і сеў.

Аднавокі Каптах паліў яму на рукі, і я пачаставаў яго аладкамі, прысланымі мне маёй маці Кіпай, і дарагім замежным вінам, бо маё сэрца сапраўды было рада сустрэчы.

— Ты падняўся па службе, — зазначыў я, — у цябе высокі чын, і жанчыны, напэўна, прыязна ўсміхаюцца табе.

Але Харэмхеб спахмурнеў і змрочна кінуў:

— Усё гэта — дзярмо!

Ён паступова закіпаў, яго твар разгараўся, і нарэшце ён злосна прамовіў:

— Палац поўны мух. Яны засмецілі мне ўсю галаву. Вуліцы ў Фівах занадта цвёрдыя і раняць мне ногі, а сандалі намульваюць пальцы да крыві, — ён скінуў сандалі і пацёр ногі. — Я служу ў асабістай ахове, — сказаў ён, — але разам са мной у такіх самых чынах служаць дзесяцігадовыя хлапчукі, якім яшчэ не абстрыглі дзіцячыя пасмы, яны смяюцца з мяне па прычыне свайго высакародства. Іх рукі не могуць напяць лук, а меч у кожнага — проста ўпрыгожаная срэбрам і золатам цацка, прыдатная хіба што рэзаць мяса на кухні, а не праліваць кроў ворага. Яны ездзяць на калясніцах, не ўмеючы трымаць парадак, яны блытаюцца ў сваіх лейцах і налятаюць на суседнія калясніцы, счапляюцца з імі коламі. А простыя воіны п'юць віно, спяць з рабынямі з палаца, і не слухаюцца загадаў. У ваенных школах ім чытаюць даўно састарэлыя кнігі, прычым чытаюць тыя, хто сам ніколі не зведваў ні голаду, ні смагі, ні тым болей страху перад ворагам.

Ён злосна пазвінеў залатым ланцугом на шыі і працягваў:

— Што такое залатыя ланцугі ды іншыя ўзнагароды, калі яны здабытыя не ў баі, а кінутыя табе пад ногі фараонам? Царская маці прычапіла сабе на твар бараду, а на зад — ільвіны хвост, але як воін можа шанаваць у жанчыне ўладара? Ды ведаю, ведаю, — знакам спыніў ён мяне, калі я хацеў нагадаць яму, што вялікая ўладарка адправіла караблі ў краіну Пунт. — Усё павінна быць так, як было спрадвеку. Але я кажу, што за часам вялікіх фараонаў воінамі не пагарджалі так, як цяпер. Сёння, на думку фіванцаў, прафесія воіна — самая нікчэмная з усіх, і яны зачыняюць перад воінамі дзверы. Я проста марную час.



Я дарэмна трачу сваю маладосць і сілы, бо вывучаю ваеннае майстэрства пад кіраўніцтвам тых, хто з лямантам кінецца наўцёк, толькі пачуўшы баявы покліч неграў. Яны адразу самлелі б, калі б над іх вухам прасвісцела страла. Яны схаваліся б пад матчыну спадніцу, пачуўшы грукат баявых калясніцаў. Клянуся сваім сокалам, толькі на вайне расце ваярскае майстэрства і толькі ў бразгаце зброі выпрабоўваецца мужчына і высвятляецца, чаго ён варты. Таму я думаю з палаца сысці.

З гэтымі словамі ён так хвастануў бізуном па стале, што ажно чашы пападалі долу, а мой слуга выскачыў на вуліцу, шукаючы паратунку.

— Ты, мусіць, сапраўды хворы, сябра мой, Харэмхеб. — сказаў я. — Твае вочы гараць, нібы ў ліхаманцы, і цябе пакрывае пот.

— Дык няўжо я не мужчына?! — выгукнуў ён, падымаючыся, і грукнуў сябе кулаком у грудзі. — Я магу спакойна падняць кожнай рукой па здароваму рабу і сутыкнуць іх у паветры ілбамі. Я магу насіць цяжкія пакункі, як гэта даводзіцца воіну, я магу прабегчы вялікі шлях без задышкі, я не баюся ні голаду, ні смагі, ні пустэльнай спёкі. Але ўсе яны лічаць гэта чымсьці ганебным, а жанчыны Залатога палаца захапляюцца толькі маладзёнамі, якім яшчэ няма патрэбы галіць бараду. Яны захапляюцца мужчынамі з тонкімі рукамі, безвалосымі грудзьмі і шырокімі, як у жанчыны, клубамі. Ім даспадобы мужчыны, якія хаваюцца ад сонца пад парасонамі, падмалёўваюць вусны чырвоным і кідаюць пяшчотныя позіркі, шчабечучы, як птушкі на дрэвах. Да мяне ж ставяцца з пагардай за тое, што я дужы, што сонца апаліла мне скуру, а рукамі я здольны выканаць любую работу.

Ён змоўк і доўга сядзеў, утаропіўшыся перад сабою, потым выпіў віна і сказаў:

— Ты самотны, Сінухе. І я таксама самотны. Я самотны, як ніхто, бо ведаю будучыню, я ведаю, што стану ўладаром многіх народаў, і аднойчы патрэбу ўва мне адчуюць абодва царствы Егіпта. Я самотны болей за іншых, але больш не магу цярпець сваёй адзіноты, Сінухе, бо маё сэрца рассыпаецца на вогненныя іскры, маё горла сціскаецца, і я больш не магу спаць па начах.

Я быў лекарам і лічыў, што сёе-тое разумею ў мужчынах і жанчынах, а таму сказаў:

— Яна, пэўна, замужам, і муж яе строга пільнуе?

Харэмхеб зірнуў на мяне, і яго вочы так злосна бліснулі, што я паспешліва падняў з падлогі чашу і наліў яму віна. Супакоіўшыся, ён памацаў рукамі шыю і грудзі і сказаў:

— Мне трэба сыходзіць з Фіваў, бо я задыхнуся ад тутэйшага гною, а хутка мухі мяне цалкам спаскудзяць.

Потым ён паглядзеў мне ў вочы і ціхім голасам папрасіў:

— Сінухе, ты лекар. Дай мне лекаў, якія перамаглі б маё каханне.

— Ну, гэта няцяжка,— адказаў я.— Магу даць табе ягад, ты іх распусціш у віне і станеш такі гарачы і дужы, як павіян! Усе жанчыны будуць толькі стагнаць і заводзіць вочы, апынуўшыся ў тваіх абдымках. Калі хочаш, гэта няцяжка зрабіць.

— Не, не, ты няправільна мяне зразумеў, Сінухе. Сілы ў мяне хапае. А я хачу лекаў, якія вылечылі б мяне ад майго вар'яцтва. Я хачу лекаў, якія супакоілі б маё сэрца і зрабілі б яго цвёрдым, як камень.

— Такіх лекаў не бывае,— адказаў я.— Адной усмешкі і позірку зялёных вачэй дастаткова, каб зрабіць бяссільнай усю лекарскую навуку. Я сам гэта добра ведаю. Але мудрыя людзі кажуць, што адзін злы дух выганяецца другім злым духам. Не ведаю, праўда гэта ці не, але здагадваюся, што другі нячысцік можа быць мацнейшы за першага.

— Што ты маеш на ўвазе? — з запалам спытаўся ён.— Мне ўстылі ўжо словы, якія можна вывернуць і так і гэтак.

— Табе трэба знайсці другую жанчыну, якая выгнала б першую з твайго сэрца,— сказаў я.— Вось што я маю на ўвазе. У Фівах поўна прыгожых і прывабных жанчын, якія падмалёўваюць твары і апранаюцца ў танюсенькі лён. Не сумняваюся, што сярод іх абавязкова знойдзецца адна, якая прыхільна ўсміхнецца і табе. Ты малады і дужы, ты высокі і стройны, і ты носіш залаты ланцуг. Я не ведаю, што раздзяляе цябе і тую, да якой імкнецца тваё жаданне. Яна замужам? Але ніякая, нават самая высокая сцяна не можа перашкодзіць каханню. Калі душа жанчыны загараецца страсцю, яна адолее сваёй хітрасцю ўсякія перашкоды. Сведчанні гэтаму ёсць у казках абодвух царстваў. Кажуць, што жаночая вернасць падобная ветру: яна застаецца нязменнай, толькі мяняе кірунак. І яшчэ кажуць, што жаночыя прыстойнасць і дабрадзейнасць падобныя воску — яны растаюць ад гарачай ласкі. Жанчына пакутуе ад ганьбы, калі ашукваюць яе, але радасна смяецца з таго, каго ўдалося ашукаць ёй. Так было і так будзе заўсёды.

— Яна не замужам,— раздражнёна сказаў Харэмхеб.— Дарэмна ты тут кажаш пра вернасць, дабрадзейнасць і ганьбу. Яна проста не заўважае мяне, хоць я ўвесь час у яе перад вачыма. Яна не абапіраецца на маю руку, калі я падаю яе, каб дапамагчы ёй падняцца ў насілкі. Можа, яна мяне лічыць брудным, бо сонца да чарнаты выпаліла маю скуру?

— Значыць, яна з высакародных? — спытаў я.

— Нашто гаварыць пра яе,— адказаў Харэмхеб.— Яна прыгажэйшая за дзянніцу і зоркі на небе, але яна далей ад мяне, чым усе тыя зоркі. Мне лягчэй дастаць і абняць месяц, але не яе. Таму мне трэба яе забыць і пакінуць Фівы. Інакш я проста памру.

— Ты часам не загарэўся жаданнем да Вялікай маці фараона? — пажартаваў я, каб неяк развесяліць сябра.— Думаю, яна залішне старая і тоўстая, каб легчы з такім маладзёнам, як ты.



— У яе ёсць жрэц,— з пагардай сказаў Харэмхеб.— Я думаю, што яны жылі ў распусце яшчэ пры жыцці старога фараона.

Я спыніў яго перасцерагаючым жэстам:

— Відаць, ты сапраўды выпіў атруты з многіх калодзежаў на сваім шляху ў Фівы.

Не звярнуўшы на мае словы ўвагі, Харэмхеб сказаў:

— Тая, да якой імкнецца маё жаданне, падмалёўвае вусны і шчокі чырвоным, у яе авальныя цёмныя вочы, і ніхто не дакранаўся да яе цела пад царскім ільном. Яе завуць Бэкетамон, і ў яе жылах цячэ кроў фараонаў. Вось, цяпер ты ведаеш пра маё вар'яцтва, Сінухе. Але не кажы гэта нікому і не нагадвай нават мне, бо іначай я прыйду і заб'ю цябе, дзе б ты ні быў, і ўсуну тваю галаву табе паміж ног, а цела закіну на сцяну. Не вымаўляй пры мне нават яе імя, бо інакш я цябе сапраўды заб'ю.

Мяне ахапіў страх, бо гэта было напраўду жахліва: нізкародны адважыўся кідаць позіркі на дачку фараона і, мала таго, пажадаў яе ў сваім сэрцы! Таму я сказаў:

— Ніводзін просты смяротны не можа да яе дакранууцца, і толькі яе брат, наследнік фараонскага трона можа пасадзіць яе побач, як Вялікую Боскую жонку. Так павінна адбыцца, я прачытаў гэта ў вачах прынцэсы, калі бачыў яе ля смяротнага фараонава ложка,— яна глядзела толькі на свайго брата. І я ўжо тады жахнуўся, бо гэта была жанчына, цела якой не мусіў сагрэць ніводзін мужчына, і ў яе мігдалападобных вачах застылі пустэча і смерць. Таму і я скажу табе: «Ідзі прэч, сябра мой, Харэмхеб, бо Фівы не для цябе».

Але Харэмхеб нецярпліва сказаў:

— Усё гэта я добра ведаю, і нават лепш за цябе, а таму твае словы — як зыканне мухі ў маіх вушах. Вернемся лепш да таго, пра што ты нядаўна казаў як пра нейкую злую сілу. Маё сэрца сапраўды перапоўненае жаданнем, а цяпер, выпіўшы віна, я тым больш захацеў, каб мне ўсміхнулася якая-небудзь жанчына. Але строі ў яе павінны быць з царскага ільну, і на галаве мусіць быць парык, а вусны і шчокі — падведзены чырвоным. І май на ўвазе, калі яе вочы не будуць прадаўгаватыя, як месяц на небе, я таксама яе не захачу.

Я ўсміхнуўся і сказаў:

— Ты кажаш мудра. А зараз давай падумаем па-сяброўску, што табе зрабіць. Ці шмат у цябе золата?

Харэмхеб высакамерна адказаў:

— Я не прыніжуся да таго, каб узважваць сваё золата. Золата — гэта бруд пад нагамі. Але на шыі ў мяне залаты ланцуг, а на руках бранзалеты. Гэтага хопіць?

— Можа, золата і не спатрэбіцца,— адказаў я.— Можа, нават будзе

разумней, калі ты сам усміхнешся, бо жанчыны, якія апранаюцца ў царскі лён, істоты капрызлівыя, а твая ўсмешка можа якую-небудзь з іх распаліць. Няўжо ў палацы няма такіх, каб табе не траціць дарэмна сваё золата?

— Сцаць я хацеў на сцены палаца. Але я ведаю іншы спосаб. Са мной служыць адзін наёмнік з Крыта, яго завуць Кефта. Я некалі даў яму добрага выспятка за тое, што ён з мяне пасміхаўся, дык цяпер ён дужа пачаў мяне паважаць. Ён запрашаў мяне сёння з сабою на вечарыну ў нейкі дом, дзе сабяруцца высакародныя. Гэты дом стаіць ля храма багіні з кашэчаю галавой, але імя багіні я не запомніў, бо і не збіраўся туды ісці.

— Ты маеш на ўвазе багіню Баст? — сказаў я. — Я ведаю той храм і лічу, што дзеля твайго намеру гэта вельмі падыходзіць, бо легкадумным жанчынам падабаецца ўзносіць малітвы кашэчагаловаму божышчу, Яны прыносяць багатыя ахвяры, каб знайсці багатых палюбоўнікаў.

— Але я не пайду туды, калі ты не пойдзеш са мною, Сінухе, — прамовіў Харэмхеб са збянтэжаным выглядам. — Я нізкародны і ўмею толькі раздаваць грымакі ды махаць бізуном. Я не ведаю, як паводзіць сябе ў Фівах, а яшчэ менш — як трэба абыходзіцца з фіванскімі жанчынамі. Ты чалавек свецкі і нарадзіўся ў сталіцы, а таму павінен пайсці са мной.

Выпітае віно кружыла мне галаву, Харэмхебавы словы прыемна лашчылі душу, і я не захацеў прызнавацца, што ведаю жанчын яшчэ менш за яго. Пад уплывам віна я паслаў Каптаха па насілкі і, пакуль Харэмхеб дапіваў віно, каб разбудзіць адвагу ў сэрцы, дамовіўся з насільшчыкамі аб памяркоўнай цане. Але данёсшы нас да храма Баст і ўбачыўшы, што перад домам, у які мы кіраваліся, гараць паходні і лямпы, насільшчыкі пачалі гучна лаяцца і патрабаваць прыбаўкі. Урэшце Харэмхеб выцяў іх сваім бізуном, і тыя пакрыўджана падаліся прэч. Каля храмавай брамы стаялі маладыя жанчыны, якія зазыўна нам усміхаліся і запрашалі разам прынесці ахвяры. Але яны былі апранутыя не ў царскі лён, і парыкоў на іх не было, а таму мы не спынілі на іх сваёй ўвагі.

Я пайшоў наперадзе, і мы ўвайшлі ў дом, дзе ніхто не здзівіўся нашаму прыходу, а вясёлыя дзяўчаты-служанкі палілі нам на рукі, і яшчэ на тэрасе да нас данесліся пахі гарачай ежы, водар духмяных націрак і кветак. Рабы ўпрыгожылі нас вянкамі, і мы смела рушылі ў залу, бо віно абудзіла адвагу ў нашых сэрцах.

Але як толькі я ўвайшоў у залу, усё вакол для мяне знікла і мой позірк за астыў на адной жанчыне, якая ішла нам насустрач. Яна была апранутая ў тонкі царскі лён, праз які прасвечвала яе цела, і здавалася, нам насустрач плыве сама багіня. Яе галаву пакрываў важкі сіні парык, плечы і рукі зіхацелі чырванню незлічоных упрыгожанняў, куточкі вачэй былі падведзены чорным, а ніжнія павекі пакрывалі зялёныя цені.



Але яшчэ зелянейшымі былі самі яе вочы, падобныя Нілу пад летнім гарачым сонцам, і маё сэрца абарвалося, бо гэта была Нефернефернефер, тая самая жанчына, якую я аднойчы сустрэў у каланадзе вялікага храма Амона. Але яна не пазнала мяне, а толькі пытальна зірнула на нас і ўсміхнулася Харэмхебу. Той прывітальна падняў у адказ свой начальніцкі бізун. Юнак з Крыта, якога звалі Кефта, таксама заўважыў Харэмхеба і, спатыкаючыся аб зэдлі, падбег да яго, абняў і назваў сваім сябрам. На мяне ж ніхто не звярнуў увагі, і я мог спакойна любавацца на тую, каго называў сястрой свайго сэрца. Я памятаў яе больш маладою. Цяпер яе вочы ўжо не ўсміхаліся, застаючыся ўвесь час жорсткімі і халоднымі, як зялёныя камяні. Усміхаючыся аднымі вуснамі, яна позіркам дала зразумець, што заўважыла залаты ланцуг на Харэмхебавай шыі.

Гэтая сустрэча мяне так уразіла, што я адчуў слабасць у каленях. У зале было шмат іншых гасцей. Сцены тут былі распісаныя найлепшымі мастакамі, а столь трымалася на калонах у форме ліліяў. У зале былі замужнія і незамужнія жанчыны, апранутыя ў тонкі лён, паўсюль віднеліся цяжкія парыкі ды зіхцелі каштоўныя аздобы. Кабеты смяяліся і жартавалі з мужчынамі, маладымі і старымі, прыгожымі і брыдкімі, таксама абвешанымі залатымі аздобамі, у каўнярах, цяжкіх ад каштоўных камянёў, і ў залатых вышывак. Усе крычалі і смяяліся, на падлозе валяліся перакуленыя чашы і гарлачы з-пад віна, пярэсціліся затаптаныя кветкі, а сірыйскія музыкі шчыравалі так, што за іх бразготкамі нельга было разабраць ні слова. Усе ўжо выпілі шмат віна, і адной жанчыне зрабілася нават блага. Служанкі не паспелі ёй паднесці сасуд, і яна ўквэцала сабе вопратку, што яшчэ больш развесяліла прысутных, і ўсе з яе кпілі.

Кефта-крыцянін абдымаўся ўжо і са мной. Сваімі масцямі ён перапэцкаў мне ўвесь твар і называў не іначай, як сваім сябрам. І тут Нефернефернефер, зірнуўшы на мяне, сказала:

— Цябе зваць Сінухе? Я некалі ведала аднаго Сінухе. Ён таксама хацеў стаць лекарам.

— Я той самы Сінухе і ёсць, — прамовіў я, і маё цела затрымцела пад позіркам яе зялёных вачэй.

— Не, ты не той самы Сінухе, — сказала яна, адмоўна махнуўшы рукой. — Сінухе, якога ведала я, быў малады хлопец, і ў яго былі светлыя і палахлівыя як у газелі вочы. А ты ўжо сталы мужчына, і павадкі ў цябе мужчынскія, дый твар не такі гладкі, як у яго, а на пераноссі ў цябе дзве маршчыны.

Тады я паказаў ёй пярсцёнак з зялёным каменем у сябе пальцы. Але яна, недаверліва пахітаўшы галавой, сказала:

— Я, напэўна, прымаю ў сваім доме рабаўніка, бо ты, мусіць, забіў

таго Сінухе, чый позірк некалі радаваў маё сэрца. Ты забіў яго і сцягнуў з яго пальца пярсцёнак, падораны мною на ўспамін аб нашым сяброўстве. А ў дадатак і ўкраў ягонае імя. Няма больш таго Сінухе, які мне так спадабаўся.

Тады я зняў з пальца пярсцёнак і працягнуў яго жанчыне:

— То забяры свой пярсцёнак назад, а я лепш пайду, каб не псаваць табе вясёлага свята.

Але яна сказала:

— Застанься!

І як некалі раней, лёгка дакрануўшыся да маёй рукі, ціхім голасам сказала:

— Не ідзі нікуды.

Калі толькі яна гэта зрабіла, я зразумеў, што яе абдымкі апякуць мяне мацней за агонь і я ўжо ніколі не здолею быць без яе шчаслівым.

Жанчына, якая нядаўна званітавала, прапаласкала рот і выпіла зноў. Потым зняла запэцканую вопратку, скінула парык і засталася зусім голая. Яна сціснула рукамі грудзі ў лодачку, загадала рабу наліць у ямку віна і прапаноўвала адтуль піць усім, хто хацеў. Хістаючыся яна хадзіла па зале і гучна смяялася. Яна была маладая, прыгожая і гарэзлівая. Спыніўшыся каля Харэмхеба, яна прапанавала выпіць са свайго незвычайнага сасуда і яму. Харэмхеб нахіліўся і выпіў, а калі падняў галаву зноў, яго твар стаў чырвоны. Ён зірнуў жанчыне ў вочы, узяў яе за галаву рукамі і пацалаваў. Усе засмяяліся, і жанчына таксама, але потым раптам збянтэжылася і запатрабавала чыстую вопратку. Слугі апранулі яе, яна зноў усклала на галаву парык і села побач з Харэмхебам, але віна больш не піла. Сірыйскія музыкі зайгралі зноў, і я адчуў у крыві і ва ўсім целе пякучае полымя фіванскай ліхаманкі. Я зразумеў, што створаны жыць у свеце, чые дні ўжо злічаныя, але мне гэта было ўсё роўна, бо я мог сядзець побач з сястрой майго сэрца і любавацца на яе зялёныя вочы і пурпурныя вусны.

Так, дзякуючы Харэмхебу, я зноў сустрэў Нефернефернефер, але лепш бы я ніколі яе не сустракаў.

**5**

— Гэта твой дом? — спытаў я, калі яна села побач і зірнула на мяне халоднымі зялёнымі вачыма.

— Гэта мой дом,— адказала яна,— і гэта мае госці. Яны прыходзяць сюды кожны дзень, бо я не хачу быць адна.

— Ты, мусіць, вельмі багатая,— сказаў я засмучана, бо не мог сябе лічыць яе роўняй.

Але яна засмяялася, нібыта пачуўшы гаворку малога дзіцяці, і адказала словамі са старой казкі:



— Я жрыца, а не нікчэмная жанчына. Чаго ты ад мяне хочаш?

Але я не зразумеў, што яна мае на ўвазе.

— А што Метуфер? — спытаў я, бо хацеў ведаць праўду, хоць гэта было і нялёгка.

Яна ўважліва паглядзела на мяне, крыху нахмурыўшы бровы.

— Хіба ты не ведаеш, што Метуфер памёр? — спытала яна.— Ён памёр, бо патраціў грошы, якія фараон даў ягонаму бацьку на будаўніцтва храмаў. Ён памёр, а ягоны бацька перастаў быць царскім будаўніком. Ты гэтага не ведаў?

— Калі гэта праўда,— з усмешкай адказаў я,— дык я гатовы паверыць, што Амон пакараў яго за знявагу.

І я расказаў, як Метуфер са жрацом плявалі ў твар выяве Амона і мазалі сябе свяшчэнным алеем, прызначаным для націрання божышча. Яна слухала, усміхаючыся, але яе вочы заставаліся халоднымі і абыякавымі, і яна глядзела некуды ўдалячынь. Раптам яна спытала:

— Чаму ты не прыйшоў да мяне тады, Сінухе? Калі б ты мяне шукаў, то знайшоў бы. Ты зрабіў вельмі дрэнна, што прыйшоў не да мяне, а падаўся з маім пярсцёнкам да іншых жанчын.

— Я быў зусім дзіцём і, бадай што, баяўся цябе,— адказаў я.— Але ў сваіх снах я называў цябе сваёю сястрой, і ты можаш смяяцца, Нефернефернефер, але я яшчэ не спазнаў ніводнай жанчыны, я ўсё чакаў цябе.

Яна спыніла мяне жэстам і недаверліва сказала:

— Ты, мусіць, мне хлусіш, ты лічыш мяне старой і непрыгожай і проста забаўляешся, кажучы мне няпраўду.

Яна паглядзела на мяне, і вочы, як раней, засвяціліся радасцю, а маё сэрца яшчэ мацней закалацілася ад гэтага яе позірку.

— Гэта праўда, я ніколі яшчэ не дакранаўся да жанчыны. Але я хачу быць з табой шчыры і скажу, што чакаў я толькі цябе адну. Паўз мяне прамільгнула шмат усякіх жанчын — прыгожых і не вельмі, маладых і старых, разумных і дурных, але я глядзеў на іх толькі вачыма лекара, і ніводная з іх не запаліла маё сэрца жаданнем, а чаму так — я не ведаю.

І яшчэ я дадаў:

— Лягчэй за ўсё сказаць, што гэта ідзе ад твайго каменя, які ты дала мне ў знак нашай дружбы і, сама таго не ведаючы, зачаравала мяне. А можа чараўніцтвам быў дотык тваіх пяшчотных вуснаў? Але гэта не тлумачэнне. Ты можаш тысячу разоў спытаць у мяне: «Чаму?» — але адказаць табе я не змагу.

— А можа, ты ў дзяцінстве ўпаў з воза ды ўцяўся галавой аб аглоблю, і ад таго стаў такі журботны і жывеш у самоце? — насмешліва сказала яна. І дакранулася да маёй рукі так, як да мяне не дакраналася яшчэ ніводная жанчына.

Адказваць ёй не было патрэбы, яна і сама ведала, што кажа няпраўду Тады яна хуценька адвяла сваю руку і шапнула:

— Давай віп'ем разам віна ды пацешым нашыя сэрцы. Можа, я сапраўды яшчэ павесялюся з табою, Сінухе?

Мы выпілі. Рабы ўжо выносілі некаторых гасцей да насілак. Харэмхеб абдымаў жанчыну, што сядзела побач, і называў яе сястрою. А яна, я ўсміхаючыся і прыклаўшы яму палец да вуснаў, казала, што не любіць глупстваў, аб якіх ён пашкадуе ўжо на другі днём. Тады Харэмхеб падняўся з чашай у руках і выгукнуў:

— Я ніколі не пашкадую аб тым, што зрабіў і зраблю. І я буду глядзець толькі наперад і ніколі не азірнуся назад. Клянуся ў гэтым сваім сокалам і тысячамі багоў Верхняга і Ніжняга Егіпта. Хоць я не магу назваць іх усіх на імя, але хай яны пачуюць гэтую маю клятву.

Ён сарваў з шыі залаты ланцуг і хацеў павесіць яго на жанчыну, але тая адмовілася і сярдзіта сказала:

— Я прыстойная жанчына, а не вулічная самадайка.

Раззлаваная, яна ўстала і пайшла прэч, але на парозе неўпрыкмет падала Харэмхебу запрашальны знак, і той адразу рушыў за ёй. Гэтым вечарам я іх болей не бачыў.

На іх адсутнасць ніхто не звярнуў увагі, бо час быў позні і госці пачалі разыходзіцца. На развітанне ўсе стараліся выпіць як мага болей віна, хістаючыся, блукалі па зале, спатыкаліся аб зэдлі і штомоц грымелі адабранымі ў сірыйскіх музыкаў бразготкамі. П'яныя госці абдымаліся, называлі адзін аднаго братамі і сябрамі, а праз хвіліну пачыналі бойку, абзываючы «сяброў» і «братоў» свіннямі і кастратамі. Жанчына бессаромна скідалі свае парыкі і дазвалялі мужчынам лашчыць аголеныя макушкі, бо з тае пары, як багатыя і знатныя жанчыны пачалі галіць галовы, ніякая іншая ласка не распаляла так моцна мужчынскае жаданне. Некаторыя мужчыны падыходзілі і да Нефернефернефер, але тая іх адганяла. Калі ж яны рабіся занадта навязлівымі і нахабнымі, я проста наступаў ім на ногі, не зважаючы на іх знатнасць і высокае становішча, бо ўсе здорава перапілі і ніхто ўжо сябе не памятаў.

Але ж сам я віна не піў — я і так быў п'яны ад таго, што сядзеў побач з гэтай жанчынай, я быў п'яны ад дотыку яе рукі. Нарэшце яна падала знак, і рабы пачалі тушыць святло, выносіць сталы і зэдлі, падбіраць растаптаныя кветкі і вянкі і выносіць да насілак гасцей, якія пазасыналі ля глячкоў з віном. Тады я спытаў:

— Мне, напэўна, таксама пара?

Але кожнае слова пякло маё сэрца, як соль пячэ адкрытую рану. Я не хацеў яе страціць, і кожная хвіліна без яе здавалася мне безжыццёвай.

— Куды ты намерыўся ісці? — спытала яна, прыкідваючыся вельмі здзіўленай.



— Пайду, каб правесці ноч перад тваім домам, — адказаў я. — Пайду прыносіць ахвяры ў кожным храме Фіваў у падзяку багам за сустрэчу з табой, бо ўбачыўшы цябе зноў, я зноў паверыў багам. Пайду ірваць кветкі з дрэваў, каб пасыпаць імі твой шлях, калі ты выйдзеш з дома. Пайду купляць міра, каб змазаць ім завесы на тваіх дзвярах.

Але яна ўсміхнулася і сказала:

— Тады лепш не ідзі, бо кветкі і міра ў мяне ёсць. Не ідзі, бо распалены віном ты пойдзеш да іншай жанчыны, а я гэтага не хацела б.

Гэтыя словы так узрушылі мяне, што я ледзь не схапіў яе ў абдымкі, але яна ўхілілася і сказала:

— Не трэба! Я не хачу, каб бачылі слугі. Я хоць і жыву адна, але я прыстойная жанчына. Калі ты быў шчыры са мною, буду шчырай з табою і я. Мы крыху пачакаем з тым, дзеля чаго ты прыйшоў сюды, а тым часам я завяду цябе ў сад і раскажу табе казку.

Мы выйшлі ў асветлены месяцам сад, напоўнены духмяным водарам міртаў і акацыяў. Лотасы ўжо згарнулі свае кветкі на ноч, і стракатыя камяні па краях вадаёма зіхцелі ў месячным святле. Рабы палілі нам на рукі і паставілі перад намі смажанку з гусей ды садавіну ў мёдзе. Нефернефернефер сказала:

— Еш і весяліся са мною, Сінухе.

Але горла ў мяне перасохла ад страсці, і я не мог ні есці, ні піць. А яна ела са смакам, усміхаючыся і гарэзліва на мяне паглядаючы, і кожны раз у яе зялёных вачах адбівалася месячнае святло. Паеўшы, яна сказала:

— Я абяцала расказаць табе казку і раскажу, бо да рання яшчэ далёка, а спаць мне не хочацца. Гэта казка пра Сэтне і Табубуэ — жрыцу багіні Баст.

— Гэтую казку я чуў ужо сто разоў, сястра мая, — нецярпліва адказаў я. — Прыйдзі ж, каб я мог абняць цябе, і ты заснеш у маіх абдымках. Прыйдзі, сястра, бо маё цела збалелася ад жадання і, калі ты не прыйдзеш, я буду біцца галавою аб камень і крычаць ад жадання.

— Цішэй, Сінухе, цішэй, — сказала яна і пагладзіла мяне па руцэ. — Ты занадта гарачы, і я баюся цябе. А таму хачу распавесці казку, каб цябе супакоіць. Дык вось: аднойчы вельмі даўно Сэтне, сын Хэмвесе, шукаючы ў храме Тота кнігу, убачыў Табубуэ, жрыцу багіні Баст, і загарэўся да яе такім вялікім жаданнем, што паслаў слугу прапанаваць ёй дзесяць дэбенаў золата, каб яна хоць гадзінку пагадзілася павесяліцца з ім разам. Але Табубуэ сказала: «Я жрыца, а не распусная жанчына. Калі твой гаспадар сапраўды хоча таго, аб чым кажа, няхай сам прыйдзе ў мой дом, дзе ніхто нас не ўбачыць і мне не спатрэбіцца паводзіць сябе як нейкай таннай вулічнай дзеўцы». Сэтне ўзрадаваўся такому адказу і паспяшаўся ў дом Табубуэ, дзе быў сардэчна сустрэты

і пачаставаны віном. Распаліўшы сябе напоямі, Сэтне хацеў адразу аддацца таму, дзеля чаго прыйшоў, але Табубуэ спыніла яго словамі: «Ты трапіш туды, куды так імкнешся, але не забывай, што я жрыца, а не танная вулічная дзеўка. Калі ты сапраўды хочаш таго, пра што кажаш, ты павінен аддаць мне ўсё — свае грошы, маёмасць, дом і зямлю — усё, што ты маеш». Сэтне зірнуў на яе і адразу паслаў па спрактыкаванага пісара-заканазнаўцу, каб той склаў дамову, паводле якой ён, Сэтне, перадаваў усю сваю ўласнасць Табубуэ. Тады жрыца ўстала і апранулася ў царскі лён, праз які прасвечвала яе боскае цела, і ўпрыгожыла сябе каштоўнымі аздобамі. Але калі Сэтне да яе пацягнуўся, яна зноў сказала: «Ты ўжо хутка трапіш у месца сваіх жаданняў. Але я жрыца, а не танная вулічная дзеўка, а таму ты павінен выгнаць з свайго дома жонку, каб я не баялася, што ты можаш зноў вярнуцца да яе сваім сэрцам». Сэтне зірнуў на яе і паслаў рабоў выгнаць жонку з хаты. Тады Табубуэ сказала: «Ідзі ў маі пакоі і ляж на мой ложак — там ты атрымаеш сваю ўзнагароду». Узрадаваны Сэтне кінуўся ў спачывальню і лёг на ложак, чакаючы ўзнагароды, але тут увайшоў раб і сказаў: «Твае дзеці стаяць ля брамы і ў слязах шукаюць сваю маці». Але Сэтне не слухаў яго і нічога не хацеў чуць, ён хацеў аддацца таму, дзеля чаго прыйшоў у дом Табубуэ. Тады гаспадыня сказала: «Я жрыца, а не танная вулічная дзеўка, і таму падумала, што твае дзеці змогуць захацець судзіцца з маімі за тваю спадчыну. Каб такога не здарылася, ты павінен дазволіць мне забіць тваіх дзяцей». І Сэтне дазволіў ёй гэта зрабіць і выкінуць дзяцей праз акно, каб іх там пажэрлі сабакі ды кошкі. І папіваючы з Табубуэ віно, ён чуў, як жывёлы б'юцца між сабой за іх мяса.

Тут я перапыніў Нефернефернефер, бо ў мяне зноў сціснулася сэрца, як некалі ў дзяцінстве, калі я слухаў гэтую казку:

— Усё гэта толькі сон. Бо потым, лежачы на ложу Табубуэ, Сэтне пачуў яе крык і прачнуўся. Ён быў увесь гарачы, нібы толькі што выйшаў з распаленай печы, і не было на ім ні шматка адзення. Гэта быў проста сон, які забаўляючыся наслаў на яго Неферкаптах,— пра яго ёсць другая казка.

Але Нефернефернефер спакойна сказала:

— Так, Сэтне бачыў сон і прачнуўся, але шмат хто прачынаецца толькі ў Доме смерці. Сінухе, я павінна табе сказаць, што я таксама жрыца, а не якая-небудзь нікчэмная жанчына. І маё імя таксама можа быць Табубуэ.

Але калі яна пазірала на мяне, у яе вачах адбівалася месячнае святло, і я не паверыў ёй. Я пацягнуўся да яе, але яна адхілілася і спытала:

— Ці ведаеш ты, чаму выява багіні кахання Баст, мае выгляд кошкі?

— Няма мне справы ні да кошак, ні да багоў,— адказаў я, ловячы жанчыну ў абдымкі, і мае вочы дрыжэлі слязамі страсці.



Але яна зноў адвяла мае рукі і сказала:

— Ты хутка зможаш дакрануцца да майго цела і пакласці рукі на мае грудзі і ўлонне, калі гэта супакоіць цябе. Але спачатку ты мусіш мяне паслухаць, каб ведаць, што і жанчына, і страсць падобны да кошкі. У іх мяккія лапы, але яны маюць драпежныя кіпцюры, якімі бязлітасна раздзіраюць чалавека да самага сэрца. Жанчына напраўду падобна да кошкі, бо, як і кошка, адчувае асалоду, здзекуючыся са сваёй ахвяры, прычыняючы ёй пакуты, драпаючы вострымі кіпцюрамі, і такая забава ніколі не надакучвае ёй. Толькі змучыўшы да знямогі сваю ахвяру, кошка з'ядае яе і выпраўляецца на пошукі новай. Я кажу табе гэта толькі таму, што хачу быць з табою шчырай і не хачу чыніць табе ліха. Я не хачу прычыніць табе ліха ні ў якім выпадку,— паўтарыла яна, безважна ўзяла маю руку і паклала сабе на грудзі, а другую на ўлонне, ад чаго я ўвесь затрымцеў і слёзы паліліся з маіх вачэй. Але яна тут жа адштурхнула мае рукі і сказала:

— Маё імя Табубуэ, і цяпер, калі ты ведаеш гэта, ідзі прэч і не вяртайся ніколі, каб я не зрабіла табе бяды. А калі застанешся, не вінавацъ мяне ў няшчасцях, якія могуць адбыцца з табой.

Яна змоўкла, чакаючы, пакуль я пайду, але я застаўся. І тады, ціха ўздыхнуўшы, нібы ёй абрыдла гэта гульня, яна прамовіла:

— Хай будзе так! Прыйдзецца даць табе тое, чаго ты так прагнеш. Але не будзь надта палкі, бо я так стамілася, што баюся заснуць у тваіх абдымках.

Яна павяла мяне ў спачывальню. І там, легшы на ложак, зроблены са слановай косці і чорнага дрэва, скінула з сябе ўсё адзенне і раскрыла перада мною абдымкі. Мне здавалася, усё маё цела, сэрца, уся істота згараюць у гэтых абдымках. Але неўзабаве яна пачала пазяхаць і сказала:

— Я сапраўды вельмі стамілася, але цяпер веру, што ты не зведаў яшчэ ніводнай жанчыны: ты быў настолькі няўклюдны, што не прынёс мне ніякай радасці. Але юнак, які ўпершыню прыходзіць да жанчыны, сапраўды прыносіць ёй неаплатную ахвяру. Таму я не прашу ў цябе ніякага іншага падарунка. А цяпер ідзі і дай мне заснуць, ты ўжо атрымаў, што хацеў.

Калі я паспрабаваў зноў абняць і прылашчыць яе, яна рашуча мяне адштурхнула і адаслала прэч. Ідучы дадому, я адчуваў, як гарыць маё цела, як усё бурліць і звініць ува мне. І я зразумеў, што забыць яе не змагу ніколі.

## 6

На другі дзень я загадаў рабу Каптаху адаслаць усіх хворых, што сабраліся пад маімі дзвярыма, і параіць ім пашукаць іншага лекара. А сам схадзіў да цырульніка, памыўся, нацёр цела духмяным алеем і,

апрануўшыся, сабраўся ўжо ісці да Нефернефернефер, калі раптам прыйшоў Харэмхеб і затрымаў мяне.

— Мой сябра Сінухе,— паскардзіўся ён,— усё вакол зноў — тое самае дзярмо.

— Я спяшаюся,— нецярпліва паведаміў я.— Ідзі да майго раба, ён дасць табе салёнай рыбы і халоднага піва ў гліняным збане.

Я рушыў да дзвярэй, але Харэмхеб ухапіў мяне за руку, а паколькі ён быў дужэйшы, я мусіў вярнуцца, каб выслухаць ягоныя скаргі. Ён жаваў салёную рыбу, запіваў яе півам і гаварыў:

— Жанчына, з якой я ўчора пайшоў, была вельмі са мной ласкавая, але наўрад ці яна магла прапанаваць мне больш, чым самая танная рабыня,— ён хвілінку падумаў.— Праўда, цела ў яе было пяшчотнае й белае, і на п'яныя мазгі мне было прыемна слухаць, як яна енчыць пад маім націскам, але потым я падумаў, ці варта гэтак сябе натамляць дзеля такой справы? Апроч таго, яна замужам, яе муж цяпер у ад'ездзе, а калі ён вернецца, мне давядзецца яго забіць, бо іначай ён заб'е мяне.

— Ну, гэтага не трэба баяцца,— нецярпліва сказаў я.— У Фівах так рабіць не прынята. Калі ты раптам сустрэнеш яе з мужам, проста пакланіся яму, апусціўшы да каленяў рукі. Тады ён пачастуе цябе віном, дый сам нап'ецца, а ты зможаш павесяліцца з ягонай жонкай у яго ўласным ложку. Так было і так будзе, і яны абое застануцца задаволеныя: жонка — табой, а муж — жонкаю, якая дазволіла яму напіцца, не лаючыся і не катуючы бясконцымі павучаннямі, як робяць зазвычай жонкі.

— Яе муж сухарэбры, пляшывы і сквапны, як яна мне сказала,— працягваў Харэмхеб, каўтаючы піва.— Я аддаў ёй свой залаты ланцуг, бо мне золата — што пыл пад нагамі, калі яно не здабытае ў бітве. А яна мне падаравала свой парык, бо мы сапраўды былі на добрым падпітку. Але што з ім рабіць цяпер, я й не ведаю.— Харэмхеб дастаў з-пад адзення парык і пачаў няўцямна круціць яго ў руцэ. Бліскучыя валасы на парыку былі па-майстэрску пафарбаваныя ў зялёны колер.— Адно мяне засмучае — нападпітку я забыў у яе пад ложкам бізун, і цяпер воіны на вуліцы не вітаюць мяне. Як ты мяркуеш, ці можна на рынку выменяць гэты парык на вайсковы бізун? Бо я ўжо наўрад ці калі-небудзь да яе завітаю, якой бы мяккай і пяшчотнай яна ні была.

Я сказаў, што можна, і яшчэ раз нагадаў, што вельмі спяшаюся. Але Харэмхеб і не думаў сыходзіць. Ён сказаў, што ў роце ў яго такі смак, нібы ён усю ноч еў глей і, што яго верне ад жаночага паху, якім быццам наскрозь прасякнуліся яго рукі. Потым ён панюхаў мяне і вырашыў, што я таксама правёў ноч з жанчынай, бо і ад мяне тхне масцямі. Я адказаў, што проста быў у цырульніка: мне падалося надта абразлівым паставіць Нефернефернефер упоравень з ягонай кабетай. Я адчуваў,



што са мной адбылося зусім не тое, што з ім, бо ўся мая істота была нібы аплеценая залатымі ніцямі.

І відаць, я меў рацыю, бо галоўнае ўсё-ткі не ў тым, што чалавек робіць, а ў тым, што адчувае ягонае сэрца, калі ён гэта робіць.

— Ты памятаеш клятву, якую я прынёс учора? — спытаў Харэмхеб.— Праўда, я выпіў зашмат віна, але віно прасвятліла мне шмат такога, аб чым я раней не думаў. Я зразумеў, што ўсе, хто цешыцца і ганарыцца сваім багаццем і знатнасцю,— усяго толькі мухі вакол мяне. Можа, нават каханая мной прынцэса Бэкетамон — усяго толькі пыхлівая і самазадаволеная муха ў параўнанні са мною. Адзіная важная рэч — гэта ўлада. А без зброі ўлады не бывае. Так што мой сокал не памыліўся, калі зрабіў з мяне воіна.

— Улада належыць не тым, хто за яе ваюе,— сказаў я,— а тым, хто пасылае воінаў за яе біцца.

— Я не дурань,— сказаў Харэмхеб.— Але тыя, хто ўяўляе сябе ўладарамі і сядзіць на высокіх пасадах, могуць насамрэч нічым не валодаць, а сапраўдная ўлада будзе тым часам патаемна належаць зусім іншым людзям. Вось я і думаю, што рада жрацоў Амона — гэта і ёсць тая самая магутная ўлада ў Егіпце, а той жрэц, што сёння сядзіць праваруч ад Вялікай царскае маці, трымае ў руках вялікую сілу. Аднак калі б знайшоўся хто-небудзь, хто сабраў бы вялікае войска, хто павёў бы яго за сабой і прымусіў выконваць свае загады, той і стаў бы сапраўдным уладаром краіны, хай сабе нікому і невядомым.

— І ўсё-ткі які ж ты дурань! — здзівіўся я.— Бо воін перадусім мусіць паклясціся ў вернасці фараону. А фараон заўсёды стаіць вышэй за ўсіх.

— Твая праўда,— згадзіўся Харэмхеб,— воін павінен быць верны, на тым трымаецца ўвесь вайсковы парадак. Простых людзей навучаюць вернасці бізуном, а военачальнік ведае, што без вернасці няма войска, а калі вышэйшы военачальнік няверны, дык і падначалены — таксама, і тады ўсё развальваецца. І ў гэтым замінка. Але я, нягледзячы на гэта, вырашыў застацца ў Фівах і пачакаць, пакуль настане мой час. Цяпер, калі я пераспаў з жанчынай, я стаў нашмат спакайнейшы, і хоць паранейшаму кахаю сваю недасяжную, гэтае каханне ўжо суцішылася ў маім сэрцы і боль ад яго не мацнейшы за боль у страўніку. Таму я ўдзячны табе, мой сябра Сінухе, за твае добрыя парады, і калі табе раптам спатрэбяцца мае парады або дапамога, ты знойдзеш мяне ў Залатым палацы.

Харэмхеб нарэшце пайшоў на рынак выменьваць зялёны парык на бізун, а я, не жадаючы пэцкаць ногі і вопратку вулічным пылам, замовіў насілкі і загадаў насільшчыкам як мага хутчэй несці мяне да дому Нефернефернефер.

Мой аднавокі слуга Каптах занепакоена глядзеў мне ўслед і трос

галавой, бо раней удзень я ніколі не пакідаў свайго рабочага пакоя ў. Ён баяўся, што праз такое маё нядбайства ў нас больш не будзе дарункаў ад хворых. А ў маёй галаве панавала ўсяго адна думка, і ўсё маё цела гарэла агнём. Але гэты агонь быў вельмі пяшчотны.

Служанка ўпусціла мяне ў дом і правяла ў пакой да Нефернеферне-фер. Тая наводзіла прыгажосць перад люстэркам і зірнула на мяне абыякавымі і жорсткімі вачыма, падобнымі да зялёных каменьчыкаў.

— Што табе трэба, Сінухе? — спытала яна.— Твая прысутнасць мне непрыемная.

— Ты добра ведаеш, што мне трэба,— адказаў я і паспрабаваў абняць яе, памятаючы якою прыхільнай яна была гэтай ноччу. Але яна рэзка мяне адштурхнула.

— Ты што — звар'яцеў ці задумаў нядобрае, нашто замінаеш мне,— абурана сказала яна.— Хіба ты не бачыш, што мне трэба прывесці сябе ў парадак?! У Фівы прыехаў гандляр з Сідона, які прывёз знойдзеную ў грабніцы дыядэму царыцы. Я даўно ўжо хачу мець такую аздобу — якой не мае ніхто,— і гэтым вечарам мне хто-небудзь абавязкова яе падаруе. А таму я павінна паспець як след упрыгожыць твар і нацерціся духмяным алеем.

Нікольні не саромеючыся, яна распранулася і ўлягла на ложак, каб рабыня нацерла яе цела духмянымі масцямі. Ад убачанай прыгажосці маё сэрца паднялося ажно да горла, і далоні спацелі.

— Чаго ты цягнеш, Сінухе? — спытала яна, па-ранейшаму лежачы ў ложку, калі рабыня пайшла.— Чаму не сыходзіш? Мне трэба апрануцца.

І тут, няздольны больш працівіцца страсці, я кінуўся да яе, але яна так спрытна мяне адхіліла, што я нічога не змог зрабіць і заплакаў ад бяссільнай пажадлівасці. Урэшце я ціха прамовіў:

— Ты добра ведаеш, што, каб я меў сродкі, то купіў бы табе гэтую дыядэму. Я не магу дазволіць, каб да цябе дакранаўся хтось іншы. Я лепш памру.

— Праўда? — лёгка сказала яна, прыжмурыўшы вочы.— Ты, праўда, не можаш дазволіць, каб мяне абдымаў нехта іншы? А калі б я ахвяравала табе гэты дзень? Калі б я піла і ела, і весялілася з табою, Сінухе, увесь сённяшні дзень (бо заўтрашні невядомы нікому), што б ты мне даў? — Яна падняла рукі і павярнулася на ложку, зграбна выгнуўшы перад маімі вачыма. У яе на целе не было ніводнае валасінкі — ні на галаве, ні ў якім другім месцы, дзе яны звычайна растуць.

— Дык што ты мне дасі? — зноў спытала яна, пацягваючыся і запытальна гледзячы на мяне.

— Мне няма чаго табе даць,— адказаў я, азіраючыся вакол. Падлогу з лазурковага ляпісу ўпрыгожвалі ўзоры з натуральнае бірузы, а ўздоўж сцен стаяла шмат залатых вазаў.— У мяне сапраўды няма нічога такога, што я мог бы падараваць табе,— паўтарыў я і павярнуўся на аслабелых нагах, каб пайсці прэч, але яна спыніла мяне.



— Мне шкада цябе, Сінухе,— бестурботна сказала яна і зноў мякка пацягнулася ўсім целам.— Ты ўжо аддаў мне самае каштоўнае, што ў цябе было, але, на маю думку, каштоўнасць гэтага вельмі была перабольшаная. Але ў цябе ёсць дом, адзенне і прылады, якімі карыстаюцца лекары. Выходзіць, ты не такі ўжо бедны.

Мяне скаланула з галавы да ног, але я сказаў:

— Калі ты пажадаеш, усё гэта будзе тваё, Нефернефернефер. Усё гэта будзе тваё, калі ты павяселішся сёння са мною. Зрэшты, мая маёмасць каштуе не дорага, але ж дом абсталяваны для лекавання хворых, і можа, які-небудзь вучань з Дома жыцця будзе здольны даць за яго неблагую цану, калі ў ягоных бацькоў знойдуцца сродкі.

— Праўда? — спытала яна і павярнулася да мяне голай спінай, разглядаючы сябе ў люстры.— Хай будзе па-твойму. Пакліч пісарчука, хай ён напіша паперу, паводле якой я перавяду на сябе ўсю тваю ўласнасць. Бо хоць я і жыву адна, але ж я не якая-небудзь нікчэмная і распусная жанчына і павінна паклапаціцца пра сваю будучыню, калі ты, Сінухе раптам захочаш мяне пакінуць.

Я глядзеў на яе аголеную спіну, і мой язык нібыта распух у роце, маё сэрца шалёна білася, і я паспяшаўся выбегчы прэч. Я адшукаў вучонага пісара-заканазнаўцу, які не марудзячы склаў усе патрэбныя паперы і паслаў іх на захаванне ў царскі архіў. А калі я вярнуўся назад, Нефернефернефер была ўжо апранутая ў царскі лён, на яе галаве красаваўся залаціста-чырвоны парык, на шыі, руках і нагах зіхцелі цудоўныя ўпрыгожанні, а перад ганкам чакалі раскошныя насілкі.

— Усё, што ў мяне ёсць, цяпер належыць табе, Нефернефернефер, усё — тваё, нават адзенне, што на мяне надзета. Давай жа разам есці, піць і весяліцца сёння, бо заўтрашні дзень невядомы нікому.

Яна ўзяла паперу, безуважна кінула яе ў эбенавы куфэрак і прамовіла:

— На вялікі жаль, Сінухе, толькі што ў мяне пачалася жаночая штомесячная нямогласць, і я не магу аддацца табе, як мне гэтага вельмі хацелася б. Таму лепш табе зараз сысці і даць мне як след ачысціцца. Апроч таго, мне надта баліць жывот і галава вельмі цяжкая. Прыходзь якім-небудзь іншым разам, і ты атрымаеш усё, што захочаш.

Я глядзеў на яе, не могучы прамовіць ні слова, і адчуваў у сваіх грудзях смерць. Яна ў нецярпенні тупнула нагой і сярдзіта прамовіла:

— Ідзі прэч, я спяшаюся!

А калі я паспрабаваў яе абняць, сказала:

— Асцярожна, не размаж мне на твары фарбу.

Я вярнуўся дадому і пачаў парадкаваць свае рэчы, каб да прыходу новага гаспадара ўсё было падрыхтавана. Мой аднавокі раб паўсюль

хадзіў за мной следам, безупынку трасучы галавой, і яго прысутнасць пачала мяне раздражняць. Тады я злосна сказаў:

— Не хадзі за мной, я табе болей не гаспадар, цяпер табой будзе валодаць іншы. Так што пастарайся ставіцца да яго болей пачціва, чым да мяне, і не крадзі так многа, бо ў яго кіёк можа стацца болей балючым.

Тады ён пакланіўся мне да зямлі, узняў рукі ў вялікай журбе і са слязьмі сказаў:

— Не адсылай мяне прэч, мой гаспадар, бо маё старое сэрца да цябе прыкіпела і разарвецца ад гора, калі ты мяне прагоніш. Я быў заўсёды табе адданы, хоць ты вельмі малады і даверлівы, а калі я што і ўкраў, дык заўсёды разлічваў, каб украдзенае не нашкодзіла тваёй выгадзе. У пайднёвую спёку я збіваў свае старыя ногі на вуліцах, выкрыкваючы тваё імя і ўслаўляючы тваё лекарскае майстэрства, хоць рабы іншых лекараў білі мяне палкамі і шпурлялі ў мяне ссохлым валовым гноем.

Маё сэрца гарэла салёнаю ранай і ў роце, калі я глядзеў на яго, была горыч, але я расчуліўся і, кранууўшы яго за плячо, сказаў:

— Устань, Каптах. — Яго імя я ўпершыню ўбачыў у прадажнай паперы, хоць раней, каб ён не заганарыўся і не палічыў сябе маёй роўняй, ніколі не называў яго так. Звычайна я клікаў яго «раб», «дурань», «лайдак» ці «злодзей».

Пачуўшы з маіх вуснаў сваё імя, ён заплакаў яшчэ мацней. Ён дакрануўся лбом да маіх рук і ног і паставіў маю нагу сабе на галаву, пакуль я нарэшце не раззлаваўся і не даў яму выспятка, загадваючы падняцца.

— Лямантам тут нічому ўжо не дапаможаш, — сказаў я. — Але ведай, што прадаў я цябе не са злосці, мне падабалася твая служба, хоць ты сам якраз часта выказваў нездавальненне, грукаючы дзвярыма і бразгаючы посудам на кухні, калі што было не па табе. Я не шкадую, што ты краў у мяне, бо красці ў гаспадара — гэта права раба. Так было і так будзе заўсёды. Я вымушаны быў цябе прадаць, хоць і не хацеў гэтага, бо тады ў мяне зусім нічога не заставалася б. Я прадаў дом і ўсё, чым валодаў, і нават адзенне на мне ўжо мне не належыць. Так што лямантам тут ужо не дапаможаш.

Тады Каптах устаў і пачаў дзерці пазногцямі галаву.

— Які ж сёння кепскі дзень! — заявіў ён, потым падумаў крыху і дадаў. — Ты вялікі лекар, Сінухе, хоць і зусім малады, і цэлы свет адкрыты перад табою. Лепш нам зараз скласці ўсе самыя каштоўныя рэчы, а калі цемра ўпадзе на зямлю, — уцячы. Потым мы можам схавацца на якім-небудзь караблі, калі стырнавы будзе не надта пільны, і паплысці ўніз па рацэ. У егіпецкіх землях шмат гарадоў, а калі законнікі адшукаюць цябе ці выявяць маё імя ў спісах уцеклых рабоў, мы перабярэмся яшчэ далей — у чырвоныя землі, дзе нас ніхто не ведае. Ці можам падацца на выспы ў Зялёным моры, дзе празрыстае віно і ласкавыя жанчыны. Тое ж мы знойдзем і ў землях Мітанні ці Вавілона, дзе рэкі цякуць у адваротным кірунку і дзе вельмі шануюць егіпецкіх лекараў. Там ты зможаш забагацець, а я стану слугой паважанага гаспадара. Дык паспяшайся, мой гаспадар, каб у нас было досыць часу ўсё скласці да наступлення цемры. — І ён пачаў тузаць мяне за рукаў.



— Каптах, Каптах, — адказаў я. — Не назаляй мне сваёю дурной гаворкай. У маім сэрцы і так ужо пякельная цемра, і маё цела ўжо не належыць мне. Я скуты кайданамі, хоць і нябачнымі, але болей трывалымі, чым усе мядзяныя ланцугі. Я не магу ўцячы, бо кожная хвіліна, праведзеная ўдалечыні ад Фіваў, апякала б мяне мацней за вогненную печ.

Мой слуга сеў на падлогу, бо яго ногі пакрывалі балючыя мазалі, якія я час ад часу лячыў. І тады ён сказаў:

— Мабыць, Амон адвярнуўся ад нас, што, зрэшты, не дзіўна, бо ты вельмі рэдка прыносіў яму ахвяры. І хоць я сумленна ахвяраваў яму пятую частку таго, што краў у цябе, і дзякаваў за тое, што ў мяне такі прастадушны малады гаспадар, ён усё адно і ад мяне адступіўся. Што ж рабіць!? Значыць, нам трэба памяняць бога і як мага хутчэй прынесці ахвяры новаму. Можа, ён адгоніць ад нас злыя сілы і ўсё паверне назад, да колішняга дабрабыту?

— Не вярзі абы што! — сказаў я, ужо шкадуючы, што назваў яго на імя, бо раб адразу адчуў сябе маім прыяцелем. — Твае словы мне, як зыканне мухі! Ці ты забыўся, што ў нас няма нічога, каб прынесці ў ахвяру, бо ўся наша маёмасць належыць іншаму?

— Гэта мужчына ці жанчына? — пацікавіўся Каптах.

— Жанчына, — адказаў я, бо прычынаў хаваць гэта ад яго не было.

Тады ён зноў залямантаваў і пачаў ірваць на сабе валасы:

— Лепш бы мне не радзіцца на свет! Лепш бы мая маці задушыла мяне пупавінай у час майго нараджэння. Бо няма горшай долі, чым служыць бессардэчнай жанчыне, а яна, безумоўна, бессардэчная, калі зрабіла з табой такое. Яна будзе ганяць мяне з рання да ночы на маіх старых хворых нагах, яна будзе калоць мяне шпількамі і лупцаваць палкай па старой спіне, пакуль я не закрычу і не заплачу. Вось што будзе са мной, хоць я шчыра маліўся Амону і прыносіў яму ахвяры ў падзяку за тое, што ён зрабіў мяне слугою такога маладога і неспрактыкаванага гаспадара.

— Яна зусім не бессардэчная, — сказаў я, бо настолькі страціў ужо галаву, што гатовы быў гаварыць пра Нефернефернефер нават са сваім рабом, не маючы іншага суразмоўцы, якому можна было б даверыцца. — Яна, голая ў ложку, — прыгажэйшая за маладзік, яе цела духмянае й гладкае ад алею і масцяў, а вочы зялёныя, як вада ў Ніле ў летнюю спёку. Твайму шчасцю будуць зайздросціць, Каптах, калі табе давядзецца жыць з ёю побач і дыхаць адным з ёю паветрам.

Але Каптах залямантаваў яшчэ горш:

— Яна, вядома, прадасць мяне насільшчыкам у порт ці ў каменяломні, дзе мае лёгкія ссохнуцца і кроў пацячэ з-пад пазногцяў, і я памру ў гразі, як пабіты асёл!

У сэрцы я разумеў, што ён, хутчэй за ўсё, кажа праўду, бо ў доме Нефернефернефер наўрад ці знойдзецца месца і кавалак хлеба такому, як ён. З маіх вачэй таксама паліліся слёзы, і я ўжо не ведаў, ці аплакваю яго лёс, ці плачу над сваёй доляй. Убачыўшы гэта, Каптах адразу змоўк і спалохана зірнуў на мяне. А я закрыў твар рукамі, не зважаючы, што мой раб бачыць мае слёзы. Каптах лёгка дакрануўся да маёй галавы і сумна сказаў:

— Ва ўсім толькі мая віна, бо я не змог абараніць свайго гаспадара. Але ж я не ведаў, што ён нявінны і чысты, як новая вопратка, да якой яшчэ не дакраналіся рукі прачкі. Іначай я не магу зразумець, што адбылося. Мне, праўда, заўжды было дзіўна, што мой гаспадар, вяртаючыся ноччу з шынка, ніколі не пасылаў мяне па вясёлую дзяўчыну, якая сагрэла б ягоны ложак. А жанчыны, якіх я падсылаў, каб яны перад табой распрануліся і схілілі цябе павесяліцца з імі, сыходзілі ўрэшце незадаволеныя і называлі мяне старым пацуком і гнойнай варонай. Хоць былі сярод іх маладыя і нават прыгожыя. Усе мае клопаты былі дарэмныя, і я па дурасці радаваўся, што ты, можа, ніколі не прывядзеш у дом жанчыну, якая біла б мяне па галаве ці, раззлаваўшыся, аблівала б мае ногі варам. Дурань я безгаловы! Калі ў трысняговую хату кінуць першую галавешку, яна ўмомант згарыць дашчэнту.

І яшчэ ён сказаў:

— Чаму ты пры сваёй недасведчанасці не спытаў у мяне парады, мой гаспадар? Я шмат чаго бачыў і шмат чаго ведаю ў жыцці, хоць ты пра гэта і не здагадваешся. Я таксама некалі спаў з жанчынамі і магу запэўніць, што хлеб, піва ды поўны жывот лепей, чым улонне самай прыгожай жанчыны. О, мой гаспадар, калі мужчына ідзе да жанчыны, ён павінен браць з сабой добры кіёк, іначай жанчына завалодае ім і закуе яго ў кайданы, якія ўразаюцца ў плоць, як тонкая нітка, і муляюць сэрца, як каменьчык нагу, калі трапіць у сандалі. Клянуся Амонам, лепш бы ты прыводзіў на ноч дзяўчат, мой гаспадар, тады мы ўберагліся б ад гэтага гора. А ты толькі дарэмна марнаваў час у шынках ды ў дамах уцехаў, калі нейкая жанчына за раз ператварыла цябе ў раба.

Ён гаварыў яшчэ доўга і шмат, пакуль яго словы не сталі падобныя да зыкання мухі ў маіх вушах. Нарэшце ён супакоіўся, згатаваў мне паесці і паліў на рукі, але я не мог есці, маё цела гарэла агнём, і ўвесь вечар я не думаў ні пра што іншае, апроч аднаго жадання.

Каптах тым часам добра падсілкаваўся і нават выпіў збан піва. А потым пачаў спяваць сумныя песні, рваць на сабе валасы і пасыпаць галаву попелам, пакуль не заснуў у сябе ў кухні. Я ж спаць не мог, жар пёк усё маё цела. Тады я выправіўся прайсціся ў начной цемры і доўга кружляў вакол храма Баст, пазіраючы на паходні перад домам Нефернефернефер і на вясёлых гасцей, што, спускаючыся з насілак, уваходзілі да яе ў дом. Але памятаючы пра забарону, сам я зайсці не адважыўся.



Я кружляў вакол храма Баст, і мае думкі джгалі мяне, як смертаносныя гады. Дзяўчаты тузалі мяне за рукавы, смяяліся і штосьці шапталі ў цемры, пакуль я не змучыўся так, што ў адчаі пайшоў за адной следам. Яна папрасіла ў мяне падарунак, і я аддаў ёй апошні кавалак медзі, а калі мы падышлі да сцяны храма, яна лягла на зямлю, расхінула перада мною адзенне і раскрыла абдымкі. Але я не змог нічога зрабіць, хоць і жадаў гэтага, бо зямля пад мурамі смярдзела мачой. Дзяўчына ж яшчэ доўга ішла за мною, пляvalaся і бэсціла мяне на чым свет стаіць.

Я вярнуўся дадому зняможаны, нібы мяне адхвасталі пугай. Мой ложак здаваўся мне гарачым, як печка, і я стагнаў у сне. Уранні я вымыўся, апрануўся і нацёр твар духмяным алеем, рыхтуючыся пайсці да Нефернефернефер, бо адчуваў, што зараз памру, калі не ўбачу яе і не дакрануся да яе рукі. Вочы ў Каптаха пачырванелі ад слёз і выпітага піва, ён чухаў пасыпаную попелам галаву і кінуўся перада мной на зямлю, жадаючы затрымаць, але маё сэрца як скамянела. І каб выйсці, я наступіў на яго. Хоць лепш бы мне было нікуды не хадзіць.

# ПАПІРУС ЧАЦВЁРТЫ
## Нефернеферненефер

### 1

Як толькі пачало світаць, я пайшоў да Нефернеферненефер, але яна яшчэ спала. Спалі і яе служанкі. Яны брыдка аблаялі мяне і ў дадатак аблілі памыямі за тое, што я разбудзіў іх так рана. І я сядзеў перад яе варотамі, як апошні жабрак, пакуль з дома не пачуліся галасы. Толькі тады я зноў пастукаўся ў дзверы.

Нефернеферненефер ляжала на ложку, твар у яе быў бледны і нейкі ссохлы, а зялёныя вочы памутнелі ад выпітага ўчора віна.

— Чаго ты мне назаляеш, Сінухе? — сказала яна. — Ты мне так надакучыў. Што табе трэба?

— Я хачу есці, піць і весяліцца з табой, — адказаў я з болем у сэрцы. — Ты мне сама абяцала.

— Гэта было ўчора, а сёння настаў новы дзень, — прамовіла яна ў адказ.

Рабыня зняла з яе пакамечанае адзенне і пачала ўмашчваць і расціраць гаспадыніна цела. Потым Нефернеферненефер доўга разглядала сябе ў люстра і, нафарбаваўшы твар шмінкай, узяла ў рукі дыядэму са старога золата з перлінамі і каштоўнымі камянямі, каб прымераць яе.

— Якая прыгажосць! — сказала яна. — Гэтая аздоба варта сваёй цаны, хоць я і стамілася і ўсё маё цела знемаглося так, быццам я ўсю ноч правяла ў смяротнай бойцы.

Яна пазяхнула, выпіла з кубка віна, каб падбадзёрыць натомленае цела, прапанавала віна і мне, але я быў так апантаны жаданнем, што не адчуў у віне ніякага смаку.

— Ты ўчора падманула мяне, — сказаў я, — у цябе не было ніякай жаночай нямогласці, якая перашкодзіла б табе павесяліцца са мною. — Я сказаў гэта знарок, бо яшчэ ўчора адчуваў сэрцам хлусню.

— Я памылілася, — адказала яна. — Але ж час сапраўды надышоў, і таму я вельмі занепакоеная — ці не зацяжарала я ад цябе, Сінухе? У тваіх абдымках я так аслабла, а ты быў такі палкі.

Кажучы гэта, яна ўсміхалася і кпліва паглядала на мяне, і я зразумеў, што яна проста з мяне здзекуецца.

— Гэта і ёсць, відаць, тая аздоба, якую знайшлі ў магіле сірыйскага цара, — сказаў я. — Як я памятаю, ты ўчора казала нешта такое.

— Вох, — сказала яна кволым голасам. — Дыядэма сапраўды знай-





шлася ў падгалоўі сірыйскага гандляра, але можаш не хваляваццa: ён быў тоўсты і тлусты, як парсюк, і смярдзеў цыбуляй. Я атрымала ўсё, што хацела, і не жадаю больш яго бачыць.

Яна зняла парык і карону, безуважна кінула іх на падлогу і зноў лягла ў ложак. Калі яна закінула за патыліцу рукі і пацягнулася ўсім целам, маім вачам адкрылася яе макушка, прыгожая і гладкая.

— Я стамілася да поўнай знямогі, Сінухе, — сказала яна. — А ты карыстаешся маім бездапаможным становішчам, гледзячы на мяне сваімі пажадлівымі вачыма. Табе трэба памятаць, што я не якая-небудзь нікчэмная жанчына і, хоць жыву адна, павінна берагаць сваё добрае імя.

— Ты выдатна ведаеш, што мне больш няма чаго табе падараваць, бо ўсё, што я меў, цяпер належыць табе, — сказаў я і схіліў галаву да краю ложка, каб падыхаць водарам яе надухмяненай масцямі скуры. Яна лёгка дакранулася да маіх валасоў, але хуценька адкінулася назад і засмяялася, круцячы галавой.

— Якія ж хітрыя і хлуслівыя ўсе мужчыны, — сказала яна. — Ты таксама мне хлусіш, але я нічога не магу з сабою зрабіць: ты мне падабаешся, а я ўсяго толькі слабая жанчына. Ты казаў неяк, што мае абдымкі апяклі цябе мацней за агонь, але ж гэта няпраўда. Можаш паспытаць маіх абдымкаў, і ты адчуеш іх пяшчоту і прахалоду. Можаш палашчыць і мае грудзі, бо яны стаміліся і прагнуць ласкі.

Але як толькі я сабраўся пацешыцца з ёю, яна злосна мяне адштурхнула і, сеўшы на ложку, сказала:

— Хоць я толькі слабая і самотная жанчына, але не дазволю, каб мною авалодаў ашуканец-мужчына. Ты ўтойваў ад мяне, што ў твайго бацькі Сэнмута ёсць дом непадалёк ад гавані ў бядняцкім квартале. Сам дом каштуе няшмат, але ж зямля, на якой ён пабудаваны, знаходзіцца побач з гаванню, дый за мэблю, калі прадаць на рынку, сёе-тое можна атрымаць. Калі б ты аддаў мне ўсю гэту маёмасць, дык я, мусіць, і змагла б паесці, папіць і павесяліцца з табою сёння, бо заўтрашні дзень невядомы нікому, а я ж павінна берагаць сваё добрае імя.

— Але бацькава маёмасць мне не належыць, — у жаху запярэчыў я. — Ты не можаш патрабаваць ад мяне таго, што мне не належыць, Нефернеферненефер.

Яна схіліла голаў і паглядзела на мяне сваімі зялёнымі вачыма. Яе твар быў зусім маленькі і бледны.

— Маёмасць твайго бацькі — гэта твая законная спадчына, Сінухе, — сказала яна. — І ты гэта выдатна ведаеш, бо ў тваіх бацькоў няма дачкі, чый якой меў бы перад табой перавагу ў атрыманні спадчыны. Ты іх адзіны сын. І ты стаіў ад мяне, што твой бацька зусім аслеп і перадаў табе сваю пячатку і права распараджацца яго маёмасцю, як сваёй уласнай.

Тое, што бацька перадаў мне сваю пячатку і папрасіў паклапаціцца аб яго маёмасці і дастатку, было праўдай: сам ён не мог ужо напісаць нават сваё імя. Кіпа і Сэнмут часта казалі, што іх дом трэба было б прадаць па добрай цане ды купіць маленькую хатку за горадам, дзе яны маглі б жыць, пакуль не наблізіцца час пахавання і не прыйдзе пара выпраўляцца ў вандроўку па шляху вечнага жыцця.

Я стаяў, не могучы прамовіць ні слова, і з жахам падумаў, як я магу здрадзіць бацькам, якія мне даверылі ўсё. Але Нефернефернефер, зірнуўшы на мяне з-пад паўапушчаных веек, шапнула:

— Вазьмі маю галаву ў свае рукі і дакраніся вуснамі да маіх грудзей — у табе ёсць нешта такое, што абяссільвае мяне, Сінухе. Дзеля цябе я гатовая забыцца на ўсякую выгаду і буду весяліцца з табой увесь дзень — нават за такі твой малы падарунак, як бацькава маёмасць, якая амаль нічога не вартая.

Я ўзяў яе галаву рукамі, і яна была такая маленькая, такая гладкая, такая прыгожая, што мяне ахапіла невымоўнае пачуццё шчасця і ўзрушанасці.

— Добра, хай будзе па-твойму, — сказаў я і пачуў, як дрыжыць мой голас.

Але калі я захацеў авалодаць ёю, яна сказала:

— Пачакай, ты паспееш трапіць у святліцу, якая па праве табе належыць, але спачатку пакліч вучонага пісара-заканазнаўцу, каб ён склаў патрэбныя паперы, бо я не давяраю абяцанкам мужчын: яны такія хітруны і хлусы, а мне трэба берагаць сваё добрае імя.

Мне не спатрэбілася шмат часу, каб адшукаць пісара-заканазнаўцу, але кожны крок удалечыні ад Нефернефернефер здаваўся мне нечалавечай пакутай. Таму я прыспешыў пісарчука хутчэй скласці паперы, прыклаў да папіруса бацькаву пячатку і паставіў за яго свой подпіс, каб ужо сёння можна было адаслаць папірус у фараонаў архіў на захаванне. Але я не меў ужо ні срэбра, ні медзі, каб заплаціць заканазнаўцу, і той быў гэтым вельмі незадаволены, але згадзіўся атрымаць плату пасля продажу бацькавага дома, аб чым таксама запісаў у паперу.

Але калі я вярнуўся ў дом Нефернефернефер, слугі сказалі, што яна спіць, і я мусіў чакаць яе абуджэння да позняга вечара. Нарэшце яна прачнулася і дазволіла мне ўвайсці да сябе ў пакой, дзе я аддаў ёй распіску. Яна тут жа схавала паперку ў чорны куфэрак.

— Ты вельмі ўпарты, Сінухе, — сказала яна, — але я сумленная жанчына і выконваю свае абяцанні. Дык вазьмі ж тое, дзеля чаго прыйшоў.

Яна лягла на ложак і раскрыла свае абдымкі, але не весялілася разам са мною, а павярнуўшы галаву ўбок, глядзела ў люстэрка і, пазяхаючы, прыкрывала рот далонню. Таму радасць, якой я так горача прагнуў, ператварылася ў халодны попел. А калі я ўстаў, яна сказала:



— Ты атрымаў тое, чаго хацеў, Сінухе, а цяпер дай мне спакою, бо ты мне апастылеў. Я не мела ад цябе ніякай радасці, бо ты няўклюдны і занадта гарачы, і рукі твае мне прычыняюць боль. Я не буду пералічваць усе пакуты, што ад цябе цярпела: усё адно ты не здольны на лепшае. А калі так, дык пакінь мяне нарэшце ў спакоі. Можаш, вядома, завітаць да мяне якім-небудзь іншым днём, але здаецца, я табе ўжо надакучыла.

Я быў спустошаны, як вылушчаная шкарлупіна, і, ледзь перастаўляючы хісткія ногі, пацягнуўся дадому. Я хацеў апынуцца ў цішыні цёмнага пакоя, дзе змог бы закрыць твар далонямі і выплакаць з сэрца журбу і расчараванне, але на маім ганку сядзеў чужынец у парыку і стракатым сірыйскім адзенні. Ён напышліва павітаўся са мною і папрасіў у мяне парады як у лекара.

— Я больш не прымаю хворых, — адказаў я. — Гэта ўжо не мой дом.

— У мяне на нагах балючыя мазалі, — настойваў госць, дамешваючы ў гаворку сірыйскія словы. — Твой мудры раб Каптах параіў мне цябе як адмысловага мазольнага лекара. Пазбаў мяне ад пакутаў, і ты не пашкадуеш.

Наведнік так моцна настойваў, што я запрасіў яго ў прыёмны пакой і паклікаў Каптаха, каб той прынёс гарачай вады памыцца. Але Каптаха не было дома, і толькі аглядаючы ногі сірыйца, я раптам пазнаў у іх мазолістыя Каптахавы ногі. Ён скінуў парык, адкрыў твар і гучна засмяяўся.

— Што за жартачкі? — узлаваўся я і выцяў раба кійком так, што яго весялосць імгненна змянілася жаласным лямантам. Але калі я адкінуў палку, ён сказаў:

— Калі я ўжо не твой раб, дык магу, не баючыся, сказаць, што збіраюся ўцычы і такім чынам правяраў, ці пазнаеш ты мяне ў гэтым убранні.

Я напомніў яму пра кары, якія чакаюць уцёклага раба, і дадаў, што калі-небудзь ён усё адно пападзецца, бо яму не будзе чым пракарміцца. Але ён адказаў:

— Я ўчора так напіўся піва, што ноччу пабачыў сон. У тым сне ты, гаспадар, ляжаў у распаленай печы, але прыйшоў я і моцна цябе вылаяў, а тады, узняўшы за каршэнь, апусціў у паток, які знёс цябе ўдалячынь. Удзень я хадзіў на рынак і спытаў у тлумачальніка сноў, што азначае печ, і той сказаў, што мой гаспадар у небяспецы і што праз маю дзёрзкасць мне дастанецца шмат удараў дубцом, а майму гаспадару наканаваны далёкі шлях. Гэты сон, далібог, праўдзівы, бо дастаткова зірнуць табе ў твар, як адразу робіцца ясна, што ты ў вялікай небяспецы, а дубца я ўжо атрымаў, значыць, і астатняе збудзецца. А таму, каб мяне не пазналі, я падрыхтаваў сабе гэтае ўбранне і вырашыў суправаджаць цябе ў вандраваннях.

— Твая адданасць, Каптах, мяне вельмі кранае,— сказаў я, спрабуючы з'едліва пажартаваць.— Можа, мяне сапраўды чакае далёкі шлях, але ж калі гэта і так, дык той шлях — напрасткі ў Дом смерці, а туды ты наўрад ці захочаш са мной ісці.

— Заўтрашні дзень невядомы нікому,— урачыста сказаў Каптах.— Ты яшчэ малады і зялёны, мой гаспадар, ты як цяля, якога маці не паспела начыста вылізаць. А таму я не магу адпусціць цябе аднаго ў цяжкае падарожжа да Дома смерці і ў Краіну Захаду. Калі гэта чакае цябе, дык і я пайду за табою, каб дапамагчы табе сваім досведам, таму што, нягледзячы на ўсе твае маладыя вар'яцтвы, я прыкіпеў да цябе сваім сэрцам і таму што ў мяне ніколі не было свайго сына, хоць, напэўна, я зачаў нямала дзяцей. Праўда, я ніколі іх так і не пабачыў, а таму хачу думаць, што ты мой сын. Я кажу так не дзеля таго, каб зняславіць цябе, а каб паказаць, як я да цябе стаўлюся.

Яго нахабства зайшло надта далёка, але я не стаў біць яго палкай, бо ён ужо не належаў мне. Я зачыніўся ў сваім пакоі, захутаўся з галавой у коўдру і, як забіты, праспаў да самага рання, бо калі чалавечыя раскаянне і ганьба занадта вялікія, яны дзейнічаюць, як дурманнае зелле. Але прачнуўшыся ўранні, я адразу зноў успомніў вочы і цела Нефернефернефер, і мне здалося, што я трымаю ў руках яе гладкую галоўку і адчуваю пад сабой яе грудзі. Я не магу сказаць, чаму так адбывалася. Можа, яна напраўду нейкім невядомым чынам зачаравала мяне? Зрэшты, я ў чараўніцтва не дужа веру. Тым не менш, я памыўся, апрануўся і нацёр твар духмяным алеем, рыхтуючыся пайсці да яе.

**2**

Нефернефернефер прыняла мяне ў садзе ля зарасніку лотаса. Яе вочы былі светлыя, вясёлыя і зеляней, чым вада ў Ніле. Убачыўшы мяне, яна ўсклікнула:

— Вой, Сінухе! Ты ўсё ж вярнуўся да мяне. Напэўна я не такая ўжо старая і брыдкая, калі не ўстыла табе. Чаго ты ад мяне хочаш?

Я глядзеў на яе, як смяротна галодны глядзіць на хлеб, а яна схіліла галаву набок і капрызліва-злосным голасам сказала:

— Сінухе, Сінухе, ты, я думаю, не збіраешся весяліцца са мною зноў. Я, праўда, жыву адна, але я не якая-небудзь нікчэмная жанчына і павінна аберагаць сваё добрае імя.

— Учора я аддаў табе ўсю бацькаву маёмасць,— сказаў я.— Цяпер мой бацька, некалі паважаны лекар, стане бедняком і, напэўна, яму, сляпому, давядзецца жабраваць на вуліцах, а мая маці зробіцца прачкай.

— Учора было ўчора, а сёння — гэта сёння,— сказала Нефернефернефер і паглядзела на мяне прыжмуранымі вачыма.— Але я зусім не патрабавальная, я з радасцю дазволю табе пасядзець побач і нават патрымаць мяне за руку, калі хочаш. Сёння маё сэрца радуецца, і я хачу, каб ты падзяліў са мной гэтую радасць, хоць я наўрад ці насмелюся весяліцца з табой нейкім іншым чынам.— Яна гарэзліва зірнула на мяне і лёгенька правяла рукой па маіх грудзях.— Ты нават не пытаешся, чаму радуецца маё сэрца,— з папрокам працягвала яна.— Але я магу табе гэта сказаць. Дык ведай, што да нас у горад прыехаў адзін знатны чалавек з Ніжняга Егіпта і прывёз залаты сасуд вагай амаль сто дэбенаў, а на тым сасудзе шмат прыгожых і забаўных карцін. Праўда, ён вельмі стары і такі сухарэбры, што яго косці, напэўна, праб'юць мне бакі, але я спадзяюся, што заўтра ўжо гэты сасуд упрыгожыць мой дом. Я не якая-небудзь нікчэмная жанчына і павінна аберагаць сваё добрае імя.



Паколькі я нічога не сказаў, яна глыбока ўздыхнула і летуценна агледзела лотасы ды іншыя кветкі ў садзе. Потым яна павольна скінула адзенне і пагрузілася ў басейн. Яе галава ўздымалася над вадой побач з лотасамі і была прыгажэйшая за ўсе лотасы ў свеце. Пагайдваючыся на вадзе перада мною, яна закінула рукі за галаву і сказала:

— Ты сёння вельмі маўклівы, Сінухе. Я часам не сапсавала табе настрой? Калі гэта так, то я з радасцю выпраўлю сваю хібу.

Я не вытрываў і сказаў:

— Ты выдатна ведаеш, чаго я хачу, Нефернефернефер.

— Твой твар расчырванеўся, а жылы так і пульсуюць на скронях, Сінухе,— адказала яна.— Можа, будзе лепш, калі ты распранешся ды ўвойдзеш у басейн, каб астудзіцца разам са мной, сёння такая спёка. Не муляйся і не бойся, тут нас ніхто не ўбачыць.

Я распрануўся і пагрузіўся ў ваду побач з ёю так, што яна датыкнулася да мяне пад вадой сваім клубам. Але як толькі я захацеў авалодаць ёю, яна са смехам вырвалася і пачала пырскаць вадою мне ў вочы.

— Я выдатна ведаю, чаго ты хочаш, Сінухе,— сказала яна,— хоць мая вялікая цнатлівасць і не дазваляе мне глядзець на цябе. Але спачатку ты павінен падараваць мне што-небудзь, бо я не якая-небудзь нікчэмная жанчына.

Тут я не вытрымаў і закрычаў:

— Ты зусім страціла розум, Нефернефернефер! Ты выдатна ведаеш, што абабрала мяне дашчэнту. Я саромеюся самога сябе і ўжо ніколі не адважуся сустрэцца са сваімі бацькамі. Але я ўсё яшчэ лекар, і маё імя запісана ў Кнізе жыцця. Можа, я калі-небудзь і змагу зарабіць сваім майстэрствам столькі, каб зрабіць табе падарунак, варты тваёй прыгажосці. Але цяпер злітуйся з мяне, бо нават у вадзе маё цела гарыць агнём і я, гледзячы на цябе, да крыві кусаю свае рукі.

Яна лёгка пагайдвалася на вадзе, і яе грудзі падымаліся над паверхняй, як дзве дзівосныя кветкі.

— Лекару ў яго працы патрэбны рукі ды вочы, праўда, Сінухе? А без

рук і вачэй ён о ўжо зусім і не лекар, няхай нават яго імя хоць тысячу разоў будзе запісана ў Кнігу жыцця. Што ж, можа, я і павесялілася б з табою сёння, калі б ты даў выкалаць сабе вочы і адрэзаць рукі, каб я магла павесіць іх на вушаку ў зале, як знак сваёй перамогі, і каб мае госці ставіліся да мяне з належнай пачцівасцю і ведалі, што я не якая-небудзь нікчэмная жанчына.— Яна паглядзела на мяне з-пад зацененых зялёным веяў і працягвала, нібы мімаходзь:

— А можа, гэтага зусім і не трэба, бо ад тваіх вачэй не будзе ніякай карысці, а рукі пачнуць смярдзець ды збіраць вакол сябе мух. Няўжо мы сапраўды не можам прыдумаць, што б ты мог падараваць мне яшчэ, Сінухе? Гледзячы на тваё аголенае цела пад вадой, я трачу апошнія сілы і цярпенне. Ты, праўда, няўклюдны і недасведчаны, але я спадзяюся за дзень навучыць цябе шмат чаму такому, пра што ты не маеш ніякага ўяўлення. А я ж ведаю незлічонае мноства спосабаў, якія вельмі даспадобы мужчынам, дый жанчыны зазнаюць ад іх вялікае задавальненне. Падумай пра гэта, Сінухе.

Але як толькі я захацеў дагнаць яе, яна хуценька выскачыла на бераг і спынілася ў цяню пад дрэвам, страсаючы ваду з рук.

— Я ўсяго толькі слабая жанчына, а мужчыны такія хітруны і хлусы,— сказала яна.— І ты, Сінухе, таксама падманваеш мяне. Сэрца маё поўніцца журбою, і я не магу стрымаць слёзы, як толькі падумаю аб тым, што надакучыла табе. Гэта так, іначай ты не стаў бы хаваць ад мяне, што ў тваіх бацькоў ёсць выдатная цалкам выкупленая магіла і яны ўнеслі ў храм усе патрэбныя грошы, каб іх целы былі падрыхтаваныя да вечнага жыцця і забяспечаныя ўсім неабходным у падарожжы да Краіны Захаду.

Пачуўшы гэта, я да крыві разадраў пазногцямі свае грудзі і закрычаў:

— Цябе і праўда завуць Табубуэ, цяпер я веру!

На гэта яна сумна адказала:

— Ты не павінен папракаць мяне за тое, што я не хачу быць нікчэмнай жанчынай. Дый я не запрашала цябе ў свой дом, ты прыйшоў сам. Ну ды няхай, цяпер я ведаю, што ты мяне не кахаеш, а прыходзіш толькі, каб пасмяяцца з мяне, калі ўжо такая дробязная справа нас раздзяляе.

Слёзы пацяклі па маіх шчоках, я задыхаўся ад пакуты, але падышоў да яе, і яна лёгка дакранулася да мяне сваім аголеным целам.

— Адна думка пра такое — ужо грахоўная і бязбожная,— сказаў я.— Як я магу пазбавіць сваіх бацькоў вечнага жыцця і дазволіць, каб іхнія целы ператварыліся ў нішто, падобна рабам, беднякам ды злачынцам, чые целы выкідаюць у раку? Ты не павінна прасіць мяне пра такое.

Але яна прыгарнулася да мяне ўсім аголеным целам і настойліва сказала:



— Аддай мне магілу сваіх бацькоў, і тады я змагу прашаптаць табе на вуха: «мой браце»,— і мае абдымкі ахопяць цябе пяшчотным полымем, і я навучу цябе тысячам розных рэчаў, пра якія ты нават не маеш уяўлення і якія так радуюць мужчын.

Я ўжо больш не валодаў сабой. Я заплакаў і сказаў:

— Добра, хай будзе так, як ты хочаш, і хай будзе векавечна праклятае маё імя, але я не магу працівіцца табе — такім моцным чарадзействам ты мяне зачаравала.

Але яна запярэчыла:

— Ніколі больш не кажы мне пра чарадзейства, бо я не якая-небудзь нікчэмная жанчына, я жыву ў сваім доме і клапачуся аб сваёй добрай славе. Але паколькі ты ў дрэнным настроі і ў журбе, я зараз жа пашлю слугу за вучоным пісарам-заканазнаўцам, а мы тым часам паядзім і вып'ем віна, каб потым, калі ўсе паперы будуць законным чынам падрыхтаваныя, нашыя сэрцы ўзрадаваліся і мы змаглі б павесяліцца як след.

Яна звонка засмяялася і пабегла ў дом. Я апрануўся і пайшоў следам, і слугі палілі мне на рукі, нізка схіліўшыся і апусціўшы да каленяў рукі. Але за спінай яны смяяліся з мяне, я гэта добра чуў, аднак рабіў выгляд, што іх насмешкі падобныя да зыку мухі ў маіх вушах. Як толькі Нефернеферне фер спусцілася ўніз, яны адразу сціхлі, і мы з ёй пачалі есці і піць, і нам падалі пяць мясных страваў і дванаццаць выпечак, а таксама змешанага віна, якое хутка ўдарыла ў галаву. Прыйшоў вучоны законнік і напісаў усе неабходныя паперы, і я перадаў Нефернефернефер магілы маіх бацькоў у Горадзе мёртвых разам з усімі грашыма, якія яны перадалі ў храм за неабходныя рытуалы, і такім чынам мае бацькі страцілі вечнае жыццё і магчымасць трапіць у Краіну Захаду пасля смерці. Я прыклаў да папіруса бацькаву пячатку і распісаўся за яго, а пісар сказаў, што сёння ж занясе паперы ў царскі архіў, каб яны набылі сілу. Ён аддаў Нефернефернефер распіску, якую яна нібы мімаходзь зачыніла ў сваім чорным куфэрку, а потым так шчодра заплаціла законніку за яго клопат, што той пайшоў, нізка кланяючыся і апусціўшы да каленяў рукі.

Пасля таго, як пісар пайшоў, я сказаў:

— З гэтага моманту я знаслаўлены перад людзьмі і багамі, Нефернефернефер. Дык давядзі ж цяпер, што зробленае мною варта сваёй цаны.

Але яна толькі ўсміхнулася і сказала:

— Выпі віна, мой браце, і хай узвяселіцца тваё сэрца.

А калі я захацеў авалодаць ёю, яна мяне адхіліла і падліла яшчэ ў маю чашу віна. Праз пэўны час яна паглядзела на сонца і прамовіла:

— Вось дзень і прайшоў, хутка настане вечар. Чаго ж ты яшчэ ад мяне хочаш, Сінухе?

— Ты добра ведаеш, чаго я хачу,— адказаў я.

Але яна спытала:

— Ты ж, мусіць, ведаеш, якая студня самая глыбокая і якая яма не мае дна, Сінухе? Ну, а мне пара апранацца ды падфарбаваць твар: мяне чакае залатая чаша, якая павінна заўтра ўпрыгожыць мой дом.

Я паспрабаваў затрымаць яе, але яна адштурхнула мяне і пранізліва засмяялася, а потым закрычала раптам так гучна, што ўсе слугі прыбеглі да нас. Тады яна сказала:

— Як гэты мярзотны жабрак трапіў да мяне ў дом? Зараз жа выкіньце яго на вуліцу і ніколі больш не падпускайце нават да маіх дзвярэй, а калі ён пачне супраціўляцца, адлупцуйце яго палкамі.

Знясіленага ад віна і гарачай страсці слугі выкінулі мяне на вуліцу, а калі я пачаў стукаць каменем у зачыненыя вароты, выскачылі і пабілі палкамі. А паколькі я ўпіраўся і крычаў так, што вакол сабраліся людзі, яны патлумачылі:

— Гэты п'янтос абразіў нашу гаспадыню, паважаную жанчыну, якая жыве ва ўласным доме.

Яны збілі мяне да непрытомнасці і пакінулі на вуліцы, дзе людзі плявалі на мяне, а сабакі мачыліся на маё адзенне.

Калі ж я апрытомнеў і ўсвядоміў сваё вартае жалю становішча, я не захацеў уставаць і праляжаў на месцы да рання. Цемра хавала мяне, і мне здавалася, што я ніколі больш не змагу паказацца на вочы людзям. Наследнік даў мне імя «Самотнік», і тою ноччу я сапраўды быў самы адзінокі на свеце. Толькі на світанку, калі на вуліцы паявіліся людзі і гандляры пачалі выстаўляць тавары перад сваімі лаўкамі, а быкі пацягнулі калёсы, я ўстаў і пайшоў за горад, дзе правёў, схаваўшыся ў чаратах, тры дні і тры ночы без яды і піцця. Цела і сэрца ў мяне ператварыліся ў адну суцэльную рану, і калі б хто-небудзь тады са мною загаварыў, я завыў бы і зайшоўся б ад крыку. Я баяўся, што страчу розум.

**3**

На трэці дзень я памыў твар і ногі, змыў з вопраткі закарэлую кроў і вярнуўся ў горад да свайго дома, але гэта быў ужо не мой дом. На варотах вісела шыльдачка з імем іншага лекара. Я паклікаў Каптаха і той прыбег, плачучы ад радасці, і абняў мае калені.

— Мой гаспадар! — усклікнуў ён,— Бо ў сэрцы маім ты ўсё яшчэ мой гаспадар, хто б не валодаў мною. Сюды пасяліўся маладзён, які ўяўляе сябе вялікім лекарам, ён прымярае тваё адзенне і смяецца ад радасці. А яго матка прыперлася ўжо на кухню, абварыла мне ногі кіпнем і абазвала мяне пацуком і гнаявой мухай. Але твае пацыенты маркоцяцца. Яны кажуць, што ў яго не такая лёгкая рука, як у цябе, што ў час агляду ён прычыняе ім моцны боль і ў дадатак не разумее іх немачаў гэтак добра, як ты.



Раптам ён змоўк, і яго адзінае пачырванелае вока са страхам і жалем утаропілася на мяне. Тады я не вытрываў і сказаў:

— Расказвай, Каптах, расказвай усё, маё сэрца ўжо скамянела, і нішто не можа яго крануць.

Тады ў знак вялікай скрухі ён узняў рукі і сказаў:

— Я аддаў бы сваё адзінае вока, каб аберагчы цябе ад такога гора. Сёння благі дзень, але добра, што ты прыйшоў. Ведай жа, што твае бацькі памерлі.

— Мой бацька Сэнмут і мая маці Кіпа! — усклікнуў я і ўзняў рукі, як гэтага патрабаваў звычай, і сэрца ў маіх грудзях скаланулася.

— Учора судовыя служкі загадалі ім выселіцца, а сёння, калі ўламаліся ў іх дом, твае бацькі ляжалі на ложку нежывыя. Ты павінен сёння ж адвезці іх целы ў Дом смерці, бо заўтра дом твайго бацькі разбураць — так загадаў новы гаспадар.

— Мае бацькі даведаліся, чаму так адбылося? — спытаў я, не глядзячы рабу ў твар.

— Твой бацька Сэнмут прыходзіў цябе шукаць. Твая маці вяла яго за руку, бо ён ужо нічога не бачыў. Яны абое выглядалі зусім старымі й нямоглымі, і хада ў іх была няцвёрдай. Але я не ведаў, дзе ты. Тады твой бацька сказаў, што так яно, можа, і лепей. Ён расказаў, што судовыя служкі выгналі іх з дома і паставілі пячаткі на ўсе яго скрынкі і рэчы, так што ў іх не засталося нічога, апроч тых лахманоў, што былі на іх апранутыя. На яго пытанне, чаму так здарылася, законнікі засмяяліся і растлумачылі, што яго сын Сінухе прадаў дом разам з усёй маёмасцю і нават магілу бацькоў, каб здабыць золата для распуснай жанчыны. Твой бацька доўга вагаўся, але потым папрасіў у мяне медзі, каб прадыктаваць якому-небудзь пісарчуку ліст да цябе. Але ў тваім доме ўжо быў новы гаспадар, і якраз у гэты самы час мяне паклікала яго маці, яна выцяла мяне палкай і сказала, што я толькі марную час на пустыя размовы з рознымі жабракамі. Спадзяюся, ты паверыш мне, калі я скажу, што даў бы твайму бацьку медзі, бо хоць я яшчэ і не паспеў нічога ўкрасці ў новых гаспадароў, але ў мяне былі медзь і срэбра, якія я накраў у цябе і ў гаспадароў, што былі раней. Але калі я вярнуўся на вуліцу, твае бацькі ўжо сышлі, а маці новага гаспадара забараніла мне даганяць іх і, каб я не ўцёк, замкнула на ноч у яме, у якой пякуць хлеб.

— Значыць, бацька не пакінуў мне ніякага слова,— папытаўся я.

І Каптах пацвердзіў:

— Твой бацька не пакінуў табе ніводнага слова, мой гаспадар.

Сэрца скамянела ў маіх грудзях і ўжо не адчувала нічога, але думкі, як птушкі ў халодным паветры, былі па-ранейшаму ясныя і спакойныя. Разважыўшы, я сказаў Каптаху:

— Аддай мне ўсю тваю медзь і ўсё срэбра. Дай мне іх хутчэй, і можа,

калі не я сам, дык Амон ці яшчэ які бог узнагародзіць цябе за добрую справу. Мне трэба завезці бацькоў у Дом смерці, а ў мяне няма ўжо нічога, каб заплаціць за бальзамаванне іх целаў.

Каптах заплакаў, загаласіў, уздымаючы рукі, каб паказаць сваю глыбокую скруху, але ўрэшце пайшоў у куток сада. Азіраючыся, як сабака, што збіраецца выкапаць з-пад зямлі прыхаваную костку, ён адсунуў камень і выняў з ямкі анучу, у якую былі загорнутыя медзь і срэбра. Гэта былі збярэжэнні, якія Каптах сабраў за ўсё жыццё, але ў скрутку не было і двух дэбенаў. Тым не менш, плачучы і выказваючы глыбокае спачуванне, ён усё аддаў мне, хай будзе навекі благаславёнае яго імя і збярэжонае ягонае цела!

У мяне былі сябры — Птахор і Харэмхеб, і яны пэўна ж маглі б пазычыць мне золата, дый Тутмес дапамог бы. Але я быў малады і думаў, што ўсе ўжо ведаюць пра маю ганьбу, а таму гатовы быў лепш памерці, чым паглядзець у вочы сябрам. Мой учынак асуджаў мяне на праклянцце багоў і людзей.

Але я нават не паспеў падзякаваць Каптаху, бо ў гэты час на ганак выйшла маці новага гаспадара і пачала клікаць раба злосным голасам. Тварам яна была падобная да кракадзіла, а ў руках трымала кіёк. Каптах шпарка пабег ад мяне і перад прыступкамі залямантаваў і заплакаў раней, чым кіёк апусціўся на яго спіну. Гэты раз яму не давялося прыкідвацца, бо ён шчыра аплакваў страту медзі і срэбра.

Я паспяшаўся да бацькоўскага дома, дзверы ў які аказаліся паламаныя, а на ўсіх рэчах стаялі пячаткі судовых выканаўцаў. У двары стаялі суседзі., Уздымаючы рукі, яны выказвалі глыбокую жальбу, але, заўважыўшы мяне, расступіліся ў жаху, і ніхто не прамовіў мне ніводнага слова. У пакоі на сваім ложку ляжалі Сэнмут і Кіпа, іх твары былі ружовыя, нібыта жывыя, а на доле квола гарэла жарніца — мае бацькі ўчадзелі, шчыльна зачыніўшы вокны і дзверы на ноч перад высяленнем. Не зважаючы на судовыя пячаткі, я завінуў іх целы ў пакрывалы і паклікаў возчыка з аслом, каб з яго дапамогай перавезці бацькоўскія целы ў Дом смерці. Але ў Доме смерці іх не прынялі, бо ў мяне не хапала срэбра нават на самае таннае бальзамаванне. Тады я сказаў мыйшчыкам трупаў:

— Я Сінухе, сын Сэнмута, і маё імя запісана ў Кнізе жыцця, хоць выпрабаванні жорсткага лёсу мяне давялі сёння да таго, што я не маю срэбра, каб заплаціць за пахаванне бацькоў. У імя Амона і ўсіх багоў Егіпта прашу вас: забальзамуйце целы маіх бацькоў, а я за гэта задарма адпрацую ў вас памочнікам столькі, колькі спатрэбіцца на гэтае бальзамаванне.

Яны праклінаалі маю ўпартасць і лаялі мяне ўсімі словамі, але ўрэшце галоўны мыйшчык, які перахварэў на чуму, узяў у мяне Каптахавы срэбра і медзь, падчапіў крукам за падбароддзе цела майго бацькі і пацягнуў яго ў вялікі чоп, дзе ляжалі целы беднякоў. Потым ён гэтак сама зацягнуў туды і цела маёй маці. Вакол стаяла аж трыццаць такіх чопаў, і кожны дзень адзін чоп запаўняўся і адзін вызваляўся: такім чынам, целы беднякоў трыццаць дзён вытрымлівалі ў растворы солі і лугу, каб зберагчы пасля смерці, а больш з імі не рабілі нічога. На жаль, я тады гэтага не ведаў.

Я прызнаўся, што мушу яшчэ вярнуцца ў бацькоўскі дом, каб аддаць пакрывалы з судовымі пячаткамі. Галоўны мыйшчык на гэта з'едліва засмяяўся і нахабна сказаў:

— Не забудзься вярнуцца заўтра ўранні, інакш мы выкінем целы тваіх бацькоў сабакам.

З такога яго стаўлення я зразумеў, што ён ні на каліва не паверыў, што я сапраўдны лекар, а палічыў мяне за круцяля і звычайнага хлуса.

Я вярнуўся ў бацькоўскі дом, і сэрца ў маіх грудзях стала падобна каменю, хоць тут кожная закапцелая цагліна ў сцяне будзіла ўва мне ўспамін, і старая сікамора вяла са мною размову, і сажалка напамінала пра маё шчаслівае дзяцінства. А таму я хуценька паклаў на месца пакрывалы і выйшаў з дома. У варотах насустрач мне трапіўся пісарчук, які звычайна сядзеў на рагу вуліцы побач з лаўкай гандляра прыправамі. Ён узняў рукі ў знак вялікай жальбы і спытаў:

— Ты Сінухе, сын праведнага Сэнмута?

Я адказаў:

— Так, гэта я.

Пісарчук сказаў:

— Не ўцякай ад мяне, бо твой бацька пакінуў мне словы, якія хацеў табе перадаць, але не заспеў цябе дома.

Тады я сеў на зямлю і закрыў галаву рукамі, а пісарчук дастаў папірус і прачытаў: «Сэнмут, імя якога запісана ў Кнігу жыцця, і ягоная жонка Кіпа пасылаюць гэтае прывітанне свайму сыну Сінухе, якому ў палацы фараона нададзена мянушка Самотнік. Ты быў нам пасланы багамі і кожны дзень прыносіў нам радасць і ніколі — смутак, і наш гонар за цябе быў заўсёды вялікі. Але цяпер мы смуткуем, што ты трапіў у бяду, а мы няздольныя дапамагчы, хоць вельмі гэтага хочам. Мы верым, што ўсё, што ты зрабіў, ты зрабіў правільна, бо інакш зрабіць не мог. Не турбуйся за нас, хоць табе й давялося прадаць нашу магілу, — ты ж не зрабіў гэтага, калі б не меў важкай прычыны. Законнікі спяшаюцца і не даюць нам спакойна чакаць нашай смерці, хоць яна і была б нам жаданай, як сон стомленаму падарожніку ці родны дом выгнанцу. Мы пражылі доўгае жыццё, і самай вялікаю нашай радасцю стаўся ты, Сінухе, калі прыплыў па рацэ да нас, ужо старых і самотных. Таму мы благаслаўляем цябе і просім не засмучацца, што ў нас няма

магілы, бо ўсё існае — вялікая марнасць, і можа нам нават лепш ператварыцца ў нішто, чым перажываць беды і небяспеку на цяжкім шляху ў Краіну Захаду. Памятай толькі, што наша смерць была лёгкай і мы, паміраючы, блаславілі цябе. Хай цябе бароняць ад небяспекі ўсе багі Егіпта, хай хаваюць ад смутку і журбы тваё сэрца, і хай будзе ў цябе столькі ж радасці ад тваіх дзяцей, колькі нам было ад цябе. Гэтага жадаюць табе бацька Сэнмут і маці Кіпа».

Пачуўшы гэта, схаладзелы камень майго сэрца ажыў і сагрэўся, і слёзы паліліся ў дарожны пыл перада мною. А пісарчук сказаў:

— Вось гэты ліст. Праўда, на ім няма пячаткі і подпісу твайго бацькі, бо ён проста не мог яго падпісаць, але ты мне павінен паверыць, што ўсё запісана тут слова ў слова, як прадыктаваў твой бацька, і найлепшым доказам маёй праўдзівасці хай паслужаць плямы ад слёз тваёй маці на гэтых пісьмёнах.

Ён паказаў мне ліст, але мае вочы былі поўныя слёз, і я нічога не бачыў. Тады ён згарнуў ліст у трубачку і ўклаў мне ў руку, сказаўшы:

— Твой бацька Сэнмут быў праведным чалавекам і маці — добрай жанчынай, хоць і магла часам па жаночай звычцы сказаць злое слова. Таму я і ўзяўся пісаць гэты ліст, хоць загадзя ведаў, што твайму бацьку не будзе чым мне аддзячыць, і цяпер перадаю гэты ліст табе, хоць папірус, на якім ён напісаны, добры і яго можна было б адчысціць і скарыстаць яшчэ раз.

Я крыху падумаў і сказаў:

— Мне таксама няма чым табе аддзячыць, добры чалавеча. Вазьмі хоць мой плашч, няхай ён пакамечаны і брудны, але зроблены з добрай тканіны.

З гэтымі словамі я зняў з сябе плашч і працягнуў яго пісарчуку, а той, з недаверам памацаўшы тканіну, са здзіўленнем ускінуў рукі і прамовіў:

— Твая шчодрасць вялікая, о Сінухе, што б не казалі пра цябе людзі. І калі яны будуць казаць, што ты дашчэнту абрабаваў бацькоў і пакінуў іх без пахавання, я за цябе заступлюся. Але я не магу ўзяць твой плашч, на ім вельмі дарагая тканіна, а без плашча сонца выпаліць табе спіну, як спіны рабоў, і яна пакрыецца балючымі пухірамі.

Але я настойваў:

— Вазьмі яго, і хай цябе блаславяць усе багі Егіпта і вечна зберагаецца тваё цела, бо ты сам не ведаеш, якую добрую справу ты мне зрабіў.

Тады ён узяў плашч і пайшоў, высока падняўшы апратку над галавой і смеючыся ад радасці. А я накіраваўся ў Дом смерці, і з вопраткі на мне была толькі паяснічная павязка, як у рабоў ці валагонаў. Я ішоў туды, каб правесці ў Доме смерці трыццаць дзён і трыццаць начэй, дапамагаючы мыйшчыкам трупаў.



**4**

Я меркаваў, што як лекар ужо дастаткова нагледзеўся на смерць і пакуты і прывык датыкацца да нарываў і гнойных ранаў, але пачаўшы служыць у Доме смерці, я зразумеў, што я проста дзіцё і нічога не ведаю. Ад беднякоў не было шмат клопату: яны спакойна ляжалі, выдзяляючы вострыя пах, у вялікіх чопах з лугам і соллю. Я хутка навучыўся працаваць крукам, якім паварочвалі іхнія целы. А вось целы знатнейшых людзей патрабавалі большага майстэрства: каб прапалоскваць іх вантробы і потым распіхваць іх па гліняных сасудах, трэба было ўвогуле не мець ніякіх пачуццяў. Але найбольшая трываласць аказалася патрэбнай, каб прыняць нечаканае адкрыццём, што Амон рабуе мёртвых больш, чым жывых, бо цэны на бальзамаванне залежалі ад багацця нябожчыка, а бальзамоўшчыкі падманвалі родзічаў, пералічваючы шматлікія дарагія віды алею, бальзамаў ды масцяў, якімі яны нібыта карысталіся, а напраўду заўсёды ўжываўся той самы кунжутны алей. Напоўніцу і з вялікім майстэрствам апрацоўваліся толькі целы самай высокай знаці, а іншым у поласці пырскалі адмысловы алей, які раствараў усе вантробы, а на іх месца запіхвалі чарот, насычаны смалой. Беднякам жа не рабілі і гэтага — а праз трыццаць дзён іх проста выцягвалі крукамі з чопаў, давалі высахнуць на двары і вярталі родзічам.

Жрацы сачылі за Домам смерці, але нягледзячы на тое мыйшчыкі і бальзамоўшчыкі кралі ўсё, што траплялася пад руку, і лічылі гэта за сваё законнае права. Яны кралі лекавыя травы, дарагі алей, масці і тканіну, у якую загортвалі мумій, а потым прадавалі гэта, каб скарыстаць ізноў. І жрацы нічога не маглі зрабіць: працаўнікі ведалі сваю справу, а знайсці новых было не так лёгка. Толькі праклятыя багамі людзі ды злачынцы, якія хаваліся ад уладаў, наймаліся працаваць у Дом смерці. Праз пэўны час іх пачыналі ўжо здалёк пазнаваць па густым паху солі, лугу і трупаў, які так моцна ўядаўся ў іх скуру, што людзі іх пазбягалі, не пускаючы ні ў шынкі, ні ў дамы ўцех.

Але ж я сам напрасіўся да іх у памагатыя, і таму мыйшчыкі трупаў лічылі мяне за такога самага ізгоя і не хавалі сваіх махлярстваў.

Калі б на мне не ляжалі яшчэ больш грахоўныя ўчынкі, я проста ўцёк бы адтуль у жаху, убачыўшы, як яны здзекуюцца з целаў знатных людзей, выразаючы з іх розныя часткі, каб прадаць чарадзеям. Калі толькі Краіна Захаду існуе,— а мне хацелася б у гэта верыць дзеля маіх бацькоў,— дык, думаю, многія нябожчыкі вельмі здзівяцца, убачыўшы, якімі пакалечанымі яны вымушаны пачынаць свой цяжкі шлях, хоць пры жыцці ахвяравалі храму нямала золата на прыстойнае пахаванне.

Але самая вялікая радасць панавала ў Доме смерці, калі туды трапляла цела маладой жанчыны — няважна, была яна прыгожая або брыд-

кая. Яе труп не кідалі адразу ў ванну з растворам, а на адну ноч заносілі ў спальныя пакоі да мыйшчыкаў, і тыя сварыліся і біліся між сабою, кідаючы жэрабя, каму першаму выпадзе пацешыцца з ёю, бо ў звычайных людзей да іх была такая агіда, што нават самыя танныя вулічныя дзеўкі не хацелі весяліцца з імі ні за якое золата, і нават негрыцянкі пазбягалі іх. Раней, калі пасля вялікіх ваенных паходаў рабы каштавалі няшмат, мыйшчыкі збіралі грошы і куплялі сабе рабыню для агульнага карыстання, але вельмі хутка рабыня проста вар'яцела ад жахлівага жыцця ў Доме смерці і так крычала, што жрацы мусілі забараніць продаж рабынь у Дом смерці. Пасля гэтага мыйшчыкі пачалі самі сабе гатаваць ежу і мыць вопратку, а цешыліся толькі з трупамі маладых жанчын. Яны апраўдваліся тым, што некалі, у часы вялікага царства, адна прынесеная ў Дом смерці кабета ажыла ў абдымках мыйшчыка трупаў — гэта быў вялікі цуд, здзейснены Амонам на радасць бацькам і мужу жанчыны. Таму яны лічылі сваім святым абавязкам увесь час паўтараць гэтыя спробы стварыць новы цуд і сагравалі сваім брыдкім цяплом жанчын, прынесеных у Дом смерці, але толькі ў тых выпадках, калі жанчыны былі не надта старыя, бо іначай ад іх уваскрашэння нікому не было б ніякае радасці. Не магу сказаць, ці ведалі пра гэта жрацы, бо ўсё адбывалася патаемна пад покрывам ночы, калі брама ў Дом смерці была зачыненая.

Той, хто прыходзіў у Дом смерці і наймаўся мыйшчыкам трупаў, ужо заставаўся там назаўсёды і, жывучы сярод мерцвякоў, рэдка выходзіў на вуліцу, каб не бачыць людской пагарды. У першы дзень працы ў мяне склалася думка, што ўсе яны — праклятыя багамі стварэнні, а іх размовы і здзекі з нябожчыкаў прывялі мяне ў жах. Але ў першы дзень мне ў вочы кінуліся толькі самыя бессаромныя і нахабныя. Узрадаваўшыся майму з'яўленню, яны адразу загадалі мне выконваць самую брудную і цяжкую працу. Але з часам я пачаў прыкмячаць, што сярод мыйшчыкаў і бальзамоўшчыкаў ёсць вялікія майстры сваёй справы, чыё майстэрства перадаецца лепшым ад лепшых, якія лічаць сваю справу самаю важнай і ставяцца да сваіх абавязкаў з вялікай адказнасцю. У кожнага з іх — падобна да лекараў з Дома жыцця — была свая адмысловая галіна: адзін займаўся галавою нябожчыка, другі — чэравам, трэці — сэрцам, чацвёрты — лёгкімі, і так кожны рыхтаваў розныя часткі цела да вечнага жыцця.

Сярод усіх выдзяляўся стары на імя Рамосэ, чыя задача была самаю цяжкаю. Адмысловымі абцугамі ён даставаў праз нос мазгі ў нябожчыка і прамываў яго чэрап ачышчальным алеем. Ён са здзіўленнем адзначыў спрыт маіх рук і пачаў навучаць мяне свайму майстэрству, а бліжэй да сярэдзіны майго побыту ў Доме смерці ўзяў мяне да сябе памочнікам і маё становішча адразу палегчала. Калі мыйшчыкі здаваліся мне



людзьмі, апантанымі злымі духамі, ці проста быдлам, бо іх размовы і думкі былі не падобныя да таго, што гавораць і думаюць іншыя людзі, якія жывуць пры святле сонца, дык Рамосэ нагадваў мне старога жаўлака, які ціха жыве ў сваім панцыры. Яго спіна была згорбленая, як жаўлакоў панцыр, а рукі і твар — пакрытыя глыбокімі зморшчынамі, як скура ў гэтай жывёлы. Я дапамагаў яму ў працы, якая лічылася самай паважанай і чыстай ва ўсім Доме смерці, і яго ўлада была такою вялікай, што астатнія ўжо не адважваліся мяне абражаць і кідаць у мяне кавалкамі вантробаў і нечыстотаў з трупаў. Адкуль у яго была такая ўлада, я не ведаю, але голасу ён ніколі не павышаў.

Пабачыўшы, як астатнія мыйшчыкі крадуць і як нядбайна абыходзяцца з целамі беднякоў,— хоць і за іх бралі даволі вялікую плату,— я вырашыў, што любою цаной дапамагу бацькам і ўкраду для іх вечнае жыццё. Мая віна перад імі была такія вялікія, што крадзеж ніяк ужо не мог павялічыць яе. Рамосэ ахвотна навучыў мяне, што, як і колькі можна ўкрасці з трупа знатнага чалавека, бо ён працаваў толькі з трупамі знатных людзей, а я быў яго памочнікам. Нарэшце я змог выцягнуць з чопа для бедных целы сваіх бацькоў, напоўніць іх прасмоленым чаротам і завінуць у палатно. Але на большае я ўжо быў няздольны, бо і ў крадзяжы былі свае межы, пераступаць якія не мог нават Рамосэ.

Пад час нетаропкай і ціхай працы ў злавесных пячорах Дома смерці я пазнаў ад яго шмат мудрасці. Час ад часу я насмельваўся спытаць яго то адно, то другое, і нават маё пытанне «чаму» зусім яго не спалохала. Чалавек — вялікі прыстасаванец і да ўсяго можа прызвычаіцца, а таму паступова мой нос звыкнуўся з нясцерпным смуродам, а Рамосэва мудрасць развеяла мае страхі.

Аднойчы я папытаўся, чаму мыйшчыкі ўвесь час блюзнераць, брыдкасловяць і б'юцца за жаночыя трупы, быццам няздольныя думаць пра што-небудзь іншае, апроч сваіх жывёльных страсцей? Здаецца, жывучы дзень пры дні ў суседстве са смерцю, яны павінны былі б супакоіцца і суцішыць свае жаданні? Рамосэ мне адказаў:

— Гэта нізкія людзі, і іх жаданні капошацца ў брудзе і праху. Бо што такое сатлелае чалавечае цела, калі не прах і не бруд? Але і тут жыве прага жыцця. І гэтая прага жыцця, якая месціцца ў брудзе і праху, спарадзіла жывёл і людзей, а на маю думку, нават багоў. І чым больш набліжаецца чалавек да смерці, тым больш загараецца ў яго брудзе і праху прага жыцця. Таму смерць супакойвае мудрага, а нізкага прыпадабняе да драпежнага звера, які, нават працяты стралой, усё яшчэ сцякае семем у пясок. Сэрцы гэтых людзей таксама працяты стралою, інакшай яны ніколі не апынуліся б у Доме смерці. А таму не здзіўляйся іхнім паводзінам, а лепш пашкадуй іх. Што да цела нябожчыка, то яго яны параніць ці зняважыць не могуць — яно ўжо схаладнела і не адчу-

вае нічога..Яны шкодзяць толькі сабе, зноў пагружаючыся ў бруд сваёй страсці.

Павольна і беражліва Рамосэ кароткімі абцужкамі выняў праз нос тонкія асколкі з чэрапа, потым узяў іншыя, доўгія і гнуткія, абцугі і, дастаўшы імі мазгі, паклаў іх у сасуд з густым алейным растворам.

— Чаму ж калі пасля смерці чалавечае цела халоднае і нічога не адчувае, яго трэба зберагаць вечна? — спытаўся я.

Рамосэ зірнуў на мяне маленькімі круглымі жаўлаковымі вачыма, выцер фартухам рукі і нагбом адпіў піва з гарлача, што стаяў побач з сасудам з мазгамі знатнага чалавека.

— Так было і так павінна быць,— адказаў ён.— Хто я такі, каб тлумачыць тое, што робіцца спрадвечна? Кажуць, што ў магіле Ка чалавека — а гэта і ёсць яго душа — зноў вяртаецца ў цела і есць ежу, якую прыносяць нябожчыку, і цешыцца кветкамі, якія кладуць перад магілай. Але Ка спажывае так мала, што чалавечае вока не заўважае гэтага. А таму адной і той жа ахвяры хапае многім: ахвяры фараону, напрыклад, потым нясуць на магілы знаці, а ўвечары жрацы даядаюць ахвяраваныя стравы. Чалавечы дух Ба вылятае праз нос у момант смерці, а куды ён ляціць — сказаць не магу. Але ўсё адбываецца менавіта так, і ва ўсе часы гэтаму было шмат сведкаў. Паміж чалавечым Ка і чалавекам толькі і розніцы, што ў Ка няма ценю, а ў чалавека ёсць. У астатнім яны падобныя.

— Твае словы, Рамосэ, як зыканне мухі ў маіх вушах,— адказаў я.— Я не такі ўжо невук, каб ты паўтараў мне тое, што я чуў і чытаў тысячу разоў да адурэння. Але што ёсць ісціна?

Рамосэ хлебануў з гарлача зноў і безуважна ўтаропіўся на кавалачкі мазгоў, што плавалі ў суседнім сасудзе.

— Ты яшчэ малады і залішне гарачы,— сказаў ён, скрывіўшы грымасу, і ціха засмяяўся.— Тваё сэрца гарыць, таму ты і задаеш такія пытанні. А маё сэрца старое і пакрытае шнарамі, яго пытанні ўжо не вярэдзяць. Ці будзе чалавеку карысць, калі яго цела зберагуць пасля смерці,— гэтага я сказаць не магу, дый ніхто не можа, нават жрацы. Але ж калі яно так пастаноўлена і рабілася ва ўсе часы, дык лепей трымацца звычаяў, прынамсі бяды гэта нікому не ўчыніць. Я ведаю толькі, што ніхто яшчэ не вяртаўся з Краіны Захаду, каб распавесці, што там адбываецца. Некаторыя, праўда, кажуць, што Ка іх каханых наведвае іх у сне і дае ім парады, папярэджвае аб небяспецы і навучае мудрасці жыцця, але ж сон — гэта ўсяго толькі сон і ўранні ён рассейваецца бясследна. Праўда, адна жанчына ажыла ў Доме смерці і, вярнуўшыся да мужа і бацькоў, пражыла да старасці, пакуль зноў памерла, але на маю думку, гэта адбылося таму, што першы раз яна памерла не па-сапраўднаму, а проста нехта яе зачараваў, каб украсці цела і пакарыстацца ім на свой лад,— такое таксама здараецца. Тая жанчына расказвала, што пасля смерці трапіла ў цёмную апраметную прорву, дзе нейкія страхалюдныя пачвары, падобныя да сабакагаловых павіянаў, лезлі да яе абдымацца і цалавалі яе, а страшыдлы з галовамі кракадзілаў кусалі яе за грудзі. Увесь гэты аповед запісаны і зберагаецца ў храме, і яго чытаюць усім жадаючым за пэўную плату. Але хто верыць бабскім плёткам? Ва ўсякім выпадку, смерць так яе ўразіла, што яна стала апантана пабожнай, кожны дзень хадзіла ў храм і растраціла на ахвяры ўвесь свой пасаг, маёмасць дзяцей і мужа, так што ўрэшце яны засталіся поўнымі беднякамі і ў іх не было нават чым заплаціць за яе бальзамаванне, калі яна сапраўды памерла. Затое храм падараваў ёй магілу і набальзамаваў яе цела. Гэтую магілу і цяпер паказваюць у Горадзе мёртвых, можа, і ты яе ведаеш.



Але чым больш ён гаварыў, тым больш мацнела маё жаданне зберагчы целы маіх бацькоў. Мая віна перад імі была вялікай, але цяпер, пажыўшы ў Доме смерці, я ўжо не ведаў, ці будзе бацькам карысць ад майго клопату. Спадзеў на тое, што іх целы зберагуцца вечна, быў іх адзінаю радасцю ў старасці, і мне хацелася, каб гэтая надзея спраўдзілася. З дапамогай Рамосэ я набальзамаваў і загарнуў у тканіну іх целы, дзеля чаго правёў у Доме смерці сорак дзён і сорак начэй,— інакш я не паспеў бы ўкрасці ўсё патрэбнае, каб правесці бальзамаванне належным чынам. Але я не меў для іх ні магілы, ні нават драўлянай дамавіны, і таму зашыў абаіх у шкуру быка, каб у краіне вечнага жыцця яны заставаліся разам.

Нарэшце я быў гатовы пакінуць Дом смерці, але маё сэрца раптам закалацілася ў нерашучасці. Рамосэ, які высока цаніў спрыт маіх рук, вельмі мяне прасіў застацца. Працуючы ў яго памочнікам, я мог бы добра зарабляць, шмат красці і пражыў бы ўвесь век пад скляпеннямі Дома смерці без клопату і журбы. І ніхто з маіх сяброў ніколі не даведаўся б, дзе я і што са мною. Але я не застаўся, а чаму — сам не магу сказаць, бо паспеў прывыкнуць да гэтых змрочных пячораў і пачуваўся ў іх добра, не аб чым не шкадуючы і не сумуючы.

—Заставайся,— казаў Рамосэ.— Нябожчыкі халодныя і нерухомыя, але іх кампанія лепшая за кампанію жывых. Нябожчыкі нікога не абражаюць, не крыўдзяць і не раняць, як гэта робяць жывыя. А тваё сэрца працята стралой, бо інакш ты не прыйшоў бы сюды. Навошта табе вяртацца ў чалавечы натоўп, дзе зыкаюць атручаныя стрэлы, дзе табе павыкалваюць вочы, паламаюць рукі і параняць сэрца так, што яно састарэе, пакрыецца шнарамі, і яго ўжо нічога больш не кране.

— А чаму ты сам прыйшоў у Дом смерці, Рамосэ? — спытаўся я.— Ты чалавек мудры і вучоны і мог бы пракарміць сябе іншым заняткам. Чаму ты прыйшоў сюды?

Але Рамосэ закруціў галавой, як жаўлак, уцягнуў шыю і нават не паглядзеў на мяне.

— Ты ведаеш, што ў Дом смерці ніхто не прыходзіць, калі не вымушаны зрабіць гэтага,— адказаў ён.— Хопіць табе і такога адказу.

Тады ён хіхікнуў і адпіў з гарлача халоднага піва.

— Мне тут добра,— прамовіў ён.— Я не аб чым не сумую і не шкадую, бо ўсё вакол марнасць. Але ты мусіш ведаць, што той, хто аднойчы пабываў у Доме смерці, застаецца з ім назаўсёды, бо ён сам пранікае ў цябе, і ты ўжо нікуды не можаш падзецца.

Тады я не зразумеў гэтых словаў, палічыўшы яго вар'ятам. Я старанна памыўся, пачысціўся і пакінуў Дом смерці, а мыйшчыкі трупаў пасылалі мне ўслед праклёны і здзекі. Зрэшты, яны рабілі гэта без злосці, а толькі таму, што ў іх была звычка так размаўляць між сабою — інакшай яны проста не ўмелі. Затое яны дапамаглі мне вынесці скрутак з бацькоўскімі целамі. Але як я ні чысціўся і ні мыўся, смурод Дома смерці так уеўся ў мяне, што людзі кідаліся ад мяне прэч і грэбліва заціскалі насы. Ніхто не згадзіўся перавезці мяне на другі бераг ракі. Тады я дачакаўся ночы і, не баючыся вартаўнікоў, скраў трысняговы човен ды павёз сам целы маіх бацькоў за раку, у Горад мёртвых.

**5**

Горад мёртвых пільна ахоўваўся днём і ноччу, і я не змог знайсці ніводнай магілы, каб пахаваць бацькоў і каб у іх у вечным жыцці была б магчымасць карыстацца ахвяраваннямі, што прыносяць багатым і знатным нябожчыкам. Тады я вырашыў аднесці скрутак у пустэльню, але там бязлітаснае сонца да таго высмаліла мне спіну і выпаліла ўсе сілы з майго цела, што я пачаў задыхацца і ледзь сам не памёр. Тады я панёс целы бацькоў у горы, ідучы па небяспечнай сцяжынцы, па якой асмельваюцца хадзіць толькі рабаўнікі царскіх магілаў, і ўрэшце прыйшоў у запаветную Даліну цароў, дзе хавалі фараонаў. Тут усю ноч вылі шакалы і шыпелі ядавітыя змеі, а па гарачых камянях поўзалі скарпіёны, але я не адчуваў страху, і ў маім сэрцы панавала поўная абыякавасць. Хоць я і быў малады, але небяспека смерці не кранала мяне, і я толькі вітаў бы смерць, калі б яна захацела мяне. Калі б я зноў вярнуўся пад святло сонечнага дня і пабачыў людзей, вострае пачуццё ганьбы раз'ела б маё сэрца, як шчолак, і жыццё не магло даць мне нічога добрага.

Тады я яшчэ не ведаў, што смерць пазбягае таго, хто прагне яе, а ганяецца за тым, чыё сэрца прыкіпела да жыцця. Напэўна таму з маёй дарогі спаўзлі ўсе змеі, скарпіёны не прычынілі мне шкоды і нават паўдзённая спёка пустэльні не задушыла мяне. Ахоўнікі запаветнай даліны таксама аглухлі і асляплі, і не пачулі шуму камянёў, якія каціліся ў мяне з-пад ног, калі я спускаўся ў даліну. Калі б яны ўбачылі мяне, дык адразу забілі б, а цела кінулі б на пажор шакалам. Але я прыйшоў уначы, а самі ахоўнікі, напэўна, баяліся даліны, якую ахоўвалі, таму што жрацы зачаравалі і заклялі магілы фараонаў самымі моцнымі заговорамі і закляццямі. Калі б яны ўбачылі, як я ў месячным святле іду па даліне са скруткам на спіне, дык ад страху адвярнуліся б і закрылі галовы плашчамі, думаючы, што па даліне блукаюць мерцвякі. Таму я не хаваўся ні ад каго, дый не змог бы схавацца, бо не ведаў, дзе стаіць ахова і дзе можна схавацца. Запаветная даліна адкрылася перада мною ў смяротным спакоі і цішы, болей змрочная і велічная, чым жывы фараон на троне.



Усю ноч я кружляў па даліне, шукаючы запячатаныя жрацамі дзверы, якія вялі б у грабніцу якога-небудзь вялікага фараона, бо па маёй дзёрзкай задуме, бацькам пасавала толькі такое пахаванне. Апроч таго, я хацеў знайсці магілу фараона, які ступіў у човен Амона не надта даўно, каб прынесеныя яму ахвяры былі яшчэ свежыя, а догляд за магілай і службы ў пасмяротным храме на беразе ракі былі бездакорныя, бо мае бацькі мусілі мець толькі самае лепшае, калі ўжо я не змог забяспечыць іх уласнай магілай.

Калі маладзік зайшоў, я выкапаў побач з дзвярыма фараонавай грабніцы яму, апусціў у яе скрутак з целамі бацькоў і засыпаў іх пяском. Недзе ўдалечыні завылі шакалы, і я зразумеў, што па пустэльні ходзіць Анубіс, жадаючы паклапаціцца пра маіх бацькоў і правесці іх у апошні шлях. Я зразумеў, што сэрцы маіх бацькоў, узважаныя на вагах вялікага вагаўшчыка Асірыса, прайшлі іспыты і без складзенай жрацамі хлуслівай Кнігі мёртвых, з дапамогай якой багатыя імкнуцца забяспечыць сабе бесклапотнае вечнае жыццё. І, засыпаючы бацькоў жменямі пяску, я адчуваў вялікую палёгку. Я ведаў, што яны будуць жыць вечна побач з вялікім фараонам і спажываць тыя цудоўныя ахвяры, што прыносяць да вялікага фараона. У Краіне Захаду яны будуць плаваць на фараонавым чоўне, есці фараонаў хлеб і піць фараонава віно. Я зрабіў гэта, падстаўляючы сваё цела пад дзіды ахоўнікаў, але не варта залічваць мне гэта ў заслугу: я зусім не баяўся іх дзідаў, бо смерць той ноччу была б для мяне саладзейшай за міра.

Але калі я ўжо амаль засыпаў яму, мая рука наткнулася на нешта цвёрдае, і я дастаў з пяску свяшчэннага скарабея, спрэс пакрытага святымі пісьмёнамі. Яго цела было выразанае з чырвонага каменя, а вочы зроблены з маленькіх каштоўных каменьчыкаў. Я ўвесь ажно скалануўся, і мае слёзы пырснулі на пясок: тут, пасярод Даліны мёртвых, я атрымаў ад сваіх бацькоў знак і цяпер цвёрда ведаў, што яны задаволеныя і ім добра. Мне вельмі хацелася так думаць, хоць я разумеў, што скарабей, відаць, проста вываліўся ў пясок падчас пахавальнай працэсіі фараона.

Месяц зайшоў, і неба стала шэрае. Я пакланіўся пяску і ўзняў рукі, развітваючыся з бацькам Сэнмутам і маткаю Кіпай. Хай навечна зберагуцца іх целы і хай будзе прыемным іх жыццё ў Краіне Захаду, бо толькі дзеля іх я хацеў бы, каб тая краіна існавала, але сам ужо не верыў у гэта. Развітаўшыся, я пайшоў прэч і больш не азіраўся назад. У руцэ я нёс свяшчэннага скарабея, і яго сіла была такой моцнай, што ахоўнікі мяне не заўважылі, хоць я добра іх бачыў: яны ўжо выйшлі са сваіх буданоў і распальвалі вогнішчы, каб гатаваць ежу. Сіла скарабея была такой моцнай, што мае ногі не слізгаліся па камянях, а скарпіёны і змеі не кранулі мяне, хоць за плячыма ў мяне ўжо не было скрутка з бацькоўскімі целамі. Тым жа вечарам я дабраўся да берага Ніла і напіўся нільскай вады. Потым я кінуўся на зямлю і заснуў у чаратах. Мае ногі былі збітыя да крыві, мае рукі кроватачылі, пустэльня асляпіла мне вочы, а сонца да пухіроў выпаліла цела. Але я быў жывы, і боль мне не перашкодзіў заснуць, бо я быў смяротна стомлены.

**6**

Уранні, калі Амон плыў па небе на сваім залатым чоўне, я прачнуўся ад крыку качак у чаратах. З-за ракі даносіўся шум горада, па Ніле снавалі лодкі і праплывалі караблі пад чыстымі ветразямі, прачкі ляскалі пранікамі, смяяліся і гучна перагукаліся між сабой. Ранак быў празрысты і свежы, але сэрца маё спусцела і жыццё здавалася попелам на далоні.

Боль у целе ўзрадаваў мяне, бо сведчыў, што я ўсё яшчэ існую на гэтым свеце. Да гэтай пары ў мяне была мэта, і сваёй адзінай задачай я лічыў забяспечыць маім бацькам вечнае жыццё, якое я ў іх украў, стаўшы прычынай іх заўчаснай смерці. Цяпер жа маё злачынства — наколькі гэта магчыма — было выкупленае, і жыццё страціла мэту і прызначэнне. З вопраткі на мне, як на рабе, была толькі падраная паясная павязка, спіну пакрывала струп'е, і ў мяне не было ніводнай палоскі медзі, каб купіць ежы. Калі б я куды-небудзь рушыў, дык мяне хутка спынілі б з ахоўнікі. Яны аклікнулі б мяне і спыталі, хто я і адкуль іду, а я не змог бы ім адказаць, бо лічыў, што імя Сінухе праклятае на вякі вечныя. З той жа прычыны я не мог пайсці да сваіх сяброў, бо не хацеў, каб яны падзялялі са мной маю ганьбу або, ускінуўшы рукі, праклінаілі мяне і паварочваліся да мяне спінай. Я лічыў, што і без таго ўжо ўчыніў нямала бедаў.

Думаючы пра ўсё гэта, я заўважыў, што вакол мяне ціхенька кружляе нейкая істота. Спачатку я не падумаў нават, што гэта можа быць чалавек, — я палічыў, што гэта пачвара з якога-небудзь паганага сну. Замест носа ў істоты зеўрала чорная дзірка, вушы былі абрэзаныя, а цела — страшэнна худое. Прыгледзеўшыся, я заўважыў, што рукі ў яго



вялікія, моцныя і мазолістыя, а жылістае цела спрэс пакрытае ранамі ад пераноскі грузаў і намулянае вяроўкамі.

Заўважыўшы, што я заўважыў яго, Бязносы загаварыў. Ён спытаў:

— Што ты там так моцна сціскаеш у сваёй руцэ?

Я расціснуў далонь і паказаў свяшчэннага скарабея, якога знайшоў ля фараонавай грабніцы. Тады ён папрасіў:

— Аддай яго мне: няхай прынясе мне шчасце — беднаму чалавеку гэта так патрэбна.

— Я таксама бядняк, — запярэчыў я, — і ў мяне, апроч гэтага скарабея, нічога няма. Таму я хачу яго захаваць сабе. Гэта будзе мой амулет, які прынясе мне ўдачу.

Тады ён сказаў:

— Я сапраўды бедны і няшчасны, але я дам табе кавалак срэбра, хоць за такі маленькі размаляваны каменьчык гэта занадта. Але я шкадую тваю беднасць і хачу заплаціць табе. — І ён сапраўды дастаў з-за пояса кавалак срэбра. Але я цвёрда вырашыў пакінуць скарабея сабе і зноў паўтарыў гэта незнаёмцу. Ён раззлаваўся і сярдзіта крыкнуў:

— Ты забываеш, што я мог бы цябе забіць, калі ты спаў: я доўга сачыў за табой і мне вельмі хацелася ведаць, што ж ты так моцна сціскаеш у руцэ. Але я пачакаў, пакуль ты прачнешся, і цяпер шкадую аб гэтым, бо ты аказаўся няўдзячны.

Я адказаў яму:

— Па носе і вушах я бачу, што ты злачынец і ўцёк з каменяломняў. Калі б ты забіў мяне падчас сну, то зрабіў бы добрую справу, бо я застаўся на гэтым свеце адзін і не ведаю, якім шляхам ісці далей. Але сцеражыся і лепей бяжы адсюль, бо ахоўнікі, убачыўшы цябе, зловяць, паб'юць палкамі і павесяць на гарадскім муры дагары нагамі ці адашлюць туды, адкуль ты ўцёк.

— Каб я захацеў, дык забіў бы цябе і зараз, бо,можа, з выгляду я і худы і варты жалю, але ў мяне яшчэ шмат сілы, — сказаў ён. — Але забіваць цябе дзеля нейкага каменя не лічу вартым: непадалёк Горад мёртвых, і ахоўнікі могуць пачуць твае крыкі. Так што пакінь гэтае шчасце сабе — можа, ты сапраўды маеш у ім больш патрэбы. Але ты, відаць, чужаземец, калі не ведаеш, што мне няма чаго баяцца ахоўнікаў, бо я ўжо вольны чалавек, а не раб. Я нават мог бы пайсці і ў горад, але не хачу хадзіць па вуліцах, бо дзеці палохаюцца майго твару.

— Хіба чалавек, асуджаны на вечную працу ў рудніках, можа быць вольным? Я ж усё бачу па тваіх вушах і тваім носе, — кпліва сказаў я, думаючы, што незнаёмец проста выхваляецца.

— Я не буду злавацца на твае словы, бо я чалавек пабожны і богабаязны, — адказаў ён. — Таму я і не забіў цябе соннага. Няўжо ты сапраўды не ведаеш, што наследнік, калі на яго ўсклалі карону абодвух цар-

ствах, загадаў раскаваць усе кайданы і вызваліць з руднікоў і каменяломняў усіх асуджаных на вечнае рабства, і з той пары там працуюць за плату толькі свабодныя людзі. — Ён доўга смяяўся нечаму свайму, а потым працягваў. — Нас тут у чаратах шмат дужых хлопцаў. Мы харчуемся ахвярамі з магіл багацеяў у Горадзе мёртвых, бо ахоўнікі баяцца нас, а нябожчыкі нам не страшныя. Ведай жа, што чалавек, які пабываў у каменяломнях нічога больш не баіцца, бо нічога больш страшнага з ім адбыцца не можа. Многія з нас не баяцца нават багоў, але, на маю думку, вернасць ім лепш зберагчы, таму я і застаўся пабожным, хоць правёў у каменяломнях дзесяць гадоў.

Такім чынам я даведаўся, што наследнік, узышоўшы на трон пад імем Аменхатэпа IV, вызваліў усіх рабоў і вязняў, ад чаго руднікі і каменяломні на ўсходнім беразе мора спусцелі, як спусцелі і руднікі Сіная. Ва ўсім Егіпце не знайшлося ніводнага вар'ята, каб добраахвотна пайсці працаваць на руднікі. Фараонам стаў чалавек, які шанаваў новага бога, а яго вялікаю жонкай стала прынцэса з Мітанні, якая яшчэ гуляла ў лялькі.

— Напэўна яго бог — зусім адмысловы бог, — сказаў былы раб, — калі ён дазваляе фараону рабіць неразумныя ўчынкі. Цяпер рабаўнікі і забойцы свабодна ходзяць па абодвух царствах, руднікі спусцелі, а Егіпет больш не ўзбагачаецца. Праўда, я сам не рабіў злачынстваў і пацярпеў праз несправядлівасць, але такое здаралася і будзе здарацца заўсёды. Гэта ж вар'яцтва — выпусціць на волю сто і тысячу злачынцаў дзеля таго, каб вызваліць аднаго невінаватага. Але гэта фараонава справа, а не мая. Хай фараон думае за мяне.

Кажучы гэта, ён разглядаў мяне, мацаў мае рукі і шнары на спіне. Смурод Дома смерці, які ішоў ад мяне, не палохаў яго, і ён, мусіць, пашкадаваў маю маладосць, бо прапанаваў:

— У цябе абгарэла скура. А я маю крыху алею. Калі хочаш, магу памазаць цябе. — І ён змазаў мне спіну, ногі і рукі, але робячы гэта лаяўся і прыгаворваў:

— Клянуся Амонам, я напраўду не ведаю, чаму раблю гэта! Мне ж ад цябе ніякай карысці, дый мяне ніхто ніколі не змазваў, калі я ляжаў пабіты і праклінаў багоў за тую несправядлівасць, што ўчынілі са мною.

Я ведаў, што асуджаныя і рабы ўсе клянуцца, што яны невінаватыя, але ж гэты паставіўся да мяне вельмі дружалюбна, і таму я вырашыў быць з ім прыветным. Апроч таго, я быў такі самотны, што баяўся застацца сам-насам са сваім сэрцам, і таму не хацеў, каб ён мяне пакінуў.

— Раскажы мне пра несправядлівасць, якую з табой учынілі, каб я мог пашкадаваць разам з табою, — сказаў я.

— Усю шкадобу з мяне выбілі ў медным рудніку палкамі яшчэ на першым годзе. Нянавісць была мацнейшая і пражыла ўва мне пяць



гадоў, але і яе не выбілі, і маё сэрца пазбавілася ўсякіх чалавечых пачуццяў. Зрэшты, чаму б, і праўда, не расказаць табе, проста каб пазабавіць... Дык ведай, што раней я быў свабодным чалавекам, араў зямлю, меў хаціну, быкоў, жонку, і ў маіх збанах заўсёды вялося піва. І быў у мяне сусед, магутны чалавек, якога звалі Анукіс, хай спрахне ягонае цела. Яго землі нельга было акінуць вокам, а гавяды ў яго было, як пяску ў пустэльні, і рыканне ягонай скаціны аглушала, нібы марская бура, але нягледзячы на гэта, ён квапіўся і на мой кавалак зямлі. Таму ён чыніў мне розныя падступствы, і кожны раз пасля разводдзя, калі зямлю мералі зноў, памежны камень падсоўваўся ўсё бліжэй да маёй хаціны, і я паступова страчваў свае палеткі. І я нічога не мог зрабіць: каморнікі слухаліся яго, а не мяне, бо ён падносіў ім багатыя падарункі. Ён запрудзіў маю палівальную канаву і не пускаў ваду на маё поле, мае быкі пакутавалі ад смагі, мае палеткі сохлі, і піва ў збанах скончылася. Але ён не чуў мае скаргі, бо ўзімку жыў у Фівах, у сваім вялікім доме, а калі ўлетку прыязджаў палюбавацца сваімі землямі, яго слугі збівалі мяне дрýкамі і цкавалі сабакамі, каб я не мог да яго наблізіцца. — Бязносы глыбока ўздыхнуў, націраючы мне алеем спіну, і распавядаў далей: — Можа, я і цяпер жыў бы ў сваёй хатцы, каб багі не праклялі мяне, паслаўшы мне дачку-прыгажуню. У мяне было пяцёра сыноў і тры дачкі, бо беднякі плодзяцца хутка. Падросшы, яны сталі мне добрымі памочнікамі і прыносілі шмат радасці, хоць аднаго сына яшчэ малога ўкраў праезджы сірыйскі гандляр. Затое самая малодшая мая дачка была сапраўднаю прыгажуняй, і я па сваёй дурноце ганарыўся гэтым і не даваў ёй рабіць цяжкую працу, ні гнуць спіну на полі, ні насіць ваду. Хоць было б куды разумней абстрыгчы ёй валасы ды выпацкаць сажаю твар, бо аднойчы Анукіс убачыў яе і загарэўся жаданнем. Пасля гэтага не было ў мяне ніводнага спакойнага дня. Ён выклікаў мяне ў суд і пакляўся, што мае быкі вытапталі яго поле, а мае сыны знарок запрудзілі яго палівальныя канавы і закідалі студні падлай. Ён пакляўся таксама, што, калі здарыўся неўраджайны год, ён пазычыў мне зерне, і ягоныя слугі пацвердзілі гэта, а суддзя нават не захацеў мяне слухаць. Зрэшты, Анукіс пакінуў бы мне поле, калі б я яму саступіў дачку, але я не пагадзіўся на гэта, спадзеючыся, што знайду сваёй прыгожай дачцэ прыстойнага мужа, які будзе са мною літасцівы і на старасці гадоў пракорміць мяне. Урэшце слугі Анукіса напалі на мяне, а ў мяне з сабою быў толькі кіёк, якім я так моцна ўдарыў аднаго раба, што той памёр. Тады мне адрэзалі нос і вушы ды адправілі на руднікі, а дзяцей і жонку прадалі ў рабства за нібыта нявыплачаныя даўгі. Праўда малодшую маю дачку Анукіс узяў сабе і, навесяліўшыся з ёю ўдосталь, аддаў на пацеху слугам. Таму я і лічу, што са мной учынілі несправядлівасць, паслаўшы на руднікі. Але цяпер, калі я, вызвалены праз

дзесяць гадоў фараонам, паспяшаўся дадому, я ўбачыў, што на маіх палях пасвяць чужую скаціну, маю хатку разбурылі, і нават мая дачка не захацела мяне прызнаць, лінуўшы варам на мае ногі, калі я зайшоў у дом да жывёлагадоўцаў. Але я даведаўся, што Анукіс памёр і пахаваны ў вялікай грабніцы ў Горадзе мёртвых непадалёк ад Фіваў і што на дзвярах ягонай магілы маецца вялікі надпіс. Таму я прыйшоў у Фівы, каб пацешыць сваё сэрца, пабачыўшы, што напісана на яго магіле, але я не ўмею чытаць і мне ніхто так і не прачытаў гэты надпіс, хоць, распытваючы людзей, я знайшоў магілу.

— Калі хочаш, я магу прачытаць табе, што там напісана,— прапанаваў я,— бо я ўмею чытаць.

— Хай навечна збярэжацца тваё цела,— узрадаваўся Бязносы,— калі ты хочаш зрабіць мне такую паслугу! Я бедны чалавек і веру ўсяму напісанаму. Вось я і хачу перад смерцю даведацца, што там напісалі пра Анукіса.

Ён нацёр мне цела алеем і памыў маю пояснічную павязку. Тады мы разам рушылі ў Горад мёртвых, і ахоўнікі не спынілі нас. Мы ішлі паміж шэрагамі магіл, пакуль ён не паказаў мне вялікую грабніцу, перад якою ляжалі мяса, рознае печыва, плады і кветкі. Побач стаяў запячатаны гарлач з віном. Бязносы паеў сам і даў паесці мне, а потым папрасіў прачытаць надпіс на дзвярах грабніцы. Я прачытаў: «Я, Анукіс, вырошчваў збожжа, садзіў дрэвы, і ўраджаі ў мяне былі вялікія, бо я баяўся багоў і ахвяраваў ім пятую частку ад сваіх ураджаяў. Ніл быў да мяне прыхільны, і ніхто не ведаў голаду на маіх землях. У дні майго жыцця мае суседзі таксама не пакутавалі ад голаду, бо я накіроўваў ваду на іх палеткі і карміў іх сваім хлебам у час няўроду. Я асушаў слёзы сірот і не рабаваў удоў, а дараваў ім усе пазыкі, так што маё імя ўслаўлялі па ўсіх землях. Калі хто страчваў свайго быка, я, Анукіс, дарыў яму другога. Ніколі ў жыцці я не перасоўваў памежных камянёў і не перашкаджаў паліваць палеткі суседзяў, я быў заўсёды богабаязны і справядлівы. Усё гэта я, Анукіс, рабіў, каб багі былі да мяне прыхільныя і каб яны зрабілі мой шлях у Краіну Захаду лёгкім».

Бязносы ўважліва слухаў, а калі я скончыў чытаць, ён заплакаў горкімі слязамі і сказаў:

— Я бедны чалавек і веру ўсяму, што напісана. Цяпер я бачу, што Анукіс быў пабожны і праведны чалавек, і таму яго шануюць нават пасля смерці. І наступныя пакаленні прачытаюць гэты надпіс і будуць услаўляць яго. А я — нікчэмны злачынец, пазбаўлены вушэй і носа, каб кожны бачыў маю ганьбу. І калі я памру, маё цела выкінуць у раку, і я не спазнаю вечнага жыцця.

Ён сарваў пячатку з віннага гарлача і стаў піць віно. Ахоўнік падышоў да яго і пагразіў палкай, але Бязносы сказаў:



— Анукіс зрабіў мне шмат добрага ў жыцці. Таму я хачу ўшанаваць яго памяць, паеўшы мяса і папіўшы віна на яго магіле. Калі ты кранеш мяне і майго сябра, вучонага чалавека, які ўмее чытаць і стаіць побач са мною, або паклічаш іншых ахоўнікаў, ведай, што нас, моцных хлопцаў з нажамі, шмат у чаратах, і ноччу мы прыйдзем і перарэжам табе глотку. Мне гэта было б вельмі непрыемна, бо я чалавек пабожны і нікому не хачу чыніць зла. Лепей прыкінься, што не бачыў нікога і пакінь нас у спакоі. Так будзе лепей табе самому.

Ён так шалёна глядзеў на ахоўніка і выгляд у яго быў такі страшны, што той паслухаўся і пайшоў прэч, баязліва азіраючыся. Мы елі і пілі пад прахалодным ценем ахвярнай павеці каля магілы Анукіса. Напіўшыся віна, Бязносы сказаў:

— Цяпер я разумею, што было б лепей па сваёй волі аддаць дачку Анукісу. Мажа, ён і пакінуў бы мне маю хаціну і нават падараваў бы што-небудзь, бо мая дачка была прыгожая і нявінная, хоць цяперператварылася ў посцілку для ўсіх Анукісавых рабоў. Цяпер я ведаю, што на свеце няма ніякага іншага права, апроч права моцнага і багатага, а словы беднякоў не далятаюць да вушэй фараона.

Ён высока ўзняў гарлач з віном, гучна зарагатаў і выгукнуў:

— Дык будзь жа здаровы, справядлівы Анукіс, хай збярэжацца тваё цела навечна, але я не хачу пайсці за табой у Краіну Захаду, дзе ты і табе падобныя вядуць вясёлае жыццё з блаславення багоў. Думаю, што будзе правільна, калі ты ўчыніш на зямлі яшчэ некалькі добрых спраў і падзелішся са мною тымі залатымі чашамі і аздобамі, якія ляжаць у тваёй магіле. Таму ноччу я прыйду павітаць цябе, як толькі месяц зойдзе за хмары.

— Што ты кажаш, Бязносы? — спалохана спытаўся я і міжволі зрабіў аберагальны знак Амона.— Не думай нават стаць рабаўніком магілаў, бо гэта самае ганебнае злачынства перад людзьмі і багамі!

Але асмялелы ад віна Бязносы запярэчыў:

— Ты вярзеш вучоную лухту, але ж Анукіс сёе-тое мне вінаваты, а я не такі літасцівы і міласэрны, як ён. І таму запатрабую ўсё, што ён мне вінен. Калі ты збіраешся мне перашкодзіць, я проста скручу табе шыю, а калі ты чалавек разумны, то пойдзеш са мною: па-першае, чатыры вокі лепей за два, а па-другое, калі мы ўзломім грабніцу, дык удвух знясем болей, чым здолее знесці адзін.

— Я не хачу, каб мяне павесілі на гарадской сцяне дагары нагамі,— спалохана адказаў я.

Але падумаўшы, прыйшоў да высновы, што мая ганьба наўрад ці ўзрасце, нават калі сябры ўбачаць мяне на гарадской сцяне,— сама ж смерць мяне не палохала.

Мы елі і пілі, а спустошыўшы гарлач, разбілі яго і параскідалі ас-

кепкі вакол магілы. Ахоўнікі не крычалі на нас, а сядзелі, павярнуўшыся спінамі, бо былі вельмі спалоханыя. На ноч ахоўваць магілы ў Горадзе мёртвых прыехалі з Фіваў воіны, але новы фараон не зрабіў ім ніякіх падарункаў пасля каранацыі, і яны незадаволена бурчэлі, а потым запалілі паходні, напіліся ахвярнага віна і кінуліся самі рабаваць магілы. Таму ніхто не перашкодзіў нам і не спыніў, калі мы з Бязносым узламалі магілу Анукіса і ўзялі гэтулькі залатых чашаў і аздобаў, колькі змаглі панесці. На світанні каля берага ракі з'явіўся цэлы натоўп сірыйскіх гандляроў, гатовых купіць у нас каштоўнасці, каб звезці іх уніз па рацэ. Мы прадалі ім сваю здабычу і атрымалі амаль дзвесце дэбенаў золата і срэбра. Потым мы ўсё гэта падзялілі паміж сабой адпаведна з вагою, пазначанай на кавалках. Але цана, якую мы атрымалі за выкрадзеныя з магілаў каштоўнасці, была толькі малою часцінкай іх сапраўднай вартасці, дый золата, якое мы атрымалі, было не зусім чыстым. Нягледзячы на гэта, Бязносы быў вельмі ўзрадаваны і сказаў:

— Я стану багатым чалавекам. Бо займацца гэтым нашмат выгадней, чым цягаць цяжары на прыстанях ці насіць ваду на палі.

Але я папярэдзіў яго:

— Панадзіўся гарлач ваду цягаць, там яму й чарапкамі стаць.

Мы разышліся, я пераплыў на той бок ракі ў лодцы гандляра і вярнуўся ў Фівы. Я набыў новае адзенне, паеў і папіў у шынку, бо смурод Дома смерці амаль выветрыўся з мяне. Але ўвесь дзень з Горада мёртвых даносіліся гукі ваенных труб і бразгат зброі. Баявыя калясніцы праносіліся ўздоўж магіл, і целаахоўнікі палявалі на вызваленых з руднікоў рабоў і воінаў, якія рабавалі магілы, так што іх смяротныя крыкі даносіліся да самага горада. А вечарам гарадскія муры пакрыліся павешанымі дагары нагамі злачынцамі, і ў Фівах зноў усталяваўся парадак.

**7**

Пераначаваўшы на заезным двары, я пайшоў да свайго былога дома і паклікаў Каптаха. Ён выйшаў, кульгаючы, са шчакой, распухлаю ад пабояў, і ўбачыўшы мяне, заплакаў ад радасці, праліваючы слёзы адзіным сваім вокам. Кінуўшыся мне ў ногі, ён сказаў:

— Ты вярнуўся, мой гаспадар, а я так баяўся, што ты памёр. Я думаў, што, калі б ты быў жывы, дык прыйшоў бы зноў папрасіць у мяне медзі і срэбра. Той, хто даў адзін раз, мусіць даваць яшчэ. Але ты не прыходзіў, хоць я ўжо накраў у новага гаспадара — каб спарахнела ягонае цела — столькі грошай, колькі быў здольны, як ты можаш меркаваць па маёй шчацэ і калене, якое ён мне разбіў учора. Яго кракадзіліха-матка — каб яна спрахла — прыгразіла мяне прадаць, а таму я ў вялікай журбе. Пойдзем хутчэй ад гэтага паганага дома, мой гаспадар! Я з задавальненнем уцяку разам з табою.



Я крыху вагаўся, і ён, зразумеўшы гэта па-свойму, сказаў:

— Я накраў гэтулькі, што пэўны час змагу цябе пракарміць, мой гаспадар, а калі запасы скончацца, я буду на цябе працаваць, толькі забяры мяне ад гэтай кракадзіліхі і ейнага сынка.

— Я прыйшоў толькі, каб аддаць табе доўг, Каптах, — сказаў я і высыпаў яму ў жменю золата і срэбра, якое шматкроць перавышала ўсё, што ён мне даў. — А калі хочаш, дык я выкуплю цябе ў твайго гаспадара на свабоду, і ты зможаш пайсці, куды захочаш.

Адчуўшы ў руках цяжар золата і срэбра, Каптах аж зайшоўся ад радасці і стаў падскокваць, забыўшыся на сваю кульгавасць і свой узрост. Але потым засаромеўся і сказаў:

— Я тады сапраўды горка плакаў, аддаючы табе свае зберажэнні, — не лічы гэта за вялікі грэх. Але ж калі б ты мяне цяпер выкупіў, куды б я пайшоў? Я ўсё жыццё быў рабом. Без цябе я буду як сляпое кацяня ці ягня, якога кінула маці. І не варта табе страціць дарагое золата на тое, што і так належыць табе.

Ён пачаў падміргваць мне сваім адзіным вокам, паказваючы, які ён вялікі пралаза.

— Я чакаў цябе і разведваў, як адыходзяць караблі з горада. Сёння ў Сіміру адплывае вялікі і моцны з выгляду карабель. Калі багам прынесці добрую ахвяру, на ім можна смела выпраўляцца ў падарожжа. Нядобра толькі, што адмовіўшыся ад Амона, які насылаў на нас толькі няшчасці, я пакуль не знайшоў дастаткова моцнага новага бога-заступніка. Я цікавіўся рознымі багамі і нават новым богам фараона, чый храм нядаўна адкрылі ў Фівах і куды ходзіць шмат люду, каб заслужыць фараонаву прыхільнасць. Але я чуў, нібыта фараон казаў, што яго бог жыве толькі па праўдзе, і таму баюся, што гэта вельмі нязручны бог і ад яго мне наўрад ці будзе якая карысць.

Тут я ўспомніў пра скарабея, якога знайшоў у горадзе мёртвых, і працягнуў яго Каптаху са словамі:

— Вось табе, хоць і маленькі, але магутны бог. Беражы яго, бо ён павінен прынесці нам шчасце — тым больш цяпер, калі ў мяне ёсць золата ў капшуку. Апраніся ў сірыйскую вопратку і, калі хочаш, бяжы, але, папаўшыся як беглы раб, не вінаваць мяне. Хай табе дапаможа гэты маленькі бог! А нашыя сродкі, напэўна, сапраўды будзе лепш зберагчы, каб заплаціць за дарогу ў Сіміру. У Фівах, дый ва ўсім Егіпце я ўжо не змагу паглядзець у вочы нікому. Але ж жыць недзе трэба... Таму я, мусіць, таксама паеду і ў Фівы больш не вярнуся ніколі.

Каптах запярэчыў:

— Не заракайся, мой гаспадар, бо заўтрашні дзень невядомы нікому. Чалавек, які аднойчы папіў вады з Ніла, не натоліць смагу ніякай іншай вадою. Але ты разважыў і вырашыў мудра і робіш яшчэ мудрэй, што

бярэш мяне з сабою, бо без мяне ты падобны да дзіцяці, якое не можа само сябе спавіць. Не ведаю, якое злачынства ты ўчыніў, што ў цябе аж вылазяць вочы, калі ты пра яго кажаш, але ты яшчэ малады і ўсё забудзецца. Чалавечыя здзяйсненні і ўчынкі  што камяні, кінутыя ў ваду: спачатку даюць моцны ўсплёск, а па часе на паверхні зноў ціхая, спакойная роўнядзь, а ад каменя і следу няма. Тое самае і з чалавечай памяццю. Хай толькі міне дастаткова часу, і ўсе забудуцца пра цябе і твой учынак, а ты, я спадзяюся, на той час станеш такім багатым і магутным, што зможаш абараніць і мяне, калі ў мяне раптам узнікнуць праблемы праз росшук беглых рабоў.

— Я з'еду і ніколі больш не вярнуся, — рашуча паўтарыў я, але ў гэты момант новая гаспадыня злосным голасам паклікала Каптаха.

Я адышоў да рогу вуліцы і стаў там яго чакаць. І неўзабаве ён з'явіўся з кошыкам, у якім ляжаў нейкі скрутак, а ў руцэ ў яго бразгалі кавалачкі медзі.

— Маці ўсіх кракадзілаў паслала мяне на рынак, — вельмі ўзрадавана сказаў Каптах. — Праўда, як заўсёды, яна дала мне мала медзі, але й маленькая дабаўка — таксама падмога ў падарожжы, а да Сіміры, пэўна, дарога не малая.

У кошыку, як высветлілася, былі яго новая вопратка і парык. Мы пайшлі да прыстані, і там ва ўзбярэжных чаратах Каптах пераапрануўся, а я купіў яму раскошны посах — такія носяць слугі знатных людзей і вяшчальнікі, што бягуць паперадзе багатых насілак. Потым мы падышлі да прычала, ад якога адыходзілі сірыйскія караблі, і знайшлі вялікае судна, ад носа да кармы якога цягнуўся тоўсты, з чалавечую руку таўшчынёй, канат, а на мачце паласкалася палотнішча — знак адыходу. Капітан быў сірыец і вельмі ўзрадаваўся, што я лекар, бо, па-першае, ён надта паважаў егіпецкую лекарскую навуку, а па-другое, у яго было шмат хворых матросаў. Скарабей сапраўды нёс нам удачу: занесшы нас у карабельны спіс, капітан нават не ўзяў грошай за дарогу, а толькі за харчаванне. З тае пары Каптах пачаў ушаноўваць скарабея як бога, націраў яго добрым алеем і загортваў у дарагую тканіну.

Карабель адышоў ад прычала, рабы налеглі на вёслы, і праз васемнаццаць дзён падарожжа мы дасягнулі мяжы двух царстваў, а яшчэ праз васемнаццаць — дайшлі да месца, дзе Ніл падзяляецца на два рукавы, што ўпадаюць у мора, якое адкрылася перад намі яшчэ праз два дні. Па дарозе мы міналі шматлікія гарады і храмы, бачылі багатыя палі і вялікія статкі, але багацце Егіпта не радавала маё сэрца і я прагнуў толькі аднаго — каб мы рухаліся шпарчэй і як мага хутчэй пакінулі Чорную зямлю. Калі ж перад намі раскінулася бязмежная марская прастора, Каптах занепакоіўся і спытаў, ці не лепей было б сысці на бераг і дабрацца да Сіміры сушай, няхай нават такі шлях быў нялёгкі і нам



пагражалі б рабаўнікі. Яго занепакоенасць узрасла, калі весляры і матросы, паводле звычаю, пачалі лямантаваць, скардзіцца і да крыві падрапалі вострымі камянямі твары, нягледзячы на тое, што капітан забараняў ім гэта, не жадаючы палохаць шматлікіх пасажыраў. Карабель называўся «Дэльфін». Капітан загадаў адлупцаваць весляроў і матросаў, але гэта ніяк не сцішыла іхняга ляманту. Тады многія падарожнікі пачалі горка скардзіцца і прыносіць ахвяры сваім багам: егіпцяне заклікалі на дапамогу Амона, а сірыйцы рвалі бароды і маліліся багам Сіміры, Сідона і Бібла, у залежнасці ад таго, адкуль хто быў родам. Але часцей па дапамогу звярталіся да Ваала.

Я параіў Каптаху прынесці ахвяры нашаму богу, калі ён баіцца, і той разгарнуў скарабея, укленчыў перад ім і кінуў у мора кавалак срэбра, каб улагодзіць марскіх багоў. Ён шчыра аплакваў свой гаротны лёс і страчанае срэбра. Матросы перасталі гарлаць і паднялі ветразь, карабель нахіліўся і пачаў гайдацца, а весляры атрымалі хлеб і піва.

Калі судна загайдалася, Каптах змяніўся з твару — ён зрабіўся шэрым, перастаў крычаць і ўчапіўся ў карабельныя вяроўкі. Неўзабаве ён сказаў, што страўнік у яго падняўся да самых вушэй і, відаць, настае яго смяротны час. Але хоць гэта я падбухторыў яго на такое страшнае падарожжа, праклінаць ён мяне не хацеў. Ён спадзяваўся, што багі будуць да яго літасцівыя, а марская вада дастаткова салёная, каб зберагчы яго цела і каб ён мог трапіць у Краіну Захаду. Але маракі, пачуўшы такія словы, пасмяяліся са старога і сказалі, што марская глыбіня кішыць усялякімі страшыдламі, якія пашкуматаюць ягонае цела раней, чым яно апусціцца на марское дно.

Вецер мацнеў, гайданка рабілася ўсё больш адчувальнаю, а капітан вывеў карабель у мора так далёка, што берагі зніклі з вачэй. Тады захваляваўся і я, бо не разумеў, як капітан знойдзе дарогу да берага. Я ўжо не смяяўся з Каптаха, у маёй галаве ўсё закруцілася, і мяне апанавала нейкае дзіўнае пачуццё. Неўзабаве Каптах званітаваў, а потым лёг, скруціўшыся на дошках палубы, і больш не прамаўляў ні слова. Занепакоены, я агледзеўся і ўбачыў, што шмат хто з пасажыраў таксама ванітуе, што твары ў людзей зялёныя, і яны стогнуць, кажучы, што паміраюць. Тады я падышоў да капітана і сказаў, што багі, напэўна, угнявіліся і праклялі яго карабель, бо нягледзячы на ўсё маё лекарскае майстэрства, людзі паміраюць: відаць, нейкая невядомая страшная хвароба ўспыхнула на караблі. Я ўпрошваў капітана павярнуць судна да берага, пакуль яго яшчэ можна знайсці, іначай як лекар я не змагу адказваць за наступствы. Хоць мне было няёмка ўмешвацца ў справы, якія тычыліся капітана, я звярнуў яго ўвагу на жахлівую непагадзь і на тое, што карабель пад напорам навалы вось-вось разваліцца.

Але капітан супакоіў мяне, сказаўшы, што гэта ніякая не бура, а

ўсяго толькі спадарожны вецер, які дапамагае нам рухацца хутчэй, і параіў мне не гнявіць багоў падобнымі разважаннямі. А ўзнікненне хваробы, якая апанавала падарожнікаў, ён патлумачыў тым, што, напэўна, гаспадары карабля ў Сіміры прынеслі багатыя ахвяры марскім багам, каб падарожнікі, якія заплацілі за харчы на ўвесь час падарожжа, не маглі ўтрымаць унутры ўсё з'едзенае і не жэрлі зашмат, як драпежныя звяры, а тым самым не чынілі б уласнікам карабля вялікіх выдаткаў.

Яго тлумачэнні не вельмі мяне суцешылі, і я насмеліўся спытаць капітана, ці знойдзе ён дарогу да берага, бо вакол хутка цямнела. Той адказаў, што ў яго ў каюце ёсць цэлая гурма розных багоў, якія дапамагаюць яму знайсці дарогу як уначы, так і ўдзень, толькі б ноччу свяцілі зоркі, а днём — сонца. Але я не паверыў у гэтыя байкі, бо наўрад ці ёсць на свеце такія багі.

Я пасмяяўся з яго і спытаў, чаму тады я таксама не захварэў, як астатнія падарожнікі. Ён адказаў, што гэта натуральна, бо я заплаціў за харчы асобна і не прычыню гаспадарам карабля ніякіх выдаткаў. А пра Каптаха ён сказаў, што слугі і рабы — гэта зусім іншая справа. Яны могуць захварэць, а могуць і застацца здаровымі, тут як ужо выпадзе. Ён пакляўся сваёй барадой, што кожны падарожнік стане здаровы, як маладая козачка, як толькі ступіць на бераг у Сіміры, а таму мне няма чаго баяцца за сваю славу лекара. Аднак, гледзячы на вартае жалю становішча пасажыраў, мне цяжка было паверыць у яго словы. Але чаму я не захварэў сам, сказаць не магу. Магчыма таму, што ледзьве народжаным быў кінуты ў трысняговы човен гайдацца на хвалях Ніла, — іншага тлумачэння ў мяне няма.

Я спрабаваў вылечыць Каптаха і падарожнікаў, як толькі мог, але на ўсе мае спробы яны адказвалі грубай лаянкай. А Каптах ад мяне адвярнуўся, і ад яго даносіліся гукі, быццам вялікі бегемот ачышчаў свой страўнік, хоць з Каптахава стаўніка вычышчаць ужо не было чаго. Ніколі раней ён не адварочваўся ад місы з ежай, а таму я спалохаўся, што ён памрэ, і гэта вельмі мяне засмуціла, бо я прывык да яго дурных размоваў і разважанняў.

Настала ноч, і я, нарэшце, заснуў, хоць гайданка, плёскат хваляў і рыпенне ветразяў мяне вельмі палохалі. Так прайшло некалькі дзён, і ніхто з падарожнікаў не памёр, наадварот — многія пачалі нават хадзіць па палубе і добра есці. Толькі Каптах усё яшчэ ляжаў на сваім месцы і не дакранаўся да ежы, але і ён пачаў падаваць прыкметы жыцця, бо пачаў маліцца нашаму скарабею і, здаецца, паверыў, што дабярэцца да цвёрдай зямлі жывы.

Калі ж на сёмы дзень падарожжа паказаўся бераг, капітан сказаў, што мы пасля Яфы і Ціра, дзякуючы спадарожнаму ветру, ідзём прама



ў Сіміру. Адкуль ён ведаў усё гэта — мне і па сённяшні дзень невядома. Але ўранку сапраўды паказалася Сіміра, і капітан прынёс багатыя ахвяры марскім багам і багам гаспадароў карабля. Ветразі спусцілі, весляры занурылі вёслы ў ваду, і карабель увайшоў у сімірскую гавань.

Як толькі мы дасягнулі ціхай вады, Каптах стаў на ногі і пакляўся скарабеем, што больш ніколі яго нага не ступіць на мост карабля.

# ПАПІРУС ПЯТЫ
## Хабіры

### 1

Тут я павінен распавесці пра Сірыю і тыя гарады, дзе мне давялося пабываць, але найперш трэба сказаць, што там, у чырвоных землях, усё зусім не такое, як у Чорнай зямлі Кэмет. Рэкі тут не цякуць па зямлі, а падаюць з неба і паліваюць зямлю. Каля кожнай даліны ўздымаюцца горы, а за гарамі зноў ідуць даліны, і ў кожнай даліне жыве асобны народ, і ў кожнага народа ёсць свой уладар, які плаціць даніну фараону, ва ўсякім разе плаціў у тыя часы, пра якія я вяду свой аповед.

Усе гэтыя народы размаўляюць на розных мовах і гаворках, жыхары ўзбярэжжа кормяцца ад рыбнай лоўлі ці ад марскога гандлю, а ва ўнутраных землях — займаюцца земляробствам ці проста рабуюць адзін аднаго, і егіпецкія гарнізоны ніяк не могуць перашкодзіць гэтаму. Тубыльцы носяць стракатыя, па-майстэрску вытканыя з воўны строі, прычым адзенне пакрывае іх з галавы да ног, мусіць, таму што тут значна халадней, чым у Егіпце, а можа, яшчэ і таму, што яны саромеюцца агаляць сваё цела, за выключэннем тых выпадкаў, калі спраўляюць свае патрэбы — проста на вуліцы, што прыводзіць егіпцян у жах. Яны адрошчваюць доўгія валасы і бароды, харчуюцца заўсёды ў доме, а іхнія багі, якіх шмат у кожнага горада, патрабуюць і чалавечых ахвяраў. Зараз, калі я распавёў пра ўсё гэта, кожнаму будзе зразумела, што тут, у чырвоных землях, усё зусім не такое, як у нас, у Егіпце, а чаму так, я сказаць не магу, бо мне гэта невядома.

І, вядома, кожнаму будзе зразумела, што тыя знатныя егіпцяне, якіх пасылалі ў сірыйскія гарады сачыць за зборам падаткаў на карысць фараона ці камандаваць гарнізонамі, лічылі такія прызначэнні хутчэй карай, чым ганаровай пасадай, і з журбой марылі аб вяртанні да берагоў Ніла. Былі, праўда, і выключэнні, калі некаторых па іх слабасці прываблівала новае незвычайнае жыццё, і яны мянялі вопратку і светапогляд ды пачыналі прыносіць ахвяры чужым багам. Апроч незвычайнага ладу жыцця сірыйцаў і іх дзіўных звычаяў, жыццё егіпецкім правіцелям нямала атручвалі іх вечныя хітрыкі і махлярствы з аплатай падаткаў ды бясконцыя звады паміж мясцовымі князькамі. Але ў Сіміры быў храм Амона, і егіпецкая грамада жыла тут па сваіх звычаях, разам святкуючы ўсе свае святы, і ніяк не змешвалася з сірыйцамі. Егіпцяне імкнуліся ўявіць, што яны жывуць у Егіпце.





Я пражыў у Сіміры два гады і за гэты час вывучыў вавілонскую мову і пісьмо, бо мне сказалі, што, ведаючы гэтую мову, я змагу праехаць па ўсяму абжытаму свету і адукаваныя людзі зразумеюць мяне. Як вядома, па-вавілонску пішуць на гліняных таблічках, выціскаючы значкі вострым канцом пісьмовай палачкі, і шмат якія ўладары розных краінаў перапісваюцца такім самым чынам. Чаму так — я не ведаю. Можа, прычынай гэтаму служыць тое, што папірус лёгка згарае, а гліняная таблічка зберагаецца вечна і расказвае потым, як лёгка цары і ўладары забываюцца на свае святыя хаўрусы ды непарушныя дамовы.

Кажучы, што ў Сірыі ўсё не такое, як у Егіпце, я меў на ўвазе таксама, што лекары тут самі шукаюць хворых, а не наадварот: хворы тут прымае толькі таго лекара, які да яго прыйшоў сам, бо ў такім выпадку лічыцца, што ён прысланы багамі. Лекару плацяць загадзя, і гэта вельмі добра, бо часта бывае так, што, выздаравеўшы, хворы страчвае ўсякае пачуццё ўдзячнасці. Але ў знатных і багатых людзей ёсць звычай, згодна з якім яны трымаюць асабістых лекараў, плацячы ім грошы і адорваючы дарамі, пакуль здаровыя, а калі захворваюць, усякія выплаты і хабары канчаюцца да поўнага выздараўлення.

Я меў намер займацца лекаваннем у Сіміры паціху, без усякага шуму, але Каптах сказаў: «Не». Ён хацеў, каб я ўклаў усе грошы ў багатыя строі і наняў вяшчальнікаў, якія абвясцілі б аб маім майстэрстве па ўсяму гораду, асабліва ў тых месцах, дзе збіраецца багата людзей. Вяшчальнікі павінны былі таксама паведаміць, што я не шукаю хворых, а яны самі павінны прыходзіць да мяне. І Каптах настойваў, каб я не прымаў тых, хто будзе прыходзіць без ніякага, няхай хоць бы і маленечкага кавалачка золата. Я адказаў на гэта, што ў чужым горадзе, дзе ніхто не ведае майго майстэрства, рабіць так — поўнае вар'яцтва. Але пераканаць Каптаха мне не ўдалося, бо, забраўшы што-небудзь у галаву, ён рабіўся ўпарты, як той асёл.

Ён вымусіў мяне таксама пайсці да самых славутых лекараў Сіміры і сказаць ім:

— Я — егіпецкі лекар Сінухе, якому новы фараон даў імя «Самотнік», і слава мая на радзіме вельмі вялікая. Я ўздымаю да жыцця памерлых і вяртаю зрок сляпым, калі гэта не ідзе насуперак волі майго маленькага, але магутнага бога, якога я важу з сабою ў маленькім куфэрку. Аднак лекарская навука не паўсюль аднолькавая, як неаднолькавыя і чалавечыя немачы. Таму я прыехаў у ваш горад, каб навучыцца лячыць тутэйшыя хваробы і набрацца вашых ведаў і вашае мудрасці. Я ніякім чынам не збіраюся перашкаджаць вам у вашым высакародным занятку, бо хто я такі, каб спаборнічаць з вамі? Золата для мяне — усё адно што пыл пад нагамі, і я прапаную вам прысылаць да мяне толькі тых хворых, якіх вы не можаце вылечыць самі, таму што супраць іх угнявіліся

вашы багі, а паколькі вы не карыстаецеся нажом, то прысылайце да мяне такіх хворых, якіх можна вылечыць толькі з дапамогай нажа, а я пагляджу, ці можа мой маленькі, але магутны бог, вылечыць іх. Калі ж такі хворы выздаравее, я аддам вам палову тых дарункаў, што дастанупца мне ад яго, бо напраўду кажу вам — я прыехаў сюды не па золата, а па навуку і веды. А калі я не змагу вылечыць такога хворага, дык адашлю яго да вас разам з дарункамі, не ўзяўшы сабе нічога.

Сімірскія лекары, якіх мне даводзілася сустракаць на вуліцах і рынках, дзе яны шукалі хворых, трэслі апранахамі, часалі бароды і адказвалі мне так:

— Ты малады, але бачна, што твой бог падарыў табе мудрасць: твае словы прыемна кладуцца на наш слых. А тое, што ты кажаш пра золата і падарункі, падаецца асабліва мудрым. Даспадобы нам і твае словы пра лячэнне нажом, бо мы яго не выкарыстоўваем, а хворы, да якога дакрануўся нож, памірае хутчэй за таго, каго лячылі без нажа. Мы толькі просім цябе, каб ты ніколі не лячыў людзей чарадзействам, бо ў нашых чарадзеяў саміх сілы ўдосталь, і ў Сіміры ды іншых прыморскіх гарадах спаборнікаў на гэтым полі хапае.

Тое, што яны казалі пра чарадзейства і магію было праўдай..На вуліцах кідалася ў вочы вялікая колькасць невукаў, якія не ўмелі ні чытаць, ні пісаць, але абяцалі вылечыць чарадзействам, і, трэба сказаць, даволі часта жыравалі ў дамах сваіх легкаверных пацыентаў, пакуль тыя не паміралі ці не папраўляліся. І тут была вялікая розніца паміж егіпецкімі і тутэйшымі звычаямі. У Егіпце, як гэта добра вядома, магіяй могуць займацца толькі храмавыя жрацы вышэйшых ступеняў, і сакрэты сваёй чарадзейнай сілы яны пад страхам жорсткага пакарання трымаюць у тайне ад усякіх самадзейных магаў.

А вынікам маіх дзеянняў у Сіміры стала тое, што да мяне пачалі прыходзіць хворыя, якіх не змаглі вылечыць тутэйшыя лекары. А я іх вылечваў. Калі ж я гэта зрабіць не мог, то адсылаў хворага назад да сімірскіх лекараў. Як таго патрабуе звычай, дзеля ачышчэння я прынёс у дом свяшчэнны агонь з храма Амона, каб потым смела ўжываць нож, і пачаў рабіць аперацыі, гледзячы на якія, сімірскія лекары толькі здзіўлена часалі бароды. Мне ўдалося вярнуць зрок аднаму сляпому, якога беспаспяхова лячылі і лекары, і чарадзеі, намазваючы яму вочы слінаю з пылам. Я вылечыў яго так, як гэта рабілі ў Егіпце — з дапамогай іголкі,— чым заслужыў вялікую славу, хоць потым гэты хворы зноў аслеп, бо звычайна такое выздараўленне нядоўгае.

Гандляры і багацеі Сіміры вялі лянотны лад жыцця, яны елі нашмат болей за егіпцян і тлусцелі, пакутуючы ад гэтага на задышку і боль у страўніку. Я лячыў іх з дапамогай нажа — так, што кроў лілася з іх, як са свіней. Вельмі прыдалася мне і навука егіпецкіх жрацоў аб лекавых травах і часе, калі месяц і зоркі найбольш спрыяюць іх збору. Веды мясцовых лекараў у гэтай галіне былі надта малыя, і я не давяраў іх зёлкам. Я даваў таўстунам свае настойкі, якія сунімалі ў іх боль у страўніку і здымалі задышку. Гэтыя лекі я прадаваў па вялікай цане — кожнаму адпаведна з яго багаццем,— не пасварыўшыся пры гэтым ні з чыноўнікамі, ні з мясцовымі лекарамі, якім я адсылаў падарункі. А Каптах, падтрымліваючы маю славу, прыкормліваў у доме шматлікіх жабракоў і казачнікаў, якія потым разносілі чуткі пра мяне па вуліцах і рынках, так што маё імя ведалі ва ўсіх канцах горада.



Я зарабіў шмат грошай, і ўсё, што не патраціў на сябе ці на хабар і падарункі, уклаў у сімірскія гандлёвыя дамы, якія пасылалі караблі ў Егіпет, на марскія выспы ды ў зямлю Хатці. Такім чынам я меў сваю долю ў многіх караблях — дзе сотую, дзе пяцісотую, у залежнасці ад укладзеных грошай. Некаторыя караблі не вярталіся ніколі, але большасць усё ж прыходзіла назад, і гандлёвыя дамы падвойвалі і патройвалі маё золата, што пацвярджалася запісамі ў гандлёвых кнігах. Так у Сіміры рабілі ўсе і заўсёды, а вось у Егіпце гэты звычай быў невядомы. У Сіміры ж нават беднякі, збіраючыся па дзесяць ці дваццаць чалавек, складвалі сваю медзь, каб купіць тысячную долю карабля ці грузу, багацеючы або разараючыся ўшчэнт. І ў мяне не было патрэбы трымаць сваё золата дома, вечна баючыся злодзеяў і рабаўнікоў: маё багацце было ўкладзена ў гандлёвыя прадпрыемствы і запісана ў гандлёвыя кнігі, так што калі я ездзіў у якія-небудзь гарады накшталт Бібла ці Сідона, у мяне не было патрэбы везці з сабою золата — калі, знаходзячыся ў Бібле ці Сідоне, я хацеў купіць што-небудзь асабліва дарагое, мне дастаткова было проста зайсці там у гандлёвы дом і паказаць гліняную таблічку. Але найчасцей патрабавалася нават гэтага, бо золата мне падносілі ў дар за лекаванне хворыя, якія пасылалі па мяне ў Сіміру, страціўшы веру ў лекараў са свайго горада.

Такім чынам поспех спадарожнічаў мне, багацце маё павялічвалася, а Каптах тлусцеў, апранаўся ў дарагія строі, намашчваў сябе дарагімі алеямі, і нават са мной пачаў размаўляць фанабэрыста і непрыветна, пакуль я не пабіў яго як след кійком. Але сказаць, чаму ўсё ішло так паспяхова я не магу. Я быў малады, поўны веры ў свае здольнасці і ўменне, нож не дрыжаў у маёй руцэ, і я браўся лячыць самых цяжкіх хворых, бо губляць мне было нечага. Я не грэбаваў ведамі і майстэрствам сімірскіх лекараў, я нават ужываў іхнія зеллі, калі бачыў у тым карысць, але асабліва паспяхова яны ўмелі замест нажа ўжываць распаленае жалеза, хоць гэта і прыносіла хворым цяжкія пакуты. Магчыма, што да поспехаў мяне прыводзіў свяшчэнны скарабей, якога Каптах ушаноўваў як бога, і я заказаў яму маленькі храм-жытло з золата і срэбра, а Каптах штодзённа прыносіў яму ахвяру са свежага каровіна-

га гною, каб ён мог скручваць з яго шарыкі, як гэта звычайна робяць такія жукі, хоць я ніводнага разу не бачыў, што наш скарабей скруціў такі шарык. Я не быў упэўнены, што маім поспехам спрыяў скарабей, але ставіўся да яго ветліва і пачціва і не перашкаджаў Каптаху яму пакланяцца. Урэшце Каптах нават пачаў сябе ўяўляць жрацом нашага бажка, а не маім слугою.

А на самой справе мой поспех быў такі вялікі толькі таму, што я нікому не зайздросціў і ні з кім не супернічаў, шчодрай рукой раздаючы падарункі і прымаючы хворых, якіх ужо ніхто не браўся лячыць. І веды былі для мяне даражэй ад золата. Асабліва веды сталі для мяне важней за ўсё, калі я зарабіў дастаткова золата і срэбра, каб весці бязбеднае жыццё і мог дазволіць сабе дзеля практыкі і навучання палячыць і беднякоў. Хворыя паміралі і ў мяне, бо майго майстэрства не заўсёды хапала, каб вылечыць усіх. Але гэта не шкодзіла маёй добрай славе. Пра тых, хто паміраў у мяне, звычайна казалі: «Так, значыць, хацеў Ваал, калі нават Сінухе-егіпцянін не змог яго вылечыць». Вось якая вялікая была ў мяне слава ў Сіміры.

**2**

Але я па-ранейшаму заставаўся самотны, і маё жыццё не радавала мяне. Мне абрыдла нават віно, якое не весяліла больш маё сэрца. Ад яго толькі твар рабіўся чорны, як сажа, і, напіўшыся, я не жадаў нічога, апроч сваёй смерці. Каб не пакінуць сабе ўдзень ніводнай вольнай хвіліны і ўначы спаць глыбокім сном, я пашыраў свае веды, вывучаў вавілонскае пісьмо і мову, бо ў кожнае імгненне, калі я не быў заняты, маё сэрца разрывалася ад роспачы, і боль за мінулыя ўчынкі раз'ядаў яго мацней за шчолак.

Каб паглядзець, ці могуць сірыйскія багі даць мне якія-небудзь новыя веды, я пачаў вывучаць мясцовых багоў, якія — як і ўсё астатняе ў Сіміры — былі зусім не такія, як у Егіпце. Галоўным богам Сіміры быў Ваал — жорсткі і бязлітасны бог, які за сваю прыхільнасць да горада патрабаваў чалавечых ахвяраў, а яго жрацы самі спакладалі сябе. Марскія багі таксама патрабавалі чалавечых ахвяраў, а Ваалу трэба было прыносіць у ахвяру і маленькіх дзяцей — у выніку гандляры і гарадскія чыноўнікі няспынна шукалі ахвяры гэтым багам. Таму ў Сіміры не было вінаватых рабоў і бедных людзей — за самую маленькую віну бедняка, які, напрыклад, украў рыбіну на рынку дзеля пракорму сваёй сям'і, спальвалі на ахвярным агні Ваала. Затое багаты чалавек, які ашукаў другога, падмяшаўшы срэбра ў золата або змахляваўшы з вагой тавараў, не меў ніякага пакарання, а наадварот заслугоўваў славу добрага гандляра, бо ў Сіміры казалі: «Чалавек створаны, каб быць ашуканым». Калі ж маракі і капітаны караблёў кралі ў іншых узбярэжных



гарадах і нават у Егіпце дзяцей, каб прынесці іх у ахвяру Ваалу, гэта залічвалася ім у вялікую заслугу.

Іх багіняй была Астарта, або, як яе называлі ў Ніневіі, Іштар. У яе было шмат грудзей, і кожны дзень яе апраналі ў светлыя строі і ўпрыгожвалі рознымі аздобамі маладыя жанчыны, якіх чамусьці называлі храмавымі дзевамі, хоць яны не былі ніякімі дзевамі, а наадварот, павінны былі весяліцца ў храме, бо гэта лічылася жаданым багіняю ўчынкам, і тым болей жаданым, чым болей золата ахвяравалі храму мужчыны. А таму гэтыя жанчыны проста спаборнічалі між сабой у майстэрстве любіць мужчын рознымі спосабамі, да чаго іх прывучалі з ранняга дзяцінства, каб мужчыны дзеля іх багата адорвалі Астарту. І гэты звычай быў адваротны егіпецкаму, дзе весяліцца з жанчынай у храме было вялікім грэхам, і калі хто пападаўся на тым, дык злачынцу адсылалі на руднікі, а ў храме праводзілі ачышчальны абрад.

Але сваіх жонак сімірскія гандляры сцераглі пільна, трымаючы іх дома пад моцнымі запорамі і загортваючы з галавы да ног у шчыльную тканіну, каб не маглі яны ніяк прывабіць позіркі мужчын. А самі мужчыны, каб разнастаіць жыццё і дагадзіць багам, часта наведваліся ў храмы. Таму ў Сіміры не было дамоў уцех, як у Егіпце, а калі нехта не здавальняўся храмавымі дзевамі, яму трэба было жаніцца або купіць на рынку маладую рабыню і весяліцца з ёю. На рынку штодзённа прадавалі вялікае мноства рабоў, прывезеных на караблях у сімірскую гавань. Там былі рабы і рабыні на любы густ — розных колераў і адценняў скуры, тоўстыя і тонкія, дзеці і маладыя дзяўчаты. Правініўшыхся рабоў па таннай цане куплялі гарадскія ўлады і прыносілі іх у ахвяру Ваалу. Пасля кіраўнікі ўсміхаліся і білі сябе ў грудзі ў знак гонару і задавальнення, што ім удалося так спрытна ашукаць свайго грознага бога. Калі раб трапляўся стары, бяззубы, бязногі ці смяротна хворы, Ваалу завязвалі вочы — каб бог не бачыў ніякіх заганаў, а задавальняўся толькі пахам ахвярнай крыві.

Я таксама прыносіў ахвяры Ваалу, бо ён быў галоўным богам горада, і з ім лепш было мець добрыя адносіны. Але я егіпцянін, а таму ніколі не прыносіў Ваалу чалавечых ахвяраў, а даваў толькі золата. Хадзіў я часам і ў храм Астарты, які адчыняўся ўвечары, слухаў там музыку і глядзеў, як маладыя жанчыны — не хачу называць іх дзевамі — выконвалі спакушальныя танцы ў гонар сваёй багіні. Я весяліўся з імі, як таго патрабаваў звычай, і, на здзіў, яны навучылі мяне шмат чаму такому, што мне было невядома. Але маё сэрца побач з імі не радавалася, я хадзіў туды дзеля цікаўнасці, а калі зведаў усё, што маглі даць храмавыя жанчыны, то й перастаў наведваць храм, бо іх майстэрства пачало мне здавацца на дзіва аднастайным.

Каптах быў занепакоены маім станам і гаротна трос галавой, бачачы,

як старыцца мой твар, як усё глыбейшымі робяцца маршчыны над маім пераноссем і як маё сэрца замыкаецца ад усяго свету. Таму ён хацеў, каб я купіў сабе рабыню і ў вольны час весяліўся з ёю, калі ўжо ўзяць жонку з чужога народа мне нельга, а з егіпецкай абшчынай я не маю зносін. Паколькі Каптах быў маім асэсарам і распараджаўся ўсім маім золатам, ён купіў мне на рынку маладую рабыню на свой густ, памыў, апрануў, намасціў яе духмяным алеем і паказаў мне вечарам, калі я, стомлены пасля доўгага дня лекавання хворых, збіраўся ўжо ісці спаць.

Гэта была дзяўчына з выспаў, беласкурая, белазубая, не вельмі тоўстая, з вялікімі ласкавымі, як у цяляці, вачыма. Яна пачціва глядзела на мяне і баялася чужога горада. Каптах паказаў мне яе і натхнёна ўзяўся ўсхваляць яе прыгажосць. Каб дагадзіць яму, я паспрабаваў павесяліцца з рабыняй. Я зрабіў усё што мог, каб не застацца самотным, але сэрца маё не ўзрадавалася і я не змог назваць яе сястрой.

Але паставіўшыся да яе прыязна і добразычліва, я зрабіў памылку, бо яна заганарылася і пачала перашкаджаць мне нават тады, калі я прымаў хворых. Яна шмат ела, пачала таўсцець, бясконца выпрошвала ў мяне ўсё новыя аздобы ды строі, хадзіла следам, не зводзячы з мяне вачэй і ўвесь час хацела са мной весяліцца. Не дапамагала нават тое, што мне часта даводзілася ездзіць углыб краіны і па ўзбярэжжы. Як толькі я вяртаўся, яна першая сустракала мяне, плакала ад радасці і зноў неадчэпна хадзіла за мною, бясконца жадаючы весяліцца. Аднойчы я ў злосці адлупцаваў яе кійком, але і гэта аказалася марным — яна толькі яшчэ больш распалілася і прыйшла ў захапленне ад маёй сілы. Жыццё ў доме рабілася невыносным, і я вырашыў аддаць яе Каптаху, бо ўрэшце той купіў яе на свой густ, дык няхай і весяліцца з ёю, а мяне пазбавіць ад свайго падарунка! Але яна пачала драпацца і кусацца, пабіла Каптаха, лаючыся на незразумелай нам мове яе родных выспаў і тымі словамі, якія паспела вывучыць у Сіміры. Не дапамагло і тое, што мы абодва пабілі яе кійкамі, бо яна толькі яшчэ больш захацела мяне.

Але скарабей зноў прынёс мне ўдачу, бо аднойчы, прачуўшы пра маю славу, да мяне прыехаў незвычайны хворы — гэта быў цар Азіру з Амарэі, краіны ў глыбіні земляў, далёка ад мора. Я агледзеў ягоныя зубы, сапсаваныя пакрыў золатам, а на месца страчанага ў бітве з суседзямі паставіў новы, зроблены са слановай косці. Пакуль я ўсё гэта старанна рыхтаваў і рабіў, цар жыў у Сіміры, праводзячы перамовы аб справах, што тычыліся стасункаў паміж Амарэяй і Сімірай, і кожны дзень прыходзіў да мяне. Тут ён і прыкмеціў маю маладую рабыню, якую я празваў па назве яе роднай выспы — Кефцью, бо вымавіць яе варварскага імя я быў няздольны. Цар Азіру быў дужы, як бугай, скура ў яго была светлая, а чорная барада адлівала сінім, і вочы глядзелі дзёрзка і фанабэрыста. Кефцью таксама пачала заглядацца на яго: жанчын заўсёды вабіць што-небудзь новае. Ён быў асабліва ўражаны незвычайнай у такім маладым узросце паўнацеласцю Кефцью і вельмі ўпадабаў яе ўбранне, якое на крыцкі лад закрывала шыю і пакідала адкрытымі грудзі, што тут было вялікім дзівам, бо мясцовыя жанчыны хадзілі захутаныя ў тканіну з галавы да ног. Нарэшце ён не змог праціўіцца свайму жаданню і, цяжка ўздыхнуўшы, сказаў мне:

— Я шчыры твой сябар, Сінухе-егіпцянін, ты мне вылечыў зубы і зрабіў так, што рот у мяне ззяе золатам,— і гэтым ты павялічыў славу маёй зямлі, Амарэі. Я надзялю цябе за ўсё гэта такімі багатымі дарункамі, што ты здзіўлена ўскінеш рукі. Але нягледзячы на ўсю маю ўдзячнасць, мне давядзецца нанесці табе цяжкую абразу, хоць мне вельмі не хацелася б гэтага. Ды што зробіш, калі, гледзячы на тваю рабыню, я страціў спакой і больш не магу супраціўляцца жаданню, якое раздзірае маё цела як дзікая кошка. Тут нават ты са сваім майстэрствам не зможаш вылечыць мяне. Мая цяга да гэтай жанчыны мацнейшая за любую хваробу! Я ніколі не бачыў такой прыгажуні і добра разумею, як ты даражыш ёю, калі яна па начах саграе цябе ў тваім ложку. Але я прашу цябе аддаць яе мне, каб я мог зрабіць яе адной са сваіх жонак і вызваліць з рабства. Я твой сябар і чалавек сумленны, а таму кажу шчыра, што заплачу за яе, колькі ты скажаш, а калі ты не згодзішся, то ўкраду яе і звязу ў сваю краіну, дзе ты ніколі яе не знойдзеш. Нават калі ты ўцячэш з ёй з Сіміры на край зямлі, мае людзі знойдуць цябе і заб'юць, а жанчыну прывязуць да мяне. Я кажу табе ўсё гэта загадзя, бо я чалавек сумленны і не хачу ўчыняць подласці свайму сябру.

Мяне гэтыя словы так узрадавалі, што ад захаплення я ўзняў рукі, але Каптах, які таксама ўсё чуў, пачаў ірваць на сабе валасы і са слязьмі залямантаваў:

— Сёння дрэнны дзень, і лепш бы майму гаспадару не нараджацца на свет, бо ты хочаш забраць у яго адзіную жанчыну, якая весяліць яго сэрца! Такую страту нічым не заменіш, бо гэтая жанчына для майго гаспадара даражэйшая за ўсякае золата, каштоўныя камяні і заморскія духмянасці, яна прыгажэйшая за маладзік, яе жывот, якога ты яшчэ не пабачыў, белы і круглы, нібы гурба пшаніцы, а грудзі, як ты можаш пераканацца, цвёрдыя і пукатыя, нібы дыні.

Ён сказаў усё гэта, наслухаўшыся, як сімірскія гандляры расхвальваюць свой тавар. Ну і, вядома, хацеў атрымаць за дзяўчыну як мага вышэйшую цану, хоць мы абодва марылі пазбавіцца ад яе. Пачуўшы такую размову, Кефцью расплакалася і абвясціла, што ніколі не пакіне мяне, а сама тым часам з захапленнем глядзела праз пальцы на цара Азіру і яго кучаравую бараду.

Я ўзняў руку, прымусіў усіх замаўчаць і, зрабіўшы засмучаны выгляд, сказаў:

— Мой сябра Азіру, уладар Амарэі! Гэтая жанчына напраўду каханка майго самотнага сэрца, і я называю яе сястрой, але тваё сяброўства мне даражэйшае за ўсё ў гэтым свеце, і таму я аддаю яе — у знак нашага сяброўства — табе ў падарунак, і не трэба мне ніякай платы. Валодай жа ёю і рабі з ёй усё, чаго патрабуе дзікая кошка, што пасялілася ў тваім целе, тым больш што, калі я не памыляюся, сэрца Кефцью таксама павярнулася да цябе, і яе цела раздзірае такая самая дзікая кошка.

Азіру гучна закрычаў ад радасці і абвясціў:

— Далібог, Сінухе, хоць ты і егіпцянін і ўсё дрэннае ідзе з Егіпта, але з сённяшняга дня ты будзеш мне сябрам і братам, а тваё імя будзе блаславёнае па ўсёй зямлі амарэйцаў, і калі ты прыедзеш да мяне ў госці, я пасаджу цябе праваруч і паперадзе ўсіх самых знатных маіх вяльможаў і гасцей, хай сабе гэта будуць нават цары і князі.

Сказаўшы гэта ён засмяяўся, бліснуўшы залатымі зубамі, і зірнуў на Кефцью, якая ўжо забылася на свае слёзы. Вочы ў Азіру загарэліся, як вуголлі, ён схапіў дзяўчыну ў абдымкі так, што ажно ўскінуліся акруглыя дыні яе грудзей, і лёгка, нібы тая нічога не важыла, закінуў яе ў свае насілкі. Пакінуўшы маё жытло, ён зачыніўся ў сваім доме, і наступныя трое сутак яго не бачылі ў горадзе. А мы з Каптахам вельмі ўзрадаваліся, што пазбавіліся ад навязлівай дзеўкі. Праўда, Каптах папракаў мяне, што я не папрасіў падарункаў, хоць мог бы атрымаць усё, што хацеў. Але я сказаў яму:

— Я звязаў Азіру сяброўствам, падараваўшы яму дзяўчыну. А заўтрашні дзень невядомы нікому. Хоць царства Амарэя малое і нікчэмнае, і там гадуюць толькі аслоў ды авечак, дружба цара — гэта дружба цара, і можа так стацца, што яна будзе даражэйшай ад золата.

Каптах у роздуме патрос галавой, пачухаў патыліцу, а потым дастаў нашага скарабея, памазаў мірам і прынёс яму новую ахвяру за тое, што мы пазбавіліся ад Кефцью.

Перш чым вярнуцца ў сваё царства, Азіру яшчэ раз прыйшоў да мяне, схіліўся перада мной да зямлі і прамовіў:

— Я не прапаную табе падарункаў, Сінухе, бо немагчыма аддзячыць ніякімі дарамі за тое, што ты даў мне. Дзяўчына аказалася яшчэ лепшай, чым я думаў, яе вочы падобны да бяздонных калодзежаў, і я ніяк не магу насыціцца ёю, хоць яна выціснула з мяне ўсё семя, як алей з аліўкавых ягад. Скажу табе шчыра, што мая краіна не вельмі багатая і здабыць золата я магу толькі абдзіраючы гандляроў, якія праязджаюць праз мае землі, ці ваюючы з суседзямі, а егіпцяне адразу налятаюць на мяне, як авадні, і прычыняюць мне большыя выдаткі, чым мая ваенная здабыча. А таму я не магу адарыць цябе так, як таго заслугоўвае твая шчодрасць. І я не люблю Егіпет, які вынішчыў старадаўнія свабоды маёй зямлі і не дазваляе мне весці войны, як я хачу, і ўдосталь рабаваць



гандляроў, як гэта рабілі мае продкі. Але калі ты прыедзеш да мяне ў госці, то можаш атрымаць усё, што захочаш, апроч гэтай жанчыны ды коней, якія мне патрэбны дзеля баявых калясніцаў. Затое ўсё астатняе, што толькі ў маёй уладзе, ты ад мяне атрымаеш. А калі хто-небудзь пакрыўдзіць цябе, дык мне толькі паведамі, і мае людзі заб'юць крыўдзіцеля, дзе б ён ні быў, бо я маю сваіх людзей і тут, у Сіміры, і па ўсяму ўзбярэжжу, і ў іншых сірыйскіх гарадах, але гэта я прашу цябе зберагаць у тайне. Я расказваю табе пра свае таямніцы, каб ты ведаў, што я загадаю забіць любога, і тваё імя не будзе замешанае. Вось такое вялікае маё сяброўства.

Сказаўшы гэта, ён па сірыйскім звычаі абняў мяне, а потым у знак пашаны і захаплення зняў з шыі залаты ланцуг і павесіў яго на мяне, хоць гэта быў для яго вялікі дар, і я пачуў, як ён пры гэтым уздыхнуў. А таму я аддзячыў яго сваім залатым ланцугом, які некалі атрымаў ад самага багатага суднаўладальніка ў Сіміры за тое, што ўратаваў яго жонку падчас цяжкіх родаў, і Азіру нікольні не страціў ад такога абмену, чаму ён вельмі ўзрадаваўся. Так мы развіталіся.

### 3

Пазбавіўшыся ад рабыні, я адчуў, што маё сэрца стала лёгкім і вольным, як нябесная птушка, і вачам захацелася пабачыць што-небудзь новае, і неспакой ахапіў маю душу так, што я ўжо не мог уседзець у Сіміры. Зноў наступіла вясна, караблі ў гавані рыхтаваліся ў далёкія падарожжы, а жрацы, як толькі зямля зазелянела, выйшлі за горад, каб выкапаць свайго бога Таммуза, якога ўвосень яны пахавалі пад гучны плач і лямант, у скрусе да крыві раздзіраючы свае целы.

Неспакой і цікаўнасць тачылі мяне, і я разам з гурмамі людзей пайшоў за жрацамі. Зямля блішчала яркаю зелянінай, на дрэвах лопаліся пупышкі, варкавалі галубы, квакалі на балотах жабы. Жрацы адкацілі з магілы камень, выкапалі бога і гучна абвясцілі, што Таммуз уваскрос і вярнуўся да жыцця. Увесь народ таксама выбухнуў радаснымі крыкамі і пачаў ламаць галінкі з дрэваў ды піць піва і віно ў намётах, якія спрытныя гандляры паставілі непадалёк ад магілы ўваскрослага бога. Жанчыны прывалаклі на калясніцы вялізны драўляны фалас і, калі настала ноч, не памятаючы сябе ад радасці, паскідалі з сябе адзенне і разбегліся па лугах, не зважаючы на тое, што сярод іх былі і замужнія. У вялікай радасці яны аддаваліся першым стрэчным, і хутка палі і схілы пагоркаў напоўніліся любоўнымі стогнамі. Гэтым яны таксама цалкам адрозніваліся ад егіпцян. Гледзячы на іх, я адчуў зайздрасць і падумаў, што, відаць, я нарадзіўся ўжо стары, бо мая родная Чорная зямля старэйшая за ўсе іншыя землі, а гэтыя народы — маладыя і служаць сваім багам, учыняючы тое, да чаго схільныя іх багі.

Але вясна прынесла таксама і дрэнную вестку. Пайшла пагалоска, што з пустэльні прыйшлі хабіры і што, разрабаваўшы памежныя з Сірыяй землі, яны ідуць з поўдня на поўнач, спальваючы вёскі і абкладаючы гарады. Аднак фараонавы войскі прайшлі ім насустрач праз Сірыйскую пустэльню з Таніса, разграмілі іх і прагналі назад у пустэльню, захапіўшы ў палон іхняга правадыра. Нашэсце хабіраў адбывалася кожнай вясной, але гэтым разам жыхары Сіміры ўсхваляваліся, бо хабіры разрабавалі горад Катну, дзе стаяў егіпецкі гарнізон. Яны забілі мясцовага правіцеля і пасеклі мечамі ўсіх егіпцян, не шкадуючы жанчын і дзяцей і нікога не беручы ў палон дзеля выкупу, як рабілі раней заўсёды. Такіх дзеянняў хабіраў ніхто не помніў, бо звычайна яны пазбягалі нападаць на гарады з егіпецкімі гарнізонамі.

Такім чынам, у Сірыі ўспыхнула вайна, а я вайны ніколі не бачыў. Мне захацелася набыць і ваенны досвед, пабачыць, што такое вайна і ці можа яна навучыць мяне чаму-небудзь новаму і невядомаму. Таму я адправіўся да фараонавых войскаў. Апроч таго, я хацеў папрактыкавацца ў лекаванні ранаў, нанесеных ваеннай зброяй. Але найпершай прычынай майго падарожжа было тое, што начальнікам фараонавых войскаў быў Харэмхеб, а я ў сваёй вечнай самоце вельмі хацеў пабачыць твар сябра і пачуць яго голас. Праўда, спачатку я баяўся, што ён не захоча са мной гаварыць з прычыны маіх мінулых ганебных учынкаў. Але за два гады шмат чаго адбылося, і маё сэрца, відаць, загрубела: успаміны пра мае злачынствы ўжо не надта мяне жахалі і сорам не паліў маё сумленне. Я сеў на карабель і паплыў уздоўж узбярэжжа на поўдзень, а потым далучыўся да атрадаў, якія везлі харчаванне ўглыб краіны і, то на аслах, то на калёсах з вінам і алеем, паціху дабраўся да маленькага гарадка на вяршыні гары. Гарадок быў абнесены мурам і называўся Ерусалім. Там стаяў невялікі егіпецкі гарнізон, і Харэмхеб, рыхтуючыся да далейшых паходаў, размясціў у ім сваю стаўку. Чуткі, якія хадзілі ў Сіміры, перабольшвалі сілу фараонавых войскаў, бо пад камандай Харэмхеба быў толькі атрад калясніцаў ды тысячы дзве воінаў, узброеных лукамі і дзідамі, а чуткі сцвярджалі, што ў Хабіры гэтай вясной воінаў было больш, чым пяску ў пустэльні.

Харэмхеб прыняў мяне ў бруднай глінянай хацінцы. Ён здзіўлена паглядзеў на мой сірыйскі плашч, які я звычайна насіў, і сказаў:

— Я ведаў аднаго Сінухе. Ён быў лекарам і маім сябрам.

Як і ён, я за гэтыя гады пастарэў, і мой твар змяніўся, але ён усё ж пазнаў мяне, узняў у знак прывітання свой залаты камандзірскі бізун і, радасна ўсміхнуўшыся, сказаў:

— У імя Амона, гэта ты, Сінухе! А я думаў, ты памёр.

Ён выгнаў усіх штабных служак і пісарчукоў з іх папірусамі ды картамі і, загадаўшы прынесці віна, прапанаваў мне выпіць са словамі:



— Дзіўныя шляхі вызначае Амон, калі мы сустракаемся тут, у Чырвонай зямлі, у гэтым запаганеным гарадку.

Пры гэтых словах сэрца страсянулася ў маіх грудзях, і я зразумеў, што даўно ўжо па ім сумую. Я распавёў пра падзеі, што адбыліся ў маім жыцці, пра ўсё, што лічыў патрэбным, і ён прапанаваў:

— Калі хочаш, можаш пайсці з маім войскам, як лекар, і падзяліць з намі славу, бо я ўсур'ёз думаю даць гэтым брудным хабірам такога дыхту, што яны навек запомняць маё імя і вечна будуць аплакваць той дзень, калі з'явіліся на свет.

І яшчэ ён сказаў:

— Калі мы сустрэліся першы раз, я, напэўна, быў зусім дурны хлопец з нямытымі нагамі. А ты ўжо тады быў паважаны і вядомы чалавек, і ты даў мне шмат карысных парадаў. Цяпер я ведаю і разумею нашмат больш, і ў маіх руках, як ты бачыш, залаты бізун. Але я зарабіў яго нікчэмнаю службай, ганяючыся з фараонавымі ахоўнікамі за злачынцамі і рабаўнікамі, якіх фараон у бяздум'і выпусціў з руднікоў. Нам давялося шмат папрацаваць, пакуль мы іх усіх перабілі. І вось, пачуўшы пра нашэсце хабіраў, я папрасіў фараона даць мне некалькі атрадаў, каб выступіць супраць, і ніхто з высокапастаўленых ваяводаў не захацеў са мною супернічаць: золата і ўзнагароды хутчэй можна атрымаць паблізу ад фараона, чым у дзікай пустэльні, а дзіды ў хабіраў вострыя, і іх ваяўнічы кліч наганяе жах. Такім чынам я нарэшце маю магчымасць набрацца сапраўднага ваеннага досведу і навучыць у гэтых бітвах сваіх воінаў. Але фараон мае ўсяго адзін клопат: каб я прагнаў хабіраў, не праліваючы крыві.— Харэмхеб засмяяўся і сцебануў бізуном па халяве. Я таксама засмяяўся, але ён раптам перарваў смех, глынуў віна і працягваў:

— Праўду кажучы, Сінухе, я моцна змяніўся пасля нашай апошняй сустрэчы, бо чалавек, які пажыве побач з гэтым фараонам, міжволі мяняецца. Ён выклікае ў мяне занепакоенасць. Ён так шмат разважае і гаворыць пра свайго бога, што ў Фівах мне часта здавалася, што ў мяне ў мазгах бегаюць мурашкі. Я не мог спаць па начах, калі толькі не напіваўся ці не весяліўся з жанчынамі, каб у маёй галаве хоць крыху пасвятлела. У яго дзіўны, незвычайны бог. Гэты бог не мае аблічча, ён круглы, ён прысутнічае адразу паўсюдна і блаславаўляе ўсіх сваімі даўгімі рукамі, і раб, і вяльможа — усе роўныя перад ім. Скажы мне, Сінухе, ці гэта не трызненне хворага чалавека? Бо я не магу прыдумаць іншага тлумачэння — відаць, фараона ў дзяцінстве ўкусіла хворая малпа. Толькі вар'ят можа ўвабраць у галаву, што хабіраў можна прагнаць, не праліваючы крыві. Ты сам пачуеш, як жахліва яны крычаць у баі, і ўпэўнішся, што я кажу праўду. А фараон, калі яму так хочацца, можа атрэсці рукі, бо я з радасцю вазьму на сябе грэх перад яго богам і перадушу

калясніцамі ўсіх гэтых хабіраў.— Ён зноў глынуў віна і казаў далей.— Мой бог — Гор, і я не маю нічога супраць Амона, бо ў Фівах я навучыўся такой адмысловай лаянцы імем Амона, якая безадмоўна дзейнічае на воінаў. Я, вядома, разумею, што Амон забраў надта вялікую сілу, і новы бог змагаецца з ім, каб умацаваць фараонаву ўладу. Пра гэта мне сказала сама Боская царыца-маці, а таксама жрэц Эйе, які цяпер носіць жазло праваруч ад фараона. З дапамогай Атона яны спадзяюцца калі не звергнуць Амона, дык, прынамсі, абмежаваць яго моц, бо сапраўды нікуды не варта, калі жрацы Амона маюць у Егіпце ўладу большую, чым у фараона. Як воін, я добра разумею, што дзяржаўная мудрасць патрабуе новага бога. І я нічога не маю супраць, калі фараон задаволіцца пабудовай храмаў у гонар свайго бога і будзе плаціць ягоным жрацам, але ён зашмат разважае і ўвесь час толькі й гаворыць пра свайго бога, так што ўвогуле нічога нельга зрабіць, каб гаворка рана ці позна не прывяла зноў жа да гэтага бога. Людзі вакол фараона вар'яцеюць ад гэтага больш за яго. Ён кажа, што жыве па праўдзе, але праўда — гэта як востры нож у руках дзіцяці. Але ў руках вар'ята яна робіцца яшчэ небяспечнейшаю, чым нож, бо нож трэба трымаць у похвах і вымаць толькі пры сапраўднай патрэбе. І найбольш небяспечнай праўда бывае для саміх уладароў і правадыроў.

Ён адпіў яшчэ віна і сказаў:

— Я ўдзячны свайму сокалу, што выбраўся з Фіваў, бо з новым богам Фівы сталі сапраўдным змяіным кублом, а я не хачу ўмешвацца ў сварку паміж багамі. Жрацы Амона распаўсюджваюць непрыстойныя байкі наконт нараджэння фараона і падбухторваюць супраць яго народ. Шлюб фараона таксама выклікаў дрэнную пагалоску, бо фараонава нявеста, прынцэса з Мітанні, якая яшчэ гуляла ў лялькі, раптам памерла, і фараон узяў сабе ў царскія жонкі дзяўчыну, якую завуць Неферціці, дачку жраца Эйе. Праўда, гэтая Неферціці жанчына прыгожая, і апранаецца яна прыгожа. Але яна вельмі ўпартая — сапраўдная дачка свайго бацькі.

— А як памерла мітаннійская прынцэса? — спытаў я, бо некалі бачыў гэтую дзяўчынку з вялікімі вачыма і памятаў, як яна глядзела на Фівы, калі яе, упрыгожаную, быццам багіню, неслі на насілках праз Алею бараноў.

— Лекары кажуць, што яна не вытрывала егіпецкага клімату,— адказаў Харэмхеб і засмяяўся.— Гэта недарэчная хлусня, бо нідзе на свеце няма болей здаровага клімату, чым у Егіпце. Але ты сам ведаеш, як шмат дзяцей памірае на жаночай палавіне фараонава палаца,— як гэта не дзіўна — нават больш, чым у гліняных хацінах фіванскіх беднякоў. Лепш не называць ніякіх імёнаў, але калі я адважыўся б гэта зрабіць, дык скіраваў бы сваю калясніцу да дома жраца Эйе.



Ён гаварыў лёгка і бестурботна, пахлопваючы сябе па лытках залатым бізуном, але кідалася ў вочы, што гэта быў не ранейшы марнаслоўны юнак, а пасталелы мужчына, поўны мяцежнага духу.

— Калі хочаш пазнаёміцца з новым фараонавым богам,— прапанаваў ён,— прыходзь заўтра на асвячэнне храма, які я збудаваў у гэтым гарадку на вяршыні скалы. Я пашлю яму вестку аб адкрыцці новага храма, а пра забітых і кроў, што тут пралілася, яму ведаць не абавязкова. Хай сабе сядзіць у Залатым палацы ды радуецца свайму богу.

На развітанне ён сказаў:

— Пераначуй у намёце, калі знойдзеш месца. Мне па майму чыну давядзецца начаваць у палацы тутэйшага князька, а там столькі вошай! Але вошы, як голад, раны ды спаленыя селішчы — абавязковыя складнікі любой вайны, так што мне скардзіцца не выпадае.

Я ўтульна ўладкаваўся і пераначаваў у намёце, бо на ўзбярэжжы, па дарозе ў Ерусалім, пасябраваў з начальнікам, які ведаў усімі вайсковымі прыпасамі. Я сказаў яму, што буду вайсковым лекарам, і ён пачаў усяляк мне дагаджаць, бо які салдат перад бітвай не захоча быць з лекарам у добрых стасунках. Увесь вечар ён уздыхаў і скардзіўся:

— Чым нарадзіцца воінам, лепш бы мне зусім не з'яўляцца на гэты свет, бо страх галодным пацуком дзень і ноч грызе сэрца воіна. Ужо ў дзяцінстве яму дастаецца больш бізуноў, чым харчоў, а ў паходзе ён, нібы асёл, павінен цягнуць на ўласных плячах прыпасы — правіянт і ваду, ад чаго шыя ў яго дубее і звязкі плячэй расцягваюцца. Непрыяцель нявечыць яго цела дзідамі і стрэламі, а калі воін трапляе ў палон, яго, быццам птушку, садзяць у клетку, збіваюць і вяжуць па руках і нагах. Смагу ў паходах ён наталяе пратухлай вадой, а ўся плата — толькі тое, што яму ўдасца нарабаваць ці забраць у непрыяцеля на вайне. Воін, якому нарэшце дазваляюць вярнуцца ў Егіпет, падобны да паточанага чарвякамі дрэва і ўжо ні на што не прыдатны. Ён бездапаможна ляжыць на спіне асла, звалены з ног хваробай ці ранамі, яго вопратку скралі, а слуга ўцёк. Сапраўды, лепей бы мне не з'яўляцца на гэты свет воінам.

Ён паказаў мне двух воінаў, якія спрабавалі ўцячы, і Харэмхеб загадаў іх павесіць на гарадскім муры дагары нагамі. Нябогі, на іх шчасце, ужо сканалі: іх сябры-лучнікі, злітаваўшыся з былых паплечнікаў, выкарысталі іх замест мішэняў перад бітвай. Паказаў ён мне і двух палонных хабіраў — двух здаравенных злосных дзецюкоў з тоўстымі насамі і скрываўленымі галовамі. Потым мы нарэшце пайшлі спаць у намёт.

Уранні мяне разбудзілі трубы, воіны збіраліся па атрадах і шыкаваліся ў шэрагі, а малодшыя камандзіры і начальнікі бегалі ўздоўж, піхалі воінаў у спіны і лупцавалі бізунамі. Калі нарэшце ўсталяваўся парадак, да войска з бруднага глінянага палаца мясцовага правіцеля выйшаў

Харэмхеб з залатым бізуном у руках. Пакуль Харэмхеб прамаўляў да войска, слуга трымаў над ім парасон і вялікім веерам адганяў мух. А Харэмхеб казаў:

— Егіпецкія воіны! Калі я кажу «егіпецкія воіны», то маю на ўвазе і вас, паганыя негры, і вас, брудныя сірыйскія капейшчыкі, і вас, сарданы, і каляснічых, больш за ўсё падобных да сапраўдных воінаў, і сапраўдных егіпцян сярод гэтага віскліввага статку. Я доўга ставіўся да вас з вялікай спагадай і навучаў з вялікім цярпеннем, але цяпер маім цярпенню і спагадзе настаў канец, і я не магу прымусіць вас займацца вайсковымі практыкаваннямі, бо калі вы рушыце маршам, дык павыколваеце дзідамі адзін аднаму вочы, а страляючы на бягу з лукаў — параніце адзін аднаго і дарэмна патраціце стрэлы, якіх у нас — хвала фараону, хай на вякі зберажэцца ягонае цела — і так не хапае. Замест таго я павяду вас сёння на бітву, бо мае выведнікі данеслі, што хабіры наладзілі стойбішча за гарамі, але выведнікі не сказалі, колькі гэтых хабіраў, бо ад страху кінуліся на ўцёкі, не паспеўшы іх пералічыць. Я спадзяюся, аднак, што іх дастаткова, каб перабіць вас усіх,— тады мне больш не давядзецца глядзець на вашы баязлівыя мярзотныя храпы, і я змагу вярнуцца ў Егіпет, каб сабраць войска, у якім будзе дастаткова сапраўдных мужчын, якія любяць славу, пашану і здабычу. Ва ўсякім выпадку, я даю вам сёння апошнюю магчымасць паспрабаваць стаць сапраўднымі воінамі. Гэй, ты, камандзір з разбітым носам! Дай выспятка таму паганцу, што калупаецца ў задніцы, пакуль я прамаўляю! Так, я даю вам шанец паспрабаваць апошні раз!

Харэмхеб абвёў войска суровым позіркам, які дасягнуў кожнага воіна, і ніхто не адважыўся варухнуцца, а ён тым часам працягваў:

— Я павяду вас на бітву, і хай кожны ведае, што я сам пайду ў першых радах і не буду аглядвацца — ідзе хто за мной ці няма нікога. Бо я сын Гора, і сокал ляціць перада мною, і сёння я разаб'ю войскі хабіраў, хай нават застануся адзін. Але я кажу загадзя, што з майго бізуна гэтым вечарам далібог зацурчыць кроў, бо я адлупцую кожнага, хто не пойдзе следам за мною, хто паспрабуе схавацца ці ўцячы, адлупцую так, што яны пашкадуюць, што нарадзіліся. Я кажу вам гэта, бо мой бізун будзе страшнейшы за дзіды хабіраў, зроблены з дрэннай крохкай медзі. Ведайце, што апроч сваіх галасоў, хабіры не маюць нічога страшнага, хоць сваім крыкам яны сапраўды ўмеюць наводзіць жах. Таму, калі хто баіцца крыку хабіраў, хай залепіць вушы глінай. Вялікай бяды ад таго не будзе, бо ўсё адно камандаў у такім гвалце вы не пачуеце: кожны проста павінен ісці за сваім начальнікам, а ўсе разам — за маім сокалам. І яшчэ скажу вам пра хабіраў: яны б'юцца без ніякага парадку, а вас я вучыў выступаць радамі, а лучнікаў — страляць разам і па камандзе. І хай Сэт з усімі сваімі нячысцікамі спаліць таго, хто выпусціць стралу раней і не нацэліўшыся. І не ідзіце ў бой з віскам, як перапалоханыя бабы, прыкіньцеся хоць раз мужыкамі, апранутымі ў паясныя павязкі, а не ў жаночыя спадніцы. Калі вам удасца разбіць хабіраў — зможаце забраць і падзяліць паміж сабой усё — скаціну, майно,— і вы станеце багатымі, бо хабіры нарабавалі шмат здабычы ў спаленых селішчах. Сабе ж я не вазьму ніводнага раба і ніводнага быка. Можаце дзяліць паміж сабой і жанчын,— я ўпэўнены, што вам будзе прыемна прабавіць з імі вечар, бо жанчыны ў хабіраў — гарачыя і любяць адважных ваяроў.



Харэмхеб паглядзеў на свае палкі, і воіны раптам дружна загукалі, малоцячы дзідамі па шчытах і махаючы лукамі. Харэмхеб усміхнуўся, абыякава махнуў бізуном і сказаў:

— Я бачу, што вам карціць хутчэй дастаць у каршэнь, але спачатку трэба асвяціць храм Атона, новага фараонава бога. Ён, праўда, не надта ваяўнічы бог, і я не думаю, што вам будзе ад яго вялікая карысць. Таму хай перадавыя дружыны выступаюць, а астатнія пойдуць асвяціць храм, каб заслужыць прыхільнасць фараона. Вас чакае доўгі шлях, і я намераны прывесці вас на бітву такімі стомленымі, каб у вас не стала сілы ўцякаць і вы былі вымушаныя біцца да апошняга, ратуючы сваё жыццё.

Харэмхеб зноў махнуў залатым бізуном, і воіны зноў адгукнуліся раднаснымі крыкамі. Пасля гэтага войска ў беспарадку рушыла з горада, але кожная дружына ішла пад сваім сцягам, які плыў на доўгай жардзіне над галовамі на чале калоны. Так яны выступілі на бітву, ідучы за значкамі з ільвінымі хвастамі, сокаламі ці кракадзілавымі галовамі, а перад імі ехалі лёгкія калясніцы, указваючы шлях. Тым часам тылавыя атрады разам з вышэйшым начальствам рушылі за Харэмхебам на ўскраіну горада, да скалы, на якой стаяў новы храм. Я чуў, як некаторыя военачальнікі па дарозе незадаволена перакідваліся між сабою словамі:

— Дзе гэта бачна, каб начальнік ішоў на бітву першы? Ужо мы прынамсі не збіраемся так рабіць! Спрадвеку заведзена, што начальнікаў нясуць на насілках следам за байцамі, бо толькі начальнікі ўмеюць пісаць і змогуць занатаваць, каго трэба ўзнагародзіць, а каго — пакараць.

Харэмхеб добра чуў гэтыя размовы, але маўчаў, і толькі ўсміхаўся, памахваючы бізуном.

Храм быў маленькі, спешна зляплены з гліны і бярвення, зусім не падобны да нашых звычайных храмаў — алтар стаяў пасярэдзіне і даху над ім не было, як не было і выявы бога, а таму воіны разгублена круцілі галовамі, стараючыся згледзець, дзе можа стаяць статуя. Харэмхеб прамовіў:

— Бог нашага фараона — хай на вякі зберажэцца ягонае цела — круглы і падобны да сонца. Ён красуецца ў небе, і вы можаце глядзець на яго, калі вытрываюць вашыя вочы. Ён бласлаўляе вас сваімі даўгімі

рукамі, але здаецца мне, што пасля цяжкага пераходу яго рукі будуць нагадваць вам гарачыя голкі ў спінах.

Воіны незадаволена забурчалі, кажучы, што фараонаў бог ад іх надта далёка, а яны хочуць такога, перад якім можна было б упасці і, адважыўшыся, памацаць яго рукамі. Але яны змоўклі, як толькі ўвайшоў жрэц, кволы малады чалавек з непаголенай галавой, у белым плашчы на плячах. Яго вочы палалі натхненнем, калі ён ускладаў на алтар стракатыя вясеннія кветкі, духмянасці і віно. На гэта воіны засмяяліся ўголас, а жрэц гэтак сама натхнёна заспяваў ухвальную песню Атону, якую, нібыта склаў сам фараон. Песня была доўгая і аднатонная, воіны слухалі яе, раззявіўшы раты, але нічога не разумелі. А жрэц спяваў:

Ты, дзівосны, уздымаешся з-за небакраю,
жывы Атон, з усіх жывых найпершы!
Ты ўсплываеш на ўсходнім небасхіле
і хараством сваім поўніш землі,
бо Ты вялікі і цудоўны ў нябеснай вышыні палаеш.
Праменнем сваёй любові
Ты абдымаеш створаныя Табою землі.
Хай Ты ад нас далёка, але Тваё праменне паверхню ўсёй зямлі пакрыла,
хай сам Ты ў вышыні, але нагамі ступаеш Ты па глебе.

Потым ён так маляўніча заспяваў пра начную цемру ды львоў, якія выходзяць па начах са сваіх пячораў, пра змей, якія выпаўзаюць са сваіх нораў, што многія слухачы забаяліся. А ён спяваў пра ясны дзень, пра тое, як птушкі на світанні распраўляюць крылы, вітаючы ўсход Атона. Ён спяваў пра тое, што новы бог нараджае жыццё ў жаночым чэраве і надае магутную сілу мужчынскаму семю. Слухаючы яго, можна было паверыць, што ніводная справа на зямлі не абыходзіцца без удзелу Атона, і нават кураня не можа вылупіцца і заціўкаць без яго дапамогі. А жрэц працягваў:

Твае шматлікія здзяйсненні
схаваны ад людскіх вачэй,
о адзіны і непараўнальны ў сваёй уладзе Божа!
Адзін Ты па сваім жаданні стварыў зямлю,
людзей, жывёлаў, вялікіх і малых істотаў,
усіх, хто па зямлі ступае,
усіх, хто ў небе лётае на крылах.
Стварыў Ты землі Сірыі, і Нубіі,
і землі двух Егіптаў.
Ты кожнаму даеш пад сонцам месца
і кожнаму даеш, што неабходна,
Ты адмяраеш кожнаму свой шлях
і кожнаму свой век Ты адмяраеш.
Ты раздзяліў народы ўсе
па выглядзе, па колеры, па мове.



Яшчэ ён абвясціў, што Атон стварыў як Ніл зямны, так і Ніл нябесны, ад чаго начальнікі пачалі бурчаць, што новы бог умешваецца ў справы Амона. Ён стварыў паравіны года і жыў у мільёнах абліччаў паўсюдна — у гарадах, вёсках і селішчах, на водных і зямных шляхах. Жрэц закончыў:

Ты адзіны ў сэрцы маім
і ніхто не спазнаў Цябе так,
як твой сын фараон.
Ты паведаў яму свае думы,
і надаў яму сваю сілу.
Ты трымаеш сусвет у руцэ,
той сусвет, які сам Ты стварыў,
у святле тваім людзі жывуць,
Ты заходзіш — яны паміраюць,
бо толькі Ты жыватворны,
надаеш чалавеку жыццё.
Зіхатлівым аблічча сваім
Ты прыносіш вачам асалоду,
а знікаеш на захадзе Ты,
і паўсюдна жыццё замірае.
І стварыў Ты зямлю
дзеля сына твайго,
што на свет нарадзіўся з абдымкаў тваіх,
фараона, які жыве ў праўдзе
сына Ра, што царуе ў дзвюх землях,
Увесь свет Ты стварыў фараону
і яго боскай жонцы,
уладарцы дзвюх земляў,
Неферціці, хай жыве яна век маладою!

Воіны слухалі, калупаючы пальцамі пясок, а потым з палёгкай грымнулі гімн у гонар фараона, хоць адзінае, што яны разумелі з гімна, было тое, што ён складзены дзеля ўслаўлення фараона, які ёсць сын бога, і гэта, на іх думку, было справядліва, бо так вялося спрадвеку. Харэмхеб адпусціў жраца, і хлопец, натхнёны такім захапленнем войска, пайшоў пісаць данясенне фараону пра асвяшчэнне храма. А я лічу, што ні свяшчэнная песня, ні яе глыбокі сэнс не кранулі воінаў, якія стаялі і калупалі пальцамі пясок, бо наперадзе іх чакала бітва, у якой многім было наканавана сустрэць сваю смерць

**4**

Пасля асвяшчэння храма войска рушыла ў дарогу, а следам пацягнуліся запрэжаныя быкамі павозкі і нагружаныя цюкамі аслы. Харэмхеб паімчаў на калясніцы наперад, за ім, праклінаючы спёку, рушылі і вышэйшыя военачальнікі ў насілках. Я прыхапіў з сабой лекарскую скрын-

ку і сеў на асла, наследуючы прыкладу свайго новага сябра, начальніка, які ведаў усімі вайсковымі прыпасамі.

Войска ішло ўвесь дзень, спыніўшыся толькі на адзін кароткі адпачынак, падчас якога воінам дазволілі папіць і паесці. Усё часцей людзі падалі на дарозе і ўжо не маглі ўстаць, хоць камандзіры хвасталі іх бізунамі і білі нагамі. Воіны то спявалі, то брыдка лаяліся, а пад вечар, калі падаўжэлі цені навакольных гор, з цяснін па беспарадкавай калоне пачалі выпускаць свае трапныя стрэлы нябачныя лучнікі, і час ад часу хто-небудзь раптам падаў у пыл ці са стогнам хапаўся за плячо. Але Харэмхеб не затрымліваўся, а яшчэ шпарчэй гнаў войска наперад, так што воіны ўжо не ішлі, а ледзь не беглі. Лёгкія калясніцы пракладвалі наперадзе шлях, і неўзабаве мы ўбачылі на прыдарожжы забітых хабіраў у падраных плашчах, іх раты і вочы абселі мухі. Некаторыя воіны выскоквалі з калоны і пераварочвалі целы, каб паглядзець, ці няма чым пажывіцца, але ўзяць не было чаго — мёртвых ужо абчысцілі.

Седзячы на асле і абліваючыся потам, мой новы сябар жаласным голасам прасіў мяне перадаць яго развітальныя словы жонцы і дзецям, бо прадчуваў, што сённяшні дзень у яго будзе апошні. Ён даў мне адрас сваёй жонкі ў Фівах і папрасіў паклапаціцца, каб яго цела не абрабавалі, — калі, вядома, хабіры не пераб'юць нас усіх да вечара.

Нарэшце перад намі адкрылася шырокае поле, на якім хабіры разбілі свой лагер. Харэмхеб загадаў трубіць у трубы і пастроіў войска для атакі — капейшчыкаў у цэнтры і лучнікаў па баках. Лёгкія баявыя калясніцы ён адаслаў у тыл, і тыя хутка схаваліся ззаду за хмарамі ўзнятага пылу. Пры сабе ён пакінуў толькі некалькі цяжкіх калясніц. З далёкіх далін за гарамі ўздымаўся дым палаючых вёсак. Калі хабіры выступілі насустрач, здавалася, іх незлічоныя войскі запаўняюць усю раўніну, — так застрашальна зіхцелі на сонцы іх шчыты і дзіды, і іх ваяўнічыя клічы, як шум марскіх хваляў, напаўнялі паветра. Але Харэмхеб перакрыў іхні крык сваім голасам:

— Перастаньце калаціцца ад страху, паганыя свінні! Хіба вы не бачыце, што хабіраў занадта мала дзеля сапраўднай бітвы! Перад вамі больш баб, дзяцей ды скаціны! І ўсё гэта стане вашай здабычай! У катлах вас чакае гарачая ежа, дык пастарайцеся, каб да вечара мы змаглі паесці, бо я галодны, як кракадзіл.

Але шалёны і болей шматлікі за ўсе нашы дружыны натоўп хабіраў ужо на ўвесь дых ляцеў на нас, іх вострыя дзіды здаваліся такімі вострымі і так жахліва ззялі на сонцы, што ўся мая былая цікаўнасць да вайны адразу некуды знікла. Шэрагі капейшчыкаў не вытрымалі і падаліся назад. Яны, як і я, пачалі азірацца, шукаючы паратунку, але малодшыя начальнікі накінуліся на іх з бізунамі і лаянкай. І тады воіны зразумелі, што яны занадта стомленыя і галодныя, каб кінуцца наўцёкі, і ім застаецца адно — абараняцца з усяе сілы. Воіны зноў злучылі шэрагі, і лучнікі нецярпліва пачалі тузаць цецiву, чакаючы дазволу стрэліць.



Наблізіўшыся, хабіры разам выгукнулі свой ваяўнічы кліч, і ён прагучаў так жахліва, што ногі ў мяне падагнуліся і кроў застыла ў жылах. Страляючы з лукаў, хабіры, пабеглі на нас, і я пачуў, як віскочуць стрэлы — нібы зыкаюць мухі: бз-з-з, бз-з-з. Нічога страшнейшага за посвіст стралы ля самага вуха мне не даводзілася чуць ніколі ў жыцці. Але я заўважыў, што па большасці стрэлы не чынілі нам ніякай шкоды, бо ці пераляталі па-над галовамі, ці траплялі ў шчыты. А калі пачуўся зычны голас Харэмхеба, дык дух мой зусім ажыў. Харэмхеб прагарлаў: «За мной, паганыя свінні!» — і ягоны вазніца хвастануў коней. За Харэмхебам панесліся астатнія калясніцы, лучнікі ў той жа момант выпусцілі першыя стрэлы, і капейшчыкі вырушылі наперад. Адначасова пачуўся такі моцны крык, які быў страшнейшы за баявы кліч хабіраў, бо воіны крычалі, каб заглушыць свой страх. І я далучыўся да агульнага крыку, гарлаючы на ўсю моц, што гэта прынесла мне значную палёгку. Калясніцы са страшным грукатам урэзаліся ў натоўп хабіраў, а наперадзе, над клубамі пылу і ўзнятымі дзідамі, развіваўся зроблены са страусавых пёраў султан на бліскучым шаломе Харэмхеба. Услед за калясніцамі на ворага рынуліся капейшчыкі з ільвінымі хвастамі ці сокаламі наперадзе, а лучнікі рассыпаліся па раўніне і залпамі пускалі стрэлы ў шчыльны натоўп хабіраў. Неўзабаве ўсё жахліва перамяшалася, і вакол чуліся толькі грукат, крыкі і стогны паміраючых. Мой асёл ашалеў і панёс мяне ў самую гушчу бітвы. А я ў жаху крычаў і малаціў яго нагамі, але спыніць быў няздольны.

Хабіры біліся ўпарта і бясстрашна. Нават збітыя з ног коньмі і ўжо не маючы сілы ўстаць, яны стараліся працяць дзідай кожнага, хто нахіляўся да іх, каб адсекчы руку ў знак перамогі, і не адзін егіпцянін так напаткаў сваю смерць. Пах крыві быў мацнейшы за пах поту і брудных целаў. Чарада крумкачоў над полем расла і апускалася ўсё ніжэй.

Раптам хабіры жахліва закрычалі і пабеглі назад, убачыўшы, што егіпецкія воіны на калясніцах, якіх Харэмхеб адаслаў у тыл, аб'ехалі даліну і пачалі рабаваць іх лагер, ганяючыся за скацінай і хапаючы жанчын. Такога відовішча хабіры вытрываць не маглі, яны кінуліся ратаваць сваё стойбішча, але ў гэтым і была іх пагібель. Калясніцы павярнулі ім насустрач і амаль усіх падушылі, а з тымі, хто застаўся, справіліся Харэмхебавы капейшчыкі ды лучнікі. Калі сонца села, уся раўніна была пакрытая нежывымі целамі з адсечанымі рукамі. Лагер хабіраў палаў, адусюль чуўся рык разбеглых статкаў.

Але ў баявым шаленстве пераможцы працягвалі забіваць усіх, хто трапляў пад руку, — і дзяцей, і жанчын, і абяззброеных воінаў, а лучнікі стралялі скаціну. Нарэшце Харэмхеб загадаў трубіць канец бітвы, і ка-

мандзіры, апамятаўшыся, пачалі бізунамі зганяць воінаў да месца збору. Толькі мой звар'яцелы асёл ніяк не суніамаўся і насіў мяне кругамі па ўсёй раўніне, так што я падлятаў на яго спіне, як той мяшок, і ўжо сам не ведаў, ці застануся жывы. Воіны рагаталі і кпілі з мяне, пакуль адзін нарэшце не даў аслу па храпе дзяржаннем дзіды, і тады той агаломшана спыніўся, і мне ўдалося з яго злезці. З той пары воіны празвалі мяне Сынам дзікага асла.

Палонных сагналі ў загон, зброю пакідалі ў кучы, а пастухоў паслалі сабраць статкі, што разбрыліся па раўніне. Хабіраў было так шмат, што іх большая частка ўсё-ткі паспела ўцячы, але Харэмхеб вырашыў, што цяпер яны будуць бегчы ўсю ноч і ўжо не адважацца вярнуцца. Харэмхебу паднеслі свяшчэнную скрынку, і ён, асветлены пажарам лагера хабіраў, адчыніў яе і паказаў воінам ільвінагаловую Сэхмет, якая горда выпінала грудзі ў водбліскаў агню. Радасныя воіны ўрачыста апырскалі яе крывёю са сваіх ранаў і накідалі перад ёю вялізную кучу адсечаных у ворагаў рук, прычым былі і такія, што прынеслі па чатыры і пяць такіх трафеяў. Харэмхеб узнагародзіў іх залатымі нашыйнымі ланцугамі і бранзалетамі, а найбольш адважных зрабіў малодшымі камандзірамі. Ён быў пакрыты пылам і крывёю, якая капала нават з ягонага залатога бізуна, але яго вочы ўсміхаліся і ён называў воінаў сваімі любымі свінкамі і кровапускальнікамі.

Тым вечарам у мяне было шмат працы, бо дзіды і булавы хабіраў пакінулі жахлівыя раны. Я працаваў пры святле палаючых варожых шатроў, і стогны параненых змешваліся з енкам палонных жанчын, з якімі забаўляліся воіны, кідаючы жэрабя, каму выпадзе першаму цешыцца з імі. Я прамываў і зашываў адкрытыя раны, запіхваў кішкі назад у распоратыя жываты і прышываў здзёртую скуру на галовах. Паміраючым я даваў піва і дурманнае зелле, каб яны паміралі без пакутаў.

Я лячыў і хабіраў, што не паспелі ўцячы, але навошта я гэта рабіў, і сам не ведаю, — можа, каб Харэмхеб атрымаў за іх добрую цану, калі будзе прадаваць у рабства. Але многія не хацелі маёй дапамогі і зноў раздзіралі свае раны, чуючы, як плачуць іх дзеці і лямантуюць жонкі, што дасталіся на пацеху егіпцянам. Яны скручваліся ў абаранак, закрывалі галовы вопраткай і паміралі ад крывацёку.

Я глядзеў на іх і ўсё менш ганарыўся перамогай, бо гэта быў бедны народ і голад гнаў яго на сірыйскія раўніны па хлеб і жывёлу. Усе яны былі страшна худыя, і шмат хто меў хворыя вочы. Але нягледзячы на гэта, хабіры заўсёды біліся як шалёныя і былі ў баі страшнымі працаўнікамі. Там, дзе яны праходзілі, заставаліся палаючыя пасяленні і чуліся плач ды лямант людзей. Але цяпер, калі іх тоўстыя насы пабялелі і яны, паміраючы, нацягвалі на галаву свае лахманы, я шкадаваў іх, хоць і не мог нічым дапамагчы.



Назаўтра я сустрэўся з Харэмхебам. Ён падзякаваў мне за працу, а я параіў яму часова пакінуць на гэтай раўніне лагер з аховай, бо воіны з цяжкімі ранамі маглі не вытрымаць дарогі і сканаць па дарозе да Ерусаліма. Харэмхеб яшчэ раз падзякаваў за параду і дапамогу і сказаў:

— Я не думаў, што ты такі смелы, каб на вачах ва ўсіх кінуцца ў самае пекла бітвы на ашалелым асле. Ты, напэўна, не ведаў, што лекарская праца на вайне пачынаецца пасля бітвы. Я чуў, што воіны называюць цябе Сынам дзікага асла. Калі хочаш, другі раз, едучы ў бой, я буду браць цябе ў сваю калясніцу, бо табе шанцуе, калі ты застаўся жывы, хоць не было ў цябе ні дзіды, ні нават простага палена.

Ён глядзеў на мяне сур'ёзна, і я не ведаў, ён смяецца з мяне ці кажа праўду, а таму я адказаў:

— Я ніколі раней не быў на вайне і хацеў паглядзець яе зблізу. Але на вайне я не пазнаў нічога мудрага, і, калі ты дазволіш, я вярнуся ў Сіміру.

— Сваім майстэрствам ты выратаваў жыццё многім воінам і заслугоўваеш такой самай узнагароды, як і военачальнік, што аберагае жыццё воінам сваімі майстэрствам і адвагаю.

Але я адмовіўся:

— Кінь, мне хапае і свайго золата. Такая ўзнагарода будзе мне, як пыл на маіх нагах.

— Можа, і так, — згадзіўся Харэмхеб. — Але для мяне, чалавека простага, залаты ланцуг, заслужаны ў бітве, значыць многае. Цяпер, пабачыўшы сваё войска ў баі, я ведаю, што ільвінагаловая Сэхмет прыхільная да мяне, — дзякуючы гэтаму я і змог перамагчы, і калі я захачу, мая перамога будзе ўвекавечаная ў пісьмёнах, выразаных на камяні. Але такая перамога — як пыл на маіх нагах, бо перамогі над гэтымі паганымі злодзеямі, што крадуць жывёлу, не патрабуюць вялікага майстэрства.

— Твае воіны ўслаўляюць тваё імя і клянуцца пайсці за табой, куды захочаш, — сказаў я крыху ліслiва. — Але як гэта здарылася, што на табе няма нават драпіны, хоць я думаў, што ты абавязкова загінеш, першым кінуўшыся на коп'і ды стрэлы?

— У мяне спрактыкаваны вазніца, — адказаў ён. — І апроч таго, мяне аберагае мой сокал, бо я патрэбен яшчэ для вялікіх здзяйсненняў. А таму ў маіх паводзінах няма ні заслугі, ні адвагі — проста я ўпэўнены, што варожая зброя не прычыніць мне шкоды. Я імчуся першы, бо мне наканавана праліць шмат варожай крыві, але забіваючы, я не радуюся патокам крыві, і крыкі ворагаў з-пад маёй калясніцы таксама мяне не цешаць. Калі мае воіны здабудуць дастаткова вайсковага досведу і перастануць баяцца смерці, я загадаю насіць сябе следам за войскам у залатых насілках, як гэта робіць кожны разумны военачальнік, бо са-

праўдны палкаводзец не робіць сваімі рукамі брудную і крывавую працу, якую можа выканаць самы танны раб ці наёмнік. Военачальнік працуе галавой і аддае шматлікім пісарчукам важныя загады, якіх ты, Сінухе, не разумееш, бо гэта не твая праца, гэтак сама, як я нічога не разумею ў лекаванні, хоць паважаю тваё веды і ўменне. Напэўна, я мушу саромецца, што мае рукі і твар у крыві гэтых зладзюг з пустэльні. Але зрабіць іначай я проста не мог. Калі б я не павёў сваіх воінаў наперад, яны імгненна згубілі б усю сваю смеласць, кінуліся на калені і пачалі вішчаць ад жаху. Праўду кажучы, цяперашняе егіпецкае войска, чые воіны ўжо два пакаленні не бачылі і не ведалі вайны, — гэта яшчэ больш агідны і баязлівы зброд, чым хабіры. Таму я і называю іх свінымі рыламі, а яны нават ганарацца такой мянушкай.

І ўсё ж я не мог даць веры, што яму зусім не было страшна за сваё жыццё, калі ён на чале войска ляцеў проста на варожыя дзіды. Таму я спытаў:

— У цябе цёплая скура, і пад ёй, як ва ўсіх людзей, бяжыць кроў. Можа, ты зачараваны, якімі-небудзь моцнымі чарамі, і таму цябе немагчыма параніць? Іначай як ты можаш не ведаць страху?

Ён адказаў:

— Я чуў пра падобнае чарадзейства, і шмат хто з воінаў носіць адмысловыя капшучкі з чароўнымі абярэгамі, але пасля сённяшняй бітвы такія абярэгі знайшлі на шыях у многіх забітых. Таму я не веру ў гэтае чарадзейства, хоць і яно мае сваю карысць, бо надае цёмнаму чалавеку ўпэўненасць у сабе і робіць яго адважным у баі. А па праўдзе, Сінухе, чарадзейства — гэта лухта і дурасць. Што да мяне, дык тут усё зусім іначай: я ведаю, што мне наканавана здзейсніць вялікія справы, але адкуль ведаю — сказаць не магу. Воіну шанцуе або не шанцуе, а шанец заўжды быў са мной з той пары, як мой сокал прывёў мяне да фараона. Праўда, у палацы мой сокал так і не прыжыўся. Ён паляцеў і больш не вярнуўся. Але калі я са сваім войскам крочыў праз Сінайскую пустэльню ў Сірыю, пакутуючы ад голаду і асабліва ад пякучай смагі (бо ўсе цяжкасці я пераношу разам з воінамі, каб ведаць усё, што ім выпадае на долю і такім чынам навучыцца лепей камандаваць імі), я ўбачыў у адной даліне ахоплены полымем куст. Гэта быў жывы агонь, падобны да вялікага куста ці дрэва, ён палымнеў і не згасаў, хоць гарэў удзень і ўначы, а вакол расцякалася незвычайная духмень, ад якой у мяне закруцілася ў галаве, і мяне напоўнілі адвага і мужнасць. Я бачыў гэты агонь, калі імчаўся праз пустэльню на чале войска, калі паляваў на дзікіх звяроў, але ніхто апроч мяне і майго вазніцы, які можа ўсё пацвердзіць, яго не бачыў. І ў той момант я спасціг, што ні дзіда, ні страла, ні булава не крануць мяне, пакуль не настане мой час, але як я спасціг гэта — сказаць не магу, бо гэта схавана ад людзей.



Я паверыў аповеду Харэмхеба і адчуў да яго вялікую павагу, бо ніякай прычыны выдумляць нешта, каб мяне пазабавіць у яго не было. Дый я не думаю, каб Харэмхеб мог прыдумаць такую гісторыю, нават калі б захацеў, бо гэта быў чалавек, які верыў толькі ў тое, што бачыў і што мог памацаць рукамі.

Заняўшы лагер хабіраў, ён дазволіў войску ўдосталь есці і піць, і страляць з лукаў ды цэліць дзідамі па мішэнях, у якасці якіх служылі моцна параненыя ці асабліва непакорлівыя палонныя, якіх усё адно немагчыма было б прадаць у рабства. У выніку воіны не пярэчылі такім «ваенным вучэнням», а наадварот —стралялі і шпурлялі дзіды з задавальненнем. Але на трэці дзень смурод ад трупаў стаў невыносны, а крумкачы, шакалы ды гіены, збіўшыся ў вялікія зграі, так жахліва крычалі і вылі ўначы, што не давалі нікому заснуць. У дадатак да гэтага, многія палонныя жанчыны задушылі сябе сваімі доўгімі валасамі, не жадаючы стаць пацехаю ворагам. Па большасці гэта былі кашчавыя, сухарэбрыя істоты з дзікімі вачыма, але воіны за іх сварыліся, лічачы нават прыгожымі, бо даўно не бачылі жанчын. Наглядзеўшыся на ўсё гэта, я ўжо не бачыў у вайне нічога забаўнага і цікавага, і на сэрцы ў мяне стала цяжка ад пакутаў і жахаў, якія людзі чыняць адзін аднаму. Гледзячы на мёртвыя целы, падзяўбаныя крумкачамі ды пашкуматаныя шакаламі і гіенамі, я сказаў свайму сябру, вайсковаму забеспячэнцу:

— Хутка ўсе гэтыя чарапы збялеюць, і ніхто ўжо не зможа адрозніць чэрап егіпцяніна ад чэрапа хабіры. І нават самі высокія багі не скажуць, чыё сэрца было чысцейшае і справядлівейшае і хто змагаўся на правільным баку.

Але мой сябра быў у добрым настроі: ён занатоўваў, абмяраў і пералічваў захопленыя ў хабіраў скаціну і збожжа, — і таму лагодна адказаў мне:

— У нас вялікі і мудры палкаводзец, і ягоны голас гучыць у бітве страшней за ільвіны рык. Дый галасы шакалаў і гіенаў мне куды прыемнейшыя за ваяўнічыя клічы хабіраў. Таму лепш ужо я буду чуць смурод ад іх трупаў, чым смяротны пах наканечнікаў іхніх дзід, што ўпіваюцца ў маё цела. А наконт таго, што ты кажаш пра чарапы ды багоў, — тут яшчэ трэба падумаць: я некалі чуў, што, калі егіпцянін, які моліцца Амону і шчыра верыць у Асірыса, гіне ў бітве, ён адразу трапляе ў Краіну Захаду, нават калі яго цела не зберажэцца. І ўсё-ткі я рады, што не загінуў у гэтай бітве. Бо ў багоў напраўду будзе шмат неразбярыхі — хто маліўся сапраўдным багам, а хто быў няверным паганцам? Я не загінуў толькі таму, што гарлаў нечалавечым голасам, так што нават хабіры ў страху кідалі на зямлю дзіды.

На трэці дзень Харэмхеб падзяліў войска. Адны пайшлі на Ерусалім, забраўшы рэшту здабычы, бо на месца бітвы прыехала мала гандляроў,

каб скупіць усіх рабоў, скаціну, збожжа ды посуд. Другія мусілі сабраць на раўніне статкі жывёлы, а трэція, з атрада ільвінага хваста, засталіся ахоўваць лагер з цяжкапараненымі. Сам Харэмхеб з дружынаю калясніц пагнаўся за хабірамі, бо даведаўся ад палонных, што тыя знеслі ў пустэльню свайго бога.

Мяне ён, насуперак майму жаданню, узяў з сабой, і я, стоячы ў калясніцы і трымаючыся за яго пояс, праклінаў той час, калі нарадзіўся, бо ён ляцеў, як шалёны, і я баяўся, што калясніца вось-вось перакуліцца і я разаб'ю галаву аб каменне. А Харэмхеб толькі смяяўся і жартаваў, прыгаворваючы, што дае мне магчымасць напоўніцу паспытаць, што такое вайна, калі ўжо я сам хацеў гэтага і сюды заявіўся.

Паспытаць вайны ён сапраўды мне даў. Я бачыў, як калясніцы шалёным і бязлітасным ураганам наляцелі на хабіраў, якія ў той час весела спявалі, махаючы пальмавымі лістамі ды гонячы скрадзеныя статкі ў горы, каб схаваць іх там сярод скал у цяснінах. Харэмхебавы коні тапталі старых, жанчын і дзяцей, з усіх бакоў уздымаўся дым ад спаленых буданоў і шатроў,— так Харэмхеб праз кроў і слёзы даводзіў хабірам, што ім лепш сядзець у пустэльні і паміраць ад голаду, чым нападаць на багатую і ўрадлівую Сірыю, змазваючы алеем спаленую на сонцы скуру ды тлусцеючы на скрадзеным хлебе. Так я ўдосталь паспытаў вайны, якая была ўжо нават і не вайною, а простым забойствам, пакуль Харэмхебу самому не надакучыла. Тады ён дазволіў хабірам падняць перакуленыя памежныя камяні і паставіць іх на старое месца, нават не перасунуўшы далей у пустэльню, хоць мог бы зрабіць гэта. Ён патлумачыў:

— Мне трэба пакінуць хабіраў на развод, каб было на кім вучыць ваяваць мае войскі. Калі перабіць іх усіх, дык і ваяваць не будзе з кім. Ужо сорак гадоў, як на ўсіх іншых землях пануе мір, усе народы жывуць у згодзе, і ўладары вялікіх дзяржаваў у лістах называюць адзін аднаго братамі і сябрамі, а фараон пасылае ім золата, каб яны ставілі яго статуі ў сваіх храмах. Таму я абавязаны зберагчы хабіраў, каб праз некалькі гадоў, калі яны забудуцца пра тое, што ім давялося паспытаць сёння, голад зноў пагнаў іх з пустэльні.

Ён дагнаў на калясніцах і тых хабіраў, што неслі свайго бога, і сокалам наляцеў на іх ззаду. Насільшчыкі кінулі бога і, ратуючыся з-пад калясніц, уцяклі ў горы. А Харэмхеб загадаў пасекчы чужога бога на кавалкі і спаліў яго перад ільвінагаловай багіняй Сэхмет. Пры гэтым воіны білі сябе кулакамі ў грудзі і ганарліва выкрыквалі:

— Вось так мы палім бога хабіраў!

Гэтага бога звалі Іегова, ці Ягве, а пакольні ў хабіраў не было іншых багоў, то вяртаючыся ў пустэльню, яны засталіся зусім самотнымі і яшчэ больш збяднелымі, чым тады, калі з яе выйшлі. І ўсё-ткі яны спявалі ад радасці, што не ўмерлі, і размахвалі пальмавымі лістамі.



**5**

Харэмхеб вярнуўся ў Ерусалім, у якім на той час сабраліся жыхары, уцёклыя з памежных селішчаў, і прадаў ім іхнюю ж скаціну, збожжа і посуд, захопленыя ў хабіраў. А бежанцы лямантавалі, раздзіраючы на сабе адзенне:

— Ды гэта яшчэ горшы рабаўнік, чым хабіры!

Але вялікай бяды ім гэта не нарабіла: яны маглі пазычыць грошы ў сваіх храмах, у гандляроў і зборшчыкаў падаткаў, а тое, што не выкупілі ўцекачы, Харэмхеб прадаў гандлярам, што з'ехаліся ў Ерусалім з усёй Сірыі. Дзякуючы гэтаму, Харэмхеб змог узнагародзіць сваіх воінаў немалой колькасцю срэбра і медзі, і тады я зразумеў, чаму многія параненыя воіны памерлі, нягледзячы на ўсе мае намаганні. Каб атрымаць больш, ацалелыя забіралі ў параненых адзенне, аздобы і зброю, не давалі ім ні вады, ні ежы, і тыя хутчэй паміралі. Я зразумеў таксама, чаму шматлікія невукі-жыварэзы, адправіўшыся на вайну следам за войскам пад маркай вучоных лекараў, вярталіся ў Егіпет багатымі, хоць у паходах ад іх не было ніякай карысці.

У Ерусаліме стаяў шум і гвалт, адусюль чулася грукатлівая сірыйская музыка. Багатыя на медзь і срэбра воіны пілі піва і весяліліся з размалянымі дзеўкамі, біліся між сабой як галаруч, так і зброяй, наносячы раны і часцяком нават забіваючы. Яны рабавалі адзін аднаго і гандляроў, што трапляліся пад руку, у сувязі з гэтым на гарадскім муры кожны дзень каго-небудзь вешалі дагары нагамі. Але воінаў гэта не засмучала, яны толькі казалі:

— Так было, і так будзе заўсёды.

Яны трацілі здабытае зброяй багацце на піва ды дзевак, пакуль гандляры не з'ехалі, дарэшты выцягнуўшы з іх усю медзь і срэбра. А Харэмхеб, які раздаў сваю долю здабычы воінам, прымусіў гандляроў заплаціць мыт за ўезд у горад і выезд, і такім чынам яшчэ больш забагацеў. Але радасці гэта яму не прынесла. Калі ж я прыйшоў развітацца перад ад'ездам у Сіміру, ён сказаў мне:

— Паход закончыўся, не паспеўшы пачацца... Фараон у сваім лісце папракае мяне за тое, што я парушыў яго забарону і была пралітая кроў. Цяпер я павінен вярнуцца ў Егіпет і прывесці з сабой статак маіх паганых свінняў. Усе штандары з выявамі сокала ды ільвінымі хвастамі я мушу аддаць у храмы... Што з таго выйдзе — я нават сабе не ўяўляю: гэта ж адзінае ў Егіпце навучанае войска! Што да астатніх, яны ўмеюць толькі сраць пад гарадскімі мурамі ды лапаць на базары дзевак. Клянуся Амонам, лёгка фараону сядзець у Залатым палацы ды ўзносіць гімны свайму богу, верачы, што брацкай любоўю ён зможа падпарадкаваць народы! Калі б ён хоць раз пачуў стогны пасечаных воінаў ды лямант

жанчын у вёсках, спаленых непрыяцелем, які нечакана прыйшоў з-за мяжы, можа тады ён пачаў бы думаць іначай.

— Сёння Егіпет не мае ворагаў, бо ён самы багаты і самы магутны,— сказаў я.— Апроч таго, слава пра цябе ўжо разышлася па ўсёй Сірыі, і хабіры больш не адважацца перасунуць памежныя камяні. Дык чаму б і табе не распусціць войскі. Праўду кажучы, яны перапіліся, як дзікія звяры, і толькі ўсё ўшчэнт ламаюць, ад іх палатак нясе сцакамі, а на целах кішаць вошы.

— Ты сам не ведаеш, што кажаш,— адказаў Харэмхеб, гледзячы перад сабой і сярдзіта чухаючы пад пахамі, бо палац мясцовага князька быў таксама поўны вошай.— Егіпет замкнуўся ў сабе, а гэта няправільна, бо навакольны свет настолькі вялікі, што ўжо сёння недзе прабіваюцца нябачныя нам парасткі, пладамі якіх будуць агонь і руіны. Я чуў, напрыклад, што цар амарэйцаў ліхаманкава збірае коней і купляе баявыя калясніцы замест таго, каб своечасова плаціць даніну фараону. Яго знаць адкрыта гаворыць, што некалі амарэйцы валодалі ўсім светам, а ў гэтым не болей праўды, чым у тым, што апошнія гіксосы жывуць у Амарэі.

— Гэты цар — Азіру, мой сябар. Ён чалавек марнаслоўны. Па яго просьбе я ў свой час пакрыў яму зубы золатам,— сказаў я.— Не думаю, каб сёння яго думкі былі нечым занятыя, апроч той жанчыны, з якой ён нядаўна пабраўся шлюбам. Пры яе выглядзе ў яго слабеюць калені, і яна выцягвае з яго ўсю сілу.

— Ты шмат чаго ведаеш, Сінухе,— сказаў Харэмхеб і выпрабавальна зірнуў на мяне.— Ты чалавек вольны і сам вырашаеш, чым табе займацца, ездзіш з горада ў горад, слухаеш і пазнаеш тое, чаго ніхто не ведае. Калі б я быў на тваім месцы і быў такі ж вольны, я аб'ездзіў бы ўсе краіны, каб павучыцца. Я паехаў бы ў Мітанні і наведаў бы Вавілон, паглядзеў бы, якія калясніцы робяць хеты, як навучаюць яны свае войскі, а потым з'ездзіў бы на марскія выспы і паглядзеў, ці сапраўды там такія магутныя воіны, як пра гэта гамоняць. Але я не магу зрабіць гэтага, бо фараон кліча мяне назад. Апроч таго, маё імя ўжо надта добра вядомае ў Сірыі, і я не змог бы пачуць тое, чаго хацеў бы. А ты, Сінухе, носіш сірыйскую вопратку і гаворыш на мове, на якой паўсюль размаўляюць адукаваныя людзі. Ты лекар, і нікому ў галаву не прыйдзе, што ты можаш разумець яшчэ што-небудзь, апроч сваёй лекарскай справы. Ты гаворыш проста, часам нібы дзіцё, і глядзіш, шырока расплюшчыўшы вочы, але я ведаю, што тваё сэрца закрытае, а ў душы ты трымаеш нешта, чаго ніхто не ведае. Ці слушна я кажу?

— Можа, і слушна,— адказаў я,— але чаго ты ад мяне хочаш?

— Што, калі я дам табе шмат золата і пашлю ў тыя краіны, пра якія нядаўна казаў, каб ты разнес славу егіпецкіх лекараў па ўсім свеце, каб багатыя і знатныя людзі запрашалі цябе да сябе ў палацы, а ты зазіраў у іх сэрцы і пазнаваў іх таямніцы. Можа, і ўладары запрашалі б цябе, і ты мог бы праведаць і іх патаемныя думкі. Ты лячыў бы іх і адначасова быў бы маімі вачыма і вушамі, запамінаў бы ўсё, што яны будуць казаць, а потым, вярнуўшыся ў Егіпет, расказаў бы мне пра ўсё пачутае і пабачанае?



— Я зусім не збіраюся вяртацца ў Егіпет, а тваё даручэнне — небяспечная справа, я не хачу вісець дагары нагамі на мурах якога-небудзь чужога горада.

— Заўтрашні дзень невядомы нікому,— адказаў Харэмхеб.— Я думаю, што ты калі-небудзь усё адно вернешся ў Егіпет, бо той, хто хоць бы раз папіў вады з Ніла, не зможа наталіць смагу ніякай іншай вадою. Нават ластаўкі і жураўы вяртаюцца туды на зіму, не могучы застацца ні ў якім іншым краі. Таму твае словы — усё адно, што зыканне мухі ў маіх вушах, а золата — гэта пыл пад маімі нагамі, і я лічу за лепшае памяняць яго на чужыя таямніцы. А твае словы наконт муроў у чужых гарадах — гэта поўнае абы што, бо я не вучу цябе парушаць законы чужых краінаў. Хіба вялікія гарады не зазабліваюць чужаземных падарожнікаў, прапануючы ім паглядзець на свае чароўныя храмы, пасвяткаваць ды пазабаўляцца, і тым самым не выцягваюць у іх грошы, якія ідуць на карысць мясцовым гандлярам? У любой краіне ты жаданы госць, калі ў цябе ёсць золата Гэтаксама жаданае і тваё лекарства — асабліва ў тых краінах, дзе старых забіваюць сякерамі, а хворых адносяць паміраць у пустэльню,— ты чуў пра гэта. А пыхлівыя ўладары часта прымушаюць сваіх воінаў маршыраваць перад чужаземцамі, каб тыя, гледзячы на іх, схіляліся перад сілаю таго, хто валодае такім войскам. І не будзе нічога дрэннага, калі ты паглядзіш, як маршыруюць воіны, якая ў іх зброя, калі ты палічыш колькі ў іх баявых калясніц, якія яны — вялікія і цяжкія ці маленькія і лёгкія, змяшчаюць двух ці трох воінаў, бо мне даводзілася чуць, што часам у калясніцы садзяць яшчэ і шчытаносцаў. Вельмі важна ведаць, ці добра гадаваныя гэтыя воіны, ці намашчаныя яны добрым алеем, або — кашчавыя і худыя, і можа нават паедзеныя вошамі і маюць хворыя вочы, як тыя свінні. Кажуць, нібыта хеты начаравалі з-пад зямлі нейкі новы метал, і выкаваная з яго зброя пакідае глыбокія сляды на медных сякерах, што гэты метал сіняга колеру і завецца жалезам, але праўда гэта, ці не — я не ведаю. Можа, яны вынайшлі нейкі новы спосаб гартаваць медзь, нешта ў яе дадаючы, і я хацеў бы даведацца, што гэта за такі спосаб. Але важней за ўсё выведаць, што за чалавек тамтэйшы ўладар і якія ў яго дарадцы.

Я зірнуў на Харэмхеба, але ён ужо адвярнуўся і абыякава памахваў залатым бізуном, гледзячы некуды паўз мяне па-над глінянымі мурамі Ерусаліма, па-над барвянымі пад захадным сонцам скаламі і па-над аліўкавымі садамі, пакрытымі шэрым пылам. Ён глядзеў некуды далей, міма

ўсяго гэтага краявіду, і яму бачыліся далёкія землі,— яго галава ўзнялася, і вочы запаліліся змрочным полымем.

—Я разумею цябе,— сказаў я пасля доўгага роздуму.— У мяне таксама сэрца апошнім часам неспакойнае, як птушка ў клетцы. Таму я і прыехаў да цябе паглядзець на вайну і паспытаць яе смак, хоць мой слуга перасцерагаў мяне. Я зусім не супраць наведаць далёкія землі, на якія ступалі ногі нямногіх егіпцян, бо Сіміра — горад маленькі, яна надакучыла мне, і пакуль ты прамаўляў, я сам здзіўляўся, як я мог там затрымацца на такі доўгі час? Але чалавеку цяжка самому рашыцца адправіцца куды-небудзь, ён заўсёды марудзіць, застаючыся на месцы, пакуль яго не падштурхне загаднае слова іншага чалавека. Аднак ты мне не гаспадар і не можаш загадваць, дый я не разумею, навошта табе ўсё гэта ведаць, калі ты будзеш сядзець у Залатым палацы фараона і забаўляцца з жанчынамі.

— Паглядзі на мяне! — загадаў ён.

Я паглядзеў на яго, і раптам ён вырас у маіх вачах: яго позірк запаліўся змрочным агнём, і ён стаў падобны да бога — так, што ў мяне нават затрымцела сэрца. І я схіліўся перад ім, апусціўшы да каленяў рукі, а ён спытаў:

— Ну, цяпер ты верыш, што я твой гаспадар?

— Сэрца мне кажа, што ты мой гаспадар, але чаму так — не ведаю,— касцянеючым языком адказаў я, і мне стала страшна.— Можа табе, напраўду, наканавана ўладарыць над людзьмі, як ты кажаш. Таму я згодзен выправіцца ў падарожжа. Мае вочы будуць тваімі вачыма, мае вушы — тваімі вушамі, але не магу сказаць, ці будзе табе з гэтага якая карысць, бо я поўны невук у тым, што цябе цікавіць. Я ўсяго толькі добра спрактыкаваны лекар, і нічога болей. Тым не менш я зраблю ўсё, што змагу, і не за тваё золата, а за тое, што ты мой сябар і гэтага жадаюць багі, калі яны толькі ёсць на свеце.

— Табе ніколі не давядзецца пашкадаваць, што ты мой сябра,— сказаў ён.— А золата я ўсё-ткі табе дам, бо калі я нешта разумею ў людзях, яно спатрэбіцца табе ў вялікай колькасці. Што да прычынаў, чаму мне гэтыя звесткі даражэйшыя за золата, то іх табе зусім не абавязкова ведаць. Магу толькі сказаць, што вялікія фараоны заўсёды пасылалі спрактыкаваных людзей да двароў іншых правіцеляў. Шкада, што цяперашнія фараонавы пасланцы — бараны. Яны ўмеюць толькі збіраць спадніцы ў зборкі і насіць узнагароды, а ведаюць толькі, у якім парадку — праваруч, ці леваруч ад фараона — стаіць. Калі ты сустрэнешся з імі, не звяртай на іх ніякай увагі, хай іхнія словы будуць зыканнем мухі ў тваіх вушах.

Калі мы развітваліся, ён скінуў з сябе ўсю веліч, дакрануўся рукамі да маіх шчок, ілбом да маіх плячэй і сказаў:



— Твой ад'езд — цяжар на маім сэрцы, Сінухе, бо я гэткі ж самотны, як ты, і таямніц майго сэрца не ведае ні адзін чалавек.

Я думаю, што кажучы гэта, ён мроіў аб прынцэсе Бэкетамон, чыя прыгажосць зачаравала яго.

Ён даў мне шмат золата, значна больш, чым я думаў, напэўна ўсё золата, якое здабыў у Сірыйскім паходзе, і загадаў сваім воінам праводзіць мяне да гавані, баронячы ад рабаўнікоў. На ўзбярэжжы я змесціў сваё золата ў вялікім гандлёвым доме і атрымаў узамен гліняную таблічку, што было цалкам бяспечна, бо ніякія рабаўнікі не маглі яе скарыстаць. Я падняўся на карабель і накіраваўся назад у Сіміру.

Хачу яшчэ згадаць толькі, што перад ад'ездам з Ерусаліма я ўскрыў чэрап аднаму воіну, які ў п'янай бойцы каля храма Атона атрымаў дубінай па галаве. Небарака ляжаў ледзь жывы, не могучы варухнуць ні рукой, ні нагой, ані вымавіць слова. Ад маёй дапамогі ён не паправіўся, хоць пачаў крыху рухаць рукамі, і яго цела стала гарачым. Але на другі дзень ён сканаў.

# ПАПІРУС ШОСТЫ
## Дзень фальшывага цара

### 1

Перш чым пачаць новую кнігу, я мушу ўзнесці хвалу даўно мінуламу часу, калі я, набіраючыся мудрасці, бесперашкодна падарожнічаў па многіх краінах, бо той час ніколі не вернецца. Я падарожнічаў па свету, які сорак гадоў не ведаў войнаў, воіны абараняль гандляроў і караванныя шляхі ад рабаўнікоў, а марскія шляхі ахоўваліся ад піратаў ваеннымі караблямі фараона. Межы былі адкрытыя, купцы і падарожнікі, якія прывозілі з сабою золата, былі жаданымі гасцямі ва ўсіх гарадах, людзі не абражалі адзін аднаго, сустракаючыся, яны кланяліся, апускаючы да каленяў рукі, і пераймалі адзін у аднаго розныя звычаі, а людзі адукаваныя размаўлялі і пісалі на многіх мовах.

Палі ў чорных землях паліваліся і прыносілі вялікія ўраджаі, а чырвоныя землі паіў боскі Ніл. Статкі спакойна пасвіліся на пашах, і пастухі не насілі з сабою дзіды, а гралі на дудачках ды спявалі вясёлыя песні. Вінаграднікі квітнелі, дрэвы згіналіся пад цяжарам пладоў, жрацы тлусцелі і блішчалі ад вохных масцяў, і дым ад незлічоных ахвяраў узносіўся да неба. Багі таксама квітнелі і тлусцелі ад шматлікіх ахвяраў, якія ўсе ім прыносілі. Багатыя рабіліся яшчэ багацейшымі, магутныя — яшчэ магутнейшымі, а беднякі — яшчэ бяднейшымі, як вызначылі багі з даўніх часоў, і ўсе былі задаволеныя і не наракалі на свой лёс і сваё жыццё. Такім паўстае ў маёй памяці той даўні час, які ніколі не вернецца. Я быў малады, і мае ногі не стамляліся ад доўгіх падарожжаў, мае вочы гарэлі цікаўнасцю і жаданнем пабачыць новае, маё сэрца прагнула новых ведаў і глытала іх вялікімі дозамі.

Каб давесці, што так было арганізавана паўсюдна, я магу сказаць, што гандлёвая палата вавілонскага храма без ваганняў выдала мне золата па глінянай таблічцы, якую я атрымаў у гандлёвым доме Сіміры, і ў кожным вялікім горадзе можна было купіць віно, прывезенае з гор або з-за мора, у гарадах Сірыі найлепшым лічылася горнае віно з Вавілона, а ў Вавілоне выкладвалі золата за сірыйскія віны. Хто меў золата, той мог купіць сабе рабоў рознага колеру і росту, дзяцей, мужчын і маладых жанчын, каб весяліцца з імі, але той, хто золата не меў, мусіў працаваць, і яго скура рабілася шурпатай і грубай, а рукі пакрываліся мазалямі. А калі хто хацеў залезці ў дом багатага чалавека і ўкрасці золата, каб павесяліцца, п'ючы віно і купляючы рабоў, таго хапалі і





вешалі на гарадскім муры дагары нагамі на застрашэнне іншым.

Уславіўшы такім чынам шчаслівыя старыя часы, калі і сонца свяціла ярчэй і вецер быў болей ласкавы, я распавяду пра свае падарожжы і пра ўсё, што пабачылі мае вочы і пачулі мае вушы. Але спачатку скажу пра сваё вяртанне ў Сіміру.

Калі я вярнуўся і ўвайшоў у дом, Каптах выбег насустрач і кінуўся мне ў ногі са словамі:

— Хай блаславіцца той дзень, які прывёў майго гаспадара дадому! Ты ўсё ж вярнуўся, а я думаў, што ты загінуў на вайне, не паслухаўшы мяне і паехаўшы паглядзець, што гэта такое. Але наш скарабей напраўду магутны бог, бо збярог цябе, і сёння добры дзень. Маё сэрца поўніцца радасцю ад таго, што бачу цябе, шчасце ліецца слязьмі з маіх вачэй і я не магу супакоіць сябе, хоць і не стану цяпер спадкаемцам усяго твайго золата, размешчанага ў гандлёвых дамах Сіміры. Але я не шкадую аб страце багацця, бо без цябе я падобны да ягняці, якое страціла маці і можа толькі бляяць, а дні мае без цябе былі сумныя і цёмныя. Пакуль цябе не было я не ўкраў у цябе больш, чым звычайна, я абараняў твае інтарэсы, даглядаў твой дом і множыў тваё багацце, так што цяпер ты багацейшы, чым раней.

Ён памыў мае ногі, паліў вады на рукі і дагаджаў, як толькі мог. Ён увесь час плакаў і галасіў, пакуль я не загадаў:

— Падрыхтуй усё да вялікага падарожжа, якое, магчыма, прадоўжыцца не адзін год і будзе поўнае цяжкасцямі, бо нам трэба трапіць у Мітанні, Вавілон і на выспы.

Каптах імгненна змоўк, і яго твар стаў шэры ад страху.

— Хай засведчыць скарабей, што мой гаспадар звар'яцеў,— загаласіў ён з новаю сілай,— што мне трэба яго звязаць і паставіць яму п'яўкі! Мы так добра жывем у Сіміры, мы заваложваем свой хлеб мёдам, гарадскія купцы і чыноўнікі паважаюць нас, а дзевы з храма Астарты навучыліся ад маракоў розным новым штучкам, якія вельмі падабаюцца мужчынам і прымушаюць іх цэлы трапятацца, як трапечацца выкінутая на бераг рыба, так што табе лепш пайсці ў храм і прынесці ахвяры, каб забыць гэтыя неразумныя словы.

Я сказаў яму:

— Не па сваёй прыхамаці я выпраўляюся ў гэтае падарожжа, але чаму — не скажу, бо ты раб і дурань. Але хай будзе так, як ты хочаш: заставайся тут, даглядай дом і маёмасць ды весяліся з храмавымі жанчынамі, якіх я не хачу называць дзевамі. А я паеду адзін, калі табе не хочацца ехаць са мною. Я не буду цябе прымушаць, бо тады ў далёкім падарожжы ад цябе будзе болей шкоды, чым карысці.

Каптах зноў загаласіў:

— Далібог, лепш бы мне і не нарадзіцца на гэты свет. І лепш бы мне

не бачыць шчаслівых дзён, бо чым лепш чалавек жыве, тым цяжэй яму адмовіцца ад салодкага жыцця. Каб ты ехаў у падарожжа на адзін або два месяцы, як рабіў гэта раней, я не сказаў бы нічога і застаўся б у Сіміры. Але тваё падарожжа прадоўжыцца гадамі, і, магчыма, ты ніколі не вернешся, і я цябе ніколі не ўбачу. Таму я павінен суправаджаць цябе, узяўшы з сабою нашага скарабея. У такім падарожжы табе спатрэбіцца ўдача, а без нашага скарабея ты не зможаш устояць і рабаўнікі праткнуць цябе сваімі дзідамі. Без мяне і майго жыццёвага досведу ты будзеш падобны да цяляці, якому звязалі ногі і якога злодзей збіраецца знесці на сваіх плячах, без мяне ты будзеш падобны да чалавека, якому завязалі вочы, і ён дарэмна мацае навокал рукамі, без мяне цябе з задавальненнем абрабуе кожны, а я гэтага не хачу, бо калі хто і абкрадае цябе, дык хай гэта буду я — я буду рабіць гэта асцярожна, не забываючы і пра твае інтарэсы. І ўсё ж лепш бы нам застацца дома.

Год ад года Каптах рабіўся ўсё болей нахабным: ён ужо казаў «наш дом» ды «наш скарабей» і нават «нашае золата». І мне ўжо да таго надакучылі яго нахабства і жаласлівыя крыкі, што я ўзяў палку і добра прылажыўся да яго растаўсцелай задніцы — каб у яго была сапраўдная прычына пагаласіць.

Я сказаў:

— Сэрца мне вяшчуе, што давядзецца табе калі-небудзь вісець на муры за сваё нахабства. Вырашай сам, паедзеш са мною ці застанешся тут, але зараз змоўкні, бо ад твайго ляманту ў мяне баляць вушы, і не перашкаджай мне рыхтавацца да падарожжа.

Пасля гэтага Каптах супакоіўся, скарыўшыся лёсу, і мы пачалі збірацца. Паколькі ён пакляўся, што яго нагі больш не будзе на караблі, мы далучыліся да каравана, які ішоў у паўночную Сірыю, бо я хацеў паглядзець на кедравыя лясы ў Ліване, адкуль прывозілі дрэва для царскіх палацаў ды свяшчэннага чоўна Амона. Пра гэты шлях мне амаль няма чаго распавесці, ён быў аднастайны і рабаўнікі не нападалі на наш караван. Заезныя двары былі добрыя, мы смачна елі і пілі, часам на прыпынках да мяне прыходзілі хворыя, і я лячыў іх. Мне надакучыла ехаць на аслах, і я загадаў несці мяне на насілках. Каптах таксама не быў у захапленні ад язды верхам, але пасадзіць яго побач з сабой я не мог — ён быў усяго толькі маім рабом. Часам Каптах пачынаў скардзіцца на жыццё і казаў, што лепш бы яму памерці. Тады я напамінаў яму, што гэты шлях мы маглі б адолець значна хутчэй і зручней на караблі, але гэта яго не суцяшала. Сухі вецер раз'ядаў мой твар, і мне даводзілася бясконца змазваць яго, пыл забіваўся ў горла, бясконца кусаліся пясчаныя блохі, але ўсё гэта былі дробязі, і вочы мае радаваліся ўсяму, што мне даводзілася ўбачыць.

А я пабачыў кедравыя лясы і такія вялікія дрэвы, што ніводзін егіпцянін не паверыў бы, калі б я расказаў пра гэта. Таму я і не буду расказваць. Але павінен адзначыць, што ў тых лясах стаіць чароўны водар, у іх цякуць празрыстыя ручаіны, і я нават падумаў, што ніводзін чалавек не можа быць нешчаслівы, жывучы ў такіх дзівосных мясцінах. Я думаў так, пакуль не ўбачыў рабоў, якія ссякалі гэтыя дрэвы і дастаўлялі па горных схілах на марскі бераг. Тыя рабы былі вельмі бедныя, гнойныя раны пакрывалі іх рукі і ногі, на іх спінах чырванелі шнары ад бізуноў наглядчыкаў, і цэлыя хмары мух капашыліся ў гэтых ранах. Пасля ўбачанага я ўжо не думаў так, як раней.

А Каптах адразу ўзяўся падлічваць, колькі можна было б атрымаць у Фівах, выгрузіўшы гэтыя дрэвы з карабля. Ён вылічыў, што ў Егіпце за цану аднаго толькі дрэва просты чалавек мог бы ўсё жыццё карміць сям'ю, вывучыць сыноў на пісараў і прыстойна выдаць замуж дачок. Каптах узяўся лічыць дрэвы, але заблытаўся і пачаў нанова, а потым проста расплакаўся.

— Маё сэрца разрываецца, калі я бачу, што такое багацце гайдаецца пад ветрам без ніякай карысці,— сказаў ён і нават захінуў галаву адзеннем, каб не бачыць магутных кедраў. Я слухаў, як шумяць вяршыні магутнага лесу, і думаў, што толькі дзеля таго, каб паслухаць гэты шум, варта было прыехаць у гэтую краіну.

Нарэшце мы дабраліся да горада Кадэша з умацаваннем і вялікім егіпецкім гарнізонам. Але на сценах горада не было вартавых, равы зараслі пустазеллем, а салдаты ды афіцэры займаліся сваімі сямейнымі справамі і ўспаміналі пра службу толькі тады, калі з фараонавых складаў выдавалі збожжа, цыбулю і піва. Мы затрымаліся ў горадзе пакуль не зажылі Каптахавы раны ад язды верхам. А я тым часам вылечыў шмат хворых, бо егіпецкія лекары, што жылі ў горадзе, былі нічога не вартыя — іх імёны даўно ўжо сцерлі ў Кнізе жыцця, калі наогул калі-небудзь туды заносілі. А таму хворых, якія мелі дастаткова золата, вазілі ў Мітанні да лекараў, якія вучыліся ў Вавілоне. У гэтым горадзе я бачыў помнікі, пастаўленыя вялікімі фараонамі, і чытаў надпісы, у якіх апісваліся вялікія перамогі цароў, гаварылася пра колькасць забітых ворагаў і ўпаляваных сланоў. Тут я заказаў сабе пячатку з каштоўнага каменя. Гэта было неабходна, каб мяне паважалі і шанавалі ў гэтых краінах. А пячаткі тут былі зусім не такія, як у Егіпце,— гэта быў не сыгнет, які носяць на пальцы, а цыліндрычная бочачка з дзірачкай пасярод, у якую прасоўвалі шнурок і насілі на шыі. Калі яе прыкладалі да глінянай таблічкі, на гліне заставаўся адбітак пячаткі. А бедныя і непісьменныя людзі замест пячаткі прыкладалі да гліны вялікі палец.

Але Кадэш быў такі бязрадасны і сумны горад, што нават Каптах захацеў як мага хутчэй прадоўжыць шлях, хоць да смерці баяўся свайго асла. Аднастайнае жыццё ў Кадэшу парушалі толькі караваны, што

прыходзілі ў горад, бо горад стаяў на скрыжаванні караванных шляхоў. Але ўсе памежныя гарады, каму б яны ні належалі, заўсёды ператвараюцца ў месцы выгнання воінаў і военачальнікаў з егіпецкіх, мітаннійскіх, вавілонскіх ці хецкіх армій, а таму выгнаннікі — як салдаты, так і афіцэры — праклінаюць свой лёс і дзень, калі з'явіліся на свет, і бясконца гуляюць у газардовыя гульні, учыняюць паміж сабой бойкі, п'юць дрэннае піва ды водзяцца з такімі жанчынамі, ад якіх болей шкоды, чым весялосці.

Такім чынам, мы рушылі далей і без ніякіх перашкодаў перасеклі мяжу ў Нахарынскім краі, дзе мы ўбачылі раку, якая цячэ ўверх, а не ўніз, як вялікі Ніл. Нам сказалі, што, прыехаўшы ў Мітанні, мы павінны заплаціць у царскую казну падатак. А даведаўшыся, што мы егіпцяне, усе пачалі ставіцца да нас з пашанай. Людзі падыходзілі і казалі:

— Вы тут жаданыя госці. Нашы сэрцы радуюцца, калі прыязджаюць егіпцяне. Але мы даўно не бачылі егіпцян, і нашы душы поўняцца трывогай і хваляваннем, бо надта ўжо доўгі час ваш фараон не прысылаў да нас сваіх воінаў, зброі і золата. Кажуць, ён прапанаваў нашаму цару новага бога, пра якога мы нічога не ведаем. Але ў нас ёсць наша Іштар Ніневійская і шмат іншых багоў, якія абараняюць нас да гэтага часу.

Яны запрашалі мяне ў госці і паілі ды кармілі не толькі мяне, але і Каптаха, бо для іх ён таксама быў егіпцянін, хоць і мой слуга. Таму Каптах урэшце сказаў:

— Гэта добрая краіна. Давай застанемся тут назаўсёды. І ты, мой гаспадар, зоймешся тут лекаваннем, бо, па-мойму, людзі тут цёмныя і даверлівыя, і ашукаць іх будзе няцяжка.

Мітаннійскі цар і яго прыдворныя на гарачую летнюю пару перабраліся ў горы, але я не захацеў пайсці за імі, бо ўжо ледзь стрымліваў сваё нецярпенне, прагнучы ўбачыць Вавілон з яго незлічоным цудамі, пра якія я так шмат чуў. Але выконваючы загад Харэмхеба, я гутарыў з высакароднымі і простымі людзьмі, і ўсе яны казалі адно і тое ж, з чаго я зразумеў, што іх сэрцы поўняцца трывогай і неспакоем. У даўніну зямля Мітанні была магутнай дзяржавай, але цяпер страціла былую сілу, і яе з усіх бакоў атачалі ворагі: з усходу — Вавілон, з поўначы — дзікія народы, з захаду — хеты. Чым больш я слухаў аповеды мітаннійцаў пра зямлю хетаў, тым больш разумеў, што павінен наведаць гэтую краіну. Але спачатку трэба было трапіць у Вавілон.

Насельнікі Мітанні былі невялікага росту, іх жанчыны вылучаліся прыгажосцю і вытанчанасцю, а дзеці здаваліся прыгожымі лялькамі.

Можа быць, сапраўды, мітаннійцы былі калісьці вялікім народам і панавалі над усімі плямёнамі на ўсходзе і захадзе, на поўначы і поўдні, але тое самае пра сябе кажуць усе народы. Я не верыў іхнім аповедам пра тое, што яны некалі перамаглі і разрабавалі Вавілон. Нават калі б гэта была праўда, яны маглі б зрабіць гэта толькі з дапамогай Егіпта, бо з даўніх часоў — з часоў вялікіх фараонаў — Мітанні залежала ад Егіпта, а дочкі мітаннійскіх цароў на працягу двух пакаленняў станавіліся жонкамі егіпецкіх фараонаў і жылі ў Залатым палацы. Продкі Аменхатэпа на баявых калясніцах аб'ездзілі Нахарынскую зямлю ўздоўж і ўпоперак, а ў гарадах яшчэ зберагліся надпісы з апісаннем іх перамог.



Слухаючы аповеды і скаргі мітаннійцаў я прыйшоў да высновы, што гэтую краіну і стварылі толькі дзеля таго, каб яна аддзяляла і абараняла Сірыю ды Егіпет ад Вавілона і дзікіх народаў. І сапраўды, гэтая краіна стала шчытом Сірыі, а дзіды, накіраваныя на Егіпет, у першую чаргу мусілі працінаць яе сэрца. Толькі таму егіпецкія фараоны падтрымлівалі хісткі трон Мітанні і пасылалі сюды золата, зброю і дружыны наймітаў. Але мітаннійцы не разумелі гэтага. Яны ганарыліся магутнасцю сваёй дзяржавы і казалі:

— Дачка нашага цара Тадукіпа стала Боскаю жонкай фараона ў Фівах. Шкада, што яна раптоўна сканала — яна была яшчэ зусім дзіцём. Незразумела, чаму фараон больш не прысылае нам золата. Фараоны з даўняга часу любілі нашых цароў як сваіх братоў і ў знак гэтага пасылалі ім ваенныя калясніцы, зброю, золата і каштоўныя падарункі.

Але я бачыў, што гэтая стомленая краіна памірае, і над яе храмамі ды велічнымі будынкамі лунае цень смерці. Самі яны гэтага не разумелі: яны больш клапаціліся рознымі стравамі, якія гатавалі вельмі мудрагелістымі спосабамі, і старанна выбіралі новую вопратку — чаравікі з загнутымі ўгору насамі, высокія шапкі ды розныя ўпрыгожванні. Іх рукі былі гэткія ж тонкія, як у егіпцянаў, а скрозь далікатную скуру ў іхніх жанчын можна было бачыць, як у іх цячэ кроў па жылах. Яны гаварылі і паводзілі сябе вытанчана, а прыгожай хадзе іх вучылі з дзяцінства — як жанчын, так і мужчын. Жыць у гэтай краіне было лёгка і прыемна, у дамах уцех крыкі і гвалт не рэзалі вушы, усё адбывалася ціха і прыстойна, і калі я піў віно з тамтэйшымі жанчынамі, то пачуваў сябе нязграбным і няўклюдным. Але цяжар клаўся на маё сэрца, калі я глядзеў на іх, бо цяпер, калі мне быў вядомы смак вайны, я лічыў, што, калі іх аповеды пра хетаў — праўда, гэта краіна асуджана на пагібель.

Іх лекары вызначаліся вялікім майстэрствам і ведалі шмат таго, чаго не ведаў я. Ад іх я атрымаў лякарства, якое выганяла глістоў не так пакутліва, як другія вядомыя мне лекі, яны ўмелі з дапамогай іголкі вяртаць зрок сляпым, і я навучыўся працаваць іголкай лепей, чым раней. Але пра трэпанацыю чэрапа яны нават не чулі, і не верылі маім аповедам, кажучы, што толькі магутныя багі могуць залячыць пашкоджаную галаву, але і тады чалавек не стане такі як раней, а таму яму лепш памерці.

Жыхары Мітанні былі вельмі цікаўныя да ўсяго чужаземнага: яны

насілі чужаземнае адзенне, каштавалі чужаземныя стравы, пілі горнае віно ды насілі чужаземныя аздобы. З гэтай прычыны яны прыходзілі і да мяне — каб іх палячыў чужаземны лекар. Сярод наведнікаў былі і жанчыны, яны спакусліва ўсміхаліся і распавядалі пра свае немачы і крыўды, скардзячыся, што іх мужы сталі халодныя, стомленыя і абыякавыя. Я выдатна ведаў, чаго яны ад мяне хочуць, але ні разу не дазволіў сабе нават датыкнуцца да іх, а не тое што пацешыцца з імі — я не хацеў парушаць законы чужой краіны. Замест гэтага я даваў ім зелле, якое яны маглі цішком падмяшаць у мужаву страву, а ўжо яно было здольнае выклікаць жаданне весяліцца з жанчынамі нават у мёртвага, — тое зелле я атрымаў ад сімірскіх лекараў, якія былі ў гэтай справе найлепшыя ў свеце і перасягалі нават егіпецкіх лекараў. Зрэшты, не ведаю, каму тыя жанчыны падмешвалі мае лекі — сваім мужам ці чужым, але я заўважыў, што да чужых мужчын у іх была большая схільнасць, бо норавы мітаннійскіх жанчын былі вельмі вольныя, у іх было мала дзяцей, і я зноў падумаў, што над гэтай зямлёй павісла цень смерці.

Павінен адзначыць яшчэ, што мітаннійцы зусім не ведалі межаў сваёй дзяржавы, бо хеты часта грузілі памежныя камяні на свае калясніцы і перастаўлялі іх, як хацелі. А калі мітаннійцы пачыналі пярэчыць, хеты смяяліся і прапаноўвалі ім сабраць камяні ды паставіць на ранейшае месца, калі ім так ужо хочацца. Але мітаннійцы не гарэлі жаданнем, бо, калі верыць таму, што яны расказвалі пра хетаў, ля межаў Мітанні яшчэ ніколі не было такога жахлівага і крыважэрнага народа. Па іх словах, для хетаў найвялікшай уцехай было слухаць стогны параненых ды глядзець, як з ранаў цячэ кроў, а калі мітаннійцы скардзіліся, што хецкія статкі вынішчаюць іхнія пасевы, хеты ламалі ім рукі і здзекліва прапаноўвалі перанесці памежныя камяні на ранейшае месца. Хеты ламалі мітаннійцам ногі і раілі як мага хутчэй бегчы са скаргамі да свайго цара. Апроч таго, яны здзіралі мітаннійцам з галавы скуру і нацягвалі яе на вочы, каб яны не бачылі, як хеты перасоўваюць памежныя камяні. Мітаннійцы расказвалі, што хеты апаскуджваюць і егіпецкіх багоў і такім чынам абражаюць егіпецкага фараона, а таму, на іх думку, фараон павінен прыслаць у Мітанні шмат золата дружыны наймітаў з дзідамі, каб пачаць вайну з хетамі, а паколькі самі мітаннійцы ваяваць не любілі, дык спадзяваліся напалохаць хетаў падтрымкаю фараона і тым самым прымусіць хетаў адступіць. Немагчыма пералічыць усе тыя беды, якія прычынілі мітаннійцам хеты з іх грубымі паводзінамі і дзікімі звычаямі. Мітаннійцы казалі, што хеты горшыя за саранчу, бо пасля налёту саранчы зямля зноў ажывае, а там, дзе прайшлі хецкія баявыя калясніцы, там ніколі ўжо нічога не вырастае.

Я не хацеў доўга затрымлівацца ў Мітанні, бо лічыў, што ўжо даведаўся пра ўсё патрэбнае, але мой гонар лекара быў прыніжаны, бо мясцовыя лекары сумняваліся ў праўдзівасці маіх расказаў пра трэпанацыю чэрапа. І тут на заезны двор, дзе я жыў, прыехаў адзін знатны чалавек, які скардзіўся на няспынны шум у вушах, падобны да шуму марскіх хваляў, і на моцны галаўны боль, ад якога ён нават траціў прытомнасць. Ён казаў, што не хоча больш жыць, бо хто б ні браўся, ніхто не змог яго вылечыць. Тады я прапанаваў яму:

— Калі ты дазволіш мне ачысціць твой чэрап, то, можа быць, ты паправішся. Але, па шчырасці, болей шанцаў, што ты памрэш, бо толькі адзін з сотні хворых застаецца жывы пасля такой аперацыі.

Ён мне адказаў:

— Я быў бы вар'ятам, калі б адмовіўся ад такога лячэння, бо так у мяне будзе хоць адзін шанец застацца жывым, бо інакш я проста скончу самазабойствам. Па праўдзе, я і не веру, што ты мяне вылечыш, затое, не ўчыніўшы самагубства, я не ўгняўлю багоў. А калі ты, насуперак усяму, мяне вылечыш, дык я ад радасці аддам табе палову свайго багацця, а гэта зусім не мала. Нават пасля маёй смерці ты атрымаеш вялікую ўзнагароду, так што ў любым выпадку ў пройгрышы не застанешся.

Я старанна агледзеў ягоную галаву, абмацаў яе з усіх бакоў, але ніводзін мой дотык не выклікаў болю. Тады Каптах прапанаваў:

— Пастукай малатком, усё роўна ты нічога не губляеш.

Я паслухаўся парады. Спачатку хворы ніяк не рэагаваў на мае пастукванні, але раптам дзіка закрычаў і страціў прытомнасць. Такім чынам я адшукаў месца, дзе трэба было ўскрываць чэрап. Я запрасіў мітаннійскіх лекараў і сказаў ім:

— Хочаце верце, хочаце не, але зараз я буду прачышчаць гэтаму мужчыну чэрап і пастараюся яго вылечыць. Хоць, па шчырасці, у яго болей шанцаў памерці.

Я прынёс з храма Амона свяшчэнны агонь, ачысціўся ім сам і ачысціў знатнага хворага і ўсё ў пакоі. У самы светлы час дня я ўзяўся за працу: надрэзаў і адвярнуў на галаве скуру, а потым распаленым жалезам спыніў моцны крывацёк. Мне было вельмі шкада небараку, якому я прычыняў такі боль. Але хворы сказаў, што гэты боль — нішто ў параўнанні з тым, што ён адчувае штодзённа. Я даў яму выпіць віна, падмяшаўшы ў яго дурманнага зелля, і ўрэшце яго вочы ашклянелі, як у снулай рыбы, і на твары застыў радасны выраз. Тады я асцярожна ўскрыў чэрап. Хворы не страціў прытомнасць, ён пачаў глыбока дыхаць і сказаў, што, як толькі я выняў кавалак чарапной косці, яму адразу палепшала. Маё сэрца ўзрадавалася, калі я ўбачыў, што менавіта ў тым месцы, дзе я ўскрыў чэрап, аказалася яйка злога духа, або духа хваробы, як вучыў мяне Птахор. Гэтае яйка было непрыгожае, чырва-

наватае, велічынёю з ластаўчына. З дапамогай свайго майстэрства я абпаліў вакол усё, што звязвала яйка з мазгамі, выняў яго і паказаў лекарам. Тыя ўжо не смяяліся. Я закрыў рану срэбнай пласцінай і старанна прышыў скуру. Падчас усёй аперацыі хворы быў у прытомнасці, а калі я скончыў, ён устаў і і горача мне падзякаваў, бо не адчуваў ужо ні шуму ў вушах і ні былога страшэннага болю.

Аперацыя прынесла мне вялікую славу ва ўсёй Мітанні. Яна бегла наперадзе мяне і дасягнула Вавілона. Але хворы адразу пачаў піць віно і весяліцца, яго цела стала гарачым, ён пачаў трызніць, а потым у непрытомнасці ўцёк з дома і, зваліўшыся з гарадскога мура, скруціў сабе шыю. Але ўсе казалі, што маёй віны ў тым няма, і толькі ўслаўлялі маё майстэрства.

Мы з Каптахам тым часам нанялі лодку і паплылі ўніз па рацэ да Вавілона.

## 2

Землі, якімі валодае Вавілон, называюць па-рознаму — і Халдзеяй, і Хасеяй, у залежнасці ад таго, які народ насяляе тое ці іншае месца. Але я буду іх называць Вавілоніяй, каб усім адразу было зразумела, пра якую краіну ідзе гаворка. Зямля тут урадлівая, па ўсіх палях праведзена шмат арашальных каналаў, і яна распасціраецца шырокай раўнінай, аж колькі сягае вока. Усё тут не так, як у Егіпце. Егіпецкія жанчыны, напрыклад, мелюць зерне паміж круглымі камянямі, якія круцяць, стоячы на каленях, а ў Вавілоніі жанчыны, седзячы на зямлі, расціраюць яго паміж двух камянёў рукамі, што значна цяжэй.

Дрэвы ў гэтых землях амаль не растуць, і іх там так мала, што той, хто зламае дрэва, лічыцца злачынцам супраць багоў. Той жа, хто дрэва пасадзіць, заслугоўвае боскай прыхільнасці і блаславення. Людзі ў Вавілоніі таўсцейшыя і тлусцейшыя, чым у іншых землях, і як усе тоўстыя людзі, яны шмат смяюцца. Яны ядуць цяжкія мучныя стравы, а яшчэ гадуюць невялікіх птушак, якіх называюць курамі. Гэтыя птушкі штодзень нясуць яйкі велічынёй з кракадзілавы, хоць я разумею, што, пачуўшы гэта, мне ніхто не паверыць. Жыхары Вавілоніі лічаць гэтыя яйкі асаблівым прысмакам. Яны спрабавалі пачаставаць і мяне, але я не адважыўся пакаштаваць такое дзіва і вырашыў задаволіцца звычнай мне стравай. Мясцовыя жыхары кажуць, што Вавілон — самы вялікі і старажытны горад у свеце, але я не веру гэтаму, бо ведаю, што гэта няпраўда, бо самы старажытны і вялікі горад на ўсёй зямлі — Фівы. Але я павінен прызнацца, што Вавілон уразіў мяне сваімі магутнасцю і багаццем, бо нават сцены там такія высокія і застрашальныя, як горы, а вежа, пабудаваная ў гонар багоў, дасягае да самага неба. Дамы тут пабудаваныя ў чатыры ці пяць паверхаў, так што атрымліваецца, быццам людзі жывуць над галавой ды пад нагамі адзін у аднаго. А такіх багатых і раскошных крамаў і такой разнастайнасці тавараў, як пры вавілонскіх храмах, я не бачыў нават у Фівах.



Іх бога завуць Мардук, а ў гонар сваёй багіні Іштар яны пабудавалі браму, якая вышэйшую за пілоны храма Амона. Гэтую браму яны пакрылі бліскучымі стракатымі пліткамі, якія асляпляльна зіхцяць на сонцы. Ад брамы да вежы Мардука вядзе шырокая вуліца, а вежа пабудаваная ярусамі. Уздоўж ярусаў да самай вяршыні ідзе дарога, па якой могуць праехаць побач некалькі калясніцаў. А на вяршыні вежы жывуць зоразнаўцы, якім усё вядома пра нябесныя свяцілы, якія вылічваюць іх шлях і так прадказваюць шчаслівыя і нешчаслівыя дні, дапамагаючы кожнаму весці свае справы з улікам гэтага. Кажуць, што яны нават умеюць прадказваць людзям будучае, але дзеля гэтага чалавек павінен дакладна ведаць дзень і момант свайго нараджэння. Але ж я гэтага нічога не ведаў, і таму не змог скарыстацца з такой магчымасці, хоць мне вельмі хацелася.

Па гліняных таблічках мне выдавалі з храмавай скарбніцы столькі золата, колькі я хацеў, і я пасяліўся ля Брамы багіні Іштар у шматпавярховай гасцёўні, на даху якой раслі садовыя дрэвы і мірты, бруіліся ручаінкі, а ў маленькіх сажалках гарэзавалі рыбкі. У гэтым доме сяліліся высакародныя людзі, што прыязджалі ў Вавілон са сваіх памесцяў і не мелі дома ў горадзе. Сяліліся тут і замежныя паслы. Падлогі ў пакоях пакрывалі тоўстыя дываны, на ложках ляжалі мяккія звярыныя шкуры, а сцены ўпрыгожвалі стракатыя пліткі з легкадумнымі малюнкамі. Заезны дом называўся «Альтанка Іштар» і належаў вежы бога Мардука, як і ўсё астатняе ў Вавілоне, што мела хоць якую каштоўнасць. Калі палічыць усіх пастаяльцаў гэтага дома і ўсю прыслугу, то я ўпэўнены, што ў ім можна смела было б пасяліць цэлы квартал Фіваў, хоць гэтаму немагчыма не паверыць, пакуль сам не пажывеш у такім доме. Нідзе на свеце не сустрэць такой вялікай колькасці розных людзей, як у Вавілоне, нідзе на свеце не гучыць на вуліцах гэтулькі чужых моваў, а жыхары Вавілона сцвярджаюць, што ўсе дарогі на свеце ідуць праз іх горад, бо сам Вавілон — цэнтр сусвету. Яны сцвярджаюць, што іх краіна знаходзіцца зусім не на краі зямлі, як гэта лічаць у Егіпце, — яны кажуць, што далёка за ўсходнімі гарамі ёсць магутныя дзяржавы, адкуль у Вавілон прыходзяць узброеныя караваны з вельмі дзіўнымі таварамі, тканінай і дарагім крохкім посудам. Я павінен сказаць, што ў Вавілоне я бачыў людзей з жоўтымі тварамі і раскосымі вачыма, але іх твары былі жоўтыя зусім не ад фарбаў. Яны гандлявалі ў Вавілоне, прадаючы тканіны, якія па тонкасці нагадвалі царскі лён, але былі яшчэ болей гладкія і пераліваліся рознымі колерамі, як чысты алей. Па большасці ўсе жыхары Вавілона — гандляры, і яны нічога так не шануюць, як гандаль.

Нават іх багі гандлююць паміж сабою. Таму вавілоняне не любяць вайны, яны наймаюць воінаў і ўзводзяць сцены, каб абараніць свой гандаль. Яны хочуць, каб дарогі былі бяспечныя для гандляроў з усяго свету, бо гандаль прыносіць ім больш прыбытку, чым любая вайна, і няма на свеце лепшых гандляроў, чым вавілоняне. Аднак яны ўсё роўна ганарацца сваімі воінамі, якія аберагаюць муры і храмы горада. Гэтыя воіны штодзень выходзяць шчыльнымі радамі да брамы Іштар у бліскучых шаломах і з пазалочанымі шчытамі.

—Ты, чужаземец, калі-небудзь бачыў такіх воінаў і такія каляснікі? — з гонарам пытаюцца вавілоняне ў кожнага прышлага.

У час майго прыезду царом Вавілона быў яшчэ бязвусы і безбароды хлопчык,— таму, сядаючы на трон, ён мусіў прывязваць фальшывую бараду. Яго звалі Бурабурыяш, ён любіў цацкі, займальныя гісторыі і казкі пра цуды, а паколькі мая слава ляцела перада мной і дасягнула Вавілона раней, чым я туды прыехаў, то пасяліўшыся ў «Альтанцы Іштар», абышоўшы храмы і пагаварыўшы з лекарамі і жрацамі Вежы, я неўзабаве даведаўся, што цар кліча мяне ў палац. Каптах, як заўсёды, спалохаўся і прапанаваў:

— Не хадзі туды, давай лепш уцячэм, бо ад цароў нічога добрага чакаць не даводзіцца.

— Дурань,— адказаў я яму.— Ці ты забыў, што з намі наш скарабей?

— Скарабей скарабеем, я пра яго памятаю, але заўсёды лепш быць асцярожным. Мы не павінны ўвесь час выпрабоўваць яго цярпенне. Калі ж ты ўсё-ткі цвёрда рашыў туды ісці, то і я пайду за табою — прынамсі, хоць памрэм разам. Апроч таго, калі нам выпадзе некалі вярнуцца ў Егіпет, я хачу там расказваць, што сам біў чалом перад царом Вавілоніі,— таму я быў бы апошнім дурнем, калі б не скарыстаў выпадак, які сам плыве ў рукі. Але ідучы ў палац, мы павінны зберагчы сваю годнасць: па-першае, ты павінен запатрабаваць, каб па нас прыслалі царскія насілкі, а па-другое, мы павінны ісці не сёння, бо сёння па тутэйшых прыкметах дрэнны дзень — гандляры пазачынялі ўсе свае крамы і людзі адпачываюць дома, нічога не робячы, бо на сёмы дзень тыдня ўсе справы ідуць няўдала.

Я падумаў і вырашыў, што Каптах мае рацыю: хоць егіпцяне лічаць усе дні аднолькавымі,— апроч тых, на якія, як на нешчаслівыя, паказваюць зоркі,— можа, у гэтай краіне сапраўды кожны сёмы дзень прыносіць няшчасце, а таму нават егіпцяніну лепей быць асцярожным. Таму я сказаў царскаму пасланцу:

— Можа, ты лічыш мяне за дурня ці спадзяешся, што я чужаземец і нічога не ведаю, калі клічаш да цара ў такі дзень? Я прыйду да твайго цара заўтра, калі ён прышле па мяне насілкі: я не які-небудзь валацуга, каб з'яўляцца ў царскі палац з нагамі, запэцканымі аслiным дзярмом.



— Баюся, паганы ты егіпцянін, што за такія словы цябе прывядуць да цара, казычучы тваю задніцу дзідамі.

Ён пайшоў, але, напэўна, адчуў да мяне павагу, і назаўтра ў «Альтанку Іштар» прыслалі царскія насілкі. Але гэта былі звычайныя абшарпаныя насілкі, на якіх у палац насілі гандляроў і простых людзей, якія прывозілі на продаж каштоўныя аздобы ці цешылі вяльможаў малпінымі штукарствамі. Таму Каптах грозна закрычаў на царскага вестуна:

— Клянуся Сэтам і ўсёй зграяй ягоных нячысцікаў, што мой гаспадар не сядзе ў гэтае карыта! Пайшлі прэч, і хай ваш Мардук адлупцуе вас сваёй скарпіёнавай нагайкай!

Насільшчыкі збянтэжыліся, а вястун пагразіў Каптаху друком. Каля «Альтанкі Іштар» сабраўся немалы натоўп, людзі смяяліся і крычалі:

— Хацелася б нам пабачыць твайго гаспадара, якому не даспадобы царскія насілкі!

Тады Каптах наняў вялікія насілкі, на якіх сорак дужых рабоў у асаблівa ўрачыстых выпадках насілі паслоў вялікіх дзяржаваў ці чужаземных багоў, калі тых дастаўлялі ў горад на чале якой-небудзь працэсіі. І смех у натоўпе сціх, калі я, апрануты ў строі з дарагой тканіны, упрыгожанай срэбрам і золатам, спусціўся ўніз, і мой каўнер зіхцеў і пераліваўся на сонцы золатам і каштоўнымі камянямі, а на маёй шыі звінелі залатыя ланцужкі, і слугі з «Альтанкі Іштар» неслі за мной куфэркі з чорнага дрэва і кедру, упрыгожаныя інкрустацыямі са слановай косці, у якіх ляжалі мае прылады і лекі. Людзі ўжо не смяяліся, а нізка схіляліся перада мною і ціха казалі адзін аднаму:

— Гэты чалавек сваёй мудрасцю, напэўна, роўны малодшым багам. Пойдзем за ім да палаца.

І вялізны натоўп ішоў за маімі насілкамі аж да самай брамы палаца, а наперадзе ехаў Каптах на белым асле, збруя на якім звінела срэбнымі званочкамі. Але ўсё гэта я зрабіў не дзеля сябе, а дзеля Харэмхеба, бо гэта ён даў мне шмат золата, пажадаўшы, каб мае вочы былі яго вачыма, а мае вушы — яго вушамі.

Перад брамай у палац воіны дзідамі разагналі натоўп і паднялі шчыты, якія ўтварылі суцэльную сцяну з бліскучага золата і срэбра. І мяне панеслі па дарозе, уздоўж якой, нібы вартавыя, стаялі крылатыя львы. Дарога прывяла нас у двор царскага палаца, дзе я ўбачыў старога чалавека з паголеным тварам, што было прыкметай вучонасці. У вушах у яго блішчалі залатыя завушніцы, шчокі грэбліва звісалі да падбароддзя. Ён агледзеў на мяне злымі вачыма і потым прамовіў:

—У мяне разбалелася пячонка ад усяго гэтага пустога шуму, які ты ўзняў сваім прыходам, а ўладар чатырох бакоў свету пытае, што гэта за чалавек, які прыходзіць калі яму хочацца, а не тады, калі яго кліча цар, ды яшчэ з'яўляецца з такім гвалтам і грукатам?

Я адказаў:

— Стары! Твае словы — як зыканне мухі ў маіх вушах, але я ўсё ж у цябе папытаюся, хто ты, што адважваешся так гаварыць са мною?

— Я асабісты лекар уладара чатырох бакоў свету,— злосна сказаў ён,— і галоўны сярод яго лекараў! А вось ты, відаць,— прайдзісвет, які з'явіўся, толькі каб сваімі штукарствамі выманіць у цара срэбра і золата! Дык ведай, калі цар у сваёй шчодрасці дасць табе клеймаванага царскага срэбра ці золата, ты павінен палову гэтага аддаць мне.

Я адказаў:

— Хваробы тваёй пячонкі мяне ніколькі не турбуюць, і лепей бы ты пагаварыў з маім рабом, бо гэта яго справа адганяць ад мяне навязлівых жабракоў ды вымагальнікаў. Але я хачу стаць тваім сябрам, бо ты чалавек стары і дрэнна цяміш, што і калі трэба рабіць. У знак нашага сяброўства я дам табе залатыя бранзалеты з маіх рук, каб ты ведаў, што золата і срэбра для мяне, што пыл пад нагамі, і я прыехаў сюды не па золата, а па веды.

Я аддаў яму залатыя бранзалеты са сваіх прыцэўкаў, і ён так разгубіўся, што нават не знайшоў, што адказаць, і, дазволіўшы Каптаху ісці са мной, адвёў нас да цара.

Цар Бурабурыяш , які аказаўся распешчаным хлопчыкам, падпіраючы шчаку, сядзеў на мяккіх падушках у вялікім пакоі, сцены якога блішчалі рознакаляроваю кафляй. Каля яго ног ляжаў леў, які гучна зарыкаў, як толькі мы ўвайшлі ў пакой. Стары лекар адразу кінуўся на жывот, вуснамі выціраючы перад царом падлогу, і Каптах наследаваў яго прыкладу, але пачуўшы ільвіны рык, як лягушка, ускочыў на карачкі і так закрычаў ад жаху, што цар зарагатаў і пачаў качацца па падушках, задыхаючыся ад смеху. А Каптах, незалюбіўшы, сказаў:

— Няхай выведуць адсюль гэтую пачвару, пакуль яна мяне не ўкусіла! Я ніколі ў жыцці не бачыў нічога страшнейшага, а гэты рык нагадвае мне грукат баявых калясніц на фіванскай плошчы, калі яшчэ п'яныя пасля святаў воіны выпраўляюцца на вучэнні.

Ён сеў на падлозе і закрыўся рукамі. Але леў сеў таксама і, гучна пазяхнуўшы, зачыніў пашчу з такім клацаннем, быццам гэта зачыніўся храмавы куфэрак, паглынаючы ўдовіна паднашэнне.

Цар рагатаў так, што ажно слёзы цяклі ў яго з вачэй. Але потым, успомніўшы пра свой зубны боль, ён нахмурыўся, завохкаў і зноў схапіўся за набрынялую шчаку. Стары паглядзеў на яго і паспешліва сказаў:

— Вось, гэта і ёсць той упарты егіпцянін, які не захацеў прыйсці, калі ты загадаў. Скажы толькі слова, і я загадаю воінам праткнуць дзідамі яму печань.

Але цар даў старому выспятка і прамовіў:

— Няма чаго балбатаць рознае глупства, хай ён мяне, як мага хутчэй, вылечыць, бо я ўжо не магу трываць гэтага нясцерпнага болю і некалькі дзён нічога не ем, харчуючыся толькі булёнам.



Стары ляснуўся ілбом аб падлогу і плаксіва загаварыў:

— Уладар усіх чатырох бакоў свету, мы зрабілі ўсё, каб цябе вылечыць, прыносілі ў ахвяру багам зубы і сківіцы, каб выгнаць злога духа, які пасяліўся ў тваім роце, мы білі ў бубны, дулі ў дудкі, апрануўшыся ў чырвоныя строі, каб напалохаць нячысціка, а больш мы не маглі нічога зрабіць, бо ты не дазволіў нам да сябе датыкацца, каб мы маглі цябе вылечыць. Я не веру, што гэты паганы егіпцянін зможа зрабіць гэта лепей за нас.

— Я Сінухе, егіпцянін, Самотнік, Сын дзікага асла,— загаварыў я,— і мне не трэба цябе аглядаць, каб зразумець, што твая шчака ўспухла ад твайго кутняга зуба, які ты не дазволіў своечасова пачысціць ці вырваць, як, напэўна, табе прапаноўваў твой лекар. Такая хвароба — гэта хвароба малога дзіцяці, а не ўладара чатырох бакоў свету, перад якім дрыжаць народы і сам леў схіляе сваю галаву. Але я ведаю, што твой боль нясцерпны і хачу дапамагчы табе.

Цар трымаўся за шчаку і ледзь прамовіў:

— Твае словы такія дзёрзкія, што, калі б я быў здаровы, то загадаў бы вырваць твой нахабны язык і праткнуць тваю печань. Але цяпер на гэта ў мяне няма часу, так што вылечы мяне і атрымаеш вялікую ўзнагароду. Але калі ты прычыніш мне боль, я адразу загадаю забіць цябе.

— Хай будзе па-твойму,— адказаў я.— Мяне абараняе маленькі, але вельмі магутны бог, па чыйму жаданню я не прыйшоў учора, бо ўчора гэта было б дарэмна. А цяпер я бачу, што твой нарыў выспеў і яго можна ўжо пракалоць. Калі хочаш, я зраблю гэта, але ад болю чалавека не могуць абараніць нават багі. Я буду лячыць цябе з вялікаю асцярогай і абяцаю, што табе адразу палегчае, а праз пэўны час ты і не ўспомніш нават пра былы боль.

Цар падпёр шчаку рукою і задумаўся, разглядаючы мяне шалёнымі вачыма. Калі б не ўспухлая шчака, ён быў бы прыгожым, хоць і саманадзейным, юнаком, і я адчуў, што ён мне падабаецца. Ён адчуў мой позірк і злосна крыкнуў:

— Дык рабі хутчэй, што можаш!

Стары зноў пачаў біцца лбом аб падлогу і плакаць, але я, не звяртаючы на яго ўвагі, загадаў нагрэць віна, дадаў туды дурманнага зелля і даў выпіць цару. Неўзабаве ён павесялеў і сказаў:

— Боль прайшоў, не чапай мяне.

Але мая воля была мацнейшая за волю маладога цара, і я прымусіў яго раззявіць рот, моцна заціснуў ягоную галаву пад пахай і прарэзаў нарыў нажом, ачышчаным у свяшчэнным агні, які Каптах прынёс з сабою. Праўда, гэта быў не свяшчэнны агонь Амона, які па Каптахавым

недаглядзе згас падчас падарожжа па рацэ. Гэты агонь ён распаліў у сябе ў пакоі вогненным свярдзёлкам, думаючы ў сваім вар'яцтве, што скарабей не меней магутны, чым Амон.

Як толькі нож дакрануўся да цара, ён дзіка ўскрыкнуў, а леў ускочыў на ногі і зароў, бліскаючы вачыма і матляючы хвастом. Цар выплёўваў гной, які выцякаў з нарыва, а я дапамагаў яму, націскаючы на шчаку, і, такім чынам, ён хутка адчуў сябе лепш. Плачучы ад радасці, ён казаў:

— Сінухе-егіпцянін, хай бласлаляць цябе багі, хоць ты і прычыніў мне боль.

Тут умяшаўся стары і сказаў:

— Я зрабіў бы гэта нашмат лепей, калі б ты дазволіў мне дакрануцца да твайго царскага падбароддзя. А твой зубны лекар зрабіў бы гэта яшчэ лепей.

Стары вельмі здзівіўся, калі я пацвердзіў:

— Стары кажа праўду, ён сапраўды зрабіў бы гэта не горш за мяне, а зубны лекар — яшчэ лепей. Але іх воля не была такою моцнай, як мая, таму яны і не змаглі пазбавіць цябе ад болю. Лекар павінен мець смеласць прычыняць боль нават уладарам, калі гэта патрэбна. Яны баяліся, а я не баяўся, бо мне было ўсё роўна, і, калі хочаш, можаш зараз, калі я вылечыў цябе, загадаць сваім воінам праткнуць маю печань.

Цар плюнуў, пацёр шчаку рукою, плюнуў яшчэ раз, але шчака больш не балела, і ён сказаў:

— Ніхто і ніколі не размаўляў са мной так, як ты, Сінухе. Калі ўсё, што ты кажаш,— праўда, то я не буду загадваць воінам праткнуць тваю печань, бо якая мне з таго радасць, калі ты не баішся смерці. Але ты сапраўды прынёс мне вялікую палёгку, а таму я дарую табе тваю дзёрзкасць і дарую твайму рабу тое, што ён бачыў, як ты трымаў маю галаву пад пахай, і чуў, як я крычаў. Я дарую яму ўсё за тое, што сваім дураслівым скачком ён рассмяшыў мяне, а я ўжо даўно не смяяўся. Скокні яшчэ раз.

Але Каптах змрочна адказаў:

— Гэта ніжэй маёй годнасці і зусім мне не да твару.

Бурабурыяш усміхнуўся і сказаў:

— Ну, зараз пабачым.

Ён паклікаў ільва, той устаў, пацягнуўся так, што ажно хруснулі суставы, і паглядзеў на гаспадара разумнымі вачыма. Той паказаў на Каптаха, і леў, млява памахваючы хвастом, нетаропка накіраваўся да майго слугі, які пачаў здаваць тулам перад ільвінай мордай, не могучы адвесці вачэй ад страшэннага звера. Раптам леў разявіў пашчу і зароў. Тады Каптах павярнуўся, ухапіўся за заслону ля дзвярэй і, лямантуючы ад жаху, хуценька палез наверх, бо леў стараўся дастаць яго лапай. Цар смяяўся яшчэ болей залівіста, чым раней, і казаў:



— Ніколі не бачыў нічога болей пацешнага!

Леў сядзеў на падлозе і, паглядаючы на Каптаха, час ад часу аблізваўся, а да смерці перапалоханы Каптах вісеў на заслоне. Тут цар запатрабаваў, каб яму прынеслі паесці і папіць.

— Я хачу есці,— абвясціў ён.

Тады стары царскі лекар заплакаў ад радасці, што ягоны ўладар вылечыўся, і перад царом з'явіліся розныя смачныя стравы на срэбным посудзе і віно ў залатых кубках, і цар прапанаваў:

— Паабедай са мною, Сінухе, хоць гэта мне не да твару, але сёння я забудуся на сваю веліч, бо ты трымаў маю галаву пад пахай і калупаўся пальцамі ў мяне ў роце.

Я раздзяліў з ім абед і растлумачыў:

— Табе цяпер прыкметна палегчала, але боль можа вярнуцца ў любы момант, калі не вырваць твой хворы зуб, які і быў прычынаю болю. Было б лепш, каб ты дазволіў свайму зубному лекару зрабіць гэта зараз жа. Твая шчака цяпер апала, і выдраць зуб можна будзе лёгка і без ніякай шкоды твайму здароўю.

Цар засмуціўся і раздражнёна сказаў:

— Ты гаворыш дрэнныя словы і азмрочваеш маю радасць.

Ён крыху падумаў, а потым сказаў:

— А можа, ты маеш рацыю, і менавіта таму гэты боль паўтараецца кожную вясну і восень, варта мне толькі прамачыць ногі. І кожны раз я так пакутую, што гатовы памерці. Калі ўжо так трэба, дык лячы мяне сам, бо я не хачу бачыць свайго зубнога лекара, які так доўга прымушаў мяне дарэмна пакутаваць.

Я адказаў яму:

— Па тваіх словах я бачу, што ў дзяцінстве ты выпіў болей віна, чым малака, дый салодкія ласункі табе не дадалі здароўя — гэта таму, што яны гатуюцца ў вас з фінікавага сіропу, а ён раз'ядае зубы. У Егіпце ж ласункі гатуюць з мёду, які для людзей збіраюць маленькія птушачкі, таму я раю табе цяпер есці толькі прывазныя прысмакі.

Цар адказаў:

— Ты, напэўна, вялікі жартаўнік, Сінухе, бо ўсё, што ты кажаш,— яўна хлусня. Я ніколі не чуў, каб птушкі збіралі мёд.

Я гаротна ўздыхнуў:

— Дрэнь мае справы, бо мне ніхто не дасць веры і дома, калі я скажу, што бачыў птушак, якія не ўмеюць лятаць і жывуць з людзьмі, кожны дзень даючы ім па свежаму яйку. Лепш мне, бадай, увогуле нічога нікому не расказваць, інакш я толькі здабуду славу вялікага хлуса і пагублю сваё добрае імя.

Але цар горача запярэчыў:

— Гавары, гавары, бо я ніколі не чуў нічога падобнага.

Тады я сур'ёзна сказаў яму:

— Я не буду выдзіраць твой зуб, хай гэта зробіць твой лекар, бо ён у гэтай краіне самы спрактыкаваны чалавек у лекаванні зубоў і, бадай, болей спрактыкаваны, чым я. Апроч таго, я не хачу, каб мяне сталі ненавідзець. Калі ты хочаш, я пастаю побач, каб табе не было так страшна, і буду трымаць цябе за руку. Апроч таго, я аслаблю твой боль усімі сродкамі, якім навучыўся ад розных народаў. Хай гэта адбудзецца праз два тыдні, лічачы ад сёння. Лепей прызначыць пэўны тэрмін, каб ты не перадумаў. Да таго часу рана ў роце дастаткова загоіцца, а ты кожны дзень, уранні і ўвечары, палашчы рот настойкай, якую я табе дам, хоць яна горкая і вельмі нясмачная.

— А калі я не буду гэта рабіць?

— Ты павінен даць тваё царскае слова, што будзеш рабіць усё так, як я кажу, бо ўладар чатырох бакоў свету не можа парушыць сваё царскае слова. Калі ты выканаеш усё, я пазабаўлю цябе іператвару ваду ў кроў, а потым навучу рабіць гэта і цябе, каб ты мог уразіць сваіх падданых. Але ты павінен паабяцаць мне, што не навучыш гэтаму цуду нікога болей, бо гэта святая таямніца жрацоў Амона. Гэтую таямніцу не ведаў бы і я, каб не быў малодшым жрацом, і я не насмеліўся б навучыць цябе, каб ты не быў царом.

Толькі я сказаў гэта, як зверху пачуўся голас Каптаха, які ўсё яшчэ вісеў на заслоне:

— Прыбярыце нарэшце адсюль гэтую пачвару, іначай я злезу і заб'ю яе. У мяне ўжо і рукі здранцвелі, і ажно задніца баліць ад такога няёмкага становішча, якое прыніжае маю годнасць. Я сапраўды зараз злезу і заб'ю гэтага звера, калі яго не звядуць прэч.

Бурабурыяш рассмяяўся яшчэ больш і сказаў:

— Мне будзе шкада, калі ты заб'еш майго ільва, бо ён вырас у мяне на вачах і стаў маім сябрам. Лепш ужо я адвяду яго, каб у маім палацы не адбылося забойства.

Ён паклікаў ільва да сябе, і Каптах спусціўся і пачаў расціраць занямелыя ногі. Ён так злосна глядзеў на ільва, што цар засмяяўся, пахлопаў сябе па каленях і сказаў:

— Сапраўды, ніколі не бачыў больш пацешнага чалавека. Прадай мне яго, а я цябе азалачу.

Але я не захацеў прадаваць Каптаха, а цар не настойваў, і мы рассталіся сябрамі: ён не спаў некалькі начэй і неўзабаве пачаў клюкаць носам.

Яго стары асабісты лекар вывеў мяне на вуліцу і сказаў:

— Цяпер я па тваіх дзеяннях і паводзінах бачу, што ты не махляр, а ўмелы лекар і сваю справу ведаеш добра. Але я дзіўлюся на тую смеласць, з якой ты размаўляеш з уладаром чатырох бакоў свету. Калі б хто-небудзь з яго лекараў адважыўся так размаўляць з ім, яго прах даўно ляжаў бы ў гліняным гаршчку побач з продкамі.

Я прапанаваў яму:

— Нам было б добра сабрацца і разам абмеркаваць, што мы будзем рабіць праз два тыдні. Трэба прынесці ахвяры патрэбным багам, бо гэты дзень будзе цяжкі.

Мае словы вельмі яму спадабаліся, бо стары быў чалавек пабожны, і мы дамовіліся сустрэцца ў храме, каб разам прынесці ахвяры і наладзіць нараду лекараў, як вылечыць царскі зуб. Але раней, чым мы пайшлі, ён наладзіў у двары пачастунак насільшчыкам, якія прынеслі мяне ў палац. І яны так наеліся і напіліся, што па дарозе назад да «Альтанкі Іштар» узяліся спяваць хваласпевы ў мой гонар. За намі сабраўся цэлы натоўп, і з таго дня маё імя праславілася на ўвесь Вавілон. А Каптах ехаў на белым асле і не размаўляў са мной, бо ягоная годнасць была прыніжаная.



### 3

Праз два тыдні, калі я сустрэўся ў Вежы Мардука з царскімі лекарамі, мы разам прынеслі ў ахвяру авечку і выслухалі прадказанні жрацоў, якія яны зрабілі, разглядаючы яе печань, бо ў Вавілоне жрацы робяць прадказанні па печані ахвяры і ўмеюць чытаць па ёй шмат такога, што недаступна іншым. Яны прадказалі, што цар на нас вельмі раззлуецца, аднак усе застануцца жывыя і ніхто нават не будзе пакалечаны. Але нам трэба асцерагацца кіпцюроў і дзідаў. Потым мы папрасілі зоразнаўцаў прачытаць па зорках, ці падыходзіць намечаны дзень для лекавання царскіх зубоў.Яны адказалі, што падыходзіць, хоць можна было б выбраць і болей удалы. Апроч таго, мы папрасілі жрацоў уліць у ваду алею, каб такім чынам прадказаць будучае, але на паверхні плавалі нейкія цьмяныя фігуры, і жрацы, паглядзеўшы на іх, сказалі, што нічога дрэннага тыя фігуры не прадвяшчаюць. Калі мы выйшлі з храма, над намі праляцеў арол, несучы ў кіпцюрах чалавечы чэрап, які ён падхапіў на сцяне, што жрацы палічылі для нас добрым знакам, хоць, на маю думку, гэты знак быў не надта добры.

Памятаючы прадказанні, прачытаныя на авечай печані, мы выгналі царскіх ахоўнікаў і зачынілі ў пакоі ўсе дзверы, каб леў не мог увайсці і раз'юшаны цар не нацкаваў яго на нас: па сведчаннях лекараў такое здаралася ўжо не аднойчы, і леў раздзіраў няшчасных на кавалкі. Каб парадаваць сваю печань, як кажуць у Вавілоне, цар выпіў віна і смела ўвайшоў у залу. Але як толькі ўбачыў крэсла зубнога лекара, адразу спалатнеў і сказаў, што яго чакаюць неадкладныя дзяржаўныя справы, пра якія ён ледзь не забыў, бо, відаць, зашмат выпіў.

Ён ужо мерыўся пайсці прэч, але пакуль астатнія вавілонскія лекары

ляжалі перад царом ніц, я ўхапіў яго за руку і, каб супакоіць, сказаў, што, калі ён не будзе баяцца і перашкаджаць, усё зойме не больш за імгненне.

Я загадаў усім абмыцца, ачысціў прылады зубнога лекара скарабеевым агнём і стаў уціраць цару ў дзясны абязбольвальнае зелле, пакуль ён не сказаў, што яго шчака стала, нібы драўляная, і язык ледзь варочаецца ў роце. Тады мы пасадзілі яго на крэсла, прывязалі да спінкі царскую галаву, а ў рот усунулі драўляныя кліны, каб ён не змог сціснуць зубы. Я трымаў цара за руку, а зубны лекар, гучна паклікаўшы ўсіх вавілонскіх багоў на дапамогу, сунуў цару ў рот абцужкі і выдраў зуб з майстэрствам, якога я ніколі не бачыў. Але нягледзячы на гэта, цар закрычаў, ды так страшна, што ў калідоры адразу пачуўся рык ільва, які пачаў драпаць дзверы сваімі кіпцюрамі і кідацца на іх з такой сілай, што яны затрашчалі.

Гэта была жахлівая хвіліна, бо як толькі мы адвязалі цару галаву і вынялі з рота кліны, ён застагнаў і заплакаў так, што слёзы ручаём пацяклі па шчоках. Плюючыся крывёй і рыдаючы, ён пачаў гучна клікаць ахоўнікаў, каб яны нас забілі, і клікаў ільва, каб ён нас задраў. Дрыгаючы нагамі, ён перакуліў свяшчэнны агонь і пачаў лупцаваць посахам сваіх лекараў, але я забраў у яго посах і загадаў прапаласкаць рот. Ён паслухаўся, а лекары ляжалі на падлозе, дрыжалі і думалі, што настаў іхні апошні час. Але цар паціху супакоіўся, выпіў віна і, хоць рот у яго ўсё яшчэ быў перакошаны, папрасіў яго пазабавіць, як я раней абяцаў. Мы пайшлі ў вялікую залу, бо пакой, дзе яму выдралі зуб, ён пракляў навекі і загадаў забіць у ім дошкамі ўсе ўваходы. У вялікай зале я наліў вады ў сасуд, даў пакаштаваць яе цару і лекарам, і яны ўсе пацвердзілі, што гэта была звычайная вада. Потым я стаў павольна пераліваць ваду ў другі сасуд, і па меры таго як вада пераліvалася, яна ператваралася ў кроў, так што цар і лекары аж закрычалі ад здзіўлення і страху.

Апроч таго, я загадаў Каптаху прынесці скрынку, у якой ляжаў драўляны кракадзіл — усе цацкі, якія прадаваліся ў Вавілоне, былі гліняныя,— а я, успомніўшы драўлянага кракадзіла, з якім забаўляўся ў дзяцінстве, загадаў спрактыкаванаму майстру зрабіць такога ж, дапамагаючы яму сваімі парадамі. Майстар зрабіў кракадзіла з кедра і срэбра і размаляваў яго так, што ён выглядаў, як сапраўдны жывы кракадзіл. Я выняў яго са скрынкі і пацягнуў за сабой па падлозе: ногі ў яго адразу пачалі рухацца, і пашча заляскала, як у драпежніка, што гоніцца за здабычай. Гэтага кракадзіла я падараваў цару, і ён быў вельмі задаволены, бо ў яго рэках такія кракадзілы не вадзіліся. Цягаючы яго за сабой па зале, цар так забаўляўся, што зусім забыўся на свой боль, а лекары пераглядваліся між сабой і радасна ўсміхаліся.

Пасля таго, шчодра ўзнагародзіўшы сваіх лекараў — а зубніка ён проста азалаціў,— цар загадаў ім пакінуць палац. Аднак мяне пакінуў, і я навучыў яго ператвараць ваду ў кроў, і даў яму парашок, які трэба ўсыпаць у ваду, каб яна стала чырвонай. Як і любое вялікае мастацтва, гэты цуд таксама быў просты, і кожны, хто валодаў яго таямніцай мог лёгка паўтарыць цудоўнае ператварэнне вады ў кроў. Але цар вельмі дзівіўся, усяляк хваліў мяне і не задаволіўся, пакуль не паклікаў сваіх прыдворных у сад, дзе ва ўсіх на вачах ператварыў ваду ў кроў, ад чаго і знатныя, і прасталюдзіны — усе закрычалі ад жаху і кінуліся ніцма перад уладаром.



Пра свой хворы зуб ён ужо не ўспамінаў і сказаў мне:

— Сінухе-егіпцянін! Ты пазбавіў мяне ад жахлівага болю і сваімі цудамі парадаваў маю печань. Прасі за гэта ў мяне ўсё, што хочаш, назаві любы падарунак, і я аддам табе яго, што б гэта ні было, бо я таксама хачу парадаваць тваю печань.

Тады я сказаў яму:

— Цар Бурабурыяш , уладар чатырох бакоў свету! Я, просты лекар, трымаў пад пахай тваю галаву і чуў, як ты лямантаваў дурным голасам, і мне здаецца проста непрыстойным, каб у мяне, чужаземца, застаўся такі ўспамін пра цара Вавілоніі, калі я вярнуся дамоў і пачну расказваць, што тут бачыў. Будзе лепш, калі ты навядзеш на мяне жах і дрыжыкі, паказаўшы ўсю сваю моц, калі падвяжаш бараду, падпярэжашся ільвіным хвастом і загадаеш свайму войску прайсці перад табой урачыстым маршам, каб я адчуў усю тваю веліч і мог кінуцца перад табой ніцма, выціраючы вуснамі зямлю каля тваіх ног. Нічога іншага я ў цябе не прашу.

Мая просьба, напэўна, прыйшлася яму даспадобы, бо ён адказаў:

— Напраўду, ніхто так не размаўляў са мною, як ты, Сінухе, а таму я выканаю тваю просьбу, хоць гэта і цяжкая справа — цэлы дзень сядзець на залатым троне: мае вочы стамляюцца, і я ўвесь час пазяхаю. Але хай будзе па-твойму.

Ён разаслаў загады па ўсіх сваіх землях, склікаючы войскі, каб яны прайшлі перад намі.

Войскі праходзілі ля Брамы Іштар, цар сядзеў на залатым троне, ля яго ног ляжаў леў, а ўсе знатныя прыдворныя пры поўнай зброі стаялі абапал, і нібы зіхоткае воблака золата, срэбра і барвы клубілася вакол яго. Войскі ішлі па ніжняй шырокай дарозе — кап'яносцы і лучнікі шэрагамі па шэсцьдзесят чалавек, калясніцы ехалі па шэсць, і гэтае відовішча доўжылася цэлы дзень, пакуль апошні воін не прайшоў перад уладаром. Колы ваенных калясніцаў грукаталі, як гром, гукі крокаў і бразгат зброі нагадвалі шум раз'юшанага мора, так што, гледзячы на ўсё гэта, пачынала круціцца галава і не трымалі ногі.

Я ціха сказаў Каптаху:

— Сказаць, што ў Вавілоніі войскаў — як пяску ў моры ці зорак на небе,— гэта значыць не сказаць нічога. Трэба пералічыць усё.

Каптах прабурчаў:

— Гэта немагчыма, мой гаспадар. На свеце няма такіх вялікіх лікаў.

І ўсё ж я палічыў, што змог. Пешых воінаў было шэсцьдзесят разоў па шэсцьдзесят, бо ў Вавілоніі шэсцьдзесят — свяшчэнны лік, гэтак сама, як лікі пяць, сем і дванаццаць, але чаму так — не ведаю. Жрацы спрабавалі мне патлумачыць, але я не змог зразумець іх тлумачэнняў.

Я бачыў, што шчыты і дзіды царскай аховы блішчаць срэбрам і золатам, і таксама срэбрам і золатам блішчаць іхнія латы, а твары воінаў ільсняцца ад духмянага алею, але я заўважыў таксама, што яны атлусцелі і, прабягаючы паўз царскае месца, дыхалі ўжо цяжка, як статак быкоў. Але ахоўнікаў было не шмат, а воіны, што прыйшлі з правінцыі, былі загарэлыя і брудныя, ад іх патыхала сцакамі, а іх вочы былі да чырвані аб'едзеныя мухамі. Шмат хто не меў нават дзіды — так нечакана выклікаў іх цар у сталіцу. Калясніцы былі старыя і рыпучыя, ад некаторых на хаду адвальваліся колы, а прымацаваныя да калясніцаў баявыя косы паспелі пакрыцца зялёнай іржой.

Вечарам цар запрасіў мяне да сябе і спытаў:

— Цяпер ты бачыў усю маю моц, Сінухе?

Я кінуўся перад ім ніцма і, выцершы вуснамі пыл перад яго нагамі, сказаў:

— Напраўду, няма магутнейшага цара, чым ты, нездарма цябе клічуць уладаром чатырох бакоў свету. Мае вочы стаміліся, галава закруцілася, і ногі падагнуліся ад страху, бо воінаў у цябе столькі, колькі пяску ў моры ці зорак на небе.

Ён задаволена ўсміхнуўся і прамовіў:

— Ты атрымаў, што хацеў, Сінухе, хоць мог бы і так паверыць. Ато мае дарадцы цяпер злуюць на мяне за гэтую прыхамаць, якая абышлася ў падатак з цэлай правінцыі, бо воінаў трэба сёння накарміць, напаіць, а тады яны, як звычайна, пачнуць шумець ды чыніць у горадзе ўсялякае паскудства, і яшчэ месяц на дарогах будзе праз іх неспакойна. Так што я больш такіх аглядаў рабіць ніколі не буду. Ну, ды цяпер давай піць віно, бо ў мяне ад сядзення на залатым троне ўся задніца анямела, а галава ідзе кругам. Давай парадуем свае пячонкі пасля цяжкага дня. І апроч таго, я таксама маю задаць табе яшчэ шмат пытанняў.

Я піў віно, а цар пытаўся ў мяне пра ўсякае-featureзнае, як пытаюцца малыя дзеці, якія нічога яшчэ не бачылі і нідзе не бывалі. Яму падабаліся мае адказы і тлумачэнні, і нарэшце ён спытаў:

— А ў твайго фараона ёсць дачка? Пасля таго, што ты распавёў мне пра Егіпет, я вырашыў узяць у жонкі дачку твайго фараона. Праўда, у маіх жаночых пакоях ужо жывуць чатырыста жонак і мне іх болей чым дастаткова, бо сілы ў мяне хапае павесяліцца толькі з адной на дзень, дый гэта мне надакучыла б, каб яны былі аднолькавыя. Але мая слава ўзрасла б, калі б сярод іх была і дачка фараона, і тады народы, якімі я ўладару, шанавалі б мяне яшчэ больш, чым сёння.



У жаху я ўскінуў рукі і прамовіў:

— Бурабурыяш , ты не ведаеш, што кажаш, бо ніколі з тае пары, як стаіць свет, фараонавы дочкі не выходзілі замуж за чужаземцаў, яны бяруцца шлюбам толькі са сваімі братамі, а калі братоў няма, дык так і застаюцца ў дзеўках і робяцца жрыцамі. Твае словы абражаюць багоў Егіпта, але я дарую табе, бо ты не ведаеш, што кажаш.

Цар нахмурыўся і незадаволена сказаў:

— Хто ты такі, што можаш даравацьмне за мае словы? Хіба мая кроў не такая боская, як у фараонаў?

— Я бачыў тваю кроў, калі ты яе выплёўваў. І я бачыў кроў вялікага фараона Аменхатэпа і не магу сказаць, што паміж вашай крывёю ёсць нейкая розніца. Але не забывай, што мой фараон ажаніўся нядаўна, і я не ведаю, ці паспела ў яго нарадзіцца дачка.

— Нічога,— адказаў Бурабурыяш і хітра паглядзеў на мяне — Я яшчэ малады і магу пачакаць. Апроч таго, калі ў твайго фараона няма дачкі ці ён не захоча мне яе паслаць, дык хай прышле любую высакародную дзяўчыну з Егіпта, каб я мог сказаць, што гэта дачка фараона. Тут, у Вавілоніі, ніхто не засумняваецца ў маіх словах, а фараон ад таго нічога не страціць. Калі ён не згодзіцца і на гэта, то я пашлю на Егіпет свае дружыны, і ўжо яны здабудуць мне ягоную дачку, бо я ўпарты і ніколі не адмаўляюся ад таго, што аднойчы забраў сабе ў галаву.

Яго словы мяне напалохалі, і я сказаў, што вайна абышлася б занадта дарага, вельмі пашкодзіла б гандлю, а яго страты былі б большыя, чым у Егіпта. Я сказаў таксама:

— Можа табе было б лепей пачакаць, пакуль у фараона народзяцца дочкі. Тады ты зможаш паслаць яму гліняную таблічку з просьбай, і калі ён згодзіцца, то абавязкова прышле табе сваю дачку і не падмане, бо ў яго цяпер новы магутны бог, перад тварам якога ён заўсёды праўдзівы, а ўсякі падман для яго — страшны грэх.

Але Бурабурыяш не мог гэтага зразумець.

— Я не хачу нават слухаць пра гэтага бога,— сказаў ён.— І мне вельмі дзіўна, што твой фараон выбраў сабе такога, бо ўсе ведаюць, што залішняя праўдзівасць і шчырасць толькі шкодзяць чалавеку, нясуць адны беды і разараюць дазвання. Што да мяне, дык я малюся ўсім багам,— нават тым, каторых не ведаю, бо так яно болей надзейна. Але з тым, пра якога ты кажаш, не хачу мець ніякага дачынення і буду трымацца ад яго падалей.

І яшчэ ён сказаў:

— Віно падбадзёрыла мяне і парадавала маю печань, а твае расповеды аб прыгажосці фараонавых дачок мяне распалілі, таму пайду я, бадай, у жаночыя пакоі. Пойдзем са мною — табе, як лекару, гэта дазволена, а паколькі жонак у мяне больш, чым дастаткова, дык я не разззлуюся, калі ты выглядзіш сабе якую і ды пацешышся з ёю.Глядзі толькі не зрабі ёй дзіцяці, бо гэта можа выклікаць розныя цяжкасці. Апроч таго, мне цікава паглядзець, як егіпцянін цешыцца з дзеўчынай, бо кожны народ мае ў гэтым свой звычай, і ты не паверыў бы і дужа здзівіўся, каб я табе расказаў пра звычкі жанчын, якіх мне прывезлі з далёкіх краін.

Не зважаючы на маё пярэчанне, ён амаль сілком пацягнуў мяне ў жаночыя пакоі і там папрасіў звярнуць увагу на кафлю, якая пакрывала ўсе сцены. Мастакамі на кафлі былі намаляваныя выявы мужчын і жанчын, якія цешыліся самымі рознымі спосабамі. Потым ён паказаў мне некаторых сваіх жонак, абвешаных каштоўнасцямі і аздобамі, апранутых у дарагія ўборы, сярод іх былі і немаладыя жанчыны, і зусім юныя дзяўчаты не толькі з усіх вядомых мне краінаў, але і з варварскіх плямёнаў. Аблічча і колер скуры варварак рэзка адрозніваліся ад іншых, яны гучна, нібы статак малпаў, гергеталі на сваіх мовах і танчылі перад царом, агаляючы жываты, усяляк яго спакушаючы і стараючыся заваяваць прыхільнасць свайго ўладара. Цар настойліва прапаноўваў мне выбраць якую-небудзь адну, пакуль я не сказаў, што даў свайму богу слова не датыкацца да кабет перад лекаваннем, а заўтра мне трэба лячыць аднаго прыдворнага, і таму я не хачу зняславіць сваё лекарскае мастацтва, парушыўшы свяшчэнную клятву. Цар паверыў гэтаму і адпусціў мяне, а жанчыны былі вельмі засмучаныя, выказваючы жэстамі і словамі, якія яны незадаволеныя. Калі не лічыць скапцоў, яны ніколі не бачылі на сваёй палавіне маладых мужчын, бо цар быў яшчэ вельмі малады, кволы і безбароды.

Але перш, чым я выйшаў, цар сказаў, усміхнуўшыся:

— Рэкі разліліся, і прыйшла вясна. Таму жрацы выбралі трынаццаты дзень, пачынаючы з сённяшняга, святочным днём і днём фальшывага цара. На гэты дзень я падрыхтаваў табе сюрпрыз, які, на маю думку, вельмі цябе пазабавіць, дый мне прынясе шмат вясёлага і цікавага, але што гэта, я зараз табе не скажу, каб ты не сапсаваў мне забавы.

Выслухаўшы гэта, я пайшоў у чаканні ўсяго самага нядобрага, я баяўся, што забавы цара Бурабурыяш а не будуць мне даспадобы. І Каптах быў цалкам са мною згодзен.

**4**

Царскія лекары не ведалі, як мне лепш выказаць сваю ўдзячнасць: дзякуючы мне яны пазбеглі жахлівай сілы царскага гневу і, наадварот, атрымалі багатыя падарункі. Апроч таго, я сам усяляк славіў іх майстэрства і веды перад царом. Я рабіў гэта таму, што кожны з іх сапраўды быў у сваёй галіне выдатным лекарам, і мне шмат чаму было ў іх навучыцца, а яны не ўтойвалі нічога. І галоўнае, што я ў іх выведаў,— гэта як гатаваць адмысловае зелле з малачка, выціснутага з макавых галовак. У залежнасці ад колькасці малачка тое зелле прыносіла чалавеку добры сон, пазбаўляла прытомнасці або нават жыцця. Яго ўжывалі шмат вавіланянаў, дадаючы ў віно, ато і без віна. Яны казалі, што адчуваюць ад яго вялікую асалоду. Жрацы таксама яго прымалі, каб выклікаць у сябе відзежы, а потым тлумачылі іх, прадракаючы будучыню: яны лічылі, што ад гэтых зёлак мудрасць вельмі ўзрастае. Дзеля гэтага мак у Вавілоніі вырошчвалі на неабсяжных палях, і гэтыя стракатыя ад кветак прасторы рабілі на падарожніка незвычайнае ўражанне. Яны называліся палямі багоў, бо належалі Браме і Вежы.



Апроч таго, жрацы апрацоўвалі таемным, толькі ім вядомым спосабам зерне канопляў і таксама атрымлівалі з іх зелле, ад якога ў чалавека знікаў страх болю і нават ад страх смерці, а калі яго ўжывалі памногу і часта, то ўрэшце знікала і цікавасць да ўсяго зямнога, нават і да кабет, і чалавек пачынаў жыць відзежамі нябесных жанчын і радасцяў з імі. Але больш за ўсё мяне ўразіла, як жрацы здабываюць з горнага крышталя празрыстае шкло, якое, калі глядзець праз яго, павялічвае прадметы. Я не паверыў бы ў гэтае дзіва, каб сам не трымаў таго шкла ў руках і сам праз яго не глядзеў, аднак чаму яно мае такую сілу, жрацы не здолелі растлумачыць, дый, бадай, растлумачыць гэта не зможа ніхто. Знатныя і багатыя тут карыстаюцца гэтымі шкельцамі, калі зрок у іх слабне, таму нават на старасці яны могуць чытаць дробныя надпісы на гліняных таблічках і ўпэўнена завяраць напісанае сваёю пячаткай.

Але, напэўна, яшчэ большае дзіва ў тым, што калі прапусціць скрозь гэтае шкло сонечнае праменне, дык можна, без дапамогі ўсякага вогненнага свярдзёлка, здабыць агонь, падпаліўшы сухое лісце і трэскі. Магутнасць крышталёвага шкла схіліла мяне да думкі, што вавілонскія чарадзеі валодаюць болей магутнай сілай, чым чарадзеі ўсіх іншых краінаў, і я пачаў вельмі паважаць іх. Праўда, крышталёвае шкло каштуе неверагодна дорага — за яго адсыпаюць золата нашмат больш за вагу шкла, але царскі зубны лекар, убачыўшы, што мне дужа даспадобы гэтыя шкельцы, падараваў мне адзін крышталь. У адказ я падараваў яму кедравыя дзверы для яго дома і загадаў мастаку на егіпецкі лад намаляваць на гэтых дзвярах цара і самога лекара, які выдзірае ў цара зуб, а той потым абсыпае лекара багатымі падарункамі. Дрэва ў Вавілоніі такое каштоўнае, што драўляныя дзверы перадаюцца ў спадчыну, а калі нават вельмі багаты чалавек пераязджае з аднаго дома ў другі, то абавязкова забірае дзверы з сабою.

Вельмі зацікавіла мяне таксама ўменне вавілонскіх жрацоў прадказ-

ваць будучае, а як бо я карыстаўся вялікай прыхільнасцю цара, то за мяне папрасілі царскія лекары, і тады ў Вежы мне дазволена павучыцца мастацтву прадказанняў. Я навучыўся чытаць па авечай печані, адрозніваць па звілістасці і пакручастасці яе жылак горы і рэкі, брамы і вежы, галаву і вушы, рукі і ногі, пальцы і ўсё астатняе да самай нязначнай дробязі, што вельмі карысна лекару, бо, калі пашанцуе, ён можа па авечай печані прачытаць хваробу свайго наведніка і зразумець, як яго лячыць, не турбуючы хворага аглядам. Вавілонскія лекары часта ўжывалі гэты спосаб, калі не маглі зразумець, на якую хваробу захварэў чалавек, а таксама калі хацелі адчуваць сябе болей упэўнена.

Аднак самыя дакладныя і беспамылковыя веды пра тое, што ёсць і будзе, можна прачытаць па нябесных зорных пісьмёнах. Але я за іх вывучэнне не ўзяўся, бо яно патрабуе гады і нават дзесяцігоддзі, і нездарма ўсе зоразнаўцы тут — сівабародыя людзі, а іх вочы стомленыя ад бясконцага сузірання начнога зорнага неба. Апроч таго, яны ўвесь час сварацца між сабою, не згаджаючыся ў тым, што азначае становішча той ці іншай зоркі, і гэта сталася яшчэ адной прычынай, чаму я палічыў за лепшае не марнаваць свой час. Тым не менш жрацы распавялі мне, што ўсе нябесныя падзеі пэўным чынам адбіваюцца на зямлі і, калі добра вывучыцца гэтаму мастацтву, па зорках можна прадказаць самую нязначную падзею, не кажучы ўжо пра падзеі вялікай значнасці. Такое вучэнне падалося мне болей пераканаўчым і зразумелым, чым пашматлікія навукі аб людзях і багах, апроч таго, яно палягчае чалавеку жыццё, пераконваючы яго ў тым што ўсё робіцца па строгім законе і ніхто не можа змяніць свой лёс, бо нікому не падуладна змяніць рух нябесных свяцілаў. Пасля глыбокага роздуму я зразумеў, што гэтае вучэнне па сваёй сутнасці бліжэй да людзей і прыроды і больш зразумелае за іншыя, а таму адпавядае веры чалавечага сэрца, хоць вавіляняне ў гэтых выпадках кажуць не пра сэрца, як егіпцяне, а пра печань, але гэта залежыць толькі ад звычкі выказвацца і ні ад чаго іншага.

Дзівосная навука зоразнаўцаў так захапіла мяне, што я пэўны час нават думаў, ці не застацца мне ў Вавілоніі, адмовіўшыся ад падарожжаў і ўсяго іншага, каб праз гады або дзесяцігоддзі спасцігнуць зорную мову, бо няма нічога больш значнага ў жыцці чалавека, чым разуменне таямніцаў зорнага свету. Я сказаў пра гэта Каптаху, але ён адказаў:

— Якая чалавеку карысць ад таго, што ён марна патраціць гады, узіраючыся ў неба, пакуль не аслепне? Калі зоркі сапраўды пішуць усё, што з намі здарыцца, дык нават усё загадзя ведаючы, чалавек не можа нічога змяніць — успомні казку пра царэвіча і яго сабаку. Калі чалавек будзе загадзя ведаць усё паганае, што яго чакае, ён зажурыцца, у яго пачнуцца нелады з жыватом, а старацца пазбегчы наканаванага — дарэмны клопат і марная справа. А калі ў яго наперадзе толькі добрае,— чаго ніколі ні з кім не бывае,— дык ці не лепш проста радавацца шчасцю, а не сядзець, вылупіўшыся на зоркі? З чалавекам адбываецца напераменку то добрае, то дрэннае — так вызначылі багі, а чытаць зоркі — чыстая марнасць. Лепш нам спадзявацца на свайго скарабея.



Я адказаў яму:

— Калі ўсё, што павінна адбыцца, напісана на зорках, дык і скарабей нічога не зменіць у нашым лёсе, няма ў яго такой сілы.

Мае словы вельмі абразілі Каптаха:

— Ты кажаш глупства і ад тваіх словаў патыхае свінарняй, бо калі ўсё так, як ты кажаш, значыць, на зорках напісана, што скарабей прыносіць нам шчасце, і на зорках пералічаны ўсе нашы вялікія і малыя ўдачы. Без нашага скарабея мы даўно ўжо віселі б на гарадскім муры дагары нагамі ці можа твой чэрап бялеў бы дзе-небудзь на полі бітвы.

Мне нечага было адказаць, і я адмовіўся ад думкі застацца ў Вавілоніі. Прыслухаўшыся да свайго сэрца, я зразумеў, што гэтае рашэнне нават узрадавала мяне: я быў настолькі прасякнуты прагаю падарожжаў, што мае вочы ўвесь час і нястомна шукалі ўбачыць што-небудзь новае. Апроч таго, мяне суцяшала думка, што, пакідаючы Вавілонію, я раблю так, як і павінна быць, бо ўсе разважанні Каптаха былі ўжо даўно напісаны на зорках — мусіць, яшчэ раней, чым я нарадзіўся,— так што я ўсё адно не змог бы застацца, нават каб вельмі захацеў.

Замест зоразнаўства я стаў вывучаць авечыя печані і запісаў на памяць вядомыя жрацам Мардука прыкметы ў палётах птушак, каб улічваць, што яны прадвяшчаюць. Я патраціў шмат часу,назіраючы, як жрацы налліваюць алей у ваду і робяць прадказанні па фігурах, што ўтварыліся на паверхні, але ў гэта я верыў меней, бо фігуры заўсёды атрымліваліся розныя і, каб іх тлумачыць, патрэбныя былі не так веды, як спрытны балбатлівы язык. Аднак я запомніў усё, што казалі жрацы нават і пра гэтае мастацтва.

Я так усім гэтым захапіўся, што на пэўны час забыўся на лекарскія абавязкі і цэлыя дні праводзіў у храме, адсылаючы хворых да царскіх лекараў, чым тыя былі вельмі задаволеныя, бо іх слава расла. А я, злучыўшы егіпецкую мудрасць з мудрасцю вавілонскай, нават таго забаяўся, уявіўшы, што валодаю цяпер усёй мудрасцю, якую людзі сабралі на працягу доўгіх тысячагоддзяў ва ўсіх баках свету. Думаючы так, я адчуваў, як мае сілы дужэюць, і ажно раздзімаўся ад гонару, уяўляючы, што для мяне нічога няма немагчымага. Такі малады і неразумны я быў, нягледзячы на ўсе свае веды і досвед.

Але раней, чым распавесці пра дзень фальшывага цара і свята вясны ў Вавілоніі, лічу патрэбным паведаміць пра адну важную рэч, якая тычыцца майго нараджэння. Разглядаючы печань і налліты ў ваду алей, жрацы мне казалі:

— Тваё нараджэнне звязанае са страшнаю таямніцай, якую мы не здольныя прачытаць, але з яе выцякае, што ты напраўду не егіпцянін, як думаеш, а чужаземец ва ўсім сусвеце.

Тады я распавёў ім, што нарадзіўся не так, як усе людзі, а аднойчы ўначы прыплыў па рэчцы ў трысняговым чоўне, і маці знайшла мяне ў чароце. Тут жрацы нізка схіліліся перада мной і сказалі:

— Мы здагадваліся пра гэта.

І яны расказалі, як іх вялікі цар Саргон, што пакарыў усе бакі свету і чыя ўлада распасціралася ад паўночнага да паўднёвага мора і аж да марскіх выспаў, прыплыў па рацэ ў прасмоленым трысняговым чоўне яшчэ немаўляткам, і ніхто нічога не ведаў пра яго нараджэнне, пакуль яго вялікія здзяйсненні не паказалі, што ён сын багоў.

Ад пачутага маё сэрца сціснулася, я паспрабаваў засмяяцца і спытаў:

— Вы ж не думаеце, што я, просты лекар, народжаны багамі?

Але яны не засмяяліся мне ў адказ і прамовілі:

— Гэта нам невядома, але з табой лепш быць асцярожным, і таму мы схіляемся перад табою.

І яны зноў нізка пакланіліся. Але мне гэта ўжо надакучыла, і я сказаў:

— Хопіць жартаў, зоймемся справай.

Мы абступілі гліняную пасудзіну, і яны пачалі далей тлумачыць таямніцы авечай печані, але ўвесь час крадком на мяне паглядалі і перашэптваліся.

З таго дня думка пра таямніцу майго нараджэння пачала грызці мяне, і маё сэрца налівалася свінцом, калі я думаў, што я — чужаніца для ўсіх чатырох бакоў свету. Я вельмі хацеў распытаць пра сваё паходжанне зоразнаўцаў, але не ведаў дакладнага дня і часу свайго нараджэння, а таму яны нічога не змаглі б мне сказаць. Але па просьбе жрацоў, якія таксама вельмі цікавіліся маім паходжаннем, зоразнаўцы выцягнулі свае гліняныя таблічкі, якія адносіліся да таго года і дня, калі рака прынесла мяне, і сказалі, што калі б я радзіўся ў пэўны час сутак, то быў бы царскай крыві і з'явіўся б на свет, каб пакарыць шмат розных народаў. Такія звесткі нікольні не палегчылі пакутаў майго сэрца, бо калі я пачынаў думаць пра сваё мінулае, я ўспамінаў пра злачынства, якое зрабіў у Фівах, і пра ганьбу, якая пакрывала мяне. А можа, думаў я, зоркі праклялі мяне ўжо ў самы дзень нараджэння і знарок адправілі ў трысняговым чоўне, каб я раней часу зжыў са свету Сэнмута і Кіпу і ўкраў у іх не толькі радасць апошніх дзён, але нават і іх магілу. Ад такой думкі маё цела ажно скаланулася, бо калі я пракляты зоркамі, значыць, мне і далей не ўнікнуць гэтага лёсу, значыць, я і далей буду чыніць злачынствы і несці бяду людзям, якія палюбяць мяне. Таму будучыня страшыла мяне, і я зразумеў, што павінен ад усіх адвярнуцца сэрцам і жыць адзін, бо толькі тады не прычыню бяды іншым.



**5**

Але я мушу яшчэ расказаць пра дзень фальшывага цара. Як толькі зазелянела рунь на палетках і халодныя ночы пацяплелі, жрацы выйшлі за горад, выкапалі пахаванага ў полі бога і абвясцілі, што ён уваскрос. Тады ўвесь Вавілон заскакаў, забурліў, вуліцы загаціў святочна апрануты люд , а розныя шкадліўцы пачалі рабаваць лаўкі, і горад напоўніўся яшчэ большым крыкам і гвалтам, чым пасля вялікага ваеннага агляду, учыненага царом. Жанчыны і дзяўчаты разышліся па храмах Іштар, каб сабраць сабе на пасаг срэбра, і цешыліся з усімі, хто пажадае, прычым гэта не лічылася нечым ганебным, і кожны цешыўся, колькі хапала сілы і жадання. Апошні дзень свята быў днём фальшывага цара.

Я ўжо прывык да розных вавілонскіх звычаяў, але быў вельмі ўражаны, калі яшчэ ўначы, да світання, п'яныя царскія ахоўнікі ўварваліся ў «Альтанку Іштар», нагамі адчыняючы дзверы і лупячы ўсіх сустрэчных дрэўкамі дзідаў. Яны штомоц гарлалі:

— Дзе тут хаваецца наш цар? Зараз жа аддайце нам нашага цара, бо хутка ўзыдзе сонца і цар павінен чыніць суд над сваім народам!

Стаяў дзікі гвалт, слугі ашалела бегалі па ўсіх праходах, запальваючы свяцільні, а Каптах вырашыў, што ў горадзе пачаўся бунт, і схаваўся пад маім ложкам. Я голы выскачыў з пасцелі і, накінуўшы шарсцяны плашч, выйшаў да воінаў.

— Што вам трэба? — спытаў я.— Вы не смееце мяне абражаць, бо я Сінухе-егіпцянін, Сын дзікага асла! Вы, мусіць, чулі маё імя?!

Тады яны радасна зараўлі:

— Калі ты Сінухе, дык ты нам і патрэбен!

Яны сарвалі з мяне плашч і разглядаючы мяне голага, пачалі здзіўлена паказваць на мяне пальцамі, бо ніколі не бачылі мужчыну, якому было зроблена абразанне. Яны казалі:

— Напраўду, мы нічога не бачылі дзіўнейшага з той пары, як да нас з выспаў цёплага мора прыязджаў чорны чалавек, што пракалоў сабе член палачкай са званочкам, каб больш падабацца жанчынам.

Пазабавіўшыся ўдосталь, яны адпусцілі мяне і сказалі:

— Не займай больш нашага часу сваімі дзівосамі, а давай лепш сюды свайго слугу: наш цар загадаў як мага хутчэй прывесці яго ў палац, бо сёння дзень фальшывага цара.

Пачуўшы гэта, Каптах напалохаўся і задрыжаў пад ложкам аж так, што затрослася і ложак. Воіны заўважылі гэта і выцягнулі Каптаха. Яны пачалі ўслаўляць яго крыкамі, кланяцца да зямлі і казаць адзін аднаму:

— Сёння наш вялікі дзень! Мы нарэшце знайшлі цара, які хаваўся ад нас! Цяпер нашы вочы, радуюцца, гледзячы на яго, і мы спадзяемся, што ён шчодра ўзнагародзіць нас за нашу адданасць.

Каптах глядзеў на іх вылупленымі вачыма і ашалелаківаў галавою. А воіны, убачыўшы, што ён напалоханы і разгублены, сталі смяяцца яшчэ больш і сказалі:

— Ён напраўду ўладар чатырох бакоў свету — мы пазналі яго ў твар!

Яны нізка схіліліся перад маім рабом, а тыя, што стаялі ззаду, сталі даваць Каптаху выспяткі, каб прыспешыць яго. Але Каптах сказаў мне:

— Напраўду, увесь гэты горад і ўся краіна з'ехалі з глузду, спаганіліся і напоўніліся злом! Мусіць, мой скарабей ужо не можа мяне абараніць, калі такое са мною творыцца. Я не ведаю, ці стаю я на галаве, ці на нагах, а можа сплю і бачу ўсё гэта ў сне. Але будзь што будзе, а я пайду з імі, бо за імі сіла, а ты, мой гаспадар, беражы сваё жыццё і, калі зможаш, знімі маё цела з гарадскога муру, калі яны павесяць мяне дагары нагамі, і не дазволь мяне кінуць у рэчку. Калі я загіну ад рук гэтых воінаў, зберагаючы гонар Егіпта, дык паводле ўсіх напісаных запаветаў я маю права трапіць у Краіну Захаду, нават калі маё цела знікне. Але будзе лепш, калі ты, каб унікнуць выпадковасцяў, зберажэш маё цела і забальзамуеш яго, бо ты валодаеш гэтым майстэрствам.

Воіны, пачуўшы такое, аж пакаціліся са смеху і пачалі лупцаваць адзін аднаго па спінах, каб не задыхнуцца ад рогату. Яны казалі:

— Мардук бачыць, што лепшага цара мы не змаглі б знайсці ніколі, бо яго язык на дзіва не заплятаецца ад такіх прамоваў.

Але віднела ўсё больш, і воіны, прыспешваючы Каптаха, пачалі дубасіць яго па хрыбту тронкамі дзідаў і павялі з сабою. А я паспешліва апрануўся і таксама пайшоў следам. Ля царскага палаца мяне ніхто не спыніў: усе двары, праходы і пярэднія пакоі тут ужо былі поўныя ашалелага крыклівага люду. Я быў упэўнены, што ў Вавілоне пачаўся бунт і хутка па канавах уздоўж вуліц пацячэ кроў. Спадзяванне было толькі на тое, што ў горад своечасова паспеюць увайсці войскі, якія месціліся вакол горада.

Аднак, калі я следам за воінамі трапіў у вялікую тронную залу, то ўбачыў, што цар Бурабурыяш сядзіць на сваім залатым троне з ільвінымі лапамі, у сваёй царскай вопратцы і трымае ў руках знакі царскай улады. Абапал стаялі вышэйшыя жрацы Мардука, царскія дарадцы і знатныя людзі. Але воіны не зважалі на іх, яны шчыльным колам атачылі Каптаха і пачалі дзідамі пракладаць яму дарогу да трона, дзе нарэшце спыніліся, чагосьці чакаючы. І тут у зале запанавала мёртвая цішыня, ніхто не прамаўляў ні слова, і толькі пачуліся Каптахавы словы:

— Выведзіце гэтага праклятага звера, ато я адмоўлюся ад вашай гульні і пачну ўсё рабіць па-свойму.

У гэты самы момант праз усходнія вокны залу заліло сонечнае святло, і ўсе прысутныя — жрацы, царскія дарадцы, знаць і воіны — дружна закрычалі:



— Так, так! Ён кажа праўду, забярыце гэтага звера, нам надакучыў гэтае безбародае дзіцё на троне! А вось гэты чалавек мудры, і хай ён будзе нашым царом і ўладарыць над намі!

Я не паверыў сваім вачам, калі ўбачыў, як усе яны, штурхаючыся і смеючыся, з лаянкай накінуліся на маладога цара, вырвалі ў яго з рук знакі царскай улады, сарвалі царскія строі, і праз нейкую хвіліну Бурабурыяш стаяў такі ж голы, як я ў гасцёўні, калі воіны паднялі мяне з ложка. А людзі тузалі яго за рукі, шчыкалі яго голыя клубы і смяяліся:

— Адразу відаць, што ён толькі нядаўна перастаў ссаць матчына малако: яно ў яго яшчэ на вуснах не высахла! Настаў час парадаваць жанчын у палацы! Мы спадзяемся, ужо гэты стары егіпецкі прайдзісвет Каптах добра ведае, як ездзіць у жаночым сядле!

Бурабурыяш не пярэчыў і не супраціўляўся, а яго леў, напалоханы такім шумам, разгублена падціснуў хвост і праз ногі натоўпу ціхенька адпоўз у бок.

Гледзячы на ўсё гэта, я ўжо не разумеў, ці стаю дагары нагамі, ці можа мне ўсё гэта сніцца: яны кінуліся да Каптаха, апранулі яго ў царскую вопратку, прымусілі ўзяць у рукі знакі царскай улады, гвалтам пасадзілі на царскі трон і кінуліся перад ім ніцма, вуснамі выціраючы пыл перад яго нагамі.

І першым да яго падпоўз голы і радасны Бурабурыяш . Ён весела закрычаў:

— Гэта правільна! Хай ён будзе нашым царом, бо лепшага ўладара мы ніколі не знойдзем!

Усе ўсталі з падлогі і, валячыся ад смеху, абвясцілі Каптаха царом.

А той глядзеў на іх, вылупіўшы вочы, і яго валасы пад царскай каронай, якую паспешліва насунулі яму на галаву, усталі дыбарам. Нарэшце ён раззлаваўся і закрычаў так моцна, што ўсе змоўклі і пачалі слухаць яго. Каптах крычаў:

— Гэта нейкі дурны сон, які наслаў на мяне нячысцік! Здарыцца ж такое! Я не маю ніякага жадання быць вашым царом, ужо лепш быць царом павіянаў ці свіней! Але калі вы так ужо хочаце, каб я стаў вам царом, дык, вядома, я тут зрабіць не магу нічога: я адзін супраць вас усіх. Але тады прысяніцеся, што я сапраўды ваш цар!

Тут усе наперабой загалёкалі:

— Ты наш адзіны цар і ўладар чатырох бакоў свету! Ці ж ты гэтага сам не разумееш, ёлупень!

Яны зноў пачалі кланяцца, а адзін накінуў на сябе ільвіную шкуру і лёг каля ног новага ўладара, смешна рыкаючы і пацягваючыся. Каптах крыху падумаў і сказаў:

— Калі я і сапраўды ваш цар, дык з такой нагоды трэба выпіць. Гэй, слугі! Прынясіце нам віна, калі яно тут ёсць, ды хутчэй, ато вашы спіны

пазнаёмяцца з маім кійком, і я загадаю павешаць вас на гарадскіх мурах! Прынясіце шмат віна, бо гэтыя паны і мае сябры, якія зрабілі мяне царом, будуць піць разам са мною, а сам я намерваюся сёння залезці ў віно па самае горла.

Гэтыя словы выклікалі вялікае захапленне, натоўп радасна зароў і пацягнуў Каптаха ў вялікую залу, дзе на стале было шмат розных смачных страваў і вінаў. Кожны браў, што хацеў, а Бурабурыяш надзеў фартух слугі і, як дурны паслугач, круціўся ва ўсіх пад нагамі, выпускаючы з рук чашы з віном, абліваючы дарагую вопратку гасцей усякімі соўсамі і падліўкамі, так што людзі лаяліся і кідалі ў яго агрызкамі і касцямі.

Ва ўсіх унутраных дварах палаца народ таксама частавалі віном і ежай, якая была падрыхтаваная загадзя, цэлыя тушы бараноў і быкоў смажылі і рэзалі на кавалкі, чэрпалі піва і віно з вялікіх гліняных ночваў, і ўсе прагна набівалі вантробы кашай з вяршкамі і фінікамі. І калі сонца ўзнялося вышэй, на дварах палаца стаяў такі гвалт, крык, смех і шум, што я нават не мог уявіць, каб такое магло тварыцца на свеце.

Адразу, як толькі падвярнуўся выпадак, я наблізіўся да Каптаха і ціхенька прашаптаў, каб не пачуў ніхто іншы:

— Каптах, хадзі са мною, мы схаваемся і ўцячэм, бо ўсё гэта дабром не скончыцца.

Але Каптах ужо ап'янеў ад выпітага ў нямеранай колькасці віна, жывот у яго раздзьмуўся ад смачнай ежы, і ён пагардліва адказаў мне:

— Твае словы падобны да зыкання мухі ў маіх вушах, бо я ніколі не чуў нічога дурнейшага. Няўжо я павінен кудысь уцякаць — цяпер, калі гэты добры народ зрабіў мяне сваім царом і ўсе схіляюцца перада мною? Усё гэта зрабіў мой скарабей, і я добра ведаю, што дзякуючы яму, гэтыя людзі змаглі правільна ацаніць усе мае вартасці. І не думай болей называць мяне Каптахам, быццам я твой раб ці слуга, ты не павінен гаварыць са мною так непачціва, ты павінен схіляцца перад царом, як робяць усе астатнія.

Але я не пераставаў угаворваць яго, кажучы:

— Каптах, за гэтую забаву ты можаш заплаціць вельмі дорага. Бяжы адгэтуль, пакуль не позна, а я дарую табе тваю грубасць.

Але Каптах выцер запэцканы тлушчам твар, замахнуўся на мяне аслінай косцю і закрычаў:

— Выкіньце вон гэтага паганага егіпцяніна, пакуль я не раззлаваўся і не пачаставаў яго сваім кійком!

І тут чалавек у львінай скуры кінуўся на мяне, укусіў за нагу, паваліў на падлогу і пачаў пазногцямі драпаць мне твар. Гэта магло дрэнна скончыцца, калі б у гэтую хвіліну не затрубілі трубы і не абвясцілі, што цару трэба ісці чыніць суд, — і я быў адразу забыты.



Каптах крыху збянтэжыўся, калі яго павялі ў дом правасуддзя, і сказаў, што цалкам давярае законнікам гэтай краіны, лічачы іх людзьмі чэснымі і непадкупнымі. Але народ запярэчыў бурнымі крыкамі:

— Нам хочацца пабачыць мудрасць нашага цара і ўпэўніцца, што ён сапраўдны цар і ведае законы!

Так Каптах апынуўся ў крэсле суддзі, перад ім паставілі знакі судзейскай улады — бізун і ланцугі, — а народу абвясцілі, што ўсе, хто жадае, могуць звярнуцца непасрэдна да цара са сваімі справамі.

Першы ў ногі да Каптаха кінуўся чалавек, які разадраў на сабе вопратку і пасыпаў галаву попелам. Ён тварам выціраў пыл з ног Каптаха, плакаў і крычаў:

— Няма нікога мудрэйшага за нашага цара і ўладара чатырох бакоў свету, і я звяртаюся да яго мудрасці і справядлівасці ў маёй справе! Чатыры гады таму я ажаніўся, але ў нас не было дзяцей, а тут раптам мая жонка зацяжарала. А ўчора я даведаўся, што мая жонка падманвала мяне з адным воінам, я заспеў іх разам, але воін быў вялікі і дужы і я нічога не мог яму зрабіць, а цяпер мая печань поўніцца сумневам і смуткам, бо я не ведаю: тое, што народзіцца, будзе маім дзіцём ці гэта будзе зачаты воінам вырадак? Таму я прашу царскага суду, каб дакладна ведаць чыё гэта будзе дзіцё і каб паводзіць сябе адпаведным чынам!

Каптах памаўчаў, устрывожана азірнуўся, а потым рашуча сказаў:

— Прынясіце дубцы і адсцябайце гэтага чалавека так, каб ён усё жыццё памятаў гэты дзень.

Слугі з дому правасуддзя схапілі таго чалавека і так адлупцавалі яго, што той зароў і пачаў прасіць заступы ў народа:

— Хіба ж гэта справядліва!

Народ пачаў абурана прасіць тлумачэнняў. Тады Каптах сказаў:

— Гэты чалавек заслугоўвае добрай лазы ўжо толькі за тое, што лезе да мяне з такою лухтой, але яшчэ болей — за сваю дурасць, бо нечуваная справа, каб чалавек, які не засеяў сваё поле, прыходзіў скардзіцца, што нехта зрабіў гэта за яго і пакінуў яму ўвесь ураджай. Гэта не жонка вінаватая, што звярнулася да другога мужчыны, а гэты ёлуп, які не здагадаўся даць ёй таго, чаго яна хацела! Таму ён і заслужыў лупцоўку.

Пачуўшы такое тлумачэнне, народ радасна засмяяўся і гучна закрычаў, услаўляючы царскую мудрасць. Тым часам перад царом з'явіўся сур'ёзны стары чалавек і сказаў:

— Перад гэтым каменем, на якім выбітыя нашы законы, перад тварам цара, я патрабую справядлівасці ў сваёй справе. Я пабудаваў дом, але будаўнік падмануў мяне і дом абваліўся, прычым чалавек, які праходзіў міма, загінуў пад гэтым абвалам. Цяпер родзічы нябожчыка абвінавачваюць мяне і патрабуюць віру. Што мне рабіць у гэтым выпадку?

Каптах падумаў і адказаў:

— Гэта складаная справа і патрабуе падрабязнага расследавання, і на маю думку, гэта болей справа багоў, чым людзей. Але што кажа пра гэта закон?

Тут выйшлі наперад вучоныя законнікі, прачыталі адпаведны пункт закона і патлумачылі:

— Калі праз нядбайнасць майстра дом рушыцца і забівае ўладальніка, майстра трэба забіць. Калі гіне сын уладальніка, трэба забіць сына будаўніка. Болей закон не гаворыць нічога, але мы лічым так: калі дом, разваліўшыся, што-небудзь знішчае з маёмасці гаспадара, дык трэба знішчыць адпаведную частку маёмасці будаўніка. Нічога іншага мы сказаць не можам.

Каптах сказаў:

— Вось не ведаў я, што тут такія несумленныя будаўнікі, і цяпер буду вельмі асцярожны ў дачыненнях з імі. А паводле закона гэтая справа вельмі простая: няхай родзічы забітага чалавека пойдуць да дома майстра, падпільнуюць там першага прахожага і заб'юць яго. Так будзе выкананы закон. Аднак, хай яны самі разлічваюцца, калі родзічы забітага запатрабуюць расплаты за гэтую смерць. Гэта напраўду справа болей багоў, чым людзей. А болей за ўсіх тут вінаваты прахожы, які ходзіць ля дома, што развальваецца на вачах. Так не можа зрабіць ніводзін разумны чалавек, калі багі таго не пажадаюць. Таму я вызваляю майстра-будаўніка ад адказнасці, а чалавек, які прыйшоў да мяне патрабаваць правасуддзя, проста дурань, бо не прасачыў, каб майстар працаваў сумленна і якасна, а майстра, які абкруціў яго, зрабіў правільна, бо дурняў і трэба падманваць, каб яны вучыліся набірацца досведу. Так было і павінна быць.

Народ зноў стаў услаўляць царскую мудрасць, а прысаромлены скаржнік пайшоў прэч. Потым да цара падышоў тоўсты гандляр у дарагой вопратцы і расказаў:

— Тры дні таму я пайшоў да Брамы Іштар, дзе ўначы на вясенняе свята збіраюцца бедныя дзяўчаты, каб паводле звычаю прынесці сваю нявіннасць у ахвяру багіні і сабраць срэбра на пасаг. Адна з гэтых дзяўчат вельмі мне спадабалася, і я, крыху патаргаваўшыся, даў ёй цэлую груду срэбра. Мы зладзіліся і, калі сабраліся прыступіць да справы, у мяне раптам схапіў жывот. Я мусіў пабегчы на нейкі час у кусты, а калі вярнуўся, то ўбачыў, што мая дзяўчына ўжо згаварылася з іншым, атрымала ад яго шмат срэбра і стварыла з ім тое, дзеля чаго і прыходзіла да Брамы багіні. Яна, праўда, прапанавала і мне пацешыцца з ёю, але я адмовіўся, бо яна ўжо не была нявіннай дзяўчынай. Я запатрабаваў сваё срэбра назад, але яна не аддала яго. Таму я шукаю справядлівасці ў цара, бо дзяўчына падманула мяне: я страціў сваё срэбра і нічога не атрымаў узамен. Калі я, напрыклад, купляю гаршчок, ён належыць мне, і толькі я маю права яго разбіць, а ганчар, які мне яго прадаў, разбіць пасудзіну і прапанаваць мне чарапкі не мае права.



Пачуўшы тое, Каптах ускочыў з нагамі на крэсла, замахаў бізуном і закрычаў:

— Сапраўды, нідзе я не сутыкаўся з такой дурасцю, як у гэтым горадзе! Смяецца з мяне гэты стары казёл, ці што!? Тая дзяўчына зрабіла вельмі правільна, што аддалася другому, калі гэты ёлуп не змог узяць таго, па што прыйшоў. Апроч таго, дзяўчына зрабіла высакародны і дабрадзейны ўчынак, калі прапанавала гэтаму дурню адпрацаваць выдаткі, чаго ён ніякім чынам не быў варты. Ён павінен быць удзячны дзяўчыне і другому чалавеку за тое, што яны аблегчылі яму працу, калі знішчылі тую дзявочую перашкоду, ад якой толькі непрыемнасці і смутак. А ён заявіўся да мяне са сваімі дурнымі скаргамі, ды яшчэ чаўпе пра нейкія гаршчкі. Калі ён лічыць маладых дзяўчат гаршчкамі, дык я прысуджаю яго з сённяшняга дня весяліцца толькі з гэтымі ганчарнымі вырабамі, а не з маладымі дзеўкамі.

Абвясціўшы гэты прысуд, Каптах адчуў, што яму надакучыла тварыць суд і расправу, а таму ён пацягнуўся ў крэсле і сказаў:

— Я сёння напіўся і наеўся, і, на маю думку, напрацаваўся, пакуль чыніў суд ды натамляў сваю галаву. Калі будуць яшчэ якія скаргі, хай законнікі самі робяць сваю справу, бо апошняя справа мне нагадала, што я цар і ў маі палацы ёсць жаночыя пакоі, дзе мяне чакаюць чатырыста жонак. Мне трэба пайсці праверыць сваю ўласнасць, і не будзе вялікага дзіва, калі я разаб'ю пару новюткіх гаршчэчкаў, бо ад віна і ўлады я адчуў сябе на здзіў магутным і дужым, як сапраўдны леў.

Пачуўшы гэта, натоўп гучна зароў, і здавалася, што гэты крык не спыніцца ніколі. Потым усе павялі Каптаха ў палац і засталіся чакаць ля дзвярэй жаночых пакояў. Але Бурабурыяш ужо не смяяўся. Убачыўшы мяне, ён падбег і сказаў:

— Сінухе, ты мой сябар, і як лекар можаш пайсці туды з ім разам. Ідзі і прасачы, каб ён не нарабіў нічога, пра што яму потым давядзецца моцна пашкадаваць, бо, калі толькі ён асмеліцца дакрануцца да маіх жонак, я жыўцом здзяру з яго скуру і павешу яе сушыцца на гарадскім муры, а калі ён будзе паводзіць сябе прыстойна, я абяцаю яму лёгкую смерць.

Я спытаў у яго:

— Бурабурыяш , я сапраўды твой добры сябар і хачу табе толькі добрага, але скажы, што азначае ўся гэтая гульня, бо мая печань пакутуе, калі я бачу, як цябе ператварылі ў служку ўсім на пасмех.

Ён раздражнёна сказаў:

— Дык гэта ж усім вядома — сёння дзень фальшывага цара. Паспяшайся за ім, каб не здарылася бяды.

Але я не паслухаўся, хоць ён штомоц тузаў мяне за рукаў. Я сказаў:

— Звычаяў тваёй краіны я не ведаю, і ты павінен растлумачыць мне, што ўсё гэта значыць.

Тады ён патлумачыў:

— У Вавілоне штогод на дзень фальшывага цара выбіраецца самы дурны і смешны чалавек, які цэлы дзень, з усходу за захаду сонца, можа ўладарыць, як сапраўдны цар, а сапраўдны цар павінен яму служыць. Я ніколі не бачыў смяшнейшага цара, чым Каптах, якога сам я і выбраў. Але самае смешнае, што ён не ведае, што яго чакае.

— А што яго чакае? — спытаў я.

— Калі сонца закоціцца, яго заб'юць гэтак жа нечакана, як нечакана каранавалі на досвітку,— сказаў Бурабурыяш .— Па маім загадзе ён можа памерці жудаснай смерцю, але звычайна яму даюць у віне атруту, так што ён проста засынае, не ведаючы, што болей ужо не прачнецца,— бо нельга ж пакінуць жывым чалавека, які цэлы дзень кіраваў, як сапраўдны цар. Некалі вельмі даўно здарылася так, што сапраўдны цар сербануў гарачага булёну і памёр, таму што варыва пайшло не ў тое горла, а краінай пачаў кіраваць той самы фальшывы цар, і кіраваў трыццаць шэсць гадоў, прычым ніхто не скардзіўся на ягонае кіраванне. Таму мне трэба асцерагацца, каб сёння не выпіць гарачага булёну. Дык ідзі хутчэй, каб твой слуга не нарабіў там глупстваў, аб чым ён вельмі пашкадуе ўвечары.

Але мне не давялося пайсці за Каптахам, бо сам Каптах выскачыў з царскіх жаночых пакояў вельмі разгневаны, праціраючы сваё адзінае вока рукою, а з носу ў яго ішла кроў. Ён вохкаў і крычаў:

— Паглядзіце, што яны нарабілі са мной! Яны прапанавалі мне старых і тоўстых негрыцянак, а калі я захацеў паспытаць маладую цялушку, дык яна ператварылася ў шалёную тыгрыцу, выбіла мне адзінае вока і стукнула сандаляй па носе!

Тут Бурабурыяш зарагатаў так, што яму, каб не ўпасці, давялося ўчапіцца за мяне абедзвюма рукамі. А Каптах працягваў стагнаць і скардзіцца:

— Я болей не адважуся адчыніць дзверы гэтага дома, бо за імі маладзіца шалее, як дзікі звер. Я лічу, што ты, Сінухе, павінен пайсці туды і зрабіць ёй у чэрапе дзюрку, каб злы дух пакінуў яе, бо яна, безумоўна, апантаная нячыстым духам, іначай не асмелілася б напасці на свайго цара і стукнуць па носе так, што з мяне кроў цурчыць, як з параненага быка.

Бурабурыяш падштурхнуў мяне і сказаў:

— Сінухе, схадзі і паглядзі, што там дзеецца, ты ж ведаеш, што я сёння не магу туды зайсці, а потым ты раскажаш мне, што там. Праўда, я здагадваюся, пра каго гаворка: учора туды прывезлі дзяўчыну з марской выспы, і я чакаю ад яе шмат радасці і асалоды, але спачатку яе трэба ўтаймаваць з дапамогай макавага напою.



Ён так доўга чапляўся і ўпрошваў мяне, што я мусіў, нарэшце, пайсці ў жаночыя пакоі, дзе панаваў пярэпалах, і скапцы не прагналі мяне, бо ведалі, што я лекар. Старыя, пышна апранутыя і абвешаныя аздобамі бабы, якія адмыслова дзеля сённяшняга дня зафарбавалі свае зморшчыны, абступілі мяне і пачалі хорам пытацца:

— Куды ж ён уцёк, наша золатка, наша салодкая ягадка, наша пяшчотнае казлянятка, якога мы чакалі з самага рання?

Тоўстая негрыцянка, чые грудзі звісалі да самага пояса, ужо распранулася, каб першай прыняць Каптаха ў свае абдымкі, і жаласна крычала:

— Аддайце мне майго каханка, каб я магла абняць яго! Аддайце мне майго любага слоніка, каб ён паказытаў мяне сваім хобатам!

Але занепакоеныя скапцы павялі мяне далей, кажучы:

— Не звяртай увагі на гэтых баб, ім загадалі пацешыць фальшывага цара, і яны ўсе напіліся, яго чакаючы. А нам сапраўды тут патрэбен лекар, бо дзяўчына. якую прывезлі ўчора, зусім звар'яцела. Яна дужэйшая за нас, балюча б'ецца нагамі, а цяпер недзе здабыла нож, і мы не ведаем, чым гэта скончыцца.

Яны павялі мяне ў двор, які пераліваўся пад сонцам стракатымі фарбамі, бо яго пакрывалі рознакаляровыя каменныя пліты. Пасярод двара быў круглы вадаём, дзе стаялі статуі розных жывёл, з пашчаў якіх білі струмені вады. На адным такім страшыдле сядзела здурнелая жанчына, сукенка на ёй прамокла і вісела лахманамі, бо скапцы стараліся яе ўтрымаць, ды толькі падралі вопратку.

Каб не ўпасці, яна адной рукой трымалася за разяўленую пашчу марскога звера, а ў другой яна трымала бліскучы нож. Вада шумела, скапцы вакол моцна крычалі, і я не мог разабраць ні слова з таго, што казала дзяўчына. Яна была вельмі прыгожая, хоць яе сукенка ператварылася ў лахманы і валасы змоклі. Я крыху збянтэжыўся і загадаў скапцам:

— Пайшлі прэч, мне трэба пагаварыць і супакоіць яе, і спыніце ваду, бо я нічога не чую, а яна нешта ўвесь час крычыць.

Яны спалохана папярэдзілі мяне:

— Не падыходзь да яе і блізка, бо нож вельмі востры, мы, на сваю бяду, ужо змаглі ўпэўніцца ў тым.

Яны перакрылі ваду, марскія страшыдлы перасталі яе выплёўваць, і толькі ручайкі сцякалі па целу дзяўчыны. Цяпер мне ўдалося яе добра разгледзець. Яна была зграбная і прыгожая, хоць тады мне доўга думаць пра гэта не выпадала. Калі сціх шум вады, я зразумеў, што яна не крычала, а спявала нейкую песню на невядомай мне мове. Яна спявала яе, закінуўшы галаву, яе зялёныя вочы гарэлі, як у дзікай кошкі, а шчокі пунсавелі ад хвалявання, і я злосна ёй крыкнуў:

— Змоўкні і не скуголь, як кошка. Выкінь свой нож і падыдзі да мяне, каб я мог цябе вылечыць, бо ты, яўна, ужо звар'яцела.

Яна перастала спяваць і адказала мне па-вавілонску, але гаварыла на гэтай мове яшчэ горш за мяне:

— Скачы ў ваду, павіян, і плыві да мяне, каб я магла напаіць свой нож крывёю з тваёй пячонкі, бо я вельмі раззлаваная!

Я крыкнуў ёй:

— Я не жадаю табе нічога дрэннага!

Яна пракрычала ў адказ:

— Так казалі ўсе мужчыны, якія хацелі зрабіць мне зло, а я не магу савакупіцца з мужчынам, нават калі б і хацела гэтага, бо я прысвечаная богу і танчыла дзеля яго. Таму ў мяне гэты нож, і я лепш напаю яго сваёй крывёю, чым дазволю мужчыне авалодаць маім целам, і менш за ўсё — таму аднавокаму нягодніку, які палез да мяне, хоць сам больш падобны да раздзьмутага скуранога мяшка, чым да мужчыны.

— Дык гэта ты пабіла цара?

Яна адказала:

— Я стукнула яго кулаком у вока і сапсавала сандалю, разбіўшы яму нос так, што кроў, на маю радасць, пацякла з яго ручаём. Цар ён ці не цар — мне ўсё адно, бо ніхто не смее да мяне дакрануцца, калі я сама не захачу гэтага, але мне наканавана служыць сваімі танцамі богу і мне забаронена дакранацца да любога мужчыны.

— Скачы колькі хочаш, дурная дзяўчынка,— сказаў я.— Мяне гэта не тычыцца, але нож трэба выкінуць, бо будзе крыўдна, калі ты паранішся: скапцы кажуць, цар заплаціў за цябе цэлую кучу золата.

Яна адказала:

— Ніякая я не рабыня, і ты мог сам здагадацца, калі маеш вочы! Мяне выкралі падманам. Ты можаш гаварыць на якой-небудзь прыстойнай мове, якую тут не разумеюць? Бо я заўважаю, што скапцы падслухоўваюць нас з-за калонаў.

— Я егіпцянін,— адказаў я на сваёй роднай мове,— мяне завуць Сінухе-Самотнік і Сын дзікага асла. Я лекар, і табе няма чаго баяцца.

Тады яна кінулася ў ваду і падплыла да мяне, але нажа з рук не выпусціла. Яна кінулася перада мною на зямлю і сказала:

— Я ведаю, што егіпецкія мужчыны слабыя і не прычыняюць зла жанчыне, калі яна сама таго не захоча. Таму я давяраю табе і прашу прабачэння за тое, што не аддам табе свой нож, бо, напэўна, ужо сёння мне давядзецца парэзаць сабе вены, каб яны не зганьбілі майго бога. Але калі ты баішся багоў і хочаш мне дабра — выратуй мяне і звязі з гэтай краіны, хоць я і не здолею ўзнагародзіць цябе так, як ты заслужыў бы, бо сапраўды не магу савакупіцца з мужчынам.

— Я не маю ніякага жадання савакупляцца з табою,— адказаў я.— У гэтых адносінах ты можаш не хвалявацца. Але ты сапраўды вар'ятка, калі хочаш уцячы адсюль, дзе можна смачна есці і піць, насіць прыгожыя строі і каштоўнасці і мець усё, што пажадаеш.

— Мужчына гаворыць пра ежу і піццё, адзенне і каштоўнасці, таму што не ведае нічога лепшага,— і яна злосна паглядзела на мяне сваімі зялёнымі вачыма,— а жанчына можа сумаваць і аб тым, што мужчыне невядома. Але чаму ты не хочаш злучыцца са мной? Гэта мяне абражае. Я ўжо прызвычаілася да таго, што ўсе вы хочаце пацешыцца са мной, я чытаю гэта па мужчынскіх вачах і дыханню, калі танцую з імі. Асабліва гэта было бачна на рынку, калі мужчыны ашалела глядзелі на мяне і загадвалі сваім скапцам правяраць, ці дзяўчына я. Калі хочаш, мы пагаворым пра гэта іншым разам, але спачатку ты павінен выратаваць мяне і вывезці з Вавілоніі.

Прастадушнасць яе словаў была такая вялікая, што я адразу не знайшоў нават, чым адказаць, пакуль не раззлаваўся:

— Я зусім не збіраюся дапамагаць табе ўцячы, бо ў адносінах да цара, майго сябра, які заплаціў за цябе кучу золата, гэта было б здрадай. Магу табе таксама сказаць, што той тоўсты мяшок быў фальшывым царом і будзе кіраваць усяго толькі сённяшні дзень, а заўтра да цябе прыйдзе сапраўдны цар. Гэта яшчэ безбароды юнак прыемнага выгляду, і ён чакае, утаймаваўшы цябе, атрымаць потым шмат радасці. Я не думаю, што ўлада твайго бога распасціраецца аж да гэтых земляў, а таму ты нічога не страціш, калі падпарадкуешся непазбежнасці, і будзе лепей, калі ты выкінеш нож, апранешся і прывядзеш сябе дзеля маладога цара ў парадак, бо цяпер са сваімі мокрымі пасмамі ды размазанымі да вушэй фарбамі ты маеш сапраўды страшны выгляд.

Мае словы падзейнічалі на яе, яна паправіла валасы, пасмактала палец, каб сцерці фарбы з вуснаў і з вачэй. Твар яе стаў прыгожы і пяшчотны, яна паглядзела на мяне і сарамліва сказала:

— Мяне завуць Мінея, і калі мы ўцячэм з гэтай жахлівай краіны, ты зможаш называць мяне гэтым імем.

Ад такой даверлівасці я крыху ачмурэў і, каб ачухацца, ускінуў рукі да неба і пайшоў прэч, але яе твар так выразна ўсё яшчэ стаяў перад маімі вачыма, што я вярнуўся назад і сказаў:

— Мінея, я пайду да цара пагутарыць пра цябе, нічога іншага я зрабіць для цябе не магу, а ты за гэты час апраніся і супакойся. Калі хочаш, я дам табе лекаў, якія цябе супакояць і табе стане ўсё адно, што з табою здарыцца потым.

— Ну, паспрабуй, калі не спалохаешся,— адказала яна.— Аднак, калі ты возьмешся дапамагчы мне, я аддам табе свой нож, які да гэтага часу ахоўваў мяне, і я ведаю, што атрымаўшы гэты нож, ты будзеш мяне аберагаць, вывезеш з гэтай краіны і ўцячэш разам са мною.

Яна ўсміхнулася і паклала нож мне на далонь, хоць я ўсклікнуў:

— Мне не патрэбен твой нож, звар'яцелая дзеўка!

Але яна не забрала яго назад, хоць я і стараўся адвесці руку. Яна глядзела на мяне, усміхаючыся, пакуль я не рушыў прэч у вялікай разгубленасці.

Калі я вярнуўся з жаночай паловы, Бурабурыяш сустрэў мяне поўны цікавасці і спытаў, што здарылася.

— Твае скапцы зрабілі дрэнную пакупку,— адказаў я яму.— Мінея, гэтая дзяўчына, якую табе купілі, поўная вар'ятка і не хоча злучацца з мужчынам, бо яе бог забараніў ёй гэта. Таму будзе лепш пакінуць яе ў спакоі, пакуль у яе не зменіцца настрой.

Але Бурабурыяш хітра засмяяўся:

— А я сапраўды атрымаю ад яе шмат радасці і асалоды, бо добра ведаю такіх дзяўчат. Лепш за ўсё іх утаймоўваць палкай. Я яшчэ малады, у мяне нават не вырасла барада, і таму я часта стамляюся ад уцех з жанчынамі, мне куды цікавей слухаць іхні лямант і енк, глядзячы, як скапцы лупцуюць іх бізунамі. Таму гэтая неўтаймавальная дзяўчына мне яшчэ больш даспадобы: я магу загадаць скапцам лупцаваць яе пры мне і клянуся, што ўжо заўтра скура на яе спіне ўспухне так, што ляжаць яна болей не зможа. І гэта радуе мяне і больш за ўсё.

І ён пайшоў прэч, паціраючы рукі і хіхікаючы, бы малое дзяўчо. Гледзячы яму ўслед, я зразумеў, што ён больш мне не сябар, і я ўжо не хацеў яму дабра, а нож Мінеі ўсё яшчэ заставаўся ў маёй руцэ.

**6**

Пасля гэтага я ўжо не мог больш ні радавацца, ні весяліцца, хоць і палац, і яго двары былі поўныя народу, і ўсе пілі піва і віно ды шалелі, нібыта здзічэўшы ад розных забаваў, якія нястомна прыдумваў Каптах, забыўшыся на свае сумныя прыгоды ў жаночых пакоях. Сіняк у яго пад вокам пераліваўся рознымі колерамі, але не вельмі балеў, бо да яго прыкладвалі прымочкі з сырога мяса. Што мучыла мяне, я сказаць не мог, бо і сам таго добра не ведаў.

Я думаў, што мне яшчэ шмат чаму трэба было б навучыцца ў Вавілоне, бо маё навучанне на авечай печані было не скончанае і я не ўмеў яшчэ ліць алей у ваду так, як гэта рабілі вавілонскія жрацы. Дый Бурабурыяш быў нямала мне вінаваты за выздараўленне і сяброўства, і я ведаў, што, калі б я застаўся яму сябрам, ён шчодра адарыў бы мяне перад ад'ездам. Але чым больш я думаў, тым больш мяне турбаваў прастадушны Мінеін твар і тым больш непакоіў лёс Каптаха, якому ўвечары было наканавана памерці ад дурной прыхамаці цара, бо той вырашыў назначыць яго фальшывым царом, хоць добра ведаў, што Каптах мой слуга.



Думаючы так, я ўсё мацней раз'юшваў сваё сэрца. Я лічыў, што Бурабурыяш проста мне здрадзіў, і я зраблю слушна, калі здраджу яму таксама. Праўда, сэрца падказвала мне, што такім учынкам я апаганю ўсе законы сяброўства. Але ж я быў самотны чужынец, і ніякія законы мяне не звязвалі! Таму надвячоркам я пайшоў на бераг ракі і наняў човен з дзесяткам весляроў і сказаў ім:

— Сёння дзень фальшывага цара, і я ведаю, што вы сп'янелі ад піва ды ўцехаў і будзеце веславаць без натхнення. Але я заплачу ўдвая, бо памёр мой багаты дзядзька і я мушу як мага хутчэй прывезці яго на магілкі продкаў. Зрабіць гэта трэба раней, чым мае браты пачнуць звадкі з-за спадчыны і пакінуць мяне жабраком. Плысці далёка, але вы атрымаеце багатыя падарункі, калі мы своечасова дабярэмся да месца. Мае продкі пахаваныя паблізу свайго былога маёнтка, непадалёк ад межаў Мітанні.

Весляры пачалі злосна бурчаць, але я купіў ім два гарлачы піва і сказаў, што яны могуць піць яго да заходу сонца, абы змаглі б адправіцца адразу, як сцямнее. Яны горача запярэчылі:

— Мы нізавошта не паплывём у цемры, бо ўначы паўсюль поўна вялікіх і малых злых духаў, якія крычаць страшнымі галасамі. Яны могуць перакуліць човен і ўтапіць нас.

Я адказаў на гэта:

— Я зараз пайду ў храм і прынясу ахвяры, каб з намі ў дарозе не здарылася нічога дрэннага, а звон срэбра, якое вы атрымаеце, так шчыльна заткне вам вушы, што вы не пачуеце нават не тое што крыку, а і шэпту злых духаў.

Я пайшоў у Вежу і паклаў на ахвярнік авечку. У храме амаль нікога не было, бо ўвесь люд сабраўся каля царскага палаца. Я разглядваў авечую печань, але мае думкі так блыталіся, што нічога значнага я на печані не згледзеў. Я звярнуў толькі ўвагу, што печань была цямнейшая, чым звычайна, і ў дадатак ад яе брыдка пахла. Гэта ўсяліла ў мяне дрэнныя прадчуванні. Але нягледзячы на гэта я сабраў у скураны мяшок авечую кроў і панёс яго ў палац. Каля дзвярэй у жаночыя пакоі над маёй галавой праляцела птушка далёкай радзімы — ластаўка, і я вырашаў, што яна была вястунняй удачы. Гэта дадало мне адвагі.

Я ўвайшоў у жаночыя пакоі і сказаў скапцам:

— Пакіньце мяне сам-насам з гэтай шалёнай жанчынай, каб я мог выгнаць з яе злога духа.

Яны паслухаліся мяне і адвялі ў невялічкі пакой. Там я растлумачыў Мінеі, што яна павінна зрабіць, і пакінуў ёй нож, а таксама мяшок з крывёю. Яна абяцала выканаць мае ўказанні, пасля чаго я пайшоў прэч, зачыніў за сабою дзверы і сказаў скапцам, каб яны не перашкаджалі ёй, бо я даў ёй лекі, якія выганяць з яе злога духа, а гэты злы дух можа

выпадкова ўсяліцца ў першага, хто адчыніць дзверы без майго дазволу. Яны адразу паверылі мне.

Сонца садзілася, і ўсе пакоі палаца залівала крывава-чырвонае святло, Каптах усё еў і піў, а цар Бурабурыяш прыслужваў яму, увесь час смеючыся, як дураслівая дзяўчына. На падлозе ўпокат валяліся простыя і знатныя людзі: напіўшыся віна, яны спалі. Я звярнуўся да Бурабурыяш а:

— Каптах мой слуга, і я хачу ўпэўніцца, што ён памрэ лёгкай смерцю, без пакутаў.

Ён адказаў:

— Тады паспяшайся, бо мой стары лекар ужо гатуе смяротны напой і падлівае ў віно атруту. Твой слуга памрэ адразу пасля заходу сонца, як таго патрабуе наш добры звычай.

Я адшукаў старога, які быў асабістым лекарам Бурабурыяш а, і той паверыў, што мяне паслаў сам цар, ён нешта спяваў, нешта бурчэў сам сабе пад нос, а потым прапанаваў:

— Будзе лепш, калі ты сам уліеш у віно атруту, бо рукі ў мяне дрыжаць ад віна, а вочы слязяцца, і я амаль нічога не бачу. Я сёння ўдосталь насмяяўся з вар'яцкіх штукарстваў твайго дурнога слугі.

Я выліў прыгатаванае ім зелле, узяў вялікі кубак віна і дадаў туды гэтулькі макавага соку, колькі патрэбна для смяротна моцнага сну. Аднёсшы напой Каптаху, я сказаў:

— Каптах, можа, мы з табой ніколі больш не сустрэнемся, бо ты зафанабэрыўся да таго, што заўтра, напэўна, і не пазнаеш мяне. Вазьмі і выпі віно, якое я падношу табе. Выпі і ведай: што б з табою ні адбылося, я жадаю табе толькі дабра. І памятай пра нашага скарабея.

Каптах адказаў:

— Словы гэтага егіпцяніна былі б падобныя да зыкання мухі ў маіх вушах, каб у іх не шумела віно — так, што я амаль нічога не чую. Але ў кубак з віном я ніколі не пляваў, што, дарэчы, даводжу сваім любым падданым увесь сённяшні дзень. Так што я вып'ю і гэтую чашу, хоць добра ведаю, што заўтра маю няшчасную галаву будуць малаціць капытамі сто дзікіх аслоў.

Ён асушыў кубак, і ў гэты момант сонца зайшло, у залу прынеслі паходні і пачалі запальваць свяцільні, усе падняліся, шум сціх і ў зале запанавала мёртвая цішыня. А Каптах сцягнуў з галавы ўбор вавілонскага цара і сказаў:

— Гэта паганая карона цісне мне галаву, яна мне надакучыла. Ногі мае здзервянелі, павекі нібыта наліліся свінцом, і лепей я пайду спаць.

Сказаўшы гэта, ён ухапіўся за абрус і зваліўся на падлогу. Разам з абрусам на яго паляцелі са стала збаны і кубкі з віном, такім чынам ён, як і абяцаў уранні, апынуўся па шыю ў віне.



Але царскія слугі распранулі Каптаха, нацягнулі мокрыя царскія строі на Бурабурыяш а, надзелі яму на галаву карону, далі ў рукі знакі царскай улады і пасадзілі на трон.

— Гэта быў цяжкі дзень,— сказаў Бурабурыяш ,— але я прымеціў тых, хто не аказваў мне належнага гонару пад час гульні, спадзеючыся, што і я захлынуся гарачым булёнам. Падыміце бізунамі ўсіх з падлогі і выганіце іх вон з палаца, а гэтага прыдурка, які мне надакучыў за дзень, пакладзіце ў пахавальны гарлач, калі ён сапраўды памёр.

Каптаха перавярнулі на спіну, і стары лекар, у якога дрыжэлі рукі і слязіліся вочы, пагардліва агледзеў яго і сказаў:

— Так ёсць, гэты чалавек мёртвы, як гнойная муха.

Тут слугі прынеслі вялізны гліняны гарлач, у якіх вавіланяне хавалі сваіх нябожчыкаў, запіхнулі туды Каптаха і заляпілі гарлач глінай. Цар загадаў, як таго вымагаў звычай, аднесці гарлач у сутарэнне, дзе зберагаліся астанкі ўсіх фальшывых цароў, але я запярэчыў:

— Гэты чалавек — егіпцянін. Як і мне, яму зроблена абразанне, і таму я павінен зберагчы яго цела па егіпецкім абрадзе і падрыхтаваць усё патрэбнае для яго пераходу ў Краіну Захаду, каб ён мог пасля смерці спакойна есці, піць і весяліцца. На гэта патрабуецца трыццаць або семдзесят дзён — у залежнасці, наколькі чалавек быў знатны. Каптаху хопіць і трыццаць дзён: ён быў усяго толькі мой слуга. Калі я ўсё закончу, то прывязу яго сюды і пахаваю побач з іншымі фальшывымі царамі ў сутарэнні палаца.

Бурабурыяш з цікавасцю выслухаў мяне і адказаў:

— Хай будзе так, хоць на маю думку, усе твае клопаты дарэмныя, бо нябожчык ляжыць нерухома, і калі родзічы не трымаюць гарлач з яго целам у сваім доме, каб ён мог есці тыя ж харчы, што і яго сям'я, то яго душа блукае паўсюль і, не знаходзячы спакою, есць аб'едкі на вуліцах. Так здараецца з усімі, апроч мяне, якога багі пасля смерці забяруць да сябе, і мне не давядзецца думаць пра кашу ды піва. Але рабі з ім, што хочаш, калі гэта адпавядае звычаям тваёй краіны,— я не хачу спрачацца пра звычаі, пра якія нічога не ведаю, і малю багоў даравацць грахі, якіх я не нарабіў, бо з багамі лепш прадугледзець усё магчымае.

Я загадаў слугам вынесці гарлач з целам Каптаха і пакласці яго ў насілкі, якія чакалі мяне перад варотамі палаца, але раней, чым пайсці, я папярэдзіў цара:

— Ты не ўбачыш мяне трыццаць дзён, бо бальзамуючы цела, я не магу сустракацца з людзьмі, каб не перанесці на іх злых духаў, што лятаюць вакол трупа.

Бурабурыяш засмяяўся і адказаў:

— Хай будзе так. Цяпер, нават калі ты з'явішся раней, я загадаю слугам прагнаць цябе палкамі, каб ты не занёс сюды гэтых духаў!

Я падышоў да насілак і зрабіў некалькі дзірак у свежай гліне, якой быў заткнуты пахавальны гарлач, каб Каптах не задыхнуўся. Потым я вярнуўся ў палац і прайшоў у жаночыя пакоі. Скапцы, убачыўшы мяне, вельмі ўзрадаваліся: яны баяліся, каб не прыйшоў цар. Я адчыніў дзверы ў пакой, дзе ляжала Мінея, адразу адхіснуўся назад і пачаў з крыкам раздзіраць на сабе адзенне:

— Зайдзіце і гляньце, што здарылася,— крычаў я.— Вось яна ляжыць скрываўленая і не дыхае! А побач валяецца нож, і нават валасы ўсе ў крыві!

Скапцы зайшлі ў пакой, убачылі кроў, якой яны вельмі баяліся, і так напалохаліся, што нават не змаглі дакрануцца да дзяўчыны. Яны пачалі плакаць і енчыць, баючыся царскага гневу. А я сказаў ім:

— Мы ўсе трапілі ў дрэнныя абставіны, і вы, і я. А таму хуценька нясіце сюды дыван, у які мы закруцім мёртвае цела, і потым чысценька вымыйце кроў, каб ніхто нават не западозрыў, што адбылося. Цар чакаў шмат радасці ад гэтай дзяўчыны, хоць і не бачыў яе, і яго гнеў будзе страшны, калі ён даведаецца, што мы далі ёй памерці па загадзе ейнага бога. Ідзіце і як мага хутчэй купіце другую дзяўчыну замест гэтай, і добра, каб яна была з далёкіх краёў і не ведала вашай мовы. Апраніце яе і навешайце на яе аздобаў, а калі яна будзе супраціўляцца, дык адлупцуйце палкамі ў прысутнасці цара — ён будзе вельмі задаволены і шчодра вас узнагародзіць.

Скапцы палічылі мудрымі мае словы, і я, не таргуючыся, даў ім палову срэбра, якое, па іх словах, патрабавалася на куплю новай дзяўчыны для цара, хоць добра ведаў, што яны прысвояць гэтае срэбра, а на дзяўчыну возьмуць грошы з царскай скарбніцы, дый тое палову зноў украдуць, бо прымусяць гандляра напісаць на глінянай таблічцы значна большую цану, чым ён атрымае напраўду,— так было заўсёды, і такі ўжо звычай у скапцоў ва ўсім свеце, але я не хацеў пачынаць з імі спрэчкі. Яны прынеслі дыван, у які я загарнуў цела Мінеі, і дапамаглі мне вынесці яго праз цёмны двор да насілак, дзе ўжо ляжаў у пахавальным гарлачы Каптах.

Вось так, у начной цемры, патраціўшы шмат золата і срэбра, я ўцякаў з Вавілона, дзе мог бы разбагацець і спасцігнуць шмат якіх патаемных ведаў. А насільшчыкі незадаволена бурчэлі:

— Што гэта за чалавек такі, што прымушае нас ісці ў начной цемрадзі без паходняў, цягнуць гэты пахавальны гаршчок ды яшчэ й царскія дываны ў дадатак, ад якіх нашыя плечы гнуцца, як карак у вала пад ярмом, а насілкі аж да крыві націраюць нам плечы. Далібог, нашы печані ўжо счарнелі ад страху, што нам даводзіцца цягнуць нябожчыка цёмнай ноччу, і нават з дывана капае кроў. За ўсё гэта ён павінен заплаціць нам багата!



Калі мы дабраліся да берага, я загадаў паставіць пахавальны гарлач у лодку, а дыван перанёс у яе сам і, схаваўшы яго пад стрэшкай, сказаў насільшчыкам:

— Вы, паганыя рабы і сабачыя дзеці! Калі хто спытае — вы гэтай ноччу нічога не чулі і не бачылі! А я за гэта вам кожнаму дам па добрым кавалку срэбра.

Яны заскакалі ад радасці і закрычалі:

— Напраўду, мы паслужылі знатнаму пану, але вушы нашы аглухлі, вочы аслеплі, языкі анямелі, і мы нічога не чулі і не бачылі сённяшняй ноччу!

Яны пайшлі прэч, і я ведаў, што зараз яны нап'юцца, як гэта заведзена ва ўсіх на свеце насільшчыкаў, і адразу разбалбочуць усё, што чулі і бачылі. Але я нічога не мог з гэтым зрабіць: іх было восем дужых мужыкоў, і я, нават калі б вельмі хацеў, не мог іх усіх забіць ды скінуць у раку.

Калі яны пайшлі, я разбудзіў весляроў, і ў святле маладзіка яны, пазяхаючы і праклінаючы горкую долю, бо іх галовы балелі ад выпітага піва, апусцілі вёслы ў ваду, і мы пакінулі горад. Так я ўцёк з Вавілона, але навошта я гэта зрабіў — не магу сказаць, бо і сам не ведаю. Напэўна, так было напісана на зорках задоўга да майго нараджэння, і пазбегчы наканаванага ці змяніць свой лёс я быў бяссільны.

# ПАПІРУС СЁМЫ
## Мінея

### 1

Мы бесперашкодна выехалі за горад, стражнікі не аклікнулі нас, бо на ноч рэчка не перакрывалася і не ахоўвалася, і я пайшоў пад стрэшку прыхіліць стомленую галаву, бо, як ужо расказваў, царская варта падняла мяне яшчэ на досвітку, а дзень быў поўны трывожных і небяспечных клопатаў, стамляючай мітусні і страшнага шуму: такога дня я не перажываў яшчэ ніколі. Але падрамаць мне не ўдалося, бо Мінея вылезла з дывана і пачала змываць з сябе кроў, чэрпаючы ваду прыгаршчамі. Здавалася, з яе рук, сцякаючы ў раку, струменіцца вогненнае месячнае святло. Яна паглядзела на мяне без усмешкі і гнеўна сказала:

— З тваімі дурнымі парадамі я ўся перапэцкалася, і цяпер ад мяне так смярдзіць крывёй, што я, здаецца, ужо не адмыюся ніколі. І калі ты мяне нёс, ты так моцна сціскаў дыван, што я ледзь не задыхнулася.

Я быў вельмі стомлены, яе папрокі мне надакучылі, і таму я, пазяхаючы, адказаў:

— Змоўч, праклятая жанчына! Калі я думаю пра ўсё, што ты вымусіла мяне зрабіць, у мяне ажно заходзіцца сэрца. Калі хочаш, я з радасцю кіну цябе ў ваду, каб ты адмылася там навечна. Каб не ты, я сядзеў бы цяпер праваруч ад цара, а жрацы Вежы дзяліліся б са мною сваімі ведамі, не ўтойваючы нічога, і я стаў бы самым вучоным лекарам на свеце. Праз цябе я страціў усё зароблена́е сваім лекарскім майстэрствам, у мяне амаль не засталося золата, і я нават не адважваюся карыстацца глінянымі таблічкамі, па якіх мог бы атрымаць золата ў храмавых скарбніцах. Усё гэта — праз цябе! Хай будзе пракляты той дзень, калі я цябе ўбачыў. Цяпер я кожны год буду адзначаць гэты дзень, апранаючыся ў лахманы і пасыпаючы галаву попелам.

Тады яна, не гледзячы на мяне, прамовіла ціхім голасам:

— Калі так, дык лепш я сама кінуся ў ваду,. каб больш цябе не абцяжарваць. — І яна паднялася, нібы збіраючыся выскачыць з чоўна, але я моцна яе ўхапіў і сказаў:

— Кінь выдурвацца, бо калі ты зараз кінешся ў раку, значыць, усе мае намаганні былі марныя, і гэта будзе самай вялікаю недарэчнасцю. Дзеля ўсіх багоў, Мінея, дай мне спакойна адпачыць і не назаляй сваімі дзіцячымі выбрыкамі: я ўжо ад іх стаміўся.

Сказаўшы гэта, я залез пад дыван з галавой, бо ноч была даволі





халодная, хоць і наступіла вясна і чаплі гучна крычалі ў прыбярэжным чароце. Але яна запаўзла пад дыван да мяне і нясмела сказала:

— Калі ўжо я не магу дапамагчы табе нічым болей, дазволь, я сагрэю цябе сваім целам.

Я не змог запярэчыць і моцна заснуў, а яна мяне саграва́ла, бо была маладая, і яе цела грэла мяне, як прыемная цёплая печачка пад маім бокам.

Прачнуўшыся ўранні, я ўбачыў, што мы падняліся далёка ўверх па рацэ, але стомленыя весляры злосна бурчэлі:

— У нас задубелі плечы, а спіны камянеюць ад стомы! Ты, пэўна, вырашыў нас змарыць на вёслах, бо мы ляцім, як на пажар!

Але я прагнаў літасць з сэрца і злосна крыкнуў:

— Хто перастане веславаць, той паспытае маёй палкі, а прыпынак мы зробім апоўдні. Тады зможаце падмацавацца, і яшчэ я дам кожнаму па глытку фінікавага віна. Яно вас ажывіць так, што вы сябе адчуеце лёгкімі птушкамі. А калі будзеце натурыцца, я нашлю вам на галовы ўсіх злых духаў, бо я жрэц і чарадзей і ведаю шмат нячысцікаў, якія харчуюцца людзьмі.

Я сказаў гэта, каб іх прыстрашыць, але наваколле залівала яркае сонечнае святло, і яны, зусім не спалохаўшыся, закрычалі:

— Ён адзін, а нас дзесяць!

І бліжэйшы паспрабаваў ударыць мяне вяслом, але ў гэты момант пахавальны гарлач, што ляжаў у чоўне, загрымеў, закалываўся, і Каптах зароў усярэдзіне не сваім голасам, пасылаючы страшэнныя праклёны, а тады пачаў з усяе сілы грукаць у сценкі так, што весляры спалатнелі і, адзін за адным паскакаўшы ў ваду, зніклі, знесеныя цячэннем.

Човен закруціўся і нахіліўся пад напорам рачной плыні, але я ўсё ж змог давесці яго да берага і кінуў якар. Мінея сышла на зямлю і ўзялася расчэсваць валасы, і мой страх адразу некуды знік: яна была вельмі прыгожая, вакол ярка свяціла сонейка, і ў трыснягу хадзілі даўгалыгія чаплі. Тады я падышоў да гарлача, адбіў горла і зычна загадаў:

— Паўстань з мёртвых, чалавеча!

Каптах высунуў вонкі калматую галаву і ашалела пачаў азірацца. Здаецца, ніколі ў жыцці я не бачыў больш агаломшанага чалавека.

Жаласным голасам ён спытаўся:

— Што гэта яшчэ за жарты? Дзе я і дзе мой царскі ўбор? Куды схавалі знакі маёй улады, і чаму я голы і мушу тут мерзнуць? У мяне ў галаве гудуць і кусаюцца восы, а ногі і рукі налітыя свінцом, быццам мяне пакусала ядавітая змяя! Не жартуй так са мной, Сінухе, бо жартаваць з царом — сабе даражэй!

Я хацеў правучыць яго за ўчарашнюю грубасць і выказаную да мяне пагарду, і таму прыкінуўся вельмі здзіўленым:

— Не разумею, пра што ты кажаш, Каптах. Пэўна, віно яшчэ бурліць у тваёй галаве. Але, спадзяюся, ты памятаеш, як перабраў віна перад нашым ад'ездам з Вавілона і якое шаленства чыніў у чоўне, што веслярам ажно давялося цябе запіхнуць у гарлач, каб ты не пакалечыў нікога. Ты нешта вёрз пра цароў, суддзяў і яшчэ ўсякае глупства.

Каптах заплюшчыў вочы, доўга думаў і нарэшце прамовіў:

— Мой гаспадар, я больш ніколі ў жыцці не буду піць віна, бо віно і сон перанеслі мяне ў такія жахлівыя прыгоды, пра якія мне і расказваць страшна. Магу толькі ўспомніць, што дзякуючы скарабею, я адчуў сябе царом, чыніў суд і расправу, хадзіў у пакоі да царскіх жонак і цешыўся там з адной прыгажуняй. Дый шмат яшчэ чаго здарылася са мною, але ўспамінаць гэта я проста не маю сілы, бо галава ў мяне трашчыць, і ты быў бы бязмежна добры, каб даў мне зелля, якое ў праклятым Вавілоне ўжываюць п'янтосы на другі дзень пасля п'янкі.

Тут ён угледзеў Мінею і жвавенька зноў улез у гарлач, і адтуль пачуўся яго жаласны голас:

— Мой гаспадар, я, мусіць, яшчэ не зусім здаровы ці яшчэ не прачнуўся, бо мне падалося, што побач з чоўнам стаіць дзяўчына, з якой я цешыўся ў царскім палацы. Хай дапаможа мне скарабей, бо я баюся, што з'ехаў з глузду!

Ён памацаў сіняк пад вокам і зароў на ўсё горла. Тады Мінея не вытрымала, падышла да гарлача і, ухапіўшы Каптаха за валасы, выцягнула вонкі яго галаву.

— Ану, паглядзі на мяне, ці не я тая дзяўчына, з якою ты цешыўся ўчора?

Каптах спалохана вылупіўся на яе, прыжмурыў вока і ўзмаліўся:

— Хай злітуюцца з мяне багі Егіпта і даруюць за тое, што я ўшаноўваў чужых багоў, але гэта напраўду ты! Прабач мне, калі ласка, бо я ўсё рабіў у сне.

Мінея зняла пантофлю і адшлёпала ёю Каптаха па шчоках:

— Хай гэта будзе пакараннем табе за непрыстойны сон і доказам таго, што ты прачнуўся.

Але Каптах залямантаваў яшчэ гучней:

— Я сапраўды не разбяру: я ўсё яшчэ сплю ці нарэшце прачнуўся,— бо дакладна так сама тая дзеўка ўзнікла і пабіла мяне ў сне!

Я дапамог яму выбрацца з гарлача, даў горкіх лекаў дзеля ачысткі страўніка, а потым абвязаў вяроўкай і, як ён ні лямантаваў, кінуў у ваду, каб канчаткова выпаласкаць рэштکі сп'янення з яго затлумленай галавы. Потым я ўрэшце злітаваўся, уцягнуў яго ў човен і сказаў:

— Хай гэта будзе табе навукай за дзёрзкасць са мною, тваім гаспадаром і ўладаром. І ведай, што ўсё, што здарылася з табой,— чыстая праўда, і калі б не я, дык ляжаў бы ты нежывы ў пахавальным гарлачы побач з



іншымі фальшывымі царамі, пахаванымі ў сутарэннях царскага палаца.

Потым я распавёў Каптаху ўсё, што з ім адбылося, прычым свой аповед мне давялося паўтарыць некалькі разоў, перш чым ён усё зразумеў і паверыў. На заканчэнне я сказаў:

— Нашае жыццё ў небяспецы, і я не жартую, бо тое, што цар, калі зловіць, павесіць нас дагары нагамі на гарадскім муры ці ўчыніць яшчэ што-небудзь горшае,— гэта такая самая праўда, як тое, што мы сядзім у гэтым чоўне. Нашы весляры ўцяклі, але добрая парада каштуе дорага. Вось ты, Каптах, падумай ды скажы, як нам дабрацца да Мітанні жывымі.

Каптах пачухаў патыліцу і надоўга задумаўся. Нарэшце ён сказаў:

— Калі я правільна зразумеў, мне ўсё ўчорашняе не прыснілася і не прымроілася на хмельную галаву. А калі так, дык хай будзе благаслаўлёны сённяшні дзень! Значыць, мне можна спакойна выпіць віна, каб мая галава канчаткова выздаравела, а то я ўжо думаў, што яго больш не паспытаю,— з гэтымі словамі ён запоўз пад стрэшку, зубамі садраў пячатку з віннай біклагі і стаў жлукціць, усхваляючы ўсіх егіпецкіх і вавілонскіх багоў, нават тых, чыіх імёнаў не ведаў. Памінаючы кожнага бога, ён прыкладваўся да біклагі, пакуль не паваліўся на дыван і не захроп, як бегемот.

Каптахава выхадка да таго раззлавала мяне, што я хацеў выкінуць яго ў ваду і ўтапіць, але Мінея сказала:

— Твой Каптах мае рацыю: у кожнага дня свой клопат. Чаму б і нам не выпіць віна і не адпачыць тут, куды нас вынесла плынню. Гэтае месца прыгожае, нас засланяе і хавае трыснёг, і чаплі спакойна гукаюць сваіх сяброў. Я бачу, як лятуць віць свае гнёзды качкі, як вада адсвечвае пад сонцам зеленню й золатам, і маё сэрца робіцца лёгкім, як птушка, што вырвалася на волю.

Я абдумаў яе словы і вырашыў, што яна мае рацыю. Тады я сказаў:

— Калі ўжо вы абое вар'яты, дык і я паддамся вашаму шаленству: кажучы праўду, мне ўсё на свеце ўстыла і зусім не хвалюе, калі маю скуру расцягнуць сушыцца на гарадскім муры — заўтра ці праз дзесяць год, бо ўсё даўно запісана і наканавана зоркамі задоўга да майго нараджэння, як тлумачылі мне жрацы Вежы. Сонца так пяшчотна грэе, і рунь зелянее на палетках, дык чаму б мне не пакупацца і не палавіць рыбу рукамі, як я рабіў гэта ў дзяцінстве. Гэты дзень нічым не горшы за іншыя.

Мы пакупаліся ў рацэ, высушылі на сонцы вопратку, а калі паелі і выпілі віна, Мінея прынесла свайму богу ахвяры і, стоячы ў чоўне, станцавала перада мной тыя танцы, якія звычайна выконвала ў гонар свайго бога. Гледзячы на яе, у мяне дых займала ажно, і я сказаў:

— Толькі аднойчы ў жыцці я сказаў жанчыне: «Сястра мая»,— але

яе абдымкі былі для мяне, як пякельны агонь, і яе цела было сухое, як мёртвая пустэльня, і не магло мяне напаіць жыватворным сокам. Таму, я малю цябе, Мінея, вызвалі мяне ад сваіх чараў, якімі ты працінаеш усё маё цела, і не глядзі на мяне вачыма, падобнымі да месячнага святла на вадзе, іначай я скажу табе: «Сястра мая»,— і ты ўцягнеш мяне ў злачынства, як тая жанчына, і давядзеш да пагібелі.

Мінея паглядзела на мяне з цікаўнасцю і сказала:

— Ты, мабыць, вадзіў кампанію з дзіўнымі кабетамі, Сінухе, калі расказваеш такія рэчы, але, можа, у тваёй краіне ўсе жанчыны такія. Мяне ты не павінен баяцца, бо я не збіраюся спакушаць цябе. Мой бог забараняе мне мець справу з мужчынамі, і калі я парушу гэтую забарону, мне давядзецца памерці. Таму я вельмі асцярожна паводжу сябе і не маю намеру цябе спакушаць.

Яна ўзяла маю галаву ў рукі, паклала сабе на калені і, гладзячы мае валасы і шчокі, казала:

— У цябе напраўду вельмі неразумная галава, калі ты так дрэнна думаеш пра жанчын. Вядома, ёсць жанчыны, якія атручваюць усе студні, але ёсць, безумоўна, і такія, што як крыніца ў пустэльні ці раса ў сухім полі. Але хоць галава ў цябе неразумная і нездагадлівая, а валасы на ёй чорныя і грубыя, я з задавальненнем трымаю яе ў руках, бо твае вочы і твае рукі маюць штосьці прывабнае, і яно з такой лёгкай пяшчотаю прыцягвае мяне. Я вельмі шкадую, што не магу даць табе таго, што ты хочаш, і мне сумна не толькі дзеля цябе, але і дзеля сябе таксама, калі табе прыемна чуць гэтыя словы.

Вада, адліваючы залатым і зялёным, струменілася ўздоўж чоўна, я трымаў яе моцныя прыгожыя рукі, глядзеў у яе цёплыя вочы і казаў:

— Мінея, сястра мая! На свеце ёсць безліч багоў, кожная краіна мае іх вялікае мноства, але ўсе яны мне ўстылі, бо, на маю думку, багоў прыдумалі людзі проста ад страху. Таму адрачыся ад свайго бога: яго патрабаванні жорсткія і неразумныя, а сёння асабліва бязлітасныя. Я звязу цябе ў тую краіну, куды не дасягае ўлада твайго бога, хоць бы нам і давялося ехаць на край свету, хоць бы нам давялося жыць у краіне дзікуноў, есці адну траву ды сушаную рыбу, і спаць на мулкіх чаротавых ложах. Бо павінна ж быць недзе мяжа, дзе заканчваецца ўлада твайго бога!

Але яна толькі мацней сціснула мае рукі і, адвёўшы позірк, сказала:

— Мой бог правёў мяжу ў маім сэрцы, і куды б я не йшла, яго ўлада будзе ісці следам за мною, і калі я аддамся мужчыне, мне давядзецца памерці. Сёння, гледзячы на цябе, я таксама думаю, што мой бог, мабыць, надта жорсткі, калі патрабуе такога, але я не магу пайсці супраць яго, бо заўтра ўсё можа змяніцца: я ўстыну табе і ты пра мяне забудзеш, як гэта робяць зазвычай усе мужчыны.



— Заўтрашні дзень невядомы нікому,— нецярпліва адказаў я, і ўва мне ўсё ўспыхнула супраць яе абурэннем, быццам маё цела было сухою капой чароту на рачным беразе, якая ўсё лета сохла на сонцы і раптам загарэлася ад выпадковай іскры.— Твае словы — простая адгаворка, бо ты хочаш падражніць мяне і пацешыцца з маіх пакутаў, як гэта робяць зазвычай усе жанчыны.

А яна забрала свае рукі і, дакорліва паглядзеўшы на мяне, сказала:

— Я не якая-небудзь цёмная неадукаваная жанчына, я размаўляю, апроч роднай мовы, яшчэ і па-вавілонску, і па-егіпецку, мне вядомыя тры алфавіты, і ў любым з іх я магу паставіць свой подпіс як на гліняной таблічцы, так і на папірусе. Я наведала шмат вялікіх гарадоў, я была са сваім богам нават на егіпецкім узбярэжжы і танцавала перад шматлікімі гледачамі, і яны дзівіліся майму майстэрству, пакуль падчас караблекрушэння гандляры не захапілі мяне. Я ведаю, што мужчыны і жанчыны аднолькавыя ва ўсіх краінах і адрозніваюцца толькі мовамі ды колерам скуры ды пакланяюцца розным багам. Я ведаю таксама, што адукаваныя людзі ва ўсіх вялікіх гарадах не надта розняцца ў сваіх думках і звычаях і не надта пачціва ставяцца да багоў, яны пакланяюцца ім болей дзеля прыліку і ўласнай бяспекі, яны з большым задавальненнем шукаюць суцяшэння ў віне. Мне гэта ўсё добра вядома, але я з дзяцінства расла ў храмах, я пасвечаная ва ўсе таямніцы свайго бажышча, і ніякая сіла на свеце, ні чарадзейства не змогуць разлучыць мяне з маім богам. Калі б ты хоць раз танцаваў перад быком і, ускочыўшы яму на лоб, сеў паміж яго вострымі рагамі, датыкаючыся да рыкаючай морды, тады, можа, ты зразумеў бы, пра што я кажу. Але здаецца мне, ты ніколі не бачыў, як юнакі і дзяўчаты танцуюць перад быкамі.

— Я чуў пра такое,— адказаў я.— Я ведаю, што ў Ніжніх Землях праводзяць такія гульні, але думаў, што гэта робіцца дзеля забавы, хоць мог бы і здагадацца, што бог і да гэтага прыклаў руку, як да ўсяго, што адбываецца ў свеце. А калі так, дык і мы ў Егіпце пакланяемся быку, які мае боскую адмеціну і нараджаецца толькі раз на працягу жыцця аднаго пакалення, але я ніколі не чуў, каб нехта адважыўся скочыць яму на карак ды пачаў на ім скакаць,— гэта было б абразай і апаганьваннем бажышча, бо такі бык у нас лічыцца свяшчэнным вестуном багоў. Калі ж ты хочаш сказаць, што зберагаеш сваю нявіннасць дзеля быка, дык гэта нечуваная справа, хоць я ведаю, што ў Сірыі жрацы падчас патаемных абрадаў у гонар Маці-Зямлі прыносяць у ахвяру казлу нявінных дзяўчат, выбраных дзеля гэтага са свайго народа.

Тады яна балюча ўдарыла мяне па шчоках, яе вочы, як у дзікай кошкі, загарэліся ў цемры зялёным агнём, і яна злосна крыкнула:

— Калі ты так кажаш, дык сам не лепшы за казла, і ўсе твае думкі пра цялесныя ўцехі цалкам можа задаволіць каза — не горш за жанчы-

ну. Ідзі да сваіх продкаў, пакінь мяне ў спакоі і адчапіся са сваёй рэўнасцю,— ты разважаеш пра тое, у чым разумееш не больш, чым свіння ў срэбры!

Мае шчокі гарэлі ад аплявух, але я стрымаў сябе і, холадна адсунуўшыся, перайшоў на карму лодкі. Каб неяк прабавіць час, я ўзяўся перабіраць лекарскія прылады ў сваім куфэрку, а тады пачаў гатаваць з іх усякае зелле. А яна, пасядзеўшы на носе лодкі і злосна тупаючы пятой па дне чоўна, раптам раздражнёна скінула з сябе адзенне, намасціла цела алеем і пачала танцаваць так бурна, што лодка загайдалася. Я ўпотай пазіраў на яе, бо яна сапраўды валодала вялікім майстэрствам: яна лёгка адкідвалася назад, дастаючы падлогу рукамі і выгінаючыся дугою, потым лёгка з такога становішча ўскоквала на ногі, і ўсе яе мышцы пад гладкай, бліскучай ад алею скурай, гулялі, нібы хвалі, яна перарывіста дыхала, валасы развіваліся ў паветры вакол галавы, такі танец патрабаваў вялікай сілы й майстэрства, і я ніколі не бачыў нічога падобнага, хоць не раз любаваўся танцамі дзеваў у дамах уцех розных краінаў.

Я глядзеў на яе, і паступова гнеў у маім сэрцы растаў і знік, і я ўжо не думаў, што і колькі я страціў, калі выкраў гэтую капрызную і няўдзячную дзяўчыну з царскага палаца ў Вавілоне. Я зразумеў, што яна напраўду магла б нажом пазбавіць сябе жыцця, аберагаючы сваю нявіннасць, і зразумеў, што паводзіў сябе няправільна і нядобра, патрабуючы ад яе таго, чаго яна не магла мне даць.

Натанцаваўшыся да знямогі, так што кропелькі поту пакрылі ўсё яе цела, а кожная мышца трымцела ад стомы, яна выцерлася, абмыла ногі і рукі ў рацы, апранулася і з галавой залезла пад дыван, з-пад якога данесліся гукі плачу. Кінуўшы свае прылады і лекі, я хуценька падышоў да яе, асцярожна дакрануўся да пляча і спытаў:

— Ці ты не захварэла?

Яна адштурхнула маю руку і заплакала яшчэ горай. Я адчуў, што маё сэрца разрываецца і, сеўшы побач, сказаў:

— Мінея, сястра мая, не плач, калі я гэтаму прычына: я не збіраюся цябе дабівацца і не дакрануся да цябе, нават калі б ты сама мяне папрасіла,— я не хачу прычыняць табе боль і пакуты, я хачу, каб ты заставалася такая, як ёсць.

Яна ўзняла галаву, выцерла слёзы з вачэй і злосна сказала:

— Я не баюся ні пакутаў, ні болю, і плачу я зусім не праз цябе. Я плачу таму, што злы лёс разлучыў мяне з маім богам і зрабіў мяне слабай, накшталт мокрай анучы,— так, што ад позірку неразумнага мужчыны мае калені падгінаюцца, нібы з мяккага цеста.— Кажучы гэта, яна ўпарта глядзела міма мяне і страсала слёзы з вачэй.

Я ўзяў яе за рукі, і яна не вырвала іх у мяне, а павярнулася да мяне і сказала:



— Сінухе-егіпцянін, напэўна, на тваю думку, я вельмі няўдзячная і капрызлівая дзяўчына, але я нічога не магу зрабіць з сабою і не пазнаю сама сябе. Я з задавальненнем расказала б табе пра свайго бога, каб ты мог мяне зразумець, але непасвечаным пра яго нельга расказваць. Магу толькі сказаць, што гэта марскі бог, ён жыве ў цёмных сутарэннях, высечаных у скале, і ніхто, аднойчы ўвайшоўшы туды, назад ужо не вяртаўся і назаўжды заставаўся там. Некаторыя кажуць, што ён падобны да быка, хоць жыве ў моры, і, мабыць, таму нас, прысвечаных богу, вучаць танцаваць перад быкамі. Кажуць таксама, што ён падобны да быкагаловага чалавека, але я пабывала ў многіх краінах і гарадах, а таму думаю, што гэта проста байкі. Я ведаю толькі, што кожны год па жэрабю з ліку прысвечаных яму выбіраюцца дванаццаць юнакоў і дзяўчат, якія ў ноч поўні па чарзе заходзяць у яго ўладанні, і няма на свеце болей шчаслівых людзей, чым тыя юнакі і дзяўчаты, на якіх выпаў гэты шчаслівы кон. Мне таксама выпала гэтае шчасце, але тады як прыйшла мая чарга, карабель, на якім я плыла, патануў, і мяне падабралі гандляры рабамі ды прадалі на рынку нявольнікаў у Вавілоне, я табе ўжо гаварыла. Усё сваё юнацтва я марыла пра цудоўныя залы бога, пра яго боскі ложак і вечнае жыццё з ім, хоць яго абранніца, пражыўшы з ім месяц, можа потым вярнуцца назад. Але ніхто яшчэ адтуль не вяртаўся, бо напэўна, таму, хто сустрэўся з богам, жыццё не можа прапанаваць нічога лепшага.

Ад такіх яе словаў у вачах у мяне пацямнела, нібы сонца зайшло за хмары, я затросся, і душа мая напоўнілася тугой: я зразумеў, што Мінея не для мяне. Гэта была знаёмая казка, якую жрацы расказваюць ва ўсіх краінах, але Мінея верыла ў яе, і гэта нас назаўжды раздзяляла. Таму я не захацеў казаць марных словаў, а ўзяўшы яе рукі ў свае далоні і трошкі іх адагрэўшы, прамовіў:

— Я разумею, што ты хочаш вярнуцца да свайго бога. Што ж, я адвязу цябе на выспу Крыт, бо ведаю, што ты адтуль родам. Я здагадваўся пра гэта яшчэ тады, калі ты расказвала пра быкоў, а цяпер упэўніўся цалкам, калі ты сказала, што ён жыве ў цёмных сутарэннях. Мне казалі пра твайго бога мараплаўцы з Сіміры, але я тады не паверыў ім. Праўда, яны казалі, што жрацы забіваюць тых, хто спрабуе вярнуцца з боскіх палацаў, каб ніхто не даведаўся, як той марскі бог выглядае. Але хутчэй за ўсё гэта звычайныя марацкія байкі ды прыдумкі прасталюдзінаў, але ж ты пасвечаная і ведаеш лепш за іх.

— Я павінна туды вярнуцца,— папрасіла яна.— Нідзе на зямлі, ні ў якой іншай краіне, я не знайшла б спакою, бо з самага маленства расла ў храмах гэтага бога. Праўда, сёння я радуюся кожнаму дню і кожнай хвіліне, праведзеным побач з табой, Сінухе. І зусім не таму, што ты выратаваў мяне ад вялікай бяды, а таму, што няма ў мяне нікога ў

свеце, хто параўнаўся б з табою. Я нават ужо не так моцна, як раней, прагну трапіць у палац майго бога, і нават пачынаю думаць пра гэта з тугою ў сэрцы. Калі мне дазволяць, я, мусіць, праз пэўны час вярнуся да цябе,— мне не верыцца, каб адтуль ніколі ніхто яшчэ не вяртаўся. Але ў нас мала часу, і ты сам казаў, што заўтрашні дзень невядомы нікому. Таму давай, Сінухе, радавацца кожнаму дню, давай радавацца птушкам, якія пралятаюць над намі, махаючы крыламі, давай радавацца рэчцы і чаратам, смачнай страве і добраму віну і не думаюць пра тое, чаго нельга пазбегнуць. Так будзе лепей.

Каб я меў іншы характар, я, бадай, прымусіў бы яе мне аддацца ці ўзяў бы яе гвалтам, завёз бы ў Егіпет і пражыў бы там з ёю ўсё жыццё. Але я ведаў, што яна кажа праўду і што ў яе не было б ніводнага спакойнага дня, калі б толькі яна здрадзіла свайму богу, дзеля якога расла і жыла. А потым настаў бы дзень, калі яна пракляла б мяне і ўцякла б з майго дома. Багі маюць вельмі вялікую ўладу над кожным, хто ў іх верыць, але перад тым, хто ў іх не верыць, яны бяссільныя. Таму я думаю, яна, мусіць, праўда памерла б, бо раней, у Доме жыцця, мне ўжо даводзілася бачыць, як людзі марнелі і паміралі, таму што лічылі сябе вінаватымі перад богам, у якога верылі.

Ды ўжо, напэўна, усё гэта было прадвызначана зоркамі яшчэ да майго нараджэння, і змяніць што-небудзь я быў няздольны. Таму мы елі і пілі ў чоўне, схаваным у трыснягу, і заўтрашні дзень падаваўся нам бязмежна далёкім. Мінея нахіляла галаву і яе валасы прыемна казыталі мой твар, яна ўсміхалася, а калі аднойчы, паспытаўшы віна, дакранулася да маіх вуснаў, салодкі боль працяў маё сэрца, і гэты боль быў нават яшчэ саладзейшы за цялеснае валоданне гэтай дзяўчынай. Але тады я пра гэта не думаў.

**2**

Адвячоркам Каптах, які спаў пад стрэшкай у чоўне, прачнуўся, вылез з-пад дывана і, працёршы вочы, абвясціў:

— Дзякуючы скарабею і незабыўнаму Амону, мая галава больш не звініць, як кавадла ў кузні, я зноў у ладах з наваколлем, і мне не пашкодзіла б чаго-небудзь з'есці, ато здаецца, што ў маім жываце пасяліліся некалькі галодных ільвоў.

Не пытаючыся дазволу, ён падсеў да нас і пачаў прагна паглынаць засмажаную ў гліне дзічыну, бесклапотна выплёўваючы ў ваду косткі.

Яго выгляд зноў нагадаў мне, у якім мы цяжкім становішчы, і я злосна сказаў:

— Ах ты, п'яны кажан! Замест таго, каб дапамагчы нам парадай, як выкруціцца з бяды, ты напіўся ды заснуў, як свіння ў лужыне! А нас усіх траіх могуць павесіць на гарадскім муры дагары нагамі! Дык давай,



кажы, што нам рабіць, бо царская варта ўжо гоніцца за намі на чаўнах.

Аднак Каптах не спалохаўся і спакойна прамовіў:

— Калі ўсё, што ты мне распавёў,— праўда, цар не будзе шукаць нас бліжэйшыя трыццаць дзён, бо сам абяцаў прагнаць цябе бізунамі, калі ты насмелішся з'явіцца ў яго палацы раней гэтага тэрміну. Таму я лічу, што нам не абавязкова спяшацца. Бо калі пра твае ўцёкі пусцілі чутку насільшчыкі ці што-небудзь сказалі скапцы, то нам тады ўсё адно не ўцячы і не ўратавацца. Але я веру ў нашага скарабея. Галоўную памылку ты зрабіў не ў гэтым, а ў тым, што напаіў мяне сонным зеллем, ад якога галава ў мяне разбалелася, быццам яе пракалоў шылам шавец. Я думаю, ты паспяшаўся, бо цар Бурабурыяш усё роўна падавіўся б косткай ці спатыкнуўся б і зламаў сабе шыю. Тады я стаў бы царом Вавілоніі і ўладаром чатырох бакоў свету, і мы цяпер нікога не баяліся б. Я цвёрда веру ў нашага скарабея і дарую табе твой легкадумны ўчынак, бо ты мой гаспадар і нічога лепшага прыдумаць не мог, як дарую і тое, што ты запхнуў мяне ў гэты гарлач, дзе я ледзьве не задушыўся, што зусім не адпавядала б маёй годнасці. Але калі ўжо так адбылося, дык мне спачатку трэба было прывесці ў парадак сваю галаву, а тады ўжо даваць парады, бо ўранку табе лепш бы параіў гнілы пень, чым я. А вось цяпер я гатовы падзяліцца зх табой усёй сваёй мудрасцю, бо вядома, што ты без мяне, як ягняці без маткі.

Я перабіў яго, загадаўшы спыніць гэтую балбатню, і спытаў, што нам рабіць, каб як мага хутчэй выбрацца з Вавілоніі. Каптах пачухаў патыліцу і сказаў:

— Праўду кажучы, гэты човен занадта вялікі, каб мы ўтраіх маглі рухацца на ім супраць цячэння, дый апроч таго, я не люблю веславаць, бо ад вёслаў у мяне пухіры на далонях. Нам трэба сысці на бераг, украсці дзе-небудзь пару аслоў і пакласці на іх нашы пажыткі. А яшчэ нам трэба пераапрануцца ў лахманы, каб не прыцягваць лішняй увагі, і таргавацца на заезных дварах у вёсках. Лепш за ўсё прыкінуцца вандроўнымі акторамі, што ходзяць па вёсках і вечаровым часам забаўляюць сялян. Таму табе лепш не паказваць свайго лекарскага майстэрства, а прыкінуцца прадказальнікам: цябе ж вучылі там гадаць па алею, вось і будзеш прадвяшчаць земляробам добрыя ўраджаі, а я буду распавядаць смешныя байкі, якіх ведаю незлічона. Ну, а дзяўчына будзе зарабляць свой хлеб танцамі. Вядома, было б нядрэнна наняць весляроў, якія давезлі б нас да самай мяжы,— я думаю, на вадзе скарабей аберагаў бы нас гэтак жа добра, як на зямных шляхах. Але надзейней усё ж пакінуць човен тут: я лічу гэта зусім непрыстойным — рабаваць бедных весляроў, якія схаваліся ў чаратах і толькі чакаюць цемры, каб нас забіць ды забраць свой човен. Давайце лепш неадкладна рушым у дарогу! А калі весляры надумаюць нацкаваць на нас царскую варту,

дык ім усё адно ніхто не паверыць: яны ж пачнуць вярзці пра злых духаў у гарлачах ды іншыя цуды, таму іх ні воіны, ні суддзі не захочуць і слухаць, а бадай яшчэ і пашлюць лячыцца ў храм да жрацоў, каб тыя з іх павыганялі нячысцікаў.

Вечарэла, і нам трэба было спяшацца, бо Каптах, безумоўна, меў рацыю, кажучы, што весляры могуць адолець страх і забраць свой човен, а яны ж былі ўдзесяцёх супраць нас траіх. Таму мы намасцілася алеем, што знайшлі ў весляроў у чоўне, перапэцкалі глінай вопратку й твары і падзялілі рэшткі майго срэбра й золата, схаваўшы іх у паясах і пад вопраткай. Мой лекарскі куфэрак мы закруцілі ў дыван і ўзвалілі на спіну Каптаху, нягледзячы на яго пярэчанне, а потым кінулі човен у чаратах і пабрылі да беразе. У чоўне мы пакінулі запасы ежы і пару гарлачоў з віном,бо на думку Каптаха, гэта мусіла вельмі паспрыяць нашым уцёкам: весляры, знайшоўшы віно, абавязкова кінуцца яго піць і нават не падумаюць гнацца за намі, а калі, працверазеўшы, пойдуць да суддзяў ці вартаўнікоў, дык кожны з іх будзе ўсё распавядаць пасвойму, так што суддзі не захочуць слухаць такой лухты, а проста загадаюць прагнаць іх палкамі. Я таксама спадзяваўся на гэта.

Так пачалося наша вялікая вандраванне. Мы дайшлі да апрацаваных земляў, адшукалі караванны шлях і ішлі па ім усю ноч, не зважаючы на жаласную лаянку Каптаха, які праклінаў дзень і час свайго нараджэння, згінаючыся пад ношай, што скручвала яму шыю. Уранні мы дайшлі да вёскі, жыхары якой вельмі ветла і паважна прынялі нас за тое, што мы не збаяліся злых духаў і ішлі ўначы. Яны накармілі нас кашай, зваранай на малацэ, прадалі нам двух аслоў, а на развітанне наладзілі вясковае свята: гэта былі прастадушныя людзі, якія месяцамі не бачылі срэбнай манеткі, а свае даўгі сплачвалі скацінай і зернем, жывучы ў гліняных буданах разам з дамашняй жывёлай.

Так, дзень за днём, мы ішлі па дарогах Вавілоніі, сустракаючы гандляроў ды іншы люд і з паклонам саступаючы дарогу насілкам са знатнымі спадарамі. Сонца апякло нам твары, адзенне ператварылася ў лахманы, і нам ужо стала звычным выступаць на цвёрда ўтаптаных гліняных таках. Я ліў у ваду алей і прадказваў сялянам добрыя часы, багатыя ўраджаі, удалыя шлюбы і нараджэнне сыноў, бо спачуваў іх вечнай галечы і не хацеў прадказваць дрэннага. Яны верылі і вельмі радаваліся. Але каб я трымаўся праўды, то мусіў бы ім казаць пра нахабных і няўмольных зборшчыкаў падацяў, аб пакаранні бізунамі, аб сквапных суддзях, аб голадзе ў час няўроду, аб цяжкіх хваробах у час паводкі, аб саранчы ды мухах, аб палючых засухах і гнілой вадзе, аб непасільнай працы, за якой следам ідзе смерць, бо такое ўжо ў гэтых бедных людзей жыццё. Каптах расказваў ім казкі пра чараўнікоў і князёўнаў, пра далёкія краіны, дзе людзі ходзяць з галовамі пад пахай, раз у год пера-



твараючыся ў ваўкоў, а яны верылі ягоным гісторыям, вельмі яго шанавалі і частавалі так, што ён аж патаўсцеў. Мінея танчыла на гліняных пляцоўках, бо, каб не страціць навыкаў і майстэрства, ёй трэба было танчыць штодня, а сяляне дзівіліся і казалі: «Ніколі раней мы не бачылі нічога падобнага».

Гэтае падарожжа было мне вельмі карыснае, бо дзякуючы яму я зразумеў, што не толькі багатыя ды знатныя, але і беднякі ва ўсіх краінах і гарадах, па сутнасці, аднолькавыя і думаюць вельмі падобна, нягледзячы на тое, што маюць розныя звычаі, а ў іх багоў розныя імёны. Я ўпэўніўся, што беднякі дабрэйшыя за багацеяў, бо, прымаючы нас таксама за бедных, яны кармілі нас кашай і сушанай рыбай і не чакалі ад нас падарункаў у адказ на сваю дабрыню, у той час як багатыя палкамі адганялі беднякоў ад сваіх дзвярэй і ўвогуле ставіліся да іх з пагардай. Я даведаўся, што беднякі таксама ведаюць, што такое радасць жыцця і смутак, туга і смерць, і што бядняцкае дзіцё прыходзіць на свет такім самым, як дзіцё багацея. Гледзячы на іх даверлівасць і прастадушнасць, я ўсім сэрцам спачуваў гэтым людзям і не мог адмовіцца палекаваць тых, што хварэлі, ускрыць нарыў ці прамыць вочы, бо ведаў, што ў іншым выпадку чалавек хутка аслепне. Я рабіў гэта па сваім жаданні і не прасіў ніякай платы ці падарункаў.

Чаму я так рабіў, забыўшы пра страх быць выкрытым, я і сам не ведаю. Можа. маё сэрца памякчэла побач Мінеяй, якою я любаваўся штодзень і якая па начах мяне саграявала, калі мы спалі на мулкім гліняным доле, ад якога пахла саломай і гноем? А можа дзеля яе я імкнуўся задобрыць багоў добрымі справамі? Ці проста хацеў падтрымаць сваё майстэрства, каб рука не страціла цвёрдасці, а вочы зоркасці. Чым далей я жыў, тым лепш разумеў, што кожную справу чалавек робіць дзеля многіх прычынаў, але зразумець іх яму не пад сілу. І таму ўсе чалавечыя ўчынкі здаваліся мне марнымі, як пыл пад нагамі: я не ведаў, дзеля чаго ўсе яны робяцца і ў чым іх прызначэнне на гэтым свеце.

На сваім шляху мы спазналі нямала нягодаў, мае рукі сшэрхлі, скура на нагах задубела, сонца выпетрала мой твар, пыл заляпіў вочы, але пазней гэтае падарожжа па вавілонскіх прасторах уяўлялася мне незабыўнаю залатой часінай, і я шмат аддаў бы з маёмасці й ведаў, набытых за сваё жыццё, каб толькі яшчэ раз прайсці тымі дарогамі — маладым, бадзёрым і нястомным, і каб побач са мною ішла Мінея са сваімі зіхоткімі, як месячнае святло на вадзе, вачыма. Па тых дарогах следам за намі неадрыўным ценем ішла смерць, — і каб нас злавілі ды аддалі ў рукі цара, яна не была б лёгкая. Але я тады пра смерць нават не ўспамінаў і не баяўся яе, хоць і жыццё было мне дарагое, як ніколі раней, бо побач была Мінея і я мог глядзець, як яна танцуе на гліняных таках, якія, каб не было пылу, палівалі вадой. Дзякуючы ёй я забыўся на ганьбу

і злачынства сваёй маладосці, і кожную раніцу, калі мяне сваім мыканнем будзілі каровы, любаваўся, як падобнае да залатога чоўна сонца плыве па сінюткім небасхіле, і маё сэрца ўзлятала ў неба, як лёгкая птушка.

Нарэшце мы дабраліся да выпаленай сонцам мяжы Вавілоніі, дзе тамтэйшыя пастухі, палічыўшы нас за беднякоў, паказалі нам бяспечныя і патаемныя сцяжыны, і мы ў выніку трапілі ў Мітанні і ў Нахарын, не заплаціўшы мыту і не спаткаўшы ні мітаннійскіх, ні вавілонскіх памежнікаў. І толькі прыйшоўшы ў вялікі горад, дзе нас ніхто не ведаў, мы пайшлі ў гандлёвыя рады, купілі сабе новую вопратку, памыліся і апрануліся належным чынам, а потым пасяліліся ў гасцёўні для багатых падарожнікаў. Але золата ў мяне заставалася мала, і я вырашыў затрымацца ў гэтым горадзе, каб лекаваннем зарабіць трошкі грошай. Хворых было шмат, і працы ў мяне было хоць адбаўляй, бо жыхары Мітанні па-ранейшаму вызначаліся сваёй цікаўнасцю і любілі ўсё новае і замежнае. Сваёй прыгажосцю Мінея звяртала на сябе ўвагу на вуліцах, і шмат якія гандляры хацелі яе купіць у мяне. Каптах адпачываў ад дарожных нягодаў, таўсцеў і сустракаўся са шматлікімі жанчынамі, якія былі ў захапленні ад ягоных баек. Напіўшыся віна ў дамах уцех, ён з асалодай распавядаў, як быў уладаром Вавілоніі, а слухачы рагаталі, пляскалі сябе па каленях і казалі: «Такога хлуса мы яшчэ ніколі не чулі. Язык у яго даўгі і звілісты, бы тая рэчка».

Так ішоў час, пакуль у вачах Мінеі, калі яна глядзела на мяне, я не пачаў заўважаць неспакой, па начах яна не магла заснуць і плакала. Нарэшце я ёй сказаў:

— Я ведаю, што ты сумуеш па сваіх радзіме і богу, і наперадзе нас чакае далёкая дарога. Аднак спачатку мне трэба пабываць у землях хетаў, але чаму — я, на жаль, не магу табе адкрыць. Я ўжо распытваў гандляроў і падарожнікаў у заезных дварах і шмат даведаўся. Праўда, звесткі ў іх супярэчлівыя — кажуць, што з краіны хетаў можна напрасткі даплысці да Крыта, але я не зусім упэўнены, і таму, калі хочаш, магу адвезці цябе на сірыйскае ўзбярэжжа, адкуль штотыднёва на Крыт ідуць караблі. Разам з тым, мне казалі, што зусім хутка ў краіну хетаў адпраўляецца пасольства са штогоднімі падарункамі хецкаму цару ад цара Мітанні. Мы маглі б далучыцца да таго пасольства і шмат чаго пабачыць і зведаць, чаго раней не ведалі, бо другі такі выпадак надарыцца толькі праз год. Але я не хачу вырашаць сам, давай зробім так, як ты скажаш.

У сваім сэрцы я ведаў, што падманваю яе, бо мой намер трапіць у зямлю хетаў тлумачыўся толькі маім жаданнем як мага долей утрымаць яе побач з сабой і неяк адцягнуць нашу ростань, але яна адказала:

— Хто я такая, каб змяняць твае планы? Я з задавальненнем паеду туды, куды паедзеш ты, бо ты ж абяцаеш урэшце адвезці мяне на радзіму. Апроч таго, я ведаю, што на ўзбярэжжы ў краіне хетаў юнакі і дзяўчаты таксама танчаць перад быкамі, а гэта значыць, што адтуль недалёка да Крыта. У хетаў я змагу папрактыкавацца ў танцах, бо хутка ўжо год, як я не танчыла перад быком, і баюся, што ён уздзене мяне на рог, калі я паспрабую зрабіць гэта на Крыце.

Я адказаў:

— Наконт быкоў я нічога не ведаю, але мушу цябе папярэдзіць, што хеты, калі верыць чуткам, — народ злы і падступны, а таму ў дарозе нам можа пагражаць усякая небяспека і нават смерць. Таму я лічу, што табе лепей застацца ў Мітанні і чакаць, пакуль я вярнуся. Я дам табе золата, і ты будзеш жыць гэты час у дастатку.

Але Мінея запярэчыла:

— Ты кажаш неразумныя словы, Сінухе. Куды пойдзеш ты, туды пайду і я, а калі нас напаткае смерць, то я буду журыцца не па сабе, а па табе.

Такім чынам я вырашыў далучыцца да царскага пасольства і спакойна дабрацца да зямлі хетаў. Пачуўшы пра новае падарожжа, Каптах пачаў лаяцца і заклікаць багоў у дапамогу:

— Мы толькі пазбеглі смерці, а мой гаспадар зноў шукае сабе пагібелі. Кожнаму вядома, што хеты горшыя за дзікіх, што яны ядуць чалавечыну, выколваюць чужаземцам вочы і прымушаюць іх круціць цяжкія жорны. Відаць, багі наслалі на майго гаспадара шаленства, і ты, Мінея, таксама звар'яцела, калі падтрымліваеш яго! Лепш бы нам звязаць яго, замкнуць у пакоі ды паставіць пад калені п'яўкі, каб ён супакоіўся. Святы скарабей, толькі я зноў ад'еўся — як немаведама чаго зноў адпраўляйся ў небяспечную дарогу! Хай будзе пракляты той дзень, калі я з'явіўся на свет, каб цярпець штукарствы свайго звар'яцелага гаспадара.

Каб супакоіць раба, я мусіў адлупцаваць яго палкай, а калі ён змоўк, я сказаў:

— Хай будзе так, як ты хочаш. Я пашлю цябе адсюль наўпрост у Сіміру і заплачу за тваю дарогу. Будзеш там даглядаць мой дом, пакуль я не вярнуся, бо мне сапраўды надакучылі твае прыхамаці.

Але Каптах і тут закрычаў:

— Як гэта можна, каб мой гаспадар паехаў у хецкія землі ды без мяне?! Хіба я мог бы адпусціць нованароджанае ягняці ў сабачую будку?! Такога злачынства маё сэрца не вытрывае! Я пытаюся ў цябе толькі адно, і адкажы мне шчыра: ці па моры туды трэба ехаць?

Я адказаў, што, наколькі мне вядома, паміж Мітанні і зямлёй хетаў мора няма, хоць кажуць рознае, і дакладнай адлегласці ніхто не ведае. У адказ на гэта Каптах усклікнуў:

— Хай будзе блаславёны наш скарабей! Бо калі б давялося ехаць па

моры, я не змог бы суправаджаць цябе, бо ты ведаеш, што я пакляўся багам ніколі не ступаць на мост карабля. Нават дзеля цябе і гэтай бясстрашнай Мінеі, якая паводзіць сябе, як юнак, я не змог бы парушыць сваю клятву.

Сказаўшы гэта, ён пачаў збіраць нашыя рэчы і рыхтавацца ў дарогу, і я спакойна даверыў яму гэты клопат, бо ён тут разумеў, што і як трэба, лепш за мяне.

**3**

Я ўжо расказваў, што чуў у Мітанні пра хетаў, а зараз распавяду, што ўбачыў на свае вочы. Не ведаю, праўда, ці паверыць хто маім расказам, бо хецкае ўладнае панаванне ў свой час прымусіла скалануцца ўвесь свет ад жаху і людзі шмат чулі пра злыя справы, якія чыніліся хетамі. Але і ў хетаў ёсць нешта добрае, вартае пераймання, хоць народ гэта небяспечны і яго звычаі рэзка адрозніваюцца ад звычаяў усяго свету. У іхняй краіне, насуперак таму, што пра яе расказваюць, няма беспарадку і бязладдзя, там пануе дысцыпліна і парадак, а таму, калі хто падарожнічае па хецкіх гарах, маючы царскі дазвол, той знаходзіцца ў большай бяспецы, чым падарожнікі ў іншых краінах, а калі ён трапляе ў бяду ці на яго нехта нападае ў дарозе, то ён атрымлівае ад цара хетаў добрую кампенсацыю за страты. Калі ж такі падарожнік гіне ад рукі хета, дык родзічам выплачваецца віра, памер якой залежыць ад таго, наколькі каштоўнае было жыццё нябожчыка.

Таму падарожжа з царскім пасольствам прайшло без прыгодаў, і я не маю распавесці пра тую вандроўку нічога асаблівага, — хіба толькі, што нас увесь час суправаджалі хецкія баявыя калясніцы, і хеты клапаціліся, каб на кожным прыпынку мы мелі, што піць і есці. Хеты — вельмі загартаваны народ, яны не баяцца ні спёкі, ні холаду, бо жывуць у пустэльных, неўрадлівых гарах і з дзяцінства прызвычайваюцца цярпець усе цяжкасці такога жыцця. Таму яны не баяцца смерці ў бітвах і не шкадуюць сябе, яны з пагардай ставяцца да слабых народаў і скараюць іх сваёй сіле, а вось моцных яны паважаюць і шукаюць з імі сяброўства.

Хецкі народ падзяляецца на шматлікія плямёны і кланы, якімі кіруюць мясцовыя князькі, у сваю чаргу, цалкам падпарадкаваныя вялікаму цару, што жыве ў горадзе Хатушаш, высока ў гарах. Хецкі цар — гэта вярхоўны жрэц, вярхоўны ваявода і вярхоўны суддзя, такім чынам ён трымае ў сваіх руках усю — як зямную, так і нябесную — уладу, і хоць царская ўлада лічыцца бязмежнай паўсюдна, я не ведаю іншага ўладара, чыя ўлада была б настолькі неабмежаваная. У іншых краінах, як і ў Егіпце, жрацы і суддзі абмяжоўваюць царскую ўладу значна больш, чым мы думаем.



Хачу распавесці пра горную сталіцу вялікага цара хетаў, хоць ведаю, што мне не дадуць веры, калі хто-небудзь прачытае маю кнігу.

Падарожнічаючы па выпаленых прасторах памежжа, ахоўванага атрадамі варты, якая здабывае свой хлеб рабункам суседніх краінаў, уявіць багацце хетаў немагчыма. Улетку іх суровыя горы спапяляе сонца, а ўзімку, як кажуць, пакрывае белы халодны пух. Кажуць, той пух падае на зямлю з неба і цалкам яе пакрывае, а пад лета ён растае і ператвараецца ў ваду. Хоць я і не зразумею, як пух здольны ператварыцца ў ваду, але ж у хецкіх землях я бачыў гэтулькі цудаў, што магу паверыць і ў гэта. Дарэчы, я на свае вочы бачыў, што вяршыні некаторых гор былі пакрытыя гэтым белым пухам.

На выпаленым сонцам сірыйскім памежжы стаіць магутная крэпасць Каркеміш, чые муры зробленыя з вялізарных каменных глыбаў і спрэс пакрытыя жахлівымі карцінамі. У гэтай крэпасці збіраюць мыт з гандляроў і караванаў, якія перасякаюць землі хетаў, і з гэтага мыту складаецца вялікае багацце краіны, бо Каркеміш стаіць на скрыжаванні караванных шляхоў. Хто бачыў, як у ранішніх прыцемках над раўнінай страшнай гарой узвышаюцца чорныя жахлівыя муры, як з іх з карканнем узлятаюць чароды крумкачоў, кіруючыся пакляваць чалавечыя чарапы і косткі, — той, безумоўна, паверыць маім расказам пра хетаў. Караванам і гандлярам хеты дазваляюць перасякаць свае землі толькі па строга вызначаных шляхах, уздоўж якіх знаходзяцца толькі бедныя вёскі з невялічкімі латкамі апрацаванай зямлі, а калі хто зверне з дазволенага шляху, дык яго адразу хапаюць, яго тавар забіраюць, а самога пасылаюць у рабства на руднікі.

На маю думку, галоўнае багацце хетам якраз даюць руднікі, дзе працуюць рабы ды зняволеныя. Апроч медзі і золата, там выкопваюць яшчэ нейкі невядомы метал — ён адлівае шэрым і сінім і цвярдзейшы за ўсе астатнія, што мы ведаем. Таму ён такі каштоўны, што ў Вавілоніі з яго робяць аздобы, але хеты пускаюць яго толькі на зброю. Як апрацоўваюць гэты метал, я не ведаю, бо ў іншых краінах яго няма, дый у агні ён не плавіцца. Апроч руднікоў, у хецкіх горных далінах ёсць светлыя ручаіны і сады, а на ўзбярэжжы вырошчваюць вінаград. Але самае вялікае багацце хетаў, якое кідаецца ў вочы, — гэта іх статкі гавяды.

Звычайна, калі кажуць пра вялікія гарады, дык найперш называюць Вавілон і Фівы, часам Ніневію, хоць мне не давялося там пабываць, але ніхто не называе Хатушаш — самы вялікі хецкі горад, асяродак усёй улады ў краіне, арлінае гняздо ў скалах над неабсяжнымі прасторамі, адкрытымі для драпежных ловаў хецкіх дружын. Памерамі гэты горад не саступае ні Фівам, ні Вавілону, а калі ўспомніць пра яго жахлівыя муры, складзеныя з вялізных каменных глыбаў, то магу сказаць, што гэты горад — самае вялікае дзіва, якое я сустрэў за свой доўгі жыццё-

вы шлях. Таямніца гэтага горада зберагаецца таму, што хецкі цар закрыў яго для чужаземцаў, і толькі паслы, якія прыносяць цару дарункі, могуць пабываць у Хатушашу, праўда, таксама пад пільным наглядам варты. Таму жыхары горада неахвотна размаўляюць з чужаземцамі, абмяжоўваючыся толькі кароткімі адказамі на пытанні: «Не ведаю», «Не разумею»,— прычым баязліва азіраюцца, асцерагаючыся, каб ніхто не заўважыў, што яны размаўляюць з чужынцам. Разам з тым, па сваёй прыродзе яны даволі добразычлівыя і дружалюбныя, і могуць з задавальненнем і цікаўнасцю разглядваць прыгожыя чужаземныя строі, ідучы за табою па вуліцы.

Хецкія знатныя людзі і чыноўнікі апрануты гэтак сама раскошна, як і чужаземныя і царскія паслы, яны носяць стракатыя ўборы з залатымі і срэбнымі ўзорамі, падобнымі да зубцоў каменных муроў і сякераў, якія ўяўляюць сабой сімвалы іх багоў. На святочных строях часта ткуць фігуры крылатага сонца. Яны абуваюцца ў боты з мяккай скуры з высока загнутымі насамі, носяць спічастыя шапкі, і рукавы ў іх адзення шырокія і спускаюцца да зямлі, а сама вопратка мае шмат аборак і такая доўгая, што аж валачэцца па зямлі. У адрозненне ад жыхароў Сірыі, Мітанні і Вавілоніі, яны, як і егіпцяне, голяць твары, а многія знатныя людзі голяць і галовы, пакідаючы на макушцы чуб, які заплятаюць у касу. Падбароддзі ў іх масіўныя, а насы шырокія і падобныя да дзюбы драпежных птушак.

Знаць і чыноўнікі, што жывуць у горадзе, вызначаюцца сваёй таўшчынёй, іх твары ільсняцца, бо яны, як усе багацеі ў гарадах, прызвычаеныя да раскошнага жыцця.

Воіны ў іх не атрымліваюць платы, як гэта прынята ў цывілізаваных краінах, бо ў хетаў усе — воіны; людзі ў іх дзеляцца ў залежнасці ад вайсковых чыноў. Вышэй за ўсіх стаяць тыя, хто мае грошы купіць баявую калясніцу, і ад іх патрабуецца не знатнасць роду, а ўменне валодаць зброяй. Таму ўсе хецкія мужчыны, і знатныя ў тым ліку, штогод збіраюцца, каб папрактыкавацца ў ваенным майстэрстве. Хатушаш, у адрозненне ад іншых вялікіх гарадоў, горад не гандлёвы, у ім шмат розных майстэрняў ды кузняў, адкуль на вуліцы даносіцца няспынны ляскат металу, бо там куюць наканечнікі дзідаў і стрэлаў, вырабляюць колы і спіцы баявых калясніцаў.

Хецкія суды таксама адрозніваюцца ад судоў іншых народаў, і іх прысуды здаюцца дзіўнымі і нават дзікімі. Так, калі які-небудзь князёк учыніць змову супраць цара, каб заняць царскае месца, яго не забіваюць, а пасылаюць у аддаленыя мясціны здабываць сабе славу і выпраўляцца. У іх мала злачынстваў, ад якіх нельга адкупіцца золатам: напрыклад, калі адзін чалавек заб'е другога, дык забойца можа заплаціць віру родзічам нябожчыка і пазбягае іншага пакарання. Калі жанчына



сыходзіць ад мужа да другога мужчыны, яе не караюць, але другі мужчына павінен заплаціць былому мужу. Калі ў сям'і няма дзяцей, такі шлюб афіцыйна скасоўваецца, бо цар патрабуе ад сваіх падданых шматдзетнасці. Калі хто-небудзь заб'е чалавека ў бязлюднай мясцовасці, то павінен заплаціць менш, чым за забойства ў горадзе на вачах у людзей, бо на думку хетаў, чалавек, які пайшоў адзін у бязлюднае месца, мімаволі выклікае ў другога чалавека жаданне яго забіць, каб набыць практыку ў рамястве забойства. Ёсць толькі два злачынствы, за якія людзей асуджаюць на смерць, і гэта найлепшым чынам паказвае варварства іх закону. Брат і сястра пад страхам смерці не могуць узяць шлюб, і гэтак сама караюцца заняткі магіяй без дазволу, а каб атрымаць такі дазвол, трэба спачатку паказаць сваё майстэрства перад правіцелямі.

Каля я прыехаў у краіну хетаў, іх вялікі цар Супілуліума правіў ужо дваццаць восем гадоў, і толькі яго імя ўжо наводзіла жах,— пачуўшы яго, людзі, кланяліся, уздымалі рукі і гучна ўсхвалялі свайго цара, які навёў парадак у краіне і пакарыў шмат народаў. Ён жыў у каменным палацы пасярод горада, і пра яго нараджэнне і незвычайныя ваенныя чыннасці хадзіла безліч паданняў і чутак, як пра кожнага вялікага ўладара, але мне ўбачыць яго не давялося, як не давялося і паслам Мітанні, якім дазволілі толькі пакінуць дарункі на падлозе ў зале прыёмаў, а царская варта пры тым пацяшаліся і ўсяляк пасміхаліся з іх.

Спачатку мне здавалася, што лекару ў Хатушашу рабіць няма чаго, бо я ведаў, што хеты саромеюцца сваіх захворванняў, а слабых дзяцей, калек і хворых рабоў забіваюць. На мой погляд, хецкія лекары не вызначаліся ведамі і майстэрствам. Аднак яны ўмелі вельмі добра лячыць раны, пераломы і ўцятыя месцы, мелі добрыя сродкі супраць горных хваробаў, якія хутка збівалі жар у чалавека. Гэтаму я ў іх навучыўся. Але той, хто захворваў небяспечнай для жыцця хваробай, лічыў за лепшае памерці, а не вылечыцца, баючыся застацца бездапаможным калекам. Хеты не баяліся смерці — застацца цялесна нямоглым ім было значна страшней.

Але ў цэлым усе вялікія гарады аднолькавыя, а багацеі ды знаць ва ўсіх краінах падобныя. Таму, калі слава аб маім лекарскім майстэрстве разляцелася па горадзе, да мяне ў гасцёўню пачалі прыходзіць цэлыя натоўпы хетаў, якім карцела вылечыцца, хоць кожны прыходзіў з галавою захутаўшыся і ўпоцемках. За сваё выздараўленне яны давалі мне багатыя дарункі, і ў выніку я зарабіў шмат срэбра і золата, хоць спачатку думаў, што пакіну Хатушаш жабраком. У маім поспеху была вялікая заслуга Каптаха, які па сваёй звычцы бавіў час у корчмах, лаўках і паўсюль, дзе толькі збіраліся людзі,— ён расхвальваў маё лекарскае майстэрства на ўсіх мовах, якія ведаў, а слугі расказвалі пра мяне гаспадарам.

Хецкія парадкі былі вельмі строгія, і знатны чалавек не мог з'явіцца на вуліцы п'яны, каб не зняславіць сябе, але як і паўсюдна ў вялікіх гарадах, знатныя і багатыя людзі тут шмат пілі, і мне нярэдка даводзілася лячыць іх ад хваробаў, выкліканых залішнім спажываннем віна, і пазбаўляць ад дрыжыкаў у руках, калі неўзабаве ім трэба было паўстаць перад сваім грозным царом. А тым, каму здавалася, што іх цела грызуць пацукі, я дапамагаў супакаяльнымі сродкамі і ваннамі. Таксама я дазваляў Мінеі забаўляць іх сваімі танцамі,— гэта прыводзіла іх у шалёнае захапленне, і яны рабілі ёй багатыя падарункі, не патрабуючы нічога больш, бо хеты — шчодрыя з тымі, хто ім падабаецца. Такім чынам я змог шмат з кім пасябраваць і задаваць такія пытанні, якія не мог бы задаць адкрыта ў іншым выпадку. Больш за ўсё звестак я атрымаў ад загадчыка царскіх архіваў, які гаварыў і пісаў на многіх мовах, вёў усю царскую перапіску з іншымі краінамі і не вельмі прытрымліваўся строгіх хецкіх звычаяў. Я пераканаў яго, што навекі выгнаны з Егіпта і ніколі не змагу ўжо туды вярнуцца, што я вандрую па розных краінах, збіраю золата і веды, і не маю на мэце нічога іншага. Таму ён цалкам даверыўся мне і шчыра адказваў на ўсе пытанні, тым часам як я частаваў яго віном і дазваляў Мінеі перад ім танчыць. Аднойчы я спытаў у яго:

— Чаму Хатушаш закрыты чужынцам, а гандляры і караваны могуць праходзіць праз вашу зямлю толькі строга вызначанымі шляхамі? Бо ваша зямля такая багатая, дый горад па колькасці цікавых мясцін і багаццю не саступіць ніякаму іншаму? Ці не лепей было б, каб іншыя народы даведаліся пра вашу моц і маглі заслужана ўславіць ваш край?

Ён з задавальненнем сербануў віна і, гледзячы на стройны Мінеін стан, адказаў:

— Наш вялікі цар Супілуліума, калі ўзыходзіў на трон, сказаў: «Дайце мне трыццаць гадоў, і я зраблю зямлю хетаў самай магутнай краінай, якая толькі існавала на зямлі». Гэты тэрмін ужо на зыходзе, і я думаю, хутка ўвесь свет даведаецца пра краіну хетаў значна больш, чым таго хацеў бы.

— Але,— сказаў я,— у Вавілоне я бачыў шэсцьдзесят разоў па шэсцьдзесят і яшчэ раз па шэсцьдзесят воінаў, якія праходзілі перад сваім царом, а калі пабеглі, дык іхні тупат грукацеў, як навальніца на моры. А тут я бачыў толькі дзесяць разоў па дзесяць воінаў і не разумею, навошта вы трымаеце ў горадзе баявыя калясніцы, якія майструюць у вашых кузнях, бо калясніцы прыдатныя толькі для бітвы на раўніне.

Ён засмяяўся і, хітра прыжмурыўшыся, адказаў:

— Як лекар, ты занадта цікаўны, Сінухе-егіпцянін. А можа мы зарабляем свой бядняцкі хлеб, прадаючы баявыя калясніцы царам раўнінных краінаў?..



— Я гэтаму не паверу,— дзёрзка запярэчыў я.— Наколькі я вас ведаю, такое проста немагчыма: воўк не аддасць зайцу свае кіпцюры і зубы.

Ён гучна зарагатаў і, хлопнуўшы сябе па калене так, што ажно віно пралілося з кубка, сказаў:

— Трэба будзе пераказаць гэта цару, і хто ведае, можа, ты яшчэ дажывеш да таго часу, калі ўбачыш вялікае паляванне на зайцоў, бо законы краіны хетаў зусім не такія, як законы раўнінных народаў. Калі я правільна разумею, у вашых краінах багатыя пануюць над беднымі, а ў нас моцныя — над слабымі, і думаецца мне, што свет так хутка даведаецца пра новае вучэнне, што ты, Сінухе, не паспееш пасівець.

— Фараон Егіпта таксама знайшоў новага бога,— адказаў я, прыкінуўшыся дурненькім.

— Я пра гэта ведаю,— сказаў ён.— Я чытаю ўсю перапіску свайго цара: яго новы бог вельмі любіць мір і абвяшчае, што паміж народамі няма супярэчнасцяў, якія немагчыма было б уладкаваць мірам. Мы нічога не маем супраць такога бога, наадварот, мы вельмі яго шануем, пакуль ён пануе ў Егіпце і на раўнінах. Ваш фараон праслаў нашаму вялікаму цару егіпецкі сонечны крыж, які ён назваў сімвалам жыцця. Што ж, можа быць, яму ўдасца пражыць яшчэ некалькі мірных гадоў, калі ён будзе прысылаць нам шмат золата, каб мы маглі назапасіць яшчэ больш медзі, жалеза і зерня, пабудаваць новыя кузні і нарабіць яшчэ больш баявых калясніцаў. Наш уладар сабраў у Хатушашу найлепшых збройных майстроў і плаціць ім вялікія грошы, а нашто ён так робіць, думаю,— гэта ўжо не па розуму простаму лекару.

— Будучыня, якую ты прадракаеш, магла б узрадаваць крумкачоў ды шакалаў,— адказаў я,— але мяне яна не радуе і нічога смешнага я тут не знаходжу. Я бачыў, што вашыя жорны круцяць людзі з выкалатымі вачыма, а пра вашу жорсткасць у памежных краінах складаюць легенды. Я не збіраюся іх тут табе паўтараць, каб не абразіць твае вушы, але ж, павер, адукаванаму народу такое зусім не пасуе.

— А што такое адукацыя ці асвета? — спытаў ён у адказ і падліў сабе віна.— Мы таксама ўмеем чытаць і пісаць і збіраем у сваім архіве гліняныя таблічкі. А вочы палонным, якім да скону наканавана круціць жорны, мы выколваем па сваёй дабрыні, бо гэта вельмі цяжкая праца, і яна падалася б ім яшчэ цяжэйшай, каб яны бачылі вольнае неба, зямлю і птушак у паднябессі. Гэта выклікала б у іх марныя думкі, і нам давялося іх б забіваць пры спробах уцёкаў. Калі нашыя воіны каму і ламаюць рукі ці здзіраюць з галавы скуру, дык робяць гэта не па прыроднай жорсткасці. Ты сам бачыў, што ў сябе дома мы дружалюбныя і гасцінныя людзі, мы любім маленькіх дзяцей і маленькіх звяркоў, мы нават не б'ём сваіх жонак. А жорсткасць мы праяўляем дзеля таго, каб

выклікаць страх і жах у варожых народаў, каб у патрэбны час яны скарыліся нам без бою, не асуджаючы сябе на дарэмныя пакуты і спусташэнне сваіх земляў. Нам зусім не даспадобы людскія пакуты і разбурэнне, наадварот, мы хочам, каб зваяваныя намі краіны былі як мага меней спустошаныя, а гарады дасталіся б нам цэлымі, а не зруйнаванымі. Вораг, які баіцца, ужо напалову пераможаны.

— Ці ж усе народы — вашыя ворагі? — з'едліва спытаўся я. — Няўжо ў вас зусім няма сяброў?

— Нашы сябры — усе народы, якія скараюцца перад намі і плацяць нам даніну, — павучальна сказаў ён. — Мы дазваляем ім жыць паводле іхніх законаў і нават не вельмі абражаем іхніх багоў і звычаі, — дастаткова таго, што яны падпарадкуюцца нам. Нашы сябры таксама ўсе народы, якія не жывуць побач з намі, пакуль яны не робяцца нашымі суседзямі, бо тады мы заўважаем у іх розныя абразлівыя для нас рысы, якія перашкаджаюць мірнаму суіснаванню і вымушаюць нас ваяваць з імі. Так было дагэтуль, і так будзе і пасля, наколькі я ведаю нашага вялікага цара.

— А хіба вашы багі нічога на гэты конт не кажуць? — спытаўся я. — У іншых краінах багі часта вызначаюць, што правільна, а што — не.

— А што правільна і што няправільна? — у сваю чаргу спытаў ён. — Для нас правільна тое, чаго хочам мы, і няправільна тое, чаго хочуць суседнія народы. Гэта вельмі простае вучэнне, яно дае вялікую палёгку ў жыцці і кіраванні краінай і, думаю, не вельмі адрозніваецца ад вучэння багоў у раўнінных краінах, бо, калі я правільна разумею, і на раўнінах багі лічаць правільным тое, чаго хочуць багатыя, і няправільным тое, чаго хочуць бедныя. А калі ты цікавішся нашымі багамі, то я скажу табе, што адзіныя нашы багі — гэта Маці Зямля і Неба, і ў іх гонар мы кожную вясну ладзім святы, калі першы дождж з неба апладняе зямлю, падобна таму, як семя мужчыны апладняе жанчыну. Пад час гэтых святаў наш характар мякчэе і робіцца не такім жорсткім, бо зямля ўмацоўваецца дзецьмі і раннімі шлюбамі. Як і ў іншых народаў, прасталюдзіны маюць шмат сваіх бажкоў, але на іх можна не звяртаць увагі, бо для дзяржавы яны не маюць ніякага значэння.

— Чым больш я чую пра багоў, тым больш яны мне надакучваюць, — сумна сказаў я, але загадчык царскіх архіваў толькі засмяяўся і адкінуўся на падушкі, ківаючы чырвоным ад віна носам.

— Калі ты чалавек празорлівы, то застанешся ў нас і будзеш служыць нашым багам, бо іншыя народы ўжо адпанавалі сваё, а цяпер настае наша чарга, прыходзіць наш час. Нашы багі вельмі магутныя, і завуць іх Улада і Страх, мы паставім ім вялікія алтары з выбеленых чалавечых чарапоў. Я нават не забараняю табе расказваць пра гэта прадстаўнікам любых іншых народаў, калі ты будзеш такі дурны, што пакінеш нашыя землі, — табе ўсё адно ніхто не паверыць, бо ўсе лічаць, што хеты — брудны і слабы народ пастухоў, якія любяць толькі свае пашы ды жывуць у гарах разам са сваімі козамі ды авечкамі. Ну, ды зрэшты, я ўжо прабавіў з табой шмат часу, і мне пара на службу — пара рабіць сваю справу: наганяць страх на пісарчукоў ды адціскаць выяву паходні на мяккай гліне, запэўніваючы ўсе народы ў нашых добрых намерах.

Ён пайшоў, і тым жа вечарам я сказаў Мінеі:

— Я дастаткова даведаўся пра зямлю хетаў і пабачыў усё, што хацеў пабачыць. Цяпер, калі на тое будзе воля багоў, мы з табой можам адсюль паехаць, бо тут смярдзіць трупамі і маё горла перацiскае ад такога смуроду. Пакуль мы тут, смерць лунае нада мной неадступным ценем, бо іх цар адразу пасадзіць мяне на кол, калі даведаецца, што мне ўдалося выведаць. Калі яны караюць чалавека смерцю, то не вешаюць яго на гарадскім муры, як робяць усе цывілізаваныя народы, а садзяць небараку на кол, і ён так сядзіць жывы, з прапоратымі вантробамі, пакуль сканае. Таму, пакуль я буду ў гэтай краіне, жывот мне будзе ўвесь час балець. А ўвогуле, пасля таго, што я тут пабачыў, я пачынаю думаць, што лепш бы мне нарадзіцца крумкачом, а не чалавекам.

З дапамогай сваіх знатных наведнікаў я атрымаў дазвол дабрацца да ўзбярэжжа і сесці на карабель, каб пакінуць краіну, хоць мае хворыя былі вельмі засмучаныя маім ад'ездам. Яны ўгаворвалі мяне застацца, кажучы, што калі я застануся і буду іх лекаваць, то праз некалькі год стану вялікім багатыром. Але ніхто з іх не спрабаваў мяне затрымаць, а я, усміхаючыся, расказваў ім казкі, да якіх яны заўсёды былі вялікімі аматарамі, і ў выніку мы рассталіся сябрамі і нават на ад'езд я атрымаў шмат падарункаў. У вызначаны дзень мы пакінулі жахлівыя сцены Хатушаша, за якімі вырастала будучыня ўсяго свету. Мы праехалі вярхом на аслах паўз млыны, дзе рабы з выкалатымі вачыма круцілі цяжкія жорны, прамінулі цэлы шэраг пасаджаных на калы абапал дарогі магаў, бо ў Хатушашу магам лічыўся той, хто распаўсюджваў вучэнне не адобранае дзяржавай, а дзяржава прызнавала толькі адно вучэнне. Я прыспешваў сваіх спадарожнікаў, як мог, і праз дваццаць дзён мы дабраліся да партовага горада.

**4**

У гэты порт прыходзілі караблі з Сірыі і марскіх выспаў, ён быў падобны да ўсіх іншых партовых гарадоў, хоць хеты, якія ахоўвалі яго, бралі з караблёў даніну, а ў тых, хто пакідаў краіну, правяралі гліняныя таблічкі. Але ніхто, прыехаўшы на караблях, нават не імкнуўся пранікнуць углыб краіны, усе ведалі толькі гэты порт, а ў ім, як і ў іншых, былі такія самы таверны, дамы ўцехаў, дзяўчаты ды дзікая сірыйская музы-

ка, а таму ўсе мараплаўцы адчувалі сябе тут, як дома, і не надта спяшаліся адплываць назад, хоць для пэўнасці прыносілі ахвяры не толькі сваім багам, чые выявы капітаны трымалі ў сябе ў каютах, але задобрывалі і хецкіх — Маці Зямлю і Неба.

Зыкаючы, нібы цэлы рой мух, маракі збіраліся на ўзбярэжных і праз саломінкі смакталі з глякоў піва, так што вакол аднаго гляка можна было ўбачыць чалавек дзесяць-дванаццаць з розных краінаў свету. Хецкае піва было моцнае і так задурвала галаву, што па вечарах п'яныя гулякі ламаліся ў дзверы дамоў уцехаў, білі ў ганчарных майстэрнях гаршчкі, зацягвалі на караблі дзевак, білі адзін аднаго палкамі і рэзалі нажамі, пакуль падаспеўшая хецкая варта не супакойвала іх ударамі дзідаў. Але што б яны ні зрабілі, ім дазвалялася адкупіцца серабром або меддзю, так што яны загадзя ведалі колькі каштуе разбітая галава, ці выкалатае вока, ці адкрытая рана на целе. Таму яны рагаталі і, гучна перамаўляючыся, казалі: «Гэта добрая краіна, мы сюды яшчэ вернемся». А пабачыўшы мага, пасаджанага на паль, казалі: «Чарадзейства — паганая справа, гэты ёлуп сам сваім языком пракалоў сабе кішкі». А найбольш спрактыкаваных мараплаўцаў хеты пераваблівалі да сябе на службу, бо самі не былі марскім народам. Падобна таму, як у іншых краінах на службу наймаюць воінаў, хеты наймалі маракоў, лоцманаў, умелых карабельных будаўнікоў і ставіліся да іх вельмі добра. У выніку тыя ўголас пахваляліся сваімі добрымі заробкамі і выдатнымі ўмовамі, спакушаючы гэтым іншых маракоў уцякаць з караблёў і наймацца да хетаў таксама.

На пэўны час мы затрымаліся ў гэтым горадзе, хоць ён быў шумны і ў ім квітнела злачыннасць. Затрымка была выкліканая тым, што Мінея, аглядаючы той ці іншы карабель, што ішоў на Крыт, казала:

— Гэтае судна занадта маленькае і можа трапіць у бяду, а я не хачу зноў стаць ахвярай караблекрушэння.

А калі судна было большых памераў, яна казала:

— Гэта сірыйскі карабель, і я не хачу на ім плысці.

Пра трэці карабель яна казала:

— У гэтага капітана нядобрае вока — баюся, ён прадае сваіх пасажыраў у рабства ў далёкія краіны.

Такім чынам, мы ўсё больш затрымліваліся ў порце, але мяне гэта не турбавала — як лекар я меў тут багата працы: я зашываў і чысціў раны, ускрываў разбітыя чарапы. Маёй дапамогай карыстаўся і начальнік партовай аховы, які пакутаваў на хваробу, якая не дазваляла яму цешыцца з жанчынамі. Але гэтая хвароба была мне вядомая яшчэ з Сіміры, і я вылечыў начальніка зёлкамі сімірскіх лекараў. Яго ўдзячнасць была бязмежная — цяпер ён зноў мог весяліцца з партовымі дзеўкамі! А гэта быў яго прывілей, бо любая дзяўчына, што хацела займацца сваім



рамяством у порце, мусіла задарма ўлагоджваць начальніка і ягоных пісарчукоў. І тое, што ён доўга не мог карыстацца гэтаю дармавой паслугай, вельмі яго засмучала.

Калі я вылечыў яго, ён сказаў:

— Што я магу падараваць табе, Сінухе, за тваё вялікае майстэрства? Можа адважыць табе кавалак золата памерам з тое, што ты вылечыў?

Але я адказаў:

— Не трэба мне твайго золата. Лепш падары мне нож, што вісіць у цябе на поясе, а я, гледзячы на твой падарунак, буду цябе ўспамінаць.

— Гэта ж самы звычайны нож,— запярэчыў ён.— У яго і лязо не ўпрыгожанае бягучымі ваўкамі, і ручка не аздобленая серабром.

Але ён так казаў таму, што гэты нож быў зроблены з хецкага металу, а яго не дазвалялася ні дарыць, ні прадаваць чужаземцам. З гэтай прычыны я і не змог купіць такую зброю ў Хатушашу: я не хацеў здацца надта навязлівым і выклікаць падазрэнне. Такія нажы я раней бачыў толькі ў знатных людзей Мітанні. За іх давалі ў дзесяць разоў болей золата і ў чатырнаццаць разоў болей срэбра, чым яны важылі самі. Уладальнікі рэдкай зброі ні за што не хацелі яе прадаваць, бо такіх нажоў было вельмі мала ва ўсім вядомым свеце. Але ў хетаў такія нажы былі рэчамі не надта каштоўнымі, бо іх нельга было прадаваць чужынцам.

Начальнік аховы ведаў, што я хутка пакіну краіну, і вырашыў, што золата можна скарыстаць з большым толкам, чым аддаваць нейкаму, хай сабе і добраму, лекару. Таму ён урэшце падарыў мне нож, які быў такі востры, што галіцца ім было лепей, чым нажом крамянёвым, ён пакідаў сляды нават на медзі, і яго лязо пры гэтым амаль не псавалася. Я так радаваўся гэтаму падарунку, што вырашыў аздобіць яго серабром, як гэта рабілі знатныя людзі ў Мітанні. Начальнік аховы нікольк не шкадаваў аб сваім падарунку, і мы з ім моцна пасябравалі. Апроч таго, што я цалкам вылечыў яго ад паганай хваробы, я параіў яму таксама прагнаць з порта дзяўчыну, пацешыўшыся з якою ён захварэў, але мой сябар сказаў, што ўжо загадаў яе пасадзіць на паль, бо такую хваробу, вядома, можна наслаць толькі чарадзействам.

У тым горадзе, як і ва ўсіх тагачасных партах, было адмысловае поле, на якім пасвіліся дзікія быкі, і юнакі практыкаваліся, выпрацоўваючы свае спрыт і гнуткасць, у бойках з быкамі, скачучы цераз іх і шпурлялі вострыя дзіды. Мінея, пабачыўшы быкоў, прыйшла ў захапленне і захацела выпрабаваць сваё майстэрства. Там я ўпершыню ўбачыў, як яна танцуе перад дзікімі быкамі. Я ніколі не бачыў нічога падобнага, і калі глядзеў на яе, маё сэрца халадзела ад страху, бо дзікі бык страшнейшы за любога драпежніка і нават слана, які паводзіць сябе спакойна, пакуль яго не чапаеш. А ў быка доўгія і вострыя рогі, ён лёгка праціна імі чалавека наскрозь, падкідае ў паветра, а потым топча нагамі.

Мінея танцавала перад быкамі ў адной тонкай сукенцы і лёгка ад іх ухілялася, калі яны, угнуўшы голаў, з дзікім рыкам кідаліся на яе. Яе твар расчырванеўся, у гарачцы яна скінула з валасоў сетку, і тыя рассыпаліся на яе плячах. Мінеіны рухі былі такія хуткія, што вока не паспявала сачыць за імі. Калі бык кінуўся на яе, яна ўскочыла яму на галаву паміж рагамі, а потым, трымаючыся за рогі, стала быку на спіну, хутка перабіраючы нагамі ў паветры. Я глядзеў на Мінею, і гэта, напэўна, распаляла яе, бо пачалося такое, чаго мне не даводзілася бачыць ніколі, а калі б мне хто распавёў, я проста не паверыў бы. Я сядзеў на месцах для гледачоў і, бачачы яе штукарствы, абліваўся халодным потам, раз-пораз ускокваючы ад хвалявання на ногі, а тыя, хто сядзеў за мной, лаяліся і тузалі мяне за адзенне.

Каля Мінея выходзіла з поля, гледачы захоплена віталі яе. Ёй на шыю надзелі вялікі вянок з кветак, а юнакі падаравалі дзівосную чашу з чырвонымі і чорнымі фігурамі быкоў. Усе казалі: «Такога мы не бачылі ніколі». А капітаны, якія былі на Крыце, казалі, дыхаючы піўной парай: «Наўрад ці й на Крыце знойдзецца такая танцоўшчыца».

Калі Мінея падышла, сукенка на ёй была мокрая ад поту. Яна прытулілася да мяне ўсім сваім тонкім напружаным целам, і кожны яе мускул дрыжаў ад гордасці і стомы.

— Я не бачыў нікога, хто мог бы з табой параўнацца,— прызнаўся я.

Але на маім сэрцы ляжаў цяжкі камень, бо, гледзячы, як Мінея танцуе перад быкамі, я зразумеў, што яны і ёсць тое насланнё, якое нас з ёй разлучае.

Неўзабаве пасля таго ў порт прыйшоў карабель з Крыта, які быў не надта вялікі і не надта маленькі, капітан меў прыемны выгляд і гаварыў на роднай мове Мінеі. Таму яна сказала:

— Гэты карабель у поўнай бяспецы давязе мяне да радзімы і майго бога. Так што цяпер ты зможаш мяне пакінуць і парадавацца, што пазбавіўся ад клопатаў і непрыемнасцяў, якія я вымусіла цябе перажыць.

Але я адказаў:

— Ты добра ведаеш, Мінея, што я паеду за табою на Крыт.

Яна глядзела на мяне, і яе вочы былі падобныя да мора ў месячным святле. Урэшце яна сказала:

— Я не магу зразумець, Сінухе, навошта табе ехаць за мною? Карабель давязе мяне ў поўнай бяспецы, і са мною нічога не здарыцца.

— Ты ведаеш навошта гэтак жа добра, як я,— прамовіў я ў адказ.

Тады яна паклала мне на далонь свае тонкія моцныя пальцы і, уздыхнуўшы, сказала:

— Я шмат перажыла з табою, Сінухе, і бачыла шмат розных народаў, так што радзіма пачала мне здавацца далёкім прыгожым сном. І я ўжо нават не так сумавала па сваім богу. Рознымі пустымі адгаворкамі я адцягвала свой ад'езд, але цяпер, зноў патанцаваўшы перад быкамі, зразумела, што памру, калі ты авалодаеш мною.

— Так, так, так,— адказаў я.— Мы ўжо шмат з табой гаварылі пра гэта, і я не збіраюся цябе гвалціць. Мне не так ужо гэта важна: галоўнае, каб ты не разгневала свайго бога. А даць тое, на што ты не здольная, мне можа любая рабыня, як кажа Каптах.

Яе вочы адразу ўспыхнулі зялёным агнём, як у дзікай кошкі, яна ўсадзіла мне ў далонь пазногці і сярдзіта сказала:

— Вось і выпраўляйся да гэтых рабыняў, а мне брыдка на цябе глядзець. Бяжы да сваіх брудных дзевак, калі табе так хочацца. Але потым не паказвайся мне на вочы — я ведаць цябе не ведаю! А калі прыйдзеш, я тваім жа нажом выпушчу ўсю тваю кроў! Без чаго жыву я, пражывеш і ты!

Я ўсміхнуўся і сказаў:

— Але ніводзін бог не забараняў мне гэтага.

— А я забараняю, і толькі паспрабуй прыйсці да мяне пасля!

— Ды не хвалюйся, Мінея, мне смяротна надакучыла тое, што ты маеш на ўвазе. Уцехі з жанчынай — вельмі нудны занятак, і паспытаўшы яго, я больш не маю жадання паўтараць стары досвед.

— Твае словы глыбока абражаюць ува мне жанчыну,— зноў загарэлася яна.— Калі б ты хоць раз паспрабаваў гэта са мною, я наўрад ці табе надакучыла б.

Але ўжо як я ні стараўся ўлагодзіць Мінею прыемнымі словамі, дагадзіць ёй мне так і не ўдалося. Уначы яна не лягла са мной, як звычайна, а, забраўшы посцілку, пайшла ў другі пакой і, накрыўшыся з галавою, прыкінулася, быццам спіць. Аклікнуўшы яе, я з дакорам сказаў:

— Чаму ты больш не саграваеш мяне, Мінея, ты ж маладзейшая, а ночы цяпер халодныя, я ажно калачуся адзін на сваёй посцілцы.

— Ты ўсё хлусіш,— запярэчыла яна.— Я задыхаюся ад гарачыні! А калі табе халодна, дык загадай, каб табе ў пакой прынесці жарніцу, ці пакладзі пад бок кошку і не чапляйся больш да мяне.

Тады я сам пайшоў да яе і, датыкнуўшыся яе цела, упэўніўся, што яно гарыць агнём і, адначасова, дрыжыць пад коўдрай. Я прапанаваў:

— Ты, здаецца, захварэла. Дазволь мне цябе палячыць.

Але яна скінула нагамі коўдру, адштурхнула мяне і злосна сказала:

— Ідзі прэч! А мяне, спадзяюся, вылечыць мой бог.

Але праз нейкі час яна папрасіла:

— Дай мне якіх-небудзь лекаў, Сінухе, ато я расплачуся і задыхнуся.

Я даў ёй супакаяльнае зелле, і яна нарэшце заснула. А я не спаў, аж пакуль у ранніх прыцемках не забрахалі сабакі. Так настаў дзень нашага ад'езду, і я сказаў Каптаху:

— Складзі ўсе нашы рэчы: мы адплываем на Крыт, дзе радзіма Мінеі.

— Я прадбачыў гэта і не буду драць на сабе адзенне, бо потым яго зноў давядзецца зашываць,— адказаў Каптах.— А тваё каварства не вартае таго, каб я пасыпаў галаву попелам, хоць, калі мы пакідалі Мітанні, ты кляўся, што на караблях мы плаваць болей не будзем. Я пра ўсё даўно здагадаўся, гледзячы, як ты ходзіш па гавані ды шэпчашся з гэтай праклятай Мінеяй, якая ўрэшце канчаткова пагубіць нас! Я гэта скеміў адразу — яшчэ калі яна разбіла мне нос сваёю сандаляй, хоць тады я меў да яе самыя добрыя намеры. А цяпер я ўжо так зачарсцвеў душою, што нічога табе не скажу і нават не зарыдаю, каб не згубіць апошняе сваё вока. Я ўжо ўдосталь наплакаўся праз цябе ў розных краінах, куды цябе заносіла тваё праклятае шаленства. І я загадзя скажу табе, што гэта маё апошняе падарожжа: мне падказвае гэта мой бедны страўнік. Але я не буду цябе вінаваціць, хоць мне брыдка на цябе нават глядзець і ўдыхаць смурод тваіх чортавых зёлак. Рэчы я даўно склаў і гатовы пусціцца ў падарожжа, бо ты ж не можаш паплыць без нашага скарабея, а я без яго і па зямлі не дабяруся жывы да Сіміры. Таму я вымушаны ехаць з табою і скарабеем і памерці на караблі ці патануць у моры. Суцяшае мяне толькі, што ўсё гэта ты ўжо напісаў сваёй палкай на маёй задніцы, калі купіў на рынку рабоў у Фівах.

Я здзівіўся такой пакорлівасці Каптаха, але потым заўважыў, што ён распытвае ў порце маракоў аб розных спосабах выратавання ў моры і купляе амулеты супраць марской хваробы. Перад нашым ад'ездам ён павешаў сабе на шыю ўсе гэтыя амулеты, папасціў, туга падперазаўся і напіўся гарачага дурманнага настою з розных траваў так, што калі мы ступілі на мост карабля, вочы ў яго былі, як у зваранай рыбіны. Ён няроўным голасам папрасіў тлустай свініны, бо маракі, пацяшаючыся, сказалі яму, што гэта найлепшы сродак супраць марской хваробы. Потым ён упаў на ложак і заснуў, сціскаючы ў адной руцэ свіны кумпяк, а ў другой — нашага скарабея. Начальнік аховы ўзяў нашы гліняныя таблічкі, весляры апусцілі вёслы ў ваду і павялі карабель з гавані. Так пачалося наша падарожжа на Крыт. Калі мы выйшлі з порта ў адкрытае мора, капітан прынёс ахвяры марскому богу і патаемным багам свайго карабля і загадаў падняць ветразі. Карабель нахіліўся, рэжучы марскія хвалі, а мой страўнік падскочыў аж да самага горла, бо бераг знік з вачэй і перад намі калыхалася толькі бязмежнае мора.

# ПАПІРУС ВОСЬМЫ
## Цёмны палац

### 1

Бязмежнае мора калыхалася наўкола, і ўжо шмат дзён мы не бачылі берагоў, але гэта не палохала мяне, бо са мною была Мінея, якая, удыхаючы свежае марское паветра, нібыта набіралася новай сілы, і яе вочы гарэлі месячным святлом, калі яна стаяла на носе карабля, падаўшыся ўперад, быццам сваім намаганнем хацела дапамагчы караблю рухацца хутчэй. Неба сінелася над намі, вецер не шалеў, а раўнамерна поўніў нашыя ветразі і гнаў карабель у патрэбным кірунку. Так казаў капітан і сумнявацца ў ягоных словах у нас не было ніякай прычыны. Я прывык да гайданкі і ўжо зусім ад яе не пакутаваў, хоць маё сэрца сціснулася, калі праз пару дзён белакрылыя марскія птушкі, якія кружылі над караблём, раптам зніклі. Замест іх карабель пачалі суправаджаць коні марскога бога дэльфіны, якія, адсвечваючы чорнымі спінамі, скакалі ў вадзе, і Мінея гучна крычала, вітаючы іх на сваёй мове, бо яны неслі ёй прывітанні ад яе бога.

Мора не было пустэльняй, і праз некалькі дзён мы сустрэліся з крыцкім ваенным караблём, барты якога былі абшытыя меднымі лістамі. Яго каманда, упэўніўшыся, што мы не піраты, радасна нас вітала і дружалюбна ўзняла над мачтаю вымпел. Каптах тым часам ужо ачомаўся і, адчуўшы, што гайданка на яго не дзейнічае, пачаў выхваляцца перад маракамі сваімі вандраваннямі па розных краях. Ён распавёў гісторыю пра падарожжа з Егіпта ў Сіміру, калі на карабель наляцела страшэнная бура і ніхто за выключэннем яго самога ды капітана не мог нічога есці і толькі апаражняў свой страўнік за падветраны борт. Ён расказаў пра драпежных марскіх страшыдлаў, якія ахоўвалі вусце Ніла і праглыналі цалкам рыбацкія лодкі, якія выходзілі занадта далёка ў мора. А маракі распавядалі яму ў адказ казкі пра слупы, што падпіраюць небакрай, пра марскіх дзеваў з рыбінымі хвастамі, што падпільноўваюць мараплаўцаў, каб зачараваць і прымусіць цешыцца з імі. Ад гісторый пра марскіх драпежнікаў усе валасы ў Каптаха ўставалі дыбарам, ён спалохана прыбягаў і пачынаў тузаць мяне за адзенне. Свіны кумпяк яму такі давялося выкінуць у ваду, бо есці ён яшчэ не мог.

Мінея з кожным днём ажыўлялася, яе валасы ўзвіваліся на ветры, вочы зіхцелі, як месячны водбліск на моры, і ўся постаць была такая прыгожая і прывабная, што маё сэрца сціскалася ад тугі, калі я глядзеў

на яе і думаў, што хутка страчу. Без яе вяртанне ў Сіміру і ў Егіпет уяўлялася мне бессэнсоўным, дый усё маё жыццё мне цяпер здавалася попелам у роце,— калі я думаў, што хутка настане час, і яна больш не падасць мне рукі і ніколі не дакранецца да мяне сваім бокам. Капітан і маракі вельмі яе запаважалі, калі даведаліся, што яна танчыла перад быкамі і ёй выпаў кон, які даваў права ў час поўні ўвайсці ў боскі палац, і толькі караблекрушэнне перашкодзіла ёй гэта зрабіць. Аднак калі я спрабаваў распытаць іх пра іхняга бога, яны ўсе як адзін адказвалі: «Ды я не ведаю»,— або: «Я не разумею тваёй мовы, чужаземец». Я зразумеў толькі, што Крыцкі бог уладарыць над усім морам і з іншых выспаў да яго пасылаюць юнакоў і дзяўчат, каб яны танчылі перад божымі быкамі.

І вось настаў дзень, калі Крыт, як сіняя хмара, паўстаў перад намі з мора. Мараплаўцы радасна закрычалі, а капітан прынёс ахвяру марскому богу за тое, што ён падараваў нам спадарожны вецер і добрае надвор'е. Крыцкія горы і высокія берагі, пакрытыя аліўкавымі садамі, паўставалі перад маімі вачыма, як невядомая і чужая зямля, дзе мне было наканавана пахаваць сваё сэрца. Але Мінея глядзела на востраў, як на родную зямлю і плакала ад радасці, гледзячы на стромкія горы і ласкавыя зялёныя даліны, якія цешыліся ў абдымках мора. Пакуль спускалі ветразі, весляры падвялі карабель да прыстані, праслізнуўшы паўз судны, што стаялі на якары. Тут былі тысячы ваенных і гандлёвых караблёў з розных краінаў. Каптах паглядзеў на іх і прызнаўся, што ніколі не паверыў бы, каб яму сказалі, што на свеце ёсць такая колькасць караблёў. У гавані не было ні вежаў, ні сцен, ні ваенных умацаванняў, а горад пачынаўся адразу ад вады. Гэта сведчыла, што Крыт сапраўды цалкам пануе над морам, а Крыцкі бог — вельмі магутны.

## 2

А цяпер я павінен распавесці пра Крыт, Але не буду казаць, што думаю пра востраў ці яго бога, раскажу толькі пра тое, што бачыў: маё сэрца будзе маўчаць, а расказ будуць весці вочы. Найперш павінен прызнацца, што нічога прыгажэйшага і дзівоснейшага за Крыт я не бачыў, хоць аб'ездзіў нямала краінаў. Крыт паўстае перад маімі вачыма зіхоткім, як маціцовая ракавіна ці марская пена на беразе, ён зззяе ўсімі колерамі вясёлкі, якая адбіваецца ў свежай расе. Такая радасць жыцця і весялосць не сустракаецца нідзе ў свеце, нідзе людзі не могуць атрымліваць такую асалоду ад жыцця, як на Крыце, і кожны там робіць толькі тое, што ўзбрыдзе яму ў галаву, а таму з жыхарамі вострава вельмі цяжка заключаць дамовы ці верыць іх абяцанкам: усе — у залежнасці ад настрою — сёння абяцаюць адно, а праз пэўны час робяць зусім іншае. Тутэйшыя астраўляне кажуць толькі тое, што гучыць прыгожа і



прыемна, нават калі гэта няпраўда, бо ім падабаецца сама музыка слова. Я нават думаю, што ў іхняй краіне не ведаюць смерці,— дый увогуле ці ёсць у іх мове слова «смерць»: прынамсі, мне яго чуць не даводзілася,— а калі хто памірае, дык яго хаваюць употай, каб не псаваць настрой іншым. Я думаю, сваіх нябожчыкаў яны спальваюць, бо могілак на Крыце я нідзе не бачыў, апроч, хіба, старажытных царскіх магіл, складзеных з вялізных камянёў, ад якіх людзі стараюцца трымацца далей, бо не хочуць думаць пра смерць. Быццам так яе можна пазбегчы!

Іх мастацтва таксама дзівоснае і вычварнае, бо кожны мастак малюе, як сам захоча, і тое, што яму самому здаецца прыгожым, не зважаючы на каноны і правілы. Іх гарлачы і чашы ажно гараць яркімі фарбамі, па баках сасудаў у вадзе плаваюць, як жывыя, дзівосныя марскія звяры і рыбы, расцвітаюць кветкі, у паветры лётаюць матылькі, і ад усяго таго, чалавек, які прывык трымацца правілаў, адчувае нейкую занепакоенасць і думае, што ўсё гэта яму мроіцца.

Будынкі на Крыце не такія вялікія і магутныя, як храмы і палацы ў іншых краінах, бо тутэйшыя жыхары найперш думаюць пра раскошу і ўтульнасць і надаюць мала ўвагі ўнушальнаму выгляду сваіх збудаванняў. Яны любяць свежае паветра і чысціню, вокны ў будынках шырокія, памяшканні добра праветрываюцца, у кожным доме некалькі ванных пакояў, дзе досыць толькі адкрыць краны і са срэбных труб цячэ гарачая і халодная вада. У прыбіральнях таксама бруіцца вада, якая ўсё змывае і зносіць, і я нідзе не бачыў і не сустракаў такой раскошы, як у дамах на Крыце. І так жывуць не толькі знатныя людзі, а ўсе жыхары, за выключэннем порта, дзе пасяляюцца чужаземцы ды рабочы люд.

Крыцкія жанчыны бясконца мыюцца, вышчыпваюць на целе валасы, даглядаючы за скурай, фарбуюць твары ды пераапранаюцца, а таму ніколі не бываюць гатовыя ў прызначаны час: яны прыходзяць у госці як папала і спазняюцца нават на царскія прыёмы, але ніхто не лічыць гэта непрыстойным. Аднак самае дзівоснае — гэта іх строі. Яны пашытыя з тканіны, вытканай срэбрам і золатам і зверху шчыгульна аблягаюць цела, апроч рук і грудзей (а жанчыны тут вельмі ганарацца сваімі грудзьмі), а вось спадніцы — шырокія, упрыгожаныя незлічонымі забаўнымі малюнкамі і ўзорамі, якія спецыяльна робяць на іх мастакі. Ёсць нават уборы, сатканыя з водарасцяў, з соцень розных ракавінак, мятлікаў ды пальмавага лісця, і праз такую вопратку ва ўсіх месцах прасвечвае голае цела. Апроч таго, жанчыны цэлымі днямі робяць сабе дзіўныя высокія прычоскі, упрыгожваючы іх маленькімі лёгкімі шапачкамі, якія прыколваюць залатымі шпількамі, і яны калышуцца на галаве, нібы матылькі. Фігуры ў жанчын зграбныя, гнуткія, іхнія клубы вузкія, як у юнакоў, а таму радзіць ім цяжка, яны не лічаць ганебным зусім не мець дзяцей або мець толькі аднаго-дваіх.

Мужчыны носяць высокія прыгожыя боты аж да каленяў, а вось паясныя павязкі ў іх простыя, і яны туга зацягваюць іх, бо ганарацца вузкімі клубамі і шырокімі плячыма. У іх маленькія прыгожыя галовы, тонкія рукі і ногі, і, як жанчыны, яны не церпяць валасоў на целе. Тут рэдка хто валодае мовамі іншых народаў, бо ўсе выдатна пачуваюцца ў роднай краіне і не рвуцца наведваць чужыя землі, дзе няма такой раскошы і весялосці. Хоць усё багацце ім прыносяць гандаль і мараплаўства, я сустракаў шмат людзей, якія ніколі не былі ў порце, бо там непрыемна пахне, а трапляліся і такія, хто не ўмеў нават лічыць, цалкам пакладаючыся на свайго аканома. Затое кемлівыя чужаземцы на Крыце хутка багацеюць, асабліва калі задавальняюцца жыццём толькі ў порце.

Крыцяне маюць музычныя інструменты, якія граюць без музыкаў, а яшчэ яны могуць запісваць музыку на папірус, так што можна навучыцца граць, гледзячы ў запісы, нават калі раней не чуў той музыкі. Вавілонскія музыкі казалі, што таксама ўмеюць гэта, ды я і не хачу аспрэчваць ні іх, ні крыцянаў, бо сам нічога ў тым не разумею, дый музыка ўсіх народаў ужо змяшалася ў мяне ў вушах. Але цяпер я разумею, чаму кажуць: «Хлусіць, як крыцянін».

Яны не маюць вялізных храмаў, не хочуць мець шмат багоў і пакланяюцца збольшага толькі быкам. Затое ўжо гэта яны робяць з вялікім захапленнем, і не праходзіць дня, каб яны не хадзілі палюбавацца быкамі. Аднак я не думаю, што яны гэта робяць праз вялікае шанаванне бога,— проста танцы перад быкамі — захапляючае відовішча, таму яны і любяць гэта глядзець.

Не магу сказаць, каб яны надта ўшаноўвалі свайго цара. Ён ва ўсім падобны да сваіх, хоць і жыве ў болей велічным палацы, чым астатнія. А падданыя гавораць і жартуюць з ім, як з роўным, расказваюць яму казкі, прыходзяць на царскія прыёмы, калі захочуць, і гэтак сама нечакана іх пакідаюць, калі ў голаў прыйдзе штосьці іншае. Яны п'юць віно, каб павесяліцца, і звычаі ў іх даволі вольныя, але да непрытомнасці яны ніколі не напіваюцца, бо гэта лічыцца ў іх дзікім і непрыстойным, і я ніколі не бачыў, каб нехта ванітаваў на прыёме ад перапою, як гэта нярэдка здараецца ў Егіпце ці іншых краінах. Затое крыцяне, загараючыся жаданнем, цешацца дзе заўгодна і з кім заўгодна, не зважаючы, хто чый муж і хто чыя жонка. Жанчыны асабліва любяць юнакоў, якія танчаць перад быкамі, а таму шмат нават непасвечаных мужчын займаюцца такімі танцамі і дасягаюць у іх не меншага майстэрства, чым пасвечаныя юнакі, якім забаронена мець справу з жанчынамі, гэтак сама як пасвечаным дзяўчатам — з мужчынамі. Чаму так — я не ведаю, бо мяркуючы на іх вольных звычаях, яны не павінны былі б надаваць гэтаму вялікае значэнне.



Я расказваю гэта, каб паказаць, як часта мяне многае тут дзівіла, пакуль я крыху не прывык да крыцкіх нораваў. А людзі тут заўсёды стараюцца прыдумаць што-небудзь новае і незвычайнае, і ніколі не ведаеш загадзя, што здарыцца ў наступны момант.

Але я мушу сказаць і пра Мінею, хоць, калі я расказваю пра яе, на сэрцы ў мяне становіцца цяжка. Прыехаўшы ў порт, мы спыніліся ў заезным двары, невялічкім, але самым утульным з тых, што мне давodзілася бачыць, нават «Альтанка Іштар» у Вавілоне з усёй яе пыльнай раскошай і бесталковымі слугамі ў параўнанні з гэтым домам здавалася проста варварскай. Там мы памыліся і апрануліся належным чынам, прычым Мінея загадала завіць сабе валасы і купіла новае адзенне, каб паказацца сябрам, і я нават збянтэжыўся, убачыўшы яе ў новым убранні: на галаве ў яе была маленькая шапачка, падобная да лямпы, а на нагах — боты на такіх высокіх абцасах, што хадзіць у іх было немагчыма. Але я не хацеў засмучаць яе і нічога не сказаў пра яе ўбранне, падараваўшы завушніцы і караліі з рознакаляровых каменьчыкаў, якія — так сказаў гандляр — сёння носяць на Крыце, а што будуць насіць заўтра — сказаць ён не мог. Я здзіўлена глядзеў на яе аголеныя грудзі, якія вытыркаліся з-пад срэбнай сукенкі. Саскі яна пафарбавала чырвоным, і пазбягаючы майго позірку, з пагрозай сказала, што ёй няма чаго саромецца сваіх грудзей — яны нічым не горшыя, чым у іншых крыцянак. Паглядзеўшы яшчэ, я не стаў пярэчыць, бо, вядома, яна мела рацыю.

Потым мы нанялі насілкі і накіраваліся ў горад, які пасля гавані з яе цеснатой, шумам, штурханінай ды рыбным смуродам здаўся іншым светам — з лёгкімі будынкамі і садамі. Мінея прывяла мяне да нейкага знатнага дзеда, свайго добрага сябра, які вельмі яе любіў і, калі адбываліся танцы перад быкамі, заўсёды рабіў на яе стаўку. Раней Мінея жыла ў яго доме, як у сваім. Калі мы прыйшлі, дзед сядзеў і вывучаў спіс быкоў, якія ўдзельнічалі ў заўтрашніх спаборніцтвах, але ўбачыўшы Мінею, забыўся пра ўсё і радасна абняў яе, нікольк мяне не саромеючыся. Ён сказаў:

— Дзе ты хавалася, чаму я так доўга цябе не бачыў? Я ўжо думаў, што настала твая чарга ісці ў дом бога? Але я яшчэ не выбраў сабе новай выхаванкі, і таму твае пакоі вольныя, калі толькі мая жонка не загадала іх паламаць і зрабіць на іх месцы басейн з рыбкамі: з тае пары, як яна пачала гадаваць рыбак, яна ўжо не можа думаць ні пра што іншае.

— Хелея пачала гадаваць рыбак? — здзівілася Мінея.

— Гэта ўжо не Хелея,— адказаў стары, крыху нервуючыся.— У мяне новая жонка, але яна цяпер занятая: у яе нейкі непасвечаны юнак, што танцуе перад быкамі, ён прыйшоў паглядзець на рыбак. Калі мы перашкодзім, жонка будзе вельмі незадаволеная. Ну, ды лепш пазнаём

мяне са сваім сябрам, каб ён стаў і маім сябрам, а мой дом — яго домам.

— Гэта Сінухе-егіпцянін на мянушку Самотнік, ён лекар,— сказала Мінея.

— Не думаю, што ён тут доўга застанецца самотнікам,— пажартаваў стары.— Ты, спадзяюся, не захварэла, Мінея, чаму ты падарожнічаеш з лекарам? Не засмучай мяне! Я спадзяюся, ты заўтра будзеш танцаваць перад быкамі і зноў прынясеш мне ўдачу. Мой аканом скардзіцца, што мае даходы не пакрываюць маіх выдаткаў ці нешта такое: я нічога не разумею ў складаных разліках, якія ён мне штодзень падсоўвае, каб псаваць настрой.

— Я зусім не хворая,— адказала Мінея.— Але мой сябра пазбавіў мяне ад шматлікіх бедаў, мы праехалі з ім шмат земляў, каб я магла вярнуцца на радзіму. А я ж трапіла ў караблекрушэнне, калі плыла ў Сірыю, каб танчыць там перад быкамі.

— Як? Праўда? — спалохана сказаў стары.— Але, спадзяюся, нягледзячы на ваша сяброўства, ты засталася некранутаю, інакш табе не дазволяць танцаваць перад быкамі! І наогул будзе шмат непрыемнасцяў. Мяне гэта вельмі хвалюе, бо я бачу, як ты вырасла, як наліліся твае грудзі і які красамоўны выраз у тваіх вачах. Мінея, Мінея, ты не сапсавала сябе?

— Не,— злосна адказала Мінея.— Калі я кажу «не», можаш мне верыць. І няхай мяне ніхто не правярае, як на рынку нявольнікаў у Вавілоне! Наўрад ці ты разумееш, што толькі дзякуючы гэтаму сябру я пазбегла шмат якіх няшчасцяў і трапіла на радзіму! Я думала, мае сябры ўзрадуюцца, а ты заняты толькі сваімі быкамі ды выйгрышамі.— Яна заплакала, і па шчоках ад слёз утварыліся чорныя плямы з размытае фарбы.

Дзед вельмі збянтэжыўся, засмуціўся і пачаў апраўдвацца:

— Я не сумняваюся, што ты ўражана сваім падарожжам па чужых краінах, дзе і мыцца табе даводзілася не кожны дзень, праўда? Я не думаю, што вавілонскіх быкоў можна параўнаць з нашымі. Але я зусім забыўся — мне ж пара быць у Мінаса! Трэба зараз жа ісці, не буду нават пераапранацца. Там заўжды шмат усялякага люду, так што ніхто не зверне ўвагі на маё адзенне. Ешце і піце, любыя сябры, а ты, Мінея, пастарайся супакоіцца, а калі выйдзе мая жонка, скажыце, што я пайшоў да Мінаса і не хацеў перашкаджаць ёй забаўляцца з госцем. Уласна кажучы, я мог бы спакойна пайсці спаць, там ніхто і не заўважыў бы маёй адсутнасці, але, напэўна, лепш усё-ткі пайсці ды па дарозе зазірнуць у хлеў, распытаць наконт новага быка з плямаю на баку. Гэта, скажу я вам, незвычайны бык! — І дзед безуважна развітаўся з намі, нават не пачуўшы апошніх Мінеіных словаў:



— Мы таксама пойдзем з табою, я хачу пабачыцца з сябрамі і пазнаёміць іх з Сінухе.

Такім чынам мы пайшлі ў палац да Мінаса пешшу, бо дзед так і не змог вырашыць, ці варта браць на такую кароткую адлегласць насілкі. Толькі ў палацы я зразумеў, што Мінас — гэта і ёсць крыцкі цар, і даведаўся, што ўсіх цароў тут заўжды звалі Мінасамі і не інакш, каб лягчэй адрозніваць іх ад іншых. Але якім Мінасам па ліку быў цяперашні — ніхто не ведаў, ніхто не лічыў і не запамінаў іх, бо проста не хапала цярпення. Затое людзі ведалі, што некалі гэты Мінас знікне, а на ягонае месца сядзе другі, такі самы, як папярэдні, і нічога на Крыце не зменіцца.

У палацы было безліч розных пакояў, сцены ў прыёмнай зале былі размаляваныя выявамі дзіўных рыб, якія плавалі сярод водарасцяў у празрыстай вадзе. Тут было поўна народу, усе былі апранутыя адзін раскошней за другога, прагульваліся, размаўлялі, гучна смяяліся і пілі з невялікіх чашаў ахаладжаныя напоі,— як віно, так і сокі з разнастайных пладоў,— і жанчыны зайздросліва разглядалі адна на адной святочныя строі. Мінея пазнаёміла мяне з некаторымі сваімі сябрамі, якія паставіліся да мяне даволі прыязна, але безуважна, а цар Мінас, сказаўшы мне некалькі ласкавых слоў на сваёй мове, падзякаваў, што я збярог Мінею дзеля іхняга бога і прывёз на радзіму: цяпер яна ўжо пры першай магчымасці зможа нарэшце ўвайсці ў боскі палац, хоць паводле кону яе чарга прайшла.

Пачуўшы гэта, я адышоў убок і пачаў разглядаць царскіх гасцей, адчуваючы сябе сярод іх чужаніцай. Я не разумеў ні іх мовы, ні прычынаў іх весялосці. Я доўга стаяў самотны, пакуль да мяне не падышла пажылая жанчына з высокай, як вежа, прычоскай, аздобленай жывымі кветкамі. Грудзі ў яе былі агаленыя, хоць, на мой погляд, лепей было б іх схаваць і не паказваць нікому. Яна звярнулася да мяне на ламанай егіпецкай мове:

— Мне здаецца, што мы недзе сустракаліся, хоць я і не памятаю твайго імя. Ты не той егіпецкі жрэц, які прыязджаў, каб пасвяціць нас, аматарак Ісіды, у яе таямніцы?

Я адказаў, што ніколі не бачыў яе раней, інакш абавязкова запомніў бы, і гэта была чыстая праўда, бо, гаворачы, яна вельмі нагадвала казу, што перажоўвае жмут сена. Я адказаў, што я сапраўды жрэц, але — лекар. Тады яна спытала:

— А быкоў ты таксама лечыш?

Гэта мяне абразіла, хоць беспадстаўна: быкі на Крыце шануюцца больш за знатных людзей, а лячыць іх ці вяртаць ім жвавасць — гэта ўжо само па сабе вялікае майстэрства. Але я гэтага тады не ведаў і адказаў:

— Я вылечыў некалькі коз і павіянаў, але быкоў пакуль не даводзілася.

Тады яна жартаўліва стукнула мяне веерам па руцэ і сказала, што я сараматнік. Не ведаю, як бы я ад яе адчапіўся, калі б мяне не выратавала Мінея.

Мінея хадзіла па палацы, як па ўласным доме, мы пераходзілі з аднаго пакоя ў другі, яна радасна ўскрыквала, заўважаючы знаёмыя постаці, віталася са слугамі, і тыя адказвалі так, нібыта бачыліся толькі ўчора. Мінея расказала, што на Крыце любы чалавек мог, не папярэджваючы знаёмых, з'ехаць у свой маёнтак, і ніхто не хваляваўся, доўга яго не бачачы, а калі ён вяртаўся, той далучаўся да сяброў так, нібы яны і не расставаліся. Такія адносіны, напэўна, дапамагалі ім лягчэй успрымаць і смерць, бо, калі хто-небудзь прападаў, пра яго не распытвалі, ім не цікавіліся, а проста забывалі, калі ён не прыходзіў на спатканні ці не адгукаўся на запрашэнні. І нікога гэта не здзіўляла: кожнаму можа стукнуць у галаву куды-небудзь з'ехаць.

Нарэшце Мінея прывяла мяне ў прыгожы пакой на верхніх паверхах палаца, што стаяў на схіле гары. Адсюль адкрываўся прыгожы краявід на раўніны з аліўкавымі дрэвамі і на палі за горадам. Яна сказала, што гэта яе пакой, у скрынях усё было на месцы, нібы яна пакінула сваё жытло толькі ўчора, праўда, адзенне састарэла так, што Мінея больш не магла яго апранаць. Толькі тут я даведаўся, што яна паходзіць з царскага роду Мінасаў, аб чым я і сам мог бы здагадацца па яе імю. Таму ні золата, ні срэбра, ні багатыя падарункі для яе нічога не значылі: яна з дзяцінства прывыкла атрымліваць усё, што хацела. Але яшчэ малой дзяўчынкай яе прысвяцілі богу, а таму яна вырасла ў будынку для быкоў, дзе і жыла, хоць часам прыходзіла пагасціць і ў палацы, ці ў доме свайго старога апекуна, ці калі-нікалі ў якой-небудзь сяброўкі, бо выбар жытла на Крыце вызначаўся такімі ж прыхамацямі, як і ўсё астатняе.

Мне цікава было паглядзець на памяшканне для быкоў, і мы вярнуліся ў залу, каб развітацца са старым сябрам Мінеі. Убачыўшы мяне, той вельмі збянтэжыўся і ветліва спытаў, ці не сустракаліся мы раней, бо мой твар яму крыху знаёмым. Мінея звяла мяне да быкоў, якім быў пабудаваны цэлы горад з хлявамі, арэнамі, глядацкімі трыбунамі, бегавымі дарожкамі, школамі і жытлом для жрацоў. Мы пераходзілі з хлява ў хлеў, дыхаючы брыдкім жывёльным смуродам, а Мінея ласкава клікала кожнага быка па мянушцы, хоць усе яны, стараліся бадануць яе рогам праз загарадку і з налітымі крывёю вачыма гучна рыкалі ды рылі капытамі пясок.

Яна сустрэла тут знаёмых юнакоў і дзяўчат, навучаных танцаваць перад быкамі. Але звычайна яны сябравалі не надта, а больш зайздросцілі майстэрству суперніка і не хацелі дзяліцца сваімі прыёмамі і сакрэтамі. Затое жрацы, якія выхоўвалі танцораў і вырошчвалі быкоў, прынялі нас вельмі прыязна, а даведаўшыся, што я лекар, пачалі пытацца ў мяне пра ўсякае markdown рознае, асабліва пра харчаванне быкоў, іх кармы і дагляд за іх скурай, хоць, безумоўна, разумелі ў гэтым больш за мяне. Яны любілі Мінею, адразу выдзелілі ёй быка і ўключылі ў склад удзельнікаў заўтрашніх спаборніцтваў. Яна проста гарэла нецярпеннем паказаць сваё майстэрства і патанцаваць перад лепшымі быкамі.



Нарэшце Мінея прывяла мяне ў маленькі будыначак, дзе самотна жыў галоўны жрэц крыцкага бога. Увогуле галоўным жрацом на Крыце лічыўся Мінас, але дзяржаўныя і гандлёвыя справы яго займалі так, што часу на жывёлаў не заставалася. Ён хіба толькі, як і ўсе крыцяне, рабіў стаўкі на гульбішчах. Калі цара заўжды звалі Мінасам, дык галоўнага жраца — Мінатаўрам. Чамусьці ён быў самы паважаны і самы страшны чалавек на выспе: людзі апасаліся нават прамаўляць уголас яго імя, называючы проста гаспадаром маленькай хацінкі. Мінея таксама баялася ісці да яго, хоць марна спрабавала схаваць ад мяне гэта: я даўно навучыўся чытаць настрой па яе вачах.

Мінатаўр прыняў нас у зацененым пакоі, і, убачыўшы яго, я спачатку падумаў, што гэта напраўду бог, я нават паверыў усім казкам пра Крыт, бо перада мной стаяла істота з целам чалавека і залатой галавой быка. Але пасля таго, як мы нізка перад ім схіліся, ён зняў залатую маску і адкрыў свой твар. Мінатаўр ветліва мне ўсміхаўся і, тым не менш, прыязнасці не выклікаў: твар у яго быў уладны і жорсткі, хоць чаму ствараласяя такое ўражанне, не магу растлумачыць: гэта быў прыгожы смуглы мужчына з усімі прыкметамі высокага паходжання. Мінеі не давялося яму нічога расказваць, бо Мінатаўр ужо ўсё ведаў: і пра караблекрушэнне, і пра Мінеіна падарожжа,— а таму не задаваў лішніх пытанняў, а падзякаваў мне за дапамогу і сказаў, што ў нашым заезным двары мяне ўжо чакаюць вялікія падарункі, якія павінны мне спадабацца.

— Мне не патрэбныя падарункі,— сказаў я.— Самым дарагім я лічу веды. Прымнажаючы іх, я пабываў у многіх краінах свету і добра абазнаны ў вавілонскіх і хецкіх багах. Я спадзяюся спазнаць і крыцкага бога, пра якога кажуць шмат дзіўнага і які любіць юнакоў і дзяўчат, у адрозненне ад сірыйскіх багоў, чые храмы ператварыліся ў дамы ўцехаў, а жрацамі ў іх служаць скапцы.

— У нас шмат багоў, якім пакланяецца наш народ,— адказаў жрэц.— А ў порце ёсць храмы і іншым багам, там пры патрэбе можна прынесці ахвяру і Амону, і Ваалу. Але падманваць цябе не буду: сіла і моц Крыта сапраўды залежаць ад нашага галоўнага бога, якому людзі пакланяюцца спрадвеку. Яго бачылі толькі пасвечаныя, але яшчэ ніхто не вярнуўся расказаць, як ён выглядае.

— Багі хетаў,— сказаў я,— гэта Маці Зямля, Неба і Дождж, які апладняе Зямлю, а значыць крыцкі бог — гэта Мора, бо ўсе багацці Крыта ідуць ад мора.

— Можа, ты і маеш рацыю, Сінухе,— адказаў Мінатаўр з нейкай дзіўнай усмешкай.— Але мы служым жывому богу, у адрозненне ад народаў з мацерыка, якія моляцца памерлым багам і драўляным статуям. Наш бог — не статуй, не ідал, хоць яго параўноўваюць з быком, і пакуль ён жыве, будзе захоўвацца ўлада Крыта над морам. Так было наканавана, і мы гэта добра ведаем. Хоць, разам з тым, мы вельмі спадзяемся і на свае ваенныя караблі, з якімі не могуць зраўнацца караблі ніякіх прыбярэжных краінаў.

— Кажуць, ваш бог жыве ў лабірынтах цёмнага палаца,— упарта сказаў я.— Мне вельмі хацелася б пабачыць гэты лабірынт, пра які я шмат чуў. Я не магу зразумець, чаму пасвечаныя ніколі адтуль не вяртаюцца, бо пасля таго, як месяц зробіць новае кола, яны ж маглі б і вярнуцца!

— Увайсці ў свяшчэнны палац бога — гэта найвышэйшы гонар і невыказнае шчасце, якія толькі могуць выпасці на долю крыцкага юнака ці дзяўчыны,— сказаў Мінатаўр, паўтараючы словы, якія яму даводзілася казаць ужо безліч разоў.— Таму ўсе марскія выспы навыперадкі прысылаюць да нас сваіх самых прыгожых юнакоў і дзяўчат, каб яны патанчылі перад нашымі быкамі і маглі ўдзельнічаць у кіданні жэрабя. Не ведаю, ці чуў ты аповеды пра залы марскога бога, дзе жыццё зусім не падобнае да нашага зямнога і адкуль кожны, хто туды трапіў, ужо ніколі не захоча вярнуцца да зямных пакутаў і клопатаў. А ты, Мінея, хіба ты баішся ўвайсці ў палац бога?

Мінея нічога не адказала, а таму сказаў я:

— На берагах Сіміры я бачыў патанулых маракоў, іх галовы і жываты разбухалі, і радасці не было на іх тварах. Гэта адзінае, што я ведаю пра жытло марскога бога, хоць не сумняваюся і ў тваіх словах і жадаю Мінеі шчасця.

Мінатаўр холадна адказаў:

— Хутка ты пабачыш наш лабірынт, бо да поўні засталося нядоўга, і тады Мінея ўвойдзе ў свяшчэнны палац.

— А калі яна адмовіцца? — у запале спытаўся я, бо ягоныя словы мяне раззлавалі, і маё сэрца роспачна сціснулася.

— Такога яшчэ не было ніколі,— сказаў Мінатаўр.— Наконт гэтага можаш быць спакойны, Сінухе-егіпцянін. Патанчыўшы перад быкамі, Мінея сама захоча туды ўвайсці.— І ён апусціў на твар залатую маску быка, даючы зразумець, што нам пара сыходзіць.

Мінея схапіла мяне за рукаў і павяла прэч, але ўжо не радавалася.



**3**

Каля я вярнуўся ў заезны двор, Каптах быў ужо там. Ён паспеў нажлукціцца віна ў партовай таверне і адразу пачаў мне расказваць:

— Мой гаспадар, Крыт — гэта сапраўдная Краіна Захаду для слуг: тут ніхто іх не б'е, ніхто не памятае, колькі грошай у яго ў кашальку і якія ён купіў каштоўныя аздобы. Далібог, мой гаспадар, слугам тут — благаславёны край, бо нават калі гаспадар раззлуецца і прагоніць слугу з дому — а гэта самае страшнае тут пакаранне — слузе дастаткова пераначаваць дзе-небудзь у іншым месцы і на другі дзень вярнуцца: гаспадар тым часам усё забудзе. Але маракам і рабам, што жывуць у порце, гэта краіна дрэнная. Сквапныя аканомы лупяць рабоў вострымі палкамі, а гандляры падманваюць сіміранаў гэтак сама лёгка, як сіміране — егіпцянаў. Затое тут ёсць маленькія рыбкі, якіх зберагаюць у гаршчках, заліўшы алеем, і якімі вельмі смачна заядаць віно. За гэтых смачных рыбак я многае ім дарую.

Усё гэта ён казаў, нібы сапраўды быў моцна п'яны, але, зачыніўшы дзверы і ўпэўніўшыся, што нас ніхто не падслухоўвае, паведаміў:

— Мой гаспадар, у гэтай краіне творыцца нешта дзіўнае, маракі ў тавернах і корчмах кажуць, што крыцкі бог памёр, і жрацы ліхаманкава шукаюць новага бога. Але весці такія размовы вельмі небяспечна, бо калі хто іх пачуе, дык таго, хто пра гэта кажа, скідваюць з высокай скалы ў мора на з'ядзенне кальмарам. Кажуць, што існуе прадказанне, нібыта моц Крыта знікне, калі яго бог памрэ.

Надзея ўспыхнула ў маім сэрцы, і я сказаў Каптаху:

— У час поўні Мінея павінна ўвайсці ў палац бога. Але ж калі бог напраўду памёр,— а гэта цалкам магчыма, бо народ усё роўна ўсё ведае, нават калі яму нічога не кажуць,— тады Мінея зможа вярнуцца назад, хоць да гэтай пары з палаца ніхто не вяртаўся!

Каптах адказаў:

— Няўжо гэтае праклятае дзяўчо яшчэ мала прынесла нам смутку і непрыемнасцяў?! Гэта вялікая абраза маёй годнасці — калі нейкая жанчына б'е мяне сандаляй па твары і разбівае нос так, што ажно кроў цурчыць ручаём! Але ты правільна сказаў, што народ урэшце пра ўсё даведаецца, нават калі яму нічога не кажуць! Спачатку, можа, ён адчувае ўсё невыразна і цьмяна, нібыта ў сне, але потым усё высвятляецца, і тады пачынаюцца змены, бойкі на скрыжаваннях, падпальваюцца дамы, і шмат чаго мяняецца. Я зусім не зайздрошчу крыцкай знаці, калі іхні бог напраўду памёр, бо думаю, даведаўшыся пра гэта, жыхары гавані кінуцца ў верхні горад, кавалі возьмуць свае молаты, рыбакі — свае весцы, а насільшчыкі ўзброяцца каламі... Хоць, можа, будзе і інакш.

Пакуль ён гаварыў, я ўспомніў прадказанне вавілонскіх зоразнаўцаў.

— Вавілонскія жрацы вылічылі па зорках, што год Зямлі на зыходзе,

і, калі багі памруць, народы пяройдуць у новы год Зямлі, і ўсё пойдзе па-іншаму. А можа гэтае прадказанне тычыцца толькі Крыта, бо сімірскія і егіпецкія багі не памруць, яны будуць жыць вечна.

— Мудрасць твая непамерная, мой гаспадар,— сказаў Каптах,— і калі б віно недастаткова моцна разгулялася ў маёй галаве, я зразумеў бы твае словы, але цяпер у мяне ўсё змяшалася: багі, зоркі, жрацы, гады Зямлі,— і адно, што я зразумеў,— гэта што ты сказаў пра Мінею. Яна ва ўсіх тваіх размовах — і пачатак, і канец, і сярэдзіна, і мне вельмі цябе шкада, бо я ўжо колькі разоў казаў: любая рабыня ці вясёлая дзяўчына дасць табе тое самае, толькі без ніякіх пакутаў. Дый гэтыя крыцянкі з голымі грудзьмі даволі ахвотна рассоўваюць каленкі. Але ж калі табе так ужо патрэбна Мінея, дык чаго прасцей стукнуць яе палкай па галаве, пасадзіць у мех, занесці на карабель, і з дапамогаю скарабея мы хутка будзем у Егіпце. Справа нескладаная, хоць я разумею, што такім чынам ты прывязеш у дом цэлы мех дзікіх кошак. Але ж дзеля цябе я гатовы ў гэтым нават дапамагчы. Я не магу спакойна глядзець, як ты на вачах худнееш і бялееш, нібы засмучаная каза, а валасы ў цябе зблытваюцца, як поўсць у ката вясной.

Я не раззлаваўся на яго за гэтыя шчырыя словы, а наадварот — доўга думаў над тым, што ён сказаў. Яго прапанова здавалася мне прывабнай. Але вельмі шануючы Мінею і яе жаданні, я нават пры сваёй звар'яцеласці не мог пагадзіцца з Каптахавай парадай. Я лічыў, што Мінея мне гэтага не даруе ніколі.

Наступным днём мне дасталося вельмі добрае месца на трыбунах, якія ўздымаліся ўгору прыступкамі — так, што адна лава месцілася над другой на ўзроўні, з якога кожны бачыў быкоў без ніякае перашкоды. Я шмат здзіўляўся і захапляўся такой разумнай будовай, якой ніколі не бачыў, бо ў Егіпце, напрыклад, наадварот — падчас святочных шэсцяў у гонар багоў ці ў дні відовішчаў будуюць высокія падмосткі для бога, жрацоў і танцораў, каб усе іх бачылі. Але быкоў пачалі ўжо па чарзе выпускаць на арэну, і кожны танцор выконваў свой танец — складаны, з мноствам розных фігураў, якія патрабавалі высокага майстэрства і выконваліся ў строгай паслядоўнасці, а самае цяжкае было ўскочыць быку на галаву, стаць між рагамі, а потым высока падскочыць, перакруціцца ў паветры і стаць бягучаму быку на спіну. Не ўсім танцорам гэты скачок удаваўся, бо залежаў не толькі ад іх, але і ад быкоў, ад таго, як яны беглі, як выгіналі шыю, як спыняліся. Знаць і багацеі ішлі ў заклад, ставілі на асобныя нумары і на сваіх улюбёнцаў, але я, паглядзеўшы некалькі выступленняў, так і не зразумеў узбуджанасці гледачоў. Усе быкі і ўсе танцоры здаваліся мне аднолькавымі, і я не здольны быў убачыць паміж імі адрознення.

Мінея танцавала таксама, і спачатку я вельмі за яе баяўся, але потым



дзівоснае майстэрства і гнуткасць дзяўчыны зачаравалі мяне так, што я забыўся нават пра небяспеку, якая пагражала ёй,як і іншым танцорам, і я радаваўся яе поспеху. Дзяўчаты і юнакі танцавалі зусім без адзення, бо іх гульні былі да таго рызыкоўныя, што нават самая лёгкая вопратка магла замарудзіць іх рухі і паставіць іх жыццё ў небяспеку. Мінея намасціла цела алеем, яна здавалася мне самай прыгожай з усіх дзяўчат, хоць сярод танцорак было шмат іншых прыгажунь, якія мелі вялікі поспех. Але я глядзеў толькі на Мінею. Пасля доўгай адсутнасці яна яшчэ не зусім аднавіла сваё майстэрства і не атрымала ніводнага вянку. Яе стары паклоннік быў засмучаны і раззлаваны, а таму пайшоў выбіраць сабе новых быкоў і выканаўцаў, на што, бясспрэчна, меў права.

А Мінея, сустрэўшыся са мной пасля прадстаўлення, халодна паведаміла:

— Я больш не змагу сустрэцца з табою, Сінухе. Мае сябры клічуць мяне, і я павінна рыхтавацца да сустрэчы з богам, бо поўня настае ўжо заўтра. Але мы, напэўна, зможам убачыцца перад тым, як я пайду ў палац бога, калі ў цябе ўзнікне жаданне развітацца са мною.

— Хай будзе так,— адказаў я.— На Крыце для мяне, безумоўна, знойдзецца яшчэ шмат цікавага, і я хачу бліжэй пазнаёміцца са звычаямі гэтай краіны. Пакуль я сядзеў на трыбуне, мяне запрасілі ў госці некаторыя твае сяброўкі, і мне было прыемна глядзець на іх твары і грудзі, хоць, праўду кажучы, яны крыху таўсцейшыя за цябе.

Яна схапіла мяне за руку, яе вочы загарэліся гневам, ноздры расшырыліся, і яна злосна сказала:

— А я не хачу, каб ты хадзіў да маіх сяброўак без мяне. Можаш пачакаць, пакуль я вярнуся. І хоць, на тваю думку, я занадта хударлявая — пра што раней я, дарэчы, і не здагадвалася,— але дзеля нашага сяброўства ты павінен выканаць маю просьбу.

— Ды я толькі пажартаваў. Я не хачу табе замінаць, бо, напэўна ж, перад адыходам у лабірынт у цябе шмат спраў! А я пайду ў свой заезны двор ды займуся лекаваннем хворых, якіх шмат у порце. Ім патрабуецца мая дапамога.

Я пайшоў прэч і доўга яшчэ адчуваў мярзотны смурод быкоў, які не забуду ніколі. Нават цяпер, сустракаючы статак гэтых жывёлаў, я амаль захворваю: я не магу есці, і сэрца мне пачынае балець. А тады, вярнуўшыся да сябе, я цалкам аддаўся лячэнню хворых і палягчэнню іхніх пакутаў. Паступова спусціўся вечар, у дамах уцехаў запаліліся агні. Праз сцены я чуў музыку і смех, бо крыцкія рабы і слугі пераймалі бесклапотны нораў гаспадароў і жылі так, нібы ў свеце няма ні смерці, ні болю, ні журбы, ні смутку.

Сцямнела, а я ўсё сядзеў, не запальваючы лямпы і не кладучыся, хоць Каптах паслаў на падлозе дываны дзеля сну. Месяц выплыў на

небе яшчэ не поўны, але вялікі і зіхоткі, і я ненавідзеў яго, бо ён назаўжды разлучаў мяне з адзінай жанчынай, якую я лічыў сястрою, і ненавідзеў сябе, бо быў слабы і не рашаўся на тое, чаго так прагнуў. Раптам дзверы адчыніліся, і, асцярожна аглядваючыся, увайшла Мінея. На ёй была ўжо не крыцкая вопратка, а тая простая сукенка, у якой яна танцавала перад знаццю і прасталюдзінамі ў розных краінах. Свае валасы яна павязала залатой стужкай.

— Мінея! — ускрыкнуў я ў здзіўленні. — Як ты сюды трапіла? Я думаў, ты рыхтуешся да сустрэчы з богам.

— Гавары цішэй, — адказала яна. — Я не хачу, каб нас пачулі.

Яна села побач, паглядзела на месяц і сказала:

— Я не люблю там свой ложак, і мне ўжо не цікава з маімі сябрамі, як было раней. Але я не ведаю, чаму я прыйшла сюды, у гэты заезны двор, ведаючы, што гэта вельмі непрыстойна. Калі хочаш спаць, скажы, і я пайду прэч, але там я не змагла заснуць, і мне захацелася падыхаць паветрам, якім дыхаеш ты, — тваім водарам лекаў і траваў, і захацелася яшчэ раз ушчыкнуць Каптаха за вуха і патузаць за валасы, каб ён не заводзіў дурных размоваў. Напэўна, падарожжа і жыццё сярод чужых людзей узбунтавалі мой розум, бо я ўжо не адчуваю, што маё жыццё — тут, побач з быкамі, я не радуюся поспехам у спаборніцтвах і не імкнуся, як раней, трапіць у палац бога, і ўсе размовы вакол мяне здаюцца мне неразумным мармытаннем немаўляці. Цяпер тое, што для маіх сяброў радасць — для мяне, як марская пена, маё сэрца апусцела, і на яго месцы ўтварылася вялікае дупло. І мая галава таксама пустая, у ёй няма ніводнае думкі, якую я магла б назваць сваёю, мяне ўсё раніць, і на душы ў мяне яшчэ ніколі не было так маркотна і цяжка. Таму я прашу цябе, Сінухе, патрымай мяне за руку, як рабіў раней, хоць я ведаю, што ты з большым задавальненнем патрымаў бы іх за руку і паглядзеў бы на болей дзябёлых жанчын, чым я.

Я адказаў на гэта:

— Мінея, сястра мая, мае дзяцінства і юнацтва былі падобныя да чыстае ручаінкі, а сталасць — да вялікай ракі, якая шырока разлілася і пакрыла зямлю так, што яе неглыбокая стаячая вада пачынае гніць. Але калі побач са мной узнікла ты — ты сабрала ўсе мае воды ў глыбокае рэчышча, і яны зноў радасна заструменіліся, ува мне ўсё ачысцілася, мір вакол засвяціўся, і ўсё злое і нядобрае здалося мне толькі павуцінай, якую вельмі лёгка абтрэсці з сябе. Я хачу быць дзеля цябе добрым і лячыць людзей незалежна ад аплаты і падарункаў, якія яны прыносяць. Дзякуючы табе злыя багі страцілі нада мной уладу. Так здарылася тады, калі ты прыйшла да мяне, але цяпер, калі ты мяне пакідаеш, вакол зноў згушчаецца цемра, маё сэрца ірвецца і плача, бы самотны крумкач у пустэльні, і я больш не хачу людзям дабра, я ненавіджу іх, я ненавіджу нават багоў і не хачу пра іх нават слухаць. Але я хачу табе, Мінея, сказаць, што на свеце ёсць шмат краінаў, але толькі адна рака. Дык дазволь мне завезці цябе ў Чорную зямлю на бераг тае ракі, дзе качкі крычаць у чароце і сонца штодзень плыве па небе ў залатым чоўне. Паедзем са мною, Мінея, мы разаб'ем гаршчок, станем мужам і жонкай, пражывем разам усё жыццё, і яно будзе ў нас лёгкае, а калі мы памрэм, нашыя целы захаваюць, каб мы маглі сустрэцца ў Краіне Захаду і жыць там вечна.



Але ў адказ Мінея сціснула мае рукі, дакранулася пальцамі да маіх павекаў, вуснаў і шыі і сумна сказала:

— Сінухе, я ўжо не змагу паехаць з табой, нават калі вельмі гэтага захачу, бо ніводзін карабель не забярэ нас з Крыта, ніводзін капітан не адважыцца схаваць нас на сваім караблі. Мяне ўжо строга ахоўваюць, і я не магу дапусціць, каб праз мяне цябе пакаралі смерцю. Як бы мне не хацелася з табою паехаць, я не магу зрабіць гэтага, бо калі я танцую перад быкамі, іх воля робіцца мацнейшая за маю. Але ты не зразумееш гэтага, бо сам ніколі не паспытаў. У ноч поўні я павінна ўвайсці ў палац бога, і ні я, ні ты, ніякая сіла не можам гэтаму перашкодзіць. Чаму так — мне невядома, як невядома і нікому, апроч, напэўна, Мінатаўра. Усё маё дзяцінства прайшло пад богам, і сёння, калі я танцавала перад быкамі, яны перамаглі мяне. Але нягледзячы на гэта я люта іх узненавідзела, бо яны разлучаюць мяне з табою, і я ўзненавідзела свой горад, бо яго радасці — марныя прывіды, а жыццё — як дзіцячая гульня, але ў гэтай гульні жорсткія людзі, падобныя да дзяцей, прагнуць убачыць кроў. Гледачы сёння былі расчараваныя і засмучаны таму, што быкі нікога не затапталі, не разарвалі і не наматалі нічые кішкі на рогі. Вось на чым трымаюцца іх заклады і любоў да быкоў, хоць ніхто ў гэтым не прызнаецца, можа, нават самому сабе, кажучы, што яго вабіць вялікае мастацтва.

Яна дакранулася да маіх вуснаў і шыі і раптам, моцна абняўшы і прытуліўшыся ўсім целам, сказала:

— Сінухе, я вельмі спадзяюся вярнуцца да цябе ад нашага бога. Я маю на гэта права, хоць ніхто адтуль ніколі яшчэ не вяртаўся. Але я буду першая, хто вернецца. І калі я вярнуся, можаш рабіць са мною, што хочаш, тваё жыццё стане маім жыццём, твой народ — маім народам, а твае багі — маімі багамі.

Але на душы ў мяне было пуста і змрочна, як у магіле, і я сказаў:

— Заўтрашні дзень невядомы нікому, Мінея, і я не магу паверыць, што ты вернешся адтуль, адкуль ніхто і ніколі яшчэ не вяртаўся. Можа, у залатым палацы марскога бога ты набудзеш вечнае жыццё і забудзешся пра мяне і пра ўсё, што лучыць цябе з гэтым светам.. Зрэшты я не веру ў гэтыя казкі, як не веру і ў іншых багоў, пра якіх мне шмат

чаго баялі ў розных чужых краінах. А таму ведай: калі ты не вернешся ў прызначаны тэрмін, я пайду па цябе ў палац твайго бога і выведу цябе адтуль. Я забяру цябе, нават калі ты не захочаш сама вярнуцца са мною. Я зраблю так, Мінея, нават калі гэта станецца апошнім маім учынкам.

Яна спалохана заціснула мне рот, азірнулася і сказала:

— Маўчы! Такое забаронена казаць уголас і нават думаць пра гэта нельга! Палац бога — цёмны палац, і ніводзін чужынец не знойдзе ў ім дарогі, а непасвечаны, увайшоўшы, спаткае страшную смерць. На шчасце, ты не зможаш у яго трапіць, бо палац зачыняе медная брама, ато ў сваім шаленстве ты сапраўды мог бы зрабіць тое, што кажаш, і пагубіў бы сябе. Вер, я вярнуся — мой бог не можа быць такі бязлітасны, каб не дазволіць таго, чаго я так хачу. Гэта на дзіва прыгожы бог, ён аберагае моц і сілу Крыта і ўсім жадае дабра. Дзякуючы яму плоданосяць нашы алівы, каласяцца нашы палеткі і з гавані ў гавань плаваюць караблі. Ён пасылае спадарожныя вятры і, аберагаючы мараплаўцаў, накіроўвае іх у тумане, каб з імі не здарылася бяды. Дык чаму ён будзе жадаць мне зла?

Мінея з маленства расла пад абаронаю свайго бога, і яе вочы аслеплі, але я не мог вярнуць ім зрок, хоць раней рабіў гэта шмат якім слепакам. У бяссільнай страсці я прытуліў яе да сябе, цалаваў і гладзіў яе гладкае, як царскі лён, цела, і не хацеў пакідаць, як падарожнік, заблукаўшы ў пустэльні, не хоча пакідаць свежай крыніцы. А яна дрыжала ўсім целам і, абліваючы мне шыю гарачымі слязьмі, шаптала:

— Сінухе, мой сябра, калі ты не верыш, што я вярнуся, дык рабі са мною, што хочаш, я не адмоўлю табе ні ў чым, каб толькі парадаваць цябе. Хай мне нават давядзецца памерці — у тваіх абдымках я не баюся смерці, бо страшней за разлуку з табою няма нічога на свеце.

— А ты сама будзеш рада, калі зраблю тое, чаго хачу? — спытаў я.

Павагаўшыся, яна адказала:

— Не ведаю. Калі цябе няма побач, маё цела напаўняецца неспакоем і смуткам, а калі ты дакранаешся да мяне, мае вочы засцілае туман і калені ў мяне падгінаюцца. Раней, калі мне ўсё было ясна і зразумела і нічога не азмрочвала маю радасць, я ненавідзела цябе, я баялася тваіх дотыкаў, я ганарылася тады толькі сваім майстэрствам, сваімі спрытам і гнуткасцю. Але цяпер мне вядома, якія ў цябе бываюць пяшчотныя рукі, нават калі яны прычыняюць мне боль. Не ведаю, ці буду я радавацца, але ж калі гэта прынясе радасць табе, то пра мяне не думай, бо твая радасць — яна і мая, бо парадаваць цябе — гэта ўсё, чаго я жадаю.

Тады я выпусціў яе са сваіх абдымкаў, пагладзіў яе валасы, вочы і шыю і сказаў:

— Мне досыць ужо таго, што ты прыйшла да мяне такая, якой была



ў час нашага вандравання па Вавілоніі. Дай мне залатую стужку з тваіх валасоў, і больш мне не трэба нічога.

Яна з падазрэннем зірнула на мяне і спытала:

— Можа, я, на тваю думку, занадта худая, і ты баішся, што маё цела не дасць табе радасці? Можа, табе больш даспадобы легкадумныя дзяўчаты? Я пастараюся стаць легкадумнай і зраблю ўсё, каб цябе задаволіць і не падмануць у тым, чым жадаю цябе парадаваць.

Я гладзіў яе тонкія плечы, усміхаўся ёй і супакойваў:

— Ні адна жанчына не параўнаецца з табою, Мінея, і ніхто не парадуе мяне так, як ты. Але я не хачу ўзяць цябе толькі дзеля свайго жадання,— гэта не прынясе табе радасці, бо ты надта хвалюешся за свайго бога. Але я ведаю, што рабіць. Мы разаб'ем гаршчок, як гэта прынята ў маёй краіне, і станем мужам і жонкай, няхай нават пры гэтым мы і не зліемся ў адно, і побач не будзе жрацоў, якія запішуць нашы імёны ў храмавыя спісы. Давай папросім Каптаха прынесці гаршчок і здзейснім абрад.

Яна ўсміхнулася і заляскала ў далоні, яе вочы павялічыліся і загарэліся радасцю. Я пайшоў па Каптаха і ўбачыў, што той сядзіць пад дзвярыма і горка плачма, выціраючы слёзы рукамі. Убачыўшы мяне, ён зарыдаў яшчэ гучней.

— Што здарылася, Каптах? — спытаў я.— Чаго ты плачаш?

Ён адказаў, ніколькі не саромеючыся:

— Мой гаспадар, у мяне добрае сэрца, і я не магу стрымаць слёзы, паслухаўшы вашу размову з гэтай дзяўчынай з вузкімі клубамі. Я ніколі і нічога не чуў болей хвалюючага.

Я раззлаваўся, даў яму выспятка і сказаў:

— Дык ты падслухоўваў пад дзвярыма?

І Каптах адказаў з прастадушным выглядам:

— Так, бо да тваіх дзвярэй хацелі падкрасціся іншыя слухачы,— праўда, да цябе ім не было ніякай справы, яны сачылі за Мінеяй і прыходзілі сюды за ёю. Але я прагнаў іх тваёю палкай і сеў пільнаваць пад дзвярыма, баючыся, што ты не ўзрадуешся, калі яны ўмяшаюцца ў вашу размову. Я сеў і мімаволі слухаў вашу размову, а вы казалі такія прыгожыя, хоць і дзіцячыя, словы, што я не стрымаўся і заплакаў.

Яго прастадушныя тлумачэнні цалкам суцішылі маю злосць, і тады я сказаў:

— Калі ты ўсё чуў, то ведаеш, што нам трэба. Ідзі і прынясі гаршчок.

Але ён цягнуў час, распытваючы:

— А які гаршчок патрэбен, мой гаспадар? Каменны ці гліняны, распісаны ці без малюнкаў, высокі ці нізкі, вузкі ці шырокі?

Я выцяў яго палкай, праўда, не вельмі моцна, бо маё сэрца ў гэты момант поўнілася да ўсіх дабрынёй, і загадаў:

— Ты добра ведаеш, што я маю на ўвазе і што мне падыдзе любы гаршчок, так што паспяшайся і нясі, які знойдзеш.

— Ужо бягу,— запэўніў Каптах.— Мне проста хацелася даць табе яшчэ час падумаць над сваімі намерамі, бо разбіць гаршчок разам з жанчынай — важны крок у жыцці, і яго не варта рабіць паспешліва і бяздумна. Але я не буду табе перашкаджаць і, калі ты так хочаш, зараз гэты гаршчок прынясу.

Каптах прынёс стары гаршчок з-пад рыбы з алеем, і мы з Мінеяй разбілі яго ў прысутнасці Каптаха. Пасля гэтага ён паставіў нагу Мінеі сабе на патыліцу і прамовіў:

— З гэтага дня ты стала маёй гаспадыняй і будзеш уладарыць мною не менш, а нават больш за майго гаспадара. Але я спадзяюся, што ты не будзеш у гневе сваім абварваць мне ногі кіпнем і будзеш насіць мяккія сандалі без абцасаў, бо мне не даспадобы абутак з абцасамі, якія пакідаюць на галаве шнары і гузакі. Але ў кожным выпадку я буду служыць табе гэтак сама аддана, як свайму гаспадару, бо не ведаю, чаму маё сэрца так прывязалася да цябе, і не разумею, што мой гаспадар у табе знайшоў, бо грудзі ў цябе маленькія, і сама ты надта худая. Спадзяюся, што, калі ты народзіш першае дзіця, гэта выправіцца. Я абяцаю, што буду абкрадваць цябе гэтак жа чэсна, як і свайго гаспадара, і пільна сачыць за тваімі інтарэсамі, а не за сваёй выгодай.

Ад сваіх слоў Каптах так расчуліўся, што зноў заплакаў і нават галасна зароў. Мінея пагладзіла яго па спіне, а я загадаў прыбраць чарапкі і выгнаў яго з пакоя. Гэтай ноччу мы спалі з Мінеяй разам, як і раней, яна захуталася ў мае абдымкі і саграваала мне шыю сваім дыханнем, а яе валасы ласкава казыталі мне твар. Я не крануў яе, бо радасць, якую яна адчула б, не была б маёй радасцю. Але нават калі я проста трымаў яе ў абдымках, маё шчасце здавалася мне яшчэ глыбейшым і большым, чым калі б я авалодаў ёю. Не магу сказаць, ці вельмі я радаваўся б, каб яна мне аддалася, але дакладна ведаю, што ў тую ноч я хацеў быць добрым да ўсіх людзей і не трымаў у сэрцы ніводнай злой думкі. Кожны мужчына быў мне як брат, кожная жанчына — як маці, а кожная дзяўчына — як сястра — і ў Чырвоных землях, і ў, Чорных, паўсюдна, дзе свеціць месяц.

**4**

Наступным днём Мінея зноў танцавала перад быкамі, і маё сэрца сціскалася ад страху, але нічога дрэннага з ёю не адбылося. А вось адзін юнак не ўтрымаўся на лбе быка і ўпаў на зямлю, а бык праціяў яго рагамі і затаптаў капытамі так, што гледачы паўскаквалі і штомоц закрычалі ад жаху і захаплення. Калі быка адагналі, а цела юнака аднеслі ў хлеў, многія жанчына пабеглі паглядзець на яго,— яны мацалі труп рукамі, прыгаворваючы: «Вось гэта відовішча!». Мужчыны ж казалі: «Даўно мы не бачылі такіх удалых спаборніцтваў, як сёння». І нікольк і не засмучаючыся тым, што за пройгрыш давялося адважыць нямала золата і срэбра, яны пайшлі па дамах і пачалі святкаваць ды піць віно. Свята цягнулася доўга, і далёка за поўнач агні ў горадзе ўсё яшчэ гарэлі, а таму многія жонкі, не знайшоўшы мужоў дома, засталіся начаваць у чужых пасцелях, але ніхто не засмучаўся і не звяртаў на гэта ўвагі, бо такія ўжо крыцкія звычаі.

Я спаў на дыванах адзін, бо Мінея гэтаю ноччу не магла прыйсці да мяне, а ўранні я наняў у порце насілкі і адправіўся правесці Мінею да яе бога. Яе везлі ў залатым вазку, запрэжаным коньмі з пышнымі пучкамі пер'я на галовах, а сябры ехалі ў насілках і ішлі побач, жартуючы, смеючыся ды часам спыняючыся, каб выпіць віна. Шлях быў далёкі, але ўсе назапасілі добрай ежы і шмат віна, кожны трымаў у руках аліўкавую галіну, якой яны абмахвалі адзін аднаго ці адганялі авечак, што трапляліся па дарозе і належалі бедным земляробам. Палац бога быў высечаны ў гары, на пустэльным марскім беразе, і ўсе прымоўклі, набліжаючыся да яго, нават загаварылі шэптам.

Але сам палац я разгледзець не змог, бо звонку гэта была проста невысокая гара, зарослая кветкамі і травой. Уваход зачыняўся высокаю брамай, перад якой стаяў невялікі храм, дзе жылі ахоўнікі і адбываўся абрад пасвячэння. Пад вечар працэсія дасягнула брамы, Мінеіны сябры вылезлі з насілак, уладкаваліся на траве і пачалі есці, піць ды жартаваць між сабою, цалкам забыўшыся, што побач з храмам паводзіць сябе трэба пачціва,— такія ўжо лёгкія былі іх крыцкія норавы. Як сцямнела, запалілі факелы і пачаліся розныя гульні ў кустах, адкуль даносіліся жаночы віск і мужчынскі смех, а Мінея сядзела ў храме адна, і наблізіцца да яе не мог ніхто.

Я глядзеў на яе здалёк. Яе апранулі ў золата, як багіню, а на галаву накінулі вялікае залатое покрыва. Яна паспрабавала мне ўсміхнуцца, але ў той усмешцы не было радасці. Калі ўзышоў месяц, яе распранулі, знялі ўсё золата і аздобы, а замест іх надзелі празрыстую сукенку, і валасы пакрылі срэбнаю сеткай. Потым ахоўнікі адчынілі цяжкую медную браму — каб адчыніць яе, спатрэбілася па дзесяць чалавек на кожную палавіну. За брамай была такая непраглядная цемра, што ўсе змоўклі, і запанавала поўная цішыня. Мінеі далі ў рукі запаленую паходню, і Мінатаўр павёў яе ў цёмны палац, дзе яны хутка зніклі. Пасля таго як зніклі нават водбліскі паходні, грымучую браму зноў зачынілі, некалькі дужых мужчын заклалі моцныя засаўкі, і болей я Мінеі не бачыў.

Мяне адразу агарнула такая невыказная роспач, што маё сэрца ператварылася ў адкрытую рану, з якой выцекла ўся мая кроў. Я знясіле-

на ўпаў на калені тварам у густую траву, і ў гэтую хвіліну да мяне ясна дайшло, што Мінею я больш ніколі не ўбачу. Ніколі — хоць яна і абяцала вярнуцца з боскага палаца і пайсці за мной, каб пражыць разам усё жыццё. Цяпер я дакладна ведаў, што яна ўжо не вернецца! Чаму я гэта зразумеў і ўсвядоміў, сказаць не магу, бо да гэтай хвіліны я ўсё яшчэ верыў у цуд — я і баяўся, і спадзяваўся, і стараўся сябе пераканаць, што крыцкі бог не такі, як іншыя, я думаў, што ён адпусціць Мінею дзеля кахання, якое звязвае яе са мной. А цяпер я перастаў спадзявацца, я проста ляжаў на зямлі, і Каптах, які сядзеў побач, паклаў маю галаву сабе на калені і ціха галасіў. Затое знатныя людзі, што суправаджалі Мінею, насіліся вакол з паходнямі, вычварна скакалі і спявалі песні, якіх я не разумеў. Пасля закрыцця брамы ўсіх нібы ахапіла шаленства, і іх крык аддаваўся ў маіх вушах, як крумкачыны грай.

Праз пэўны час Картах перастаў галасіць і сказаў:

— Мы не можам змяніць таго, што адбылося, а заўтрашні дзень невядомы нікому. Таму давай, мой гаспадар, паядзім ды пап'ем, каб падмацаваць нашы сілы. Я ведаў, што нам гэта прыдасца, а таму прыхапіў віна і смачнае ежы, бо варта мне моцна засмуціцца, як адразу ўзнікае жаданне добра паесці. А змрочнымі думкамі не падсілкуешся.

Ён выцер слёзы і як след падмацаваўся, а мне ежа не лезла ў горла і ад віна тхнула балотнай тванню. Я зноў лёг на зямлю, але хутка зноў падняў галаву, бо Каптах раптам сказаў:

— Думаю, зрок мяне не падманвае, бо я не выпіў яшчэ і палову меры, ад якой у мяне пачынае дваіцца ў вачах. А значыць быкагаловы напраўду вярнуўся з гары. Але адкуль ён выйшаў, я не разумею, бо медную браму ніхто не адчыняў.

Ён казаў праўду: Мінатаўр сапраўды выйшаў з боскага палаца, і яго залатая бычыная галава злавесна блішчала ў месячным святле. Уступіўшы ў карагод, ён пачаў выконваць святочны танец, прытупваючы абедзвюма нагамі. І тады я, не стрымаўшыся, ускочыў на ногі, кінуўся да яго і, ухапіўшы за локаць, спытаў:

— Дзе Мінея?

Ён скінуў маю руку і пахітаў бычынаю галавой, але я не адставаў. Тады ён зняў маску і, адкрыўшы твар, злосна сказаў:

— Нягожа перабіваць святы танец, але ты чужынец і мог не ведаць гэтага. Таму я гатовы дараваць табе гэту памылку, калі ты не павінен больш мяне турбаваць.

— Дзе Мінея? — зноў спытаў я, і тады нарэшце Мінатаўр адказаў:

— Я пакінуў Мінею ў цемры боскага палаца, як гэта вызначана нашымі звычаямі, а сам вярнуўся выканаць свяшчэнны танец у гонар нашага бога. Што табе трэба яшчэ ад Мінеі? Ты ўжо атрымаў узнагароду за тое, што прывёз яе дадому.



— А чаму ты вярнуўся з палаца, а яна не вярнулася? — упарта спытаў я і заступіў Мінатаўру дарогу, але ён моцна мяне адштурхнуў, і нас раздзяліў карагод.

У гэты момант Каптах ухапіў мяне за руку і пацягнуў прэч. І мусіць, добра зрабіў, бо невядома, што магло б адбыцца. Каптах зашаптаў:

— Ты ненармальны вар'ят! Навошта прыцягваць да сябе ўвагу? Лепш смейся, танцуй ды спявай, як усе, інакш мы нажывем непрыемнасці. А я магу табе, дарэчы, сказаць, што Мінатаўр выйшаў праз непрыкметную фортку побач з меднаю брамай, і ніякага дзіва ў гэтым няма. Я сам хадзіў паглядзець на гэтую фортку і бачыў, як ахоўнікі замкнулі яе, а ключ узялі з сабой. Таму я параю табе, мой гаспадар, выпі віна, каб супакоіцца, бо твар у цябе ўжо ўвесь перакрывіўся, як у шаленца, і ты круціш вірламі, як сава.

Ён напаіў мяне віном, і я заснуў на траве пад месячным святлом, а перад вачыма ў мяне мільгацелі паходні. Каптах бачыў, у якім я быў стане і таму падмяшаў у віно макавы сок. Так ён адплаціў мне за тое, што я зрабіў у Вавілоне, ратуючы яму жыццё, але ён не запіхнуў мяне ў гарлач, а накрыў коўдрай і сеў побач, пільнуючы, каб танцоры не затапталі мяне. Можа быць, ён таксама ўратаваў мне жыццё, бо я быў у такім стане, што ад роспачы мог закалоць Мінатаўра нажом. Каптах праседзеў побач са мной усю ноч, пакуль не апаражніў гарлач з віном. Тады ён не заснуў, дыхаючы мне ў вуха вінным перагарам.

На другі дзень я прачнуўся позна, бо дурманнае зелле аказалася вельмі моцнае. Я не адразу нават уразумеў, дзе знаходжуся, а калі ўспомніў, што адбылося ўчора, пастулова супакоіўся, мая галава праяснела і я ўжо не ўпадаў у шаленства. Многія ўдзельнікі свята вярнуліся ў горад, а некаторыя яшчэ спалі ў кустах — і мужчыны, і жанчыны разам, бессаромна агаліўшыся, бо пілі, елі і весяліліся да самага ранку. Прачнуўшыся яны апранулі новыя ўборы, жанчыны папраўлялі свае прычоскі і вельмі засмуціліся, што не могуць прыняць ванну, бо вада ў ручаі была надта халодная, а яны прывыклі да гарачай вады са срэбных трубаў у хаце. Але яны прапаласкалі раты, намазалі і падфарбавалі твары і пачалі распытваць адна другую, пазяхаючы на ўвесь рот:

— Ну, хто застаецца чакаць Мінею, а хто вяртаецца ў горад?

Шмат каго забавы на траве і ў кустах ужо болей не вабілі, і яны, стомленыя, вярталіся ў горад. Каля палаца засталіся толькі самыя маладыя і нястомныя — нібыта з мэтаю пачакаць Мінею, хоць усе добра ведалі, што з палаца бога ніколі ніхто не вяртаецца. Па праўдзе, яны засталіся толькі таму, што сустрэлі мінулаю ноччу таго, хто прыйшоўся ім даспадобы, і жанчыны адаслалі ў горад мужоў, каб без іх ужо ўволю пацешыцца. Тады я сцяміў, чаму ў горадзе няма ніводнага дома ўцехаў, і ўсе яны — толькі ў порце. Паглядзеўшы, як крыцяне забаўляліся міну-

лыя дзень і ноч, я прыйшоў да высновы, што прафесійныя дзяўчаты для ўцех шмат у чым саступалі знатным крыцянкам.

Перш чым Мінатаўр таксама пайшоў, я спытаў у яго:

— А ці можна мне, хоць я і чужынец, таксама пачакаць Мінею разам з яе сябрамі?

Той непрыязна паглядзеў на мяне і адказаў:

— Табе ніхто не забараняе, але, думаецца, у гавані стаіць карабель, які можа адвезці цябе ў Егіпет, бо ты будзеш чакаць дарэмна: з гэтага палаца ніхто яшчэ не вяртаўся.

Тады я прыкінуўся дурненькім і, жадаючы залагодзіць яго, сказаў:

— Мінея мяне, сапраўды, вельмі зачаравала, але была ўсё-ткі досыць нудная: ад яе вернасці богу з ёю немагчыма было пацешыцца. Праўду кажучы, я хачу застацца не дзеля яе, а таму што тут шмат прывабных дзяўчат і замужніх кабет, якія пажадліва глядзяць на мяне. Жадаючы мяне спакусіць, яны пхаюць свае аголеныя грудзі прама мне ў рукі — са мною такога яшчэ не было ніколі. А Мінея напраўду была дзяўчына вельмі раўнівая і строгая, яна не давала мне цешыцца з імі, хоць і з ёй я не мог рабіць гэтага. Відаць, мне трэба папрасіць у цябе прабачэння, бо мінулаю ноччу я напіўся п'яны і абразіў цябе, хоць я не памятаю чаму, бо галава ў мяне яшчэ не дарэшты прайшла. Памятаю толькі, што нібыта клаў рукі табе на плечы і прасіў навучыць мяне танцаваць гэтак сама прыгожа, як ты, бо, напраўду, я ніколі не бачыў такіх прыгожых і ўрачыстых танцаў. Але калі я, чужаземец, і абразіў цябе, дык ад усяго сэрца прашу дараваць мне, бо я дрэнна ведаю вашы звычаі і не ведаў, што за тваёю святасць дакранацца да цябе нельга.

Усё гэта я балбатаў, робячы няўцямны выгляд і скардзячыся на галаўны боль, пакуль жрэц нарэшце не заўсміхаўся і не паверыў, што я такі сапраўды дурны. Тады ён сказаў:

— Ну, калі так, то не хачу перашкаджаць табе забаўляцца — у нас на Крыце, норавы вольныя. Заставайся і чакай Мінею, колькі захочаш. Толькі глядзі, каб ні адна жанчына ад цябе не зацяжарала, бо ты ж чужынец. Гэтая парада не мае на мэце цябе абразіць — я проста кажу табе пра нашы звычаі, як мужчына мужчыне.

Я паабяцаў, што буду асцярожны і яшчэ шмат балбатаў пра тое, чаму мяне навучылі дзяўчаты ў храмах Сірыі і Вавілона, пакуль ён не ўпэўніўся, што я поўны дурань. Калі ж я цалкам яму надакучыў, ён паляпаў мяне па плячы і пайшоў да горада. Але ахоўнікаў ён, мусіць, усё-ткі папярэдзіў, каб тыя пільна сачылі за мной, а крыцянам параіў мяне пазабаўляць, бо пасля яго адыходу да мяне падышлі адразу некалькі жанчын. Яны пачаплялі на мяне вянкі і пачалі зазіраць мне ў вочы, прыціскаючыся сваімі аголенымі грудзьмі. Але я выпіў так многа, што хутка ім надакучыў, і яны пачалі мяне штурхаць, называючы свіннёю і



варварам. Каптах, гучна праклінаючы маё п'янства, выцягнуў мяне з натоўпу і прапанаваў жанчынам забаўляць яго замест мяне. Жанчыны разглядвалі яго і ціхенька хіхікалі, а юнакі ў адкрытую рагаталі і паказвалі пальцамі на яго тоўсты жывот і лысіну. Але ён быў чужаземец, а ўсё незнаёмае вабіць жанчын ва ўсіх краях. Таму, насмяяўшыся, яны ўцягнулі яго ў сваю кампанію і пачалі абнюхваць, жахаючыся незнаёмаму паху. Зрэшты, хутка яны да яго прызвычаіліся і, ужо спакушаючы Каптаха, пачалі ласкава называць яго козлікам.

Пакінуўшы на іх свайго слугу, я сам уцёк, бо, апроч Мінеі, думаць пра што-небудзь іншае проста не мог. Маю душу, як галодны пацук, грызла роспач. Калі ахоўнікі пасля абеду заснулі, я падышоў да брамы і знайшоў побач фортку, але адамкнуць яе без ключа было немагчыма. Тады я прыпаў да форткі вуснамі і пачаў гукаць Мінею, нягучна прамаўляючы яе імя, бо не адважваўся крыкнуць уголас. Потым ахоўнікі прачнуліся, і я, падышоўшы да іх з гарлачом віна, пачаў іх частаваць, чаму яны вельмі здзівіліся, бо на Крыце знатныя людзі нават не размаўляюць з прасталюдзінамі і жывуць так, нібы ніякіх беднякоў на свеце няма. Яны ведалі, што я чужынец, і лічылі, што я так сябе паводжу, таму што я проста дурань. Яны пілі маё віно і кпілі з мяне, размаўляючы між сабой на сваёй мове. Жрэц з храма, пазайздросціўшы, выйшаў з дома, паглядзеў на нашу кампанію, а тады далучыўся піць разам. Гэта быў стары чалавек, які ўсё жыццё пражыў у храме, вартуючы медную браму, а калі я спытаў, ці заходзіў ён хоць раз у палац бога, той жахнуўся і адказаў, што ў боскі палац могуць уваходзіць толькі пасвечаныя ды Мінатаўр, астатніх там чакае жахлівая смерць. У пацверджанне ён расказаў, што ў старадаўнія часы, калі Крыт яшчэ не быў такі магутны, піраты высадзіліся на беразе побач з храмам, захапілі стражнікаў і ўвайшлі ў палац, спадзеючыся знайсці ў ім вялікія скарбы. Але з тых, хто пайшоў першы, ніхто не вярнуўся, як не вярнуліся і тыя, хто пайшоў іх шукаць, а стражнікі чулі жахлівыя крыкі, што даносіліся з палаца. Тады піраты, якія заставаліся на беразе, так напалохаліся, што адпусцілі стражнікаў і ўцяклі на свой карабель, не асмеліўшыся нават забіць захопленую ў палон ахову. Пасля таго ніхто ўжо не спрабаваў увайсці ў палац бога. Таму жрэц лічыў, што ахоўваць яго, па сутнасці, няма патрэбы: увайсці туды ўсё адно ніхто не адважваецца. Ён завёў мяне ў сваё жытло, паказаў ключ ад форткі, нікольні яго не хаваючы, і расказаў, што Мінатаўр, ідучы ў палац, бярэ гэты ключ з сабою, каб неўпрыкмет выйсці, калі брама за абранай дзяўчынай зачыніцца.

Я купіў у жраца некаторыя амулеты і фігуркі быкоў, якія ён, каб неяк прабавіць час, выразаў з каменя. Ён быў гэтым вельмі задаволены, і мы пасябравалі. Кожны раз, гаворачы нешта пра цёмны палац, ён адразу сцішваў голас, і я зразумеў, што ён сам вельмі баіцца палаца, які

ахоўвае. Ён сказаў, што і не асмеліўся б жыць у гэтым храме, калі б брама ў палац была ўвесь час адчыненая. Але чаго ён баяўся, так і не растлумачыў.

Я не хацеў доўга ў яго затрымлівацца, каб не прыцягваць увагу, і паспяшаўся да Мінеіных сяброў, зноў пачаў піць віно і жартаваць з жанчынамі, прыкідваючыся, што моцна захоплены імі. Каптах ужо зусім сп'янеў і нешта хлусіў ім пра краіны, дзе яму давялося пабываць, а яны смяяліся, пляскалі ў ладкі і крычалі ад захаплення, як малыя дзеці. Ён расказваў, як быў вавілонскім царом і як судзіў, седзячы ў царскім крэсле, пра свае вялікія подзвігі ў царскіх жаночых пакоях, але ўсе лічылі, што гэта хлусня, смяяліся і прыгаворвалі: «У ім, напэўна, цячэ крыцкая кроў».

Так прайшоў яшчэ дзень, і мне надакучылі ўжо і забавы, і легкадумнасць, і вольныя норавы. І тады я падумаў, што болей нуднага жыцця і ўявіць сабе немагчыма, бо капрызы, якія не ведаюць межаў, надакучваюць хутчэй, чым размеранае жыццё. Мінеіны сябры зноў гулялі ўсю ноч, і час ад часу я абуджаўся ад віску і гікання ў лесе, куды жанчыны нібыта ўцякалі ад юнакоў, а тыя, дагнаўшы ўцёклых, здзіралі з іх у цемры сукенкі. Уранні ўсе пачуваліся стомленымі і незадаволенымі ад таго, што нельга прыняць ванну, і яшчэ многія вярнуліся ў горад, а каля меднай брамы засталіся толькі самыя маладыя ды бясклапотныя.

Але на трэці дзень ужо і яны адправіліся ў горад, і я аддаў ім насілкі, што мяне дагэтуль чакалі, бо тыя, хто прыйшоў пешшу, проста не маглі хадзіць. Яны хісталіся з боку ў бок ад недасыпу і залішніх уцехаў, а мне было важна, каб ніхто, нават насільшчыкі, мяне не чакаў. Я штодзень паіў ахоўнікаў віном, і яны да гэтага ўжо прывыклі і не здзіўляліся, калі на зыходзе дня я прыносіў новы гарлач. Яны прымалі яго з задавальненнем, бо цяпер цэлы месяц, пакуль да палаца ўрачыста не прывядуць новага пасвечанага, рабіць ім не было чаго. Іх здзіўляла хіба толькі, што я так упарта чакаў Мінею. Раней тут такога ніколі не здаралася, але ж я быў чужаземец, а таму здаваўся ім дурнем, і яны задаволена папівалі маё віно, а калі да іх далучыўся і жрэц, я шапнуў Каптаху:

— Багі нам загадваюць зараз расстацца, бо Мінея не выйшла назад, і я не веру, што яна вернецца, калі я сам па яе не прыйду. Але ж адтуль не вяртаўся яшчэ ні адзін чалавек, то можа быць, не вярнуся і я. Табе лепш схавацца ў тым лесе, а калі я да заўтра не выйду, вяртайся ў горад. Усім, хто пра мяне спытае, кажы, што я зваліўся са скалы ў мора, пляці, што хочаш, — ты здолееш прыдумаць лепш за мяне. Але я ўпэўнены, што не вярнуся, таму можаш ісці ў горад нават цяпер. Я напісаў табе гліняную таблічку, заверыўшы яе сірыйскай пячаткай, і цяпер ты можаш паехаць у Сіміру і атрымаць там у гандлёвым доме ўсё, што належыць мне. Калі хочаш, можаш прадаць мой дом. Пасля гэтага ты будзеш вольны і зможаш пайсці ці паехаць, куды захочаш. А калі баішся, што цябе, як уцёклага раба, шукаюць у Егіпце, дык заставайся ў Сіміры і жыві ў маім доме і на мае грошы, як хочаш. Клапаціцца аб тым, зберажэцца маё цела ці не, ты не павінен, бо калі я не знайду Мінеі, мне будзе ўсё адно, зберажэцца яно, ці не. Ты быў мне адданым слугою, хоць часта надакучваў сваімі навязлівымі размовамі, і мне шкада, што я балюча біў цябе палкай, але спадзяюся, гэта пайшло табе на карысць, бо я рабіў гэта з добрым намерам і прашу цябе не крыўдаваць. А цяпер можаш ісці, і хай скарабей прынясе табе ўдачу. Я думаю, што там, куды я іду, скарабей мне будзе ўжо без патрэбы.



Каптах доўга маўчаў, гледзячы на мяне, а тады сказаў:

— Мой гаспадар, я зусім на цябе не крыўдую, хоць часам ты лупцаваў мяне палкай болей, чым трэба, але ж ты рабіў гэта з добрым намерам і лічыў, што гэта пойдзе мне на карысць. Затое яшчэ часцей ты слухаў маіх парадаў і размаўляў са мною як з сябрам, а не рабом, так што часам я нават баяўся, каб ты гэтым не прынізіў сваю годнасць, але потым палка зноў ставіла нас на вызначаныя багамі месцы. Але цяпер і Мінея — таксама мая законная гаспадыня, бо я паставіў яе блаславёную маленькую нагу на свой карак. А значыць, як слуга, я за яе ў адказе. І ёсць яшчэ шмат іншых прычынаў — я не буду іх называць, — па якіх я не магу пусціць цябе аднаго ў гэты цёмны палац. Калі ты не хочаш, каб я туды пайшоў за табой, як слуга, то я пайду, як твой сябар. Я не магу пакінуць цябе аднаго, тым болей без скарабея, хоць, як і ты, думаю, што ў гэтай справе ён мала нам дапаможа.

Ён гаварыў гэта сур'ёзна і ўзважана, а не галасіў, як звычайна, — я нават не пазнаваў яго. Але ісці на смерць удвух я лічыў неразумным, а таму паўтарыў, каб ён ішоў куды хоча і не казаў розные глупства. Але ён быў упарты.

— Калі ты не хочаш, каб я ішоў з табой разам, я пайду следам, і ты не зможаш мне перашкодзіць, але ж лепш было б ісці разам, бо я баюся цемры. Я ўвогуле так баюся гэтага цёмнага палаца, што ад адной думкі пра яго мае косці ператвараюцца ў ваду! Таму дазволь мне ўзяць з сабою гарлач віна, каб я час ад часу мог сябе падмацоўваць, бо інакш я пачну лямантаваць і магу табе пашкодзіць. Зброю я браць не буду: я чалавек добры і баюся крыві. Я больш спадзяюся на свае ногі, чым на зброю, а таму, калі ты збіраешся біцца з богам, дык можаш рабіць гэта адзін, а я буду глядзець здаля і даваць мудрыя парады, каб цябе падбадзёрыць. І хай будзе, што будзе, бо ўсё, што адбываецца з намі, напэўна, напісана на зорках яшчэ да нашага нараджэння! Праўда, нашае жыццё ад гэтага не робіцца лягчэйшым. Мяне суцяшае толькі тое, што як на аднаго чалавека, то я пражыў ужо даволі доўга, я да непрытомнасці напіваўся ў розных корчмах і да знямогі весяліўся з жанчынамі, —

а напаследак яшчэ і з гэтымі крыцянкамі, якія толькі і прыдатныя, што на пасцілкі, але, ратуй Амон, я нікому не раю разбіваць гаршчок з імі. Вядома, нашу гаспадыню Мінею я не маю на ўвазе — яна, наадварот, была занадта цнатлівай, і ў гэтым заключалася яе галоўная загана. Скажу адно: каб яна, як робіць гэта кожная высакародная дзяўчына з хлопцам, які ёй падабаецца, чэсна лягла з табой у ложак, то мы пазбеглі таго, што маем цяпер, і даўно былі б дома ў Сіміры ці ў Егіпце, а яна вяла б тваю гаспадарку, з чаго ўзніклі б новыя цяжкасці, пералічваць якія я табе зараз не буду, але і яны не параўнаюцца з тым, што нас чакае зараз. У адрозненне ад цябе, мне, на жаль, зусім не абыякава, зберажэцца маё цела ці не, і мяне вельмі хвалюе, што будзе са мною ў будучым жыцці. Але чаму быць, ад таго не ўцячэш, як сказала адна старая, калі ўшчаміла палец у жорнах.

Я ведаў, што Каптах здольны балбатаць хоць да рання, асабліва цяпер, калі яго язык не мог спыніцца ад страху. Таму я перабіў яго:

— Змоўкні, бяры, калі хочаш, свой гарлач з віном, і пойдзем. Пара разабрацца з гэтаю справай. Я думаю, ахоўнікі цяпер спяць, напіўшыся майго віна з дурманным зеллем.

А і жрэц, і ахоўнікі сапраўды спалі мёртвым сном, і я змог спакойна ўзяць ключ ад форткі ў тым месцы, якое мне паказаў жрэц. Мы прыхапілі з сабой чарапок з прыскам і паходні, але агонь яшчэ і не запальвалі, бо месяц свяціў ярка, і замок лёгка адамкнуўся. Так мы ўвайшлі ў палац бога, зачынілі за сабой фортку, і я пачуў у цемры, як Каптахавы зубы ляскацяць аб край гарлача з віном.

**5**

Падмацаваўшыся, Каптах сказаў слабым і ледзь чутным голасам:

— Давай запалім паходню, мой гаспадар. Звонку гэтага святла ніхто ўжо не ўбачыць, а цемра, у якую мы палезлі па сваёй ахвоце, страшнейшая за цемру падземнага царства, ад якога нікому не ўратавацца.

Тады я раздзьмуў жарніцу, запаліў ад вуголля паходню і агледзеўся. Мы знаходзіліся ў вялізнай пячоры, уваход у якую быў зачынены меднаю брамаю. З пячоры ў розных кірунках выходзіла дзесяць калідораў, аддзеленых адзін ад другога магутнымі цаглянымі сценамі. Я ведаў, што крыцкі бог жыве ў лабірынце, і быў да гэтага гатовы, а з расказаў вавілонскіх жрацоў памятаў, што будова такіх лабірынтаў тая самая, што і кішэчніка ў адпаведных ахвярных жывёлаў. Калі прыносіліся ахвяры, я часта бачыў кішкі быкоў і спадзяваўся, што знайду правільны шлях, бо гэты лабірынт будаваўся даўно і, на маю думку, павінен быў трымацца згаданага старадаўняга правіла. Таму, паказаўшы Каптаху на бліжэйшы калідор, я сказаў:

— Пойдзем сюды.



Але Каптах адказаў:

— Асаблівай спешкі ў нас няма, а лішняя перасцярога човен не перакуліць. Таму трэба для пэўнасці зрабіць усё, каб не заблудзіць, а галоўнае — знайсці дарогу назад, калі ўвогуле нам наканавана вярнуцца, у што я не надта ўжо веру.

З гэтымі словамі ён выняў з торбы клубок нітак і адзін канец прывязаў да касцянога кліна, які ўбіў між цаглінамі. Яго думка была такая простая і такая мудрая, што сам я ніколі да такога не дадумаўся б! Вядома, Каптаху я ў тым не прызнаўся, каб не прынізіць сваёй годнасці ў ягоных вачах, і толькі сярдзіта загадаў, каб ён варушыўся. Так мы рушылі ў лабірынт: я трымаў у памяці будову бычынага кішэчніка, а Каптах размотваў нітку з клубка.

Мы кружлялі ўпоцемку па бясконцых калідорах, і перад намі ўзнікалі ўсё новыя і новыя праходы, зрэдку мы натыкаліся на сцяну і тады вярталіся назад і ішлі па другім калідоры. Раптам Каптах спыніўся, прынюхваючыся, і яго зубы застукалі, а паходня ў руках задрыжала:

— Мой гаспадар, ты чуеш бычыны пах? — спытаў ён.

Я сапраўды пачуў брыдкі смурод, які напамінаў пах быка, але яшчэ страшнейшы: здавалася, што ён сочыцца проста сценаў, паміж якімі мы ішлі, што ўвесь лабірынт — гэта агромністы і заблытаны хлеў для быкоў. Але я загадаў Каптаху не прынюхвацца, а рушыць наперад. Тады ён грунтоўна зноў прыклаўся да гарлача, і мы пайшлі далей. Мы ішлі, пакуль я не спатыкнуўся аб нешта слізкае і, нагнуўшыся, не ўбачыў жаночы чэрап, на якім яшчэ захаваліся валасы. Тады я зразумеў, што жывой ужо не знайду Мінею. Але моцная безразважная патрэба ўсё адно мяне гнала наперад, я падштурхоўваў Каптаха, не дазваляючы яму крычаць, але неўзабаве ўперліся ў яшчэ адну сцяну і мусілі зноў павярнуць назад.

Раптам Каптах спыніўся, паказаў на зямлю, і яго рэдкія валасы сталі дыбарам, а ўся кроў адліла ад твару, і ён зрабіўся бледна-шэры. Я павярнуў галаву і ўбачыў на падлозе вялізную, памерам з чалавечае цела, кучу сухога дзярма! Калі гэта пакінуў бык, ён мусіў быць такога росту, што страшна было падумаць. Адгадаўшы мае думкі, Каптах сказаў:

— Гэта не бык, бо, калі б ён быў такога памеру, то не пралез бы па гэтых калідорах. Я думаю, гэта дзярмо вялізарнай змяі.

Сказаўшы гэта, ён прыпаў да гарлача з віном, а я падумаў, што гэты лабірынт сапраўды нібы адмыслова пабудаваны для вялікай змяі. У пэўны момант я завагаўся нават, ці не павярнуць нам назад. Але ўспамін пра Мінею выклікаў у маёй душы такую роспач, што я рушыў далей, пацягнуўшы за сабою Каптаха і сціскаючы ў мокрай ад поту далоні нож, хоць у нашым становішчы ад яго не было ніякай карысці.

Мы ішлі, і смурод рабіўся ўсё больш невыносным, ён патыхаў нам у

твар, нібы з вялізнай магілы, і мы ледзь не задыхаліся ад яго. Але мой дух перамагаў страх, бо я ведаў, што хутка мы будзем на месцы. Мы шыбавалі далей, пакуль праход наперадзе не засвяціўся нейкім шэрым прыцемкам, які нібыта абяцаў, што недзе блізка там ёсць святло, а мы ішлі ўжо ў самім целе гары: сцены калідораў тут былі ўжо не з цэглы і не з абчасанага каменя, а былі высечаныя ў мяккай горнай пародзе. Праход вёў нас уніз, і мы, спатыкаючыся аб чалавечыя косці і кучы сухога дзярма, нібы ў бярлогу нейкага вялізнага звера, выйшлі нарэшце ў прасторную пячору, дзе, апынуўшыся на краю абрыву, убачылі ўнізе ваду, ад якой падымаўся невыносны смурод.

З мора ў пячору пранікала святло, якое афарбоўвала ўсё вакол страшным зеленаватым колерам, і мы тут маглі ўжо бачыць без дапамогі паходняў. Аднекуль здалёк чулася, як хвалі плешчуцца каля скалаў. А ўнізе на паверхні вады калыхалася нешта падобнае да вялізных скураных мяшкоў. І калі нашы вочы прызвычаіліся, мы разгледзелі здохлую жывёліну, болей вялікую і жахлівую, чым можа ўявіць сабе чалавек! Ад гэтай жывёліны і патыхала смуродам. Галава страшыдлы патанала ў вадзе, але можна было здагадацца, што яна нагадвае галаву быка. Я здагадаўся, што бачу крыцкага бога, і зразумеў, што гэтая жахлівая жывёліна здохла ўжо некалькі месяцаў таму. А дзе была Мінея?

Думаючы пра яе, я думаў і пра іншых — пра тых, хто быў прысвечаны богу раней і ўвайшоў у гэты храм, навучыўшыся танчыць перад быкамі. Я думаў пра юнакоў, якім было забаронена збліжацца з жанчынамі, і пра дзяўчат, якія мусілі зберагаць сваю цноту, каб спазнаць радасць і святло гэтага бога, я думаў пра іх чарапы ды косці, раскіданыя па падземных калідорах, і пра таго драпежніка, чыё брыдкае цела займала перад імі ўвесь праход так, што небарак не маглі ўратаваць ні ўвішныя іх скачкі, ні ўсё мастацтва танцаў перад быкамі. Гэты звер харчаваўся чалавечынай, яму было дастаткова паесці раз на месяц, і ўлады Крыта ахвяравалі яму на з'ядзенне самых прыгожых дзяўчат і зялёных юнакоў, думаючы, што такім чынам захаваюць сваё панаванне над морам. Гэтае страшыдла, мусіць, трапіла ў пячору з жахлівых марскіх глыбіняў, загнанае моцнаю бурай, а жрацы зачынілі яму выхад назад, пабудавалі ў скале лабірынт і кармілі пачвару чалавечымі ахвярамі, пакуль яна не здохла, а другой такой, мабыць, і не было нідзе ў свеце. Але дзе была Мінея?

У шалёным адчаі я пачаў гучна гукаць Мінею. Уся пячора загула рэхам, і тут Каптах паказаў на дог, дзе на камянях віднеліся плямы нядаўна засохлай крыві. Ідучы па гэтых слядах, я неўзабаве ўбачыў цела Мінеі, ці тое, што ад яго засталося,— яно павольна гайдалася на марскім дне, і яго, абсеўшы з усіх бакоў, прагна жэрлі ракі. Твару ўжо не было, але я пазнаў Мінею па срэбнай сетачцы на валасах. Я не



шукаў раны ад меча ў яе грудзях, я разумеў, што Мінатаўр, прывёўшы яе сюды, усадзіў ёй нож ззаду, а тады скінуў у ваду, каб ніхто не здагадаўся аб смерці крыцкага бога. Напэўна, тое самае ён рабіў і з іншымі дзяўчатамі ды юнакамі задоўга да Мінеі.

Калі я ўбачыў гэта і пра ўсё здагадаўся, з маёй глоткі вырваўся страшны крык, я ўпаў на калені і, трацячы прытомнасць, напэўна, таксама зваліўся б уніз, да Мінеі, калі б Каптах не схапіў мяне за руку і не адцягнуў у бяспечнае месца, як ён расказваў потым. Што было пасля, я не памятаю, бо забыўся ў глыбокай міласэрнай непрытомнасці.

Каптах расказваў, што доўга бедаваў і галасіў над маім целам, думаючы, што я таксама памёр, але потым заўважыў, што я яшчэ дыхаю, і тады, аплакваючы Мінею, вырашыў ратаваць хоць бы мяне. Ён расказваў, што бачыў шкілеты іншых дзяўчат і юнакоў, забітых Мінатаўрам, з чыіх цел ракі аб'елі ўжо ўсё мяса, і на пясчаным дне ляжалі іх бялюткія косткі. Задыхаючыся ад смуроду, ён зразумеў, што не здолее несці адначасова і мяне, і гарлач з вінам, і паходню, а таму ўсё адразу дапіў і кінуў збан у ваду. Віно надало яму новыя сілы, і, арыентуючыся па нітцы, ён рушыў назад, то цягнучы мяне за сабой, то несучы на плячах, і так дабраўся да меднай брамы. Пэўны час ён разважаў, а потым зматаў усю нітку, каб не пакідаць у лабірынце слядоў. Зрэшты, гарлач з-пад віна застаўся ў вадзе, а значыць, Мінатаўру, калі ён зноў прыйдзе выконваць сваю справу забойцы, будзе над чым падумаць.

Калі Каптах выцягнуў мяне лабірынта, замкнуў фортку і занёс ключ на месца ў жытле жраца, пачынала брацца на дзень. Жрэц і ахоўнікі, напіўшыся майго дурманнага зелля, усё яшчэ спалі. Тады Каптах аднёс мяне ў кусты, абмыў мне твар вадой і пачаў расціраць рукі, пакуль я не апрытомнеў. Але я ўсё адно не мог гаварыць, і яму давялося даць мне супакаяльнага зелля. Канчаткова я апрытомнеў нашмат пазней, калі мы падыходзілі ўжо да горада, і Каптах вёў мяне за руку. З гэтага моманту я памятаю ўсё.

Я памятаю, што не адчуваў ніякага смутку і амаль не думаў ужо пра Мінею, у маёй душы яна стала далёкім ценем, такім далёкім, быццам я сустрэў яе ў нейкім іншым жыцці. Затое мяне не адпускала думка, што крыцкі бог памёр, і цяпер паводле прадказанняў улада Крыта над морам павінна скончыцца. Я зусім аб гэтым не шкадаваў, хоць жыхары Крыта і ставіліся да мяне прыязна. Але ўсе іх радасці былі мне як бліскучая пена на марскім беразе, дый іх мастацтва напаміналала зіхоткую вясёлку над морам. Набліжаючыся да горада і гледзячы на яго лёгкія прыгожыя будынкі, я нават з радасцю думаў, што ўсе яны аднойчы ўспыхнуць ясным полымем, і вясёлы жаночы віскат ператворыцца ў смяротныя стогны. А залатую бычыную галаву Мінатаўра разаб'юць молатамі, падзеляць на здабычу, і ад усёй магутнасці Крыта не заста-

нецца следу. І тады выспа пагрузіцца ў хвалі, з якіх некалі выйшла, як і яе жахлівы марскі бык-страшыдла, што стаў яе богам.

Я думаў і пра Мінатаўра, але без злосці, бо Мінеіна смерць была лёгкай: ёй не давялося з усяе сілы ўцякаць ад вялізнай пачвары; можа нават, яна памерла, так і не зразумеўшы, што з ёю здарылася. Я думаў, што Мінатаўр, мусіць,— адзіны чалавек, які ведае пра смерць бога і пра хуткае падзенне Крыта, і я зразумеў, як нялёгка яму насіць гэтую таямніцу ў сабе. Не ведаю, ці лёгка яму было насіць таямніцу, калі страшыдла яшчэ жыло, і ён пасылаў у цёмны палац самых прыгожых дзяўчат і юнакоў, ведаючы, што іх там чакае. Я нічога дрэннага пра Мінатаўра не думаў, я проста спяваў нешта дурное і як вар'ят усміхаўся, ледзь перастаўляючы слабыя ногі. А Каптах, падтрымліваючы мяне, тлумачыў сустрэчным, што я яшчэ не працверазеў. І нікога мае паводзіны не здзіўлялі, бо я быў чужаземец і не разумеў, якое варварства з'яўляцца п'яным на людзях сярод белага дня. Нарэшце Каптах наняў насілкі, і мяне занеслі ў гасцёўню, дзе я ўдосталь напіўся віна і надоўга моцна заснуў.

Калі я прачнуўся, мой розум ізноў быў ясны, але ўсё мінулае здавалася мне вельмі далёкім. Я зноўку падумаў пра Мінатаўра, пра тое, што мог бы яго забіць, але мне не было б ад гэтага ніякай карысці, ні радасці. Я падумаў, што мог бы паведаміць народу ў гавані пра смерць крыцкага бога, каб людзі далі волю агню, але і гэта не дало б мне карысці і радасці. І я падумаў, што, паведаміўшы праўду, мог бы ўратаваць тых, хто выбраны для адпраўкі ў палац у наступны раз... Але я ведаў, што праўда — гэта востры нож у руках неразумнага дзіцяці, і яго лязо можа павярнуцца супраць свайго ўладальніка.

Яшчэ я падумаў, што крыцкі бог мне чужы, што мне няма да яго ніякае справы, і я ўсё адно ўжо ніяк я не вярну Мінею. Ракі ды крабы абгрызуць яе цела да белых костачак, і яно вечна будзе ляжаць на пясчаным дне мора. Я падумаў, што ўсё гэта яшчэ да майго нараджэння наканавана мне зоркамі і што я прыйшоў у гэты свет у час захаду, у дні, калі паміраюць багі, калі ўсё на свеце мяняецца і сам сусвет завяршае свой цыкл, а тады пачнецца новы. Гэтая думка дала мне вялікую палёгку, і я падзяліўся ёю з Каптахам, але той падумаў, што я хворы, папрасіў мяне адпачыць і не пускаў да мяне нікога, каб я не нагаварыў такога яшчэ каму-небудзь.

Увогуле, Каптах за тыя дні страшна мне надакучыў, бо бясконца соваў мне ежу, хоць я зусім быў не галодны. Затое мяне мучыла неспатольная смага, якую я мог заліць толькі віном, бо адчуваў сябе спакайней і разумней толькі, калі ад віна ўсё пачынала дваіцца ў вачах. Я ведаў, што навакольны свет не такі, якім здаецца п'яному, у якога ўсё двоіцца, але, на маю думку, праўда якраз і заключалася ў гэтай раздвоенасці, і я стараўся растлумачыць гэта Каптаху. Але той не слухаў мяне, а зноў прымушаў легчы, заплюшчыць вочы і супакоіцца. Мне ж здавалася, што я спакойны, як рыбка ў алеі, і я зусім не хацеў заплюшчваць вачэй, бо тады мне пачынала вярзціся што-небудзь страшанае і брыдкае: напрыклад, абгрызеныя чалавечыя косці ў гнілой вадзе ці нейкая дзяўчына на імя Мінея, якую я ведаў калісьці,— і яна па-майстэрску выконвала складаны танец перад вялікім паўзучым гадам з галавой быка. Я не хацеў заплюшчваць вачэй, а ўсё стараўся ўхапіць сваю палку ды адлупцаваць Каптаха, але мае рукі ад віна так аслаблі, што ён адразу і лёгка забіраў у мяне мой кіёк. Каштоўны нож, які падараваў мне хецкі начальнік партовай аховы, Каптах таксама схаваў, і я не здолеў яго знайсці, хоць з задавальненнем паглядзеў бы, як з маёй вены цячэ кроў.



Толькі пазней я зразумеў, што ўвесь той час быў хворы, але цяпер не ўспомню, пра што тады думаў, бо віно цалкам тлуміла мне галаву і раз'ядала памяць. Але думаецца мне, што менавіта віно ўратавала мой розум і дапамагло пераажыць страшны час пасля страты Мінеі, хоць я веру, што мне паспрыялі ў гэтым і багі, і дабрыня людзей. Таму сёння я кажу тым, хто прыходзіць да мяне з галавою, пасыпанай попелам, ды ў пашкуматанай вопратцы: «Няма такой тугі, ад якой не ўратавала б віно. Няма такой бяды, у якой не дапамагло б віно. Няма такой страты, перажыць якую не дапамагло б віно. Дык пі віно, і твая туга патоне ў ім, як мыш у гаршчку з вадою, не скардзься, калі спачатку яно падасца табе занадта горкім, бо чым болей ты п'еш, тым смачней яно робіцца, і хутка твая туга падасца табе далёкай хмаркай на небасхіле».

Аднак, калі хто прыходзіць да мяне з вянком на галаве і на шыі, нацёрты дарагім вохным алеем, у лепшых сваіх строях ды са слязьмі радасці на вачах, тады я кажу: «Асцерагайся залішняй радасці, сябра мой, бо радасць болей падступная, чым туга, яна падобная да змяі, што блішчыць на сонцы: на яе прыемна глядзець, але ў любы момант яна можа напоўніць тваю кроў смяротнай атрутай. Асцерагайся радасці, сябра мой, утапі яе ў віне, бо няма такой радасці, якую нельга было б заліць віном, і не радуйся, калі яно падасца табе салодкім і радасць твая ад віна ўзбуяе, бо чым больш ты будзеш яго піць, тым гарчэйшым яно будзе рабіцца, пакуль твая радасць не стане падобная да лахманоў на сухім пяску, і гэта будзе добра для цябе, бо радасць чалавека — гэта самы падступны дар, якім яго спакушаюць мроі».

Такім чынам з дапамогай віна нешта ўва мне зламалася, падобна таму, як гэта здарылася падчас майго навучання ў храме, калі я ўбачыў, як жрэц Амона ў самым святым месцы пляваў у твар бога і выціраў яго сваім шырокім рукавом. Паток майго жыцця спыніў свой бег і разліўся бязмежна шырокай сажалкай, на паверхні якой адбіваліся і неба, і зоркі, але варта было толькі тыцнуць у тую прыгожа бліскучую паверхню

палкай, як выяўлялася, што сажалка мелкая, а на дне поўна бруду і падлы.

Настаў новы ранак. Я зноў прачнуўся ў заезным двары і ўбачыў Каптаха, які сядзеў у кутку і, абхапіўшы галаву рукамі, калываўся туды-сюды ды ціха плакаў. Дрыготкімі рукамі я нахіліў гарлач з віном, але зрабіўшы глыток, спытаўся:

— Чаго ты скавычаш, сабака?

Я загаварыў з ім першы раз за шмат дзён. І ён, падняўшы галаву, адказаў:

— У порце стаіць карабель, які ідзе ў Сірыю, і здаецца, гэта апошняе судна, якое ідзе туды да зімняй непагадзі. Вось я і плачу.

— Дык бяжы на свой карабель, пакуль я цябе не прыстукнуў, каб не бачыць тваёй назойлівай пысы і не чуць тваіх безупынных скаргаў!

Я сказаў гэта з вялікім раздражненнем і адсунуў у бок гарлач. Але мне зрабілася сорамна за сваю думку — што, маўляў, на свеце яшчэ ёсць чалавек, які залежыць ад мяне. Але Каптах адказаў мне:

— Праўду кажучы, мой гаспадар, мне таксама так надакучыла бачыць тваё п'янства, што я і сам страціў цягу да віна, у што ніколі раней не паверыў бы. А цяпер я не хачу пасмактаць нават піва праз трысняговую трубачку. Хто памёр — той памёр і не вернецца, а нам лепш бы з'ехаць адсюль далей. Золата і срэбра, якое ты атрымаў падчас сваіх падарожжаў, ты павыкідаў у рыштКі праз акно, вылечыць каго-небудзь ты ў такім стане наўрад ці зможаш, бо ў цябе калоцяцца рукі так, што ты і гарлач з віном не можаш утрымаць. Прызнаюся, што я спачатку радаваўся, што ты п'еш, бо думаў, што віно цябе супакоіць, я нават сам угаворваў цябе піць і адкаркоўваў гарлач за гарлачом. І сам я піў, хваляючыся перад іншымі ды кажучы: «Вось паглядзіце, які зух мой гаспадар. Ён п'е, нібы бегемот, не вагаючыся, топіць у віне золата і срэбра, каб як след павесяліцца». Але цяпер я больш не хвалюся — я саромеюся свайго гаспадара, бо ўсё мае свае межы, а ты, на маю думку, не ведаеш меры. Я не стаў бы асуджаць чалавека, які напіваецца да непрытомнасці і ўчыняе бойкі на вуліцах, зарабляе гузакі і прачынаецца ў доме ўцехаў, бо гэта разумны звычай, які дапамагае лягчэй пераносіць розныя нягоды, я і сам так часта рабіў, але пахмелле трэба лячыць півам ды салёнаю рыбай, як устаноўлена боскімі ды людскімі законамі. А ты п'еш так, нібыта кожны дзень — апошні, і я баюся, што ты сапраўды дап'ешся да смерці, а на мой погляд, ужо тады лепш адразу ўтапіцца ў віне, бо так можна сканаць і хутчэй, і прыемней, і не зняславіўшы сябе пры тым.

Я думаў над тым, што сказаў Каптах, і разглядаў свае рукі, якія былі некалі рукамі лекара, а цяпер трэсліся самі па сабе. Я думаў пра ўсе тыя веды, якія сабраў у многіх краінах, і зразумеў, што як у горы, так і



ў радасці перабіраць лішку — гэтак жа неразумна, як зашмат есці. Таму я сказаў Каптаху:

—Хай будзе па-твойму, але ведай, што ўсё табою сказанае, я і сам разумею, і твае словы ніяк не ўплываюць на маё рашэнне: яны для мяне, як зыканне мухі ў маіх вушах. Тым не менш я зараз жа перастаю піць і не адкрыю да пары ніводнага гарлача з віном. Я разабраўся ў самім сабе і вырашыў паехаць з Крыта, каб вярнуцца ў Сіміру.

Пачуўшы гэта, Каптах радасна засмяяўся і, па звычаю рабоў, пачаў падскокваць. А я дадаў:

— Гэтае падарожжа было мне вельмі карыснае, бо на гэтай выспе я канчаткова звёў рахункі з багамі, і я ім болей нічога не вінаваты, як і яны мне. Зрэшты, я не магу сказаць пра гэта адкрыта, бо людзі абурацца і палічаць мае словы абразай. Хай кожны верыць, у што хоча, а я больш не буду ўмешвацца ў справы багоў — ні егіпецкіх, ні крыцкіх, ні вавілонскіх, ні, тым болей, хецкіх, хоць хеты, думаецца мне, яшчэ шмат чаго паведамяць іншым народам аб моцы багоў і іхніх намерах. Я адпраўляюся ў Сіміру і пайду там па тых дарогах, якія мне першыя трапяцца, нават не думаючы, куды яны мяне прывядуць. Можа, жыццё, усё ж важнейшае за смерць, а жывы чалавек каштоўнейшы за мёртвага бога. Але не паспытаўшы другога, я не магу з упэўненасцю сказаць пра першае. Хоць наўрад ці смерць горшая за роспачную двухтыднёвую п'янку. Такім чынам можна сказаць, што часткова я ўжо спазнаў смерць. Дык паспяшайся і вазьмі нам месцы на караблі, збяры рэчы, што яшчэ засталіся, і дапамажы мне дайсці да карабля, бо я не магу ўсё яшчэ спадзявацца на свае ногі.

Але перш, чым Каптах з радасцю збег, я сказаў яму:

— Усё гэта я зраблю пры адной умове, што ты больш ніколі не прамовіш пры мне імя Мінеі, бо яно забытае і закрэсленае, быццам яго ніколі і не было. Я не патрабую ад цябе абяцанняў і клятваў, бо яны падобныя да зыкання мухі, але папярэджваю: калі ты хоць раз прамовіш яе імя, я прадам цябе рабом на які-небудзь млын з цяжкімі жорнамі ці на медныя руднікі ды яшчэ ўсім скажу, што ты ўцёклы раб, каб там адрэзалі нос і вушы. Запомні гэта, бо цвярдзейшага слова я ніколі ў жыцці яшчэ не даваў.

Каптах нічога не адказаў, ён моўчкі рушыў у порт, і тым жа днём мы селі на карабель. Весляры апусцілі ў ваду вёслы і павялі карабель з гавані паўз дзесяткі і сотні гандлёвых і крыцкіх ваенных караблёў, барты якіх былі абшытыя меднымі лістамі. Калі мы выйшлі з гавані і весляры паклалі вёслы, капітан прынёс ахвяры спачатку марскому богу, потым богу-заступніку карабля і загадаў падняць ветразі. Карабель нахіліўся, хвалі шумна ўдарылі ў борт. Мы паплылі да сірыйскага ўзбярэжжа, а Крыт растаў у смузе за намі, як сіняя хмара, як цень або сон.

# ПАПІРУС ДЗЕВЯТЫ
## Кракадзілаў хвост

### 1

Так праз тры гады я вяртаўся ў Сіміру ўжо не юнаком, а сталым чалавекам, пабачыўшы ў сваіх падарожжах шмат розных краінаў, зведаўшы шмат добрага і ліхога. Марское паветра выгнала з маёй галавы вінны дурман, мае вочы зноў набылі ясны зрок, і ў рукі вярнулася моц. Я еў разам з усімі, але гаварыў менш за іншых. І адчуваў сябе болей самотным, чым калі-небудзь раней. Напэўна, так ужо наканавана чалавеку, што разам са сталасцю да яго прыходзіць самота. Але я, прынесены трысняговым чоўнам на бераг Ніла, з самага дзяцінства быў самотным чужаземцам, і ў адрозненне ад многіх іншых мне звыкацца з самотай не было патрэбы — яна была для мяне домам, прытулкам і начлегам у цемры.

Я стаяў каля карабельнай ростры, вакол мяне плёскалі зялёныя хвалі, і вецер зносіў прэч марныя думкі. Удалечыні мне мроіліся вочы колеру месячнага святла на вадзе, і да маіх вушэй далятаў гарэзлівы Мінеін смех. Я бачыў яе юную, гнуткую, як малады чарот, фігурку — апранутая ў летнюю сукенку, яна танцавала на гліняных таках Вавілоніі. Яе вобраз больш не выклікаў у мяне ні пакутаў, ні болю, яна жыла ў маіх успамінах, нібы далёкі пяшчотны смутак, які застаецца ў чалавека пасля начнога сну, болей прыгожага, чым грубае жыццё. Думаючы пра яе, я радаваўся, што спаткаўся з ёю, і ніводную хвіліну, пражытую побач з ёй, не лічыў марна страчаным часам. Маё жыццё было б няпоўнае, калі б я не пазнаёміўся з ёю. Карабельная ростра ў выглядзе жаночага твару была ўсяго толькі халодным размаляваным кавалкам дрэва, і, стоячы побач з ёю, я адчуваў унутры халодны спакой: я ведаў, што буду яшчэ весяліцца з жанчынамі, бо чалавеку цяжка праводзіць ночы ў самоце, але я ведаў таксама, што ўсе тыя жанчыны будуць здавацца мне такім вось халодным размаляваным дрэвам, і я, абдымаючы іх, буду шукаць толькі Мінею, толькі месячны бляск яе вачэй, толькі цяпло яе зграбнага цела, толькі яго кіпарысавы водар. Так я развітваўся з Мінеяй, стоячы побач з карабельнаю ростарай.

Нашае падарожжа было нялёгкае, вецер шалеў, карабель, гайдаючыся, цяжка рассякаў хвалі, якія білі ў яго барты, як аб скалы. Каптаху не дапамагала нічога — ні тое, што ён туга перацягнуў рэменем жывот, ні ягоныя амулеты, ні скарабей, ні ўсе ахвяры, што ён кідаў за борт марскім





багам, і ён праклінаў час свайго нараджэння. Але цяпер ён не так баяўся памерці — цяпер яго жывіла надзея, што ступіўшы на цвёрды грунт, ён паправіцца.

І калі мы дабраліся да Сіміры, ён кінуўся на зямлю, пачаў цалаваць камяні ў порце і, заплакаўшы, пакляўся нашым скарабеем, што ўжо больш ніколі не ступіць на мост карабля. Мая душа напоўнілася хваляваннем, калі я ўбачыў знаёмыя вузкія завулкі Сіміры, яе высокія дамы, зграі ледзь жывых сабак, мухі над рыбінай лускою, бо я правёў у гэтым горадзе два гады і як лекар пеpажыў тут свае першыя перамогі, вяртаючы здароўе нямоглым і хворым.

Мой дом быў на месцы, але злодзеі ўлезлі ў яго праз вокны і скралі ўсё, што здолелі вынесці — усе рэчы, якія я не аддаў на зберажэнне ў склады гандлёвых дамоў. Мяне не было доўга, і суседзі ўвесь гэты час скідвалі вакол майго дома смецце і спраўлялі прыродныя патрэбы. І цяпер тут стаяў страшны смурод, а калі я ўвайшоў у дом і абадраў з акна павуцінне, то ўбачыў, што па доле бегаюць пацукі. Суседзі, убачыўшы мяне, зусім не ўзрадаваліся майму вяртанню, наадварот — яны паварочваліся да мяне спінай і, зачыняючы перад маім носам дзверы, казалі: «Зноў гэты егіпцянін! А ўсе беды ідуць з Егіпта». Урэшце я рашыў спачатку спыніцца ў заезным двары і даручыў Каптаху прывесці дом у парадак. Пасля трохгадовага падарожжа я вярнуўся ў Сіміру зноў бедняком, бо растраціў усё золата, якое атрымаў ад Харэмхеба. Зрэшты, большая яго частка проста засталася ў вавілонскіх жрацоў пасля таго, як я выкраў у іх цара Мінею.

У гандлёвых дамах багатыя ўладальнікі караблёў, убачыўшы мяне, вельмі збянтэжыліся, яны сталі разгублена церабіць бароды, а іх доўгія насы яшчэ больш выцягнуліся: яны паспелі ўжо палічыць сябе маімі наследнікамі — так доўга мяне не было і так доўга я не даваў пра сябе ніякага знаку. Тым не менш, яны зрабілі ўсе падлікі і далі мне сумленную справаздачу. Некаторыя караблі, дзе я меў долю, загінулі, але другія прынеслі нядрэнны даход, і калі ўсе рахункі былі зведзеныя, высветлілася, што вярнуўшыся, я стаў яшчэ багацейшым, чым да ад'езду, і клапаціцца аб сродках на пражыццё мне не трэба.

Мае сябры, уладальнікі караблёў, запрашалі мяне ў госці, частавалі віном і мядовым печывам і збянтэжана казалі:

— Сінухе, ты наш лекар, ты наш сапраўдны сябар, але ты — егіпцянін, і хоць мы ахвотна гандлюем з Егіптам, нам не вельмі падабаецца, што егіпцяне пасяляюцца сярод нас, бо наш народ незадаволены падаткамі, якія вымушаны плаціць фараону. Не ведаем, з чаго гэта пачалося, але ўжо былі выпадкі, калі ў егіпцян шпурлялі камянямі, а ў іхнія храмы закідвалі дохлых свіней. Людзі не хочуць паказвацца на вуліцах у кампаніі з егіпцянамі. Ты наш сябар, Сінухе, і мы вельмі цябе паважа-

ем за тваё лекарскае майстэрства. І таму мы ўсё гэта табе расказваем, каб ты паводзіў сябе абачліва і з належнаю асцярогай.

Такія аповеды вельмі здзівілі мяне, бо да майго ад'езду жыхары Сіміры наперабой шукалі дружбы з егіпцянамі, і як у Егіпце пераймалі сірыйскія звычкі, так у Сіміры пераймалі егіпецкія. Але Каптах прыйшоў у гасцёўню абураны і пацвердзіў словы караблеўладальнікаў:

— Напэўна нейкі злы дух забраўся ў кішкі сіміранам, яны сталі падобныя да шалёных сабак, прыкідваюцца, што не ўмеюць размаўляць па-егіпецку, мяне проста выкінулі з харчэўні, куды я зайшоў, бо глотка ў мяне перасохла як пыл на дарозе, і сам я стаміўся, выконваючы твае загады, мой гаспадар. Яны выкінулі мяне на вуліцу, як толькі змецілі, што я егіпцянін, яны выкрыквалі мне ўслед праклёны, а малыя дзеці шпурлялі ў мяне аслiным дзярмом. Тады я пайшоў у другую харчэўню, бо мая глотка была сухая, як мяшок з паловай, і я змаркоціўся па моцным сірыйскім піве, але ў той харчэўні я маўчаў як мыш, хоць мне давалася гэта нялёгка, ты ж ведаеш, што мой язык — як той вёрткі звярок, якому не сядзіцца на месцы. Але гэты раз я павёў сябе болей абачліва: я разам з другімі сунуў сваю саломіну ў гарлач з півам і, ні слова не кажучы, толькі слухаў іншых. Яны казалі, што ў былыя часы Сіміра была вольным горадам і не плаціла нікому ніякае даніны! І цяпер таксама яны больш не хочуць плаціць і не хочуць, каб іхнія дзеці раслі рабамі ў фараона. Яны казалі, што раней і іншыя сірыйскія гарады былі вольныя, а таму трэба паразбіваць галовы ўсім егіпцянам ды прагнаць іх з Сірыі. Так павінен зрабіць кожны, хто любіць свабоду і каму надакучыла жыць у рабстве ў фараона. Такія вось глупствы яны казалі, хоць кожны ведае, што Егіпет ахоўвае Сірыю толькі дзеля яе самой і не мае з гэтага ніякай карысці. Егіпет ахоўвае сірыйцаў ад іх саміх, іначай гарады даўно пасварыліся б між сабою, пачалі б біцца, як дзікія каты, а ў выніку моцна ад гэтага пацярпелі б земляробства, жывёлагадоўля і гандаль. Усё гэта яшчэ з дзяцінства ведае кожны егіпцянін — нават я, хоць я не вучыўся ў школе, а толькі сядзеў ля школьных варот, чакаючы гэтага нахабнага шчанюка — сына майго былога гаспадара,— гэтага малога дурня, які бясконца дубасіў мяне нагамі і балюча тыкаў сваім трысняговым пісалам. Але я расказваю не пра гэта, а пра тое, што чуў у харчэўні. Сірыйцы выхваляліся адзін перад адным сваімі жонкамі і казалі пра хаўрус усіх сірыйскіх гарадоў, а я слухаў, пакуль мне ад такіх размоваў не стала дрэнна, і я, зламаўшы сваю саломінку, пайшоў, не заплаціўшы за піва, як толькі гаспадар адвярнуўся.

Мне не спатрэбілася доўга хадзіць па горадзе, каб упэўніцца ў праўдзівасці Каптахавых словаў. Мяне не чапалі, бо я насіў сірыйскую вопратку, але знаёмыя адварочваліся ад мяне на вуліцы. А іншыя егіпцяне хадзілі з аховай, хоць і нягледзячы на гэта іх абражалі, кідалі ў іх гнілымі



пладамі і дохлай рыбай. Але я не лічыў гэта нечым надта небяспечным, я думаў, што сіміране проста раззлаваліся за новыя падаткі, уведзеныя фараонам, а такія хваляванні хутка міналі, бо Егіпет быў карысны Сірыі не менш, чым Сірыя Егіпту. Я думаў, што ўзбярэжныя гарады не змогуць пражыць без егіпецкага зерня.

Таму я са спакойнай душой загадаў навесці парадак у доме і пачаў прымаць хворых, а яны, даведаўшыся, што я вярнуўся, пачалі зноў наведваць мяне, бо хвароба і боль не пытаюцца ў лекара, адкуль ён паходзіць, а пытаюцца, наколькі добрае яго майстэрства. Аднак хворыя часта спрачаліся са мной і казалі:

— Вось ты — егіпцянін, дык скажы, ці справядліва, што Егіпет цягне з нас падаткі і тлусцее на нашай галечы, як п'яўка, што смокча нашую кроў? Прысутнасць егіпецкага гарнізона ў горадзе — таксама абраза для нас, бо мы і самі можам падтрымліваць парадак і бараніцца ад непрыяцеля. Несправядліва, што нават за свае грошы нам не даюць аднавіць муры вакол горада. Нашы правіцелі самі маглі б кіраваць намі не горш за егіпцян, якія ўмешваюцца ў каранацыю нашых цароў, хоць не павінны таго рабіць, як не павінны ўмешвацца і ў справы нашага правасуддзя. Пры святой дапамозе Ваала мы маглі б жыць квітнеючым жыццём, каб не гэтая егіпецкая саранча, што сядзіць у нас на шыі! А тут яшчэ ваш фараон навязвае нам свайго новага бога, а нашы багі праз гэта пачынаюць быць да нас меней прыхільнымі.

Я не хацеў з імі спрачацца, але ўсё-ткі казаў:

— Ад каго ж вы хочаце адгарадзіцца мурамі ды вежамі — ці не ад Егіпта? У часы вашых прашчураў ваш горад сапраўды быў вольны, але ж вы пралівалі кроў і бяднелі ад бесперапынных войнаў з суседзямі, якіх ненавідзіце і сёння, а вашы правіцелі чынілі такія расправы, што ні бедныя, ні багатыя не маглі знайсці рады. Сёння ж вас ахоўваюць ад ворагаў егіпецкія шчыты і дзіды, а егіпецкія законы абараняюць правы багатых і бедных.

Але мае словы толькі іх раздражнялі, іх вочы наліваліся крывёю, ноздры раздзімаліся, і яны адказвалі:

— Усе егіпецкія законы — дзярмо, а егіпецкія багі для нас — брыдкія. І ў тое, што нашы князі былі жорсткія і несправядлівыя, мы не верым, бо ўсё гэта — егіпецкія хлуслівыя выдумкі, каб мы забыліся пра свабоду! А мы хочам, каб князі ў нас былі зноў нашымі сапраўднымі правіцелямі, і сэрца кажа нам, што ўжо лепш несправядлівасць у свабоднай краіне, чым справядлівасць у рабстве.

Я адказваў:

— Нешта не бачна на вас рабскага кляйма, вы тлусцееце і пахваляецеся, што вашае багацце расце, дзякуючы дурасці егіпцян. Калі б вы былі свабодныя, то рабавалі б адзін у аднаго караблі, ламалі б пладовыя

дрэвы ў суседскім садзе і не маглі б бяспечна падарожнічаць па дарогах уласнай краіны.

Але яны не слухалі мяне і, кінуўшы мне пад ногі свае дарункі, адыходзілі са словамі:

— Хоць ты і носіш сірыйскае адзенне, але ў сэрцы сваім ты егіпцянін. А кожны егіпцянін — гэта прыгнятальнік і несправядлівец. Добры егіпцянін — гэта мёртвы егіпцянін!

Праз усё гэта мне не жылося ў Сіміры, я паціху пачаў падрахоўваць свае здабыткі і рыхтавацца да ад'езду. Апроч таго, мне трэба было сустрэцца з Харэмхебам і расказаць, што я бачыў у розных краінах. А дзеля гэтага трэба было ехаць у Егіпет. Тым не менш, я марудзім з ад'ездам, бо кожны раз, як я думаў, што мне зноў давядзецца выпіць вады з Ніла, маё сэрца пачынала пачашчана біцца. Час ішоў, настрой у горадзе змяняўся, і аднойчы з вады ў гавані выцягнулі егіпецкага воіна з перарэзаным горлам. Гэта вельмі напалохала саміх сірыйцаў, яны пахаваліся па дамах, і горад заціх. Аднак чыноўнікі з егіпецкага пасольства, не знайшоўшы забойцу, нікога не пакаралі, і неўзабаве сірыйцы зноў адчынілі дзверы сваіх дамоў, пачалі гаварыць яшчэ болей адкрыта і ўжо не саступалі егіпцянам дарогу, так што тым самім даводзілася збочваць і хадзіць са зброяй.

Аднойчы ўвечары, калі ўжо сцямнела, я вяртаўся з храма Іштар, куды часам заходзіў, як чалавек, які пакутуе ад смагі і якому ўсё роўна, з якой студні вада. Каля храмавага мура мне насустрач трапілася купка мужчын, якія, калі я іх мінуў, пачалі перашэптвацца ў мяне за плячыма:

— А ці не егіпцянін гэта? Ці можам мы дапусціць, каб гэты абрэзаны спаў з нашымі дзяўчатамі і апаганьваў наш храм?

Я адказаў ім:

— Вашы дзяўчаты не звяртаюць увагі на выгляд мужчыны і яго паходжанне, яны ацэньваюць яго па вазе золата, якое ляжыць у яго ў кашальку, за што я іх зусім не асуджаю, бо хаджу проста цешыцца з імі і збіраюся рабіць гэта далей, калі захачу.

Тады незнаёмцы закруцілі галовы ў плашчы і накінуліся на мяне, паваліліі на зямлю і пачалі біць галавой аб каменны мур. Але калі яны пачалі ўжо мяне рабаваць і сцягваць адзенне, каб потым кінуць мяне ў ваду, нехта ўбачыў мой твар і крыкнуў:

— А ці ж гэта не Сінухе, егіпецкі лекар і сябар цара Азіру?

Я пацвердзіў гэта і паабяцаў забіць іх усіх, а целы скарміць сабакам, бо галава мне страшэнна балела і я быў так злы, што забыўся і на страх. Тады яны адпусцілі мяне, аддалі назад вопратку і, захінаючыся плашчамі, кінуліся наўцёк, хоць я так і не зразумеў, чаго яны напалохаліся, бо мае пагрозы былі пустыя — я цалкам быў у іхніх руках.



**2**

А праз некалькі дзён да майго дома пад'ехаў ганец. Ён быў на кані, што было вялікаю рэдкасцю, бо егіпцяне ніколі не ездзяць верхам, дый сірыйцы рэдка. На конях ездзяць толькі дзікія рабаўнікі з пустэльні. Конь — жывёла высакарослая і гарачая, ён брыкаецца, кусаецца і скідае ездака, калі паспрабаваць залезці яму на спіну,— не тое што прывычны да ўсяго асёл. Нават запрэжаны ў калясніцу конь застаецца страшнай жывёлай, і ніхто не можа з ім зладзіць, апроч спецыяльна навучаных воінаў, якія ўтаймоўваюць коней, засоўваючы ім пальцы ў ноздры. Гэты пасыльны падляцеў да майго дома на кані, які быў увесь у пене, страшэнна фыркаў, і з рота ў яго цякла кроў. Па вопратцы чалавека было відаць, што ён спусціўся з гор ад сваіх авечак, яго твар быў не на жарт усхваляваны.

Ён паспешліва кінуўся да мяне, ледзь паспеўшы дакрануцца рукой да ілба і пакланіцца ў знак прывітання.

— Загадай прынесці свае насілкі, лекар Сінухе,— усхвалявана прамовіў ганец,— і паспяшайся за мной, бо я прыехаў з зямлі амарэйцаў, і цар Азіру паслаў мяне за табой. Яго сын захварэў і ніхто не ведае, якая ў малога хвароба. У роспачы цар кідаецца, як леў у пустэльні, і ўсім, хто наблізіцца да яго, ламае рукі і ногі. Дык бяры свой куфэрак з лекамі і едзь за мной, інакш я перарэжу табе горла і пакачу галаву ўздоўж вуліцы.

— Наўрад ці твайму цару будзе якая карысць ад маёй галавы без рук, бо адна яна не зможа вылечыць царскага сына,— адказаў я.— Але я дарую табе грубыя словы, якія ты сказаў у гарачцы. Я паеду з табой не таму, што баюся тваіх пагрозаў, а таму, што цар Азіру — мой сябар.

Я загадаў Каптаху схадзіць па насілкі і рушыў за пасланцом, адчуваючы ў душы радасць ад будучай сустрэчы з Азіру, чые зубы я некалі пакрыў золатам,— настолькі вялікая была мая самота. Але калі мы дабраліся да цясніны, маёй радасці прыйшоў канец, бо там мяне перасадзілі на ваенную калясніцу і дзікія коні паімчалі нас па камяністых горных дарогах так, што ў мяне гатовыя былі паламацца ўсе косці, і я адчайна крычаў, жадаючы ганцу, які адстаў на стомленым кані, зламаць сабе шыю.

Калі мы пераехалі горы, мяне перакінулі ў другую калясніцу, запрэжаную свежымі коньмі, і мы зноў паімчалі так, што я ўжо не ведаў, стаю на нагах ці на галаве.

— Паскуднікі, нягоднікі, гнойнікі,— толькі і мог крычаць я, зрэдку на роўных участках адрываючы рукі ад поручняў, каб памалаціць вазніцаў кулакамі ў спіну. Але яны не звярталі на мяне ніякай увагі, і толькі мацней хвасталі коней ды нацягвалі лейцы.

Такім чынам, маё падарожжа ў зямлю амарэйцаў цягнулася не надта доўга, і яшчэ да захаду сонца мы прыехалі ў горад, акружаны толькі што пабудаванымі высокімі мурамі. Па мурах хадзілі воіны са шчытамі, але нам вароты былі ўжо адчыненыя, і мы прамчалі праз горад пад крыкі аслоў, жанчын ды плач дзяцей. Нашы колы з хрустам пераязджалі гаршчкі, з трэскам раскідалі кашы з фруктамі, бо каляснічыя не глядзелі, на што наязджаюць і каго душаць.

Калі мяне высадзілі з калясніцы, ісці я не мог: я хістаўся, як п'яны, і слугам давялося бегма несці мяне, падхапіўшы пад рукі, у палац Азіру, а рабы несліся ззаду з маім куфэркам для лекаў. Як толькі мы ўбеглі ў першы пакой у палацы, насустрач нам, равучы, як паранены слон, вылецеў Азіру. Усё адзенне на ім было падранае, галава пасыпаная попелам і па раздрапаным твары цякла кроў.

— Дзе вы так доўга бадзяліся, рабаўнікі, паскуднікі, слімакі!? — лямантаваў ён, цярэбячы сваю кучаравую бараду так, што залатыя ніткі, якія абвівалі яе, ляталі ў паветры, нібы маленькія маланкі. Ён біў вазніцаў кулакамі і роў, як звер:

— Дзе вы капаліся, паганыя нягоднікі, мой сын памірае!

Возчыкі абараняліся і казалі:

— Мы да смерці загналі некалькі коней і праляцелі праз горы, як птушкі. Але ў тым найперш заслуга лекара, якога мы везлі, бо ён палаў нецярпеннем вылечыць твайго сына і падганяў нас тады, калі мы ўжо знемагалі ад стомы, а як толькі рух запавольваўся, ён біў нас кулакамі па спіне, мы ніколі б нават не западозрылі, што егіпцянін здольны на такое, і можам запэўніць, што ніхто і ніколі не адольваў шлях ад Сіміры да Амарэі з такою хуткасцю.

Тады Азіру пачаў са слязьмі горача абдымаць мяне, галосячы:

— А ты ж праўда вылечыш майго сына, Сінухе? Ты вылечыш яго? Усё маё тады стане тваім!

Я адказваў яму:

— Дазволь мне хоць паглядзець на твайго сына, каб я мог сказаць, ці здолею яго вылечыць.

Ён паспешліва завёў мяне ў вялікі пакой, дзе, нягледзячы на летнюю цеплыню, гарэла жарніца, што аж не было чым дыхаць. Пасярод пакоя стаяла калыска, у якой, заходзячыся ад плачу, ляжала не больш як аднагадовае немаўля, закручанае ў ваўняныя коўдры. Дзіцё крычала так, што яго твар ужо стаў сіня-чорны і пакрыўся кропелькамі поту. У яго былі густыя чорныя валасы, як у бацькі. З першага погляду не ўбачыў ніякіх прыкмет хваробы: каб дзіцё было смяротна хворае, у яго не хапіла б сілы так моцна крычаць. На падлозе побач з калыскай ляжала Кефцью, жанчына, якую я некалі аддаў у жонкі Азіру. Цяпер яна стала яшчэ болей дзябёлая і белая, яе раскошнае цела калыхалася, калі яна ў роспачы білася галавою ў дол. У кутку стаяў і галасіў цэлы натоўп рабынь і карміцелек з гузакамі і сінякамі на тварах ад кулакоў Азіру.



— Супакойся, Азіру, — сказаў я. — Твой сын не памрэ, але перш чым яго агледзець, мне трэба ачысціцца. І хай адсюль вынесуць гэтую праклятую жарніцу, тут можна задыхнуцца ад гарачыні.

Тады Кефцью падняла твар і спалохана сказала:

— Хлопчык можа прастудзіцца.

Потым уважліва паглядзела на мяне, усміхнулася, села, паправіла валасы і вопратку і, зноў усміхнуўшыся,і сказала:

— Гэта ты, Сінухе?

Але Азіру ўсё яшчэ ламаў рукі і галасіў:

— Хлопчык нічога не есць! Пасля яды яго ванітуе! У яго гарачае цела! Ён увесь час плача, і маё сэрца разрываецца ад жалю, калі я чую ягоныя крыкі.

Я патрабаваў, каб ён выгнаў з пакоя рабынь і карміцелек, і ён, забыўшыся на сваю царскую годнасць, пакорна выканаў усе мае загады. Ачысціўшыся, я скінуў з немаўля ўсе ваўняныя покрывы і загадаў адчыніць вокны, каб у пакой улілося свежае вечаровае паветра. Хлопчык хутка супакоіўся, стаў брыкаць ножкамі і больш не плакаў. Я абмацаў яму цела і жывот, і тут мяне працяла здагадка, — я засунуў яму палец у рот, і мая здагадка пацвердзілася: у яго прарэзаўся першы, белы, як перлінка, зуб. Тады я з дакорам сказаў:

— Азіру, Азіру! Няўжо дзеля такой драбязы ты загадаў наўзгалоп імчаць сюды лепшага лекара Сіміры, — а я называю сябе так, не хвалячыся, бо шмат чаму навучыўся падчас сваіх падарожжаў па многіх краінах. Нічога з тваім сынам не здарылася, проста ён такі самы капрызны і нецярплівы, як яго бацька. Можа, у яго і быў невялікі жар, а вось калі ён ванітаваў, то рабіў мудра, — ён зберагаў сваё здароўе, бо вы перакормліваеце яго тлустым малаком. Кефцью пара адвучаць яго ад грудзей і прызвычайваць да звычайнай ежы, ато ён неўзабаве адкусіць сасок у маці, а я думаю, гэта вельмі засмуціць цябе, бо ты ўсё яшчэ атрымліваеш асалоду ад сваёй жонкі. Дык ведай, што твой сын лямантаваў толькі ад нецярпення, ад таго, што ў яго рэзаўся першы зуб. Калі не верыш, паглядзі сам.

Я адкрыў рот дзіцяці і паказаў зуб Азіру, які прыйшоў у захапленне, стаў пляскаць у далоні і пусціўся ў скокі, гучна грукаючы абцасамі. Потым я паказаў зуб Кефцью, і яна сказала, што ўпершыню бачыць такі прыгожы зуб у дзіцячым роце. Аднак калі яна паспрабавала загарнуць малога ў ваўняныя покрывы, я адхіліў яе і сам загарнуў хлопчыка ў лёгкую ільняную тканіну, каб ён не прастудзіўся ад вечаровага паветра.

Азіру ж радасна скакаў, не спыняючыся, грукаў абцасамі, спяваў грубым голасам, нікольні не бянтэжачыся, што прымусіў мяне прае-

хаць такі далёкі шлях. Ён хацеў паказаць сыноў зуб усім прыбліжаным і камандзірам, ён паклікаў нават воінаў з гарадскіх муроў, каб тыя палюбаваліся на яго, і воіны прыйшлі, бразгаючы шчытамі і зброяй, згрудзіліся ля калыскі і стараліся нават засунуць свае брудныя пальцы малому ў рот, каб памацаць зуб, пакуль я не загадаў прагнаць іх прэч з палаца, а Азіру — успомніць пра сваю царскую годнасць і абразуміцца. Тады Азіру крыху збянтэжыўся і сказаў:

— Можа, я, і праўда, страціў цярпенне і занадта спалохаўся, правёўшы ля яго калыскі некалькі бяссонных начэй, калі маё сэрца разрывалася ад ягонага плачу. Але ты павінен зразумець, што гэта мой сын, маё першае дзіця, мой спадкаемца, зрэнка майго вока, каштоўны камень у маёй кароне, маё маленькае ільвяня, якое будзе пасля мяне насіць карону Амарэі і панаваць над многімі народамі, бо я збіраюся ператварыць Амарэю ў вялікую дзяржаву, каб сыну было што атрымаць у спадчыну і праславіць імя свайго бацькі. Сінухе, Сінухе, ты не ведаеш нават, як я табе ўдзячны! Ты зняў цяжкі камень з майго сэрца! А прызнайся, што ты ніколі не бачыў такога прыгожага хлапчука, хоць і пабываў у многіх краінах! Паглядзі хоць бы на яго валасы, на гэтую чорную львіную грыву, і скажы, ці бачыў ты хоць раз такія валасы ў хлопчыкаў такога ўзросту? Ты сам пераканаўся, што яго зуб — бліскучы, беззаганны і падобны да перлінкі, а паглядзі, якія ў яго рукі ды ногі! А жывот? Гэта сапраўдны маленькі цабэрак!

Мне так надакучыла яго балбатня, што я сказаў яму ісці прэч разам з ягоным сынам, бо пасля такой шалёнай язды мне ўсё баліць, быццам мяне пасеклі на кавалачкі, і я ўжо сам не разумею, стаю я на нагах, ці на галаве. Але ён ласкава паклаў мне рукі на плечы і прапанаваў падмацавацца. Нам падалі на срэбных талерках смажанае ягняці і кашу з тлушчам, а віно налівалі ў залатыя чашы. Тады нарэшце я апрытомнеў і дараваў цару ўсё.

Я прагасцяваў у Азіру некалькі дзён, і ён шчодра адарыў мяне, у тым ліку золатам і срэбрам, бо пасля нашай апошняй сустрэчы значна пабагацеў. А вось ці пабагацела яго ўбогая краіна, ён гаварыць са мною не захацеў і толькі ўсміхаўся ў сваю кучаравую бараду, паўтараючы, што шчасце яму прынесла жонка, якую ён атрымаў ад мяне ў падарунак. Кефцью таксама ставілася да мяне пачціва і дружалюбна,— напэўна, яна ўспамінала маю палку, якая не адзін раз выпрабоўвала пругкасць яе скуры. Яна хадзіла за мной з задуменнай усмешкай, і яе дзябёлае цела калыхалася, ціха бразгаючы залатымі аздобамі. Яе раскошныя формы зачароўвалі ўсіх военачальнікаў Азіру, бо сірыйцы, у адрозненне ад егіпцянаў, любяць мажных жанчын. Таму прыдворныя паэты Амарэі складалі ў яе гонар песні, а воіны на мурах спявалі іх уголас, паўтараючы адны і тыя ж словы, так што Азіру вельмі ганарыўся сваёй



жонкай і горача кахаў яе, з прычыны чаго рэдка наведваўся да іншых сваіх жонак, хіба што з ветлівасці, бо тыя жонкі былі ўсё-ткі дочкамі правадыроў плямёнаў, што насялялі землі амарэйцаў, і Азіру жаніўся, каб мацней прывязаць іх бацькоў да свайго трона.

Я столькі падарожнічаў і бачыў столькі розных краінаў, што Азіру адчуў патрэбу пахваліцца перада мной і сваімі сілай і царскаю веліччу. Пры гэтым ён нагаварыў столькі, што потым, мабыць, сам шкадаваў. Я, напрыклад, пачуў, што менавіта яго падбухторшчыкі напалі на мяне ў Сіміры: ім было загадана ўтапіць якога-небудзь егіпцяніна, і так Азіру даведаўся, што я вярнуўся ў Сіміру. Ён быў засмучаны тым здарэннем, але гнуў сваё:

— Трэба разбіць яшчэ шмат галоваў егіпцянам і ўтапіць не аднаго егіпецкага воіна, перш чым Сіміра, Бібл, Сідон і Газа зразумеюць, што егіпцян таксама можна пабіць і што, калі егіпцяніна ўдарыць нажом, з яго паліецца кроў і жыццё пакіне яго. Сірыйскія гандляры асцярожныя да абурэння, іхнія правадыры — баязліўцы, а народы непаваротлівыя, як валы. Таму ўсе, хто жвавейшы, павінны стаць на чале руху і паказваць прыклад іншым, бо яны ад гэтага толькі выйграюць.

Я спытаў:

— Але навошта ўсё гэта, і чаму ты так узненавідзеў егіпцян, Азіру?

Ён пагладзіў сваю кучаравую бараду, паглядзеў на мяне з хітрай усмешкай і адказаў:

— А хто кажа, што я іх ненавіджу, Сінухе? Хіба я ненавіджу цябе, а ты ж егіпцянін? Калі я быў дзіцём, то як мой бацька і ўсе сірыйскія цары, рос у Залатым палацы. Я ведаю егіпецкія звычаі і ўмею чытаць і пісаць, хоць настаўнікі цягалі мяне за віхры і білі трысняговаю палкай па пальцах часцей, чым іншых вучняў, бо я быў сірыец. Але ад гэтага я не пачаў ненавідзець егіпцянаў. А калі падрос ды паразумнеў, навучыўся многім разумным рэчам, якія пазней можна скіраваць супраць Егіпта. Я ўсвядоміў, што ў цывілізаваных людзей усе народы ўрэшце роўныя, бо няма паміж імі розніцы, і кожнае дзіця з'яўляецца на свет голае, сірыец яно ці егіпцянін. І няма народаў гераічнейшых ці баязлівейшых, болей жорсткіх ці болей літасцівых — у кожным народзе ёсць героі і баязліўцы, праведнікі і каты. Ёсць яны і ў Сірыі, ёсць яны і ў Егіпце. Таму сам уладар ці правадыр на да каго не адчувае нянавісці і ў яго няма розніцы між народамі, але варожасць — вялікая сіла ў яго руках, магутнейшая за ўсякую зброю, бо без варожасці ніякай руцэ не хопіць сілы ўзняць зброю. Я нарадзіўся ўладаром, у маіх жылах цячэ кроў уладароў Амарэі, а мой народ некалі панаваў над усімі народамі ад мора да мора. Таму я раблю ўсё, што ў маёй сіле, каб распаліць варожасць паміж Сірыяй і Егіптам, каб раздзьмуць вуголле, якое разгараецца вельмі марудна, але, успыхнуўшы, дарэшты выпаліць усю ўладу Егіпта

над Сірыяй. Таму ўсе сірыйскія гарады і плямёны павінны ўпэўніцца, што егіпцянін больш нікчэмны, баязлівы і жорсткі, больш няўдзячны, несправядлівы і сквапны, чым усякі сірыец. Людзі павінны плявацца, пачуўшы слова «егіпцянін», павінны бачыць у ім нахабнага прыгнятальніка, крывапіўцу, грубіяна і гвалтаўніка дзяцей, пакуль іх нянавісць не стане настолькі вялікая, каб зрушыць горы.

— Але ж ты добра ведаеш, што ўсё гэта няпраўда, — заўважыў я.

Ён узняў рукі ўгору і з усмешкай спытаў:

— А што такое праўда, Сінухе? Усмактаўшы ў кроў тую праўду, якую я ім даводжу, яны паклянуцца ўсімі багамі, што гэта і ёсць ісціна! Яны не павераць нікому, хто скажа, што гэта не так! Яны заб'юць яго, як паганага паклёпніка! Яны павінны паверыць, што яны мацнейшыя, смялейшыя і справядлівейшыя за ўсе іншыя народы на свеце. Яны павінны паверыць, што свабода ім даражэйшая за жыццё, і павінны быць гатовыя заплаціць за яе любую цану. Гэтаму я і вучу іх, і ўжо шмат хто паверыў маёй праўдзе, а кожны, хто паверыў, прыцягвае ў сваю веру іншых, і хутка настане дзень, калі зямля ўспыхне па ўсёй Сірыі. Праўда ў тым, што Егіпет заваяваў Сірыю агнём і крывёю, а значыць, і прагнаць егіпцян з Сірыі трэба таксама агнём і крывёю.

— А што такое свабода, пра якую ты ім расказваеш? — спытаў я, спалохаўшыся за Егіпет і егіпецкія пасяленні, бо гэта ж быў мой народ.

Ён зноў узняў рукі ўгору і дружалюбна ўсміхнуўся:

— Свабода — гэта шматзначнае слова, і адзін называе свабодай адно, другі — другое, але пакуль яе няма, гэта не мае значэння. Дабіцца свабоды хочуць многія, але карыстацца ёю, калі яна дасягнутая, трэба аднаму і не дзяліцца ні з кім. Спадзяюся, з часам Амарэю пачнуць называць калыскай сірыйскай свабоды. Магу таксама табе сказаць, што народ, які верыць усяму, што яму кажуць, падобны да статку быкоў, якіх заганяюць у хлеў дзідамі, ці на чараду авечак, што тупа брыдуць за баранам, куды б той не кіраваў. А я ў свайго народа — і дзіда, і баран.

— Не думаю, каб ты быў такім ужо вялікім баранам, — адказаў я. — Але твае словы небяспечныя. Фараон, пачуўшы іх, можа прысласць сюды воінаў, баявыя калясніцы і разбурыць твае муры, а вяртаючыся ў Фівы, павесіць цябе на мачце дагары нагамі разам з тваім сынам.

Азіру толькі засмяяўся, сказаўшы:

— На маю думку, фараон не надта для мяне небяспечны. Я атрымаў з яго рук сімвал жыцця і пабудаваў храм у гонар ягонага бога. Ён давярае мне больш, чым любому іншаму ў Сірыі, — больш, чым сваім намеснікам і камандзірам гарнізонаў, бо тыя пакланяюцца Амону. Зараз я пакажу табе нештайка, што табе, напэўна, адразу спадабаецца.

Ён павёў мяне да мура і паказаў высахлае цела, якое вісела дагары нагамі, а вакол яго роем віліся мухі.



— Прыгледзься ўважліва, — сказаў ён, — і ты ўбачыш, што ён абрэзаны, бо гэта егіпцянін. Гэта фараонаў зборшчык подацяў, які прыйшоў да мяне ў палац высветліць, чаму я два гады не плачу падаткаў. За такое нахабства мае воіны ўдосталь пазабаўляліся з ім, а потым павесілі дагары нагамі. Дзякуючы гэтаму я дабіўся, што егіпцяне цяпер пазбягаюць ездзіць праз Амарэю нават вялікімі групамі, а гандляры ахвотней плацяць даніну мне, а не Егіпту. Што гэта значыць, ты зразумееш, калі даведаешся, што Мэгіда ўжо знаходзіцца пад маёй уладай: цяпер там выконваюць мае загады і больш не падпарадкуюцца егіпецкаму гарнізону, які схаваўся ў сваіх кашарах і не адважваецца паказвацца на гарадскіх вуліцах.

— Кроў гэтага небаракі праліецца на тваю галаву, — з жахам сказаў я. — Калі пра твой гэты ўчынак даведаюцца, цябе будзе чакаць страшная кара, бо ў Егіпце можна жартаваць з кім хочаш, толькі не з фараонавымі зборшчыкамі падаткаў.

— Павесіўшы гэтага чалавека, я павесіў на ўсеагульны агляд тое, што ты называеш праўдай і справядлівасцю, — самазадаволена сказаў Азіру. — Гэтая справа была ўжо не раз даследаваная, і я ахвотна сам спэцкаў шмат папірусу і скрэсліў шмат гліняных таблічак, тлумачачы прычыны здарэння. У адказ я атрымаў таксама шмат скруткаў і гліняных таблічак, якія акуратна захоўваюцца пад належнымі нумарамі, каб можна было напісаць яшчэ цэлую гару такіх самых таблічак, пакуль з іх нельга будзе пабудаваць высозны мур у маю абарону. З дапамогай амарэйскага бога Ваала я ўжо так заблытаў гэтую справу, што намеснік фараона ў Мэгідзе праклінае той дзень, калі з'явіўся на свет, бо я безупынна надакучваю яму ўсё новымі і новымі пасланнямі, даказваючы свае права і патрабуючы расплаты за абразу, якую мне нанёс фараонаў зборшчык падаткаў. З дапамогай шматлікіх сведкаў я давёў, што ён сам — забойца, злодзей і раскрадальнік фараонавай скарбніцы. Я давёў, што ён чапляўся да ўсіх кабет у сірыйскіх гарадах і вёсках, я расказаў, што ён абражаў сірыйскіх багоў і abліў вадой алтар Атона ў маім горадзе. Усё гэта робіць мой учынак бездакорным у вачах фараона. Бачыш, Сінухе, закон і права, запісаныя ў гліняных таблічках, дзейнічаюць вельмі запаволена і заблытаны так, што яшчэ болей заблытваюцца, чым вышэй расце груда таблічак на стале ў суддзяў, пакуль справа не заблытваецца так, што ўжо немагчыма разабрацца, што справядліва, а што — не. У такіх штуках я мацнейшы за егіпцян, а хутка буду мацнейшы і ў іншых справах.

Але гэта было не адзінае, што расказаў мне Азіру, пахваляючыся сваёй мудрасцю і хітрасцю. Ён сцвярджаў, што пакіне свайму сыну ў спадчыну гэтулькі царскіх каронаў, колькі пальцаў у яго на руках і нагах. Ён павучаў мяне:

— Калі ў цябе ёсць праціўнік, якога ты хочаш адолець, ніколі не забывай, што гэта твая галоўная мэта, і заўсёды трымай яе перад вачыма. Кажы пра яго толькі няпраўду, перакручвай сэнс яго ўчынкаў, называй каварствам ягоную высакароднасць, называй ілжывымі ягоныя дружалюбнасць і міласэрнасць. Калі ён моцны і прапануе табе памерацца сіламі, згаджайся, але аб'ядноўвайся з іншымі яго ворагамі і, каб дабрацца да яго горла, нацкоўвай на яго ўсіх, каго можаш. Але галоўнае — паклапаціся, каб пасля перамогі самому абрабаваць яго дом і пакінуць астатніх ні з чым. Калі ў цябе шмат ворагаў, якіх ты хацеў бы адолець,— перасвары іх паміж сабой, кажы хлусню аднаму на другога, каб яны між сабой развязалі вайну, а сам распраўляйся з імі паасобку, пакуль не пераможаш усіх. Гэтаму майстэрству кіраваць я навучыўся ў егіпцян, бо менавіта так яны і пакарылі Сірыю.

Я абураўся і не пагаджаўся з ім, і гэта вельмі забаўляла Азіру. Ён дражніў мяне, кажучы:

— Калі б у табе цякла царская кроў, ты разумеў бы ўсё гэта без тлумачэння, гэта ўвайшло б у цябе яшчэ з матчыным малаком, але ты нарадзіўся не ўладаром, як я, а падданым, і таму табе не падабаюцца мае словы.

Я правёў у Азіру некалькі дзён і не адчуваў да яго нянавісці, бо ён быў маім сябрам, а яго сяброўства падкупляла і было шчодрым. Яго бацькоўская гордасць і пяшчота да сына таксама былі па-дзіцячы шчырыя і рэзка адрозніваліся ад тых каварных словаў, якія ён мне казаў. Я ведаў, што кажа іх розумам, але яго сэрца было гатовае ў любы момант успыхнуць і зацьміць гэты розум, як ён сам зацьмяў усіх вакол сваімі размовамі, жартамі і ўчынкамі. Я зноў лячыў яму зубы, зноў пакрыў золатам тыя, на якіх яно ўжо сцерлася, і цяпер яго рот заблішчаў у чорнай барадзе, як сонца, а яго падданыя пачалі ставіцца да яго яшчэ з большай пашанай. Але чым больш ён гаварыў, тым больш я ўспамінаў Харэмхеба, бо яны абодва выдзяляліся мужнасцю, абодва былі народжанымі воінамі, з тою розніцай, што Азіру быў старэйшы і кіраваўся сірыйскімі традыцыямі. Я не верыў, што гэтыя традыцыі прыдатныя, каб кіраваць вялікімі народамі, я лічыў, што паводзіны і планы Азіру дасталіся яму ў спадчыну ад продкаў і нарадзіліся ў тыя часы, калі Сірыя напаміналa змяінае кубло з безліччу маленькіх царкоў, якія змагаліся за ўладу і забівалі адзін аднаго, пакуль Егіпет не ўтаймаваў Сірыю, а царскія сыны не атрымалі адукацыю ў Залатым палацы фараона і не сталі цывілізаванымі людзьмі. Я паспрабаваў растлумачыць яму, што ён памыляецца ў сваіх меркаваннях аб моцы і багацці Егіпта, я перасцерагаў, каб ён не надзімаўся ад гонару, бо кожны скураны мяшок можа таксама надзьмуцца, калі яго напампаваць паветрам, але варта ў ім зрабіць маленькую дзірачку, як ён адразу мізарнее і скурчвaецца. Але Азіру толькі смяяўся ў адказ, бліскаючы залатымі зубамі, і загадваў мяне частаваць усё новымі порцыямі смажанай бараніны на срэбных талерках, пахваляючыся сваім багаццем.



У рабочым пакоі Азіру было сапраўды шмат гліняных таблічак, і ганцы прывозілі яму пасланні з усіх сірыйскіх гарадоў. Ён атрымліваў гліняныя таблічкі і ад цара хетаў, і з Вавілона, і хоць не паказваў іх мне, але ж не пахваліцца тым, што яму пісалі, не мог. Ён з цікаўнасцю распытваў мяне пра зямлю хетаў і пра Хатушаш, але я зразумеў, што ён ведае пра хетаў не менш за мяне. Я заўважыў, што да яго прыязджалі хецкія паслы і вялі нейкія размовы з ім і з яго военачальнікамі. Пасля той сустрэчы я ў яго спытаў:

— Леў і шакал могуць аб'яднацца дзеля здабычы, але ці даводзілася табе бачыць, каб шакал атрымліваў лепшыя кавалкі?

Ён засмяяўся, бліскаючы залатымі зубамі, і адказаў:

— Я не думаю, што будзе дрэнна, калі хецкія воіны навучаць маіх вайсковаму майстэрству: у іх ёсць новая зброя і ваенны досвед, якога не маем мы. Дарэчы, гэта карысна і фараону, бо калі пачнецца вайна, Сірыя, як і раней, стане шчытом Егіпта на поўначы, а гэты шчыт часта быў запэцканы крывёю, пра што мы не забудзем, калі настане час зводзіць рахункі паміж Сірыяй і Егіптам.

Калі ён загаварыў пра вайну, я зноў успомніў Харэмхеба і сказаў:

— Я занадта доўга злоўжываў тваёю гасціннасцю і буду ўдзячны, калі ты прапануеш мне для вяртання ў Сіміру насілкі, бо ў твае жахлівыя ваенныя калясніцы я болей не сяду, хай мне лепш адразу разаб'юць галаву. Дарэчы, і Сіміра перастала мне быць утульнай, бо я — егіпцянін. Мусіць, я ўжо дастаткова выпіў крыві з беднай Сірыі, а значыць, мне пара вяртацца ў Егіпет. Я думаю мы цяпер доўга не ўбачымся, а можа, нават ніколі, бо ўспамін пра ваду Ніла салодзіць мне рот, і хутчэй за ўсё я ўжо згаджуся піць яе да канца сваіх дзён, бо дастаткова ўжо ўсяго нагледзеўся і рознаму навучыўся, у тым ліку ад цябе.

Азіру сказаў:

— Заўтрашні дзень невядомы нікому, а камень, які коціцца і не ляжыць на месцы, ніколі не абрасце мохам. Я бачу няўрымслівасць, якою свецяцца твае вочы, а яна наўрад ці дазволіць табе надоўга затрымацца ў якой-небудзь адной краіне. Выберы сабе лепш любую жонку з майго народа, я пабудую табе ў сваім горадзе добры дом, і табе не давядзецца раскайвацца, калі ты застанешся тут займацца сваёю справай.

Я пажартаваў:

— Краіна амарэйцаў — самая несправядлівая і самая мне ненавісная, ваш Ваал мне агідны, а ад вашых жанчын тхне казліным смуродам. І кожнаму, хто скажа што-небудзь добрае пра вашу краіну, я гатовы разбіць галаву. І я вось што яшчэ зраблю: я запішу на шматлікіх таб-

лічках, што ты згвалціў маю жонку і ўкраў у мяне быкоў, якіх у мяне ніколі не было, я напішу, што ты займаўся чарадзействам і яшчэ шмат чым іншым, а калі цябе павесяць на муры дагары нагамі, я абрабую твой палац, вынесу ўсё золата і куплю на яго сто разоў па сто гарлачоў віна, каб выпіць яго за тваю памяць.

Яго смех грымеў па ўсім палацы, а залатыя зубы бліснчалі. Такім я і ўспамінаў яго, калі насталі чорныя дні, а тады мы рассталіся найлепшымі сябрамі, ён даў мне насілкі, абсыпаў падарункамі, а яго воіны правялі мяне аж да Сіміры, каб па дарозе мяне ніхто не пакрыўдзіў за тое, што я егіпцянін.

Каля сімірскае брамы над маёй галавой праляцела ластаўка, і на душы ў мяне зрабілася неспакойна, а вуліцы Сіміры пачалі мне пячы падэшвы. Таму, вярнуўшыся дадому, я загадаў Каптаху:

— Складзі ўсе рэчы і прадай дом. Мы плывем назад у Егіпет.

Каптах адказаў:

— Гэта быў бы ў мяне дзень найвялікшага шчасця, калі б у цябе не было невераготнай здольнасці заўсёды падмешваць палыну ў чашу радасці. Я нават не магу палічыць, колькі гадоў таму апошні раз піў ваду Ніла, і ў мяне ажно мурашкі бягуць па спіне, калі я думаю пра дамы ўцехаў у Фівах і фіванскія шынкі, асабліва пра адзін невялічкі на прыстані, што называецца «Кракадзілаў хвост», бо гаспадар кажа, быццам дзякуючы нейкім чарам, яго віно робіцца моцным, як удар кракадзілавага хваста. І дарэчы, ён кажа праўду, бо я сам не раз выпрабоўваў гэта на сабе, але я цяпер не пра тое. Я хачу сказаць, што не змагу паехаць з табою, калі ў сваёй неразумнасці ты напраўду збіраешся вяртацца ў Егіпет морам, хоць мы так многа нажылі, што маглі б спакойна вярнуцца па сушы, не рызыкуючы ўтапіцца ў салёных хвалях. Ты ж добра ведаеш, што я пакляўся больш ніколі не ступаць на мост карабля, і я не збіраюся парушаць гэтую клятву, бо інакш скарабей можа на мяне разгневацца і мы страцім удачу.

Тады я напомніў Каптаху пра пакуты, што выпалі на яго долю, калі мы ехалі сюды вярхом на асле, і ён задумаўся. Я напомніў яму таксама, што Сірыя задыхаецца ад нянавісці да егіпцянаў і што, падарожнічаючы па сушы, мы можам напаткаць значна большыя непрыемнасці, чым плывучы па моры. Каптах доўга чухаў патыліцу, а потым сказаў:

— Мой гаспадар, ці можаш ты мне паабяцаць, што мы паплывём на такім караблі, які не будзе адыходзіць далёка ад берагоў, каб зямля не знікала за далягладам. Няхай такі карабель і плыве павольней, затое ён будзе заходзіць у гавані, дзе можа быць шмат дзівосаў і добрых шынкоў ды харчэўняў. Калі ты гэта паабяцаеш, я сяду з табой на такі карабель, але трэба неяк зрабіць, каб я не ступаў на яго мост. Лепш за ўсё мне было б напіцца п'яным, каб ты загадаў занесці мяне на карабель, і



мы пілі б на працягу ўсяго падарожжа, бо калі я не буду стаяць на нагах, то не парушу клятву і такім чынам змагу яе абысці.

Я пагадзіўся з усімі яго прапановамі, апроч безупыннай п'янкі, бо і сам хацеў паглядзець на прыбярэжныя сірыйскія гарады, каб даведацца, ці распаўсюдзілася і там нянавісць да Егіпта, і потым расказаць пра гэта Харэмхебу. Урэшце Каптах прадаў наш дом, а я забраў усё мною заробленае і паехаў з Сірыі сапраўдным багатыром. Каптаха я загадаў занесці на карабель на руках і трымаў яго там, прывязаўшы да ложка, як хворага, каб ён не парушыў клятвы.

**3**

Не хачу расказваць пра нашу дарогу назад у Егіпет, гэтае падарожжа засталося ў мяне ў памяці, як нейкі цень ці неспакойны сон. Калі я сеў нарэшце на карабель, каб вярнуцца ў родную Чорную зямлю і зноў убачыць горад майго дзяцінства Фівы, маю душу напоўнілі непакой і такая пакутлівая туга, што я не мог ні сядзець, ні ляжаць, ні стаяць на месцы. Я хадзіў сюды-туды па вузкім карабельным мосце, натыкаючыся на скручаныя цыноўкі і цюкі з таварам, яшчэ прапахлыя водарам Сірыі, і дзень за днём з нецярпеннем чакаў, калі ўбачу замест гарыстых берагоў роўную, пакрытую зялёным трыснягом зямлю. Калі карабель заходзіў у які-небудзь узбярэжны горад і затрымліваўся там на дзень, мне ўжо не хацелася ні знаёміцца з гэтым горадам, ні збіраць аб ім звесткі. Крыкі аслоў, перамяшаныя з крыкамі гандляроў рыбай і гукамі чужых моваў, здаваліся мне ўсяго толькі неспакойным плёскатам марскіх хваляў. У сімірскія даліны зноў прыйшла вясна, пры поглядзе з мора горы здаваліся чырвонымі, як віно, а вада ля берагоў стала светла-зялёнай. На вузкіх вулках гучна крычалі жрацы Ваала, да крыві драпаючы свае твары крэмніевымі нажамі, а жанчыны з распаленымі вачыма і разбэрсанымі валасамі цягнулі за імі драўляныя павозкі. Але ўсё гэта я бачыў ужо шмат разоў, іх грубыя звычаі выклікалі ў мяне агіду, бо перад маімі вачыма стаялі карціны роднай зямлі. Я думаў, што сэрца ў мяне даўно скамянела, што я ўжо прывык да чужых моваў і звычаяў, мне здавалася, што я разумею людзей усіх колераў скуры, нікім не пагарджаючы, і проста, вандруючы, збіраю веды. Але вяртанне ў Чорную зямлю гарачым полымем растапіла мне сэрца. Ранейшыя думкі пакінулі мяне разам з чужынскаю вопраткай, і я зноў адчуў сябе егіпцянінам. Я адчуў тугу па паху смажанай у алеі рыбы, якім поўняцца ўсе фіванскія завулкі, калі жанчыны распальваюць увечары агонь у агменях перад сваімі глінабітнымі хаткамі, я адчуў тугу па смаку егіпецкага віна і нільскай вады з прысмакам урадлівага глею, я адчуў тугу па шолаху папіруснага трыснягу пад вясновым ветрыкам, па лотасах, якія распускаюцца ўздоўж рачных берагоў, па стракатых калонах храмаў з

векавечнымі надпісамі, я адчуў тугу па пісьмёнах-малюнках і свяшчэннаму дыму, які ўздымаецца між калонамі храмаў, — і маё сэрца раптам ахапіў неспакой.

Я вяртаўся дадому, хоць дома ў мяне не было і на ўсёй зямлі я быў чужаніца. Я вяртаўся дадому, і ўспаміны пра мінулыя ўчынкі ўжо не ранілі маё сэрца, бо час і веды засыпалі іх, як пясок з пустэльні. Я не адчуваў ні суму, ні скрухі — толькі неспакойная туга калола мне сэрца.

Багатая, урадлівая Сірыя, якая шыпела нянавісцю і прагаю помсты, засталася ззаду. Наш карабель ішоў на вёслах уздоўж чырвоных берагоў Сіная, і гарачы вецер з пустэльні апякаў нам твары, хоць яшчэ стаяла вясна. А ўранні, калі хвалі зрабіліся жоўтыя, а ўдалечыні паказалася зялёная палоска зямлі, маракі апусцілі ў мора гліняныя гарлачы і паднялі на судна ваду, якая была ўжо не салёная: гэта была вада векавечнага Ніла. Ніводнае віно не здавалася мне такім смачным, як цяпер гэтая вада, якую мы дасталі з мора ўдалечыні ад зямлі і ў якой адчуваўся прысмак егіпецкага глею. Але Каптах сказаў:

— Вада — яна заўсёды вада, няхай нават і з Ніла. Ты крыху пацярпі, мой гаспадар, вось хутка дабярэмся да добрага шынка з пеністым празрыстым півам, якое не трэба смактаць праз саломіну, каб не праглынуць зярнятка, — тады я паверу, што мы ў Егіпце.

Яго бязбожныя паклёпніцкія словы абурылі мяне, і я прыгразіў:

— Раб застаецца рабом нават і ў дарагіх строях. Вось пачакай, Каптах, вазьму я хутка гнуткую палку з нільскага трыснягу — тады ты паверыш, што вярнуўся дадому.

Але Каптах зусім не пакрыўдзіўся. Ён схіліўся перада мной са слязьмі на вачах і, апусціўшы рукі да каленяў, сказаў:

— Напраўду, мой гаспадар, ты валодаеш неверагодным дарам знайсці патрэбныя словы ў патрэбны момант, бо я ўжо і забыўся, якая гэта асалода — удар гнуткай трысняговай палкі па задніцы ці па нагах. Ах, мой гаспадар Сінухе, як бы я жадаў перажыць гэтую радасць і табе таксама, бо яна расказвае пра жыццё ў Егіпце куды лепш, чым дым ахвярапрынашэнняў у храме ці крык качак у чаратах, яна напамінае кожнаму аб яго месцы на гэтай зямлі, і нічога не мяняецца з часам. Таму не здзіўляйся, што мяне гэта раптам так усхвалявала: толькі цяпер я адчуў, што вяртаюся дадому пасля бадзяння па свеце, у час якога ўбачыў столькі неверагоднага і нікчэмнага. О, благаслаўлёная трысняговая палка, якая ставіць кожнага на сваё месца і тлумачыць усё незразумелае, ніштo з табой не зраўнуецца!

Нейкі час ён плакаў ад замілавання, а потым пайшоў змазваць скарабея, але, як я заўважыў, гэты раз ён карыстаўся не дарагім алеем, як заўсёды. Відаць, таму што бераг быў блізка, а ў Егіпце Каптах прыдумаў ужо выкруціць нейкую сваю хітрасць.



Толькі калі мы ўвайшлі ў першую вялікую гавань Ніжняй Зямлі, я зразумеў, як знелюбеў мне выгляд шырокіх стракатых убораў, кучаравых барадаў і таўсматых целаў. Цягавітыя насільшчыкі, іх паясныя павязкі, паголеныя твары, гамонка і пах поту, трыснягу, глею — усё тут было не такім, як у Сірыі, усё тут было сваім, знаёмым, і мая сірыйская вопратка падалася мне цеснай, бо цела не магло ў ёй дыхаць. Адчапіўшыся нарэшце ад пісарчукоў і паставіўшы сваё імя на некалькіх папірусах, я паспяшаўся купіць новую вопратку, і пасля ўсіх апранах з воўны тонкі лён пяшчотна лашчыў мне цела. Але Каптах вырашыў і далей называць сябе сірыйцам, баючыся, што яго імя ўсё яшчэ значыцца ў спісах уцёклых рабоў, хоць я і набыў у сімірскіх чыноўнікаў гліняную таблічку, дзе сведчылася, што ён нарадзіўся ў Сіміры і што я купіў яго самым законным чынам.

Потым нашы рэчы перанеслі на рачны карабель, які ішоў да вярхоўя ракі. Дзень мінаў за днём, і мы зноў прызвычайваліся да Егіпта. Абапал ракі пасля разводдзя сохлі палі, і нетаропкія валы цягнулі плугі, а земляробы ішлі па баразнах, схіліўшы галовы і кідаючы ў зямлю зерне. Ластаўкі маланкава праносіліся над павольнай вадой. Яны занепакоена крычалі, збіраючыся закапацца ў глей на самы спякотны час. Па берагах Ніла пальмы і смоквы схіляліся над нізкімі глінабітнымі хацінамі, карабель заходзіў у вялікія і маленькія ўзбярэжныя гарады, і ў іх не было ніводнага шынка, у якім Каптах не паспяшаўся б выпіць егіпецкага піва, пахваліцца значнасцю сваёй асобы і расказаць неверагодныя гісторыі пра нашы падарожжы і маё майстэрства, а насільшчыкі смяяліся, слухаючы яго, і заклікалі багоў на дапамогу. Каптах так спяшаўся, што часам апынаўся на беразе раней, чым карабель паспявалі прывязаць да прычала, а калі я лаяўся, ён адказваў:

— Мой гаспадар, толькі цяпер я зразумеў, якую пакутлівую і спусташальную смагу я прыдбаў падчас нашых падарожжаў. Нібыта пыл з усіх краінаў, гарадоў і дарог пяршыць у маім горле, а я дагэтуль не знайшоў такога піва, якое магло б змыць гэты пыл. Таму не лайся, а пахвалі мяне за тое, што я так старанна, не шкадуючы сябе, знаёмлюся з кожным шынком, шукаючы піва, якое пазбавіла б мяне ад маёй немачы, бо з цягам часу яна магла б пашкодзіць і табе, мой гаспадар. Я раблю гэта табе на карысць, і ты не лайся і не ўшчувай мяне за маю нецярплівасць, бо чым вышэй па рацэ мы паднімаемся, тым пакутлівейшай робіцца мая смага, так што мне і падумаць страшна. Ты ж павінен разумець, што, апавядаючы пра цудоўнае вылечванне хворых, якім ты вызначаўся ў такіх далёкіх краінах, што гэтыя ёлупні і назваў іх ніколі не чулі, я дбаю, каб твая слава вялікага лекара ляцела перад табой. Апроч таго, размаўляючы ў шынках, я знаёмлюся са шматлікімі багамі, і не магу даць веры, што іх у Егіпце так многа. Кожны дзень я чую пра

ўсё новых і новых багоў, пра якіх раней не ведаў. Аднак я думаю вось што: наш скарабей, безумоўна, заслугоўвае ўсякай пашаны, але нам не зашкодзіла б знайсці якога больш прыдатнага бога, якому можна было б пакланяцца, каб нас лічылі прыстойнымі людзьмі і мы заслугоўвалі б у іншых павагу.

— Ты ведаеш, як я стаўлюся да багоў, — адказаў я. — І на маю думку, багі, якіх ты знаходзіш у рознакаляровых піўных збанах, не заслугоўваюць большай пашаны, чым іншыя. Апроч таго, я не прыпомню ніводнай далёкай краіны, у якой піва табе прыйшлося б не даспадобы. Праўда, паўсюль тлумачыў сваю смагу рознымі прычынамі. Так што не здзіўляйся, калі аднойчы мне ўстыне твая балбатня.

— Мой гаспадар, — засмучана сказаў Каптах. — Ты на дзіва ўмела можаш усяго ў некалькіх словах прывесці столькі няправільных доваdaў, што мне потым патрэбен аж цэлы дзень, каб усе іх аспрэчыць. Што да твайго стаўлення да багоў, то я зусім не лезу ў гэтую справу, я проста стараюся ўладкаваць нашы адносіны з багамі нам на карысць, каб ты не набыў славу бязбожніка, бо гэта пашкодзіла б твайму занятку лекарскай справай. Я не буду з табой спрачацца, абмяркоўваючы магутнасць багоў, якіх я знаходжу ў піўных жбанах, а дакладней, побач з імі. Але табе давядзецца прызнаць, што сярод іх ёсць і вельмі цікавыя, знаёмства з якімі не прынясе нам шкоды. Вось, напрыклад, учора я даведаўся пра бога, які аберагае жанчыну ад небяспекі зацяжарыць, калі яна гэтага не хоча па тых ці іншых прычынах, якія мы зараз пералічваць не будзем. Але гэта ж нейкае дзіва! Бо звычайна багі дужаюцца між сабой у стварэнні зусім іншых цудаў, і кожны жрэц пахваляецца, што ягоны бог дапамагае жанчынам заводзіць дзяцей! Таму я спачатку не мог даць веры, што такі бог існуе, але жанчына, якая пра яго казала, была так у ім упэўненая і так абураная маім недаверам, што паказала амулет, які носіць на шыі, і нават прапанавала мне паспрабаваць, дапамагае ён або не. Яна завяла мяне ў сваю хату, і я зрабіў усё магчымае, каб пераканацца ў праўдзівасці яе словаў, хоць, на жаль, не паспеў, бо наш карабель увечары рушыў далей у дарогу, і я не мог пачакаць і высветліць, народзіць яна дзіцё або не. Затое я добра ведаю, што яна скрала ўсю медзь, якую я меў пры сабе.

— Каптах, Каптах, — дакараў я яго, — колькі разоў я казаў табе, каб ты не слухаў рознае глупства.

Але ён запярэчыў:

— Гэта багі, а не глупства! А медзі мне не шкада, тым больш што жанчына была прыязная і на выгляд зусім не брыдкая. А што да маёй смагі, за якую ты так злуешся, дык табе, мой гаспадар, трэба яшчэ ёй падзякаваць, бо без яе ты быў бы бедняком, і крумкачы, напэўна, склявалі б твой чэрап каля якой-небудзь дарогі. Не забывай, што падобна да



таго, як карабельны бог беспамылкова накіроўвае капітана ў гавань, так мая смага заўжды прыводзіла мяне ў кампанію тых, ад каго я чуў шмат нам абодвум карыснага. Таму не варта бэсціць маю смагу! Калі б ты быў хоць крыху лепшым вернікам, дык нават мог бы ўбачыць у ёй нешта боскае!

Я павярнуўся да Каптаха спінай і пайшоў прэч, бо спрачацца з ім было немагчыма. Наш карабель плыў па пустэльнай частцы ракі. На пясчаных берагах, грэючыся на сонцы, нерухома ляжалі старыя кракадзілы. У іх разяўленыя пашчы без страху залятаў маленькія птушачкі і выдзёўбвалі з кракадзілавых зубоў рэшткі ежы. Тою ноччу я чуў, як у чаратах роў бегемот, а ўранні вакол карабля цэлымі чародкамі віліся чырвоныя, падобныя да кветак, птушкі. Я зноў быў у Егіпце, зноў быў на сваёй радзіме, але як толькі я звыкнуўся з думкай, што за бортам увесь час нясе свае магутныя воды Ніл, я зноў адчуў сябе самотным чужаніцам на гэтым свеце, і маё сэрца агарнулася такою тугой і пачуццём бяссэнсіцы ўсяго існага, што я спусціўся ў каюту, лёг на цыноўку і страціў усякую ахвоту размаўляць з іншымі, як было на пачатку нашага падарожжа. Я зразумеў, што калі не вярнуся ў Фівы, калі сыду на бераг у любым іншым егіпецкім горадзе на беразе Ніла і вазьмуся лячыць там людзей, — нічога ў маім жыцці не зменіцца і не вырашыцца, усё ў застанецца такім, як было. Апроч таго, я павінен быў сустрэцца з Харэмхебам, і гэтая прычына больш за астатнія прымушала мяне працягваць шлях да Фіваў.

І неўзабаве я ўбачыў на ўсходнім беразе тры горныя вяршыні, трох векавечных вартаўнікоў вялікага горада. Усё часцей пачалі трапляцца заселены мясціны, глінабітныя хацінкі беднякоў змяняліся багатымі будынінамі, потым паказаліся магутныя муры, і я ўбачыў дах вялікага храма з каланадаю, шматлікія будынкі, што атачалі яго, і свяшчэннае возера. На захадзе ўсю прастору да самых гор займаў Горад мёртвых, у якім на фоне жоўтых скалаў блішчалі бялюткія магілы фараонаў, а каланада храма Вялікай царскай жонкі несла на сабе цэлае мора квітнеючых дрэваў. За гарамі раскінулася Запаветная даліна, поўная змеяў і скарпіёнаў, і там, ля ног вялікага фараона, ляжалі мой бацька Сэнмут і мая маці Кіпа, там іх высахлыя целы, зашытыя ў бычыную скуру, знайшлі вечны спакой і прытулак. А далей на поўдні, сярод садоў і высокіх сцен, уздымаўся лёгкі, з сінім адлівам Залаты палац фараона. Я гадаў, ці не там жыве мой сябар Харэмхеб.

Карабель падышоў да знаёмай каменнай прыстані, тут усё было па-старому, і ніводнага новага скрыжавання не ўзнікла там, дзе я правёў дзяцінства, не падазраючы, што, узмужнеўшы, пагублю жыццё сваіх бацькоў. Праз пясок часу пачалі праступаць самыя горкія ўспаміны, і мне захацелася дзе-небудзь схавацца і закрыць твар рукамі, я не адчуваў

ніякай радасці, хоць мяне зноў акружаў шум вялікага горада, і ў вачах людзей, у іх паспешлівасці і неспакойных рухах я зноў адчуў фіванскую ліхаманку. Я не складаў ніякіх планаў, звязаных з маім вяртаннем, і ўсе рашэнні пакінуў да сустрэчы з Харэмхебам, бо думаў, што ўсё будзе залежаць ад становішча, якое ён займае цяпер пры двары фараона. Але як толькі мае ногі ступілі на брук прыстані, у мяне ўзнікла самае простае жаданне, якое не абяцала мне ні багацця, ні шчодрых дарункаў, ні славы вялікага лекара — нічога, што ўяўлялася мне раней: у гэты момант я зразумеў, што хачу звычайнага ціхага жыцця, прысвечанага лекаванню хворых беднякоў. І калі я выразна ўбачыў сваю будучыню, дзіўны спакой напоўніў маю душу, і гэта сведчыла, што чалавек зусім не ведае сваё сэрца, хоць да гэтай хвіліны я меркаваў, што сябе я ведаю дасканала. А вось жа ні пра што такое раней я не думаў! Можа, гэты намер выспеў ува мне пасля доўгіх выпрабаванняў, што выпалі на маю долю? Пачуўшы вакол шум Фіваў і адчуўшы пад нагамі гарачы брук гавані, я зноў уявіў сябе тым маленькім хлопчыкам, які калісьці сачыў сур'ёзнымі і цікаўнымі вачыма за работаю свайго бацькі Сэнмута, калі той аглядаў хворых у сваім прыёмным пакоі. Я разагнаў насільшчыкаў, якія, лаючыся між сабой, таўкліся вакол мяне, і загадаў Каптаху:

— Пакінь нашы рэчы на караблі і хутчэй купі любы дом непадалёк ад порта ў бядняцкім раёне, непадалёк ад месца, дзе стаяў дом майго бацькі. Пастарайся, каб ужо сёння я змог у ім пасяліцца, а заўтра пачаў прымаць хворых.

У Каптаха адвісла сківіца, і твар стаў зусім бяздумны, бо ён разлічваў, што мы спачатку спынімся ў багатым заезным двары, і рабы будуць абслугоўваць нас. Тым не менш, ён упершыню не запярэчыў ні словам. Ён толькі паглядзеў мне ў твар, закрыў рот і пайшоў, апусціўшы галаву. Тым жа вечарам я пасяліўся ў былым доме медніка ў бядняцкім квартале горада, туды з карабля прынеслі ўсе мае рэчы, і я паслаў сваю цыноўку на глінянай падлозе. Перад глінабітнымі хацінамі беднякоў, як і раней, тут гарэлі агмені, і алейны чад напаўняў усе закуткі ў гэтай хворай і абяздоленай частцы горада. Неўзабаве ля ўваходу ў дамы ўцехаў запаліліся лямпы, загучала сірыйская музыка, змешваючыся з лаянкай падпітых маракоў у шынках, і неба над Фівамі афарбавалася ружовым водблескам незлічоных агнёў цэнтральнай часткі вялікага горада. Я зноў быў дома, удосталь наблукаўшыся па звілістых дарогах чужыны, спрабуючы ўцячы ад самога сябе.

**4**

Наступным ранкам я загадаў Каптаху:

— Знайдзі якую простую, без усялякіх аздобаў і малюнкаў таблічку лекара і прырабі яе на дзверы дома. А калі хто будзе пра мяне распытваць, не кажы пра маю славу і веды, а кажы толькі, што лекар Сінухе прымае ўсіх хворых, і беднякоў таксама, і атрымлівае ад кожнага падарункі па сродках.



— І бедных таксама? — з жахам спытаў Каптах. — Авой-авой, мой ты гаспадар, ці ж ты не захварэў? Можа, ты выпіў балотнай вады, а можа, цябе ўкалоў скарпіён?

— Рабі, як я загадваю, калі хочаш са мной застацца, — адказаў я. — А калі гэты просты дом табе не даспадобы і пах беднасці абражае твой вытанчаны нюх, дык можаш ісці. Я думаю, ты накраў у мяне дастаткова, каб купіць новы дом і ўзяць жонку, калі табе захочацца. Я не буду супраць.

— Жонку?! — з яшчэ большым жахам крыкнуў Каптах. — Ты сапраўды захварэў, мой гаспадар, і галава ў цябе гарачая. З чаго б гэта я ўздумаў заводзіць жонку, якая зняволіла б мяне і, калі б я вяртаўся з горада, прынюхвалася б, ці пахне ад мяне він

ом, а ўранні, калі я прачынаўся б з хвораю галавой, стаяла б каля ложка з палкай у руцэ ды з поўнаю глоткай брыдкай лаянкі. Далібог, нашто мне браць жонку, калі тое самае, што і жонка, мне гатовая даць любая маладая рабыня! Ды я ўжо сто разоў табе пра гэта казаў. Відаць, багі такі пакаралі цябе вар'яцтвам, што, зрэшты, мяне не здзіўляе, бо я ведаю, як ты да іх ставішся. Але ты мой гаспадар, і твой шлях — гэта мой шлях, а твая кара — гэта і мая кара! Хоць я спадзяваўся, што нарэшце дажыў да спакою і адпачынку пасля жахлівых пакутаў, якія вымушаны быў трываць праз цябе, не кажучы ўжо пра падарожжы па моры, пра якія я нават успамінаць не хачу. Калі замест ложка табе падыходзіць цыноўка, дык і мне будзе яе дастаткова, і, дарэчы, у гэтай беднасці ёсць свая перавага, бо шынкі і дамы ўцехаў — толькі вуліцу перайсці, нават «Кракадзілавы хвост», пра які я марыў, таксама побач. Спадзяюся, што ты мне даруеш, калі я сёння пайду туды і нап'юся, бо ўсе апошнія падзеі вельмі мяне ўзрушылі і мне трэба развеяцца. Праўда, я, гледзячы на цябе, заўсёды апасаюся чаго-небудзь паганага, бо ніколі не магу загадзя здагадацца, што скажаш ці зробіш, — таму што ты думаеш і робіш усё наадварот, а не так, як усе разумныя людзі. Але такога я нават ад цябе не чакаў. Толькі дурань хавае каштоўны камень у кучы гною, а ты менавіта гэта і робіш, хаваючы ў сметніку свае веды і майстэрства.

— Каптах, — сказаў я. — Кожны чалавек прыходзіць у гэты свет голы, а хвароба не робіць розніцы паміж беднымі і багатымі, егіпцянамі і сірыйцамі.

— Можа, яно і так, але паміж іх дарункамі лекару ёсць вялікая розніца, — разумна запярэчыў Каптах. — Твая думка, што ні кажы, прыгожая, і я не меў бы нічога супраць, калі б яе прытрымліваўся нехта іншы, а не ты, асабліва цяпер, калі пасля ўсіх нашых пакутаў мы маглі

б бесклапотна скакаць па залатых галінках. Гэтая думка больш пасавала б таму, хто нарадзіўся рабом,— тады яна была б зразумелая, бо я і сам у маладосці так думаў, пакуль палка не дадала мне розуму.

— Ну, то каб ты ўжо ведаў усё,— дадаў я,— магу табе паведаміць, што, калі мне трапіцца пакінутае дзіця, я вазьму яго і буду гадаваць, як сваё роднае.

— Навошта? — зусім разгублена спытаў Каптах.— Пры храме ёсць дом для пакінутых, і некаторыя з іх вывучваюцца на малодшых жрацоў, а некаторыя робяцца скапцамі, і ім дастаецца ў жаночых пакоях фараона ці знатных людзей такое бліскучае жыццё, якое іх маткі і ўявіць сабе не маглі. З іншага боку, калі так хочаш мець сына,— што, зрэшты, зразумела,— дык няма нічога прасцей! Спадзяюся толькі, табе па дурноце не захочацца разбіць гаршчок з чужой жонкай, ад чаго могуць быць адны непрыемнасці?! Калі не хочаш купляць рабыню, можаш спакусіць якую-небудзь бедную дзяўчыну,— яна будзе толькі рада і ўдзячная, калі ты забярэш дзіцё і пазбавіш яе ад ганьбы. Але ад дзяцей шмат клопату, а радасць, якую яны прыносяць, я падазраю, надта перабольшаная! Зрэшты, наконт гэтага нічога не магу сказаць, бо сваіх дзяцей ніколі не бачыў, але маю падставы лічыць, што на ўсіх канцах свету іх падрастае цэлае войска. Было б разумней, калі б ты сёння ж купіў сабе маладую рабыню, якая дапамагала б і мне, бо мае ногі ўжо бегаюць дрэнна, а рукі ўранку дрыжаць пасля перажытых пакутаў, так што аднаму мне цяжка даглядаць дом і гатаваць ежу, тым больш, што па начах мне не спіцца ад клопату, як лепш размясціць тваё золата.

— Сапраўды, пра гэта я, Каптах, не падумаў,— прызнаўся я.— Але купляць рабыню я не хачу. Таму наймі сам сабе слугу на мае грошы — ты гэта цалкам заслужыў. А калі ты застаешся ў маім доме, то я дазваляю табе прыходзіць і сыходзіць, калі захочаш, бо я ўпэўнены, што дзякуючы тваёй смазе, ты здабудзеш мне яшчэ шмат розных карысных звестак. Рабі ж, як я сказаў і больш не пытайся, бо маё рашэнне мацнейшае за мяне, і я ўжо яго не змяню.

Сказаўшы гэта, я выйшаў з хаты, каб пайсці даведацца што-небудзь пра сваіх сяброў. У «Сірыйскім гарлачыку» я спытаўся пра Тутмеса, але гаспадар у шынку змяніўся і нічога не мог сказаць пра беднага мастака, які дзеля пракорму малюе для багатых людзей кошак. Распытваючы пра Харэмхеба, я дайшоў да кашараў, але там было пуста. Воіны ў двары не дужаліся, ніхто не шпурляў у трысняговы мяшок дзіды, стараючыся пацэліць у сярэдзіну, над катламі пад павеццю не ўздымалася пара — паўсюль панавала занядбанне. Змрочны малодшы камандзір-сардан глядзеў на мяне, калупаючы пальцам нагі пясок, яго цёмны схуднелы твар не ільсніўся ад алею, але ён адразу пакланіўся мне, калі я спытаў пра Харэмхеба, военачальніка фараона, які некалькі гадоў таму ваяваў з хабірамі на мяжы сірыйскай пустэльні. На ламанай егіпецкай мове сардан адказаў, што Харэмхеб па-ранейшаму ў фараона за военачальніка, але ўжо некалькі месяцаў таму адправіўся ў зямлю Куш, каб распусціць тамтэйшыя гарнізоны і звольніць воінаў, і пакуль нічога не чуваць пра яго вяртанне. Мне захацелася крыху развеяць сарданаву тугу, і я даў яму кавалак срэбра, чаму ён так узрадаваўся, што забыўся нават на сваю камандзірскую годнасць і збянтэжана вылаяўся імем нейкага невядомага мне бога. Калі я збіраўся пайсці, ён схапіў мяне за рукаў і бездапаможна паказаў на пусты двор казармы.



— Харэмхеб — вялікі военачальнік, ён разумее воінаў, і ён сам воін і не ведае страху,— сказаў сардан.— Харэмхеб — гэта леў, а фараон — казёл бязрогі. У кашарах пуста, і нам нічога не плацяць. Мае таварышы жабруюць па вёсках, выпрошваючы кавалак хлеба! І чым усё гэта скончыцца — мне невядома. Хай блаславіць цябе Амон за тваё срэбра, добры чалавек. Я ўжо некалькі месяцаў не піў нічога хмельнага. Мой жывот поўніцца смуткам. Мяне звабілі, надаваўшы абяцанак, з роднае вёскі. Егіпецкія вярбоўшчыкі хадзілі з хаты ў хату і казалі, што будзе шмат срэбра, шмат жанчын, шмат віна. А цяпер? Ні срэбра, ні віна, ні жанчын.— Ён плюнуў, выказваючы сваю пагарду, і расцёр сліну мазолістай пяткай.

Сардан выглядаў вельмі сумным, і я зажурыўся таксама, бо з яго слоў зразумеў, што фараон занядбаў сваіх воінаў і пачаў распускаў войска, з такое цяжкасцю набранае ў розных краінах падчас кіравання ягонага бацькі. Думаючы пра былое, я ўспомніў старога Птахора і захацеў даведацца, дзе ён і што з ім, і дзеля гэтага скіраваўся ў храм Амона і Дом Жыцця. Але там мне сказалі, што царскі трэпанатар больш за год, як памёр і пахаваны ў Горадзе мёртвых. Так у выніку я не знайшоў у Фівах ніводнага свайго сябра.

Але будучы зусім побач з храмам, я захацеў у яго ўвайсці. І я зноў пагрузіўся ў знаёмы свяшчэнны паўзмрок, дзе разносіўся пах ахвярнага дыму, што ахутваў страката размаляваныя калоны, упрыгожаныя пісьмёнамі, і дзе ў вышыні насіліся ластаўкі, залятаючы ў храм праз каменныя краты вокнаў. Але і ў храме, і на двары, і ў незлічоных храмавых крамках, і ў майстэрнях,— усюды было пуста і не чулася былога шуму. Жрацы ў белых строях, з паголенымі галовамі, якія ільсніліся ад алею, спалохана паглядалі на мяне, людзі ў двары ціха гаманілі і азіраліся, нібыта баючыся, што іх падслухоўваюць. Шум, які раней пачынаўся на досвітку і быў падобны да шолаху чаратоў, шум, які так добра помніўся мне яшчэ з пары майго навучання, цяпер змяніўся поўнаю цішынёй. Я ніколі не любіў Амона, але нейкая дзіўная туга напоўніла маё сэрца, як бывае заўсёды, калі чалавек успамінае далёкае юнацтва — усё адно, было яно добрае ці благое.

Павярнуўшы назад і праходзячы паўз вялізныя каменныя статуі фараона, я заўважыў, што побач з вялікім храмам падняўся новы, магутны ды такой незвычайнай формы, якой я нідзе ніколі не бачыў. Вакол новага храма не было сцен, і я, увайшоўшы, убачыў, што яго калоны проста абступаюць шырокі двор, дзе на алтары ляжалі ахвяры: калоссе, кветкі і садавіна. На вялікай вертыкальнай фрэсцы круглы Атон распасціраў сваё праменне над фараонам, які прыносіў яму ахвяру; кожны промень заканчваўся бласлаўляючай рукой, і ў кожнай руцэ быў сімвал жыцця — крыж. Жрацы ў белых строях з няголенымі галовамі па большасці былі юнакамі, іх твары свяціліся натхненнем, калі яны ўзнёсла спявалі свяшчэнны гімн, словы якога я аднойчы ўжо чуў у Ерусаліме. Але больш за спевы жрацоў і алтарныя фрэскі мяне ўразілі сорак вялізных калонаў, на кожнай з якіх была высечаная ненатуральна схіленая выява маладога фараона са складзенымі на грудзях рукамі, у якіх ён трымаў жазло і бізун. Фігуры фараона ўважліва пазіралі на кожнага наведніка.

Фігуры былі вельмі падобныя да сапраўднага фараона, я пазнаў яго страсна-зацяты твар і кволае цела з шырокімі клубамі і худымі рукамі й нагамі. Мяне ўразіла смеласць майстра, які стварыў гэтыя статуі. Калісьці мой сябар Тутмес тужыў па сапраўднаму праўдзіваму мастацтву, а тут яно паўставала ва ўсёй сваёй страшнай, амаль бязлітаснай шчырасці! Усе заганы фараонавай фігуры — і ненатуральна шырокія клубы, і тонкія галёнкі, і хударлявую нервовую шыю — усё мастак паказаў, не схаваўшы і нават падкрэсліўшы, нібы яны мелі нейкае асабліва свяшчэннае значэнне. Але найстрашнейшым быў твар — вельмі доўгі, з брывамі ўразбег, з пукатымі пашчанкамі, з дзіўнай кплівай і адначасова летуценнай усмешкай. Калі каля храма Амона сядзелі агромністыя каменныя фараоны, велічныя ў сваёй богападобнасці, дык тут з сарака калонаў вакол алтара бога Атона на людзей глядзеў распухлы, варты жалю чалавек, які, аднак, бачыў далей за іншых, і ўсё яго скамянелае аблічча выяўляла натхненне і напружаную зацятасць.

Усё ўва мне здрыганулася, бо Аменхатэп IV упершыню паўстаў перада мною такім, якім, напэўна, сам сябе бачыў. Калі я спаткаў юнага фараона, ён быў хворы, слабы і скручаны свяшчэннай хваробай падлетак, і тады я ў сваёй заўчаснай мудрасці глядзеў на яго вачыма лекара і даследчыка, а яго словы ўспрымаў, як трызненне хворага. Цяпер жа я бачыў яго такім, якім з усёю сваёй нянавісцю і любоўю яго ўбачыў і выявіў у сваіх творах мастак, роўнага якому па смеласці яшчэ не ведаў Егіпет, бо калі б хто-небудзь раней адважыўся паказаць фараона такім — яго павесілі б за ногі на гарадскім муры.

Але і ў гэтым храме людзей было не вельмі багата. Я пазнаў некалькі мужчын і жанчын, гэта былі прыдворныя ў тонкіх ільняных строях з цяжкімі каўнярамі. Жрацы спявалі новыя гімны, і простыя людзі разгублена слухалі, не разумеючы сэнсу тых хваласпеваў. Яны былі зусім не такія, як старажытныя песні, што гучалі ўжо каля дзвюх тысяч гадоў, яшчэ з часоў пабудовы пірамідаў, і вуха пабожнага чалавека прызвычайвалася да іх з дзяцінства, людзі пазнавалі іх і разумелі сэрцам, нават не задумваючыся над словамі, сэнс якіх, напэўна, згубіўся дзякуючы памылкам шматлікіх пакаленняў выканаўцаў і пісарчукоў.



Калі спеў закончыўся, нейкі вельмі стары чалавек у вопратцы земляроба пачціва падышоў да жрацоў пагутарыць і купіць які-небудзь амулет ад няшчасцяў або кавалачак папіруса з магічным надпісам. Жрацы сказалі, што яны нічога такога не прадаюць, бо Атону не патрэбны ні амулеты, ні магічныя надпісы: ён сам набліжаецца да кожнага, хто верыць у яго, і не патрабуе ні ахвяраў, ні дарункаў. Пачуўшы гэта, стары вельмі раззлаваўся і пайшоў прэч, праклінаючы прыдуркаватых прайдзісветаў. Потым я ўбачыў, як ён праз старыя знаёмыя каланады ўваходзіў у храм Амона.

Нейкая гандлярка рыбай падышла да жрацоў і спытала, добразычліва гледзячы ім у вочы:

— Няўжо ніхто не прыносіць Атону ў ахвяру ні бараноў, ні быкоў, каб вы хоць крыху падмацаваліся мясам, бо вы такія худыя. Калі ваш бог такі магутны і моцны, як кажуць,— мацнейшы за самога Амона, хоць я і не веру ў гэта,— дык яго жрацы павінны таўсцець ды ільсніцца ад тлушчу. Я шмат чаго не разумею, бо я простая жанчына, але ўсім сэрцам зычу вам есці болей тлустага мяса.

Маладыя жрацы пэўны час пасмейваліся і шапталіся між сабою, як свавольныя хлапчукі, а тады старэйшы пасур'ёзнеў і сказаў жанчыне:

— Атону не патрэбны крывавыя ахвяры, і ў яго храме не варта згадваць Амона, бо Амон —няправільны і несапраўдны бог і яго трон хутка ўпадзе і храм ператворыцца ў руіны.

Жанчына шпарка пайшла прэч, плюнула па дарозе, зрабіла свяшчэнны аберагальны знак Амона і паспешліва прагаварыла:

— Гэта ты сказаў, а не я, і хай кара абрынецца на тваю галаву.

Яна пабегла так шпарка, што за ёю, спалохана азіраючыся на жрацоў, падаліся і астатнія. Але жрацы толькі смяяліся і крычалі ім наўздагон:

— Ідзіце сабе, малаверы, але Амон усё адно несапраўдны бог! Амон — фальшывы бог і яго ўлада ўпадзе, як трава пад сярпом.

Тады адзін з тых, хто адыходзіў, падняў з зямлі камень і шпурнуў яго ў купку жрацоў, трапіўшы аднаму ў твар. Той жаласна крыкнуў, закрыў твар рукамі, і праз яго пальцы пацякла кроў. Жрацы пачалі клікаць храмавую ахову, але той, што кінуў камень, ужо ўцёк, змяшаўшыся з наведнікаў храма Амона.

Усё гэта прымусіла мяне задумацца, я наблізіўся да жрацоў і спытаў:

— Я чыстакроўны егіпцянін, але шмат гадоў пражыў у Сірыі і не ведаю новага бога, якога вы называеце Атонам. Ці не маглі б вы асвяціць сваімі ведамі цемру майго невуцтва і растлумачыць мне, што гэта за бог, чаго ён патрабуе і як яму трэба служыць?

Яны вагаліся і дарэмна шукалі на маім твары прыкметы нейкай злой хітрасці, але нарэшце сказалі:

— Атон — гэта адзіны бог. Ён стварыў зямлю і рэкі, людзей і жывёлаў, і ўсё, што жыве і рухаецца на зямлі. Ён быў заўсёды і людзі служылі яму з даўніх часоў, калі ён увасабляўся пад імем Ра. А цяпер ён з'явіўся перад сваім сынам-фараонам у сапраўдным сваім аблічччы, бо, як і Атон, наш фараон жыве толькі праўдай. Атон — адзіны бог, а ўсе астатнія — несапраўдныя. Атон не цураецца нікога, хто яму аддаецца. І багатыя, і бедныя — усе роўныя перад тварам Атона, якога мы вітаем кожным ранкам у выглядзе сонца, якое блаславіляе зямлю сваім праменнем. А сонца нікога не пакідае без увагі,— ні злых, ні добрых,— яно ўсім працягвае жыватворны сімвал жыцця — крыж. Прыняўшы яго, ты таксама станеш яго слугою, бо ягоная існасць — гэта любоў, ён вечны, непераможны і нікога не пакідае без сваёй увагі, а таму без яго волі нічога не можа адбыцца на зямлі.

Я сказаў ім:

— Усё гэта, безумоўна, прыгожа, але ці па яго волі камень трапіў у твар хлопцу і да крыві разбіў яму вусны?

Жрацы разгублена паглядзелі адзін на аднаго і сказалі:

— Ты смяешся з нас.

Але той хлопец, якому камень трапіў у твар, крыкнуў мне:

— Ён дазволіў, каб гэта здарылася, бо хацеў паказаць, што я не варты яго, і каб гэта было мне навукай! Я надта зафанабэрыўся ад таго, што фараон мне давярае! Але я ўсяго толькі нізкародны прасталюдзін, мой бацька пасвіў скаціну, а маці насіла ваду з ракі. А фараон наблізіў мяне да сябе, каб я ўслаўляў яго сваім прыгожым голасам.

Я адказаў яму з падкрэсленаю пачцівасцю:

— Можа, гэты бог напраўду магутны, калі можа падняць чалавека з гразі аж да Залатога палаца.

Яны адказалі ў адзін голас:

— У гэтым ты маеш рацыю, бо фараон не глядзіць ні на выгляд, ні на багацце, ні на знатнасць чалавека — сіла Атона дазваляе яму глядзець чалавеку ў сэрца і чытаць яго патаемныя думкі.

— Тады, значыць, ён не чалавек,— адказаў я,— бо чалавек не здольны бачыць сэрца іншага чалавека, а ўзважваць чалавечыя сэрцы можа толькі Асірыс.

Яны параіліся і запярэчылі:

— Асірыс — гэта толькі народная казка, але яна ўжо не патрэбная



чалавеку, які верыць у Атона. Хоць фараон і хоча быць усяго толькі чалавекам, мы не сумняваемся, што ў яго боская існасць, пра што сведчаць і ягоныя мроі, у час якіх ён пражывае некалькі жыццяў. Але гэта ведаюць толькі тыя, каго ён любіць. Таму мастак і зрабіў фараонавы статуі на калонах храма аднача́сова падобнымі і на мужчыну, і на жанчыну, бо Атон — гэта жыватворная сіла, якая ўсяляе жыццё ў семя мужчыны і нараджае дзіця з мацярынскага чэрава.

Тады я, блазнуючы, узняў рукі ўгору, схапіўся за галаву і сказаў:

— Я ўсяго толькі просты чалавек, як і тая жанчына, што была тут перада мною. Мне цяжка спасцігнуць вашую мудрасць. Але мне думаецца, што яна не надта зразумелая і вам, калі вам даводзіцца раіцца, перш чым мне адказаць.

Пачуўшы гэта, яны ўзяліся натхнёна даводзіць:

— Атон дасканалы, як дасканалы сонечны дыск, і ўсё, што дыхае і жыве на свеце,— таксама дасканалае. Недасканалая толькі чалавечая думка, бо яна падобная да туману, і таму мы не можам цалкам асвятліць тваю душу святлом Атона,— мы сапраўды не ўсё ведаем і толькі кожны дзень навучаемся, падпарадкоўваючыся Атону, жаданні якога ведае адзін фараон.

Іх словы кранулі мяне. Я ўбачыў, што гэтыя юнакі чыстыя сэрцам, хоць апрануты ў царскі лён і намашчваюць валасы алеем, а выконваючы свае хваласпевы, атрымліваюць асалоду ад зацікаўленых позіркаў жанчын ці пасмейваюцца з простых людзей. Нешта невядомае мне дагэтуль, якое наспявала ў маёй душы супраць майго жадання, адгукнулася на гэтыя словы, і я ўпершыню падумаў, што чалавечая думка сапраўды недасканалая, а за яе межамі, напэўна, ёсць нешта такое, чаго не чуе вуха і не дасягае рука. Можа фараон і яго жрацы ўгледзелі недзе там гэтую ісціну і назвалі Атонам тое, што знаходзіцца па-за межамі нашага разумення?

Дагэтуль я часам думаў, што чалавечы розум можа адчыніць усе дзверы, што межы пазнання могуць быць дасягнутыя чалавекам і па меры павелічэння ведаў, чалавечае сэрца ўзбагачаецца. Але чаго я сам дасягнуў са сваімі ведамі? Чым болей я ведаў, тым болей мярцвела маё сэрца і тым бяднейшым мне здавалася маё жыццё, пакуль увогуле не ператварылася ў стаячую ваду сярод балотнай твані. Я невыказна знялюбеў сам сабе са сваімі ведамі і ўменнямі. І таму, відаць, вырашыў схаваць іх ад усіх і заняцца лекаваннем беднякоў. Я зрабіў гэта не па загадзе сэрца, а таму, што ўстыў сам сабе!

Цяпер Атон паўставаў перада мною па-іншаму — як нешта неспасцігальнае, як тое, што знаходзіцца па-за межамі чалавечага розуму і недаступнае для пазнання. І нахіленыя з калонаў каменныя фараонавы выявы ўжо не выклікалі ўва мне ні прыкрасці, ні жаху — я глядзеў на

іх з дзіўным узрушэннем, нібыта адчуваў, што іх каменныя вочы напраўду зазіраюць туды, куды чалавек яшчэ не зазіраў ніколі. І фараонавы вусны ўсміхаліся мне з загадкаваю ўпэўненасцю. Але быў не ўпэўнены, што самі маладыя жрацы разумеюць, пра што яны кажуць у сваёй недасведчанасці. Таму я не прыняў жыватворнага крыжа, які яны марна стараліся мне навязаць.

Я выйшаў з храма Атона з такім пачуццём, быццам усё маё ранейшае жыццё прайшло ў каменнай келлі без дзвярэй і вокнаў, і я толькі цяпер упершыню знайшоў у муры вузенькую шчыліну, праз якую да мяне струменіцца святло і чыстае паветра, каб я мог дыхаць на поўныя грудзі. Я адчуваў сябе так, быццам жыццё адкрылася мне нанава — як тады, калі ўпершыню з захапленнем адчуў сілу ведаў і лекарскага майстэрства. Але я думаю, што падобнае пачуццё можа перажыць толькі вельмі самотны чалавек, які шмат чаго страціў у жыцці. Я, Сінухе, чужаніца на твары зямлі, перажыў гэта ў храме Атона, са здзіўленнем здагадваючыся, што мог бачыць фараон вачыма сваёй свяшчэннай хваробы. Я адгадаў гэта, здзіўляючыся і радуючыся яго празорлівасці, але ў той жа час разумеў, што яму не варта быць фараонам, бо празорцам, чые мроі не звязаныя з гэтым светам, улада нясе небяспеку.

**5**

Калі я вярнуўся дадому, ужо вечарэла. На верхняй частцы дзвярэй была прыбітая простая шыльдачка з кароткім надпісам «Лекар», а ў двары чакалі некалькі брудных наведнікаў. Каптах сядзеў на ганку з незадаволеным выглядам, адганяючы пальмавай галінкай мух, і супакойваў сябе півам з толькі што адкаркаванага глячка, які стаяў побач. Я загадаў першай прывесці маці са схуднелым дзіцём на руках і даў ёй кавалак медзі, каб яна магла купіць ежы і накарміць немаўля. Потым зрабіў перавязку рабу, якому млынам раструшчыла пальцы,— я склаў кавалкі касцей, сшыў звязкі і напаіўшы яго зеллем, у якое я падмяшаў віна, каб ён забыўся на боль. Яшчэ я дапамог старому пісару, у якога на шыі была пухліна велічынёй з дзіцячую галаву, якая прымушала яго хадзіць, напалам перагнуўшы карак, і не давала нармальна дыхаць, і ад гэтага вочы ў яго былі настолькі вырачаныя, што здавалася, зараз выскачаць. Я даў яму лекі, настоеныя на марскіх водарасцях, пра гаючую сілу якіх даведаўся ў Сіміры, хоць і не верыў, што гэтыя лекі змогуць яму дапамагчы. Ён выняў з чыстай анучкі некалькі кавалкаў медзі і, саромеючыся сваёй беднасці, працягнуў іх мне, але я адмовіўся ад дарунка і сказаў, што лепей паклічу яго, калі мне трэба будзе што-небудзь напісаць, і ён пайшоў, радуючыся, што збярог сваю медзь.

Потым па дапамогу да мяне прыйшла дзяўчына з суседняга дома ўцехаў. Вочы ў яе пакрыліся нейкай каростай, і гэта вельмі шкодзіла яе



промыслу. Я прамыў ёй вочы і даў збор зёлак, з якіх яна павінна была рабіць прыпаркі, каб канчаткова вылечыцца. Тады яна нерашуча распранулася, каб расплаціцца адзіным даступным ёй чынам. Я не хацеў яе абражаць і сказаў, што часова павінен трымацца далей ад жанчын, бо хутка буду рабіць вельмі важную і складаную аперацыю, і яна мне паверыла, бо нічога не разумела ў лекарскай справе. Затое мая вытрымка выклікала ў яе вялікую павагу.

Лечачы такім чынам бедных, я ў першы дзень не зарабіў нічога, нават драбочку солі, і Каптах здзекаваўся з мяне, падаючы на вячэру тлустую гусь па-фіванску — страву, роўнай якой няма нідзе ва ўсім свеце. Ён купіў птушку ў адмысловай віннай лаўцы ў цэнтры горада і зберагаў яе гарачай у яме з вуголлем, а ў стракатую чашу наліў мне найлепшага віна з вінаградных пагоркаў Амона, пакепліваючы з вынікаў маёй дзённай працы. Але на сэрцы ў мяне было лёгка, і я радаваўся зробленаму за гэты дзень больш, чым калі б вылечыў якога-небудзь багатага гандляра і атрымаў ад яго залаты ланцуг. Павінен яшчэ дадаць, што раб, якому я вылечыў пальцы, праз некалькі дзён прыйшоў і прынёс цэлы гаршчок крупы, якую ён скраў на млыне, так што першы мой дзень не прапаў зусім марна.

Але Каптах усё смяяўся з мяне і казаў:

— Думаю, пасля сённяшняга дня твая слава разляціцца па ўсяму гораду, і заўтра ўжо на досвітку ў цябе будзе поўны двор хворых. Я ўжо чую, як беднякі перашэптваюцца: «Ідзіце хутчэй на рог партовага завулку, там, у былым доме медніка пасяліўся лекар, які лечыць задарма і вельмі ўмела! Знясіленым маткам ён дае медзь, а бедных вясёлых дзяўчат лечыць, не карыстаючыся іх паслугамі, і зусім не бярэ дарункаў. Ідзіце хутчэй да яго, бо той, хто паспее першы, атрымае больш, бо так гэты лекар хутка збяднее і вымушаны будзе прадаць дом і з'ехаць, калі яго раней не пасадзяць у цёмны пакой і не паставяць яму пад калені п'яўкі». Але гэтыя дурні памыляюцца, бо, на шчасце, у цябе ёсць золата, якое я ўдала размясціў і прымусіў працаваць на твой дабрабыт так, што ты ніколі не зведаеш нястачы, і нават калі хочаш, можаш кожны дзень есці гуску і частавацца найлепшым віном. Тваё багацце пры гэтым усё адно будзе ўзрастаць, тым больш што табе даспадобы такі сціплы дом. Але ж ты ніколі не робіш так, як усе людзі, а таму я не здзіўлюся, калі аднойчы прачнуся ўранні з пасыпанай попелам галавой і даведаюся, што ты выкінуў усё золата ў студню і прадаў дом разам са мною, бо тваё няшчаснае сэрца зноў ахапіў неспакой і ты вырашыў некуды зноў падацца. Паўтараю: мяне гэта не здзівіць. Тым не менш, мой гаспадар, будзе лепш, калі ты напішаш і аддасі ў фараонаў архіў папірус з пацверджаннем, што я вольны і магу хадзіць і прыходзіць, калі хачу і куды хачу, бо сказанае забываецца і знікае, а папірус збера-

гаецца вечна, асабліва калі да яго прыкладзеная пячатка, а царскаму пісару зроблены адпаведныя падарункі. Агаворваючы гэтыя ўмовы, я маю на гэта свае падставы, якія пералічваць зараз не буду, каб не марнаваць твой час і не забіваць тваю галаву ўсякай лухтой.

Стаяў цёплы вясенні вечар, перад глінабітнымі хатамі, патрэскваючы, гарэлі вогнішчы з сухога гною, вечаровы вецер даносіў з гавані пахі прывезенага кедравага бярвення і сірыйскай вохнай вады, акацыі струменілі вакол свой водар, і ўсё гэта прыемна змешвалася з пахам смажанай на з'ёлклым алеі рыбы, які вечарамі плыў над бядняцкімі кварталамі горада. Я з'еў гуску па-фіванску, запіў яе віном, і на сэрцы ў мяне стала так лёгка, што клопат і туга адступілі і зніклі, нібы іх накрыла нябачнай заслонай. Я прапанаваў Каптаху таксама наліць сабе ў чашу віна і сказаў яму:

— Ты вольны, Каптах, і вольны ўжо даўно, пра што сам добра ведаеш, бо, нягледзячы на тваё нахабства, з таго дня, як ты аддаў мне ўсе свае зберажэнні, не спадзеючыся нават атрымаць іх назад, ты стаў мне больш сябрам, а не рабом. Дык будзь жа шчаслівы, будзь вольны, а заўтра мы загадаем фараонавым пісарчукам запісаць усё, што патрабуецца, і змацуем гэта пячаткамі — не толькі егіпецкай, але і сірыйскай. А цяпер распавядзі, як ты ўладкаваў маю маёмасць і золата, каб яны працавалі на мяне, нават калі я нічога не буду зарабляць. Хіба ты не занёс маё золата ў храмавае сховішча, як я загадваў?

— Не, мой гаспадар,— адказаў Каптах і шчыра зірнуў мне ў вочы адзіным вокам.— Я не выканаў твайго загаду, бо ён быў неразумны, а я ніколі не выконваў неразумных загадаў. Я зрабіў усё так, як палічыў лепшым сам. Цяпер, калі я ўжо вольны, а ты дастаткова п'яны, я магу табе ў гэтым прызнацца. Хоць добра ведаючы твой нецярплівы і запальчывы нораў, які з цягам часу так і не стаў спакайнейшы, я на ўсялякі выпадак схаваў тваю палку. Я кажу гэта, каб ты дарма яе не шукаў, калі я пачну расказваць, што зрабіў з тваім золатам. Дык вось, толькі неразумныя жывёлы аддаюць сваё золата ў храмавае сховішча, бо храм за гэта нічога не плаціць, а наадварот — патрабуе дарункаў за тое, што трымае чужое ў сваіх сутарэннях, якія ахоўваюцца воінамі. Трымаць золата ў іх неразумна яшчэ і таму, што зборшчыкам падаткаў робіцца вядома, колькі ты маеш, і ў выніку тваё золата пачынае худнець, пакуль зусім не знікне. Адзіны сэнс збіраць золата — у тым, каб потым яно працавала на цябе, а ты сядзеў бы склаўшы рукі ды жаваў смажаныя з соллю зярняты лотаса, якія выклікаюць прыемную смагу. Таму, пакуль ты хадзіў ды разяўляўся на храмы, я на сваіх хворых нагах абабег увесь горад, выведваючы, як найлепш размясціць тое, што ты зарабіў. І мая смага, дарэчы, паведаміла мне шмат чаго новага. Я даведаўся, што багатыя цяпер не спяшаюцца аддаваць золата ў храмавае



сховішча, бо лічаць гэта небяспечным. А гэта значыць, што ва ўсім Егіпце ўжо няма бяспечнага месца, дзе можна захоўваць золата. Яшчэ я даведаўся, што храм Амона прадае зямлю.

— Ты хлусіш! — горача запярэчыў я і нават ускочыў, бо сама думка пра гэта была вар'яцкай.— Амон не прадае зямлю, а купляе. Ва ўсе часы Амон купляў зямлю і сёння валодае чвэрцю ўсіх ураддлівых земляў Егіпта. А тое, што прыліпнула да яго рук, ён ужо ніколі не выпусціць!

— Вядома, вядома,— прымірэнча сказаў Каптах і падліў мне віна, а потым неўпрыкмет падліў і сабе.— Кожны разумны чалавек ведае, што зямля — адзіная маёмасць, якая зберагаецца вечна і не траціць сваёй каштоўнасці, калі падтрымліваць добрыя стасункі з каморнікамі ды кожны год пасля паводкі рабіць ім багатыя падарункі. Але сёння Амон паспешліва і таемна прадае свае землі любому адданаму чалавеку, у якога маецца золата. Я жахнуўся, калі пачуў пра гэта, але потым усё высветліў і ўпэўніўся, што Амон прадае зямлю даволі танна,— праўда, з умовай, што праз пэўны час зможа выкупіць яе назад за тую самую цану. Здзелка для пакупніка выгадная, бо ў яе ўваходзяць і гаспадарчыя пабудовы, і земляробчыя прылады, і рабы, і скаціна. А ты ведаеш, што Амон валодае самымі ўрадлівымі землямі ў Егіпце. У мінулыя часы болей выгаднай здзелкі і прыдумаць было немагчыма, бо ад яе можна хутка і ўпэўнена атрымаць добры даход. Апошнім часам Амон прадаў незлічоную колькасць зямлі і сабраў у сваіх сховішчах усе вольнае золата Егіпта, так што цяпер золата не хапае і цана на нерухомасць рэзка ўпала. Але ўсё гэта — таямніца, і пра яе нікому нельга расказваць! І я таксама нічога не ведаў бы, каб не мая карысная смага, якая звяла мяне з патрэбнымі людзьмі.

— Але ж ты, вядома, не купляў зямлю, Каптах? — з жахам спытаўся я.

І Каптах супакоіў мяне:

— Я не такі вар'ят, мой гаспадар, і табе варта ведаць, што я нарадзіўся не ў якім-небудзь хляве на гнойнай падлозе, а ў высокім доме на брукаванай вуліцы. Я нічога не разумею ў зямлі, і кожны асэсар, пастух і раб, кожная служанка мяне абкрадалі б, а вось у Фівах мяне ніхто абкрасці не можа, бо тут я сам краду ў іншых. Здзелкі з Амонам вельмі выгодныя, але тут закапаны нейкі шакал, бо нездарма багатыя людзі пераслалі давяраць храмавым сховішчам. Я думаю, усё гэта праз новага фараонава бога. Шмат яшчэ чаго здарыцца, мой гаспадар, шмат чаго дзіўнага,— раней, чым мы зразумеем і ўбачым, чым усё гэта скончыцца. Але я заўсёды дбаю пра тваю выгаду, а таму купіў на тваё золата шмат гарадскіх дамоў і крамаў, якія прыносяць штогод добры даход, і ўсе гэтыя здзелкі амаль заключаныя — табе трэба толькі паставіць пячатку і подпіс. Я лічу, што купіў усё вельмі танна, а калі ўласнікі па сваёй дабрыні прынясуць мне яшчэ якія-небудзь падарункі пасля таго,

як здзелка будзе заключаная, дык няхай гэта будзе ўжо мой здабытак, бо ў цябе я нічога не краду, а калі ты захочаш і сам узнагародзіць мяне і паднесці які падарунак, то я таксама пярэчыць не буду.

Пэўны час я раздумваў, і потым сказаў:

— Не, Каптах, ніякіх падарункаў я даваць табе не намераны, бо ты і так, вядома, ужо падлічыў, колькі будзеш у мяне красці, разлічваючыся з майстрамі за рамонт будынкаў ды збіраючы арэндную плату.

Каптаха гэта зусім не засмуціла, і, падпарадкоўваючыся майму рашэнню, ён адказаў:

— Менавіта так я і думаў, бо тваё багацце — гэта маё багацце, а твая выгада — гэта мая выгада, а таму я павінен усяляк аберагаць твае інтарэсы. Але павінен прызнацца, што, калі я даведаўся, што Амон прадае ўрадлівыя землі, то напраўду зацікавіўся земляробствам і пайшоў у квартал, дзе жывуць гандляры зернем. Пахадзіўшы там з шынка ў шынок, наталяючы смагу і прыслухоўваючыся да размоваў, я шмат чаго зразумеў. Таму з твайго дазволу і за тваё золата, мой гаспадар, я думаю накупіць поўныя свірны жыта, бо цяпер якраз заключаюцца здзелкі на будучы ўраджай, і кошт пакуль вельмі добры. Праўда, зерне знішчыць лягчэй, чым дамы ці камень, бо яго ядуць пацукі і крадуць рабы, але тое самае творыцца ў земляробстве, а калі хочаш выйграць, не варта баяцца. Ураджай земляроба заўсёды залежыць ад паводкі і саранчы, ад мышэй і арашальных каналаў, і яшчэ шмат ад чаго, што я не буду цяпер пералічваць, бо і сам не ведаю. Хачу толькі сказаць, што земляроб рызыкуе больш за мяне, бо я ўжо сёння ведаю, ува што мне абыдуцца поўныя свірны ўвосень. Я буду трымаць зерне ў нашых арудах вельмі ашчадна, бо нешта падказвае мне, што праз пэўны час кошт жыта моцна ўзрасце. Зрэшты, здагадацца пра гэта няцяжка, бо, калі Амон прадае зямлю, і кожны недарэка займецца земляробствам, то дабра з гэтага чакаць не даводзіцца: ураджай будзе прыкметна меншы. Таму я купіў сухія і добра дагледжаныя будынкі пад свірны, а калі яны больш нам не спатрэбяцца, мы зможам здаць іх у арэнду гандлярам зернем і таксама добра на тым зарабіць.

На маю думку, Каптах узваліў на сябе шмат непатрэбнага клопату, задумаўшы гэтую справу, але мусіць, гэты клопат быў яму даспадобы. Таму я рашыў не пярэчыць і ні ўва што не мяшацца, каб толькі не займацца гэтым самому. Пачуўшы маё меркаванне, Каптах, хаваючы сваё задавальненне, змрочна дадаў:

— Ёсць яшчэ адзін план, які я хацеў бы ажыццявіць за твае грошы. На некаторых нявольнічых рынках сёння прадаюцца вельмі вялікія гандлёвыя памяшканні, а я магу сказаць, што ведаю пра рабоў усё, бо і сам усё жыццё быў рабом, а таму ў гэтай справе мог бы лёгка абагаціць цябе. Я ведаю, як хаваць заганы і недахопы раба, умею карыстацца палкай, чаго ты, мой гаспадар, абсалютна не ўмееш, і магу табе гэта сказаць спакойна, бо твая палка надзейна схаваная. Але я загадзя засмучаюся, бо, ведаючы цябе, думаю, што ты ніколі не згодзішся на маю прапанову, праўда, мой гаспадар?

— Тут ты, Каптах, маеш рацыю,— адказаў я.— Гандляваць рабамі мы ніколі не будзем, бо гэта брудная і ганебная справа, хоць я сам не ведаю, чаму так думаю. Здаецца, мы і купляем рабоў, і паслугамі гандляроў рабамі карыстаемся часта, і здаецца, так заўсёды было, і так будзе, але нешта ўва мне паўстае супраць, і я не хачу гандляваць імі сам і не хачу, каб гандляваў ты.

Каптах з палёгкай уздыхнуў і сказаў:

— Значыць, я добра ведаю тваё сэрца, мой гаспадар, і мы пазбеглі гэтага зла! Бо калі добра падумаць, я прадбачу, што з гэтага магло выйсці: я, хутчэй за ўсё, вельмі прыдзірліва пачаў бы выяўляць заганы і вартасці маладых рабынь і толькі дарма трациў бы на іх сілы, якіх у мяне засталося не так ужо многа. Я старэю, ногі ў мяне камянеюць, і рукі дрыжаць, асабліва ўранні, пакуль я не дабяруся да гарлача піва. Затое хачу сказаць табе, што ўсе дамы, якія я купіў за тваё золата, дадуць нам добры і надзейны прыбытак, хоць і не самы вялікі. Бо я не купіў ніводнага дома ўцехаў і ніводнага будынка ў бедных кварталах, хоць яны якраз прыносяць большы прыбытак, чым вялікія будынкі багатых людзей. Праўда, мне давялося моцна пазмагацца з самім сабой, каб адмовіцца ад гэтага,— бо чаму б нам і не багацець, як усім іншым,— але сэрца падказвала мне, што ты, мой гаспадар, не адобрыш гэтага, і я з вялікім жалем адмовіўся ад салодкіх сваіх спадзяванняў. Але ў мяне ёсць яшчэ адна просьба.

Раптам Каптах завагаўся і ўважліва зірнуў на мяне сваім вокам, гадаючы, ці ў дастаткова я добрым настроі. Я наліў яму ў чашу віна і падбадзёрыў, бо ніколі раней не бачыў, каб Каптах траціў самаўпэўненасць. Гэта нават распаліла маю цікаўнасць. Нарэшце ён сказаў:

— Мая просьба дзёрзкая і нахабная, але калі ты кажаш, што я вольны, то я адважуся яе выказаць і спадзяюся, што ты не раззлуешся, хоць дзеля пэўнасці я тваю палку схаваў. Шчыра кажучы, я проста хачу запрасіць цябе ў той шынок непадалёк ад гавані, пра які я шмат табе казаў і які называецца «Кракадзілавы хвост». Я хачу, каб мы там разам выпілі па «хвастку», і ты пабачыў бы, што гэта за месца, ба якім я марыў, смокчучы праз саломіну густое піва ў Сірыі ды Вавілоніі.

Я засмяяўся і зусім не зазлаваў на яго, бо віно зрабіла маё сэрца мяккім і добразычлівым. У прыцемку вясенняга вечара лунаў нейкі дзіўны сум, і мяне напаўняла самота. Вядома, гэта было не вартым маёй годнасці і становішча,— каб гаспадар ішоў разам з рабом у нейкі нікчэмны партовы шынок ды піў з ім незразумелае пойла пад назвай «крака-

дзілаў хвост» толькі таму, што яно, нібыта, дадае чалавеку сілы! Але я ўспомніў, як некалі Каптах па сваім жаданні пайшоў за мною за браму ў цёмны палац, добра ведаючы, што ніхто яшчэ жывы адтуль не вяртаўся. Тады я крануў яго за плячо і сказаў:

— Сэрца вяшчуе, што сёння дзень трэба закончыць менавіта кракадзілавым хвастом. А таму — хадзем!

Каптах, забыўшыся на свае скамянелыя ногі, аж падскочыў ад радасці. Ён хуценька знайшоў маю схаваную палку, накінуў мне на плечы вопратку і мы рушылі да гавані, да шынка «Кракадзілаў хвост». А вецер гнаў над вадою пахі кедравага бярвення і квітнеючай Чорнай зямлі.

**6**

Шынок «Кракадзілаў хвост» стаяў у завулку ў цэнтры партовых кварталаў горада, заціснуты між гандлёвымі складамі. Вялізнай таўшчыні цагляныя сцены зберагалі ў будынку цяпло ўзімку і прахалоду летам. Над дзвярыма, апроч піўных і вінных гарлачоў, вісеў незвычайнай велічыні засушаны кракадзіл з бліскучымі шклянымі вачыма і застрашальнымі зубамі ў разяўленай пашчы. Каптах з важным выглядам завёў мяне ў шынок, паклікаў гаспадара і замовіў нам мяккія сядзенні. Ён быў у шынку за свайго і хадзіў па ім, як па ўласным доме, так што астатнія наведнікі, якія спачатку падазрона пазіралі на мяне, супакоіліся і вярнуліся да сваіх размоваў. Я са здзіўленнем заўважыў, што падлога тут была драўляная, і сцены таксама — абшытыя дошкамі. На іх вісела шмат усякіх рэчаў, што напаміналі пра далёкія падарожжы: негрыцянскія дзіды і пучкі пер'я, марскія ракавіны і крыцкія размаляваныя пасудзіны. Каптах прасачыў за маім позіркам і ганарліва сказаў:

— Ты, напэўна здзіўляешся, што сцены ў памяшканні драўляныя, як у багатых дамах. Дык ведай, што кожная дошка тут са старых караблёў, і хоць я ўспамінаю марскія падарожжы без усялякага задавальнення, павінен сказаць табе, што вунь тая, жоўтая, аб'едзеная морам дошка некалі плавала ў Пунт, а тая, карычневая дошка абадралася аб прычалы марскіх выспаў. А зараз, калі ты не супраць, давай пакаштуем «кракадзілаў хвост», які гаспадар сам змяшаў дзеля нас сваімі рукамі.

Мне падалі прыгожую чашу ў форме ракавіны, якую трэба было трымаць у далонях, але я ўперыўся не на яе, а на жанчыну, якая яе падала. Гэта была не такая маладая жанчына, як іншыя прыслужніцы ў шынку. Яна не хадзіла напалову голая, спакушаючы сваім целам прысутных, — яна была ў прыстойных строях, у яе ў вушах былі срэбная кольцы, а на тонкіх руках пабразгвалі срэбныя бранзалеты. Заўважыўшы мой погляд, яна бясстрашна зірнула ў адказ і не адвяла вачэй, як звычайна робяць жанчыны. Яе бровы былі тонка выскубеныя, а ў вачах адначасова жылі і сум, і ўсмешка. Яны былі цёплага карычневага колеру і такія жывыя, што на сэрцы ў мяне пацяплела. Я прыняў з яе рук чашу ў свае далоні, Каптах зрабіў тое самае, і, не зводзячы з жанчыны вачэй, я міжволі спытаў:



— Як цябе завуць, прыгажуня?

Яна адказала нізкім голасам:

— Мяне завуць Мэрыт. Але я не прывыкла, каб мяне называлі тут прыгажуняй. Так робяць звычайна сарамлівыя юнакі, шукаючы падставы ўпершыню дакрануцца да клубаў прыслужніцы. Спадзяюся, ты гэта запомніш, лекар Сінухе-Самотнік, калі зноў зробіш гонар наведаць нас,.

Я пакрыўдзіўся і сказаў:

— Я не маю ніякага жадання дакранацца да тваіх клубаў, прыгажуня Мэрыт. Але адкуль табе вядома маё імя?

Прыгожая ўсмешка засвяцілася на яе чыстым смуглявым твары:

— Твая слава бяжыць паперадзе цябе, Сын дзікага асла, — жартаўліва адказала яна. — Калі я цябе ўбачыла, то зразумела адразу, што чуткі не хлусяць і ўсё, што кажуць пра цябе, — праўда.

Але недзе ў глыбіні яе вачэй далёкай смугою плыў смутак, і маё сэрца, памкнуўшыся ёй насустрач, адгукнулася сваім смуткам. Я не раззлаваўся на яе і сказаў:

— Калі пад славай, што бяжыць паперадзе, ты разумееш Каптаха, былога раба, што сядзіць побач і якому я сёння падарыў свабоду, дык ведай, што яго словам давяраць нельга, бо язык у яго хворы ад нараджэння і не можа адрозніць хлусню ад праўды, ён аднолькава любіць адно і другое, прычым хлусню нават часцей, чым праўду. І гэтую хваробу не здолелі вылечыць ні маё лекарскае майстэрства, ні мая палка.

Яна адказала:

— Хлусня часам бывае саладзейшай за праўду, асабліва калі чалавек самотны і яго першая вясна даўно мінула. Таму мне было прыемна чуць твае словы пра «прыгажуню Мэрыт», і я веру ўсяму, што мне кажа твой твар. Але ці не хочаш ты паспытаць «кракадзілавага хваста», які я табе прынесла? Мне цікава паглядзець і даведацца, ці можа ён зраўнавацца з напоямі тых дзівосных земляў, у якіх ты пабываў.

Усё яшчэ гледзячы ёй у вочы, я падняў чашу і зрабіў глыток, — і адразу кроў ударыла мне ў галаву, горла апякло, як агнём, і я закашляўся. Калі я нарэшце аддыхаўся і зноў паглядзеў на яе, то сказаў:

— Бяру назад свае словы наконт Каптаха: гэты раз ён не схлусіў. Твой напой сапраўды мацнейшы за ўсе, якія я калі-небудзь каштаваў: ён апякае мацней за земляны алей, што гарыць у вавілонскіх лямпах, і я веру, што ён, як кракадзіл ударам свайго хваста, зваліць з ног любога.

Сказаўшы гэта, я прыслухаўся да свайго цела і адчуў, што яно гарыць агнём, што ў роце разліўся водар бальсану і прыправаў, а сэрца нібы акрылілася і ўзляцела, як ластаўка.

— У імя Сэта і ўсіх злых духаў, я не магу разабраць, што намяшана ў гэтым пітве,— сказаў я.— І я не ведаю, што мяне больш зачароўвае — гэтае пітво ці твае вочы, Мэрыт, але нешта чароўнае разліваецца па ўсім маім целе, а маё сэрца зноў робіцца маладым, таму не здзіўляйся, калі я пакладу рукі табе на клубы — вінаватае ў тым будзе тваё пітво, а не я.

Яна з асцярогай адступіла далей і жартаўліва ўзняла рукі ўгору. І тут я і разгледзеў, якая яна высокая і статная, а яна ўсміхнулася і сказала:

— Табе не да твару лаяцца такімі словамі, бо тут прыстойны шынок, а я яшчэ не надта старая і амаль нявінная, хоць твае вочы, мусіць, не зусім у гэта вераць. А пра пітво магу сказаць, што гэта адзіны пасаг, які мне застаўся ад бацькі, і таму твой раб Каптах так настойліва сватаўся да мяне. Ён спадзяваўся задарма атрымаць мае сакрэты ў прыгатаванні напояў! Але ён аднавокі, стары і тоўсты, і сталай жанчыне наўрад ці з яго будзе якая радасць. У выніку ён вымушаны быў купіць увесь шынок, спадзеючыся, што я з часам выдам яму сваю таямніцу, але яму давядзецца патраціць яшчэ нямала золата, перш чым мы прыйдзем да згоды.

Каптах рабіў адчайныя знакі, каб яна змоўкла, а я сербануў яшчэ, і агонь зноў пабег па маіх жылах.

— Я магу паверыць, што дзеля такога пітва Каптах гатовы разбіць гаршчок з табою,— сказаў я,— няхай ён і добра ведае, што неўзабаве пасля вяселля яго нагам давядзецца нямала папакутаваць ад кіпеню. Зрэшты, зазірнуўшы ў твае вочы, я і без тваіх сакрэтных напояў выдатна яго разумею. Але ты павінна памятаць, што з табою гаворыць цяпер «кракадзілаў хвост», а не я, і цалкам можа стацца, што заўтра мой язык не будзе адказваць за сённяшнія свае словы. А Каптах сапраўды купіў гэты шынок?

— Пайшла прэч, нахабная і балбатлівая баба! — крыкнуў на яе Каптах і дадаў яшчэ доўгі спіс імёнаў сірыйскіх багоў, а тады, павярнуўшыся і пытальна пазіраючы на мяне, сказаў.— Мой гаспадар, далібог, гэта адбылося нават для самога мяне нечакана... Я збіраўся паступова падрыхтаваць цябе да гэтай пакупкі і атрымаць твой дазвол, бо я ж усё яшчэ твой слуга. Але я, праўда, купіў шынок у тутэйшага гаспадара і спадзяюся ўгаварыць яго дачку адкрыць мне сакрэт «кракадзілавага хваста», бо гэты напой разнёс славу шынка па ўсіх берагах Ніла і паўсюль, дзе толькі п'юць ды весяляцца людзі. Таму я і ўспамінаў яго кожны дзень, калі быў далёка. Як табе вядома, я ўсе гады добрасумленна і старанна абкрадаў цябе, і таму павінен цяпер добра размясціць сваё срэбра і золата, бо мне трэба падумаць і пра сваю старасць, калі я не змагу ўжо бегаць па тваіх незлічоных справах і захачу пагрэць косці каля жарніцы.



І ён пакрыўджана зірнуў на мяне, бо я засмяяўся, уявіўшы, як бы Каптах бегаў, бо ён наймае насілкі нават, калі я хаджу пешшу. І яшчэ я падумаў, што жарніца наўрад ці сагрэла б ягоныя косці праз такі тоўсты слой тлушчу... Зрэшты, я перастаў смяяцца, зразумеўшы, што ўсе гэтыя думкі мне ўнушае «кракадзілаў хвост». Ужо сур'ёзна я папрасіў Каптаха дараваць мне маю дураслівасць і расказваць далей.

— Яшчэ маладым я думаў, што быць гаспадаром шынка — шыкоўны занятак,— апавядаў Каптах, расчуліўшыся пад уплывам «кракадзілавага хваста».— Праўда, у тыя часы я думаў, галоўным чынам, што шынкар можа бясплатна піць, колькі захоча, і ніхто не будзе яго лаяць. Але цяпер я разумею, што гаспадар павінен піць у меру і не хмялець, і гэта якраз мне вельмі карысна, бо ад лішку выпітага творацца адно паскудства,— напрыклад, бывае, засну, а мне мрояцца бегемоты ды ўсялякія страшыдлы. А шынкар павінен увесь сустракаць карысных яму людзей, чуць і ведаць усё, што вакол адбываецца, а гэта мяне асабліва вабіць, бо я з дзяцінства быў вельмі цікаўны. Як гаспадару шынка, мне ад майго языка будзе вялікая карысць, бо я магу забаўляць гасцей бясконцымі байкамі, і яны ад здзіўлення і неўпрыкмет для сябе будуць каўтаць адну чашу за другой і схамянуцца толькі, калі прыйдзе час разлічвацца. І цяпер я думаю, што стаць шынкаром мне было наканавана багамі, а рабом я нарадзіўся хіба што праз нейкую памылку. Але і гэта мне на карысць, бо цяпер ніякія хітрыкі ці выкрутасы не дапамогуць ні аднаму наведніку выскачыць з шынка, не разлічыўшыся: я сам некалі займаўся такім штукарствам, і абдурыць мяне не ўдасца нікому. Я кажу, што ведаю людзей, і гэта праўда, бо сэрца беспамылкова падказвае мне, каго можна паіць у пазыку, а каго — не, а гэта вельмі важна для шынкара, бо чалавечая прырода дзіўная: чалавек без памяці п'е на пазыку і нават не думае, што час разліку ўсё роўна прыйдзе,— а вось калі яму трэба плаціць за выпітае адразу, ён беражліва прытрымлівае сваё срэбра.

Каптах дапіў чашу, апусціў галаву на рукі і з маркотнай усмешкай сказаў:

— Я думаю, занятак шынкара сярод усіх самы надзейны і пэўны, чалавечая смага не будзе спатоленая ніколі і нягледзячы ні на што, хай нават усе багі і фараоны ўпадуць са сваіх тронаў, а людзі пачнуць хадзіць у шынкі ды харчэўні радзей. Чалавек п'е віно і ў радасці і ў горы, ён арашае віном свае поспехі і залівае горыч няўдачаў. Чалавек п'е віно, калі закахаецца і калі жонка на яго насварыцца і паб'е. Нават беднасць не перашкаджае чалавеку піць віно, і, спадзеючыся крыху палегчыць віном сваё існаванне, ён працуе яшчэ старанней. І тое самае тычыцца і піва! Я так узнёсла баяў цяпер пра віно і стараўся казаць усё складна, але мяне здзіўляе, што паэты дагэтуль не склалі хваласпеваў у гонар

піва, чаго яно цалкам заслугоўвае, бо дае добры хмель і яшчэ лепшае пахмелле! Я не буду надакучваць табе расхвальваннем розных вартасцяў піва і параўнаннем яго з вінам, а вярнуся да сутнасці і скажу, што, на маю думку, занятак шынкара — самы надзейны з усіх, і таму я ўклаў у гэты шынок усё золата, якое сабраў на працягу доўгіх гадоў. Лепшага занятку, напраўду, прыдумаць нельга, апроч, хіба што, таго, чым займаюцца дзяўчаты з дома ўцехаў, бо дзеля гэтага ім не патрэбны пачатковыя капіталаўкладанні: усю сваю гандлёвую ўстанову кожная носіць заўжды пры сабе, і калі яна дастаткова разумная, то старасць сустракае ва ўласным доме, пабудаваным працаю сваіх клубоў. Прабач, я зноў лезу не ў свае справы, даруй мне, бо я яшчэ не зусім прызвычаіўся да «кракадзілавага хваста», і ён прымушае мой язык сваволіць без аніякай на яго ўправы. Я хацеў сказаць, што гэты шынок цяпер мой, але распараджацца ў ім будзе ранейшы гаспадар з дапамогаю гэтай чараўніцы Мэрыт, і прыбыткі мы будзем дзяліць пароўну, пакуль я не сыду на заслужаны адпачынак, як і належыць прыстойнай старасці. Мы склалі аб гэтым дамову і пакляліся імёнамі незлічоных багоў Егіпта, што будзем яе выконваць, а таму я не думаю, што былы гаспадар будзе красці з маёй долі, бо чалавек ён богабаязны і па ўсіх святах прыносіць ахвяры ў храмах, і апроч таго, сюды часта наведваюцца жрацы, а гэта добрыя госці, якія прывыклі жлукціць моцнае віно са сваіх вінаграднікаў цэлымі гарлачамі, і адзін-два «кракадзілавыя хвасты» не збіваюць іх ног. Таму я не сумняваюся ў яго пабожнасці, хоць кожны гандляр павінен сумяшчаць пабожнасць з выгадай... але я забыўся, пра што казаў і пра што яшчэ хацеў сказаць, бо сёння ў мяне дзень вялікай радасці, і я шчаслівы тым больш, што ты не злуешся і не лаеш мяне за мае ўчынкі і нават пакінуў служыць у сябе, хоць я ўсяго толькі ўладальнік шынка, а шмат хто лічыць гэта нечым заганным.

Пасля такой доўгай прамовы Каптах пачаў нешта мармытаць і плакаць, потым схіліўся і абняў мае калені. Я падняў яго за плечы і прымусіў зноў сесці і сказаў:

— Я таксама ўпэўнены, што ты не мог знайсці лепшага занятку, каб забяспечыць сабе старасць. Але ёсць адна рэч, якой я не разумею. Калі былы гаспадар ведаў, што яго шынок дае добры прыбытак, і калі яму вядомы сакрэт прыгатавання «кракадзілавага хваста», дык чаму ён прадаў шынок, а не пакінуў усе прыбыткі сабе?

Каптах дакорліва паглядзеў на мяне сваім адзіным вокам і сказаў праз слёзы:

— Я казаў табе ўжо тысячу разоў, што ты маеш дзіўную здольнасць атруціць любую маю радасць горш за ўсякі палын! Напэўна, мне хапіла б сказаць проста, што мы з ім сябры з дзяцінства, што мы любім адзін аднаго, як родныя браты, і хочам зараз дзяліць між сабой усе радасці і прыбыткі... Але я па тваіх вачах бачу, што гэтага недастаткова, і згодзен прызнаць, што ў гэтай справе свой шакал такі закапаны. Паўсюль ходзяць чуткі пра вялікія беспарадкі, якія неўзабаве могуць успыхнуць у сувязі з барацьбой за ўладу паміж Амонам і фараонавым богам. А ў час беспарадкаў, як ты ведаеш, у першую чаргу страты нясуць шынкі: з іх першых збіваюць замкі, гаспадароў б'юць і кідаюць у раку, а калі ўсё з'едзена і ўсе гарлачы з віном асушаныя — пачынаюць ламаць ды крышыць маёмасць, а ў горшым выпадку нават падпальваюць будынак. Так заўсёды здараецца, калі гаспадар шынка, не будзе на правільным баку, а гэты гаспадар, як вядома, чалавек Амона і змяніць скуру ён не паспее. Ён пачаў сумнявацца ў Амоне, калі пачуў аб продажы зямлі, а я, вядома ж, распаліў у ім гэтыя сумневы, хоць чалавек, якія баіцца будучыні, можа лёгка паслізнуцца на пладовай скурцы, ці памерці ад чарапіцы, якая ўпадзе на яго з даху, ці трапіць пад кола павозкі з валамі. Ты забываеш, мой гаспадар, што ў нас ёсць скарабей, і я спадзяюся, што ён зможа абараніць «Кракадзілавы хвост», хоць, безумоўна, яго першы клопат — пра твае інтарэсы.



Я доўга думаў і нарэшце сказаў:

— Хай будзе, што будзе, Каптах, але я павінен прызнаць, што за адзін дзень ты шмат чаго паспеў зрабіць.

Але Каптах адхіліў маю пахвалу і ўдзячнасць, сказаўшы:

— Ты забываеш, мой гаспадар, што мы сышлі з карабля яшчэ ўчора. Але і я магу сказаць, што трава не паспела вырасці пад маімі нагамі, і — якім бы неверагодным табе гэта здалося — нават мой язык стаміўся ад усіх гэтых справаў,пра што сведчыць хоць бы тое, што ўсяго адна чаша «кракадзілавага хваста» прымушае яго заплятацца.

Мы ўсталі і развіталіся з гаспадаром. Мэрыт, пабразгваючы бранзалеткамі на цэўках і шчыкалатках, правяла нас да дзвярэй. У змроку за дзвярыма я апусціў руку на яе клуб, але яна рашуча зняла яе і адштурхнула са словамі:

— Твой дотык мог бы быць і прыемным, але цяпер я не хачу яго, бо ў тваіх руках адчуваецца моц «кракадзілавага хваста».

Я збянтэжана падняў рукі, паглядзеў на іх, і яны сапраўды здаліся мне падобнымі да кракадзілавых лапаў. Тады мы з Каптахам адразу рушылі напрасткі дадому, дзе, рухнуўшы на цыноўкі, моцна праспалі ўсю ноч.

### 7

Так пачалося маё жыццё сярод фіванскіх беднякоў, у былым доме медніка. Як і прадказваў Каптах, нямоглых да мяне прыходзіла шмат, але зарабляў я так мала, што мой прыбытак не пакрываў выдаткаў: я сам купляў сваім хворым дарагія лекі і ежу, бо лячыць галодных, якія

не маглі есці дастаткова кашы і тлушчу, была безнадзейная справа. А падарункі, якія я атрымліваў, былі танныя, хоць я і радаваўся ім, але яшчэ прыемней мне было чуць, як беднякі бласлаўляюць маё імя. Кожны вечар неба над Фівамі загаралася чырвонымі водблескамі агнёў, якія запальваліся ў цэнтры горада, але я стамляўся за дзень і нават вечарамі думаў пра сваіх хворых і пра Атона — новага фараонава бога.

Каптах наняў старую кабету, якая мусіла займацца нашай хатняю гаспадаркай. Яна была негаваркая і непрыкметная, і было відаць, што ёй даўно ўжо знелюбеў муж і надакучыла жыць з ім. Яна добра гатавала і цярпела пах беднякоў, якія чакалі прыёму, седзячы на верандзе, не гнала іх і не лаялася брыдкімі словамі. Я хутка прывык да яе, бо яна зусім мне не замінала, і яе прысутнасць была падобная ценю, які хутка перастаеш заўважаць. Звалі кабету Муці.

Так адзін за адным праходзілі месяцы, хваляванні ў Фівах раслі, а пра вяртанне Харэмхеба не было ніякіх чутак. Выпаленыя сонцам двары пажаўцелі, набліжалася самая гарачая пара лета. Часам, жадаючы неяк ажывіць сваё аднастайнае жыццё, я хадзіў з Каптахам у «Кракадзілаў хвост», жартаваў з Мэрыт, зазіраў у яе вочы, і маё сэрца сціскалася, хоць яна была са мной усё яшчэ чужая. Але я больш не піў таго моцнага пітва, за якое шынок атрымаў сваю назву. Ратуючыся ад спёкі за тоўстымі сценамі шынка, я задавальняўся халодным півам, якое не ап'яняючы, падбадзёрвала і падымала настрой. Я слухаў размовы гасцей і неўзабаве пачаў заўважаць, што месца і чашу з віном у гэтым шынку атрымліваў не кожны, госці тут былі асаблівыя, па выбару, а калі хто-небудзь з іх і разбагацеў, рабуючы магілы ці вымагаючы грошы ў падобных да сябе, дык тут ён забываў пра свае заняткі і паводзіў сябе прыстойна. Думаю, Каптах казаў праўду, сцвярджаючы, што тут сустракаюцца карысныя адзін аднаму людзі. Я быў выключэннем: я нікому не быў патрэбен і нікому ад мяне не было ніякай карысці, але мяне цярпелі і не зважалі на маю прысутнасць, бо я быў сябрам Каптаха.

Я шмат слухаў і чуў шмат самага рознага: я чуў, як праклінаілі і ўслаўлялі фараона, і чуў, як смяяліся з яго новага бога. І так яно было да таго вечара, калі ў шынок прыбег гандляр духмянасцямі, які драў на сабе вопратку і пасыпаў галаву попелам. Заліўшы смутак «кракадзілавым хвастом», ён закрычаў:

— Далібог, хай будзе навечна пракляты гэты ілжывы фараон, гэты вылюдак, падсунуты ў спадкаемцы трона, якога ніхто не можа ўтаймаваць, які робіць усё, што яму ўзбрыдзе ў галаву, і які вынішчае мой паважаны занятак! Я раней заўсёды атрымліваў самы вялікі прыбытак ад гандлю вохнымі травамі і курэннямі, якія прывозяць з Пунта, і кожны ведае, што плаванне караблёў на ўсход было заўсёды найбольш бяспечнае, і караблі кожнае лета пасылаліся туды па тавары, а наступным летам з кожных дзесяці суднаў вярталіся не менш, як два, і пры гэтым спазняліся не больш, як на адну меру вадзянога гадзінніка. Дзякуючы гэтаму я мог загадзя падлічыць свой прыбытак і свае наступныя ўкладанні. Але ці чулі вы што-небудзь падобнае: сёння, калі караблі ўжо рыхтаваліся адплыць, фараон асабіста заявіўся ў порт, каб іх агледзець!. Навошта, у імя Сэта, яму спатрэбілася ўсё вынюхваць, як паганай гіене?! На гэта ёсць пісары і litdарадцы, якія клапоцяцца, каб усё праходзіла паводле старых законаў і звычаяў, як было ў нас заўсёды. Фараон убачыў, як маракі бядуюць на сваіх караблях, а на беразе плачуць іх жонкі і дзеці, драпаючы твары вострымі камянямі. Але ж кожнаму вядома, што ў мора выходзіць шмат людзей, а вяртаюцца адзінкі. І ўсё робіцца і рабілася так, як павялося з часоў вялікай царыцы, бо так праводзяць усе караблі, што плывуць да Пунта, А гэты малады ёлуп, хочаце верце, хочаце не, забараніў караблям выходзіць у мора і сказаў, што ў Пунт больш ніхто і ніколі плаваць не будзе. Ратуй нас Амон, але ж кожны сумленны гандляр ведае, што гэта значыць! А гэта значыць — пагібель і поўнае разарэнне вялікага мноства людзей, гэта значыць, што жонкі і дзеці маракоў асуджаныя цяпер на нястачу і голад! Клянуся Сэтам, ніводзін чалавек не стане мараком, калі не заслужыў гэтага сваімі ўчынкамі і не правініўся ў чым-небудзь: усё робіцца па законе і па рашэнні суддзяў, і толькі ў самыя ўраджайныя гады, калі злачынцаў менее, чалавека могуць пасльаць на караблі памылкова ці несправядліва, толькі тады! А ў гады праўлення гэтага фараона злачынстваў у Егіпце — больш як ніколі, людзі перасталі баяцца багоў, і кожны жыве, як апошні дзень! Падумайце толькі пра сродкі, укладзеныя ў караблі і склады, у шкляныя пацеркі і гліняны посуд! Падумайце пра егіпецкіх гандлёвых прадстаўнікоў, якія цяпер навек застануцца ў Пунце жыць у саламяных шалашах, пакінутыя багамі! Маё сэрца абліваецца крывёю, калі я думаю пра іх і іхніх няшчасных жанок і дзяцей, якія ніколі не ўбачаць мужа і бацьку, хоць, праўда, многія ўжо завялі там новыя сем'і і панароджвалі каляровых дзяцей.

Толькі ўзяўшы трэцюю чашу «кракадзілавага хваста» гандляр нарэшце суцішыўся і, папрасіўшы прабачэння за тое, што ў запале мог сказаць пра фараона што-небудзь нядобрае, дадаў:

— Але ж я думаў, што царыца Тэйе — жанчына разумная і зможа трымаць сына ў руках, дый жрэц Эйе, як я лічыў,— чалавек разумны... А яны толькі і думаюць, як звергнуць Амона і дазваляюць маладому вар'яту рабіць усё, што яму ўзбрыдзе ў галаву! Бедны Амон! Звычайна мужчына разумнее, калі разбівае гаршчок з жанчынай, але Боская фараонава жонка, гэтая Неферціці, думае толькі пра свае ўборы непрыстойных фасонаў. Хочаце верце, хочаце не, а маладыя кабеты пры двары абмалёўваюць сабе вочы зялёным малахітам і ходзяць у бессаромных

суkенках з разрэзамі ад пояса да нізу, паказваючы мужчынам свае агаленыя пупы.

Каптах зацікавіўся і спытаў:

— Такіх пакрояў я нідзе не бачыў, хоць пабываў у многіх краінах і пабачыў нямала дзівосаў. Ты напраўду хочаш сказаць, што яны агаляюць патаемныя жаночыя месцы? Нават царыца?

Гандляр абразіўся і адказаў:

— Я прыстойны і пабожны чалавек, у мяне жонка і дзеці. Я не апускаў позірк ніжэй ад пупа і табе не раю.

Мэрыт умяшалася ў размову і злосна сказала:

— Гэта язык твой бессаромны, а не новыя строі, у якіх летам не горача і якія ўмацоўваюць жаночую прыгажосць у сваіх правах, калі ў жанчыны прыгожы жывот ды няўклюдная павітуха не знявечыла ёй пупа. Ты мог бы спакойна апусціць позірк, бо пад адкрытымі строямі на патрэбным месцы ёсць паясная павязка з самай тонкай ільняной тканіны, якая не абразіць позірк нават самага богабаязнага чалавека, калі кабета старанна выскубе сабе валасы на тым месцы,— а гэта робяць усе высакародныя жанчыны.

Гандляр хацеў ёй запярэчыць, але не змог, бо трэцяя чаша «кракадзілавага хваста» аказалася мацнейшая за яго язык. Ён толькі абхапіў галаву рукамі і пачаў горка аплакваць уборы прыдворных жанчын і гаротны лёс егіпцянаў, што засталіся ў Пунце. Але тады ўмяшаўся стары жрэц Амона. Яго тоўсты твар і паголеная галава ільсніліся ад вохнага алею. Узбуджаны «кракадзілавым хвастом», ён грукнуў кулаком па стале і гучна крыкнуў:

— Гэта зайшло занадта далёка! Я не маю на ўвазе жаночыя ўборы, бо Амон ухваляе ўсякі строі, абы чалавек па святочных днях апранаўся ў белае, а на жывот прыгожай жанчыны кожны паглядзіць з задавальненнем. Занадта далёка зайшло тое, што фараон, нібыта шкадуючы лёс маракоў, хоча спыніць дастаўку духмянасцяў з Пунта, а Амон прывык да іх водару. Што ж нам цяпер — спальваць ахвяры на кучах гною?! Ён знарок здзекуецца з нас! І я не здзіўлюся, калі кожны прыстойны чалавек гатовы плюнуць у твар таму, хто малюе на сваёй вопратцы сімвал жыватворнага крыжа, бо гэта знак праклятага бога, чыім імем я не хачу паганіць свае чыстыя вусны. Я, далібог, заплаціў бы яшчэ не за адну чашу такога напою таму, хто пайшоў бы сённяшняй ноччу ў вядомы ўсім храм і справіў бы там сваю прыродную патрэбу на алтары — гэта ж адкрыты храм, і чалавек спрытны лёгка падмане ахоўнікаў. Клянуся, што я і сам зрабіў бы гэта, але мне не дазваляе маё становішча, бо Амон можа абразіцца.

Ён запытальна зірнуў вакол, і тут да яго падышоў чалавек, на чыім твары былі яўныя сляды перанесенай ім чумы. Яны пачалі шушукацца, жрэц замовіў дзве чашы «кракадзілавага хваста», і потым чалавек з плямамі ад чумы гучна прамовіў:



— Клянуся, я зраблю гэта, і зраблю не дзеля золата, якое ты абяцаеш, а дзеля сваіх Ка і Ба! Бо, можа быць, я не праведнік і заўсёды рабіў непрыстойныя ўчынкі, і нават цяпер не пабаюся перарэзаць чалавеку глотку ад вуха да вуха, але я заўжды верыў у тое, чаму мяне навучала маці, і мой бог — Амон, і я хачу заслужыць ад яго ўхвалу раней, чым памру, каб не ўспамінаць пра свае чорныя справы кожны раз, калі мне забаліць жывот.

— Усё так,— сказаў жрэц, усё болей хмялеючы.— Твой учынак будзе варты ўсякай ухвалы, ты зробіш справу, за якую табе шмат чаго даруецца, а калі нават загінеш у славу Амона, дык адразу апынешся ў Краіне Захаду, нават калі тваё цела згніе на гарадскім муры. Такім самым чынам, не блукаючы па балотах падземнага царства, у Краіну Захаду трапляюць і маракі, якія гінуць, здабываючы для Амона каштоўнае дрэва і духмяныя смолкі. Фараон — проста злачынец, калі забараняе маракам тануць у гонар Амона!

Ён грукнуў па стале чашай і гучна крыкнуў усім наведнікам:

— Я жрэц чацвёртай ступені і магу зачыніць або выпусціць усе вашы Ка і Ба. Я клянуся, што кожны ўчынак у гонар Амона будзе вам дараваны, няхай гэта нават будзе забойства, здзек, крадзеж ці гвалт, бо Амон глядзіць у сэрцы людзей і ацэньвае іх учынкі, гледзячы, да чаго імкнуліся іхнія сэрцы. Ідзіце, хаваючы зброю пад вопраткай і...

Раптам яго крык перарваўся і словы застылі ў горле, бо ззаду да яго падышоў гаспадар і ўдарыў па галаве скураною дубінай так, што той абмяк і абраніў галаву на калені. Усе паўскоквалі, чумны нават выхапіў з-за пояса нож, але шынкар спакойна патлумачыў:

— Я зрабіў гэта дзеля Амона, а таму ўжо атрымаў дараванне. Калі жрэц ачомаецца, ён першы пацвердзіць, што я меў рацыю, бо, хоць ён казаў ад імя Амона, у ім адначасова гаварыў і «кракадзілаў хвост». У выніку ён крычаў надта гучна, а крычаць і шумець тут магу толькі я. Калі вы людзі разумныя, то зразумееце, што я маю на ўвазе.

Усе пагадзіліся, што гаспадар мае рацыю. Чумны пачаў прыводзіць у прытомнасць жраца, а некаторыя паспешліва выслізнулі за дзверы. Мы з Каптахам таксама вырашылі пайсці, і на парозе я сказаў Мэрыт:

— Ты ведаеш, што я самотны, але твае вочы сказалі мне, што і ты адна. Я шмат разважаў над словамі, якія ты мне аднойчы сказала, і сапраўды падумаў, што самотнаму хлусня часам бывае саладзейшай за праўду, калі яго першая вясна ўжо адквітнела. Таму мне хочацца ўбачыць цябе ў тваёй новай летняй сукенцы, пра якую ты казала, бо ты прыгожая, у цябе доўгія ногі, і табе не давядзецца саромецца свайго жывата, калі я пайду з табой побач па Алеі бараноў.

Гэты раз Мэрыт не зняла маёй рукі са свайго клуба, а, толькі лёгка паціснуўшы яе, адказала:

— Можа, я так і зраблю.

Але радасць ад яе абяцання знікла, як толькі я выйшаў на гарачую вячэрнюю вуліцу. Мне стала сумна, і аднекуль здалёк ад ракі данёсся самотны голас двухрогай чаратовай жалейкі.

А наступным днём у Фівы са сваёю дружынай вярнуўся Харэмхеб. Але каб расказаць пра гэта, мне трэба пачаць новы скрутак папіруса.

А тут я хачу яшчэ згадаць, што ўскрыў чэрап двум хворым — дзеду і беднай жанчыне, якая лічыла сябе вялікай царыцаю Хатшэпсут. Яны абое паправіліся, што, як доктара, мяне вельмі ўзрадавала, але, думаецца мне, што, уяўляючы сябе вялікай царыцай, жанчына была шчаслівейшая, чым калі вылечылася ад хваробы.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ПАПІРУС ДЗЕСЯТЫ
### Паднябесны горад

**1**

Стаяла самая гарачая пара лета, калі Харэмхеб вярнуўся ў Фівы з зямлі Куш.

Ластаўкі ўжо даўно схаваліся, закапаўшыся ў глей, вада ў сажалках вакол горада пратухла ад спёкі, саранча і земляныя блохі паядалі пасевы. Але сады фіванскіх багацеяў поўніліся зялёнаю прахалодай і квітнелі абапал алеі, уздоўж якой цягнуліся калоны з каменнымі баранамі, стракаціліся кветкі, пасаджаныя жрацамі, бо вады ў Фівах не хапала толькі беднякам. А на поўдні, за ракою, у гарачым сонечным мроіве ўздымаліся сцены Залатога фараонава палаца і чароўнай казкай плылі ў ім сады. Нягледзячы на тое, стаяла самая вялікая летняя спёка, фараон не выехаў у свае летнія палацы ніжэй па рацэ, а застаўся ў Фівах. І таму адчувалася, што павінна адбыцца нешта важнае, і людскія сэрцы ахапіў змрочны неспакой, як цемра пакрывае неба перад пясчанай бурай.

І ніхто не здзівіўся, калі ў Фівы на досвітку па ўсіх паўднёвых дарогах пачалі ўваходзіць войскі. З запыленымі шчытамі, пабліскваючы меднымі наканечнікамі дзідаў, напяўшы лукі, маршыравала чорнае войска па гарадскіх вуліцах, з цікаўнасцю аглядаючыся вакол і палохаючы гарадскіх жыхароў бялкамі вачэй на чорных спацелых тварах. Яны прайшлі пад сваімі варварскімі сцягамі ў старыя кашары, дзе ў хуткім часе загарэліся вогнішчы, награваючы каменне, якое кідалі ў катлы, каб згатаваць ежу. Тым самым часам у порт увайшлі ваенныя караблі, з іх пачалі выгружацца ваенныя калясніцы начальнікаў і коні з пучкамі пер'яў на галовах, і сярод гэтых воінаў таксама не бачна было егіпцянаў, а пераважалі негры з поўдня і сарданы з паўночна-заходніх пусты-

няў. Яны занялі горад, паставілі на кожным скрыжаванні вартавых, перакрылі раку і выхад да яе. Праца на млынах і ў майстэрнях спынілася, зачыніліся клеці, склады і лаўкі, гандляры пачалі пераносіць тавары з вуліцы ў хату і зачыняць вокны на аканіцы, а шынкары ды ўладальнікі дамоў уцехаў паспешліва наймалі дужых мужыкоў з дубінамі на ахову сваёй уласнасці. Людзі апрануліся ў белае, і з усіх канцоў горада — і з бедных кварталаў, і з багатых — пачалі збірацца да храма Амона, пакуль усе яго двары не напоўніліся, і многія нават вымушаныя былі застацца і па-за сценамі храма.

Адначасова разнеслася чутка, што ноччу быў апаганены і зганьбаваны храм Атона: на ахвярны алтары нехта паклаў дохлага сабаку і перарэзаў стражніку горла ад вуха да вуха. Пачуўшы гэта, адны спалохана пераглядваліся, а другія цішком зларадна ўсміхаліся.

— Ачысці свае інструменты, мой гаспадар,— сур'ёзна сказаў Каптах.— Думаецца мне, яшчэ да вечара ў цябе будзе шмат працы, і, калі не памыляюся, давядзецца нават ускрываць чарапы.

Але нічога такога не здарылася. Толькі п'яныя чорныя воіны абрабавалі некалькі крамаў ды згвалтавалі пару жанчын, але вартавыя злавілі іх і як след адхвасталі бізунамі, што не прынесла задавальнення ні абрабаваным крамнікам, ні згвалтаваным жанчынам. Я чуў, што Харэмхеб знаходзіцца на галоўным ваенным караблі, і пайшоў у порт, каб пабачыцца з ім. Зрэшты, я не спадзяваўся, што мяне да яго пусцяць. Але вартавы на здзіў абыякава выслухаў мае слова і пайшоў з дакладам. Неўзабаве ён вярнуўся і запрасіў мяне падняцца да начальніка. Такім чынам, я ўпершыню трапіў на ваенны карабель і азіраўся вакол з вялікай цікаўнасцю. Але ад іншых караблёў гэты адрозніваўся хіба толькі ўзбраеннем і шматлюднасцю, а пазалочаныя насавыя фігуры ды рознакаляровыя ветразі маглі быць і на любым гандлёвым караблі.

Нарэшце я сустрэўся з Харэмхебам. Ён стаў яшчэ больш высокі і велічны, яго плечы сталі шырэйшыя, а рукі — больш мускулістыя, але на твары ўжо ўзніклі зморшчыны, і пачырванелыя ад стомы вочы глядзелі нявесела. Я нізка пакланіўся яму, апусціўшы рукі да каленяў, а ён засмяяўся і горка ўсклікнуў:

— Сінухе, Сын дзікага асла і мой сябра! Далібог, ты прыходзіш у патрэбны момант!

Але з прычыны свайго высокага чына ён не абняў мяне. Ён павярнуўся да маленькага тоўстага военачальніка, які стаяў перад ім, збянтэжана вырачыўшы вочы і ледзь дыхаючы ад спёкі, нечакана працягнуў яму свой залаты бізун вярхоўнага ваяводы і сказаў:

— На, насі на здароўе і адказвай за ўсё.

Потым, зняўшы са сваёй шыі расшыты залатымі знакамі ваяводскі каўнер, ён таксама надзеў яго на шыю таўстуну са словамі:



— Ускладзі ж на сябе гэтыя ваяводскія знакі, і хай ліецца народная кроў на твае дзярмовыя рукі.

Пасля гэтага ён павярнуўся да мяне і паведаміў:

— Ну вось, Сінухе, мой дружа, цяпер я вольны і гатовы пайсці за табой, куды хочаш! Спадзяюся, у тваім доме знойдзецца цыноўка, на якой я змагу як след адпачыць, бо, абараняючы гонар Сэта і ягоных нячысцікаў, я так стаміўся, што не маю больш сілы спрачацца з вар'ятамі.

Ён паклаў рукі на плечы нізкаросламу военачальніку, чыя галава ледзь даставала яму да пляча і прамовіў:

— Паглядзі ўважліва, мой сябра Сінухе, і запомні, што бачыш, бо вось перад табой чалавек, у чыіх руках сёння лёс Фіваў, а можа, і ўсяго Егіпта. Фараон назначыў яго на маё месца пасля таго, як я шчыра яму сказаў, што ён звар'яцеў. Але, гледзячы на гэтага «ваяводу», ты, мусіць, ужо здагадваешся, што хутка я зноў спатрэблюся фараону.— І ён засмяяўся доўгім смехам, хлопаючы сябе па каленях, але яго смех быў невясёлы і нават спалохаў мяне.

Маленькі начальнік глядзеў на яго, пакорліва вырачыўшы вочы, і па яго твары і шыі беглі ручаінкі поту. Ён засмучана сказаў:

— Не злуйся на мяне, Харэмхеб. Ты ж ведаеш, што я зусім не думаў забіраць у цябе гэты ваяводскі бізун: сваіх кошак і цішыню я люблю нашмат больш за бразгат зброі. Але фараон запэўнівае, што бітваў цяпер не будзе, і Амон упадзе без крыві, дый хто я такі, каб праціўіцца яго волі.

— Ён кажа тое, што яму хочацца,— адказаў Харэмхеб.— Яго сэрца бяжыць паперадзе розуму, як птушка ляціць хутчэй за слімака. Таму яго словы не маюць значэння, а вось табе давядзецца думаць галавой і ўсё-ткі, відаць, праліць пэўную колькасць крыві, хоць гэта будзе і егіпецкая кроў. Але хай будзе мне сведкам мой сокал: калі ты прамяняеш свой розум і ваеннае майстэрства на пародзістых кошак, я ўласнаручна адхвашчу цябе гэтым бізуном, бо ў часы былога фараона ты быў нядрэнны военачальнік, і, напэўна, таму новы фараон выбраў цябе на гэтую справу.— Сказаўшы гэта, Харэмхеб так ляпнуў свайму спадкаемцу па спіне, што той ледзь не задыхнуўся, і словы, якія ён хацеў сказаць на развітанне, так і захраслі ў яго ў горле.

Харэмхеб адным скачком узляцеў на палубу, і воіны выструніліся перад ім, узняўшы дзіды і заўсміхаўшыся. Ён махнуў ім рукой і крыкнуў:

— Бывайце, любыя мае парсючкі! Падпарадкоўвайцеся цяпер гэтаму тоўстаму кату, які па волі фараона атрымаў мой залаты бізун! Слухайцеся яго, быццам ён ваша любае дзіцё, і глядзіце, каб ён не вываліўся з калясніцы ці не параніўся ўласным нажом.

Воіны зарагаталі і пачалі ўсхваляць Харэмхеба, але ён змрочна пагразіў ім кулаком у адказ:

— Хоць я і сказаў «бывайце», але меў на ўвазе «да хуткай сустрэчы», бо я бачу, якое нецярпенне гарыць у вашых свінячых вачах. Дык не распускайце ж вашыя лапы і не забывайце маіх урокаў, ато, вярнуўшыся, я падзяру вам спіны на лахманы!

Спытаўшы, дзе я жыву, ён перадаў мой адрас начальніку аховы, але занесці свае рэчы ў мой дом не загадваў,— ён лічыў, што на ваенным караблі яны зберагуцца лепш. Пасля гэтага ён, як бывала раней, абняў мяне за шыю і, уздыхнуўшы, сказаў:

— Слова гонару, Сінухе, ніхто сёння не заслугоўвае добрай выпіўкі больш за мяне.

Тады я расказаў яму пра «Кракадзілаў хвост», і мой аповед так захапіў яго, што я адважыўся папрасіць, каб каля Каптахава шынка на выпадак беспарадкаў паставілі варту. Харэмхеб адразу даў начальніку аховы загад, і той, нібы Харэмхеб усё яшчэ насіў бізун вярхоўнага ваяводы, падпарадкаваўся, паабяцаўшы паслаць самых надзейных воінаў. Такім чынам і я зрабіў Каптаху паслугу, якая, зрэшты, нічога мне не каштавала.

На той момант я ўжо ведаў, што ў шынку ёсць шмат патаемных пакояў, у якіх рабаўнікі і гандляры крадзеным могуць весці між сабой перамовы, а высакародныя жанчыны —сустракацца часам з дужымі партовымі насільшчыкамі. У адзін з такіх пакояў я і завёў Харэмхеба, і Мэрыт прынесла яму туды чашу з цудатворным напоем. Харэмхеб адным махам асушыў яе і, сказаўшы: «Ого!» — папрасіў другую порцыю, а калі Мэрыт пайшла па яе, сказаў, што яна прыгожая жанчына, і спытаў, якія ў мяне з ёю адносіны. Я адказаў, што ніякіх, але парадаваўся, што Мэрыт не паспела набыць сабе новую сукенку з разрэзам. Прыняўшы ад Мэрыт прынесеную новую чашу, Харэмхеб не падумаў яе чапаць, а толькі, ветліва падзякаваўшы, крыху адпіў і з глыбокім уздыхам сказаў мне:

— Заўтра, Сінухе, па вуліцах Фіваў пацячэ кроў, але я не магу зрабіць нічога, бо фараон мой сябар і я люблю яго, хоць ён і звар'яцеў. З таго дня, як я прыкрыў яго сваім плашчом, мой сокал звязаў наш лёс. Можа быць, якраз за яго вар'яцтва я і люблю яго... Але ў заўтрашнія падзеі я ўмешвацца не буду, бо павінен думаць пра будучыню і не хачу, каб народ узненавідзеў мяне. Гэх, Сінухе, мой дружа, шмат вады знёс свяшчэнны Ніл у мора з таго часу, як мы з табою апошні раз сустракаліся ў паганай Сірыі. А цяпер я прыйшоў з зямлі Куш, дзе па фараонавым загадзе вымушаны быў распусціць усе гарнізоны, і прывёў у Фівы негрыцянскія атрады, так што поўдзень краіны застаўся без абароны. Так, мой дружа Сінухе, на жаль, ва ўсіх вялікіх гарадах кашары даўно апусцелі, у катлах звілі гнёзды птушкі, а воіны цягаюцца па навакольных сёлах ды лупцуюць палкамі землярobaў, адбіраючы ў іх скуры, якімі тыя плацяць падаткі фараону. І я нічога тут не магу зрабіць, бо аднойчы накрыў фараона сваім плашчом і абярог яго ў час нямогласці, і цяпер мой лёс назаўжды з ім звязаны. Але ніхто не можа аберагчы фараона ад яго самога, і таму маё сэрца сціскаецца ад страху за лёс Егіпта, бо Егіпет — мая радзіма.



Я расказаў яму, што фараон забараніў пасылаць караблі ў Пунт, і распавёў пра настроі ў Сірыі. Ён не здзівіўся, але, пазмрачнеўшы, адпіў з чашы і сказаў:

— Калі так пойдзе далей, у Сірыі абавязкова ўспыхне паўстанне. Можа, хоць гэта яго абразуміць. Але ж краіна тым часам бяднее! На рудніках перастала хапаць людзей, а тыя, хто там працуе, працуюць дрэнна. Але лайдакоў нельга біць палкамі, а можна толькі даваць ім меншыя порцыі ежы! Маё сэрца баліць за Егіпет і за яго новага бога, хоць у багах я не разумею нічога і не хачу разумець, бо я — воін. Магу толькі сказаць, што за Атона загіне шмат, шмат людзей! І гэта вар'яцтва, бо багі існуюць, не каб сеяць у народзе смуту, а каб народ мог спакойна жыць.

І яшчэ ён сказаў:

— Заўтра Амона павінны звергнуць, і я не буду па ім журыцца, бо ён надта раз'еўся, каб памясціцца ў Егіпце разам з фараонам. Я спадзяюся, у фараона хопіць дзяржаўнай мудрасці, каб, зрынуўшы Амона, прыняць ад яго ў спадчыну ўсе яго незлічоныя багацці, бо гэта яшчэ зможа яго ўратаваць. Усіх астатніх багоў, калі дзейнічаць разумна і асцярожна, яму будзе лёгка перацягнуць на свой бок: іх жрацы, апынуўшыся ў ценю Амона, вельмі зайздросцяць яму. Фараон мог бы абвясціць у Егіпце ўладу мноства маленькіх бажкоў. Бо ягонага Атона не любіць ніводзін жрэц, а сэрцам народа кіруюць менавіта жрацы, асабліва жрацы Амона! Таму, калі ён абвясціць уладу Атона,— усё пойдзе прахам і ад перамогі над Амонам не будзе ніякага толку.

— Але,— сказаў я,— Амон сапраўды варты нянавісці, яго жрацы надта доўга трымалі народ у невуцтве і душылі любую жывую думку! Без дазволу Амона ніхто не мог і слова сказаць! Затое Атон абяцае святло, волю, жыццё без страха, а гэта вялікая рэч, дружа мой Харэмхеб!

— Не ведаю, што ты маеш на ўвазе, гаворачы пра жыццё без страху,— адказаў Харэмхеб.— Страх — гэта моцная аброць для народа, і калі багі трымаюць народ у страху і паслушэнстве, то ўладзе няма патрэбы ні ў якой іншай зброі. І ў гэтым Амон добра выконваў сваю задачу. І калі б ён верна служыў фараону, то быў бы варты свайго становішча, кіраваць без страху нельга ніякім народам. І таму Атон з яго дабрынёй і спагадлівасцю — вельмі небяспечны шлях.

— Атон болей вялікі, чым ты думаеш,— ціха адказаў я, наўрад ці разумеючы сам, што кажу і дзеля чаго.— Можа стацца, што мы, самі

таго не ведаючы, носім яго ў сабе — і ты, і я. І калі б людзі зразумелі ягоную веліч, ён змог бы вызваліць усе народы ад страху і невуцтва. Але ты, напэўна, маеш рацыю: шмат каму давядзецца за яго памерці, бо вечныя каштоўнасці можна ўбіць звычайным людзям хіба толькі сілай.

Харэмхеб з прыкрасцю зірнуў на мяне, як на дзіцё, якое пры дарослых вярзе поўнае глупства. Яго твар пацямнеў, ён пачаў нервова намацваць на лаўцы бізун, каб паляпаць ім сабе па нагах, але не знайшоў, збянтэжыўся і адказаў з пагардай:

— Пакуль чалавек застаецца чалавекам, пакуль ён прагне ўласнасці яго не пакідае азарт, пакуль існуюць людзі з розным колерам скуры, розныя народы і мовы — да тае пары багаты застанецца багатым, а бядняк бедняком, і моцны будзе падпарадкоўваць слабага, а хітры — моцнага. Атон жа ўсіх хоча зрабіць роўнымі, ураўнаваўшы нават раба з багацеем. Мой розум падказвае, што гэта вар'яцтва, і гэта так відавочна, што мне не хочацца нават гаварыць пра гэта, бо тады ў мяне толькі блытаюцца думкі.

— Вавіланяне сцвярджаюць, што, паводле становішча зорак на небе, пачынаецца новы год сусвету,— ціха сказаў я.— І відаць, Атон цяпер возьме ўсю ўладу, і ягоная ўлада праіснуе, аж пакуль крумкач не стане белы, і рэкі не пацякуць назад. Так спяваюць жрацы ў храме Атона,— дадаў я, хоць сам не верыў у свае словы.

Харэмхеб дапіў чашу да дна і са шкадаваннем зірнуў на мяне. Але моцны напой падняў яму настрой, і ён сказаў:

— Здаецца, мы абодва згодныя, што Амона прыйшла пара звергнуць. А калі ўжо яно так павінна адбыцца, то зрабіць гэта трэба знянацку і патаемна, у начной цішы і адначасова па ўсёй краіне. Вярхоўных жрацоў трэба забіць, а астатніх адправіць на руднікі і каменяломні. А фараон у сваёй дурасці хоча зрабіць усё адкрыта, перад усім народам і перад аблiччам свайго бога, а ягоны бог — сонца! Што ні кажы, а гэта поўнае глупства і неразважнасць, бо ў выніку праліецца шмат чалавечай крыві! І я адмовіўся ў тым удзельнічаць, тым больш што фараон не папярэдзіў мяне аб сваіх намерах загадзя. Бо клянуся Сэтам і ўсімі яго нячысцікамі, каб я ведаў загадзя, што ён хоча, я ўсё як след абдумаў бы і зваліў бы Амона так нечакана, што той сам, напэўна, не зразумеў бы, што адбылося. А цяпер усё вядома кожнаму бяздомнаму хлапчуку ў Фівах, жрацы ў храмах падбухторваюць народ біцца супраць Атона, мужыкі ламаюць дрэвы і робяць з іх дубіны, а жанчыны ідуць у храм, хаваючы пад адзеннем пранікі. Клянуся сваім сокалам, мне хочацца плакаць, калі я думаю пра бязглуздую задуму свайго фараона.

Ён апусціў галаву на рукі і схіліўся да маіх каленяў, аплакваючы будучыя беды Фіваў. Мэрыт прынесла яму трэцюю чашу «кракадзілавага хваста» і з такім захапленнем глядзела на яго шырокія плечы і магутныя мускулы, што я злосна сказаў ёй ісці прэч і пакінуць нас удваіх. Я хацеў падрабязней расказаць Харэмхебу, што выведаў па яго даручэнні ў Вавілоніі, на Крыце і ў хецкай краіне, але заўважыў, што кракадзіл ужо сцебануў яго сваім хвастом. Ён так і заснуў тым вечарам у мяне на каленях, і я ўсю ноч аберагаў яго сон, слухаючы, як шумяць у шынку воіны, бо гаспадар і Каптах палічылі сваім абавязкам выставіць ім пачастунак, каб яны старанней аберагалі шынок у час беспарадкаў. Воінам было, мусіць, весела, і шум не змаўкаў усю ноч, а мне не давалі спакою думкі, што ў кожным фіванскім доме цяпер точаць сярпы і нажы, зачэсваюць калы і абабіваюць меддзю калатоўкі на кухнях, каб зрабіць іх цяжэйшымі. Ніхто, напэўна, не спаў гэтай ноччу ў Фівах, апроч Харэмхеба. Можа, таму што нарадзіўся воінам?



## 2

Усю ноч сціжмы народу стаялі ў дварах храма Амона і вакол, беднякі сядзелі на халодных з ночы кветніках, а жрацы прыносілі богу незлічоныя ахвяры і раздавалі людзям мяса ахвярных жывёлаў. Яны гучнымі галасамі ўслаўлялі Амона, абяцаючы вечнае жыццё кожнаму, хто не пашкадуе дзеля яго ахвяраваць сабой. Жрацы маглі б спыніць кровапраліцце, каб захацелі. Ім было дастаткова адрачыся ад Амона і скарыцца новаму богу — тады фараон дазволіў бы ім спакойна сысці і не падумаў бы помсціць, бо яго бог ненавідзеў помсту і злосць. Але прага ўлады і золата так апанавалі жрацоў, што іх не палохала нават смерць. А можа апошнюю ноччу яны так паверылі ў Амона, што нават уласная гібель ужо не здавалася ім страшнай? Як бы там ні было, яны добра ведалі, што ні народ, ні нешматлікія ахоўнікі храма Амона не змогуць належным чынам супрацьстаяць добра ўзброеным і звыклым да бітваў воінам, якія знясуць усё на сваім шляху, як рачная плынь зносіць у час паводкі сухую салому. Але ім хацелася, каб паміж Амонам і Атонам пралілася кроў, каб дзякуючы гэтаму зрабіць з фараона крыважэрнага злачынцу, які дазволіў брудным неграм праліць чыстую кроў егіпцянаў. Яны прагнулі ахвяраў Амону, яны хацелі, каб іх бог жыў вечна, і нават калі яго статуі будуць звергнутыя, а храмы зачыненыя, каб ён мог вечна жывіцца крывёю сваіх ахвяр.

Нарэшце пасля бясконца доўгае ночы з-за трох гор усплыў сонечны дыск — Атон, і пякучая гарачыня імгненна развеяла начную прахаладу. Тады на ўсіх скрыжаваннях затрубілі ваенныя ражкі, і веснікі прачыталі ўказ фараона, у якім ён абвяшчаў Амона ілжывым богам і звяргаў яго, праклінаючы і загадваючы збіць каменныя надпісы з яго імем з усіх храмаў, помнікаў і магіл. Усе храмы Амона як у Верхнім, так і ў Ніжнім Егіпце, усе яго землі, скаціна, рабы, пабудовы, золата, срэбра і медзь пераходзілі ва ўласнасць фараона, а фараон, у сваю чаргу, абя-

цаў ператварыць храмы Амона ў адкрытыя месцы, дзе зможа гуляць увесь народ. Ён абвясціў грамадскімі ўсе храмавыя сады і азёры, каб просты народ мог у іх купацца ў спякотныя дні і браць ваду, колькі захоча. Усе землі Амона ён абяцаў раздаць тым, хто нічога не меў, каб яны апрацоўвалі свае палеткі на славу Атону.

Спачатку народ, як таго патрабаваў звычай, моўчкі слухаў фараонаў указ, але потым з усіх скрыжаванняў, базараў і плошчаў перад храмамі пачуўся магутны крык: «Амон! Амон!» Крык быў такі жахлівы, быццам гучаў адусюль: і са сценаў дамоў, і нават з бруку на вуліцах. Негрыцянскія воіны неспакойна пачалі азірацца. Твары ў іх сталі шэрыя. Яны разумелі, што хоць іх нямала, але ў гэтым вялікім і незнаёмым горадзе, які яны бачылі ўпершыню, яны ў значнай меншасці. У страшным крыку ўжо амаль ніхто не пачуў, што фараон, жадаючы ачысціць сваё імя ад праклятага Амона, з гэтага дня прыняў імя Эхнатон, што азначае ўлюбёнец Атона.

Прачнуўшыся ад крыку ў ціхім пакойчыку «Кракадзілавага хваста», Харэмхеб, не расплюшчваючы вачэй, пацягнуўся і сказаў з усмешкай:

— А, гэта ты, Бэкет, улюбёніца Амона, мая прынцэса? Гэта ты мяне клічаш?

Але калі я штурхануў яго ў бок, ён расплюшчыў вочы і ўсмешка імгненна саслізнула з ягонага твару. Памацаўшы галаву, ён сказаў:

— Клянуся Сэтам і ўсімі яго нячысцікамі, твой напой, Сінухе, быў такі моцны, што мне напраўду нешта такое прымроілася.

— Народ крычыць «Амон!» — патлумачыў я.

Тады ён усё ўспомніў. Ён хутка ўскочыў, мы выйшлі ў пітную залу і, спатыкаючыся аб ногі заснулых воінаў-ахоўнікаў і паўголых дзяўчат, рушылі да выхаду. Па дарозе Харэмхеб схапіў са стала акраец хлеба і асушыў цэлы гарлач віна, і мы паспяшаліся па незвычайна пустых вуліцах да храма. Убачыўшы ў Алеі бараноў вадаграй, Харэмхеб вырашыў у ім асвяжыцца. Моцны напой усё яшчэ грукаў яму ў скроні, і мой сябар цяжка фыркаў, падстаўляючы галаву пад халодныя струмяні.

Тым часам маленькі Пэпітамон, гэты тоўсты пародзісты кот, выстраіў свае калясніцы перад храмам Амона, а потым, упэўніўшыся, што ўсе атрады пастроены і кожны ведае сваю задачу, залез на свае пазалочаныя насілкі і гучна крыкнуў:

— Егіпецкія воіны! Бясстрашныя воіны зямлі Куш і смелыя сарданы! Ідзіце і скіньце статуй гэтага праклятага бога Амона! За гэта вы атрымаеце вялікую ўзнагароду! — Крыкнуўшы гэта, ён палічыў сваю задачу выкананай, сеў на насілкі і дазволіў рабам абмахваць сябе вялікім веерам, бо рабілася ўжо даволі горача.

Плошча перад храмам бялела ад святочных строяў мужчын, жанчын, старых і дзяцей, і ніхто не зрушыў з месца, калі воінскія дружыны скіравалі да храма, нават калясніцы не прымусілі іх кінуцца бегчы. Негры штурхалі людзей дзідамі і білі дубінкамі, але народ не адступаў. Усе разам упалі ніц перад калясніцамі і заклікалі сабе ў дапамогу Амона. Коні пачалі таптаць тых, хто быў бліжэй да краю натоўпу, нагамі, а колы пайшлі прама па іх целах. Начальнікі зразумелі, што без вялікага праліцця крыві далёка так не прасунуцца. Яны адвялі свае войскі і пачалі чакаць новых загадаў, бо фараон забараніў праліваць кроў. Але было позна, кроў ужо пралілася на брук перад храмам, раздушаныя енчылі і стагналі, а натоўп, заўважыўшы, што войскі адступаюць, вырашыў, што перамог, і гэта страшэнна ап'яніла людзей. Пэпітамон між тым успомніў, што фараон сваім указам прыняў сабе новае імя — Эхнатон, і паспяшаўся таксама памяняць сваё, а калі начальнікі падышлі да яго па новыя распараджэнні, ён нібы не пачуў іх і толькі, вырачыўшы вочы, абвясціў:



— Я не ведаю ніякага Пэпітамона. Мяне завуць Пэпітатон, блаславёны Атонам Пэпі!

Начальнікі, сярод якіх кожны камандаваў тысячамі воінаў і меў залаты бізун, вельмі на гэта раззлаваліся, і адзін крыкнуў:

— Хай будзе ён пракляты, гэты твой Атон! Ты што — здзекуешся з нас замест таго, каб аддаць ясны загад: што рабіць з народам і як ачысціць дарогу да храма?!

— Вы жанчыны ці слабыя дзеці? — пагардліва адказаў Пэпітатон. — Разганіце народ! Але, як загадаў фараон, — без праліцця крыві.

Пачуўшы гэта, начальнікі плюнулі і разышліся па сваіх дружынах, лаючыся на чым свет стаіць, нічога іншага рабіць ім не заставалася. Падчас гэтай высокай нарады натоўп дайшоў да шаленства і кінуўся на адступіўшых неграў, махаючы дубінамі ды іншай самаробнай зброяй і шпурляючы ў воінаў камянямі. Народу было шмат, людзі крыкамі падбадзёрвалі адзін аднаго, і шмат хто з неграў упаў на зямлю, залiваючы яе крывёю, коні ад такога страшнага гвалту ўставалі на дыбы, вазніцы з усяе сілы нацягвалі лейцы, стараючыся стрымаць іх. Калі ж начальнік атрада калясніцаў, вярнуўшыся, убачыў, што яго любімай кабыле выбілі вока і паранілі каменем нагу, ён прыйшоў у шаленства, разрыдаўся і закрычаў:

— Мая легканогая страла, мой сонечны праменьчык, яны выбілі табе вока і зламалі нагу, але, клянуся, што ты мне даражэйшая за ўвесь гэты зброд і ўсіх іх багоў, разам узятых. Я адпомшчу за цябе, але праліваць кроў не буду, калі гэта забараніў фараон!

На чале атрада каляснічых ён уварваўся ў натоўп, кожны яго воін падхапіў першага крыкуна, які трапіўся пад руку, а коні пачалі таптаць старых і дзяцей, так што крык хутка ператварыўся ў дзікі лямант. Тых, каго ўцягвалі ў калясніцы, душылі лейцамі, каб не цякла кроў, і адразу

выкідвалі назад дзеля застрашэння натоўпу. Негры пазрывалі з лукаў цецівы, кінуліся ў натоўп і, засланяючыся шчытамі ад дубін і камення, пачалі душыць імі людзей, хапаючы нават дзяцей. Але кожнага размаляванага негра, які адбіўся ад сваіх і апынуўся ў натоўпе адзін, народ затоптваў, люта раздзіраў на кавалкі, а аднаму вазніцу, якога ўдалося сцягнуць з калясніцы, адразу разбілі галаву аб каменны брук.

Мы з Харэмхебам сачылі за ўсім гэтым з Алеі бараноў, але штурханіна, гвалт і крык перад храмам былі такія, што разабраць нічога было нельга, і мы нічога толкам не бачылі, а даведаліся пра ўсё пазней. Харэмхеб тады сказаў:

— Я не маю права ўмешвацца, але многаму навучуся, паназіраўшы за гэтым.

Жуючы хлеб, які ён захапіў з шынка, ён залез на спіну каменнага ільва, каб лепей бачыць, што адбываецца.

Паміж тым начальнік Пэпітатон пачаў нервавацца: пралілася ўжо не адна мера вадзяного гадзінніка, а лямант натоўпу не сціхаў, далятаючы да яго вушэй, нібы шум вялікай паводкі. Ён зноў паклікаў да сябе падначаленых, аблаяў іх за марудныя дзеянні і раздражнёна сказаў:

— Мая суданская кошка Міма павінна сёння кацяніцца, і я вельмі за яе хвалююся, бо яна засталася без маёй дапамогі. Дзеля Атона, ідзіце ў храм і паваліце гэты пракляты статуй, каб мы ўсе нарэшце маглі пайсці па дамах, інакшай, клянуся Сэтам і ўсімі яго нячысцікамі, я паздзіраю з вашых шыяў залатыя ланцугі і паламаю вашы залатыя бізуны.

Пачуўшы такія пагрозы, начальнікі ўспомнілі, што яны людзі паднявольныя і, параіўшыся, вырашылі, што воінскі гонар зберагчы трэба. Заклікаючы на дапамогу ўсе злыя сілы, яны пастроілі войскі і павялі іх у атаку, змятаючы народ з дарогі, як вада змятае салому. Негрыцянскія дзіды пачырванелі ад крыві, крывавыя ручайкі пацяклі па плошчы, і сто разоў па сто мужчын, жанчын і дзяцей загінула перад храмам у імя Атона, бо напалоханыя жрацы зачынілі браму, і народ, як авечы статак, пачаў разбягацца ва ўсе бакі, але негры, п'яныя ад крыві і забойства, гналіся за кожным і забівалі людзей стрэламі, а каляснічыя лёталі па вуліцах, забіваючы ўцекачоў дзідамі. Каменныя пліты перад храмам Атона пачырванелі ад крыві і пакрыліся мёртвымі целамі.

Але перад мурамі храма войскі вымушаныя былі спыніцца: негры не прывыклі браць прыступам сцены, а іх тараны не маглі разбіць медную браму храма, хоць, можа, лёгка прабівалі вароты ў якіх-небудзь паселішчах там, у паўднёвых лясах. Ім удалося толькі акружыць храм, але жрацы пасылалі ім з высокіх сцен свае праклёны, а храмавыя ахоўнікі стралялі з лукаў і шпурлялі ў іх дзіды, так што многія размаляваныя негры загінулі пад мурамі храма. Па-над плошчаю перад храмам уздымаўся густы пах крыві і зляталіся хмары мух з усяго горада. Пэпітатон



на сваіх залатых насілках таксама прыбыў на плошчу. Тут стаяў ужо такі смурод, што яго твар стаў шэры, і ён загадаў рабам паліць вакол сябе духмяныя травы. Убачыўшы горы трупаў, ён заплакаў і пачаў ірваць на сабе вопратку, але яго сэрца поўнілася трывогай за суданскую кошку Міму, і ён сказаў малодшым начальнікам:

— Баюся, што на вас упадзе страшны гнеў фараона, бо вы не разбілі статуй Амона, а вось кроў — ручаём цячэ па рыштках плошчы. Але што зроблена, тое зроблена. Я цяпер, не марудзячы, мушу ехаць да фараона і расказаць яму пра ўсё, што тут адбылося. Пастараюся абараніць вас. І яшчэ пастараюся заехаць дадому паглядзець на сваю кошку ды пераапрануцца, бо тут такі жахлівы смурод, што ў мяне прасмярдзела, здаецца, усё цела. А вы тым часам супакойце неграў, дайце ім папіць і паесці, бо храма нам сёння ўсё адно не ўзяць. Бяда, што мы не падрыхтаваліся біць сцены, але гэта не мая віна: фараон нават не ўзгадваў пра магчымасць аблогі храма. Вось няхай сам цяпер вырашае, што рабіць далей.

У той дзень нічога больш не адбылося, Малодшыя военачальнікі адвялі дружыны ад муроў храма, даючы дарогу абозам, якія везлі неграм харчы. Сарданы былі разумнейшыя за неграў — яны не любілі сонца і занялі ўсе дамы вакол храма, а ў іх жылі, вядома, багатыя людзі. Сарданы выгналі гаспадароў і захапілі вінныя склепы. Трупы на плошчы гнілі, і з навакольных гор у Фівы зляцелася столькі крумкачоў ды іншых птушак-падлажэраў, колькі раней ніхто не бачыў.

Я ўжо расстаўся на той час з Харэмхебам. Вяртаючыся дахаты, я заўважыў маленькага хлопчыка з разбітым носам, які з апошняй сілы цягнуў бацьку са зламанай нагой, перабітаю калясніцай. Паранены глуха стагнаў. Я дапамог спачатку яму, потым іншым параненым. Заняты лекаваннем, я разважаў аб апошніх падзеях, і маё сэрца сціскалася ад думкі аб тым, што нас чакае наперадзе. Я добра бачыў, што ўся ўлада цяпер у руках Атона, але разумеў, што народ сляпы і не бачыць дабра, якое ад імя свайго бога яму хоча даць фараон. Ад роспачы я хацеў памерці. Цэлы дзень я рваў на параненых вопратку і накладваў павязкі, а ўвечары прымаў хворых і пакалечаных дома. У бядняцкіх кварталах горада не засталося амаль ніводнай сям'і, дзе не было пацярпелых. Прамываючы і зашываючы ім раны, я казаў:

— Ці вы звар'яцелі? Фараон вам хоча дабра! Ён абяцаў раздзяліць паміж тымі, у каго нічога няма, усе Амонавы землі. І ўсе Амонавы сады з сённяшняга дня — вашы, а ў святым Амонавым возеры вы зможаце лавіць рыбу.

Але яны пярэчылі мне:

— Ілжывы фараон хоча нас выгнаць з нашых бедных, але такіх дарагіх нам хатаў! Ён хоча, каб мы аралі палеткі і сталі рабамі зямлі! Але

мы нарадзіліся не ў хлявах! А што да Амонавых рыб, дык ты сам мусіш ведаць, што ў іх вельмі колкія косткі, — яны засядаюць у горле і душаць чалавека, бо гэтыя рыбы — святыя.

Яны пачалі касавурыцца на мяне з падазрэннем, кажучы:

— Сінухе, мы прывыклі цябе паважаць і спадзяемся, што ты не з людзей Атона. А калі ты пакланяешся Атону, дык нам не патрэбная твая дапамога, бо тады твой нож атруціць нашыя раны, а твае павязкі ўрэжуцца нам у цела і спаляць яго, як агнём.

Я зразумеў, што ўсеагульнае Амонава шаленства асляпіла гэтых людзей, і мне лепш не адказваць ім, а толькі дапамагаць.

Да мяне ў двор прынеслі юнака, чые валасы блішчалі, намазаныя каштоўным алеем, але на горле ў яго зеўрала глыбокая рана. Я мог бы яго вылечыць, але тыя, каго я перавязаў раней, заўважылі на яго перапэцканым пылам і крывёй каўняры вышытыя Атонавы крыжы — сімвалы жыцця — і раней, чым я паспеў што-небудзь зрабіць, накінуліся і забілі небараку. Гэтыя няшчасныя не разумелі, чаму я плакаў і крычаў на іх: яны ўсяго толькі хацелі пазбавіцца ад зла, якое пранікла ў мой двор: усё зло для іх ішло ад Атона.

— Да Атона мы былі бедныя, але ж мы былі шчаслівыя, — патлумачылі яны мне. — Пры ўсёй нашай галечы і голадзе Амон баслаўляў нас, і ў нас была надзея трапіць у Краіну Захаду, а праз праклятага Атона мы страцім Амонава блаславенне і застанемся такія ж бедныя, як раней. Цяпер ужо негры нас б'юць і раняць, а калі Амон зусім адступіцца ад нас, — а ён цар усіх багоў, — дык следам за Атонам прыйдуць чума і голад.

Кажучы так, яны выкінулі на вуліцу труп забітага юнака, і на яго адразу накінуліся сабакі.

На плошчах і вуліцах каля храма негры пілі піва, а сарданы і малодшыя начальнікі, не маглі жадаючы ім перашкаджаць, з асалодаю напіваліся віном з разрабаваных склепаў. Свяцільнікі на галоўных вуліцах увечары не запаліліся, неба над Фівамі было чорнае, а негры і сарданы, запаліўшы паходні, паразбягаліся са сваіх лагераў. Яны ўрываліся ў дамы ўцекаў, выбіваючы ў іх дзверы, рабавалі дамы жыхароў і хадзілі з вуліцы на вуліцу, пытаючыся ў сустрэчных:

— Амон ці Атон?

Калі хто не адказваў, таго збівалі і адбіралі кашалёк. А калі хто ад страху казаў: «Хай будзе блаславёны Атон!» — яны крычалі: «Брэшаш, сабака, нас не падманеш, паганы фіванец!» — і, працяўшы яму горла ці жывот дзідай, забіралі грошы і вопратку. Каб лепей бачыць, яны падпалілі некалькі дамоў, і неба над Фівамі зноў стала чырвонае ад паўсюдных пажараў, нават жыццё знаці той ноччу не было ў бяспецы, і ніхто не мог уцячы з горада, бо ўсе дарогі і выхады да ракі былі перакрытыя, і кожнага ўцекача варта заварочвала назад, маючы загад прасачыць, каб Амонавы золата і каштоўнасці не вывозіліся патаемна з горада.



Не ведаю, што думаў фараон, бачачы на фіванскім небе пошугі ад пажараў, але мне здаецца, што ад яго шмат чаго ўтаілі, а калі і давалі якія-небудзь тлумачэнні, ён ім верыў, бо ў душы не любіў Фіваў, гэты горад Амона. Пэпітатон не страціў сваёй пасады. Наадварот, у знак падзякі фараон падараваў яму залаты ланцуг, упрыгожаны кошкамі, бо новы ваявода першы, па прыкладзе фараона, змяніў сваё імя, жадаючы выкінуць з яго згадку пра праклятага бога Амона, якога больш нельга было называць уголас. За тое, што адбылося ў горадзе, ніхто не быў пакараны, але фараон не загадаў зняць аблогу з храма, пакуль жрацы не абразумяцца, ці не здадуцца пад націскам голаду. Праўда, пры гэтым ён загадаў нікога не забіваць. І гэта быў самы неразумны загад, бо ў свірнах храма Амона было шмат збожжа, у хлявах — скаціны, а ў садах — прывольнай пашы для яе, так што калі б у сценах храма Амона сабралося нават у сто разоў больш ягоных прыхільнікаў, нават тады яны не пакутавалі б ад голаду. Затое на голад былі асуджаныя самі Фівы, таму што ўсе дарогі да ракі былі перакрытыя.

Але самае жахлівае было тое, што на плошчы перад храмам валяліся гніючыя трупы, і ніхто не прыбіраў іх, бо, жадаючы пазбегчы фараонава гневу, усе рабілі выгляд, быццам нічога не ведаюць, а фараону паведамілі, што загінула ўсяго некалькі чалавек. Нават родзічам не дазвалялася забіраць целы блізкіх, толькі самым багатым сарданы ў першы ж дзень прадалі некалькі цел з плошчы, а на другі дзень і самі ўжо адтуль збеглі ад жахлівага смуроду. Саладжавы пах гніення плыў над усім горадам, і нават вада ў Ніле была атручаная. Праз некалькі дзён у горадзе пачалася пошасць, адолець якую не было ніякай магчымасці, бо Дом Жыцця з яго лекамі ды зёлкамі, знаходзіўся за сценамі храма.

Кожную ноч у горадзе бушавалі пажары, размаляваныя негры рабавалі хаты і пілі віно з залатых чашаў, а сарданы спалі на ложках пад балдахінамі. І кожную ноч жрацы Амона ад рання да ночы пасылалі праклёны фальшываму фараону і богаадступнікам. З усіх шчылінаў павылазіла ўсякая гарадская поскудзь — рабаўнікі магілаў і вулічныя злодзеі, якія не баяліся ніякіх багоў, у тым ліку Амона. Яны пачалі славіць новага бога Атона і ішлі да яго ў паспешліва памыты і пачышчаны храм, каб атрымаць ад жрацоў, якім удалося застацца жывымі, сімвал жыцця. А потым, пачапіўшы яго, як талісман, сабе на шыю, яны зноў ішлі рабаваць, забіваць і гвалціць, каго захочацца. Пасля ўсіх гэтых падзеяў Фівы яшчэ некалькі гадоў не маглі адрадзіцца. Улада і багацце выцеклі з горада, як выцякае кроў з незлічоных ранаў на чалавечым целе.

### 3

Харэмхеб жыў у маім доме. Назіраючы за падзеямі ў Фівах, ён амаль не спаў, яго позірк рабіўся ўсё болей змрочны, і ён толькі ўвесь час худнеў. Яго нават не вабілі разнастайныя стравы, якія ад раніцы да змяркання яму гатавала Муці, якая, як і многія жанчыны, вельмі ўпадабала Харэмхеба — нават больш за мяне, бо я хоць быў чалавек і вучоны, але слабы, без асаблівай фізічнай сілы. Гледзячы на тое, што адбываецца, Харэмхеб казаў:

— Мне няма справы ні да Амона, ні да Атона, але яны ператвораць маіх воінаў у дзікіх жывёл! Потым не адной спіне давядзецца паспытаць бізуна і не адна галава зляціць з плеч, раней чым я зноў давяду іх да розуму. І гэта вялікая бяда, бо я шмат каго з іх ведаю на імя. Я памятаю іх заслугі і разумею, што гэта добрыя воіны, калі іх своечасова лаяць і трымаць лейцы добра нацягнутымі.

Затое Каптах багацеў дзень за днём, і яго твар усё болей ільсніўся. Малодшыя начальнікі сарданскіх дружынаў плацілі за напоі нарабаванымі рэчамі, срэбрам і золатам, не пытаючыся цаны, і заднія пакоі ў шынку былі ўжо заваленыя markознымі каштоўнасцямі, куфэркамі і диванамі. Чапаць шынок усе баяліся, і рабаўнікі абміналі яго, бо ведалі, што ён ахоўваецца воінамі Харэмхеба. А Каптах паіў сваіх ахоўнікаў ад рання да рання, і тыя яшчэ пільней выконвалі сваю справу, услаўляючы гаспадара.

На трэці дзень беспарадкаў мае лекі скончыліся, і купіць іх ужо было немагчыма нават за золата. Я страціў магчымасць лячыць хваробы, а яны ў сувязі з пратухлай вадой і гніючымі трупамі ўсё хутчэй распаўзаліся па бедных кварталах горада. Апроч таго, я стаміўся, маё сэрца ператварылася ў суцэльную рану, а вочы ад недасыпу пачырванелі. Мне ўсё ўстыла — і Атон, і беднякі, і іхнія раны, таму я пайшоў у «Кракадзілаў хвост» і пачаў піць, мяшаючы розныя віны, пакуль не заснуў, а ўранні Мэрыт разбудзіла мяне, і аказалася, што я сплю на яе цыноўцы. Мне зрабілася сорамна, і я сказаў:

— Жыццё падобнае да халоднай ночы, і гэта выдатна, калі двое самотных могуць сагрэць адзін аднаго ў начным холадзе, нават калі іх рукі і вочы будуць пры гэтым хлусіць.

— Адкуль ты ведаеш, што мае вочы хлусяць? — спытала яна, санліва пазяхаючы. — Проста мне ўжо надакучыла біць гэтых ваяк па руках, а ў цябе пад бокам — адзінае надзейнае месца ў горадзе, дзе да мяне ніхто прыставаць не будзе. Але мне крыўдна, што ты нават не паглядзеў на мой жывот, у якім няма ніякай заганы, бо мяне нездарма называюць прыгожай жанчынай.

Я выпіў піва, якое яна прынесла, каб разагнаць пахмелле, але не ведаў, што ёй адказаць. А яна зірнула на мяне сваімі цёмнымі вачыма, за нязменнай весялосцю якіх недзе глыбока хаваўся смутак, і сказала:

— Сінухе, я хачу, як магу, дапамагчы табе. Я ведаю, што ў гэтым горадзе ёсць жанчына, якая табе шмат вінаватая. Цяпер усё перакулілася дагары нагамі — дзе была столь, там цяпер дол, і шмат каму давядзіцца плаціць па старых даўгах. Дык, можа, і табе стала б лягчэй, калі б ты атрымаў тое, што табе вінная. Можа, тады ты перастаў бы бачыць у кожнай жанчыне пякучую пустэльню, здольную спапяліць цябе.

Я пачаў запэўніваць Мэрыт, што зусім не лічу яе пустэльняю. І тым не менш пастараўся хутчэй ад яе сысці, бо за апошнія дні маё сэрца настолькі змярцвела ад крыві і ранаў і я так надыхаўся чаду нянавісці, што баяўся ўжо самога сябе.Але яе словы запалілі ўва мне згаслае полымя, я ўзгадаў храм кашэчай багіні і дом побач з ім, хоць час, як пяском, даўно пакрыў гэтыя ўспаміны. Але ў тыя дні фіванскага жаху ўсе нябожчыкі ўсталі з магілаў, і я ўспомніў свайго ласкавага бацьку Сэнмута і добрую маці Кіпу і, думаючы пра іх, зноў адчуваў смак крыві ў роце. Я добра ведаў, што гэтымі днямі ў Фівах не было амаль ніводнага высакароднага чалавека, які адчуваў бы сябе ў бяспецы, — дастаткова мне было заплаціць воінам, і яны выканалі б любое маё жаданне. Але я пакуль сам не ведаў, чаго я хацеў. Таму я пайшоў дадому і зрабіў усё, што мог, каб дапамагчы параненым і хворым. Без лекаў я, праўда, дзейсна дапамагчы ім не мог, а таму параіў прынамсі выкапаць на беразе ракі калодзежы, каб вада ачышчалася, праходзячы праз глей і пясок.

На пяты дзень страх пачаў авалодваць нават Пэпітатонавымі военачальнікамі. Воіны сварыліся з імі, асыпалі іх праклёнамі і перасталі збірацца на заклік трубы, а сустрэўшы якога малодшага начальніка на вуліцы, забіралі і ламалі яго залаты бізун. Тады военачальнікі звярнуліся да Пэпітатона, якому таксама ўжо ўстыла ягоная служба, і ён болей думаў не пра яе, а пра сваіх кошак, і пачалі ўпрошваць яго пайсці да фараона, расказаць яму праўду і зняць са сваёй шыі каўнер вярхоўнага ваяводы. І ўрэшце ў мой дом па Харэмхеба прыйшлі фараонавы ганцы. Мой сябар, як разбуджаны леў, няспешна ўстаў, пацягнуўся, памыўся, апрануўся і пайшоў з імі. Ён ламаў галаву, што сказаць фараону, бо сёння яго ўлада яўна пахіснулася, і нікому было невядома, што адбудзецца заўтра.

— Эхнатон, — сказаў ён, прыйшоўшы да фараона, — цяпер няма часу згадваць усё, што я табе раіў. Але калі ты хочаш, каб запанаваў ранейшы спакой, перадай мне сваю ўладу на тры дні, а праз тры дні я вярну яе табе. Толькі потым не дапытвайся, як я ўсё зрабіў.

Але фараон усё ж спытаў:

— Ты звергнеш Амона?

— Ты сапраўды большы вар'ят, чым самнамбул, — адказаў Харэм-

хеб. — Вядома, пасля таго, што ўжо адбылося, Амон павінен быць зрынуты! Інача нам не ўтрымаць уладу фараона! І таму я абавязкова скіну яго, толькі ты потым не пытайся, як я гэта зраблю.

— Галоўнае — не прычыняй шкоды жрацам Амона, — сказаў фараон, — бо яны самі не ведаюць, што робяць.

Харэмхеб адказаў:

— Табе, напраўду, варта было б ускрыць чэрап, бо нічога іншае цябе не вылечыць. Але я аднойчы прыкрыў цябе сваім плашчом, дык ужо зраблю, як ты хочаш, і сёння.

Тады фараон заплакаў і на тры дні перадаў яму свае знакі ўлады — жазло і бізун. Я ўсяго гэтага, праўда, сам не бачыў, а ведаю толькі з аповедаў Харэмхеба, а ён, як і ўсякі воін, любіў трошкі ўпрыгожваць свае расказы. Ва ўсякім разе ён вярнуўся ў горад на залатой фараонавай калясніцы і, ездзячы па вуліцах, пачаў склікаць воінаў — кожнага на імя. І калі сабраліся самыя адданыя яму воіны, ён загадаў трубіць збор і ўсім астатнім збірацца каля значка з сокалам і львіным хвастом. Усю ноч ён наводзіў парадак ў войсках, і ўсю ноч з кашараў даносіўся крык і лямант, затое вайсковыя каты папрацавалі ад душы, паламаўшы не адзін дзесятак палак на спінах разбэшчаных наймітаў, пакуль у іх саміх рукі не стаміліся ад такой працы. Сваіх лепшых людзей Харэмхеб паслаў навесці парадак на гарадскіх вуліцах, і яны прывялі ўсіх воінаў, якія не з'явіліся па сігнале трубы. Харэмхеб загадаў кожнага люта адлупцаваць, а чые рукі і вопратка былі ў крыві, тыя прылюдна страцілі свае галовы. Да рання ўсе фіванскія злодзеі разбегліся, як пацукі, бо кожнага, каго лавілі на крадзяжы ці рабаўніцтве, на месцы праціналі дзідамі. Злачынцы разбягаліся і ў жаху зрывалі з сябе сімвал Атона — жыватворны крыж, — баючыся, што гэта можа іх выдаць.

Харэмхеб сабраў усіх гарадскіх будаўнікоў, загадаў ім разбурыць дамы гарадскіх багацеяў і разламаць караблі, а з атрыманага бярвення зрабіць тараны, лесвіцы і вежы для аблогі. Праца кіпела, і фіванская ноч поўнілася грукатам малаткоў ды трэскам дрэва. Але яшчэ гучней чуліся стогны і лямант пакараных сарданаў і неграў, і іх галасы гучалі ў вушах фіванцаў прыемнаю музыкай. За гэта яны даравалі Харэмхебу яго намеры і нават палюбілі яго, бо найбольш разумныя сапраўды пачалі страчваць любоў да Амона, праз якога ў горадзе і адбыліся ўсе гэтыя апошнія падзеі і разбурэнні. Апроч таго, усе спадзяваліся, што, зваліўшы Амона, войскі пакінуць горад.

Харэмхеб не стаў марнаваць час на пустыя перамовы са жрацамі. На досвітку ён склікаў военачальнікаў і размеркаваў паміж імі задачы. Адны павінны былі прыцягнуць да муроў абложныя вежы і паставіць іх у пяці вызначаных месцах, а другія — пратараніць браму. Пры штурме ніводзін воін не быў паранены, бо зверху ўсіх абаранялі адмысловыя павеці, складзеныя са шчытоў, а ні жрацы, ні ахоўнікі храма не нарыхтавалі нават смалы і вару, бо не спадзяваліся, што браму будуць штурмаваць такім чынам. Яны былі няздольныя адбіць усе атакі, якія, паводле плана, вяліся адразу з пяці бакоў. Раздрабіўшы свае сілы, яны толькі марна мітусіліся, сноўдаючы па мурах, а народ у дварах храма крычаў ад жаху. Убачыўшы, што брама вось-вось разваліцца, і негры ўжо ўскараскаліся на муры, галоўныя жрацы загадалі трубіць у трубы, каб скончыць бой і здацца. Яны размеркавалі, што Амон атрымаў ужо дастаткова ахвяраў, і трэба пакінуць людзей жывымі — асабліва тых, хто адданы Амону — на будучыя часы. Браму адчынілі, і па загадзе Харэмхеба воіны выпусцілі ў горад народ, які цясніўся ў дварах храма. Людзі разбягаліся, заклікаючы на дапамогу Амона, і з радасцю вярталіся дадому, бо іх п'яная рашучасць выветрылася, а час, праведзены на спякоце ў адкрытых дварах храма, пачынаў ужо здавацца бясконцым.



Такім чынам Харэмхеб без крыві авалодаў дварамі храма, усімі храмавымі свірнамі, гаспадарчымі пабудовамі і майстэрнямі. У яго рукі трапілі і Дом Жыцця, і Дом Смерці, і ён, не марудзячы, разаслаў лекі і лекараў з Дома Жыцця на дапамогу жыхарам горада, але Дом Смерці ён не крануў, бо гэты дом жыве па-за межамі жыцця, і там заўсёды, што б ні адбывалася вонкі, мусіць панаваць спакой. Самі жрацы з храмавымі воінамі зачыніліся ў вялікім храме, каб ахоўваць галоўныя святыні, і напаілі ахоўнікаў дурманным зеллем, каб тыя біліся і гінулі, не баючыся смерці і не адчуваючы болю.

Бітва ў храме цягнулася да вечара, усе ахоўнікі і жрацы, якія супраціўляліся са зброяй у руках, былі перабітыя, жывымі засталіся толькі галоўныя жрацы Амона, якія згрудзіліся каля статуі свайго бога ў свяшчэннай зале. Тады Харэмхеб загадаў трубіць адбой, і як толькі бой скончыўся, паслаў воінаў сабраць трупы і скінуць іх у раку, а сам пайшоў да жрацоў Амона і сказаў ім:

— Паміж мной і Амонам не было сваркі, бо я пакланяюся Гору, свайму сокалу. Але мне трэба выканаць загад фараона і зрынуць Амона. І вам, і мне, напэўна, было б прыемней, калі б у свяшчэннай зале статуі Амона не аказалася — каб воіны не змаглі апаганіць яго, дый я апаганьвальнікам багоў быць не хачу, хоць і пакляўся служыць фараону. Падумайце над маімі словамі, я даю вам на гэта цэлую меру вадзяного гадзінніка. Потым вы зможаце спакойна пакінуць храм і вам ніхто не прычыніць зла, бо вашае жыццё мне не патрэбна.

Жрацы ўжо рыхтаваліся памерці ў імя Амона, і таму Харэмхебавы словы прыйшліся ім даспадобы. Яны заставаліся ў свяшчэннай зале за заслонаю да тае пары, пакуль не скончылася вадзяная мера часу. Тады Харэмхеб сам разарваў заслону і выпусціў жрацоў, а калі яны выйшлі, свяцілішча было пустое: статуі Амона нідзе не было — жрацы разбілі

яе на кавалачкі і вынеслі іх пад вопраткай, кажучы, што адбыўся цуд, і Амон па-ранейшаму жыць. Потым Харэмхеб загадаў апячатаць усе сховы пячаткаю фараона, а сутарэнні з золатам і срэбрам апячатаў сваёю рукой. Тым самым вечарам каменячосы пры святле паходняў разламалі ўсе статуі Амона і нават скалолі яго імя на надпісах, а ўначы Харэмхеб загадаў ачысціць плошчу ад трупаў і патушыць у горадзе пажары.

Пачуўшы, што Амон скінуты і мір ды парадак зноў усталяваліся ў горадзе, багатыя і высакародныя людзі апрануліся ў свае лепшыя строі, запалілі перад дамамі свяцільні і выйшлі на вуліцу святкаваць перамогу Атона. Прыдворныя, што хаваліся ў Залатым палацы, зноў вярнуліся з-за ракі ў горад, і хутка неба над Фівамі зачырванела ад паходняў ды свяцільняў, людзі рассыпалі па вуліцах кветкі, крычалі, абдымаліся і цалаваліся. Харэмхеб не мог забараніць мужчынам паіць сарданаў вінам, а жанчынам абдымаць неграў, якія насілі на дзідах галовы забітых жрацоў. Гэтая ноч бурліла радасцю, імя Атона гучала паўсюдна, і не было розніцы паміж егіпцянінам і неграм, і прыдворныя паненкі вялі неграў да сябе дадому, захапляючыся іх магутнымі целамі, млеючы ад трывожнага паху крыві, што ішоў ад іх, і бессаромна расхінаючы перад імі свае лёгкія навамодныя сукенкі. А калі з ценю храма на плошчу выпаўзаў параненны храмавы воін, у трызненні заклікаючы на дапамогу Амона, яму разбівалі галаву аб брук, і высакародныя пані радасна ўчынялі вакол трупа скокі.

Ад усяго пабачанага я схапіўся за галаву і падумаў, што ніводзін бог не здольны вылечыць чалавека ад яго вар'яцтва. Мне ўсё абрыдла, і я пабег у «Кракадзілаў хвост». Словы Мэрыт пра помсту яркім полымем гарэлі ў маім сэрцы, і я паклікаў воінаў, якія ўсё яшчэ вартавалі шынок. Яны падпарадкаваліся, ведаючы, што Харэмхеб мой сябар, і я павёў іх праз начны горад, ашалелы ад радасці, я правёў іх міма храма кошкі да дома Нефернефернефер. Там таксама гарэлі свяцільні, дом не быў разрабаваны, і з яго чуўся п'яны гоман. Апынуўшыся побач, я адчуў, як трасуцца мае калені, а жывот апускаецца аж да пятаў. І я сказаў воінам:

— Гэта загад Харэмхеба, майго сябра, военачальніка фараона. Ідзіце ў дом і знайдзіце ў ім жанчыну, якая высока трымае галаву і ў якой вочы падобныя да зялёнага каменя. Ідзіце і прынясіце яе да мяне, а калі яна будзе супраціўляцца — стукніце яе па галаве дрэўкам дзіды, але больш біць яе не трэба.

Воіны з радасцю ўвайшлі ў дом, і перапалоханыя госці кінуліся наўцёкі, а слугі пачалі клікаць на дапамогу ахоўнікаў. Але воіны хутка вярнуліся, несучы садавіну, мядовыя пернікі і гарлачы з вінам. Прынеслі яны і Нефернефернефер: яе галава, ужо без парыка, была ў крыві, бо яна супраціўлялася, і воіны стукнулі яе дрэўкам дзіды. Я паклаў руку ёй на грудзі і адчуў цёплую шкляную гладкасць скуры, але мяне



апанавала пачуццё, нібы я датыкнуўся да халоднай і слізкай змяі. Я ўпэўніўся, што яна жывая, загарнуў яе ў чорную тканіну, у якую звычайна загортваюць трупы, і паклаў на насілкі. Потым воіны правялі мяне да Дома Смерці. Я сядзеў у насілках, трымаў на каленях беспрытомнае цела Нефернефернефер і, хоць яна была ўсё яшчэ прыгожай жанчынай, не адчуваў нічога, апроч гідлівасці.

Мы прынеслі яе праз усе Фівы, ахопленыя святочным шаленствам, да брамы Дома Смерці. Там я даў воінам золата і адаслаў іх разам з насілкамі, а Нефернефернефер узяў на рукі і занёс у Дом Смерці. Калі мыйшчыкі трупаў выйшлі да мяне, я сказаў:

— Вось я прынёс вам цела жанчыны, якую знайшоў на вуліцы, я не ведаю ні яе імя, ні яе сваякоў, але спадзяюся, што яе аздобаў хопіць, каб заплаціць вам за працу, калі вы зможаце зберагчы яе цела для вечнага жыцця.

У адказ яны аблаялі мяне, кажучы:

— Можа, ты думаеш, што гэтымі днямі ў нас мала мерцвякоў? А хто нам заплаціць за працу?

Але разгарнуўшы тканіну, яны адчулі, што цела жанчыны яшчэ цёплае, а зняўшы з яе аздобы і вопратку, убачылі, што яна прыгажэйшая за ўсіх жанчын, якія былі ў іх у Доме Смерці. Тады яны больш не сказалі ні слова. А калі, паклаўшы ёй рукі на грудзі, пачулі, што сэрца ў яе яшчэ б'ецца, паспешліва зноў яе загарнулі і сказалі, хітра пераміргваючыся і смеючыся:

— Ідзі сваёй дарогай, незнаёмец, ты зрабіў добрую справу. Мы выканаем усё, каб зберагчы яе цела дзеля вечнага жыцця, і калі гэта будзе залежыць ад нас, пратрымаем яе тут семдзесят разоў па семдзесят дзён, толькі каб зберагчы яе цела як мага надзейней.

Такім чынам я спагнаў з Нефернефернефер доўг, які яна была мне вінная за маіх бацькоў. Я ўявіў, як яна будзе сябе адчуваць, апрытомнеўшы пад скляпеннямі Дома Смерці, без багацця, без слуг, у лапах мыйшчыкаў трупаў і бальзамоўшчыкаў. Я добра ведаў, што гэтыя людзі ўжо ніколі не дазволяць ёй выйсці на белы свет. Такой была мая помста Нефернефернефер, за якую мне давялося спазнаць усе жахі і брыдоты Дома Смерці. Пазней я зразумеў, гэта была дзіцячая помста. Але ў тую хвіліну яна здавалася мне п'янючым і дурманным зеллем, якое прабірала мяне з галавы да ног. Зрэшты, адразу як я пакінуў Дом Смерці, ап'яненне прайшло, а замест яго ўзнікла халоднае пачуццё пустэчы, ледзяны холад скаваў маё сэрца, а галава апусцела, як яечнае шалупінне. Мяне ўжо не радавала думка, што сваім учынкам я ўратаваў шмат маладых дурняў ад ганьбы і пагібелі, якія заставаліся пасля кожнага кроку маленькай ножкі Нефернефернефер. Я падумаў, што калі ўсё ў гэтым свеце мае сваё прызначэнне, дык і жыццё Нефернеферне-

фер мела сваю адмысловую мэту, і на свеце павінна быць шмат жанчын, падобных да яе, бо іх прызначэнне — выпрабоўваць сэрцы. А калі нішто ў гэтым свеце не мае сэнсу і мэты, то і мой учынак бескарысны, як усе чалавечыя ўчынкі, — тым больш, што радасць ад помсты знікла ў адну хвіліну. А калі нічога не мае мэты, дык лепш кінуцца ў раку, і хай яна знясе з сабой маё цела.

Я пайшоў у «Кракадзілавы хвост», сустрэўся з Мэрыт і сказаў ёй:

— Я спагнаў свой доўг і зрабіў гэта такім страшным чынам, якога не прыдумаў яшчэ ніводзін чалавек у свеце, але помста не прынесла мне радасці, і на сэрцы ў мяне яшчэ болей пуста, чым раней, а маё цела мерзне нягледзячы на задушлівасць ночы.

Я піў віно, і яно сушыла маю глотку, як дарожны пыл. І я сказаў Мэрыт:

— Хай я высахну, як куст у пяску, калі хоць раз у жыцці яшчэ дакрануся да жанчыны. Чым больш я пра яе думаю, тым болей яе баюся, бо цела жанчыны — гэта сухая пустэльня, а яе сэрца — смяротная пастка.

Мэрыт дакранулася да маёй рукі, паглядзела на мяне цёмнымі вачыма і сказала:

— Сінухе, ты ніколі не ведаў жанчыны, якая хацела б табе дабра.

— Хай ратуюць мяне ўсе багі Егіпта ад жанчыны, якая мне хоча дабра, бо фараон таксама ўсім хоча дабра, але праз яго дабрыню рака поўніцца трупамі.

Я глынуў яшчэ віна, заплакаў і дадаў:

— Мэрыт, твае шчокі гладкія, нібы шкло, а твае рукі цёплыя. Дазволь мне сёння ўначы дакрануцца вуснамі да тваіх шчок і ўкласці свае халодныя пальцы ў твае цёплыя далоні, каб заснуць і не бачыць ніякіх сноў. А я дам табе ўсё, што ты папросіш.

Але Мэрыт сумна ўсміхнулася і адказала:

— Я баюся, што тваім языком гаворыць цяпер наш «кракадзілаў хвост», але я прывыкла да такога і не злуюся на цябе, Сінухе. Ніколі ў жыцці я не прасіла ў мужчын нічога, ні ад каго не ўзяла падарунка, які меў бы хоць якую каштоўнасць, і нічога не прашу ў цябе. Аднак калі я захачу што-небудзь аддаць, дык аддам ад усяго сэрца. І я з добрай душой падарую табе тое, чаго ты просіш, бо я такая ж самотная, як і ты.

Яна ўзяла з маіх дрыготкіх рук чашу з віном, паслала на падлозе цыноўку, лягла побач са мной і сагрэла мае халодныя рукі ў сваіх далонях. Я дакрануўся сваімі вуснамі да яе гладкіх шчок і ўдыхаў кедравы водар яе цела, я цешыўся з ёю, і яна была мне і маці і бацькам, яна была як жарніца бяздомнаму ў зімовую сцюжу, як агонь на беразе, які ў начную непагадзь паказвае мараку дарогу да гавані. А калі я пагрузіўся ў сон, яна ператварылася ў Мінею, якую я страціў назаўсёды, і я ляжаў побач з ёю на марскім дне, і ўжо не бачыў у сне нічога благога,



я спаў моцна, а яна шаптала мне на вуха словы, якія звычайна шэпчуць маткі дзецям, каб яны не баяліся цемры. З гэтай ночы яна стала маёй сяброўкай, у яе абдымках я паверыў, што ўва мне і ў свеце ёсць нешта большае і мацнейшае за мяне і мае веды і дзеля чаго трэба жыць.

Наступным ранкам я сказаў ёй:

— Мэрыт, я разбіў гаршчок з жанчынай, якая памерла, але я ўсё яшчэ зберагаю срэбную стужку з яе валасоў. І дзеля нашага сяброўства, Мэрыт, калі ты захочаш, я гатовы разбіць гаршчок з табой.

Але яна ў адказ пазяхнула, прыкрыўшы рот далонню і сказала:

— Ніколі больш не пі «кракадзілавы хвост», Сінухе, бо на другі дзень ты пачынаеш вярзці глупства. Памятай, што я нарадзілася ў шынку і ўжо даўно не нявінная дзяўчынка, якая паверыла б тваім словам, каб потым з горыччу расчаравацца ў іх.

— Калі я гляджу ў твае вочы, Мэрыт, я пачынаю верыць, што на свеце ёсць і добрыя жанчыны, — сказаў я, — дакранаючыся да яе шчакі сваімі вуснамі. — Я сказаў табе гэта, каб ты зразумела, як шмат ты для мяне значыш.

Яна ўсміхнулася і сказала:

— Спадзяюся, ты запомніш маю забарону піць наш «кракадзілаў хвост», бо калі жанчына каго-небудзь кахае — першым чынам яна штонебудзь забараняе свайму каханаму, каб адчуць і паказаць сваю ўладу над ім. Не будзем гаварыць пра гаршчкі, Сінухе, ты добра ведаеш, што, калі табе стане маркотна і сумна, на маёй цыноўцы для цябе заўсёды знойдзецца месца. Але не крыўдуй, калі заўважыш, што, апроч цябе, на свеце ёсць і іншыя, хто ў сумоце, бо як чалавек, я маю права выбіраць кампанію і не хачу звязваць сябе. А ў гонар гэтага, нягледзячы ні на што, я сама прапаную табе яшчэ адну чашу «кракадзілавага хваста».

Які ж неспасцігальны дух чалавека, як мала ён ведае сваё сэрца, бо ў тую ж хвіліну я адчуў сябе лёгка і вольна, як птушка, і забыўся на ўсё страшнае, што адбылося апошнімі днямі. Мне было добра, і тым днём я не стаў болей піць «кракадзілавы хвост». І гэта таксама было добра, бо праз дзень я зноў сустрэў фараона Эхнатона.

**4**

У той дзень Харэмхеб прыйшоў да фараона паведаміць, што ён скінуў Амона і ў горадзе зноў усталяваны парадак. Тады Эхнатон надзеў на яго каўнер галоўнага ваяводы і перадаў яму залаты бізун, які ўсё яшчэ пахнуў кошкамі Пэпітатона. На наступны дзень фараон хацеў наладзіць урачыстае шэсце па Алеі бараноў, каб адсвяткаваць перамогу Атона і прынесці ў храме святочныя ахвяры, а ўчары наладзіць у Залатым палацы святочны банкет са сваімі сябрамі. Харэмхеб расказаў яму пра мяне, і таму я таксама атрымаў запрашэнне, тым болей, што Харэмхеб,

расказваючы, як я адважна лячыў падчас беспарадкаў гарадскіх беднякоў і выціраў слёзы сіротам, вельмі перабольшыў мае заслугі.

Я апрануўся ў тонкі царскі лён і пайшоў за Харэмхебам. На караблі ён сказаў, памахваючы залатым бізуном:

— Пакуль не забыўся, хачу папярэдзіць, каб ты больш не ўмешваў маіх воінаў у свае справы з жанчынамі. У горадзе сярод высакародных мужчын расце абурэнне — яны сцвярджаюць, што мінулаю ноччу ты выкраў нейкую жанчыну з яе ўласнага дома. У яе шмат багатых каханкаў, і яны вішчаць, як марцовыя каты. Вось паскудства, гэты бізун так смярдзіць! Так-так, яны шукаюць сваю прыгажуню! Але мае воіны маўчаць. Таму раю: трымай яе дзе-небудзь далей і забаўляйся з ёй, колькі хочаш. А я не паверыў бы, што дзеля жанчыны ты здольны на такія дзёрзкія ўчынкі! Але вялікія рыбіны кладуць ікру ў глыбокіх вірах, так што мае воіны нездарма празвалі цябе Сынам дзікага асла.

У палацы я ўпершыню ўбачыў навамодныя жаночыя ўборы, пра якія так шмат было гаворкі ў горадзе, і магу смела сказаць, што, нягледзячы на сваю незвычайнасць, яны былі прыгожыя і не патрабавалі ад мужчын вялікай гульні ўяўлення. Я таксама заўважыў, што жанчыны пачалі фарбаваць веі ў малахітавы колер, а шчокі і вусны размалёўвалі цагляна-чырвоным колерам, і гэта рабіла іх падобнымі да старых малюнкаў. Але гэта ім было і патрэбна, бо, прасвяткаваўшы на вуліцах Фіваў цэлую ноч, яны ледзьве рухаліся, душачыся пазяханнем, а многія жанчыны былі яшчэ такія п'яныя, што падпіралі сцены.

Харэмхеб завёў мяне ў пакоі фараона, і я зноў убачыў Эхнатона. За той час, пакуль мяне не было, ён значна вырас і з юнака ператварыўся ў мужчыну, яго страсны твар стаў яшчэ бляднейшым, вочы падпухлі ад недасыпу. На ім не было ніякіх упрыгожанняў і аздобаў, ён быў апрануты ў простую белую вопратку з самага тонкага царскага ільну, якая не хавала некалькі жаночую бясформеннасць яго высокага кволага цела.

— Сінухе-лекар, Самотнік, я цябе памятаю,— сказаў ён, і я зразумеў, што гэта чалавек, якога можна або любіць, або ненавідзець, але застацца абыякавым, калі ў тваіх грудзях б'ецца чалавечае сэрца, немагчыма.— Я пакутую ад галаўнога болю, які начамі пазбаўляе мяне сну,— працягваў ён, мацаючы свой лоб.— Страшэнны боль пачынаецца, калі што-небудзь адбываецца супраць маёй волі, і лекары нічым не могуць мне дапамагчы. Яны могуць толькі крыху суцішыць боль, даючы рознае дурманнае зелле, але я не хачу яго піць, бо мае думкі павінны быць яснымі дзеля служэння майму богу. Дый лекары праклятага Амона мне ўжо ўстылі. Харэмхеб, Сын сокала, расказваў мне пра тваё майстэрства, Сінухе. Ты прызнаеш Атона?

Гэта было цяжкае пытанне, і я старанна абдумаў кожнае слова, перш чым адказаць фараону:



— Я прызнаю Атона, калі ён — нешта ўва мне, але і яшчэ нешта такое, што па-за межамі маіх ведаў, увогуле па-за межамі чалавечага пазнання, нешта вышэй за яго. Іначай я не магу ў яго верыць.

Фараонаў твар узбуджана ўспыхнуў, і ён сказаў:

— Ты кажаш пра Атона лепш за маіх вучняў, бо спазнаць яго чалавек можа толькі сэрцам, але не розумам. Толькі я адзін разумею яго розумам, бо я — яго сын, і ў сне я гляджу яму ў твар, хоць ён і не мае пэўнага вобліку. Няма іншага бога, апроч Атона, а багі, створаныя людзьмі,— несапраўдныя багі, гэта памылка перад яго аблічам. Усе багі — толькі цені побач вялікім Атонам, таму я і зрынуў праклятага бога, што яго цень засланяў святло сапраўднага бога ў чалавечых сэрцах. Сінухе, калі хочаш, я дам табе сімвал жыцця — крыж.

Я адказаў яму:

— Мінулаю ноччу я бачыў, як за твой крыж да смерці забілі камянямі параненага чалавека, і жанчыны скакалі вакол яго, услаўляючы імя Атона. І таксама я бачыў, як жанчыны, усхваляючы Атона, аддаваліся неграм.

Твар фараона стаў змрочны, зморшчыны праляглі па лбе, скулы пачырванелі і выступілі яшчэ болей, нібы падкрэсліваючы незвычайную хударлявасць твару. Скардзячыся на боль, ён дакрануўся да галавы, вочы ў яго затуманіліся, і ён крыкнуў:

— І ты, Сінухе, кажаш тое, што мне не падабаецца і ад чаго мая галава баліць яшчэ больш, чым раней!

— Але ж ты сцвярджаеш, што жывеш толькі праўдай, фараон Эхнатон,— адказаў я.— Вось я і кажу табе праўду, хоць добра ведаю, што твае прыдворныя і вернікі Атона, закручваюць праўду ў мяккія футры, каб абараніць цябе ад хваробы. А праўда — гэта аголены востры нож у руках чалавека, і ён можа павярнуцца супраць таго, хто яго трымае. Праўда паварочваецца да цябе самога, фараон, і гэта яна прыносіць табе пакуты — не я. А я магу лёгка цябе вылечыць, калі толькі ты закрыеш вушы для праўды.

Ён падышоў да мяне, моцна сціснуў маю руку і сказаў:

— Не-не, Сінухе. Эхнатон жыве толькі праўдай, у тым і ёсць яго жыццёвае прызначэнне. А калі егіпцянка ў імя Атона і павесяліцца з неграм, дык усе народы і колеры скуры маюць аднолькавую каштоўнасць у вачах Атона.

Харэмхеб плюнуў і расцёр нагой плявок, потым з агідай панюхаў свой бізун. Фараон пакрыўджана паглядзеў на яго, і я зразумеў, што Эхнатон няздольны жартаваць і смяяцца і што ён чалавек нешчаслівы і прыносіць няшчасце іншым. Тады я сказаў:

— Праўда не робіць чалавека шчаслівым. Нядаўна я ўскрыў чэрап адной старой кабеце, якая ўяўляла, што яна царыца Хатшэпсут, і была

шчаслівай. Потым, вылечыўшыся, яна ўбачыла сваю галечу і старасць, і такое выздараўленне наўрад ці дадало ёй шчасця.

Эхнатон спытаў:

— А мяне ты можаш вылечыць, ускрыўшы мне чэрап?

Я доўга думаў і ўрэшце адказаў:

— Ты ведаеш, фараон Эхнатон, што з тваёй свяшчэннай хваробай я знаёмы даўно: я бачыў твой прыпадак, калі ты быў яшчэ юнаком. Пасля ўскрыцця чэрапа ў адных прыпадкі знікаюць, у другіх аднаўляюцца. Гэта, мабыць, залежыць, ад чаго ўзнікла хвароба — ад знешняй раны ці ад прыроды. У апошнім выпадку хваробу нельга вылечыць простым ускрыццём чэрапа. Але твой галаўны боль паказвае, што ў цябе быў пашкоджаны чэрап, гэта я заўважаю і па тым, як час аж часу торгаюцца твае шчокі і рукі, калі ты гаворыш. Ускрыццё чэрапа, калі б які-небудзь лекар асмеліўся зрабіць яго, магло б палегчыць твае пакуты. Але ведай: калі ты вылечышся, ты назаўсёды страціш свае мроі і тое, што тваё сэрца лічыць ісцінай. Як лекар я не баюся сказаць, што твой бог Атон — спараджэнне тваёй хваробы, але як чалавек мушу прызнаць, што ад таго веліч тваёй ідэі зусім не змяншаецца.

Фараон паглядзеў на мяне з недаверам і спытаў:

— Ты сапраўды лічыш, што Атон пакіне маё сэрца, калі ты ўскрыеш мне чэрап?

— Я не збіраюся рабіць гэтага, Эхнатон,— паспешліва адказаў я.— Праявы тваёй хваробы не патрабуюць такой аперацыі, а кожны сумленны лекар зробіць яе, толькі калі таго будзе вымагаць выратаванне жыцця хвораму. Таму я не зраблю гэтага нават па тваім загадзе.

Харэмхеб умяшаўся ў размову і сказаў:

— Сінухе — сапраўдны майстар, і гэта такая самая праўда, як тое, што мой бізун дагэтуль смярдзіць кошкамі. Ты ж памятаеш, Эхнатон, што ён — вучань старога Птахора. Але ён яшчэ ўдасканаліў сваё майстэрства ў многіх краінах. Ты можаш спакойна даверыць яго рукам свой боскі чэрап. І можа, своечасовая аперацыя выратуе для Егіпта Сірыю і зямлю Куш і дапаможа пазбегнуць мноства смярцей, якія ўзыдуць на палетках тваіх вар'яцкіх учынкаў. Я не кажу гэта як лекар, бо нічога не разумею ў лекарскай справе, я не кажу гэта нават як салдат,— я кажу гэта як просты егіпцянін, які любіць Чорную зямлю і хоча бачыць вясёлых жанчын і сытых дзяцей, а не смерць, пошасць і голад.

Але фараон на яго не пакрыўдзіўся. Ён паглядзеў на нас з пэўнай шкадобай, бо ведаў, што яго праўда мацнейшая за ўсе нашыя, і, прасвятлеўшы тварам, сказаў:

— Стары Птахор памёр, і Дом Жыцця яшчэ нікога не прызначыў на яго месца. Я аддаю гэтую пасаду табе, Сінухе, і з дня Сірыуса ты можаш атрымліваць усе прыбыткі і выгоды, звязаныя з гэтай пасадай, а



ўсе падрабязнасці табе раскажуць у Доме Жыцця. Але лекары з Дома Жыцця больш не хочуць лячыць хваробы нажом, бо агонь праклятага звергнутага бога, якім яны ачышчалі свае абцугі і нажы, згас. Скажы, хіба агонь Атона не можа быць гэтак сама прыдатны дзеля ачышчэння лекарскіх прыладаў?

— Агонь — ён і ёсць агонь,— адказаў я.— Падарожнічаючы па многіх краінах, я браў агонь і з алтара Ваала, і з алтара Мардука, і ніводзін хворы не прыходзіў скардзіцца, што пасля такога лячэння ў яго загнаілася або запалілася рана. Але цяпер самы гнілы месяц года, і лекары, што вераць у праклятага Амона, могуць скарыстацца гэтым, каб напалохаць народ. Калі хочаш, я пайду ў Дом Жыцця і ўсё растлумачу тамтэйшым вучням, бо я просты лекар, і мае веды не паменшаюць, нават калі імя маё будзе выкрасленае са спісаў Дома Жыцця.

— Зрабі гэта,— узрадавана сказаў фараон і дакрануўся да майго пляча доўгімі пальцамі вузкай рукі, а мне здалося, што да майго пляча даткнуўся пякучы агонь, і я зразумеў, што буду любіць яго да самай смерці, якім бы вар'ятам ён ні быў.— Зрабі гэта,— паўтарыў ён,— і ўзнагарода мая будзе вялікая, і ты будзеш сядзець праваруч ад мяне.

Але я не хацеў ад яго ніякіх падарункаў, мне проста хацелася, каб да яго вярнуўся добры настрой, і я зразумеў, чаму ўсе, хто любяць яго, хаваюць ад яго праўду, хоць сам ён хацеў жыць толькі па праўдзе.

Потым Харэмхеб павёў мяне ў залу, дзе звычайна збіраліся госці і прыдворныя. Яны зайздросцілі адзін аднаму і змагаліся за лепшыя месцы за сталом, бо кожны хацеў сядзець бліжэй да фараона. Разам з Харэмхебам я апынуўся бліжэй за ўсіх ад царскай сям'і, мяне пасадзілі праваруч ад фараона, і тут я са здзіўленнем заўважыў, што жрэц Эйе таксама ўведзены ў царскую сям'ю. Але потым я ўспомніў, што пасля смерці маленькай царэўны з Мітанні, якая памерла неўзабаве пасля прыезду ў Егіпет, Боскай жонкаю фараона стала яго дачка Неферціці.

Забыўшыся на ежу і віно, я разглядаў стол, за якім фараон Эхнатон праменіўся сваёй незямною праўдай, і здзіўляўся таму, колькі страшных таямніцаў хаваецца за гладкімі лбамі тых, хто сядзеў за гэтым сталом. Царская маці Тэйе пастарэла і патаўсцела, і, мусіць, ад таго негрыцянскія рысы выразней праступілі на яе твары. І я падумаў, што перакананасць фараона ў тым, што ўсе народы і колеры скуры роўныя перад богам, бярэ пачатак з сэрца ягонай маці. Прынцэса Бэкетамон, па прыкладзе фараона змяніла сваё імя на Бэкетатон, яе твар быў прыгожы і размаляваны, як у статуі. Побач фараонам сядзела царыца Неферціці, і, паглядзеўшы на яе, я не здзівіўся, чаму менавіта яе фараон узвысіў і зрабіў сваёй Вялікаю жонкай. Яна ўжо нарадзіла фараону дзвюх дачок, але гэта ніяк не адбілася на яе фігуры, а пра хараство яе твару паэты складалі песні, ужываючы ўсе магчымыя параўнанні, так

што мне застаецца толькі сказаць, што на ёй не было ніводнай аздобы, але і без іх яна выглядала самай прыгожай і высакароднай жанчынай з усіх, якіх я калі-небудзь бачыў. Яе высокая і пругкая шыя зусім не згіналася пад вялікай каронай, якая толькі падкрэслівала яе беззаганную форму. Але яе вочы глядзелі жорстка, і толькі зрэдку па яе тонкіх вуснах прабягала слабая ўсмешка.

Фараон Эхнатон еў з залатой талеркі толькі малочную кашу, а на тронках лыжкі была па-майстэрску выразаная тонкая галоўка антылопы. Пасля кашы ён адламаў кавалачак хлеба, з'еў яго і запіў не віном, а чыстай вадой з залатой чашы. Тады яго твар прасвятлеў, стаў натхнёны і ясны, і ён гучна сказаў:

— Раскажыце ўсяму народу, што фараон Эхнатон жыве толькі праўдай і харчуецца вадою і хлебам, як самы бедны земляроб.

Потым ён пачаў усхваляць хлеб, блаславёны Атонам, зерне і ваду, на якіх ляжала блаславенне светлага бога. Тыя, хто хацеў заслужыць прыхільнасць фараона, таксама не захацелі есці смажаных галубоў, гусей па-фіванску і мядовага печыва, а задаволіліся вадой і хлебам, застаўшыся амаль галоднымі, хоць застолле цягнулася доўга і гасцям прапаноўвалі дванаццаць страваў з мяса, восем з печыва і рознае марожанае. Па іх спаленых сонцам тварах было відаць, што гэта прасталюдзіны, якіх фараон узвысіў і зрабіў сваімі дарадцамі ў розных дзяржаўных пытаннях. Я не сумняваўся, што яны людзі мудрыя і дасведчаныя, бо шмат у каго ў іх былі разумныя вочы і прыгожыя лбы, але пасцілі яны дарэмна, бо астатнія прыдворныя без усялякай сарамлівасці елі і пілі ўсё, што падавалася на стол, ад чаго толькі весялелі і рабіліся ўсё больш гаваркімі.

Пазней я даведаўся і сам бачыў, што фараон Эхнатон зусім не грэбаваў віном і, калі ўсё ішло, як ён хацеў, з ахвотай весяліў ім сэрца. Ён не грэбаваў і тлустымі гусямі, і мясам антылопы, але перад прыпадкам, калі хацеў ачысціцца, адчуваў да мяса агіду. У ежы ён быў не надта разборлівы — мусіць, таму, што страва не мела для яго такога значэння, як для іншых. Калі яго сэрца поўнілася пачуццямі, а думкі мільгалі ў галаве так хутка, што ён ледзь паспяваў дыктаваць іх пісарчукам, яму было ўсё адно, што есці і піць.

Я думаю, ён мог бы задаволіцца і ўбогай стравай земляроба, калі б апынуўся ў становішчы самага беднага са сваіх падданых. Падчас вячэрыны ён, устаўшы з трона, як гасцінны гаспадар, падышоў да гасцей. Ён размаўляў з імі, дакранаючыся да пляча, часам браў з іх талеркі птушыную нагу, якую-небудзь садавіну ці мядовае печыва і безуважна жаваў іх, напэўна, не ўсведамляючы нават, што робіць, бо прыкідвацца ён не ўмеў. Але тыя, хто задаволіўся толькі кашай і хлебам, непрыязна сачылі галоднымі вачыма за кожным кавалкам, які знікаў у хударлявым



горле фараона. Адчуўшы смагу падчас доўгіх размоваў, ён мог адпіць віна з чашы свайго суразмоўцы, што было знакам асаблівай прыхільнасці і таго, што госць можа забраць чашу сабе на ўспамін, каб потым паказваць сваім дзецям. Я таксама прынёс дадому такі падарунак — залатую чашу вагой у некалькі дэбенаў, яе сценкі звонку пакрывалі ўзоры ў выглядзе вінаградных гронак. Госці тым часам таксама ўсталі з-за стала і пачалі хадзіць па зале, гутарыць са знаёмымі і слухаць прыдворныя плёткі. Да мяне падышоў апрануты ў тонкі царскі лён невысокі шыракатвары чалавек, на шыі і прыцэўках у якога звінела золата. Толькі па цёмных вясёлых вачах я пазнаў Тутмеса і, ускрыкнуўшы ад радасці, устаў. каб абняць яго. Я расказаў, як шукаў яго ў «Сірыйскім гарлачы», але ён адказаў на гэта:

— Мне цяпер не да твару хадзіць па такіх паганых шынках, бо я ўжо не маю ні сілы, ні часу, нават каб выпіць тое, чым мяне частуюць у сваіх дамах мае сябры і заступнікі. Ён, Прасветлены, прызначыў мяне царскім каменярэзам, што ты можаш прачытаць на маім залатым ланцугу. Я намаляваў яму сонечны дыск Атона з рукамі ў выглядзе шматлікіх вясёлак, якія кожнаму працягваюць жыватворны крыж.

— А ці не ты высек з каменя статуі фараона на калонах вялікага храма Атона? — спытаў я. — Я такіх выяваў раней ніколі не бачыў.

Ён ухіліўся ад прамога адказу:

— На службе ў фараона шмат каменярэзаў, і мы працуем разам, ва ўсіх нас адзін закон — нашы вочы. Мы не высмейваем фараона, мы любім яго і хочам паказаць у сваіх творах яго сапраўдны дух. Вось так, мой дружа Сінухе, бачыш, як яно сталася: мы, тыя, хто цярпеў злосць і насмешкі ў часы панавання праклятага бога, цяпер сядзім у Залатым палацы, мы, якія наталялі смагу кіслым півам, цяпер п'ём віно з залатых чашаў. Мы захапляліся вольным мастацтвам Крыта, а цяпер таксама набылі свабоду. Ты яшчэ здзівішся, калі ўбачыш усё! Камень ажыў у нашых руках, хоць нам яшчэ шмат чаму трэба вучыцца.

— На тваёй вопратцы знак жыцця — крыж, — сказаў я яму.

Ён шырока ўсміхнуўся і адказаў:

— Дык што? Гэта азначае свабоду ад паганага бога, гэта знак жыцця ў святле і праўдзе.

— А што гэта яшчэ азначае — для цябе, які некалі жыў, зарабляючы малюнкамі для дзяцей багацеяў?

Успомніўшы сваю галечу, ён засмяяўся, узяў у рукі маю чашу і сказаў, уважліва яе разглядаючы:

— Я пазбягаю размоваў пра боскія справы, мне дастаткова і гэтага прыгожага жыцця, яго дзіўных фарбаў і формаў. У маіх руках жыццё падобнае да гарлача з віном, які ніколі не апусцее, а ў маіх вачах яно — як карціна, на якую я не магу наглядзецца ўдосталь. Не, Сінухе, я не

хачу гаварыць з табой пра боскія справы, бо яны кожны дзень мяняюцца ў залежнасці ад фараонавых відзежаў, і тое, што было ўчора правільным, сёння можа стаць памылковым. Ён адзін за адным зрывае покрывы, якія хаваюць праўду, але тых покрываў незлічонае мноства, і таму я не здзіўляюся. А вось ты, Сінухе, аказваецца, стаў занудам, калі за святочным сталом заводзіш гаворку пра Атона, бо нам і на цвярозую галаву хапае клопату, каб дасканала наследаваць яго вучэнню. Не, Сінухе, не будзем гаварыць пра боскія справы, давай лепш узрадуем нашыя сэрцы віном, бо Атон нясе радасць і дае сваім прыхільнікам залатыя чашы і высокія пасады. Пакінем клопат пра боскія справы фараону, ён у гэтым разумее лепей за ўсіх, хоць часам яму страшна баліць галава — як мне пасля змешанага віна.

Я вельмі ўзрадаваўся, сустрэўшы Тутмеса, і нават Харэмхеб пасвятлеў тварам, калі яго ўбачыў, хоць па чыне яму не пасавала адкрыта выказваць радасць. Тутмес уважліва прыглядзеўся да Харэмхеба і сказаў, што зробіць з каменя яго выяву, якую паставяць у храме Атона: папершае, Харэмхеб вызваліў з-пад ярма праклятага бога Фівы, а па-другое, яго твар і фігура — проста ўзор для мастака. Трэба толькі атрымаць у фараона золата і адпаведны камень на гэтую працу. Харэмхеб, вядома, быў вельмі задаволены прапановай — яго выяву ніхто яшчэ не рабіў. Але ён адказаў Тутмесу:

— Ты, мусіць, мяркуеш, што зробіш мне добрую паслугу, высекшы маю выяву дзеля вечнага жыцця? Але думаю, што маё імя збережэцца і так, дзякуючы маім здзяйсненням. Дый потым, я зусім не хацеў бы проста стаяць, як дурань, ды глядзець, як на алтар Атону прыносяць бяскроўныя ахвяры,— я воін і нічога ў гэтым не цямлю. Пастаў лепш маю статую ў храме Гора ў Хетнечуце, горадзе, дзе я нарадзіўся, бо з Горам Атон яшчэ не пасварыўся, а я з радасцю заткнуў бы ляпы тамтэйшым жыхарам, бо яны смяяліся з мяне і маёй дзіды, калі я быў малым хлопчыкам.

Сказаўшы гэта, ён раптам устаў і нізка пакланіўся, апусціўшы да калень рукі, і мы з Тутмесам зрабілі тое ж, бо да нас падышла царыца Неферціці. Яна загаварыла, паклаўшы на грудзі сваю тонкую руку. На пальцах у яе не было ніводнага пярсцёнка, а на прыцэўках ніводнай бранзалеткі, каб кожны бачыў, наколькі яе рука тонкая і прыгожая. Яна звярталася да мяне:

— Ячменнае зерне зноў зазелянела ў вадзе, якой абмытае маё цела, і маё сэрца поўніцца нецярпеннем, бо фараон чакае сына, спадкаемцу ягонай улады. Пакуль побач з ім не будзе моцнага спадкаемцы па крыві, яго ўлада не будзе моцнай, і праклятый бог будзе сцерагчы яго ў цемры, жадаючы захапіць трон. Я кажу гэта адкрыта, бо мы ўсе гэта добра ведаем. Ты, Сінухе, займаўся лекаваннем у розных краінах, і мне казалі, што, як лекар, ты творыш цуды. Скажы, ці народзіцца ў мяне сын?



Я глядзеў на яе вачыма лекара, імкнучыся забыцца на яе прыгажосць, якая вабіла да сябе ўсякага, хто да яе набліжаўся.

— Неферціці,— сказаў я,— не жадай дзеля сябе самой сына, бо ў цябе вузкія клубы: сын прычыніў бы табе большы боль, чым дачка, і нават мог бы стаць небяспекай тваймў жыццю.

Яна зірнула на мяне сваімі жорсткімі вачыма і нецярпліва сказала:

— Табе зусім неабавязкова казаць тое, што я сама ведаю. Лекары з Дома жыцця, што дапамагаюць родам, нават маім дочкам мусілі выцягнуць галовы яшчэ да родаў так, што яны сталі вузкія і даўгія, але дзяўчынкі нарадзіліся жывымі. Зрэшты, самі яны не адважыліся б гэта зрабіць, калі б Вялікая фараонава маці не запрасіла з зямлі Куш чарадзеяў, якія жывуць у саламяных хацінах і ведаюць гэты спосаб. Таму не хвалюйся за маё жыццё і за галаву майго сына, а скажы лепей, што трэба зрабіць, каб нарадзіць спадкаемцу трона.

Пачуўшы гэта, я зразумеў, што фараон Эхнатон стаіць па-над усімі забабонамі, а ўва мне ўмацавалася думка, што Вялікая фараонава маці мае частку негрыцянскай крыві, бо як інакш яна змагла б ведаць таямніцы негрыцянскіх плямёнаў? Як лекар і егіпцянін, я адчуваў непрыязь да такога спосабу родаў, але адказаў, старанна падбіраючы словы:

— Толькі Атон можа вызначыць пол дзіцяці ў чэраве маці, а чалавек тут бяссільны. Праўда, у некаторых краінах людзі вераць, што з дапамогаю амулетаў жанчына можа па сваім жаданні нарадзіць сына, хоць і там амулеты вельмі часта не дапамагаюць. Але ж ты нарадзіла ўжо дзвюх дачок, і вельмі верагодна, што цяпер нарэшце народзіш сына. Але пэўна сказаць не магу, бо не хачу, як іншыя ілжэлекары, абнадзейваць цябе дурным штукарствам, каб атрымаць болей золата.

Мае словы прыйшліся ёй не даспадобы. Яна ўжо не ўсміхалася і глядзела халодным і жорсткім позіркам. Потым яна сказала:

— Як ты ведаеш, мой муж Эхнатон нарадзіўся ад сонца. Ён нарадзіўся дзякуючы малітве Вялікай царыцы-маці ў Геліяполісе, і яго нараджэнне — боская таямніца. Ты ж не можаш адмаўляць гэтага?

Штосьці ў яе халодным, разважным абліччы раздражняла мяне, і асмялеўшы ад выпітага віна, я сказаў:

— Як для лекара для мяне не існуе боскіх таямніц, і я не хацеў бы, каб дзеля ўратавання егіпецкага народа ты ездзіла ў Геліяполіс, бо і ў тваім палацы ёсць такая самая сіла. Апроч таго, фараон Эхнатон хоча жыць праўдай. Калі б тваё чэрава год за годам заставалася бясплодным, я, можа, і не сказаў бы нічога, бо спадчынная пераемнасць ва ўладзе — рэч вельмі важная. Але ж ні ў цябе, ні ў фараона няма прыродных заганаў, і калі ты занясеш распусту і спакусу ў сваё сэрца, гэта табе не дапаможа, твае магчымасці ўсё адно застануцца ранейшымі.

Яна падняла руку да сваёй лебядзінай шыі, глыбока ўздыхнула і паглядзела на мяне так, нібы хацела забіць гэтым позіркам. Але яна стрымана адказала:

— Не ведаю, пра што ты кажаш, напэўна, ты ўкладаеш у свае словы нейкі таемны сэнс, каб пераканаць мяне, але гэта дарэмна, бо мне дастаткова твайго праўдзівага адказу. І я ўдзячная табе за яго.

Тутмес смела ўмяшаўся ў нашу размову і сказаў, гледзячы ёй у вочы:

— Неферціці, прыгажэйшая з прыгажэйшых, нараджай толькі дачок, каб яны перанялі тваю прыгажосць,— ад таго пабагацеў бы ўвесь свет. Маленькая Мэрытатон ужо прыгажуня, і прыдворныя паненкі і пані, зайздросцячы яе прыгажосці, з дапамогай прычосак імкнуцца надаць сваім галовам форму яе галавы. А тваю выяву я высеку з каменя, каб назаўсёды зберагчы тваю прыгажосць.

Я супакоіўся і здзівіўся яе чароўнай сіле, якая прымусіла мяне казаць неразумныя словы. Як лекар я параіў ёй, якую страву не трэба есці, і сказаў, каб яна грызла спелыя пшанічныя зярняты, бо гэта адзіны спосаб надаць сілу семю і ашукаць сілы прыроды, прымусіўшы іх схіліцца да мужчынскага зародку ў мацярынскім чэраве.

— Адзіная боская таямніца,— сказаў я,— заключаецца ў тым, што жанчына апладняецца мужчынскім семем. Усе лічаць гэта натуральным, але ніхто не можа растлумачыць, як гэта адбываецца.

Тады яна зноў усміхнулася мне, адпіла віна з маёй чашы і сказала:

— Я ўсяго толькі неразумная жанчына і маці, а ўсе маці прымхлівыя. Аберагай мяне ад маіх забабонаў, каб я нарадзіла здаровае дзіцяці — хай гэта будзе хлопчык або дзяўчынка.

Ад яе вуснаў на беразе маёй чашы застаўся чырвоны след, і ўвечары я паказаў яе Мэрыт. Я меў падвойную падставу ганарыцца: з гэтай чашы піў фараон, а потым яго Вялікая жонка Неферціці, пра сведчыў след ад яе вуснаў. Я вырашыў захаваць гэты адбітак —я нічога не мог з сабою зрабіць, бо гэтая жанчына, нягледзячы на халодныя і жорсткія вочы, нараджала нязбыўныя мары. Але Мэрыт паставілася да чашы з пагардай і не дазволіла мне пагладзіць свае шчокі, сказаўшы, што я ап'янеў у Залатым палацы. На ёй быў новы летні ўбор, і я прапанаваў заўтра ўзяць яе з сабой паглядзець на ўрачысты выезд фараона па Алеі бараноў. Яна была такая прыгожая, што мне ніколі не даволося б яе саромецца, хоць яна і нарадзілася ў шынку.

## 5

Стан чалавечага духу прадказаць немагчыма, і вялікая праўда фараона так асляпіла мяне, што я нават не прадчуваў нічога дрэннага, хоць у паветры дагэтуль лунаў пах пажарышчаў, а з ракі цягнула смуродам паўзгнілых цел прыхільнікаў Амона. Алея бараноў была ўпрыгожаная стракатымі сцяжкамі, яе напаўняў вялізны натоўп, хлапчукі, што хацелі пабачыць фараона, узлезлі на дрэвы, а Пэпітатон паставіў усцяж Алеі незлічоную колькасць кашоў з кветкамі, каб народ, як заведзена, мог кідаць кветкі на дарогу, па якой неслі насілкі з фараонам. Настрой у мяне быў лёгкі, і мроіва прадчування свабоды і шчаслівай будучыні Егіпта ахутвала мяне. Учора я быў прызначаны царскім трэпанатарам і прынёс з палаца падораную фараонам залатую чашу. Побач са мною стаяла прыгожая сталая жанчына, якая была маёй сяброўкай і трымала мяне пад руку, а вакол нас на месцах для абраных стаялі вясёлыя людзі, якія смяяліся і жартавалі. Простага люду я нават не бачыў. Было незвычайна ціха, так ціха, што з вяршыні вялікага храма да Алеі бараноў далятала крумкачынае карканне: падлажэры ўжо ўгняздзіліся ў Фівах і, атлусцеўшы, проста не маглі паляцець назад у горы.

Напэўна, тое, што насілкі фараона суправаджалі размаляваныя паласамі негры, было памылкай — толькі адзін іх выгляд ужо распаліў нянавісць народа. У натоўпе не было ніводнага чалавека, які не пацярпеў бы ад неграў за апошнія дні. У многіх згарэлі дамы, у жанчын яшчэ не высахлі слёзы, а ў мужчын пад павязкамі балелі раны, і іх разбітыя вусны не маглі ўсміхацца. Фараона неслі на насілках высока над галовамі натоўпу. На яго галаве была падвойная карона Верхняга і Ніжняга Егіпта, упрыгожаная лілеямі і папірусам, рукі са знакамі царскай улады — жазлом і бізуном — былі скрыжаваныя на грудзях. Ён сядзеў нерухома, як і належыць богу, як спрадвеку сядзелі фараоны, з'яўляючыся перад народам, і жудасная цішыня панавала вакол, нібы людзі знямелі ад аднаго толькі ад выгляду ўладара. Нарэшце воіны, што ахоўвалі Алею бараноў, узнялі дзіды і пракрычалі фараону сваё прывітанне, якое адразу падхапілі прыдворныя і пачалі кідаць на дарогу перад насілкамі кветкі. Але на фоне трывожнага маўчання простага люду гэтыя крыкі прагучалі слаба і нават жаласна, як зык самотнага камара зімняй ноччу. Хутка прывітанні ўвогуле сціхлі, і прыдворныя пачалі разгублена пераглядацца паміж сабой.

Тады фараон насуперак усім звычаям паварушыўся і натхнёна ўзняў бізун і жазло, вітаючы свой народ. Натоўп таксама зварухнуўся, і страшэнны крык, падобны да грукату хваляў, вырваўся з вуснаў народа. Людзі крычалі:

— Амон! Амон! Вярні нам Амона — уладара ўсіх багоў!

Крык мацнеў і ўздымаўся, крумкачы і падлажэры ўзляцелі з муроў і закружылі над насілкамі, лопаючы чорнымі крыламі. А людзі крычалі:

— Далоў ілжэфараона! Далоў!

Гэтыя крыкі напалохалі насільшчыкаў, насілкі спынілі свой рух, а калі знерваваныя начальнікі пагналі іх далей, народ лёгка прарваў ланцуг ахоўнікаў, змёў са свайго шляху нешматлікіх воінаў, і натоўп за-

поўніў праход перад насілкамі. Усё гэта адбылося вельмі хутка, воіны схапіліся за палкі, каб пракласці насілкам дарогу, але ўжо праз імгненне, ратуючы і сваё жыццё, мусілі пусціць у ход нажы і дзіды, бо ў натоўпе таксама замільгалі камяні і дубінкі, і разам са злоснымі крыкамі пачуліся перадсмяротныя хрыпы. У Алеі бараноў зноў пралілася кроў. Але ў бок фараона не паляцеў ніводзін камень, бо, як і ўсе папярэднія фараоны, ён быў народжаны сонцам, яго асоба была свяшчэннай і недатыкальнай, і нікому ў натоўпе, нягледзячы на ўсю нянавісць, нават у страшным сне не прыйшло б у галаву да яго дакрануцца. Думаю, нават жрацы не асмеліліся б падняць руку на свяшчэнную асобу ненавіснага фараона, бо такога ніколі не здаралася. Таму фараон мог бесперашкодна назіраць за ўсім, што адбывалася з вышыні свайго трона, пастаўленага на насілкі. Забыўшыся на сваю царскую і боскую годнасць, ён устаў і закрычаў, імкнучыся стрымаць воінаў, але сярод жахлівага шуму і ляманту яго ніхто не пачуў.

Народ шпурляў у воінаў камяні, біў іх палкамі, а воіны абараняліся дзідамі і многіх забілі, але людзі бесперапынна крычалі:

— Амон! Амон! Вярні нам Амона!

І яшчэ яны крычалі:

— Прэч! Прэч ілжэфараон, табе няма чаго рабіць у Фівах!

Камяні ляцелі і ў высакародных, людзі прабіваліся ўсё бліжэй, і прыдворным давялося кінуцца наўцёкі.

Тады Харэмхеб загадаў трубіць у трубы, і раптам з суседніх вуліц выехалі калясніцы, якія былі там прыхаваныя, чакаючы свайго часу. Харэмхеб распарадзіўся зняць з калясніцаў мячы, каб нікога не параніць, але, хоць вазніцы вялі коней павольна, шмат людзей трапіла пад капыты і пад колы. У строгім парадку калясніцы атачылі фараонавы насілкі і рушылі далей, ахоўваючы царскую сям'ю і прыдворных. Аднак натоўп не разыходзіўся, пакуль чаўны фараона не пераплылі на другі бераг. Тады ўсіх ахапіла радасць, і пераможныя крыкі гучалі яшчэ страшней, чым крыкі нянавісці, а потым паявіліся злодзеі, якія пачалі ўрывацца ў дамы багатых і рабаваць усё запар. Толькі пасля таго, як воіны дзідамі навялі парадак, народ разышоўся, і з наступленнем вечара крумкачы зляцеліся дзяўбаць трупы на бруку Алеі бараноў.

Так фараон Эхнатон упершыню ўбачыў ашалелы народ і кроў, якая лілася па віне яго бога. І гэтай карціны ён не здолеў забыць ніколі, штосьці зламалася ў ім, і нянавісць уліла атруту ў яго любоў. Яго ахапіла ліхаманка. Ён загадаў адпраўляць на руднікі кожнага, хто ўголас назаве імя Амона ці патаемна будзе зберагаць яго ў надпісах, малюнках ці на посудзе. А паколькі людзі не хацелі выдаваць адно аднаго, то ў сведкі пачалі браць рабоў і злачынцаў. І цяпер ніхто ўжо не мог уратавацца ад ілжывых сведкаў. І шмат добрых і сумленных людзей сталі



рабамі на каменяломнях і ў рудніках, а драпежныя сквапныя нягоднікі атрымлівалі іх майстэрні і крамы ў імя Атона. Але расказваючы гэта, я забягаю наперад, бо хачу, каб было зразумела, чаму так адбылося. А тою ноччу мяне тэрмінова выклікалі ў Залаты палац, бо ў фараона пачаўся прыпадак, і прыдворныя лекары, баючыся за яго жыццё, хацелі падзяліць са мной адказнасць. На працягу многіх мер вадзянога часу фараон ляжаў непрытомны, нагадваючы мерцвяка, яго члены схаладзелі і ў жылах не адчувалася крывацёку. Пра тое, што ён жывы, сведчыла толькі кроў, што цякла з роту, бо ён пакусаў сабе язык і вусны. Апрытомнеўшы, Эхнатон прагнаў усіх лекараў і пакінуў толькі мяне. Калі мы засталіся адны, ён сказаў:

— Збяры весляроў, і хай усе мае сябры пойдуць за мною. Я адпраўляюся туды, куды мяне клічуць мае мроі і відзежы, і я не спынюся, пакуль не знайду зямлі, якая не належыць ніякаму богу і ніводнаму чалавеку. Гэтую зямлю я прысвячу Атону і пабудую на ёй свой горад, а ў Фівы я ніколі больш не вярнуся.

І яшчэ ён сказаў:

— Паводзіны насельніцтва Фіваў мне агідныя болей за ўсё, што адбывалася да гэтай пары. Нічога болей мярзотнага й брыдкага не даводзілася перажываць маім продкам нават ад чужых народаў. Таму маёй нагі больш не будзе ў Фівах! Хай гэты горад пагрузне ў сваёй цемры.

Яго парыў быў такі моцны і нецярплівы, што ён дазволіў аднесці сябе на карабель яшчэ хворым, і ніхто — ні я, лекар, ні яго дарадцы не змаглі адгаварыць яго ад гэтай задумы. Але Харэмхеб сказаў:

— Так лепш, бо атрымаецца, што народ Фіваў дабіўся свайго, а Эхнатон — свайго, усе задаволяцца, і ў краіну вернецца мір і спакой.

Эхнатон быў такі разгублены і яго вочы так бегалі, што я падпарадкаваўся яго рашэнню, тым больш што, як лекар, я думаў, што яму будзе лепш змяніць месца, пабачыць новыя землі, сустрэць новых людзей, якія не адчувалі б да яго нянавісці. Такім чынам мне давялося выправіцца следам за фараонам у падарожжа ўніз па рацэ. Яго нецярпенне было такое вялікае, што ён не захацеў нават чакаць усю царскую сям'ю. Каб па дарозе з ім не здарылася нічога дрэннага, Харэмхеб загадаў, каб нас суправаджаў ваенны карабель.

Карабель фараона плыў уніз па рацэ. Фівы засталіся ззаду, зніклі за даляглядам гарадскія муры, дахі храмаў і залатыя спічакі абеліскаў, расталі ўдалечыні вершаліны трох гор, адвечных ахоўнікаў вялікага горада. Але памяць пра Фівы не знікла, яна плыла за намі шмат дзён па рацэ, поўнай тоўстых кракадзілаў, што рыскалі ў смярдзючай ад гнілых трупаў вадзе. Сто разоў па сто разбухлых мёртвых целаў гайдаліся на хвалях, і не было ўздоўж ракі ніводнай водмелі ці чаротавых зарасцяў, дзе не было б трупаў, якія зачапіліся валасамі ці вопраткай, якія загі-

нулі праз новага бога фараона Эхнатона. Але сам фараон пра тое не ведаў, ён ляжаў у царскім памяшканні на мяккіх посцілках, і слугі ўціралі яму духмяны алей і палілі вакол вохныя палачкі, каб ён не пачуў, як смярдзіць яго бог.

Але на дзесяты дзень нашага падарожжа рака ачысцілася, і фараон падняўся на нос карабля, каб агледзець наваколле. Па берагах летнія палеткі жаўцелі ўраджаем, земляробы пачалі ўжо яго збіраць, вечарамі на вадапой прыганялі скаціну, і пастухі гралі на двайных чаротавых жалейках. Убачыўшы фараонаў карабель, людзі апраналіся ў белае і збягаліся з усіх вёсак на бераг, яны віталі фараона крыкамі і махалі пальмавымі галінкамі. Лепей за ўсякія лекі на здароўе фараона дзейнічаў выгляд задаволенага народу, і часам ён загадваў прыстаць да берага, сыходзіў з карабля, размаўляў з людзьмі і, дакранаючыся да іх, блаславіў жанчын і дзяцей, якія потым ніколі не маглі забыць гэтага. Да яго баязліва падыходзілі авечкі, абнюхвалі яго і жавалі падол яго плашча, а ён смяяўся шчаслівым смехам.

У начной цемры ён стаяў на носе карабля, глядзеў на яркія зоркі і казаў мне:

— Я аддам усе землі праклятага бога тым, хто задавальняецца малым і працуе сваімі рукамі, каб яны былі шчаслівыя і ўслаўлялі імя Атона. Я раздам ім усе землі, бо маё сэрца радуецца, гледзячы на сытых дзяцей і вясёлых жанчын і мужчын, якія працуюць у імя Атона. Ніхто з іх не ведае ні злосці, ні страху.

І яшчэ ён сказаў:

— У сэрцы чалавека пануе цемра, але калі б я сам не ўбачыў гэтага на свае вочы, я ніколі не змог бы паверыць. Бо ўва мне гарыць святло майго бога, і я не ўспрымаю цемру, яно гарыць ува мне так ярка, што я забываю пра ўсе злыя і грэшныя сэрцы. Напэўна, ёсць шмат людзей, якія бачаць Атона і адчуваюць яго любоў, але не могуць зразумець яго, бо ўсё жыццё пражылі ў цемры, і іх вочы ўжо не ўспрымаюць святла. Гледзячы на святло, яны яго лічаць злом, бо яно слепіць ім вочы. Таму я пакідаю іх у спакоі і не буду ім замінаць, калі яны самі не будуць замінаць мне. Але жыць з імі я не хачу. Я збяру вакол сябе тых, хто мяне любіць і буду жыць з імі. Я не хачу больш адчуваць гэтага страшнага галаўнога болю, які ўзнікае кожны раз, калі я бачу тое, што засмучае мяне і жахае Атона.

Не адводзячы позірку ад зорак, ён сказаў:

— Ноч — гэта для мяне жах, я не люблю цемры і баюся яе, я не люблю зорак, бо пад зорным святлом выходзяць са сваіх нораў шакалы і львы пакідаюць свае логавішчы, прагнучы крыві. Вось і Фівы для мяне — цёмная ноч, і таму я пакідаю гэты горад, а з ім — усё старое і хлуслівае. Я хачу скіраваць свае надзеі на ўсё маладое і новае, на дзяцей, бо толькі з маладых і дзяцей у свет прыходзіць вясна. Засвоіўшы з дзяцінства вучэнне Атона, яны ачысцяцца ад зла і ачысцяць свет. Дзеля гэтага ўсе школы павінны быць абноўленыя, старых настаўнікаў трэба прагнаць і напісаць дзецям новыя тэксты. А каб іх лягчэй было чытаць і пісаць, я хачу скласці прасцейшае пісьмо ў параўнанні з ранейшым, — каб разбіраць напісанае, больш не спатрэбіцца ведаць адмысловыя малюнкі, гэтаму пісьму будзе прасцей навучыцца, і тады знікне патрэба ў шматлікіх пісарчуках, знікне розніца паміж грамацеямі і простым народам. Кожны навучыцца пісаць, і ў кожнай самай маленькай вёсачцы будзе свой знаўца, які зможа прачытаць тое, што я напісаў, сялянам. А я збіраюся ім пісаць шмат і часта пра ўсё, што ім належыць ведаць.



Яго словы спалохалі мяне, бо я ўжо ведаў пра новае пісьмо фараона, але яно не было свяшчэнным, у ім не было прыгажосці і былога багацця, якое прысутнічала ў ранейшым. Гэтым пісьмом грэбаваў кожны пісар, які паважаў сябе і сваё майстэрства. Таму я сказаў:

— Народнае пісьмо грубае і непрыгожае, гэта не свяшчэннае пісьмо. І што будзе з Егіптам, калі кожны навучыцца пісаць, — такога раней не было ніколі! Тады ніхто не захоча працаваць рукамі, зямля застанецца неапрацаванай, і не будзе народу радасці ад ведання пісьменства, калі ён будзе паміраць з голаду.

Але мне не варта было казаць гэтага, бо ён вельмі раззлаваўся і крыкнуў:

— Вось як блізка ад мяне цемра! Яна стаіць побач са мною, калі ты, Сінухе, стаіш паблізу! Ты толькі сумняваешся і шукаеш перашкоды на маім шляху, а ўва мне праўда гарыць зыркім полымем, і мае вочы бачаць усе перашкоды, як у чыстай вадзе. Я бачу свет, які прыйдзе за мною. У тым свеце не будзе ні злосці, ні страху, а людзі па-брацку падзеляць працу паміж сабою, і хлеб падзеляць, як браты, і не будзе больш ні багатых, ні бедных, а будуць роўнымі ўсе, і ўсе навучацца пісаць і чытаць і прачытаюць тое, што я ім напішу. І ніхто больш не скажа другому: «паганы сірыец» ці «брыдкі негр», кожны будзе кожнаму братам, і не будзе больш войнаў. Усё гэта бачаць мае вочы, і радасць ува мне закіпае з такою сілай, што маё сэрца, здаецца, зараз разарвецца на часткі.

Пачуўшы гэта, я зразумеў, што ён вар'ят, я паклаў яго на канапу і даў яму супакаяльнага зелля. Але яго словы калолі і раз'ядалі мне сэрца. Нешта ўва мне было гатова зразумець і ўспрыняць іх. Я бачыў шмат народаў, і ўсе яны па сваёй сутнасці былі аднолькавыя, я бачыў шмат гарадоў, і ўсе гарады па сваёй сутнасці таксама былі аднолькавыя. Апроч таго, як лекар я не павінен быў адрозніваць багатых ад бедных, егіпцян ад сірыйцаў, я мусіў дапамагаць кожнаму. Таму я сказаў свайму сэрцу:

«Ён зусім страціў розум, гэта бясспрэчна, ён страціў розум ад сваёй хваробы, але яго вар'яцтва настолькі прывабнае, што я жадаю, каб яго відзежы спраўдзіліся. І хоць мой розум падказвае, што такі свет можа быць створаны хіба толькі ў Краіне Захаду, маё сэрца крычыць, гаворачы, што яго праўда мацнейшая за ўсе, выказаныя да яго, і нават пасля яго не будзе праўды вышэйшай. Разам з тым мне вядома, што кроў і руіны ідуць па яго слядах і ён пагубіць вялікую дзяржаву, калі пражыве доўга».

Я глядзеў на зіхоткія зоркі ў цемры і думаў: «Я, Сінухе, чужынец ва ўсім свеце, і мне невядома нават, хто нарадзіў мяне. Толькі маё жаданне зрабіла мяне лекарам беднякоў у Фівах, і золата не шмат чаго для мяне значыць, хоць тлустую гуску я ем з большым задавальненнем, чым сухі хлеб, і віно п'ю з большым задавальненнем, чым ваду. Але нішто з гэтага я не цаню так, каб не мог ад яго адмовіцца. Мне няма чаго губляць, апроч свайго жыцця, дык чаму б мне не падтрымаць яго, такога слабага, чаму б не стаць без вагання побач з ім і дапамагаць яму, бо ён фараон, у руках якога знаходзіцца ўлада, а Егіпет — самая багатая і ўрадлівая зямля на свеце. Можа, яна і здолее вытрываць гэтыя фараонавы доследы. Калі б яны спраўдзіліся, свет абнавіўся б, пачалася б новая эра, людзі б сталі братамі і не было б больш багатых і бедных. Людзям ніколі яшчэ не надараўся выпадак ажыццявіць гэтую праўду, а ён народжаны фараонам — і такое наўрад ці паўторыцца. Гэта ўвогуле, можа, адзіны выпадак, калі такая праўда здольная перамагчы».

Так я мроіў з шырока расплюшчанымі вачыма. Паток ціха гайдаў царскі карабель, начны ветрык даносіў да мяне з берага пах спелага збожжа на таках. Але той жа начны ветрык астудзіў маё цела, мроя знікла, і я сумна сказаў свайму сэрцу:

— Хай бы Каптах быў тут і пачуў фараонавы словы. Я спрактыкаваны лекар і ўмею лячыць шмат хваробаў, але ўбогасць гэтага свету такая вялікая, што ўсе лекары разам, нягледзячы на сваё майстэрства, не змаглі б яе вылечыць. А ёсць хваробы, ад якіх пазбавіць не змогуць і самыя вялікія майстры лекавання. Так і фараон Эхнатон, як лекар чалавечых сэрцаў, не можа паспець адзін усюды. А калі ў яго будуць лекары-паслядоўнікі, дык яны і напалову не зразумеюць ягоных словаў, яны расталкуюць яго ідэі кожны па сваім разуменні, дый ён проста не паспее за сваё жыццё вырасціць і выхаваць столькі лекараў чалавечых сэрцаў, каб яны паспелі ўсюды. Апроч таго, ёсць чалавечыя сэрцы, якія напоўніліся чорнаю лютасцю так, што нават ягоная праўда не зможа іх вылечыць. Каптах, мусіць, сказаў бы: «Хай і настане такая пара, калі не будзе багатых і бедных, ды ўсё адно застануцца разумныя і дурныя, хітрыя і прастадушныя. Так было і так будзе заўсёды. Моцны ставіць нагу на шыю слабога, хітры крадзе кашэль у дурнога і прымушае прасцяка працаваць замест і на сябе, бо чалавек — драпежная жывёла, і нават яго дабрыня не бязмежная. Толькі чалавек, які спіць вечным сном і ўжо не ўстане ніколі,— толькі ён цалкам добры. Ты бачыш, да чаго прывяла дабрыня фараона. Пэўна можна сказаць, што больш за ўсіх яе бласлаўляюць хіба толькі кракадзілы ды крумкачы».



Я размаўляў са сваім сэрцам, і маё сэрца было ў разгубленасці, пакуль на пятнаццаты дзень падарожжа не паказалася зямля, якая не належала нікому з высакародных і багоў. Горы ўдалечыні былі сінімі і залаціста-карычневымі, зямля не была засеяная, і толькі некалькі пастухоў, што жылі непадалёк у трысняговых хацінках, пасвілі тут свае статкі. Тады фараон сышоў з карабля, каб прысвяціць гэтую зямлю Атону і пабудаваць тут новую сталіцу, якую назваў Ахетатонам, Паднябесным горадам.

Неўзабаве сюды адзін за адным пачалі прыходзіць караблі. Фараон збіраў майстроў-будаўнікоў і архітэктараў. Ён паказваў ім кірункі галоўных вуліц, месца Залатога палаца і храма Атона, а прыдворным кожнаму паказваў месца іх дома на галоўнай вуліцы. Будаўнікі прагналі пастухоў з іх авечкамі, разбурылі іх трысняговыя хаціны і пабудавалі прычалы. Потым фараон Эхнатон паказаў ім месца, дзе меркавалася ўзвесці яго царскі комплекс, які мусіў размяшчацца за мурамі сталіцы. Будаўнікі атрымалі права першымі пабудаваць сабе дамы — па пяць на паўднёвай і паўночнай вуліцах і па пяць на ўсходняй і заходняй. Усе дамы будаваліся аднолькавай вышыні, ва ўсіх было па два аднолькавыя пакоі, у якіх на аднолькавым месцы размяшчаўся агмень, былі аднолькавыя дываны і посуд, бо фараон хацеў, каб усе былі роўныя і шчасліва жылі ў новым горадзе ля новай сталіцы, услаўляючы імя новага бога.

Але ці славілі яны Атона? Не, у сваім цемрашальстве яны горка праклінаЛі і новага бога, і фараона, які перасяліў іх сюды, у гэтую пустэльню, дзе няма ні вуліц, ні шынкоў, а толькі пясок ды спаленая сонцам трава. Ніводная жанчына не была задаволеная сваім агменем, і нягледзячы на забарону, яны ўсе хацелі распальваць агонь у двары і ўвесь час перастаўлялі посуд і перасоўвалі дываны так, як было ім зручней, а не так, як было загадана. Тыя, у каго было шмат дзяцей зайздросцілі бяздзетным, у якіх у хаце было болей месца. Тыя, хто прывык у доме да землянога долу, усяляк ганілі гліняны, кажучы, што ён шкодзіць здароўю з прычыны заўсёднага пылу, а тыя, што прывыклі да долу глінянага, казалі, што тут, у Ахетатоне, гліна зусім не такая, як у іншых месцах, а нейкая праклятая, бо дол кожны раз пасля мыцця трэскаецца.

Апроч таго, яны хацелі садзіць агародніну на вуліцы перад домам, як рабілі ўсё жыццё, і былі незадаволеныя агародамі, якія ім адвялі па загадзе фараона непадалёк ад горада. Яны скардзіліся, што ім не хапае вады і што яны не могуць цягаць так далёка свае спаражненні. Яны

націягвалі ўпоперак вуліцы чаратовыя вяроўкі і вешалі на іх бялізну, яны трымалі коз у пакоях, нягледзячы на тое, што фараон, аберагаючы іх здароўе і здароўе іхніх дзяцей, строга гэта забараніў. І я ніколі не бачыў такога незадаволенага і пагрузлага ў сварках горада, як горад будаўнікоў Ахетатона падчас узвядзення новай сталіцы. Але павінен сказаць, што з цягам часу яны звыкліся з нязручнасцямі і перасталі лаяць фараона, толькі зрэдку ўздыхаючы па сваіх старых хатах, але напраўду ніхто не хацеў бы ўжо ў іх вяртацца. А вось коз у пакоях жанчыны ўсё-ткі трымалі, і нават сам фараон не змог перашкодзіць гэтаму. Так прайшло разводдзе і наступіла зіма, але фараон не вярнуўся ў Фівы і па-ранейшаму ўпарта жыў на караблі, кіруючы з яго усёй дзяржавай. Ён радаваўся кожнаму пакладзенаму каменю, кожнай узнятай калоне і часта смяяўся, гледзячы, як усцяж вуліцы растуць новыя лёгкія драўляны дамы, але ўжо адна думка пра Фівы атручвала яму настрой. Ён уклаў у Ахетатон усё золата, якое адабраў у Амона, а землі Амона раздаў беднякам, якія хацелі іх апрацоўваць. Ён загадаў спыняць усе караблі, якія ішлі ўверх па рацэ, скупляць усе тавары і выгружаць іх у Ахетатоне, чым выклікаў вялікае засмучэнне ў Фівах, ён прыспешваў будаўніцтва так, што цэны на драўніну і камень імкліва ўзраслі. Апроч будаўнікоў, у Ахетатон прыехала і шмат іншых працаўнікоў, якія жылі пакуль у зямлянках ці трысняговых хацінах каля ракі. Яны выраблялі цэглу, мясілі гліну, выроўнівалі вуліцы і капалі арашальныя каналы, а ў фараонавым парку выкапалі свяшчэннае возера Атона. Кусты і дрэвы таксама прывозілі на караблях з вярхоўяў Ніла і садзілі ў Паднябесным горадзе пасля разліву, пладовыя дрэвы прывозілі і садзілі ўжо дарослымі, так што наступным годам яны пачалі прыносіць плады, і фараон з захапленнем збіраў фінікі, смоквы і гранаты, якія ўпершыню паспелі ў яго сталіцы.

Хоць фараону стала лепш, і ён цяпер радаваўся, гледзячы, як уздымаецца ў квецені яго вясёлы, лёгкі, упрыгожаны стракатымі калонамі горад, але працы ў мяне не паменела. Сярод будаўнікоў лютавалі хваробы, асабліва пакуль да горада не падвялі каналы з чыстай вадою. Дый на будоўлі ў спешцы нярэдка здараліся няшчасныя выпадкі. Да таго, як пабудавалі сапраўдную прыстань, насільшчыкам даводзілася пераносіць грузы з караблёў па вадзе, і ім вельмі перашкаджалі кракадзілы. Крыкі бедалагаў немагчыма было слухаць без жалю, бо няма на свеце больш жахлівай карціны, чым чалавек, які б'ецца ў сутаргах, напалову заглынуты кракадзілам, пакуль той не знікае ў цёмнай глыбіні разам са сваёю здабычай. Але фараон быў так перапоўнены сваёй праўдай, што проста не заўважаў усяго гэтага, і маракам даводзілася самім аплачваць паляўнічым, якія лавілі кракадзілаў і паступова ачысцілі ад іх раку.

Пасля разліву, калі вада спала, у Ахетатон разам з прыдворнымі пры-



ехаў Харэмхеб. Але ён прыехаў не дзеля таго, каб застацца тут жыць, а каб прымусіць фараона адмовіцца ад свайго рашэння распусціць войска. Фараон загадаў Харэмхебу адпусціць са службы сарданаў і неграў, але Харэмхеб марудзіў, бо меў падставы чакаць бунту ў Сірыі, і нават пачаў перасоўваць туды войскі. Пасля беспарадкаў у Фівах сарданаў і неграў у Егіпце так ненавідзелі, што кожны, убачыўшы іх, пляваўся і грэбліва расціраў плявок нагой.

Але фараон быў непахісны ў сваім рашэнні, і Харэмхеб толькі змарнаваў у Ахетатоне час. Іх размовы былі кожны дзень аднолькавыя. Харэмхеб казаў:

— Сірыя ахопленая хваляваннямі, а нашы гарнізоны там даволі слабыя. Можа, Азіру сам распаляе злосць супраць Егіпта. Я не сумняваюся, што ў зручны момант ён падыме бунт.

Фараон Эхнатон адказваў:

— Ты ўжо бачыў дол у маім палацы? Мастакі малююць на ім чараты і качак, як гэта робяць на Крыце! А наконт Сірыі, я не веру, што там успыхне бунт, — я паслаў усім сірыйскім уладарам жыватворны крыж. А цар Азіру наогул мой сябар! Ён не толькі прыняў крыж, ён яшчэ і збудаваў у Амарэі храм Атона. Дарэчы, ты хадзіў паглядзець каланаду Атона каля майго палаца? Яна таго вартая, хоць шкада, што дзеля хуткасці яе будуюць з цэглы, а не з каменя. А што да Азіру, дык ты дарэмна сумняваешся ў яго вернасці, — я атрымаў ад яго шмат гліняных таблічак, у якіх ён праяўляе вялікі інтарэс да Атона. Калі хочаш, мае пісары могуць табе іх паказаць.

Харэмхеб казаў:

— Пляваць я хацеў на яго таблічкі, бо яны такія ж паскудныя і фальшывыя, як ён сам. А калі ты ўсур'ёз хочаш распусціць войска, дык дазволь мне ўмацаваць хоць памежныя гарнізоны, бо паўднёвыя плямёны ўжо цяпер гоняць свае статкі на нашы землі ў краіне Куш. Яны не глядзяць на памежныя камяні і спальваюць вёскі нашых чорных саюзнікаў. Зрэшты, спаліць іх няцяжка, бо яны зробленыя з трыснягу і саломы.

Эхнатон адказваў:

— Я не магу даць веры, што яны робяць гэта ад злосці. На нашы землі іх гоніць галеча. Хай лепш нашы хаўруснікі падзеляцца сваімі пашамі з паўднёвымі плямёнамі, а я пашлю і ім жыватворны крыж. Я не веру, што яны знарок паляць вёскі. Ты сам кажаш, што саламяныя хаціны загараюцца лёгка, дык не варта з прычыны некалькіх пажараў асуджаць цэлыя плямёны. А калі хочаш умацаваць у землі Куш і ў Сірыі памежныя гарнізоны, дык так і зрабі, бо гэта і ёсць твая справа — клапаціцца пра бяспеку краіны.

Харэмхеб казаў:

— Мой неразумны сябра Эхнатон, ты павінен дазволіць мне паставіць ахоўныя гарнізоны па ўсёй краіне, бо адпушчаныя са службы воіны дайшлі да галечы, яны рабуюць дамы, б'юць палкамі гаспадароў і крадуць у земляробаў скуры, нарыхтаваныя для аплаты падаткаў.

Фараон Эхнатон павучальна казаў:

— Вось бачыш, Харэмхеб, што атрымліваецца, калі ты мяне не слухаешся. Калі б ты часцей казаў воінам пра Атона, яны не рабілі б нічога такога, пра што ты кажаш, а цяпер у іх сэрцах пануе цемра, а на плячах агнём гарацць сляды твайго бізуна, і яны самі не ведаюць, што робяць. Ты заўважыў, што абедзве мае дачкі навучыліся хадзіць? Мэрытатон водзіць малую за ручку, і ў іх ёсць цудоўная газель, з якой яны гуляюць. Апроч таго, табе ніхто не перашкаджае наймаць воінаў у ахоўнікі, вось і трымай па ўсёй краіне ахоўныя гарнізоны, але не войскі дзеля вайны. На маю думку, пара ўжо паламаць і выкінуць усе баявыя калясніцы, бо недавер спараджае недавер, а мы павінны пераканаць суседзяў, што Егіпет ні за што ваяваць не будзе.

— А ці не прасцей прадаць усе калясніцы Азіру ці хетам? Яны добра плацяць за калясніцы і коней! Бо табе ж, наколькі я разумею, трымаць прыстойнае войска нявыгадна — табе лепш патапіць усё багацце Егіпта ў балоце ды гліне,— насмешліва казаў Харэмхеб.

Так яны спрачаліся дзень за днём, пакуль Харэмхеб, дзякуючы сваёй упартасці, не стаў вярхоўным ваяводам усіх памежных і ахоўных гарнізонаў. Праўда, узбройваць воінаў фараон распарадзіўся толькі дзідамі з драўлянымі наканечнікамі, але ж вызначаць колькасць дзідаў ён дазволіў Харэмхебу. Тады Харэмхеб разаслаў загад склікаць начальнікаў гарнізонаў з усёй краіны ў Мемфіс, што знаходзіўся ў цэнтры краіны, на памежжы Чорнай і Чырвонай земляў. Ён ужо і сам збіраўся паехаць туды і ўжо ступіў на мост ваеннага карабля, калі з Сірыі яму даставілі тэрміновыя лісты і таблічкі, якія запалілі ў яго сэрцы новую надзею. Лісты і таблічкі пацвярджалі, што цар Азіру, пачуўшы пра беспарадкі ў Фівах, палічыў, што яго час настаў, і нечакана захапіў некалькі суседніх з Амарэяй гарадоў. Успыхнуў бунт і ў Мэгідзе, гэтым ключы да Сірыі. Войскі Азіру аблажылі яго муры, і егіпецкі гарнізон, які адчайна абараняў іх, вельмі прасіў дапамогі ў фараона. Але пачуўшы навіны, Эхнатон сказаў:

— Я веру, што ў цара Азіру на такія дзеянні маюцца важкія прычыны, бо ён чалавек запальчывы, і мабыць, мае паслы абразілі яго. Я не буду яго асуджаць, пакуль ён не зможа патлумачыць свае ўчынкі. Але ж мы маглі б зрабіць і шмат чаго яшчэ — шкада, што я не падумаў пра гэта раней! Ужо будуецца горад Атона ў Чорнай зямлі — дык чаму б не пабудаваць падобныя гарады і ў Чырвонай зямлі — у Сірыі, у Кушу. Сапраўды, там трэба ўзвесці гарады Атона, яны і будуць новымі цэнтрамі нашага панавання. Мэгіда якраз стаіць на скрыжаванні караванных шляхоў, а значыць, там і будзе найлепшае месца пад новы горад, хоць думаецца, цяпер час для будаўніцтва не лепшы, неспакойны час. Мне расказвалі пра Ерусалім, дзе збудаваны храм Атона. Ерусалім, праўда, стаіць не ў цэнтры Сірыі, як Мэгіда, а значна болей на поўдзень, але я зараз жа пачну будаваць там горад Атона! Няхай цяпер Ерусалім і занядбаная вёска, але ён стане цэнтральным горадам Сірыі!



Пачуўшы такое, Харэмхеб ад злосці зламаў бізун і кінуў яго пад ногі фараону. Потым ён падняўся на карабель і адплыў у Мемфіс арганізоўваць ахоўныя гарнізоны. Але ад яго побыту ў Ахетатоне была і карысць, бо на працягу некалькіх вечароў я распавядаў яму пра ўсё, што пабачыў і пачуў у Вавілоніі, Мітанні, краіне хетаў і на Крыце. Ён моўчкі слухаў мяне, часам трасучы галавой, нібы нічога новага ў маіх аповедах не было, круцячы ў руках нож, падораны мне хецкім начальнікам порта, і зрэдку задаваў нейкія дзіцячыя пытанні:

— А з якой нагі пачынаюць крочыць вавілонскія воіны — з левай ці з правай, як хецкія?

Або:

— А колькі спіцаў у калёсах хецкіх калясніцаў і ці ўмацаваныя яны металам?

Такія пытанні ён задаваў, напэўна, таму, што быў воінам, а воінаў цікавяць часам рэчы, якія больш ні для каго не маюць значэння,— ім, як дзецям, цікава падлічыць, нават колькі ножак у мнаганожкі. Аднак усё тое, расказанае мной пра масты, дарогі і рэкі, ён загадаў запісаць. Ён загадаў запісваць і ўсе імёны, але тут я параіў яму спытаць Каптаха, які таксама любіў па-дзіцячы запамінаць усё нікому непатрэбнае. А вось гаданнем на печані Харэмхеб, на здзіў, зусім не зацікавіўся і нават не падумаў запісаць назвы яе розных частак.

Як бы там ні было, з Ахетатона Харэмхеб паехаў раззлаваны. А вось фараона яго ад'езд узрадаваў: ад спрэчак з вярхоўным ваяводам у яго пачала ўжо балець галава. Мне фараон задуменна сказаў:

— А можа гэтага хоча Атон — каб Егіпет страціў Сірыю? Калі так, дык хто я, каб паўставаць супраць ягонай волі? Хай яна спраўдзіцца на дабро Егіпту! Багацце Сірыі толькі выядала нутро Егіпту: з Сірыі прыйшла ўся раскоша, усе слабасці, усе заганы і паганыя звычаі. Калі мы страцім Сірыю, Егіпту вернецца да простага жыцця і пачне жыць праўдай. Тады ўсё, што цяпер адбываецца, будзе дабром для Егіпта. Тут павінна пачацца новае жыццё, якое пашырыцца па ўсім свеце.

Але сэрца маё паўстала супраць ягоных словаў, і я запярэчыў:

— Сына начальніка сімірскага гарнізона завуць Рамсэс, гэта жвавы хлопчык з вялікімі цёмнымі вачыма, ён любіць гуляць са стракатымі каменьчыкамі,— я некалі вылечыў яго ад дзіцячай хваробы. А ў Мэгі-

дзе жыве адна егіпцянка, якая прыйшла да мяне ў Сіміру і паскардзілася на разбухлы жывот. Я разрэзаў яго, і яна паправілася. Скура ў яе была мяккая, як царскі лён, і хада — вельмі прыгожая, хоць вочы гарэлі ад хваробы...

— Не разумею, навошта ты мне ўсё гэта расказваеш? — паціснуў плячыма фараон і ўзяўся маляваць храм Атона, якім сабе яго ўяўляў,— ён наогул часта ўмешваўся ў працу архітэктараў і ўказваў, як і што рабіць, хоць, вядома, тыя разумелі ў будаўніцтве значна больш за яго.

— Таму што я бачу маленькага Рамсэса з выбітымі зубамі і запэцканымі крывёй валасамі. А тую жанчыну з Мэгіды — аголенай і акрываўленай. Я бачу, як яна ляжыць у двары, і амарэйцы гвалцяць яе. Вядома, ты скажаш, што мае думкі нікчэмныя ў параўнанні з тваімі, ты скажаш, што ўладар не можа памятаць пра кожнага Рамсэса ці прывабную жанчыну, няхай і сваю падданую...

Фараон сціснуў кулакі і ўскінуў руку. Яго вочы раптам пагаслі ад болю, і ён сказаў:

— Няўжо ты не разумееш, Сінухе, што, калі мне давядзецца выбіраць паміж жыццём і смерцю, я выберу смерць сотні егіпцянаў, а не смерць тысячы сірыйцаў. Калі я пачну вайну з Сірыяй, каб уратаваць нейкага егіпцяніна, у той вайне загінуць шмат егіпцянаў і шмат сірыйцаў, а сірыец такі самы чалавек, як і егіпцянін, у яго ў грудзях таксама б'ецца сэрца, у яго таксама ёсць жонка і сын з яснымі вачыма. Калі б я змагаўся са злом пры дапамозе зла, я пасеяў бы толькі новае зло. А калі я адкажу на яго дабром, я тым самым пасею менш зла. Я не хачу выбіраць смерць замест жыцця, таму я затыкаю вушы і не хачу цябе слухаць. Не кажы мне болей пра Сірыю, калі маё жыццё табе дарагое і калі ты любіш мяне, бо калі я думаю пра Сірыю, маё сэрца пакутуе за ўсіх тых, хто мусіць памерці па маёй волі. А чалавек не можа доўга трываць пакуты іншых людзей. У імя Атона, у імя праўды, дай мне адпачыць.

Ён апусціў галаву, яго вочы напухлі і пачырванелі ад болю, а тоўстыя вусны дрыжалі, і я пакінуў яго. Але ў маіх вушах грымелі тараны, якія прабівалі каменныя муры Мэгіды, а з лямцавых палатак амарэйцаў даносіліся крыкі закатаваных жанчын. Але каб не чуць тых галасоў, я прымусіў сваё сэрца ператварыцца ў камень. Я любіў яго, нягледзячы на яго вар'яцтва, любіў дзеля яго самога, бо яго вар'яцтва было прыгажэйшае за мудрасць іншых.

## 6

А цяпер я раскажу пра прыдворных, якія неўзабаве пайшлі за Эхнатонам у Паднябесны горад. Яны ўсё жыццё пражылі ў Залатым палацы і лічылі сваім абавязкам і наканаваннем быць побач з ім, усміхацца,



калі ўсміхаецца ён, і хмурыцца, калі хмурыцца іх уладар. Так здаўна рабілі іх бацькі і бацькі іх бацькоў, ад якіх яны атрымалі ў спадчыну свае прыдворныя пасады і ганаровыя чыны, якімі яны ганарыліся. Быў сярод іх і носьбіт царскіх пантофляў, які за ўсё жыццё, напэўна, ніводнага разу не абуўся сам, быў і царскі падавальнік чашы, які за ўсё жыццё ніколі сам не выціскаў вінаграду, быў і царскі пекар, які ніколі ў жыцці не бачыў, як з мукі вырабляецца хлеб, і царскі захавальнік масцяў, і царскі выканаўца абразання, і яшчэ вялікая колькасць розных чыноў. Быў і я, царскі трэпанатар, хоць ніхто не думаў, што я магу ўскрыць фараону чэрап. Але ў адрозненне ад іншых лайдакоў я змог бы зрабіць сваю справу і нават змог бы зберагчы фараону жыццё.

Усе яны прыехалі ў Ахетатон, усе яны весяліліся і спявалі гімны ў гонар Атона. Яны прыехалі на караблях, упрыгожаных кветкамі, як на свята, яны прывезлі з сабою слуг і вялікую колькасць гарлачоў з віном. Яны пасяліліся ў шатрах і пад павецямі на беразе Ніла, пілі, елі і забаўляліся, бо вада ўжо сышла, квітнела і духмянілася вясна, чыстае паветра п'яніла, як маладое віно, а на дрэвах шчабяталі птушкі. Каб абслужыць іх, патрабавалася гэтулькі слуг і рабоў, што месца, дзе яны мясціліся, нагадвала маленькі горад. А самі прыдворныя не ўмелі нават памыць як след рукі ці намазаць твар духмяным алеем, яны былі бездапаможныя, як малыя дзеці, якія толькі вучацца рабіць першыя крокі.

Але яны бясстрашна хадзілі за фараонам, калі той паказваў месцы для дамоў і вуліц, і рабы неслі над іх бясцэннымі галовамі парасоны, аберагаючы ад пякучага сонца. Яны захапляліся будаўніцтвам сваіх дамоў, якія рабілі будаўнікі, і часам фараон нават сам падымаў цагліну, каб пакласці яе на другую. І яны, задыхаючыся, таксама неслі цэглу на сцены свайго дома і рагаталі, падрапаўшы рукі, а высакародныя жанчыны на каленях мясілі гліну. Маладзейшыя і прыгажэйшыя скідвалі з сябе вопратку і пакідалі толькі паясную павязку, як гэта рабілі прасталюдзінкі, калі мясілі цеста.

Аднак, пакуль яны мясілі гліну, рабы павінны былі трымаць над іх галовамі парасоны, каб сонца не апякло іх тонкую скуру. Крыху папрацаваўшы, яны сыходзілі, а пасля іх заставаўся такі беспарадак, што будаўнікі на чым свет стаіць клялі іх ды іх дапамогу, робячы нанава працу, якую нібыта зрабілі высакародныя. Праўда, маладых знатных жанчын праклёны не тычыліся, будаўнікі з задавальненнем разглядалі іх і, прыкідваючыся няўклюднымі, шлэпалі далонямі па гліне, ад чаго маладзіцы вішчалі ад страху і задавальнення. Аднак, калі прыдворныя жанчыны былі старыя і непрыгожыя і пачыналі падбадзёрваць будаўнікоў словамі або казытаць ім запэцканыя глінай шчокі, будаўнікі ўсур'ёз лаялі іх і ранялі ім на ногі гліняныя цагліны, каб хутчэй прагнаць з будоўлі.

Прыдворныя вельмі ганарыліся сваімі будаўнічымі поспехамі і хваліліся імі, падлічваючы, калькі цаглін паклалі сёння, і паказваючы фараону падрапаныя рукі, каб заслужыць яго пахвалу.

Але хутка захапленне гульнёй у будаўніцтва прайшло, і, удосталь нацешыўшыся ім, яны ўзяліся капаць зямлю ды разбіваць сады. Садоўнікі клікалі на дапамогу багоў і праклінаді нязваных памагатых, бо тыя бесперапынна хацелі перасаджваць кусты і дрэвы з месца на месца, а грабары называлі іх адроддзем Сэта, бо яны кожны дзень знаходзілі ўсё новы месцы пад рыбныя сажалкі. Зрэшты, прыдворным не хацелася сапсаваць што-небудзь знарок — яны проста не разумелі, што замінаюць тым, хто працуе, думаючы, што сапраўды ім вельмі дапамагаюць. А ўвечары яны пілі віно і адзін перад адным хваліліся.

Але неўзабаве гэтыя гульні ім устылі, яны пачалі скардзіцца на спёку, у іх пасцелях завяліся пясчаныя блохі, так што ўсю ноч яны толькі стагналі ды вохкалі, а ўранні прыходзілі да мяне па якую-небудзь мазь ад блох. Нарэшце яны пачалі праклінаць Ахетатон, і шмат хто вярнуўся ў свае маёнткі, а некаторыя ўпотай ездзілі забаўляцца ў Фівы, і толькі самыя адданыя сядзелі ў ценю шатроў і павецяў, пілі халоднае віно ды гулялі ў цыркі, то прайграючы ўсю сваю маёмасць, то адгульваючы яе назад, у чым знаходзілі своеасаблівае суцяшэнне ад аднастайнасці жыцця. А сцены дамоў тым часам не пераставалі расці, і Ахетатон са сваімі дзівоснымі садамі ўзняўся сярод пустэльні, як чароўная казка, усяго за не калькі месяцаў. Але колькі гэта ўсё каштавала, я сказаць не магу. Ведаю толькі, што ўсяго золата Амона не хапіла, тым больш, што сутарэнні яго храма аказаліся пустыя, бо жрацы прадбачліва раздалі золата на зберажэнне сваім людзям.

Хачу яшчэ сказаць, што з прычыны будаўніцтва Ахетатона царская сям'я раздзялілася: царыца-маці адмовілася паехаць за сваім сынам у пустэльню, бо з тае пары, як у садах на левым беразе ракі зазіхацеў Залаты палац, пабудаваны ў гонар кахання да яе фараонам Аменхатэпам, Фівы сталі яе горадам. А некалі царыца Тэйе была беднай лаўчыхай птушак у чаратах Ніжняга Егіпта. Таму цяпер яна і не хацела з'язджаць з Фіваў, а з ёю засталася царэўна Бэкетамон. Кіраўніком Фіваў стаў жрэц Эйе, які меў тытул носьбіта фараонава жазла і сядзеў праваруч ад трона перад скуранымі скруткамі законаў. Так што ў Фівах усё ішло, як раней, а тое, што ілжэфараон з'ехаў, фіванцаў не надта маркоціла.

Царыца Неферціці таксама на час родаў вярнулася ў Фівы. Яна не адважвалася нарадзіць без фіванскіх лекараў і негрыцянскіх чарадзеяў, але зноў нарадзіла — ужо трэцюю — дачку, Анкесенатон, якая пазней стала царыцай. Негрыцянскія чараўнікі таксама зрабілі яе галаву доўгай і вузкай, каб аблегчыць роды, а калі прынцэса падрасла, прыдворныя дамы і знатныя жанчыны Егіпта, жадаючы набыць вытанчаны выгляд, пачалі насіць накладныя патыліцы, каб зрабіць галаву болей выцягнутай. Што да саміх прынцэс, то яны наўмысна галілі свае галовы, каб яшчэ больш падкрэсліць сваю прыродную прыгажосць. Мастакі захапляліся імі, рабілі іх каменныя бюсты, а потым расфарбоўвалі іх, не ведаючы, што гэты прыём паходзіць ад негрыцянскіх варажбітоў.

Пасля нараджэння дачкі царыца Неферціці адразу вярнулася ў Ахетатон і пасялілася ў пабудаваным за час яе адсутнасці палацы. Жаночыя пакоі ў Фівах яна паспяшалася пакінуць яшчэ і таму, што, будучы раздражнёнай нараджэннем трэцяй дачкі, не хацела, каб фараон траціў сваю мужчынскую сілу на іншых жанчын. Эхнатон таксама нічога не меў супраць, бо яму надакучылі мужчынскія абавязкі ў жаночых пакоях, дый ніхто, апроч Неферціці, яму і не быў патрэбен. Дый гэта было зразумела кожнаму, хто бачыў прыгажосць Неферціці, якой не пашкодзілі і трэція роды. Яна стала нават яшчэ прыгажэйшай і маладзейшай, а вось што гэтаму дапамагло — ад'езд з Ахетатона ці негрыцянскія чары,— сказаць не магу.

Так за год узняўся сярод пустыні горад Ахетатон. Гордыя вершаліны пальмаў загайдаліся ўсцяж галоўных вуліцаў, у садах выспявалі чырвоныя гранаты, а на сажалках квітнелі лотасы. Увесь горад быў квітучым садам, яго драўляныя дамы лёгка ўздымаліся ў вышыню, як грацыёзныя альтанкі, а стройныя калоны з трыснягу і пальмаў былі страката і ярка расфарбаваныя. Сады не проста набліжаліся да дамоў, яны ўваходзілі ў іх у выглядзе цудоўных малюнкаў, на сценах пад вечным вясеннім ветрыкам гайдаліся пальмы і сікаморы, на намаляваных палях зелянелі чараты, а сярод іх плавалі розныя рыбы, а з зарасцяў выляталі качкі з бліскучымі крыламі. У горадзе было ўсё, што толькі магло радаваць чалавечае сэрца: лёгкія газелі скакалі па садах, па вуліцах ездзілі прыгожыя каляскі, запрэжаныя маленькімі коньмі і ўпрыгожанымі пёрамі страўсаў, а кухні духмяніліся аскомістымі прыправамі з усяго свету.

Так вырас Паднябесны горад, і калі ўвосень, выкапаўшыся з глею, прыляцелі і неспакойнымі чародкамі загойсалі над прыбываючай вадой ластаўкі, фараон урачыста прысвяціў горад і навакольную зямлю Атону. Ён асвяціў памежныя камяні, пакладзеныя з чатырох бакоў свету, і на кожным камяні Атон бласлаўляў фараона і яго сям'ю сваімі промнямі, а кожны надпіс сведчыў, што фараон Эхнатон клянецца, што яго нага не ступіць за межы зямлі Атона. Дзеля такога абраду будаўнікі забрукавалі дарогі на ўсе чатыры бакі свету, і фараон змог даехаць да памежных камянёў на сваёй залатой калясніцы, а яго сям'я і прыдворныя рухаліся за ім у насілках і на калясніцах, кідаючы на дарогу кветкі пад гукі флейтаў і струн, якія гучалі ў славу Атона.

Фараон Эхнатон не хацеў пакідаць Ахетатон нават пасля смерці, і

таму, калі будаўніцтва горада было скончанае, паслаў будаўнікоў ва ўсходнія горы зямлі Атона высекчы там магілы. І ніхто адкуль больш не вярнуўся, бо на стварэнні свяшчэнных магіл фараона трэба было працаваць усё жыццё. Але я мушу заўважыць, што будаўнікі не маркоціліся па колішніх сваіх родных мясцінах, бо прывыклі жыць пад ценем фараона ў горадзе, які самі пабудавалі і дзе атрымлівалі шмат хлеба, дзе ў іх заўсёды было ўдосталь алею і дзе жанчыны нараджалі ім здаровых дзяцей. Закончыўшы будаваць сваю грабніцу і грабніцы прыдворных, што захацелі застацца вернымі ўладару пасля смерці і быць пахаванымі непадалёк ад яго ў Паднябесным горадзе, фараон Эхнатон загадаў пабудаваць па-за сценамі горада і Дом Смерці, каб целы тых, хто памёр у Ахетатоне, не зніклі, а, набальзамаваныя, зберагліся навечна. Дзеля гэтага з фіванскага Дома Смерці прывезлі самых спрактыкаваных майстроў бальзамоўшчыкаў і мыйшчыкаў трупаў, нават не цікавячыся, якому богу яны пакланяюцца, бо з прычыны адмысловасці іхняй працы ніякай пэўнай веры ў гэтых людзей быць не магло. Яны спусціліся ўніз па рацэ на чорным караблі, і вецер далёка разносіў іх брыдкі пах. Жыхары селішчаў на берагах хаваліся ў хатах, запальвалі вохныя палачкі і маліліся Атону, хоць шмат хто ўзносіў малітвы і старым багам і жагнаўся ахоўным знакам Амона.

Узяўшы свае прылады, мыйшчыкі трупаў і бальзамоўшчыкі спусціліся з карабля і заміргалі, бо прывыклі да цемры, што заўжды панавала ў Доме Смерці. Яны праклiналі святло, ад якога ў іх моцна балелі вочы. Яны паспешліва прайшлі ў свой новы Дом Смерці, занеслі туды свой смурод і зноў адчулі сябе, як дома. Сярод іх быў і стары майстар абцугоў Рамосэ, які даставаў з чарапоў мазгі, і неўзабаве я сустрэў яго ў Доме Смерці, загадчыкам якога мяне прызначыў фараон, бо жрацы Атона адчувалі да гэтага Дома страх. Мы сустрэліся, і Рамосэ доўга глядзеў на мяне, не пазнаючы, а пазнаўшы, вельмі здзівіўся. Каб заслужыць у яго давер, я расказаў яму ўсё пра сябе. Але мне не цярпелася даведацца, які плён прынесла мая помста ў Доме смерці ў Фівах,— сумнеў, як чарвяк, тачыў маё сэрца. Таму, пагаварыўшы крыху пра яго задачы і абавязкі, я спытаў:

— Рамосэ, мой сябра, ці не давялося табе паспрабаваць сваё майстэрства на адной прыгожай жанчыне, якую прынеслі ў Дом Смерці падчас беспарадкаў у Фівах? Жанчыну тую звалі Нефернефернефер.

Ён зірнуў на мяне з-пад ілба вачыма старой чарапахі і прамовіў:

— Далібог, Сінухе, ты першы знатны чалавек, які назваў бальзамоўшчыка сваім сябрам. Гэта расчуліла маё сэрца, і калі ты так сказаў, значыць, табе сапраўды важна тое, пра што ты пытаешся. Але можа, ты сам прынёс яе сюды ў начной цемры, загорнутую ў чорныя покрывы смерці? Калі гэта так, то ні адзін мыйшчык трупаў не палічыць цябе за



сябра! Наадварот — ён усадзіць у цябе востры нож з трупнай атрутай, каб ты памёр страшнай смерцю!

Ад яго словаў мяне ажно скаланула, і я сказаў:

— Яна заслужыла такі лёс, хто б яе не прынёс сюды. Але твае словы прымушаюць мяне падумаць, што яна не была мёртвай? Дык можа, яна апрытомнела ў абдымках мыйшчыкаў?

Рамосэ пацвердзіў:

— Гэта жахлівая жанчына сапраўды ачуняла ў Доме Смерці. І я нават не буду распытваць, як ты здагадаўся пра гэта. Яна апрытомнела, бо такія жанчыны ніколі не паміраюць! А калі якая памрэ, яе цела трэба спаліць на вогнішчы, каб яна не вярнулася больш ніколі! Пазнаёміўшыся з ёю бліжэй, мы далі ёй імя Сэтнефер, што значыць Прыгажуня злога бога.

Тады страшная здагадка працяла мяне, і я папытаўся:

— Чаму ты так кажаш? Яе ўжо няма ў Доме Смерці? Мыйшчыкі трупаў казалі, што пратрымаюць яе семдзесят разоў па семдзесят дзён.

Рамосэ сярдзіта забразгаў сваімі прыладамі — нажамі ды абцугамі — і, напэўна, ударыў бы мяне, калі б на стале не стаяў прынесены мною гарлач добрага віна з фараонавых запасаў. Сарваўшы запыленую пячатку, ён сказаў:

— Мы не хацелі табе нічога благога, Сінухе. Ты быў мне за роднага сына, і я назаўсёды пакінуў бы цябе ў Доме Смерці і навучыў бы свайму майстэрству. І ты сам ведаеш, што мы збераглі трупы тваіх бацькоў, як зберагаюць целы толькі самых высакародных, мы не пашкадавалі на іх ні лепшага алею, ні лепшых бальзамаў. Чаму ж ты пажадаў нам такога зла і прывёў сюды гэтую жывую жанчыну? Да таго, як яна з'явілася, мы жылі проста: мы старанна працавалі, радавалі свае сэрцы півам і багацелі, крадучы з трупаў аздобы, незалежна ад іх паходжання і роду, і прадаючы ведзьмакам некаторыя часткі целаў, патрэбныя ім у іх замовах. Але калі сярод нас з'явілася тая жанчына, Дом Смерці ператварыўся ў логавішча злога Сэта. Мыйшчыкі трупаў пачалі кідацца адзін на аднаго з нажамі і біліся за яе, як шалёныя сабакі. Яна абчысціла нас да ніткі, забрала ўсё срэбра і золата, якое мы збіралі доўгімі гадамі. Яна не пагрэбавала нават апошнім мядзяным пярсцёнкам і забрала нават вопратку. А калі хто быў стары, як я,— да такіх яна пасылала іншых, якія свае ўсё на яе ўжо страцілі, і яны рабавалі нас. Прайшло ўсяго тры разы па трыццаць дзён, а яна абчысціла нас дагала. Пераканаўшыся, што ўзяць больш няма чаго, яна пачала з нас смяяцца, і два закаханыя ў яе мыйшчыкі павесіліся на сваіх паясах, не вытрымаўшы гэтых здзекаў. І тады яна сышла, забраўшы ўсе нашы скарбы! І мы не змаглі яе затрымаць, бо калі адзін заступаў ёй дарогу, другі адштурхваў яго, спадзеючыся на прыхільную ўсмешку ці дотык. Але яна скрала не толькі

нашы багацці — каля трох соцень дэбенаў срэбрам і золатам, не лічачы медзі і масцяў, якія мы кралі ў багатых нябожчыкаў на працягу многіх гадоў, — яна скрала і наш спакой. Яна паабяцала праз год вярнуцца і паглядзець, што нам удасца сабраць за гэты год! І таму цяпер у фіванскім Доме Смерці крадуць больш чым калі-небудзь. Мыйшчыкі крадуць не толькі ў нябожчыкаў, але і адзін у аднаго, так што нікому няма спакою. Цяпер ты разумееш, чаму мы назвалі яе Сэтнефер, што значыць Прыгажуня злога бога?

Так я даведаўся, што мая помста была дзіцячай забаваю. Нефернефернефер вярнулася з Дома Смерці разбагацелай, нічога не страціўшы і не паспытаўшы ніякіх непрыемнасцяў, калі не лічыць смуроду, які ўеўся ў яе так, што на пэўны час ёй давялося спыніць свае звычныя заняткі. Але пасля жыцця ў кампаніі з мыйшчыкамі трупаў ёй і так патрабаваўся адпачынак. Мая помста больш прымусіла пакутаваць маё сэрца, чым нашкодзіла ёй, і я ўпэўніўся, што помста не прыносіць сапраўднай радасці, бо радасць ад яе вельмі кароткая, затое потым усё паварочваецца супраць мсціўцы і выпальвае агнём яго сэрца.

Расказаўшы гэта, я мушу пачаць новы скрутак, каб распавесці, што адбылося за жыццём фараона Эхнатона ў Паднябесным горадзе і ў Сірыі. Я раскажу таксама пра Харэмхеба і Каптаха, і пра свайго сябра Тутмеса, і, вядома, не павінен забыцца пра Мэрыт. З гэтым я і пачынаю новы папірус.

# ПАПІРУС АДЗІНАЦЦАТЫ
## Мэрыт

### 1

Кожны з нас бачыў, як мера за мерай выцякае вада з гадзінніка. Гэтак сама цячэ чалавечае жыццё, але вымяраецца яно не мерамі вадзянога гадзінніка, а тымі падзеямі, якія адбываюцца з чалавекам. Гэта вялікая і непахісная ісціна, і цалкам чалавек спасцігае яе толькі на схіле дзён, калі час ягонага жыцця траціцца марна і з ім не адбываецца ніякіх падзей, хоць сам ён лічыць, што яго жыццё напоўнена нейкім сэнсам, і толькі потым разумее, што нічога такога і не было. Пакуль жыццё ў чалавека цячэ бурлівым патокам, ягонае сэрца мяняецца ў тым патоку, і адзін дзень можа здацца даўжэйшым за год ці нават за два, праведзеныя ў спакоі, калі жыццё цячэ мірна і без пераменаў. Я вучыўся спасцігаць гэтую ісціну ў Ахетатоне, бо маё жыццё там струменіла жывой ручаінай і нагадвала дзівосны сон ці рэха далёкага спеву, які так ніхто і не пачуў, і тыя дзесяць год, праведзеныя ў Залатым палацы новай сталіцы з фараонам Эхнатонам, праляцелі хутчэй за любы іншы год маёй маладосці.

Ні свае веды, ні сваё майстэрства за гэты час я не ўдасканаліў, карыстаючыся толькі тым, што назбіраў у дні маладосці, калі падарожнічаў па чужых землях, як пчала спажывае мёд, назбіраны летам. Але час усё ж падтачыў маё сэрца, як вада паволі падточвае камень: хай сабе і неўпрыкмет, але маё сэрца змянялася, і тою парой я ўжо не адчуваў сябе такім самотным, як раней. Можа, я стаў не такі запальчывы і ўжо не так фанабэрыўся сваімі ведамі і майстэрствам, як у маладосці, а хутчэй за ўсё, самі абставіны склаліся так, што я застаўся адзін, бо Каптах паехаць за мной не схацеў, застаўшыся ў Фівах, дзе з усёю стараннасцю даглядаў маю гаспадарку і свой шынок «Кракадзілаў хвост».

Мушу сказаць, што горад Ахетатон схаваўся ў відзежах і мроях фараона Эхнатона. Увесь знешні свет не меў ніякага значэння, і ўсё, што знаходзілася па-за памежнымі камянямі Атона, было нечым далёкім і прывідным, як месячнае святло на вадзе. Адзінаю праўдай і рэчаіснасцю было тое, што адбывалася ў Ахетатоне. Цяпер, праз шмат гадоў, калі я задумваюся пра гэта, то разумею, што і сам той горад і ўсё, што ў ім дзеялася, было толькі ценем і насланнём сухой пустэльні, а праўдаю былі якраз голад, пакуты і смерць за памежнымі камянямі. Але ўсё, што было не даспадобы фараону Эхнатону, старанна ад яго хавалася, а

калі ўзнікала патрэба, каб ён асабіста ўмяшаўся, яму ўсё падносілі ў найлепшым святле, расквечана і ўпрыгожана, каб толькі найсвяцейшаму ўладару не забалела галава. Так робіцца часта, бо чалавек — слабая істота, і ніхто не хоча выклікаць незадавальнення гаспадара і прымаць на сябе яго гнеў, навязліва нагадваючы пра непрыемнасці. Але я добра ведаю і сведчу, што так рабілася толькі ад вялікай любові да фараона, бо яго стараліся аберагчы ад залішняга болю і клопату. Любая нязначная справа, любая дрэнная навіна выводзілі фараона з сябе, як звычайнага прасталюдзіна, яго хвароба праяўлялася зноў, і ўсе, хто любіў яго, баяліся, што фараон памрэ, даведаўшыся, што адбываецца насамрэч у краіне. Я ведаю і сведчу, што фараон Эхнатон хацеў жыць толькі ў праўдзе, і першы выказаў бы сваё незадавальненне таму, хто ад любові да яго хаваў праўду. Аднак фараонавы вочы глядзелі ў вечнасць, а таму ўсё, што яго атачала — і сам горад, і людзі — было для яго толькі ценем, а тое, што знаходзілася за межамі горада, наогул мела значэнне меней, чым цень ці відзеж у пустэльні. Апроч таго, на свеце ёсць шмат спосабаў казаць праўду, сярод іх трапляюцца і такія асцярожныя і перакручаныя, што нават прамоўленае слова праўды змяняецца да непазнавальнасці.

Тым часам у Фівах, сапраўднай сталіцы абедзвюх Земляў, кіраваў жрэц Эйе, носьбіт царскага жазла праваруч ад фараона, цесць фараона і бацька Неферціці, чалавек уладапрагны, ён заставаўся ў Фівах і карыстаўся поўным даверам фараона, які даручыў яму ўсе непрыемныя для сябе справы: збор падаткаў, судовыя і гандлёвыя законаўстанаўленні. Такім чынам жрэц Эйе стаў адзіным і сапраўдным уладаром у краіне, бо ўсё, што тычылася жыцця чалавека — ці то земляроба, ці то гандляра — было ў ягоных руках. Калі зрынулі Амона, супернікаў фараонавай улады не засталося зусім, і Эйе быў вельмі задаволены, бо на самой справе гэта непадзельная ўлада належала яму аднаму, а ён спадзяваўся, што хваляванні ў краіне пакрысе суцішацца і настане поўны спакой. І не было яму нічога больш радаснага, чым пабудова горада Ахетатона, бо гэта ўтрымлівала фараона далей ад Фіваў, і Эйе як мага стараннеи збіраў падаткі на будаўніцтва і аздабленне горада, які так любіў фараон, і бесперапынна пасылаў падарункі, якія лашчылі Эхнатону сэрца. Можа, хваляванні ў краіне, сапраўды, паціху супакоіліся б, калі б не Эхнатон, які ўвесь час замінаў Эйе.

І ўсё ж, нягледзячы на сваё ўладалюбства, Эйе не мог абысціся без дапамогі Харэмхеба, які сядзеў у Мемфісе і сачыў за парадкам у краіне, трымаючы такім чынам у сваіх руках уладу над зборшчыкамі падаткаў і каменярэзамі, якія збівалі надпісы з імем Амона, залазячы дзеля гэтага нават у магілы. Фараон Эхнатон загадаў адкрыць магілу свайго бацькі, каб сцерці там усякі ўспамін пра Амона. Жрэц Эйе не пярэчыў



фараону, калі той займаўся падобнымі нязначнымі справамі, і быў толькі задаволены, што ўладар не ўмешваецца ў паўсядзённае жыццё сваіх падданых, аддаючыся думкам пра нябесныя і важныя справы.

Пасля бурных падзеяў у Фівах жыццё ў Егіпце супакоілася, як паверхня сажалкі, якую больш не трывожыць вецер. Жрэц Эйе, каб пазбавіцца ад лішніх клопатаў, даручыў збіраць падаткі начальнікам акругаў, начальнікі акругаў аддалі гэтае права на водкуп начальнікам гарадоў ды вёсак, а тыя, у сваю чаргу, нанялі незлічоную колькасць памагатых, і такім чынам усе займелі магчымасць добра ўзбагачацца і ніводзін начальнік не застаўся пакрыўджаным, нават самыя малодшыя па чыне, якія выбівалі падаткі з сялян палкамі. Звонку ж усё засталося нібы па-старому, а калі сяляне, убачыўшы зборшчыка падаткаў, пачыналі гучна скардзіцца на свой лёс і пасыпаць галовы попелам, дык у тым не было нічога новага — беднякі паводзілі сябе так спрадвеку.

А вось нараджэнне чацвёртай дачкі ў фараона выклікала ў Ахетатоне засмучэння больш, чым страта Сіміры ў Сірыі. Царыца Неферціці, баючыся, што ў яе нараджаюцца толькі дочкі з прычыны насланых кімсьці злых чараў, зрабіла нават падарожжа ў Фівы, спадзеючыся, што ёй дапамогуць там негрыцянскія чараўнікі. Вельмі рэдка такое здаралася, каб жанчына нарадзіла чатырох дачок і ніводнага хлопчыка. А гэта ж была не абы якая жанчына, а жонка самога фараона, і такім чынам злое наканаванне тычылася і яго!

А тым часам звесткі з Сірыі прыходзілі ўсё болей трывожныя, і кожны раз, як адтуль прыплываў карабель, я ішоў у царскі архіў і чытаў прывезеныя таблічкі з усё новымі адчайнымі крыкамі аб дапамозе. Я чытаў, і мне здавалася, што вакол зыкаюць стрэлы, мой нос чуў смурод пажараў, а за стрыманымі, поўнымі годнасці словамі пасланняў бачыліся карціны вынішчэння, чуліся смяротныя стогны і спалоханыя крыкі дзяцей, бо воіны Амарэі не ведалі жалю, іх настаўнікамі ў вайне былі хеты, і ніводзін сірыйскі гарнізон не мог перад імі ўстояць. Я чытаў пасланні ўладароў Бібла і Ерусаліма, у якіх яны звярталіся да Эхнатона з просьбай дапамагчы і абараніць іхнія гарады ў памяць аб фараонавым бацьку і ў імя іх шматгадовай вернасці Егіпту. Але такія аднастайныя лісты хутка ўстылі фараону, і ён перастаў іх чытаць, адсылаючы проста ў архіў, дзе імі цікавіліся толькі пісарчукі ды я, прычым пісарчукі толькі ставілі нумары на таблічкі па меры іх паступлення.

Пасля падзення Ерусаліма ад Егіпта адышлі нават самыя верныя яму гарады, нават Яфа, заключыўшы саюз з Азіру. Тады з Мемфіса ў Ахетатон прыехаў Харэмхеб, ён хацеў прасіць у фараона дазвол паслаць на дапамогу Сірыі войска, бо дапамогі, якую ён аказваў таемна, пасылаючы лісты падтрымкі і золата, было ўжо недастаткова. Харэмхеб сказаў фараону:

— Дазволь мне наняць хоць бы сто разоў па сто воінаў з дзідамі і лукамі ды сто баявых калясніцаў, і я вярну табе ўсю Сірыю, бо цяпер, калі захоплена Яфа, улада Егіпта над Сірыяй страчана.

Фараон Эхнатон вельмі засмуціўся, даведаўшыся, што Ерусалім таксама захоплены, бо гэты горад ён збіраўся пасвяціць Атону і потым з дапамогай светлага бога ўціхамірыць Сірыю. Таму ён сказаў:

— Той стары з Ерусаліма, чыё імя я цяпер не магу ўспомніць, быў сябрам майго бацькі. Я памятаю, як яшчэ малым дзіцём бачыў яго ў Залатым палацы ў Фівах, і ў яго была доўгая барада. Я буду пасылаць яму ўтрыманне з Егіпта, хоць прыбыткі нашай казны моцна паменшалі з той пары, як парушыўся гандаль з Сірыяй.

— Ён наўрад ці ўзрадуецца прысланым з Егіпта грошам і залатому нашыйнаму ланцугу,— запярэчыў Харэмхеб.— Цар Азіру загадаў зрабіць з ягонага чэрапа прыгожую залочаную чашу і паслаў яе ў дар цару Супілуліуму ў Хатушаш, калі толькі мае віжы не памыляюцца.

Фараон спалатнеў, яго вочы пачырванелі, але ён стрымаўся і адказаў:

— Мне цяжка паверыць, што цар Азіру, якога я лічыў сваім сябрам і які прыняў ад мяне ў падарунак жыватворны крыж, мог учыніць такое! Значыць, я памыляўся, і яго сэрца аказалася чарнейшым, чым я думаў. Але і ты, Харэмхеб, просіш немагчымага, калі кажаш пра воінаў і калясніцы, бо я чуў, што народ знясілеў ад падаткаў і ўраджай гэтага года нашмат ніжэйшы, чым я спадзяваўся.

— У імя твайго Атона! — горача сказаў Харэмхеб.— Загадай мне ўзяць хоць бы дзесяць калясніцаў і дзесяць разоў па дзесяць воінаў. Я адпраўлюся ў Сірыю і ўратую тое, што яшчэ можна ўратаваць.

Але фараон Эхнатон стаяў на сваім:

— Я не магу пачаць вайну ў імя Атона, бо пралітая кроў — гэта жах для яго вачэй, і лепш ужо хай забіраюць Сірыю. Хай будзе Сірыя вольнай і стварае свае саюзы, а мы будзем гандляваць, як і раней, бо без егіпецкага хлеба ім усё адно не пражыць.

— Ды няўжо ты, Эхнатон, думаеш, што яны задаволяцца гэтым! — у запале ўскрыкнуў Харэмхеб.— Кожны забіты егіпцянін, кожны ўзяты штурмам мур і захоплены горад узносіць іх у іхніх жа вачах і ператварае гэтых паскуднікаў у сапраўдных вар'ятаў. За Сірыяй настане чарга медных капальняў, а калі Егіпет страціць і іх, нам не будзе з чаго рабіць медныя наканечнікі на стрэлы і дзіды.

— А хіба я не казаў табе, што ахоўнікам будуць добрымі і дзіды з драўлянымі наканечнікамі?— нецярпліва перабіў Эхнатон.— Чаму ты прычыняеш боль маім вушам, безупынку кажучы пра дзіды і стрэлы, і гэта ў той час, калі я ствараю гімн у гонар Атона!

— А пасля Сіная яны пасунуцца да Ніжняй Зямлі,— з горыччу сказаў Харэмхеб.— Ты сам сказаў, што Сірыя не абыдзецца без нашага



зерня. Хоць па маіх звестках, сёння яны завозяць зерне з Вавілоніі. Калі ты не баішся Сірыі, дык асцерагайся хетаў, бо іхняя прага ўлады не ведае межаў.

Тады фараон засмяяўся з жаласным выразам на твары, як засмяяўся б любы разумны егіпцянін, пачуўшы гэтыя словы.

— Ніхто дагэтуль не асмеліўся пераступіць свяшчэнныя межы нашых земляў,— сказаў ён,— ніхто не асмеліцца і ў будучым, бо Егіпет — вялікая дзяржава, самая багатая і самая магутная! Але каб цябе супакоіць і каб табе не мроіліся страшныя сны, я скажу, што хеты — звычайныя варвары, якія пасвяць статкі ў пустэльных гарах, і нават калі яны што-небудзь надумаюць, наш хаўрус з Мітанні служыць нам абаронай і шчытом супраць іх. Тым болей, што я паслаў цару Супілуліуму і знак жыватворнага крыжа жыцця і просьбу паставіць маю статую ў сваім храме. Так што ён не нападзе на Егіпет, пакуль будзе атрымліваць золата кожны раз, як папросіць. Зрэшты, я не думаю абцяжарваць народ новымі падаткамі, бо чуў, што ён і так знясілены.

Жылы на лбе ў Харэмхеба набрынялі, але за гэтыя гады ён навучыўся стрымліваць сябе і цяпер, калі я сказаў, што як лекар больш не магу дазволіць яму стамляць фараона, моўчкі пайшоў за мной. Але як толькі мы пераступілі парог майго дома, ён моцна хвастануў сябе бізуном па назе і крыкнуў:

— У імя Сэта і ўсіх ягоных нячысцікаў! Сачэнь, які пасля сябе пакідае на дарозе карова і то болей карысны, чым яго жыватворны крыж! Але гэта ж нейкае насланнё, бо калі ён глядзіць мне ў вочы і па-сяброўску кладзе руку на плячо, я яму цалкам давяраю, хоць і ведаю, што ён тройчы памыляецца і не мае рацыі, а я ведаю, што праўда на маім баку! У імя Сэта і ўсіх ягоных нячысцікаў! Увесь горад ён напаўняе сваёй сілай, горад размаляваны і аздоблены, нібы дзеўка ў доме ўцех, апроч таго, тут і пахне гэтак жа сама. Сапраўды, калі было можна прывесці ўсіх людзей сюды, каб ён датыкнуўся да іх сваімі лёгкімі пальцамі, дык свет, можа, сапраўды змяніўся б. Але такое немагчыма.

Каб неяк развесяліць яго, я сказаў, што, мабыць, гэта не так ужо й немагчыма, а ён захапіўся і натхнёна сказаў:

— Каб гэта стала магчыма, трэба ўчыніць вялікую вайну, і я змог бы прывесці сюды ўсіх на свеце людзей — мужчын, жанчын, дзяцей і паставіць іх перад фараонам, а той бы пагутарыў з імі і ўліў бы ў іх сваю сілу, абнавіўшы іхнія сэрцы. Не, праўда, калі я застануся тут яшчэ крыху, дык у мяне адрастуць цыцкі, як у вашых прыдворных баб, і я буду іх даваць дзецям.

Ён пасадзіў свайго пісарчука падлічыць, колькі спатрэбіцца часу, каб людзі з усіх краінаў змаглі паўстаць перад фараонам Эхнатонам, і мы пайшлі разам да нашага сябра Тутмеса. Той некалі паабяцаў Харэмхебу

зрабіць з каменя яго статую, і цяпер той вырашыў нагадаць мастаку пра яго абяцанне. Што да мяне, дык я проста хацеў успомніць боскі смак віна з Тутмесавых запасаў. Вокны ягонага дома выходзілі на поўнач, і ў ягоных пакоях было шмат святла, шматлікія рабы і вучні поўнілі дом і двор, паўсюдна плаваў водар сухіх фарбаў і каменнага пылу. Тутмес выйшаў да нас з мокрым ад поту тварам, скамечанымі валасамі, і адразу радасна папярэдзіў, што ў яго цяпер царыца Неферціці і ён такі заняты, што ні на хвіліначку не можа адлучыцца, а таму просіць, каб мы яму не заміналі. Але царыца Неферціці пачула ўжо нашы галасы і дазволіла нам застацца каля яе, каб палюбавацца на яе прыгажосць, бо чым больш мужчыны захапляліся ёю, тым ёй было прыемней. Слуга Тутмеса прынёс віно, і сама Неферціці выпіла з намі, каб узвесяліць сваё сэрца. Потым яна гарэзліва падняла руку да грудзей і, не спускаючы вачэй з Харэмхеба, сказала:

— Я часта здзіўляюся, Харэмхеб, чаму ты не возьмеш сабе жонку, бо шмат якія прыдворныя паненкі сохнуць па табе. Раскажы мне штонебудзь вясёлае, ато Тутмес толькі глядзіць на мяне суровымі халоднымі вачыма ды ўсё цвердзіць, што шчокі ў мяне праваліліся ды што я выглядаю, як нейкая пачвара.

Ад такога пытання Харэмхеб вельмі збянтэжыўся. Ён спахмурней і не ведаў, што адказаць, але ў гэтую хвіліну Тутмес у адчаі кінуў на падлогу разец і малаток і сказаў пакутлівым голасам:

— Не, гэтая царская кошка давядзе мяне да вар'яцтва такімі размовамі і тым, што дзень за днём драпае кіпцюрамі маё сэрца, катуе мяне, добра ведаючы, што кожны, хто хоць аднойчы ўбачыў яе прыгажосць, ужо ні пра што іншае думаць не можа. У імя Атона, пакінь мяне ў спакоі, злавесная жанчына, я ўжо пяць разоў высякаў з камянёў рознага колеру твой твар, але калі зноў гляджу на тваё цела, тваю тонкую шыю, мяне ахоплівае пякельнае полымя і рукі мае апускаюцца, бо я не могуць ажывіць камень. Цяпер я ўпершыню спрабую выразаць тваю выяву, Неферціці, з дрэва, каб потым размаляваць яе жывымі фарбамі. Можа, дрэва лепей, чым камень увасобіць тваю жывую прыгажосць. Твае схуднелыя шчокі робяць цябе яшчэ прыгажэйшай і боскай, і ніводная жанчына ва ўсе часы не насіла царскую карону болей заслужана, чым ты.

Калі Тутмес, супакоіўшыся, нарэшце змоўк, пачуўся голас Харэмхеба:

— Боская Неферціці, як можна думаць пра якую-небудзь іншую жанчыну, калі бачыш цябе, а што да тваіх прыдворных паненак, дык я да іх абыякавы, хоць і не аднойчы цешыўся з імі і магу сказаць, што целы ў іх гладкія, як паверхня курынага яйка, і мяккія, як пух. Але галовы ў іх пустыя, як начныя гаршчкі, так што я ніколі не здзіўляўся, што ім даводзіцца выцягваць патыліцы. Але ты, Неферціці, мудрая жанчына, і твае вочы глядзяць разважна і светла, як вочы твайго бацькі, вялікага і здольнага ўладара, хоць і абцяжаранага немалымі гадамі. Скажы мне, царыца, чаму ты мудрымі словамі не абразуміш фараона, а дазваляеш яму ўсё больш паглыбляцца ў яго вар'яцтва — да таго, што мы ўжо не ведаем, ці стаім ужо дагары нагамі і ці стала чорнае белым.



Агледзеўшыся вакол і ўбачыўшы, што, апроч нас, у пакоі нікога няма, Неферціці сказала:

— У фараона надта слабая мужнасць, і ён робіцца ўсё больш падобны да жанчыны, а калі я кажу яму тое, што яму не даспадобы, яго мужнасць знікае зусім. Таму мне лепш маўчаць пра дзяржаўныя справы, і хоць яны прыходзяць у заняпад, мой самы галоўны клопат — нарадзіць яму спадкаемцу. Я не магу дазволіць, каб ён ад мяне адвярнуўся і захапіўся іншай жанчынай. Але калі я гляджу на яго шаленствы, усмешка ўсё часцей знікае з маіх вуснаў, яго дотык мне робіцца брыдкі, а мой жывот сціскаецца ад нявыказаных словаў, якія могуць яго параніць. Ты, Сінухе, лекар і можаш усё гэта растлумачыць лепш за мяне. Калі я мроіла стаць царскаю жонкай, я думала, што няма на свеце шчаслівейшай долі, а ён зрабіў з мяне звычайную карову, якая штогод выношвае дзіцяці. Таму і праваліліся мае шчокі, і састарэла цела, хоць мой узрост — яшчэ самы росквіт жыцця.

Мы ў адзін голас пачалі суцяшаць яе, кажучы, што яна перабольшвае наступствы сваіх цяжарнасцяў, і гэта была праўда, бо цела ў яе заставалася стройным і гнуткім, а жывот — свежым і гладкім, як у маладой дзяўчыны. Мы гэта ўбачылі, калі Неферціці нібы незнарок расхінула адзенне, каб даць нам на яе палюбавацца. Але Тутмес задуменна сказаў:

— Усё я разумею ў тваіх словах, не разумею толькі аднаго: як ты можаш меркаваць пра слабую мужчынскасць фараона ці пра яго жаночасць, калі ты не спазнала іншых мужчын, а значыць і параўноўваць табе няма з чым.

Твар у Неферціці спахмурнеў, яна апусціла позірк долу і, мне здаецца, нават збянтэжылася, чаму я шчыра ўзрадаваўся, бо гэта паказвала яе чысціню перад мужам. Праз пэўны час яна сказала:

— Тутмес — грубіян і невук, дый чаго іншага чакаць ад чалавека, народжанага ў хляве з гноем паміж пальцаў. Але я чытала вершы, і хоць не ведаю іншых мужчын, мне даводзілася бачыць, як будаўнікі развязваюць свае прапацелыя паясныя павязкі і мыюцца ў рацэ. І мушу сказаць, што вершы сказалі мне болей, чым вочы.

Яна сумна ўсміхнулася і сказала:

— Я стаў бы тканінай, каб абвіцца вакол тваіх клубоў, духмяным алеем у тваіх валасах, віном на тваіх вуснах,— яна ціха ўздыхнула.— А ён у ложку толькі і гаворыць са мною, што пра Атона, і думаецца

мне, што няма для жанчыны большага няшчасця. Якая мне радасць ад свежага твару, калі вясновы вецер не злятае пацалункам на мае вусны!

Цёмныя вочы Тутмеса гарэлі як чорнае вуголле, калі ён наблізіўся да Неферціці:

— Не смейся, Неферціці, з майго паходжання! Я нарадзіўся ў сям'і каляснічнага, і хоць мае рукі ажыўляюць камяні, але ў маіх жылах цячэ кроў воіна! Уздымі толькі руку, Неферціці, і вясновы вецер дакранецца да тваіх вуснаў, а гарачая кроў абцалуе тваё цела.

Неферціці зачаравана глядзела на яго сваімі прамяністымі вачыма. Яна павольна нахіліла чашу з віном і доўга сачыла, як тонкі струменьчык разбіваецца ў кроплі аб каменны дол. Потым яна паставіла чашу, падышла да Тутмеса, адвяла з ілба потныя валасы і дакранулася да яго лёгкім, як уздых, пацалункам. Тутмесава грубасць нікольк яе не абурыла, а наадварот — спадабалася, бо ягоныя словы прынеслі ёй радасць і нават яе ўсхвалявалі.

Пасля таго, як яна пайшла, я сказаў Тутмесу:

— Твае вочы блішчаць, як у ліхаманцы, а цела пакрылася потам. Думаю, што невялікае падарожжа пайшло б табе на карысць, яно ажывіла б цябе. У імя Атона, паедзь з Харэмхебам у Мемфіс, бо ты зможаш працаваць і там, ты ж абяцаў высекчы з каменя яго статую, каб ён паставіў яе ў храме, у сваім Хетнечуце. У Мемфісе таксама ёсць прыгожыя дзяўчаты, ды, кажуць, што і віно там вельмі добрае.

— Ты нясеш лухту, як старая баба, Сінухе,— адказаў Тутмес.— Тут у мяне безліч працы, і натхненне бурліць ува мне, як жыватворныя сокі ў дрэве. А Харэмхеба я зраблю і тут, спачатку намалюю яго, потым здыму меркі з усіх асноўных памераў цела, а потым — гіпсавую маску з твару.

— Што да падарожжа,— умяшаўся ў гаворку Харэмхеб,— дык Сінухе зрабіў бы мудры ўчынак, калі б паехаў у Фівы ды паглядзеў, што там дзеецца, бо седзячы тут, у гэтым асляплым і зануранным у летуценні вясенняга сну горадзе, вы не паверыце, калі я скажу, што адбываецца ў Егіпце і пра што гамоняць між сабой людзі. Сапраўды, Сінухе, табе трэба з'ездзіць у Фівы, а вярнуўшыся, праўдзіва расказаць фараону пра ўсё, што ты ўбачыш. Можа, хоць гэта дапаможа, бо фараон табе верыць і збольшага цябе слухае.

Плюнуўшы, ён дадаў:

— Наўрад ці гэтая Неферціці можа рабіць што цікавае ў ложку, хоць глядзець на яе прыемна, і розум у яе востры, як нож, а языком яна джаліць, як аса. Але не думаю, каб яна магла доўга цешыць любога, як астатнія бабы.

Ад тых слоў Тутмес прыйшоў у шаленства, і я ледзь яго супакоіў. А тады сказаў:



— Мне і праўда трэ' было б паехаць у Фівы, сустрэцца з Каптахам... Але ў мяне такі мяккі ложак, я так прывык да сваёй смачнай кухні і цела маё так распесцілася і размякчала, што ўжо не вытрывае карабельнай гайданкі. Апроч таго, я не ведаю, ці насмелюся расказаць фараону пра тое, што мне давядзецца ўбачыць. Ён хоча слухаць толькі прыемнае: пра сытых кругленькіх немаўлятак, пра вясёлых кабет і мужчын, што ўслаўляюць Атона, а з тваіх словаў выходзіць, што казаць мне давядзецца зусім не пра гэта, а наадварот — пра тое, што зусім яму сапсуе настрой. Апроч таго, я чуў, Харэмхеб, што кракадзілы, пацвярджаючы сваю мудрасць, суправаджаюць цябе ў Мемфіс, бо твае слугі і ахоўнікі кормяць іх сытна і пастаянна, хай сабе і не так, як гэта было некалі ў Фівах.

Харэмхеб апаражніў сваю чашу, зноў напоўніў яе і зноў асушыў, і толькі пасля гэтага сказаў:

— Напраўду, калі я думаю цяпер пра будучыню Егіпта, мне хочацца стаць кракадзілам. Але хай будзе так. Калі ўжо нават Сінухе не хоча дапамагчы мне — застаецца адно: піць і піць, не думаючы пра будучыню Егіпта, дзе пануе фараон Эхнатон.

## 2

Хоць потым Харэмхеб вярнуўся ў Мемфіс, ягоныя словы ўвесь час ранілі маю душу, і я вінаваціў сябе, што быў яму дрэнным сябрам і благім дарадцам фараону. Аднак мой ложак быў мяккі, я жыў у добрым доме, а мой кухар гатаваў мне маленькіх птушак у мёдзе, не было нястачы і ў смажаным мясе антылопаў, і вада з майго гадзінніка струменілася весела і хутка. Апроч таго, другая дачка фараона, Мэкетатон, захварэла на пясчаную ліхаманку, яе мучыў кашаль, яе шчокі гарэлі і праваліліся, а косткі дужак выразна выступалі пад тонкаю скурай. Фараон таксама вельмі непакоіўся, бо вельмі любіў сваіх дачок. Дзве старэйшыя, Мэрытатон і Мэкетатон, заўсёды выходзілі з ім на балкон і кідалі з яго залатыя ланцужкі ці іншыя падарункі тым, каму фараон выказваў прыязнасць.

Прырода і характар чалавека — вялікая і дзіўная таямніца: хворая дачка стала для фараона самай любаю з усіх чатырох, ён дарыў ёй шары са срэбра і слановай косці і купіў маленькага сабачку, які паўсюль хадзіў за дзяўчынкай і спаў ля яе ног на ложку. Фараон худнеў ад хвалявання, уставаў па начах паглядзець на хворую дачку, а яе кашаль балюча раніў яму сэрца.

Дзіўная прырода ў чалавека: урэшце хвароба гэтай маленькай дзяўчынкі стала і для мяне важнейшай за ўсё астатняе — і за маю ўласнасць у Фівах, і за Каптаха, і за недарод у Егіпце, і за ўсіх, хто гінуў у Сірыі за Атона. Я ўжываў усе свае веды, каб вярнуць здароўе дачцэ

фараона і не прымаў ніякіх іншых знатных хворых, чые хваробы выклікаліся абжорствам і гультайствам. Па большасці яны скардзіліся на галаўны боль, бо гэтая немач грызла і фараона. Калі б я патураў іх капрызам, дык мог бы азалаціцца, але мне надакучыла і багацце, і запабяганне перад высакароднымі так, што я часта грубіяніў ім, і яны казалі адзін аднаму: «Пасада царскага лекара ўскруціла Сінухе галаву, і ён, думаючы, што фараон слухае толькі яго, забываецца, што і другія могуць сказаць сваё слова».

Аднак пры ўспамінах пра Фівы, Каптаха і «Кракадзілаў хвост» мая душа поўнілася шчымлівай тугою, і ніякі голад не мог бы параўнацца з прагаю майго сэрца. Я заўважыў, што пакрысе мае валасы радзеюць пад парыком, здаралася, што часам я забываўся на свае абавязкі і мне мроіліся дарогі Вавілоніі, я чуў пах сухога зерня на гліняных таках. Я заўважыў, што патаўсцеў, і мой сон па начах стаў неспакойны, я задыхаўся нават ад невялікай праходкі і не мог абысціся без насілак, а раней мог бы лёгка прайсці любую адлегласць і маё дыханне амаль не пачасцілася б.

Маё сэрца таксама разамлела і шаптала мне: «Табе добра тут, Сінухе, твой ложак мяккі, а пасада царскага трэпанатара пазбаўляе ад клопату аб хлебе надзённым. У цябе ёсць сябры, якія з задавальненнем за цябе вып'юць і пачціва выслухаюць твае словы, бо ты для іх сапраўдны мудры чалавек. Твае вочы радуюцца ад прыгажосці новага мастацтва і многія мастакі размалявалі сцены твайго дома цудоўнымі жывымі карцінамі, бо чашай віна ты суняў пахмельныя дрыжыкі ў іх руках. І фараон загадаў высекчы табе ўсыпальню ў скалах Усходніх гор, каб ты вечна жыў у ёй, услаўляючы фараона і ягоных дачок. Дык чаму ты клапоцішся пра заўтрашні дзень, калі ён будзе падобны да сённяшняга? А калі б і сталася інакшай, дык ты нічога не мог бы змяніць, бо ты проста чалавек, і не болей, дый дастаткова ты ўжо азмрочваў радасныя імгненні жыцця, падліваючы горкі сок палыну ў чашу радасці Атона. Навошта табе шукаць сабе скруху і засмучваць свае вочы, бо напраўду сказана, што шматлікія веды — гэта шматлікія турботы і вялікая журба?»

Так гутарыў я са сваім сэрцам, але раптам мне ў галаву прыйшла прыкрая думка, што нічога цікавага не адбудзецца больш у маім жыцці, калі заўтрашні дзень будзе такім самым, як сённяшні. Якое ж неразумнае ў нас сэрца! Яно не хоча задаволіцца сваёй доляй і ўвесь час шукае магчымасць парушыць спакой чалавека! Так і маё сэрца дапякала мяне.

Тым часам зноў прыйшла восень, вада ў рацэ паднялася, ластаўкі вылезлі з глею і нястомна сноўдалі ў паветры. Здароўе ў царскай дачкі палепшала, кашаль знік, і дзяўчынка перастала скардзіцца на боль у грудзях. А сэрца маё імкнулася следам за ластаўкамі, і тады я падняўся на карабель, каб паплысці ўверх па рацэ і пабачыць Фівы. Фараон дазволіў мне паехаць і загадаў вітаць ад ягонага імя ўсіх навасёлаў на абодвух берагах ракі, дзе ім адвялі землі, адабраныя ў праклятага бога. Яшчэ ён загадаў вітаць заснаваныя ім паўсюль школы і ўвогуле спадзяваўся пачуць пасля майго вяртання шмат прыемных навінаў.



Я спыняўся ля многіх пасяленняў і запрашаў да сябе старастаў пагутарыць з імі. У сувязі з гэтым маё падарожжа не было такім непрыемным, якім уяўлялася напачатку. На мачце майго карабля развіваўся царскі штандар, мой ложак у карабельнай хацінцы быў мяккі і ўтульны, а сустрэчны паток вады не прыносіў мух. Мой кухар ехаў следам на адмысловым чоўне-кухні і ва ўсіх стрэчных вёсках яму неслі дарункі, так што на маім стале заўжды была свежая ежа. Але калі да мяне прыходзілі мужчыны з новых вёсак, я бачыў, што яны былі худыя, як шкілеты, жанчыны глядзелі спалохана, баючыся кожнага шолаху, а дзеці мелі хваравіты выгляд і скрыўленыя ногі. Людзі паказвалі мне засекі, і напалову не запоўненыя збожжам, якое было чамусьці ў чырвоных плямах, нібыта закапанае крывёю, і казалі:

— Спачатку мы думалі, што няправільна апрацоўваем зямлю, бо раней ніколі не былі земляробамі. Мы думалі, што самі вінаватыя, што скаціна дохне, а ўраджаі зусім невялікія, але цяпер мы ведаем, што зямля, якую нам даў фараон,— праклятая, і кожны, хто апрацоўвае яе, таксама пракляты. Па начах нябачныя ногі вытоптваюць палеткі, нябачныя рукі ламаюць садовыя дрэвы, скаціна гіне без дай прычыны, вадзяныя каналы забруджваюцца, а ў студнях мы знаходзім падлу, так што нам не хапае нават пітной вады. Многія ўжо кінулі гэтую зямлю і вярнуліся ў гарады яшчэ больш збяднелымі, чым раней, а таму праклінаюць фараона і ягонага бога. Але мы засталіся дзеля нашай веры, мы спадзяемся на чароўныя пісьмёны і жыватворныя крыжы, якія фараон прыслаў нам. Мы павесілі іх на высокіх жардзінах сярод палёў, каб аберагчы нашы пасевы ад саранчы. Аднак, Амон мацнейшы за фараона, і нам нічога не дапамагае, хоць мы і молім ягонага бога аб дапамозе. Але і наша вера слабее, мы ўжо доўга не вытрываем і, відаць, хутка кінем гэтую праклятую зямлю, пакуль не памерлі ўсе да аднаго, як многія нашы жонкі і дзеці.

Я наведаў школы, дзе настаўнікі, убачыўшы мой жыватворны крыж Атона на вопратцы, паспешліва хавалі дубцы і жагналіся знакам Атона, а дзеці сядзелі на гліняных таках, падціснуўшы ногі і так спалохана, так неадрыўна глядзелі на мяне, што забываліся выціраць насы. Настаўнікі казалі мне:

— Мы разумеем, што няма болей шалёнай задумы, чым навучыць пісаць і чытаць усіх дзяцей, але чаго не зробіш дзеля фараона, якога мы любім, які для нас і бацька, і маці, і мы шануем яго, як сына бога Атона. І ўсё ж мы, людзі вучоныя, наносім шкоду сваёй годнасці, калі сядзім

тут на таках са смаркатымі дзецьмі і выводзім вычварныя знакі на пяску, бо няма ў нас ні таблічак, ні чаротавых пісалаў, а хоць бы і былі, дык новым пісьмом нельга перадаць усю мудрасць, якую мы набылі цяжкай працай і неймаверным стараннем. Заробак нам плацяць нерэгулярна, бацькі таксама плацяць не на поўную меру, бо піва ў іх вадзяністае і кіслае, а алей ў гаршчках з'ёклы. Але мы не адступімся, каб фараон напраўду пабачыў, што навучыць усіх дзяцей пісьменнасці немагчыма, што толькі лепшыя з лепшых могуць спасцігнуць навуку пісьменства, толькі тыя, у каго галовы найбольш здатныя да навучання. Таксама глупства, на нашу думку, вучыць пісьму дзяўчынак, бо такога не было спрадвеку, і думаецца нам, што царскі пісар напісаў гэта памылкова, што таксама сведчыць пра непрыдатнасць новай пісьменнасці.

Я правёў іспыты настаўнікаў і застаўся незадаволены іх уласнымі ведамі, але больш за ўсё мяне расчаравалі самі настаўнікі: іх выгляд і блукаючыя вочы казалі мне, што гэта былі не настаўнікі, а проста разбэшчаныя пісарчукі, якіх ніхто не хацеў браць на службу. Яны былі не надта разумныя і насілі знак жыватворнага крыжа Атона толькі дзеля кавалка хлеба, а калі і траплялися сярод іх выключэнні, дык гэта і былі менавіта выключэнні, а як вядома, адна ластаўка — не вясна з выраю. Земляробы і старасты прасілі мяне ў імя Атона:

— Сінухе, гаспадар наш, папрасі за нас фараона, хай ён вызваліць нас хоць бы ад аднаго цяжару, ад гэтых няшчасных школ, бо з імі мы ўжо пэўна не выжывем. Нашы сыны вяртаюцца ў сіняках ад біцця, з вырванымі пасмамі валасоў, а гэтыя паганыя настаўнікі, ненасытныя, як кракадзілы, абжыраюць нас дашчэнту, ім ніколі не хапае ні піва, ні хлеба, яны вытрасаюць з нас апошнія медзякі і забіраюць скуры, каб купляць сабе віно, яны прыходзяць у нашы хаты і цешацца з нашымі жонкамі, кажучы, што такая воля Атона, бо ў ягоных вачах няма розніцы паміж адным і другім чалавекам, а значыць паміж адной і другой жанчынай!

Я нічым не мог дапамагчы ім, бо фараон загадаў мне толькі вітаць іх ад свайго імя. Таму я адказаў:

— Фараон не можа зрабіць усё за вас. Вы самі вінаватыя, калі Атон не хоча благаславіць вас і вашу зямлю. Я чуў, што вы скваплівыя і не хочаце пускаць у школы дзяцей, прымушаючы іх працаваць на палях, а пакуль вашы дзеці капаюць канавы, вы самі лайдачыце. І ў тым, што тычыцца цнатлівасці вашых жонак, я таксама не магу дапамагчы, бо яны выбіраюць самі, з кім ім весялей. Я гляджу на вас і саромеюся перад тварам фараона, бо ён паслаў вас на вялікую справу, надзяліў звыш усялякай меры, каб вы маглі здзейсніць вялікія змены ў жыцці. А вы замест таго толькі псуеце ўрадлівыя егіпецкія землі ды па наказе жрацоў рэжаце на продаж добрую скаціну.



У адказ яны гучна залямантавалі:

— Напраўду, мы не хацелі ніякіх зменаў, бо хоць і былі ў горадзе беднымі, але болей шчаслівымі, і кожны дзень прыносіў нам што-небудзь новае, а тут мы не бачым нічога, апроч брудных канаваў і дохлай гавяды! Праўду казалі нам: «Асцерагайцеся ўсяго новага, бо кожная змена ў жыцці ідзе толькі на горшае бедным! Што б ні рабілася ў свеце, усё будзе да горшага, і хлеба ў бедняка паменшае, і ўзровень алею ў гарлачы папаўзе ўніз».

Сэрца падказвала мне, што яны кажуць праўду, і я больш ім не пярэчыў і працягваў падарожжа. Але думаючы пра фараона, я адчуваў на душы цяжар і з засмучэннем здзіўляўся, чаму ўсё, да чаго толькі ён не дакранаецца, аказваецца праклятым, чаму руплівыя дзякуючы яму робяцца лайдакамі, а да Атона, як мухі на падлу, злятаюцца толькі самыя нікчэмныя людзі. І я ўспомніў, пра што сам думаў, калі спускаўся па рацэ яшчэ да таго, як пачалі ўзводзіць Ахетатон: «Сам жа нічога не згублю, калі паеду ўслед за Атонам». Дык ці маю я цяпер права ў нечым папракаць гультаёў, хціўцаў дый проста ўбогіх людзей, якім не было чаго губляць, калі яны пайшлі за Атонам разам са сваёю лянотай, хцівасцю і ўбогасцю? Хіба сам я не правёў гэтыя гады ў Залатым палацы, абжыраючыся і апіваючыся? І хіба не прынёс бы я болей карысці, усяго месяц бясплатна лечачы хворых у Фівах, у параўнанні з тымі гадамі, якія правёў у залатым і багатым горадзе Ахетатоне?

І тут у сэрца маё закралася страшная думка: «Фараон хоча, каб настаў час, калі не будзе ні багатых, ні бедных. А калі ў гэтым і заключаецца мэта, дык, значыць, прасталюдзін, які ўсё робіць сваімі рукамі, і ёсць галоўная сутнасць жыцця, а ўсё астатняе — толькі залачонае покрыва на паверхні і нічога болей. І тады выходзіць, што сам фараон і ўсе насельнікі Залатога палаца, усе багацеі і вяльможы, ды і я сам, які правёў апошнія гады ў ляноце і гультайстве,— усе мы проста паразіты на целе народа, падобныя да блох на целе сабакі. Можа блыха ў сабачай поўсці таксама думае, што яна і ёсць соль жыцця, а сабака існуе толькі дзеля яе блышынага існавання. А можа і сам фараон са сваім Атонам падобны да такіх сабачых паразітаў і прычыняе целу, на якім жыве, толькі непакой і болей нічога, бо без блох сабаку жывецца нашмат лепей і здаравей».

Так вось здарылася, што маё сэрца прачнулася пасля доўгага сну і скінула з сябе насланнё Ахетатона. Я агледзеў усё навокал новымі вачыма, і ўсё, што толькі траплялася мне на вочы, было нядобра. А можа так адбывалася таму, што патаемныя чары Амона скрыўлялі ўсё вакол, бо мелі нябачную ўладу над усім Егіптам, за выключэннем Паднябеснага горада, адзінага месца, дзе ўлада Амона была бяссільная. Дзе крылася праўда — я не бяруся даводзіць, скажу толькі што на свеце ёсць

людзі, якія не хочуць змяняць сваіх поглядаў і кожны раз, калі ім трапляецца што-небудзь новае, паводзяць сябе, як чарапаха, уцягваючы галаву пад панцыр, а мае ўяўленні пастаянна змяняюцца пад уздзеяннем таго, што ўдаецца пачуць, пабачыць, даведацца, і гэта вонкавае так лёгка ўплывае на мае меркаванні, што я і сам таго не заўважаю.

Такім вось чынам я ўбачыў тры вяршыні на даляглядзе, трох спрадвечных вартавых Фіваў, зноў перада мною паўсталі дахі і сцены храма, але цяпер спічакі абеліскаў не зіхцелі пазалотай, бо не было каму аднавіць яе. І ўсё ж іхні выгляд быў прыемны майму сэрцу, я выліў чашу віна ў воды Ніла, як гэта робяць мараплаўцы, вяртаючыся дамоў пасля доўгага падарожжа,— праўда, яны выліваюць не віно, а піва, зберагаючы віно на свае ўцехі, калі толькі тое віно яшчэ застаецца пасля доўгага плавання, бо запасы ў жбанах у маракоў ніколі не бываюць занадта вялікімі. А потым я ўбачыў высокія каменныя дамбы і ўдыхнуў водар гавані, гэта быў пах сапрэлага зерня, вады, напоўненай брудам, востры пах прыправаў, вохнасцяў і смалы, асабліва прыемны быў мне пах смалы.

Але былы дом медніка ў бядняцкай частцы горада здаўся мне ўбогім і цесным, а завулак перад ім — смярдзючым і поўным мух. Не парадаваўся я і паглядзеўшы на смакоўніцу, якую пасадзіў сваімі рукамі, за гэты час яна ўзнялася вельмі высока. Так вось сапсавалі мяне багацце і раскоша Ахетатона. Мне стала сорамна перад сабой, і маё сэрца напоўнілася тугою. Каптаха не было дома, і мяне сустрэла толькі кухарка Муці, якая, убачыўшы мяне, жаласна залямантавала:

— Хай будзе благаслаўлёны той дзень, які прывёў дадому майго гаспадара! Толькі пакоі пана не прыбраныя, а бялізну я аддала памыць! Твой прыезд, мой гаспадар, прынясе мне шмат клопатаў і непакою, хоць я і так нічога вясёлага ад жыцця не чакаю! Але тваё нечаканае вяртанне не здзіўляе мяне, бо так ужо робяць усе мужчыны, і чакаць ад іх чагосьці добрага — марная справа!

Я паспрабаваў уціхамірыць яе, сказаўшы, што правяду ноч на караблі, але яна, нічога не слухаючы і заклікаючы ў сведкі печку, веранду і садовыя кусты, скавытала і енчыла пра непамерны клопат, які кладзецца на яе старыя плечы пасля майго вяртання. З тым я яе і пакінуў, загадаўшы аднесці мяне ў шынок «Кракадзілаў хвост», дзе мяне сустрэла Мэрыт. Праўда, у маёй новай вопратцы і ў насілках, яна адразу не пазнала мяне і спытала:

— А ці замаўляў пан месца на вечар? Без папярэдняй замовы, на жаль, я не змагу пана пусціць.

Яна стала крыху больш дзябёлая, яе скулы ўжо не здаваліся такімі высокімі, але вочы засталіся нязменнымі, толькі тоненькія зморшчынкі атачылі іх. Маё сэрца пацяплела і, паклаўшы руку ёй на клуб, я сказаў:

— Я разумею, што ты забыла мяне, саграваючыся на канапе са ўсякімі іншымі самотнымі ды гаротнымі мужчынамі, і ўсё-ткі спадзяюся знайсці тут прытулак і чашу халоднага віна, нават калі пра твой ложак мне і падумаць нельга.

Яна здзіўлена ўсклікнула:

— Сінухе, гэта ты! Хай будзе блаславёны той дзень, які прывёў дадому майго гаспадара!

Яна паклала свае дужыя прыгожыя рукі мне на плечы, уважліва агледзела мяне і спытала:

— Сінухе, Сінухе, што ты нарабіў з сабой! Раней у сваёй самоце ты быў падобны да льва, а цяпер выглядаеш, як дамашні сабачка.

Яна зняла з мяне парык і палашчыла па галаве, якая пачала ўжо лысець:

— Хадзем, Сінухе, я цябе пасаджу і прынясу халоднага віна, а то ты ўвесь спацеў і цяжка дыхаеш ад стомы пасля свайго падарожжа.

Я занепакоіўся і папярэдзіў яе:

— Толькі не прынось мне гэтага «кракадзілавага хваста», цяпер ён не для майго страўніка і тым больш не для маёй галавы.

Яна дакранулася рукой да маёй шчакі і сказала:

— Няўжо я такая старая, тоўстая і брыдкая, што ты нават пасля такой доўгай разлукі думаеш найперш пра свой страўнік! Раней ты, здаецца, не баяўся пры мне галаўнога болю, наадварот — ты так захапляўся «кракадзілавым хвастом», што цябе даводзілася стрымліваць.

Гэтыя словы засмуцілі мяне, бо былі праўдай. Таму я адказаў:

— Мэрыт, дружа, я сапраўды пастарэў, і нікуды ўжо не варты.

Але яна запярэчыла:

— Гэта ты толькі думаеш, што такі стары, але ж твае вочы, калі ты глядзеў на мяне, былі маладыя, і гэта мяне вельмі ўзрадавала.

Тады я сказаў:

— Мэрыт, дзеля нашага сяброўства, нясі хутчэй гэтага хвастатага, інакш я магу ўчыніць якую-небудзь непрыстойнасць, а мне рабіць гэтага пры маёй пасадзе царскага лекара ды яшчэ і ў шынку ніяк нельга!

Яна прынесла напой у чашы падобнай да ракавіны, я сціснуў яе ў далонях і выпіў, і маё горла, прызвычаенае да лёгкіх вінаў, апякло полымем «кракадзілавага хваста», але тое полымя было прыемным, бо я трымаў руку на клубе Мэрыт. Я сказаў:

— Мэрыт, калісьці ты мне сказала, што таму, хто жыве ў самоце і чыя першая вясна даўно мінула, падман можа быць прыемнейшы за праўдзівыя словы. Таму я скажу табе, што маё сэрца ўсё яшчэ маладое і квітнее, калі я гляджу на цябе і што гады нашай разлукі цягнуліся доўга, але не было ніводнага дня, каб я не паўтараў тваё імя. Я пасылаў табе прывітанні з кожнаю ластаўкай, якая ляцела ўверх па рацэ, і прачынаўся з тваім імем на вуснах.

Яна глядзела на мяне і была ў маіх вачах такой самай стройнаю і прывабнаю, а недзе ў глыбіні яе позірку хаваліся ўсмешка і маркота, як бляск вады ў глыбокай студні. Яна дакранулася да маёй шчакі і сказала:

— Сінухе, сябра мой, ты так прыгожа кажаш. Дык чаму б і мне не прызнацца, што маё сэрца тужыла па табе, а мая рука шукала тваю руку, калі па начах я была адна ў сваім ложку. А калі мужчыны, хвастанутыя «кракадзілавым хвастом», пачыналі казаць розныя глупствы, я ўспаміната цябе і мне рабілася вельмі сумна. А ў Залатым палацы фараона, мусіць, шмат прыгожых жанчын, і ты мог задавольваць іхнія капрызы, як прыдворны лекар?

Гэта была праўда, часам я цешыўся з некаторымі прыдворнымі жанчынамі, якія не ведалі куды дзецца ад нудоты і звярталіся да мяне па дапамогу, скура ў іх была гладкая і мяккая, як пух, дый зімой ляжаць у ложку аднаму халадней, чым удваіх. Але ўсё гэта было так малазначна, што я нават не захацеў успамінаць пра тое ў сваёй гісторыі. Таму я адказаў:

— Калі і праўда, Мэрыт, што я не заўсёды спаў адзін, ты ўсё роўна можаш паверыць, што ты адзіная жанчына, якую я назваў сябрам.

«Кракадзілаў хвост» пачаў дзейнічаць на мяне, цела і сэрца ў мяне сталі зноў маладыя, салодкі агонь пацёк па жылах, і я працягваў:

— За гэты час, напэўна, шмат якім мужчынам пашанцавала раздзяліць з табой ложак, але цяпер ты іх папярэдзіш, што я прыехаў, і пакуль буду ў Фівах, хай паберагуцца, бо я страшны ў гневе, нездарма на вайне з хабірамі воіны Харэмхеба празвалі мяне Сынам дзікага асла.

У жартаўлівым жаху яна ўзняла рукі і сказала:

— Менавіта таго я і баялася, бо Каптах расказаў мне пра незлічоныя бойкі і сваркі, якія мой пан учыняў у далёкіх землях і ратаваўся толькі дзякуючы розуму адданага і смелага слугі. Але тут табе трэба памятаць, што ў майго бацькі пад зэдлікам ляжыць дубіна, і ён нікому не дазваляе ўчыняць сваркі і бойкі ў гэтым доме.

Пачуўшы імя Каптаха, я адразу ўявіў, колькі бессаромнай хлусні пра мяне і мае падарожжы, напэўна, пачула Мэрыт. Слёзы паліліся ў мяне з вачэй, і я спытаў:

— А дзе сам Каптах? Дзе мой былы раб і слуга? Я хачу абняць яго, бо маё сэрца заходзіцца ад тугі па ім! Зрэшты, можа, пры маёй ганаровай пасадзе так казаць непрыстойна, бо хоць і былы, але ўсё ж ён мой раб!

Мэрыт хацела супакоіць мяне і сказала:

— Бачна, што ты сапраўды адвык ад «кракадзілавага хваста», вунь ужо і бацька сярдзіта глядзіць у твой бок і нешта шукае пад зэдлікам, бо ты надта шумна сябе паводзіш. А што да Каптаха, дык да вечара ты яго не ўбачыш: ён увесь час заняты здзелкамі на хлебнай і віннай біржах ды наглядам за харчэўнямі і шынкамі, дзе, уласна кажучы, і заключаюцца асноўныя здзелкі. Дый думаецца мне, што ты ўвогуле будзеш вельмі здзіўлены, калі яго ўбачыш: ён цяпер зусім цьмяна памятае пра сваё рабства і тое, што насіў за табой на кійку сандалі, перакінуўшы яго цераз плячо. Таму павяду я лепш цябе прагуляцца, каб «кракадзілаў хвост», пакуль Каптах прыйдзе, выветрыўся з тваёй галавы. Тым больш, што ты, здаецца, сам хочаш паглядзець, як у тваю адсутнасць змяніліся Фівы, дый галоўнае — мы зможам пабыць сам-насам.

Яна пайшла змяніць вопратку, умасціла свой твар вохным алеем, надзела залатыя і срэбраныя аздобы, так што толькі рукі і ногі паказвалі на тое, што яна прасталюдзінка, а не знатная арыстакратка, хоць рэдка ў якой жанчыны вочы глядзелі так выразна і цвёрда, а рот надаваў твару такі горды выраз.



Я загадаў рабам несці нас уздоўж Алеі бараноў і хутка змог пераканацца, што Фівы сталі зусім не такімі, якімі былі раней: я бачыў вытаптаныя кветнікі, дрэвы з паламанымі галінамі, я бачыў, што на некаторых вуліцах — там, дзе былі пажарышчы,— паўсталі новыя дамы. А мы сядзелі ў насілках цесна зблізіўшыся, і водар яе парфумы быў сапраўдным водарам Фіваў, болей п'янлівым і моцным, чым усе пахі самых дарагіх алеяў Ахетатона. Я трымаў яе за руку, і на маім сэрцы не было ніводнай дрэннай думкі, я адчуваў сябе так, нібы вярнуўся дадому пасля доўгага падарожжа.

Так мы наблізіліся да храма, і чорныя птушкі ўзвіліся ў неба з прарэзлівымі крыкамі. Яны так і не вярнуліся ў свае горы, застаўшыся ў Фівах, і ніхто не турбаваў іх тут, у спустошаным і бязлюдным храме, бо зямлю вакол яго праклялі і людзі пазбягалі бываць там. Мы выйшлі з насілак і прайшлі праз першы спусцелы двор, дзе былі толькі служкі з Дому жыцця і з Дому Смерці, бо перамяшчэнне гэтых устаноў было занадта цяжкай і дарагой справай. Мэрыт сказала, што людзі рэдка цяпер заходзяць у Дом Жыцця, бо амаль усе лекары адтуль перабраліся ў горад і займаюцца лекарскай справай, яны супернічаюць між сабой і адбіваюць адзін у аднаго хворых. Мы прайшлі праз храмавы сад па зарослых пустазеллем дарожках, прыгожыя каштоўныя дрэвы былі высечаныя і раскрадзеныя, а ў свяшчэннай сажалцы больш не плавалі вялізныя рыбіны. Адзінай чалавечай істотай, якую мы ўбачылі на прасторы вялізнага сада, дзе некалі гулялі дзеці, прахаджваліся дарослыя і чуўся чалавечы гоман, быў нейкі валацуга ў рызманах. Ён падазрона зірнуў у наш бок і паспяшаўся знікнуць з нашых вачэй.

Чым больш я хадзіў па спусцелай зямлі вакол храма, тым больш змрачнела мая душа і тым мацней ціснуў на мае плечы цень праклятага бога. Усё вакол сведчыла, што ўлада гэтага бога не знікла разам са знішчэннем яго выяваў, і па-ранейшаму пануе ў чалавечых сэрцах. Мы

зайшлі ў вялікі храм, дзе паміж каменнымі плітамі прарастала трава, і ніхто не спыніў нас перад уваходам у самае святое месца храма, і грубыя, непрыгожыя знакі свяшчэннай пісьменнасці на сценах адкрыліся нашым вачам там, дзе па віне нядобрасумленных каменячосаў можна было лёгка прачытаць імя праклятага бога. Мэрыт сказала:

— Гэта злое месца, і холад працяў маё сэрца, калі ты прывёў мяне сюды. Можа быць, крыж Атона і абараняе цябе, але тут лепш было б яго зняць, каб у гэтым спусцелым месцы хто-небудзь не кінуў у цябе каменем ці не ўсадзіў табе ў жывот нож, убачыўшы гэты крыж. Нянавісць усё яшчэ валодае сэрцамі ў Фівах.

Яна казала праўду, бо калі мы разам выйшлі з храма на плошчу перад храмам, людзі пляваліся, убачыўшы крыж Атона на маім каўняры. На здзіў, сярод натоўпу я згледзеў жраца Амона з паголенай насуперак загаду фараона галавой і ў белых строях. Яго твар ільсніўся ад масцяў, вопратка была з самага тонкага ільнянога палатна, і было бачна, што ён жыве не ў галечы, і людзі пачціва расступаліся перад ім. Ад бяды лепш перасцерагчыся загадзя, а таму я прыкрыў такі крыж Атона на каўняры, каб не выклікаць непатрэбнага хвалявання. Я не хацеў дарэмна абражаць пачуцці людзей, бо ў адрозненне ад фараона, быў не супраць, каб кожны меў сваю веру, а калі і перасцярогся, дык яшчэ і таму, каб не ставіць у небяспеку Мэрыт.

Так мы выйшлі за сцены храма і спыніліся паслухаць казачніка, які сядзеў, як звычайна, на невялічкім дыване з пустой місаю каля ног. Вакол яго паўколам стаялі слухачы, а бяднейшыя сядзелі проста на зямлі, не баючыся запэцкаць вопратку. Ніколі раней я не чуў такой казкі, дзе расказвалася б пра ілжэфараона старадаўніх часоў, які зарадзіўся ў чэраве чорнай маткі ад злога бога Сэта. Гэтая вядзьмарка сваім чарадзействам заваявала каханне фараона. Па жаданню Сэта ілжэфараон задумаў пагубіць народ Егіпта і аддаць яго ў рабства неграм ды варварам, і дзеля гэтага ён загадаў знішчыць усе выявы Ра. Тады вялікі бог пракляў зямлю, і яна перастала прыносіць плады, рака рынулася на людзей патопам, саранча пажэрла ўвесь ураджай на палях, вада ў сажалках ды азёрах ператварылася ў кроў, і смурод зыходзіў ад іх, і жабы заскоквалі ў ложкі людзям і ў гаршчкі з цестам. Але злічаныя былі дні ілжэфараона, бо сіла Ра была мацнейшая за сілу Сэта, хоць ілжэфараон у сваёй хітрасці называў Сэта іншым імем. І памёр ілжэфараон паганаю смерцю, і такой самай брыдкаю смерцю памерла вядзьмарка, якая нарадзіла яго на свет, а Ра пакараў усіх, хто паўставаў супраць яго і раздаў зямлю і маёмасць тым, хто заставаўся яму верным слугой пад час ліхалецця і чакаў яго вяртання.

Казка была вельмі доўгая, але захапляла ўсіх так, што людзі тупалі нагамі і нецярпліва ўздымалі рукі, жадаючы хутчэй пачуць канец. Нават я слухаў яе з разяўленым ротам. Пад канец ілжэфараон напаткаў заслужаную кару і праваліўся ў апраметную, а ягонае імя праклялі, і Ра справядліва падзяліў паміж сваімі вернікамі дамы, зямлю, гавяду ды іншую маёмасць. Слухачы аж заскакалі ад захаплення, у місу казачніку паляцела медзь, а нехта кінуў нават і срэбра. Маё здзіўленне было такое вялікае, што я сказаў Мэрыт:



— Напраўду, гэта новая казка, я ніколі раней не чуў такога, хоць у дзяцінстве мая маці Кіпа вельмі любіла казкі ды ўсякія паданні і ветла ставілася да розных спевакоў і казачнікаў, так што бацька мой, Сэнмут, часам грозіў ім сваім кіем, калі маці карміла іх у нас на кухні. Але гэтая новая казка небяспечная, бо, каб толькі можна было падумаць такое, я сапраўды падумаў бы, што ў ёй расказваецца пра фараона Эхнатона і паганага бога, чыё імя не будзем прамаўляць уголас. Таму гэтую казку трэба забараніць.

Мэрыт усміхнулася і сказала:

— Як можна забараніць казку, калі яе расказваюць у Двух Царствах каля кожнай брамы і кожных муроў, на таках ды ў іншых месцах, і людзям яна вельмі даспадобы? А калі ахоўнікі пагражаюць палкамі, то чуюць у адказ, што гэта вельмі старадаўняя казка, і гэта могуць засведчыць жрацы, якія і знайшлі яе ў старажытных кнігах. Таму ахоўнікі нічога не могуць зрабіць казачнікам, хоць я чула, што Харэмхеб чалавек вельмі люты і плюе на кнігі і сведчанні. Кажуць, ён павесіў на мурах Мемфіса некалькі казачнікаў, а потым аддаў іх на корм кракадзілам, абвінаваціўшы не за казкі, а за нейкія іншыя злачынствы.

Мэрыт з усмешкай узяла мяне за руку і працягвала:

— Сёння ў Фівах шмат чаго кажуць аб прадказаннях і прароцтвах. Варта толькі сустрэцца двум чалавекам, як яны пачынаюць пераказваць адзін аднаму розныя жахлівыя прароцтвы і байкі пра нядобрыя прыкметы, бо, як ты ведаеш, цэны на хлеб растуць і голад пагражае беднякам, а падаткі аднолькава душаць і бедных, і багатых. Прароцтвы ж прадказваюць яшчэ большыя жахі, і мяне б'юць дрыжыкі, калі я думаю пра беды, якія чакаюць Егіпет. Калі хочаш, я перакажу табе адно прароцтва, якое пачула ад мыйшчыка сценаў у «Кракадзілавым хвасце», а той пачуў яго ад рыначнага гандляра, які праведаў пра гэта ад свайго прыяцеля. Той прыяцель — вельмі надзейны чалавек, і яму можна верыць, а ён сустракаўся з удавой аднаго клейшчыка папіруса, з якой і адбыўся гэты выпадак, і яна сама расказала яму пра гэта. Дык вось, аднойчы, у святы дзень перад разлівам Ніла, удава села ў човен, каб пераплыць на той бок ракі, у Горад Мёртвых, і прынесці ахвяру на магіле мужа. У тым чоўне насупраць яе сядзела адна святая жанчына, праўда, тады ніхто нават не падазраваў, што яна святая, бо на ёй была брудная вопратка і валасы не былі намазаныя алеем. І вось тая жанчы-

на сказала ўдаве: «Напэўна, нябожчык вельмі любіў арэхавыя аладкі, калі ты вязеш іх яму на магілу». Удава вельмі здзівілася, бо яна везла тыя аладкі ў закрытым кошыку, што стаяў каля яе ног. А жанчына працягвала: «Я здзіўляюся, бо ніколі не бачыла, каб нябожчыкам вазілі арэхавыя аладкі, напрыклад, у тым гаршчку вязуць кашу на малацэ, у тым кошыку — смажаную качку, а ў збанку — сірыйскае піва». Такім чынам яна пералічыла ўсё, што людзі везлі з сабой, назвала імёны ўсіх нябожчыкаў. Тады людзі пачалі здзіўляцца і зразумелі, што гэта святая жанчына. Нарэшце яна сказала: «Вялікія выпрабаванні чакаюць народ Егіпта праз той праклён, пра які вы ўсе ведаеце, і хутка настане дзень, калі нават за золата будзе немагчыма купіць кавалак хлеба, а вам усім трэба ўмацаваць вашу веру, таму што багі Егіпта не пакінуць без дапамогі нікога,— апроч тых, хто выракся іх і служыць паганаму богу,— і будзе вам усім знак у тым, што ведамая ўсім чарадзейка памрэ жахліваю смерцю раней, чым паспее ўраджай на палях». Яна гаварыла, а ўсе, хто быў побач, баяліся, што яе словы пачуюць ахоўнікі. Аднак калі човен падышоў да берага ў Горадзе мёртвых, святая жанчына знікла, і яе больш ніхто не бачыў.

Я з прыкрасцю спытаў у Мэрыт:

— І ты верыш гэтай дурной паказцы? Верыш мыйшчыку сценаў ды гандляру каранямі, верыш усякім балбатлівым удовам, хоць сама добра ведаеш, што ад гэтых «прароцтваў» ажно смярдзіць жрацамі? Я даўно ўжо скеміў, што сваімі байкамі яны толькі хочуць распаліць народ.

Мэрыт адказала:

— Не ведаю каму тут верыць... Каб ты пражыў у Фівах хоць месяц ці год, ты і сам паверыў бы: тут творыцца нямала ўсякіх цудаў па волі таго, чыё імя нельга прамаўляць. Я ведаю адно: калі вядзьмарка памрэ раней, чым паспее ўраджай на палях, дык я сапраўды ва ўсё гэта паверу. Але я не чула, каб казалі, што яна хварэе.

— Цікава, каго ты маеш на ўвазе? — запальчыва спытаў я, але Мэрыт зірнула на мяне жорсткімі вачыма і, сумна ўсміхнуўшыся, сказала:

— Ты сам выдатна ведаеш каго і толькі што чуў казку пра гэта. Нічога, апроч бяды, гэтыя негры Егіпту не прынясуць.

Тады я вырваў сваю руку з яе далоняў і маё сэрца адхіснулася ад яе, а хмель ад «кракадзілавага хваста» адразу выветрыўся з галавы, пакінуўшы толькі моцны боль і дрэнны настрой. Неразумная ўпартасць Мэрыт не спрыяла добраму настрою. Так, пасварыўшыся, мы вярнуліся ў шынок, і я пераканаўся, што слушна казаў фараон Эхнатон: «Атон напраўду разлучыць дзяцей з маткамі, а мужчын вырве з сэрца жанчын, пакуль запануе на зямлі царства ягонае». Але я не хацеў праз Атона расставацца з Мэрыт і таму быў у дрэнным гуморы да самага вечара, пакуль не ўбачыў Каптаха.



**3**

Напэўна, ніхто не змог бы застацца ў дрэнным гуморы, калі б убачыў, як Каптах праціскаецца ў дзверы шынка — ён стаў такі дзябёлы і тоўсты, што пралезці ў дзверы мог толькі бокам. Яго круглы, як поўны месяц, твар ільсніўся ад дарагога алею, галаву пакрываў модны блакітны парык, а сляпое вока ён прыкрыў залатой пласцінкай. Ён ужо не насіў сірыйскае вопраткі, на ім было ўсё самае лепшае, што маглі зрабіць краўцы ў Фівах, а на прыцэўках і тоўстых глізнах бразгалі цяжкія залатыя бранзалеты.

Убачыўшы мяне, ён гучна ўскрыкнуў і схіліўся перада мною, апусціўшы рукі да каленяў, хоць гэта было і нялёгка пры такім вялізным жываце. Каптах сказаў:

— Хай будзе блаславёны той дзень, які прывёў дадому майго гаспадара!

Ахоплены віхурай пачуццяў, ён заплакаў, укленчыў і, абняўшы мне ногі, пачаў гучна галасіць. Тады я ўжо канчаткова пазнаў свайго былога Каптаха, нягледзячы на ўсе змены, што з ім адбыліся. Я падняў яго за рукі і абняў. І адразу адчуў пах, што ішоў ад яго шчок і плячэй. Мне падалося, што я абдымаю дужага быка і ўдыхаю пах свежага хлеба, бо так уеўся ў яго пах збожжавай біржы. Каптах таксама пачціва панюхаў мае плечы, выцер слёзы і гучна засмяяўся, кажучы:

— Сёння дзень вялікай радасці, а таму я пачастую ўсіх прысутных «кракадзілавым хвастом». Але за другую чашу «хваста» кожны будзе плаціць сам.

Сказаўшы тое, ён правёў мяне ў асобныя пакоі, пасадзіў на мяккі дыван і дазволіў Мэрыт сесці побач. Потым ён загадаў слугам падаць усё лепшае, што маецца ў доме, і ягонае віно можна было параўнаць з фараонавым, а смажаная гусь была сапраўднаю гускаю па-фіванску, якой не знойдзеш ва ўсім Егіпце, бо адкормліваюць такіх гусей тухлаю рыбай, ад чаго яны набываюць непараўнальны тонкі смак. Мы паелі і папілі, а потым Каптах сказаў:

— Мой гаспадар Сінухе! Я спадзяюся, ты ўважліва чытаў усе рахункі і запісы, якія я загадваў пісарам адсылаць табе ў Ахетатон усе гэтыя гады. Калі дазволіш, я абазначу як прадстаўнічыя выдаткі і гэтую нашу вечарыну, і тыя «кракадзілавы хвасты», якімі я пачаставаў гасцей у шынку. Гэта ніякім чынам не пашкодзіць табе, а наадварот — павялічыць твае багацці, бо мне каштуе вялікай працы падманваць фараонавых зборшчыкаў падаткаў дзеля тваёй карысці, каб магчы такім чынам прыхаваць крыху і сабе.

Я адказаў яму:

— Усё гэта гучыць для мяне, як няўцямная балбатня неграў, і я не

разумею ніводнага твайго слова, а таму дазваляю рабіць усё, што хочаш, бо цалкам табе давяраю. Я, вядома, чытаў усё, што ты дасылаў мне, але прызнаюся, што мала што зразумеў, бо там надта ўжо многа лічбаў — нават больш, чым у разліках Харэмхебава пісарчука, які спрабаваў падлічыць, колькі спатрэбіцца часу, каб усе людзі на свеце змаглі з'явіцца перад вачыма фараона Эхнатона, каб ён з кожным пагутарыў. Але падлічыць да канца яму не ўдалося, бо ў розных канцах свету людзі нараджаюцца бесперапынна і паспеюць састарэць, пакуль настане іх чарга паўстаць перад фараонам. А на свет тым часам з'явяцца яшчэ новыя дзеці, так што фараон ніколі не паспее пагутарыць з кожным чалавекам на зямлі асобна, хоць бы і патраціў на гэта кожны ўдар свайго сэрца і гаварыў бы з ранку да ночы і з ночы да ранку. Вось так і мне, Каптах, ніколі не ўдалося б сустрэцца з табою, калі б я ўвесь час чытаў твае рахункі і ніколі не дабраўся б да канца, бо мая галава пачынала балець адразу, як толькі я за іх браўся.

Каптах весела засмяяўся і яго смех глуха забурчэў недзе ў нетрах яго вялізнага жывата, нібы пад стосам мяккіх коўдраў. Выпіўшы са мною віна, смяялася таксама і Мэрыт. Яна адкінулася назад, заклаўшы рукі за галаву, і я заўважыў пад яе тонкаю вопраткай па-ранейшаму прыгожыя абрысы яе грудзей. Каптах прамовіў, смеючыся:

— Вой, Сінухе, мой гаспадар і ўладар, вялікая гэта радасць бачыць цябе і бачыць, што ты збярог дзіцячую душу і разумееш у штодзённых справах не болей, чым свіння ў маністах, хоць я ніякім чынам не хачу параўноўваць цябе са свіннёй, а ўслаўляю ўсіх багоў Егіпта і дзякую ім за тое, што яны далі мяне табе ў слугі, а маглі ж бы вельмі проста даць табе і якога-небудзь лайдака і прайдзісвета, і той абабраў бы цябе да ніткі, тым часам як я зрабіў цябе багацеем.

Я нагадаў яму, што за гэта трэба дзякаваць не багам, а маю здольнасць ацэньваць людзей, бо я сам купіў яго на рыначнай плошчы за срэбра, і зусім танна, улічваючы, што адно вока ён страціў у п'янай бойцы. Ад успаміну пра тое я расчуліўся і сказаў:

— Напраўду, ніколі не забуду той дзень, калі ўпершыню ўбачыў цябе прывязанага за нагу да слупа, дзе прывязвалі рабоў, а ты крычаў розныя паскудныя словы жанчынам, якія праходзілі паўз цябе, а ў мужчын выпрошваў піва. Але бясспрэчна, што я зрабіў мудра, купіўшы цябе, хоць спачатку і вагаўся. Рэч у тым, што срэбра ў мяне тады было мала, я быў яшчэ малады лекар, але ў цябе было выкаланае вока, і цана мне падышла.

Каптах спахмурнеў, яго твар пакрыўся зморшчынамі, і ён сказаў:

— Я не хацеў бы, каб ты нагадваў мне пра тыя далёкія часы і непрыемныя, вартыя жалю акалічнасці, якія толькі абражаюць маю годнасць.

Потым ён пачаў усхваляць нашага скарабея:



— Ты зрабіў мудра, калі пакінуў мне скарабея весці твае справы, бо гэта скарабей абагаціў цябе так, што табе і не прыснілася б, хоць фараонавы зборшчыкі падаткаў віліся над маім каркам, як злосныя мухі, і мне даводзіцца трымаць двух пісарчукоў-сірыйцаў, каб пісаць даведкі гэтым самым зборшчыкам, хоць у іхніх падрахунках сам Сэт з усімі нячысцікамі не разбярэцца, а кажучы пра Сэта я ўспомніў нашага сябра Харэмхеба, якому ад твайго імя пазычыў шмат золата, як табе вядома. Ды я не пра яго хацеў гаварыць, але ж мае думкі лунаюць, як птушкі ў небе, ад радасці бачыць твой незасмучаны твар, гаспадар мой, а можа яны ўзлятаюць ад выпітага віна, якое я абавязкова запішу ў прадстаўнічыя выдаткі, так што ты, мой гаспадар, можаш піць, колькі ўлезе, тым больш, што такога віна не знойдзеш нават у фараонавых склепах, а прысвоіў я ад яго цаны ўсяго нічога. Вось пра тваё багацце мне і хацелася пагутарыць з табою, хоць ты нічога ў гэтым не цяміш, але мушу сказаць, што дзякуючы мне ты стаў багацейшым за многіх знатных людзей Егіпта, цяпер ты багаты, як самыя знатныя, бо не той папраўдзе багаты, хто мае золата, а той, хто валодае дамамі і свірнамі, караблямі і пристанямі, статкамі гавяды і зямлёй, пладовымі садамі, быкамі і рабамі. Усім гэтым ты валодаеш, праўда, сам пра тое не падазраючы, бо мне даводзілася ўтойваць тваю ўласнасць ад зборшчыкаў падаткаў і называць шмат чаго не так, як гэта ёсць напраўду. Фараонавы падаткі кладуцца на багатых людзей цяжкім ярмом, бо плаціць ім даводзіцца нашмат болей, чым беднякам, беднякі плацяць толькі пятую частку ад ураджаю, а багатыя адлічваюць трацiну або нават і палову ад сваіх прыбыткаў гэтым праклятым зборшчыкам падаткаў, а яны ўсё кружляюць над табой, нібы падлажэрныя птушкі. Гэта несправядліва і бязбожна, а самае несправядлівае, што фараон зацвердзіў такія падаткі, і цяпер яны разам з нашаю стратай Сірыі зусім давялі краіну да галечы. Але ўсё робіцца па волі багоў, і самае дзіўнае, што беднякі сталі яшчэ бяднейшыя, а багацеі яшчэ больш разбагацелі, і сам фараон тут нічога зрабіць не здольны. А я табе, гаспадар мой Сінухе, адкрыю важную таямніцу, бо ў гэтым, урэшце, і крыецца твая таямніца: усякае багацце пачынаецца са збожжа.

Каптах гаварыў і піў віно, якое капала на яго тонкую вопратку, але ён не звяртаў на гэта ўвагі, кажучы, што ўставіць яе цану ў прадстаўнічыя выдаткі ці ў спіс падарункаў для пасрэднікаў і крыху падвысіць цану на збожжа. А тады пачаў хваліцца сваімі здзелкамі:

— Наш скарабей, мой гаспадар, сапраўды цудадзейны, бо ў першы ж дзень, калі мы вярнуліся з нашых доўгіх вандраванняў, ён прывёў мяне ў шынок, дзе збіраліся гандляры збожжам і дзе яны напіваліся ўшчэнт, заключаючы буйныя здзелкі. Тады я стаў за твае грошы купляць зерне і змог добра нажыцца за першы год, тым больш, што Ам... я маю на

ўвазе, што шмат земляў, як ты памятаеш, заставаліся неапрацаванымі і незасеянымі. Але цудадзейнасць зерня якраз і заключаецца ў тым, што яго можна купляць і прадаваць яшчэ да таго, як разліецца рака і яго пасеюць, а яшчэ болей дзівосная рэч у тым, што цана на збожжа самым цудоўным чынам год ад году ўзрастае, і пакупнік толькі нажываецца, і ніколі не прайграе. А таму гэтым годам я не буду прадаваць ніводнага зернейка, а буду толькі купляць і складваць усё ў свірны да тае пары, пакуль за меру збожжа не пачнуць даваць золата, а такі дзень ужо недалёка, калі справы і далей пойдуць так, як ідуць сёння, бо нават старыя і паважаныя гандляры плачуць і галосяць сёння, ірвучы на сабе вопратку, калі ўспамінаюць пра зерне, якое па сваёй дурасці прадалі, бо калі б не прадалі, то шматкроць узбагаціліся б.

Каптах уважліва паглядзеў на мяне, адпіў віна, наліў нам з Мэрыт і сур'ёзна працягваў:

— Але не варта ставіць усё золата на адзін шар. Таму я раўнамерна ўклаў твае прыбыткі, мой гаспадар, так, каб згуляць адразу некалькімі шарамі, хай сабе і на твае грошы. І вось цяпер — дзякуй фараону — такі час настаў, і мне трэба маліцца за здароўе фараона, бо за кошт таго, што ён робіць і загадвае рабіць і, вядома ж, за кошт гэтага ягонага праклятага падаткаабкладання ўсе, хто раней быў багаты, цяпер збяднелі і страчваюць усё, чым валодалі раней, будучы вымушанымі прадаваць дамы і майно вельмі танна, амаль за бясцэнак. Напрыклад, людзі, якія раней фанабэрыліся сваёй вопраткай ды аздобамі, цяпер прадаюць свае караблі і закладваюць маёмасць, і такім чынам ты, мой гаспадар, стаў уласнікам большай, чым нават можаш падлічыць, колькасці дамоў у Фівах, хоць праз падаткі яны запісаныя на розныя імёны, як я табе пра тое ўжо казаў. Такім чынам, мой гаспадар, ты стаў вельмі багаты, а я не клаў сабе ў кішэнь болей, чым раней, не браў у цябе нават і палову таго, што зарабіў сваёй кемлівасцю, нават не прысвоіў і траціну ад усяго здабытага, хіба што зрэдку ўзнагароджваючы сябе за стараннасць і добрасумленнасць і ўслаўляючы багоў за тое, што няма ў мяне ні жонкі, ні дзяцей, якія грызлі б мяне ўдзень і ўначы за тое, што я не краду болей, бо, прызнаюся табе, красці ў такога чалавека, як ты, любы і благаслаўлёны мой гаспадар, Сінухе, было б вельмі лёгкім і прыбытковым заняткам.

Мэрыт сядзела, адкінуўшыся на мяккія дываны, і ціха ўсміхалася, але потым гучна засмяялася, бо зірнула на мой разгублены твар — я дарэмна спрабаваў зразумець, пра што кажа Каптах. А той працягваў:

— Ты павінен мець на ўвазе, мой гаспадар, што калі я кажу пра багацце і прыбыткі, дык маю на ўвазе толькі чыстыя прыбыткі, гэта значыць, пра тое, што застаецца пасля выплаты ўсіх падаткаў. Адсюль жа я аднімаю тое, што выпадае на ўсе падарункі, якія я мушу падносіць зборшчыкам падаткаў, каб яны не надта капаліся ў нашых сірыйскіх рахунках, і давялося мне яшчэ спаіць ім віна незлічоную колькасць гарлачоў, бо яны моцныя людзі і добра раз'еліся на сваіх пасадах. Гэтыя часы — самыя лепшыя часы для зборшчыкаў падаткаў, і я сам хацеў бы стаць зборшчыкам, калі б не быў ужо Каптахам, бацькам зерня і сябрам беднякоў. Я час ад часу раздаю зерне бедным людзям, бо перасцярога не пашкодзіць, асабліва ў такія неспакойны часы варта сябраваць з беднякамі, хай яны славяць маё імя. Гэта таксама я аднімаю з тваіх прыбыткаў, але гэта служыць і своеасаблівай гарантыяй бяспечнай будучыні для тваёй уласнасці, бо досвед паказвае, што ў неспакойныя часы часцей за ўсё пажары ўспыхваюць у дамах нядобрых багацеяў і ў свірнах з хлебам. Праўду кажучы, раздача зерня беднякам таксама стала выгаднай справай, бо фараон па неразумнасці сваёй дазволіў рабіць скідку ў падатках таму, хто раздае зерне бедным, і я даю адну меру, а яму загадваю засведчыць, прыклаўшы палец, што ён атрымаў пяць мер, бо беднякі ўсё адно чытаць не ўмеюць, а калі б нават і ўмелі, дык і за адну гэтую меру зерня славілі б маё імя і прыклалі б пальцы пад любым запісам.

Пасля такой прамовы Каптах склаў рукі на грудзях і ўвесь напяўся, чакаючы ад мяне пахвалы. Але яго словы накіравалі мае думкі ў другі бок, і пэўны час я напружана думаў, а тады папытаўся ў Каптаха:

— Дык у нас шмат зерня ў свірнах?

Каптах старанна заківаў галавой, а я сказаў:

— Тады ты павінен неадкладна паехаць да навасёлаў, якія апрацоўваюць праклятую зямлю, і раздаць ім зерне, бо ім няма чым сеяць, а іхняе зерне ўсё пакрытае нейкімі чырвонымі кроплямі, падобнымі да крыві. Цяпер якраз вада спадае, і настае час сяўбы, таму ты павінен паспяшацца.

Каптах са шкадобай паглядзеў на мяне, патрос галавой і адказаў:

— Любы мой гаспадар, не варта табе забіваць галаву справамі, у якіх ты нічога не цяміш, дазволь мне рабіць гэта за цябе. А рэч у тым, што мы, гандляры зернем, найперш узбагаціліся праз тое, што пазычылі насеннага зерня навасёлам, бо па беднасці яны мусілі аддаваць па дзве меры і нават болей за кожную ўзятую ў пазыку меру, а калі не маглі аддаць зернем, дык мы загадвалі рэзаць гавяду і аддаваць доўг скурамі. Аднак калі цана на хлеб узрасла, і такія ўмовы сталі для нас нявыгадныя: даход быў нязначны. Таму гэтай вясной хай лепш застаецца шмат зямлі незасеянай, тады зерне яшчэ больш падаражэе. Таму мы і не можам раздаваць зерне навасёлам — гэта пашкодзіць нашым інтарэсам, ды мы яшчэ й нажывем сабе ворагаў сярод гандляроў збожжам.

Але маё рашэнне было цвёрдае, і я жорстка сказаў Каптаху:

— Рабі як табе загадана, Каптах! Зерне належыць мне, а я цяпер

думаю не пра прыбыткі, а пра худых, як шкілеты людзей, пра жанчын, чые грудзі вісяць, як пустыя скураныя мяшкі, я думаю пра дзяцей, якія ледзь ходзяць па беразе на крывых нагах, з мухамі на хворых вачах. Таму я хачу, каб ты раздаў ім зерне дзеля сяўбы і дапамог пасеяць яго. Я хачу, каб ты зрабіў усё гэта дзеля Атона і фараона Эхнатона, якога я люблю. Але не давай ім зерня задарма, бо я бачыў, як дарункі нараджаюць слабасць і нядобрыя жаданні, ляноту і сквапнасць, і ты сам бачыш, што яны атрымалі ў падарунак і зямлю, і скаціну, але беспаспяхова. Карыстайся сваёй палкай, Каптах, калі гэта будзе трэба, але паклапаціся, каб усё зерне пасеялі і сабралі. А калі будзеш збіраць пазыку, дык не бяры болей, чым мера за меру.

Пачуўшы гэта, Каптах загаласіў і пачаў драць на сабе вопратку, якую, зрэшты, зусім не шкадаваў, бо яна была ў яго ўся ў плямах ад віна:

— Мера за меру, мой гаспадар! Гэта зусім неразумныя словы, бо адкуль жа мне красці, калі не ад твайго багацця і не ад прыбыткаў, якія я для цябе павялічваю! І ў астатнім твае словы неразумныя, бо супраць мяне паўстануць і жрацы Амона,— так, я прамаўляю гэтае імя, бо мы сядзім у асобным пакоі і ніхто з гасцей нас не пачуе і не зможа на нас данесці! Я прамаўляю гэтае імя таму, што Амон жыве і ягоная ўлада яшчэ болей страшная, чым калі-небудзь раней, і ён пракляне нашы дамы, і свірны, і крамы, і караблі, і гэты шынок таксама. Таму я думаю, што трэба неадкладна перапісаць яго на Мэрыт, калі яна не супраць. Я радуюся, што большая частка твайго багацця запісаная пад рознымі імёнамі і жрацам не ўдасца разабрацца ў тым, на што ім пасылаць свае праклёны, бо нават зборшчыкі падаткаў не разабраліся як след, а яны падчышчаюць усё, і нават лысая галава не такая голая, як дом пасля таго, як яны яго наведалі. Я не хацеў абразіць цябе, мой гаспадар, кажучы пра лысую галаву, бо толькі цяпер, калі ты ад гарачыні і выпітага віна зняў парык, я заўважыў, што твае валасы зрадзелі, аднак, калі ты захочаш, я магу прапанаваць табе алей, вельмі добра прыгатаваны алей, ад якога валасы зноў вырастаюць і нават кучаравяцца, і хай гэты алей будзе маім падарункам табе, я не буду ўключаць яго ні ў якія рахункі, бо вазьму яго са сваёй уласнай крамкі, і я маю мноства сведчанняў пра яго цудадзейную сілу, хоць не магу схаваць, што адзін чалавек казаў, быццам яго лысая галава пасля націрання алеем пакрылася густымі і кучаравымі валасамі — як у негра, ад чаго ён вымушаны быў пагаліць галаву, але гэты чалавек на судзе быў п'яны, і мне не давялося плаціць па ягонай скарзе шмат грошай, прынамсі нашмат менш, чым звычайна.

Каптах балбатаў і казаў усю гэтую лухту, каб неяк выйграць час, думаючы, што я змяню рашэнне, але, зразумеўшы, што я ўсё адно не адмоўлюся, злосна вылаяўся і, заклікаўшы на дапамогу ўсіх багоў, якіх толькі памятаў з часоў нашых падарожжаў, сказаў:



— Можа, цябе, мой гаспадар, укусіў шалёны сабака або скарпіён укалоў сваім джалам? Спачатку я думаў, што ты няўклюдна жартуеш, кажучы такія неразумныя словы! Але ж гэтае тваё рашэнне давядзе нас да галечы, хіба толькі наш скарабей выратуе нас. Праўда, і мне не падабаецца глядзець на схуднелых людзей, так што я нават адварочваюся ад іх, чаго і табе жадаю, бо тое, чаго чалавек не бачыць, яму і не абавязкова ведаць. Дый я і так раздаваў зерне беднякам, не толькі каб супакоіць сваё сумленне, але і таму, што гэта было выгадна пры тых дурных падатковых законах, якія ўстанавіў фараон. Але самае паганае, што ты загадваеш мне выпраўляцца ў цяжкае падарожжа і пэцкаць мае ногі ў гліне, а я ж магу там спатыкнуцца і ўпасці ў якую-небудзь канаву, бо я чалавек стары і стомлены, мае суглобы даўно страцілі гнуткасць, мне патрэбен мяккі ложак, страва, якую гатуе Муці, і апроч таго, я задыхаюся на хаду.

Але я бязлітасна сказаў:

— Усё ты брэшаш, Каптах, прычым яшчэ больш, чым раней: за апошнія гады ты зусім не састарэў, а памаладзеў, і твае рукі ўжо не трасуцца, і вочы зусім не чырвоныя, а калі і пачырванелі, дык толькі цяпер ад выпітага віна. Таму як лекар я прызначаю табе гэтае нялёгкае падарожжа, бо люблю цябе і хачу, каб ты трошкі скінуў вагі і каб мне не было сорамна за слугу, які растаўсцеў без меры. Напраўду, Каптах, успомні, як радасна было калісьці крочыць пыльнымі шляхамі Вавілоніі, як радасна было ехаць па гарам Лівана на асле, а яшчэ радасней было злезці з яго ў Кадэшу. І напраўду, каб я быў крыху маладзейшы, я маю на ўвазе, каб на мне не ляжаў цяжар адказнасці за шматлікія даручэнні фараона, якія мяне ўтрымліваюць тут, я і сам паехаў бы з табой у гэтае падарожжа, каб пачуць, як людзі будуць потым услаўляць тваё імя.

Каптах слухаў мяне змрочна, а калі я прыгадаў пра асла, яшчэ больш спахмурнеў. Ён увесь час ён загінаў пальцы, робячы нейкія разлікі, і ўрэшце сказаў:

— Трэба спяшацца: каб паспець зрабіць усё неабходнае і адсеяцца, мне трэба паслаць усіх сваіх слуг ды наняць новых, каб хутчэй раздаць зерне. Таксама мне трэба ўзяць з сабою пісарчукоў, каб запісаць усё законным чынам, бо гэтыя слугі Атона вялікія круцялі, і я здзяру з іх тры скуры, калі яны не змогуць пасеяць зерне і сабраць ураджай. На шчасце ў нас ёсць наш уласны карабель, так што падарожжа маё не будзе надта цяжкім, апроч таго, я думаю ўзяць з сабой карабель для кухні, бо мой страўнік разбэсціўся і можа прымаць толькі самую лепшую страву, за што ты мяне ўжо дакараў. Праз пратокі мяне будуць пранасіць у насілках, бо паглядзі на мяне, мой гаспадар, і падумай, ці гожа мне скакаць цераз канавы, я ўжо не здольны на такія скачкі з прычыны старасці і нягнуткасці. Але астатнія твае словы цалкам муд-

рыя, бо дзеўкі ў дамах уцех сапраўды смяюцца з мяне, дый мне ўжо не так прыемна бавіць час з імі, бо я пачынаю задыхацца, калі хачу павесяліцца як след, а гэта даволі сумна! Гэта пры тым, што я магу пацешыцца з любой фіванскай жанчынай! Зрэшты, я не такі дурны, каб траціць на іх сваё золата, і ў адрозненне ад цябе добра ведаю, што любая рабыня дасць мне тое самае, што і намазаная дарагім алеем дзеўка з залатым кальцом у носе. Але які сэнс казаць табе пра жанчын, калі ты ў іх нічога не цяміш, як і ва ўсіх іншых простых зямных радасцях, ад чаго на тваім твары застыў гэты нязменна кіслы выраз. Аднак я спадзяюся, што наш скарабей дапаможа ператварыць тваё неразумнае рашэнне ў выгадную здзелку, а не ў пракляцце, дзеля чаго я буду рабіць розныя справы, пра якія таксама казаць табе марна, бо ты і ў іх нічога не разумееш. Напаследак мне хацелася б пажадаць, каб і цябе аднойчы паслалі ў такое самае цяжкае падарожжа па такой самай дурной справе і каб ты на ўласным карку адчуў тое, што цяпер адчуваю я.

Гэтае яго пажаданне спраўдзілася даволі хутка, пра што я распавяду пазней. Магу сказаць толькі, што мы болей не спрачаліся і не сварыліся, Каптах падпарадкаваўся майму рашэнню, і мы доўга бавілі час, пацягваючы віно аж да вечара. Мэрыт піла з намі, і яе смуглявыя калені былі аголеныя так, што час ад часу я мог іх цалаваць. Каптах пачаў успамінаць пра дарогі і гліняныя такі Вавілоніі, але ж калі з ім сапраўды некалі адбывалася тое, пра што ён распавядаў, дык я, напэўна, быў сляпы і глухі ад кахання да Мінеі. Я памятаў Мінею, хоць і правёў гэтую ноч на ложку Мэрыт і нам было добра разам так, што маё сэрца пацяплела і самота пакрысе растала. Але я не сказаў ёй «сястра», бо яна была мне сяброўкай, і ўсё, што яна рабіла дзеля мяне, было самым сяброўскім, што можа зрабіць жанчына для мужчыны. Таму я быў гатовы разбіць з ёю гаршчок, але яна не захацела, кажучы, што нарадзілася ў шынку, а я для яе — занадта высокапастаўленая асоба. Аднак думаецца мне, што яна проста хацела зберагчы сваю свабоду і застацца мне толькі сяброўкай.

**4**

Наступным днём я павінен быў наведаць Залаты палац і паўстаць перад царскай маці, якую ўсе ў Фівах называлі чараўніцай або негрыцянскай вядзьмаркай, і нікому не патрабавалася тлумачыць, пра якую вядзьмарку ідзе гаворка. І я лічу, што нягледзячы на ўсю сваю мудрасць і ўсе свае веды, яна заслугоўвала такіх найменняў, бо была жорсткай і зламыснай старою жанчынай, а бязмежная ўлада знішчыла ўсё добрае, што ў яе калісьці было. Пакуль я пераапранаўся ў вопратку з царскага льну і пачапіў усе адзнакі сваёй высокай пасады, да мяне з былога дома медніка прыйшла Муці, якая злосна сказала:



— Хай будзе благаслаўлёны той дзень, які прывёў цябе дадому, мой гаспадар, але ж ты па мужчынскай звычцы прабасцяўся ўсю ноч па дамах уцехаў і не прыйшоў дадому на снеданне, хоць я старалася табе дагадзіць і згатаваць што-небудзь смачнае, правёўшы дзеля гэтага ўсю ноч на нагах. Я пякла, смажыла ды варыла, я прыспешвала гэтых лайдакоў кійком, каб яны хутчэй прыбіралі ў доме, я так старалася, што мая правая рука нават і цяпер баліць. Я старая і стомленая жанчына, якая даўно не мае ніякай веры мужчынам, і твае паводзіны сённяшняй ноччу і ўранні не дадаюць такой веры. А цяпер ідзі дадому ды з'еш сняданак, які я табе згатавала! Можаш узяць з сабой і сваю самадайку, калі ўжо не здольны расстацца з ёю ні на хвіліну!

Яна так казала заўсёды, хоць я добра ведаў, што яна вельмі любіць Мэрыт. Такая ўжо ў яе была звычка! Я прывык да яе за гады, што правёў у доме медніка, калі быў маладым і бедным лекарам, а таму яе з'едлівыя словы гучалі для маіх вушэй, як пяшчотная музыка, і я нарэшце адчуў, што вярнуўся дадому. Таму я з вялікім задавальненнем паслаў ганца па Мэрыт у «Кракадзілаў хвост», а Муці, ідучы старэчай хадой побач з маімі насілкамі, няспынна бурчэла:

— Я думала, што ты супакоіўся, навучыўся паводзіць сябе прыстойна, калі ўжо табе давялося жыць у царскім палацы, але бачу, што нічому ты не навучыўся, застаўся гэткім жа бесталковым, як раней! Дарма я радавалася, гледзячы ўчора на твой спакойны і добрапрыстойны твар. Маё сэрца цешылася, калі я глядзела на твае круглыя шчокі, бо мужчыны, таўсцеючы, робяцца больш ціхамірныя. Але схуднееш ты за час жыцця ў Фівах не па маёй віне, а праз дурны свой характар! Усе мужчыны на свеце аднолькавыя, і ўсё зло на свеце толькі ад мужчын ды ад той маленькай прылады, якую яны сарамліва хаваюць пад вопраткай! Ды мне й не дзіва, што яны яе саромеюцца.

Яна чаўпла гэта бясконца і бесперапынна і нечым напомніла маю маці маю, Кіпу, так што я ледзь не пусціў слязу, але потым стрымаўся і сурова загадаў:

— Змоўкні, жанчына, бо твая балбатня замінае маім думкам, а твае словы падобныя да зыкання мухі ў вушах маіх!

Тады яна змоўкла, задаволеная, што я на яе накрычаў, тым самым засведчыўшы, што гаспадар напраўду вярнуўся ў хату.

Да майго прыходу яна вельмі гожа прыбрала ў доме: калоны на верандзе былі ўпрыгожаныя вянкамі, двор і вуліцу перад домам чыста падмялі, і шкілет кошкі, які раней ляжаў тут, цяпер валяўся перад суседскімі веснічкамі. Вулічныя хлапчукі, якім Муці дзеля гэтага заплаціла, выгукнулі хорам:

— Хай будзе благаслаўлёны той дзень, які прывёў дадому майго гаспадара!

Яна падстроіла гэта таму, што яе засмучала, што ў мяне няма дзяцей, і яна вельмі ўзрадавалася б, калі б дзеці ў мяне раптам вось так, без жонкі, нейкім цудоўным чынам завяліся. Мне як лекару невядома, як такое магло б адбыцца, але Муці пра гэта марыла. Я даў дзецям медзі, а Муці пачаставала іх мядовымі аладкамі, і яны пайшлі вельмі задаволеныя. Хутка прыехала Мэрыт у прыгожых строях, з кветкамі ў валасах, ад якіх прыемна пахла вохным алеем, так што Муці доўга прынюхвалася ды круціла носам, паліваючы нам на рукі. Муці згатавала такія стравы, якія самі раставалі ў роце, і гэта была сапраўдная фіванская ежа, пра якую я ўжо забыўся ў Ахетатоне,— параўнацца з ёю не можа ніякая іншая кухня ў свеце. Але можа, мой голад тлумачыўся прысутнасцю Мэрыт, якая вярнула мне маладосць, і я адчуваў, што і сэрца, і цела ў мяне зноў сталі юныя. А Муці падавала на стол і не сціхала ні на хвілінку:

— Напэўна, ты будзеш лаяцца, мой гаспадар, што я крыху перасмажыла гэтую птушку, ды ты і маімі прыправамі ніколі не быў задаволены. А ты, Мэрыт, ці паспытала стрыжні пальмавых парасткаў? Я спякла іх з ныркамі! Звычайна такую ежу я добра гатую, але гэты раз ныркі перапякліся. А ты, мой гаспадар, нават не ведаеш, колькі разоў я гутарыла з гэтай прыгожай і прыстойнай жанчынай, як я перасцерагала яе ад цябе ды запэўнівала, што ты чалавек легкадумны і зменлівы, з дурным норавам, але яна не хоча верыць таму, што я кажу! А я вось не разумею, што яна знаходзіць у табе прывабнага, бо ты ўжо і злысеў. Але, што казаць: маладыя жанчыны не разумнейшыя за мужчын, іх так і вабіць тая праклятая прылада — не буду казаць пры Мэрыт, а ты сам ведаеш, што я маю на ўвазе. Дый яна здагадваецца, бо зусім маладой яе не назавеш. Але досвед патрэбен жанчыне не менш, чым мужчыне,— жанчыне нават патрэбен болей, бо яна павінна трымацца як мага далей ад мужчын і не даваць веры іх хлуслівым абяцанкам. А вось гэтую рыбку я згатавала на крыцкі лад, але, здаецца, яна атрымалася горкая.

Я дзякаваў сваёй кухарцы, ухваляючы яе майстэрства, што яе вельмі радавала, хоць яна і ніяк таго не паказвала, наадварот толькі хмурачыся ды фыркаючы. Не ведаю, ці было ў тым сняданні што-небудзь незвычайнае ці вартае ўспаміну, але пішу пра гэта толькі таму, што адчуваў сябе тады вельмі шчаслівым.

— Спыні свой бег, вадзяны гадзіннік, спыні, вада, сваё цячэнне, бо гэтае імгненне — добрае імгненне, хай спыніцца час, а гэтае імгненне не мінецца ніколі,— вось што я думаў, пакуль мы снедалі.

Тым часам у двары сабралася шмат людзей з бядняцкай часткі горада. Яны былі святочна апранутыя, твары іхнія блішчэлі ад алею, як у святочны дзень. Яны хацелі павітаць мяне і паскардзіцца на свае немачы і хваробы. Яны казалі:

— Мы так змаркоціліся па табе, Сінухе! Пакуль ты жыў сярод нас, мы не цанілі цябе, і толькі калі ты з'ехаў, мы зразумелі, як шмат дабра ты нам рабіў і як шмат мы страцілі, калі цябе не стала з намі.



Яны прынеслі мне свае простыя дарункі, бо праз Эхнатонава бога яшчэ больш збяднелі. Нехта прынёс меру крупы, нехта — палку, каб адганяць птушак, нехта сушаных фінікаў, а іншыя проста прыносілі кветкі, бо, апроч чаромхі, больш нічога не мелі. Сярод прыйшоўшых быў і той стары пісар, які праз сваю вялізную пухліну на шыі хадзіў некалі, схіліўшы галаву набок, і дзіўна было, што ён дагэтуль яшчэ жывы. Быў сярод іх і раб, якому я вылечыў пальцы, і ён радасна мяне вітаў, махаючы той самай рукой, і прынёс мне крупы, бо па-ранейшаму працаваў на млыне і па-ранейшаму краў харчы. Была там і маці з прыгожым хлопчыкам, пад вокам у якога быў гузак, а цела і ногі пакрытыя драпінамі і слядамі ўдараў, бо ён хацеў давесці астатнім, што ён самы дужы і спрытны сярод усіх хлопцаў з бядняцкай часткі горада. Была там і дзяўчына з дома ўцехаў, якой я калісьці вылечыў вочы, а потым яна стала пасылаць да мяне сваіх прыяцелек, якім я зводзіў дзічы і плямы са скуры. Сама яна потым, дарэчы, дасягнула ў жыцці пэўнага поспеху, адчыніўшы каля рынка платную прыбіральню і пачаўшы прадаваць вохныя алеі ды звязваць гандляроў з маладымі і не надта сарамлівымі дзяўчатамі. Прыносячы падарункі, людзі казалі:

— Не грэбуй нашымі дарункамі, Сінухе, хоць ты цяпер царскі лекар і жывеш у Залатым палацы. Нашы сэрцы радуюцца, што ты з намі! Толькі не кажы нам пра Атона.

І я не размаўляў з імі пра Атона, я проста прымаў іх, слухаў іхнія скаргі, выпісваў розныя лекі ад іхніх немачаў і лячыў. Каб дапамагчы мне і не запляміць сваёй прыгожай святочнай вопраткі, Мэрыт зняла яе і ўзялася прамываць наведнікам раны, ачышчаць на агні мой нож і змешваць дурманныя зёлкі тым, каму я выдзіраў хворы зуб. Кожны раз я радаваўся, пазіраючы на яе, а такіх разоў было шмат, і глядзець на яе было прыемна, бо цела ў яе было стройнае і прыгожае, а яна ніколькі не саромелася сваёй аголенасці і дапамагала мне без вопраткі, як гэта робяць простыя жанчыны, і з наведнікаў ніхто таму не дзівіўся, бо кожны думаў толькі пра свае немачы ды болькі.

Час бег, а я ўсё прымаў хворых, размаўляў з імі, радаваўся свайму майстэрству і ведам, адчуваў задавальненне кожны раз, калі мог дапамагчы, і цешыўся, што побач са мною мая сяброўка Мэрыт. І шмат разоў я ўздыхаў, прамаўляючы:

— Спыні свой бег, вадзяны гадзіннік, спыні, вада, сваё цячэнне, бо такога імгнення ў мяне болей не будзе.

Я зусім забыўся, што мне трэба ехаць у Залаты палац, бо Вялікай царскай маці ўжо данеслі пра мой прыезд. Але думаецца, забыўся я на гэта таму, што ў сваім шчасці не хацеў і ўспамінаць.

Доўгія цені пакрылі нарэшце мой спусцелы двор, і Мэрыт паліла мне на рукі, дапамогшы памыцца і ачысціцца, а я дапамог ёй, і зрабіў гэта з задавальненнем. Аднак калі я захацеў дакрануцца да яе шчакі і пацалаваць яе, Мэрыт адхіліла мяне і сказала:

— Паспяшайся да сваёй вядзьмаркі, Сінухе, і не марнуй часу, каб вярнуцца да ночы, бо мой ложак з нецярпеннем чакае цябе. Так-так, я думаю, ён проста згарае ад нецярпення, хоць я і не разумею чаму, бо тваё цела, Сінухе, зрабілася друзлым, дый каб ты неяк надта добра лашчыў мяне, сказаць нельга. І ўсё ж нягледзячы на гэта ты нейкі не такі, як іншыя, і таму я добра разумею паводзіны свайго ложка.

Яна павесіла мне на шыю адзнакі маёй пасады, надзела мне на галаву лекарскі парык і так ласкава правяла рукой па маёй шчацэ, што мне зусім расхацелася ехаць у Залаты палац. І ўсё ж я баяўся, што царыца-маці вельмі ўгнявіцца, і таму загадаў рабам-насільшчыкам бегчы як мага хутчэй і падбадзёрваў іх то кійком, то срэбрам, што потым паўтарыў і з веслярамі, якія, услаўляючы маю шчодрасць, веславалі так, што вада бурліла перад носам чоўна. Хутка мы даплылі да прычала, і я паспеў у Залаты палац якраз калі сонца садзілася за заходнія горы, а ў небе ўспыхнулі першыя зоркі.

Перш чым апісаць нашу размову з царыцаю, павінен сказаць, што за ўсе гады яна толькі двойчы наведала сына ў Ахетатоне і кожны раз сурова дакарала яму за яго вар'яцтвы, ад чаго Эхнатон вельмі засмучаўся, бо вельмі любіў сваю маці, не бачачы таго зла, якое ад яе сыходзіла. Так часта сыны бываюць сляпыя ў адносінах да сваіх матак, пакуль не ажэняцца і жонкі не прымусяць іх расплюшчыць вочы. Але Неферціці нічога не казала фараону з прычыны свайго бацькі. А я павінен сказаць, што жрэц Эйе і царская маці Тэйе, ні ад каго не таячыся і не хаваючы сваю распусту, жылі ў той час разам, і я не ведаю, ці даводзілася калі Залатому палацу перажываць такую ганьбу, бо калі што падобнае там і здаралася, дык такія падзеі не запісваюцца ў кнігу памяці і забываюцца, паміраючы разам са сведкамі. Але я не хачу сказаць нічога дрэннага пра паходжанне фараона Эхнатона, я цвёрда веру ў ягонае боскае паходжанне, бо калі б у яго жылах не было царскай крыві ягонага бацькі, то ў яго наогул не было б ніякай царскай крыві і ён сапраўды быў бы ілжэфараонам, як і сцвярджалі жрацы, а ўсё, што адбывалася, было б хлуслівым, марным і неразумным падманам. Таму я не хачу верыць жрацам, а давяраю свайму розуму і сэрцу.

Царская маці Тэйе прыняла мяне ў асабістых пакоях, дзе ў клетках скакалі і сакаталі шматлікія птушкі з падрэзанымі крыламі. Яна зусім не забыла, чым займалася ў маладосці, а наадварот — яшчэ з большым задавальненнем лавіла птушак у царскіх садах, намазваючы галіны на дрэвах клеем і расстаўляючы адмысловыя пасткі. Калі я прыйшоў, яна вязала цыноўку з каляровага трыснягу і загаварыла са мною сурова і непрыветна, адразу ўпікнуўшы за тое, што я затрымаўся.



— Ці вылечыўся мой сын хоць трошкі ад свайго шаленства, — спытала яна, — ці, можа, настаў ужо час ускрыць яму чэрап? Бо надта ўжо гучна ён крычыць пра свайго Атона і трывожыць народ, у чым цяпер, калі пракляты бог зрынуты і ў фараона няма праціўнікаў, няма ніякай патрэбы.

Я пачаў расказваць, як фараон сябе адчувае, распавёў пра маленькіх фараонавых дачок, пра тое, як яны гуляюць і плаваюць у чоўне па свяшчэннаму возеру Атона. Тады яна нарэшце злітавалася і не дазволіла мне сесці каля яе ног, а потым пачаставала півам. Але піва мне далі не таму, што Вялікая царская маці была скнапнай жанчынай, а таму, што яна была прасталюдзінка і мела простыя звычкі, а таму піва любіла больш за віно. Піва ў яе было моцнае і салодкае, і было бачна, што за дзень яна асушае не адзін гарлач: яе цела ад гэтага расплылося, твар стаў друзлы і сваімі рысамі вельмі нагадваў негрыцянскі, хоць скура ў яе была светлая. Ніхто, напэўна, гледзячы на гэтую дзябёлую старую жанчыну, не змог бы сказаць, што некалі яе прыгажосць заваявала сэрца фараона. Таму людзі і казалі, што яна абкруціла фараона сваімі негрыцянскімі чарамі, бо неверагодна, каб фараон проста так узяў сабе ў жонкі простую дзяўчыну, якая зарабляла на жыццё, ловячы на рачным беразе птушак.

А яна піла піва і размаўляла са мною даверліва і шчыра, у чым, зрэшты, не было нічога дзіўнага, бо я быў лекар, а лекарам жанчыны расказваюць такое, што нават не падумалі б казаць каму-небудзь другому. Гэтаксама часта бывае, што чалавек перад сваім блізкім канцом пачынае раптам даверліва і шчыра расказваць усё чужому, а не сваім родзічам і блізкім, — і гэта кажа пра набліжэнне смерці, хоць ён сам можа пра гэта і не ведаць. Таму вялікая шчырасць царыцы працяло маё сэрца смяротным холадам, і я спытаў у яе, ці не адчувае яна якой-небудзь немачы. Але яна толькі пасмяялася, адказаўшы, што не адчувае нічога, апроч тых непрыемнасцяў, якія выклікаюцца спажываннем піва, ды газаў у страўніку, яна параіла мне забыцца, што я лекар і не даваць дурных і бескарысных парадаў накшталт не піць піва, бо ўсё адно яна не перастане яго піць, таму што не лічыць піва шкодным і пакуль яшчэ не бачыць у сне гіпапатамаў.

Так адказала яна, расслабленая ад піва, і працягвала:

— Ты, Сінухе, якому мой сын па дурной сваёй прыхамаці даў імя Самотнага, хоць такім ты зусім не выглядаеш, і я магу закласціся, што ў Ахетатоне ты кожную ноч цешышся з markнымі жанчынамі — а я добра ведаю жанчын Ахетатона, — дык вось, Сінухе, ты спакойны чалавек, бадай што самы спакойны з усіх людзей, якіх я ведаю, і твой спа-

кой злуе мяне, ды так, што часам мне хочацца ўкалоць цябе меднай іголкай, каб паглядзець, як ты ўскочыш і залямантуеш, бо я не магу здагадацца, адкуль ты здабыў столькі спакою! У глыбіні душы, я думаю, ты чалавек добры, хоць я ніколі не зразумела, якая выгода чалавеку быць добрым,— добрымі, як я магла заўважыць, бываюць толькі нікчэмныя, дурныя і ні да чаго не прыдатныя людзі. Але твая прысутнасць дабратворна на мяне ўплывае, і таму я хачу сказаць табе, што гэты самы Атон, якому я па сваёй неразумнасці дала ўладу, вельмі мяне злуе: я не мела намеру заводзіць справу гэтак далёка — я прыдумала Атона, проста каб зрынуць уладу Амона, каб магла ўзрасці ўлада майго сына. А калі быць ужо цалкам шчырай, яго прыдумаў мой — як ты ведаеш — муж Эйе. Ці можа, ты такі цнатлівы, што не ведаеш гэтага? Дык вось — ён мой муж! Хоць мы і не разбівалі разам гаршчок. Я маю на ўвазе, што гэты пракляты Эйе, у якім сілы засталося не больш, чым у каровіным вымі, выцягнуў Атона з Геліяполіса і ўсунуў яго майму сыну. Я, і праўда, не разумею, што мой сын знайшоў у ім такога, што пачаў мроіць наяве? Яшчэ калі ён быў дзіцём, я лічыла, што ён крануўся розумам і дзеля прачысткі мазгоў яму трэба ўскрыць чэрап. Але цяпер я ўжо нічога не ведаю! Што з ім адбываецца, якая яго апанавала немач і чаму яго жонка, гэта родная дачка Эйе, родзіць яму дачку за дачкой, хоць мае ўлюбёныя чарадзеі зрабілі ўсё, каб дапамагчы ёй? Дарэчы, я ніяк не магу сцяміць, чаму народ так не любіць маіх чарадзеяў, гэта ж залатыя людзі, хоць і чорныя, і хоць носяць у носе палачкі са слановай косці і выцягваюць сабе вусны, а сваім дзецям робяць больш выцягнутыя галовы. Я ведаю, што народ іх ненавідзіць, і мне даводзіцца нават хаваць іх прысутнасць у Залатым палацы, іначай іх проста забілі б! А я не магу адмовіцца ад іх дапамогі, бо яны так добра чэшуць мне пяткі і гатуюць такое добрае зелле, што якраз ад яго я і атрымліваю найбольшае задавальненне ў жыцці,— а зусім не ад Эйе, як ты, мусіць, памылкова падумаў. Я сама не разумею, чаму я так чапляюся за гэтага Эйе, ужо даўно лепш было б даць яму ўпасці. Я маю на ўвазе, лепш для мяне. А можа, я і не магу ўжо яго зваліць, нават калі захачу? І гэта таксама мяне непакоіць! Словам, выходзіць, што адзіная мая радасць — гэта мае негры.

Вялікая царская маці захіхікала, зусім як гэта робяць у гавані прачкі, калі нап'юцца піва, і потым сказала:

— Гэтыя мае негры, Сінухе, вялікія і спрактыкаваны лекары, хоць людзі і завуць іх чараўнікамі, але гэта проста ад невуцтва і цемрашальства. Нават табе было б чаму ў іх павучыцца, калі б не твае забабоны адносна іх колеру скуры і паху і калі б яны яшчэ самі згадзіліся перадаць табе таямніцы свайго майстэрства, у чым я вельмі сумняваюся, бо яны ставяцца да сваіх сакрэтаў з вялікай пашанай. А колер у іх цёплы і чорны, і пах вельмі прыемны — калі прызвычаіцца, ён весяліць і ўзбуджае, а звыкнуўшыся з ім, ты ўжо не зможаш без яго пражыць. Табе, Сінухе, я раскажу ўсё шчыра, бо ты лекар і не зможаш мяне прадаць. Я прызнаюся, што сапраўды цешуся з імі, бо яны прызначаюць мне гэта ў якасці лекаў, дый павінна ж быць у такой старой жанчыны, як я, хоць якая-небудзь у жыцці радасць! Я раблю гэта не таму, што хачу паспытаць чаго-небудзь новенькага, як робяць вашы распусныя прыдворныя кабеты, гатовыя дзеля новых уражанняў легчы пад першагалепшага негра, на ўзор тых, што, наеўшыся ўжо ўсяго да адвалу, кажуць, што самы далікатны смак — у гнілога мяса. Не, я не за гэта люблю сваіх неграў, мая кроў яшчэ маладая і чырвоная і ёй не патрабуюцца адмысловыя зёлкі, узбудзіцца. Я люблю сваіх неграў за тое, што яны для мяне — таямніца, якая нясе мяне да цёплых вытокаў жыцця, бліжэй да зямлі, да сонца, да жывёлаў. Але я не хацела б, каб ты пра гэта каму-небудзь расказваў. Зрэшты, нават калі раскажаш, гэта не зняславіць мяне і мне не пашкодзіць, бо я заўсёды магу сказаць, што ты хлусіш. А народ і без таго верыць усяму, што пра мяне кажуць, і гатовы паверыць нават і большаму. Таму, што б ты не расказаў, горшай думкі ў народзе пра мяне ўжо не будзе. Але ты ўсё ж нікому не расказвай. Хоць ты і добры чалавек, затое ж я ніколі не была добрая.

Яна спахмурнела, адставіла піва і ўзялася зноў плесці цыноўку з стракатага трыснягу, а я неадрыўна сачыў, як яе цёмныя пальцы спрытна вяжуць вузлы. Я не адважыўся загаварыць, таму царыца-маці працягвала:

— Адной дабрынёй не дасягнеш нічога. Адзінае, што мае на свеце нейкую каштоўнасць,— гэта ўлада. Але тыя, хто нараджаецца пры ўладзе, не могуць як след ацаніць яе, а сапраўдную цану ўлады ведаюць толькі тыя, хто, як мне, нарадзіўся ў хляве, сярод жукоў ды вераб'ёў. А я, Сінухе, ведаю ёй сапраўдную цану, і ўсё, што я рабіла, я рабіла толькі дзеля ўлады і дзеля таго, каб зберагчы яе для майго сына, каб мая кроў засталася на залатым царскім троне. Мусіць, мае ўчынкі былі дрэннымі ў вачах багоў, але, праўду кажучы, багі мяне ніяк не турбуюць, бо фараоны вышэй за іх, і ўсё, што зроблена ўдалай,— добра, а што не ўдалося і ўсім стала вядома — дрэнна. Аднак, нягледзячы на гэта, маё сэрца часам трымціць, а ўсе мае вантробы ператвараюцца ў ваду, калі я ўспамінаю пра свае ўчынкі, бо ўсё-ткі я жанчына, а жанчыны вераць у забабоны. Вось тут мае негры і дапамагаюць мне. Асабліва я засмучаюся, калі ўспамінаю, што Неферціці нараджае адну дачку за адной! Чатырох дачок запар нарадзіла яна, і кожны раз у мяне такое пачуцце, што я кідаю каменне назад, а знаходжу яго наперадзе, і я не магу таго зразумець і баюся, што сваімі ўчынкамі зарабіла сабе нейкі праклён, і ён пацiху падкрадаецца да мяне.

Яна прабурчала сваімі тоўстымі вуснамі нейкую замову і неспакойна зашкрабала шырокімі нагамі па падлозе, але яе спрытныя пальцы ні на хвіліну не пераставалі вязаць складаныя вузялкі з трысьнягу. Я неадрыўна сачыў за імі, і холад працінаў мне сэрца. Такія вузлы вяжуць лаўцы птушак, і мне яны былі добра знаёмыя. Хоць вузлы былі незвычайныя, я добра іх ведаў: такія вяжуць толькі ў Ніжняй зямлі, і я кожны дзень бачыў іх у доме свайго бацькі, разглядаючы маленькі счарнелы трысняговы човен, які вісеў над ложкам маёй маці. Калі я асэнсаваў гэта, мой язык здранцвеў і холад агарнуў мае члены, бо ў ноч майго нараджэння якраз дзьмуў пяшчотны заходні вецер і было разводдзе, а трысняговы чоўнік плыў па цячэнню, і вецер прыбіў яго да берага непадалёк ад дома майго бацькі. Думка, што нарадзілася ўва мне, калі я ўбачыў вузлы, якія вязала царыца-маці, падалася мне такою шалёнаю і жахлівай, што я паспешліва яе прагнаў прэч і сказаў сабе, што такія вузлы можа вязаць хто заўгодна. Але птушкаловы займаюцца сваім рамяством у Ніжняй зямлі, а не ў Фівах, і я ніколі не бачыў, каб у горадзе хтосьці вязаў такія вузлы. Разглядаючы ў дзяцінстве свой трысняговы човен, я не падазраваў, як цесна яго вузельчыкі ўплятуцца ў мой лёс.

Аднак Вялікая царская маці не заўважала маёй збянтэжанасці, дый не чакала, што я буду адказваць ёй. Пэўны час яна сядзела, ахопленая сваімі думкамі і ўспамінамі, і потым сказала:

— Ты, напэўна, лічыш мяне нядобрай і брыдкай жанчынай, Сінухе? Скажы шчыра, але не асуджай надта строга. Паспрабуй мяне зразумець. Сам ведаеш, як нялёгка беднай дзяўчыне, якая зарабляе ловамі птушак, трапіць у жаночыя пакоі царскага палаца і асабліва ўтрымацца там, дзе ёю пагарджаюць за яе цёмную скуру і шырокія ногі, дзе яе колюць тысячамі шпілек, і няма ў яе іншага ўратавання, чым фараонавы прыхамаці ды прыгажосць яе цела. Хіба цябе здзівіць, што я пачала шукаць сродкі, як прывязаць да сябе фараонава сэрца? Што з ночы ў ноч я прывучала яго да дзіўных негрыцянскіх звычаяў, каб ён не змог пражыць без маёй ласкі і дня і каб праз яго я кіравала Егіптам? Я перамагла ўсе хітрыкі ў Залатым палацы, пазбегла ўсіх пастак і разарвала ўсе нераты, расстаўленыя на маёй дарозе. Я не баялася помсты, калі трэба было помсціць, і страхам прымусіла замаўчаць усе языкі. Я пачала кіраваць Залатым палацам па сваім жаданні, а жаданне ў мяне было, каб ніводная жанчына не нарадзіла фараону хлопца да пары, пакуль я сама не нараджу яму спадкаемцу.Таму ў фараона не было сыноў, а дачок я адразу выдавала за якога-небудзь знатнага чалавека. Такое было маё жаданне, хоць сама я не насмельвалася радзіць, баючыся, што пасля родаў маё цела зробіцца друзлым,— а я ж утрымлівала яго толькі целам і тады яшчэ не спляла яго сэрцу пастку з тысячы ніцей. Тым



часам ён пачаў старыцца, ласкі, з дапамогай якіх я над ім панавала, пачалі яго натамляць, а калі я нарэшце асмелілася радзіць, то на свой жах нарадзіла дзяўчынку! Я назвала яе Бэкетамон, але не выдала яе замуж: гэта яшчэ адна страла ў маім калчане, бо мудры павінен мець шмат стрэл, не спадзеючыся на першую і адзіную. Час ішоў, і жыццё маё поўнілася болем. І нарэшце я такі нарадзіла фараону сына, хоць ён прынёс нашмат менш радасці, чым я чакала: ён быў вар'ят. Цяпер я спадзяюся толькі на ўнука, які ніяк не прыходзіць на свет. Вось такая вялікая была мая ўлада ў Залатым палацы — ніводная фараонава жонка не нарадзіла за гэтыя гады ніводнага хлопца, толькі дзяўчынак. Ты, Сінухе, лекар, і павінен прызнаць, што маё майстэрства і чарадзейныя сілы былі не такія ўжо і маленькія.

Мяне працялі дрыжыкі, але я паглядзеў ёй у вочы і сказаў:

— Тваё чарадзейства простае і ганебнае, о Вялікая царская маці, бо ты сплятаеш яго сваімі пальцамі, і твае чары здольны ўбачыць кожны.

Яна выпусціла з рук цыноўку, быццам тая апякла ёй пальцы, закруціла налітымі крывёю вачыма і тужліва спытала:

— Можа, і ты, Сінухе, чарадзей, калі кажаш такое, ці пра гэта сапраўды ведае кожны?

— З цягам часу людзі даведаюцца пра ўсё, нават калі ім нічога скажуць,— адказаў я.— Можа быць, тваім учынкам, о Вялікая царская маці, і не было сведкаў, але цябе бачыла ноч і начны вецер нашаптаў пра тое, што ты ўчыніла, тысячам вушэй! Ты не можаш прымусіць яго маўчаць, як прымушаеш маўчаць чалавечыя языкі. А гэты каберчык, які ты цяпер пляцеш сваімі пальцамі, сапраўды прыгожы чароўнай прыгажосцю, і я быў бы табе вельмі ўдзячны, калі б ты мне яго падаравала, бо я адзін магу ацаніць як след такі падарунак.

Пакуль я гаварыў, яна супакоілася, але пальцы ў яе ўсё яшчэ дрыжалі. Пасля маіх словаў яна хітра зірнула на мяне і сказала:

— Можа, я і падарую табе гэтую посцілку, Сінухе, калі толькі скончу яе калі-небудзь рабіць. Гэта сапраўды прыгожая і каштоўная цыноўка, бо яна сплеценая царскімі рукамі. Аднак той, хто робіць падарунак, чакае падарунка ў адказ. Што ты думаеш падараваць мне, Сінухе?

Я адказаў ёй, смеючыся:

— Я падарую табе свой язык, о Вялікая царская маці. Праўда, я хацеў бы, каб ён застаўся пры мне аж да майго смяротнага дня. Але яму ўжо не будзе ніякай карысці сведчыць супраць цябе, бо гэта будзе ўжо твой язык.

— А навошта мне браць у падарунак тое, што і так у маёй уладзе? Нічога не перашкодзіць мне забраць у цябе язык разам з рукамі, каб ты не змог напісаць тое, што не можаш прамовіць. Я магу сваёю ўладаю паслаць цябе ў сутарэнні палаца да маіх любых неграў. І ты адтуль

ніколі не выйдзеш, бо яны з задавальненнем прыносяць чалавечыя ахвяры сваім багам.

— Бачна, што ты выпіла замнога піва, о Вялікая царская маці,— запярэчыў я.— Не пі сёння болей, каб не ўбачыць у сне гіпапатамаў. Мой язык цяпер належыць табе, і я спадзяюся. што калі-небудзь атрымаю гэты каберчык у падарунак.

Я сабраўся пайсці, і яна не ўтрымлівала мяне, а толькі засмяялася так, як заўсёды смяюцца старыя жанчыны, калі вып'юць шмат піва, і сказала:

— Ты вельмі добра пазабавіў мяне, Сінухе, вельмі добра.

З тым я і пайшоў, і ніхто не перашкодзіў мне пакінуць царскі палац, і Мэрыт падзяліла свой ложак са мной гэтай ноччу. Але я ўжо не быў такі шчаслівы, як раней, бо ўсе мае думкі імкнуліся да чорнага трысняговага чоўна, які вісеў над ложкам маёй маці, і да цёмных пальцаў, якія вязалі вузлы так, як вяжуць іх толькі птушкаловы, і да начнога ветрыку, які гнаў лёгкія трысняговыя чаўны ад Залатога палаца і прыбіваў іх да фіванскага берага. Я думаў пра ўсё гэта і быў ужо не такі шчаслівы, як калісь, бо тое, што павялічвае веды, павялічвае і смутак.

**5**

Афіцыйна лічылася, што я еxаў у Фівы наведаць Дом жыцця, у якім не быў ужо шмат гадоў. Мая пасада царскага лекара вымагала рабіць такія наведванні, дый апроч таго, я сам баяўся, што страціў былое майстэрства: за гады, праведзеныя ў Ахетатоне, я не ўскрыў ніводнага чэрапа. Але Дом жыцця быў ужо не такі, як раней, ён страціў ранейшае вялікае значэнне, бо збяднелы люд сюды ўжо не хадзіў, а лепшыя лекары перасяліліся ў горад і займаліся там сваім рамяством. Я думаў, што навука цяпер развіваецца з большай свабодай, бо вучням ніхто ўжо не забараняе задаваць пытанне «чаму?» і не прымушае іх рабіцца жрацамі ніжняй ступені. Але хутка я расчараваўся ў сваіх спадзяваннях, бо вучні былі зялёнымі маладзёнамі і зусім не гарэлі жаданнем пытацца «чаму?», яны хацелі толькі атрымаць гатовыя веды ад настаўнікаў, а яшчэ больш — быць запісанымі ў Кнігу жыцця, каб неадкладна заняцца лекарскай справай і прадаваць набытыя веды за золата і срэбра.

Хворых было так мала, што мінула некалькі тыдняў, перш чым я ўскрыў тры чарапы, каб тым самым праверыць сваё майстэрства. Дзякуючы гэтым аперацыям я набыў вялікую славу, мяне прыўзносілі як лекары, так і навучэнцы, хвалячы цвёрдасць і спрыт маёй рукі. Але ў мяне самога ад аперацый засталося гнятучае пачуццё: мае рукі былі ўжо не такія цвёрдыя і спрытныя, як у мінулым, дый вочы — не такія відушчыя. Я не змог гэтак жа лёгка, як раней, вызначыць прычыну хваробы, а таму мусіў задаваць хворым шмат пытанняў і старанна іх



аглядаць. Каб вярнуць сваё былое майстэрства і цвёрдасць рукі, я кожны дзень прымаў у сябе дома хворых, не патрабуючы ніякай платы.

Але як бы там ні было, я такі ўскрыў тыя тры чарапы, прычым адзін — толькі з літасці да невылечна хворага мужчыны, які пакутаваў ад страшнага болю. Але два іншыя выпадкі былі даволі цяжкія, і ў іх спатрэбілася ўсё маё майстэрства. Першы быў мужчына, які два гады назад упаў з гарышча, дзе спякотным летнім днём цешыўся з чужой жонкай. Ён упаў, уцякаючы ад мужа, потым сам апрытомнеў, і не было ў яго прыкметна ніякіх вонкавых пашкоджанняў. Але праз пэўны час захварэў на свяшчэнную хваробу і пакутаваў ад прыпадкаў, якія здараліся кожны раз, як ён напіваўся віна. У яго не было ніякіх відзежаў, ён толькі брыкаў нагамі, нема роў, кусаў язык і мачыўся пад сябе. Ён так баяўся сваёй хваробы, што сам папрасіў, каб яму зрабілі аперацыю. Я згадзіўся ўскрыць яму чэрап і ўзяў у дапамогу супыняльніка крыві, якога мне нараілі лекары з Дома жыцця. Але гэты супыняльнік аказаўся яшчэ большым дурнем і лайдаком, чым той, пра якога я ўжо распавядаў раней,— таго, што сканаў у Залатым палацы. На працягу ўсёй аперацыі ён толькі таптаўся побач і мне замінаў. Нягледзячы на яго прысутнасць кроў безупынку цякла з разрэзу. Але я ўсё-ткі ўскрыў цемя і ўбачыў, што мазгі ў некаторых месцах пакрытыя чорнымі плямамі старой закарэлай крыві. Ачышчэнне заняло шмат часу і не магло прайсці без пашкоджанняў. Прыпадкаў свяшчэннай хваробы ў мужчыны больш не было, бо, як гэта звычайна здараецца, на трэці дзень пасля аперацыі ён памёр. Але аперацыю ўсё адно палічылі ўдалай, і лекары славілі маё майстэрства, а навучэнцы запісвалі ўсё, што бачылі падчас аперацыі.

Другі выпадак быў прасцейшы: непрытомнага юнака падабралі на вуліцы ахоўнікі — абрабаваны, ён паміраў з прабітаю галавой. Беручыся за гэтую аперацыю, я нічым не рызыкаваў, бо іншыя лекары адмовіліся лячыць хлопца, палічыўшы яго безнадзейным. Я пастараўся як мага хутчэй ускрыць яго прабіты чэрап, дастаў з мазгоў аскепкі касцей і накрыў адтуліну чыстай срэбнай пласцінай. Хлопец паправіўся і нават праз два тыдні, калі я ўжо збіраўся ад'язджаць з Фіваў, быў яшчэ жывы. Праўда, ён з цяжкасцю варушыў рукамі, і яго далоні і ногі не адчувалі дотыкаў, але я лічыў, што з часам ён цалкам выздаравее. Хоць на гэтую трэпанацыю іншыя лекары не звярнулі вялікай увагі, але гэты выпадак быў адметны тым, што з прычыны неадкладнасці аперацыі я не пагаліў галаву хвораму, а таму, пакрыўшы срэбраную пласціну скураю з валасамі, змог зашыць рану так, што не засталося ні следу, ні шнару.

Хоць за маю высокую пасаду да мяне ўсе ў Доме жыцця ставіліся з павагай, але старыя лекары ўсё-ткі не адважваліся размаўляць са мной шчыра: я быў з Ахетатона, і яны баяліся ўлады несапраўднага бога. Таму я стараўся гаварыць з імі толькі пра тое, што тычылася лекарскіх

справаў, а яны дзень за днём яны імкнуліся пранікнуць у мае думкі, абнюхваючы з усіх бакоў, як сабака ў пошуках следу. І так цягнулася, пакуль я не пачаў адкрыта здзіўляцца на такія паводзіны. Нарэшце пасля трэцяй аперацыі да мяне наблізіўся адзін вельмі мудры і дасведчаны лекар, які па-майстэрску валодаў нажом, і сказаў:

— Высокашаноўны Сінухе, ты, вядома, заўважыў, што Дом жыцця спусцеў у параўнанні з былымі часамі, і попыт на наша майстэрства зменшыўся, хоць хворых у Фівах стала не менш, а болей. Ты, Сінухе, падарожнічаў па розных землях і бачыў шмат выздараўленняў. Але я думаю, што такіх, якія робяцца патаемна ў Фівах і не патрабуюць ні нажа, ні агню, ні павязак, ні лекаў, ты нідзе не бачыў. Мне даручылі расказаць табе пра гэта і спытаць, ці не пажадаеш ты стаць сведкам такога выздараўлення. Але ты павінен паабяцаць, што нікому не раскажаш пра тое, што ўбачыш. І яшчэ павінен дазволіць завязаць сабе вочы, калі цябе павядуць у нашае свяшчэннае месца, каб ты не мог ведаць, дзе яно знаходзіцца.

Яго словы мне не вельмі спадабаліся, бо я не хацеў пасварыцца праз гэта з фараонам. Аднак мая цікаўнасць была такою вялікай, што я згадзіўся і сказаў:

— Я і сам чуў, што ў Фівах дзеяцца розныя дзівосныя справы. Мужчыны расказваюць казкі, а жанчыны бачаць відзежы, але наконт цудоўных выздараўленняў я нічога не чуў. Як лекар я стаўлюся да выздараўленняў, якія не патрабуюць ні нажа, ні агню, ні лекаў, ні павязак, з вялікім недаверам і не хацеў бы быць замяшаным у якое-небудзь махлярства, каб маё імя не выкарыстоўвалі, каб засведчыць тое, чаго не бывае і быць не можа.

Ён горача запярэчыў:

— Мы думалі, што ты не верыш у забабоны, бо падчас шматлікіх сваіх падарожжаў па розных краінах спазнаў такое, пра што ніколі не чулі ў Егіпце. Спыняюць жа кроў без зашчэпак і без агню, дык чаму нельга вылечыць чалавека без нажа і агню? Мы абяцаем, што тваё імя нідзе замяшанае не будзе, але мы не таму хочам зрабіць цябе сведкам цудоўнага выздараўлення,— мы хочам, каб ты ўпэўніўся, што ніякага махлярства ў гэтым няма. Ты самотны чалавек, Сінухе, і будзеш справядлівым сведкам — вось чаму мы абралі менавіта цябе.

Яго словы здзівілі мяне і яшчэ больш распалілі маю цікаўнасць. Як лекар я таксама хацеў даведацца чаго-небудзь новага. Таму я згадзіўся, і з наступленнем ночы ён прыйшоў да мяне з насілкамі і зараз жа завязаў мне вочы. Калі насілкі спыніліся, ён узяў мяне за руку і павёў некуды па доўгіх праходах і шматлікіх прыступках. Мы то спускаліся ўніз, то зноў падымаліся ўгору, пакуль мне ні надакучыла і я ні сказаў, што з мяне даволі гэткага глупства. Ён супакоіў мяне і зняў з маіх вачэй павязку, пасля чаго мы ўвайшлі ў вялікую залу з каменнымі сценамі, дзе гарэла шмат свяцільняў. На падлозе на насілках ляжалі трое хворых. Да мяне наблізіўся жрэц з паголенай галавой і тварам, які ільсніўся ад каштоўнага алею. Ён назваў мяне на імя і запрасіў агледзець хворых, каб я мог пераканацца, што ніякага ашуканства няма. Ягоны голас быў пэўны і мяккі, а вочы свяціліся мудрасцю. Я паслухаўся ягонай парады і агледзеў хворых, а мой знаёмы лекар дапамагаў мне.



Я ўбачыў, што гэтыя трое былі такія хворыя, што самі падняцца з насілак ніяк не маглі. Першая была маладая жанчына з высахлымі суглобамі і нагамі без ніякіх прыкмет жыцця, на яе схуднелым твары жылі і рухаліся толькі вочы. Быў яшчэ хлопчык з целам пакрытым чырвонай высыпкай і гнойнымі струпамі. Трэцім быў стары, якога разбіў паляруш і які з гэтай прычыны не мог хадзіць. Каб упэўніцца, што стары не прыкідваецца, я пакалоў яму ў ногі іголкай, але болю ён не адчуў. Тады я сказаў жрацу:

— Я агледзеў гэтых хворых, і калі б я быў іхнім ворагам, дык адзінае, што я мог бы зрабіць, гэта паслаць іх у Дом жыцця. Жанчыну і старога наўрад ці можна вылечыць і там, а хлопчыку палегчыць пакуты маглі б штодзённыя серныя купанні.

Жрэц усміхнуўся і прапанаваў нам, абодвум лекарам, сесці на зэдлікі ў глыбіні залы, якая патанала ў змроку, і цярпліва чакаць. Потым ён паклікаў рабоў, загадаў ім паставіць насілкі з хворымі на алтар і запаліць у курыльнях дурманныя вохныя травы. З праходу пачуліся спевы і ў залу ўвайшла купка жрацоў, якія спявалі свяшчэнныя песні Амона. Яны згрудзіліся вакол насілак з хворымі і пачалі маліцца, падскокваць і нешта выгукваць. Яны падскоквалі і крычалі, пакуль пот не пацёк цурком па іх тварах, а тады сарвалі з сябе адзенне і зазванілі ў званочкі, якія трымалі ў руках. Потым яны пачалі раніць сябе ў грудзі вострымі камянямі так, што кроў заструменілася па іх агаленых целах. Я бачыў падобныя абрады ў Сірыі і таму спакойна назіраў за іх шаленствам, а яны закрычалі яшчэ гучней і пачалі малаціць кулакамі ў каменную сцяну, і тут каменне раздалося ў бакі, і перад імі ўзвысілася страшная і велічная выява Амона. У тую ж хвіліну жрацы змоўклі, і раптоўная цішыня была яшчэ жахлівейшая за ранейшы гвалт і лямант. Твар Амона свяціўся перад намі нябесным святлом пад змрочнымі скляпеннямі, і раптам галоўны жрэц выступіў наперад, стаў перад хворымі, выгукнуў імя кожнага і загадаў:

— Устаньце і ідзіце, бо вялікі Амон благаславіў вас у веры вашай!

Тады я на свае вочы ўбачыў, як усе трое, не адрываючы позіркаў ад выявы Амона, пачалі павольна ўставаць з насілак. Калоцячыся ўсім целам, яны падняліся на калені, потым сталі на ногі, не верачы сабе, яны мацалі рукамі свае целы, а потым зарыдалі і, заліваючыся слязьмі, пачалі

ўзносіць малітвы і ўслаўляць імя Амона. Тады каменныя сцены зноў сышліся, жрацы пайшлі прэч, а рабы вынеслі курыльні і запалілі яркія ліхтары, каб мы маглі агледзець хворых. Мы агледзелі іх і ўпэўніліся, што маладая жанчына пры нашай падтрымцы можа зрабіць некалькі крокаў, стары можа рухацца сам, а цела хлопчыка ачысцілася ад высыпкі і яго скура стала чыстай і гладкай. Усё гэта адбылося, пакуль выцекла ўсяго некалькіх мер вадзянога гадзінніка, і калі б я не бачыў таго на свае вочы, то ніколі не даў бы веры, што такое магчыма.

Жрэц, які нас сустракаў, наблізіўся з пераможнай усмешкай і спытаў:

— Ну, што ты скажаш цяпер, высокашаноўны Сінухе?

Я без страху паглядзеў яму ў вочы і адказаў:

— Я разумею так, што жанчына і стары пакутавалі ад сурокаў, якія падпарадкавалі іх волю, і адны чары могуць быць пераможаныя другімі, больш моцнымі. Але высыпка на целе ёсць высыпка, і яе немагчыма знішчыць варажбой і чарамі. Каб вылечыць яе, трэба некалькі месяцаў лекавання. Таму я сведчу, што ніколі раней не бачыў нічога падобнага.

Ён скіраваў на мяне свой палаючы позірк і спытаў:

— Дык ці прызнаеш ты, Сінухе, што Амон усё яшчэ цар багоў?

Але я сказаў у адказ:

— Мне хацелася б, каб ты не прамаўляў уголас імя фальшывага бога, бо фараон забараніў гэта, а я верны слуга фараона.

Я бачыў, што мае словы не на жарт угнявілі яго, але ён быў жрацом вышэйшай ступені і выдатна мог стрымліваць парывы свайго сэрца. Таму ён адказаў мне з прыязнай усмешкай:

— Мяне завуць Херыхор, і ты можаш паведаміць пра мяне ахоўнікам, але я не баюся ні фальшывага фараона, ні яго воінаў, ні руднікоў, і далей буду лячыць усіх, хто прыйдзе да мяне з імем Амона. Але не будзем спрачацца па такіх справах — лепш пагутарым, як выхаваныя людзі. А дзеля гэтага дазволь запрасіць цябе ў мой пакой выпіць віна і адпачыць, бо ты, напэўна, стаміўся сядзець на цвёрдым зэдліку.

Ён павёў мяне доўгімі пераходамі. Па цяжкім паветры я адчуваў, што мы знаходзімся глыбока пад зямлёй, і здагадваўся, што гэта і ёсць славутыя падзямеллі Амона, якіх ніхто з непасвечаных ніколі не бачыў. Херыхор адаслаў лекара з Дома жыцця, і мы ўдвух увайшлі да яго ў пакой. Трэба сказаць, тут было дастаткова ўсяго, што радуе чалавечае сэрца. Над шырокім ложкам уздымаўся раскошны балдахін, пакой упрыгожвалі скрыні і куфры са слановай косці і чорнага дрэва, дол быў засланы мяккімі дыванамі, а паветра поўнілася водарам каштоўных алеяў. Херыхор пачціва паліў мне на рукі духмянай вады, прапанаваў сесці на мяккае сядзенне і прапанаваў паспытаць мядовых пірагоў, садавіны і стогадовага віна, змяшанага з мірам. Мы выпілі, і ён сказаў:

— Сінухе, мы цябе добра ведаем, мы сачылі за кожным тваім крокам і нам вядома, што ты вельмі любіш фальшывага фараона і яго ілжывы бог табе не такі чужы, як нам хацелася б. Але я запэўніваю цябе, што ў ягонага бога няма нічога, чаго не было б у Амона, а фараонавы ганенні й нянавісць толькі ачысцілі Амона і ўмацавалі яго сілу. Але я запрасіў цябе не дзеля абмеркавання рэлігійных пытанняў, я запрасіў цябе як чалавека, які бясплатна лечыць беднякоў, і я звяртаюся да егіпцяніна, які любіць Чорную зямлю больш за Чырвоную. Я кажу табе: фараон Эхнатон — праклён для беднага люду і вынішчэнне Егіпта, і таму ён павінен быць зрынуты, пакуль прычыненае ім зло не дасягнула памераў, калі выправіць яго будзе ўжо немагчыма, нават праліўшы шмат крыві.



Я выпіў яшчэ віна і адказаў:

— Мне ўсе багі аднолькавыя і ўсе надакучылі. А вось бог фараона зусім не падобны да іншых: ён не мае выявы, і ўсе людзі перад ім роўныя. Кожны чалавек — багаты ці бедны — мае перад гэтым богам сваю каштоўнасць. Таму я думаю, што з ім заканчваецца адзін год сусвету і пачынаецца новы, а ў такі час можа адбыцца самае неверагоднае, нават тое, што супярэчыць чалавечаму розуму. Вось жа ніколі раней не было магчымасці павярнуць усё на новы лад і ўсталяваць сапраўднае братэрства паміж людзьмі.

Херыхор адмоўна падняў руку і з усмешкай сказаў:

— Я бачу, Сінухе, што ты мроіш наяве, хоць я лічыў цябе чалавекам разумным. Мае памкненні сапраўды значна больш сціплыя. Я не хачу перайначваць сусвет. Я хачу толькі, каб усё заставалася па-старому, каб бядняк атрымліваў сваю меру напоўніцу, а законы дзейнічалі на ўсю моц. Я хачу, каб кожны мог у поўнай бяспецы займацца сваёю справай і верыць, у што захоча. Я хачу, каб зберагалося ўсё, што робіць жыццё спакойным і працяглым, што адрознівае раба ад уладара, а слугу ад гаспадара. Я хачу, каб гонар і моц Егіпта засталіся недатыкальнымі, каб дзеці нараджаліся ў краіне, дзе кожнаму адведзена сваё месца і кожны мае свае абавязкі ад першых да апошніх дзён. Я хачу, каб чалавечае сэрца не заходзілася ад беспадстаўнай трывогі за сваё жыццё. Дзеля ўсяго гэтага фараон Эхнатон павінен быць зрынуты.

Ён з нямой просьбай дакрануўся да маёй рукі і, нахіліўшыся бліжэй, працягваў:

— Сінухе, ты чалавек спакойны і добразычлівы і нікому не хочаш зла. Але мы жывем у час, калі кожнаму трэба зрабіць свой выбар. І пазбегнуць такога выбару немагчыма. Хто не будзе з намі, той будзе супраць нас, і яму давядзецца рана ці позна расплаціцца за гэта. Ты ж не такі дурны, каб верыць, што ўлада гэтага фараона пратрывае доўга. Мне ўсё адно, якім багам ты служыш і ўвогуле ці верыш у якіх-небудзь багоў: Амон можа абысціся і без тваёй веры. Але ты, Сінухе, можаш

пакончыць з праклёнам Егіпта. У тваёй сіле спыніць голад, галечу і беспарадкі ў Чорнай зямлі. У тваёй сіле аднавіць былую моц Егіпта.

Яго словы напоўнілі маё сэрца трывогай. Я зноў адпіў віна і з натужлівым смехам сказаў:

— Цябе, напэўна, укусіў шалёны сабака або ўцяў сваім джалам скарпіён, бо сілы, пра якую ты кажаш, у мяне зусім мала: я няздольны нават рабіць такія выздараўленні, як ты.

Жрэц падняўся з месца і прапанаваў:

— Хадзем, я нешта табе пакажу.

Ён узяў ліхтар і падвёў мяне да дзвярэй, зачыненых на некалькі замкоў. Жрэц адамкнуў іх, і ў святле ліхтара перада мной адкрыўся пакой, які блішчаў золатам і каштоўнымі камянямі. Ён сказаў:

— Не бойся, я не такі неразумны, каб спакушаць цябе золатам. Але і табе карысна паглядзець, наколькі Амон багацейшы за твайго фараона. А цяпер я пакажу табе яшчэ нешта.

Ён адамкнуў яшчэ больш магутныя дзверы і асвятліў маленькі пакойчык, дзе на вычасаным з каменя ложку ляжала васковая фігура з падвойнай каронай на галаве. У грудзях і скронях фігуры тырчалі шматлікія голкі са слановай косці. Я міжволі ўскінуў рукі і прачытаў замову ад чарадзейства, якую вывучыў раней, чым стаў жрацом першай ступені. Херыхор з усмешкай сачыў за мной, і ліхтар у яго руцэ не дрыжаў.

— Ну, а цяпер ты верыш, што час фараона Эхнатона хутка закончыцца? — спытаў ён.— Мы зачаравалі гэтую фігуру імем Амона і працялі яго сэрца і галаву свяшчэннымі голкамі вялікага бога. Але нашы чары дзейнічаюць павольна, і яшчэ здарыцца шмат нядобрага, бо ягоны бог, безумоўна, можа крыху абараніць яго ад нашага чарадзейства. Таму, перш чым працягваць нашу размову, я і паказаў табе гэта.

Ён старанна замкнуў усе дзверы, і мы вярнуліся ў пакой, дзе ён зноў наліў мне віна. Але чаша білася мне аб зубы і віно пралівалася па барадзе, бо я зразумеў, што ўбачыў такую магутную чарадзейную сілу, што супрацьстаяць ёй не зможа нішто на свеце. Чарадзейства з васковай фігурай было настолькі жахлівым і забаронным, што нават жрацы Амона не адважваліся гаварыць пра яго ўголас у сваіх храмах. Пра яго можна было толькі прачытаць у старадаўніх сакрэтных рукапісах, але многія лічылі, што такога чарадзейства больш быць не можа, бо з часоў пабудовы пірамідаў прайшло дзве тысячы гадоў і наш немалады свет ужо не так напоўнены чарамі. Херыхор сказаў:

— Вось бачыш, улада Амона дасягае аж да самага Ахетатона. Але не пытайся, як мы здабылі яго валасы і пазногці, каб дадаць іх у воск. Магу толькі сказаць, што нам далі іх не дзеля золата, а дзеля Амона.

Ён зноў уважліва паглядзеў на мяне і працягваў, узважваючы кожнае слова:



— Сіла Амона з кожным днём расце, і ты сам бачыў, як я яго імем вылечыў хворых. І дзень за днём пракляцце Амона над Егіптам робіцца ўсё болей бязлітасным. І чым далей будзе жыць фальшывы фараон, тым нясцерпней будуць пакутаваць праз яго людзі, бо чары дзейнічаюць вельмі павольна. Нават сам фараон пакутуе ад галаўнога болю, які цалкам знясільвае яго. Што б ты сказаў, Сінухе, калі б я даў табе лекі, якія дапамогуць фараону, і ён назаўсёды пазбавіцца ад гэтай хваробы?

— Чалавек заўсёды пакутуе ад болю,— запярэчыў я.— Толькі нябожчык не адчувае нічога.

Ён глядзеў на мяне палаючымі вачыма, яго позірк пазбаўляў мяне волі і скоўваў мае рухі так, што я не мог паварушыць ні рукой, ні нагой. Херыхор сказаў:

— Так і ёсць, але мае лекі не пакідаюць слядоў, і ніхто не зможа абвінаваціць цябе. Нават бальзамоўшчыкі не заўважаць нічога незвычайнага ў яго вантробах. Але табе ўсяго гэтага ведаць не трэба — проста дай гэтыя лекі фараону. Ён вып'е іх і засне, і ніколі больш не будзе пакутаваць ад болю і смутку.

Стрымліваючым жэстам ён узняў руку і дадаў:

— Я не буду падкупляць цябе золатам, але калі ты зробіш гэта, тваё імя набудзе вечнае благаславенне і тваё цела не стане граззю пад нагамі, а будзе жыць вечна. Нябачныя рукі будуць аберагаць цябе ўсё жыццё, і ты па першым жаданні атрымаеш усё, што толькі можа захацець чалавек. Я абяцаю табе гэта, бо мне дадзена такое права.

Узняўшы рукі, ён глядзеў на мяне ранейшым палаючым позіркам, і я не мог адвесці вачэй. Ён падпарадкоўваў мяне сваёй воляй: я быў няздольны паварушыць ні рукой, ні нагой. Тады ён сказаў:

— Калі я скажу табе: устань — ты ўстанеш; калі я скажу табе: падымі руку — ты падымеш, але я не магу загадаць табе звярнуцца да Амона, калі ты сам гэтага не хочаш, і не магу прымусіць цябе рабіць тое, супраць чаго паўстае тваё сэрца. Тут пралягаюць межы маёй улады над табою. Таму я звяртаюся да цябе, Сінухе, дзеля ўсяго Егіпта: вазьмі лекі, якія я табе дам, і навечна пазбаў фараона ад галаўнога болю.

Ён зняможана апусціў рукі, і да мяне зноў вярнулася здольнасць рухацца. Я паднёс да вуснаў чашу з віном, і дрыготка ўжо не калаціла мяне. Водар віна, змяшанага з мірам, напоўніў мне рот і ноздры, і я сказаў:

— Херыхор, я нічога не абяцаю табе, але ты можаш даць мне сваё зелле. Дай мне гэтыя міласэрныя лекі, бо яны, напэўна, будуць лепшыя за макавы сок, і можа некалі настане хвіліна, калі фараон сам захоча заснуць і больш не прачнуцца.

Ён перадаў мне лекі ў бліскучым шкляным сасудзе і сказаў:

— Будучыня Егіпта ў тваіх руках, Сінухе. Нікому не можна пады-

мацъ руку на фараона, але ж неспакой і хваляванне ў народзе такія, што і каму-небудзь іншаму можа прыйсці ў галаву, што фараон смяротны, і тады ён можа праліць яго кроў з дапамогай нажа або дзіды. Але такога дапусціць нельга, бо гэта вельмі надоўга пахісне фараонаву ўладу. Таму лёс Егіпта ў тваіх руках, Сінухе.

Я прывязаў сасуд з лекамі да пояса і з усмешкай сказаў:

— Лёс Егіпта з самага дня майго нараджэння быў у цемнаскурых пальцах, якія ўмеюць спрытна завязваць вузельчыкі з чарацінак. Ёсць на свеце такое, пра што не ведаеш нават ты, Херыхор, хоць і думаеш, што ведаеш усё. Ва ўсякім разе, зелле цяпер у мяне, але я нічога табе не абяцаю.

Ён усміхнуўся, узняў рукі ў развітальным жэсце і сказаў, як таго патрабуе звычай:

— Хай будзе найвялікшай твая ўзнагарода.

Потым ён павёў мяне па калідорах, нічога ўжо не хаваючы, бо быў вялікім знаўцам чалавечага сэрца і ведаў, што я не данясу. Цяпер я магу з упэўненасцю сказаць, што пад вялікім храмам Амона ёсць падзямеллі, але як трапіць у іх — не скажу, бо гэта не мая таямніца.

**6**

Праз некалькі дзён Вялікая царская маці Тэйе памерла ў Залатым палацы. Смерць наступіла ад таго, што яе ўкусіла маленькая пясчаная змяя, калі царыца ставіла пасткі на птушак у сваім садзе. Яе лекара доўга не маглі знайсці, бо лекараў ніколі не знаходзяць своечасова, калі маюць у іх найбольшую патрэбу. Мяне выклікалі з майго дома ў Фівах, але, прыехаўшы ў Залаты палац, я змог толькі засведчыць смерць. Але вінаваціць яе лекара таксама было нельга, бо пясчаная змяя забівае заўсёды, калі не паспець разрэзаць месца ўкусу раней, чым сэрца зробіць сто ўдараў.

Паводле звычаю, я павінен быў заставацца ў Залатым палацы, пакуль за целам не прыйдуць насільшчыкі з Дома смерці. Тут, каля цела царыцы, я сустрэўся з пахмурным Эйе, які дакрануўся пальцамі да шчакі нябожчыцы і сказаў:

— Яна памерла своечасова, бо ператварылася ўжо ў навязлівую бабу і выношвала супраць мяне злыя задумы. Справы яе рук і асудзілі яе. Спадзяюся, што хоць пасля яе смерці народ крыху супакоіцца.

Не думаю, што яе забіў Эйе, ён наўрад ці адважыўся б на такое. Супольныя злачынствы і змрочныя таямніцы звязваюць людзей мацней, чым каханне, і я ведаю, што нягледзячы на ўсю сваю вытрымку Эйе вельмі сумаваў па ёй, бо вельмі ўжо яны прывыклі адно да аднаго за гады, што пражылі разам.

Калі вестка пра смерць царыцы-маці распаўсюдзілася па Фівах, народ апрануўся ў святочныя строі і з вялікаю радасцю пачаў збірацца на плошчах і вуліцах. З вуснаў у вусны перадаваліся розныя прадказанні, і шматлікія святыя кабеты, якія немаведама адкуль узяліся ў натоўпе, абвяшчалі ўсё новыя жахлівыя прароцтвы. Пад сценамі Залатога палаца сабралося шмат люду, і, каб супакоіць і задобрыць народ, Эйе загадаў выгнаць з яго сутарэнняў негрыцянскіх чарадзеяў царыцы Тэйе. Іх было пяцёра, і сярод іх была адна жанчына, тоўстая і вялізная, як бегемот. Ахова выпхала іх праз Папірусавыя вароты, і натоўп імгненна пашкуматаў іх на кавалкі, так што ніякае чарадзейства ім не дапамагло. Эйе загадаў знішчыць усе іх прылады: зачараваныя калоды і шматлікія зёлкі, — і мне было вельмі шкада, бо я хацеў пазнаёміцца з сакрэтамі іх чарадзейства і лекавання.

Ніхто ў палацы не журыўся па смерці Вялікай царыцы-маці і жахлівым лёсе яе чарадзеяў. Толькі царэўна Бэкетатон наблізіўшыся да цела маці і дакрануўшыся да цёмнай рукі нябожчыцы прыгожымі пальцамі, сказала:

— Твой муж, мама, зрабіў дрэнна, дазволіўшы гэтаму быдлу-прасталюдзінам разарваць тваіх чарнаскурых чарадзеяў.

А мне яна сказала:

— Гэтыя чараўнікі былі зусім не злымі людзьмі і жылі тут не па сваёй ахвоце. Яны сумавалі па сваіх джунглях і саламяных хацінках. Нельга было караць іх за тое, што рабіла мая маці.

Так я спаткаўся з царэўнай Бэкетатон і быў уражаны яе прыгажосцю і годнасцю яе паводзінаў. Яна распытала мяне пра Харэмхеба, але гаварыла пра яго з непрыхаванай здзеклівай усмешкай:

— Харэмхеб нізкага паходжання, і гаворка ў яго грубая і непрыстойная. Але каб ён узяў сабе жонку, дык мог бы стаць заснавальнікам новага знатнага роду. Ты можаш, Сінухе, мне растлумачыць, чаму ён да гэтай пары не ажаніўся?

Я адказаў:

— Царэўна Бэкетатон, ты не першая, хто дзівіцца з гэтага. І я толькі дзеля тваёй нябеснай прыгажосці раскажу табе тое, што не расказваў нікому. Калі Харэмхеб яшчэ хлапчуком упершыню трапіў у палац, ён сабе на бяду паглядзеў на светлую зорку. І з тае пары ён не можа глядзець на іншых жанчын і ні з кім не хоча разбіць гаршчок. А ты сама, Бэкетатон? Ніводнае дрэва не квітнее вечна, а яно павінна прыносіць плады. Як лекар, я ад усёй душы жадаю табе, каб і твой жывот акругліўся плодам.

Яна ганарліва ўскінула галаву і адказала:

— Ты добра ведаеш, Сінухе, што мая кроў надта высокая, каб змешваць яе нават з самай высакароднай егіпецкаю крывёю. Таму было б лепш, каб паводле нашага старадаўняга звычаю мой брат ажаніўся са

мною, тады я даўно нарадзіла б яму сына. І калі б была мая воля, я загадала б выкалаць Харэмхебу вочы, каб не згараць ад ганьбы, што ён асмеліўся зірнуць на ясную зорку. Шчыра скажу табе, Сінухе, мяне аж трасе ад жаху, калі я думаю пра мужчын. Іх дотык грубы і бессаромны, а жорсткае цела можа проста раздушыць пяшчотную жанчыну. Дый задавальненне ад іх, я думаю, вельмі перабольшанае.

Яна гаварыла гэта, а яе вочы блішчалі і дыханне рабілася частым, — было бачна, што размова на гэтую тэму ёй даспадобы. Я крыху пацвяліў яе:

— Я бачыў, як мой сябар Харэмхеб разрывае меднае кальцо, і як гудуць яго грудзі, калі ён у гневе б'е ў іх кулаком. Прыдворныя паненкі і пані бегаюць за ім, як кошкі, і ён можа рабіць з імі ўсё, што хоча.

Царэўна Бэкетатон неадрыўна глядзела на мяне. Яе нафарбаваныя вусны дрыжалі і вочы палалі шаленствам, калі яна гнеўна сказала:

— Ад тваіх словаў, Сінухе, мяне верне з душы — такія яны мярзотныя. Я не разумею, чаго ты чапляешся да мяне з размовамі пра свайго Харэмхеба. Ён нарадзіўся на кучы гною ў хляве, і мне брыдка чуць нават яго імя. Я не магу зразумець, як ты адважыўся весці такія размовы тут, каля цела маёй памерлай маці!

Я не захацеў ёй напамінаць, хто першы завёў гаворку пра Харэмхеба, а таму адказаў, нібыта каючыся:

— О Бэкетатон, заставайся квітнеючым дрэвам, бо тваё цела не старэе і будзе квітнець яшчэ шмат гадоў. Але скажы мне, ці не было ў тваёй маці якой-небудзь адданай прыдворнай, якая магла б пабыць і паплакаць тут над целам тваёй маці да таго, як яе аднясуць у Дом смерці, дзе нанятыя плакальшчыцы будуць галасіць над ёю і рваць на сабе валасы. Калі б я мог, я паплакаў бы над ёю і сам, але я лекар і мае слёзы даўно высахлі ад частых спатканняў са смерцю. Жыццё, Бэкетатон, падобнае да спякотнага дня, а смерць можна параўнаць з халоднаю ноччу. Жыццё — гэта мелкаводная затока, а смерць — глыбокая і празрыстая вада.

Яна адказала:

— Вой, не кажы мне пра смерць, Сінухе, бо жыццё пакуль яшчэ здаецца мне салодкім. Але гэта напраўду ганьба, што побач з маці ніхто не плача. Сама я, вядома, не магу рабіць гэтага, бо мне не дазваляе маё становішча дый фарба пацячэ з вейў па шчоках. Таму я прышлю якую-небудзь жанчыну, каб яна паплакала тут з табою.

Я вырашыў жартаваць далей:

— Боская Бэкетатон, твая прыгажосць распаліла мяне, а твае словы толькі падлілі алею ў гэтае полымя. Таму прашу цябе: прышлі якую-небудзь старую страшыдлу, каб у сваім шаленстве я не спакусіў яе і не апаганіў тым самым дом, поўны жальбы і смутку.



Яна дакорліва паківала галавой і адказала:

— Сінухе, Сінухе, няўжо табе не сорамна несці такую лухту? Калі ты сапраўды не баішся багоў, як пра цябе кажуць, дык хоць крыху паважай смерць.

Але яна была сапраўднай жанчынай, а таму мае словы нікольгі яе не абразілі, і яна пайшла пашукаць якую-небудзь прыдворную, якая паплакала б, пакуль з Дома смерці прыйдуць насільшчыкі.

Але я меў свае падставы весці такія бязбожныя размовы побач з нябожчыцай. Я з нецярпеннем чакаў прыходу гэтай прыдворнай пані, і неўзабаве яна з'явілася, яшчэ болей старая і мярзотная з выгляду, чым я спадзяваўся. Імя прыдворнай было Мехунефер, і па яе твары было відаць, што яна вельмі любіць мужчын і віно. Выконваючы свае абавязкі, яна пачала плакаць і чубіць свае валасы над памерлай царыцай. А я тым часам здабыў гарлач віна, і, паплакаўшы пэўны час, яна згадзілася яго пакаштаваць — тым больш, што як лекар я запэўніваў яе, што пры такой жалобе выпіць крыху віна проста неабходна. Яна піла, а я пачаў усхваляць яе былую прыгажосць. Потым я загаварыў пра дзяцей, распавёў пра дачок Эхнатона, а пад канец, прыкінуўшыся дурненькім, спытаў:

— Ці праўда, што кажуць, нібы Вялікая царская маці была адзінай жонкай векавечнага фараона, якая нарадзіла яму сына?

Мехунефер з жахам паглядзела на цела царыцы-маці і штомоц затрэсла галавой, заклікаючы мяне змоўкнуць. Таму я мусіў зноў завесці лісліваю гаворку пра яе прыгажосць, выдатную прычоску і цудоўную вопратку. Я няспынна гаварыў пра яе прыгожыя вусны і вочы, і так загаварыў яе, што яна забылася на свае абавязкі, перастала плакаць і, з захапленнем гледзячы на мяне, слухала мае словы. Жанчыны заўсёды з задавальненнем гатовыя слухаць такое і ўсяму верыць, нават калі добра ведаюць, што ўсё гэта мана. І чым жанчына старэйшая і пачварнейшая, тым лягчэй яна верыць спакуслівым словам, бо ёй самой хочацца ў іх верыць. Такім чынам, пакуль прыйшлі насільшчыкі з Дома смерці, мы сталі добрымі сябрамі, і яна, не хаваючы сваіх заляцанняў, запрасіла мяне на жаночую палову царскага палаца, дзе мы зноў узяліся піць віно. Паступова віно развязала ёй язык, усе забароны былі забытыя, яна гладзіла мяне па шчоках, называла прыгожанькім хлопчыкам і, каб распаліць мяне, пераказвала ўсе самыя бессаромныя плёткі царскага палаца. Нібы паміж іншым яна дала мне зразумець, што і Вялікая царская маці часцяком забаўлялася са сваімі негрыцянскімі чарадзеямі, і дадала, хіхікаючы:

— А ўвогуле царыца-маці была жахлівай і страшнай жанчынай. Толькі цяпер, калі яна памерла, я магу ўздыхнуць з палёгкай. І я ніколі не разумела яе густу! Бо тут так многа прыгожанькіх егіпецкіх хлопчыкаў,

ад чыйго цела струменіцца такі прыемны водар і чыя чырванаватая скура такая мяккая і пяшчотная...

Яна захацела неадкладна абнюхаць мае плечы і вушы, але я затрымаў яе і спытаў:

— Вялікая царыца Тэйе вельмі спрытна пляла трыснёг, праўда? А ці праўда, што яна пляла маленькія трысняговыя чаўны, а потым, уначы, пускала іх уніз па раце?

Мае словы вельмі яе напалохалі, і яна спытала:

— Як ты змог пра гэта даведацца?

Але віно збіла яе з думкі, жаданне пахваліцца перамагло, і яна сказала:

— Я ведаю больш за цябе! Я ведаю, што тры патаемна народжаныя немаўляці сплылі ўніз па рацэ ў трысняговых чаўнах, як дзеці жабракоў. Пакуль не паявіўся жрэц Эйе, старая вядзьмарка пабойвалася багоў і не хацела пэцкаць рукі крывёю. А ўжо як узнік Эйе, дык той навучыў яе карыстацца атрутай. Так мітаннійская царэўна Тадукіпа і памерла ў слязах, аплакваючы сына.

— О прыгажуня Мехунефер,— сказаў я, дакранаючыся да яе густа нафарбаванай шчакі,— ты, відаць, карыстаешся з маёй маладосці і недасведчанасці, і таму распавядаеш мне байкі, у якіх няма ніводнага слова праўды. Мітаннійская царэўна ніколі не нараджала сына, а калі нарадзіла, дык калі гэта было?

— Не такі ты ўжо малады і недасведчаны, лекар Сінухе,— сказала яна, гучна пасмейваючыся.— Наадварот, ты маеш спрытныя рукі, спакуслівыя вочы, але самае небяспечнае ў цябе — гэта твой язык, які прамаўляе мне хлуслівы словы. Але твая хлусня гучыць соладка ў вушах старой жанчыны, і я не магу стрымацца, каб не расказаць табе пра мітаннійскую царэўну, якая павінна была стаць Вялікай жонкаю фараона. Я раскажу табе пра яе, хоць, калі б была жывая Тэйе, мне зараз жа накінулі б на шыю тонкі шнурок. Дык вось, Сінухе, царэўна Тадукіпа была яшчэ маленькай дзяўчынкай, калі яе прывезлі з далёкай краіны на жаночую палову царскага палаца. Яна была такая маленькая, што гуляла з лялькамі. Фараон Аменхатэп тады яшчэ не дакранаўся да яе, як да жанчыны, а любіў, як любяць дзіцё,— ён гуляў з ёю ў лялькі, дарыў ёй залатыя цацкі. А калі маленькай прынцэсе споўнілася чатырнаццаць гадоў, янаператварылася ў прыгожую і прывабную жанчыну з тонкім, гнуткім і стройным целам, яе цёмныя вочы загадкава глядзелі некуды ўдалечыню, а скура мела адценне попелу, як у ўсіх мітаннійскіх жанчын. І тады фараон Аменхатэп з вялікім задавальненнем выканаў з ёю свой мужчынскі абавязак, як рабіў гэта з іншымі жанчынамі. І семя фараона пачало прарастаць у Тадукіпе, але ў гэты самы момант яго семя дало парасткі і ў чэраве Тэйе, якая радавалася і весялілася, бо перад тым нарадзіла фараону толькі дачку, гэтую фанабэрыстую пыхлівіцу Бэкетамон... я хацела сказаць — Бэкетатон... што зробіш, я старая жанчына і язык ужо часам мяне не слухаецца.



Яна задобрыла свой язык віном і казала далей:

— Усе хоць трошкі дасведчаныя людзі ведаюць, што семя, якое прарастала ў Тэйе, паходзіла з Геліяполіса, але мы казаць пра гэта не будзем. Як бы там ні было, Тэйе была вельмі засмучаная цяжарнасцю Тадукіпы і з дапамогай сваіх негрыцянскіх чараўнікоў, як магла, старалася ёй пашкодзіць. Яна ўжо рабіла так і з іншымі жанчынамі ў царскім палацы і ўжо двойчы пускала ўніз па рацэ трысняговыя чаўны з хлопчыкамі-немаўлятамі, але тыя сыны не мелі вялікага значэння, бо нарадзіліся ад малодшых жонак, якія да дрыжыкаў баяліся Тэйе. Яна рабіла тым жонкам багатыя падарункі, і яны маўчалі, калі замест хлопчыкаў знаходзілі каля сябе дзяўчынак. Але мітаннійская царэўна была нашмат небяспечнейшая суперніца, яна паходзіла з царскага роду і ў яе было шмат сяброў і прыхільнікаў, якія хацелі зрабіць яе замест Тэйе Вялікай жонкаю фараона, калі яна першая народзіць хлопчыка. Аднак улада Тэйе была такая вялікая, а яе жарсць, калі семя фараона дало ў ёй новыя парасткі,— такая неўтаймоўная, што ніхто не адважыўся выступіць супраць яе. І калі наблізіўся час родаў у мітаннійскай царэўны, усе яе сябры былі адасланыя прэч, а да яе, нібыта дзеля палягчэння родаў, запрасілі негрыцянскіх чарадзеяў. Вось і выйшла, што пасля родаў, калі Тадукіпа захацела паглядзець на сына, ёй паказалі нежывую дзяўчынку. Яна, праўда, так ніколі і не паверыла ў гэтае ашуканства. І я таксама ведала, што Тадукіпа нарадзіла хлопчыка і што ён не памёр і яго тою самаю ноччу пусцілі ў трысняговым чоўне ўніз па рацэ.

Я гучна засмяяўся і спытаў:

— Адкуль жа ты магла ведаць гэта, о прыгажуня Мехунефер?

Яна адказала з такім запалам, што аблілася віном:

— Клянуся ўсімі багамі! Я сваімі рукамі збірала трыснёг на човен, бо цяжарная Тэйе не захацела лезці ў ваду.

Пры гэтых словах я ўскочыў у жаху, праліўшы віно на падлогу. Але Мехунефер схапіла мяне за руку і прымусіла зноў сесці побач.

— Не трэба было, відаць, мне гэта табе расказваць, бо я толькі зрабіла табе сваім аповедам прыкра. Але ёсць у табе, Сінухе, нешта такое, ад чаго я, сама не ведаю чаму, гатова раскрыць табе ўсе таямніцы. Таму я і прызнаюся, што сама нарэзала трыснягу, а Тэйе сваімі рукамі сплала з яго маленькі човен, бо ў такіх справах не давярала служанкам. А мяне яна прывязала да сябе чарадзействам, ну і з прычыны некаторых маіх учынкаў, якіх я па дурасці нарабіла ў маладосці,— мяне за іх маглі б пакараць бізуном, ато і ўвогуле выгнаць з Залатога палаца. Але хто ў гэтым палацы не робіць такога! Дык вось, яна спляла маленькі човен, радуючыся блізкай перамозе над мітаннійскай царэўнай, а я су-

цяшала сваё сэрца, кажучы сабе, што немаўлятку абавязкова знойдуць. Зрэшты, я разумела, што такога амаль не бывае, бо дзеці, якіх пускаюць у трысняговых чоўніках уніз па рацэ, гінуць ад спякоты, іх паядаюць кракадзілы ды драпежныя птушкі-падлажэры. Але мітаннійская царэўна не паверыла, што памерлае немаўляці — яе дачка. Колер скуры і форма галавы ў той дзяўчынкі былі зусім не такія, як у яе. Скура ў мітаннійскіх жанчын гладкая, як у свежага плода, а галовы ў іх маленькія і зграбныя. Царэўна пачала галасіць і вінаваціць ва ўсім Тэйе і негрыцянскіх чараўнікоў. Тады Тэйе загадала даць ёй дурманнага зелля, сказаўшы, што царэўна, нарадзіўшы мёртвую дзяўчынку, звар'яцела ад гора. А фараон, як гэта ўласціва мужчынам, паверыў Тэйе, а не Тадукіпе. З тае пары мітаннійская царэўна пачала чэзнуць і ўрэшце памерла.

Я глядзеў на свае рукі, скура на іх была дымчатага колеру і яны былі зусім светлыя ў параўнанні з малпавымі пальцамі Мехунефер. Маё хваляванне і страх былі такія вялікія, што я ледзь змог спытаць перарывістым голасам:

— Чароўная Мехунефер, ты можаш сказаць, калі гэта здарылася?

Яна паказытала сваімі цёмнымі лапкамі маю патыліцу і адказала капрызлівым голасам:

— Вох, мілы хлопчык, навошта ты марнуеш час на ўсе гэтыя даўно забытыя справы, калі мы можам патраціць яго на болей прыемны занятак! Але я не магу табе адмовіць ні ў чым, спакуснік! Гэта адбылося тады, калі вялікі фараон цараваў ужо дваццаць два гады, асенняй парой у час высокай вады. Калі ты здзіўляешся, што я ўсё так добра памятаю, дык магу задаволіць тваю цікаўнасць і скажу, што тым жа годам нарадзіўся фараон Эхнатон, але крыху пазней, калі ўзышла зорка сабакі Сірыус і настала пара сяўбы. Таму я і памятаю гэта так добра.

Пачуўшы гэтыя словы, я ледзь не самлеў ад жаху, — я ўжо не адчуваў нават дотыкаў Мехунефер, калі яна мокрымі ад віна вуснамі мачыла мне шчокі і пэцкала мяне сваёй шмінкай. Пажадліва прыціснуўшыся да мяне, яна пачала называць мяне сваім маленькім бычком ды галубком. Я, як мог, ухіляўся ад яе абдымкаў, а мае думкі змяшаліся ў шалёным віры. Уся мая істота паўставала супраць жахлівай рэальнасці: калі расказанае ёю было праўдай, значыць, я быў адзінакроўны брат фараона Эхнатона і, калі б каварства Тэйе не пагубіла маю маці, павінен быў першы сесці на трон Егіпта. Змярцвелым позіркам я глядзеў перад сабой і ўпершыню асэнсаваў сваю самоту і адчужанасць у гэтым свеце, бо царская кроў заўсёды самотная сярод людзей. І толькі цяпер я зразумеў, чаму на зямлі Мітанні я адчуваў сябе не так, як паўсюль на свеце, і чаму мне заўсёды здавалася, што над гэтай дзівоснай краінай лунае цень смерці.



Нарэшце навязлівасць Мехунефер прывяла мяне ў прытомнасць, і я мусіў заклікаць на дапамогу ўсё сваё цярпенне, каб вытрываць яе размовы і ласкі. Усё ў ёй здавалася мне агідным і брыдкім, як агідным і брыдкім здаваўся ўвесь Залаты палац разам з яго насельнікамі. Але розум і развага прымушалі мяне трываць, і я ўгаварыў яе выпіць яшчэ віна, падсыпаўшы ў яго макавага зелля, каб канчаткова пазбавіцца ад яе.

Калі я нарэшце выбраўся з яе пакоя, ужо спусцілася ноч. Чэлядзь і ахоўнікі Залатога палаца паказвалі на мяне пальцамі і рагаталі, і я зразумеў іх, бо ногі ў мяне дрыжэлі, уся вопратка была пакамечаная, і я глядзеў вакол як шаленец. А дома мяне чакала Мэрыт, занепакоеная маёй затрымкай у Залатым палацы. Яна чакала навінаў і падрабязнасцяў аб смерці Вялікай царскай маці, але, убачыўшы мяне, толькі паднесла рукі да вуснаў, і тое самае зрабіла Муці. Жанчыны пераглянуліся, і Муці сказала жаласным голасам:

— Ці не казала я табе тысячу разоў, што ўсе мужчыны аднолькавыя і давяраць ім нельга.

Але я быў цалкам знясілены і хацеў толькі аднаго: застацца самнасам з сваімі думкамі. Таму я злосна адказаў:

— Я меў цяжкі дзень і не збіраюся слухаць вашую балбатню!

Вочы Мэрыт пасуравелі, а твар аж пацямнеў ад злосці, яна падала мне срэбнае люстэрка і сказала:

— Паглядзі на свой твар! Я ніколі не забараняла табе цешыцца з іншымі жанчынамі, але думала, што ты будзеш рабіць гэта ўпотай, каб не раніць мне сэрца. Ты ж не будзеш казаць, што быў самотны і гаротны, калі пайшоў з дому!

Я паглядзеў на сябе і жахнуўся, бо ўвесь мой твар пакрывалі плямы ад фарбаў і масцяў Мехунефер, а сляды яе вуснаў засталіся на шчоках, на шыі і скронях, бо, каб прыхаваць сваю старасць і брыдоту, яна фарбавалася так, што фарбы на яе твары былі падобныя да тынкоўкі на сценах, а бляклыя вусны яна падмазвала пасля кожнага глытка віна. Выгляд у мяне быў брыдкі, і я ліхаманкава ўзяўся выціраць твар, а Мэрыт бязлітасна трымала люстэрка перад маімі вачыма.

Я ачышчаў твар духмяным алеем і казаў:

— Ты ўсё разумееш няправільна, Мэрыт, каханая мая! Дазволь я табе ўсё растлумачу.

Але яна варожа паглядзела на мяне і сказала:

— Сінухе, мне не патрэбныя твае тлумачэнні, і я не хачу, каб ты дзеля мяне паганіў свае вусны бруднай хлуснёй. Зразумець тваю размаляваную пысу няправільна проста немагчыма! Ты, напэўна, не думаў, што я буду чакаць цябе тут, і таму не знайшоў часу сцерці з морды сляды сваіх забаваў? А можа ты хацеў пахваліцца перада мной тым, як жанчыны ў Залатым палацы скараюцца перад табой і сцелюцца пад

ногі, як тонкія травінкі? Ці ты проста напіўся, як свіння, і страціў уяўленне пра тое, што такое прыстойнасць?

Мне каштавала шмат намаганняў неяк супакоіць яе, тым болей што Муці, спачуваючы ёй, таксама зайшлася ад плачу, схавала твар рукамі і пайшла на кухню, праклінаючы ўсё мужчынскае племя. Сапраўды, гэта была нялёгкая справа, а сілы на тое, каб яе супакоіць, я патраціў больш, чым каб пазбавіцца ад Мехунефер. Таму маё цярпенне нарэшце лопнула і я злосна сказаў, праклінаючы ўсіх жанчын:

— Мэрыт, ты ведаеш мяне лепш за ўсіх і магла б мне паверыць! Дык павер, што калі б гэта залежала ад мяне, дык я адразу табе ўсё растлумачыў бы — толькі каб цябе суцешыць! Але ўсё завязана на адну таямніцу, якая належыць не толькі мне, а і Залатому палацу, і таму табе гэтага лепш не ведаць.

Але язык у яе быў вастрэйшы за асінае джала, і яна з'едліва ўпікнула:

— Я толькі думала, што ведаю цябе, Сінухе, але цяпер упэўнілася, што ў тваім сэрцы ёсць такія віры, пра якія я і падумаць была не здольная. Але ты, бясспрэчна, робіш высакародны ўчынак, так старанна аберагаючы гонар жанчыны, і я не збіраюся лезці ў твае таямніцы. Яны мне не патрэбныя! Я толькі дзякую ўсім багам, якія надалі мне розуму і я не разбіла з табою гаршчок. Якая ж я была дурніца, калі паверыла тваім хлуслівым словам, якія ты гэтаю ноччу нашэптваў на вуха ўжо якой-небудзь новай красуні. Лепей бы мне памерці!

Каб яе супакоіць, я хацеў ласкава дакрануцца да яе рукой, але яна з агідаю адхіснулася:

— Не дакранайся да мяне, Сінухе! Ты ж, мусіць, стаміўся, куляючыся ўсю ноч на мяккіх дыванах. Вядома! Яны ж мякчэйшыя за мой ложак, дый для забаваў ты там знайшоў сабе маладзейшых і прыгажэйшых за мяне!

Яна не змаўкала яшчэ доўгі час, і кожнае яе слова раніла маё сэрцу. Урэшце я паціху пачаў закіпаць. Толькі тады яна пакінула мяне ў спакоі, але забараніла праводзіць сябе да «Кракадзілавага хваста». Думкі бязладна круціліся ў маёй галаве, і больш за ўсё я хацеў застацца адзін. Таму яе адыход Мэрыт быў для мяне не вельмі пакутлівым, і я не стаў яе затрымліваць, чым моцна ўразіў.

Усю ноч я правёў сам-насам са сваімі думкамі. Паступова хмель выпарваўся з маёй галавы, і мае думкі рабіліся болей спакойнымі і роўнымі. Я слухаў, як вада ціха выцякае з вадзянога гадзінніка, і такім самым няспынным патокам струменіўся час. Мне здавалася, што і сам я плыву некуды ўдалячынь, пакідаючы тут сваё стомленае цела. Я казаў свайму сэрцу: «Гэта я, Сінухе, я такі, якім стварылі мяне мае ўчынкі і справы, а ўсё іншае не мае значэння. Гэта я, Сінухе, заўчасна давёў да магілы сваіх бацькоў дзеля бязлітасна жорсткай жанчыны. Гэта я, Сінухе, зберагаю срэбную павязку, якую насіла ў сваіх валасах мая сястра Мінея. Гэта я, Сінухе, на свае вочы бачыў здохлага марскога быка, які гайдаўся ў вадзе, і бачыў твар сваёй каханай, калі марскія крабы жэрлі яе цела. Дык ці мае значэнне, якая ў мяне кроў, калі ўсё было загадзя наканавана зоркамі яшчэ да майго нараджэння і ўжо тады я быў асуджаны быць чужаніцай у гэтым свеце. Спакой Ахетатона быў усяго толькі залатым падманам, але цяпер, калі я ведаю сваю жахлівую таямніцу, маё сэрца прачнулася і я зноў змог упэўніцца, што самота наканавана мне на ўсе дні майго жыцця на зямлі».



Аднак калі з-за Ўсходніх гор узнялося залатое сонца і змрочныя начныя цені раставалі ў яго святле, я — вось яны дзівосы чалавечага сэрца — горка пасмяяўся са сваіх начных трызненняў. Што з таго, што я ў трысняговым маленькім чоўне плыў уніз па рацэ тою самаю ноччу і прасмоленыя сцяблінкі былі звязаныя вузламі птушкалова,— кожную ноч па рацэ плылі такія чаўны з пакінутымі дзецьмі, а тыя жанчыны з ніжніх земляў маглі навучыцца вязаць такія вузлы. І тое, што мая скура дымчатага колеру і значна святлейшая, чым у іншых, таксама не даводзіць нічога — лекар шмат часу праводзіць у памяшканні, і ад таго скура робіцца святлейшай. Цяпер, пры святле дня, ніякіх цвёрдых сведчанняў свайго высокага паходжання я ўжо не знаходзіў. І яшчэ я думаў, што, калі бачыў смерць вялікага фараона Аменхатэпа, гэта зусім мяне не засмуціла,— наадварот, я радаваўся, што, будучы ўсяго толькі вучнем у Доме жыцця, ужо ачышчаю і падаю прылады Птахору, і калі той ускрыў фараону чэрап, маё сэрца не сціснулася. А каб ён сапраўды быў маім бацькам, яно сціснулася б абавязкова. Не, я тады бачыў у ім толькі старога паміраючага чалавека, нягледзячы на ўсю ягоную ўладу. І калі б негрыцянскія рукі царыцы Тэйе трымалі мяне ў ноч майго нараджэння і ўкладвалі ў трысняговы човен, каб пусціць па вадзе насустрач смерці, маё сэрца здрыганулася б, калі я бачыў яе, але гэтага не адбылося. Я заўсёды глядзеў на яе з толькі цікаўнасцю, і мая істота не паўставала супраць яе. Так я думаў, і гэтыя думкі былі мацнейшыя за ўсе сведчанні вачэй і розуму, бо мне хацелася верыць, што ўсё гэта толькі сон, жахлівая мроя, якую я спадзяваўся забыць назаўсёды.

Таму я спакойна памыўся і апрануўся, і Муці, з чырвонымі ад слёз вачыма, падала мне піва і салёную рыбу. Усім сваім выглядам яна выказвала пагарду мне і ўсяму мужчынскаму роду. Я загадаў аднесці мяне ў Дом жыцця і пэўны час правёў там, аглядаючы хворых, але не сустрэў ніводнага выпадку, калі трэба было б ускрыць чэрап. Вяртаючыся з Дома жыцця, я мінуў апусцелы храм і выйшаў праз браму паміж пілонамі. Наўздагон мне ляцеў крумкачоў грай, бо процьма растлусцелага груганя сядзела на вільчыку храма перад акном з каменнымі кратамі.

Тут над маёй галавой у кірунку храма Атона праляцела ластаўка.

Я пайшоў за ёй у храм, дзе жрацы ўзносілі хваласпевы Атону і прыносілі ахвяры, распальваючы духмяныя травы і ўскладаючы на алтар садавіну, гародніну і зерне. Гэты раз храм быў не пустым, наадварот — тут было шмат народу, людзі слухалі гімны і ўздымалі рукі, услаўляючы Атона, а жрацы навучалі іх, у чым хаваецца фараонава праўда. Зрэшты, гэта яшчэ нічога не значыла: Фівы былі вялікім горадам і цяжка было знайсці месца, дзе не збіраўся б натоўп цікаўных. Ластаўка зноў прамільгнула перада мной, і я зноў пайшоў за ёй следам, а з вышыні дзесяткаў каменных калонаў на мяне глядзеў трывожны і натхнёны твар фараона Эхнатона. Але я заўважыў яшчэ адну статую. Яна была зроблена ў новай мастацкай манеры: фараон Аменхатэп, Эхнатонаў бацька, стары і хворы сядзеў на царскім троне, і яго галава схілялася пад цяжарам падвойнай кароны, а побач з ім сядзела царыца Тэйе. Потым я знайшоў выявы ўсёй царскай радзіны і доўга разглядаў, як мітаннійская царэўна Тадукіпа прыносіць ахвяры егіпецкім багам. Першапачатковы надпіс на камяні быў збіты, а новы абвяшчаў, што царэўна прыносіць ахвяры Атону, хоць пры жыцці Тадукіпы ў Фівах пра Атона яшчэ не ведалі.

Выява была выразаная ў старой манеры, і царэўна на ёй была маладой і прыгожай, амаль дзяўчынкай у царскай кароне, са зграбным і стройным целам, з прывабнай галоўкай. Я доўга стаяў перад карцінай, і хоць нада мной з вясёлым шчэбетам праносіліся ластаўкі, сумныя думкі апаноўвалі мяне і душу напаўняла такая журба, што я схіліў галаву і заплакаў над лёсам гэтай самотнай дзяўчынкі, прывезенай з далёкіх краёў на чужыну. Дзеля яе мне захацелася быць, як яна,— такім самым прыгожым, але маё цела ўжо аслабла і растлусцела, галава пад лекарскім парыком злысела, цяжкія думкі пакрылі лоб зморшчынамі, а твар акруглеў ад салодкага жыцця ў Ахетатоне. Не, параўноўваючы яе з сабою, я ніяк не мог уявіць сябе яе сынам, а таму журба напаўняла маю душу, і я плакаў над яе самотаю там, у Залатым палацы. Я ўспомніў прыгожыя дамы Мітанні і сумных тамтэйшых людзей, успомніў пыльныя дарогі і гліняныя такі Вавілоніі і ясна ўсвядоміў, што мая маладосць мінула назаўсёды, а сталыя гады патанулі ў твані стаячай вады Ахетатона.

Так я правёў гэты дзень, а ўвечары пайшоў у «Кракадзілаў хвост» павячэраць і памірыцца з Мэрыт. Але Мэрыт сустрэла мяне варожа і абслугоўвала, як незнаёмага. Яна стаяла ў мяне за плячыма і час ад часу кідала на мяне халодны непрыязны позірк. Калі вячэра набліжалася да канца, яна спытала:

— Ну што, ты сустрэўся са сваёй каханкай?

Я раздражнёна адказаў, што цэлы дзень правёў у Доме жыцця, а потым заходзіў у храм Атона. Каб яна зразумела, наколькі абразлівым было яе пытанне, я падрабязна апісаў ёй кожны свой крок у гэты дзень. Але яна выслухала мяне з усмешкай і з'едліва сказала:

— Я і не думала, што ты ўвесь дзень ганяўся за бабамі. Ты ўчора такператаміўся! І таму сёння — тоўсты і лысы — быў ужо нікуды не варты. Я ўсяго толькі хацела сказаць, што твая каханка цябе тут шукала, і я накіравала яе ў Дом жыцця.

Я ўскочыў так рэзка, што ажно перакуліў крэсла, і крыкнуў:

— Пра што ты кажаш, дурная жанчына?

Мэрыт спакойна паправіла валасы і насмешліва сказала:

— Я кажу, што твая каханка прыйшла сюды па цябе ў вясельных строях, размаляваная, як малпа, а смурод яе масцяў можна было ўчуць аж на рацэ. Яна перадала табе прывітанне і цыдулку на выпадак, калі вам не ўдасца сустрэцца. А я ад усяго сэрца табе кажу, каб ты параіў ёй трымацца адсюль далей. Гэта прыстойны дом, а яна падобная да гаспадыні бардэля.

Тут Мэрыт падала мне запячатаны ліст, і я дрыготкімі рукамі разгарнуў яго. Я чытаў яго, і кроў ударыла мне ў галаву, а сэрца шалёна забілася ў грудзях, бо Мехунефер пісала: «Лекара Сінухе сардэчна вітае яго любая сястра Мехунефер, Захавальніца голак у Залатым палацы. Мой маленькі бычок, мой пяшчотны галубок Сінухе! Я прачнулася адна ў сваім ложку і мая галава моцна балела, але яшчэ мацней забалела маё сэрца, калі я ўбачыла, што мой ложак апусцеў, і ты пакінуў толькі водар свайго каштоўнага алею на маіх далонях. Мне хацелася вопраткай абвіцца вакол тваймо чэрава, стаць алеем на тваіх валасах і віном у тваіх вуснах, Сінухе! Я загадаю насіць сябе ад аднаго дома да другога, пакуль не знайду цябе, нягледзячы на ўсе цяжкасці, асалода маіх вачэй. І хай не стрымлівае цябе твая сарамлівасць — а я ведаю, што ты вельмі сарамлівы і сціплы,— хай не перашкаджае яна табе паспяшацца да мяне, бо ўсім у Залатым палацы вядома мая таямніца, і слугі паблажліва паставяцца да твайго прыезду. Спяшайся ж да мяне, ляці да мяне на шпаркіх крылах, як толькі атрымаеш гэты ліст, бо маё сэрца плача па табе, мой каханы. Калі ж ты не паспяшаешся да мяне, то я сама прылячу да цябе шпарчэй за птушку. Сястра твайго сэрца Мехунефер вітае цябе».

Я перачытваў гэтую ліхаманкавую лухту, не асмельваючыся зірнуць на Мэрыт, пакуль яна не вырвала ліст у мяне з рук. Яна зламала палачку, на якую быў наматаны папірус, парвала яго на кавалкі, шпурнула на падлогу перад маімі нагамі і сказала:

— Я магла б яшчэ зразумець цябе, Сінухе, калі б яна была маладая і прыгожая, але ж яна зморшчаная, старая і брыдкая, як жаба, хоць і ўмее размалёўваць сабе пысу, нібы тынкуе сцяну. Не магу зразумець, пра што ты думаеш. А можа, раскоша Залатога палаца так цябе асляпі-

ла, што ты ўсё бачыш дагары нагамі? Сваімі паводзінамі ты робіш сябе і мяне пасмешышчам ва ўсіх Фівах!

Я ўчапіўся ў сваю вопратку і, драпаючы грудзі пазногцямі, прамармытаў:

— Мэрыт, я зрабіў страшэннае глупства, але ў мяне былі на гэта свае падставы. Я не думаў, што мяне чакае за гэта такое жахлівае пакаранне. Мэрыт, пашлі па маіх весляроў, збяры іх як мага хутчэй, бо мне трэба неадкладна ехаць. Іначай гэтая жудасная баба прыедзе і гвалтам укладзе мяне ў свой ложак, а я бяссільны перад ёю! Яна піша, што прыляціць да мяне шпарчэй за птушку, і я думаю, гэта праўда!

Мэрыт глядзела на маю спалоханую мітусню і, напэўна, пачала разумець, што паміж мной і Мехунефер не было нічога. Яна зарагатала і доўга трэслася ад смеху ўсім сваім зграбным целам. Потым яна сказала:

— Гэта навучыць цябе быць з жанчынамі асцярожным, Сінухе, бо мы, жанчыны, — далікатныя сасуды, а ты ў нас такі чараўнік!

Яна бязлітасна кпіла з мяне, а потым з насмешліваю спагадай сказала:

— Напэўна, гэтая паненка спадабалася табе ў ложку больш за мяне — яна ж удвая лепш ведае мастацтва кахання, бо ўдвая старэйшая за мяне! Думаю, мне нават і не варта супернічаць з ёю, бо ты мяне ўсё адно дзеля яе кінеш.

Я так расхваляваўся, што павёў Мэрыт да сябе ў былы дом медніка і расказаў ёй усё. Я раскрыў ёй таямніцу свайго нараджэння і распавёў усё, што ўдалося выведаць у Мехунефер. Яна слухала мяне і ўжо не смяялася. Яна задумліва глядзела паўз мяне, і яе вочы пацямнелі ад глыбока прыхаванай тугі. Нарэшце яна дакранулася да майго пляча і сказала:

— Цяпер я многае зразумела, Сінухе, зразумела тое, чаго раней ніяк не магла ў табе зразумець: тваю самоту, якая бязгучна падымалася да мяне з глыбіні тваёй душы. Калі я ўпершыню цябе ўбачыла, я зразумела сваю слабасць, — яна ахапіла мяне з першага твайго погляду на мяне. У мяне таксама ёсць свая таямніца, і гэтымі днямі я шмат разоў хацела табе яе раскрыць, але цяпер удзячная багам, што не зрабіла гэтага, бо ўсякая таямніца кладзецца вялікім цяжарам на чалавечае сэрца і лепш трымаць яе пры сабе, не давяраючы нікому. Але я рада, што ты расказаў мне ўсё, і згодна з табою: лепш не катаваць сваё сэрца думкамі пра тое, чаго, магчыма, ніколі і не было. Лепш усё забыць, як забываюць начны сон. Вось і я так забуду пра гэта.

Але цяпер ужо мяне ахапіла цікаўнасць. Мне вельмі карцела даведацца, якую сваю таямніцу хавае Мэрыт, але яна не захацела нічога казаць, а толькі пацалавала мяне ў шчаку і крыху паплакала. Нарэшце яна сказала:

— Калі ты застанешся ў Фівах, ты ніколі не адчэпішся ад гэтай Мехунефер — са сваёю пажадлівасцю яна будзе бясконца за табою ганяцца, пакуль тваё жыццё не стане пакутай! Я шмат пабачыла такіх жанчын і ведаю, якімі жахлівымі яны бываюць. Але ж тут і твой грэх — ты дарэмна так па-майстэрску задурыў ёй галаву, прымусіўшы паверыць сваім словам. Таму лепш табе вярнуцца ў Ахетатон. Чарапоў ты тут ускрыў дастаткова, так што рабіць табе больш няма чаго. Але раю перад ад'ездам усё-ткі напісаць ёй і пераканаць, што яна павінна цябе пакінуць, інакш яна пацягнецца за табой і ў Ахетатон і прымусіць там разбіць гаршчок! Ты ж перад ёй безабаронны, а я табе зла не жадаю.

Гэта была добрая парада, і я загадаў Муці скласці мае рэчы, загарнуць іх у дываны і адшукаць у партовых шынках і дамах уцехаў маіх весляроў. А сам тым часам сеў і напісаў ліст. Мне не хацелася крыўдзіць Мехунефер, і таму я напісаў вельмі ветліва:

«Царскі лекар Сінухе вітае Мехунефер, Захавальніцу голак у Залатым палацы Фіваў. Сяброўка мая, я ад усяе душы раскайваюся, што мае нястрыманыя паводзіны ўвялі цябе ў зман адносна намераў майго сэрца. Яно звязанае іншымі абавязкамі, і сустракацца з табой мы болей не можам, — гэта было б вялікай спакусаю для мяне. Таму я ад'язджаю, і мы ніколі больш не сустрэнемся, але я спадзяюся, што ты будзеш памятаць пра мяне, як пра свайго сябра, і разам з гэтым лістом пасылаю табе гарлач напою, які завецца «кракадзілаў хвост», каб з яго дапамогай ты магла перамагчы твой смутак. Што да мяне, то я не адчуваю ніякага смутку, бо я стары і стомлены чалавек, які не можа прынесці ніякай радасці такой жанчыне, як ты. Я радуюся, што мы не паддаліся спакусе і не саграшылі, а цяпер больш ніколі не ўбачымся. На гэта напраўду спадзяецца твой шчыры сябар, царскі лекар Сінухе».

Мэрыт прачытала ліст, патрэсла галавой і сказала, што ліст занадта ветлівы. На яе думку, я павінен быў напісаць болей рэзка і сказаць, што ў маіх вачах Мехунефер — старая брыдкая баба і што я вымушаны ўцячы, каб неяк ад яе адчапіцца. Але я, вядома, не мог напісаць такія словы жанчыне. Урэшце Мэрыт, пабурчаўшы і застаўшыся незадаволенай, дазволіла скруціць і запячатаць папірус, і я паслаў раба ў Залаты палац занесці ліст разам з гарлачом віна, спадзеючыся, што хоць гэтым вечарам буду пазбаўлены ад новых спробаў захапіць мяне ў палон. Я ўздыхнуў з палёгкай, але жаданні і меркаванні — гэта не дакладныя веды.

За клопатамі і турботамі я зусім забыўся на Мэрыт. І пакуль Муці складала мне рэчы, загортвала іх у дываны і рыхтавала мяне ў дарогу, я паглядзеў на Мэрыт і вялікая туга напоўніла маё сэрца. Я падумаў, што пакідаю яе толькі па сваёй дурасці, хоць мог бы жыць тут і быць разам з ёю. Мэрыт таксама здавалася паглыбленай у свае думкі. Раптам яна спытала:

— Сінухе, ты любіш дзяцей?

Гэтае пытанне вельмі мяне збянтэжыла, а яна паглядзела мне ў вочы і сказала з невясёлай усмешкай:

— Не палохайся, Сінухе. Я не збіраюся нарадзіць табе дзіцяці. Але ў мяне ёсць сяброўка, якая мае чатырохгадовага сына, і яна часта казала, што было б цудоўна, каб хлопчык мог сплаваць на караблі ўніз па рацэ, пабачыць зялёныя паплавы, апрацаваныя палі, вадзяных птушак і статкі на берагах, замест кошак ды сабак на пыльных вуліцах Фіваў.

Я спалохаўся і адказаў:

— Ты ж не хочаш сказаць, што я павінен узяць на карабель свавольнага хлапчука тваёй сяброўкі, які не дасць мне ні хвіліны спакою, і я буду вымушаны ўвесь час сачыць, каб ён не ўпаў у ваду ці не сунуў руку ў кракадзілу ў пашчу?

Мэрыт глядзела на мяне з усмешкай, але недзе ў глыбіні яе вачэй хаваўся смутак. Яна сказала:

— Вядома, я не хачу турбаваць цябе, але хлапчуку пайшло б на карысць такое падарожжа. Я сама насіла яго на абразанне, так што, як ты разумееш, у мяне маюцца перад ім сякія-такія абавязкі. Безумоўна, я збіралася паехаць з ім разам і сцерагчы, каб ён не ўпаў у ваду. Як бачыш, у мяне ёсць добрая падстава паехаць з табой у гэтае падарожжа, але ж супраць твайго жадання я нічога рабіць не збіраюся, так што давай забудзем пра гэта.

Пачуўшы гэтыя словы я захлынуўся ад радасці, пачаў пляскаць у ладкі і крычаць:

— Калі так, дык можаш прыводзіць хоць увесь храмавы дзіцячы прытулак! О напраўду сёння ў мяне дзень вялікай радасці, а я па дурасці нават не падумаў, што ты можаш паехаць са мною ў Ахетатон. Нават добра, што з табою будзе дзіцё,— так гэта зробіць ніякай шкоды тваёй рэпутацыі, але будзе добрай нагодай паехаць са мною.

— Менавіта так, Сінухе,— адказала яна з грэблівай усмешкай, якой усміхаюцца ўсе жанчыны, калі гаворка ідзе пра тое, чаго мужчынам ніколі не зразумець.— Менавіта так, бо калі са мной будзе дзіцё, мне не будзе ніякай ганьбы, бо ты будзеш аберагаць маю добрую славу. Ты сам так казаў. Якія ж мужчыны дурныя. Але табе я магу прабачыць.

Каб пазбегчы выпадковай сустрэчы з Мехунефер, мы адплывалі на досвітку, калі неба толькі пасвятлела перад усходам сонца. Мэрыт прынесла на карабель маленькага хлопчыка, які яшчэ спаў, і маці яго не праводзіла, хоць я хацеў бы паглядзець на жанчыну, якая адважылася назваць свайго сына Тотам, бо людзі рэдка асмельваюцца даваць дзецям імёны багоў. Тот быў богам і ўладаром пісьменства, богам чалавечай і боскай вучонасці, так што для жанчыны гэта быў вельмі дзёрзкі ўчынак.



Хлопчык прачнуўся толькі тады, калі мы ўжо былі даволі далёка ад Фіваў, а сонца гарачымі промнямі залаціла паверхню ракі. Гэта быў прыгожы, таўсматы і вельмі смуглявы хлопчык, яго кучаравыя валасы чорным шоўкам спадалі на лоб, і ён ніколькі не баяўся мяне і нават залез мне на калені. Мне было з ім прыемна, бо ён быў спакойны, не дрыгаў нагамі і не выпручваўся ў мяне на руках. Ён толькі глядзеў на мяне сваімі цёмнымі задуменнымі вачыма, нібы ў яго маленькай галоўцы ўжо нарадзіліся думкі аб загадках і таямніцах існавання. Мне вельмі падабаліся спакойныя паводзіны хлопчыка, і я палюбіў яго. Я сплятаў яму маленькія чаўны з трыснягу, дазваляў гуляць з маімі прыладамі і нюхаць розныя зёлкі ды лекі, а таму ён соваў нос ва ўсе мае пасудзіны.

Ён не замінаў нам і не падаў у ваду, не соваў рукі ў пашчу кракадзілам і не ламаў мае трысняговыя пісалы, і наша падарожжа было светлым і радасным. Мы былі разам з Мэрыт, і кожную ноч яна ляжала побач са мною, а паблізу чулася спакойнае дыханне хлопчыка. Гэта было шчаслівае падарожжа, і да апошняга дня я буду ўспамінаць ціхі шолах ветру ў чаратах і вечары, калі да ракі прыганялі статкі на вадапой. Былі такія хвіліны, калі сэрца перапаўнялася радасцю, як спелы плод салодкім сокам, і тады я казаў Мэрыт:

— Мэрыт, каханая мая, давай разаб'ем гаршчок, каб жыць разам. Ты народзіш мне сына —, такога, як маленькі Тот, бо такога ласкавага, спакойнага, смуглявага і моцнага хлопчыка мне зможаш нарадзіць толькі ты. Раней я напраўду ніколі не хацеў мець дзяцей, але маладосць мая прайшла, кроў супакоілася, і цяпер, калі я гляджу на маленькага Тота, я хачу, каб ты нарадзіла мне такое дзіцяці.

А яна закрывала мне рот рукой, адварочвала свой твар і ціха адказвала:

— Сінухе, не трэба казаць пра немагчымае, бо ты ведаеш, што я вырасла ў шынку, і, напэўна, не змагу болей мець дзяцей. Таму будзе лепей, каб ты, які носіць свой лёс у сэрцы, заставаўся адзін і мог прымаць рашэнні па загадзе свайго сэрца, не звязваючыся з жонкай і дзецьмі, бо менавіта гэта я прачытала ў тваіх вачах, калі мы сустрэліся ўпершыню. Не, Сінухе, не кажы мне такога, бо ад тваіх словаў я слабею і гатова расплакацца, а мне не хацелася б плакаць, калі я такая шчаслівая. Другія людзі самі будуюць свой лёс і звязваюць сябе тысячамі вярыгаў, але твой лёс ты нясеш у сваім сэрцы, і ён нашмат цяжэйшы за мой. Я таксама вельмі люблю гэтага хлопчыка, і наперадзе ў нас яшчэ шмат светлых гарачых дзён тут, на рацэ. Давай уявім, што мы ўжо разбілі гаршчок, што мы сапраўды муж і жонка, а маленькі Тот — наш сын. Так мы зможам украсці ў багоў гэты кавалачак жыцця даўжынёй у некалькі дзён. І хай ніякі смутак, ніякія будучыя турботы не азмрочваюць нашага шчасця.

Тады я прагнаў са свайго сэрца ўсякія цяжкія думкі і больш не звяртаў увагі на разбурэнне Егіпта і на галодных людзей па берагах Ніла. Увесь час, пакуль мы плылі ўніз па рацэ, я жыў адным днём. Маленькі Тот прыціскаўся да маёй шчакі і называў мяне «тата», і я быў шчаслівы, трымаючы на руках яго маленькае пяшчотнае цела. Кожную ноч маю шыю казыталі валасы Мэрыт, яна трымала мае рукі ў сваіх далонях, і я адчуваў яе дыханне на сваіх шчоках. Яна была маёю сяброўкай, і страшныя сны больш не турбавалі мяне. Так праляцелі гэтыя дні, як шчаслівы сон, як лёгкі ўздых шчасця, — праляцелі, нібыта іх і не было. І я не хачу больш пра гэта расказваць, бо ад успамінаў у горле ў мяне пачынае свярбець, як ад хлеба з мякінай, і напісанае расплываецца перад вачыма. Чалавеку нельга быць занадта шчаслівым, бо няма на свеце нічога больш прывіднага і хуткаплыннага, чым чалавечае шчасце.

**7**

Я вярнуўся ў Ахетатон зусім не такім, якім быў раней. Я глядзеў на Паднябесны горад зусім іншымі вачыма, і ўсе яго фарбы і колеры, лёгкія дамы і палацы, залітыя залатым сонцам пад бяздонным блакітам неба, здаваліся мне адной вялікай мыльнаю бурбалкай з вясёлкавымі пералівамі ці пустэльным прывідам. А праўда жыла не ў Ахетатоне, яна была па-за гэтым горадам — ёю былі голад, галеча і прынесеныя імі ў Егіпет злачынствы. Цяпер, калі Мэрыт і Тот вярнуліся ў Фівы, забраўшы з сабой маё сэрца, я азіраў навакольны свет халоднымі вачыма, з якіх нібы апала чарадзейная заслона, і ўсё, што я бачыў, было злом у вачах маіх.

Але неўзабаве пасля майго вяртання ў Ахетатон, праўда прыйшла і сюды, і фараон Эхнатон мусіў сустрэцца з ёй з балкона Залатога палаца. Гэта Харэмхеб праслаў з Мемфіса натоўп сірыйскіх уцекачоў, не хаваючы іх страшнага, убогага выгляду. Ён хацеў, каб яны самі сказалі фараону пра свае беды. Харэмхеб аплаціў ім дарогу, і я думаю, па яго навучанні яны нават перабольшвалі свае пакуты і беды. Яны прыехалі ў Паднябесны горад у такім жабрацкім выглядзе, што прыдворныя ад аднаго позірку на іх пачыналі адчуваць сябе хворымі і схаваліся ў дамах, а варта зачыніла перад імі браму Залатога палаца. Але яны грукалі ў браму, шпурлялі камяні ў сцены палаца і жахліва лямантавалі, пакуль фараон не пачуў іх і не загадаў пусціць у двор. І там яны сказалі яму:

— Пачуй гаротны голас сваіх народаў з нашых зняможаных вуснаў, бо растала моц краіны Кэмет і засталася ад яе адна нямоглая здань, якая лунае над магіламі, бо там, у сірыйскіх гарадах, у грукаце абложных машын і шуме пажараў ліецца кроў верных табе народаў, якія толькі і спадзяюцца на цябе!

Яны ўздымалі да балкона пасечаныя рукі і крычалі:



— Паглядзі на нашы рукі, фараон Эхнатон! Дзе нашы рукі!?

Яны штурхалі наперад людзей з выкалатымі вачыма, і тыя вобмацкам падбіраліся да балкона, а старыя з вырванымі языкамі раззявалі пустыя раты, і з іхніх глотак вырывалася жахлівае нечалавечае выццё. А ўсе разам няспынна крычалі:

— Не пытайся пра нашых дачок і жонак, бо іх доля страшнейшая за смерць у руках Азіру і хетаў! А нам выколвалі вочы і адсякалі рукі толькі за тое, што мы верылі ў цябе, фараон Эхнатон!

Але фараон захінуў твар рукамі і, дрыжучы ад слабасці, загаварыў з імі пра Атона. Тады яны зарагаталі грубымі галасамі і перабілі яго:

— Ато як жа! Мы ведаем: ты і нашым ворагам паслаў жыватворныя крыжы. Яны вешаюць тыя крыжы на шыю коням, а ў Ерусаліме — адсеклі ногі тваім жрацам і прымусілі скакаць на абсечаных у гонар твайго бога!

Тады фараон Эхнатон страшна закрычаў, і свяшчэнная хвароба завалодала ім, ён у сутаргах упаў на падлогу і страціў прытомнасць. Спалохаўшыся такога яго выгляду, варта паспрабавала прагнаць сірыйскіх уцекачоў са двара. Але тыя пачалі роспачна супраціўляцца, і тады кроў пралілася на камяні дварцовага бруку, а трупы забітых ахоўнікі паскідалі ў раку. З балкона Залатога палаца за бойкай назірала Неферціці і трыма дочкамі — Мэрытатон, хваравітай Мэкетатон і маленькай Анкесенатон, якія назаўжды запомнілі тое відовішча, упершыню стаўшы сведкамі пакутаў і смерці, нязменных спадарожнікаў усякай вайны.

А фараона я загадаў загарнуць у мокрыя прасціны і, калі ён апрытомнеў, даў яму супакаяльнае і соннае зелле, бо гэты раз прыпадак быў такі моцны, што я баяўся за яго жыццё. Фараон пэўны час паспаў, а, прачнуўшыся, звярнуўся да мяне, хоць твар у яго быў спалатнелы, а вочы пачырванелі ад галаўнога болю:

— Сінухе, мой сябра, з гэтым трэба пакончыць. Харэмхеб мне казаў, што ты добра ведаеш таго Азіру. Едзь да яго і купі мне мір. Купі мір Егіпту, купі, нават калі дзеля гэтага спатрэбіцца ўсё маё золата, а Егіпет зусім збяднее.

Я горача запярэчыў яму:

— Фараон Эхнатон, лепш пашлі гэта золата Харэмхебу — ён хутка купіць табе мір дзідамі і калясніцамі, і Егіпту не давядзецца перажываць такой ганьбы.

Ён сціснуў галаву рукамі і сказаў:

— Дзеля Атона, Сінухе! Няўжо ты не разумееш, што варожасць выклікае ў адказ варожасць, з помсты ўзрастае помста, а кроў будзе нараджаць кроў, пакуль мы ў гэтай крыві не захлынёмся. Ці ўсцешыцца той, хто зведаў пакуты, калі мы прымусім пакутаваць яго крыўдзіцеля?

А твае словы пра ганьбу — гэта проста неразумныя прымхі. Таму вось табе мой загад: едзь да Азіру і купі мне мір.

Я баяўся задум, якія нарадзіліся ў яго хворай галаве, яны былі мне не даспадобы, і я запярэчыў:

— Фараон, яны выкалюць мне вочы і вырвуць язык раней, чым я дабяруся да Азіру, які ўжо даўно забыў і пра мяне і пра сваё сяброўства са мною. Дый не ўратуе мяне гэтае сяброўства! А я зусім не прыдатны да ваенных цяжкасцяў, я не перанясу іх, бо мае члены страцілі гнуткасць і такія далёкія падарожжы не для мяне. Апроч таго, я не змагу належным чынам правесці перамовы, бо мой язык непрыдатны на такія размовы, а ў цябе ёсць людзі, якія адмыслова навучаныя ў такіх справах і служаць пасламі ў чужых краінах пры царскіх дварах. Пашлі замест мяне каго-небудзь іншага, калі ты цвёрда вырашыў купіць мір, але не пасылай мяне!

Аднак ён упарта паўтарыў:

— Едзь, як табе загадана. Фараон сказаў!

Але я ўжо бачыў уцекачоў у двары палаца. Я бачыў іх знявечаныя раты, выкалатыя вочы і адсечаныя рукі. Таму я і ў думках не меў ехаць у Сірыю, а накіраваўся дадому, каб легчы ў ложак, прыкінуцца хворым і дачакацца пакуль фараон забудзецца на сваю бязглуздую задуму. Аднак напаўдарозе мяне сустрэў мой слуга, які ўражана сказаў:

— Як добра, што ты вяртаешся, мой гаспадар Сінухе, бо з Фіваў прыйшоў карабель, на якім прыехала жанчына, чыё імя Мехунефер; яна сказала, што яна твая сяброўка, і чакае цябе ў тваім доме. Яна апранутая так, нібы яна твая нявеста, і ад яе на ўвесь дом пахне вохным алеем.

Я зараз жа павярнуў назад і амаль бегма кінуўся ў Залаты палац, дзе сказаў фараону:

— Хай будзе, як ты сказаў. Я паеду ў Сірыю, але мая кроў падзе на тваю галаву. І калі ўжо я мушу ехаць, дык хачу ехаць зараз жа, не адкладваючы ні на хвіліну. Загадай сваім пісарчукам напісаць усе неабходныя гліняныя таблічкі, якія пацвярджалі б маё высокае становішча і паўнамоцтвы, бо Азіру вельмі пачціва ставіцца да таблічак.

Пакуль пісарчукі выпісвалі мне таблічкі, я схаваўся ў майстэрні Тутмеса. Ён толькі што закончыў статую Харэмхеба, якую высек з карычневага пясчаніку. Статуя была зроблена па правілах новай мастацкай школы, і Харэмхеб выглядаў, як жывы, але я лічыў, што Тутмес крыху перабольшыў таўшчыню яго магутных рук і шырыню грудзей, так што ён быў падобны больш да вулічнага атлета, чым да начальніка фараонавай варты і фараонаўскага дарадцы. Паводле правілаў новай школы, мастакі падкрэслівалі і перабольшвалі ўсё, што бачыла вока, нават пачварныя выродлівыя рысы, бо, на іх думку, галоўнае было перадаць праўду, — тады як старое мастацтва ўсё непрыгожае ў чалавеку хавала і старалася паказаць толькі ягоныя вартасці. Я не ведаю, ці можна лічыць імкненнем да праўды паказ толькі выродлівасці чалавека, але Тутмес цвёрда верыў у гэта, а мне не хацелася пярэчыць яму, бо ён быў маім сябрам. Ён выцер статую мокрай тканінай, каб паказаць, як прыгожа пераліваецца пясчанік на магутных руках Харэмхеба і як колер каменя ўдала адпавядае колеру Харэмхебавай скуры. Потым ён сказаў:

— Я збіраюся паехаць з табой да Хетнечута і ўпэўніцца, што статую там паставяць у тым месцы, якое адпавядае высокаму чыну Харэмхеба і маёй годнасці мастака. Так, так, я паеду з табой, Сінухе. Хай рачны вецер ачысціць маю галаву ад віннага ачмурэння Ахетатона, ато ў мяне ўжо дрыжаць рукі ад цяжару малатка і зубіла, і сэрца згарае ад ліхаманкавай гарачыні.

Пісарчукі прынеслі мне ў Тутмесаву майстэрню гліняныя таблічкі, золата на дарогу і блаславенне фараона Эхнатона, пасля чаго мы загадалі пагрузіць статую Харэмхеба на карабель і, не марудзячы, адплылі ўніз па рацэ. Свайму слугу я загадаў перадаць Мехунефер, што паехаў на вайну ў Сірыю і там загінуў. Я не лічыў гэтыя словы хлуслівымі, бо сапраўды думаў, што загіну ў гэтым падарожжы лютаю смерцю. Апроч таго, я загадаў з усёй пашанай пасадзіць Мехунефер на карабель і, не зважаючы на пратэсты, адправіць Фівы. А калі я насуперак усяму вярнуся і знайду Мехунефер у сваім доме, то ўсе слугі будуць высцебаныя бізунамі, а потым ім адрэжуць насы і вушы і навечна пашлюць у руднікі. Паглядзеўшы на мяне, слуга зразумеў, што я кажу гэта сур'ёзна. Таму ён страшэнна спалохаўся і паабяцаў дакладна выканаць мой загад. Гэта дазволіла мне пачаць падарожжа ў добрым гуморы, хоць я і не спадзяваўся вярнуцца, думаючы, што еду на верную смерць. Таму віна ў падарожжы мы не шкадавалі, тым больш, што і Тутмес, які нарадзіўся ў доме воіна і добра ведаў вайсковыя звычаі, сведчыў, што, ідучы на вайну, віна не шкадуюць.

Але каб распавесці пра нашае падарожжа і мае прыгоды ў Сірыі, мне трэба пачаць новы скрутак.

# ПАПІРУС ДВАНАЦЦАТЫ
## Клепсідра адмярае час

**1**

Вось так спраўдзілася пажаданне Каптаха, якое ён выказаў перад ад'ездам у нялёгкае падарожжа дзеля раздачы зерня Атонавым навасёлам, і спраўдзілася яно самым горшым чынам, які толькі можна было ўявіць, бо ў адрозненне ад Каптаха я страціў не толькі дах над галавой і мяккі ложак, а па жаданню фараона мусіў на сабе адчуць усе цяжкасці і жахі вайны. Тады я і заўважыў, што чалавеку трэба старанна абдумваць свае пажаданні, перш чым выказаць іх уголас, бо такія пажаданні маюць дрэнную ўласцівасць спраўджвацца, і асабліва лёгка збываюцца тыя, у якіх жадаюць благога якому-небудзь іншаму чалавеку. Я маю на ўвазе, што благое пажаданне, выказанае чужому чалавеку, заўсёды збываецца лягчэй, чым добрае.

Пра ўсё гэта я гаварыў з Тутмесам за кубкам віна, плывучы ўніз па рацэ на фараонавым караблі. Але Тутмес загадаў мне змоўкнуць і пачаў маляваць на папірусе птушку, якая ляцела над нашым караблём. Намаляваў ён і мяне, але малюнак мне не спадабаўся, і я з дакорам сказаў, што сапраўдны сябар не мог бы намаляваць мяне ў такім выглядзе. У адказ ён сказаў, што мастак падчас працы над малюнкам не можа быць нічыім сябрам, а павінен падпарадкоўвацца толькі сваім вачам. Я ўзлаваўся і сказаў яму:

— Калі так, значыць, твае вочы зачараваныя злымі чарамі, бо ты бачыш усіх выродлівымі, смешнымі і нікчэмнымі, і я на тваім малюнку таксама смешны. Толькі Неферціці ў тваіх вачах выглядае красуняй, хоць шыя ў яе доўгая і худая, шчокі правалiліся, а сама яна з кожным днём робіцца ўсё больш пачварнай ад сваіх бясконцых цяжарнасцяў.

Тутмес плюхнуў мне ў твар цэлую чашу віна і крыкнуў:

— Не кажы так пры мне аб Неферціці!

Але хутка ён супакоіўся і пашкадаваў аб сваім п'яным учынку. Ён выцер віно з майго твару і са скрухай у голасе прамовіў:

— Я не хацеў прычыніць табе шкоды, але, мусіць, гэтая жанчына сапраўды зачаравала мае вочы, бо мне, далібог, здаецца, што няма нікога прыгажэйшага за яе, як няма нікога выродлівейшага і мярзотнейшага за фараона Эхнатона, хоць я павінен бы любіць яго за ўсё добрае, што ён мне зрабіў.

Я адказаў яму па-сяброўску:





— Табе проста мроіцца нешта дурное, бо наўрад ці Неферціці можа даць табе болей, чым самая апошняя рабыня.

Але мая мудрасць яго не суцешыла, а толькі раз'ятрыла. Таму мы зноў з вялікай ахвотай выпілі віна, бо віно не толькі абуджае спрэчкі і сваркі, але гэтыя ж сваркі і суцішае, а сяброў прымірае, і няма такіх неладоў, якіх нельга было б заліць віном, калі выпіць яго ў дастатковай колькасці.

Так мы даплылі да Хетнечута, маленькага мястэчка на беразе ракі, дзе авечкі і гавяда пасвіліся на вуліцах, а храм быў пабудаваны з цэглы. Гарадскія старшыні сустрэлі нас з вялікай пашанай, і Тутмес урачыста паставіў статую Харэмхеба ў храме, які раней быў прысвечаны Гору, а цяпер па жаданні фараона Эхнатона быў аддадзены богу Атону. Але жыхароў мястэчка гэта ніякім чынам не збянтэжыла, яны па-ранейшаму пакланяліся свайму богу з сакалінаю галавою, хоць усе яго выявы былі з храма выкінутыя. Людзі з вялікай радасцю сустрэлі статую свайго земляка і, думаецца мне, будуць гэтак жа натхнёна пакланяцца Харэмхебу, атаясамліваючы яго з Горам, бо Атон выявы не мае, а чытаць у гарадку амаль ніхто не ўмеў.

Мы наведалі бацькоў Харэмхеба, якія дзякуючы багатым дарункам сына, цяпер жылі ў драўляным доме, хоць раней былі сярод самых бедных. Праз сваё славалюбства і фанабэрыю Харэмхеб папрасіў фараона прызначыць бацькоў на высокія прыдворныя пасады. Выглядала, нібыта яны спрадвеку былі знатнага роду, але напраўду яны ўсё жыццё пасвілі статкі ды варылі сыр. А цяпер Харэмхебаў бацька называўся Захавальнікам пячаткі і Наглядчыкам за будынкамі ў многіх гарадах і вёсках, а маці — Наглядчыцай за статкамі кароў, хоць яны абое не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. Гэтыя пасады былі проста ганаровымі званнямі і ніякім чынам не ўплывалі на іх жыццё, затое Харэмхеб мог цяпер завяраць свой подпіс пячаткай з імёнамі вяльможных бацькоў, каб ніхто ў Егіпце не мог і падумаць, што ён выйшаў з прасталюдзінаў.

А бацькі Харэмхеба былі простыя богабаязныя людзі, і хоць у храм яны прыйшлі ў адзенні з тонкага ільну, але каля статуі свайго сына стаялі на глінянай падлозе босыя. Пасля ўрачыстай цырымоніі яны запрасілі нас з Тутмесам да сябе, дзе адразу знялі свае тонкія святочныя строі і пераапрануліся ў паўсядзённую вопратку, якая навечна прапахнула каровамі. Яны частавалі нас сырам і кіслым віном і схіляліся перад намі, дакранаючыся рукамі да каленяў і просячы распавесці пра іхняга сына Харэмхеба, а бацька сказаў:

— Мы лічылі яго прыдуркам, калі ён прывязваў медны наканечнік да свайго пастухова посаха і заточваў яго, як сапраўдную дзіду. Але нораў ён меў вельмі свавольны, хоць мы яго і вучылі, што трэба быць спакойным і пакорлівым.

А маці дадала:

— Маё сэрца сціскаецца ад страху за яго, бо ён з дзяцінства быў гатовы разбіць нос аб камень, абы не абысці яго. А пасля яго ад'езду я баюся, што ён або зламае галаву, або вернецца да нас знявечаны. Але выйшла так, што ён вярнуўся высечаны з каменя і ў вялікай пашане. Затое цяпер я баюся, што ён есць шмат мяса, а мяса шкодзіць яго жывату, і яшчэ я баюся, што ён утопіцца, бо, не зважаючы на мае перасцярогі, навучыўся плаваць.

Кажучы гэтыя простыя словы, яны дакраналіся да нашай вопраткі. Яны распытвалі пра здароўе фараона, Вялікай фараонавай жонкі Неферціці і ўсіх чатырох іх дачок. Яны казалі, што кожны дзень моляць багоў, асабліва Гора, каб Вялікая фараонава жонка нарадзіла нарэшце хлопчыка, спадкаемцу фараонава трона. Мы па-сяброўску расталіся з бацькамі Харэмхеба і пакінулі ў храме Гора ягоную статую, каб мясцовыя жыхары пакланяліся яму. Але Тутмес не захацеў ехаць са мной да Мемфіса, хоць я ўсяляк упрошваў яго — дзеля яго ж бяспекі. Мае намаганні аказаліся марнымі, і ён паехаў назад у Ахетатон, каб выразаць з дрэва статую царыцы Неферціці, бо ні пра іншае не мог думаць.

У адзіноце маё падарожжа да Мемфіса было даволі нудным, і я прыспешваў весляроў, разважаючы, што калі мне наканавана памерці, дык няма сэнсу адкладваць гэтую падзею, а лепей хутчэй сустрэцца са смерцю, каб не надта пакутаваць ад сумных думак. Я сядзеў у мяккім крэсле на мосце фараонава карабля, глядзеў на зараснікі трыснягу, на раку і качак, што лёталі нада мной, і казаў свайму сэрцу: «Ці варта жыць толькі, каб глядзець на ўсё гэта?» І яшчэ я казаў свайму сэрцу: «Дзень гарыць спякотай, кусаюцца мухі, і чалавечая радасць такая малая ў параўнанні з яго турботамі. Чалавечыя вочы стамляюцца глядзець, незлічоныя гукі і пустыя словы знясільваюць чалавеку вушы, а сэрца перапаўняецца занадта салодкімі летуценнямі, каб быць шчаслівым». Такімі думкамі я суцяшаў сваё сэрца, плывучы ўніз па рацэ. Я еў найлепшыя стравы, якія мне гатавалі царскія кухары, піў цудоўнае віно і такім чынам дасягнуў поўнага спакою і задавальнення. Дзякуючы выпітаму смерць пачала здавацца мне добрай старой знаёмай, і нічога страшнага ў ёй не было. Жыццё з яго клопатамі і турботамі здавалася цяпер страшнейшым за смерць і было падобнае да гарачага пустэльнага пылу, а смерць здавалася свежай вадой.

Але ў Мемфісе мне стала зноў цяжка на сэрцы, бо я ўбачыў ваенныя караблі з прабітымі бартамі, расколатымі насамі, без мачтаў. Я ўбачыў баявыя калясніцы без колаў, з паламанымі дышлямі, пакрытыя засохлай крывёй. І я ўбачыў уцекачоў, якія атабарыліся на прычалах са сваімі шматлікімі клункамі. Стракатыя лахманы ледзь прыкрывалі іх целы, а на схуднелых тварах застыў выраз бясконцага жаху. Гэтыя людзі былі ўсе хворыя і змардаваныя. Убачыўшы фараонавы штандары, яны затрэслі бруднымі рукамі ў кірунку майго карабля і праклінала мяне на розных мовах, пакуль ахоўнікі палкамі не праклалі мне дарогу, вывеўшы з прыстані.



Як пасланца фараона, Харэмхеб прыняў мяне з усёю пачцівасцю: ён нізка перада мною схіліўся, бо яго дом царскага намесніка быў поўны знатнымі людзьмі, якія ўцяклі з Сірыі, егіпецкімі вяльможамі, якія нядаўна сядзелі пры сірыйскіх дварах, і пасламі чужаземных краінаў, якія не ўмешваліся ў вайну, а таму перад імі Харэмхеб ушаноўваў у маёй асобе самога фараона. Аднак калі мы засталіся сам-насам, Харэмхеб спытаў, нецярпліва ляпаючы сабе бізуном па сцёгнах:

— Якім злым ветрам цябе прынесла сюды ў якасці фараонава пасланца? Якая дурасць зноў стукнула яму ў галаву?

Я паведаміў, што мне даручана паехаць у Сірыю і купіць у Азіру мір любою цаной. Пачуўшы гэта, Харэмхеб злосна вылаяўся, абазваў фараона самымі рознымі словамі і потым сказаў:

— Хіба я не казаў, што ён паламае ўсе мае планы! А я рыхтаваў з такімі цяжкасцямі і такой дарагою цаной! Калі хочаш ведаць — толькі дзякуючы мне Газа яшчэ належыць нам, і Егіпет мае ў Сірыі апорны пункт пад свае баявыя дзеянні. Я здолеў пагрозамі і хабарам схіліць Крыт, каб яго ваенныя караблі ахоўвалі марскія подступы да Газы. Зрэшты, і сам Крыт павінен быць зацікаўлены ў гэтым: магутны і незалежны сірыйскі саюз уяўляе пагрозу яго марской моцы. Апроч таго, я паспрыяў таму, што Азіру цяпер мае цяжкасці са сваімі хаўруснікамі: з тае пары, як егіпецкія войскі пакінулі некаторыя гарады, сірыйцы ўвесь час ваююць паміж сабой. А частка сірыйцаў, якія страцілі свае дамы і маёмасць, жонак і дзяцей, аб'ядналіся ў вольнае войска, захапілі землі ад Газы да Таніса і самі ваююць супраць войскаў Азіру. Я ўзброіў іх егіпецкай зброяй, і шмат адважных егіпецкіх хлопцаў далучыліся да іх. Я маю на ўвазе былых воінаў, рабаўнікоў, збеглых з руднікоў рабоў, якія кладуць цяпер свае жыцці ў пустэльні, каб абараніць межы Егіпта. Але трэба разумець таксама, што яны вядуць вайну супраць усіх на свеце і, здабываючы сабе харчаванне на спустошаных вайной землях, самі знішчаюць усё жывое на гэтых землях. І нам гэта вельмі выгадна, бо яны прыносяць больш шкоды Сірыі, чым Егіпту. Таму я і ўзбройваю іх і пасылаю ім зерне. Але важней за ўсё, што хеты нарэшце ўварваліся ў Мітанні сваімі галоўнымі сіламі і цалкам знішчылі мітаннійцаў. Мітаннійскае царства знікла, нібы яго ніколі і не было на свеце. А пакуль хецкія дзіды і калясніцы зашчаміліся ў Мітанні, Вавілон пачаў непакоіцца і паспешліва ўмацоўваць свае памежныя гарнізоны, і цяпер хеты не могуць належным чынам дапамагчы Азіру. Я лічу Азіру разумным чалавекам, ён пачаў пабойвацца хетаў, бо пасля знішчэння Мітанні,

паміж Сірыяй і хетамі няма ніякай перашкоды. Менавіта таму мір, які фараон прапануе Азіру, будзе найлепшым яму падарункам. Ён зможа ўмацаваць сваю ўладу і агледзецца. Але дай мне хоць бы паўгода ці нават менш, і я посвістам сваіх стрэлаў ды грукатам баявых калясніцаў куплю Егіпту ганаровы мір і прымушу Азіру баяцца нашых багоў.

— Але ж ты не можаш пачаць вайну, Харэмхеб,— запярэчыў я.— Фараон забараніў пачынаць баявыя дзеянні! Дый ён не дасць табе на вайну золата!

— Пляваць я хацеў на ягонае золата,— адказаў Харэмхеб.— Я і так напазычаў золата, дзе толькі мог, і сам ператварыўся ў жабрака, пакуль сабраў войска ля Таніса. Бо войска было сапраўды ўбогае: калясніцы непаваротлівыя, коні кульгавыя,— але цяпер разам з вольнанаёмнікамі яно павінна стаць наканечнікам дзіды, якая нанясе ўдар у самае сэрца Сірыі аж да Ерусаліма і Мэгіды (вядома, калі гэтую дзіду буду накіроўваць я). Няўжо ты не разумееш, Сінухе, што я пазычаў золата ва ўсіх егіпецкіх багацеяў, што нажываюцца на галечы і пакутах народа, які і так задыхаецца пад цяжарам падаткаў. Я пазычаў у іх золата і тлумачыш кожнаму, што мая мэта і ім прынясе карысць. Таму кожны даваў мне золата з радасцю, тым болей, што я абяцаў выплачваць штогод яго пятую частку. Але хацеў бы я паглядзець на таго, хто адважыцца запатрабаваць ад мяне за сваё золата яшчэ і ліхву! Бо ўсё, што я раблю,— я раблю, каб захаваць Сірыю для Егіпта, і самі багацеі першыя з гэтай вайны нажывуцца. Таму мне і не шкада іхняга золата.

Харэмхеб задаволена засмяяўся, ляснуў сябе залатым бізуном па назе, потым паклаў мне руку на плячо і назваў сваім сябрам. Але зараз жа ён пасуравеў і змрочна сказаў:

— Дзеля майго сокала, Сінухе! Ты ж не захочаш сапсаваць мне ўсе планы і не паедзеш у Сірыю міратворцам?

Я растлумачыў, што гэта загад фараона і што ён нават перадае са мною ўсе таблічкі, неабходныя дзеля заключэння міру. I мне было вельмі карысна даведацца, што Азіру таксама схільны яго заключыць, бо ў такім выпадку нам гэты мір абыдзецца болей танна. Пачуўшы мае словы, Харэмхеб прыйшоў у шаленства, ударам нагі адкінуў свой зэдлік і крыкнуў:

— Напраўду кажу: калі толькі ты купіш у Азіру такі ганебны для Егіпта мір, я, як толькі вернешся, здзяру з цябе скуру з жывога і кіну на з'ядзенне кракадзілам, хоць ты і мой сябар,— клянуся, я так зраблю! Ты павінен пагаварыць з Азіру, распавесці яму пра Атона і сказаць, што фараон па сваёй незямной дабрыні хоча злітавацца з яго. Праўду кажучы, Азіру ні на кроплю не паверыць табе, бо ён вялікі прайдзісвет, але ж добра паламае галаву, перш чым цябе адпусціць назад: ён будзе таргавацца з табой да знямогі, як умеюць рабіць толькі сірыйцы, будзе



пагражаць табе і ўтопіць у патоках хлусні. Але ты ні ў якім выпадку не аддавай яму Газы! Ты павінен яго запэўніць, што фараон не адказвае за дзеянні вольных атрадаў ды іхнія непатрэбствы. А вольныя атрады ўсё адно ні ў якім выпадку не складуць зброі, бо ім напляваць на фараонавы таблічкі. Але гэта ўжо мой клопат. Казаць пра гэта Азіру не трэба. Скажаш яму, што гэтыя латрыгі з вольных атрадаў — бяскрыўдныя і гаротныя людзі, аслепленыя сваімі бедамі, і як толькі настане мір, яны добраахвотна складуць зброю і памяняюць дзіды на пастуховы пугі. Толькі Газу аддаваць не магі, інакш зарэжу сваімі рукамі. Надта ўжо шмат я за яе нацярпеўся, шмат усадзіў у пясок золата і шмат страціў сваіх лепшых выведчыкаў, перш чым яна адчыніла перад Егіптам сваю браму!

Я правёў у Мемфісе некалькі дзён, абмяркоўваючы з Харэмхебам умовы мірнага пагаднення і спрачаючыся па кожным пункце. Я сустракаўся з пасламі Крыта і Вавілона, з вяльможамі Мітанні, якія ўцяклі са сваёй краіны. Пасля гутарак з імі перада мной паўстала выразная карціна ўсяго, што адбылося, і мяне перапоўніла пачуццё ўласнай значнасці і прычыненасці да вялікіх падзеяў. Я ўпершыню ўсвядоміў сябе стваральнікам і ўдзельнікам вялікай гульні, дзе стаўкамі з'яўляюцца лёсы гарадоў і народаў.

Харэмхеб меў рацыю: мір у гэты момант быў патрэбен Азіру больш, чым Егіпту, але, мяркуючы па ўсім, нават будучы заключаным, ён стаў бы толькі кароткім перамір'ем: умацаваўшыся ў Сірыі, Азіру зноў павярнуў бы зброю супраць Егіпта. Сірыя — гэта ключ да ўсяго свету, і Егіпет дзеля сваёй бяспекі не можа дапусціць, каб яна стала здрадлівым і варожым хаўрусам маленькіх царстваў, якія за золата можа купіць хто заўгодна, ці каб яна трапіла пад уладу хетаў пасля заваёвы імі Мітанні. Цяпер будучыня залежала ад таго, куды накіруюцца хеты, умацаваўшы сваю ўладу ў Мітанні: на Вавілон ці праз Сірыю на Егіпет. Розум падказваў, што яны пойдуць туды, дзе іх чакае найменшае супраціўленне. Вавілон ужо ўмацаваў свае межы, а Егіпет заставаўся слабым і бяззбройным. Безумоўна, царства Хатці было малапрыемным хаўруснікам любому, але, маючы такіх саюзнікаў, Азіру меў за сабой магутную сілу, а ўступіўшы ў хаўрус з Егіптам, мог чакаць толькі пагібелі,— прынамсі, пакуль на троне сядзеў фараон Эхнатон,— бо нічога, апроч пустэльнага пяску, у яго за плячыма не будзе.

Я абдумаў усё гэта і спасціг, і з гэтым новым халодным разуменнем усе жахі вайны адсунуліся некуды ўдалячынь. Я больш не думаў пра смурод гарадскіх пажараў і чалавечыя чарапы, якія ўсцілалі палі бітваў, я не думаў пра ўцекачоў, якія жабравалі на вуліцах Мемфіса, я не спачуваў мітаннійскім вяльможам, якія прадавалі свае аздобы ды каштоўныя камяні, каб піць віно, перасыпаючы ў тонкіх спешчаных пальцах

зямлю Нахарына, якую яны прывезлі з сабой у зрэбных мяшэчках. Харэмхеб сказаў, што я магу сустрэць Азіру недзе паміж Танісам і Газай, дзе яго баявыя калясніцы ваююць супраць вольных атрадаў. Ён апісаў мне становішча ў Сіміры, пералічыў дамы, спаленыя падчас аблогі, назваў імёны вяльможаў, якіх забілі мяцежнікі, і я быў здзіўлены яго дасведчанасцю. Тады ён распавёў пра сваіх выведнікаў, якія прабіраліся ў сірыйскія гарады і ішлі за войскам Азіру пад выглядам мечаглытальнікаў, штукароў, прадказальнікаў, гандляроў рабамі і півам. Ён сказаў, што выведнікі Азіру таксама прабіраюцца ў Егіпет аж да Мемфіса, яны ідуць з вольнымі атрадамі, пралазяць у гарнізоны пад выглядам штукароў, блазнаў, разносчыкаў піва ды скупшчыкаў ваеннай здабычы. Дзевам Астарты Азіру таксама плаціць за шпіёнства, і яны вельмі небяспечныя, бо выведваюць важныя звесткі ў п'яных егіпецкіх ваяводаў, але, на шчасце, яны недастаткова добра ведаюць ваенную справу, каб прынесці вялікую шкоду. Ёсць і такія віжы, якія служаць і Харэмхебу, і Азіру, і Харэмхеб мусіў прызнаць, што такія выведнікі самыя кемлівыя, бо не ставяць сябе ў небяспеку ні тут, ні там і, добра засцерагаючы сваё жыццё, яшчэ і ўзбагачаюцца пры гэтым.

Але ўцекачы і Харэмхебавы ваяводы нарасказвалі мне шмат жахлівых гісторый пра воінаў Амарэі і вольныя атрады. Таму калі настаў час выпраўляцца ў дарогу, маё сэрца затрымцела, а калені падагнуліся, і ногі сталі хліпкія, як вада. Харэмхеб мне сказаў:

— Можаш на выбор: або плыць па моры, або ехаць па сушы. Калі паплывеш па моры, дык да Газы, пэўна, цябе будуць ахоўваць крыцкія ваенныя караблі, хоць можа стацца і так, што яны абараняць цябе не будуць, а паплывуць прэч, як толькі заўважаць баявыя караблі Сідона і Ціра, якія пільнуюць марскія шляхі да Газы. Тады твой карабель патопяць, і ты, калі будзеш мужна біцца, пойдзеш на дно разам з ім. Калі ж ты спалохаешся і не будзеш біцца мужна, яны захопяць цябе ў палон і пасадзяць весляром на сірыйскі карабель, дзе праз некалькі дзён ты памрэш ад бізуноў і спякоты. Аднак ты егіпцянін і, апроч таго, знатны, дык хутчэй за ўсё яны здзяруць з цябе скуру, павесяць яе на шчыт прасушыцца, а потым нашыюць з яе гаспадарчых сумак і кашалёў. Зрэшты, я не хачу цябе запалохваць, бо, можа, табе і ўдасца дабрацца да Газы — не так даўно адзін карабель даплыў туды! Праўда, другі, з зернем, пайшоў на дно... А ўжо як табе выбрацца з абложанай Газы і сустрэцца з Азіру — гэтага я ўвогуле сказаць не магу.

— Тады, можа, мне лепей ехаць па сушы? — нясмела папытаўся я.

У знак згоды ён паківаў галавой і сказаў:

— Ад Таніса я дам табе ў ахову некалькі дзіданосцаў і баявых калясніцаў. Калі ім пашчасціць сустрэцца з воінамі Азіру, яны пакінуць цябе аднаго ў пустэльні і на ўвесь дых кінуцца прэч. Цалкам магчыма, што воіны Азіру, убачыўшы, што ты знатны егіпцянін, паводле добрага хецкага звычаю, пасадзяць цябе на паль, а на тваё таблічкі проста наплююць. А магчыма, нягледзячы на ахову, ты трапіш у рукі да воінаў з вольных атрадаў, якія абрабуюць цябе да ніткі і прымусяць круціць жорны, пакуль я не змагу выкупіць цябе за золата. Але я не ўпэўнены, што ты вытрымаеш так доўга, бо твая светлая скура згарыць пад бязлітасным сонцам, а свае бізуны яны робяць з бегемотавай скуры. Зрэшты, яны могуць і проста распароць табе жывот дзідай і пакінуць на спажыву крумкачам. І можаш паверыць, што для цябе гэта будзе не самы горшы канец, бо такая смерць будзе лёгкай.



Ад усяго пачутага маё сэрца затрымцела яшчэ больш, а рукі і ногі пахаладзелі, хоць стаяла страшэнная летняя спёка. Таму я сказаў:

— Я вельмі шкадую, што пакінуў свайго скарабея Каптаху, бо тут ён дапамог бы мне нашмат больш, чым фараонаў Атон, чыя ўлада не распасціраецца на гэтыя бязбожныя землі. Але так ці іначай усё хутка вырашыцца, і я сустрэнуся з Азіру або загіну. І адбудзецца гэта хутчэй, калі я паеду з тваімі калясніцамі, а таму я так і зраблю. Але дзеля нашага сяброўства, Харэмхеб, я прашу цябе, калі ты даведаешся, што я трапіў у палон і кручу цяжкія жорны, выкупі мяне як мага хутчэй і не шкадуй золата, бо цяпер я багаты чалавек, значна багацейшы, чым ты думаеш, хоць і не магу зараз пералічыць свае багацці, бо сам іх як след не ведаю.

Харэмхеб адказаў:

— Затое я ведаю. І праз Каптаха я пазычыў ужо ў цябе нямала золата — гэтак сама, як у іншых егіпецкіх багацеяў. Я чалавек справядлівы і не хацеў пазбавіць цябе гонару пазычыць мне грошай. Аднак я спадзяюся, што дзеля нашага сяброўства ты не будзеш патрабаваць з мяне гэты доўг, бо гэта можа толькі азмрочыць, а ў горшым выпадку зусім знішчыць нашы сяброўскія адносіны. Дык едзь у Таніс, мой сябра Сінухе, а адтуль з маёй аховай — далей, і хай цябе аберагае мой сокал, калі ўжо я сам не магу зрабіць гэтага, бо мая ўлада не сягае гэтак далёка. Калі ты трапіш у палон, я цябе выкуплю, а калі загінеш, змагу за цябе адпомсціць. Хай гэта аблегчыць тваё сэрца, калі табе будуць успорваць жывот.

— Калі ты пачуеш пра маю смерць, не марнуй час на помсту,— з горыччу адказаў я.— Майму чэрапу, скляванаму крумкачамі, наўрад ці дапаможа, што ты заліеш яго крывёй якіх-небудзь нябогаў. Проста перадай ад мяне прывітанне царэўне Бэкетатон, яна сапраўды прыгожая і прывабная жанчына, хоць і з вялікаю фанабэрыяй. Дарэчы, каля смяротнага ложа сваёй маці яна шмат распытвала пра цябе.

Выпусціўшы на развітанне гэтую атручаную стралу, я пакінуў яго крыху ўсцешаны і загадаў пісарам скласці і заверыць усімі неабход-

нымі пячаткамі запавет, у якім пакідаў сваю маёмасць Каптаху, Мэрыт і Харэмхебу. Запавет я пакінуў у царскім архіве ў Мемфісе, пасля чаго сеў на карабель і адплыў у Таніс. Там, на краю пустэльні, у крэпасці, спаленай бязлітасным сонцам, я сустрэўся з воінамі Харэмхеба, якія ахоўвалі тут мяжу.

Яны пілі піва, палявалі на антылопаў у пустэльні і зноў пілі піва, праклінаючы дзень свайго нараджэння. Іх глінабітныя хаціны зараслі брудам і смярдзелі мачой, іх абслугоўвалі такія брыдкія жанчыны, якімі пагрэбавала б і карабельная прыслуга ў ніжнім партовым раёне Фіваў. Словам, яны вялі звычайнае для памежжа жыццё і марылі аб тым дні, калі Харэмхеб павядзе іх на вайну з сірыйцамі, каб іх жыццё магло напоўніцца хоць якімі-небудзь падзеямі, свежым півам і маладымі жанчынамі, бо любая змена — хай сабе і смерць — была лепшай за невыносную аднастайнасць, якою яны жылі ў хацінах, прапечаных сонцам і поўных пясчаных блох. Таму яны ірваліся ў бой і кляліся, што стануць на чале вольных атрадаў, гэтага наканечніка дзіды, якая нанясе ўдар па Ерусаліму і Мэгідзе, што яны змятуць са сваёй дарогі ўсіх паганых сірыйцаў, як змятае на сваім шляху ўсялякае смецце магутны паток. А што яны абяцалі зрабіць з Азіру, амарэйскімі воінамі ды іх хецкімі начальнікамі, я паўтарыць не магу, бо гэта бязбожныя і брыдкія словы.

Яны горача прагнулі выступіць у абарону гонару Егіпта, але гэтак жа горача праклiналі фараона Эхнатона, бо калі раней у мірны час яны разнастаілі сваё жыццё тым, што збіралі даніну з гандлёвых караванаў ды забаўляліся з жонкамі пастухоў, дык цяпер фараон у імя свайго бога нарабіў такога, што нельга было зразумець, ці гэта вайна, ці мір. Ужо шмат гадоў падарожнікі і гандляры не ішлі праз Таніс у Егіпет, а пастухі паўцякалі ў Ніжнія землі. А калі хто і ехаў у Егіпет з Сірыі ці якой іншай краіны, дык яго яшчэ ў дарозе дашчэнту абдзіралі вольныя атрады, апераджаючы фараонавых памежнікаў.

Пакуль мая ахова рыхтавалася да падарожжа, пакуль напаўнялі вадой скураныя мяхі, пыганялі коней, ладзілі колы ў калясніцах, я хадзіў вакол і да ўсяго прыглядаўся. Мае назіранні дазволілі мне спасцігнуць таямніцу вайсковага выхавання і зразумець, што робіць воіна адважнейшым за ільва. Дасведчаны і разумны ваявода патрабуе ад воінаў такой жорсткай дысцыпліны, так ганяе іх на вучэннях і робіць іх жыццё такім невыносным, што ўсякія змены ў гэтым жыцці — хай нават вайна і смерць — здаюцца ім пажаданымі і не страшнымі ў параўнанні з побытам у гарнізонных хацінах. Але самае дзіўнае, што воіны пры гэтым не адчуваюць ніякай нянавісці да свайго начальніка, наадварот — яны захапляюцца ім, усхваляюць яго і ганарацца сваім цярпеннем у прыдуманых ім нягодах і шнарамі ад удараў палкамі.Такая вось дзіўная і непрадказальная прырода чалавека.



Па загадзе Харэмхеба, у Танісе мне далі ў ахову дзесяць калясніцаў, запрэжаных парамі коней, і яшчэ адзін конь ішоў на повадзе ззаду. Апроч вазніцы, на кожнай калясніцы былі баец і дзіданосец. Начальнік аховы нізка схіліўся перада мной, дакрануўшыся да каленяў рукамі, а я ўважліва разгледзеў таго, у чые рукі аддаваў сваё жыццё. Яго паясная павязка была такая ж брудная і заношаная, як у астатніх воінаў, скура і твар — да чарнаты выпетраныя сонцам, і толькі перавіты срэбранай ніткай бізун адрозніваў начальніка ад шараговых воінаў. Але менавіта праз гэта я адчуў да яго больш давер, чым калі б ён быў у тонкіх дарагіх строях і загадваў насіць над сабой парасон ад сонечнай спёкі. Але калі я завёў гаворку пра насілкі, ён адразу забыўся на пачцівасць і зарагатаў. Ён сказаў, што наш адзіны ратунак — у хуткасці, а таму мне давядзецца сесці ў калясніцу і забыць пра насілкі ды іншыя прыемнасці дамашняга жыцця. Вядома, калі захачу, я магу сесці на мяхі з кормам, але лепш навучыцца ехаць у калясніцы стоячы і гайдацца ў такт руху, інакш пустэльня вытрасе з мяне душу і я паламаю рэбры аб біла.

Але я ўсё яшчэ храбрыўся і даволі пыхліва заўважыў, што гэта не першая мая паездка ў калясніцы і я двойчы так хутка праязджаў па шляху з Сіміры ў Амарэю, што ўразіў нават воінаў Азіру. Праўда, тады я быў нашмат маладзейшы, а цяпер мая годнасць не дазваляе мне такой палкасці і я мушу ўстрымлівацца ад залішніх мышачных намаганняў. Начальнік аховы, якога звалі Юйу, ветліва выслухаў мяне, пасля чаго я даверыў свой лёс усім егіпецкім багам і стаў на калясніцы ў яго за плячыма. Ён падняў лейцы і з крыкамі пагнаў коней. Мы імчаліся па караваннай дарозе ў глыбіню пустэльні, і маё цела бязладна падскоквала на мяшку з кормам, я ўчапіўся дзвюма рукамі ў бераг калясніцы, але не ўтрымаўся, разбіў нос і ўскрыкнуў, але мае стогны патанулі ў грукаце колаў і шалёных радасных крыках вазніц, якія радаваліся таму, што вырваліся з прапаленага глінянага пекла кашараў.

Так мы ехалі цэлы дзень, а ноч я, праклінаючы час свайго нараджэння, правёў на мяшках, болей падобны да трупа, чым да жывой істоты. Назаўтра я паспрабаваў стаяць у калясніцы, абдымаючы Юйу за талію, але неўзабаве адно кола наскочыла на камень, і я, апісаўшы ў паветры дугу, вылецеў як з прашчы і ўпаў галавой, дзякуй богу, у пясок, толькі падрапаўшы твар аб калючкі. На такую дробязь я нават не звярнуў увагі. Але ўначы Юйу занепакоіўся, што мой стан вельмі дрэнны. Ён паліў мне нават вады на галаву, хоць удзень, ашчаджаючы вадзяны запас, не даваў нікому ўдосталь напіцца. Ён патрымаў мяне за руку і паспрабаваў суцешыць, кажучы, што пакуль усё ідзе добра, і калі заўтра на нас не нападзе вольны атрад, дык на чацвёрты дзень мы сустрэнем выведчыкаў Азіру. Каб нечым мяне заняць, ён пачаў распавядаць пра свой ваенны досвед, а потым заўважыў:

— Праўду кажучы, няма нічога больш аднастайнага й нуднага, чым вайна, бо вайна — гэта бясконцае чаканне. Вайна — гэта дарэмнае чаканне праціўніка, бо ён або спазняецца, або яго зусім няма там, дзе ты яго чакаеш. Вайна — гэта марнае чаканне ежы, бо яна заўсёды спазняецца, а затрымка абозаў — сапраўдны праклён вайны. Вайна — гэта бесталковыя пераходы з аднаго месца на другое і назад, і зноў туды, адкуль толькі што прыйшлі, пакуль язык не прыліпне да нёба, а ногі не стануць драўлянымі цурбакамі. Ды яшчэ «ваеннае майстэрства» ў дадатак, ды яшчэ навучанне ў ваенных вучэльнях, бо ваявода павінен умець чытаць і пісаць. З усяго гэтага і складаецца вайна: непрыяцель з'яўляецца якраз тады, калі яго не чакаюць, нападае так, як, паводле гэтага самага ваеннага майстэрства, нападаць зусім не павінен, і выстройваецца зусім не так, як паводле вучэння аб варожых ваенных парадках, ён павінен трымаць свае шэрагі, а ў дадатак да ўсяго ваявода не ведае сваіх воінаў, і яны не ведаюць яго ў твар, а таму кожны б'е каго папала і лямантуе на ўсю галаву. Але калі вораг уцякае — ваяводу пашана і слава, усе ўсхваляюць яго майстэрства, а фараон са свайго балкона адорвае яго залатым ланцугом. Калі ж уцякаем мы, дык шэнціць толькі таму, хто застаўся жывы, бо тады пішуцца бясконцыя справаздачы, ацалелых лупцуюць бізунамі, а ваяводу вешаюць дагары нагамі на гарадскім муры. Аднак калі ваявода — высокавяльможны пан, то фараон і пасля паразы адорвае яго залатым ланцугом, а паразу называюць перамогай і высякаюць надпіс на камяні, каб увекавечыць падзею. Вось што такое вайна, высокашаноўны Сінухе, так што не скардзься на свае цяперашнія беды, а лепш радуйся, што пазбег падобнай долі.

Слухаючы яго, я неўпрыкмет не заснуў, але сярод ночы мяне пабудзілі жахлівыя крыкі, грукат капытоў і калясніцаў. Запаліўшы паходні мы ўбачылі, што абодва выстаўленыя на ноч вартавыя ляжаць на зямлі з перарэзаным горлам, частка калясніцаў украдзена разам з коньмі, а астатнія збіліся ў бязладную кучу, у якой дышлі, запрэжкі, коні і калясніцы — усё было пераблытана. Сяк-так мы навялі парадак і рушылі далей, хоць было яшчэ цёмна. Цяпер я ўжо не зважаў на нязручнасць падарожжа, бо было зразумела, што начныя рабаўнікі паімчалі па дапамогу, каб дагнаць нас і забраць усё: ваду, коней і калясніцы. Юйу сказаў, што вада, коні і калясніцы для вольных атрадаў даражэйшыя за золата, і, каб завалодаць такой каштоўнай здабычай, яны нападаюць нават на егіпцян.

Паступова развіднела і зноў пачалася спёка, у мяне расколвалася галава, пясок рэзаў вочы, а перасохлы язык прыліпаў да нёба. Потым пякучы пустэльны вецер прынёс пах крыві і гару, коні занепакоіліся, а вазніцы прымацавалі да колаў баявыя разакі. Абагнуўшы некалькі чырванаватых пагоркаў, мы ўбачылі крыніцу, вакол якой гарэлі падпаленыя хацінкі, а побач ляжалі трупы людзей, распранутых дагала, чыю кроў паглынуў пясок, а вочы выдзеўбалі крумкачы. Насустрач нам кінуліся нейкія людзі з дзідамі, і зусім побач прасвісталі некалькі стрэлаў. Але потым вольны атрад, які біўся тут невядома з кім — ці з воінамі Азіру, ці з пастухамі, ці з іншым вольным атрадам,— палічыў за лепшае адступіць: нас было болей. Яны задаволіліся тым, што пакрычалі нам услед брудную лаянку і пагрозы. Не зважаючы на іх, мы рушылі далей, хоць воіны Юйу з задавальненнем пацешыліся б, патаптаўшы гэтую хеўру сваімі калясніцамі.



Наступнай ноччу мы бачылі на даляглядзе водбліскі ці то вогнішчаў, ці то пажараў. Юйу сказаў, што мы набліжаемся да краю сірыйскай пустэльні. Накарміўшы коней, мы рушылі далей з вялікай асцярогай. Але праз пэўны час я ад знямогі заснуў на мяшках з конскім кормам, а на досвітку прачнуўся ад таго, што Юйу груба выкінуў мяне на пясок, а следам паляцелі мае гліняныя таблічкі і дарожны куфар. На развітанне ён крыкнуў нейкія словы падтрымкі, заклікаўшы мне ў дапамогу ўсіх егіпецкіх багоў, потым калясніцы павярнулі і паляцелі назад, высякаючы коламі з камянёў іскры.

Я працёр залепленыя пяском вочы і ўбачыў, што з праходу паміж скаламі выязджаюць сірыйскія баявыя калясніцы. Яны разгортваліся веерам дзеля атакі. Тады я ўстаў на поўны рост, як гэта адпавядала маёй годнасці, і, узняўшы над галавой пальмавую галінку, пачаў ёю махаць над галавой у знак сваіх мірных намераў. Але варожыя калясніцы безуважна прамчалі міма, і толькі адна страла свіснула каля майго вуха, уторкнуўшыся ў пясок недзе ззаду. Юйу і яго воіны, каб аблегчыць калясніцы, паскідвалі з іх мяхі з кормам і нават з вадой, і я бачыў, як яны ўцякалі ад пагоні. Толькі адна калясніца наляцела на камень і перакулілася, але сірыйцы пераехалі цераз вазніцу і, не спыняючыся, паімчалі далей.

Праз пэўны час, упэўніўшыся ў дарэмнасці сваёй пагоні, калясніцы Азіру вярнуліся да мяне. Я пракрычаў, хто я такі і паказаў гліняныя таблічкі фараона. Але вазніцы не звярнулі на мае словы ніякай увагі і, саскочыўшы з калясніц, наблізіліся да мяне, на хаду развязваючы паясы акрываўленымі рукамі. Яны адчынілі мой куфар, забралі з яго ўсё золата, а мяне распранулі і прывязалі за рукі да калясніцы. Так мне і давялося бегчы за ёй, і я думаў, што задыхнуся і сканаю, я падаў, і мае калені да крыві абдзерліся аб шурпаты пясок, але хоць я пагражаў ім гневам Азіру, яны не звярталі на мае крыкі ніякай увагі. Вось такія пакуты я прымаў дзеля фараона Эхнатона.

Я безумоўна памёр бы на гэтым шляху, калі б стан Азіру не размяшчаўся адразу за праходам у скалах, па той бок гары. Падслепаватымі ад пяску вачыма я разгледзеў шматлікія намёты і коней. Лагер быў абне-

сены агароджаю з баявых калясніцаў і валовых запрэжак. Больш я нічога не ўбачыў, бо страціў прытомнасць, і ачуняў толькі ад таго, што рабы лілі мне на твар ваду ды расціралі алеем ногі і рукі, бо адзін сірыйскі начальнік быў пісьменны і прачытаў мае таблічкі, вось яны і ўзяліся ўшаноўваць мяне і нават вярнулі вопратку.

Калі я змог устаць і хадзіць, мяне павялі да Азіру ў шацёр, прапахлы салам, воўнай і дымам. Азіру зароў, як леў, і пайшоў мне насустрач, бразгаючы залатымі ланцугамі на шыі. Яго бараду аплятала срэбная сетка. Ён абняў мяне са словамі:

— Я вельмі шкадую, што мае людзі так дрэнна абышліся з табой, але тут ёсць і твая віна, бо ты павінен быў назваць ім сваё імя і сказаць, што ты мой сябар і пасол фараона. Апроч таго, ты павінен быў — як таго патрабуе звычай — падняць над галавой пальмавую галінку і памахаць ёй, паказваючы свае мірныя намеры, а ты — як кажуць мае воіны — кінуўся на іх з нажом, таму яны мусілі абараняцца і ўціхамірваць цябе, каб ўратаваць сваё жыццё.

Мае калені гарэлі агнём, а рукі проста адвальваліся. Мая душа поўнілася горыччу, і я сказаў Азіру:

— Паглядзі на мяне і скажы, ці магу я пагражаць жыццю тваіх людзей? Яны паламалі маю пальмавую галінку, яны абабралі мяне да ніткі, прысвоілі маю вопратку, здзекаваліся з мяне і тапталі нагамі таблічкі фараона. Было б добра, каб ты пакараў бізунамі хоць некаторых, каб навучыць іх належным чынам ставіцца да паслоў фараона.

Азіру ў прытворным жаху ўскінуў рукі ўгору і сказаў:

— Ты, мусіць, убачыў нешта страшнае ў сне, Сінухе? Я не маю ніякага дачынення да таго, што ты падчас свайго доўгага падарожжа паразбіваў калені аб камяні. І я ніколі не буду за нейкага егіпцяніна хвастаць бізунамі сваіх лепшых людзей, а ўжо калі мне гавораць пра пасвлоў фараона — гэта проста зыканне мухі ў вушах маіх.

— Азіру,— сказаў я,— ты павінен пакараць бізунамі хоць бы таго воіна, які бессаромна нанёс мне шматлікія раны дзідай ніжэй ад спіны, прымушаючы шпарчэй бегчы за калясніцай. Адсцябай яго бізуном, і гэта будзе дастаткова, каб задаволіць мяне, пасланца фараона, які прынёс мір табе і Сірыі.

Азіру гучна зарагатаў і, стукнуўшы сябе кулаком у грудзі, адказаў:

— Што мне з таго? Хай нават твой нікчэмны фараон сам выціраў бы каленямі пыл перада мною і маліў аб міры! Але ў тваіх словах ёсць пэўная рацыя, а паколькі ты мой сябар, сябар маёй жонкі і майго сына, я загадаю пакараць бізунамі таго воіна, які калоў цябе дзідай у зад, бо гэта супярэчыць нашым добрым звычаям, а ты ведаеш, што я вяду вайну чыстай зброяй і з высакароднымі мэтамі.

Такім чынам, я з задавальненнем паглядзеў, як майго самага зацятага ворага адхвасталі бізунамі перад усім войскам побач з шатром Азіру, і ніхто з ягоных хаўруснікаў не спачуваў яму, а калі той лямантаваў, усе толькі смяяліся і паказвалі на яго пальцам, бо гэта было вялікая забава сярод аднастайнай нуды вайсковага жыцця. Нікольні не сумняваюся, што Азіру дазволіў бы захвастаць яго да смерці, але я, убачыўшы, як мяса адстае ад касцей і кроў цячэ ручаём, падумаў, што яго спіна зараз будзе балець мацней, чым мае калені і зад, і, падняўшы руку, спыніў пакаранне. Тым самым я падараваў яму жыццё. Я загадаў аднесці яго ў намёт, дзе па загадзе Азіру і да вялікага засмучэння начальнікаў, якія там месціліся, было адведзена месца і мне. Але яны раптам усе ажывіліся і паднялі радасны крык, спадзеючыся на новыя забавы, бо вырашылі, што я буду здзекавацца з бедалагі нейкім адмысловым чынам. Але я змазаў яму спіну тымі самымі мазямі, якімі лячыў свае калені і зад, потым перавязаў раны і напаіў яго півам, пасля чаго ён палічыў, што я зусім з'ехаў з глузду, і страціў усялякую да мяне павагу.

Вечарам Азіру ў сваім шатры частаваў мяне смажанай баранінай і рысам з вялікай колькасцю тлушчу, і я еў разам з ім і яго вяльможамі, а таксама з хецкімі военачальнікамі, чые плашчы і нагрудныя пласціны былі ўпрыгожаныя відарысамі сякераў і крылатых сонечных дыскаў. Мы разам пілі віно, і ўсе ставіліся да мяне са спачувальнай і прыязнай ветлівасцю, як звычайна ставяцца да вулічных прыдуркаў, бо я прыехаў прасіць міру тады, калі ён ім самім быў найбольш патрэбны. Яны натхнёна гаварылі пра незалежнасць Сірыі, пра яе будучую магутнасць і прыгнёт заваёўнікаў, які яны ўрэшце скінулі з сваёй шыі. Але пазней, калі ўсе перапіліся і пасварыліся, адзін воін з Яфы выхапіў нож і разануў па горле воіна з Аморы. Пралілося багата крыві, але рана была няцяжкая, і я апрацаваў яе з усім сваім майстэрствам, за што ад параненага атрымаў багатыя падарункі. Гэта таксама паспрыяла маёй славе дурнаватага чалавека.

Зрэшты, лепш бы я даў яму памерці, бо калі мы былі ў лагеры сірыйцаў, гэты паскуднік загадаў сваім воінам забіць крыўдзіцеля з Яфы. Пазней Азіру дзеля падтрымання дысцыпліны і парадку загадаў яго павесіць дагары нагамі, і яго рана на шыі так і не паспела зажыць. Увогуле, да сваіх падданых Азіру ставіўся болей жорстка і бязлітасна, чым да іншых сірыйцаў, бо яны зайздросцілі яго ўладзе і плялі супраць яго змовы, так што яго ўлада і трон увесь час стаялі як на растрывожаным мурашніку.

**2**

Пасля вячэры Азіру папрасіў сірыйскіх вяльможаў і хецкіх ваяводаў пакінуць шацёр і паклікаў сына, бо вельмі хацеў паказаць мне хлопчыка, які падарожнічаў з ім ва ўсіх ваенных паходах, хоць яму было ўсяго

сем гадоў. З немаўляці вырас прыгожы хлопец з персікавымі пяшчотнымі шчокамі і бліскучымі чорнымі вачыма. Валасы ў яго былі чорныя і кучаравіліся, як бацькава барада, а чыстую далікатную скуру ён атрымаў ад маці. Азіру ўскудлаціў яму валасы і сказаў мне:

— Ці бачыў ты калі-небудзь такога прыгожага хлопца? Я захаплю для яго шмат земляў, і ён стане такім вялікім уладаром, што я не адважваюся і думаць, да якіх межаў будзе сягаць яго ўлада! А я ўжо прадбачу гэта — па тым, як ён смела ўсадзіў свой маленькі меч у жывот рабу, які пакрыўдзіў яго. Ён не баіцца грукату бітваў, бо я паўсюль браў яго з сабой. Праўда, зблізку ён быў сведкам толькі задушэння сялянскіх бунтаў, бо там я не баяўся за яго жыццё.

Пакуль Азіру ваяваў, Кефцью заставалася кіраваць у Амарэі. Ён вельмі па ёй маркоціўся і дарэмна імкнуўся перамагчы гэтую маркоту з палонніцамі і храмавымі дзевамі, якія былі ў абозе ягонага войска. Хто аднойчы паспытаў кахання Кефцью, той ніколі не зможа забыць яе, бо, казаў ён, яе прыгажосць з часам толькі расквітнела так, што я не даў бы веры сваім вачам, убачыўшы яе. А сына Азіру, не асмельваючыся пакінуць яго ў Амарэі, возіць з сабой, чакаючы таго дня, калі хлопчык стане ўладаром сірыйскіх земляў.

Падчас нашай гутаркі ў лагеры пачуўся жахлівы жаночы лямант, ад чаго Азіру спахмурнеў і злосна сказаў:

— Гэта хецкія начальнікі катуюць жанчын, хоць я забараніў ім гэта. Але што я магу зрабіць — яны мне вельмі патрэбныя з іх ваенным майстэрствам. Катаванне жанчын у іх як забава, хоць я іх не зразумею: хіба не прыемней прымусіць жанчыну стагнаць ад асалоды, а не ад болю? Але кожны народ мае свае звычкі, і я не хачу іх асуджаць за тое, што іх звычаі не такія, як сірыйскія. Але я таксама не хачу, каб яны навучылі маіх людзей сваім паганым звычкам, бо вайна і без таго ператварае людзей у драпежных звяроў.

Яго словы жахнулі мяне, бо я ведаў хетаў і ведаў, што можна ад іх чакаць, а таму, карыстаючыся зручным выпадкам, сказаў:

— Азіру, вялікі цар цароў, адступіся ад гэтых хетаў, пакуль не позна, пакуль яны не збілі тваю карону разам з тваёй галавой, бо хетам нельга давяраць ні ў чым. Замест гэтага заключы мір з фараонам, пакуль хеты ўвязлі ў вайне з Мітанні. Ты ж ведаеш, што і Вавілон узбройваецца супраць іх, і ты не зможаш атрымліваць адтуль зерне, пакуль з хетамі ў цябе будзе хаўрус. І голад лютым ваўком будзе блукаць па сірыйскай зямлі, калі ты не заключыш мір з фараонам, бо ён, як і раней, не будзе пасылаць зерне ў твае гарады.

Азіру запярэчыў:

— Ты кажаш неразумныя словы, бо хеты добрыя сябры і страшныя толькі іх ворагам. Я не звязаны з хетамі ніякай дамовай, і хоць яны



пасылаюць мне цудоўныя дарункі і бліскучыя нагрудныя пласціны з каронамі, я магу заключаць мір з кім хачу, незалежна ад хетаў. Яны працівяцца заключэнню дамовы аб авалоданні Кадэшам, а портам Бібла карыстаюцца так, нібы ён належыць ім. Але з другога боку, яны прыслалі мне цэлы карабель, нагружаны зброяй з новага металу, і гэтая зброя робіць маіх воінаў непераможнымі ў бітвах.Так ці гэтак, я люблю мір больш за вайну і вяду вайну толькі дзеля ганаровага міру. Я з вялікай ахвотай заключу мір з фараонам, калі толькі ён аддасць мне Газу, якую егіпцяне захапілі хітрасцю і падступствам, і паабяцае раззброіць хеўры злодзеяў у пустэльні, а таксама аплаціць зернем, золатам і алеем усю шкоду, якую панеслі сірыйскія гарады за час вайны, бо, як ты сам добра ведаеш, гэтую вайну распачаў Егіпет.

Ён глядзеў на мяне сваімі вострымі вачыма і ўсміхаўся, прыкрываючы рот далонню, а я горача запярэчыў:

— Азіру, злодзей, кат і рабаўнік! Хіба ж табе невядома, што па ўсёй Ніжняй зямлі ў кузнях куюць наканечнікі для дзідаў, а баявых калясніцаў у Харэмхеба больш, чым блох у тваім лагеры, і яны балюча пакусаюць цябе, калі паспее ўраджай. Харэмхеб, чыя слава табе добра вядомая, плюнуў мне пад ногі, калі пачуў, што я еду па мір з табой, і толькі фараон дзеля свайго бога не хоча праліваць кроў. Я прапаную табе апошнюю магчымасць, Азіру. Газа застанецца Егіпту, а з пустэльнымі рабаўнікамі ты разбярэшся сам, бо Егіпет не адказвае за іх дзеянні. Толькі твая жорсткасць прымусіла сірыйцаў уцячы ў пустэльню і пачаць з табою вайну, а значыць, гэта вашы ўнутраныя справы. Апроч таго, ты павінен даць свабоду ўсім егіпецкім палонным, а егіпецкім гандлярам аплаціць усе страты, якія яны панеслі ў сірыйскіх гарадах, і вярнуць ім усю маёмасць.

Азіру разадраў сваю вопратку, пачаў ірваць бараду і залямантаваў:

— Цябе ўкусіў шалёны сабака, Сінухе, і твае словы — словы вар'ята! Газа павінна быць аддадзена Сірыі, егіпецкія гандляры хай самі пакрываюць свае страты, а палонных мы прададзім у рабства, як вымагае наш добры звычай, калі толькі, вядома, фараон не выкупіць іх і ў яго хопіць на гэта золата.

Я адказаў яму:

—Заключыўшы мір, ты зможаш пабудаваць вакол сваіх гарадоў высокія муры і магутныя вежы, ты зможаш не баяцца ніякіх хетаў, бо Егіпет заўсёды табе дапаможа. Гандляры з тваіх гарадоў пачнуць багацець ад бяспошліннага гандлю з Егіптам, і хеты не здолеюць ім перашкодзіць, бо ў іх няма караблёў. З усіх бакоў, Азіру, табе выгадна заключыць мір, бо ўмовы, прапанаваныя фараонам, вельмі мяккія, і я не магу адступіць ад іх.

Так мы гутарылі і таргаваліся тым яшчэ шмат дзён, і Азіру яшчэ не

раз ірваў на сабе вопратку і пасыпаў галаву попелам, абзываў мяне рабаўнікам і злодзеем і ліў слёзы, аплакваючы цяжкую долю свайго сына, якому праз сквапнасці Егіпта наканавана памерці жабраком у канаве. Аднойчы я ў шаленстве пакінуў яго шацёр і запатрабаваў насілкі, каб накіравацца ў Газу, я нават сеў у іх і даў загад рушыць у дарогу, але тут Азіру запрасіў мяне назад. Я думаю, ён, як сапраўдны сірыец, адчуваў асалоду ад гэтага гандлю і тых уступак, якія ён дзень за днём нібыта рабіў, сам будучы перакананы, што ўдала мяне ашуквае, калі дабіваўся маёй згоды па тым або іншым пункце. Ён і не здагадваўся, што фараон загадаў мне купіць мір любою цаной, нават цаной усіх скарбаў Егіпта.

Таму я не траціў упэўненасці ў сабе і дасягнуў на перамовах шмат выгадных умоваў на карысць фараона. А час працаваў на мяне, бо нелады і сваркі ў лагеры Азіру разгараліся ўсё часцей і мацней, і кожны дзень хто-небудзь з яго людзей пакідаў войска і вяртаўся ў свой горад. Азіру не мог гэтаму перашкодзіць, бо яго ўлада яшчэ не ўмацавалася і была надта хісткай. І аднойчы ён вылучыў апошнюю ўмову: муры Газы мусяць быць зруйнаваныя, і ён будзе сам прызначыць туды цара, але і фараон зможа прызначыць свайго дарадцу, а сірыйскія караблі нароўні з егіпецкімі будуць заходзіць у гавань і гандляваць у Газе бяспошлінна. Вядома, на такое я не мог пагадзіцца, бо без муроў Газа не ўяўляла для Егіпта ніякай вартасці і аказалася б у поўнай уладзе Азіру.

І калі я абвясціў, што не магу прыняць такой умовай і запатрабаваў ахову, каб з'ехаць, Азіру ўпаў у шаленства, выгнаў мяне з шатра і выкінуў следам мае гліняныя таблічкі. Але з лагера ён мяне не адпусціў, і я праводзіў вольны час, лечачы параненых і хворых ды выкупляючы на свабоду егіпецкіх палонных, якія цяжка пакутавалі ад непасільнай працы. Я выкупіў і некаторых жанчын, а некаторым даў атрутнае зелле, бо для іх лепшая была смерць, чым поўнае пакутаў жыццё ў хецкім палоне. Так праходзіў час, і праходзіў ён на маю карысць, бо я нічога не губляў, а страты Азіру раслі дзень пры дні, і ад гэтага ён так шалеў, што нават парваў срэбную сетку, якая аплятала яго бараду. Трэба сказаць, што Азіру загадаў віжам пільна сачыць за кожным маім крокам, бо апасаўся, што я разам з яго вяльможамі і ваяводамі арганізую змову, каб яго пагубіць. Зрабіць гэта было б вельмі лёгка, але я пра такое нават не думаў, бо меў занадта чуллівае сэрца, дый, апроч таго, ён быў маім сябрам. І вось аднойчы ўначы забойцы праніклі ў шацёр і паранілі Азіру нажом, але ён не памёр і забіў аднаго, а другога яго сын, прачнуўшыся, ударыў мечам у спіну так, што той таксама сканаў.

Наступным днём Азіру выклікаў мяне ў свой шацёр і, лаючыся самымі жахлівымі словамі, усю віну за замах узваліў на мяне. Я нават не на жарт спалохаўся, але адразу пасля гэтага Азіру абвясціў, што згодзен заключыць мір, і мір намі быў заключаны. Газа засталася пад уладай Егіпта, утаймаванне вольных атрадаў было прызнана справай Азіру, а фараону давалася права перавагі пры выкупе палонных. На такіх умовах мы падпісалі дамову аб вечнай дружбе, якая была занесеная на гліняныя таблічкі і замацаваная імёнамі тысячы егіпецкіх багоў і ў дадатак імем Атона. Азіру сыпаў праклёнамі, ставячы на гліняную таблічку сваю пячатку. Але і я, прыкладваючы егіпецкую пячатку, ірваў на сабе адзенне і плакаў горкімі слязьмі. Аднак урэшце ўсе былі задаволеныя, Азіру шчодра мяне адарыў, і я таксама абяцаў прысласць падарункі яму, яго сыну і ягонай жонцы з першымі ж караблямі, якія пойдуць з Егіпта ў Сірыю, калі настануць мірныя часы.



Мы рассталіся ў поўнай згодзе, Азіру нават абняў мяне і назваў сябрам, а я на развітанне падняў на рукі ягонага сына і дакрануўся вуснамі да ружовай шчакі хлопчыка. Аднак як Азіру, так і я ў глыбіні душы ведалі, што дамова, якую мы заключылі навечна, не вартая нават той гліны, на якой яна была напісаная, бо Азіру заключыў гэты мір, таму што яго вымусілі абставіны, а Егіпет — таму што так хацеў фараон Эхнатон. Гэты мір ні на чым не грунтаваўся, ён вісеў у паветры, адкрыты ўсім вятрам, і ўсё залежала ад таго, у які бок накіруюць сваю зброю хеты пасля заваёвы Мітанні. Шмат таксама залежала ад цвёрдасці Вавілоніі і ад караблёў Крыта, якія ахоўвалі марскія гандлёвыя шляхі.

Але так ці іначай, Азіру пачаў распускаць войскі па дамах, а мне даў ахову да Газы, і з гэтай аховай паслаў загад зняць безвыніковую аблогу. Аднак раней чым я трапіў у Газу, маё жыццё пабывала ў такой небяспецы, у якой не было ніколі. Калі я са сваёй аховай, якая махала пальмавымі галінамі і гучна крычалі аб міры, наблізіўся да гарадской брамы, егіпецкія абаронцы падпусцілі нас да самых муроў, а потым узяліся асыпаць стрэламі, дзідамі ды вялізнымі камянямі з баявых машын, так што я ўжо развітваўся з жыццём. Бяззбройны воін Азіру, які трымаў шчыт над маёй галавой, быў забіты стралой у горла і ўпаў на зямлю, абліваючыся крывёю, а яго таварышы кінуліся наўцёкі. А я застаўся на месцы, бо ад жаху мае ногі аслаблі, і ўпаў на зямлю, накрыўшыся шчытом забітага воіна. Я стагнаў ад жаху і лямантаваў што было сілы. А егіпецкія абаронцы Газы, убачыўшы, што стрэламі і дзідамі мяне не дастаць, пачалі ліць гарачую смалу з вялізных гаршчкоў, і яе гарачая хваля ўжо шыпела непадалёк ад мяне, але яе спынілі вялікія камяні, і я атрымаў толькі апёкі на руках і каленях.

Усе воіны Азіру з задавальненнем назіралі за гэтай карцінай і рагаталі, трымаючыся за жываты, бо відовішча было і сапраўды смешнае, але мне было не да смеху. Нарэшце егіпецкі военачальнік загадаў трубіць у трубу, — здаецца, мае жаласныя крыкі змякчылі жорсткія душы егіпецкіх воінаў, і яны злітаваліся з мяне, але вароты не адчынілі, а спусцілі з муроў трысняговы кош, у які я мусіў залезці разам са сваімі табліч-

камі і пальмаваю галінкай, а потым мяне пацягнулі наверх. На мой погляд, мур быў надта высокі, і я так калаціўся, што кош пачаў гайдацца, а воіны Азіру рагаталі яшчэ мацней, і іх смех грымеў, як бурныя марскія хвалі.

За ўсё гэта я злосна вылаяў начальніка гарнізона Газы, але ён аказаўся чалавек змрочны і ўпарты, і адказаў, што столькі нагледзеўся ўсякіх сірыйскіх хітрыкаў, што не адчыніць вароты нікому, пакуль не атрымае асабістага загаду ад Харэмхеба. Ён не паверыў, што мір заключаны, хоць я паказаў таблічкі і гаварыў ад імя фараона. Ён быў чалавек просты і ўпарты, і, напэўна, дзякуючы той упартасці Егіпет да гэтае пары не страціў Газу, і таму мне не варта было надта яго дакараць. У дадатак да ўсяго я заўважыў, што на мурах вісяць і сушацца скуры сірыйскіх палонных і палічыў за лепшае не надта раздражняць яго, хоць тое, як мяне ўсцягвалі на гарадскі мур, было вялікай абразай майму гонару і годнасці.

З Газы я адплыў у Егіпет і, на выпадак сустрэчы з непрыяцелем, загадаў узняць на мачце царскі штандар і сцяжкі, якія паказвалі на мірныя намеры. Праз гэта ўся карабельная каманда пачала пагарджаць мною, кажучы, што карабель, аздоблены і размаляваны такім чынам, падобны больш да распуснай дзеўкі, чым да прыстойнага карабля. Аднак калі мы дасягнулі ракі і пачалі плысці ўверх па цячэнню, і людзі збіраліся на берагах з пальмавымі галінкамі, услаўляючы мяне, бо я быў пасланцам фараона, які прывёз з сабой мір, вось тады мараплаўцы пачалі глядзець на мяне з павагай і забыліся на тое, як цягнулі мяне ўгору на гарадскіх мурах Газы.

Харэмхеб прачытаў мае гліняныя таблічкі і высока ацаніў майстэрства, з якім былі праведзены перамовы. Такая яго рэакцыя мяне нават здзівіла, бо звычайна ён ніколі не быў задаволены тым, што я рабіў. Але я зразумеў прычыну такой ласкавасці, калі даведаўся, што Крыт адклікаў свае ваенныя караблі, а значыць, яшчэ крыху і Газа апынулася б у руках Азіру, бо без марской падтрымкі крэпасць не ўтрымалася б, а прабіцца да яе па сушы Харэмхеб не адважваўся таму, што ўвосень яго войска загінула б у пустэльні ад смагі. Таму цяпер ён узносіў мне хвалу і, не марудзячы, рыхтаваў караблі з вайсковым падмацаваннем, харчамі і зброяй на падтрымку Газы.

Вяртаючыся ад Азіру, я сустрэў у Мемфісе пасла ад цара Бурабурыяша, які з багатымі дарункамі накіроўваўся да фараона. Я запрасіў яго на фараонаў карабель, які чакаў мяне ў Мемфісе, і мы паплылі разам. Нашае падарожжа было прыемным і лёгкім, бо пасол аказаўся велічным дзедам з белаю барадой па самыя грудзі і валодаў багатымі ведамі. Мы гаварылі пра зоркі, пра гаданне па авечай печані, а размовы на гэтыя невычарпальныя тэмы можна доўжыць бясконца.



Размаўлялі мы і пра дзяржаўныя справы, і тут я заўважыў, што ён напалоханы, як хутка расце магутнасць хетаў. Зрэшты, ён сказаў, што жрацы Мардука прадказваюць, нібыта ўлада хетаў будзе абмежаваная адным стагоддзем, а потым з заходніх земляў прыйдзе дзікі белы народ, які знішчыць іхняе царства так, што ад яго не застанецца і следу. Мяне не вельмі суцешыла, што ўлада хетаў будзе доўжыцца сто гадоў, бо выходзіла, што мне давядзецца цярпець яе ўсё астатняе жыццё. Але больш за ўсё мяне здзівіла, што з захаду прыйдзе нейкі народ, бо на захадзе няма ніякіх земляў, а толькі выспы ў моры, як гэта ўсім добра вядома. Але даводзілася верыць пачутаму, бо ў Вавілоне я пабачыў і паспытаў ужо столькі, што зоркам прызвычаіўся верыць больш, чым сваім ведам.

Пасол вёз з сабой выдатнае горнае віно, і мы весялілі гэтым чароўным напоем нашыя сэрцы. А ён распавядаў, што на вежы Мардука з'яўляюцца ўсё новыя сведчанні хуткага канца ўсіх часоў. І мы абодва разумелі, што жывём на астатнім крэсе сусвету, што хутка настане сусветная ноч і нас чакаюць вялікія змены: многія народы знікнуць, як нядаўна згінуў народ Мітанні, старыя багі забудуцца раней, чым нарадзяцца новыя, і пачнецца новы сусветны час. Пасол падрабязна распытваў мяне пра Атона, ківаў галавой і гладзіў бараду, слухаючы мой расказ і дзівячыся, што ў новага бога няма пэўнай выявы, што ўсе перад ім роўныя і ён жыве не ахвярамі, а любоўю паміж людзьмі, бо ўсе людзі ў яго вачах — браты, незалежна ад колеру скуры і мовы, і няма ў яго розніцы паміж багатым і бедным, рабом і вяльможам.

Вавілонскі пасол пагадзіўся, што падобнага бога на зямлі яшчэ не было і з'яўленне Атона — цвёрдая прыкмета таго, што канец свету блізкі. Бо вучэнне Атона, на яго думку,— нечувана небяспечнае, яно мяняе месцамі падлогу і столь і расчыняе ўсе дзверы, а чалавек, думаючы пра ўсё гэта, можа з'ехаць з глузду і пачаць хадзіць задам наперад і дагары нагамі. Яго багатыя веды прымусілі мяне змоўчаць, бо ён быў з Вавілона, а гэты горад — калыска нябеснай і зямной мудрасці, і, глыбока яго шануючы, я не хацеў, каб пасол мяне палічыў за дурня. Таму я палічыў за лепшае не выказваць яму сваю думку, што з'яўленне Атона і фараонава вера даюць усім народам непаўторную магчымасць, якая можа больш не надарыцца. Зрэшты, цяпер, асабліва пасля таго, як я пабываў на вайне, абпаліўшы на ёй свае калені і рукі і нагледзеўшыся на знявечаныя трупы, я і сам схіляўся да таго, што мае думкі — проста глупства. Пасля ўсяго, што я ўбачыў, мой розум падказваў мне, што людзі — крыважэрныя драпежныя львы, а зусім не браты адзін аднаму.

Так, у цікавых размовах, мы прыехалі ў Ахетатон, і я адчуваў, што мае апошнія вандроўкі надалі мне яшчэ больш мудрасці.

### 3

Пакуль мяне не было, у фараона зноў пачала балець галава, яго сэрца грыз неспакой, ён адчуваў, што ўсё, да чаго ён дакранаецца, прыносіць толькі няшчасці. Ад гэтага ўсё яго цела гарэла ў ліхаманкавых відзежах і ён усё больш чэзнуў. Каб супакоіць яго, жрэц Эйе вырашыў увосень пасля жніва, калі вада пачне падымацца, наладзіць свята ў гонар трыццацігоддзя царавання фараона. Тое, што напраўду фараон цараваў значна меней, не мела ніякага значэння, бо здаўна стала традыцыяй ладзіць такія святы, калі фараон пажадае. Так ягоны бацька ладзіў свята трыццацігоддзя некалькі разоў, і цяперашняе свята ніякім чынам не супярэчыла жаданню Эхнатона жыць толькі па праўдзе.

Усе прадказанні спрыялі такому святу, бо ўраджай быў даволі багаты, і хоць зерне засталося паплямленым, беднякі атрымалі свае меры напоўніцу. Я вярнуўся і прывёз з сабой мір, ад чаго ўсе гандляры ўзрадаваліся і чакалі аднаўлення гандлю з Сірыяй. Але самым галоўным для будучыні было тое, што пасол цара Бурабурыяша прывёз у жонкі фараону адну са шматлікіх царскіх сясцёр і перадаў просьбу прысла́ць вавілонскаму цару ў жонку адну з дачок фараона. Гэта азначала, што Вавілон хоча застацца хаўруснікам Егіпта, моцна баючыся хетаў.

Шмат хто з прыдворных лічыў, што аддаць егіпецкую царэўну ў жаночыя пакоі Вавілона — гэта абраза гонару і годнасці егіпецкіх фараонаў, бо свяшчэнная царская кроў не магла змешвацца з чужаземнай, хай сабе і царскай. Але фараон Эхнатон не бачыў у гэтым ніякай ганьбы. Ён толькі шкадаваў дачку, і яго сэрца сціскалася ад думкі, што дзяўчынка апынецца ў натоўпе незлічоных жонак на чужыне. Пры гэтым ён успамінаў мітаннійскіх царэўнаў, якія памерлі ў Залатым палацы Фіваў. Аднак дружба з Бурабурыяшам мела для фараона такое вялікае значэнне, што ён згадзіўся аддаць яму ў жонкі малодшую дачку, якой было толькі два гады. У сувязі з яе малалецтвам фараон пакуль прапаноўваў правесці толькі шлюбны абрад, у якім вавілонскага цара зможа прадстаўляць вавілонскі пасол, а дзяўчынку ён абяцаў прысла́ць у Вавілон пазней, калі яна дасягне жаночага паўналецця. Пасол з радасцю падтрымаў такое рашэнне, і, безумоўна, быў бы задаволены, калі б на месцы царэўны была дачка якога-небудзь егіпецкага вяльможы. Аднак, калі я паспрабаваў растлумачыць гэта фараону, той не стаў слухаць, бо гэта ішло супраць ягонай праўды.

Падбадзёраны новымі добрымі абставінамі, фараон забыўся на галаўны боль і атрымаў сапраўдную асалоду ад святаў трыццацігоддзя свайго царавання, а ўжо Эйе пастараўся наладзіць свята з вялікай раскошай. Спачатку перад фараонам паўсталі паслы краіны Куш, якія прывялі з сабой паласатых аслоў і плямістых жырафаў. У руках яны неслі маленькіх малпаў, стараючыся трымаць звяркоў як мага вышэй, каб іх не закрывалі стракатыя папугаі. Рабы пранеслі перад фараонам слановую косць і залаты пясок, страўсавае пер'е і куфэркі з чорнага дрэва, і безліч іншых дарункаў, якімі зямля Куш здаўна плаціла падаткі Егіпту. І мала хто ведаў, што гэтыя падарункі Эйе ўзяў з уласных фараонавых кладовак, а цяжкія кашы з залатым пяском усярэдзіне былі пустыя. Фараон, безумоўна, пра гэта не здагадваўся, а таму быў шчыра рады, гледзячы на такое багацце, і ўсхваляў вернасць зямлі Куш. Потым перад ім пранеслі падарункі ад Вавілоніі, крыцкі пасол падараваў фараону дзівосныя гарлачы і вазы, напоўненыя каштоўным алеем, Азіру таксама прыслаў свае падарункі, бо яму абяцалі падарункі ў адказ, апроч таго, гэта была выдатная магчымасць пашпіёніць у самім Егіпце і выведаць намеры фараона.

Такім чынам, той восенню пасля жніва ў Ахетатоне сабраўся ўвесь бляск старадаўняга Егіпта, дый сам Паднябесны горад у яркім святле выглядаў, як чароўная мроя ў атачэнні гэтага бляску й багацця. Уся знаць Егіпта навыперадкі ўслаўляла фараона Эхнатона і спаборнічала, выдумляючы ўсё новыя ступені найвышэйшай ухвалы. Раскошнае відовішча ўяўляла гарадская варта, воіны якой прайшлі роўнай хадой з левай нагі, наканечнікі дзідаў палалі ў яркім святле, а дрэўкі пераліваліся сінім, хоць дзіды былі абсалютна бяскрыўдныя і нікому не маглі прынесці шкоды, бо цалкам, разам з наканечнікамі, былі зробленыя з дрэва і адпаведным чынам пафарбаваныя, але чужаземцам яны здаваліся меднымі, і тыя дзівіліся фараонавай моцы.

Пасля шэсцяў і цырымоніяў фараон Эхнатон прывёў у храм Атона сваю маленькую дачку, якой не было і двух гадоў і яна яшчэ хадзіла няўпэўненай дзіцячай хадою. У храме ён загадаў ёй стаць побач з вавілонскім пасло́м, і жрацы разбілі паміж імі гарлач, як таго патрабаваў звычай. Гэта была вялікая хвіліна, якая пацвярджала саюз і дружбу паміж Вавілонам і Егіптам і знішчала многія небяспечныя цені над будучыняй. Прынамсі, мы лічылі, што цяпер мы зможам пазбегнуць шмат якіх цяжкасцяў. Так думалі ўсе, хто ведаў сапраўднае становішча рэчаў і абмяркоўваў адносіны паміж нашымі народамі. А калі б мы і пачалі сумнявацца ў гэтым, дык кіслыя выразы на тварах амарэйскіх і хецкіх паслоў, развеялі б нашы сумневы, павялічыўшы радасць.

Пасол Вавілона ў глыбокім паклоне схіліўся перад маленькай царэўнай, бо з гэтай хвіліны яна, нягледзячы на свой узрост, стала царскай жонкай яго ўладара, цара Бурабурыяша. Ён ушанаваў царэўну паклонам на егіпецкі лад, а потым зрабіў гэта па-вавілонску, прыціснуўшы рукі да грудзей і да ілба. Мне расказвалі, што ў час гэтай урачыстай цырымоніі маленькая царэўна паводзіла сябе выдатна, а пасля заканчэння нахілілася, падняла з падлогі чарапок ад разбітага шлюбнага гар-

лача і пачала ўважліва яго разглядаць. Прысутныя ацанілі гэта, як вельмі добрую прыкмету.

Пасля ўсіх гэтых свяшчэнных дзействаў фараона ахапіла хвалякванне. Ён любіў дачку, але, аслеплены бляскам багацця і ўлады, яшчэ больш чым раней верыў падманлівым мроям. Таму, парушаючы цырыманіяльны парадак, ён звярнуўся ў храме Атона з прамовай да чужаземных паслоў, егіпецкіх вяльможаў і гаротных воінаў гарадской аховы. Ён гаварыў ад шчырага сэрца — так, што сляды знямогі і хваробы зніклі з ягонага твару, а шчокі паружавелі ад прыліву крыві. Ён высокім галасам усхваляў Атона, ён казаў, што бачыць, як над зямлёй уздымаецца яркі світанак, які змяняе ноч невуцтва, забабонаў, страху, варожасці і войнаў. Усю моц і багацце Егіпта ён аддае на службу Атону і заклікае паслоў чужаземных краінаў данесці звесткі пра гэта ў свае землі, да сваіх уладароў, каб святло разагнала цемру, якая ахутвае іхнія душы. Ён прамаўляў так прыгожа і так доўга, што егіпецкія вяльможы пачалі заклапочана пераступаць з нагі на нагу, а замежныя паслы не адважваліся падняць вочы, каб не сустрэцца позіркамі, бо з прычыны такіх паводзінаў фараона, якія не адпавядалі прынятым звычаям, такой яго натхнёнай палкасці, якая не стасавалася з яго царскай вяльможнасцю, і такіх яго словаў, якія гучалі ў іх вушах як трызненне вар'ята, усе рашылі, што ён з'ехаў з глузду.

А маё сэрца, пакуль я слухаў прамову фараона, поўнілася горыччу. Я адчуваў боль у незагоеных руках і каленях, абпаленых гарачай смалой пад мурамі Газы. Я думаў, што фараону лёгка казаць прамовы, бо ён не дыхаў смуродам трупаў і не чуў смяротнага енку жанчын, якіх катавалі хеты ў лагеры амарэйцаў. Яму лёгка так гаварыць, таму што ён жыве ў ілжы і ашуканстве і дыхае духмяным паветрам Ахетатона, а жрацы з ранку да вечара, дагаджаючы яму, узносяць хваласпевы Атону. Яму лёгка так гаварыць, бо перад ім носяць цяжкія кашы з залатым пяском і махаюць страўсавымі пёрамі, тым часам, як зняможаны народ вымушаны харчавацца псаваным зернем, а дзеці паміраюць ад ліхаманкі і захворванняў жывата. Пакуль я слухаў фараонавы словы, чары Ахетатона згаслі ў маёй душы і ў сэрцы не засталося добрых пачуццяў да Эхнатона, бо раскоша і багацце Егіпта былі падобныя ў маіх вачах не да світальнай зараніцы, а да полымя захаду, якое гарыць ярчэй за пажар, бо, спускаючыся за заходнія горы, сонца разлівае над светам гусцейшае барвянае святло, чым на світанні, і ў гэтым святле — пагроза, бо яно прадказвае кроў і смерць.

Пакуль фараон прамаўляў, я глядзеў халоднымі вачыма на яго прыхільнікаў, якія верылі кожнаму яго слову і, расчырванеўшыся, як ён сам, слухалі яго з разяўленымі ратамі. Але царыца Неферціці стаяла яго з выцягнутым тварам, і яе позірк быў вастрэйшы за нож і халаднейшы за смерць. Да свята трыццацігоддзя яна спадзявалася нарадзіць фараону сына, але зноў нарадзіла дзяўчынку, ад чаго розум яе памуціўся, роспач перамагла ў яе сэрцы каханне, і яна стала абыякавай да фараона, вінавацячы яго ва ўсіх сваіх бедах, як гэта часта ўласціва ўсім жанчынам. З тае пары яны пачалі часта сварыцца і абменьвацца калючымі і з'едлівымі словамі, а новыя мастакі, такія вялікія прыхільнікі праўды, неяк намалявалі, як яны пускаюць стрэлы адно ў аднаго, гэтым жартам яны думалі суцешыць фараонаўскую пару і памірыць іх, не разумеючы, як глыбока ў сэрца Неферціці пранікла роспач і адчай.



Але менавіта дзякуючы гэтай роспачы царыца Неферціці выразней за іншых бачыла, як далёка ў сваім шалёным захапленні ўладай зайшоў фараон, перасягнуўшы ўсякія межы, дазволеныя звычаямі, і якую шкоду сваёй годнасці ён прынёс такою прамовай. Яна ніякім чынам не стала хаваць гэтага горкага разумення, калі яны вярнуліся ў палац, а ён, усё яшчэ захоплены, ніяк не мог супакоіцца, шпарка хадзіў сюды-туды, сціскаючы кулакі і ўздымаючы позірк да столі, нібы нават скрозь дах мог бачыць свайго Атона. Яна прамаўляла так, як гэта ўмеюць жанчыны, і яе словы ўмелі супакойваць фараона, хоць часам і кусалі балюча, як злыя мухі. Але цяпер ён не слухаў яе, бо лунаў недзе высока ў сваіх паднябесных мроях і відзежах і ўсё больш распаляў сябе, пакуль не прыйшоў у канчатковае шаленства, і нават лекар не мог супакоіць яго. Фараон не мог ні заснуць, ні нават ляжаць на ложку — ён хадзіў узад і ўперад, бясконца гаварыў пра Атона, узіраўся ў толькі яму бачнае святло і сутаргава ўздымаў рукі, цвёрда ўпэўнены, што толькі ён можа пазбавіць свет ад страху і цемрашальства. Ён не змог заснуць нават пасля таго, як я даў яму супакаяльнае і снатворнае зелле.

— Ах, ах, Сінухе,— казаў ён,— гэта самы шчаслівы дзень у маім жыцці! Мяне аж самога трасе ад маёй сілы! Паглядзі, паглядзі, о адзіны, ты ствараеш з сябе, са сваёй моцы мноства фігур, ты ствараеш гарады і вёскі, шляхі па вадзе і па сушы. Усе людскія позіркі скіраваныя да цябе, у вышыню, калі ты з нябёсаў асвятляеш землі. Але як толькі ты хаваешся, людзі, твае стварэнні, заплюшчваюць вочы і спяць, бо няма цябе болей, ты схаваўся! Але і тады тваё святло гарыць у маім сэрцы нябачна і ярка!

Ён лунаў у вышыні, сярод нікому нябачнага святла, якое выпальвала яму сэрца, ён цяжка дыхаў, нібы сэрца было гатовае разарвацца ў яго грудзях, і потым, глыбока ўздыхнуўшы, натхнёна заспяваў:

Няма нікога другога, хто спазнаў бы цябе, ва ўсім свеце,
толькі адзіны твой сын, фараон Эхнатон, спасцігае,
і вечна палаеш ты ў сэрцы ягоным
удзень і ўначы, днём спякотным і ноччу халоднай.
Ты яму аднаму адкрываеш задумы свае і турботы,

і ўвесь свет на далоні тваёй спачывае
такім, як стварыў ты яго.
Ты з'яўляешся, і чалавек ажывае пад ласкавым цяплом,
ты знікаеш, і без святла чалавек памірае,
ты крыніца жыцця чалавека,
і толькі ў табе ён жыве.

Яго натхненне было такое вялікае, што, каб не быў лекарам і не аберагаў яго здароўе, я сам паддаўся б ягоным чарам. Але я паспрабаваў яго супакоіць і, узяўшы за хударлявую руку, пачаў лічыць пульс, і яго сэрца білася часцей, чым падалі кроплі з вадзяного гадзінніка-клепсідры, і кроў не паспявала адліваць ад яго галавы. Ноч павольна цякла, і зоркі паволі плылі па начным небе, у вялізным палацы панавала мёртвая цішыня, і толькі фараон не спаў, а разам з ім і я, ягоны лекар. Раптам у нейкім далёкім пакоі пачаў выць сабачка. Яго жаласны голас пранікаў праз усе сцены і нарэшце стаў падобны да голасу шакала, які прадвяшчае смерць. Такія гукі заўжды страшаць чалавека, але асабліва жахліва гучаць перад світаннем, калі і чалавек, і жывёла найбольш набліжаюцца да смерці. Таму фараон абудзіўся ад сваіх мрояў, кроў адліла ад галавы, твар зрабіўся зямліста-шэры і раптоўна схуднеў, а вочы пачырванелі. Бог выйшаў з яго, і вонкі зноў выплыла чалавечая натура з усімі страхамі, турботамі і любоўю, якія напаўнялі бацькоўскае сэрца. Таму ён кінуўся праз усе пакоі, і я рушыў за ім, каб асвятляць яму дарогу свяцільняй. Мы дабеглі да пакоя, дзе ляжала царэўна Мэкетатон. Сп'яненелыя ад свята, віна і добрага пачастунку слугі заснулі мёртвым сном і пакінулі хворую без нагляду. Толькі маленькі сабачка ў нагах аберагаў сон дзяўчынкі, і калі ўначы хворая пачала кашляць, заліваючы ложак крывёю, сабачка нічым не мог ёй дапамагчы, а толькі пяшчотна лізаў дзіцячы тварык, а потым завыў, прадвяшчаючы смерць, бо сабакі лепш за людзей адчуваюць яе набліжэнне. Так памерла маленькая царэўна — на досвітку, на руках у свайго бацькі Эхнатона, і ўсё маё майстэрства нічым не змагло ёй дапамагчы. Па ўзросце яна была другая дачка ў фараона — ёй тады толькі споўнілася дзесяць год.

Я таксама плакаў над ёй, бо смерць дзіцяці заўсёды страшнейшая за смерць дарослага чалавека. А жальба фараона была наогул жахлівай. Я нават баяўся, што ён таксама памрэ, бо кожнаму пачуццю ён аддаваўся болей глыбока, чым звычайныя людзі. Таму я стараўся суцешыць яго і казаў:

— Фараон Эхнатон, я не пашкадаваў бы свайго жыцця, каб пазбавіць цябе ад гэтага гора. Але ўсякая кветка заўжды прыгажэйшая да таго, як цалкам распусціцца, а бязгрэшная смерць заўжды прыгажэйшая за грахоўную. Можа, твой бог так моцна палюбіў тваю маленькую дачку, што забраў яе ў свой залаты човен да часу, каб ёй не давялося паспытаць паўдзённай спёкі і начной сцюжы, зведаць жальбу і боль, бо чалавечае жыццё падобна да распаленага пылу, а смерць — гэта халодная свежая вада. Напраўду, фараон Эхнатон, яна будзе жыць вечна — яе залаты шарык не ўпадзе ніколі, іваўчок не перастане круціцца. Спрактыкаваныя майстры ў Доме смерці пакрыюць яе пальцы залатымі напарстнямі і зберагуць яе твар і пяшчотнае цела, спавіўшы іх царскім ільном, каб яна жыла вечна, не ведаючы ні гора, ні бяды.



Так я казаў фараону, спрабуючы суцешыць, бо цяпер, у час скрухі, адчуваў да яго любоў і спагаду, якіх не мог адчуваць, калі ён у шалёным натхненні захапляўся сваёй уладай. Перапалоханыя слугі змылі кроў з упалых дзіцячых шчок, і, здавалася, на схуднелым твары ўзнікла лёгкая ўсмешка. Я не надта вінаваціў сябе, што апошнім часам нічога не рабіў для яе: гэта і не было маім абавязкам, бо ў яе быў уласны лекар. Маленькага сабачку панеслі прэч, і ён, не сціхаючы, выў, выказваючы такім чынам сваю шкадобу.

А да фараона Эхнатона ніхто не асмельваўся наблізіцца, пакуль мае лекі нарэшце не пачалі дзейнічаць. Ён заснуў толькі на світанні, і насільшчыкі з Дома смерці паспяшаліся забраць цела маленькай царэўны, тым самым пазбавіўшы яго ад цяжкага развітання з дачкою. Бальзамоўшчыкі не палічылі за ганьбу набальзамаваць і труп сабачкі, які памёр ад смутку пасля таго, як гаспадыню забралі ў Дом смерці.

Пакуль мыйшчыкі трупаў у Доме смерці займаліся сваёй справай, фараон страціў спакой, ён бадзяўся начамі па ўсім палацы, блукаў у садзе і забараняў усім хадзіць за ім следам, адганяючы нават ахоўнікаў. На свята трыццацігоддзя ў Ахетатон прыехала шмат усякага люду, і аднойчы, калі фараон Эхнатон ішоў па беразе свяшчэннага возера, на яго напалі два падасланыя забойцы з нажамі. У той час каля возера сядзеў адзін юнак, вучань Тутмеса, які маляваў качак, бо Тутмес не дазваляў вучням замалёўваць толькі ўзоры, прымушаючы маляваць тое, што бачыш у жывой прыродзе, а не тое, што ведаеш пра яе, бо намаляваць тое, што бачыш, значна цяжэй, чым тое, што завучыў бяздумна. Гэты юнак адбіў напад забойцаў сваім пісалам і пратрымаўся, пакуль на дапамогу не прыбеглі ахоўнікі. Такім чынам фараона толькі лёгка паранілі ў плячо, а вось юнак ад ранаў памёр, і яго кроў пралілася на рукі фараону. Так смерць, якую раней фараон не ведаў, пачала неадступна хадзіць за ім.

Мяне спешна выклікалі перавязаць фараонаву рану, якая, на шчасце, аказалася не глыбокая. Убачыў я і забойцаў: у аднаго галава была чыста паголеная, а ў другога за нейкае ганебнае злачынства былі адрэзаныя вушы, і ён не мог глядзець людзям у вочы. Пакуль воіны звязвалі іх вяроўкамі, яны выкрыквалі страшныя праклёны фараону ў імя Амона, і не змаўкалі, нават калі ахоўнікі білі іх дрэўкамі дзідаў па вуснах, і

кроў цякла па іх тварах. Відаць, гэта жрацы Амона зачаравалі іх так, што яны не адчувалі болю.

Гэта быў жахлівы выпадак, бо раней ніводзін просты смяротны не асмельваўся падняць руку на свяшчэнную фараонаву асобу. Я маю на ўвазе тое, што і раней фараоны ў Залатым палацы паміралі не сваёй смерцю, але гэта рабілася з дапамогай атруты, падушкі ці тонкага шнура, — так, каб не засталося ніякіх слядоў, і гвалтоўную смерць можна было схаваць ад народа. Я пражыў у Залатым палацы даволі доўга і ведаў, што часам фараонам нават рабілі трэпанацыю чэрапа супраць іх волі. Але вось так, у адкрытую, падняць руку на фараона не асмельваўся ніхто. Апроч таго, цяпер было шмат сведкаў, і схаваць замах было немагчыма, тым болей, што фараон Эхнатон нікога не пасылаў у руднікі навечна, каб назаўсёды прышчаміць доўгія языкі.

Жрацы Амона паспяшаліся растлумачыць народу і сваім прыхільнікам, што ўзняць руку на несапраўднага фараона — значыць дагадзіць Амону, і той, каму яго ўдасца забіць, заслужыць вечнае жыццё, нават калі яго цела не збережажэцца. У сваіх патаемных казанях жрацы Амона абвясцілі фараона Эхнатона незаконным, а значыць, любы чалавек мог падняць на яго руку. Іншая рэч — законны і богабаязны цар: на яго нападаць ні ў якім выпадку нельга, бо тады забойца будзе асуджаны на вечныя пакуты ў апраметнай і на ўсе жахі ў пашчы Ахмі.

Затрыманых дапыталі ў прысутнасці фараона, але яны адмовіліся адказваць на пытанні. Удалося толькі высветліць, што яны прыехалі з Фіваў і ўсю ноч хаваліся ў садзе. Ужо адно тое, што ўпаміналіся Фівы, сведчыла, хто іх паслаў. Але больш яны гаварыць не захацелі і пачалі толькі гучна заклікаць на дапамогу Амона ды праклінаць Эхнатона, хоць воіны і білі іх дрэўкамі дзідаў па твары. Пачуўшы пра Фівы, фараон да таго ашалеў, што дазволіў ахоўнікам не спыняць катаванні. Падасланым забойцам ужо выбілі зубы, знявечылі твары, а яны ўсё адно заклікалі Амона. Фараон ужо загадаў перастаць іх біць, а яны ў запале крычалі:

— Можаш катаваць нас, ілжывы фараон! Загадай паламаць нам косці, парэзаць нас на кавалкі, спаліць нам скуру, а мы ўсё адно не адчуем болю!

Нарэшце фараон авалодаў сабой і засароміўся, што дазволіў ахоўнікам біць палонных па тварах. Тады ён загадаў:

— Адпусціце іх, яны не ведаюць, што робяць.

Аднак калі воіны пачалі развязваць вяроўкі, палонныя, здавалася, зусім звар'яцелі, пена выступіла ў іх на вуснах, і, сыплючы праклёнамі, яны закрычалі:

— Забі нас, ілжывы фараон! Дзеля Амона падаруй нам смерць, каб мы заслужылі вечнае жыццё!



Калі ж яны зразумелі, што фараон намерыўся вызваліць іх без пакарання, то вырваліся з рук воінаў, разагналіся праз увесь двор і, ударыўшыся галовамі аб сцяну, неўзабаве сканалі. Такая вялікая была таемная ўлада Амона над душамі людзей.

Пасля гэтага выпадку ўсім у Залатым палацы стала зразумела, што зараз жыццё фараона Эхнатона будзе заўсёды ў небяспецы. Таму адданыя яму людзі ўзмацнілі ахову і не дазвалялі яму надоўга знікаць з вачэй, хоць у сваёй жальбе фараон хацеў хадзіць па берагах свяшчэннага возера ў самоце. Зрэшты, ён і лічыў, што ходзіць адзін, але нябачныя вочы сачылі за кожным ягоным крокам. Сапраўдныя прыхільнікі Атона загарэліся яшчэ большай верай, а тыя, што далучыліся да іх толькі дзеля ўлады ды выгодаў і баяліся страціць сваё становішча, падвоілі сваё стараннне на фараонавай службе. Так у абодвух царствах разгаралася супрацьстаянне прыхільнікаў Атона і Амона, і гэта разлучала жонку з мужам, сына з бацькам, а брата з сястрой.

Гэта зараз жа выявілася ў Фівах, дзе ў гонар трыццацігоддзя і каб падкрэсліць магутнасць фараона наладзілі такія самыя шэсці і святы, як у Ахетатоне: тут гэтак сама неслі кашы з залатым пяском і страўсавы пёры, па беразе вялі пантэраў, жырафаў ды маленькіх малпаў, праносілі ў клетках папугаяў з бліскучымі стракатым пер'е, — і ўсё гэта рабілася, каб народ, упэўніўшыся ў ранейшай фараонавай моцы і веліччы, услявіў яго. Але жыхары Фіваў глядзелі на шэсці змрочна і моўчкі, а часам на вуліцах успыхвалі бойкі, з каўняроў прыхільнікаў Атона зрывалі крыжы, і двух жрацоў Атона нават збілі да смерці, калі тыя асмеліліся паказацца ў натоўпе без аховы.

Самае горшае было, што чужаземныя паслы сачылі за святочнымі шэсцямі і сталі сведкамі беспарадкаў, даведаўшыся ў тым ліку пра замах на фараона, бо схаваць яго, дзякуючы ўпартасці самога Эхнатона, было немагчыма. Думаецца мне, пасол Азіру павёз свайму ўладару ў Сірыю шмат прыемных звестак. Апроч таго, ён вёз шмат каштоўных падарункаў ад фараона, дый я таксама паслаў дары Азіру і ягонай сям'і. Яго сыну я паслаў цэлае войска: па-майстэрску выразаных з дрэва і размаляваных воінаў з дзідамі і лукамі, калясніцы з пазалочанымі бакамі, вочы ў воінаў былі зробленыя з простых чорных камянёў, а ў начальнікаў — з каштоўных. Такі падарунак каштаваў даражэй за ўсе астатнія мае падарункі Азіру, але ж і яго сэрцу не было нічога даражэйшага за яго сына.

Увесь гэты час фараон Эхнатон вельмі пакутаваў і змагаўся з сумненнямі, якія апаноўвалі яго сэрца і аслаблялі веру, і аднойчы ўначы ён горка скардзіўся, што відзежы больш не наведваюць яго, і Атон адвярнуўся ад свайго слабага сына. Але нарэшце ён змог павярнуць разуменне няўдалага замаху на сваю карысць і яшчэ болей умацаваць сваю веру ў

тое, што яму наканаваныя вялікія здзяйсненні і наперадзе чакаюць значна важнейшыя ўчынкі, бо ў Егіпце яшчэ шмат страху і цемрашальства. Ён паспытаў горкага хлеба нянавісці, глынуў салёнай вады злосці і варожасці, і гэты хлеб не наталіў яго голаду, як і вада не наталіла смагі. Але сам ён паверыў, што робіць усё толькі дзеля дабра і любові, а ўсё кепскае ідзе ад жрацоў Амона. Таму ён загадаў узмацніць ганенні на тых, хто адважыцца прамовіць уголас імя Амона, і ссылаць іх на руднікі. На жаль, больш за ўсіх ад такога загаду пацярпеў просты люд, бо таемная ўлада жрацоў Амона была яшчэ моцнай, і царская ахова баялася іх чапаць, гледзячы на іх справы праз пальцы. Такім чынам, варожасць нараджала варожасць, і неспакой у краіне ўзрастаў усё больш.

Фараон Эхнатон не меў спадкаемцаў трона, а таму, каб умацаваць сваю ўладу, вырашыў аддаць двух старэйшых дачок, Мэрытатон і Анкесенатон, за сыноў двух самых адданых яму вяльможаў. Па яго загадзе Мэрытатон разбіла гарлач з юнаком, якога звалі Сменхкара. Ён меў чын Царскага чашніка ў Залатым палацы, дзе правёў усё жыццё і аддана служыў Атону. Гэта быў палкі пятнаццацігадовы падлетак. Як і фараон, ён мроіў наяве і, маючы слабую волю, ва ўсім падпарадкоўваўся моцнай руцэ фараона, ад чаго той любіў яго больш за іншых. З гэтай прычыны Эхнатон, які ўжо не спадзяваўся займець сына, загадаў каранаваць Сменхкару царскай каронай і абвясціў сваім пераемнікам.

Анкесенатон разбіла гарлач з дзесяцігадовым хлопчыкам, якога звалі Тут, і які насіў тытулы Царскага конюха і наглядчыка за царскімі будаўнічымі работамі і каменяломнямі. Гэта быў хваравіты хударлявы хлопец, які гуляў з лялькамі, любіў салодкае і быў вельмі рахманым і паслухмяным дзіцём. Ніякіх дрэнных рысаў у яго характары не было, як не было і надта добрых. Ён верыў усяму, што яму расказвалі, а потым паўтараў слова ў слова ўсё, што чуў ад апошняга суразмоўцы. Абодва гэтыя хлопчыкі належалі да старых высакародных сем'яў Егіпта, і, аддаючы за іх сваіх дачок, фараон Эхнатон хацеў мацней прывязаць гэтыя магутныя старадаўнія рады і да сябе, і да Атона. Апроч таго, абодва хлопчыкі вельмі яму падабаліся, бо не мелі ўласнай волі, а фараон Эхнатон у сваёй утрапёнасці не цярпеў непаслушэнства і супярэчных словаў і не слухаў сваіх дарадцаў.

Звонку ўсё выглядала па-ранейшаму, але смерць маленькай царэўны і яе сабачкі, як і замах на фараона былі благімі прыкметамі, хоць самым горшым было тое, што фараон закрыў свае вушы ад усіх зямных галасоў і прыслухоўваўся толькі да сябе. Ад таго жыццё ў Ахетатоне стала болей змрочным, усё радзей чуўся смех на вуліцах, а людзі размаўлялі прыцішанымі галасамі, нібыта нейкі страх лунаў у паветры. Часта бывала, працуючы, я нібы прачынаўся, пачуўшы раўнамернае паданне кропляў з клепсідры, і, зірнуўшы ў вакно, разумеў, што ў горадзе пануе



мёртвая цішыня: не было чуваць ні грукату колаў, ні чалавечага смеху, ні птушынага стрекату, — чуліся толькі гукі вадзяных кропель, якія адмяралі бясконцы час. І для мяне гэтыя гукі былі самымі злавеснымі, бо мне здавалася, што некалі адмераны тэрмін набліжаецца да канца. Я дакараў сваё сэрца за неразумнасць і запэўніваў сябе, што час ніколі не зможа закончыцца, як не можа закончыцца вада ў гадзінніку. І вось зноў паўз мой дом па вуліцы ехалі павозкі, на галовах коней калыхаліся страўсавы пёры, і грукат колаў змешваўся з вясёлым гоманам слуг на кухонных падворках. Тады я супакойваўся і думаў, што гэта быў толькі дрэнны сон.

Але часам здараліся і халодна-празрыстыя імгненні, калі я адчуваў, што горад Ахетатон — усяго толькі прыгожая скурка плода, які даўно ўжо выедзены знутры. Чарвяк часу выеў сэрца вясёлага бесклапотнага жыцця, і радасць згасла ў Ахетатоне, і змоўк смех на ягоных вуліцах. Таму маё сэрца пачало зноў маркоціцца па Фівах, і я знайшоў безліч прычын, па якіх павінен быў неадкладна паехаць у Фівы, і нават фараон не змог забараніць маю паездку — такія важныя справы вялі мяне ў Фівы. Гэтак сама рабілі і многія іншыя, якія былі ўпэўненыя, што ўсім сэрцам любяць фараона Эхнатона, — але і яны пакідалі Ахетатон, нібыта дзеля нагляду за сваімі землямі ці каб наведаць родзічаў. І яны плылі, хто ў Мемфіс, а хто ў Фівы. Большасць усё ж вярталіся ў Ахетатон, але былі і такія, хто больш не даражыў фараонавай прыхільнасцю і з вялікай ахвотай вяртаўся пад патаемную ўладу Амона. Але я ехаў у Фівы, нібыта каб паклапаціцца аб сваёй маёмасці, дзеля чаго Каптах па маім загадзе своечасова даслаў мне безліч справаздачаў, якія пацвярджалі ў вачах фараона неабходнасць маёй паездкі.

**4**

Падняўшыся на карабель, я адчуў, што мая душа нібы вызвалілася ад нейкага наслання. Вакол зноў была вясна, разводдзе заканчвалася, і ластаўкі жвава насіліся па-над жоўта-бурай ракой. Урадлівы глей асядаў на палях, квітнелі садовыя дрэвы, і я імкнуўся наперад усім сэрцам, поўным няяснай вясенняй асалоды, нібыта я быў жаніхом, які спяшаецца да сваёй каханай нявесты. Напэўна, можна сказаць, што чалавек — раб свайго сэрца, бо ён стараецца забыць усё непрыемнае, а верыць толькі жаданаму. Вось і маё сэрца, вызваліўшыся ад чараў і патаемнага страху Ахетатона, радавалася цяпер, як птушка, выпушчаная з клеткі, бо чалавеку цяжка жыць увесь час звязанаму чужой воляй, а ўсе, хто жыў у Ахетатоне, згіналіся пад неўтаймоўнай воляю фараона Эхнатона і схіляліся перад яго ўтрапёнасцю. Для мяне ж ён быў простым чалавекам, якога я лячыў, і ад таго цярпець гэтае рабства мне было цяжэй, чым тым, для каго ён быў боскай асобай.

Я радаваўся, што зноў магу глядзець на свет сваімі вачыма, слухаць яго галасы сваімі вушамі і жыць, як сам таго пажадаю. Я паступова вызваляўся ад фанабэрыі і горычы, а таму мог бачыць фараона такім, якім ён быў папраўдзе. І чым далей я адплываў ад яго, тым выразней яго бачыў і жадаў яму толькі дабра. Чым бліжэй я падплываў да Фіваў, тым больш ажывалі мае ўспаміны і тым болей велічным здаваўся мне фараон Эхнатон з яго богам, які засланяў у маім сэрцы ўсіх астатніх багоў, і Амона ў тым ліку.

Я ўспомніў той страх, якім Амон звязваў сэрцы людзей, і як душыў ён імкненне да ведаў і не дазваляў задаваць пытанне «чаму?». Я ўспомніў мёртвага крыцкага бога, які гайдаўся ў гнілой вадзе, успомніў яго ахвяраў, навучаных танчыць перад бычынымі рагамі на пацеху страшыдлу. І чым больш я думаў пра гэта, тым больш распалялася ў маім сэрцы нянавісць да ўсіх ранейшых багоў, а светлае ззянне Атона разгаралася з небывалаю сілай. Атон вызваляў людзей ад страху і пранікаў паўсюль — ён быў ува мне, па-за мной і па-за маімі вучонымі ведамі. Атон быў жывым богам, бо жыла і дыхала прырода, бо ясныя сонечныя промні саграваліі зямлю і зямля квітнела. Але Атон прасвятляўся ў маім сэрцы толькі ўдалечыні ад фараона Эхнатона, бо жывучы з ім побач, я бачыў у ім толькі чалавека. Апроч таго, жыццё разам з ім было цяжкім таму, хто хацеў жыць па загаду свайго сэрца: фараон гвалтам навязваў Атона ўсім і кожнаму, а такі прымус нараджаў супраціў і пратэст, адбіваючы людзей ад Атона. Таму многія служылі новаму богу толькі ад страху, і Атон у іх вачах быў нічым не лепшы за Амона.

Усё гэта я спасціг, пакуль плыў уверх па рацэ пад светлым сінім небам, у цёплым сонечным святле паўз квітнеючыя берагі. Я зразумеў гэта таму, што нічога не аказвае такога жыватворнага ўплыву на чалавека, як падарожжа без дакладна вызначаных задачаў і абавязкаў, нязвыклае атачэнне і адзінота. Я думаў пра сябе і адчуваў сорам, бо багатае жыццё ў Ахетатоне зрабіла мяне надта сытым, а падарожжа ў Сірыю сапсавала і зрабіла самаўпэўненым і пыхлівым: я нават палічыў, што нешта разумею ў кіраўніцтве дзяржавамі і ведаю, як можна прымірыць народы. Сапсавала мяне і падарожжа з вавілонскім паслом, пасля якога я палічыў сябе недасягальна мудрым. Толькі цяпер, калі заслона апала з маіх вачэй, я спасціг, што мудрасць вавілонскага пасла і ўся мудрасць навукоўцаў Вавілона — гэта мудрасць зямная і яе значэнне самае прызямленае.

Яны не змаглі прачытаць па печані авечкі пра боскага чалавека — яны вычытвалі па ёй толькі пра зямныя справы людзей, пра іх поспехі, шлюбы, колькасць дзяцей, пра чалавечыя злачынствы, але прачытаць што-небудзь у чалавечым сэрцы яны не маглі. Зоркі плылі па небасхіле сваімі дакладна разлічанымі шляхамі, пакорліва апускаючыся ў вызначаных месцах, і яны чыталі па зорках пра будучы ўраджай, гады царавання і гібелі царстваў, але не маглі прачытаць нічога пра боскі пачатак у чалавеку, а значыць, само гэта ўменне не было боскім. Гэтыя думкі прымусілі мяне змірыцца, і я пакорліва схіліў галаву перад тым боскім, што жыло ўва мне, як і ў кожным чалавеку, — перад тым, што фараон Эхнатон называў адзіным богам Атонам. Але, на жаль, у мяне не было ні волі фараона, ні яго мужнасці. Таму я пакорліва схіляў галаву перад неспасцігальнасцю свайго сэрца і быў гатовы прызнаць, што багоў на свеце гэтулькі ж, колькі існуе чалавечых сэрцаў. Аднак я лічыў, што ёсць такія людзі, якія прайшлі свой шлях ад нараджэння да магілы, так і не зведаўшы прысутнасці бога ў сваім сэрцы. А гэты бог не быў ні ведамі, ні разуменнем, ён быў большым і за веды, і за разуменне.



Так, я верыў у памыснае і радаваўся ўсякаму сэрцу, адчуваючы сябе добрым, не такім, як іншыя. Калі быць шчырым, я адчуваў сябе нават дабрэйшым за Эхнатона, бо нікому не рабіў зла свядома, нікому не навязваў сваю веру, а ў маладыя гады лячыў бедны люд без усялякай узнагароды. Цяпер жа, падарожнічаючы ўверх па рацэ, я паўсюль бачыў сляды, пакінутыя фараонавым богам: была самая пара сяўбы, але амаль палова палеткаў ляжала неапрацаванай і незасеянай ад недахопу насення, буялі пустазелле й дзядоўнік, а неачышчаныя каналы запруджваў глей, што застаўся пасля разводдзя.

Амон магутна валодаў сэрцамі тутэйшых людзей, выганяючы навасёлаў са сваіх былых земляў і насылаючы праклён на палі фараона, так што рабы і вольныя земляробы ўцякалі ў гарады. А тыя сяляне, якія яшчэ заставаліся жыць у сваіх хацінах, былі запалоханыя і злосныя. Я казаў ім:

— Дурні! Чаму вы не засяваеце свае палеткі, вы ж сканаеце ўзімку ад голаду!

А яны варожа глядзелі на мяне, бо на мне была вопратка з тонкага льну, і адказвалі:

— Навошта мы будзем сеяць, калі збожжа, якое расце на нашых палях, праклятае і забівае кожнага, хто яго есць.

Ахетатон быў такі далёкі ад паўсядзённага жыцця, што я толькі цяпер пачуў ад перасяленцаў, што плямленае зерне забівае дзяцей. Раней я ніколі не чуў пра такую хваробу, але яна нібыта перадавалася ад дзіцяці да дзіцяці, жываты ў іх раздзімаліся, і яны паміралі з жаласным енкам. Ім не маглі дапамагчы ні лекары, ні чараўнікі, да якіх прыходзілі звычайна жыхары новых вёсак. Але, думаю, прычынай хваробы было не зерне, а рачная вада, якая падчас разводдзя прыносіць зімовыя хваробы. Незвычайным было хіба тое, што хвароба губіла толькі дзяцей, не кранаючы дарослых. Гледзячы на гэтых людзей, якія баяліся засяваць палі, лічачы за лепшае памерці ад голаду, я разумеў, што хвароба

забіла іх сэрцы. Але я вінавацію у гэтым не фараона, а бога Амона, які да такой ступені атруціў чалавечае жыццё страхам, што смерць пачала здавацца ўсім лепшай.

Плывучы далей уверх па рацэ, да Фіваў, я аглядаў берагі ясным, нічым не замутнёным позіркам і бачыў урадлівыя апрацаваныя палеткі з укінутым у зямлю зернем, але рабы праклiналі тут сваіх уладальнікаў, а парабкі наракалі на гаспадароў за цяжкую працу і палкі наглядчыкаў. У глыбіні душы я лічыў, што такая несправядлівасць нічым не лепшая за запусценне на землях Атона. Але нецярпенне гнала мяне наперад, і я прыспешваў весляроў, якія ў адказ паказвалі свае пакрытыя мазалямі рукі. Тады, жадаючы зрабіць ім дабро, я палячыў іх мазалі срэбрам і даў прамачыць глоткі півам. Аднак, калі яны зноў узяліся за вёслы, я пачуў, як адзін нехта буркнуў:

— Чаму мы надрываемся дзеля гэтай тлустай свінні, калі перад ягоным богам усе людзі роўныя. Хай бы павеславаў сам, тады зведаў бы, які смак мае гэтая праца. Хай прасушыць сваю глотку ды змазоліць рукі, а мы паглядзім, як ён будзе лячыцца півам ды срэбрам.

Мне вельмі захацелася пахадзіць палкай па яго спіне, але маё сэрца поўнілася дабрынёй, і я прызнаў, што вясляр меў рацыю. Тады я спусціўся да іх і запатрабаваў:

— Дайце вясло і мне!

Я стаў побач з імі і веславаў, пакуль ад цвёрдага дрэва рукі ў мяне не распухлі і скура ні іх не лопнула. Мая спіна балела ад частага нагінання, суглобы гарэлі, як у агні, і я думаў, што мой хрыбет зараз зламаецца. Я ледзьве дыхаў ад болю. Але я казаў свайму сэрцу: «Няўжо ты адмовішся ад працы, за якую ўзяўся? Ужо тады напраўду твае рабы змогуць з цябе пасмяяцца. А такое і нашмат горшае ім даводзіцца трываць кожны дзень. Дык паспытай да апошняй кроплі смак поту вясляроў, смак болю ад распухлых далоняў,— даведайся, якое жыццё ў гэтых людзей. Ты ж, Сінухе, сам хацеў, каб твая мера была выпітая да апошняй кроплі». І я веславаў далей, пакуль дыханне ў мяне не збілася і слугі не знеслі мяне ў ложак.

Наступным днём я зноў веславаў сваімі рукамі, пакрытымі крывавымі мазалямі, і весляры ўжо не смяяліся з мяне, а прасілі:

— Ты наш гаспадар, а мы твае рабы. Не вяслуй болей, іначай усё стане дагары нагамі, і столь стане падлогай, а падлога падымецца над нашымі галовамі. Не вяслуй болей, наш добры гаспадар Сінухе, ты ж зноў задыхнешся! Усё павінна стаяць на сваім месцы, як вырашылі багі, а тваё месца зусім не тут.

Але я веславаў да самых Фіваў, і еў разам з імі сухі хлеб і кашу, піў горкае піва, і з кожным днём мог веславаць усё долей, мае рукі і цела ўсё больш мацнелі і рабіліся гнуткімі, і я радаваўся, заўважаючы, што



дыхаю роўна і не задыхаюся. Але слугі, непакоячыся за мяне, перашэптваліся:

— Гаспадара, мабыць, укусіў скарпіён ці ён з глузду з'ехаў? Ды ў Ахетатоне ж усе ненармальныя,— калі не насіць там ахоўнага амулета, дык захварэць вельмі лёгка. Але нам баяцца няма чаго — у нас пад вопраткай схаваны рог Амона.

Але я з глузду не з'ехаў і рабіцца весляром не збіраўся,— затое я даведаўся, што гэта вельмі цяжкая праца. Перад Фівамі я кінуў вясло.

Ужо здалёк да мяне даляцеў непаўторны водар вялікага горада — той водар, які чалавеку, што нарадзіўся тут, смачнейшы за ўсе духмяныя алеі на свеце. Я загадаў слугам нацерці мне далоні гаючымі мазямі, памыць і апрануць мяне ў лепшую вопратку. Пры гэтым я адзначыў, што паясная павязка стала мне завялікай, і слугі замацоўвалі яе шпількамі, бядуючы:

— Наш гаспадар захварэў, у яго зусім не засталося жывата, гэтай прыкметы вяльможнасці! Цяпер нам будзе сорамна перад слугамі іншых знатных людзей!

Але я пасмяяўся і паслаў іх у дом медніка папярэдзіць Муці, што я прыехаў: я пабойваўся з'явіцца дадому без папярэджання. А веслярам я даў срэбра і нават золата і сказаў:

— Дзеля Атона, ідзіце і наешцеся так, каб у вас надзьмуліся жываты! Парадуйце свае сэрцы півам, павесяліцеся з прыгожымі фіванскімі дзяўчатамі, бо радасць — гэта дарунак Атона, які любіць бедных больш, чым багатых за тое, што яны задавальняюцца простымі радасцямі.

Пасля маіх словаў твары ў весляроў сталі змрочныя, яны тапталіся босымі нагамі па мосце чоўна, круцілі ў руках золата і срэбра, што я ім даў, і потым сказалі:

— Нам не хацелася б цябе пакрыўдзіць, наш гаспадар, але раптам гэтае срэбра — праклятае, бо ты кажаш тут пра Атона. Мы не можам узяць праклятае срэбра, бо яно апячэ нам рукі, дый кожны ведае, што пад пальцамі яно ператвараецца ў брудны пыл.

Яны ніколі не сказалі б мне такога, каб я не веславаў разам з імі і каб мне яны не давяралі. Я супакоіў іх:

— Ідзіце і хуценька абмяняйце гэтае золата і срэбра на піва, калі так баіцеся. Але вам няма чаго баяцца, бо ні золата, ні срэбра не праклятыя, паглядзіце — там стаіць кляймо старых часоў, гэта чысты метал без медных прымесяў Ахетатона. А яшчэ скажу я вам, што дурні вы дурні, калі баіцеся бога Атона, бо нічога грознага ў ім няма.

Яны адказалі:

— Атона мы зусім не баімся, бо хто ж баіцца бяссільнага бога. Табе добра вядома, каго мы баімся, шаноўны пане. Проста мы не хочам прамаўляць яго імя, шануючы фараона.

Маё сэрца гарэла нецярпеннем, і я не хацеў больш з імі спрачацца. Таму я адпусціў іх, і яны подскакам пабеглі па гавані, смеючыся і гарлаючы песні нільскіх весляроў. Мне таксама хацелася пабегчы подскакам, спяваць і рагатаць штомоц, але ўсё гэта не стасавалася з маёй годнасцю, дый голас у мяне быў хрыпаты.Таму я напрасткі пашыбаваў у «Кракадзілаў хвост», не чакаючы насілак. Вось так, праз доўгі час я зноў сустрэўся з Мэрыт, і мае спадзяванні спраўдзіліся, бо яна здалася мне яшчэ прыгажэйшаю, чым раней. Тут я павінен прызнацца, што каханне дзіўным чынам псуе чалавечы зрок, бо Мэрыт была не надта маладой, але яна была маім сябрам і самым блізкім чалавекам на свеце. Убачыўшы мяне, яна ўзняла рукі, потым схілілася ў паклоне, але пасля падышла і дакранулася да маёй шчакі, сказаўшы:

— Сінухе, Сінухе, што з табой здарылася? Чаму так блішчаць тваe вочы? А жывот ты, мусіць, згубіў па дарозе?

— Мэрыт, каханая, мае вочы гараць ад маркоты й кахання, а жывот растаў ад суму і згубіўся недзе па дарозе — так я спяшаўся да цябе, мая любая сястра.

— Вой, Сінухе,— адказала яна, выціраючы вочы,— якім салодкім бывае падман таму, чыя вясна даўно мінула. Але пасля твайго прыезду, я адчуваю, што яна зноў расквітнее, і я гатова паверыць тваім казкам, мой сябра.

Але больш пра маю сустрэчу з Мэрыт я расказваць не хачу. Раскажу лепш пра Каптаха. Яго жывот быў на месцы. Наадварот — Каптах стаў яшчэ больш дзябёлым і навешаў на сябе яшчэ болей аздобаў: на яго руках і нагах бразгаталі бранзалеты, а залатую пласціну на месцы выбітага вока ён загадаў упрыгожыць каштоўнымі камянямі. Убачыўшы мяне, ён заплакаў ад радасці і залямантаваў:

— Благаславёны той дзень, які прывёў дадому майго гаспадара!

Ён адразу павёў мяне ў асобны пакой, пасадзіў на мяккія падушкі, і Мэрыт падала нам саму лепшую ежу, якая была ў «Кракадзілавым хвасце». Наша радасць ад сустрэчы была бязмежнай. Перадусім Каптах пачаў мне расказваць пра маё багацце:

— Мой гаспадар, Сінухе, ты мудрэйшы з людзей, бо перахітрыў усіх гандляроў збожжам, якіх мала хто можа перахітрыць і ашукаць. Мінулай вясною ты сваёй хітрасцю абкруціў іх усіх, хоць, можа, і наш скарабей дапамог табе ў гэтым. Як ты памятаеш, ты загадаў мне раздаць усё тваё зерне навасёлам на насенне і браць з іх толькі мера за меру, а я называў цябе вар'ятам, бо для разумнага чалавека гэта быў бязглузды ўчынак. Дык ведай, што дзякуючы такім хітрыкам ты стаў яшчэ багацейшы — багацейшы яшчэ на палову твайго багацця, так што я нават не магу прыпомніць усю суму, якая табе належыць, а фараонавы зборшчыкі падаткаў канчаткова замардавалі мяне. Рэч у тым, што цана на збожжа ўпала, як толькі гандляры даведаліся, што навасёлы атрымалі для пасеву насенне, а калі яшчэ пайшлі чуткі пра мір, дык яна ўпала яшчэ больш. Усе кінуліся прадаваць зерне, каб пазбавіцца ад сваіх абавязкаў, гандляры неслі вялікія страты, і шмат хто цалкам збанкрутаваў. Вось тады я і пачаў скупляць збожжа па таннай цане і складаць у нашыя свірны. Я скупіў яго незлічоную колькасць, хоць ураджай быў яшчэ на палях, не толькі не зжаты, а нават не выспелы. Увосень я сабраў з навасёлаў — як ты і загадваў — мера за меру, так што аднавіў старыя запасы цалкам, і магу табе сказаць па сакрэце, мой гаспадар, што казкі пра плямленае зерне проста навыдумлялі,— яно такое самае чыстае, як усякае іншае, і ніякай шкоды прычыніць не можа. Думаецца мне, што жрацы ды іхнія паслугачы абпырсквалі яго крывёю яшчэ ў свірнах, каб яно стала плямленым і пагана смярдзела. Гэтыя мае словы небяспечныя, і мне не хацелася б, каб ты іх каму-небудзь пераказваў, тым больш што, апроч цябе, ніхто гэтаму не паверыць, бо ўсе свята вераць, быццам зерне навасёлаў праклятае. Нам жа, мой гаспадар, гэта пойдзе толькі на карысць, хай сабе людзі і вераць у гэтыя казкі. Дык вось, узімку кошт зерня зноў узрос, бо заключылі мір, і Эйе імем фараона пачаў пасылаць караблі са збожжам у Сірыю, каб выцесніць з сірыйскіх рынкаў вавілонскае зерне. Збожжа вырасла ў цане так, як у Егіпце не было спрадвеку, і ад таго нашы прыбыткі аказаліся незлічонымі і будуць яшчэ расці, пакуль мы трымаем зерне ў свірнах, а прычынай гэтаму будзе голад, які пачнецца ў Егіпце ўвосень, бо навасёлы зямлю больш не апрацоўваюць, рабы з фараонавых земляў уцякаюць, а земляробы хаваюць збожжа, каб яго не забралі і не павезлі ў Сірыю. Таму я нястомна дзякую нябёсам за тваю вялікую мудрасць, мой гаспадар, бо ты перахітрыў тут нават мяне, які называў цябе вар'ятам.

Каптах прыйшоў у захапленне ад свайго аповеду і казаў далей:

— Я ўсхваляю тыя благаславёныя часы, калі багацце багатых узрастае, незалежна ад таго, жадае гаспадар гэтага ці не. Настаў час парадавацца і гандлярам, бо яны багацеюць, не сыходзячы з месца. Сапраўды, цудоўная настала пара, бо срэбра і золата само сыплецца ў нашы куфры. Ці ведаеш ты, мой гаспадар, што, прадаючы пустыя гаршчкі, я нажыўся не меней, чым на гандлі зернем? Не, гэта не дурныя жарты, а чыстая праўда, хоць паверыць у такое цяжка. Цяпер ва ўсім Егіпце стала процьма пакупнікоў старых пустых гаршчкоў, ім падыходзяць гаршчкі любой формы, а піўвары і вінаробы вохкаюць ды рвуць на сабе валасы, бо ім не хапае посуду. Сапраўды, дзіўны час, калі чалавек можа разбагацець на пустым месцы. Я, прачуўшы пра тое, паспеў скупіць усе пустыя гаршчкі ў Фівах і загадаў некальком сотням рабоў скупляць нават старыя гаршчкі, якія некаторыя аддавалі іх нам задарма, каб толькі прыбраць са двара гэты смярдзючы хлам. І калі я сказаў бы, што гэтай

зімой прадаў тысячу разоў па тысячы гаршчкоў, гэта было б, можа, і невялікім перабольшваннем, але не хлуснёй. Дый навошта мне хлусіць, калі мая праўда неверагоднейшая за ўсю самую перакручаную хлусню!

— Але якому дурню спатрэбілася столькі пустых гаршчкоў? — спытаў я.

Каптах хітра падміргнуў мне сваім адзіным вокам:

— Пакупнікі кажуць, нібыта ў Ніжняй зямлі вынайшлі новы спосаб захоўваць рыбу ў салёнай вадзе, але я праверыў і аказалася, што гаршчкі вязуць у Сірыю. Вялізную колькасць гаршчкоў выгружаюць у Танісе і ў Газе і адтуль па сушы вязуць у Сірыю. Але што робяць сірыйцы з такой колькасцю пустых гаршчкоў — сказаць цяжка. Як я ні стараўся, ніхто не можа мне адказаць дакладна.

Каптахаў аповед быў, безумоўна, цікавы і дзіўны, але я не захацеў ламаць галаву над гэтай загадкай — мяне болей цікавіла становішча са збожжам. Пасля таго, як Каптах скончыў, я сказаў яму:

— Калі трэба, дык прадавай усё, што ў мяне ёсць, і купляй збожжа, Каптах, купляй збожжа, скупі ўсе запасы, нягледзячы на цану. Але купляй не тое зерне, якое яшчэ не прарослае ляжыць у зямлі, а толькі тое, якое можна пабачыць на свае вочы і памацаць рукамі. Падумай таксама, ці зможаш ты выкупіць зерне, якое паслалі ў Сірыю — хоць фараон па ўмовах мірнага пагаднення і павінен пасылаць яго туды, але ж Сірыя атрымлівае збожжа з Вавілона і ёй столькі яго проста не патрэбна. А ў Егіпце сёлета, напраўду, увосень чакаецца голад, і хай будзе пракляты той, хто прадае збожжа з царскіх запасаў, жадаючы паспаборнічаць з вавілонскімі хлебаробамі.

Выслухаўшы мае словы Каптах ухваліў маю мудрасць:

— Ты кажаш правільныя і разумныя словы, мой гаспадар,— калі гэтая здзелка закончыцца ўдала, ты станеш самым багатым чалавекам у Егіпце. Думаю, пэўную колькасць збожжа я дакупіць змагу, няхай і па ліхвярскіх цэнах. А вось чалавек, якога ты лаеш і праклінаеш,— гэта безгаловы жрэц Эйе. Гэта ён пачаў танна прадаваць фараонава збожжа адразу пасля заключэння міру, і па сваёй дурасці прадаў столькі, што цяпер Сірыі яго хопіць на доўгі час. Ён зрабіў гэта таму, што на правядзенне свята трыццацігоддзя яму патрабавалася шмат золата. Але цяпер сірыйцы не прададуць нам збожжа: яны складваюць яго ў свірны і, чакаючы зімы, не прададуць ні зярнятка,— яны хітрыя гандляры. А вось узімку, калі кожнае зярнятка стане залатым, яны напоўняць свае куфры сапраўдным золатам. Праўда, толькі тым, якім не паспеем завалодаць да таго часу мы з табою, мой гаспадар.

Але хутка я забыўся і на збожжа, і на голад, які пагражаў Егіпту, на будучыню, схаваную ў змроку, які прыйдзе на змену апошняму барвоваму захаду над Ахетатонам, бо я глядзеў у вочы Мэрыт, і маё сэрца



поўнілася асалодай ад яе прыгажосці, яна была салодкім віном у маіх вуснах і духмяным алеем у маіх валасах. Мы пакінулі Каптаха, і яна паслала мне ў сваім ложку. І я са спакойным сэрцам змог назваць яе сястрой, хоць раней думаў, што пасля колішняй юнацкай ліхаманкі не скажу такога слова ўжо ніводнай жанчыне. Пасля вялікіх падманаў і расчараванняў дружба Мэрыт стала мне хлебам і віном, якія наталялі голад і смагу, і дотык яе вуснаў п'яніў мяне болей, чым усё віно з гор і далін. Наталіўшы мой голад і смагу, яна ўзяла мае рукі ў свае, і ў начной цемры я адчуваў яе дыханне на сваёй шыі, і мы размаўлялі так, што нічога патаемнага не засталося ў мяне на сэрцы, і я гаварыў без хітрыкаў і падману. Але ў яе сэрцы зберагалася нейкая таямніца, пра якую я тады не здагадваўся.

Так вось, п'яны ад кахання, я адчуваў тым вечарам, што мая мужнасць стала мацнейшай, чым у маладосці, бо маладосць — пара памылак і хібаў, маладое каханне заўсёды поўніцца тугой і не ведае ні сябе, ні сваёй сілы, думаючы, што гэтая сіла існуе сама па сабе, і не здагадваючыся, што год ад году яна з узростам будзе змяншацца, асабліва сіла мужчынская. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, у дні сваёй сталасці я ўзношу хвалу маладосці, бо тады голад быў лепшы за насычэнне, а смага хвалюе чалавека больш, чым душа, удосталь напоеная віном. Аднак цяпер, прыехаўшы ў Фівы, я думаў, што ў параўнанні з маладосцю мая мужчынская сіла ўзрасла, хоць, можа, гэта быў толькі салодкі падман, якім зменлівае жыццё часта засланяе чалавеку вочы. Гэты падман зрабіў усё навокал прыгожым, і я нікому на свеце не жадаў зла, а толькі дабра. Лежачы побач з Мэрыт, я не адчуваў сябе чужаніцай на гэтым свеце, мой дом быў у яе абдымках, а яе пацалункі развейвалі маю самоту. Але і гэта было яшчэ памылкай, якую мне было наканавана перажыць, каб мая мера напоўнілася дарэшты.

У «Кракадзілавым хвасце» я зноў убачыў маленькага Тота. Пры поглядзе на яго ў мяне пацяплела на сэрцы, а ён абняў мяне і назваў «татам». Мэрыт сказала, што яго маці памерла і яна ўзяла хлопчыка да сябе, бо насіла яго на абразанне, а значыць, паводле звычаю, мусіла клапаціцца аб ім, калі бацькі рабіць гэтага ўжо не змогуць. Тот прыжыўся ў шынку, і заўсёдныя наведнікі песцілі яго і прыносілі яму розныя падарункі і цацкі, каб зрабіць прыемнае Мэрыт. Мне ён таксама вельмі спадабаўся, і я браў яго да сябе, у былы дом медніка, чым надзвычай парадаваў Муці. Я глядзеў, як ён гуляе пад дрэвам з іншымі дзецьмі, успамінаў сваё дзяцінства ў Фівах і зайздросціў Тоту. У мяне ён адчуваў сябе як дома і нават заставаўся начаваць, а я дзеля забавы пачаў вучыць яго пісьменству, хоць ён быў яшчэ малы, каб пайсці ў школу. Я заўважыў, што ён быў кемлівы хлопчык і лёгка засвойваў знакі і малюнкі, і таму я вырашыў аддаць яго ў лепшую школу ў Фівах,

дзе вучыліся дзеці мясцовай знаці. Мэрыт вельмі ўзрадавалася такому рашэнню. А Муці ўвесь час пякла хлопцу мядовыя аладкі і расказвала казкі. Яе мара спраўдзілася: у доме быў сын, але не было жонкі, якая бясконца чаплялася б да яе і аблівала ёй ногі варам, як робяць зазвычай усе жонкі, калі сварацца са сваімі мужамі.

Я, напэўна, мог бы адчуваць сябе шчаслівым у Фівах, калі б тут не панаваў вялікі неспакой, які адразу кідаўся ў вочы. Не было, мусіць, дня, каб на вуліцы ці на плошчы не ўспыхвала бойка, а спрэчкі аб Амоне і Атоне абавязкова канчаліся ранамі ды разбітымі галовамі. У фараонавай вулічнай варты і ў суддзяў было шмат працы, і амаль штотыднёва ў гавані збіралі купкі звязаных людзей — мужчын, жанчын, старых і падлеткаў, амаль дзяцей, якіх за іх прыхільнасць да Амона адрывалі ад дому і пасылалі на прымусовыя работы на царскіх палетках, у каменяломнях ці нават у рудніках. Але тыя, каго адпраўлялі, былі зусім не падобныя да рабоў ці злачынцаў, праводзіць іх збіраліся натоўпы людзей у белых строях, яны гучна віталі пакутнікаў, не звяртаючы ніякай увагі на ахоўнікаў. Палонныя ўздымалі над галавой звязаныя рукі і крычалі:

— Мы хутка вернемся!

А некаторыя асуджаныя ўзбуджана трэслі звязанымі рукамі і пагражалі:

— Мы вернемся і пасмакуем кроў Атона!

Так крычалі яны, і вартаўнікі, баючыся натоўпу, не ўмешваліся і не пускалі ў ход палкі, пакуль карабель не адыходзіў ад берага.

Народ у Фівах раздзяляўся, сын супрацьстаяў бацьку, а жонка мужу. Прыхільнікі Атона насілі на каўняры жыватворныя крыжы, а знакам прыхільнікаў Амона быў рог, які яны насілі адкрыта і па ім пазнавалі адзін аднаго. І ніхто не мог забараніць ім гэтага, бо рог здаўна лічыўся самай добрай аздобай вопраткі. Я дакладна не ведаю, чаму яны абралі сваім сімвалам менавіта рог. Можа, меўся на ўвазе рог Амонава барана, а можа, адно з незлічоных імёнаў бога, якое пішацца гэтак сама, як «рог», і якое жрацы выкапалі з даўняй даўніны і далі народу, як апазнавальны знак. Ва ўсякім выпадку, носьбіты гэтага знаку перакульвалі кашы гандляроў рыбай, білі вокны ў дамах і нападалі на сваіх супраціўнікаў са словамі: «Забадзём, заколем Атона рагамі!» У адказ прыхільнікі Атона пачалі насіць пад вопраткай нажы ў форме жыватворнага крыжа і абараняліся імі з крыкам: «Наш крыж вастрэйшы за рогі, і мы адправім вас гэтым крыжам у вечнае жыццё!» І яны сапраўды шмат каго адправілі сваімі крыжамі ў Дом смерці. Варта ніколі іх не спыняла і нават абараняла, хоць здаралася, што цэлы гурт «крыжоў» накідваўся на аднаго «рога», збіваў яго на горкі яблык і пакідаў, абрабаванага дагала, на вуліцы.



На здзіў, улада Атона ў Фівах за мінулы год незвычайна ўмацавалася, але як яно так адбылося, я зразумеў не адразу. Адной з прычынаў было вяртанне ў Фівы новапасяленцаў, якія страцілі ўсё. Яны злаваліся на жрацоў Амона, вінавацячы іх у атручванні збожжа, і на чыноўнікаў, якія патуралі тым, хто засмечваў каналы і пускаў гавяду на засеяныя палеткі. У сваім адчаі яны прынеслі з сабой надзею на Атона. Многія, хто навучыўся новай пісьменнасці і хадзіў у школы Атона, — а моладзь заўсёды паўстае супраць старога і падтрымлівае новае, — былі палкімі вернікамі Атона. Падтрымлівалі яго і партовыя рабы і насільшчыкі. Яны збіраліся разам і казалі:

— Нашая мера і так напалову парожняя, і губляць нам няма чаго. Перад Атонам няма ні паноў, ні рабоў, ні гаспадароў, ні слуг, а перад Амонам мы вечна вінаватыя!

Асабліва палкімі прыхільнікамі Атона былі злодзеі, рабаўнікі магілаў і махляры, бо за гэты час яны моцна ўзбагаціліся і цяпер баяліся расплаты. Прыхільнікамі Атона былі і тыя, хто карміўся ад дзяржаўнай службы, — яны баяліся ўгнявіць фараона, а таму трымаліся за новага бога. Фівы падзяляліся на два варожыя лагеры, але самыя разважныя і міралюбныя людзі з болем глядзелі на гэтыя свары, кажучы:

— Амон, Атон, ці не ўсё адно? Мы хочам спакойна рабіць сваю справу і спаўна атрымліваць за гэта. Але нас тузаюць з усіх бакоў так, што мы ўжо самі не ведаем — мы стаім на нагах ці на галовах?

А ў найгоршым становішчы ў такія часы аказваецца той, хто хоча застацца самім сабой і не замінаць іншым верыць, у каго ім хочацца. На такога накідваюцца і адны, і другія, яго вінавацяць ва ўсіх грахах, абражаюць з усіх бакоў, пакуль ён не пачне ў роспачы ірваць на сабе вопратку і не спыніць свой выбар усё роўна на чым — на «крыжы» ці на «рогу», — на тым, што, на яго думку, прынясе яму найменш шкоды.

Многія дамы ў Фівах упрыгожыліся крыжамі ці рагамі, нават цэлыя гарадскія кварталы выстаўлялі гэтыя выявы, яны віселі на дамах уцехаў, шынках, харчэўнях, і наведнікі хадзілі кожны ў «свае» — з рогам ці з крыжам. А вясёлыя дзяўчаты, якія займаліся сваім рамяством на вуліцах, вешалі на сябе гэтыя знакі напераменку, у залежнасці ад густу прывабленага мужчыны. І кожны вечар «крыжы» і «рогі», напіўшыся віна, зграямі бадзяліся па вуліцах, ламалі ліхтары, гасілі паходні і нявечылі адзін аднаго. І немагчыма было разабраць, хто з іх горшы — «крыжы» ці «рогі». А я жахаўся з абодвух.

«Кракадзілаў хвост» таксама быў вымушаны зрабіць свой выбар, як не выкручваўся Каптах, якому хацелася заставацца сваім з усімі, з каго ён мог выцягнуць срэбра. Зрэшты, у яго і не было ніякага выбару, бо на сценах шынка штоноч з'яўляўся крыж у атачэнні непрыстойных малюнкаў. Тут не дапамаглі нават такія хітрыкі, як запіс шынка ў падатко-

вай службе на імя Мэрыт. Апроч таго, казалі, што ў шынку неяк пабілі жрацоў Амона, а яго пастаяннымі наведнікамі былі вельмі падазроныя багацеі, якія не разбіралі сродкаў дзеля ўзбагачэння: гэта былі старэйшыны магільных рабаўнікоў, якія з задавальненнем завітвалі папіць «кракадзілавага хваста», а заадно прадавалі ў задніх пакоях нарабаваную здабычу скупшчыкам крадзенага. Усе яны былі прыхільнікамі Атона, бо ўзбагаціліся, дзякуючы гэтаму богу, і яго імем адпраўлялі на руднікі сваіх непрыяцеляў і канкурэнтаў, выступаючы ў судзе фальшывымі сведкамі. Магільныя рабаўнікі казалі, апроч таго, што яны лезуць у магілы толькі з прычыны сваёй палкай веры ў Атона,— каб сцерці са сцен імя праклятага бога Амона.

Падчас гэтага перыяду майго жыцця ў Фівах на маім двары не тоўпіліся людзі, якім патрабавалася дапамога. Мяне шмат хто пазбягаў, прылюдна не жадаючы нават сустракацца позіркамі, а сам-насам казалі:

— Мы не жадаем табе нічога дрэннага, Сінухе. Шмат якія хваробы з'ядаюць нашых жонак і дзяцей, мы ў роспачы і не ведаем, што рабіць, бо лекараў, роўных табе, няма ў Фівах. Але прыходзіць да цябе мы баімся, бо твой дом пракляты, і мы не хочам наклікаць на сябе ўсялякія беды.

Яшчэ яны казалі:

— Праклёны нас не палохаюць, усе гэтыя боскія справы нас не цікавяць, бо нашы засекі так апусцелі, што нам ужо ўсё адно — ці жыць, ці паміраць. Але мы баімся «рагоў», бо яны ламаюць нашы дзверы і збіваюць нашых дзяцей, пакуль мы працуем. А ты ўсім добра вядомы, бо шмат кажаш пра Атона і носіш на шыі гэты паганы знак.

На гэта я ім адказваў:

— Я зусім на вас не крыўдую, бо вы людзі цёмныя і непісьменныя, і я разумею вашы цяжкасці. Што ж, можаце ісці да Амона, бо я чуў, нібы ён вылечвае нейкім сваім цудадзейным спосабам.

Яны казалі:

— Ты смелы чалавек, Сінухе, калі прамаўляеш уголас імя гэтага бога, не баючыся ахоўнікаў. Сапраўды, Амон вылечыў шмат цяжкіх хвароба, але яго выздараўленні былі кароткачасовыя, а потым хвароба вярталася з новаю сілай. Мы самі паспыталі гэта, і таму баімся цудадзейных выздараўленняў Амона, бо яны назаўсёды прывязваюць нас да рога, а мы хочам жыць свабодна, мы хочам не баяцца за сваё жыццё і спакойна займацца сваімі справамі. А вось гэтага нам і не дазваляюць. Ты прабач нам, Сінухе, прабач, што мы ад страху за свае сем'і не адважваемся вітаць цябе так, як таго заслугоўвае твая годнасць.

Затое рабы і насільшчыкі з гавані без роздуму ішлі да мяне са сваімі паламанымі рукамі, расціснутымі ў жорнах пальцамі, разбітымі на працы каленямі. Яны баязліва пыталіся ў мяне:



— А ці праўда, што бог Атон, якога мы не разумеем, бо ён не мае вобраза, робіць роўнымі багатых і бедных і адпускае рабоў на волю? Нам таксама хацелася б ляжаць на мяккіх дыванах у цяню размаляваных балдахінаў, піць віно з залатога посуду і прымушаць працаваць на нас іншых. Мы ведаем, што некалі быў такі час, калі багацеяў ссылалі на руднікі, а іх жонкі жабравалі на вуліцах, а тыя, у каго раней нічога не было, мелі ўдосталь хлеба і віна і спалі пад залатымі дахамі. А калі такі час аднойчы ўжо быў, дык чаму б з дапамогай Атона яму не паўтарыцца?

Я лячыў ім пальцы, ставіў на месца вывіхнутыя рукі і ногі, перавязваў калені і адказваў:

— Напраўду кажу, не пытайцеся ў мяне пра гэта, бо я нічога не ведаю. Адзін толькі фараон спасціг мудрасць Атона, і толькі яму Атон адкрывае свае задумы. Я ведаю толькі, што Атон кожнаму вызначае сваё месца, колер скуры і мову. А рабы заўсёды былі і заўсёды будуць, і людзям давядзецца заўсёды працаваць сваімі рукамі. Нічога з гэтым не зробіш! Таму хай кожны займаецца сваёй справай адпаведна сваім уменням. А вашы словы, баюся, небяспечныя і тояць нядобрае, і мне не хацелася б, каб вас пачулі ахоўнікі.

А яны адказвалі:

— Мы гаворым з табой шчыра і адкрыта, Сінухе, бо ты чалавек просты і бясхрыўдны, ты лечыш нас і не просіш ніякай узнагароды. Таму ты не данясеш пра нашы размовы. Але ты няправільна нас зразумеў, бо мы самі ведаем, што людзі павінны працаваць сваімі рукамі, але мы не можам зразумець, чаму менавіта мы нарадзіліся, каб стаць рабамі і слугамі, а іншыя — каб піць з залатога посуду пад залатымі дахамі? Вось чаго мы не разумеем і хочам, каб нам растлумачылі, у чым тут штука. Іначай нам нічога не застаецца, як лічыць, што гэты парадак няправільны і памылковы і ўсё гэта варта толькі шакалавай магілы. Можа стацца так, што аднойчы мы выкапаем такую магілу і ўкінем туды ўсіх багацеяў і вяльможаў і ўсіх, хто нас сёння б'е палкамі.

Іх нахабства мяне агаломшыла, але ў ім была і нейкая праўда, і я марна ламаў галаву, шукаючы адпаведныя словы,— маёй вучонасці не хапіла. Я толькі і змог адказаць:

— Чалавек раб толькі тады, калі адчувае сябе рабом, а ў сваім сэрцы чалавек застаецца свабодны.

У адказ яны пагардліва засмяяліся і сказалі:

— Каб цябе хоць раз адходзілі палкай па спіне, ты так не казаў бы.

І потым дадалі:

— Мы любім цябе, Сінухе, за тое, што ты чалавек просты і бясхрыўдны і лечыш нас зусім без платы. Таму ты можаш прыйсці ў гавань, і мы схаваем цябе ў пустым кашы, каб выратаваць тваё жыццё, калі шакалы

выйдуць на вялікае паляванне. А мы думаем, што яно пачнецца ўжо хутка, бо нашы засекі спусцелі, алей з'ялчэў і губляць нам няма чаго.

Але мяне пакуль ніхто не адважваўся зачапіць, бо я быў усё-ткі царскі лекар, дый самы бедны партовы люд ведаў мяне і мае добрыя ўчынкі. Таму на сценах майго дома не з'яўляліся крыжы і непрыстойныя малюнкі, ніхто не падкідваў мне ў двор падлу, і нават п'яныя задзіракі абыходзілі мой дом, калі цягаліся па вуліцах выгукваючы імя Амона, каб пазлаваць вулічную варту. Настолькі глыбока сядзела ў крыві народа пачцівасць да царскіх знакаў і тых, хто іх носіць! І гэта нягледзячы на тое, што жрацы Амона з усяе сілы стараліся пераканаць людзей, што Эхнатон — несапраўдны фараон.

Але аднойчы маленькі Тот вярнуўся з вуліцы моцна пабіты: з яго носа цякла кроў і адзін зуб быў выбіты, што, зрэшты, не сапсавала яго прыгожага твару, бо зубы ў яго ўсё адно мяняліся. Тот усхліпваў, але стараўся стрымацца, а Муці так перапалохалася, што нават заплакала і не магла спыніцца, пакуль абмывала хлопчыка. Але потым яна схапіла качалку і кінулася на вуліцу з крыкам:

— Мне ўсё адно, што Амон, што Атон, але гэтыя пляцельшчыкавы шчанюкі ў мяне атрымаюць сваё!

Яна так імклівa выбегла са двара, што я не паспеў затрымаць яе, а праз некаторы час з вуліцы данесліся лямант хлапчукоў, лаянка мужчыны і крыкі аб дапамозе. Мы з Тотам баязліва выглянулі за вароты і ўбачылі, як Муці ў імя Атона лупцуе ўсіх пяцёх сыноў пляцельшчыка кашоў, ягоную жонку і яго самога. Мужчына толькі закрываў галаву рукамі, а з носу ў яго цякла кроў.

Закончыўшы расправу, Муці вярнулася ў дом, усё яшчэ цяжка дыхаючы ад злосці, а калі я паспрабаваў растлумачыць ёй, што варожасць нараджае толькі варожасць, а помста засявае поле для помсты, яна ледзь не адлупіла качалкай і мяне. Але на схіле дня яе пачало грызці сумленне, і, напхаўшы поўную торбу мядовых аладак, прыхапіўшы збан піва і паношаную вопратку, яна прыйшла да пляцельшчыка кашоў мірыцца і сказала яму:

— Ты трымай сваіх хлопцаў гэтак жа строга, як я трымаю свайго, я хачу сказаць — хлопчыка майго гаспадара. А добрым суседзям не след лупцаваць адзін аднаго праз нейкія там крыжы ці рагі, тым болей што я пакажу задніцу любому богу, за якога майму хлопцу навешаюць гузакоў ці пусцяць кроў з носу.

Пасля гэтага здарэння пляцельшчык кашоў пачаў ставіцца да Муці з вялікай пачцівасцю і насіў падараваную вопратку па святах, а яго сыны сталі лепшымі сябрамі Тота і часцяком зазіралі да нас на кухню, дзе Муці частавала іх салодкімі аладкамі. Хлопцы ўсе разам біліся з дзецьмі «крыжоў» і «рагоў», калі тыя заходзілі на нашу вуліцу з нядобрымі намерамі. Тот біўся побач з усімі, і я ўжо не мог зразумець, хто ён — «рог» ці «крыж». Кожны, калі Тот выходзіў гуляць на вуліцу, маё сэрца раз сціскалася. Але я не хацеў спыняць яго, бо ён павінен быў навучыцца пастаяць за сябе і атрымаць сваю меру напоўніцу. Я толькі казаў яму кожны дзень:

— Слова мацнейшае за кулак, Тот. А веды мацнейшыя за невуцтва, павер мне.



**5**

Пра маё жыццё ў Фівах я магу дадаць яшчэ зусім няшмат, але ўсё-ткі раскажу і гэта, бо пра далейшыя падзеі нічога добрага расказваць не давядзецца. Я раскажу, як па загадзе фараона наведаў Залаты палац, хоць з прычыны Мехунефер вельмі баяўся туды ісці і праслізнуў міма варты, як заяц, што ратуецца ад кіпцюроў драпежнага арла. Там я сустрэў Носьбіта дзяржаўнага жазла Эйе, які быў у вельмі змрочным настроі і шчыра сказаў мне:

— Сінухе, усё ў мяне валіцца з рук, і я баюся, што заўтрашні дзень будзе горшы, чым сённяшні. Пастарайся абразуміць фараона, калі зможаш, а калі не зможаш, дай яму якога дурманнага зелля, каб ён заснуў як мага мацней, бо кожны яго загад не разумнейшы за папярэдні, і, думаецца мне, ён зусім не разумее, што робіць. Напраўду, горыч улады апальвае мне рот, а тут яшчэ гэты пракляты Харэмхеб увесь час затрымлівае ў Мемфісе караблі са збожжам, якое я пасылаю ў Сірыю ў абмен на золата, як таго вымагае дамова. З кожным днём гэты Харэмхеб робіцца ўсё нахабнейшы і ўвогуле не хоча выконваць мае загады, паводзячы сябе так, нібыта ён у Мемфісе — фараонаў намеснік. Але ж ён выдатна ведае, што царскі намеснік — я і болей ніхто! Калі так пойдзе, дык царскае жазло ў маіх руках хутка будзе зусім бяссільнае, і бізун застанецца без працы, бо фараон забараніў караць смерцю злачынцаў і нават біць іх палкамі. Я не магу зразумець, як ён думае выхоўваць у людзях павагу да законаў, калі злодзеям нельга адсякаць рукі дзеля навукі іншым, і нікому нельга адрэзаць нос ці вушы ў пакаранне за зробленае злачынства. Так рабілі з пачатку ўсіх часоў і так трэба рабіць далей, каб зберагчы павагу да законаў. А пра якую павагу можа ісці гаворка, калі законы па фараонавай прыхамаці мяняюцца кожны дзень, а ў папірусавых скрутках ужо з'явіліся дзіркі ад сцёртых і зноў напісаных указаў! Жрацы Амона так і круцяцца вакол мяне, але ж яны разумныя людзі і шануюць добрыя старыя звычаі,— з горыччу працягваў ён свае скаргі.— Яны гатовыя заключыць пагадненне з умовай, што Амон і Атон будуць уладарыць разам. Яны напалоханыя тым, што людзі цяпер не вераць ужо ніякім багам і жывуць, нібы сённяшні дзень — апошні, а заўтра настане канец свету. Просты люд ужо кажа: «Давайце

есці і піць, бо мы заўтра памрэм, а пасля смерці нас нічога больш не чакае!» Павер мне, Сінухе, усё гэта скончыцца жахліва, калі толькі фараон не абразуміцца, а калі ўсё застанецца так, як ёсць, дык давядзецца фараону ўскрываць чэрап без яго згоды. Тады ты нам і спатрэбішся, Сінухе. Але ты не павінен баяцца адказнасці царскага лекара, бо другія падзеляць яе з табой. Я ўжо сабраў у Доме жыцця даведкі ад розных лекараў, у тым ліку ад трэпанатараў, што хвароба ў фараона Эхнатона зайшла так далёка, што выратаваць яго ад болю можа толькі трэпанацыя чэрапа. Апроч таго, у фараона і чэрава ўжо раздаецца ва ўсе бакі і пухне, губляючы ўсялякую форму так, што хутка яму будзе цяжка нават перайсці з месца на месца. Шмат якія дасведчаныя лекары кажуць, што яго распірае вада, якая і падымаецца яму ў галаву, а яе можна выпусціць, толькі ўскрыўшы чэрап.

У мяне не было ніякага жадання гутарыць з ім пра пытанні медыцынскай навукі, таму я насмешліва спытаў:

— Дык што, «рогі» ўжо выбралі яму пераемніка? Ці, можа, ты сам яго выбраў, жрэц Эйе?

Ён яшчэ больш спахмурнеў і адказаў, ускінуўшы рукі:

— Лепш было б мне застацца жрацом і спакойна жыць у Геліяполісе, збіраючы пчаліны мёд і націраючы твар свяшчэнным алеем. Але гэта праклятая баба прыцягнула мяне сюды і атруціла маю кроў прагай улады, ад чаго я страціў былую свабоду. Але яна і пасля смерці не адпускае мяне нават у сне, і яе Ка безліч разоў з'яўлялася ў садовым пакоі і ў троннай зале. Не, Сінухе, хто хоць раз паспытаў смак улады, прагне яе ўсё больш, і гэтая прага страшнейшая за любую зямную смагу, і калі ты наталяеш яе, то адчуваеш асалоду, якую нельга параўнаць ні з чым на свеце. Скажы «дзякуй» свайму шчасліваму лёсу, Сінухе, што ты не зведаў яе. Напраўду, калі б я быў уладаром зямлі Кэмет, я знайшоў бы спосаб уціхамірыць народ і аднавіць былы парадак! З дапамогай Атона і Амона, якія суперніча́лі б між сабой, старанна ўслугоўваючы фараону, фараонава ўлада стала б магутнаю, як ніколі! Ды на жаль, фараон Эхнатон зрабіў вялікую памылку, ён сказіў маё вучэнне і мае думкі, якія я ўклаў яму ў галаву яшчэ дзіцячай парой. Ты ж, Сінухе, ведаеш, што робіць лекар, калі хворы пачынае буяніць і ўпадае ў шаленства, калі яго немагчыма супакоіць? Хіба лекар не выкарыстоўвае тады нож або не праколвае хвораму рогам патыліцу, каб пусціць кроў, пакуль той не супакоіцца? Напраўду, каб улада была ў маіх руках, я змог бы выпусціць патрэбную колькасць крыві і супакоіць народ.

Але я па-ранейшаму не хацеў гаварыць з ім пра медыцынскую навуку, бо вылечыць яго невуцтва ў гэтай справе было немагчыма. Таму я паўтарыў пытанне:

— Дык ты выбраў яму пераемніка, жрэц Эйе?



Ён моцна занепакоіўся, узняў рукі, нібы абараняючыся, і адказаў:

— Я не дзяржаўны дзеяч і застаюся адданым фараону, як ты сам ведаеш. А калі я часам і раюся са жрацамі, то раблю гэта дзеля дабра фараону і дзеля ўмацавання ягонай улады. Але ў мудрага чалавека заўжды назапашана шмат стрэлаў, бо нельга спадзявацца ўсяго на адну. Я намякну табе толькі пра тое, што Сменхкара яшчэ хлапчук, а Вялікая царская жонка Тэйе па начах садзіцца на царскі трон і прывязвае сабе царскую бараду. Разам з тым ты ведаеш, што я бацька Неферціці, і мая кроў, такім чынам, не чужая ў царскіх пакоях. Але я больш не хачу гаварыць з табою пра гэта, дастаткова ўжо і таго, што я сказаў і што можа пайсці табе на карысць, бо, як мне вядома, ты вельмі блізкі сябар гэтага пыхлівага марнаслаўца Харэмхеба. Ён трымаецца толькі на дзідах, а такое крэсла — нязручнае, і з яго можна лёгка ўпасці, разбіўшы галаву аб дол. Толькі царская кроў можа сядзець на высокім троне, і стагоддзе за стагоддзем гэтая свяшчэнная кроў уладарыць у Залатым палацы, упрыгожаная падвойнай каронай. І гэтая кроў можа цараваць у асобе царыцы, калі ў фараона няма сыноў.

Я жахнуўся ягоным словам і спытаў:

— Ці не хочаш ты сказаць, што Харэмхеб, мой сябар Харэмхеб, скіраваў свой прагны позірк на чырвоную і белую кароны? Гэта неразумная думка, і цябе, мабыць, укусіў шалёны сабака, калі ты кажаш такое. Ты сам ведаеш, што ён народжаны ў хляве, на кучы гною паміж вераб'ёў, і прыйшоў у Залаты палац у шэрай бядняцкай вопратцы.

Але Эйе глядзеў на мяне, і ягоны цёмны азызлы твар рабіўся ўсё болей змрочны, а вочы недаверліва пазіралі з-пад навіслых броваў. Ён адказаў:

— Хто можа чытаць у чалавечым сэрцы? Прага ўлады — самая вялікая прага ў чалавеку, але калі ён у сваім нахабстве толькі асмеліцца падумаць пра гэта, я хутка вярну яго на зямлю.

Ён адпусціў мяне, і ў маёй галаве, нібы пчолы пачалі круціцца й блытацца думкі. Я нават забыўся, што мне трэба быць пільным, каб не натрапіць на Мехунефер. Я ішоў доўгімі калідорамі, і словы Эйе аб свяшчэннай царскай крыві агнём апякалі маё сэрца. Царыца Неферціці не была царыцай па крыві, аднак, калі фараон Эхнатон памрэ, яна будзе цараваць, пакуль яе дачка Мэрытатон не дасягне паўналецця. Тады і Сменхкара зможа ўладарыць, як яе муж. Апроч Мэрытатон, царская кроў была толькі ў дачок фараона і ў яго сястры Бэкетатон, а па мужчынскай лініі не было нікога, бо сваёй падступнасцю і злачынствам Вялікая царская маці Тэйе паклапацілася пра гэта. Але, магчыма, кроў вялікага фараона і мітаннійскай царэўны цякла ўва мне? А калі так і калі толькі свяшчэнная царская кроў дае права на трон фараонаў, то толькі я меў гэтае права! Але аб тым ніхто не здагадваўся.

Але сама гэтая думка жахнула маё сэрца. Маю баязлівую душу палохала ўлада, бо я бачыў, якія парасткі ўзыходзяць з яе пасеваў. Для мяне не было нічога страшнейшага, чым адказнасць за дзяржаву, і я не мог зразумець, чаму чалавек так імкнецца да гэтай адказнасці. Таму я палічыў словы Эйе аб патаемных думках Харэмхеба пустымі і бяздумнымі, і ўславіў свой лёс, які ў ноч майго нараджэння адправіў мяне ў трыснёговым чоўне ўніз па рацэ. Я дзякаваў цёмным пальцам царыцы Тэйе, якія сплялі гэты чоўнік і пазбавілі мяне ад вянца і вялікай адказнасці. Але такая ўжо неразумная і непаслядоўная душа чалавека: нягледзячы на ўсе спробы розуму пераканаць яе, яна балела ад несправядлівасці, якую ўчыніла са мной жыццё, хоць у той жа час розум запэўніваў, што гэтая несправядлівасць — для мяне дабро, бо я маю сэрца не ўладара, а звычайнага спакойнага чалавека. Так, блукаючы па калідорах палаца і не зважаючы на тое, што дзеялася вакол, я, заняты сваімі блытанымі і гаротнымі думкамі, трапіў проста ў абдымкі Мехунефер. Напэўна, нейкая патаемная думка супраць маёй волі і прывяла мяне да яе, бо так часта бывае, што чалавек сам не разумее, куды нясуць яго ногі. Тым не менш я вельмі спалохаўся, убачыўшы перад сабой яе густа нафарбаваны твар і пачуўшы бразгат яе незлічоных аздобаў, якія нагадвалі грукат баявой калясніцы іляскат шчытоў. Але Мехунефер, убачыўшы мяне, спалохалася яшчэ больш, схапіла мяне за руку і, нягледзячы на мае адчайнае супраціўленне, пацягнула ў ціхі куток за калонамі. Там яна ўзялася гладзіць мяне па шчоках, а потым, баязліва аглядаючыся, прамовіла:

— Сінухе, Сінухе, мой маленькі галубок, мой верны бычок, нарэшце ты прыехаў па мяне. Вой, Сінухе, як было б добра, калі б ты стаў маім сябрам! Каб сказаць табе гэта, я і прыехала ў Ахетатон, але твае слугі прывялі мяне зноў на карабель, а калі я саскочыла ў ваду, каб вярнуцца на бераг, яны пачалі штурхаць мяне ў вадзе жардзінамі так, што я ледзь не патанула, і мне давялося плыць да карабля, і весляры выцягнулі мяне з вады, што было для мяне вялікаю ганьбай. Я не вінавачу цябе, Сінухе, гэта ўсё бязглуздасць тваіх паслугачоў. Толькі потым я даведалася, што ты паехаў з Ахетатона ў Сірыю з небяспечным даручэннем і заслужыў вялікую славу. А я, Сінухе, не ведаю, як расказаць табе ўсё і не параніць тваё сэрца.

Яна ўсхвалявана сціскала пальцы і была ў такім неспакоі, што я нават перапалохана ўявіў, быццам па сваёй дурасці яна хоча мяне запэўніць, што чакае ад мяне дзіця, хоць нічога паміж намі дзеля гэтага не было. Але яна расплакалася і, схапіўшы мяне за руку, сказала:

— Сінухе, Сінухе, каханы мой сябра, я ўсяго толькі слабая жанчына, і табе не варта было кідаць мяне адну. Не ведаю, ці зможаш ты, такі верны і мужны, зразумець мяне, але спадзяюся, што зразумееш. Ведай



жа, што пакуль цябе не было, другі мужчына палка захацеў мяне, і я не змагла супраціўляцца.

Яна горка плакала і, безупынна гладзячы мяне па шчацэ, каб суцешыць, працягвала:

— Ён не дурнейшы за іншых і, увогуле, мне спадабаўся, але яго нельга параўнаць з табой, бо ён дужы, як бык, і ўвесь час б'е мяне і цягае за вушы. Таму прашу цябе, Сінухе, ідзі адсюль, пакуль ён не ўбачыў цябе са мною, інакш ён зноў бязлітасна мяне паб'е, а я не хацела б гэтага, хоць, праўда, той боль, які ён прычыняе, мне даспадобы. Даруй мне, Сінухе, што даводзіцца наносіць рану тваму сэрцу, але мы болей не можам быць разам.

І яна баязліва азірнулася, баючыся, напэўна, што і я зараз паб'ю яе. А я адчуў такую палёгку, што мне хацелася смяяцца і скакаць ад радасці, але я пастараўся прыкінуцца сумным і адказаў:

— Прыгажуня Мехунефер, я жадаю табе шчасця, бо тваё шчасце — гэта і маё шчасце таксама. Я ніколі не забуду цябе і твой вобраз назаўсёды застанецца ў маім сэрцы.

І гэта была чыстая праўда, бо я быў пэўны, што ніколі не забуду гэтую жахлівую жанчыну. Яна расчулілася, зноў пачала гладзіць мяне сваімі зморшчанымі сухімі лапамі і нават, можа, пацалавала б, калі б не баялася свайго каханка. Потым яна сказала:

— Сінухе, пад уздзеяннем віна і свайго гора я, напэўна, нагаварыла табе шмат чаго дзіўнага тою ноччу, калі памерла Вялікая царыца-маці, цяпер я ўжо не памятаю, што я казала, але спадзяюся, што і ты забыўся пра гэта. А калі памятаеш, дык ведай, што ўсе мае словы — бязглуздая хлусня, бо Вялікая царская маці была добрая і богабаязная жанчына, і мы кожны дзень прыносім ахвяры і гаворым пра яе толькі добрае, асабліва з той пары, калі яе Ка пачало з'яўляцца ў тронный зале і сядзець начамі на троне з прывязанай царскаю барадой.

Ізноў, каторы ўжо раз, усё змяшалася ў маёй галаве, бо п'яная Мехунефер магла і нахлусіць. Але яна раптам завішчала, адскочыла да мяне і кінулася насустрач сарданскаму военачальніку, які трымаў у руцэ бізун, аплецены меддзю. Ён быў вельмі высокага росту, з чырвонымі ад піва вачыма, магутны і дзябёлы, з таўшчэзнымі рукамі. Ён хвастануў Мехунефер бізуном па спіне, потым схапіў за каршэнь і крыкнуў:

— У імя Сэта і ўсіх ягоных нячысцікаў! Ты толькі і глядзіш, як пабегчы да другога мужыка, старая карова!

З гэтага я зрабіў выснову, што гэта і ёсць каханак Мехунефер, пра якога яна казала, і паспешліва пайшоў прэч, бо ён быў застрашальна магутны.

Яшчэ я наведаў у жаночых пакоях палаца вавілонскую князёўну, з якой фараон Эхнатон разбіў гаршчок і якую царыца Неферціці паспя-

шалася адаслаць у Фівы, дзе жылі і іншыя жонкі фараона. Гэта была прыгожая маладая жанчына. Яна вельмі прыязна паставілася да мяне, бо я ўмеў гаварыць на яе роднай мове, а яна толькі вучыла егіпецкую і вымаўляла дзіўна і пацешна. Ёй падабалася жыць у Фівах, хоць яна і была незадаволеная, што фараон не выканаў з ёй свае абавязкі мужа. Але жыць у Егіпце ўсё адно было прыемней, чым сядзець у зачыненых жаночых пакоях у вавілонскім палацы.

— Я была няздольная нават уявіць, што жанчына можа быць такою свабоднай, як у Егіпце, — казала яна. — Мне не трэба хаваць ад мужчын твар пад хусткай, я магу размаўляць, з кім захачу, дастаткова мне толькі загадаць, і мяне адразу перавязуць на чоўне ў Фівы, я жаданы госць на баляваннях, якія ладзяць знатныя людзі, і ніхто не лічыць ганьбай і сорамам, калі я дазваляю прыгожым мужчынам пакласці мне руку на шыю ці дакрануцца вуснамі да маёй шчакі. Мне толькі хацелася б, каб фараон выканаў са мной свой абавязак, тады мая свабода ўзрасце, і я змагу весяліцца, з кім захачу, бо, як я зразумела, у Егіпце такі звычай: усе цешацца, з кім заўгодна, — галоўнае, каб іншыя пра гэта не ведалі. Як ты думаеш, ці хутка фараон запросіць мяне, каб выканаць свой абавязак? Ато ўсе вакол мяне весяляцца і расказваюць розныя цікавыя гісторыі пра гэтыя забавы, а мяне гэта раздражняе, бо я ж гаршчок разбіла ўжо даўно!

Гэта была сапраўды прыгожая жанчына са светлаю скурай, яе вочы блішчалі ярчэй, чым у егіпцянак, і я добра разумеў мужчын, якія імкнуліся пакласці ёй руку на шыю. А яна пазірала на мяне з гарэзлівымі іскрынкамі ў вачах, якія, разам з яе словамі, вельмі мяне збянтэжылі, і я не ведаў, што адказаць. Тады яна крыху расхінула вопратку і сказала:

— Я думаю, што фараон непакоіцца пра маё здароўе і таму прыслаў цябе, лекара, агледзець мяне. Магу цябе запэўніць, што егіпецкае паветра мне вельмі карыснае, і мяне непакоіць толькі адно: ці не занадта я дзябёлая, каб прыйсціся даспадобы егіпецкім мужчынам. Скажы праўду, — як егіпецкі мужчына і як мой добры сябар, — каб я магла выправіць недахоп, бо ён тлумачыцца толькі тым, што ў Вавілоне чым жанчына таўсцейшая, тым прывабнейшая для мужчын. І таму дома я ўвесь час піла вяршкі ды ела салодкае, каб нарасціць тлушч на сваіх касцях.

Забыўшыся на свае лекарскія абавязкі, я разглядзеў яе вачыма егіпецкага мужчыны і сябра, як яна прасіла, і пераканаў яе, што ніякіх недахопаў у яе няма і што шмат якія мужчыны болей любяць мяккі ложак, чым цвёрды, і тут паміж вавілонскімі і егіпецкімі мужчынамі няма нікай розніцы. Але я параіў вавілонскай князёўне не есці шмат салодкага, бо фараон і ягоная Вялікая жонка хударлявыя, а значыць і прыдворныя павінны быць такія ж. Я думаю, мае словы абудзілі ў яе марныя спадзяванні, бо яна запрашальна паглядзела на мяне і сказала:



— Вось тут, злева на грудзях, у мяне ёсць радзімка. Яна такая маленькая, што яе цяжка заўважыць, і ты павінен наблізіць свае вочы, каб разглядзець яе. Але, хоць яна і маленькая, я ўсё ж хачу, каб ты выдаліў яе. Прыдворныя паненкі ў Ахетатоне казалі, што ты робіш гэта па-майстэрску на радасць сабе і жанчыне.

Яе ружовыя грудзі былі раскошныя, на іх сапраўды можна было заглядзецца, а па яе размовах і паводзінах я заўважыў, што фіванская ліхаманка ўжо ахапіла яе, аднак, я не меў намеру ламаць пячатку на фараонавым сасудзе. Таму я гучна пашкадаваў, што не захапіў з сабой лекарскага куфэрку, і пасляшаўся сысці, бо ў такіх сітуацыях патрабавалася вялікая перасцярога, дый Мэрыт была для мяне болей жаданай, чым усе вавілонскія прыгажуні. Але, дзякуючы гэтай сустрэчы, я змог паглядзець на Фівы і Залаты палац вачыма чужаземца, і зразумеў, якая распуста панавала ў палацы, калі маладая вавілонская князёўна так хутка разбэсцілася і стала, бы малпа, пераймаць самыя распусныя егіпецкія норавы. Павінен прызнацца, што я пайшоў ад яе засмучаны, праўда, не ведаю, ці то быў смутак ад маіх невясёлых думак, ці ад расстання з ёю. Але мне лягчэй было ісці з Залатога палаца пасля сустрэчы з вавілонскай князёўнай, чым пасля размовы з Эйе, якая пакінула ў маім сэрцы атручаную стрэмку.

Мушу таксама яшчэ расказаць, як падчас майго побыту ў Фівах да мяне наведаўся жрэц Херыхор, якога позна вечарам прынеслі да майго дома ў насілках. Ён нагадаў мне пра нашае папярэдняе спатканне, пра нашы размовы і сказаў:

— Дык ты, Сінухе, памятаеш сваё абяцанне?! Імклівы паток далёка аднёс карабель, але ты яшчэ можаш паспець ускочыць на яго, калі пажадаеш.

— Я не памятаю, каб нешта табе абяцаў, — з годнасцю запярэчыў я.

Але ён усміхнуўся ўсмешкаю мудрага чалавека, круцячы на пальцы пярсцёнак Амона, і адказаў:

— Можа, твой розум і не даваў ніякага абяцання, але сэрцам ты абяцаў мне, нават таго не ведаючы. Аднак розуму трэба паспяшацца, бо гэтай зімой у Кэмеце будзе голад, а за ім прыйдуць хваробы і праліецца кроў, і нават самыя мудрыя з мудрых не будуць ведаць, што рабіць.

— Разводдзе з выгляду падымаецца лёгка, але вада, падымаючыся, змятае на сваім шляху ўсе грэблі і гаці. Можа патоп, які ты наладзіш, змяце на сваім шляху і цябе, Херыхор, і тваіх жрацоў, і я не магу сказаць, што вельмі засмучуся ад гэтага. Вялікі разліў можа прычыніць шмат шкоды, але затое, спадаючы, ён пакідае шмат урадлівага глею, і ўраджай узрастае стакроць.

Херыхор не ўзлаваўся, а з мудрым і ласкавым выглядам адказаў:

— Ты, напэўна, лічыш сябе мудрым, Сінухе, і прамаўляеш так веля-

гурыста, але тваё параўнанне памылковае. Я лепш сказаў бы, што цяпер у цемры выкоўваецца меч, і ты бачыш, ад сталёвага ляза як разлятаюцца іскры. Гэты меч выкоўваюць фараонава дурнота і ўтрапёнае шаленства «крыжоў»! Яго выкоўваюць голад, хваробы і кроў! І неўзабаве ён увап'ецца Егіпту ў самае сэрца. Калі меч прабівае сэрца чалавека — той падае і больш не ўстае, і чэрві тлусцеюць, пажыраючы яго. Дык, можа, і ты, Сінухе, хочаш аддаць Егіпет на спажыву чарвякам? У выніку ўсё адно — што патоп, што меч. Але карабель імчыць наперад з усёй большаю хуткасцю, і ты, Сінухе, можаш яшчэ на яго ўскочыць, калі захочаш. А калі не захочаш — трапіш у вір і патонеш, гэтак сама, як патонеш і тады, калі скочыш запозна. А ты скочыш, Сінухе, наколькі я магу чытаць у чалавечым сэрцы, скочыш, можаш мне паверыць.

Ён лічыў мяне слабым чалавекам, але не здагадваўся, што ў маіх жылах цячэ царская кроў. Толькі поклічам царскай крыві можна растлумачыць многія мае ўчынкі, якія я сам не мог зразумець.

Сказаўшы ўсё гэта, Херыхор пакінуў мой дом і знік у цемры, і гэтым разам мы расталіся хоць і не ворагамі, але і не сябрамі. Я прабыў у Фівах усю вясну, настала лета, у бядняцкім квартале развялася процьма мух, але я ўсё не хацеў ад'язджаць. Нарэшце сам фараон запатрабаваў, каб я вярнуўся ў Ахетатон, бо ў яго зноў узмацніўся галаўны боль, і я, такім чынам, больш не мог марудзіць з ад'ездам. Я развітваўся з Каптахам у «Кракадзілавым хвасце», і ён сказаў мне на развітанне:

— Мой гаспадар, я скупіў усё збожжа, якое толькі мог, і яно складзена ў многіх гарадах, а частку зерня і прыхаваў, бо мудры глядзіць наперад, а не назад, а ўсё новыя бязглуздыя ўказы ды законы не даюць гандляваць сумленна. Таму не выключана, што тваё збожжа захочуць забраць і прадаць народу ў выпадку голаду. Вось тады зборшчыкі даніны і наб'юць сабе глоткі, хоць такога зроду не было ніколі, бо адбіраць чужое майно і збожжа ніяк не стасуецца са старымі добрымі звычаямі. Але я думаю, што можа адбыцца ўсё, што хочаш, бо забаранілі ж вывозіць у Сірыю пустыя гаршчкі, і цяпер іх з вялікімі выдаткамі правозяць патаемна, а гэта значна змяншае мае прыбыткі. Тут напраўду не зразумееш, на галаве ты стаіш, ці на нагах, бо пастанова наконт гаршчкоў такая ж дурная, як і жаданне сірыйцаў купляць іх. У Сірыю забаронена вывозіць і збожжа, але гэта разумны і зразумелы ўказ, хоць ён выйшаў запозна, бо ва ўсім Егіпце не засталося ніводнага зернейка, якое можна было б паслаць у Сірыю. Я нічога не маю супраць законаў і пастановаў, бо яны супакойваюць народ, а прыстойная няспешнасць з іх выданнем дазваляе гандляру як след нажыцца і не панесці стратаў. Але пастанова наконт пустых гаршчкоў вартая ўсялякага асуджэння, бо яна дурная: ніхто ж не можа забараніць напоўніць тыя гаршчкі рачною вадой, тады яны ўжо не будуць пустыя, а мытную пошліну за рачную ваду браць пакуль не дадумаліся, хоць фараонавы мытнікі мастакі на ўсялякія прыдумкі.



І яшчэ Каптах сказаў:

— Радуйся, мой гаспадар, бо наступнай вясной ты будзеш самым багатым чалавекам у Егіпце, калі толькі не здарыцца нічога незвычайнага і нечаканага,— хіба што фараон будзе багацейшы за цябе. Праўда, я павінен прызнацца, што ўсеагульны неспакой хвалюе мяне, як хвалююць усе гэтыя «крыжы» ды «рогі». Я з задавальненнем прызнаю, што фараон Эхнатон — вялікі цар, бо менавіта ў час яго кіравання я так узбагаціўся, але хочацца мне, каб гэтае кіраванне хутчэй скончылася, і мы зноў вярнуліся да старога ладу жыцця, і я мог бы тады спакойна і бестурботна жыць, атрымліваючы асалоду ад свайго багацця і будучы пад абаронай добрых законаў і цвёрдага парадку. Я ўжо не разумею, што адбываецца з маімі рабамі — так нахабна яны сябе паводзяць: адмаўляюцца есці чэрствы хлеб і стары алей, шпурляюць посуд у наглядчыкаў, а я не адважваюся пабіць іх палкай, бо нядаўна адзін раб кінуўся на свайго гаспадара, зламаў яго посах і ўцёк. Такога ніколі не было! Ці ж гэта не падстава павесіць некалькі рабоў на муры дзеля навучання іншым? На такое я і сам аддаў бы парачку сваіх рабоў.

Я нагадаў яму, што некалі ён сам быў рабом і на сваёй скуры паспытаў, якое гэта жыццё, але мой напамін вельмі яго раззлаваў, і ён сказаў:

— Сапраўды, раб — гэта раб, а гаспадар — гаспадар, і такі лад жыцця — дасканалы, ён быў, ёсць і будзе вечна. У гэтым ладзе няма ні заганаў, ні хібаў, і я сам лепшае таму сведчанне. Я быў рабом, а цяпер я багаты чалавек, я растаўсцеў, дзякуючы сваім здольнасцям і спрыту, і так можа стацца з любым рабом, калі ён дастаткова кемлівы і спрытны і можа махляваць ды падманваць, як я. Адзіная загана такога ладу жыцця ў тым, што ён дае роўныя магчымасці ўсім. Харчамі рабоў спрадвеку было прэлае зерне, горкі стары алей і кіслае піва, і нічога не змянілася ў наш час. Гэтак сама спрадвеку рабоў старанна лупцавалі палкамі, каб яны былі адданымі, любілі свайго гаспадара і паважалі ягоную сілу, бо раб, якога не лупцуюць, робіцца заўсёды нахабным і лічыць свайго гаспадара слабым. Я ведаю ўсё гэта лепей за іншых, бо сам быў рабом і мае зад і ногі часта гарэлі ад добрай лупцоўкі, але гэта не пашкодзіла мне, а наадварот, навучыла красці і хлусіць яшчэ хітрэй, і я жадаю сваім рабам цалкам прайсці курс гэтай навукі.

Спрачацца з ім не было сэнсу, і я развітаўся. Потым я абняў Мэрыт і Тота, якіх, на вялікі мой жаль, не мог узяць з сабой, бо фараон прыспешваў мяне, і такое падарожжа не дало б ім ніякага задавальнення. Але я сказаў Мэрыт:

— Прыязджайце да мяне з маленькім Тотам, вы будзеце жыць са мной ў Ахетатоне, у маім доме, і мы будзем шчаслівыя разам.

Мэрыт адказала:

— Калі ўзяць кветку з пустэльні і перасадзіць ва ўрадлівую глебу, яна счэзне і загіне, нават калі яе палівацъ кожны дзень. Так будзе са мной у Ахетатоне. Твае сяброўскія адносіны да мяне звянуць і загінуць, калі ты пачнеш параўноўваць мяне з прыдворнымі жанчынамі, і ўсе яны будуць паказваць на мяне пальцамі, адзначаючы, што ў мяне не так, як у іх, бо я добра ведаю жанчын. Дый мужчын, мабыць, ведаю не горай.

Я запярэчыў:

— Мэрыт, каханая мая, я вярнуся да цябе, як толькі змагу, бо я пакутую ад голаду і смагі кожны раз, калі цябе няма побач. Многія ўжо выехалі з Ахетатона, каб больш туды не вяртацца. Можа, і я прыеду да цябе і не вярнуся туды.

Але яна не згадзілася:

— Ты абяцаеш мне болей, чым можа вытрываць тваё сэрца, Сінухе. Я ведаю цябе, і ведаю, што твой гонар ніколі не дазволіць табе пакінуць фараона, калі ўсе кідаюць яго ў адзіноце. Можа быць, у шчаслівыя дні ты яго і пакінуў бы, але толькі не ў дні няшчасця. Такое ўжо тваё сэрца, Сінухе, і можа, таму я стала тваёй сяброўкай.

Ад гэтых словаў маё сэрца моцна закалацілася, і пры адной думцы, што я магу яе страціць, камяк перацiснуў мне горла, як кавалак чэрствага хлеба. Я горача сказаў ёй:

— Мэрыт, на свеце ёсць шмат краінаў, і Егіпет — не адзіная, дзе можна жыць. Мне ўстыла бясконцая барацьба багоў і фараонава вар'яцтва. Давай паедзем куды-небудзь далёка і будзем жыць разам — ты, я і маленькі Тот, не хвалюючыся за заўтрашні дзень.

Мэрыт усміхнулася, яе вочы пацьмянелі ад журбы і жалю, і яна адказала:

— Ты кажаш лухту, і сам гэта добра ведаеш, але твая хлусня мне прыемная, бо ў ёй адчуваецца тваё каханне да мяне. Я добра ведаю, што нідзе, апроч Егіпта, ты не будзеш шчаслівы, бо аднойчы ты ўжо сюды вярнуўся. А я не змагу быць шчаслівая нідзе, апроч Фіваў. Ты сам ведаеш, што той, што аднойчы выпіў нільскай вады... Не, Сінухе, чалавеку не ўдасца збегчы ад свайго сэрца, а твая мера павінна стаць поўнай. Апроч таго, з цягам часу я патаўсцею, стану старой і брыдкай, я апастылею табе, і ты пачнеш ненавідзець мяне за турботы, прычынай якіх я буду. Лепш мне страціць цябе, чым пераажыць такое.

— Ты мой дом і мая радзіма, Мэрыт,— адказаў я. Ты хлеб у маіх руках і віно ў маіх вуснах, і ты сама ведаеш, што гэта так. Ты адзіны чалавек на свеце, з кім я не адчуваю сваёй вечнай самоты, і таму я кахаю цябе.

— Вось яно так і ёсць,— сумна адказала Мэрыт,— менавіта так, бо я — мяккая посцілка для тваёй самоты, калі толькі не падраны сяннік пад табой. Але хай сабе і так, ды я і не хачу нічога іншага. Таму я не адкрыю табе сваю таямніцу, якая згрызае мне сэрца, хоць, можа, табе яе і трэба было б ведаць. Але я зберагу яе, хоць па сваёй слабасці хацела даверыцца табе. Не, я пакіну яе сабе — дзеля цябе, Сінухе.



Так яна і не адкрыла мне сваёй таямніцы, бо была болей гордая, чым я, і, напэўна, болей самотная, хоць я тады не разумеў гэтага, думаючы толькі пра сябе. На маю думку, так робяць усе мужчыны ў каханні, але гэта, вядома, не можа быць мне апраўданнем. І як бы мужчыны не цешылі сябе думкай, што ў каханні яны клапоцяцца не толькі пра сябе, але і пра кагосьці яшчэ, гэта ўсё толькі пустыя мроі, як і шмат што іншае ў гэтым свеце.

Так я пакінуў Фівы, каб вярнуцца ў Ахетатон, а ў тым, пра што я распавяду далей, ужо не будзе нічога добрага. Таму я, дарэчы, і распісваў так доўга сваё жыццё ў Фівах, хоць нічога цікавага ў ім не было,— я распавядаў гэта толькі дзеля самога сябе.

# ПАПІРУС ТРЫНАЦЦАТЫ
## Царства Атона на зямлі

### 1

Калі я вярнуўся ў Ахетатон, фараон Эхнатон быў зусім хворы і яму патрабавалася мая дапамога. Яго шчокі ўваліліся, скулы рэзка выступілі, а шыя выцягнулася яшчэ больш і не магла ўжо трымаць цяжар падвойнай кароны, якую ён надзяваў ва ўрачыстых выпадках. Яго клубы сталі надзвычай шырокія, а ногі — танюткія, як лазовыя дубцы. Ад няспыннага галаўнога болю вочы апухлі і пад імі цямнелі фіялетавыя кругі. Ён ужо не глядзеў у вочы людзям, яго позірк блукаў недзе ў іншым свеце, і часта, думаючы пра свайго бога, ён забываўся нават, з кім у гэты момант вядзе размову. Галаўны боль узмацняла і тое, што ён завёў звычку хадзіць на шпацыр пад паўдзённым сонцам без царскага галаўнога ўбору і без махалаў, падстаўляючы аголеную галаву блаславёным промням бога Атона. Але промні Атона не былі для яго блаславеннем, яны атручвалі яго, ён трызніў і яго наведвалі жахлівыя відзежы. Ягоны бог, напэўна, быў да яго падобны, бо шчодрай рукой раздаваў людзям дабро — нечакана для іх і нават гвалтоўна — так, што яго дабро выходзіла злом, а любоў сеяла вакол толькі пагібель.

Але ў хвіліны прасвятлення, калі я прыкладваў да ягонай галавы халодныя прымочкі і сцішаў боль супакаяльнымі лекамі, яго вочы былі поўныя такой горычы і тугі, нібыта нейкае невыказнае расчараванне патаемна завалодала ягонай душой, і яго позірк працінаў маё сэрца. Я зноў любіў яго ў яго слабасці і быў гатовы ахвяраваць многім, каб пазбавіць ад расчаравання, якое душыла яго. А ён мне казаў:

— Сінухе, ці магчыма, каб мае відзежы былі падманам і стварэннем толькі маёй хворай галавы? Калі гэта так, значыць, жыццё нашмат страшнейшае, чым я думаў, а ў свеце пануе не дабро, а адвечнае і бясконцае зло. Але такога быць не можа, і мае відзежы былі сапраўдныя. Ты чуеш, неўтаймоўны Сінухе, мае відзежы мусяць быць сапраўднымі, няхай нават і мае сябры апаганьваюць мой ложак! Я не сляпы, я добра бачу чалавечыя сэрцы! І тваё сэрца — таксама, Сінухе, яно ў цябе добрае і слабое, і я ведаю, што ты лічыш мяне за вар'ята, але дарую табе, бо яго святло некалі сагрэла і тваё сэрца.

Калі боль мацнеў, ён ускрыкваў, стагнаў і прамаўляў:

— Сінухе, нават хворую жывёліну шкадуюць, літасціва дабіваючы кіюгай, параненаму ільву літасць даруюць дзідай, і толькі чалавека ніхто





не шкадуе. Расчараванне для мяне страшнейшае за смерць, а паміраць мне не страшна, бо яго святло сагрэе мне сэрца, і хоць чалавечае цела можа памерці, яго дух будзе вечна жыць, сагрэты і асветлены ягоным святлом, якім ён залівае ўвесь свет. Я народжаны ад сонца, Сінухе, і да сонца вярнуся, і я сумую па сонцу, і таму вярнуся да яго, нягледзячы на ўсе расчараванні.

Так ён прамаўляў да мяне, ахоплены ліхаманкай сваёй хваробы, і я не разумеў, ці ведае ён сам, пра што кажа. Аднак з надыходам восені, дзякуючы майму дагляду, яму палепшала, хоць, магчыма, лепш было б даць яму памерці. Але ж лекар не можа зрабіць так, калі здольны вылечыць хворага, і часта гэта ператвараецца ў сапраўдны праклён. Але што зробіш: лекар павінен лячыць усіх — і добрых, і злых, і праведнікаў, і распуснікаў.

Дарэчы, яго словы пра сяброў, якія апаганьваюць яго ложак, былі праўдай, бо пасля нараджэння пятай дачкі царыца Неферціці канчаткова адвярнулася ад мужа і нават узненавідзела яго. Не думаючы ўжо, што яна робіць, яна ўзялася ўсяляк ганьбаваць і абражаць яго. У час, калі паспявае ячмень, царыца Неферціці зацяжарала шосты раз, але дзіця ў яе чэраве мела царскую кроў адно па сваім найменні, бо царыца пусціла ў сваё ўлонне чужое семя: забыўшыя на ўсе межы прыстойнасці, яна цяпер цешылася, з кім хацела, з маім сябрам Тутмесам у тым ліку. Ёй не даводзілася доўга нудзіцца адной у сваім ложку: хоць яе вясна даўно мінула, яе прыгажосць заставалася непараўнальнай, і ў вачах і з'едлівай усмешцы было штосьці такое, што зачароўвала мужчын, і яны не маглі стрымаць сябе. Ад нянавісці і злосці яна наўмысна спакусіла самых адданых Эхнатону людзей, прымушаючы іх адвярнуцца ад фараона, звужаючы тым самым кола фараонавых прыхільнікаў.

Яна мела цвёрдую волю і надзвычай востры розум, а кожная жанчына, якая спалучае зламыснасць з розумам і прыгажосцю, уяўляе вялікую небяспеку. Але стакроць небяспечнейшая тая, якая трымае ў сваіх руках яшчэ і ўладу Вялікае царскай жонкі. Шмат гадоў яна ўтаймоўвала сябе, не даючы волі сваім жаданням, шмат гадоў прывучала сябе ўсміхацца налева і направа, падпарадкоўваць людзей сваёй прыгажосцю, цешыцца аздобамі, віном, вершамі і нявіннымі заляцаннямі. Але пасля нараджэння пятай дачкі штосьці зламалася ў ёй, бо яна сябе пераканала, што ўжо ніколі не зможа нарадзіць сына. І ўсю віну за гэта яна ўсклала на фараона Эхнатона. Безумоўна, гэта не стасуецца з прыродным парадкам і можа памуціць жаночы розум. Але трэба памятаць, што ў жылах Неферціці цякла чорная кроў жраца Эйе, кроў ілжывая, каварная, распусная, атручаная прагай улады, а таму не дзіва, што царыца была такой, а не іншай.

У яе абарону трэба сказаць, што за ўсе папярэднія гады ніхто не мог

сказаць пра яе дрэннага слова, ані распусціць злой плёткі, бо яна была вернай жонкай і кахала фараона, ставячыся да яго з вялікай пяшчотай і аберагаючы яго ў яго шаленстве. Яна сама верыла нават у сапраўднасць ягоных відзежаў. Таму шмат хто здзівіўся такой нечакана рэзкай перамене і ўбачыў у гэтым праклён, які смяротным ценем вісеў над Ахетатонам. Распуста царыцы была такою вялікай, што казалі, быццам яна цешыцца са слугамі, сарданамі і нават магільшчыкамі, у што я не магу паверыць. Калі толькі з'яўляецца падстава для плётак, людзі з радасцю ўсё перабольшваюць і перакручваюць, нават тое, што і без таго варта жалю і асуджэння.

Але я не хачу асуджаць царыцу занадта строга, бо якая жанчына магла б вытрываць такое, асабліва калі яна — царыца і самая прыгожая жанчына ў свеце, жанчына разумная і з тонкай душой, якую ўсе абагаўлялі і якая доўга цярпела жыццё са звар'яцелым фанатыкам-мужам, што прымушаў яе кожны год, як карову, выношваць яму дзяцей, прычым толькі дачок, і вёў у ложку бясконцыя размовы пра свайго бога Атона! Апроч таго, калі вочы Неферціці адкрыліся, а пяшчота ў сэрцы змянілася злосцю, яна, жанчына разумная і кемлівая, адразу заўважыла, што фараон Эхнатон сее вакол сябе адно разбурэнне і, сам таго не заўважаючы, аслабляе сваю ўладу, штурхаючы сябе да пагібелі. Таму цалкам магчыма, што яе распуста і цяга да мужчын вынікалі не з раптоўнай жаночай страсці, што ў ёй абудзілася, а з загадзя зробленага цвярозага разліку — найбольш зручным для прыгожай жанчыны спосабам перацягнуць на свой бок адданых фараону людзей і егіпецкую знаць. Зрэшты, усё гэта былі толькі мае здагадкі, а на справе ўсё магло быць зусім не так.

Але фараон Эхнатон замкнуўся ў сваёй самоце. Ён пачаў харчавацца хлебам беднякоў і піць нільскую ваду, бо хацеў ачысціць цела, каб вярнуць ранейшую прасветленасць, думаючы, што мяса і віно затуманьваюць яго відзежы.

Звонку таксама ўжо не паступала ніякіх радасных звестак, толькі Азіру прысылаў з Сірыі гліняныя таблічкі з бясконцымі скаргамі. Яго людзі хочуць вярнуцца па дамах, пісаў ён, каб пасвіць статкі авечак і даглядаць гавяду, апрацоўваць зямлю і весяліцца з жонкамі, бо яны мірныя людзі, якія любяць лад і спакой. Але з Сінайскай пустэльні ў ягоныя землі няспынна ўрываюцца хеўры рабаўнікоў, не зважаючы на свяшчэнныя межы, пазначаныя камянямі, і рабуюць Сірыю, а ўзброеныя гэтыя злодзеі егіпецкай зброяй, кіруюць імі егіпецкія военачальнікі і свае набегі яны робяць на егіпецкіх баявых калясніцах! Усё гэта ўяўляе пастаянную пагрозу для Сірыі, з прычыны чаго ён, Азіру, не можа распусціць сваіх воінаў па дамах. І ваенны камендант Газы таксама паводзіць сябе неадпаведна мірнай дамове, не пускаючы ў Газу мірных



гандляроў і караваны, а пускаючы толькі тых, хто прыйдзецца яму даспадобы, паводле сваёй зламыснай прыхамаці. Азіру скардзіўся яшчэ і яшчэ, яго скаргам не было канца, ён запэўніваў, што любы іншы на яго месцы даўно страціў бы ўсялякае цярпенне, а ён трывае так доўга толькі таму, што вельмі любіць мір і спакой. Але такому становішчу павінен быць пакладзены канец, іначай ён не адказвае за наступствы.

Асабліва быў абражаны Вавілон, бо Егіпет супернічаў з ім у гандлі збожжам на сірыйскіх рынках, і, апроч таго, цар Бурабурыяш быў незадаволены падарункамі, прысланымі яму з Егіпта ў якасці пасагу: ён лічыў іх недастатковымі і пасылаў доўгія спісы самых сціплых патрабаванняў, выкананне якіх дапаможа фараону зберагчы дружбу вавілонскага цара. Вавілонскі пасол, які пастаянна знаходзіўся ў Ахетатоне, паціскаў плячыма, разводзіў рукамі, нават ірваў бараду і казаў:

— Мой гаспадар падобны да неспакойнага льва ў сваім логавішчы, які прынюхваецца, што нясе яму вецер. Усе спадзяванні ён звязвае з Егіптам, але ж калі Егіпет такі бедны, што не можа прыслаць дастаткова золата, каб мой гаспадар наняў магутных воінаў з дзікіх краінаў і пабудаваў патрэбную колькасць баявых калясніц, то я не ведаю, што з гэтага можа выйсці. З моцным і багатым Егіптам мой гаспадар заўсёды гатовы сябраваць, і такое сяброўства будзе забяспечваць мір на зямлі, бо Вавілону і Егіпту не патрэбныя войны, яны і так самыя багатыя краіны ў свеце, а таму зацікаўленыя ў захаванні міру і свайго багацця. Але дружба са слабым і бедным Егіптам страчвае ўсялякую каштоўнасць у вачах майго гаспадара і будзе яму толькі прыкрай. Магу сказаць, што мой гаспадар быў вельмі засмучаны, калі Егіпет з прычыны сваёй слабасці адступіўся ад Сірыі. Свой рот заўсёды бліжэйшы, чым чужы кашэль, і Вавілон павінен думаць, у першую чаргу, пра Вавілон. І хоць сам я сардэчна люблю Егіпет і жадаю яму ўсяго толькі найлепшага, усё ж інтарэсы маёй дзяржавы мне даражэйшыя за інтарэсы Егіпта, таму не дзіва, калі мне хутка давядзецца збірацца ў дарогу і вяртацца ў Вавілон, хоць гэта мяне і засмуціць.

Так ён казаў, і ніводзін разумны чалавек не мог запярэчыць яго мудрым словам. А цар Бурабурыяш перастаў прысылаць цацкі сваёй двухгадовай нявесце, хоць яна была дачкой фараона і ў яе жылах цякла свяшчэнная кроў.

Затое ў Ахетатон прыехала пасольства хетаў, у склад якога ўваходзілі і славутыя хецкія ваяводы. Яны казалі, што прыехалі, каб умацаваць з Егіптам сяброўскія сувязі, і, апроч таго, хацелі пазнаёміцца са егіпецкімі звычаямі, пра якія чулі шмат добрага, і з егіпецкім войскам, чые склад і ўзбраенне, безумоўна, будуць хетам вельмі цікавыя і навучальныя. Яны паводзілі сябе вельмі выхавана і прыязна і прывезлі егіпецкім вяльможам шмат каштоўных падарункаў. Маладому Туту, мужу Анкесена-

тон і зяцю фараона, яны падаравалі нож з сіняватага металу, які быў вастрэйшы і цвярдзейшы за ўсе іншыя. Хлопчык быў вельмі шчаслівы. Ва ўсім Ахетатоне такі нож быў яшчэ толькі ў мяне — яго падараваў мне хецкі начальнік порта, якога я вылечыў, пра што я ўжо расказваў. І я параіў Туту аздобіць яго срэбрам і золатам на сірыйскі лад, як я зрабіў гэта ў Сіміры. Такім чынам атрымалася выдатная і дарагая зброя. Тут быў у захапленні і сказаў, што загадае пакласці нож з сабой у магілу. Ён быў хваравіты і кволы хлопчык і на свой узрост надта часта думаў пра смерць.

Хецкія ваяводы былі сапраўды ветлівымі і добра выхаванымі людзьмі, на іх плашчах і нагрудных пласцінах блішчалі выявы крылатых сонечных дыскаў і двайных сякераў. Іх велічныя гордыя насы, цвёрдыя падбароддзі і неўтаймоўныя позіркі, як у дзікіх звяроў, неадольна дзейнічалі на прыдворных жанчын, схільных да знаёмства з усім новым. Таму хеты адразу завялі ў Ахетатоне процьму сяброў і з рання да змяркання і ад змяркання да рання балявалі ў палацах егіпецкіх вяльможаў так, што пад канец знемагаліся, скардзіліся на галаўны боль, але ўсміхаючыся казалі:

— Мы ведаем, што пра нашу краіну расказваюць розныя жахлівыя гісторыі, выдуманыя зайздрослівымі суседнімі народамі. Таму мы вельмі задаволеныя, што вы можаце на свае вочы пабачыць і ўпэўніцца, што мы не якія-небудзь дзікуны, а добра адукаваныя людзі, і шмат хто з нас нават умее чытаць і пісаць. Мы не харчуемся сырым мясам і не п'ем кроў немаўлят, як пра нас кажуць, мы ўмеем есці гэтак сама, як сірыйцы ці егіпцяне. Мы народ мірны і да вайны не імкнемся, мы прыехалі да вас з багатымі падарункамі і не чакаем падарункаў у адказ, мы прагнем толькі ведаў, каб, узбагаціўшыся імі, далучыць наш народ да мудрай навукі і высокай культуры. Так, мы вельмі цікавімся тым, як сарданы валодаюць зброяй, мы ў захапленні ад вашых калясніцаў, аздобленых золатам, з якімі нашы нязграбныя павозкі не могуць і параўнацца. Не варта слухаць тую лухту, якую плятуць мітаннійскія ўцекачы: іх вуснамі гаворыць крыўда і злосць, бо яны баязліва ўцяклі са сваёй краіны, кінуўшы ўсю сваю маёмасць. Можам запэўніць вас, што нічога дрэннага з імі не здарылася б, калі б яны засталіся на месцы, і мы гасцінна запрашаем іх вярнуцца дадому і жыць з намі ў добрай згодзе. Мы не будзем злавацца на іх за тыя дурныя плёткі, якія яны распускаюць пра нас, бо разумеем іх перажыванні. Але трэба зразумець і нас: зямля Хатці невялікая, і нам робіцца на ёй цесна, бо ў нас кожны мае шмат дзяцей, і дзяцей вельмі любіць наш вялікі ўладар Супілуліума. А дзецям патрэбна месца, і нашым статкам — новыя пашы, у той час, як у Мітанні шмат вольнай зямлі і іх жанчыны родзяць толькі па адным дзіцяці, вельмі рэдка — дваіх. Апроч таго, мы не маглі спакойна глядзець, якая крыўда і які прыгнёт пануюць у Мітанні, дый праўду кажучы, мітаннійцы самі папрасілі нас аб дапамозе, і таму мы прыйшлі ў іх краіну як вызваліцелі, а не як захопнікі. А цяпер, калі мы маем месца для нашых дзяцей і пашы для нашых статкаў, мы ўжо не думаем пра заваёвы, бо мы народ мірны. Нам патрабавалася толькі зямля, каб мы ўсе маглі на ёй размясціцца, а цяпер мы задаволеныя.



Яны высока ўздымалі кубкі з віном, усхваляючы Егіпет, а жанчыны пажадліва глядзелі на іх мускулістыя шыі і звярыныя вочы і млелі ад іхніх словаў:

— Егіпет — выдатная краіна, і мы любім яго. Але можа быць, і ў нашай краіне ёсць чаму навучыцца. Наш уладар ахвотна заплаціць за дарогу і жыццё ў нас высокіх гасцей, якія прыязна да нас паставяцца і пажадаюць вывучыць нашы звычаі. Больш за тое, наш вялікі цар можа ўзнагародзіць іх каштоўнымі падарункамі, бо ён асабліва добразычліва ставіцца да егіпцянаў і вельмі любіць дзяцей. А калі ўжо мы зноў загаварылі пра дзяцей, дык трэба сказаць, што хоць наш вялікі цар і клапоціцца, каб мы множыліся, прыгажуні-егіпцянкі могуць нас не баяцца: мы здольныя пацешыць іх самым вытанчаным чынам і пры гэтым абераўчы ад цяжарнасці. Больш за тое, мы пацешым іх на егіпецкі лад — гэтак сама, як цяпер ядзім па-егіпецку.

Так яны гаварылі перад прыдворнымі. Яны ўсхвалялі прыгажосць Ахетатона, а таму перад імі адчыняліся ўсе дзверы і ад іх нічога не хавалі. Але на мяне пасля іх прыезду павеяла нейкім смяротным смуродам — я ўспомніў іх непрыветную краіну і пасаджаных на паль чараўнікоў. І калі пасольства ад'ехала, я гэтаму зусім не засмуціўся.

Але сам Ахетатон быў ужо да сябе не падобны, насельнікаў горада апанавала нейкае шаленства: ніколі раней яны не жэрлі з такой ненасытнасцю, ніколі не пілі з такой прагай і не аддаваліся такой брыдкай распусце. Цэлымі начамі перад дамамі вяльможаў гарэлі паходні, цэлымі днямі ў іх гучала музыка і чуўся п'яны рогат. Гэтая ліхаманка захапіла нават рабоў і слугаў, якія напіваліся сярод белага дня і бадзяліся па вуліцах без усялякай павагі да сваіх гаспадароў і не баючыся пакарання. Але гэта была нейкая хваравітая весялосць, яна не наталяла смагу людзей, а спальвала іх, нібы балотная ліхаманка, бо людзі ў гэтай весялосці забываліся пра будучае. І пасярод гэтых забаваў, песень ды віннага дурману горад раптам апаноўвала мёртвая цішыня, і тады смех глухнуў у горле, людзі спалохана глядзелі адно на аднаго, імгненна забыўшыся, якія словы хацелі прамовіць. Апроч таго, у горадзе невядома адкуль з'явіўся нейкі дзіўны, саладкаваты пах, перабіць які не маглі ні вохныя масці, ні дым духмяных траваў. Гэты пах асабліва выразна адчуваўся ўранні і ўвечары пры захадзе сонца, ён ішоў не з ракі, не з рыбных сажалак, не са свяшчэннага возера Атона, ён не знік нават

пасля таго, як пачысцілі рышткі. Многія казалі, што гэта пахне праклён Амона.

Такая самая ліхаманка ахапіла і мастакоў, яны ўтрапёна малявалі і рабілі скульптуры, нібы адчувалі, што час уцякае ў іх праз пальцы, а таму спяшаліся дарэшты выкарыстаць сваё майстэрства, пакуль не скончыўся вызначаны ім час.

Яны з нейкім ліхаманкавым натхненнем перабольшвалі і скажалі праўду, ператвараючы яе ў смешнае падабенства жывому, яны нібыта спаборнічалі, вынаходзячы ўсё болей вычварныя формы для адлюстравання ўсяго існага, і абвясцілі нарэшце, што могуць перадаць рух і настрой некалькімі штрыхамі і лініямі. Яны рабілі выявы фараона так, як гэта мог бы зрабіць толькі яго самы заняты злоснік. Але самі яны былі ў захапленні ад сваіх поспехаў і казалі:

— Сапраўды, так яшчэ не малявалі і такіх скульптураў яшчэ не рабілі. Вось яна — праўда.

А я казаў сваму сябру Тутмесу:

— Фараон Эхнатон падняў цябе з гразі і паставіў упоравень з сабой, зрабіўшы сваім сябрам. Чаму ж ты паказваеш яго так, нібы люта ненавідзіш, чаму апаганьваеш яго ложак і прадаеш ягоную дружбу?

Тутмес адказваў:

— Не лезь у справы, у якіх нічога не разумееш, Сінухе. Можа, я і ненавіджу яго, але яшчэ больш ненавіджу сябе. Агонь творцы спальвае мяне, і яшчэ ніколі мае рукі не былі такімі спрытнымі. Можа, незадаволены мастак, які ненавідзіць сябе, здольны стварыць болей, чым мастак добрапрыстойны і ўсім задаволены. Усе колеры і формы я ствараю з сябе, з сябе я ствараю гэтую неаднастайнасць, і ў кожнай скульптуры высякаю сябе на вечныя часы. Таму ніводзін чалавек мне не роўны, я ўзвышаюся над усімі, і няма для мяне непахісных законаў і забаронаў, бо маё мастацтва вышэй за ўсе законы, а я сам, творца, болей бог, чым чалавек. Ствараючы гэтыя колеры і формы, я спаборнічаю з самім Атонам і перамагаю яго, бо ўсё, што стварае з сябе Атон — гіне, а тое, што ствараю я — застаецца навечна.

Праўда, кажучы гэта, ён быў п'яны, бо піў кожны дзень, і я даравалў яму таму, што пакуты адбіваліся на яго тварах і яго позірк быў позіркам няшчаснага чалавека.

Тым часам з палёў сабралі ўраджай, вада паднялася і сышла, наступіла зіма, а разам з ёю на егіпецкай зямлі прыйшоў голад. І ніхто ўжо не ведаў, якія няшчасці прынясе з сабой заўтрашні дзень. На пачатку зімы ў Ахетатон прыйшла вестка, што Азіру пусціў хетаў у многія сірыйскія гарады і хецкія баявыя калясніцы, перайшоўшы Сінайскую пустэльню, напалі на Таніс і спустошылі вакол горада ўсе ўрадлівыя Ніжнія землі да самай ракі.



**2**

Следам за гэтымі звесткамі ў Ахетатон прыехалі Эйе з Фіваў і Харэмхеб з Мемфіса, каб парадзіцца з фараонам, як уратаваць тое, што яшчэ можна ўратаваць. Я быў на той нарадзе як лекар, бо баяўся, што ад турботаў ды непрыемнасцяў, фараону стане дрэнна, і ён зноў захварэе. Але фараон паводзіў сябе стрымана, холадна і не траціў спакою, пакуль жрэц Эйе і Харэмхеб гаварылі перад ім.

Жрэц Эйе казаў:

— Фараонавы свірны спусцелі, і краіна Куш не прыслала нам сёлета абавязковай даніны, на якую я так спадзяваўся. Паўсюль пануе вялікі голад, каб здабыць харчы, людзі выкопваюць з глею карані вадзяных раслінаў, абдзіраюць кару садовых дрэваў, ядуць жаб, саранчу і жукоў. Шмат людзей памерла, але яшчэ большай колькасці наканавана памерці ў хуткім часе, і нават пры самым строгім размеркаванні царскага збожжа ўсім не хопіць, а гандляры прадаюць сваё зерне па такіх высокіх цэнах, што збяднелыя людзі не могуць купіць яго. Вялікі неспакой пануе ў душах людзей, сяляне бягуць у гарады, а гараджане бягуць з гарадоў, і ўсе кажуць: «Гэта праклён Амона, і мы гінем па віне новага фараонава бога». Таму, фараон Эхнатон, нельга марудзіць, аддай Амону ягоную ўладу, хай людзі пакланяюцца яму і прыносяць ахвяры, і тады ўсе супакояцца. Аддай Амону ягоныя землі, і хай ён іх апрацоўвае, бо цяпер земляробы называюць твае землі праклятымі і не асмельваюцца іх засяваць. Таму трэба паміры́цца з Амонам, і трэба зрабіць гэта як мага хутчэй, інакш я не магу прадказаць наступствы.

А Харэмхеб сказаў:

— Бурабурыяш купіў у хетаў мір, а Азіру пад іх націскам адчыніў брамы сваіх гарадоў і зрабіўся іхнім хаўруснікам. Хецкіх воінаў у Сірыі, як марскога пяску, а калясніц у іх болей, чым зорак у небе, і гэта пагібель Егіпту, бо ў сваёй хітрасці яны прывезлі з сабою ваду ў незлічоных гаршчках, і іх войска не будзе адчуваць нястачы ў вадзе. На жаль, большасць гаршчкоў яны купілі ў Егіпце, а гандляры ў сваёй хцівасці выкапалі сабе магілу. Калясніцы Азіру і хетаў ужо рабілі набегі пад Таніс у егіпецкіх землях, і тым самым яны парушылі мірную дамову. Гэта невялікая шкода для нашага гонару, дый разбурэнні яны нарабілі невялікія, але я загадаў распаўсюдзіць чуткі аб звярынай жорсткасці хетаў, так што народ гатовы да вайны. Ёсць яшчэ час, фараон Эхнатон! Загадай затрубіць у баявыя трубы, узняць сцягі і абвясціць вайну. Збяры ўсіх здольных насіць зброю ў лагеры дзеля навучання ваеннай справе, загадай накіраваць усе запасы медзі на выраб дзідаў і наканечнікаў для стрэлаў, і ты ўбачыш, што царскі трон будзе выратаваны. Я выратую яго, я павяду нябачаную дагэтуль Егіптам вайну, я перамагу хетаў

і вярну Сірыю пад тваю высокую руку. Усё гэта я магу зрабіць, калі ўсе егіпецкія прыпасы і збожжа аддадуць войску. Голад робіць воінамі нават баязліўцаў, і ім усё адно што Атон, што Амон, народ забудзе аб Амоне падчас вайны, а любыя хваляванні знойдуць выхад у барацьбе з ворагам, і твой трон толькі ўмацуецца ў выніку пераможнай вайны. Я абяцаю табе, фараон Эхнатон, што вайна будзе пераможнай, бо я, Харэмхеб, Сын сокала, народжаны для вялікіх здзяйсненняў, і цяпер настаў мой дзень, якога я чакаў усё жыццё.

Пачуўшы гэта, жрэц Эйе паспешліва сказаў:

— Не вер Харэмхебу, фараон Эхнатон, не слухай яго, мой любы хлопчык, бо падман прамаўляе ягонымі вуснамі, а ён сам хоча захапіць тваю ўладу. Заключы пагадненне са жрацамі Амона і тады абвяшчай вайну, але ні ў якім разе не давярай Харэмхебу кіраўніцтва арміяй. Пастаў на чале войска якога-небудзь сталага дасведчанага военачальніка, які вывучаў ваеннае майстэрства па старадаўніх рукапісах часоў вялікіх фараонаў і якому ты давяраеш.

— Калі б мы стаялі цяпер не перад фараонам, жрэц Эйе, — адказаў Харэмхеб, — я заткнуў бы твой паганы рот сваім кулаком. Ты мераеш мяне сваёй меркай, і тваімі вуснамі прамаўляе падман, бо ты ўпотай ужо даўно дамовіўся са жрацамі Амона і заключыў з імі пагадненне за плячыма фараона. І я не падманваю хлопчыка, чыю слабасць абараніў аднойчы, прыкрыўшы сваім плашчом у пустэльні каля фіванскіх гор! Мая галоўная мэта — веліч Егіпта, і толькі я змагу выратаваць краіну.

Тады фараон Эхнатон спытаў:

— Вы сказалі?

І яны адказалі ў адзін голас:

— Мы сказалі.

Тады фараон прамовіў:

— Мне трэба ўсю ноч маліцца, перш чым я прыму рашэнне. А заўтра збярыце на сход увесь народ, збярыце ўсіх, хто мяне любіць, збярыце знатных і прасталюдзінаў, гаспадароў і слугаў, прывязіце людзей з горных каменяломняў, каб я мог гаварыць з народам і абвясціць сваё рашэнне.

І яны зрабілі так, як загадваў фараон, і сабралі назаўтра ўвесь народ, — Эйе, спадзеючыся, што фараон памірыцца з Амонам, а Харэмхеб, думаючы, што фараон абвесціць вайну Азіру і хетам. А фараон не спаў усю ноч і маліўся, усхвалявана ходзячы па палацы. Ён не еў і не піў і ні з кім не заводзіў размовы, і, як царскі лекар, я быў занепакоены яго станам. Наступным днём яго вынеслі да народа, і з трона, які стаяў перад натоўпам, ён з ясным тварам прамовіў, узняўшы рукі ў свяшчэнным натхненні:

— Па маёй слабасці голад пануе сёння на егіпецкай зямлі, па маёй слабасці вораг пагражае нашым межам, і вам трэба ведаць, што хеты рыхтуюцца нанесці ўдар з Сірыі па Егіпту, і хутка ногі ворагаў ступяць на Чорную зямлю. Усё гэта адбываецца з прычыны маёй слабасці, з прычыны, што я не зразумеў правільна голас майго бога і не выканаў яго волю. Але цяпер бог адкрыўся мне. Атон адкрыўся мне, і ягоная праўда гарыць у маім сэрцы, і ўва мне больш няма слабасці і сумневу. Я зрынуў фальшывага бога, але пакінуў іншых багоў цараваць побач з Атонам, і іх чорны цень накрыў увесь Егіпет. Дык хай зрынуцца ўсе старыя багі зямлі Кэмет і хай загарыцца над намі адзіны бог Атон! Хай знікнуць з гэтага дня ўсе старыя багі і на зямлі настане царства Атона!



Пачуўшы такое, горад застагнаў да жаху. Хто стаяў, узняўшы рукі, а хто ўпаў ніцма перад фараонам. А той узвысіў голас і працягваў:

— Той, хто любіць мяне, хай ідзе і звяргае старых багоў Кэмет! Ідзіце і знішчайце іх алтары, ламайце выявы, вылівайце на зямлю іх святую ваду і разбурайце храмы, сатрыце іх імёны з усіх надпісаў, не пакінуўшы нават у грабніцах, дзеля ўратавання Егіпта! Вяльможы, бярыце ў рукі кіюгі, мастакі, адкладзіце вашы прылады і вазьміце ў рукі сякеры, будаўнікі, вазьміце ў рукі молаты — і ідзіце па ўсёй зямлі, па гарадах і вёсках, звяргаючы старых багоў і вынішчаючы іх імёны! Так я ачышчу Егіпет ад улады зла!

Ад такіх слоў многія ў жаху кінуліся бегчы, а фараон набраў паветра і ліхаманкава казаў далей з палаючым тварам:

— Хай прыйдзе царства Атона на зямлю! А таму з сённяшняга дня не будзе ні рабоў, ні паноў, ні гаспадароў, ні слуг, а ўсе людзі будуць роўныя перад Атонам, і ніхто не павінен апрацоўваць чужую зямлі або круціць чужыя жорны, кожны будзе вольны ў тым, што рабіць, калі сыходзіць і калі прыходзіць! Фараон сказаў!

Усякі гоман у натоўпе ўжо сціх, усе стаялі знямеўшы і неадрыўна глядзелі на фараона, і мёртвая цішыня агарнула Ахетатон. І я раптам зноў пачуў той самы саладкаваты пах смерці. І тады пад напружанымі позіркамі натоўпу фараон Эхнатон раптам узрос у вачах людзей, і полымя, якім палаў яго твар, асляпіла іх, і сіла ягоная ўвайшла ў сэрцы людзей. Усе раптам захоплена закрычалі:

— Нам трэба слухацца яго, бо напраўду бог прамаўляе да нас ягонымі вуснамі!

Узрушаны народ пачаў разыходзіцца, спрачаючыся і нават адстойваючы кулакамі свае меркаванні, а пазней на адной з вуліц прыхільнікі фараона да смерці збілі двух старых, якія адважыліся ім запярэчыць.

Калі ўсе разышліся, жрэц Эйе сказаў фараону:

— Эхнатон, можаш зламаць сваю карону і выкінуць царскае жазло, бо твае словы перакулілі твой трон.

На гэта фараон адказаў яму:

— Словы, якія я прамовіў, зрабілі маё імя бессмяротным на ўсе часы, і мая ўлада над сэрцамі людзей будзе вечнай!

Тады жрэц Эйе пацёр рукі, плюнуў перад фараонам на зямлю і, утаптаўшы свой плявок нагой, сказаў:

— Калі так, то я абмываю рукі і далей буду дзейнічаць, як палічу патрэбным. Я не буду больш адказваць за свае ўчынкі перад вар'ятам!

Ён хацеў пайсці прэч, але Харэмхеб ухапіў яго за руку і за каўнер і, трымаючы так — хоць той быў мужчына мажны і высокі,— сказаў:

— Гэта твой фараон, і ты павінен выконваць яго загады! Ведай, што я не буду здраджваць яму, а калі здрадзіш ты, то я зарэжу цябе, нават калі дзеля гэтага мне давядзецца наняць за свае грошы цэлую дружыну. Я так сказаў, а я заўсёды выконваю свае абяцанні. Хай фараонава дурнота сапраўды вялікая, і хай я сам не спадзяюся, што з яе выйдзе нешта разумнае, але і ў яго вар'яцтве я люблю яго і не здраджу, бо даў клятву і накрыў яго слабасць сваім плашчом. Апроч таго, у ягонай дурасці ёсць і часцінка разумнага, бо калі б ён проста зрынуў старых багоў, то пачалася б братазабойчая вайна, але вызваліўшы рабоў на млынах і палях, ён зблытаў усе планы зламысных жрацоў і ў выніку перацягне народ на свой бок, хоць, магчыма, гэта і прывядзе да яшчэ большай смуты. Ды мне гэта ўсё роўна. Але што рабіць з хетамі, фараон Эхнатон?

Фараон сядзеў са згаслым тварам, бяссільна апусціўшы рукі на калені і нічога не адказваў. Тады Харэмхеб папрасіў:

— Дай мне золата і збожжа, аддай зброю, калясніцы і коней, дай мне права плаціць воінам і забіраць ахоўнікаў адусюль у Ніжнюю зямлю, і я змагу адбіць напад хетаў.

Фараон падняў на яго пачырванелыя вочы і ціха адказаў:

— Я забараняю табе пачынаць вайну, Харэмхеб. Толькі калі сам народ захоча абараняць Чорную зямлю — тады я не змагу чыніць яму перашкоды. А пра збожжа, золата і зброю не можа быць і гаворкі, бо я іх не магу табе даць, дый не даў бы, каб нават усё гэта меў, бо не хачу адказваць злом на зло. Ты можаш наладзіць абарону Таніса, калі хочаш, але не пралівай крыві, а толькі абараняйся, калі на вас нападуць.

— Хай будзе па-твойму,— адказаў Харэмхеб.— Паўсюль аднолькавае дзярмо. Значыць, памру ў Танісе, як ты загадаў, бо без збожжа і золата самае добрае войска доўга не паваюе. Але мне напляваць на ваганні і разважанні — я буду абараняцца, як лічу патрэбным, фараон Эхнатон. Бывай здаровы!

Ён пайшоў. Жрэц Эйе таксама пакінуў фараона, і я застаўся з ім сам-насам. Ён паглядзеў на мяне бясконца стомленымі вачыма і сказаў:

— Я змогся падчас гэтай прамовы, Сінухе, але і ў сваёй слабасці я шчаслівы. Ну а ты? Што ты збіраешся рабіць?



Яго словы ўразілі мяне, і я глядзеў на яго няўцямным позіркам. Ён зняможана ўсміхнуўся і спытаў:

— Ты любіш мяне, Сінухе?

Я адказаў, што люблю, нават у ягоным вар'яцтве. Тады ён сказаў:

— Калі любіш, значыць ведаеш, што табе трэба рабіць.

Увесь мой розум паўстаў супраць гэтых словаў, бо я ў сэрцы здагадваўся, чаго ён ад мяне хоча. Нарэшце я раздражнёна адказаў:

— Я думаў, што патрэбен табе, як лекар, але калі не патрэбен, то лепш пайду сваёю дарогай. З мяне атрымаецца дрэнны разбуральнік храмаў і знішчальнік старых багоў — мае рукі занадта слабыя, каб махаць молатам. Але хай будзе твая воля. Народ, безумоўна, здзярэ з мяне жыўцом скуру, разаб'е мне галаву камянямі і павесіць дагары нагамі на гарадскім муры, але цябе гэта наўрад ці засмуціць. Так што я паеду ў Фівы, бо там шмат храмаў, і людзі мяне ведаюць.

Ён нічога не адказаў мне, і я, раззлаваны, пайшоў прэч. Усё гэта, на маю думку, было вялікаю дурасцю. Ён застаўся адзін сядзець на сваім троне, а я пайшоў да Тутмеса, бо мне патрэбен быў сябар, перад якім я мог бы выліць свой гнеў. У Тутмесавай майстэрні сядзеў Харэмхеб, а з імі разам піў віно мастак і стары п'янюга, якога звалі Бек. Слугі тым часам складвалі Тутмесавы рэчы, збіраючы яго ў падарожжа.

— У імя Атона,— сказаў Тутмес, уздымаючы залатую чашу.— Значыць, болей няма ні вяльможаў, ні прасталюдзінаў, ні рабоў, ні гаспадароў, а я, той, хто сваімі рукамі ажыўляе камень, паеду руйнаваць храмы і знішчаць мярзотныя выявы багоў. Давайце ж вып'ем з такой нагоды, любыя мае сябры, бо ніхто з нас не пражыве надта доўга.

Мы выпілі, і Бек сказаў:

— Ён падняў мяне з бруду і ўзвысіў, ён зрабіў мяне сваім сябрам і кожны раз, калі я прапіваў сваю вопратку, даваў мне новую. Дык няўжо я адмоўлюся даставіць яму радасць хоць бы ў такой малой справе? Спадзяюся толькі, што мая смерць не будзе занадта пакутлівай, ато сяляне ў маёй вёсцы не вызначаюцца мяккім характарам і маюць дурную звычку пускаць у ход серп, успорваючы жывот кожнаму, хто прыйдзецца ім не даспадобы.

— Не зайздрошчу я вам,— сказаў Харэмхеб,— хоць можаце мне паверыць, што звычаі хетаў яшчэ болей дзікія. Але як бы там ні сталася, я буду ваяваць з імі і думаю перамагчы, бо веру ў сваё шчасце,— аднойчы я бачыў у Сінайскай пустэльні, як гарэла ці то дрэва, ці то нейкі куст, гарэла і не згарала, і вось з тае пары я ведаю, што народжаны для вялікіх здзяйсненняў. Вядома, голымі рукамі шмат не зробіш, але, можа, мае воіны напалохаюць хетаў, закідаўшы іх сваім дзярмом.

— У імя Сэта з усімі нячысцікамі! — сказаў я.— Растлумачце мне, за што мы ўсе так яго любім? Чаму падпарадкоўваемся яму, калі веда-

ем, што ён вар'ят і ўсе яго словы — гэта словы вар'ята? Растлумачце мне, калі можаце.

— На мяне ён ніяк не дзейнічае,— сказаў Бек.— Я стары п'янтос, і ад маёй смерці нікому не будзе шкоды. Але я проста хачу зрабіць яму што-небудзь прыемнае ў падзяку за тыя гады, што я правёў тут сыты і п'яны.

— А я зусім яго не люблю,— горача перабіў Тутмес.— Я, калі і адпраўляюся выконваць яго загад, дык толькі таму, што яго ненавіджу, і таму, выканаўшы гэты загад, змагу наблізіць яго канец. Мне напраўду ўжо ўсё тут устыла, і я толькі жадаю, каб усё хутчэй скончылася.

— Брэшаце, свінні,— сказаў Харэмхеб.— Прызнайцеся лепш, што калі ён глядзіць вам у вочы, па вашых паскудных спінах бягуць мурашкі і вам хочацца стаць дзецьмі, каб гуляць з ягнятамі на палаўцы. Толькі на мяне не дзейнічае яго позірк! Але мой лёс з ім звязаны зусім іначай, і я гатовы пагадзіцца, што люблю яго, хоць ён і паводзіць сябе, як баба і размаўляе бабскім голасам.

Так мы гаманілі, пілі віно і глядзелі, як караблі плывуць уверх і ўніз па рацэ, падняўшы ветразі, і вязуць людзей прэч з Ахетатона. Шмат знатных вяльможаў проста ўцякалі, прыхапіўшы найбольш каштоўныя свае рэчы, але большасць ехалі па загадзе фараона скідаць старых багоў і на ўсю глотку спявалі гімны Атону (зрэшты, я думаю, што гэтыя спевы доўжыліся не доўга — да таго часу, пакуль яны не апыналіся твар у твар з раз'юшаным натоўпам каля якога-небудзь мясцовага храма). Мы пілі ўвесь дзень, але віно не весяліла нам сэрцы, таму што будучыня паўставала перад намі, як чорнае бяздонне, і наша размова ўсё больш змрачнела.

Наступным днём Харэмхеб узышоў на карабель, каб адплыць у Мемфіс, а адтуль у Таніс. Перад ад'ездам я абяцаў пазычыць яму столькі золата, колькі змагу сабраць у Фівах, і адаслаць палову сваіх запасаў збожжа. Другую палову я збіраўся ўжыць на свае мэты. Можа, у тым і заключалася мая слабасць, ад таго і рабіліся ўсе мае памылкі, і гэта вызначала ўвесь ход майго жыцця, што адну палову я заўсёды аддаваў Эхнатону, а другую — Харэмхебу, а цалкам нікому нічога не аддаваў.

**3**

Мы з Тутмесам паплылі ў Фівы, і ўжо далёка ад горада насустрач нам па цячэнні пачалі ўзнікаць трупы. Разбухлыя, яны плылі ўніз па рацэ, і мы бачылі сярод іх і жрацоў з паголенымі галовамі, і знатных людзей, і прасталюдзінаў, і стражнікаў, і рабоў. Мы разглядалі іх і па вопратцы і колеру скуры вызначалі, кім яны былі пры жыцці, калі толькі іх целы не пачалі ўжо чарнець ці іх не пашкуматалі кракадзілы. Зрэшты, цяпер, каб паласавацца чалавечынай, кракадзілам не трэба было



плысці ўверх па рацэ да Фіваў — людзей забівалі ва ўсіх прыбярэжных пасяленнях, а забітых кідалі ў Ніл, і кракадзілы маглі выбіраць ежу на свой густ. Кракадзіл — разумная і хітрая рыбіна, і таму яны выбіралі мяккія целы жанчын і дзяцей, а не высушанае цвёрдае мяса насільшчыкаў ды рабоў. Калі кракадзілы сапраўды маюць розум, а ён у іх, безумоўна, ёсць, дык тымі днямі яны павінны былі ўзносіць хвалу Атону.

Уся рака пахла смерцю, і вецер у начной цемры даносіў да нас смурод далёкіх пажараў. Тутмес з'едліва сказаў:

— Сапраўды падобна, што царства Атона выйшла на зямлю.

Але маё слабае сэрца зацвярдзела ад злосці, і я адказаў яму:

— Тутмес, ніколі раней нічога падобнага не адбывалася на зямлі і ніколі больш нашаму свету не надарыцца такі выпадак. Нельга спячы хлеб, не змалоўшы збожжа. А цяпер млын Атона меле муку, і мы з яе будзем пячы хлеб дзеля фараона Эхнатона,— тады свет сапраўды зменіцца, і ўсе людзі стануць братамі перад Атонам.

Тутмес сербануў з чашы віна, якое піў увесь час, каб перабіць смяротны смурод з ракі, і прамовіў:

— Прабач, што я віном умацоўваю свой слабы дух, бо, шчыра кажучы, я адчуваю вялікі страх перад тым, што нас чакае наперадзе, і мае калені робяцца мяккія, як вада. А таму ў такія часы лепш за ўсё проста напіцца, і не будзе ніякіх лішніх думак, і жыццё і смерць, і багі, і людзі — усё зробіцца нязначным у вачах чалавечых.

Калі мы падплывалі да Фіваў, горад у многіх месцах гарэў. Над Горадам мёртвых таксама ўздымаліся языкі полымя: народ рабаваў грабніцы і паліў набальзамаваныя целы жрацоў. З муроў наш карабель засыпалі стрэламі, не спытаўшы нават, адкуль мы і навошта едзем, а на беразе «крыжы» білі жардзінамі «рагоў» і спіхвалі іх у ваду. З гэтага мы зрабілі выснову, што старыя багі зрынутыя, і Атон усталяваў сваё царства ў горадзе.

Мы адразу рушылі ў «Кракадзілаў хвост» і спаткаліся там з Каптахам. Замест былой дарагой вопраткі на ім было шэрае адзенне бедняка, а валасы ільсніліся не ад духмянага алею, а ад гразі. Залатую пласцінку, што пакрывала яго выбітае вока, ён зняў. І цяпер шчодра частаваў півам і віном узброеных партовых насільшчыкаў і рабоў, лісліва прыгаворваючы:

— Весяліцеся, браты мае, бо настаў дзень вялікай радасці, і няма больш ні паноў, ні рабоў, ні вяльможаў, ні прасталюдзінаў! Усе людзі цяпер вольныя і могуць сыходзіць і прыходзіць, калі захочуць. Дык піце віно, я вас сёння частую і спадзяюся, што вы не забудзеце мой бедны шынок, калі шчасце кіне на вас свой позірк і вы ўзбагаціцеся срэбрам і золатам з храмаў фальшывых багоў ці з дамоў паганых багацеяў. Я некалі таксама быў раб. Я рабом нарадзіўся і рабом вырас, пра

што сведчыць маё вока, якое мне выкалаў пісалам злы гаспадар за тое, што я выпіў яго збан піва і замяніў яго вадкасцю са свайго цела. Але цяпер з такой несправядлівасцю скончана! Цяпер чалавека больш ніколі не будуць лупцаваць палкамі толькі за тое, што ён раб. І нікому не давядзецца працаваць толькі таму, што ён раб. Дык весяліцеся і скачыце ад радасці, пакуль будзе доўжыцца такая пара!

Толькі прамовіўшы ўсё гэта, ён заўважыў нас з Тутмесам і крыху збянтэжыўся. Адвёўшы нас у асобны пакой, ён сказаў:

— Вам было б разумней апрануцца ў што-небудзь горшае і запэцкаць рукі і твары граззю, бо па вуліцах паўсюль цягаюцца рабы і насільшчыкі і ў імя Атона даюць дубца кожнаму, хто, на іх думку, занадта тоўсты і не працуе сваімі рукамі. Мяне, нягледзячы на маю дзябёласць, яны не чапаюць, бо я сам быў рабом, потым раздаваў ім зерне, а цяпер задарма паю віном. А цяпер скажыце, якое няшчасце занесла вас у Фівы менавіта ў гэты неспакойны час, калі ў горадзе так жорстка абыходзяцца са знатнымі людзьмі?

Мы паказалі яму свае малаткі і сякеры і растлумачылі, што прыехалі знішчаць выявы ілжывых багоў ды збіваць іх імёны з усіх надпісаў. Каптах з мудрым выглядам паківаў і сказаў:

— Намеры ў вас разумныя і прыйдуцца даспадобы быдлу, але трэба пастарацца, каб ніхто не даведаўся, хто вы напраўду, бо ўсё можа здарыцца, і калі перамогуць «рогі», яны вам адпомсцяць за вашы справы. Я сам не надта веру, што ўсё гэта будзе цягнуцца доўга, бо адкуль рабы возьмуць збожжа, каб пракарміцца? А за час безуладдзя яны нарабілі такога, што «крыжы» пачалі паціху ператварацца ў «рагоў», каб усталяваць былы парадак. Безумоўна, рашэнне фараона Эхнатона вызваліць рабоў вельмі мудрае і дальнабачнае, яно дазваляе мне пазбавіцца ад лайдакоў і старых бяссільных рабоў, якія толькі дарма ядуць мой хлеб і алей. Цяпер у мяне не будзе вялікіх выдаткаў на пракорм і ўтрыманне рабоў, я змагу наймаць іх, калі захачу, і праганяць, калі захачу,— цяпер я з імі больш не звязаны і магу наймаць каго заўгодна і плаціць па сваім жаданні. Збожжа сёння неверагодна дарагое, і калі яны праспяцца, дык навыперадкі прыбягуць да мяне прасіць хоць якую-небудзь працу, і яна абыдзецца мне танней за працу маіх рабоў, таму што яны мусяць згадзіцца на любыя ўмовы, каб атрымаць любую працу і зарабіць на хлеб. Калі раней раб абкрадваў свайго гаспадара, бо так было прынята, і гаспадар нічога не мог з ім зрабіць,— хіба толькі адлупцаваць,— дык з наймітамі зусім іншая справа: найміта можна прысудзіць да выплат за нанесеную шкоду, а раней за крадзеж можна толькі адрэзаць нос і вушы. Такім чынам, мне застаецца ўсхваляць фараонаву мудрасць, і я пэўны, што і іншыя будуць усхваляць яе, калі ўсё як след абдумаюць і зразумеюць сваю выгаду.



— Дарэчы, пра збожжа, Каптах,— сказаў я.— Ведай, што палову свайго збожжа я абяцаў Харэмхебу, бо яму трэба ваяваць супраць хетаў, і ты павінен неадкладна паслаць у Таніс караблі з грузам. А другую палову збожжа ты павінен змалоць, напячы з мукі хлеба і раздаваць галодным ва ўсіх гарадах і вёсках, дзе мы маем свірны, а твае работнікі, раздаючы хлеб, павінны казаць: «Гэта хлеб Атона, бярыце і ешце яго ў імя Атона, дзякуючы фараону Эхнатону і ягонаму богу!»

Выслухаўшы мяне, Каптах не пашкадаваў парваць на сабе вопратку, балазе яна была бядняцкая, і залямантаваў:

— Ды ты ж гэтак зусім збяднееш, мой гаспадар! І як я тады буду нажывацца?! Пэўна, ты падхапіў ад фараона яго вар'яцтва і цяпер стаіш дагары нагамі і ходзіш задам наперад! Вой, бедны я, гаротны я небарака, да якога дня я дажыў! Нават наш скарабей не дапаможа нам, і «дзякуй» табе ніхто за твой хлеб не скажа, а гэты пракляты Харэмхеб нахабна адказвае на мае пасланні з напамінкам пра доўг, запрашаючы мяне самому прыехаць па золата, якое ён мне вінаваты. Ды ён горшы за рабаўніка, гэты твой сябар, бо рабаўнік толькі абрабуе, а твой пагансы Харэмхеб наабяцае барышоў, а потым катуе сваімі пустымі абяцаннямі так, што ажно пячонка лопаецца ад прыкрасці! Але бачу я па тваіх вачах, мой гаспадар, што ты ўсё ўжо вырашыў, і мае скаргі не дапамогуць. Выходзіць, я павінен выканаць твой загад, хоць гэта і зробіць цябе поўным жабраком.

Мы пакінулі Каптаха ў «Кракадзілавым хвасце» падлізвацца да рабоў і таргавацца ў задніх пакоях за свяшчэнныя сасуды і іншыя каштоўнасці, якія насільшчыкі нарабавалі ў храмах. Усе прыстойныя людзі сядзелі па дамах, зачыніўшы дзверы, вуліцы спусцелі, а некалькі храмаў, дзе знайшлі сховішча жрацы, падпалілі, і яны яшчэ гарэлі. Мы заходзілі ў разрабаваныя храмы і грабніцы, каб збіць з надпісаў імёны ілжывых багоў і сустракалі іншых прыхільнікаў фараона, якія гэтак сама, як і мы, выконвалі яго волю. Так мы шчыравалі шмат дзён запар. Часам насустрач нам кідаўся раз'юшаны натоўп пад кіраўніцтвам жрацоў, а мы адбіваліся сваімі прыладамі, і аднойчы Тутмес разбіў малатком галаву старому жрацу, які хацеў абараніць свайго бога. З кожным днём нас ахоплівала ўсё большае шаленства, і мы ўсё больш заўзята махалі нашымі прыладамі, каб не бачыць нічога, што дзеялася навокал.

Людзі пакутавалі ад голаду і нястачы, а вызваленыя рабы і насільшчыкі, ашалелыя ад свабоды, выставілі ў гавані сінія і чырвоны жардзіны і збіраліся вакол іх, стварыўшы нават свае ахоўныя атрады, якія рабілі налёты на дамы «рагоў» і знаці, рабуючы і адбіраючы ў іх збожжа, якое потым раздавалі беднякам разам з нарабаваным алеем. Каптах наняў людзей малоць зерне і пячы хлеб, але гэты хлеб раскрадалі прама з-пад рук у ягоных работнікаў са словамі: «Гэты хлеб укралі

ў народа, і будзе справядліва яго народу вярнуць». Ніхто не славіў маё імя за раздачу збожжа, хоць за адзін месяц я ператварыўся ў апошняга бедняка.

Так мінула сорак дзён і сорак начэй, і смута толькі нарастала ў Фівах, і тыя, хто раней узважвалі золата на шалях, цяпер жабравалі на вуліцах, а іх жонкі прадавалі рабам свае аздобы, каб купіць дзецям хлеба. І адной такой ноччу да мяне прыйшоў Каптах і сказаў:

— Мой гаспадар, табе трэба зараз жа ўцякаць, бо царству Атона настае канец, і я не думаю, што хоць адзін прыстойны чалавек будзе шкадаваць пра гэта. Закон і парадак мусяць быць адноўленыя. Цяпер ранейшыя багі вернуцца на свае месцы, але перад гэтым кракадзілы атрымаюць такі пачастунак, які ні з чым ранейшым не параўнаецца па сваім багацці, бо жрацы вырашылі ачысціць Егіпет ад хворай крыві.

Я спытаў:

— Адкуль ты ведаеш?

І ён адказаў з бязвінным выглядам:

— Хіба ж я не быў заўсёды сапраўдным і самаадданым «рогам» і ці не маліўся ўпотай Амону? Я пазычыў безліч золата жрацам, бо яны плацілі добрую ліхву, аж чацвёртую з паловай частку. Апроч таго, за золата яны закладвалі землі Амона. Ратуючы сваё жыццё, жрэц Эйе дамовіўся са жрацамі, і ахова перайшла на іх бок. Уся знаць і ўсе багацеі ў Егіпце шукаюць абароны ў Амона, і дзеля гэтага жрацы запрасілі з зямлі неграў Куш і нанялі на службу сарданаў, якія дагэтуль беспакарана рабавалі наш край. Сапраўды, Сінухе, млын хутка закруціцца і зерне змелецца, але за хлеб з гэтай мукі будуць дзякаваць Амону. Я сябе адчуваю стомленым ад усёй гэтай калатні, хоць яна мяне і ўзбагаціла.

Я быў уражаны яго словамі і ўскрыкнуў:

— Фараон Эхнатон ніколі не пойдзе на такое!

У адказ на гэта Каптах хітра ўсміхнуўся і, пацёр пальцам сляпое вока, сказаў:

— А яны і не будуць пытацца дазволу ў фараона. Горад Ахетатон пракляты, і кожны, хто застанецца там, памрэ страшнай смерцю, як толькі ўлада трапіць ім у рукі, яны перакрыюць усе дарогі і раку, і ўсе тамтэйшыя жыхары памруць ад голаду. Яны запатрабуюць, каб фараон вярнуўся ў Фівы і скарыўся Амону.

Мае думкі праясніліся, і я ўбачыў перад сабой твар Эхнатона і яго вочы, поўныя незямной горычы, якая бывае горшай за смерць. Таму я сказаў:

— Каптах, такая ганебная справа не павінна адбыцца! Мы з табой прайшлі безліч розных шляхоў, дык давай пройдзем разам і гэты шлях да канца. Гэта нічога, што цяпер я збяднеў, раздаўшы ўсё сваё збожжа, затое ты багаты і можаш купіць зброю: дзіды, стрэлы, кіюгі — столькі, на колькі хопіць грошай. Падкупі золатам ахоўнікаў і перацягні іх на наш бок, а зброю раздай партовым рабам і насільшчыкам, і хай ахоўнікі абараняюць іх і фараона. Я не ведаю, Каптах, што з гэтага атрымаецца, але наш свет не будзе мець другой магчымасці пачаць новае жыццё. Калі землі раздадуць пад жыллё беднякам, а ў садах будуць гуляць дзеці рабоў, тады, безумоўна, усе супакояцца і кожны будзе рабіць сваю справу, і ўсё пойдзе іначай і лепей, чым раней.



Але Каптах закалаціўся ўсім целам і адказаў мне:

— Мой гаспадар, пад старасць я не хачу зноў брацца за працу, якую выконваюць рукамі, а рабы і беднякі ператварылі багатых і знатных людзей у рабоў на млынах, дзе яны круцяць цяжкія жорны, дзе іх б'юць палкамі, а іх жонкі і дочкі абслугоўваюць рабоў і насільшчыкаў у дамах уцехаў, і няма ў тым нічога добрага, а толькі зло. Мой гаспадар, не патрабуй, каб я пайшоў гэтай дарогай, бо думаючы пра яе, я ўспамінаю Цёмны палац на Крыце, куды пайшоў за табой, і хоць я пакляўся не гаварыць пра гэта, але сёння мушу сказаць. Мой гаспадар, ты зноў вырашыў увайсці ў Цёмны палац, не ведаючы, што цябе чакае там! А можа, ты знойдзеш там гнілое страшыдла і смяротны смурод? Мяркуючы па тым, што нам давялося ўбачыць, фараонаў бог не менш жорсткі й бязлітасны, чым бог крыцкі. Ён прымушае найлепшых і самых здольных людзей Егіпта скакаць перад быкамі, а потым вядзе іх у Цёмны палац, адкуль ніхто не вяртаецца. А яны з радасным прыскокам ідуць туды, спадзеючыся на сваё майстэрства, з надзеяй атрымаць вечнае шчасце на Палях захаду! Не, мой гаспадар, у Палац Мінатаўра я за табой больш не пайду.

Ён не рыдаў і не галасіў, як звычайна, а прамаўляў сур'ёзна, пераконваючы мяне адмовіцца ад гэтай задумы, а пад канец дадаў:

— Калі ты не думаеш пра сябе і пра мяне, дык падумай пра Мэрыт і маленькага Тота, якія любяць цябе. Забяры іх адсюль і схавай у надзейным месцы, бо жорны на млыне Амона пачалі круціцца, і іх жыццё ў небяспецы.

Але мая ўтрапёнасць асляпіла мяне, я палічыў глупствам усе яго перасцярогі і з непамернай пыхаю адказаў:

— Ды хто можа пагражаць жанчыне і малому хлапчуку? У маім доме яны ў поўнай бяспецы, Атон пераможа, ён павінен перамагчы. Іначай жыццё не вартае таго, каб жыць далей. Народа павінен мець розум, дый ён ведае, што фараон хоча яму толькі дабра. Хіба магчыма, каб народ зноў выбраў царства страху і цемры? А Цёмны палац, пра які ты кажаш, — гэта якраз храм Амона, а не Атона. Некалькі прадажных ахоўнікаў ды баязлівых вяльможаў не здолеюць зрынуць Атона, калі за яго стане ўвесь народ.

Каптах адказаў:

— Я сказаў усё, што абавязаны быў сказаць і не буду паўтараць зноўку. Мая жоўць аж кіпіць ад жадання паведаміць табе адну таямніцу, але гэта не мая таямніца, і таму я не скажу нічога — тым болей, што гэта на цябе ўсё адно не падзейнічала б, бо цябе цалкам апанавала шаленства. Але потым не вінаваць мяне, мой гаспадар, калі будзеш біцца ў бяссільнай роспачы галавой аб камень. Што да мяне, дык я ўсяго толькі былы раб, у якога няма дзяцей, і мая смерць не засмуціць нікога. Таму, мой гаспадар, я пайду за табой гэтым апошнім шляхам, хоць ведаю, што нічога добрага нас на ім не чакае. Што ж, хадзем у чарговы Цёмны палац, толькі я зноў прыхаплю з сабою гарлач віна.

З таго дня Каптах пачаў піць і піў ад рання да змяркання і ад змяркання да рання, але нават сярод свайго неабуднага п'янства сачыў, каб выконваўся мой загад, і яго слугі раздавалі зброю каля сініх і чырвоных жардзін. Сваім п'янствам Каптах не адрозніваўся ад іншых, якія таксама няспынна пілі. Піў Тутмес, пілі рабы, пілі багацеі, прадаўшы апошнія каштоўныя рэчы, каб купіць віна. І ўсе казалі:

— Давайце піць і есці, бо ніхто не ведае, што прынясе нам заўтрашні дзень.

Аднойчы ў шынок прыйшоў адзін фіванскі паэт, які выпіў у доўг столькі, што Каптах мусіў бесперапынна паіць яго і далей, спадзеючыся хоць калі-небудзь гэты доўг з паэта атрымаць. А ў таго гарэлі вочы, ён тузаў сябе за валасы і крычаў:

— Я дайшоў да такой важнай думкі, якая сваёй важнасцю і дзівоснасцю перавышае ўсе фараонавы думкі і відзежы! Усё, што адбываецца вакол мяне, ёсць зло і несправядлівасць: падман узвышаецца над праўдай, бязлітаснасць перамагае спагаду, а злахітрасць святкуе перамогу над чысцінёй і цнотай! Але гэта не варта нашае скрухі, бо ўсё — толькі сон, а прачнёмся мы толькі ў смерці, і ў смерці сон збяжыць ад нас і не вернецца ўжо ніколі! Я нічога не сказаў бы супраць, калі б мы бачылі толькі прыемныя сны, як гэта было даўней, але сёння мы бачым кашмары, і наш сон такі неспакойны, што лепш абудзіцца, чым спаць і бачыць такія жахлівыя сны. Таму я кажу вам: няма ні Фіваў, ні ракі, ні Егіпта, ні палёў, ні гарадоў, ні бедных, ні багатых, а ёсць толькі дурное насланнё, нячыстае мроіва, і фараон са сваімі відзежамі — толькі цяжкі дурны сон! Але гэты сон так надакучыў мне, што стаў горшы за штодзённае пахмелле. Таму я думаю прачнуцца, а калі прачнуся, то больш не будзе ні Егіпта, ні фараона са сваімі відзежамі.

Сказаўшы гэта, ён выхапіў крамянёвы нож і разануў сябе па горле ад вуха да вуха, чым прынёс Каптаху вялікую шкоду — значна большую, чым сваім недалужным жыццём.

Яго словы пачалі паўтараць па ўсім горадзе, і шмат міралюбных, спакойных людзей, якія стаміліся ад беспарадкаў і звадаў, казалі:



— Нашае жыццё — жахлівы сон, а смерць прынясе салодкае абуджэнне. Давайце са спакойнай душой выйдзем з цемры жыцця ў калідор светлай раніцы смерці.

І шмат хто ўчыніў самагубства, а некаторыя пазабівалі жонак і дзяцей, каб і тыя болей не бачылі, што творыцца ў Фівах у імя Атона.

Голад і шаленства апанавалі Фівы, калі царства Атона сышло на зямлю. Людзі кінуліся ў распусту і п'янелі без віна. І ўжо не было ніякай розніцы, носіць чалавек крыж ці не, адзінае, што мела значэнне,— гэта зброя, моцны кулак і зычны голас, бо слухаліся таго, хто крыкне гучней. Калі на вуліцы бачылі хлеб у руцэ другога, яго адбіралі, кажучы: «Аддай нам свой хлеб, бо ўсе людзі браты перад Атонам і нягожа набіваць хлебам жывот, калі перад табой твой галодны брат». Калі на вуліцы трапляўся чалавек, апрануты ў тонкае адзенне, казалі: «Аддай нам сваю вопратку, бо мы браты ў Атоне, і нягожа аднаму брату апранацца лепш за другога». А калі ў каго на шыі ці на вопратцы заўважалі рог, дык зараз адсылалі на млын круціць жорны, ці капаць харчовыя карані, ці разбіраць рэшткі згарэлых дамоў, калі не збівалі да смерці і не кідалі цела ў раку. Паўсюль панавала бязладдзе. А тыя, што крычалі гучней за іншых, абвяшчалі:

— Нам трэба наладзіць належны парадак у імя Атона. Давайце збяром усё збожжа і падзелім яго паміж сабой, каб нікому не хацелася красці і рабаваць! Мы — самыя дужыя і смелыя, мы збяром усю здабычу і падзелім паміж астатнімі.

Гэтыя крыкуны збіраліся разам, білі палкамі кожнага, хто спрабаваў рабаваць адзін, і пачыналі рабаваць яшчэ больш і горш, а калі хто спрабаваў супраціўляцца, дык таго бязлітасна забівалі. Яны жэрлі да ікаўкі, апраналіся ў царскі лён і хадзілі, абвешаныя золатам.

Сярод іх былі людзі з адрэзанымі за ганебныя злачынствы насамі і вушамі, былі такія, у якіх на спінах заставаліся сляды ад бізуноў, а на руках і нагах — ад ланцугоў, і ўсе яны незвычайна ганарыліся гэтымі адзнакамі, агалялі іх, паказваючы ўсім са словамі:

— Вось, глядзіце, што мы перажылі дзеля Атона! Дык няўжо мы не заслужылі ўзнагароды за нашы пакуты?

Ніхто з іх нічым не адрозніваўся ад «рагоў», сасланых раней у каменяломні, а потым перабеглых да «крыжоў». І толькі ў Залаты палац ніхто не спрабаваў уварвацца, бо там сядзеў Эйе, які кіраваў царскім жазлом і бізуном, хаваючы ля сябе жрацоў Амона.

Так прайшло двойчы па трыццаць дзён, але больш царства Атона на зямлі не вытрывала, разваліўшыся: з краіны Куш прыйшлі караблі з дружынамі неграў, сарданы, нанятыя жрацом Эйе, узялі Фівы ў аблогу і перакрылі раку і ўсе дарогі, не пакінуўшы ніякіх шляхоў на ўцёкі. «Рогі» ўчынілі ў горадзе бунт, і жрацы Амона раздалі ім зброю са сваіх

камораў, а тыя, каму не хапіла зброі, абпальвалі да вастрыні канцы сваіх палак, абкладвалі меддзю таўкачы і рабілі наканечнікі для стрэлаў з аздобаў сваіх жонак. А калі «рогі» распачалі паўстанне, дык да іх далучыліся нават самыя мірныя людзі, якія жадалі Егіпту лепшай долі. Яны казалі:

— Мы хочам вярнуць старыя звычаі і стары лад жыцця, мы сытыя па горла новымі парадкамі, Атон ужо дастаткова парабаваў нас.

**4**

Але я, Сінухе, сказаў народу:

— Можа, гэтымі днямі шмат чаго адбылося нядобрага, можа, несправядлівасць узнеслася над праўдай і шмат невінаватых пацярпелі замест вінаватых, але ўсё адно Амон застаецца богам страху і цемры, і яго ўлада над людзьмі трымаецца толькі дзякуючы невуцтву і цемрашальству. Атон — адзіны бог, які жыве ў нас і па-за намі, і няма іншых багоў, апроч яго. Дык змагайцеся за яго вы ўсе — рабы і беднякі, насільшчыкі і слугі, бо няма чаго вам губляць, затое, калі пераможа Амон, вам зноў давядзецца адчуць горкі смак рабства і смерці. Змагайцеся за фараона Эхнатона, бо падобнага да яго на зямлі не было ніколі, і сам бог звяртаецца да нас яго вуснамі! Змагайцеся за яго, бо такой магчымасці абнавіць свет не было дагэтуль і не будзе потым!

Але рабы і насільшчыкі смяяліся з маіх прамоваў і казалі:

— Сінухе, не кажы глупства пра свайго Атона — усе багі аднолькавыя, як і фараоны. А ты, Сінухе, чалавек добры, хоць і задужа просты, ты перавязваў нам раны і лячыў калені, не патрабуючы платы. Таму кінь гэты молат, з якім усё адно не можаш управіцца. Воін з цябе ніякі, а вось «рогі», убачыўшы ў тваёй руцэ молат, адразу цябе заб'юць. А мы табе не жадаем зла. Мы ўсё адно загінем, нашы рукі ў крыві, але ж мы добра пажылі гэтымі днямі, паспалі ў шыкоўных дамах, папілі і паелі з залатога начыння, хоць і самі не ведаем, ці варта было рабіць усё гэта. У любым выпадку нашае свята заканчваецца, і паміраць мы будзем са зброяй у руках, бо, паспытаўшы свабоды і заможнага жыцця, нам не хочацца ўжо вяртацца ў рабства. А ты, калі хочаш, можаш лячыць нашы раны і пазбаўляць нас ад болю, але не цягайся сярод нас з гэтым молатам, бо нас удвая перагінае ад смеху, калі мы глядзім на цябе, і дзіды ад рогату ў нас выпадаюць з рук,— так, што мы робімся лёгкай здабычай «рагоў», сарданаў ды неграў.

Я засаромеўся ад такіх словаў, выкінуў молат, пайшоў дадому, узяў свой лекарскі куфэрак і пайшоў у «Кракадзілаў хвост» лячыць іхнія раны. Тры дні і тры ночы ішла бітва ў Фівах, безліч «крыжоў» перакінулася да «рагоў», але яшчэ больш проста кідалі зброю і хаваліся ў сваіх дамах, вінных склепах, свірнах ды пустых кашах у гавані. Але рабы і насільшчыкі біліся, і самымі адважнымі былі тыя, хто гарлаў менш за ўсіх, а поплеч з імі біліся злачынцы з адрэзанымі насамі і вушамі, разумеючы, што іх будзе вельмі лёгка пазнаць. Тры дні і тры ночы ішла бітва ў Фівах, рабы і насільшчыкі падпальвалі дамы, і баі працягваліся пры святле пажараў. Негры і сарданы таксама палілі і рабавалі дамы, забіваючы ўсіх, хто трапляўся пад руку, не зважаючы «крыж» гэта або «рог». Іхнім начальнікам быў той самы Пэпітатон, які некалі збіваў народ у Алеі бараноў і перад храмамі Амона, але цяпер яго імя зноў было Пэпітамон, і Эйе выбраў яго таму, што ён быў самы адукаваны і займаў самае высокае становішча сярод военачальнікаў.



А я тым часам сядзеў у «Кракадзілавым хвасце», перавязваў рабам раны і лячыў прабітыя галовы насільшчыкаў, і Мэрыт парвала на перавязкі ўсё маё і сваё адзенне і адзенне Каптаха, а маленькі Тот прыносіў віно кожнаму, каму патрабавалася аблегчыць невыносны боль. Усе, хто мог, зноў ішлі біцца, але апошнімі днямі баі ішлі ў гавані і бедных частках горада, дзе навучаныя ваеннай справе негры ды сарданы касілі народ, як калоссе — так, што крывавыя ручаіны цяклі па вуліцах да ракі. І ніколі раней смерць не збірала такога багатага ўраджаю на зямлі Кэмет, як у тыя дні, бо калі чалавек падаў і не мог устаць, яго дабівалі негры ці «рогі», і гэтак сама рабы і насільшчыкі рабілі з «рагамі», якія траплялі ім пад руку. Але я мала што ведаў пра гэта, бо лячыў раны ў «Кракадзілавым хвасце» і не азіраўся вакол. Я рабіў гэта дзеля фараона, хоць і не магу сцвярджаць пэўна, бо чалавеку не дадзена спазнаць сваё сэрца.

Рабы і насільшчыкі выбралі самых дужых і гарластых сабе ў начальнікі, і тыя прыходзілі ў шынок падмацавацца віном ды півам нават у самы разгар бітвы, п'яныя ад крыві і ваяўнічага запалу, яны ляпалі мяне па плячы цвёрдымі, як камень, далонямі і, смеючыся, казалі:

— Мы падрыхтавалі табе ў гавані выдатны кош, Сінухе, і ты можаш схавацца ў ім, калі не хочаш сёння ўвечары вісець побач з намі на гарадскім муры дагары нагамі. Пара табе хавацца, Сінухе, бо няма сэнсу перавязваць раны, калі праз хвіліну іх зробяць зноў.

— Я царскі лекар, і ніхто не адважыцца падняць на мяне руку,— адказваў я.

Яны пілі віно цэлымі гарлачамі, а потым зноў ішлі біцца. А да мяне падышоў Каптах і паведаміў:

— Твой дом палае, Сінухе, і Муці параненая нажамі «рагоў», бо, калі яны падпальвалі дом, яна кінулася на іх з пранікам. Табе яшчэ хопіць часу апрануцца ў тонкую вопратку і пачапіць усе адзнакі свайго высокага становішча, каб уратавацца. Пакінь гэтых калечаных і знявечаных і пойдзем са мною ва ўнутраны пакой, каб з годнасцю сустрэць военачальнікаў Эйе. Я падрыхтаваў віна, каб наладзіць ім добры пачастунак.

Мэрыт абняла мяне за шыю і з адчаем пачала ўпрошваць:

— Ратуй хоць бы сябе, Сінухе! Калі не хочаш зрабіць гэта дзеля сябе, дык зрабі хоць бы дзеля мяне і маленькага Тота!

Але бяссонне, роспач, блізкі шум бітвы і недалёкая смерць цалкам адбілі ў мяне розум, і я ўжо не чуў свайго сэрца. Таму я адказаў:

— Што мне мой дом, што мне я сам, што мне ты і твой Тот! Кроў, якая ліецца паўсюдна, гэта кроў маіх братоў пры Атоне, і я не хачу жыць, калі царства Атона загіне!

Не ведаю, ці паспеў бы я выратавацца і выратаваць каго-небудзь, бо праз хвіліну ў дзверы пачалі грукаць і ў шынок уварваліся негры і сарданы на чале са жрацом Амона, чыя галава ільснілася ад каштоўнага алею. Першым чынам яны ўзяліся дабіваць параненых, якія ляжалі на падлозе ў лужынах крыві. Жрэц рогам выколваў ім вочы, а размаляваныя палосамі негры скакалі на іх галовах, і кроў пырскала з ранаў. Жрэц крычаў:

— Вось яно, гняздо Атона! Ачысцім яго агнём!

На вачах у мяне маленькаму Тоту разбілі галаву, а Мэрыт працялі дзідай, калі яна кінулася абараняць хлопца. Я не паспеў нічога зрабіць, бо жрэц ударыў мяне рогам па галаве, і я болей нічога не памятаю. Апрытомнеў я ў завулку насупраць «Кракадзілавага хваста» і не мог зразумець, дзе я і што са мной, сплю я ці ўжо памёр? Жраца не было, воіны, пакідаўшы дзіды, пілі віно, якое ім падносіў Каптах, а военачальнікі гналі іх срэбнымі бізунамі на бітву. Я ўбачыў, што будынак шынка палае, як сухі трыснёг, бо ўсярэдзіне ён быў абшыты дрэвам. І тады я ўсё ўспомніў. Я паспрабаваў устаць, але мае ногі падагнуліся. Тады я папоўз да дзвярэй, у агонь. Я хацеў дабрацца да Мэрыт і Тота. Але далёка запаўзці я не змог, апаліўшы свае рэдкія валасы. І вопратка на мне таксама загарэлася, рукі і калені пакрыліся апёкамі. Але ў гэты момант Каптах з крыкам і стогнам выцягнуў мяне з агню. Потым ён узяўся качаць мяне па зямлі, каб патушыць вопратку, а воіны захопленa рагаталі, гледзячы на такую пацеху. Каптах патлумачыў ім:

— Ён трохі здурнеў, бо жрэц ударыў яго рогам па галаве, за што будзе адпаведна пакараны. Гэта царскі лекар, асоба недатыкальная, ён жрэц першай ступені, хоць яму і давялося пераапрануцца ў рызманы і зняць з сябе знакі сваёй высокай пасады, каб уратавацца ад ашалелага быдла.

А я сядзеў на пыльнай зямлі, абхапіўшы галаву абгарэлымі рукамі, і слёзы цяклі з маіх абпаленых вачэй. Я галасіў і клікаў:

— Мэрыт, мая Мэрыт!

Але тут Каптах злосна штурхануў мяне ў бок і прашыпеў на вуха:

— Змоўкні, дурань! Ці мала табе бедаў, што прычыніліся з намі праз тваю дурноту?



А я ўсё не сціхаў, і тады Каптах наблізіў свой твар да мяне і горка прамовіў:

— Можа ты хоць цяпер паразумнееш, бо твая мера, мой гаспадар, сапраўды ўжо напоўнілася нават больш, чым ты думаеш. Хоць запозна, але я скажу табе: Тот быў тваім сынам, ад твайго семя ён з'явіўся на свет, калі ты ўпершыню абняў Мэрыт. Я кажу табе гэта, каб ты адумаўся. Мэрыт не хацела табе нічога казаць, бо была гордай жанчынай, а ты кінуў яе дзеля фараона і з"ехаў у Ахетатон. Калі б ты праз свайго Атона не быў зусім ашалелы, то заўважыў бы, што ў тым хлопчыку цякла твая кроў: у яго былі твае вочы і вусны. Я не пашкадаваў бы жыцця, каб выратаваць яго, але праз тваю дурноту не змог уберагчы. А Мэрыт не хацела пакідаць цябе. Вось яны абое і загінулі — праз тваю дурасць. Дык можа, хоць цяпер ты абразумішся?.

Я агаломшана глядзеў на яго, і потым спытаў:

— Гэта праўда?

Але і без яго адказу ўсё было зразумела. Я сядзеў пасярод пыльнай вуліцы, забыўшыся на боль, і нават не плакаў, бо ўсё ўва мне застыла і маё сэрца змоўкла. Мне было ўсё адно, што са мною станецца.

«Кракадзілаў хвост» палаў, у твар мне патыхала полымем, у якім гарэлі целы маленькага Тота і прыгажуні Мэрыт. Яны гарэлі разам з целамі забітых рабоў і насільшчыкаў, і я не мог зберагчы іх дзеля вечнага жыцця. Тот быў маім сынам, і, калі мае здагадкі былі праўдай, у яго жылах цякла свяшчэнная кроў фараонаў. Калі б я ведаў гэта раней, то можа, усё склалася б інакш, бо дзеля сына чалавек здольны зрабіць тое, што ніколі не будзе рабіць дзеля сябе. І вось яго свяшчэнная кроў згарала разам з крывёю рабоў і насільшчыкаў, яго больш не было на свеце. І я ведаў, што Мэрыт утойвала гэта не толькі ад гордасці і адзіноты, але і з прычыны маёй жахлівай і грознай таямніцы. А я сядзеў на пыльнай вуліцы, і полымя ад іх целаў апальвала мой твар.

Я зрабіўся абыякавы да ўсяго на свеце і дазволіў Каптаху павесці мяне, куды ён хацеў. А ён павёў мяне да Эйе і Пэпітамона, бо бітва была скончаная і бядняцкія кварталы гарэлі. Жрэц і военачальнік сядзелі на залатых крэслах, пастаўленых на брукаваным прычале, і тварылі суд над палоннымі, якіх воіны і «рогі» прыводзілі і ставілі перад імі. Кожнага злоўленага са зброяй у руках вешалі на гарадскім муры дагары нагамі, кожнага, хто рабаваў чужое дабро, кідалі ў раку на спажыву кракадзілам, кожнага з крыжам Атона на вопратцы білі палкамі і адсылалі на катаргу, жанчын аддавалі неграм і воінам на забаву, а дзяцей адводзілі ў храм Амона, каб яны там выхоўваліся. Так лютавала смерць на беразе ракі ў Фівах, і Эйе не ведаў літасці, бо хацеў заваяваць прыхільнасць жрацоў. Ён казаў:

— Ачысцім Егіпет ад атручанай крыві!

Пэпітамон лютаваў таксама: рабы і насільшчыкі абрабавалі яго дом і выпусцілі з клетак кошак. Яны забралі ў кошак вяршкі й малако і занеслі іх сваім дзецям. Цяпер ад голаду кошкі здзічэлі. Таму Пэпітамон быў у шаленстве. За два дні ён павесіў столькі рабоў, што целамі павешаных дагары нагамі былі пакрытыя амаль усе гарадскія муры.

Жрацы з радасцю аднавілі выяву Амона ў ягоным храме і прынеслі богу шчодрыя ахвяры. На свае былыя месцы пачалі вяртацца і іншыя старыя багі. І жрацы ўрачыста абвясцілі:

— Больш не будзе ні голаду, ні слёз на зямлі Кэмет, бо Амон вярнуўся і бласлаўляе ўсіх, хто ў яго верыць! Дык засеем ягонае поле, і Амон нам аддасць тысячакроць! Егіпет зноў расквітнее і забагацее!

Нягледзячы на гэты абяцанкі, голад у Фівах дасягнуў небывалай сілы, і не было ў горадзе дома, дзе не праліліся б слёзы, бо негры і сарданы рабавалі ўсіх, не разбіраючы, дзе «рогі», а дзе «крыжы». Яны гвалцілі жанчын, прадавалі ў рабства дзяцей, і Пэпітамон не мог суняць іх, а ў Эйе не хапала ўлады, і воіны нахабна казалі:

— Цяпер улада трымаецца на канцах нашых дзідаў і на нашых кіюгах. Таму заткніце ляпы і не замінайце нам.

І не стала ў Егіпце больш фараона, бо жрацы абвясцілі Эхнатона фальшывым фараонам, праклялі яго горад, а яго пераемніка запатрабавалі ў Фівы, каб той схіліўся перад Амонам і склаў яму клятву,— толькі тады яны загадзіліся б прызнаць яго сапраўдным фараонам.

З прычыны беспарадкаў і неспакою Эйе назначыў Пэпітамона сваім намеснікам у Фівах, а сам спешна паехаў у Ахетатон, каб прымусіць Эхнатона адрачыся ад трона і ўмацаваць сваю ўладу пры новым фараоне. Мне ён сказаў:

— Паедзем са мной, Сінухе. Можа, мне спатрэбіцца парада лекара, каб ілжэфараон зрабіў так, як я хачу.

І я адказаў:

— Што ж, я паеду з табой, Эйе, бо мая мера яшчэ не поўная.

Але ён не зразумеў маіх словаў.

**5**

Тым часам і да Харэмхеба ў Танісе дайшлі весткі пра тое, што чыніцца ў Фівах і паўсюль па абодвух берагах ракі. Адразу падрыхтаваўшы ваенныя караблі, ён спешна выправіўся да Ахетатона. Па меры таго, як ён плыў уверх па рацэ, усе гарады і вёскі на яго шляху супакойваліся, у іх адчыняліся храмы і статуі старых багоў займалі свае ранейшыя месцы. Але Харэмхеб спяшаўся, ён хацеў трапіць у Ахетатон адначасова з Эйе, каб уступіць з ім у спрэчку за ўладу. Таму ён не караў ні рабоў, якія самі складвалі зброю, ні тых, хто добраахвотна змяняў крыж Атона на рог Амона. Людзі бясконца ўсхвалялі яго за незвычайную літасць і міласэрнасць, але Харэмхеб рабіў гэта не праз міласэрнасць, а па голым разліку: ён хацеў зберагчы як мага больш тых, хто зможа ўзяць у рукі зброю ў будучай блізкай вайне. Жрацы таксама яго ўсхвалялі, бо паўсюль, дзе ён праходзіў, адчыняліся зачыненыя храмы і зноў ставіліся статуі старых багоў, якім Харэмхеб, калі быў у добрым настроі, нават сам прыносіў ахвяры.



Але Ахетатон зрабіўся праклятым месцам, жрацы і «рогі» пільнавалі ўсе дарогі, якія вялі ў горад, і забівалі кожнага, хто спрабаваў з яго ўцячы і не згаджаўся змяніць крыж Атона на рог і прынесці ахвяру Амону. Яны перагарадзілі раку меднымі ланцугамі, каб ніхто не мог уцячы па рацэ. Па большасці ўцекачы ахвотна прыносілі ахвяру Амону і шчыра праклiналі Атона, бо новы бог усім былым жыхарам Ахетатона аж да знямогі ўстыў. Калі мы падплылі да горада, я яго не пазнаў: тут панавала мёртвая цішыня, кветкі ў парках і садах зніклі і зялёная трава пажоўкла, бо цяпер іх ніхто не паліваў. Птушкі на дрэвах, згарэлых ад спёкі, больш не спявалі, і паўсюдна лунаў саладжавы пах праклянцця, які ўзнік невядома адкуль. Пакінутыя дамы вяльможаў спусцелі, але слугі, уцякаючы з іх, не адважваліся ўзяць нічога з праклятага месца. Пэўны час у горадзе вылі толькі сабакі, але потым і яны паздыхалі ў сваіх будках. Так памёр прыгожы горад Ахетатон. І я адразу адчуў пах смерці, як толькі мая нага ступіла на бераг.

Але фараон Эхнатон па-ранейшаму жыў у Залатым палацы са сваёю сям'ёй, з самымі адданымі слугамі і састарэлымі прыдворнымі, якія не ўяўлялі сабе існавання ўдалечыні ад фараона, усё жыццё правёўшы ў Залатым палацы. Ніхто з іх не ведаў, што адбываецца ў знешнім свеце, бо вось ужо два месяцы ў Ахетатон не прыязджаў ніводзін ганец. Нават у Залатым палацы скончыліся харчы, і ежай для ўсіх па волі фараона былі сухары і рэдзенькая каша. Але самыя кемлівыя здабывалі рыбу, б'ючы яе дзідамі, і адмысловымі палкамі збівалі птушак, а потым елі сваю здабычу ўпотай ад іншых.

Жрэц Эйе паслаў мяне наперад паведаміць, што адбылося, бо мне фараон давяраў, як сябру. Але калі я паўстаў перад ім, маё сэрца закрылася — у ім не было больш ні спагады, ні шкадавання, ні радасці, ні смутку. Фараон павярнуў да мяне зняможаны шэры твар, яго рукі бяссільна ляжалі на каленях, і гледзячы на мяне згаслымі вачыма, ён спытаў:

— Сінухе, ты вярнуўся да мяне адзін? А дзе ўсе, хто мяне любіў і каго любіў я?

Я адказаў:

— Старыя багі зноў пануюць у Егіпце, і жрацы прыносяць ахвяры Амону ў Фівах на вачах ва ўзрадаванага народа. Яны праклялі цябе, Эхнатон, праклялі твой горад і тваё імя і цяпер сціраюць яго з усіх надпісаў.

Ён нецярпліва паварушыў рукой, і былое натхненне на хвіліну ўзнікла на яго твары. Ён сказаў:

— Я не пытаюся, што адбылося ў Фівах, я пытаюся, дзе вернікі, якія любілі мяне і якіх любіў я?

Я адказаў:

— З табой па-ранейшаму твая прыгажуня Неферціці. І твае дочкі з табой. Малады Сменхкара палюе з дзідай на рыбу, а Тут, як і раней, гуляе з лялькамі ў пахавальныя абрады. Дык што табе да іншых?

Ён спытаў:

— А дзе мой сябар Тутмес, ён жа і твой сябар, якога я любіў? Дзе ён, гэты мастак, пад рукамі якога ажывае камень?

— Ён загінуў дзеля цябе, Эхнатон,— адказаў я.— Негры працялі яго дзідай і кінулі яго цела ў раку на спажыву кракадзілам, бо ён застаўся табе верны. А калі ён і апаганьваў твой ложак, дык ці варта ўспамінаць пра гэта цяпер, калі ў яго спусцелай майстэрні выюць шакалы, а вучні разбегліся, пакідаўшы прылады і незакончаныя статуі, якія Тутмес змог бы ажывіць дзеля вечнага жыцця?

Фараон Эхнатон правёў рукою па твары, нібы скідваючы павуцінне, што засланяла яму вочы. Ён пачаў пералічваць імёны людзей, якіх ён любіў, і шмат пра каго я адказваў: «Ён загінуў дзеля цябе, Эхнатон». Але часцей я казаў: «Ён прыносіць ахвяры Амону, апрануўшы святочныя строі і праклінаючы тваё імя, Эхнатон». Урэшце я сказаў:

— Царства Атона загінула. Няма больш на зямлі царства Атона, і Амон зноў пануе ў краіне.

Ён паглядзеў перад сабой мёртвым позіркам, нецярпліва паварушыў сваёй бяскроўнай рукой і сказаў:

— Так, я гэта ведаю. Мае відзежы распавялі мне пра гэта. Вечнае царства не змяшчаецца ў зямных межах. Усё будзе, як раней, ізноў запануюць на зямлі страх, нянавісць і несправядлівасць. Таму лепш мне было б памерці, а можа, і ніколі не нараджацца, каб не бачыць усё кепскае і злое, што адбываецца на свеце.

Яго слепата раззлавала мяне, і я горача крыкнуў:

— Ты не бачыў і малой часцінкі таго зла, якое ўчынілася па тваёй віне, фараон Эхнатон! Кроў твайго сына не цякла па тваіх руках, і тваё сэрца не застывала ў грудзях ад перадсмяротнага крыку тваёй каханай жанчыны! Таму ўсе твае словы — пустая балбатня, фараон Эхнатон!

Ён сказаў стомленым голасам:

— Калі я прычына ўсіх бедаў, дык пакінь мяне, Сінухе. Пакінь мяне, каб не давялося табе перажыць яшчэ большых пакутаў па маёй віне. Пакінь мяне, бо мне ўстылі і твой твар, і твары іншых людзей, з якіх выглядвае драпежны звер.

Але я сеў перад ім і сказаў:



— Не, я не пакіну цябе, Эхнатон, я хачу, каб мая мера напоўнілася,— можа, дзеля таго я і з'явіўся на гэтым свеце, і гэта наканавалі мне зоркі яшчэ да майго нараджэння. Ведай жа, што сюды прыехаў жрэц Эйе, а на паўночнай мяжы горада Харэмхеб загадаў разламаць медныя ланцугі, працягнутыя цераз раку, каб прыплыць да цябе.

Ён слаба ўсміхнуўся, развёў рукамі і сказаў:

— Эйе і Харэмхеб — злачынства і гвалт! Вось тыя адзіныя, хто да мяне вярнуўся.

Ён змоўк і больш не прамовіў ні слова. Я таксама маўчаў, і мы слухалі ў цішыні, як размерана падаюць кроплі ў вадзяным гадзінніку, пакуль перад фараонам не паўсталі Эйе і Харэмхеб. Па дарозе яны моцна пасварыліся, іх твары пацямнелі ад нянавісці і злосці, яны цяжка дыхалі і загаварылі адначасова, не зважаючы на годнасць фараона. Эйе сказаў:

— Ты павінен адмовіцца ад трона, фараон Эхнатон, калі хочаш зберагчы жыццё. Хай замест цябе ўладарыць Сменхкара. Хай ён паедзе ў Фівы і прынясе ахвяру Амону, тады жрацы абвесцяць яго фараонам і ўскладуць яму на галаву чырвоную і белую кароны.

А Харэмхеб сказаў:

— Мае дзіды ўратуюць тваю карону, фараон Эхнатон, калі ты вернешся ў Фівы і прынясеш ахвяру Амону. Можа, жрацы крыху і пабурчаць, але я змагу хутка суняць іх сваім бізуном. А потым, калі ты абвесціш свяшчэнную вайну за вяртанне Сірыі пад уладу Егіпта, яны наогул не адважацца сказаць слова.

Фараон Эхнатон падняў зняможаны твар і паглядзеў на іх з мёртвай усмешкай.

— Я жыў і памру ўладаром,— адказаў ён.— Я ніколі не схілюся перад фальшывым богам, каб крывёй утрымаць уладу. Фараон сказаў!

З гэтымі словамі ён захінуў твар краем вопраткі і выйшаў, пакінуўшы нас у троннай зале, дзе пах смерці казытаў нам ноздры.

Эйе бяссільна развёў рукамі і паглядзеў на Харэмхеба. Харэмхеб таксама развёў рукамі і паглядзеў на яго. А я сядзеў на падлозе, бо ногі не трымалі мяне, і знізу глядзеў на іх. Раптам Эйе ўсміхнуўся і сказаў:

— Харэмхеб, ты валодаеш дзідамі, дык валодай і тронам. Надзявай на галаву кароны, якіх ты так прагнеш.

Але Харэмхеб з'едліва засмяяўся і адказаў:

— Я не такі дурны! Забірай, калі хочаш, гэтыя паганыя кароны сабе. А дзіды толькі колюць задніцу, калі на іх паспрабуеш сесці. Дый потым — ува мне няма царскай крыві. Ты сам ведаеш, што пасля таго, што здарылася, вярнуцца да мінулага ўжо немагчыма. Егіпту пагражаюць вайна і голад, і калі я зараз сяду на трон, народ ва ўсіх бедах абвінаваціць мяне, а калі настане твой час, ты мяне лёгка скінеш.

Эйе адказаў:

— Тады хай будзе Сменхкара, калі толькі ён захоча вярнуцца ў Фівы. А калі не захоча, дык Тут — гэты яўна згодзіцца. У жылах іх жонак цячэ свяшчэнная кроў. Вось хай яны і церпяць народны гнеў, пакуль не настануць лепшыя часы.

— А ты застанешся ў цяню і будзеш кіраваць імі,— адказаў Харэмхеб.

Эйе запярэчыў:

— Ты забываеш, што войска ў тваіх руках і што табе зараз ваяваць з хетамі. А калі ты бярэшся за такую справу, дык ва ўсёй зямлі Кэмет няма чалавека, мацнейшага за цябе.

Так яны сварыліся, пакуль не зразумелі, што іх лёсы цяпер цесна перапляліся і адзін не можа абысціся без другога. Урэшце Эйе сказаў:

— Скажу шчыра, што я зрабіў усё, што мог, каб зваліць цябе, Харэмхеб. Але ты стаў цяпер мацнейшы за мяне, і я не магу без цябе абысціся, бо калі хеты на нас нападуць, у маім становішчы мала будзе вясёлага. Я нават думкі не дапускаю, што нейкі там Пэпітамон зможа весці вайну супраць хетаў, хоць ён нядрэнна пускае кроў паўстанцам і катуе злачынцаў. Хай сённяшні дзень стане днём нашага саюза, Харэмхеб, бо мы толькі разам зможам кіраваць Егіптам, паасобку нам не ўтрымацца. Без мяне тваё войска не мае сілы, а без твайго войска загіне Егіпет. Давай жа паклянёмся імёнамі ўсіх багоў, што з гэтага часу мы будзем разам. Я ўжо стары чалавек і хачу паспытаць смак улады. А ты, Харэмхеб яшчэ малады, і ў цябе ёсць час пачакаць.

— Я хачу не каронаў, а сапраўднай вайны,— адказаў Харэмхеб.— Але апроч усяго іншага, мне патрэбна зарука, што ты мяне не падманеш, бо я цябе добра ведаю.

Эйе развёў рукамі і спытаў:

— Якую заруку я магу табе даць? Хіба тваё войска малая зарука?

Харэмхебаў твар пацямнеў, яго позірк устрывожана прабег па сценах залы, а ногі ў сандалях заварушыліся на каменных плітах, нібы ён хацеў закапацца ў пясок. Потым ён сказаў:

— Я хачу ажаніцца з дачкой фараона Бэкетатон. Гэта праўда, я хачу разбіць з ёй гаршчок, і так будзе, хай нават зямля і неба праваляцца ў апраметную! І нават ты не зможаш перашкодзіць мне!

— Ага! — ускрыкнуў Эйе.— Цяпер я разумею, куды ты цаляеш! Ты хітрэйшы, чым я думаў, і я паважаю цябе за гэта. Яна, дарэчы, памяняла ўжо імя назад на Бэкетамон, і жрацы супраць яе нічога не маюць. Калі ты ажэнішся з ёю, ты атрымаеш законнае права на карону, нават большае, чым Эхнатонавы зяці, бо за імі стаіць толькі кроў ілжэфараона. Твой разлік сапраўды вельмі хітры, Харэмхеб, але я на гэта не пайду, прынамсі пакуль, інакш я цалкам апынуся ў тваіх руках і ў мяне не будзе над табой ніякай улады.



— Ды забяры сабе гэтыя паскудныя кароны, Эйе! — злосна закрычаў Харэмхеб.— Я хачу яе больш за кароны, хачу з той хвіліны, калі ўпершыню ўбачыў яе прыгажосць у Залатым палацы. Я хачу змяшаць сваю кроў са свяшчэннай крывёй вялікага фараона, каб ад мяне пайшлі будучыя ўладары Егіпта. Ты прагнеш толькі каронаў, Эйе? Бяры іх, як толькі палічыш, што настаў час, і мае дзіды падтрымаюць твой трон, нават калі ты пражывеш яшчэ доўгі час, бо я магу доўга чакаць, як ты сам сказаў.

Эйе працёр рот рукой і надоўга задумаўся. Але неўзабаве яго твар задаволена засвяціўся — ён нарэшце знайшоў кручок, на якім можна было трымаць Харэмхеба. А я сядзеў на падлозе і са здзіўленнем слухаў, як яны дзеляць паміж сабой царскія кароны ў той час, калі фараон жывы і здаровы быў у суседніх пакоях палаца. Нарэшце Эйе сказаў:

— Ты доўга чакаў царэўну — пачакай і яшчэ крыху. Табе трэба рыхтавацца да цяжкай вайны, а вайна не найлепшы момант для вясельных святаў. Апроч таго, патрэбен час, каб царэўна паставілася да цябе прыхільна, бо цяпер яна табой надта ўжо грэбуе, кажучы, што ты нарадзіўся на кучы гною ў хляве. Але я і толькі я маю сродак дабіцца ад яе згоды. Клянуся ўсімі багамі: у той жа дзень, калі я ўскладу на сваю галаву чырвоную і белую кароны, я сваімі рукамі разаб'ю паміж вамі гаршчок. Ты атрымаеш сваю царэўну, але больш саступіць я нічога табе не магу, бо і так амаль цалкам апынуўся ў тваіх руках.

Але Харэмхеб не меў ужо сілы таргавацца далей і сказаў:

— Хай будзе так, і давай давядзём гэтую паскудную справу да канца. Я думаю, табе не варта яе занадта зацягваць. Ты ж надта ўжо хочаш завалодаць гэтымі дзіцячымі цацкамі, царскімі каронамі.

Ён быў так узрушаны, што падчас іх ганебнага гандлю зусім забыў пра мяне, але цяпер, азірнуўшыся, здзіўлена ўсклікнуў:

— Сінухе, ты што — увесь час сядзеў тут!? Гэта нешчаслівы дзень для цябе, бо ты пачуў тое, чаго табе лепей не чуць, а таму, напэўна, давядзецца цябе забіць, хоць мне гэта будзе вельмі непрыемна, бо ты мой сябар.

Яго словы мяне рассмяшылі: гэтыя два нягоднікі, Эйе і Харэмхеб, дзялілі царскі вянец, а побач з імі сядзеў, можа, адзіны законны спадкаемца царскага трона, чалавек, у жылах якога цякла свяшчэнная кроў вялікага фараона. Я не мог стрымаць свайго смеху і захіхікаў, як старая баба, закрыўшы рукою рот. Мой смех абразіў Эйе, і ён абурана сказаў:

— Табе не варта смяяцца, Сінухе, бо тут вырашаюцца такія важныя справы, што не да смеху. Але мы не заб'ем цябе, хоць ты і заслугоўваеш смерці. Можа, і добра, што ты пачуў усё, бо ты зможаш быць сведкам у нашай спрэчцы, а расказаць пра тое, што пачуў сёння, ты ўсё

адно ніколі і нікому не раскажаш. Ты нам патрэбен, і мы прывяжам цябе да сябе мацней, чым любою клятвай, бо ты і сам думаеш, што фараону Эхнатону настаў час памерці. Таму табе, як царскаму лекару, давядзецца сёння ж ускрыць фараону чэрап і паклапаціцца, каб твой нож пранік як мага глыбей у ягоную галаву і каб ён памёр прыстойна, як таго патрабуе стары добры звычай.

— Я не буду пэцкаць свае рукі ў гэтай справе,— сказаў Харэмхеб,— я і без таго іх запэцкаў, звязаўшыся з Эйе. Але ён і мае рацыю: фараон Эхнатон павінен памерці. Іншага шляху ўратаваць Егіпет няма.

Тады, перастаўшы смяяцца, я сказаў:

— Ускрываць чэрап фараону я не магу, бо законы майго рамяства забараняюць рабіць гэта без важкай прычыны. Але не хвалюйцеся: я па-сяброўску замяшаю яму добрае зелле. Выпіўшы яго, ён засне і ніколі больш не прачнецца. Гэтым я прывяжу сябе да вас, і вам не трэба будзе непакоіцца, што калі-небудзь я скажу пра вас нешта кепскае.

З гэтымі словамі я дастаў сасуд з каляровага шкла, некалі падораны мне Херыхорам, адсыпаў з яго зелля, змяшаў яго з віном у залатой чашы, і мы ўтрох пайшлі ў пакой да фараона. Эхнатон ляжаў на ложку з шэрым тварам і пачырванелымі вачыма, побач былі акуратна складзеныя адзнакі фараонавай улады. Эйе падышоў цікаўна памацаў кароны, узважыў у руцэ залаты бізун і сказаў:

— Фараон Эхнатон, твой сябар Сінухе згатаваў табе добрыя лекі. Выпі іх, і табе стане лепей, а заўтра мы абмяркуем усе непрыемныя справы.

Фараон сеў на ложку, узяў з маёй рукі чашу і, агледзеўшы кожнага пранізлівым позіркам, спыніў яго на мне, ад чаго мурашкі пабеглі ў мяне па спіне. Тады ён сказаў:

— Калі з хворага звера літуюцца, яго дабіваюць. Ты хочаш з мяне злітавацца, Сінухе? Калі так, то дзякуй. Бо маё расчараванне — горшае за смерць, а смерць мне цяпер прыемнейшая за міра.

І я сказаў:

— Пі, фараон Эхнатон, дзеля свайго Атона!

А Харэмхеб дадаў:

— Выпі, Эхнатон, выпі, мой сябра, каб уратаваць Егіпет. Я накрыю цябе сваёй вопраткай, як некалі ў пустэльні непадалёк ад Фіваў.

Фараон Эхнатон пачаў піць з чашы, але яго рука задрыжала і віно вылілася яму на бараду. Тады ён ухапіў чашу дзвюма рукамі і, асушыўшы да дна, лёг на ложак. Мы ўтрох глядзелі на яго, а ён моўчкі ляжаў і глядзеў перад сабой, нібы ўзіраючыся ў свае відзежы затуманенымі вачыма. Праз пэўны час яго цела закалацілася, як ад ліхаманкі, і Харэмхеб накрыў яго сваёй вопраткай. А Эйе адразу ўзяўся прымяраць кароны.

Так памёр фараон Эхнатон. Я сам напаіў яго смерцю, і ён прыняў яе



з маіх рук. Але чаму я так зрабіў — не ведаю, бо не дадзена чалавеку спазнаць сваё сэрца. Я думаю толькі, што зрабіў гэта дзеля не ўратавання Егіпту, а дзеля Мэрыт і Тота, які быў маім сынам. Я зрабіў гэта не праз любоў да фараона, як праз нянавісць да ўсяго зла, якое ён прынёс з сабой у гэты свет. А хутчэй за ўсё, я зрабіў гэта таму, што так было напісана зоркамі,— каб мая мера напоўнілася. І гледзячы на яго смерць, я думаў, што цяпер мая мера поўная. Але не дадзена чалавеку спазнаць сваё сэрца, бо яно больш ненасытнае, чым кракадзіл у рацэ.

Упэўніўшыся, што фараон памёр, мы пайшлі з Залатога палаца і забаранілі яго трывожыць, сказаўшы, што ён, нібыта, нарэшце заснуў. Яго нежывое цела знайшлі толькі наступным ранкам, і Залаты палац напоўнілі лямант, плач і жалобнае галашэнне. Але было нямала і тых, хто адчуў палёгку, даведаўшыся пра яго смерць. Царыца Неферціці стаяла каля фараонава ложка, і ў яе вачах не было слёз. Нельга было здагадацца, што яна адчувала ў тую хвіліну. Калі я прыйшоў выканаць свой апошні абавязак царскага лекара і праводзіць фараона ў Дом смерці, я бачыў, як яна дакранаецца сваімі прыгожымі рукамі да яго тонкіх пальцаў і гладзіць яго па шчоках. Я аддаў цела фараона бальзамоўшчыкам, каб яны падрыхтавалі яго да вечнага жыцця.

Паводле законаў наступным фараонам павінен быў стаць малады Сменхкара. Але ад гора розум зусім адмовіўся яму служыць, ён глядзеў вакол ашалелымі вачыма і не мог прамовіць ні слова, бо прывык толькі слухаць і паўтараць за Эхнатонам. Эйе і Харэмхеб спрабавалі яму растлумачыць, што трэба ехаць у Фівы і прынесці ахвяру Амону, калі ён хоча захаваць за сабою трон. Але Сменхкара мроіў наяве і казаў:

— Я зраблю так, што ўсе народы спазнаюць святло Атона, я пабудую свайму бацьку храм і буду служыць яму там, як богу, бо ён быў напраўду вялікі, як бог, і на зямлі не было яму роўных.

Пра дзіцячую дурасць Сменхкары казалі, што ён спрабаваў спыніць сарданаў, якія выходзілі баявымі шэрагамі з горада, кажучы: «Вы ж не можаце проста так пакінуць вашых дзяцей і сем'і адных!» Сарданы і сірыйцы адказалі на гэта грубым рогатам, а нейкі малодшы военачальнік агаліў сваю дзетародную прыладу і паказаў яму са словамі: «Дзе ён, там і нашы дамы, там нашы жонкі і дзеці!»

Сваёй дурасцю Сменхкара наносіў шкоду царскай годнасці, упрошваючы наймітаў вярнуцца.

Пераканаўшыся, што ён зусім не пры сваім розуме, Эйе і Харэмхеб пакінулі яго ў спакоі, а наступным днём здарылася так, што, пайшоўшы паляваць на рыбу ў рацэ, ён утапіўся: яго човен у чаратах перакуліўся, і яго зжэрлі кракадзілы. Як яно было напраўду, не ведаю, але і не магу даць веры, што яго забіў Харэмхеб. Мне думаецца, гэта ўчыніў Эйе, які спяшаўся ў Фівы, дзе яго чакала ўлада.

Пасля здарэння Эйе і Харэмхеб пайшлі да малога Тута, які, як заўжды, разам з жонкай Анкесенатон гуляў ва ўлюбёную сваю гульню ў пахавальны абрад. Харэмхеб сказаў:

— Уставай, Тут, хопіць поўзаць па бруднай падлозе — ты цяпер фараон!

Тут паслухмяна ўстаў і сказаў:

— Я фараон? Што ж, не дзіўна, я заўсёды ведаў, што я лепшы за іншых. І гэта правільна, што я стаў фараонам. Цяпер я сваім бізуном буду караць тых, хто робіць дрэнна, а жазлом буду пасвіць добрапрыстойных.

— Не кажы лухту, Тут, — сказаў жрэц Эйе. — Ты будзеш рабіць тое, што скажу табе я, і без выбрыкаў. Па-першае, мы паедзем у Фівы, дзе адбудзецца святочная цырымонія. Ты схілішся перад Амонам і прынясеш яму ахвяру, а потым жрацы памажуць цябе свяшчэнным алеем і ўскладуць табе на галаву белую і чырвоную кароны. Табе ўсё ясна?

Тут хвілінку падумаў і спытаў:

— А калі я паеду ў Фівы, мне пабудуюць такую самую прыгожую грабніцу, як вялікім фараонам? І ці пакладуць у яе жрацы мае цацкі, залатыя крэслы і зручныя мяккія ложкі? А то грабніцы ў Ахетатоне надта цесныя і непрыгожыя, і мне не падабаецца, што там толькі малюнкі на сценах. Я хачу, каб са мной былі мае цацкі і мой добры сіні ножык, падараваны хетамі. Хай усё гэта пакладуць мне ў магілу.

— Безумоўна, жрацы пабудуюць табе выдатную грабніцу, — запэўніў Эйе. — Ты разумны хлопчык, Тут, калі ў першую чаргу, зрабіўшыся фараонам, клапоцішся пра грабніцу. Ты нават разумнейшы, чым сам гэта думаеш. Але табе трэба змяніць імя, бо жрацам будзе непрыемна чуць імя Тутанхатон. З гэтай хвіліны тваё імя будзе Тутанхамон.

Тут не пярэчыў, але захацеў навучыцца пісаць сваё новае імя: ён дагэтуль не ведаў знакаў, якімі пісалася імя Амона. Так упершыню ў Ахетатоне было напісана імя нядаўна праклятага бога. Калі царыца Неферціці даведалася, што фараонам стаў Тутанхамон, а пра яе ўсе забыліся, яна апранула свае святочныя строі, націрлася духмяным алеем і пайшла на карабель да Харэмхеба. Яна сказала:

— Тое, што фараонам робяць нейкага неразумнага малога, — проста смешна! Усё гэта хітрыкі нягоднага Эйе! Хай ён мне і бацька, але ён хоча вырываць Тута з маіх рук і ад яго імя сам кіраваць Егіптам. Але ж Вялікая царская жонка і маці — я! І я не старая! Мужчыны дагэтуль з пажадай глядзяць на мяне, называючы найпрыгажэйшай жанчынай Егіпта... Можа, яны перабольшваюць? Паглядзі ж на мяне ты, Харэмхеб, хоць жальба яшчэ туманіць цяпер мае вочы і ўгінае мне плечы. Паглядзі на мяне, бо час дарагі, а ў цябе ёсць дзіды, і мы з табой зможам наладзіць усё дзеля дабрабыту Егіпта. Я кажу табе гэта шчыра, бо клапачуся аб шчасці нашай краіны, а мой бацька, гэты паскуднік і прагны дурань Эйе, прынясе Егіпту толькі шкоду і разбурэнне.



Харэмхеб паглядзеў на яе, а Неферціці расхінула на сабе адзенне, скардзячыся на спёку. Яна нічога не ведала пра змову Харэмхеба і Эйе і, нават здагадваючыся пра страсць Харэмхеба да Бэкетамон, меркавала, што яе чары прынясуць ёй лёгкую перамогу і выцясняць з Харэмхебава сэрца недасягальную царэўну.

Яна прызвычаіліся да лёгкіх перамог у Залатым палацы, дзе без цяжкасці схіляла любога да апаганьвання фараонава ложка.

Але на Харэмхеба яе прыгажосць не падзейнічала, ён халадна паглядзеў на яе і сказаў:

— Я ўжо дастаткова запэцкаўся дзярмом у гэтым праклятым горадзе і не хачу пэцкацца яшчэ больш, звязаўшыся з табой, прыгажуня Неферціці. Апроч таго, мне трэба прадыктаваць пісарам тэрміновыя пасланні адносна ваенных дзеянняў. У мяне проста няма часу, каб марнаваць яго з табой у ложку.

Усё гэта мне пазней распавёў сам Харэмхеб, бясспрэчна, усё перабольшыўшы, але ў асноўным гэта была праўда. З таго часу Неферціці люта ўзненавідзела Харэмхеба і шкодзіла яму, дзе магла. Яна ганьбіла яго імя ў Фівах, уступіўшы ў хаўрус з царэўнай Бэкетамон, што прынесла Харэмхебу немалую шкоду, — пра гэта я распавяду пазней. Харэмхеб зрабіў бы значна мудрэй, калі б не абразіў Неферціці, а суцешыў яе ў жальбе і збярог яе дружбу. Але праз сяброўскія пачуцці да Эхнатона ён не захацеў пляваць на яго цела. Ён па-ранейшаму любіў яго, хоць і загадаў збіць яго імя з усіх надпісаў і зруйнаваць храм Атона ў Фівах. Каб пацвердзіць гэтыя словы, я скажу, што Харэмхеб загадаў сваім верным слугам патаемна перанесці цела фараона з грабніцы ў Ахетатоне ў фіванскую грабніцу Эхнатонавай маці. Ён схаваў яго там, каб не аддаць у рукі жрацам, а жрацы Атона хацелі яго спаліць і развеяць попел над вадой, асудзіўшы Эхнатонава Ка на вечнае блуканне ў апраметнай. І толькі дзякуючы Харэмхебу цела фараона Эхнатона было захаванае. Але гэта здарылася нашмат пазней.

**6**

Атрымаўшы згоду Тутанхамона, Эйе загадаў рыхтаваць караблі да адплыцця ў Фівы. На іх селі ўсе, хто яшчэ заставаўся жыць у Ахетатоне, так што ў горадзе не засталося ніводнай жывой душы, апроч бальзамоўшчыкаў у Доме смерці, якія рыхтавалі Эхнатонава цела да вечнага жыцця і пахавання ў грабніцы, высечанай на загад фараона ў скалах Усходніх гор. Вось так апошнія насельнікі ўцяклі з Паднябеснага горада, уцяклі так паспешліва, што кінулі на сталах дарагі посуд, і цацкі Тута так і засталіся на падлозе вечна гуляць у пахавальны абрад.

Вецер пустэльні сарваў аканіцы, пясок засыпаў у палацах падлогу, на якой плавалі намаляваныя ў празрыстай вадзе пярэстыя рыбы і ляцелі ў вечнасць бліскучыя качкі праз вечназялёныя зарасці. Пустэльня вярнулася ў сады Ахетатона, яго рыбныя сажалкі перасохлі, арашальныя канавы забіліся глеем і пладовыя дрэвы загінулі. Спачатку са сцен абсыпаўся гліняны тынк, потым абваліліся дахі, і ўвесь горад ператварыўся ў руіны, дзе шакалы вылі ў пустых залах і рабілі свае логавы на мяккіх ложках пад размаляванымі столямі. Так загінуў горад Ахетатон, загінуў хутчэй, чым узнік у пустэльні па загадзе фараона Эхнатона. І ніводзін чалавек не асмельваўся зайсці ў гэтыя руіны, каб пажывіцца дарагімі рэчамі, якія дарэмна прападалі пад слоем пылу і гліны, якая падала са столі і абвальвалася са сцен: гэтая зямля была праклятая навекі, і Амон ссушыў бы нагу любому, хто адважваўся на яе ступіць. Так навечна знік горад Ахетатон, нібы яго не было ніколі, знік як сон, як пустэльны міраж.

А паперадзе караблёў Тутанхамона ўверх па рацэ паляцелі ваенныя караблі, каб уціхамірыць землі па абодвух берагах ракі. Харэмхеб навёў парадак у Фівах і спыніў разбой на вуліцах, але на мурах нікога не вешалі, бо Харэмхебу быў патрэбен кожны, хто мог насіць зброю. Уздоўж Алеі бараноў жрэц Эйе загадаў узняць сцягі новага фараона, і жрацы наладзілі ўрачыстую сустрэчу новаму ўладару. Я, Сінухе, быў сведкам, як яго неслі ў залатых насілках па Алеі бараноў, а царыца Неферціці з дочкамі Эхнатона суправаджала яго, так што перамога Амона была поўнай. Жрацы намазалі новага фараона алеем перад выявай Амона і з усімі свяшчэннымі цырымоніямі ўсклалі яму на галаву чырвоную і белую кароны, лілії і папірус, кароны Верхняга і Ніжняга царства. Робячы гэта на вачах у народа, жрацы паказвалі, што новы фараон атрымлівае ўладу з іх рук. Фараон прынёс Амону багатую ахвяру з усяго, што паспешліва змог сабраць Эйе па збяднелай краіне. Зрэшты, і Херыхор абяцаў пазычыць золата Амона на вайну з хетамі: з Ніжняй зямлі прыходзілі зусім дрэнныя звесткі. Але Харэмхеб знарок іх перабольшваў, каб народ адчуў яшчэ большы жах перад хетамі.

А народ Фіваў, вітаючы Амона і новага фараона, хоць той быў яшчэ малым дзіцём, радаваўся, бо чалавечае сэрца неразумна спадзяецца на будучыню і не хоча вучыцца на памылках мінулага, думаючы, што заўтрашні дзень будзе лепшы за сённяшні. Таму народ тоўпіўся абапал Алеі бараноў і ў дварах храма, радасна вітаючы новага фараона і пасыпаючы кветкамі яго шлях, а калі хто не выказваў радасці і стаяў моўчкі са змрочным выглядам, воіны Эйе і Харэмхеба дрэўкамі дзідаў тлумачылі яму, што такія паводзіны не стасуюцца з вялікім святам.

Але ў порце і ў бядняцкіх кварталах горада яшчэ дыміліся руіны, ад якіх падымаўся едкі смярдзючы дым, а рака пахла крывёй і трупамі. На



вільчыках храмаў сядзелі падлажэры, з цяжкім крумканнем выцягваючы шыі і не маючы сілы ўзляцець пасля багатага пачастунку чалавечынай, а кракадзілы ляжалі ўздоўж берага, лянуючыся нават варухнуць хвастом, і маленькія птушкі выдзёўбвалі з іх разяўленых пашчаў рэшткі жахлівага банкету. Дзе-нідзе па руінах блукалі спалоханыя жанчыны і дзеці, яны капаліся ў рэштках сваіх дамоў, шукаючы хоць які гаспадарчы рыштунак, а дзеці рабоў і насільшчыкаў бегалі за баявымі калясніцамі і падбіралі конскія круглякі, выкалупваючы з іх неператраўленыя конскімі жыватамі зярняты. Я ішоў уздоўж прычалаў, дзе па-ранейшаму пахла гнілою вадой, глядзеў на пустыя кашы і караблі, што стаялі без грузаў, і ногі неслі мяне да «Кракадзілавага хваста». Я ўспамінаў Мэрыт, якая сказала: «Я ўсяго мяккая посцілка для тваёй самоты, калі не стары сяннік». Я думаў пра маленькага Тота, які быў маім сынам, хоць я не здагадваўся пра гэта. Я выразна бачыў яго пяшчотныя дзіцячыя шчокі і рукі, якімі ён абдымаў маю шыю, прыціскаючыся да мяне тварам. Я ішоў па пыльнай гавані і бачыў перад сабой працятае дзідай цела Мэрыт, заліты крывёю твар Тота і крывавыя плямы на яго валасах. Усё гэта так жыва паўставала перада мной, што я думаў, што смерць фараона Эхнатона была надта лёгкай. Я думаў, што няма на свеце нічога небяспечнейшага за царскія вопратку, бо яны сеюць па свеце смерць і ад іх таўсцеюць адны кракадзілы. Я ішоў па спусцелай гавані, а здалёк даносіліся прыглушаныя крыкі натоўпу, які вітаў фараона Тутанхамона, думаючы, што гэтае дураслівае дзіцё, якое марыць аб прыгожай грабніцы, знішчыць несправядлівасць і ўсталюе мір, спакой і дабрабыт у зямлі Кэмет.

Я ішоў, куды мяне неслі ногі, і балюча адчуваў сваю самоту, разумеючы, што на Тоце мая кроў скончылася і што мне гэтага не паправіць, бо не было ў мяне спадзеву на бессмяротнасць і вечнае жыццё, смерць здавалася мне адпачынкам і сном, яна была падобнай да цяпла жарніцы ў халодную ноч. Усе мае спадзяванні і радасці ўкраў у мяне бог фараона Эхнатона, і цяпер я ведаў, што ўсе багі жывуць у Цёмных палацах, адкуль не вяртаецца ніхто. Фараон Эхнатон выпіў смерць з маёй рукі, але гэта не прынесла мне палёгкі, бо разам са смерцю ён выпіў літасцівае забыццё, а я застаўся жыць і памятаць. Маё сэрца поўнілася лютасцю, якая раз'ядала яго, нібы шчолак, я адчуваў злосць да ўсіх людзей, я адчуваў злосць да здурнелага народа, які так нічому не навучыўся і збіраўся перад храмам Амона, як статак бязмозглай скаціны.

Руіны ў гавані як вымерлі, але раптам ад кучы пустых кошыкаў аддзялася нейкая падобная да чалавека здань і на карачках наблізілася да мяне. Гэта быў маленькі схуднелы мужчына, рукі і ногі ў якога скрывіліся ад недаеду яшчэ ў дзяцінстве. Ён аблізаў вусны счарнелым языком і спытаў, гледзячы на мяне шалёнымі вачыма:

— Ці не ты — Сінухе, царскі лекар, які перавязваў раны беднякам у імя Атона?

Ён устаў і засмяяўся жахлівым смехам, потым паказаў на мяне пальцам і сказаў:

— Гэта ты, Сінухе, які раздаваў хлеб і казаў: «Гэта хлеб Атона! Ешце яго ў імя Атона». А калі так, дык у імя ўсіх багоў апраметнай дай мне кавалак хлеба, а то я шмат дзён хаваўся ад воінаў і нават баяўся падысці да ракі, каб папіць вады. У імя ўсіх багоў апраметнай дай мне хлеба, бо мой рот зусім перасох, а жывот пазелянеў, як трава.

Але хлеба ў мяне не было, ды ён і не хацеў ад мяне нічога — ён вылез проста паздзекавацца, каб хоць неяк наталіць сваю злосць і акрутнасць.

— У мяне была хата,— казаў ён,— хай сабе ўбогая і прапахлая гнілой рыбай, але гэта была мая хата. У мяне была жонка, хай сабе непрыгожая і схуднелая, але мая. У мяне былі дзеці, яны галадавалі на вачах у мяне, але гэта былі мае дзеці. І дзе цяпер мая хата, мая жонка і дзеці? Твой бог забраў іх, Сінухе! Атон, забойца і вынішчальнік усяго існага, забраў іх і не пакінуў мне нічога, апроч жменькі зямлі, і я сам хутка памру і не шкадую пра гэта.

Ён зноў сеў перада мной на зямлю, прыціснуў кулакі да разбухлага жывата і прасіпеў:

— Сінухе, а можа, нашы гульні былі чаго-небудзь вартыя? Бо няхай я памру, як і мае таварышы, але, можа, што-небудзь застанецца ў людской памяці і пра нас што-небудзь раскажуць чалавечыя вусны? Можа, памяць пра нас застанецца ў сэрцах тых, хто працуе сваімі рукамі і чые спіны прывыклі да палачных удараў? Можа, памяць пра нас застанецца нават тады, калі ўсе ўжо даўно забудуцца на твайго Атона, а імя праклятага фараона сатруць з усіх надпісаў? Можа, якая-небудзь цьмяная памяць пра нас застанецца ў душы народа, і дзеці засвояць яе разам з горкім малаком мацярок і чаму-небудзь навучацца на нашых памылках? Тады яны з самага нараджэння будуць ведаць тое, чаму нам давялося так цяжка вучыцца. Яны будуць ведаць, што няма розніцы паміж людзьмі, што скура багацея і вяльможы лёгка разрываецца, калі разануць яе нажом, і што кроў і ёсць кроў, і няма розніцы, яна цячэ з сэрца галоднага ці сытага чалавека. Яны даведаюцца, што рабы і беднякі не павінны давярацца фараонам і царскім лекарам, іх законам і абяцанкам, што яны павінны давяраць толькі сваім кулакам, каб з іх дапамогай прыдумаць новыя законы, а хто не пераходзіць на бок беднякоў — той іхні вораг, і тут не можа быць ніякай спагады і розніцы паміж людзьмі. У сваім сэрцы ты, Сінухе, не быў з намі. А значыць, ты быў супраць нас і быў нашым ворагам, хоць ты і раздаваў нам хлеб, але збіваў нас з панталыку сваімі прамовамі пра Атона. Усе багі на адзін капыл, як і фараоны, як і вяльможы, хоць яны і не прызнаюць гэтага. Так кажу я, Мэці, чысцільшчык рыбы, бо мне губляць нечага — я хутка памру, і маё цела скінуць у ваду, яно знікне, і мяне болей не будзе. Але часцінка мяне ўсё ж застанецца блукаць па зямлі, і ты пазнаеш мяне ў неспакойных сэрцах рабоў, у прыхаванай усмешцы іхніх вачэй, у горкім малацэ, якім схуднелыя зняможаныя маці будуць карміць сваіх слабых дзяцей. Я, Мэці, чысцільшчык рыбы, прымушу падысці тое цеста, з якога спякуць вялікі хлеб.



Па яго словах і вачах я бачыў, што гора і страх памуцілі ягоны розум. Але ён чапляўся за мае калені, не даючы мне ісці, і шаптаў:

— Ты, Сінухе, які так шмат вучыўся і ўмееш чытаць і пісаць, ты, вядома, лічыш, што чысцільшчык рыбы не здольны нарадзіць ніякай думкі, бо гэта цяжка і патрабуе шмат намаганняў, але ў мяне дастаткова часу думаць, жуючы траву ды салёныя вузялкі кашоў з-пад рыбы. Таму я цяпер ведаю, у чым была наша памылка і чаму нам давялося памерці. У нас была і зямля, і ўлада, але сваю ўладу мы не змаглі скарыстаць — мы навучыліся толькі рабаваць ды сварыцца за здабычу і п'янець ад сваёй улады і новага становішча. Мы жэрлі ды напіваліся замест таго, каб забіваць, забіваць і забіваць усіх, хто быў не з намі! У сваім убостве мы не засвоілі гэтай навукі! Мы, галодныя жабракі, надта высока ставілі чалавечую душу, і толькі гэты тлусты кот Пэпітамон ды чорны Эйе навучылі нас мастацтву забойства і забілі нас усіх. Але тады нам было ўжо запозна засвойваць гэтую навуку. Тут, сярод пустых кашоў, я бачыў шмат сноў пра забойствы, і я пакіну свае сны нашчадкам, мае сны будуць красціся да спячых рабоў і беднякоў у начной цемры і іх пальцы будуць торгацца ад прымроенага — хоць мяне самога ўжо даўно не будзе на свеце.

Ён глядзеў на мяне вар'яцкімі вачыма і аберуч трымаў за калені. Тады я сеў у пыл побач і, уняўшы рукі, сказаў:

— Мэці, чысцільшчык рыбы, я бачу, што пад вопраткай ты хаваеш нож. Дык забі мяне, калі я ў чым-небудзь перад табой вінаваты. Забі мяне, Мэці, чысцільшчык рыбы, бо я стаміўся ад сноў і радасці няма ў маім сэрцы. Забі мяне, калі гэта парадуе тваю душу. Больш я нічым не магу дапамагчы табе.

Ён дастаў з-за пояса нож для чысткі рыбы, пакруціў у сваіх пакрытых шнарамі далонях, паглядзеў на мяне вільготнымі вачыма і заплакаў, адкінуўшы нож:

— Забойства не прыносіць карысці, гэта я цяпер разумею, бо нож сляпы і можа забіць як вінаватага, так і нявіннага. Забудзь мае словы, Сінухе, і даруй мне маю злосць, бо чалавек, які б'е нажом другога, б'е свайго брата, і можа, мы, рабы і беднякі, разумелі гэта недзе ў глыбіні свайго сэрца, і таму не навучыліся забіваць. Можа, мы сталі перамож-

цамі ў гэтай барацьбе, таму што яны зняславілі сябе забойствамі і тым пагубілі сябе. Сінухе, браце мой, можа, калі-небудзь настане дзень, калі чалавек убачыць брата ў другім чалавеку і не будзе забіваць яго. І хай да таго дня мой плач застанецца для беднякоў і рабоў, калі я памру. Хай водгукі майго плачу пачуюцца ў скрыгаце жорнаў, каб кожны пазнаваў яго ў сваім сэрцы і знаходзіў побач з сабою брата.

Ён дакрануўся да маёй шчакі, яго слёзы капалі мне на рукі, а рыбны смурод поўніў мае ноздры. Ён сказаў:

— Ідзі, брат Сінухе, каб воіны не забілі цябе за мяне. Ідзі і хай мой плач будзе заўсёды з табой, пакуль твае вочы не расплюшчацца і ты не ўбачыш тое, што цяпер бачу я, і тады мае слёзы зробяцца для цябе даражэйшымі за каштоўныя камяні і перлы, бо гэта не я плачу, а плачуць ува мне цэлыя пакаленні зняволеных і закатаваных. Вада ў рацэ — гэта слёзы тых, якія жылі да нас, а вада, якая падае на зямлю ў іншых краях,— гэта слёзы тых, хто з'явіцца на свеце пасля нас. Калі ты зразумееш гэта, ты болей не будзеш самотны, Сінухе.

Ён да зямлі схіліўся перада мной, і яго слёзы шэрымі перлінкамі падалі ў пыл партовага бруку. Я не зразумеў яго словаў, хоць і быў гатовы прыняць смерць ад яго рукі. Я пайшоў прэч, выцершы аб вопратку руку, мокрую ад яго слёз, і яго смурод яшчэ доўга не пакідаў мяне. Але я хутка яго забыў і па-ранейшаму ішоў, куды мяне неслі ногі, і маё сэрца было поўнае злосці, якая раз'ядала яго, нібы шчолак, бо мае гора й самота здаваліся мне болей пранізлівымі, чым у астатніх людзей. Так ногі прынеслі мяне да былога дома медніка. Насустрач мне трапляліся спалоханыя дзеці, якія хаваліся, калі я падыходзіў бліжэй, а жанчыны, якія капаліся ў руінах, хавалі ад мяне свае твары.

Былы дом медніка згарэў, яго гліняныя сцены стаялі запэцканыя сажай, сажалка ў садзе высахла, і галіны смакоўніцы пачэзлі і пачарнелі. Але сярод руінаў нехта збудаваў павець, пад якой я ўбачыў гарлач з вадой, і насустрач мне ўстала Муці. Яе сівыя валасы былі запэцканы граззю, яна кульгала, і спачатку мне здалося, што я бачу яе Ка, ад чаго я на хвіліну скамянеў, але яна пакланілася мне, і з усмешкай сказала:

— Благаславёны той дзень, які прывёў майго гаспадара дадому!

Болей яна нічога не змагла сказаць, бо яе голас сарваўся, і, асеўшы на зямлю, яна закрыла твар рукамі. Яе схуднелае цела было пакрытае слядамі ад udараў рогам Амона, ногі былі таксама знявечаныя, але раны амаль зажылі, і я ўжо не мог дапамагчы ёй.

— Дзе Каптах? — папытаўся я:

— Памёр твой Каптах,— адказала яна.— Кажуць, яго забілі рабы, убачыўшы, як ён частуе віном воінаў Пэпітамона.

Але я не паверыў яе словам, бо Каптах не мог памерці. Каптах будзе жыць заўсёды, што б ні здарылася.



Муці страшэнна раззлавалася, убачыўшы, што я не паверыў яе словам:

— Табе, мабыць, прыемна смяяцца, калі ўсё адбылося, як ты хацеў: твой Атон святкуе цяпер перамогу! Усе вы, мужчыны, аднолькавыя, і ўсё злое ў ідзе ад вас! Бо вы ніколі не робіцеся дарослымі, вы — вечныя дзеці: б'ецеся палкамі, кідаецеся камянямі, разбіваеце адзін аднаму насы, і няма вам большага задавальнення, як давесці да роспачы тых, хто вас любіць і жадае вам дабра. Сапраўды, Сінухе, ці ж не жадала я табе дабра, а што маю за гэта? Знявечаную нагу, раны ад рога на целе і жменю прэлага зерня на кашу! Але я не скарджуся. А вось Мэрыт, Мэрыт, якая была з табою такая добрая! А ты яе загубіў, ледзь не сваёй рукой усадзіў ёй нож у сэрца! Я выплакала ўсе вочы па маленькім Тоту, ён быў мне як родны сын, я пякла яму мядовыя аладкі, заўсёды старалася суцішыць яго мужчынскі нораў. Але табе ўсё гэта нічога, ты прыходзіш з самазадаволеным выглядам, увесь абадраны, з падрапанаю пысай, змарнаваўшы ўсё багацце! Прыходзіш спаць пад маім дахам, які я з вялікай цяжкасцю адбудавала на руінах твайго дома, каб хоць нешта мець над галавой! А можа, ты хочаш, каб я цябе яшчэ і пакарміла? Магу залажыцца, што не сядзе сонца, як ты запатрабуеш і піва, а заўтра раніцай паб'еш мяне палкай, калі я абслужу цябе не так хутка, як табе хочацца, і пашлеш мяне на заробкі, каб самому абабіваць на ложку бакі! Я ведаю, усе мужчыны такія, і я не здзіўлюся, я ўжо да ўсяго прывыкла.

Так яна лаяла мяне, не выбіраючы словаў, пакуль я не ўспомніў, што так некалі бурчэлі і мая маці Кіпа, і Мэрыт, і не заплакаў ад тых успамінаў. Тады яна спахапілася і пачала мітусліва супакойваць мяне:

— Вой, Сінухе, адчайны ты чалавек, ты ж ведаеш, што я лаюся, не жадаючы табе нічога кепскага,— гэта ж толькі, каб павучыць цябе. У мяне прыхавана крыху зярнят — я хуценька іх зараз змялю і згатую табе смачную кашу, а потым зраблю табе ўтульны ложак з сухога трыснягу сярод гэтых руінаў. Ты пачнеш займацца сваім рамяством, і мы як-небудзь пражывем. А пакуль і пра заробак можаш не турбавацца, бо я хаджу ў багатыя дамы мыць запэцканую крывёю бялізну і зарабляю дастаткова, каб нам не галадаваць. Я нават змагу пазычыць табе збанок піва ў доме ўцехаў, дзе цяпер жывуць воіны, і ты зможаш парадаваць сваё сэрца. Не плач, хлопчык мой, Сінухе, бо слязьмі не дапаможаш, хлопчыкі ёсць хлопчыкі, і ім заўсёды трэба ўтварыць што-небудзь. Ад іх забаваў у мацярок баляць сэрцы, але з гэтым нічога не зробіш, бо так было і будзе заўсёды. Але я не хачу, каб ты прыцягнуў сюды яшчэ якіх-небудзь багоў, бо тады ад Фіваў сапраўды ўжо каменя на камяні не застанецца. Я вельмі спадзяюся, што такога болей не здарыцца, але не мне старой цёмнай кабеце вучыць мужчын. А я ж любіла Мэрыт больш за дачку, наколькі магу меркаваць пра гэта, бо сама ніколі не мела

дзяцей, я была непрыгожая і мужчын не любіла. На свеце ёсць шмат жанчын, з якімі ты можаш павесяліць сваё сэрца, і з часам ты супакоішся. Час, Сінухе,— гэта самыя дзейсныя і літасцівыя лекі, ён засыпле твой смутак, як пустэльны пясок, і ты пачнеш заўважаць, што на свеце ёсць і іншыя жанчыны, якія могуць павесяліць тваю маленькую прыладу, якую ты носіш пад фартухам, і ты зноў пачнеш таўсцець і адчуеш задавальненне жыццём, бо для мужчын гэта самае важнае. Вой, мой гаспадар Сінухе, як ты схуднеў! Твае шчокі зусім праваліліся, і я не пазнаю цябе. Але зараз я згатую табе смачную кашу, зраблю смажанку з парасткаў трыснягу і пазычу збан піва, калі ты перастанеш плакаць.

Пры гэтых словах я адчуў сорам, перастаў плакаць і сказаў:

— Я прыйшоў зусім не дзеля таго, каб сесці табе на шыю, любая Муці. Я ад'язджаю і, напэўна, вярнуся не хутка, калі вярнуся наогул. Таму я хацеў перад ад'ездам зірнуць на дом, у якім быў шчаслівы, пагладзіць шурпаты ствол смакоўніцы, дакрануцца да парога, сцёртага нагамі Мэрыт і маленькага Тота. Не трэба дзеля мяне завіхацца, Муці, я не змагу есці тваё зерне, бо ў Фівах цяпер пануе вялікая нястача. Я пастараюся табе прыслаць крыху срэбра, каб ты змагла пражыць, пакуль мяне не будзе. Хай будуць благаславёныя твае словы і ты сама, бо ты мне як родная маці, ты добрая жанчына, хоць часам твае словы і джаляць, як восы.

Муці пачала ўсхліпваць, выціраючы нос шурпатымі далонямі, але не дазволіла мне сысці. Распаліўшы вогнішча, яна згатавала са сваіх небагатых запасаў ежу, якую, каб яе не пакрыўдзіць, мне давялося есці, хоць кавалак мне не лез у горла. А Муці глядзела на мяне і прыгаворвала:

— Еш, Сінухе, адчайны ты чалавек, еш, хоць і сапрэла маё зерне, і я не разумею, чаму заклапацілася сёння, хоць звычайна ледзь магу распаліць агонь, і хлеб мой атрымліваецца напалам з попелам. Але ты еш, Сінухе, бо ежа вылечвае любы смутак, умацоўвае цела і весяліць сэрца, і для чалавека, які наплакаўся, нічога няма лепшага за добрую ежу. Я так думаю, што ты зноў сабраўся ў дарогу і будзеш соваць сваю галаву абы куды, ва ўсе пасткі і нераты, але затрымаць цябе не магу. Так што еш, Сінухе, мацуйся і абавязкова вяртайся назад. Я благаслаўлю той дзень, калі ты зноў вернешся, мой гаспадар, і буду чакаць цябе. Калі не маеш срэбра, то за мяне не турбуйся, я ж ведаю, што ты патраціў яго на хлеб для беднякоў і рабоў, хоць тыя па сваёй дурасці не падзякавалі табе. Не варта праз мяне непакоіцца, бо хоць я старая і ў дадатак кульгавая, але змагу зарабіць на хлеб, мыючы бялізну і гатуючы ежу, пакуль у Фівах ёсць з чаго яе гатаваць. Толькі ты вяртайся хутчэй, мой гаспадар!

Я прасядзеў каля руінаў былога дома медніка аж да змяркання, і агонь, які распаліла Муці, самотна свяціўся ў начной цемры. Гэтае месца было маім адзіным домам ва ўсім свеце. Я гладзіў шурпаты ствол смакоўніцы і адчуваў, што больш ніколі сюды не вярнуся, і, дакранаючыся да змазоленых рук Муці, думаў, што, можа, так яно будзе лепш, бо я заўсёды прыносіў толькі няшчасці тым, хто мяне любіў. Таму лепш мне жыць аднаму і аднаму памерці, бо так ужо склалася, што нават ноч свайго нараджэння я быў адзін, плывучы ўніз па рацэ ў трысняговым чоўне сярод начной цемрадзі.



Калі запаліліся зоркі, і воіны пачалі ляпаць па шчытах дрэўкамі дзідаў, каб папалохаць насельнікаў партовых руінаў, я развітаўся з Муці і пакінуў былы дом медніка, каб яшчэ раз наведаць Залаты палац фараона.

Калі я ішоў па вуліцах да берага, неба над Фівамі ўспыхнула барвяным святлом, бо на галоўных вуліцах, разганяючы начную цемру, запаліліся агні, і да маіх вушэй данесліся гукі музыкі: гэтая была святочная ноч у гонар новага фараона Тутанхамона, які сёння ўзышоў на трон. І Фівы ўрачыста адзначалі гэту падзею.

**7**

І гэтай самаю ноччу жрацы шчыравалі ў храме Сэхмет, ачышчаючы каменныя пліты ад прарослай між імі травы, ставячы на месца статую багіні з ільвінаю галавой, апранаючы яе ў барвяныя строі ды прычапляючы ёй знакі вайны і вынішчальнага спусташэння. Рабілася гэта таму, што жрэц Эйе, надзеўшы на галаву Тутанхамона чырвоную і белую кароны, кароны папіруса і лілії, сказаў Харэмхебу:

— Вось і настаў твой час, Сын сокала. Загадвай трубіць, абвяшчай вайну! Хай кроў ачышчальным патопам абмые зямлю Кэмет, каб усё зноў пайшло па-ранейшаму і народ забыўся пра фальшывага фараона.

І наступным днём, калі фараон Тутанхамон са сваёй боскаю жонкай зноў гуляў у Залатым палацы ў пахавальныя абрады, а сп'янелыя ад улады жрацы Амона палілі вохныя смолы і на вечныя часы праклліналі імя Эхнатона, Харэмхеб загадаў трубіць на ўсіх скрыжаваннях, медныя брама ў храм Сэхмет адчынілася, і Харэмхеб на чале лепшай часткі свайго войска ўрачыста рушыў па Алеі бараноў, каб прынесці ахвяру багіні. Жрацы на той час ужо атрымалі сваю долю, і каменячосы збівалі з надпісаў праклятае імя Эхнатона, сціраючы памяць аб ім навекі. Фараон Тутанхамон таксама атрымаў сваю долю, і будаўнікі ўжо абмяркоўвалі месца будучай яго грабніцы. І Эйе атрымаў сваю долю, стаўшы правай рукой фараона і ад яго імя кіруючы зямлёй Кэмет: ён збіраў падаткі, назначаў суддзяў, узнагароджваў, караў і літаваў. А цяпер атрымаць сваю долю настала чарга Харэмхеба, і я пайшоў за ім у храм Сэхмет, бо ён вельмі хацеў паказацца мне ва ўсёй сваёй моцы і велічы. Ён нарэшце абвяшчаў вайну, дзеля якой патраціў столькі сілы і хітрасці і да якой рыхтаваўся ўсё жыццё!

Але на гонар Харэмхеба, павінен сказаць, што і ў хвіліну свайго трыумфу ён адрынуў усю знешнюю раскошу і ўразіў народ сваёй прастатой. Ён ехаў на звычайнай калясніцы, на галовах коней не было стракатага пер'я, а колы не ўпрыгожвалі залатыя аздобы. Затое па абодва бакі калясніцы, рассякаючы паветра, ззялі востра заточаныя медныя разакі, а ўзброеныя дзідамі і лукамі воіны роўнымі шэрагамі ішлі следам, грозны зладжаны тупат іх босых ног быў падобны да грукату марскіх хваляў, а негры размерана білі ў бубны, абцягнутыя чалавечай скурай.

Народ моўчкі і баязліва глядзеў на статную постаць, што ўзвышалася над натоўпам на калясніцы, на адкормленае і задаволенае войска тым часам, як краіна пакутавала ад голаду. Людзі прыцішана назіралі, як Харэмхеб набліжаецца да храма Сэхмет, нібыта прачнуліся пасля святочнай ночы і пачалі здагадвацца, што пакуты не скончыліся, а толькі яшчэ чакаюць наперадзе. Перад храмам Харэмхеб спусціўся з калясніцы і ўвайшоў у браму са світай сваіх ваяводаў. Жрацы з абмазанымі крывёю рукамі і тварамі, у запырсканым крывёю адзенні сустрэлі іх і правялі да статуя Сэхмет. Багіня была ў барвяных строях, насычаных крывёю ахвяраў так, што яны прыліпалі да каменнага цела. Грудзі багіні горда ўздымаліся пад акрываўленаю тканінай, і кроў капала з барвянай вопраткі. У змроку храма здавалася, што яе ільвіная галава варушыцца, а вочы з каштоўных камянёў як жывыя глядзяць на Харэмхеба, калі ён, стаўшы перад алтаром, сціснуў у руках сэрцы ахвяраў і пачаў маліцца аб перамозе. А жрацы тым часам радасна скакалі вакол, наносілі сабе раны нажамі і крычалі:

— Вярніся пераможцам, Харэмхеб, Сын сокала! Вярніся пераможцам, і багіня сыдзе да цябе з алтара і абдыме сваёй галізнай!

Але скачкі і лямант не парушылі спакой Харэмхеба, ён з годнасцю выканаў усе абрады і выйшаў з храма. Пакуль ён прыносіў ахвяры, у двары і на плошчы перад храмам па закліку ваенных труб сабраўся вялікі натоўп спалоханых людзей. Харэмхеб выйшаў з брамы, узняў угору акрываўленыя рукі і загаварыў, звяртаючыся да народа:

— Слухай мяне, народ Кэмет, слухай мяне, бо я, Харэмхеб, Сын сокала, сваёю рукой нясу перамогу і вечную славу тым, хто захоча пайсці за мной на святую вайну. У гэтую хвіліну хецкія калясніцы з грукатам імчаць па Сінайскай пустэльні, а іх перадавыя атрады спусташаюць Ніжнюю зямлю. І ніколі яшчэ зямля Кэмет не была ў такой небяспецы, як цяпер, бо ў параўнанні з хетамі былая ўлада гіксосаў была міласэрнай і літасцівай. Хеты ідуць на нас незлічонымі хмарамі, а іх лютасць наводзіць жах на ўсе народы. Яны зруйнуюць вашы дамы, павыколваюць вам вочы, згвалцяць вашых жанок, а дзяцей звядуць у рабства. Хлеб не расце там, дзе пройдуць іх калясніцы, а зямля пад капытамі іх коней ператвараецца ў пустэльню. Таму вайна, якую я абвяшчаю, — гэта свяшчэнная вайна! Гэта вайна за жыццё і за багоў зямлі Кэмет, вайна за вашых дзяцей, за вашы дамы! Калі ўсё будзе так, як я думаю, мы адваюем назад Сірыю, мы разаб'ем хетаў! І тады былое багацце і дабрабыт вернуцца ў нашы землі і кожны атрымае сваю меру напоўніцу. Да якой пары чужаземцы будуць апаганьваць нашу зямлю, смяяцца са слабасці нашай зброі і ганіць нашу краіну!? Настаў час вярнуць збройную славу зямлі Кэмет! Я павінен зрабіць гэта і зраблю! А таму, хто добраахвотна пойдзе за мною, я абяцаю меру збожжа і частку здабычы, а наша здабыча будзе вялікай, і калі вы вернецеся дадому ў дзень перамогі, вы будзеце такія багатыя, што нават не можаце сабе ўявіць. А хто не захоча пайсці са мной па сваёй волі, таго я прымушу гвалтам, і яму давядзецца цягнуць на сваім карку рэчы сапраўдных воінаў, з яго будуць смяяцца і здзекавацца, і ніякай долі ад здабычы не дастанецца такім людзям. Таму я спадзяюся і веру, што кожны егіпцянін, у якім б'ецца сэрца сапраўднага мужчыны, добраахвотна пойдзе за мной, калі ён здольны трымаць у руках зброю. Сёння ў нас вялікая нястача, і голад ідзе следам за намі, але пасля перамогі настане пара дабрабыту, а кожны, хто загіне ў бітве за свабоду зямлі Кэмет, адразу трапіць у Палі вечнай асалоды, і яму не трэба будзе клапаціцца пра зберажэнне свайго цела, бо пра яго паклапоцяцца багі Егіпта. Але перамагчы мы зможам толькі агульнымі намаганнямі. Таму хай жанчыны Егіпта сплятаюць са сваіх валасоў цецівы для лукаў, і хай з радасцю праводзяць на вайну сваіх мужоў і сыноў. Хай мужчыны Егіпта перакуюць свае аздобы ў наканечнікі дзідаў і пойдуць за мной. І я павяду іх на вайну, якой яшчэ не бачыў свет! Душы вялікіх фараонаў паўстануць, каб змагацца побач з намі. І ўсе багі Егіпта на чале з вялікім Амонам таксама будуць пасабляць нам у бітвах. Мы вымецем хетаў з Чорнай зямлі, як магутны паток змятае на сваім шляху салому. Мы адваюем багацці Сірыі і крывёй змыем ганьбу з Егіпта. Слухай мяне, народ краіны! Харэмхеб, Сын сокала і пераможца, сказаў!

Ён змоўк, зняможана апусціў акрываўленыя рукі і, пераводзячы дых, цяжка ўвабраў поўныя грудзі паветра, бо ўсю прамову мусіў крычаць што ёсць моцы. Загулі трубы, воіны пачалі біць дзідамі аб шчыты і гучна тупаць, а з натоўпу паляцелі асобныя крыкі. Паступова яны перараслі ў суцэльны гуд, які ахапіў увесь народ на пляцы, усе аглушальна крычалі, уздымаючы рукі да неба, і думаецца мне, што многія самі не ведалі, чаму і што яны крычаць, бо кроў ударыла ім у галаву, адбіўшы ўсялякія думкі. Харэмхеб усміхнуўся і ўзышоў на калясніцу. Воіны расчышчалі яму дарогу, а натоўп абапал Алеі бараноў захоплена яго вітаў. Тады я і зразумеў, што для народа няма большай радасці, чым збіцца ў статак і пакрычаць разам, не надта разбіраючыся, з якой нагоды яны крычаць, бо ў агульным крыку кожны чалавек адчувае сябе мацней-

шым і дужэйшым, а справа за якую яны крычаць здаецца адзіна правільнай справай. Харэмхеб быў вельмі задаволены і ганарліва махаў рукой, вітаючы натоўп.

Ён паехаў прама ў гавань, каб на сваім караблі неадкладна адплыць у Мемфіс, бо і так задоўга прабыў у Фівах, тым болей, што па апошніх звестках, коні хетаў ужо пасвіліся ў самым Танісе. Я падняўся на карабель следам за ім, бесперашкодна падышоў да Харэмхеба і сказаў:

— Харэмхеб, фараон Эхнатон памёр, і я больш не царскі трэпанатар, а таму вольны падацца, куды захачу, тым болей, што нічога мяне тут не трымае. Я хачу пайсці за табой — на вайну, бо ўсё на свеце мне ўстыла і нічога не радуе. Я хачу паглядзець, што добрага нясе з сабою вайна, пра якую ты гаварыў усё жыццё. Сапраўды, я хачу паглядзець і даведацца, ці будзе твая ўлада лепшай за Эхнатонаву, ці толькі нячысцікі з апраметнай пануюць на гэтым свеце.

Харэмхеб вельмі ўзрадаваўся і сказаў:

— Хай гэта будзе добрым прадвесцем, таму што я нават і падумаць не мог, што ты, Сінухе, будзеш маім першым добраахвотнікам на гэтай вайне. Не, такога я ад цябе не чакаў, ведаючы. што табе болей даспадобы мяккі ложак, чым цяжкасці ваеннага паходу. Праўду кажучы, я думаў пакінуць цябе тут, у Залатым палацы, каб ты абараняў мае інтарэсы праз сваіх шматлікіх знаёмцаў, але так будзе нават лепей, таму што ты чалавек прастадушны і цябе абкруціць хто захоча на сваю карысць, і ты лёгка праглынеш любую лухту, а калі ты паедзеш са мной, дык у мяне будзе з сабой выдатны лекар, а мне гэта, безумоўна, спатрэбіцца. Правільна мае воіны ў час вайны з хабірамі далі табе мянушку Сын дзікага асла: у цябе напраўду сэрца дзікага асла, бо ты не баішся хетаў.

Пакуль мы гутарылі, весляры адвялі карабель ад прычала, апусцілі вёслы ў ваду, і сустрэчны вецер разгарнуў сцягі над караблём. Фіванская прыстань бялела ад людскога натоўпу, і радасны лямант даносіўся да нашых вушэй. Харэмхеб глыбока ўздыхнуў, усміхнуўся і сказаў:

— Як бачыш, мая прамова вельмі ўразіла людзей. Але пойдзем да мяне ў каюту, я хачу змыць кроў багіні са сваіх рук.

Ён выгнаў пісараў, старанна памыў рукі, абнюхаў іх і спакойна сказаў:

— У імя Сэта з усімі яго нячысцікамі! Я і не ведаў, што жрацы Сэхмет дагэтуль прыносяць чалавечыя ахвяры. Але гэтыя дзяды, мусіць, ашалелі ад радасці, бо брама ў храм Сэхмет не адчыняліся каля сарака гадоў. А я здзіўляўся, нашто ім былі патрэбны хецкія і сірыйскія палонныя! А потым падумаў: хай робяць, як хочуць.

Мяне так жахнулі ягоныя словы, што мае ногі аслабелі. А Харэмхеб працягваў бесклапотным голасам:

— Калі б я ведаў пра гэта загадзя, дык, павер, Сінухе, я не дазволіў бы гэтага. Зрэшты, можаш не паверыць. Але я сам быў агаломшаны, калі апынуўся перад алтаром з чалавечым сэрцам у руцэ. Вядома, мне хацелася як мага хутчэй вымыць рукі, але ж калі ад гэтага залежыць прыхільнасць Сэхмет да нашай зброі, дык, можа, справа таго вартая: нам будзе патрэбна ўсякая дапамога, магчымая і немагчымая, хоць, праўду кажучы, некалькі добра зробленых дзідаў прынеслі б большую карысць, чым блаславенне Сэхмет. Але пакінем жрацам тое, што ім належыць, і яны пакінуць нас у спакоі.

Ён зноў пачаў выхваляцца сваёй прамовай перад народам, думаючы, што і я пачну захапляцца ёю, але я сказаў, што прамова, з якой ён выступіў перад воінамі ў Ерусаліме, мне спадабалася куды болей. Харэмхеб абразіўся і патлумачыў:

— Гаварыць з народам — адно, а з войскам — зусім другое. Ты яшчэ пачуеш, як я выкажуся перад войскам — проста і без хітрыкаў. А прамова, якую я сказаў перад храмам Сэхмет, прызначаная больш для нашчадкаў,— я ўпэўнены, што мае словы высекуць на камянях і будуць чытаць праз стагоддзі. Таму я і выбраў не зусім тыя словы, якія звычайна прамаўляю да войска перад пачаткам бітвы. Я ўставіў у прамову ўзвышаныя і ўзнёслыя словы, ад якіх людзі чадзеюць, а іх вочы слепнуць, і яны лічаць чорнае белым. Нездарма я навучыўся пісьменству і прачытаў у старажытных рукапісах прамовы да народа вялікіх фараонаў і ваяводаў. Але ж паколькі ты нічога не цяміш у гэтай справе, то я табе растлумачу, што мая прамовам змяшчала ўсё, што звычайна ва ўсе часы казалі народу, калі трэба было распачаць вайну. Першым чынам я абвясціў, што гэтая вайна — абарончая, і заклікаў народ адбіць напад захопнікаў-хетаў, якія робяць спусташальныя набегі на памежныя землі Кэмет. Збольшага гэта праўда, і я не захацеў хаваць, што збіраюся захапіць для Егіпта Сірыю. Я адзначыў, што з тымі, хто пойдзе са мной на вайну добраахвотна, усё будзе добра, а з тымі, каго пацягнуць гвалтам,— дрэнна. Потым я растлумачыў, што гэтая вайна — свяшчэнная, і заклікаў на дапамогу ўсіх егіпецкіх багоў. Я сам не лічу, што адна зямля свяцейшая за другую і егіпецкія багі магутнейшыя за хецкіх, але ў старажытных рукапісах пра гісторыю былых войнаў я вычытаў, што як толькі вайна пачыналася, усе, у тым ліку ваяводы, заўжды заклікалі багоў на дапамогу. Народу такія рэчы вельмі даспадобы, і ты, Сінухе, павінен пагадзіцца, што мая прамова вельмі ўразіла людзей, хоць для пэўнасці я паставіў у натоўпе сваіх людзей, каб яны сваімі крыкамі ўслаўлялі мяне. Звярні ўвагу, Сінухе, што, абяцаючы ім перамогу, я не апісваў цяжкасцяў вайны, якія чакаюць нас наперадзе, бо цяжкасцяў і пакутаў народу і так хопіць, навошта яго палохаць загадзя. Але перамога ў гэтай вайне яшчэ за высокімі гарамі, і пачынаючы яе з такім няўмелым і неспрактыкаваным войскам, я адчуваю сябе як хлапчук, які тыцкае саломінай у морду льву. Але я ні на імгненне не

сумняваюся ў канчатковай перамозе, бо мне наканаваныя вялікія здзяйсненні. Праўда, перад тым, я думаю, яшчэ шмат каму давядзецца загінуць.

— Харэмхеб,— спытаў я,— ці ёсць для цябе хоць што-небудзь святое?

Ён задумаўся на хвіліну і адказаў:

— Вялікі ваявода і ўладар павінен бачыць далей за ўсе словы і мроі і ўмець карыстацца гэтымі хімерамі, як зброяй у сваіх руках. Скажу табе праўду, Сінухе: гэта даволі цяжка і робіць жыццё бязрадасным. Але пачуццё, што ты самаўладна кіруеш людзьмі і прымушаеш іх рабіць вялікія справы,— мацнейшае за ўсе будзённыя радасці. Калі я быў малады, я верыў у сваю дзіду і свайго сокала. А цяпер я больш давяраю сваёй волі. Я ведаю, што мая воля — гэта мой лёс. Але мая воля сточвае мяне, як метал сточвае тачыльны камень. Я не маю ні хвіліны адпачынку ні днём, ні ўначы, ні ў сне, ні наяве, і няма ў мяне іншага спосабу адпачыць, апроч як напіцца п'яным. Калі я быў малады, я верыў у сяброўства і думаў, што кахаю толькі адну жанчыну, якая сваёй упартасцю і пагардай даводзіла мяне да вар'яцтва, але цяпер я ведаю, што ніводзін чалавек не можа быць для мяне мэтай, ён для мяне толькі сродак, і тая жанчына таксама — толькі сродак. Я, Харэмхеб, асяродак усяго на свеце, ад мяне ўсё сыходзіць і да мяне вяртаецца. Я — гэта Егіпет і ягоны народ. Таму, калі я ўзвялічваю і ўмацоўваю Егіпет, я ўзвялічваю і ўмацоўваю самога сябе. Як ты разумееш, Сінухе, гэта правільна і разумна.

На таго, хто яго не ведаў, яго словы, можа, і зрабілі б вялікае ўражанне, але не на мяне, які ведаў яго маладым хвальком і бачыў ягоных бацькоў, ад якіх патыхала хлявом і гноем, хоць цяпер Харэмхеб і парупіўся іх узвысіць. Таму я не змог паставіцца да яго сур'ёзна, як бы ён ні стараўся выглядаць богам у маіх вачах. Зрэшты, я не падзяліўся з ім гэтымі думкамі і толькі сказаў, што царэўна Бэкетамон вельмі абразілася, бо падчас троннага выезду фараона Тутанхамона займала, на яе думку, не належнага ёй месца. Харэмхеб прагна слухаў мяне і, прапанаваўшы выпіць віна, прасіў расказваць пра царэўну Бэкетамон яшчэ і яшчэ. І так мы пілі ўсю дарогу, пакуль спускаліся ўніз па рацэ да Мемфіса. А тым часам хецкія калясніцы спустошалі Ніжнюю зямлю.

# ПАПІРУС ЧАТЫРНАЦЦАТЫ
## Свяшчэнная вайна

### 1

Збіраючы войскі і рыхтуючы ўсё неабходнае для вайны, Харэмхеб запрасіў у Мемфіс усіх багатых людзей Егіпта і звярнуўся да іх:

— Вы ўсе заможныя людзі, а я ўсяго толькі сын пастуха, народжаны ў хляве на кучы гною. Але Амон блаславіў мяне, а фараон даверыў мне свае войска, каб я павёў яго на вайну супраць ворага, які пагражае нашым землям, і, як вы ведаеце, гэта вораг люты і бязлітасны. Мне будзе прыемна, калі вы ўсе як адзін уголас скажаце, што вайна патрабуе ахвяраў ад кожнага і што вы ўзнялі цэны на ўсе тавары ў Егіпце і недасыпалі меры зерня вашым рабам і слугам толькі з прычыны вайны. Па вашых словах і справах я мяркую, што і вы таксама гатовыя панесці любыя ахвяры. Гэта добра і вельмі мяне радуе, бо цяпер я займаюся падрыхтоўкай войскаў, зборам вайсковага рыштунку і грошай для платы воінам, пабудовай баявых калясніцаў і яшчэ шмат якімі справамі, пра якія вы не маеце ніякага ўяўлення, але гэта справы неабходныя для блізкай вайны. Я думаю пазычыць у вас частку вашай маёмасці і навёў пра яе даведкі ў падатковых запісах. Апроч таго, я пацікавіўся, што вы ўтойвалі ад зборшчыкаў падаткаў у часы праклятага фараона, і ведаю ўсё пра ваша становішча. Але сёння імем Амона ў Егіпце ўладарыць сапраўдны фараон, і вам больш не трэба хаваць ваша багацце, наадварот, вы можаце адкрыта і з гордасцю ахвяраваць частку яго на вайну. А таму кожны з вас неадкладна мусіць пазычыць мне палову вашай маёмасці, і мне ўсё адно, як вы гэта зробіце, срэбрам, золатам, збожжам, скацінай, коньмі або калясніцамі,— галоўнае, каб вы зрабілі гэта як мага хутчэй.

Пачуўшы такое, егіпецкія багацеі аглушальна загаласілі, пачалі раздзіраць на сабе адзенне і скардзіцца:

— Ілжывы фараон давёў нас да галечы, мы сапраўдныя жабракі! А тое, што ты выведаў пра наша багацце,— мана і паклёп! Які ты дасі нам заклад, калі мы пазычым табе палову нашай маёмасці, і якую ліхву будзеш плаціць?

Харэмхеб дружалюбна ўсміхнуўся і адказаў:

— Мой заклад — мая перамога, якую я спадзяюся здабыць як мага хутчэй і з вашаю, мае любыя сябры, дапамогай, а калі перамогі я не даб'юся, дык прыйдуць хеты і забяруць у вас усё. Таму я думаю, што

мой заклад будзе дастатковы. Што да ліхвы, то я збіраюся пагутарыць з кожным з вас паасобку і спадзяюся, што мы зможам дамовіцца. Але рана вы пачалі скардзіцца і плакаць, бо я яшчэ не скончыў. Я патрабую, каб вы неадкладна пазычылі мне толькі палову вашага багацця, і гэта пазыка, проста пазыка, любыя вы мае! Праз чатыры кругі маладзіка вы дасцё мне яшчэ палову ад той маёмасці, якая ў вас засталася, а праз год — яшчэ палову ад таго, што ў вас застанецца. Вы зможаце падрахаваць лепш за мяне, што ў вас пасля таго яшчэ застанецца, але я ўпэўнены, што вам гэтага хопіць на суп ды кашу да канца вашых дзён. Так што ні пра якое рабаванне сёння не можа ісці гаворкі.

Багацеі з лямантам і плачам кінуліся перад ім на калені. Яны біліся галовамі аб дол і крычалі, што лепш ім аддацца ў рукі хетам. Харэмхеб прыкінуўся вельмі здзіўленым і сказаў:

— Калі так, дык вы можаце рабіць усё, што захочаце. Але думаецца мне, што воіны, якія рызыкуюць сваёй скураю і жыццём на палях бітваў, прыйдуць у шаленства, даведаўшыся, што вы не жадаеце ахвяраваць нічога на вайну. І, праўду кажучы, я амаль упэўнены, што мае воіны ўжо чакаюць вас за парогам шатра з вяроўкамі, каб звязаць, пасадзіць на караблі і адвезці да хетаў, як вы самі хочаце. Гэта вельмі мяне засмучае, і я не магу зразумець, якая вам будзе радасць ад вашай маёмасці, якая застанецца тут, у маім распараджэнні, а вы з выкалатымі вачыма будзеце круціць цяжкія жорны на хецкіх млынах. Калі вы самі таго хочаце, дык я зараз жа перадам сваім воінам вашыя пажаданні.

Ад такіх словаў багацеі жахнуліся яшчэ больш, завішчэлі яшчэ гучней і пачалі хапаць Харэмхеба за калені, згаджаючыся на ўсе патрабаванні. Ён суцешыў іх, сказаўшы:

— Я таму і запрасіў вас сюды, бо ведаў, што вы любіце Егіпет і дзеля гатовы яго на любыя ахвяры. Вы самыя багатыя людзі Егіпта, і кожны з вас дасягнуў багацця, дзякуючы сваёй кемлівасці. Таму я ўпэўнены, што вы зноў хутка ўзбагаціцеся, бо багацей заўсёды багацее, нават калі часам яго і прыціснуць як след. Вы, любыя мае сябры, — мой бясцэнны сад, які я моцна люблю, і дазваляю сабе хіба толькі выціскаць сок, як з гранатавага плода, — няхай часам і сціскаючы яго так моцна, што зярняткі пырскаюць паміж пальцаў. Але ж я добры садоўнік, і ніколі не псую самі дрэвы, якія прыносяць такі багаты ўраджай. Апроч таго, памятайце, што я даю вам вялікую вайну, такую вялікую, што вам і не снілася, а ў час вайны багаты чалавек робіцца яшчэ багацейшы і нажываецца тым больш, чым далей ідзе вайна, і ніякая сіла не перашкодзіць гэтаму, нават фараонавы зборшчыкі падаткаў. Таму вам застаецца толькі падзякаваць мне, а я адпушчу вас дадому з маім блаславеннем. Ідзіце з мірам і старанна таўсцейце, як цяжарныя самкі, і ніхто не будзе замінаць вам у гэтым, бо ўсё адно гэта ўжо нельга спыніць. Я не буду пярэчыць, калі час ад часу вы будзеце прысылаць мне дадатковыя падарункі, памятаючы, што я збіраюся адваяваць Сірыю. А што гэта азначае для Егіпта і асабіста для вас, вы добра разумееце, асабліва, калі пасля перамогі я скажу пра вас добрае слова. Зрэшты, калі хочаце, можаце і далей лямантаваць да енчыць, калі вам так лягчэй, а мне вашы плач і звяга лашчаць вушы, нібы звон золата.

З гэтымі словамі ён адпусціў багацеяў, і яны пайшлі прэч, лямантуючы ды раздзіраючы на сабе адзенне, але адышоўшы далей, адразу супакоіліся і пачалі абмяркоўваць страты ды падлічваць недалёкія ўжо барышы. А Харэмхеб сказаў мне:

— Гэтай вайной я раблю ім добры падарунак, бо цяпер яны змогуць рабаваць народ, валячы віну за нястачу і голад на хетаў і фараона. Так што плаціць за ўсё ў выніку давядзецца народу: багацеі здзяруць з яго куды больш, чым далі мне ў пазыку. Але прыйдзе час, і я прыцісну іх так, што з іх ажно сала пацячэ. Мне такі падыход падабаецца больш, чым адмысловы падатак на вайну, бо калі б я проста пачаў збіраць падатак, то народ праклінаў бы мяне, а калі я бяру грошы з багатых, то людзі называюць мяне справядлівым і бласлаўляюць маё імя. А я мушу клапаціцца пра сваю славу, думаючы пра высокае становішча, якое буду займаць.

А Дэльта тым часам ужо палала, і хецкія перадавыя атрады пасвілі сваіх коней на сялянскіх палетках. Купкі ўцекачоў, якім пашчасціла дабрацца да Мемфіса расказвалі такія жахі пра лютасць хетаў, што маё сэрца нямела. Я маліў Харэмхеба паспяшацца з ваеннымі дзеяннямі, але той спакойна ўсміхаўся і адказваў:

— Хай спачатку Егіпет як след пазнаёміцца з хетамі, каб народ усвядоміў, што на свеце няма нічога страшнейшага за хецкае рабства. Я быў бы вар'ятам, калі б рушыў у паход з ненавучаным войскам і без баявых калясніцаў. Але не хвалюйся, Сінухе. Газа па-ранейшаму ў нашых руках, а Газа — гэта каменны падмурак, на якім я пабудую гэтую вайну. Хеты не адважацца пайсці з галоўнымі сіламі праз пустэльню, пакуль не завалодаюць Газай. І ў сваім панаванні на моры яны не надта ўпэўненыя. А я тым часам паслаў у пустэльню сваіх людзей, каб яны паднялі вольныя дружыны ды іншых рабаўнікоў. Так што я не бяздзейнічаю, і ты дарэмна мяне дакараеш. Сур'ёзная небяспека Егіпту не пагражае да той пары, пакуль пешыя войскі хетаў не пройдуць па пустэльні да Чорнай зямлі. Усё іх ваеннае майстэрства трымаецца на баявых калясніцах, але балоцістая мясцовасць у Ніжняй зямлі запавольвае іх рух. Яны марудна перабіраюцца з месца на месца, руйнуюць вёскі ды вытоптваюць палеткі, але чым менш будзе збожжа ў краіне, тым ахвотней егіпецкія мужчыны пойдуць пад мае штандары з ільвінымі хвастамі, дзе кожнаму дадуць па меры хлеба ды піва.

Воіны сыходзіліся ў Мемфіс з усяго Егіпта. Адных гнаў голад, другія ўвогуле не даражылі жыццём, бо ў часы Атона страцілі свае дамы і сем'і, а трэція прагнулі здабычы ці шукалі прыгодаў. Харэмхеб, не зважаючы на жрацоў, абвясціў прошчу ўсім, хто ўдзельнічаў у стварэнні царства Атона, і вызваліў усіх сасланых у каменяломні, каб забраць іх у войска. Такім чынам, Мемфіс неўзабаве стаў падобны да вялікага вайсковага лагера, дзе жыццё бурліла і ўдзень, і ўначы, дзе ў дамах уцех і ў корчмах штовечар кіпелі бойкі і наносіліся раны, а мірныя жыхары хаваліся па дамах і калаціліся ад страху. З кузняў даносіўся звон молатаў, каваліся наканечнікі на стрэлы і дзіды, а нянавісць да хетаў была такая вялікая, што жанчыны аддавалі на ўзбраенне свае медныя аздобы.

З марскіх выспаў і з Крыта прыходзілі ўсё новыя і новыя караблі, і Харэмхеб наймаў іх сабе на службу разам з камандамі і капітанамі. Ён прыхапіў і ваенныя караблі Крыта, схіліўшы на свой бок іх каманды, і яны плавалі ад аднаго порта да другога, не жадаючы вяртацца на Крыт. Казалі, што на выспе нібыта паўсталі рабы, якія падпалілі горад знаці, і той цэлы тыдзень гарэў, як паходня, так што пажарышча было бачна вельмі здалёку. Але напраўду ніхто не ведаў, што дзеялася на тым Крыце, бо крыцкім балбатунам-мараплаўцам мала хто верыў — яны былі паўсюдна вядомыя брахуны. Адны казалі, што на Крыце высадзіліся хеты, але як такое магло адбыцца, калі хеты не былі мараплаўцамі, зразумець я не мог. А хтосьці казаў, што з поўначы на Крыт прыплылі нейкія караблі з белымі людзьмі, якія ўсё зруйнавалі і разрабавалі, разбіўшы крыцкі флот, які ў гэты час ахоўваў марскія шляхі. І ўсе крыцяне сцвярджалі, што гэта адбылося таму, што марскі бог Крыта памёр. Таму яны ахвотна ішлі на службу ў Егіпет, а другія крыцкія мараплаўцы, якія яшчэ раней прыплылі да берагоў Сірыі, наймаліся да Азіру ды хетаў.

Так ці гэтак, але ўся гэтая каламуць была выгаднай Харэмхебу, бо на моры ўсе ваявалі супраць усіх, палююючы на караблі і здабычу. У Ціры супраць Азіру ўспыхнула паўстанне, і ацалелыя пасля яго прыехалі на караблях у Егіпет і пайшлі на службу да Харэмхеба. Так ён змог стварыць флот і набраць вопытныя карабельныя каманды, але чаго гэта яму каштавала, я не мог нават уявіць, бо будаўніцтва караблёў ды іх абрыштоўка былі справай вельмі дарагой і патрабавалі золата больш, чым любая вайна. Увесь гэты час Газа ў Сірыі заставалася неперможанай, і пасля жніва, калі вада зноў пачала падымацца, Харэмхеб са сваімі атрадамі выйшаў х Мемфіса. Па моры і па сушы ён пасылаў у аблажаную ворагамі Газу загады трымацца, а караблі і чаўны, якім пад прыкрыццём начной цемры ўдавалася дабрацца да Газы, везлі загады Харэмхеба: «Утрымлівайце Газу! Любой цаной утрымлівайце Газу!» Грукаталі абложныя машыны, віраваў агонь, які ніхто не паспяваў тушыць, ляцелі ў горад стрэлы з загадамі Харэмхеба: «Утрымлівайце Газу!» А сярод гаршчкоў са смяротна небяспечнымі змеямі, якія кідалі ў горад хеты, трапляліся гаршчкі з зернем і загадамі Харэмхеба: «Утрымлівайце Газу!» Чаго каштавала гэта хетам і Азіру, чые аб'яднаныя войскі вялі аблогу горада, я не ведаю, але ўпарты начальнік крэпасці, які бачыў маю ганьбу, калі мяне ўсцягвалі на муры ў кашы, безумоўна, заслужыў добрую славу тым, што не здаў Газу і збярог яе для Егіпта.



Як толькі вада ў рацэ пачала падымацца, Харэмхеб выйшаў з Мемфіса і загадаў войску рухацца хуткімі пераходамі да Таніса. Там, у лукавіне ракі, яму ўдалося зладзіць пастку хецкай дружыне баявых калясніц. Хеты лічылі сябе ў бяспецы — з трох бакоў іх абараняла вада — і бесклапотна пасвілі сваіх коней. Пад прыкрыццём начной цемры воіны Харэмхеба паглыбілі высахлыя за спякотнае лета каналы, і вада напоўніла іх. А ўранні хеты ўбачылі, што знаходзяцца на выспе і ад іх калясніцаў няма ніякай карысці. У шаленстве яны ўзяліся забіваць коней і ламаць калясніцы. Гэта раз'юшыла Харэмхеба, бо галоўная мэта яго нападу якраз і была — захапіць калясніцы і коней. Таму ён імгненна загадаў трубіць атаку і першы кінуўся на ворага. І хоць яго войска было мала спрактыкаваным, яно лёгка перамагло хетаў, бо тыя былі вымушаныя біцца пешкі. Так Харэмхеб завалодаў амаль сотняю калясніц і трыма сотнямі коней. На калясніцы ён адразу загадаў нанесці егіпецкія ваенныя знакі, а захопленых коней пазначыць егіпецкім ваенным таўром. Але галоўнай была не здабыча, а сама перамога, бо цяпер егіпцяне перасталі верыць у неперможнасць хетаў.

Твар Харэмхеба свяціўся ўзрушанасцю, калі ён сказаў мне:

— Калі думаеш біць — бі заўжды першы і моцна.

Пасля бітвы ён сабраў калясніцы і коней і рушыў на Таніс, пакінуўшы далёка ззаду павольныя абозы і пешае войска. Ён імчаўся да Таніса, не зважаючы на небяспеку сустрэцца з хецкімі дружынамі, якія рабавалі Ніжнюю зямлю. Ад Таніса ён скіраваў у пустэльню, дзе хецкія вартавыя пільнавалі склады з вадой. Ён знаходзіў гэтыя склады, разбіваў хецкую варту і ставіў на ахову сваіх воінаў. Хеты назапасілі ў пустэльні сотні тысяч гліняных сасудаў з вадою для свайго пешага войска: яны не былі мараплаўцамі і не адважваліся даплысці да берагоў Егіпта на караблях. Не шкадуючы людзей і коней, Харэмхеб імчаў наперад і страціў шмат жывой сілы пад час гэтага паходу. Тыя, хто застаўся жывы, расказвалі потым, што сотні калясніц імчаліся па пустэльні, аж да неба ўздымаючы вялізныя слупы пылу, а сам Харэмхеб, як вынішчальны ўраган, ляцеў наперадзе войска. І кожную ноч на схілах Сінайскіх гор запальваліся сігнальныя вогнішчы, і вольныя дружыны выходзілі са сваіх сховаў і нападалі на хецкіх вартаўнікоў і водныя

склады па ўсёй пустэльні. Тады і ўзніклі паданні, што ўдзень Харэмхеб ляцеў над пустэльняй у выглядзе пыльнага слупа, а ноччу — вогненнага.

Харэмхеб захапіў шмат водных складаў у Сінайскай пустэльні, і кожны раз яго напад быў для хетаў, упэўненых у сваёй сіле і слабасці Егіпта, поўнаю нечаканасцю. Спрыяла Харэмхебу і тое, што хецкія атрады не былі сабраныя разам: у чаканні, пакуль здасца Газа, яны былі раскіданыя па ўсёй Сірыі, бо наваколле Газы не магло пракарміць вялізнага хецкага войска, якое яны сабралі дзеля заваёвы Егіпта. Хеты заўсёды ставіліся да вайны грунтоўна і пачыналі дзеянні толькі тады, калі былі ўпэўненыя, што перавышаюць ворага колькасна ў некалькі разоў, а іх ваяводы старанна адзначалі на таблічках месца кожнай вёскі і кожнага выгану ў той зямлі, якую збіраліся заваёўваць. Але так грунтоўна рыхтуючыся да вайны, яны прамарудзілі з нападам, і ўдар Харэмхеба быў для іх нечаканым: на іх увогуле дагэтуль ніхто не адважваўся напасці, і яны былі цалкам упэўненыя, што Егіпет не мае дастатковай колькасці баявых калясніцаў для моцнага ўдару. Смелы напад Харэмхеба, які раптам узнік на калясніцах з Сінайскай пустэльні, агаломшыў іх. Хеты былі цалкам збітыя з тропу, яны выслалі выведнікаў, каб сабраць звесткі пра колькасць калясніцаў у Харэмхеба і высветліць мэту яго нападу.

Але гэтую мэту не ведаў ніхто, апроч самога Харэмхеба, і нават ён сам выразна яе сабе не ўяўляў. Пазней, праўда, ён расказваў мне, што ў лепшым выпадку збіраўся знішчыць водныя склады хетаў і зблытаць усе іх ваенныя планы. Аднак лёгкі поспех ап'яніў яму галаву і прывёў у захапленне яго каляснічых. Ён маланкай паляцеў да Газы, ударыў абложнікам у спіну, разагнаў іх па наваколлю, разламаў і падпаліў іх ваенныя машыны. Але прарвацца ў Газу ён так і не змог: абложнікі, апамятаўшыся, заўважылі, што дружына ў Харэмхеба нешматлікая, і кінуліся на яго, а ўпарты начальнік гарнізона Газы не палічыў патрэбным адчыніць браму, не разабраўшыся ў мітусні пад мурамі горада.

Харэмхеб пацярпеў бы паразу, калі б абложнікі мелі больш баявых калясніцаў, але ж калясніцы былі раскіданыя па ўсёй Сірыі: пры аблозе яны былі непатрэбныя, а перад вялікім паходам на Егіпет хеты хацелі даць коням адпачынак і адкарміць іх. І перш чым ім удалося цяпер іх сабраць у дастатковай колькасці, Харэмхеб паспеў вярнуцца ў Сінайскую пустэльню і па дарозе знішчыў на яе ўскрайку ўсе водныя склады.

З усяго гэтага Харэмхеб зрабіў выснову, што яго сокал па-ранейшаму з ім. А ўспомніўшы яшчэ і палаючы куст, што гарэў ды не згараў на схіле Сінайскіх гор, ён даў галоўным сілам загад рухацца хуткімі пераходамі ў глыбіню пустэльні па адной з дарог, пракладзеных хетамі, уздоўж якой былі прыхаваныя сотні тысяч гліняных гаршчкоў з запасам вады для пешага войска. Ён прыняў рашэнне весці вайну ў пустэльні, хоць мясціны тут былі больш прыдатныя да вайны ў калясніцах, якія і



складалі галоўную сілу хетаў. Але я думаю, у Харэмхеба не было іншага выйсця, бо пасля ўцёкаў ад раз'юшаных хетаў у пустэльню, яго людзі і коні былі зняможаныя да таго, што наўрад ці дабраліся б жывымі да Ніжняй зямлі. А пакідаць сваіх любых паскуднікаў у пустэльні адных ён не хацеў і таму выклікаў да сябе ўсё войска. Гэта была нечуваная справа, бо ўсе фараоны, якія дагэтуль ваявалі ў зямлі Нахарына, садзілі сваё войска на караблі і ўвосень везлі яго морам да сірыйскіх гарадоў, адкуль і пачыналі пешыя паходы. Але трэба памятаць, што ў тыя часы пад уладай Егіпта знаходзілася ўся Сірыя, а ў Харэмхеба была толькі Газа, дый на моры вялікай перавагі ён таксама не меў.

Увесь аповед пра першы паход Харэмхеба я пераказваю з яго словаў ці словаў ягоных воінаў — сам я з ім не быў, бо калі б быў, то не дажыў бы да дня, калі б змог напісаць гэтыя радкі: у тым паходзе вытрывалі толькі самыя дужыя і цягавітыя. Таму Харэмхеб пакінуў мяне ў Ніжняй зямлі ў тыле свайго пешага войска, сказаўшы, што пры імклівым нападзе няма часу лячыць параненых ці тых, хто ўпаў з калясніц. Такія людзі павінны выбіраць самі — ці перарэзаць сабе горла нажом, ці здацца на літасць хетаў. У параненых, дадаў Харэмхеб, такім чынам, ёсць пра што падумаць замест таго, каб маркоціцца па мазях і павязках. Кажуць, што тыя, хто ўпаў з калясніцы, часцей за ўсё выбіраюць нож, але некаторыя на штосьці спадзяюцца і здаюцца хетам. Але тыя ўсё адно забіваюць іх і ў вольны час робяць з іх скуры сумкі ды кашалі, бо яны вялікія майстры ў гэтым рамястве.

Колькі праўды ў гэтых аповедах, сказаць не магу, бо Харэмхеб і сам любіў пахваляцца ды расказваць розныя неверагодныя байкі, а ягоныя каляснічыя — і пагатоў. Нельга было давяраць усяму, што яны расказвалі. А казкі, што хадзілі ў народзе, і ўвогуле былі бязглуздыя: у адной гаварылася, што Харэмхеб у выглядзе сокала сам ляцеў наперадзе войска, наводзячы жах на хетаў, а пра слупы з пылу ды агню я ўжо расказваў,— каб паказаць, як узнікаюць такія легенды. Напраўду ж Харэмхеб захапіў сваім імклівым націскам усе запасы вады, якія з вялікаю цяжкасцю збіраліся хетамі. Ён дапамог абложанай Газе і абудзіў у душах абаронцаў крэпасці мужнасць, загадаўшы сваім воінам хорам крычаць пад мурамі горада: «Трымайце Газу!» «Трымайце Газу дзеля Егіпта!»

Увогуле ж здабыча з паходу была невялікая, і Харэмхебавы воіны зусім не разбагацелі, бо гаршчкі, пусцеючы, рабіліся проста гаршчкамі, хоць, праўда, вада ў пустэльні цанілася даражэй за золата. А тыя, хто парушыў забарону Харэмхеба і саскочыў з калясніцаў, каб парабаваць лагер хетаў пад Газай, загінулі жудаснай смерцю: іх галовы з адрэзанымі насамі былі насаджаныя на калы і глядзелі пустымі вачніцамі на высокія муры Газы, а з іх скураў хецкія начальнікі нарабілі сабе сеннікоў, напхаўшы іх сухім чаротам.

Можа быць, з той прычыны, што я лекар, а не вайсковец, я не магу ў поўнай меры ацаніць значэнне гэтага нападу Харэмхеба на хетаў. Можа быць, гэтая атака, як казаў Харэмхеб, сапраўды ўратавала Егіпет і яго воіны заслужылі незгасальную славу. Але з той славы яны не маглі ані пашыць сабе кашулю, ані пабудаваць дом, ані купіць кавалак зямлі, каб пад старасць пасадзіць сабе сад. Магчыма, шмат хто з іх памяняў бы сваю славу на жменьку срэбра, каб меў такі выбар, бо вельмі ўжо многія скардзіліся на мізэрную здабычу і казалі, што вярнуліся з пустымі рукамі.

Можа, калі б я быў з імі, то разважаў бы іначай, бо ў грукаце калясніцаў, у шалёнай яздзе і ў самой перамозе сапраўды ёсць нешта п'янлівае — тое, што ўзрушае воінаў мацней за віно і прымушае забыцца на боль і пакуты ад ранаў. Але ж мне выпала ўбачыць толькі вынікі Харэмхебава паходу, калі я праязджаў на насілках следам за пешым войскам сярод спёкі і едкага пылу пустэльні. Я бачыў толькі целы вазніц, якія ўпалі з калясніцаў, разбіўшы сабе галаву, і цяпер падлажэры дзяўблі іх жываты. Я бачыў ссохлыя трупы коней абапал дарогі ды чарапкі гаршчкоў, з якіх выцекла вада, рэшткі целаў хецкіх вартавых, абабраныя да ніткі вольнымі атрадамі і рабаўнікамі пасля праезду Харэмхеба, іх галовы, насаджаныя на колле вакол складаў вады ў знак перамогі. Таму я не магу сказаць нічога пра славу ці ап'яненне перамогай — я магу казаць толькі пра смерць і пакуты.

Пасля двух тыдняў знясільвальнага паходу па пустэльні, хоць, дзякуючы хетам, вады было ўдосталь, на змярканні мы ўбачылі на даляглядзе вялізны вогненны слуп і зразумелі, што там нас чакае Харэмхеб са сваімі калясніцамі. Гэтая ноч у пустэльні засталася ў маёй памяці, бо я ляжаў з шырока расплюшчанымі вачыма і глядзеў на вогненны слуп, які палаў на даляглядзе, і зіхоткія ружовыя іскры свяціліся ярчэй, чым зоркі на небе. Начамі ў пустэльні пасля дзённай спёкі станавілася халадна, і людзі, якія цэлы дзень босымі нагамі ступалі па гарачым пяску ды калючках, стагналі і ўскрыквалі ў сне, нібыта на іх напала хеўра нячысцікаў. Таму, напэўна, людзі і думаюць, што пустэльня населеная процьмай усялякай нечысці. Але на світанку зноў загулі трубы, і войска рушыла наперад. З кожным днём усё больш людзей заставалася ляжаць на пяску, не маючы сілы ісці і цягнуць на сабе груз, але палымяны заклік Харэмхеба прыспешваў нас. З усіх бакоў да нас прыбіваліся дробныя кучкі рабаўнікоў і вольныя атрады, якія вылазілі з патаемных схованаў. Яны прагнымі вачыма жэрлі нашы прыпасы, зброю і дабро на валовых павозках. Яны так і шлі побач, не змешваючыся з намі і, думаецца, ахвотней накінуліся б на нас, чым на хетаў, каб абабраць да ніткі.

Аднак пры набліжэнні да лагера Харэмхеба мы заўважылі, што далягляд на ўскрайку пустэльні зацягваецца хмарамі пылу,— гэта былі калясніцы хетаў, якія спяшаліся выратаваць свае водныя запасы. Іх выведчыкі рухаліся па пустэльні маленькімі групамі і нападалі на нашы дружыны з тылу, прыводзячы ў жах добраахвотнікаў, якія не мелі досведу змагання з баявымі калясніцамі, дый увогуле ніколі яшчэ не ваявалі ні дзідамі, ні стрэламі. Наша войска ахапіла разгубленасць, і шмат хто кінуўся назад у пустэльню, дзе хеты іх усіх перабілі. На шчасце, Харэмхеб паслаў нам насустрач свае калясніцы (якія яшчэ маглі рухацца і не развальваліся), і страх хетаў перад воінамі Харэмхеба быў такі вялікі, што яны зараз жа пакінулі нас і зніклі ў пустэльні. А можа, яны адступілі зусім не таму, што спалохаліся, а проста мелі заданне ўсё выведваць, не ўвязваючыся ў вялікую бойку?



Як бы там ні было, ужо само тое, што мы пагналіся за хетамі, а тыя кінуліся наўцёк, вельмі ажывіла пешае войска. Воіны трэслі дзідамі і гарлалі, а лучнікі бязладна сыпалі ўслед хецкім калясніцам цэлы рой стрэлаў. Крадком пазіраючы на далягляд, дзе сцяной уздымаўся пыл ад хецкага войска, усе падбадзёрвалі адзін аднаго, успамінаючы Харэмхеба: «Не бойцеся, яго моц абароніць нас. Не бойцеся, ён сокалам наляціць на хетаў, разаб'е ім галовы, выдзеўбе вочы і аслепіць усіх!»

Аднак калі яны разлічвалі знайсці ў лагеры Харэмхеба адпачынак, дык дужа памыляліся. А калі разлічвалі на ўдзячнасць і спагаду сваім збітым у кроў нагам, памыліліся яшчэ больш. Харэмхеб сустрэў нас з пачырванелымі ад пяску і стомы вачыма і чорным ад злосці тварам. Махаючы заплямленым крывёй залатым бізуном, ён зароў:

— Дзе вы валэндаліся, гнойныя рабакі!? Дзе вы цягаліся, нячыстае адроддзе!? Заўтра вашы чарапы будуць бялець у пяску, а я буду толькі радавацца, бо мне брыдка глядзець на вас! Вы поўзаеце, як чарапахі, ад вас патыхае потам і падлай, і мне трэба затыкаць пальцам нос, каб стаяць каля вас! Вы недзе бадзяецеся, а мае воіны сцякаюць крывёй і мае лепшыя коні здыхаюць праз вас! Зараз жа ідзіце капаць зямлю, ды капайце як мага глыбей, калі хочаце застацца жывыя! Гэтая праца якраз больш за ўсё вам і падыходзіць, засранцы, бо вы з самага нараджэння капаецеся ў дзярме або калупаеце ў носе ці ў задніцы сваімі паскуднымі пальцамі!

Але ненавучанае егіпецкае войска зусім не пакрыўдзілася на яго словы, а нават пацешылася. Усе, смеючыся, перадавалі іх адзін аднаму, і кожны адчуваў, што ў асобе Харэмхеба знайшоў абаронцу ад жахлівага сусвету пустэльні. Яны забыліся на збітыя ногі і перасохлыя глоткі і пад кіраўніцтвам Харэмхеба пачалі капаць глыбокія канавы, убіваць паміж камянёў колле і аплятаць яго трысняговымі вяроўкамі.

Зняможаныя Харэмхебавы вазніцы таксама выпаўзлі са сваіх нораў — палатняных намётаў — на схіле гары і прыкандыбалі да новых

ваяроў, каб паказаць свае раны ды пахваліцца подзвігамі. І кожны, пахваляючыся сваім геройствам, натхняў гэтым землякопаў, лучнікаў ды іншых воінаў і абуджаў у іх пачуццё зайздрасці. Яшчэ ўранні гэтыя людзі глядзелі, як у хмарах пылу набліжаюцца хеты, і ведалі, што хутка памруць, а цяпер, з прыходам пешага войска, прыкметна падбадзёрыліся, бо паміраць у вялікім натоўпе заўсёды прыемней, чым аднаму. А здольных пайсці ў бой вазніцаў з дзвюх з паловаю тысяч засталося не больш за пяцьсот. І нават іх коні спатыкаліся ад знямогі і тыцкаліся пысай у пясок.

Увесь дзень у лагер Харэмхеба калона за калонай падыходзілі галоўныя сілы пешага войска, і Харэмхеб адразу пасылаў іх капаць канавы і будаваць умацаванні, рыхтуючыся сустрэць і адбіць атаку хецкіх калясніцаў. Тым, хто яшчэ не дайшоў, былі разасланы загады за ноч прыйсці ў лагер, бо ўранні ўсе, што застанецца ў пустэльні, маглі загінуць страшнаю смерцю пад коламі хетаў, калі тыя прарвуцца праз пустэльню і горныя праходы. Ніхто не лічыў, колькі воінаў прыйшло ў лагер: Харэмхеб не хацеў абцяжарваць сябе лічбамі, ад якіх усё адно не было карысці — у любым выпадку егіпецкае войска было вельмі маленькім у параўнанні з незлічонай хецкаю сілай.

І тым не менш воіны Егіпта ўзбадзёрыліся, убачыўшы сваю шматлікасць сярод неабсяжных прастораў пустэльні. Яны слепа давяралі Харэмхебу, думаючы, што ён выратуе іх ад ворага і ўшчэнт разгроміць хетаў. Будуючы ўмацаванні, яны толькі скоса пазіралі ў напрамку, адкуль, ахутаныя пылам, набліжаліся хецкія калясніцы, і з гэтых пыльных хмараў да іх ужо далятаў баявы кліч ворага. Тады іх насы халадзелі ад страху, і яны азіраліся, нібы шукаючы паратунку ад вострых разакоў на колах хецкіх калясніц.

Але набліжалася ноч, і хеты не адважыліся напасці, не ведаючы мясцовасці і моцы егіпецкага войска. Яны сталі лагерам у пустэльні, распрэглі коней, пусцілі іх падмацавацца калючкамі, а самі распалілі вогнішчы, якіх было так многа, што ўсё вакол, дакуль сягала вока, было пакрыта вогненнымі кропкамі. І ўсю ноч іх выведчыкі кружлялі на лёгкіх калясніцах вакол егіпецкага лагера, нападаючы на вартавых і пачынаючы бойкі па ўсёй лініі ўмацаванняў. Затое там, дзе ўмацаванняў яшчэ не было, вольныя атрады ды пустэльныя рабаўнікі дзёрзка наскоквалі на хетаў, накідваючы на іх арканы, сцягваючы коннікаў на зямлю і захопліваючы іхніх коней. Таму не многія выведчыкі адважваліся ад'ехаць далёка ад пракладзенай хетамі дарогі.

Ноч поўнілася грукатам калясніцаў, перадсмяротнымі крыкамі, посвістам стрэлаў і бразгатам зброі, і нявопытныя байцы былі вельмі напалоханыя і не маглі заснуць, а Харэмхеб супакойваў іх, кажучы:

— Кладзіцеся спаць, пацучынае адроддзе, спіце і адпачывайце, ды



натрыце алеем вашы збітыя ногі, а я сам буду пільнаваць ваш сон і аберагаць вас.

Я таксама не спаў. Я ўсю ноч хадзіў па лагеру і лячыў раны вазніц, а Харэмхеб падбадзёрваў мяне:

— Лячы іх, Сінухе, лячы з усім сваім майстэрствам, бо няма на свеце адважнейшых воінаў, кожны з іх варты сотні, а то і тысячы гэтых няшчасных далакопаў. Лячы іх як след, бо я люблю гэтых паганцаў, якія ўмеюць утаймоўваць коней і трымаць лейцы ў руках. Мне няма кім іх замяніць, і трэба яшчэ навучыць новых кіраваць калясніцамі — прама ў баі. Таму я дам табе па дэбене золатам за кожнага, хто пасля твайго лекавання зможа зноў удзельнічаць у баях.

Але я быў раздражнёны і стомлены цяжкім падарожжам па пустэльні, хоць правёў яго на насілках. У горле ў мяне перасохла, я кашляў ад сухога пылу, і мяне вельмі непакоіла, што праз дурную Харэмхебаву ўпартасць мне давядзецца памерці ў хецкім палоне, хоць сама смерць мяне ўжо не палохала. Таму я злосна адказаў:

— Пакінь гэтае золата сабе ці аддай тым вунь бедалагам, што так пакутуюць — хай і яны хоць перад смерцю адчуюць сябе багатымі. Так ці іначай, заўтра мы ўсе памрэм, бо ты зацягнуў нас у гэтую праклятую пустэльню. А калі я і лячу гэтых пакутнікаў, дык больш дзеля самога сябе, бо, на маю думку, толькі яны і здольныя змагацца ў тваім войску, а ўсе астатнія — разбягуцца па пустэльні, як толькі сустрэнуць першага хета. Я на свае вочы бачыў, як яны кідаюцца наўцёк, калі да іх раптам з цемры даляціць трэск зламанай галінкі, і чуў, як яны пачынаюць хорам маліцца ўсім егіпецкім багам, калі перад імі нечакана выскачыць заяц. Яны смела разбіваюць адзін аднаму галовы на вуліцах Фіваў, і калі збяруцца ў натоўп, могуць нават забіць якога-небудзь мінака за яго кашалёк. А тут, у пустэльні,— гэта дурныя бараны, якія пакорліва ідуць за табою на смерць, але ў патрэбны момант разбягуцца хто куды, не разбіраючы дарогі. Таму я і лячу гэтых гаротнікаў дзеля сябе, спадзеючыся на цуд і іх трываласць, якія, можа быць, дапамогуць нам застацца жывымі. Але наймудрэйшым тваім рашэннем было б выбраць самых хуткіх коней, узысці разам са мной на лёгкую калясніцу і паспяшацца назад, да Ніжняй зямлі. Калі нам пашчасціць дабрацца туды жывымі, ты зможаш сабраць новае і лепшае войска.

Харэмхеб пацёр нос, хітра зірнуў на мяне і адказаў:

— Ты даў мне мудрую параду, Сінухе, і, мабыць, я скарыстаўся б ёю, калі б быў, як і ты, такі самы мудры. Але ж я так люблю сваіх паскуднікаў, што не магу кінуць іх адных паміраць з голаду ў пустэльні. Вядома, аднаму мне было б лягчэй уратавацца, пакінуўшы тут вадзяныя склады, а ў наступным годзе распачаць новую вайну. Чаму я не ўцякаю, я і сам не ведаю, хоць на маім месцы любы разумны чалавек зрабіў бы менаві-

та так. Потым я мог бы ўшанаваць іх памяць у помніках і высекчы іх імёны на камянях. Але я так не зраблю, і ніякая іншая парада, апроч як змагацца і перамагчы хетаў у гэтай пустэльні, нам не падыходзіць. Вось так усё проста, Сінухе. Мы пераможам хетаў, бо іншага выйсця ў нас няма, і можа, прывёўшы войска сюды, я якраз зрабіў мудра, бо адсюль няма куды бегчы, і ўсім давядзецца біцца за сваё жыццё насмерць, хочуць яны таго ці не. А зараз мне лепш за ўсё пайсці спаць у сваю калясніцу, але перад гэтым я вып'ю яшчэ віна, каб пахмелле не прайшло да раніцы, бо тады я злосны і ваюю лепш, чым на цвярозую галаву.

Ён пайшоў да калясніцаў, узяў гарлач з віном, і з начной цемры да мяне данеслася булькатанне. Потым здалёк пачуўся грукат калясніцы, нейкая валтузня і спалоханы крык егіпцянаў перад лініяй умацаванняў. Воіны з зайздрасцю глядзелі на Харэмхеба, і тады ён пачаў частаваць віном кожнага, хто стаяў побач, і яны пілі з гарлача, з якога піў сам Харэмхеб. А той, частуючы воінаў, злосна бурчэў:

— У вас што — лантухі без дна? Вы зараз выжлукціце ўсё маё віно, і я сам не паспею як след напіцца! Ну вось, сваімі паганымі пысамі вы ўжо запэцкалі ўвесь гарлач.

Ён ляпаў іх па плячах, называў кожнага на імя і ўспамінаў іх «подзвігі» пад Газай, дзе яны, нібыта, заблыталіся ў лейцах і коні іх білі азадкамі.

Так прайшла ноч, і ранне ўзнялося над зямлёй, як шэры прывід, і з пустэльні разам з крыкамі падлажэраў павеяла смуродам смерці. Перад умацаваннямі валяліся перакуленыя калясніцы, забітыя коні, грыфы выклёўвалі вочы хецкім забітым вазніцам. На золку Харэмхеб загадаў трубіць у трубы, сабраў усё войска і звярнуўся да яго з прамовай.

## 2

Пакуль хеты закідвалі пяском свае вогнішчы, запрагалі коней і рыхтавалі зброю, Харэмхеб ускараскаўся на шчарбаты выступ скалы і пачаў прамаўляць да войска, жуючы сухі хлеб і закусваючы яго цыбуляй:

— Зірніце перад сабой і вы ўбачыце вялікі цуд, бо Амон сапраўды перадаў хетаў у нашы рукі, і сёння мы здзейснім вялікія подзвігі, бо пешае войска хетаў праз недахоп вады затрымалася на ўскрайку пустэльні і не паспела сюды прыйсці. Іх баявым калясніцам цяпер давядзецца адным пракладваць сабе дарогу і здабываць ваду, калі яны хочуць прайсці далей да Егіпта. Але іх коні знясілелі ад смагі, і ім не хапае кармоў, бо я спаліў усе іх запасы, а гліняныя гаршчкі з вадою пабіў на чарапкі па ўсёй пустэльні — адсюль аж да Сірыі. Таму хеты павінны або любою цаной прабіцца на сваіх калясніцах праз нашы шэрагі, або пайсці назад у Сірыю, або стаць лагерам і, не завязваючы з намі бітвы, чакаць, пакуль прывязуць ваду. Каб у іх быў розум, яны вярнуліся б назад у Сірыю, але ж яны сквапныя і прагныя, яны ўклалі ў гаршчкі з



вадой, якія расклалі па ўсёй пустэльні ў нас за спінай, усё сваё срэбра і золата і цяпер без бою ад вады не адмовяцца. Амон аддаў хетаў нам у рукі, бо калі яны надумаюць атакаваць нашы ўмацаванні, то не змогуць выкарыстаць моц сваіх калясніц. Іх коней спыняць канавы, якія вы так адважна капалі, а каменныя глыбы і агароджы пераломяць вастрыё іх націску.

Харэмхеб выплюнуў цыбульнае шалупінне, адгрыз моцнымі зубамі кавалак сухара і жаваў яго да тае пары, пакуль войска не пачало з нецярпеннем тупаць нагамі і крычаць, як робяць зазвычай дзеці, якім хочацца пачуць ад дарослага яшчэ адну казку. Тады Харэмхеб наморшчыў лоб і сказаў:

— У імя Сэта і ўсіх ягоных нячысцікаў! Або нашы забеспячэнцы прывозяць нам хлеб з мышыным дзярмом, або гэта яшчэ не прайшло пахмелле? Вы хоць ведаеце, пацучынае адроддзе, што я сёння ноччу нават не змог напіцца як след ад радасці, што гэтыя паганыя хеты праз сваю дурасць знаходзяцца ад нас на адлегласці дрэўка дзіды. Не, я ўсё ж загадаю павесіць пару забеспячэнцаў дагары нагамі на гарадскім муры за мышынае дзярмо ў хлебе! Не дзеля вас, вядома, бо вы сцярэбіце ўсё запар, як тупыя валы! Не, я зраблю гэта выключна дзеля свайго высакароднага страўніка. Мяне не цікавіць, што вы жараце, хай нават гной з мукою,— круглякі маіх коней мне даражэйшыя за ўвесь ваш бязглузды статак! Але я баюся, што вы можаце ўпусціць хетаў з рук, бо вы ж ніколі не былі воінамі, смярдзючае вы пацучынае адроддзе! Дык слухайце мяне: паленні ў вашых руках — гэта дзіды, і маюць наканечнікі не дзеля таго, каб вы часалі імі свае паганыя спіны, а каб праколваць жываты хетам. А зараз хай мяне паслухаюць лучнікі, якія, напэўна, лічаць сябе вялікімі героямі, калі шпурляюць стрэлы з цецівы немаведама куды, а потым гарлаюць, як смаркачы: «Глядзі, як высока паляцела мая страла!» А вы павінны цаляць не ў неба, а ў хетаў! І каб вы былі сапраўдныя лучнікі, то мусілі б выбіваць ім вочы! Але якая карысць казаць вам гэта?! Таму кажу другое: цаляйце ў коней, бо гэта дастаткова вялікая мішэнь, а ў каляснічых вы ўсё адно не патрапіце. І чым бліжэй вы падпусціце коней, тым з большай пэўнасцю ў іх патрапіце, якімі дрэннымі стралкамі вы ні былі б. Таму я загадваю: падпускаць коней як мага бліжэй, а хто будзе дарэмна траціць стрэлы, я з таго сам спушчу скуру, каб ён пашкадаваў, што нарадзіўся на свет! Мы не можам страціць дарэмна ніводнай стралы. Успомніце, што гэтыя наканечнікі былі выкаваныя з аздобаў, што віселі на грудзях вашых жонак, з бранзалетаў, што ўпрыгожвалі ногі дзяўчатам у дамах уцехаў, і хай гэты ўспамін падбадзёрыць вас. А цяпер я кажу зноў тым, у каго ў руках дзіды: калі коні наблізяцца, упрыце дзіды ў зямлю і трымайце іх абедзвюма рукамі, а наканечнікі кіруйце коням у жывот, тады вам не

будзе чаго баяцца — трэба толькі паспець адскочыць убок, каб конь не затаптаў вас. А калі хто ўпадзе на зямлю — рэжце на нагах коням жылле: гэта адзіны спосаб уратавацца ад колаў, іначай вас пераедуць і раздушаць. Вось што нас чакае, нільскія вы пацукі!

Ён з агідай панюхаў хлеб, адкінуў яго прэч, паднёс да вуснаў гарлач і доўга прагна піў, наталяючы пахмельную смагу. Потым ён працягваў:

— Зрэшты, я дарэмна марную час, даючы вам свае мудрыя парады, бо як толькі вы пачуеце грукат калясніцаў ды хецкі баявы кліч, вы пачняце вішчаць і хаваць галаву ў пясок, бо побач няма матчынай спадніцы і вам няма больш куды хавацца. Таму я павінен вас папярэдзіць: калі хеты прарвуцца праз умацаванні і захопяць склады з вадой у нас за спінай — кожны з вас будзе нябожчыкам раней, чым настане вечар, і ў лепшым выпадку праз адзін-два кругі месяца ваша скура будзе вісець у выглядзе сумкі на руцэ якой-небудзь гаспадыні з Бібла або Сідона, калі, вядома, у горшым выпадку, вам не давядзецца выць на сцяне з раздушанымі чэлесамі ці з выкалатымі вачыма круціць жорны ў лагеры Азіру. Вось што будзе з вамі, калі хеты прарвуць нашу абарону. Нас акружаць, бегчы нам не будзе куды, і ўсім нам прыйдзе канец. Павінен сказаць, што і цяпер ужо ў нас няма шляхоў для ўцёкаў, бо як толькі мы адыдзем ад умацаванняў, хеты кінуцца наперад і змятуць нас калясніцамі, як паток у разводдзе змятае салому. Я кажу гэта, каб ніхто з вас не падумаў бегчы ў пустэльню. А на выпадак, калі хто з вас забудзе, з якога боку вораг, я пастаўлю ў вас за плячыма пяць соцень адважных воінаў і дам ім магчымасць удосталь пацешыцца, назіраючы за вашаю бітвай, бо яны напраўду заслужылі такое права. I я абяцаю: таму, хто кінецца бегчы, яны адрэжуць галаву ці што-небудзь яшчэ — вы ж ведаеце, як з юрлівага быка робяць паслухмянага вала? Ну вось, а цяпер вы ведаеце, што калі наперадзе вас чакае небяспека, дык ззаду — беззумоўная смерць. Затое наперадзе вас могуць чакаць і перамога, і слава, і я ніколькі не сумняваюся, што мы пераможам хетаў, калі кожны з нас пастараецца. Мы ўсе, любыя вы мае, варымся ў адной зацірцы, і няма іншага ў нас выйсця, як перамагчы, а каб перамагчы, вы павінны кінуцца на хетаў з усёй тою зброяй, якая ў вас у руках. Выліць як мага больш варожай крыві — вось адзіны спосаб выратавацца! I я буду біцца побач з вамі, з бізуном у руцэ, і калі мой бізун часцей пройдзецца па вашых спінах, чым па спінах хетаў, дык вы самі будзеце вінаватыя, пацучынае адроддзе!

Воіны слухалі яго як зачараваныя, забываючысяераступаць з нагі на нагу і не памятаючы нават пра хетаў. Я, прызнаюся, пачаў ужо непакоіцца, гледзячы, як у вялізных слупах пылу да ўмацаванняў з усіх бакоў набліжаюцца хецкія калясніцы. Але думаю, Харэмхеб марудзіў знарок, каб усяліць у людзей свой спакой і тым самым пазбавіць ад



гнятучага чакання атакі. Нарэшце ён агледзеў са свайго ўзвышку пустэльню, узняў рукі і сказаў:

— Нашы хецкія сябры ўжо імчаць сюды на сваіх калясніцах, і я дзякую за гэта егіпецкім багам, бо, калі хеты так спадзяюцца на сваю сілу, значыць, Амон сапраўды іх асляпіў! Наш бог змагаецца побач з намі! Наперад, нільскія пацукі, хай кожны стане на адведзенае яму месца і хай ніхто не сыходзіць з яго без загаду! А вы, мае любыя гнойныя мухі, ідзіце за гэтымі слімакамі ды зайцамі, і калі хто намерыцца ўцякаць, палягчайце кожнага баязліўца, як барана. Скажу вам усім толькі адно: змагайцеся дзеля багоў Егіпта, змагайцеся дзеля Чорнай зямлі, дзеля вашых жонак і дзяцей! А зараз бяжыце, дзеці мае, бяжыце як мага хутчэй, іначай хеты першымі дабяруцца да нашых умацаванняў і бітва скончыцца раней, чым пачнецца.

Ён скончыў гаварыць, і воіны паімчаліся кожны да свайго месца, гарлаючы ці то ад узрушэння, ці то ад страху,— не ведаю, ды яны і самі, напэўна, не ведалі. Харэмхеб ляніва пайшоў за імі, а я застаўся сядзець на скале, каб сачыць за бітвай з бяспечнай адлегласці, бо я ўсё ж быў лекар і маё жыццё на вайне мае асаблівую каштоўнасць.

Хеты перасеклі раўніну і спыніліся ля падножжа ўзгоркаў, каб пастроіцца ў баявыя парадкі. Іх featureznakalyarovyya сцяжкі, бляск крылатых сонечных кругоў на калясніцаў, стракатыя гунькі, што пакрывалі конскія крыжы, абараняючы ад варожых стрэлаў, мелі святочны і грозны выгляд. Кідалася ў вочы, што хеты збіраліся нанесці ўдар усімі сіламі па адкрытай мясцовасці, дзе была пракладзена дарога, якая вяла да складаў з вадой. Яна была паспешліва перакрытая лёгкімі Харэмхебавымі ўмацаваннямі, і было бачна, што хеты не збіраюцца зварочваць у праходы паміж скаламі, ні раздрабняць свае сілы, выходзячы ў пустэльню, дзе вольныя атрады з хеўрамі рабаўнікоў прыкрывалі флангі Харэмхебава войска. Такі кружны шлях па пустэльні занадта падоўжыў бы адлегласць да вадзяных складаў, а хецкія коні і так знемагалі ад бяскорміцы й смагі. Апроч таго, яны, бясспрэчна, спадзяваліся на свае ваеннае майстэрства і сілу, бо дагэтуль іх націску не мог вытрываць ніводзін народ. Іх баявыя калясніцы ішлі ў бой шэрагамі па шэсць, з дзесяці шасцёрак складаўся полк, і такіх палкоў у хетаў, я думаю, было шэсцьдзесят супраць невялікага і ненавучанага Харэмхебава войска. Цэнтр атакі складалі цяжкія калясніцы з трыма коньмі і трыма воінамі, і, гледзячы на гэтыя магутныя калясніцы, я ніяк не мог зразумець, якім чынам Харэмхеб можа адбіць іх атаку,— калясніцы рухаліся цяжка і ўпэўнена, нібы караблі, змятаючы ўсё на сваім шляху.

Але вось загадалі трубіць у трубы, начальнікі паднялі сцягі, калясніцы зрушыліся з месца, спачатку павольна, потым усё хутчэй, і вось яны ўжо дасягнулі ўмацаванняў, і тут я са здзіўленнем убачыў, што паміж

калясніцамі імчаць коні з людзьмі на спінах, якія з усяе сілы іх падганяюць, малоцячы пяткамі па баках. Я не мог зразумець, навошта наперад кінулі лёгкіх безабаронных коннікаў, пакуль не заўважыў, што яны, звесіўшыся амаль да зямлі, рассякаюць нажамі і сякерамі вяроўкі, нацягнутыя паміж коллем, тыя самыя вяроўкі, у якіх павінны былі заблытацца ногі хецкіх коней! Але цяпер яны маглі бесперашкодна праскочыць па адкрытых прамежках, не баючыся егіпецкіх стрэлаў і дзідаў. Коннікі выпрасталіся на спінах коней і шпурнулі дзіды, — але не цаляючы ў егіпцянаў, не, — яны шпурнулі іх так, каб яны стаўма ўторкнуліся ў зямлю, а на канцах дзідаў развіваліся living рознакаляровыя сцяжкі. Усё гэта адбылося з маланкавай хуткасцю — хутчэй, чым я расказваю пра гэта, і я не зразумеў, чаго хочуць хеты, бо, прабіўшы нашы вяровачныя ўмацаванні і ўторкнуўшы ў зямлю дзіды, коннікі штомоц паімчалі назад і зніклі за строем калясніц, пакінуўшы ўсяго некалькі коней і людзей, параненых стрэламі.

Калі ў наступ пайшлі групы лёгкіх калясніцаў, я быў уражаны, убачыўшы Харэмхеба, які выскачыў перад сваім атрадам і кінуўся прама да ўмацаванняў, насустрач бразготкім хецкім калясніцам. Я адразу пазнаў яго, бо ён быў на галаву вышэйшы за ўсіх нізкарослых дзяцей Ніла. Убачыўшы тое, я ўскочыў і закрычаў, махаючы кулакамі, а Харэмхеб вырваў з зямлі дзіду з апазнавальным сцяжком і шпурнуў яе далёка ўбок, дзе яна ўторкнулася ў пясок. Сваім хуткім розумам прыроднага воіна ён скеміў, што хеты выслалі наперад самых вопытных сваіх коннікаў, каб тыя пазначылі слабыя месцы ва ўмацаваннях, дзе прарыў мог быць паспяховым.

Харэмхеб адзін з усіх егіпецкіх воінаў здагадаўся пра гэта, і ў яго хапіла ваеннай хітрасці кінуць дзіду ў іншае месца. Некалькі воінаў па яго прыкладзе падбеглі да ўмацаванняў, але яны толькі вырвалі дзіды і забралі сцяжкі, як здабычу. Але і гэта пайшло на карысць, збіўшы з тропу атакуючых хетаў, і іх атака змяшалася. Я лічу, што толькі магутны Харэмхебаў розум выратаваў Егіпет тым ранкам, бо калі б хеты скіравалі ўсю сілу сваёй першай атакі на месцах, пазначаных дзідамі, наўрад ці егіпцянам удалося б адбіць гэту атаку.

Але тады я нічога гэтага не разумеў, і ўчынак Харэмхеба здаваўся мне шаленствам і дзіцячай выхадкай. Я злаваўся, думаючы, што ён проста хоча ўласным прыкладам падбадзёрыць воінаў, бо няма болей смелага ўчынку, чым выскачыць за лінію ўмацаванняў насустрач атакуючым калясніцам ворага. Але вопытны воін можа зрабіць гэта, калі добра разлічыць хуткасць варожых калясніцаў і свае сілы, каб паспець вярнуцца за ўмацаванні раней, чым на яго наляцяць ворагі. Напэўна, таму Харэмхебу і не пагражала вялікая небяспека, але ўсё войска ўбачыла яго, і гучны крык захаплення прагучаў над полем бітвы.



Харэмхеб паспеў дабегчы да сваёй дружыны, калі лёгкія калясніцы хетаў наляцелі на лінію ўмацаванняў і ў многіх месцах уклініліся ўглыб абароны. Ад гэтага першага нападу ўзняўся такі грукат і гвалт, такая хмара пылу, што я не мог бачыць нічога. Я толькі бачыў, што стрэлы нашых лучнікаў збілі яшчэ некалькі коней перад лініяй умацаванняў, але хеты спрытна кіравалі калясніцамі і лёгка абміналі ўпалых коней, не спыняючы наступу. Праз пэўны час я згледзеў, што, нягледзячы на вялікія страты, калясніцы ў некалькіх месцах прарвалі ўсе лініі абароны. Але яны не пайшлі далей, а сабраліся ў тых месцах, і воіны, саскочыўшы з калясніцаў, пачалі адвальваць каменныя глыбы, якімі былі закрыты праходы, расчышчаючы іх для цяжкіх калясніцаў, якія чакалі сваёй чаргі на даволі вялікай адлегласці, недасягальныя для егіпецкіх стрэлаў.

Дасведчаны воін, пабачыўшы такі поспех ворага, вырашыў бы, што ўсё загінула, але нявопытныя, ненавучаныя войскі Харэмхеба бачылі толькі коней, якія біліся ў перадсмяротных сутаргах перад умацаваннямі і ў выкапаных канавах. Яны бачылі толькі вялікія страты, якія панеслі хеты. Яны бачылі, што хеты спынілі наступ, і думалі, што гэта іхняя смеласць і майстэрства спынілі націск. Таму яны, гучна гарлаючы ад узрушэння і страху, скопам кінуліся на калясніцы, што стаялі на месцы, і, падлазячы пад коней, пачалі падразаць ім жылле, сцягваць на зямлю воінаў з калясніцаў, а лучнікі ўзяліся страляць у тых, хто расчышчаў ад валуноў праходы. Харэмхеб іх не спыняў, і перавага ў колькасці адыграла сваю ролю: пешыя воіны захапілі шмат калясніцаў, аддаўшы іх потым Харэмхебавай дружыне, бо самі не ўмелі кіраваць коньмі Яны баяліся конскіх храпаў, а залезшы на калясніцу, баяліся з яе ўпасці. Харэмхеб вырашыў не тлумачыць войску, што як толькі сюды падыдуць цяжкія калясніцы, усё будзе скончана. Ён верыў у сваю ўдачу і спадзяваўся на глыбокі роў, які загадаў выкапаць далей пасярод праходу і замаскаваць кустоўем і галлём. Таму хеты на лёгкіх калясніцах не заўважылі яго і спыніліся, думаючы, што ўсе лініі ўмацаванняў ужо прарвалі.

Хеты, якім, расчышчаючы праход, пашчасціла ацалець, узлезлі на свае лёгкія калясніцы і паспешліва адступілі, што выклікала ў Харэмхебавым войску вялікую радасць, бо нявопытныя воіны вырашылі, што ўжо перамаглі, і старанна ўзяліся калоць дзідамі коней, якія ляжалі ў равах з пераламанымі нагамі, і параненых хетаў, якія спрабавалі схавацца між камянямі. Але тут Харэмхеб даў знак трубіць у трубы і загадаў зноў завальваць праходы валунамі ды ўбіваць у зямлю дзіды, нахіляючы іх у бок хетаў: нічога больш ён зрабіць не мог. Каб пазбегчы дарэмных стратаў, ён паставіў воінаў абапал праходу за лініяй умацаванняў, інакш разакі на колах калясніц скасілі б іх як калоссе ў жніво.

Ён паспеў зрабіць гэта ў апошні момант, бо не паспела выцечы і самая малая мера з клепсідры і яшчэ не асеў пыл, як хецкія цяжкія калясніцы, гордасць і сіла іх войска, зрушылі з месца і з грукатам панесліся наперад, змятаючы ўсё на сваім шляху. Калясніцы былі запрэжаныя магутнымі высакарослымі коньмі, значна вышэйшымі за егіпецкіх, іх галовы былі закрыты металёвымі налобнікамі, а крыжы — абароненыя ад стрэлаў тоўстымі трывалымі гунькамі з воўны. З-пад масіўных цяжкіх колаў адляталі ў бакі нават буйныя абломкі каменных глыбаў. Вось калясніцы ўварваліся ў хмару пылу, і пастаўленыя супраць іх дзіды зламаліся, як тонкія сухія трысцінкі, збітыя магутнымі коньмі. Я ўскочыў і пачаў азірацца, шукаючы паратунку, але ніякіх шляхоў для ўцёкаў не было.

А хецкія калясніцы ўжо выскачылі з воблака пылу і паімчалі далей. Магутныя коні ў налобніках з бронзавымі рагамі ды стракатых гуньках на крыжах былі падобныя да нейкіх казачных пачвараў. Яны імчалі наперад доўгімі шэрагамі, і, здаецца, нічога на свеце не магло затрымаць іх рух. Для іх ужо не было перашкодаў, і ў егіпцянаў не было сілы іх затрымаць на шляху да водных складаў у пустэльні. Апроч таго, па загадзе Харэмхеба егіпецкае войска расступілася, прыціснуўшыся да горнага схілу. Хеты на калясніцах дзіка загукалі і панесліся наперад, пыл узняўся да неба і пакрыў усю даліну. Я ўпаў тварам на зямлю і пачаў горка аплакваць лёс Егіпта, долю безабароннай Ніжняй зямлі і смерць тых, хто памрэ праз шаленства Харэмхеба і яго бязглуздую ўпартасць.

Але перамога не ап'яніла хетаў. Яны апусцілі на калясніцах тармазы, і тыя пачалі баранаваць зямлю, замаруджваючы бег коней. Хеты яўна мерыліся зноў паслаць па лёгкія калясніцы, каб тыя, праехаўшы наперад, разведалі мясцовасць. Яны былі вопытныя і асцярожныя воіны і стараліся заўсёды пазбегчы ўсякіх нечаканасцяў. Але яны зусім не паважалі егіпецкае войска і не здагадваліся пра падступства егіпцянаў. Цяжкім калясніцам не так лёгка спыніць свой рух, іх гіганцкія коні так магутна ляцяць наперад, што могуць абарваць лейцы і разбіць калясніцу, калі паспрабаваць іх рэзка спыніць. Таму каляснічыя маюць дзіду з шырокім наканечнікам, якім можна перарэзаць жылле на задніх нагах каня, калі калясніцу трэба спыніць рэзка.

Але гэты раз хеты не бачылі такой патрэбы. Можа, не так хутка, як ім хацелася б, але яны па-ранейшаму рухаліся наперад шырокімі шэрагамі, і нічога не прадказвала бяды. І раптам зямля пад імі правалілася. Разам з калясніцамі хецкія воіны паляцелі ўніз раней, чым паспелі спыніць ці павярнуць коней уздоўж рова, пакрытага галлём і кустоўем. Роў цягнуўся ўпоперак усёй даліны, ад краю да краю, і цяжкія калясніцы, ламаючы стройныя шэрагі, падалі ўніз. Пачуўшы крыкі хетаў, я падняў галаву і, калі пыл рассеяўся, перад маімі вачыма адкрылася жахлівае відовішча.



Калі б хеты зберaглі прысутнасць духу і халоднасць думкі, яны змаглі б выратаваць частку калясніцаў і нанесці егіпцянам паразу. Яны маглі б павярнуць коней і выехаць на раўніну праз разбураныя ўмацаванні. Але ім і ў галаву не прыходзіла, што яны, непераможныя, могуць быць разбітыя! Хеты не прывыклі прайграваць, і таму не падумалі нават ад'ехаць далей ад егіпецкага пешага войска — яны збочылі да скалаў, сцішваючы бег коней, потым павярнулі назад і нарэшце саскочылі з калясніцаў, каб высветліць, як перабрацца праз роў і дапамагчы паплечнікам, якія ў яго ўпалі. Апроч таго, яны хацелі дачакацца, пакуль асядзе пыл, а тады ўжо намеціць наступны ўдар па егіпцянах.

Але Харэмхеб чакаць гэтага не збіраўся, ён загадаў трубіць, абвяшчаючы войску, што яго хітрасць удалася: хеты страцілі большасць сваіх калясніц і засталіся бяззбройныя. Ён размясціў лучнікаў па схілах скал і загадаў не даваць хетам перадыху. Другіх воінаў ён паслаў у пустэльню з галінамі, загадаўшы ўздымаць як мага больш пылу — часткова, каб не даць хетам апамятацца, а часткова, каб схаваць ад егіпецкіх воінаў грозную колькасць ацалелага хецкага войска. І яшчэ вялікую частку воінаў ён паслаў скідваць са скалаў каменныя глыбы, каб закрыць прабітыя ў выніку атакі праходы і зачыніць пастку за хецкімі калясніцамі, а потым захапіць іх.

Хецкія атрады лёгкіх калясніцаў тым часам сталі лагерам на раўніне, яны паілі коней, рамантавалі збрую. Хеты бачылі воблакі пылу ў даліне паміж гарамі, яны чулі крыкі, бразгат зброі, але думалі, што гэта іх цяжкія калясніцы душаць, як пацукоў, егіпцянаў.

Пад прыкрыццём пыльных хмараў Харэмхеб выслаў самых смелых да рова, каб не даць хетам выцягнуць тых, хто ў яго трапіў, і засыпаць роў, а астатніх кінуў на ацалелыя калясніцы. Егіпцяне кацілі вялізныя камяні, цягнулі іх на валакушах, каб акружыць калясніцы шчыльнай сцяной і не даць ім крануцца з месца. І хутка па ўсіх схілах гор у напрамку калясніц пакаціліся вялізныя каменныя глыбы. Егіпцяне заўсёды славіліся сваім уменнем працаваць з каменем, а ў Харэмхебавым войску было шмат такіх, хто атрымаў добрую практыку ў каменяломнях.

Хеты пачалі ўсур'ёз непакоіцца, заўважыўшы, што пыл надта доўга не асядае. Яны не маглі зразумець, што адбываецца. А на іх увесь час сыпалі стрэлы, ранячы і забіваючы ўсё больш стралкоў і каляснічых. Хецкія начальнікі перасварыліся між сабой, бо нічога такога з імі раней не здаралася. Яны не ведалі, што рабіць у такіх абставінах, такому іх не вучылі. Яны паслалі некалькі калясніцаў выведаць, што робяць егіпцяне, але калясніцы назад не вярнуліся, бо коні не змаглі праціс-

нуцца між каменных глыбаў, а каляснічых егіпцяне скінулі ўніз і забілі. Нарэшце хецкія военачальнікі загадалі трубіць, каб вярнуцца на раўніну і аднавіць свае баявыя парадкі. Але паспрабаваўшы прабіцца назад той жа дарогай, яны не пазнавалі яе, іх коні блыталіся ў вяроўках і пастках, калясніцы перакульваліся, наязджаючы на вялізныя валуны, і ўрэшце хетам давялося спешыцца. Але хоць яны і былі адважныя воіны, але біцца пешшу яны не ўмелі, яны прывыклі весці бой зверху, з высокіх калясніцаў. Бітва цягнулася да змяркання, і ўрэшце Харэмхебава войска адолела хетаў.

Вечаровы вецер разагнаў пыл і адкрыў пачварную карціну хецкай паразы. Хеты страцілі большасць сваіх калясніцаў, і шмат якія разам са збруяй, коньмі і ваенным рыштункам трапілі ў рукі Харэмхебу. Але і егіпецкія воіны, ахопленыя баявым запалам, узрушаныя пахам крыві, жахнуліся сваім стратам. Целаў егіпцян на раўніне ляжала куды больш, чым хетаў. Тыя, хто застаўся жывы, са страхам казалі адзін аднаму:

— Гэта страшны дзень! Добра, што мы не бачылі нічога падчас бітвы, бо калі б мы ўбачылі такую процьму хетаў і столькі нашых трупаў, дык сэрцы сталі б у нас камяком у горле і мы не змаглі б біцца, як ільвы.

Затое хеты, якія біліся пад прыкрыццём лёгкіх калясніцаў і забітых коней, убачыўшы меру сваёй паразы, заплакалі і загаласілі:

— О цяжкія нашы калясніцы, о сіла і слава нашага войска, усё прапала! Неба і зямля адступіліся ад нас! Ніколі пустэльня не зможа стаць бласлаўлёнай зямлёю! Яна заўсёды застанецца прытулкам злых духаў! Мы марна змагаемся, а таму складаем зброю!

I яны кінулі зброю і паднялі рукі над галовамі, і Харэмхеб загадаў звязаць палонных вяроўкамі, і ўсе нільскія пацукі і гаўнюкі падыходзілі падзівіцца на хетаў, дакраналіся да іх ранаў, адрывалі бліскучыя крылатыя кругі з баявых сякераў, вопраткі і шлемаў.

А Харэмхеб хадзіў сюды-туды сярод гэтага тлуму, пераходзіў ад адной купкі воінаў да другой, лаяў іх на чым свет стаіць і, жартаўліва ляскаючы па плячах бізуном, звяртаўся на імя да тых, хто асабліва вызначыўся ў бітве, і называў іх сваімі дзецьмі і гаўнюкамі. Ён загадаў раздаць воінам віна і піва і, каб парадаваць іх, дазволіў разжыцца дабром пераможаных хетаў і забітых егіпецкіх воінаў. Але самай каштоўнай здабычай былі цяжкія калясніцы і ацалелыя коні. Спачатку коні шалелі, брыкаліся, але потым іх накармілі, далі ім вады, а спрактыкаваныя Харэмхебавы каняводы ласкава з імі пагаварылі, і коні ўтаймаваліся. Конь — жывёліна мудрая, яна разумее чалавечую мову, і калі з імі абышліся добра, хецкія коні згадзіліся служыць Харэмхебу. Аднаго толькі я не мог уцяміць: як пасля неразборлівага мармытання хетаў коні адразу здолелі зразумець егіпецкую мову? Але Харэмхеба воіны запэўнілі мяне, што коні разумеюць усё, і я мусіў паверыць, асабліва ўбачыўшы,



як гэтыя вялізныя жывёліны пакорліва дазвалялі егіпцянам здымаць са сваіх спінаў цяжкія набрынялыя потам гунькі.

Тою ж ноччу Харэмхеб накіраваў пасланцоў на абодва флангі да вольных атрадаў і рабаўнікоў, запрашаючы ўсіх смелых зухаў ісці да яго на службу ў атрад калясніцаў. Гэтыя людзі ўмелі абыходзіцца з коньмі значна лепш за егіпцянаў. I новыя, і старыя вазніцы былі ў захапленні, гледзячы на цяжкія калясніцы і дужых коней. Не менш радасці было і іншым насельнікам пустэльні — ваўкам, шакалам ды птушкам-падлажэрам, якія цэлымі зграямі і статкамі сцякаліся да месца бітвы, каб паласавацца і хетамі, і егіпцянамі, не робячы розніцы паміж пераможанымі і пераможцамі.

Вядома, пасля такой бітвы, клопату ў мяне хапала: я зашываў ірваныя раны, лячыў вывіхнутыя рукі і ногі, ускрываў разбітыя хецкімі паліцамі чарапы. Хоць у мяне былі памагатыя, але пакуль мы перавязалі ўсіх параненых, давялося амаль не спаць тры дні і тры ночы. I, вядома, бітва ўвесь гэты час не сціхала. Хеты не пажадалі зміріцца з паразай і наступным днём учынілі новы наступ лёгкімі калясніцамі. Каб адбіць страчанае, яны спрабавалі зрабіць гэта і на трэці дзень, не асмельваючыся вярнуцца ў Сірыю да галоўнага военачальніка з весткай аб паражэнні.

Але на трэці дзень Харэмхеб не захацеў толькі абараняцца. Ён загадаў зрабіць ва ўмацаваннях праход і выслаў наперад малойцаў на захопленых у хетаў цяжкіх калясніцах. Тыя адагналі хецкія лёгкія калясніцы і нанеслі хецкім дружынам паразу, праўда, і самі пры гэтым панесшы страты, што дадало мне працы. А Харэмхеб сказаў, што страты — рэч непазбежная, бо толькі на полі бою нявопытныя каляснічыя і воіны могуць навучыцца кіраваць коньмі, і лепш практыкавацца на непрыяцелі, які церпіць паразу і чый дух зломлены, чым на войску, якое добра адпачыла і з поўнаю сілай нападае на Егіпет.

— Мы ніколі не заваюем Сірыі, калі ў нас не будзе цяжкіх калясніцаў, каб змагацца з хетамі,— сказаў Харэмхеб.— Уся гэтая вайна за ўмацаваннямі — проста дзіцячая гульня, і ёй мы нічога не выйграем, а хіба толькі не дазволім хетам напасці на Егіпет.

Ён думаў, што хеты пашлюць супраць яго ў пустэльню пешае войска, і яно, пазбаўленае складаў вады, стане яго лёгкай здабычай. Але хеты былі прадбачлівымі і асцярожнымі воінамі. Яны ў сваю чаргу спадзяваліся, што асляплены сваімі поспехамі Харэмхеб рынецца ў Сірыю, дзе адпачнуўшае і добра ўзброенае хецкае войска лёгка яго разаб'е. Аднак вестка пра паражэнні хетаў выклікала ў Сірыі вялікі неспакой і хваляванні, і шмат гарадоў паўсталі супраць Азіру, зачыніўшы перад ім свае брамы: гараджане былі ўжо сытыя па горла ўладалюбствам Азіру і прагнасцю яго саюзнікаў-хетаў. Яны хацелі заслужыць прыхільнасць Егіпта

і спадзяваліся на яго хуткую перамогу. Сірыйскія гарады спрадвеку варагавалі паміж сабой, а выведчыкі Харэмхеба яшчэ больш стараліся распаліць гэтую варожасць, распускаючы жахлівыя чуткі пра паразу хетаў у пустэльні.

Некалькі дзён егіпецкае войска адпачывала каля пераможных скалаў, а Харэмхеб раіўся з выведчыкамі і складаў новыя планы. Ён выдатна разумеў, што доўга Газа трымацца не зможа, але яму абавязкова патрэбен быў апорны пункт на ўзбярэжжы дзеля пакарэння Сірыі. За дні адпачынку Харэмхеб распаўсюдзіў сярод сваіх воінаў чуткі пра казачныя багацці сірыйскіх гарадоў і жрыцах у храме Іштар, якія прапануюць адважным воінам самыя вытанчаныя спосабы асалоды. Не ведаю, чаго чакаў Харэмхеб, але аднойчы ноччу праз умацаванні з боку сірыйскай пустэльні перапоўз худы і зняможаны ад смагі чалавек, які адразу здаўся дазорцам і папрасіў адвесці яго да Харэмхеба. Убачыўшы вярхоўнага ваяводу, чалавек нізка схіліўся, па егіпецкім звычаі апусціўшы да каленяў рукі, хоць быў апрануты ў сірыйскую вопратку, і потым прыклаў руку да вока, быццам яно моцна яму балела. Тады Харэмхеб спытаў:

— Што — можа, цябе ўкусіў гнаявік у тваё вока?

Я ў гэты момант таксама быў у шатры і падумаў, што Харэмхеб так па-дурному жартуе, бо гэтыя жукі — бяскрыўдныя істоты і нікога не кусаюць. Але чалавек адказаў:

— Сапраўды гнаявік укусіў мяне ў вока, бо ў Сірыі дзесяць разоў па дзесяць такіх жукоў і іх джалы поўныя атруты.

Тады Харэмхеб радасна ўсклікнуў:

— Вітаю цябе, адважны чалавек! Можаш казаць свабодна, бо гэты лекар — сапраўдны ёлуп і нічога не зразумее.

Але выведчык толькі і сказаў:

— Мой гаспадар, сена прывезенае.

Больш ён не дадаў ні слова, але я зрабіў выснову, што гэта Харэмхебаў выведчык. Харэмхеб паспешліва выйшаў з шатра і загадаў запальваць на вяршынях гор і ўзгорках сігнальныя вогнішчы, так што праз некалькі хвілін ад пераможных склаў аж да Ніжняй зямлі працягнуўся цэлы ланцуг агнёў. Такім чынам Харэмхеб паслаў у Таніс загад, каб караблі выходзілі ў мора і плылі да Газы, але ўступалі ў бой з сірыйскімі караблямі, толькі калі пазбегнуць сутычкі будзе немагчыма.

Наступным ранкам загучалі трубы, і войска рушыла праз Сірыйскую пустэльню. Наперадзе ішлі дружыны калясніц, расчышчаючы дарогу ад непрыяцельскіх загонаў і адзначаючы месцы пад адпачынак воінам. Як Харэмхеб збіраўся біцца з хетамі на адкрытай прасторы, я не мог сабе ўявіць. Але войска, марачы пра багатую здабычу, з ахвотай ішло за ім. Я ж, гледзячы на твары воінаў, бачыў на іх толькі цень смерці.



Аднак таксама сеў у насілкі і рушыў следам, пакідаючы ззаду пераможныя скалы і бялюткія косці егіпцян і хетаў, якія ляжалі побач па ўсёй перагароджанай умацаваннямі даліне.

### 3

А цяпер я мушу распавесці пра вайну ў Сірыі, хоць сказаць я магу няшмат, бо ў ваеннай справе нічога не разумею. Усе бітвы мне здаюцца падобнымі, і ўсе палаючыя гарады і разрабаваныя дамы, лямантуючыя жанчыны і знявечаныя целы выглядаюць аднолькава, дзе б гэта ні было. Таму мой аповед быў бы зусім аднастайны, калі б я ўзяўся апісваць усё, што бачыў на гэтай вайне. А вайна была жорсткая і бязлітасная, яна цягнулася тры гады, і шмат людзей ў гэты час загінула, сірыйскія пасяленні былі спустошаныя, сады высечаныя, а гарады абязлюдзелі.

Перадусім раскажу пра адну хітрасць Харэмхеба. Ён бясстрашна перайшоў з войскам сірыйскую мяжу, перакуліў памежныя камяні Азіру і рушыў далей, падбадзёрваючы воінаў блізкасцю вялікай здабычы і дазваляючы ім рабаваць гарады і мястэчкі ды забаўляцца з сірыйскімі жанчынамі. Ён ішоў прама да Газы, і хеты, убачыўшы яго намер, сабралі каля гэтага горада на раўніне вялікае войска, каб заступіць яму шлях і дашчэнту разбіць, бо роўная мясцовасць выдатна падыходзіла іх калясніцам. Хеты не сумняваліся ў перамозе. Але зіма ўжо даўно лягла на сірыйскую зямлю, і хетам даводзілася карміць коней сенам і кормам, якія яны куплялі ў сірыйскіх гандляроў. І вось перад бітвай іх коні раптам захварэлі, яны ледзь стаялі ў запрэжках, іх дзярмо стала зялёным і вадкім, і шмат коней здохла. Таму Харэмхеб лёгка справіўся з імі, бо сілы былі прыкладна роўныя, а перамогшы калясьнічныя дружыны, егіпецкае пешае войска разбіла і спалоханых хецкіх пехацінцаў, а лучнікі дакончылі справу, і хеты пацярпелі самую страшную паразу з усіх, якія толькі выпадалі на іхнюю долю, бо на полі бітвы іх засталося ляжаць значна болей, чым егіпцянаў. Таму гэтае месца і назвалі Полем мерцвякоў. Захапіўшы хецкі лагер, Харэмхеб першым чынам загадаў спаліць усе запасы конскіх кармоў, бо яны былі атручаныя: звычайная трава была перамяшаная з атрутнай, ад чаго хецкія коні і захварэлі і пачалі паміраць. Як Харэмхебу гэта ўдалося, я тады не ведаў.

Вось так Харэмхебу, які з'явіўся пад Газай, удалося разграміць войскі, якія трымалі крэпасць у аблозе. Рэшткі сірыйскіх і хецкіх войскаў пахаваліся за мурамі навакольных гарадоў. А егіпецкія караблі, якія вялі бой з караблямі сірыйцаў непадалёк ад Газы, увайшлі ў гэты час у гарадскую гавань. Марская бітва скончылася без выніку, бо егіпецкія караблі мусілі проста схавацца ў гавані (прычым некаторыя пайшлі на дно ўжо каля самага ўваходу ў порт, пакуль недаверлівы начальнік гарнізона вырашаў, ці варта адкрываць ім праход), а аб'яднаны сірыйскі і

хецкі флот паплыў у Цір і Сідон залапліваць там свае дзіркі. Бітва скончылася без перамогі аднаго з бакоў, бо абодва флаты пакінулі месца бою, але Харэмхебу і з гэтага ўдалося здабыць выгоду, бо ў выніку ён змог падвезці морам прыпасы ў Газу, а з яе адправіць у Егіпет параненых.

Дзень, калі брама непераможанай Газы адчыніліся перад войскамі Харэмхеба, дагэтуль святкуецца ва ўсім Егіпце і прысвячаецца багіні Сэхмет. У гэты дзень хлапчукі на вуліцах б'юцца палкамі і трысняговымі дзідамі, гуляючы ў аблогу Газы. Напэўна, ніводзін горад не абараняўся з такой упартасцю, і, бясспрэчна, начальнік гарнізона заслужыў славу і знакі пашаны, якімі яго асыпалі за абарону Газы. Таму я назаву яго імя, хоць ён і быў сведкам маёй ганьбы, калі мяне ў кашы ўсцягвалі на гарадскі мур. Гэтага чалавека звалі Ройю.

Воіны празвалі яго Бычыны карак, і гэтая мянушка выдатна яму пасавала, бо больш упартага і недаверлівага чалавека сустракаць мне не даводзілася. Пасля перамогі над хетамі Харэмхебавы воіны цэлы дзень марна дулі ў трубы пад мурамі Газы, пакуль Ройю нарэшце адважыўся адчыніць браму, упусціўшы ў горад аднаго Харэмхеба, каб упэўніцца, што гэта сапраўды ён, а не пераапрануты сірыйскі шпіён. Але і тады, калі Ройю зразумеў, што Харэмхеб разбіў хетаў і Газе нічога не пагражае, ён не вельмі ўзрадаваўся, а застаўся такім самым злосным і змрочным і распараджаўся ў горадзе так, быццам сам не павінен нікому падпарадкоўвацца.

Пра гэтага Ройю я хачу расказаць яшчэ, бо чалавек ён быў яўна прыдуркаваты і праз сваю неверагоднаю ўпартасць змог пасварыцца ў Газе з усімі. Відаць, яго ўпартасць была ўсё-ткі ўпартасцю вар'ята. Але ж трэба прызнаць, што каб не яна, Азіру і хецкія войскі даўно ўзялі б горад. Я думаю, нідзе ў іншым месцы Ройю не здабыў бы такіх славы і поспеху, і багі ці шчаслівы выпадак прызначылі яму месца менавіта ў Газе, адпаведна з яго характарам. Ён быў у свой час сасланы ў Газу за заўсёдныя спрэчкі з начальствам. Сярод узбярэжных гарадоў Газа лічылася самым нязначным і непрыкметным, і таму была выдатным месцам для ссылкі самых непакорлівых — пакуль падзеі не зрабілі яе важнейшым ваенным і палітычным пунктам. Але ж гэтым важнейшым пунктам Газа стала менавіта дзякуючы Ройю, калі ён адмовіўся перайсці пад уладу Азіру і парваў адносіны з саюзам сірыйскіх гарадоў.

Але спачатку я раскажу, як мы ўвайшлі ў Газу і як яна выглядала. Я ўжо казаў пра высокія муры крэпасці, і як я калаціўся ад страху, калі гэты самы Ройю загадаў усцягнуць мяне на мур у вялікім кашы, абварыўшы спачатку гарачай смалой мне калені і рукі. Гэтыя муры і ўратавалі Газу, бо былі збудаваныя з вялізарных каменных глыбаў у старадаўнія часы. Ніхто нават не памятаў, кім і калі яны будаваліся, і толькі казалі, што іх узводзілі нейкія асілкі. Таму хеты і не здолелі нічога



зрабіць, нягледзячы на ўсё сваё ваеннае майстэрства, хоць, праўда, сямтам пашкодзілі мур і нават абрынулі адну вартавую вежу, зрабіўшы пад ёй падкоп.

Стары горад па большасці цалкам згарэў, у ім не засталося ніводнага дома з цэлым дахам. А Новы горад, які месціўся па-за мурамі крэпасці, Ройю-Бычыны карак загадаў спаліць, як толькі даведаўся пра мяцеж Азіру. Ён зрабіў гэта ўласнай уладай і толькі таму, што ўсе ягоныя дарадцы былі супраць такога рашэння, а жыхары ўзнялі вялікі гвалт, пагражаючы яму ўсімі бедамі. Гэтым учынкам Ройю, сам таго не ведаючы, выклікаў паўстанне сірыйскіх насельнікаў горада, якое выбухнула заўчасна, калі нічога яшчэ не было гатова (бо Азіру думаў пачынаць такія паўстанні ў сірыйскіх гарадах толькі тады, калі пад іх мурамі апынуцца ягоныя войскі з баявымі калясніцамі). У выніку Ройю змог толькі сіламі свайго гарнізона задушыць гэтае паўстанне ў Газе, не звяртаючыся па дапамогу да фараона, якую той усё адно не паслаў бы. Паўстанне было задушанае з вялікай крывёй, а жыхары горада так запалоханыя, што з тае пары і не думалі больш паўставаць.

Калі да яго прыводзілі паўстанца, які без супраціву здаўся са зброяй у руках, Ройю казаў:

— Дайце гэтаму чалавеку кіюгай па галаве, бо ён супраціўляецца мне і просіць літасці.

Калі ж хто здаваўся і не прасіў літасці, Ройю казаў:

— Дайце гэтаму непакорліваму мяцежніку кіюгай па галаве, бо ён асмельваецца задзіраць перада мной нос.

Калі да яго прыходзілі жанчыны з дзецьмі, якія прасілі злітавацца з іх мужоў і бацькоў, ён бязлітасна загадваў іх забіць, заклікаючы:

— Вынішчыць гэтае сірыйскае кубло дарэшты, бо гэтыя людзі не разумеюць, што мая воля вышэй за іхнюю, як неба вышэй за зямлю!

І ніхто не мог дагадзіць яму, бо ў кожным слове ён бачыў непакорлівасць і абразу. А калі яму нагадвалі пра фараона, які забараніў праліваць кроў, ён ганарліва адказваў:

— У Газе я сам фараон!

Яго адольвала вялікая пыха, але трэба сказаць, што казаў ён усё гэта ў горадзе, абложаным варожымі войскамі.

Але аблога войскаў Азіру была яшчэ дзіцячай гульнёй у параўнанні з жорсткай і паслядоўнай вайной, якую вялі хеты. Днём і ноччу яны шпурлялі ў крэпасць і горад агонь, закідвалі праз муры падлу і гаршчкі, напоўненыя смяротна ядавітымі змеямі. З дапамогай ваенных машынам яны кідалі і звязаных палонных егіпцян, якія разбіваліся аб крапасныя муры. У горадзе нам трапілася мала ацалелых жыхароў, яны вылазілі са сваіх схованў страшна схуднелыя, жанчыны і старыя былі падобныя да ценяў, а дзеці ў Газе ўсе памерлі. Загінулі пад бізунамі

Ройю і амаль усе мужчыны, якіх ён прымушаў рамантаваць пашкоджаныя муры. Ніводзін жывы не радаваўся, гледзячы на егіпецкіх воінаў, якія ўваходзілі ў горад, наадварот — жанчыны махалі ім сваімі кашчавымі кулакамі, а старыя абсыпалі праклёнамі. Харэмхеб загадаў даць ім хлеба і піва, ад чаго многія ўначы сканалі ў пакутах, бо ўпершыню за шмат месяцаў наеліся ўдосталь і іх знясіленыя жываты не здолелі ператравіць столькі ежы. Але думаю, за час аблогі яны нагледзеліся такіх жахаў і перажылі такія пакуты, што жыццё было ім ужо не ў радасць.

Калі б я быў здольны, я хацеў бы паказаць Газу такой, якой убачыў яе ў дзень перамогі, калі нашы войскі прайшлі пад аркай разбітай брамы. Я апісаў бы высахлую чалавечую скуру, што вісела на гарадскіх мурах, насаджаныя на колле чалавечыя галовы, абкляваныя падлажэрамі, жудасныя руіны і закурадымленыя косці жывёл у завулках, заваленых абрушанымі сценамі будынкаў. Я расказаў бы пра невыносны смурод у абложаным горадзе, які прымушаў затыкаць насы воінаў Харэмхеба. Вось пра што мне хацелася б напісаць і патлумачыць, чаму ў гэты дзень доўгачаканае перамогі ў мяне на сэрцы не было радасці.

Я апісаў бы воінаў гарнізона Газы, якія засталіся жывымі, — іх рэбры, што выпіралі з-пад скуры, распухлыя калені, спаласаваныя бізунамі спіны. Я апісаў бы вочы гэтых людзей, зусім не падобныя на чалавечыя, — яны ў змроку свяціліся, як у драпежных звяроў. Абаронцы горада трэслі дзідамі і крычалі Харэмхебу: «Утрымлівайце Газу! Утрымлівайце Газу!» І невядома, ці крычалі яны гэта, каб пасмяяцца, хоць прычынаў смяяцца ў іх не было, ці проста таму, што гэта апошняя разумная думка, якая засталася ў іх бедных галовах. Але воіны ўсё ж былі не ў такім жахлівым стане, як іншыя жыхары горада, яны атрымлівалі ваду і харчаванне, а цяпер Харэмхеб загадаў зарэзаць для іх яшчэ быкоў і авечак і даць віна ды піва, — балазе, усяго гэтага было ўдосталь пасля таго, як войска захапіла хецкі лагер, а потым склады аблажнікаў. Але воінам Газы не хапіла цярпення дачакацца, пакуль мяса зварыцца ў катлах, яны хапалі сырыя кавалкі і разрывалі іх голымі рукамі, запіхвалі іх у рот і запівалі півам, хмялеючы ўжо ад першых глыткоў. Неўзабаве яны на ўсю глотку зацягнулі непрыстойныя песні і пачалі выхваляцца сваімі подзвігамі.

А пахваліцца ім сапраўды было чым, і таму ні Харэмхебавы навабранцы, ні нават вопытныя каляснічыя не спрабавалі спаборнічаць з імі ў пахвальбе, — яны разумелі, што воіны Газы ўчынілі немагчымае, утрымаўшы горад для Егіпта. А тыя, выхваляючыся, услаўлялі і Харэмхеба, які шчодра паіў іх цяпер віном, а ў час аблогі, каб падтрымаць, падсылаў начамі бадзёрыя весткі і хлеб. Яны ўзносілі хвалу хітрамудрасці Харэмхеба, дзякуючы якому, калі ў крэпасці скончыліся запасы хлеба і людзі палявалі на пацукоў, да іх цераз муры пачалі далятаць



запячатаныя гаршчкі са збожжам, якія перакідвалі самі ж хеты, і ў кожным гаршчку яны знаходзілі пасланні ад Харэмхеба: «Трымайце Газу!». Гэта ўмацоўвала іх адвагу і мужнасць, і Харэмхеб быў для іх падобны да бога.

Кожнага абаронца Газы, які застаўся жывы, Харэмхеб узнагародзіў залатым ланцугом, але нельга сказаць, што ад гэтага ён збяднеў: прыдатных да службы воінаў заставалася ўсяго каля дзвюх соцень. Гэта сапраўдны цуд, што ім удалося ўтрымаць Газу! Каб яны маглі пазабавіцца і забыць пра свае пакуты, Харэмхеб аддаў ім сірыйскіх жанчын, але тыя ад знямогі не маглі з імі пацешыцца, як звычайныя мужчыны, а таму цешыліся на хецкі лад — колючы кабет дзідамі ды рэжучы іх нажамі. Ад іх екатання яны адчувалі вялікую асалоду. І ўвогуле яны набылі шмат новых звычак за час хецкай аблогі: напрыклад, яны разразалі горлы і жываты жывым палоннікам і вывешвалі іх скуры на гарадскіх мурах. А жанчын яны катавалі за тое, што гэта былі сірыйскія жанчыны. Яны казалі:

— Не паказвайце нам сірыйцаў, бо калі мы хоць аднаго ўбачым, дык адразу зарэжам ці задушым голымі рукамі.

Бычынаму карку Ройю Харэмхеб уручыў каралі з каштоўных зялёных камянёў, аздобленых золатам і эмаллю, і залаты бізун, а потым загадаў воінам пракрычаць прывітанне ў гонар героя. Ройю падазрона памацаў каралі і спытаў:

— Можа ты, Харэмхеб, лічыш мяне за каня, калі ўпрыгожваеш такой збруяй? І скажы, гэты бізун з нашага чыстага золата або з нячыстага сірыйскага?

Ён крыху памаўчаў і дадаў:

— І выведзі сваіх воінаў з горада, бо іх тут занадта многа, яны непакояць мяне і бясконцым сваім гоманам перашкаджаюць мне спаць, хоць раней я на сон ніколі не скардзіўся і спакойна спаў у сваёй вежы, нягледзячы на грукат таранаў, бразгат зброі і шум пажараў. Напраўду кажу, выведзі іх з горада, бо ў Газе я — фараон, і я магу загадаць сваім воінам пакараць тваіх, калі яны не перастануць шумець і будуць перашкаджаць мне спаць.

Ройю-Бычыны карак і праўда не мог спаць з той пары, як знялі аблогу. Яму не дапамагалі ні сонныя зёлкі, ні віно, наадварот — ад выпітага ён спаў яшчэ горш. Ён усё ўспамінаў, якія прыпасы ляжаць на складах, як яны былі патрачаныя, ён імкнуўся ўспомніць усё да апошняй дробязі і ад таго ніяк не мог заснуць. Потым ён з'явіўся да Харэмхеба і пакорліва сказаў:

— Ты мой уладар і ты вышэй за мяне. Таму загадай мяне пакараць, бо я абавязаны даць фараону справаздачу за ўсё, што ён мне даверыў, а я не магу зрабіць гэтага, бо ўсе дакументы згарэлі, калі хецкі гаручы

гаршчок трапіў у мой пакой. А мая памяць болей не служыць мне, яна аслабела ад турботаў і бяссоння. Я, здаецца, успомніў усё, апроч аднаго. У мяне на складзе было чатыры сотні асліных падхвоснікаў, а цяпер я не магу іх нідзе знайсці, і мае пісары таксама не могуць, хоць я штодзень лупцую іх бізунамі так, што яны не могуць ні сядзець, ні хадзіць, а толькі поўзаюць на карачках. Харэмхеб, я не ведаю, куды яны дзеліся, гэтыя чатырыста асліных падхвоснікаў, бо мы ўжо даўно з'елі ўсіх аслоў у горадзе і гэтая збруя нам была непатрэбная. У імя Сэта і ўсіх ягоных нячысцікаў, Харэмхеб, адлупцуй мяне за гэты падхвоснікі, бо я баюся фараонава гневу і не магу з'явіцца яму на вочы, пакуль я не знайду тыя падхвоснікі, як таго патрабуе мая годнасць.

Харэмхеб паспрабаваў яго супакоіць, сказаўшы, што падаруе яму чатыры сотні падхвоснікаў, каб усе лічбы ў справаздачы супалі, але Ройю ад такой прапановы расхваляваўся яшчэ болей і закрычаў:

— Ты, напэўна, хочаш назаўсёды пагубіць мяне ў вачах фараона! Калі я вазьму ў цябе гэтыя падхвоснікі, гэта ўжо не будуць тыя самыя, што трапілі на мае склады і якія фараон літасціва даверыў мне зберагаць, як начальніку Газы! Ты хочаш зганьбіць мяне перад фараонам і злавіць мяне на хлусні, бо зайздросціш маёй вялікай славе і хочаш стаць галоўным начальнікам у Газе! Можа, гэта твае паганцы і ўкралі ў мяне гэтыя падхвоснікі, каб ты мог абвінаваціць мяне і стаць галоўным у горадзе? Але я адмаўляюся ад тваёй падступнай прапановы і не вазьму тваіх падхвоснікаў, бо я адзін адказваю за Газу і буду ўтрымліваць яе да апошняга са сваімі воінамі. А тых чатырыста падхвоснікаў я знайду, хоць бы мне дзеля гэтага давялося перакапаць па каменьчыку ўсю Газу!

Пачуўшы гэта, Харэмхеб занепакоіўся аб душэўным здароўі Ройю і прапанаваў яму паехаць адпачыць у Егіпет з жонкай і дзецьмі. Але прапанаваць такое Ройю было не варта: гэта толькі пацвердзіла яго падазрэнні наконт Харэмхебава жадання заняць самую высокую пасаду ў Газе і пазбавіцца ад яго. І ён так адказаў Харэмхебу:

— Газа — вось мой Егіпет, муры Газы — вось мая жонка, а вартавыя вежы — вось мае дзеці. Але я распароў бы жывот сваёй жонцы і пазабіваў бы дзяцей, каб толькі знайсці тыя падхвоснікі!

Не сказаўшы ні слова Харэмхебу, ён загадаў пакараць смерцю пісарчука, з якім перажыў усе пакуты хецкай аблогі, і раскапаць рыдлёўкамі ды разбіць ламамі падлогу ў вартавых вежах, шукаючы няшчасныя падхвоснікі. Даведаўшыся пра такое свавольства, Харэмхеб загадаў зачыніць яго ў пакоі, паставіў да дзвярэй вартавых і звярнуўся да мяне па параду. Я пагутарыў з Ройю самым ветлівым чынам, хоць ён не выказваў ніякай дружалюбнасці і падазраваў, што я таксама кваплюся на яго месца. Пасля размовы я сказаў Харэмхебу:

— Гэты чалавек не супакоіцца, пакуль ты не выйдзеш са сваімі воінамі з Газы і ён не зачыніць за вамі браму, пачаўшы нарэшце ўладарыць у горадзе, як фараон.

— У імя Сэта з усімі нячысцікамі! — усклікнуў Харэмхеб.— Як жа я магу пайсці, калі з Егіпта не прыйшлі караблі з падмацаваннямі, зброяй і харчамі, без якіх мне не выйсці ў паход на Яфу. Муры Газы — мая адзіная абарона, і пакінуўшы іх, я магу страціць усё, чаго дабіўся з такімі цяжкасцямі.

Я падумаў і няўпэўнена прапанаваў:

— Можа, для яго самога было б шчасцем, каб я ўскрыў яму чэрап і паспрабаваў вылечыць? Ён вельмі пакутуе, і яго трэба прывязаць да ложка, інакш ён нашкодзіць табе і сабе.

Але Харэмхеб не захацеў, каб ускрывалі чэрап самаму славутаму егіпецкаму герою, бо, калі б Ройю памёр, гэта пашкодзіла б славе самога Харэмхеба. Таму ён паслаў да Ройю мяне, і з дапамогай некалькіх дужых воінаў я змог прывязаць яго да ложка і напаіць супакаяльным зеллем. Але яго вочы па-ранейшаму свяціліся зялёным агнём, як у драпежніка, ён з усяе сілы выпручваўся і, пырскаючы пенай, у шаленстве крычаў:

— Ці я ўжо не начальнік у Газе, ты, шакал Харэмхеба!? Я ўспомніў: у мяне ў сутарэнні сядзіць адзін сірыйскі віж, я пасадзіў яго туды перад прыходам твайго гаспадара! Я проста забыўся павесіць яго ўніз галавой на гарадскім муры! Але цяпер я зразумеў, што якраз гэты праклятый зламыснік і вінаваты ў тым, што мае чатыры сотні падхвоснікаў невядома куды зніклі. Прывядзіце яго, і я прымушу яго іх знайсці! Прывядзіце яго хутчэй і дайце мне спакойна заснуць!

Ён яшчэ доўга лютаваў і крычаў пра сірыйскага выведчыка. Тады мне нарэшце надакучыла яго слухаць, і я, загадаўшы прынесці паходню, пайшоў у падзямелле, дзе прыкаваныя да сценаў ланцугамі сядзелі вязні. Вартаваў вязенне сляпы дзед, які аслеп, бо ўсё жыццё правёў у сутарэннях Газы і навучыўся хадзіць па заблытаных падземных праходах без агню. Я спытаўся ў яго пра сірыйскага шпіёна, якога ўзялі ў палон перад самым канцом аблогі, але ён пакляўся, што такога не ведае. Ён запэўніваў мяне, што ўсе вязні даўно ўжо памерлі, бо Ройю пасля таго, як аднойчы выклікаў іх на допыт, потым загадаў больш не карміць. Але я добра ведаю людзей, і таму не паверыў старому, пагразіўшы жорсткім пакараннем. Тады ён кінуўся на калені і загаласіў:

— Злітуйся, мой гаспадар, я ўсё жыццё аддана служыў Егіпту, дзеля яго я катаваў палонных і адбіраў у іх ежу. Але гэта шпіён не такі, як усе, ён мае дзівосны язык і заліваецца салаўём. Ён абяцаў мне вялікае багацце, калі я буду карміць яго і зберагу яму жыццё да прыходу Харэмхеба. А яшчэ ён абяцаў вярнуць мне зрок, бо некалі ён сам быў сляпы, але адзін цудадзейны лекар вылечыў яму вока, і ён абяцаў, што

прывядзе мяне да гэтага лекара, каб той зрабіў мяне відушчым і я мог жыць у горадзе сярод людзей, карыстаючыся сваім багаццем, бо за хлеб і ваду, якія я насіў яму, ён мне вінаваты больш за два мільёны дэбенаў золатам. Праўда, я не сказаў яму, што Харэмхеб ужо ў Газе, бо хацеў каб яго доўг яшчэ павялічыўся. А ён хацеў, каб я таемна правёў яго да Харэмхеба, як толькі той увойдзе ў Газу, і запэўніваў мяне, што яго зараз жа вызваляць і ўзнагародзяць залатым ланцугом. Я верыў яму, бо супраць яго языка не ўтрымаешся, але я збіраўся павесці да Харэмхеба, калі яго доўг дасягне трох мільёнаў, бо гэта круглая лічба і мне лягчэй трымаць яе ў галаве.

Я слухаў старога і адчуваў, як калені ў мяне пачынаюць калаціцца і сэрца робіцца млявым, нібы ператвараючыся ў ваду. Я здагадваўся, пра каго ён кажа. Але, стрымаўшыся, сказаў:

— Дзед, столькі золата няма ва ўсім Егіпце разам з Сірыяй. І, мяркуючы па тваіх словах, гэты чалавек вялікі круцель і хлус і заслугоўвае жорсткага пакарання. Зараз жа вядзі мяне да яго і маліся багам, каб з ім не здарылася нічога дрэннага, бо за яго ты адкажаш сваёй дурною сляпой галавой.

Роспачна галосячы і заклікаючы на дапамогу Амона, дзед павёў мяне ў дальні канец пячоры, які заваліў каменнем, каб воіны Ройю не знайшлі яго. Пасвяціўшы паходняй, я згледзеў прыкаванага да сцяны чалавека ў сірыйскай вопратцы. Яго спіна бала пасечаная бізуном, а скура на жываце звісала да самых каленяў. Ён глядзеў на мяне адзіным вокам, адсланяючы яго рукой ад яркага святла, якое пасля доўгага сядзення ў цемры прычыняла яму рэзкі боль. Вязень сказаў:

— Ці гэта ты, мой гаспадар Сінухе? Блаславёны той дзень, які прывёў цябе да мяне! А цяпер пасляшайся загадаць, каб сюды прывялі каваля і разбілі гэтыя ланцугі, ды прынясі мне гарлач піва, бо гэта дапаможа мне забыцца на свае беды і пакуты, а яшчэ загадай сваім рабам нацерці мяне самым лепшым алеем, бо я прывык да раскошы, а гэтыя цвёрдыя камяні сцерлі ўсю скуру на маёй задніцы. Я не буду пярэчыць, калі ты загадаеш падрыхтаваць мне мяккі ложак і прыслаць некалькі дзеў з храма Іштар для ўцехі — як ты можаш бачыць, мой вялізны жывот цяпер не перашкодзіць мне ў любоўных забавах, хоць за некалькі дзён я з'еў хлеба на два мільёны дэбенаў.

— Каптах, Каптах,— сказаў я, апускаючыся каля яго на калені і абдымаючы яго пакусаныя пацукамі плечы. — Цябе не выправіць і магіла! А ў Фівах казалі, што ты загінуў. Праўда, я не верыў гэтаму і вось, у пацверджанне сваіх думак, знайшоў цябе. Як я рады, што ты жывы!

Каптах адказаў:

— А ты, мой гаспадар, такі самы пустабрэх, як раней! Больш не кажы мне пра багоў, бо ў сваіх няшчасцях я ім маліўся ўсім, якіх толькі



ведаю,— і вавілонскім, і хецкім, але ніводзін не дапамог мне. Я толькі разарыўся праз хцівасць гэтага турэмшчыка! Адзін наш скарабей дапамог мне! Гэта ён прывёў цябе сюды! А начальнік гарнізона — вар'ят: ён не верыць ніводнаму разумнаму слову, і загадаў сваім воінам абабраць мяне да ніткі ды расцягнуць на коле — так, што я роў нема. Але нашага скарабея я, на шчасце, збярог, хоць схованка ў яго было не прыдатнае для любога іншага бога. Я схаваў яго ў адно хітрае месца на целе... Але ж яму яно добра падышло, калі ён прывёў цябе да мяне! Такі цуд мог здарыцца толькі па яго свяшчэннай волі.

І ён паказаў мне скарабея, усяго запэцканага тым, што выходзіць з хітрага месца, дзе Каптах хаваў яго. Я загадаў кавалям раскаваць ланцугі і павёў Каптаха ў свае пакоі, бо ён аслабеў і не мог глядзець на святло. Там я распарадзіўся, каб рабам памылі яго, нацерлі вохнымі масцямі і апранулі ў тонкае адзенне, а тады надзеў на яго свой залаты ланцуг, бранзалеты ды іншыя аздобы, якія надалі яму адпаведны ягонай годнасці выгляд. І ўвесь час, пакуль рабы завіхаліся вакол яго, Каптах еў мяса, піў віно і задаволена адрыгваў. А яго былы вартаўнік безупынна грукаў у дзверы і крычаў, што Каптах вінаваты яму два мільёны трыста шэсцьдзесят пяць тысяч дэбенаў золатам за тое, што, рызыкуючы жыццём, ён цягаў яму харчы з гарнізонных свірнаў. З усяго гэтага я зрабіў выснову, што ў Газе, апроч начальніка Ройю, ёсць і іншыя вар'яты. Нарэшце гэты дзед мне ўстыў, і я сказаў Каптаху:

— Харэмхеб ужо другі тыдзень як у Газе, а гэты дзед падманваў цябе! А таму ты нічога яму не вінаваты. Я зараз загадаю адлупцаваць яго, а калі хочаш, нашы воіны проста яго прыб'юць, бо ён хлуслівы стары, на якім ляжыць віна за шмат смярцей.

Але Каптах жахнуўся такім словам і, пачаўшы нават заікацца, доўга піў разведзенае віно, а потым сказаў:

— Прэч, прэч, прэч! Я чалавек сумленны, дый гандляру не да твару адмаўляцца ад сваіх абяцанняў і абавязкаў. Мне важна аберагаць сваё добрае імя, і я не жадаю нікога падманваць! Праўда, ва ўсім Егіпце не набярэцца гэтулькі золата, колькі я вінаваты старому. Проста я думаў, што мне давядзецца памерці праз дурасць начальніка Газы, вось я і вырашыў пажартаваць ды наабяцаў усяго. А калі б я ведаў, што выжыву, дык таргаваўся б самым зацятым чынам!

Я пацёр вочы і ўражана паглядзеў на Каптаха:

— Ці гэта і праўда ты, Каптах? Не магу даць веры. Напэўна, гэтыя крапасныя муры зачараваныя злым чараўнікам і кожны, хто затрымліваецца тут надоўга, з'язджае з глузду. Вось і ты звар'яцеў і стаў зусім не такі, як раней. Ты напраўду хочаш заплаціць яму гэты доўг? Але як ты гэта зробіш? Я думаў, што пасля разгрому царства Атона ты стаў такі ж бедны, як я, бо таксама страціў усё багацце.

А Каптах, адпіўшы віна, адказаў:

— Я чалавек рахманы, шаную багоў і трымаю слова, а таму думаю заплаціць свой доўг старому да апошняга дэбена. Але ён павінен даць мне пэўны тэрмін. Не думаю, зрэшты, што ён нават разумее, колькі золата я яму вінен. Ён задаволіўся б, напэўна, і некалькімі дэбенамі, бо яўна ніколі ў жыцці не трымаў золата ў руках. Ён быў бы рады атрымаць і адзін дэбен, але гэта не вызваляе мяне ад дадзенага слова і ўзятых абавязкаў. Не ведаю нават, дзе мне ўзяць столькі золата! Я сапраўды шмат страціў падчас хваляванняў у Фівах, кінуўшы ўсю маёмасць, калі рабы і насільшчыкі ўзялі раптам у галаву, што я прадаў іх Амону, і вырашылі мяне забіць. Я ўцёк у Мемфіс і, сустрэўшы там Харэмхеба, зрабіў яму вялікую паслугу, а калі мне давялося ўцячы і з Мемфіса, бо нянавісць рабоў дастала мяне і там, то я зрабіў яму яшчэ большую паслугу, будучы ўжо ў Сірыі, дзе гандляваў збожжам, прадаючы яго хетам разам з кармамі для коней. Думаю, Харэмхеб вінен мне не менш за паўмільёна дэбенаў а мо нават і больш, бо мне давялося кінуць увесь свой гандаль і ратавацца ў Газе, куды я даплыў на хліпкім чоўне, падстаўляючы сваё жыццё вялікай небяспецы. Але я не мог і падумаць, што ў Газе мяне чакае яшчэ большая небяспека, бо гэты звар'яцелы начальнік загадаў арыштаваць мяне як сірыйскага выведчыка і расцягваць на коле! Ён абавязкова вывесіў бы маю скуру сушыцца на муры, каб не гэты прастадушны дзед, які абвясціў, што я памёр, і схаваў мяне. Таму я проста абавязаны аддаць яму доўг.

Тады нібы заслона ўпала з маіх вачэй. Я зразумеў, што Каптах быў самым лепшым і галоўным выведчыкам Харэмхеба ў Сірыі і што той зняможаны ганец, які прабраўся ўначы ў лагер каля пераможных скалаў і прыкрываў адно вока рукой, даваў зразумець, што яго паслаў аднавокі. І яшчэ я зразумеў, што ніхто, апроч Каптаха, не змог бы выканаць такое даручэнне, бо ва ўсім свеце не было чалавека хітрэйшага і разумнейшага ў сваёй хітрасці. Але я сказаў:

— Можа, Харэмхеб, і праўда, вінен табе шмат золата, але ж лягчэй золата выціснуць з каменя, чым атрымаць ад Харэмхеба. Табе ж добра вядома, што ён свае даўгі не вяртае.

— Вядома,— згадзіўся Каптах.— Я добра ведаю, што Харэмхеб чалавек няўдзячны — нават больш няўдзячны, чым мясцовы начальнік, дзеля якога я падманам прымушаў хетаў перакідваць у горад гаршчкі са збожжам. Хеты думалі, што ў тых гаршчках змеі, якіх я старанна збіраў па пустэльні, і я ў іх на вачах нават разбіў адзін гаршчок, у якім сапраўды былі змеі, і тыя пакусалі траіх воінаў, якія адразу сканалі,— так што ў хетаў больш не было жадання правяраць мае гаршчкі, напоўненыя не змеямі, а зернем. Яны нават добра заплацілі мне! Напраўду кажу: кожнае зярнятка, якое трапіла ў Газу такім чынам, мае залатую цану! А можа, і большую, бо, апроч збожжа, трэба таксама ўлічыць і тое, як брыдка да мяне паставіліся ў Газе! Безумоўна, я не разлічваю атрымаць ад Харэмхеба нічога. Але будзе добра, калі ён упаўнаважыць мяне збіраць падаткі на ўзбярэжжы і ва ўсіх іншых гарадах Сірыі, якія заваюе, а таксама аддасць у мае рукі ўвесь гандаль соллю ў Сірыі, ну і яшчэ сёетое,— вось тады я змагу быць цалкам задаволены.



Гэтыя развагі Каптаха былі мудрыя, але здзіўленне мяне не пакідала, і я спытаў:

— Але няўжо ты напраўду збіраешся плаціць старому аслу ўвесь доўг, працуючы да знямогі рэшту свайго жыцця?

Каптах глынуў віна і адказаў:

— Напраўду, варта паляжаць хоць бы тыдзень-другі на голых камянях у цемры ды папіць смярдзючай вады, каб спасцігнуць сапраўдную цану мяккім крэслам, сонечнаму святлу і смаку віна. Не, Сінухе, я не такі дурны, як ты думаеш. Але слова ёсць слова, і табе давядзецца палячыць старога дурня, як я яму абяцаў. Тады мы з ім згуляем у цыркі — а ён, як я высветліў, пакуль не страціў зрок ад вечнай цемры ў сутарэннях крэпасці, быў зацятым гульцом. Дык вось, я згуляю з ім у цыркі і не буду вінаваты роўна столькі, колькі ён мне прайграе. А як ты можаш здагадацца, нашы стаўкі ў гульні будуць вельмі вялікія.

Я зразумеў, што ў Каптаха гэта адзіная магчымасць зберагчы годнасць і пазбавіцца ад непасільнага доўга, бо ён быў майстрам гульні, асабліва калі сам падбіраў цыркі. Таму я абяцаў зрабіць усё магчымае, каб вярнуць старому зрок — хоць бы да такой ступені, каб ён мог тыя цыркі разгледзець, а Каптах абяцаў паслаць Муці столькі срэбра, колькі трэба, каб адбудаваць спалены дом былога медніка і жыць у Фівах заможна. Так мы і дамовіліся, а тады паклікалі старога. Каптах запэўніў яго, што заплаціць увесь доўг, калі той дасць яму адтэрміноўку. Тым часам я ўважлівей агледзеў дзедавы вочы і пераканаўся, што прычына слепаты не ў вечнай цемры, а ў запушчанай хваробе, якую ніхто не лячыў. І ўжо на другі дзень я вярнуў яму зрок, апрацаваўшы вочы іголкай так, як мяне навучылі ў Мітанні. Але як доўга працягнецца дзеянне такога выздараўлення, я не ведаў, бо плеўка на вачах, якую такім чынам здымаюць, хутка зноў нарастае, і тады слепата робіцца невылечнай.

Я завёў Каптаха да Харэмхеба, і той вельмі ўзрадаваўся, назваўшы яго героем і запэўніўшы, што Егіпет ніколі не забудзе вялікіх подзвігаў, якія Каптах здзейсніў дзеля ўратавання краіны, здзейсніў проста так, не чакаючы і не патрабуючы ні славы, ні ўзнагароды.

Але чым далей гаварыў Харэмхеб, тым болей выцягваўся твар Каптаха. Урэшце, ён не вытрываў і, залліваючыся слязьмі, загаласіў:

— Ты паглядзі на мяне, паглядзі на мой жывот! Ён абвіс і абмяк, як

парожні мех! І усё гэта на тваёй службе! Паглядзі на маю збітую спіну і на тое, што трошкі ніжэй! Паглядзі на мае вушы, абгрызеныя пацукамі ў сутарэннях Газы! Ты кажаш мне пра ўдзячнасць Егіпта, але ці ўзнікне праз яе хоць адзін кавалачак хлеба ў маім жываце? А можа гэтая твая ўдзячнасць прынясе мне жбан віна, каб прамачыць перасохлае горла? А дзе тыя мяшкі золата, якія ты абяцаў за мае подзвігі? Не бачу я іх, хоць верыў, што ты мне выдзеліш частку нарабаванай табою здабычы. Не, Харэмхеб, мне не патрэбная твая ўдзячнасць, я прашу цябе аддаць доўг, як гэта прынята паміж сумленнымі людзьмі, бо я таксама маю абавязкі перад іншымі і праз цябе аказаўся вінен столькі, што ты не можаш сабе нават уявіць! Табе такі доўг і не сніўся!

Але як толькі Харэмхеб пачуў слова «золата», яго лоб пакрыўся зморшчынамі, і ён пачаў нецярпліва хвастаць сябе па назе залатым бізуном. Нарэшце ён сказаў:

— Твае словы — зыканне мухі ў маіх вушах, у іх няма ні сэнсу, ні розуму, а ў тваім роце смярдзючая куча! Ты выдатна ведаеш, што ў мяне няма здабычы, ад якой я магу выдзеліць табе частку, а золата, якое я здабываю, ідзе на вайну з хетамі. Ты таксама ведаеш, што я чалавек бедны, і адзіная мая ўзнагарода — гэта мая слава. Адзінае, што я магу зрабіць для цябе,— гэта сабраць усіх, каму ты вінен, і павесіць на гарадскім муры. Гэта вызваліць цябе ад даўгоў.

Але Каптах не хацеў вызваляцца ад даўгоў такім чынам. Тады Харэмхеб нявесела ўсміхнуўся і, зноў хвастануўшы сябе па назе бізуном, сказаў:

— Усякі багаты чалавек — злачынца, бо шмат золата можа сабраць толькі той, хто бязлітасна рабуе беднякоў. Напраўду кажу: я любому багацею знайду адпаведную віну, і ніхто не назаве мяне несправядлівым, бо і сам вінаваты будзе ведаць, што ён вінаваты. А цяпер я хачу даведацца ад цябе, Каптах, як сталася, што Ройю, начальнік гарнізона Газы, пачаў расцягваць цябе на коле, як сірыйскага шпіёна, а потым кінуў у вязніцу? Ён вар'ят, але ж і сапраўдны воін, і каб зрабіць з табою такое, мусіў мець важкую падставу.

У адказ Каптах пачаў ірваць на сабе дарагую вопратку, паказваючы, што ні ў чым не вінаваты,— тым болей што вопратка належала мне, і ён не губляў нічога. Ён біў сябе ў грудзі і што было моцы крычаў:

— Харэмхеб, Харэмхеб! Ці ж не ты толькі што казаў пра ўдзячнасць?! А сам адразу і кляпаеш на мяне! Ці не я атручваў хецкіх коней і перасылаў збожжа ў Газу? Ці не я наймаў адважных людзей і пасылаў да цябе перадаць звесткі пра хецкае войска? Ці не я падкупляў рабоў, каб яны нажамі рабілі дзюркі ў скураных мяхах з вадой, калі хеты на калясніцах ехалі ў пустэльню на бітву з табою? Усё гэта я рабіў дзеля цябе і Егіпта, не думаючы пра ўзнагароду! Але каб Азіру і хеты мне верылі, я лічыў магчымым рабіць ім некаторыя паслугі, якія і табе не прыносілі б шкоды. Таму, калі, ратуючыся ад раз'юшаных хетаў, якія вінавацілі мяне ў паморку коней і паразе на Полі мерцвякоў, я ўцёк у Газу, у мяне была ахоўная гліняная таблічка ад Азіру, бо разумны чалавек не спадзяецца на адну стралу, а мае іх багата ў сваім калчане. Якая табе была б ад мяне карысць, каб я мудра не засцерагаўся ад усіх непрыемнасцяў? Я ўзяў у Азіру ахоўную таблічку на выпадак, калі б хеты авалодалі Газай раней за цябе, а яны авалодалі б, калі б ты хоць крыху затрымаўся. Таблічку я надзейна схаваў пад вопраткай, але гэты Ройю — чалавек вельмі недаверлівы. І калі яго воіны разадралі на мне вопратку і знайшлі гэтую таблічку, Ройю не паверыў ніякім знакам і загадаў мяне расцягваць на коле, пакуль я не зароў, як бык, і не прызнаўся, што я сірыйскі шпіён.

Харэмхеб зарагатаў і сказаў:

— Вось табе і ўзнагарода за тваю працу, мой любы Каптах! Я ведаю цябе, а ты ведаеш мяне, і кінь свае бязглуздыя размовы пра золата: яны мяне вельмі ўзрушваюць і могуць нават раззлаваць!

Але Каптах заўпарціўся і змог вытаргаваць у Харэмхеба аднаасобнае права скупляць і прадаваць усю ваенную здабычу ў Сірыі. Ён атрымаў выключнае права купляць у воінаў або мяняць на піва, віно, цыркі для гульні ды жанчын усю здабычу, якую ўзялі з хецкага стану на Полі мерцвякоў і з лагера абложнікаў Газы. Апроч таго, ён атрымаў права купляць і абменьваць тыя часткі здабычы, якія належалі Харэмхебу і фараону, каб забяспечваць войска ўсім неабходным у вайне рыштункам. Толькі адно гэта права магло азалаціць яго, бо ў Газу прыплывалі гандляры з Егіпта і прыходзілі гандляры з сірыйскіх гарадоў, не баючыся дзеля нажывы ні хетаў, ні Азіру, але цяпер ніводзін з іх не мог гандляваць у Газе, не заплаціўшы з кожнай здзелкі адпаведнай пошліны Каптаху. Але Каптах не задаволіўся і гэтым і запатрабаваў сабе такое самае права на здабычу, якую войскі Харэмхеба возьмуць у Сірыі. І Харэмхеб згадзіўся, бо такая згода яму нічога не каштавала, а гандляром ён не быў. Каптах жа, у сваю чаргу, абяцаў шчодра яго ўзнагародзіць.

Але ўсё адно Каптах застаўся незадаволены. Харэмхебавы словы глыбока яго пакрыўдзілі, і калі мы вярнуліся да сябе, ён пачаў скардзіцца на чалавечую няўдзячнасць:

— Што ж ненатуральнага, калі мудры чалавек хоча быць на баку пераможцы і загадзя клапоціцца, каб апынуцца з ім побач,— незалежна ад таго, які бок пераможа? Дый не мог я, жывучы ў Сірыі, не рабіць паслугаў Азіру і хетам! А што, калі б Харэмхеб пацярпеў паразу? Тады мне проста давялося б аддаць Газу хетам, хоць я гэтага і не хацеў, бо хеты разбіраюцца ў гандлёвых справах лепш за Харэмхеба, а значыць,

выгады ад іх я меў бы нашмат менш. На шчасце, нічога такога не адбылося. Але напраўду, няўдзячнасць — вось адзіная ўзнагарода чалавеку на гэтым свеце. Вось і рабы ды насільшчыкі ў Фівах таксама праклінаюць маё імя, хоць я паіў іх віном, купляў ім — за тваё, праўда, золата, мой гаспадар,— зброю, падвяргаючыся смяротнай небяспецы перад Амонам, бо Амон ніколі мне гэтага не дараваў бы, калі б я не накіраваў людзей Пэпітамона на патаемны збройны склад, што належаў рабам, і не аддаў бы ім у рукі правадыра насільшчыкаў, убачыўшы, што справы Атона зусім дрэнныя. І шкоды ад таго не было нікому — наадварот, гэта ўратавала шмат жыццяў, а верхаводы рабоў ды насільшчыкаў усё адно трапілі б да Амона. І нельга мяне вінаваціць у тым, што Эйе з Пэпітамонам загадалі кідаць людзей у ваду на спажыву кракадзілам. А колькі я сам страціў ад таго, што згарэў мой «Кракадзілаў хвост»? У мяне там у задніх пакоях ды сутарэннях было схавана столькі дабра, скупленага ў рабоў і насільшчыкаў па добрай цане ці вымененага на віно! А яшчэ больш я страціў, калі яны пачалі мяне пераследаваць і спалілі мае свірны, млыны і дамы, хоць у Фівах тады было ўжо спакойна. Але ж яны вінавацілі мяне ў сваёй паразе! Яны ганяліся за мной паўсюль, і жыццё маё было ўвесь час у небяспецы, нягледзячы на прыстаўленых да мяне ахоўнікаў. Так было ў Фівах, а потым яны саткнуліся з карабельнай прыслугай і пераслалі звесткі пра мяне ў Мемфіс, так што і там небяспека была вялікая. І хоць Харэмхеб загадаў даць мне ахову, мне ўсё адно давялося ўцякаць у Сірыю. Але, на шчасце, усё скончылася добра, і я зноў разбагацею, а калі вайна скончыцца, буду яшчэ багацейшы, чым раней, а можа, нават самым багатым чалавекам у Егіпце,— вядома, калі Харэмхеб пераможа. Дый я пакуль і не сумняваюся ў яго перамозе і буду старанна і пачціва маліць аб ёй нашага скарабея. Я буду націраць яго каштоўным алеем і прыносіць яму ахвяры са свежага гною. Як мне надакучылі хеты! Гэта такія сквапныя людзі, што запісваюць кожную дробязь, і красці ў іх вельмі цяжка. Але вярнуся да няўдзячнасці фіванскіх рабоў: ты сам бачыў, Сінухе, як я іх падтрымліваў, пакуль улада была ў іх руках і мне была з таго хоць якая карысць! І няма нічога дрэннага, што я перадаваў жрацам Амона звесткі пра іх дзеянні, называў імёны іх важакоў ды іх прыкметы,— калі б рабы перамаглі, ім ад усяго гэтага не было б ніякай шкоды! А вось калі яны не перамаглі, дык я затое збярог сваё жыццё і прыхільнасць Амона. Безумоўна, я ведаю, што такія паводзіны лічацца непрыстойнымі і невысакароднымі, і ведаю, што ты, мой гаспадар Сінухе, не адабраеш іх, але ты заўсёды быў чалавекам дурнаватым і прастадушным, такая ўжо твая прырода, а я ўсяго толькі былы раб і нарадзіўся ў глінянай хатцы, і мне ніколі ніхто не дапамагаў стаць на ногі, калі я спатыкаўся і падаў. Таму я сам павінен клапаціцца пра свой дабрабыт і



сваю выгаду, і ніколі я не разумеў, якая карысць чалавеку ад ягонага высакародства, калі ён будзе валяцца ў брудзе з перарэзаным горлам. Не, Сінухе, мудры заўсёды стаіць на баку пераможцы, і не варта лічыць гэта нечым ганебным — лепей ушанаваць мудрасць, якая аблягчае чалавеку жыццё і прыносіць вялікую карысць.

Так прамаўляў да мяне Каптах, але яго мудрасць атручвала кожны глыток выпітага мною віна, і, думаючы над яго словамі, я міжволі ўспамінаў усё, што чынілася вакол, і з засмучэннем мусіў прызнаць, што ў яго мудрасці якраз і ляжыць сутнасць зямнога жыцця, а ўсё, што па-за ёй,— гэта ўсяго толькі сон і мроі. Я сядзеў у крэпасці, на мурах якой віселі высахлыя чалавечыя скуры, удыхаў смурод згнілых целаў і думаў пра марнасць быцця. Марнае геройства, марная хітрасць, марная высакароднасць, добрыя ўчынкі не лепшыя за злыя, і не было ў маіх вачах ніякай розніцы паміж добрым і злым, бо ўсе здзяйсненні чалавека ва ўсе дні яго жыцця — марныя. Тым часам Каптах прыслухоўваўся да гоману п'яных воінаў унізе на закопчаных вуліцах горада, да віскату жанчын у шатрах гандляроў і, склаўшы рукі на грудзях, з самазадаволеным выглядам працягваў:

— Дык хіба ж мая мудрасць, Сінухе, не сапраўдная? Ты сам — яе жывое пацверджанне, ты — бедны чалавек, які страціў сваё немалое багацце праз сваю неразумную слабасць. Ты ж быў багаты, мабыць, самы багаты ва ўсім Егіпце, пакуль па дурасці не загадаў патраціць сваё багацце на хлеб для Атона, каб накарміць галодных. У цябе сапраўды было ўсё, што можа пажадаць чалавек у сваім сэрцы, у цябе была любая жонка, хоць ты і не разбіў з ёю гаршчок, у цябе быў сын, а ты ў бязмежнай дурасці ахвяраваў імі, аддаўшы на смерць. Вось ты і сядзіш, Сінухе, перада мной збяднелы і са смуткам у сэрцы, і твар твой моршчыцца, нібыта ты ясі кіслы плод, а мне — добра, ад маёй скуры ідзе водар каштоўных масцяў, мяне грэе віно, і кожная кропля піва, якую выпівае воін там, унізе, дадае грошай у мой кашэль, а віскат жанчын у шатрах гандляроў гучыць, як звон медзі, якая падае ў мой куфры. Дык не ўпарціся ў сваім глупстве, Сінухе, а жыві як чалавек сярод людзей, успрымай жыццё такім, якім яно ёсць насамрэч, і не спрабуй перабудаваць яго на свой капыл, бо нікому не дадзена змяніць усталяваны парадак жыцця, як і не дадзена змяніць прыроду чалавека.

Я не адказаў яму і пайшоў прэч, каб легчы й заснуць, але заснуць я не мог, бо рабы калацілі ў медныя шчыты перад дзвярыма прывязанага да ложка Ройю, каб ён думаў, што аблога ўсё яшчэ доўжыцца і мог спакойна заснуць. Не ведаю, можа ён і спаў, але я заснуць не мог яшчэ доўга, пакуль да мне не прыйшла жывая Мэрыт, і маленькі Тот не пачаў гуляць са мной побач. А назаўтра ўранні, калі я прачнуўся, на маім сэрцы ляжаў камень, а рот поўніўся горыччу, нібыта я выпіў жоўці.

**4**

А цяпер я раскажу, як з Егіпта на караблях прыйшлі падмацаванні, як давялі да ладу баявыя калясніцы і як каля Газы правялі вялікія вайсковыя вучэнні, на якіх былі сабраныя коні з усёй Паўднёвай Сірыі. Харэмхеб выдаў адозву, у якой абвяшчаў, што прыйшоў у Сірыю не захопнікам, а вызваліцелем, бо сірыйскія гарады спрадвеку жылі незалежна і вольна гандлявалі кожны пад уладай сваіх уладароў, за якімі добразычліва наглядаў Егіпет, і толькі праз жахлівую здраду Азіру трапілі пад яго аднаасобную ўладу. Нягоднік Азіру самаўладна захапіў і прысвоіў спадчынныя царскія кароны, абклаў гарады вялізнымі падаткамі, а потым па сваёй хцівасці прадаў Сірыю хетам, чыя жорсткасць і бязлітаснасць разам з нялюдскімі звычаямі вядомыя ўсяму свету, і сведчанні таму сірыйцы могуць пабачыць на свае вочы ў любы час дня і ночы. Сірыю чакае сумны лёс хецкага рабства і поўная безабароннасць, бо хеты яшчэ не цалкам выкрылі сябе, яны спачатку хочуць пакончыць з Егіптам. Таму ён, непераможны Харэмхеб, Сын сокала, прыйшоў у Сірыю, каб вызваліць яе, вызваліць гарады і вёскі ад вечнага рабства, усталяваць вольны гандаль і вярнуць царам іх законныя правы, каб пад абаронай Егіпта Сірыя зноў ажыла і ўзнеслася ў царства багацця ды працвітання. Ён абяцаў поўную абарону ад рабаўнікоў на дарогах, волю і незалежнасць кожнаму гораду, які выганіць хетаў і зачыніць сваю браму перад Азіру. Але тыя гарады, якія будуць упарціцца і супраціўляцца, ён абяцаў аддаць на рабаванне сваім воінам, іх муры зруйнаваць, а гарады спаліць ды знішчыць навечна, прадаўшы жыхароў у рабства.

Выпусціўшы гэту адозву, Харэмхеб з войскам і калясніцамі рушыў да Яфы, а наперад паслаў караблі, каб яны перакрылі падыходы да горада з мора. Яго выведнікі распаўсюдзілі адозву па ўсіх сірыйскіх гарадах, што выклікала вялікі неспакой сярод насельніцтва і справакавала звады ў стане ворага, чаго і трэба было дамагчыся. Але Каптах, як чалавек асцярожны, застаўся ў Газе — на выпадак, калі Харэмхеб пацерпіць паразу, бо хеты і Азіру паспелі сабраць вялікія сілы. Сваю адмову ісці ў паход з войскам Каптах патлумачыў тым, што пасля перажытага ў вязніцы не зможа трываць цяжкасцяў ваеннага жыцця, і мяне папрасіў застацца таксама, нібыта каб лячыць яго немачы.

Ройю-Бычыны карак пачаў ставіцца да Каптаха з вялікай прыязнасцю пасля таго, як той растлумачыў, куды дзеліся чатыры сотні асліных падхвоснікаў. Хітрамудры Каптах сказаў, што тыя падхвоснікі з'елі воіны падчас аблогі, бо яны былі зробленыя з мяккай скуры і іх было лёгка жаваць. Пачуўшы гэтую байку, Ройю адразу супакоіўся і перастаў буяніць. Яго адвязалі ад ложка, і ён, спачатку вылаяўшы сваіх воінаў, потым адразу дараваў ім правіну за тую адвагу, з якой яны абаранялі Газу. Ён сказаў так:

— Няхай тыя падхвоснікі будуць маім доўгам фараону, але цяпер маё сумленне спакойнае, бо я ведаю, куды яны дзеліся. Караць вас за тое, што вы ўчынілі, я не буду, хоць вы і заслугоўваеце пакарання. Апроч таго, мне прыемна даведацца, як вы распраўляліся з гэтымі пацучынымі вырадкамі, воінамі Харэмхеба, у цёмных завулках, як вы праломвалі ім галовы і праціналі наскрозь, каб навучыць прыстойным паводзінам у нашым горадзе. Я не буду караць вас і сам заплачу фараону за тыя праклятыя падхвоснікі, калі вы і далей будзеце біць і лупцаваць кожнага Харэмхебава пацука, які трапіцца вам пад руку. Можаце лупіць іх пранікамі і калоць вострымі наканечнікамі, адбіваць у іх дзевак і кідаць авечае дзярмо ім у піва. Рабіце з імі, што хочаце, а я буду радавацца, тым болей, што да мяне зноў вярнуўся нармальны сон.

Ён сапраўды цяпер спаў па начах і цалкам папраівўся, а яго воіны ўвесь час чапляліся да воінаў Харэмхеба, робячы іх жыццё невыносным. Але Харэмхеб не лічыў магчымым караць гераічных абаронцаў Газы за іхнія выбрыкі. А як толькі Харэмхеб выйшаў з войскам з Газы, Ройю зачыніў за ім браму і пакляўся, што больш не пусціць у горад ніякага войска. Ён піў з Каптахам віно і назіраў, як той гуляе ў цыркі з вартаўніком вязніцы, а трэба сказаць, што да адыходу Харэмхеба Каптах паспеў ужо выйграць больш за паўтара мільёны дэбенаў.

Так яны з рання да змяркання пілі віно, лаяліся, шпурлялі адзін аднаму цыркі ў твар, плявалі ў кулакі і махалі конаўкаю так, што цыркі разляталіся па ўсім пакоі. Стары быў сапраўдны скнара і хацеў гуляць толькі на маленькія стаўкі, ён рыдаў і галасіў пасля кожнага пройгрышу, нібы золата, якое ён прайграваў сапраўды існавала, а не было прыдумкай яго дурной галавы. Калі Харэмхеб аблажыў Яфу, Каптах ажывіўся і падвысіў стаўкі, а калі прыехаў ганец з паведамленнем, што муры Яфы прабітыя, Каптах за некалькі гульняў так абчысціў дзеда, што той застаўся яму яшчэ вінаваты сто тысячаў дэбенаў золатам. Але Каптах велікадушна злітаваўся і дараваў яму доўг. Каптах нават падараваў дзеду новаю вопратку і некалькі прыгаршчаў срэбра, ад чаго той да слёз расчуліўся і ўсяляк узносіў хвалу свайму дабрадзею.

Не ведаю, махляваў Каптах ці загадзя пазначыў цыркі, але магу сказаць, што гуляў ён спрытна і яму неверагодна шанцавала. Чуткі пра тую гульню, якая цягнулася некалькі тыдняў і стаўкамі ў якой былі мільёны дэбенаў золатам, разнесліся па ўсёй Сірыі. І пазней, калі стары зноў аслеп і пасяліўся ў хацінцы пад гарадскім мурам, ён падрабязна распавядаў пра яе вандроўнікам, нават праз шмат гадоў дакладна памятаючы, колькі на кожным ходзе выпадала ў яго, а колькі ў Каптаха, бо сляпыя заўсёды маюць выдатную памяць. Так ён і жыў шчасліва

на падарункі наведнікаў, якія прыходзілі адусюль паслухаць ягоныя байкі, і жыў нават лепш, чым калі б Каптах выплачваў яму пажыццёвую пенсію. Такая ўжо вялікая ўлада ўяўлення над сэрцам чалавека!

Як толькі Харэмхеб узяў Яфу, туды адразу паехаў Каптах, а разам з ім і я. Я ўпершыню ўбачыў горад у руках захопнікаў. І хоць калі воіны Харэмхеба ўжо ўварваліся ў горад праз праломы ў мурах, самыя адчайныя гараджане ўзняліся супраць Азіру і хетаў, каб уратаваць горад ад рабавання, Харэмхеб не пашкадаваў іх, бо ад запозненага паўстання ўжо не меў ніякай карысці. Ён аддаў Яфу свайму войску на два тыдні. Каптах неверагодна ўзбагаціўся, бо воіны абменьвалі на срэбра і віно дарагія дываны, каштоўныя статуі багоў і мэблю, якія не маглі забраць з сабой, а сірыйскіх прыгажунь можна было купіць за пару мядзяных пярсцёнкаў.

Тады я наяве ўбачыў, якім зверам можа быць чалавек чалавеку, бо не было злачынства, якога не ўтварылі б п'яныя воіны. Яны падпальвалі дамы дзеля пацехі ці дзеля асвятлення ўначы, каб было зручней рабаваць, гвалціць жанчын ці катаваць гандляроў, дапытваючыся, дзе яны закапалі свае скарбы. А былі такія, што дзеля забавы садзіліся на рагу вуліцы і білі кіюгай кожнага сірыйца, які праходзіў міма, або пратыкалі яго дзідай, незалежна ад таго, хто гэта — мужчына, жанчына, стары ці дзіцё. У Яфе маё сэрца загрубела ад убачанага зла, якое твырыў чалавек. Усё, што адбывалася праз Атона ў Фівах, цяпер здавалася жартам у параўнанні з тым, што чынілася ў Яфе з дазволу Харэмхеба. Рабаванне Яфы сталася важнай падзеяй, бо Харэмхебавы воіны, спазнаўшы смак беспакаранага рабаўніцтва, перасталі баяцца смерці ў бітвах,— цяпер кожны марыў пра перамогу і асалоду, якую яна прыносіць з сабой. Але Харэмхеб яшчэ мацней прывязаў да сябе воінаў і па іншай прычыне: пасля шаленства ў Яфе ім ужо не даводзілася разлічваць на літасць сірыйцаў, і воіны Азіру, беручы палонных, бязлітасна здзіралі з іх жыўцом скуру. Затое невялічкія мястэчкі на ўзбярэжжы, запалоханыя зверствамі, паспяшаліся паўстаць і выгналі хетаў, адчыніўшы брамы перад Харэмхебам. Магу таксама дадаць, што калі войска Харэмхеба брало Яфу, там было каля дваццаці тысячаў жыхароў, а калі пакідала горад, жывымі заставалася не больш за тры сотні.

Харэмхеб вёў вайну ў Сірыі, а я ішоў следам за яго войскам, лячыў раны і быў сведкам самага рознага зла, якое адзін чалавек можа прычыніць другому. Вайна доўжылася тры гады. Харэмхеб перамагаў войскі Азіру і хетаў у шматлікіх бітвах, а хецкія баявыя калясніцы ў Сірыі двойчы нечакана нападалі на яго, наносячы вялікую шкоду і вымушаючы хавацца за крапаснымі мурамі. Але Харэмхебу ўдавалася трымаць з Егіптам сталую сувязь па моры, і сірыйцы не маглі перамагчы егіпецкі флот, бо, апроч усіх караблёў самога Егіпту, у вайне бралі ўдзел і караблі яго саюзнікаў. Таму, нават атрымліваючы паражэнне, Харэмхеб неўзабаве меў новае падмацаванне з Егіпта і набіраўся сілы дзеля новых удараў. А сірыйскія гарады тым часам пусцелі, і жыхары хаваліся ў скалах, як дзікія звяры. Уся зямля спусцела, бо войскі, якія цярпелі паразу бязлітасна вынішчалі пасевы і высякалі пладовыя дрэвы, каб пераможцы не маглі пракарміцца з захопленай зямлі.



Але і Егіпет траціў сваю жывую сілу, сваё багацце на палях Сірыі, і ўся краіна была падобная да маці, якая раздзірае на сабе адзенне і пасыпае галаву попелам у знак жальбы па забітым сыне, і не было месца ў Ніжнім і Верхнім Царствах, дзе не плакалі б па сваяку, што загінуў на гэтай вайне.

Вось так Харэмхеб тры гады ваяваў у Сірыі, і за гэты час я пастарэў больш, чым за ўсё ранейшае жыццё: мае валасы выпалі, спіна сагнулася, а твар зморшчыўся, як ссохлы плод. Апроч таго, пад вачыма ў мяне ўзніклі мяшкі, што набрынялі ад слёз,— столькі злога ўбачылі за тыя гады мае вочы. Я замкнуўся ў сабе, мог раптам, без дай прычыны раззлавацца і накрычаць, а з хворымі размаўляў непрыветна і груба, як звычайна размаўляюць пажылыя лекары, нават самыя незласлівыя.

А на трэцім годзе ў Сірыю прыйшла чума, якая заўсёды ідзе следам за вайной і ўзнікае там, дзе гніюць трупы. А Сірыя на трэці год вайны ператварылася ў магілу, поўную непрыбраных трупаў. Чума забівала тых, каго не забіла вайна, як у Харэмхебавым войску, так і ў хецкім, і яна забрала столькі жыццяў, што ваенныя дзеянні спыніліся, і абодва войскі разбегліся, хто ў горы, хто ў пустэльню, куды паморак яшчэ не дайшоў. Чума не рабіла розніцы паміж вяльможам і прасталюдзінам, яна аднолькава бязлітасна губіла ўсіх, і ад яе не дапамагалі ніякія зёлкі,— хворы захінаў галаву вопраткай, клаўся ў ложак і паміраў праз тры дні. А тыя, хто папраўіўся і выжыў, да канца сваіх дзён насілі пад пахай шнары, з якіх чума выходзіла гноем, пакуль яны выздараўлівалі.

Чума капрызліва выбірала, каго забіць, а з каго злітавацца, бо выжывалі зусім не самыя моцныя і здаровыя, а часта менавіта слабыя і знясіленыя, нібы чума не магла знайсці сабе дастатковай спажывы ў іх целах. Таму я лячыў хворых тым, што часта пускаў ім кроў, каб аслабіць, і не дазваляў удосталь есці падчас выздараўлення. Такім чынам я шмат каго вылечыў, хоць многія, нягледзячы на ўсе мае намаганні, памерлі ў мяне на руках, і я не ведаю, ці быў мой спосаб лячэння правільным. У любым выпадку я стараўся рабіць усё, каб хворы не расчараваўся ў лекары, бо калі ў яго даверу няма, смерць прыходзіць значна часцей, чым калі хворы верыць, што лекар яму дапаможа.

З караблямі чума трапіла ў Егіпет, але людзей там загінула нашмат менш, чым у Сірыі, бо чума ўжо страціла сілу. Большасць хворых не памірала, а вылечвалася. У час разводдзя чума ў Егіпце знікла зусім, а

зіма задушыла яе і ў Сірыі. Тады Харэмхеб змог зноў сабраць сваіх воінаў і аднавіць вайну. Увесну ён перайшоў з войскам раўніну каля Мэгіды і ўступіў у вялікую бітву з хетамі. Адначасова вавілонскі цар Бурабурыяш, які даведаўся пра поспехі Харэмхеба, раптам стаў такі смелы, што, успомніўшы пра саюз з Егіптам, таксама нечакана рушыў войскі на хетаў і змог выгнаць іх з Мітанні. Тады хеты, зразумеўшы, што іх улада над спустошанай Сірыяй страчаная, запрапанавалі Харэмхебу мір: яны былі вопытныя воіны і ашчадныя гаспадары, а таму не хацелі дзеля пустой славы траціць сілы і ламаць баявыя калясніцы, так патрэбныя на ўтаймаванне Вавілона.

Харэмхеб вельмі радаваўся замірэнню, бо яго войска значна паменела і Егіпет збяднеў ад вайны, дый самому Харэмхебу не цярпелася пачаць аднаўленне Сірыі, наладзіць у ёй мірны гандаль і выгадна скарыстаць гэтую зямлю. Але найпершай умовай міру Харэмхеб выставіў здачу Мэгіды, крэпасці, якую Азіру зрабіў сваёю сталіцай і галоўнай апорай, атачыўшы непрыступнымі мурамі з высокімі вежамі. Тады хеты захапілі Азіру з усёю яго сям'ёй — жонкай і двума сынамі — у Мэгідзе, разрабавалі яго незлічоныя багацці, сабраныя ў горадзе з усёй Сірыі, і перадалі закаваных у ланцугі палонных Харэмхебу ў знак сваіх добрых намераў і міралюбства. Яны прыслалі іх прама ў лагер Харэмхеба, каб крыху адцягнуць здачу Мэгіды і паспець яе добра парабаваць ды перагнаць да сябе статкі авечак і гавяды з земляў Амарэі, якія ўсё адно адыходзілі да Егіпта. Харэмхеб не перашкаджаў ім. Ён загадаў трубіць у трубы, адзначаючы канец доўгай вайны, і ўсю ноч баляваў з хецкімі князямі ды ваяводамі, пахваляючыся сваімі подзвігамі. З Азіру і ягонай сям'ёй ён пастанавіў расправіцца наступным ранкам — перад усім сваім войскам і хецкімі ваяводамі ў знак вечнага міру, які мае ўсталявацца паміж Егіптам і царствам хетаў.

Я браць удзел у гэтым свяце не захацеў, а калі апусцілася ноч, накіраваўся да шатра, дзе трымалі Азіру. Вартавыя не адважыліся затрымаць мяне, бо я быў асабістым лекарам Харэмхеба і ўсе ў лагеры мяне ведалі, лічачы чалавекам злосным і непрыветным, які мог сварыцца нават з самім Харэмхебам, выказваючыся з'едліва і непакорліва. Я пайшоў да Азіру таму, што цяпер у яго ва ўсёй Сірыі не было ніводнага сябра, бо ў чалавека, які страціў уладу, багацце і, закаваны ў кайданы, чакае смерці, сяброў быць не можа. Я пайшоў да яго, бо ведаў, як ён любіць жыццё, і спадзяваўся пераканаць, што жыццё не вартае таго, каб яго любіць. І яшчэ я хацеў як лекар сказаць, што смерць лягчэйшая за пакуты жыцця: боль, смутак ды марныя турботы. Жыццё — гэта пякучае полымя, а смерць — цёмная вада забыцця. А калі ён не захацеў бы мяне слухаць, то я проста пасядзеў бы з ім побач, каб яму не заставацца ў самоце ў апошнюю ноч жыцця. Чалавеку лёгка жыць без



сяброў, але паміраць, не маючы ніводнага сябра, цяжка, асабліва калі ты ўсё жыццё быў уладаром і тваю галаву вянчала царская карона.

Я ўвайшоў у цёмны шацёр і спытаў:

— Азіру, цар Амарэі, ці прымеш ты сябра ў ноч перад смерцю?

Азіру цяжка ўздыхнуў, і ў цемры пачуўся бразгат яго вярыгаў. Тады ён сказаў:

— Я ўжо не цар, і няма ў мяне ніякіх сяброў, але цябе я пазнаю па голасе. Гэта ты, Сінухе?

І я адказаў:

— Так, гэта я.

— У імя Мардука і ўсіх нячысцікаў апраметнай! Калі ты напраўду Сінухе, дык хай прынясуць агню, бо мне ўжо абрыдла валяцца тут упоцемку — я і так хутка перайду ў вечную цемру. Гэтыя праклятыя хеты падралі маю вопратку і так пакалечылі мае рукі і ногі, што я выглядаю зусім непрывабна, але ты, як лекар, бачыў усякае, і я магу цябе не саромецца, дый нашто перад смерцю саромецца сваёй убогасці. Дык прынясі агонь, Сінухе, каб я мог убачыць цябе і ўзяць за руку. Мая печань стогне ад смутку, а з вачэй ліюцца слёзы па сынах і жонцы. А калі табе ўдасца яшчэ і здабыць крыху піва, каб я мог прамачыць сваё перасохлае горла, дык заўтра ў апраметнай я распавяду ўсім падземным багам пра твае добрыя ўчынкі.

Я загадаў вартавым прынесці і запаліць свяцільню, бо дым паходні раз'ядаў мне вочы і смярдзеў нечым паганым. Яны прынеслі і запалілі свяцільню, а я, пакуль яны хадзілі, знайшоў у іх прыхаваны жбан сірыйскага піва, якое яны пацяху цягнулі ў цемры, карыстаючыся тым, што Харэмхеб баляваў, і начальнікі з такой нагоды не вельмі строга сачылі за дысцыплінай. Азіру са стогнам падняўся і сеў на дол, а я даў яму саломіну, праз якую ён мог піць піва, густое ад ячменных зярнят і солады. Пакуль ён прагна паглынаў піва, я разглядаў яго ў дрыготкім святле ад сальнага кнота: яго валасы пасівелі і віселі пасмамі, раскошная барада была выдраная сям-там разам са скурай. Пальцы на руках былі раздушаныя, пазногці счарнелі ад крыві, а ўсе рэбры былі паламаныя, ад чаго пры кожным уздыху ён стагнаў і пляваўся крывёй. Напіўшыся і адпляваўшыся, ён паглядзеў на агеньчык свяцільні і сказаў:

— Вох, якое міласэрнае і мяккае гэтае святло для маіх стомленых вачэй, якія так доўга пакутавалі ў цемры. Дзякуй табе за гэтае святло, Сінухе, і за гэтае піва. Я з радасцю падараваў бы табе што-небудзь у адказ, але мае хецкія сябры ў сваёй хцівасці выламалі нават тыя зубы, якія ты некалі пакрыў золатам.

Кожны мудры, калі ўсё ўжо адбылося. Таму я не захацеў нагадваць, як засцерагаў яго наконт хетаў. Я проста ўзяў яго знявечаныя рукі ў свае далоні, і гарачыя слёзы капалі мне на рукі. Потым ён сказаў:

— Я не саромеўся смяяцца і радавацца перад табой у дні весялосці і радасці, дык чаго ж я буду саромецца цябе ў час журбы? Але ведай, Сінухе, што плачу я не з-за сябе або страчанага багацця, не з-за страчанага царства, хоць я заўсёды чапляўся за ўладу і багацці зямныя. А цяпер я плачу па маёй жонцы Кефцыю, я плачу па сваім старэйшым сынепрыгажуне і меншым пяшчотным сыночку, бо заўтра ім наканавана памерці разам са мною.

— Азіру, цар Амарэі,— адказаў я яму.— Ты падумай пра Сірыю, якая, дзякуючы тваёй ненасытнай празе ўлады, ператварылася ў вялізную магілу, поўную гніючых трупаў. Праз цябе, Азіру, загінула незлічонае мноства людзей. Таму будзе цалкам справядліва, што заўтра ўранні цябе пакараюць смерцю, і можа, правільна, што ўся твая сям'я загіне разам з табой. Аднак ведай, што я прасіў і нават маліў Харэмхеба пакінуць жыццё тваёй сям'і, але ён не згадзіўся. Харэмхеб не згадзіўся, бо хоча вынішчыць у Сірыі тваё семя і сцерці з людской памяці тваё імя. Ён не дазволіць нават пахаваць цябе, Азіру, і аддасць тваё цела на спажыву падлажэрам, бо ён хоча, каб на тваёй магіле потым збіраліся людзі дзеля нядобрых задум і спраў, заклікаючы на дапамогу тваё імя.

Вялікі жах ахапіў Азіру, калі ён пачуў такое:

— Дзеля майго Ваала, Сінухе, прынясі вялікую ахвяру з віна і мяса Ваалу Амарэйскаму пасля маёй смерці, іначай мне давядзецца векавечна пакутаваць ад смагі і голаду, блукаючы ў цемры па апраметнай. Прынясі такую самую ахвяру і дзеля Кефцыю, якую ты некалі кахаў, але ў імя нашай дружбы аддаў мне. Зрабі тое самае дзеля маіх сыноў, каб я мог спакойна памерці і не смуткаваць душой па іх долі. Я не магу ганіць і асуджаць Харэмхеба за такое рашэнне, бо зрабіў бы, напэўна, тое самае з ім і ягонай сям'ёй, калі б ён апынуўся ў маіх руках. Праўду кажучы, Сінухе, я плачу і адначасова радуюся, бо мая сям'я зможа памерці разам са мною, і наша кроў зліецца ў адно, а іначай там, у апраметнай, я змучыўся б ад думкі, што нехта тут, на зямлі, абдымае і цалуе Кефцыю ды лашчыць яе прыгожае цела. У яе ж было столькі багата паклоннікаў, і столькі вершаплётаў услаўлялі яе незвычайную прыгажосць. Лепш таксама і тое, што мае сыны памруць заўтра, бо яны нарадзіліся царамі і насілі кароны яшчэ ў люльках, і я не перажыў бы, каб яны сталі рабамі ў Егіпце.

Ён зноў пачаў піць піва і нават крыху ап'янеў, бо быў знясілены катаваннем. Ён збіраў сваімі знявечанымі пальцамі бруд, якім закідвалі яго ворагі, і казаў:

— Сінухе, мой сябра, ты дарэмна дакараеш мяне, кажучы, што праз мяне Сірыя стала адной вялізнай магілай, поўнай гніючых целаў. Адзіная мая віна ў тым, што я прайграў у гэтай барацьбе і даверыўся хетам. Калі б я перамог, то ўсю віну за ўчыненае зло я пераваліў бы на Егіпет,



і маё імя бласлаўляў бы кожны сірыец. А цяпер, калі я прайграў, усё валяць на мяне, і ўся Сірыя праклінае маё імя.

Ад моцнага піва ён зусім ап'янеў і, узняўшы скаваныя рукі, пачаў скубці сівыя пасмы і са стогнам сказаў:

— О Сірыя, Сірыя, мая пакута, мая надзея і любоў! Усё, што я рабіў,— я рабіў дзеля цябе, дзеля тваёй велічы, я паўстаў дзеля тваёй свабоды, а ў дзень маёй смерці ты плюеш на мяне і праклінаеш маё імя! О красун Бібл, о квітнеючая Сіміра, хітры Сідон і магутная Яфа! О вы, гарады, якія ззялі ў маёй кароне, як марскія перліны, чаму вы пакінулі мяне?! Але мая любоў да вас занадта вялікая, каб я ўзненавідзеў нават ваша адступніцтва, бо я люблю Сірыю такою, якой яна ёсць: ілжывай, жорсткай, капрызлівай і заўжды гатовай да здрады. Адзін род займае месца другога, народы ўтвараюцца і знікаюць, царствы змяняюць адно аднаго, як дым рассейваюцца слава і веліч, але вы, мае цудоўныя гарады, жывіце вечна, каб пыл майго цела, развеяны ветрам па пустэльні, мог прыляцець і пацалаваць вашыя камяні.

Я слухаў яго, і на душы ў мяне рабілася ўсё болей сумна. Я бачыў, як яго ахоплівае п'янае летуценне, і не хацеў яго будзіць, каб не прагнаць гэтыя мроі, якія суцяшалі яго перад смерцю. Таму я па-ранейшаму трымаў яго рукі ў сваіх далонях, а ён са стогнам прамаўляў:

— Сінухе, я не шкадую ні аб сваёй смерці, ні аб паражэнні, бо без вялікай адвагі і дзёрзкасці не бывае вялікіх перамогаў, а перамога і веліч Сірыі былі, здаецца, ужо зусім побач. Ва ўсе дні свайго жыцця я бязмежна кахаў, гэтак жа бязмежна ненавідзеў, а таму не магу нават уявіць сабе іншага жыцця, дый не хачу, каб яно было ў мяне іншым! Я ні аб чым не шкадую, не шкадую аб зробленым, хоць мае здзяйсненні ляжаць на мне вялікім цяжарам — яны аблыталі мяне і вядуць да ганебнай смерці, бо маё цела кінуць шакалам. Але я, Сінухе, чалавек цікаўны, ува мне, як і ў кожным сірыйцы, цячэ кроў гандляра. Заўтра мне трэба памерці, смерць абуджае ўва мне вялікую цікаўнасць, і я хачу ведаць, ці ёсць у мяне які-небудзь сродак адкупіцца ад смерці і ашукаць багоў, бо маю душу вельмі засмучае думка аб тым змрочным свеце, які векавечна жыве пагружаны ў цемру. Сінухе, ты ж сабраў у сваім сэрцы ўсю зямную мудрасць, дык назаві мне сродак, якім можна падкупіць смерць!

Але я толькі пакруціў галавой:

— Не, Азіру. Яе не падкупіш і не падманеш, як што-небудзь іншае. Падкупіць можна каханне і ўладу, дабро і зло, розум і сэрца, але смерць і нараджэнне падкупіць немагчыма. Але гэтаю ноччу, пакуль трымціць яшчэ агеньчык у свяцільні, я хачу сказаць табе, Азіру, што няма нічога страшнага ў смерці, наадварот, смерць — гэта асалода. Параўнай яе са злом, якое дзеецца ў свеце, і ты ўбачыш, што смерць чалавеку — най-

дабрэйшы сябар. Як лекар, я не надта веру ў замагільнае жыццё, а як егіпцянін, не веру ні ў Палі захаду, ні ў збераженне цела. Смерць для мяне — гэта працяглы сон, гэта свежая прахалодная ноч пасля спякотнага дня. Напраўду кажу табе, Азіру: жыццё падобнае да гарачага пустэльнага пылу, а смерць — да свежай летняй вады. У смерці твае вочы заплюшчваюцца і нічога болей не бачаць, тваё сэрца супакойваецца і ні аб чым больш не баліць, у смерці твае стомленыя рукі не ірвуцца да працы, а натомленыя ногі не бягуць па запыленых бясконцых дарогах. Вось што такое смерць, мой дружа Азіру, і дзеля нашай дружбы я прынясу вялікую ахвяру табе і тваёй сям'і перад Ваалам Амарэйскім. Я прынясу табе і тваёй сям'і вялікую ахвяру, адпаведную тваёй царскай годнасці, калі гэта хоць неяк суцешыць цябе, хоць сам я не веру ў карысць ад ахвяраванняў. Але перасцерагчыся не пашкодзіць, і я прынясу ахвяру, пра якую ты просіш,— каб ты не пакутаваў ад смагі і голаду ў глыбіні апраметнай, нават калі той апраметнай зусім няма.

Ад маіх словаў Азіру прыйшоў у захапленне і заўважыў:

— Калі будзеш прыносіць ахвяры, бяры авечак толькі з Амарэі, бо ў іх самае пяшчотнае і тлустае ў свеце мяса, яно проста растае ў роце. Не забудзься і на авечыя ныркі, бо іх я люблю больш за ўсё. Ды прынясі добрага сідонскага віна, у якое я зазвычай дадаю міра, бо маёй крыві патрэбна моцнае віно і багатая тлустая ежа. А яшчэ ахвяруй мне мяккі і трывалы ложак, які вытрымае вялікую нагрузку, і каб мне не валяцца на траве, як пастуху, хоць толькі зямля не будзе прагінацца і трашчаць пад целам Кефцьюю.

Потым ён пералічыў мне ўсё, што яму магло спатрэбіцца і што я павінен быў ахвяраваць. Ён захапіўся і радаваўся як дзіцё, думаючы пра майно, якое атрымае дзеля падарожжа па падземным свеце. Але потым ён зноў засумаваў, цяжка ўздыхнуў і, схіліўшы галаву на рукі, сказаў:

— Калі ты ўсё гэта дзеля мяне зробіш, Сінухе, ты будзеш сапраўдным сябрам, хоць я і не разумею, нашто табе гэта рабіць, калі я прынёс столькі зла і табе, і ўсім егіпцянам. Ты так прыгожа казаў пра смерць... Можа, і праўда, смерць — гэта працяглы сон і летняя вада. Але маё сэрца шчыміць, калі я думаю пра яблыневую галінку ў квецені, а мае вушы поўняцца блекатаннем авечак і вочы бачаць ягнят, якія весела скачуць па схілах родных гор. Маё сэрца сціскаецца, калі я думаю аб вясне ў Амарэі, аб зацвітаючых ліліях і паху смалы ды бальзаму. Маё сэрца сціскаецца, бо я ведаю, што ніколі больш не ўбачу сваёй любай Амарэі ні ўвесну, ні ўвосень, ні спякотным летам, ні халоднай зімою.

Так мы гутарылі ў шатры паланёнага Азіру і ўспаміналі нашы сустрэчы, калі я жыў у Сіміры і мы абодва былі маладыя і дужыя. Азіру расказваў пра сваё дзяцінства, але я пераказваць не буду, бо гэта будзе



задоўга, дый дзяцінства аднаго чалавека падобнае да дзяцінства другога і дзіцячыя ўспаміны дарагія толькі сэрцу таго, хто ўспамінае. На досвітку мае рабы прынеслі прыгатаваную для нас ежу, і вартавыя беспрашкодна іх прапусцілі, атрымаўшы ад харчоў сваю долю. А нам прынеслі гарачую тлустую бараніну, напоўнілі нашыя чашы моцным сідонскім віном з мірам, і я загадаў рабам памыць Азіру ад бруду, якім яго закідалі, расчасаць і завіць яму валасы, а бараду ўкласці ў залатую сетку. Яго вопратка ператварылася ў рыззё, але пераапрануць яго я не мог, бо на ім былі медныя ланцугі. Затое я пакрыў яго царскім плашчом. Такім самым чынам мае рабы абслужылі Кефцью і царскіх сыноў у суседнім шатры, але Харэмхеб дазволіў Азіру пабачыць Кефцью і дзяцей толькі на месцы пакарання.

І вось настаў час, і Харэмхеб, смеючыся, выйшаў з шатра разам з п'янымі хецкімі князямі, якіх ён абдымаў за плечы. Тады я падышоў да яго і сказаў:

— Харэмхеб, я шмат табе паслужыў, і можа, нават выратаваў табе жыццё, калі пад Цірам дастаў з тваёй нагі атручаную стралу і вылечыў цябе. Зрабі і ты мне паслугу і дазволь Азіру памерці без ганьбы. Ён усё-такі цар Сірыі і біўся адважна, і калі ты не зняславіш яго, гэта толькі ўславіць тваё імя. А твае хецкія сябры і так ужо нацешыліся, катуючы яго ды ламаючы яму косці, каб даведацца, дзе ён схаваў свае скарбы.

Харэмхеб змрочна выслухаў мае словы, бо прыдумаў ужо шмат спосабаў падоўжыць пакуты Азіру і ўсё дзеля гэтага было ўжо падрыхтавана. Войска сабралося на месцы пакарання яшчэ на досвітку, і людзі сварыліся за лепшыя месцы ў чаканні захапляючага відовішча. Харэмхеб рабіў гэта не дзеля таго, каб расцягнуць агонію Азіру і атрымаць асалоду ад яго пакутаў, ён рабіў гэта дзеля свайго войска і дзеля запалохвання Сірыі, каб пасля такой страшнай смерці нікому і ў галаву не прыйшла думка аб помсце. Я павінен гэта сказаць Харэмхебу ў апраўданне, бо, што пра яго ні казалі б, ён па сваёй прыродзе не быў чалавекам жорсткім і лютым,— ён быў воін, і смерць была ў яго толькі прыладай. Тым не менш, ён сам распускаў чуткі пра сваю жорсткасць, бо лічыў, што гэта карысна і сее ў народзе і сярод ворагаў страх. Ён лічыў, што жорсткіх уладароў народ шануе болей, чым мяккіх, а ўсякую лічыць дабрыню слабасцю.

Таму, пачуўшы мае словы, Харэмхеб нахмурыўся, зняў руку з пляча хецкага князя Супату і, паляпваючы залатым бізуном па назе, сказаў:

— Ты, Сінухе,— вечная балючая стрэмка ў маім баку і пачынаеш ужо мяне натамляць. Ты ўсё робіш не так, як разумныя людзі: лаеш і дакараеш злымі словамі кожнага, хто разбагацеў ці праславіўся, а хто прайграў і пацярпеў паражэнне — таго гатовы аблашчыць. Ты ведаеш, як мне цяжка было знайсці і сабраць дасведчаных у сваёй справе ка-

таў, падрыхтаваць усе гэтыя катлы і прылады,— мне каштавала гэта цэлую кучу срэбра! Дый не магу ж я ў апошнюю хвіліну пазбавіць сваё пацучынае адроддзе такой пацехі: яны шмат нацярпеліся і пралілі крыві праз гэтага Азіру.

Хецкі князь Супату ляпнуў Харэмхеба па плячы і з п'яным смехам крыкнуў:

— Правільна кажаш, Харэмхеб! І не думай пазбавіць нас такога відовішча: мы знарок пакінулі Азіру табе, вырашыўшы не абадраць да касцей,— так толькі: крыху паказыталі яго абцугамі ды патрымалі ў драўляных шчамлётках.

Такія грубыя словы абразілі Харэмхебава самалюбства, апроч таго, яму не спадабалася нахабнае паляпванне па плячы, і ён адказаў, нахмурыўшы бровы:

— Ты зусім п'яны, Супату. А што да Азіру, дык я толькі хацеў паказаць усяму свету, які лёс чакае кожнага, хто даверыцца хетам. Але гэтай ноччу мы з вамі выпілі столькі кубкаў за дружбу, што я прабачаю вашаму хаўрусніку Азіру і падарую яму лёгкую смерць.

Харэмхебаў адказ раззлаваў Супату. Яго твар перакрывіўся і спалатнеў, бо хеты заўсёды вельмі чулліва ставіліся да свайго гонару, хоць самі, як усім вядома, дзейнічаюць падступна і прадаюць сваіх хаўруснікаў, як толькі саюз з імі робіцца невыгодным, а здрада абяцае немалую выгоду. Насамрэч, так робіць кожны народ і кожны мудры ўладар, але хеты робяць гэта з непараўнальнай жорсткасцю, нават не прыдумляючы падставы і прыстойныя тлумачэнні, каб надаць сваёй здрадзе прыстойны выгляд. Супату быў гатовы ўжо ўспыхнуць, але яго прыяцелі паспешліва адвялі яго ўбок і трымалі, заціснуўшы яму рот рукамі. Нарэшце Супату званітаваў ад бяссільнай злосці і выпітага віна, і калі віно выйшла вон, супакоіўся.

Харэмхеб загадаў вывесці Азіру з шатра і сярдзіта нахмурыўся, убачыўшы, як той выходзіць з высока ўзнятаю галавой, гордым выглядам і ў царскай накідцы. Добра падсілкаваўшыся смачнымі стравамі і моцным віном, Азіру цяпер гучна смяяўся і задзіраўся з Харэмхебавымі ваяводамі, ідучы да месца свайго пакарання. Яго валасы былі завітыя і старанна ўкладзеныя, твар ільсніўся ад масцяў, і ён крычаў Харэмхебу па-над галовамі варты:

— Гэй, Харэмхеб! Ты, паскудны егіпцянін, не бойся мяне, я ж закаваны ў ланцугі, так што можаш не хавацца за дзіды ахоўнікаў! Выйдзі сюды, каб я мог выцерці гной са сваіх ног аб тваё адзенне. Такога паганага месца, як твой лагер, я ніколі ў жыцці не бачыў! Падыдзі, бо я хачу паўстаць перад Ваалам з чыстымі нагамі!

Яго словы вельмі развесялілі Харэмхеба і ён, смеючыся, крыкнуў у адказ:



— Падысці да цябе я не змагу, бо мяне верне ад твайго сірыйскага смуроду: ад цябе так патыхае падлаю і дзярмом, што і ўкрадзеная царская накідка не дапамагае! Але добра, што ты ідзеш на смерць весела. Таму дзеля славы свайго імя я падарую табе лёгкую смерць.

І ён загадаў ахоўнікам правесці Азіру, не даючы воінам закідваць яго граззю і конскім дзярмом. Ахоўнікі адразу атачылі палоннага шчыльным колам і нават ударылі аднаго воіна дрэўкам дзіды, калі той выкрыкнуў нейкую абразлівую лаянку. Але ўвогуле, воіны ўжо не трымалі зла на палоннага амарэйскага цара, па віне якога перажылі столькі пакутаў і цяжкасцяў, яны больш захапляліся яго мужнасцю. У гэты час з другога шатра вывелі Кефцью з двума сынамі. Кефцью была прыбраная згодна са звычаем, прынятым у сірыйскіх жанчын, намазалася бяліламі ды румянамі, а хлопчыкі ішлі побач, узяўшыся за рукі, і выступалі горда, адпаведна годнасці царскіх дзяцей. Убачыўшы сваю сям'ю Азіру, адразу крыху аслабеў і сказаў:

— Кефцью, Кефцью, белая мая кабыліца, зрэнка маіх вачэй, каханая! Маё сэрца шчыміць ад таго, што ты ідзеш на смерць за мяне! Жыццё магло б быць для цябе такое салодкае!

Але Кефцью супакоіла яго:

— Не засмучайся, мой уладар, бо я з радасцю пайду на смерць за табою. Ты мой адзіны, магутны, як бык, мужчына, і пасля цябе ніхто мне не будзе любы. Ва ўсе дні нашага жыцця я адваджвала ад цябе іншых жанчын і, як магла, прывязвала цябе да сябе, дык няўжо я адпушчу цябе аднаго блукаць па апраметнай? Не, я пайду за табой, каб не спускаць з цябе вока, і не дазволю цешыцца іншымі прыгажунямі, якія чакаюць цябе там. Перасцярога не шкодзіць ніколі, і таму я пайшла б за табою, нават калі б мне пакінулі жыццё! Я задушыла б сябе сваімі ж валасамі, каб толькі пайсці за табой, мой уладар, бо я была простай рабыняй, а ты зрабіў мяне царыцай, і я дала табе двух прыгожых сыноў!

Азіру ад яе слоў узрадаваўся і зноў набыў горды царскі выгляд. Тады ён прамовіў да дзяцей:

— Мае любыя хлопчыкі! Вы нарадзіліся на свет царскімі сынамі, дык і прыміце смерць, як належыць царскім нашчадкам, каб мне не саромецца за вас. Паверце, паміраць не болей балюча, чым выдраць хворы зуб. Дык будзьце мужнымі, любыя мае сыны!

З гэтымі словамі ён стаў на калені перад катам, павярнуўся да Кефцью і сказаў:

— Мне абрыдла глядзець на гэтых паганых егіпцян з іх запэцканымі ў крыві дзідамі. Агалі перада мной свае раскошныя грудзі, Кефцью, каб я, паміраючы, бачыў перад сабой тваю прыгажосць і прыняў смерць з такім самым шчасцем, з якім пражыў з табой усё жыццё.

Кефцыю агаліла свае белыя раскошныя грудзі, кат узняў цяжкі меч і адным ударам адсек Азіру галаву. Яна адкацілася пад ногі Кефцыю, з магутнага цела патокам хлынула кроў і запэцкала сынам Азіру вопратку. Малодшы спалохаўся і пачаў калаціцца ад страху, але Кефцыю падняла галаву мужа, пацалавала яе ў разбітыя вусны, правяла рукой па параненых шчоках, прыціснула да грудзей і сказала сынам:

— Паспяшайцеся мае мужныя хлопчыкі! Ідзіце, мае любыя, без страху за бацькам, бо вашая маці таксама спяшаецца пайсці за ім.

І абодва хлопчыкі паслухмяна ўкленчылі, старэйшы па-ранейшаму трымаў малодшага за руку, нібы абараняючы ад зямных страхаў, і кат лёгка перасек іх тонкія дзіцячыя шыі. Потым, адпіхнуўшы нагой убок іх галовы, ён гэтак сама лёгка перасек белую шыю Кефцыю. Яны прынялі лёгкую смерць. А іх целы Харэмхеб загадаў кінуць у яму на спажыву падлажэрам.

**5**

Так вось памёр мой сябар Азіру, нават не спрабуючы падкупіць смерць, а Харэмхеб заключыў мір з хетамі, хоць і ён, і хеты добра ведалі, што гэта не мір, а толькі перамір'е, бо Сідон, Сіміра, Бібл і Кадэш заставаліся па-ранейшаму ў руках хетаў. Яны збудавалі ў Кадэшу непрыступныя ўмацаванні і зрабілі яго апорай сваёй улады ў Паўночнай Сірыі. Але ж і Харэмхеб, і хеты ўжо стаміліся тады ад бясконцай вайны, а таму з вялікай радасцю заключылі мір.Апроч таго, Харэмхебу трэба было абараняць свае інтарэсы ў Фівах і ўтаймоўваць зямлю Куш і неграў, якія зусім разбэсціліся ад беспакаранасці і не хацелі плаціць даніну Егіпту.

У гэтыя гады Егіптам кіраваў фараон Тутанхамон, які нягледзячы на хлапечы ўзрост клапаціўся толькі пра пабудову сваёй грабніцы, і народ вінаваціў яго ва ўсіх нягодах і бедах, выкліканых вайной, людзі ненавідзелі яго і казалі: «Што можна чакаць ад уладара, калі ў жылах ягонай жонкі цячэ кроў праклятага фараона!» Жрэц Эйе зусім не стараўся выкараняць такія размовы, бо яны спрыялі яго інтарэсам. Наадварот, ён сам распускаў чуткі пра сквапнасць і неразумнасць фараона і казаў, што той нібыта хоча сабраць усе скарбы Кэмет, каб аздобіць сваю грабніцу. А фараон сапраўды ўвёў новы падатак на нябожчыкаў, каб сабраць на сваю грабніцу сродкі, і кожны памерлы ў Егіпце цяпер павінен быў плаціць падатак дзеля вечнага збераження цела. Але гэтую думку фараону ў галаву ўклаў сам Эйе, ведаючы, як гэта раз'юшыць народ.

Усе гэтыя гады мяне не было ў Фівах, бо я вандраваў з войскам, якому патрэбнае было маё лекарскае майстэрства, але ўсе, хто прыязджаў з Фіваў, расказвалі, што фараон Тутанхамон слабы і хваравіты і што нейкая таямнічая немач пажырае ягонае цела. Казалі, што вайна ў Сірыі дзіўным чынам знясільвае яго, бо калі ў Фівы прыходзіць вестка аб перамогах, фараон захворвае і кладзецца ў ложак, а калі егіпецкія войскі церпяць паразу — ачуньвае і ўстае з ложка. Казалі таксама, што тут пахне чарадзействам, і кожны, хто мае вочы, можа заўважыць сувязь стану фараонава здароўя з вайной у Сірыі.



Але з часам жрэц Эйе рабіўся ўсё больш нецярплівым і раздражнёна пісаў Харэмхебу: «Калі ж ты, нарэшце, пераможаш? Я стары чалавек і стаміўся чакаць. Перамагай хутчэй, Харэмхеб, і прынясі мір у Егіпет, каб я мог атрымаць па дамове сваё, а ты — сваё».

Я не адчуў здзіўлення, калі, ідучы пад усімі ветразямі на баявых караблях, мы атрымалі вестку, што вялікі фараон Тутанхамон урачыста ўзышоў у залаты човен бацькі Амона, каб адплыць у Палі захаду. Казалі, што ў дзень, калі ў Фівы прыйшло паведамленне пра ўзяцце Мэгіды і заключэнне міра, таямнічая хвароба зноў апанавала фараона Тутанхамона. Але ад якой хваробы ён памёр, лекары ў Доме жыцця вызначыць не змаглі. Хадзілі чуткі, што жывот у фараона пачарнеў ад атруты. Зрэшты, нічога пэўнага вядома не было, а ў народзе казалі, што калі скончылася вайна, фараон памёр ад злосці, бо галоўнай ягонай радасцю было глядзець на пакуты Егіпта. Але ж я ведаў, што прыкладаючы пячатку да глінянай таблічкі з мірнай дамовай, Харэмхеб забіваў фараона з такой самай непазбежнасцю, як калі б сам усадзіў яму нож у сэрца. Жрэц Эйе толькі і чакаў гэтай хвіліны, каб змесці Тутанхамона са сваёй дарогі і заняць царскі трон у вобразе фараона-міратворцы.

Мы вымазалі граззю твары, спусцілі рознакаляровыя сцягі на караблях, а Харэмхеб з вялікай злосцю загадаў скінуць у ваду целы сірыйскіх і хецкіх военачальнікаў, якія па завядзёнцы вялікіх фараонаў, упрыгожвалі насы яго караблёў. І Харэмхебавы гаўнюкі, якіх ён узяў з сабой павесяліцца ў Фівах, пакінуўшы пацучынае адроддзе тлусцець на сірыйскіх харчах і падтрымліваць спакой у Сірыі, былі нездаволеныя і праклінлі імя фараона Тутанхамона, бо той як жывы, так і мёртвы рабіў ім толькі непрыемнасці. Разхлаваныя, яны гулялі на караблях у цыркі, ставячы на кон здабытае ў Сірыі, і ўчынялі бойкі за сірыйскіх палонніц, якіх везлі з сабой, каб прадаць пасля таго, як самі ўволю нацешацца. Яны набівалі гузакі, наносілі адзін аднаму раны і замест жалобных песень гарлалі непрыстойныя прыпеўкі, і богабаязныя людзі, якія збіраліся на берагах, з жахам глядзелі на іх паводзіны. Дый прызнаць у гэтых воінах егіпцянаў было цяжка: яны ўсе былі апранутыя ў сірыйскую ці хецкую вопратку, захопленую ў пераможаных, перасыпалі размову сірыйскімі ды хецкімі словамі, змяшанымі з мярзотнаю лаянкай, а шмат хто нават пачаў пакланяцца ў Сірыі Ваалу і вёз яго ісход з сабой у Егіпет. Але не мне дакараць іх, бо я сам прынёс Ваалу

Амарэйскаму вялікую ахвяру з віна і мяса ў памяць па маім сябры Азіру. Я кажу пра гэта толькі, каб растлумачыць, чаму народ пазбягаў воінаў Харэмхеба, як чужынцаў, хоць і славіў іх, як пераможцаў у Сірыі. Дый самі воіны глядзелі на Егіпет як чужынцы, бо не бачылі краіну шмат гадоў і не пазнавалі яе. Не пазнаваў яе і я. Дзе б не прыставаў да берага наш карабель, паўсюль мы бачылі толькі смутак, галечу і заняпад. Вопратка ў людзей ад шматкротнага мыцця была шэрая і пакрытая нейкімі плямамі, скура на тварах высахла і загрубела без масцяў, вочы глядзелі стомлена і недаверліва, а спіны беднякоў пакрыліся слядамі ад бізуноў і палак, з дапамогай якіх зборшчыкі выбівалі фараонавы падаткі. Грамадскія будынкі не абнаўляліся і старэлі, на дахах судоў гнездаваліся птушкі, а цагляныя сцены фараонавых гмахаў крышыліся і абвальваліся прама на вуліцу. Дарогі таксама ўжо шмат гадоў не прыводзіліся ў парадак праз недахоп жывой сілы, якую пасылалі на вайну ў Сірыю, схілы арашальных каналаў абваліліся, а вузенькія канавы на палях спрэс зараслі травой.

Квітнелі толькі храмы, іх сцены ззялі свежаю пазалотай і яркімі новымі малюнкамі ды пісьмёнамі з услаўленнем Амона. Жрацы Амона вызначаліся сваёй дзябёласцю і бліскучымі ад алею паголенымі галовамі. І пакуль яны жэрлі мяса ахвяраў, беднякі душыліся сухім хлебам, запіваючы яго вадой з Ніла. Былыя багацеі, якія ў ранейшыя часы пілі віно з залатых сасудаў, цяпер задавальняліся слабым півам, дый тое, можа, адзін раз на круг маладзіка. Маўклівыя жанчыны білі бялізну пранікамі ў схуднелых руках, а дзеці крадком, нібы спалоханы зняркі, перабягалі дарогу і выкопвалі з глею карані водных раслінаў, каб неяк наталіць голад. Вось такім вайна зрабіла Егіпет, знішчыўшы ўсё, што зберагаў Атон. Таму людзі ўжо нават не радаваліся міру, а спалохана глядзелі на баявыя караблі Харэмхеба, якія ішлі ўверх па рацэ.

Толькі ластаўкі, як і раней, сноўдалі над вадой на сваіх лёгкіх крылах, і ў чаратах рыкалі бегемоты, а на водмелях ляжалі кракадзілы, і маленькія птушачкі чысцілі ім зубы ў разяўленых пашчах. Мы пілі нільскую ваду, падобнай да якой няма на свеце,— ваду, якая лечыць і наталяе смагу. Мы ўдыхалі пах глею, слухалі шолах ветру ў зарасцях папірусу і крыкі качак, і, гледзячы, як плыве па бяздоннаму сіняму небу Амон на залатым чоўне, ведалі, што вярнуліся дадому.

І вось настаў дзень, калі ўдалечыні паказаліся тры вяршыні, тры пракаветныя вартаўнікі Фіваў. Потым мы ўбачылі дахі вялізарных храмаў, і асляпляльна яркія залатыя абеліскі паўсталі перад нашым вачыма. Мы ўбачылі Заходнія горы і бяскрайні Горад мёртвых, высокія каменныя дамбы і фіванскую гавань, бядняцкія раёны горада з іх незлічонымі глінянымі хацінкамі без адзінай травінкі і раёны багацеяў, дзе месціліся палацы знаці, што патаналі ў кветках і зеляніне паплаўцоў.



Так я вярнуўся ў Фівы, поўны рашучасці ніколі больш не пакідаць гэты горад, бо мае вочы нагледзеліся дастаткова ліха, і не было пад гэтым небам нічога новага. Я цвёрда вырашыў застацца ў Фівах і правесці рэшту свайго жыцця ў былым доме медніка ў бядняцкім квартале. Усё атрыманае ў Сірыі, я патраціў на ахвяру сябру Азіру, не жадаючы захоўваць нарабаванае, якое пахла крывёй і не магло радаваць ці прынесці карысць. Я пакінуў Азіру ўсё, што нажыў у ваенных паходах і вярнуўся ў Фівы бедняком.

Але мая мера яшчэ была няпоўная, мяне чакала яшчэ адна падзея, якой я не жадаў, якой баяўся, але пазбегнуць не мог. А таму праз некалькі дзён я зноў мусіў пакінуць Фівы. Эйе і Харэмхеб меркавалі, што спрытна раскінулі свае нераты і мудра ажыццяўляюць свае задумы. Ім здавалася, што яны моцна трымаюць у руках уладу. Але гэтая ўлада, неўпрыкмет выслізнула ў іх з рук, і лёс Егіпта пачаў залежаць не ад іх, а ад зламыснай жанчыны. Таму раней, чым я скончу свой аповед і супакоюся, мне давядзецца расказаць яшчэ пра царыцу Неферціці і царэўну Бэкетамон. Але дзеля гэтага я пачну новы папірус, і хай ён будзе апошнім у тым, што я пішу дзеля сябе, каб хоць бы самому сабе растлумачыць, як магло стацца, каб я, народжаны лекарам, зрабіўся забойцам.

# ПАПІРУС ПЯТНАЦЦАТЫ
## Харэмхеб

### 1

Паводле дамовы з Харэмхебам Носьбіт царскага жазла Эйе рыхтаваўся ўскласці на сваю галаву кароны адразу пасля пахавання фараона Тутанхамона. Каб наблізіць гэтую падзею, Эйе прыспешыў бальзамаванне цела Тутанхамона і спыніў пабудову царскай грабніцы, якая так і засталася невялікай і вельмі сціплай у параўнанні з грабніцамі вялікіх фараонаў. Апроч таго, Эйе прысвоіў сабе частку скарбаў, якія Тутанхамон думаў узяць з сабой у Краіну захаду. Паводле гэтай самай дамоўленасці Эйе павінен быў угаварыць царэўну Бэкетамон на шлюб з Харэмхебам, каб той мог пасля смерці Эйе законным чынам узысці на трон фараонаў, хоць і быў народжаны ў хляве на кучы гною. Эйе дамовіўся са жрацамі, што адразу пасля пахавання фараона і дзён жальбы царэўна Бэкетамон з'явіцца перад Харэмхебам у вобразе багіні Сэхмет, у чый храм Харэмхеб прыйдзе, каб адсвяткаваць перамогу ў вайне. Там яны прылюдна разаб'юць гаршчок, і Харэмхеб возьме ў жонкі царэўну Бэкетамон. Атрымаецца, што іх шлюб блаславілі багі, і Харэмхеб стане боскай асобай. Такі план прыдумалі жрацы на чале з Эйе, але ў царэўны Бэкетамон быў іншы план, на які яе падбухторыла царыца Неферціці,— яна люта ненавідзела Харэмхеба і разлічвала стаць другой жанчынай ў Егіпце, калі яе план здзейсніцца.

А той план быў напраўду бязбожны і злачынны, і толькі бязмежная жаночая зламыснасць магла спарадзіць яго. І ён ледзьве не ажыццявіўся — менавіта таму, што нікому такое не магло прыйсці ў галаву, а калі й прыйшло б, дык здалося б неверагодным. Значна пазней, калі ўсе акалічнасці гэтай справы сталі вядомыя, высветлілася, чаму хеты былі такія шчодрыя і падатлівыя і нават самі прапанавалі мір, аддаўшы Мэгіду і Амарэю і прыняўшы ўсе ўмовы, прапанаваныя егіпцянамі. Хеты былі людзі мудрыя і прыхоўвалі яшчэ адну сваю стралу, пра якую ні Харэмхеб, ні жрэц Эйе не здагадваліся. Заключаючы мір і згаджаючыся на ўсе ўмовы, хеты былі ўпэўненыя, што нічога не страчваюць. Пры такой іх падатлівасці Харэмхеб мусіў бы западозрыць нядобрае, але ваенныя поспехі зусім асляпілі яго, дый, апроч таго, ён і сам прагнуў міру, каб умацаваць сваю ўладу ў Егіпце і заключыць шлюб з царэўнай Бэкетамон. Ён так доўга чакаў гэтага шлюбу, што чаканне давяло яго да слепаты, і ён не прачуў хітрасці хетаў.





Што да Неферціці, то і пасля таго, як яе муж памёр і яе прымусілі пакланіцца Амону, яна не звыкнулася з думкай, што стала цяпер проста адной са шматлікіх жанчын у Залатым палацы. Нягледзячы на ўзрост, яна заставалася прыгожай, хоць прыгажосць была ўжо не тая, яна трошкі падвяла і патрабавала заўсёднага клопату і дагляду. Але і цяпер Неферціці здолела прывабіць да сябе шмат прыдворных вяльможаў. Розумам і хітрасцю яна заваявала дружбу царэўны Бэкетамон і змагла распаліць яе кволую гордасць да памераў вынішчальнага пажару. Урэшце пыха так раз'ела сэрца царэўны, што ператварыла яе ледзь не ў вар'ятку. Бэкетамон да таго ганарылася сваім высокім паходжаннем, што не дазваляла звычайнаму чалавеку, нават вяльможы, не толькі дакранацца да яе, але і наступаць на яе цень. Усё жыццё яна пыхліва зберагала сваю недатыкальнасць, бо, на яе думку, ва ўсім Егіпце не было мужчыны, роўнага па годнасці ёй, у чыіх жылах цякла кроў вялікага фараона. Таму яна была незамужняя, хоць даўно прамінула свой шлюбны ўзрост. І я думаю, менавіта гэтая недатыкальнасць і ўдарыла ёй у галаву, зрабіўшы хворым яе сэрца, а вылечыць яе мог добры шлюбны ложак. Яна была прыгожая, а ганарлівая пастава і фанабэрыстасць зрабілі яе прыгажосць неадчувальнай да гадоў, тым болей што гэтую прыгажосць яна сама старанна песціла.

Неферціці як магла падагравала ў Бэкетамон фанабэрыстасць і ўбівала ёй у галаву, што яна народжаная дзеля вялікіх здзяйсненняў і ёй наканавана выратаваць Егіпет ад дамаганняў рознага быдла і не даць яго ў рукі нізкародным захопнікам. Яна расказвала царэўне пра вялікую царыцу Хатшэпсут, якая прывязвала царскую бараду, апяразвалася ільвіным хвастом і ўладарыла, седзячы на фараонаўскім троне. Яны разам наведалі шматкаляровы скальны храм Хатшэпсут з белымі калонамі і прайшліся па міртавых тэрасах. І доўга разглядалі выявы вялікай жанчыны-фараона, а Неферціці запэўнівала Бэкетамон, што яе прыгажосць падобная да прыгажосці вялікай Хатшэпсут.

Пра Харэмхеба Неферціці нагаварыла шмат нядобрага, і ў сваёй фанабэрыстасці царэўна Бэкетамон пачала яго проста баяцца: ён паходзіў з быдла, быў магутны, высакарослы — на галаву вышэйшы за іншых прыдворных,— а дачцэ вялікага фараона ўжо адна думка, што гэты чалавек можа, як грубы салдат, авалодаць ёй гвалтам і апаганіць яе свяшчэнную кроў, была невыноснай. Зрэшты, я думаю, яна магла ўзненавідзець Харэмхеба й нашмат раней — за тое, што яго грубая сіла патаемна вабіла яе, і калі ён, яшчэ зусім малады, упершыню з'явіўся ў Залатым палацы, яна надта часта заглядалася на яго і надта палка хвалявалася ад яго позіркаў, хоць, напэўна, нават сабе не прызнавалася ў гэтым.

Словам, калі вайна ў Сірыі набліжалася да заканчэння, а фараон

Тутанхамон згасаў на вачах, Неферціці было няцяжка схіліць Бэкетамон на свой бок. Неферціці была дачкой Эйе, але ненавідзела бацьку за тое, што пасля смерці Эхнатона ён скарыстаў яе, а потым, забраўшы ўсю ўладу, трымаў у Залатым палацы, як у вязніцы, не дазваляючы нават удзельнічаць у святочных цырымоніях. Можа, у яе былі і іншыя падставы для нянавісці, але казаць пра гэта я не лічу патрэбным, бо не хачу паўтараць плёткі Залатога палаца, хоць ведаю, што яго сцены сапраўды хаваюць шмат жахлівых таямніцаў. Я хачу толькі сказаць, што прыгажосць і розум жанчыны з закамянелым сэрцам — гэта тое спалучэнне, ад якога не даводзіцца чакаць нічога добрага, яно больш небяспечнае і смертаноснае, чым разакі на баявых калясніцах, бо, на маю думку, няма нічога страшнейшага за прыгожую і разумную жанчыну без сэрца, і задума Неферціці з Бэкетамон — лепшае таму сведчанне.

Пра зламысны план стала вядома ў першыя дні, калі Харэмхеб прыехаў у Фівы і нецярпліва хадзіў ля пакояў Бэкетамон, каб сустрэцца і пагаварыць з ёю, а яна адмаўлялася яго прыняць. Выпадкова ён убачыў, як да Бэкетамон прыехала хецкае пасольства і пасла неадкладна дапусцілі ў яе пакоі. Ён прабыў там незвычайна доўга, што вельмі зацікавіла Харэмхеба, і ён па сваёй волі, без чыйго-небудзь дазволу загадаў пасла затрымаць, на што той адказаў пагрозамі, паводзіў сябе фанабэрыста і размаўляў так, як гэта можа сабе дазволіць толькі ўладарная асоба.

Харэмхеб паведаміў пра здарэнне жрацу Эйе, і ўначы яны гвалтам уламаліся ў пакоі Бэкетамон, забілі рабоў-ахоўнікаў і ўчынілі вялікіператрус. У выніку была знойдзеная перапіска Бэкетамон з хетамі, якую царэўна хавала пад попелам у агменю. Прачытаўшы гліняныя таблічкі, Харэмхеб з Эйе жахнуліся. Яны зараз зачынілі Бэкетамон у яе пакоях і паставілі на дзвярах варту. Гэтак сама яны зрабілі з Неферціці і тою ж ноччу з'явіліся да мяне ў былы дом медніка, які Муці адбудавала на срэбра, прысланае Каптахам з Сірыі. Іх прынеслі ў простых насілках, іх твары былі закрытыя вопраткай, і таму Муці іх не пазнала. Пускаючы нечаканых наведнікаў у дом, яна злосна бурчэла, што ёй даводзіцца мяне будзіць гэтак позна. Але я не спаў, бо пасля таго, што давялося пабачыць у Сірыі, спаць спакойна было немагчыма. Я ўстаў з ложка, думаючы, што прыйшлі па тэрміновую дапамогу, але, пазнаўшы гасцей, нават крыху збянтэжыўся. Я загадаў Муці прынесці віна, а самой ісці спаць. Але Харэмхеб быў такі ўзрушаны, што сказаў, што Муці трэба забіць, бо яна бачыла іхнія твары і магла падслухаць размову. Раней я Харэмхеба такім разгубленым ніколі не бачыў і цяпер нават адчуваў ад гэтага задавальненне. Я сказаў яму:

— Не, Харэмхеб, я не дазволю табе забіць Муці! Я баюся, што нешта нядобрае адбываецца з тваёй галавой, калі ты нясеш такую лухту. Муці — проста глухая бабулька, якая храпе, як бегемоціха, калі спіць, і ты зараз гэта пачуеш. Так што пі віно і не бойся бабулек.



Але Харэмхеб нецярпліва запярэчыў:

— Хопіць гэтых дурных размоваў пра храп,Сінухе! Я не дзеля таго сюды прыйшоў! Што значыць жыццё адной бабулі, калі ўвесь Егіпет у небяспецы, і ты павінен выратаваць яго.

Эйе пацвердзіў яго словы, сказаўшы:

— Егіпту сапраўды пагражае смяротная небяспека, і мне разам з ім. Ніколі яшчэ небяспека не была такою вялікай, і мы просім тваёй дапамогі ў гэтым цяжкім становішчы.

Я горка засмяяўся і паказаў ім свае пустыя далоні. Тады Харэмхеб даў мне пачытаць гліняныя таблічкі хецкага цара Супілуліумы, а потым — копіі адказаў Бэкетамон, пасланых ёю ў Хатушаш незадоўга да канца вайны. Калі я іх прачытаў, мне стала не да смеху і нават віно страціла смак. Бэкетамон пісала хецкаму ўладару: «Я дачка фараона, у маіх жылах цячэ свяшчэнная кроў вялікага фараона, і ва ўсім Егіпце не знойдзецца нікога роўнага мне па крыві і нараджэнні, а ў цябе шмат сыноў. Прышлі мне аднаго, каб ён мог стаць маім мужам і ўладарыць разам са мной у зямлі Кэмет».

Гэтае пасланне было такім нечуваным, што асцярожны Супілуліума спачатку не паверыў і накіраваў у Егіпет пасла з таемным лістом да Бэкетамон, каб высветліць яе намеры. І яна пацвердзіла іх, перадаўшы з пасломдругі ліст, у якім запэўнівала цара хетаў, што яе падтрымліваюць егіпецкія вяльможы і жрацы Амона. Гэта пераканала Супілуліуму, ён паспяшаўся заключыць мір з Харэмхебам і пачаў рыхтаваць сына Супату да паездкі ў Егіпет. Было дамоўлена, што Супату выедзе з Кадэша ў суправаджэнні каравана з падарункамі для Бэкетамон, і, калі верыць напісанаму ў апошняй таблічцы, ён быў ужо на паўдарогі да Егіпта.

Пакуль я чытаў гэтыя пасланні, мае госці пачалі сварыцца. Харэмхеб дакараў Эйе:

— Гэта твая падзяка за ўсё, што я зрабіў для цябе?! Падзяка за вайну, у якую я столькі нацярпеўся, але перамог-такі хетаў?! Праўду кажу: больш было б карысці ад сляпога сабакі, якога я, пакуль ваяваў, пакінуў бы абараняць свае інтарэсы ў Егіпце! А ад цябе карысці як ад таго свата, што толькі вымагае хабар, а нявесту не паказвае. Ніколі ў жыцці я не сустракаў чалавека паганейшага за цябе і шкадую аб тым дні, калі датыкнуўся да тваёй рукі, заключыўшы з табой хаўрус. Цяпер мне застаецца адно: захапіць самому з дапамогай маіх малойцаў Фівы і сесці на фараонскі трон.

Але Эйе спалохана запярэчыў:

— Жрацы ніколі не дазволяць такога! Тым больш, што мы не ведаем, колькі сярод іх падтрымліваюць Бэкетамон і колькі вяльможаў удзель-

нічае ў змове. Народ тут ні пры чым — гэта вол, на якога надзяваюць аброць і вядуць, куды хочуць. Не, Харэмхеб, калі Супату прыедзе ў Фівы і разаб'е гаршчок з Бэкетамон, нашай уладзе прыйдзе канец, мы нават не зможам спыніць яго зброяй, бо гэта будзе азначаць новую вайну, а Егіпет яе ўжо не вытрывае. Апроч таго, вайна знішчыць усё, што мы наладзілі з такімі цяжкасцямі. Я, і праўда, быў сляпым сабакам, але ж такой здрады свет на бачыў і я ўявіць не мог такога! Сінухе, ты павінен дапамагчы нам!

— Дзеля ўсіх багоў Егіпта! — адказаў я. — Чым гэта я вам магу дапамагчы? Я ўсяго толькі лекар і не магу прымусіць гэтую шалёную бабу палюбіць Харэмхеба, нават калі зраблю ёй трэпанацыю.

— Аднойчы ты ўжо дапамог нам, — жорстка адказаў Харэмхеб. — А калі ўзяўся за вясло, дык трэба веславаць да канца, хочаш ты ці не. Таму ты павінен выехаць насустрач Супату і паклапаціцца, каб да Егіпта ён не даехаў. Як ты гэта зробіш, мы не ведаем дый ведаць не хочам. А калі мы заб'ем яго ў адкрытую, гэта будзе пачаткам новай вайны з хетамі, а я хачу сам выбіраць час, калі трэба пачынаць новую вайну.

Яго словы жахнулі мяне, калені закалаціліся, і сэрца знямела. Касцянеючым языком я запярэчыў:

— Гэта праўда, я некалі дапамог вам, але я зрабіў гэта як для сябе, так і для Егіпта. А гэты царскі сын нічога дрэннага мне не зрабіў, дый бачыў я яго толькі аднойчы каля твайго шатра ў дзень смерці Азіру. Не, Харэмхеб, таемным забойцам ты мяне не зробіш, і я лепей памру, чым зраблю такое ганебнае злачынства. Калі я і напаіў фараона Эхнатона смерцю, то зрабіў гэта дзеля яго самога, бо ён быў хворы, а я быў ягоным сябрам.

Харэмхеб спахмурнеў і пачаў хвастаць сабе бізуном па назе, а Эйе сказаў:

— Сінухе, ты разумны чалавек і сам ведаеш, што мы не можам кінуць царства, як сяннік пад ногі звар'яцелай бабе. Супату павінен памерці па дарозе ў Егіпет, і нас цікавіць, як гэта адбудзецца — ад хваробы, ці яго проста заб'юць, — але іншага выйсця ў нас няма. Таму ты павінен сустрэць яго ў Сінайскай пустэльні, бо як прыдворны лекар павінен агледзець яго і ўпэўніцца, што ён можа быць мужам егіпецкай царэўны. Ён ахвотна ў гэта паверыць і гасцінна прыме цябе. Ён пачне распытваць пра царэўну Бэкетамон: царэвічы таксама людзі, і ён ламае цяпер сабе галаву, якую страшыдлу падсоўвае яму ў жонкі Егіпет. Справа гэта не простая, Сінухе, але ж, калі ты яе зробіш, ты станеш багатым чалавекам.

— Хутчэй выбірай, — прыспешыў мяне Харэмхеб, — выбірай, Сінухе, паміж жыццём і смерцю, бо ты не можаш застацца жывы пасля таго, што пачуў. Гэта таямніца фараонаў, і сведкаў тут быць не павінна. Я не пагляджу, што ты мой сябар, — яшчэ адно слова, і я разрэжу табе горла ад вуха да вуха. Ты ўжо звязаны з намі адным агульным злачынствам, і мы ахвотна падзелім з табой другое, калі можна назваць злачынствам вызваленне Егіпта ад улады хетаў ды ашалелай бабы.



Так я апынуўся ў нераце, які сплялі мне мае ўласныя ўчынкі. Вяроўкі, якая так моцна звязвала мяне, пачынала віцца з вельмі далёкіх часоў — з ночы смерці вялікага фараона, а можа й раней, калі стары Птахор прыходзіў у дом майго бацькі, ці яшчэ раней, калі я плыў у трысняговым чоўне ўніз па рацэ. Але толькі падаўшы фараону Эхнатону чашу са смяротным напоем, я неадрыўна прывязаў сябе да Харэмхеба і Эйе. Зрэшты, я быў тады ў такой жальбе і адчаі, што нічога не зразумеў.

— Ты ведаеш, Харэмхеб, што я не баюся смерці, — адказаў я, дарэмна стараючыся надаць сабе бадзёры выгляд, бо мне зусім не хацелася гінуць пад нажом, які Харэмхеб трымаў каля майго горла.

Я пішу гэта не дзеля таго, каб неяк прыўкрасіць сваю асобу, і павінен з сорамам прызнацца, што тою ноччу думка пра смерць вельмі палохала мяне, асабліва таму, што ўзнікла яна нечакана і я не меў часу да яе прызвычаіцца. Каб я мог падрыхтавацца да смерці, я так не спалохаўся б. Але тады я думаў не пра смерць, а пра палёт імклівых ластавак над вадой, пра тое, якое смачнае віно ў фіванскай гавані, пра смажаную па-фіванску гуску, якою так цудоўна гатуе Муці, і жыццё мне падалося такім салодкім. Я падумаў і пра Егіпет, пра тое, што фараону Эхнатону давялося памерці, каб выратаваць сваё царства і Харэмхеб ваеннаю сілай мог адбіць напад хетаў. А Эхнатон быў маім сябрам — не тое, што гэты чужаземны і невядомы мне сын хецкага цара, які за вайну, мабыць, натварыў такога, што тысячу разоў заслугоўвае смерці. Дык чаму б і не забіць яго дзеля выратавання Егіпта? У дадатак да ўсяго, мне вельмі хацелася спаць, і таму, пазяхаючы, я сказаў:

— Схавай свой нож, Харэмхеб, выгляд гэтай дурной зброі мне непрыемны. Хай будзе так, як ты сказаў. Я гатовы зноў выратаваць Егіпет ад улады хетаў, хоць не маю ніякага ўяўлення, як мне ўдасца гэта зрабіць. Напэўна, мне давядзецца заплаціць жыццём, бо хеты безумоўна, мяне заб'юць, калі Супату памрэ. Але я не надта трасуся за сваё жыццё і зусім не хачу, каб хеты селі на трон егіпецкіх фараонаў. Аднак майце на ўвазе, што я згаджаюся не дзеля вашай узнагароды, а таму, што здзейсніць гэта мне наканавана зоркамі яшчэ да майго нараджэння і ўнікнуць наканаванага я не магу. Дык прыміце царскія кароны з маіх рук, вы, Харэмхеб ды Эйе, прыміце і ўслаўце маё імя, імя простага лекара Сінухе, які зрабіў вас фараонамі!

Калі я завяршаў сваю прамову, мне так і рупіла зарагатаць, бо не ў іх, а ў маіх жылах цякла царская кроў, і напэўна, я быў адзіны законны

спадкаемец царскай улады: Эйе паходзіў з нязначных жрацоў багасонца, а ад бацькоў Харэмхеба дагэтуль пахла хлявом і сырам. Я заціснуў рот рукой і захіхікаў, нібы старая баба, уяўляючы, што, калі б я валодаў такой цвёрдасцю і ўпартасцю, як Харэмхеб, або жорсткасцю і зламыснасцю, як Эйе, маё жыццё пайшло б зусім па-іншаму, і калі б я знайшоў пацверджанне свайго высокага паходжання, то цяпер сам узыходзіў бы на царскі трон, бо ў такія бурныя і цёмныя часы ўсё бывае магчыма. Але ўлада палохала мяне, і акрываўленыя царскія кароны ўсялялі ў маю душу жах, бо сонечная егіпецкая кроў ува мне змяшалася са слабой мітаннійскай крывёю, змрочнаю і вечаровай. Таму ў хвіліну небяспекі і выпрабаванняў мяне разбірае смех, а ад страху я хачу спаць, чым адрозніваюся ад астатніх.

Мой смех вельмі злаваў Харэмхеба, і ён зноў пачаў нецярпліва хвастаць сябе бізуном па назе Але Эйе не звярнуў на мой смех ніякай увагі. Ён быў стары чалавек і шмат пабачыў у жыцці, каб зважаць на чужыя смех ці слёзы,— для яго значэнне мелі толькі ўласныя пачуцці і жаданні. У гэтую хвіліну я ўбачыў іх сапраўдныя абліччы, без раскошнага ўбрання,— я ўбачыў, што гэта былі простыя рабаўнікі, якія абіралі мёртвае цела Егіпта, ці неразумныя дзеці, якія прагнулі ўдосталь нагуляцца з царскімі каронамі ды іншымі знакамі царскай улады. Я ўбачыў, што яны сталі рабамі сваіх жаданняў, неспатольнай прагі ўлады і цяпер ужо ніколі не будуць шчаслівыя. Я рэзка перастаў смяяцца, бо мае вочы выразна ўбачылі будучыню. І я сказаў Харэмхебу:

— Харэмхеб, мой дружа, царскі вянец — цяжкая ноша. Ты спасцігнеш гэта аднойчы, калі спякотны дзень будзе схіляцца да вечара, калі скаціну пагоняць да ракі на вадапой, а вакол цябе запануе мёртвая цішыня.

Але Харэмхеб адказаў:

— Пара ў дарогу, бо карабель чакае. Ты павінен сустрэць Супату ў Сінайскай пустэльні, раней чым ён даедзе да Таніса.

Так, сярод ночы я спешна выехаў з Фіваў. Харэмхеб даў мне самы хуткі свой карабель, на які я загадаў пагрузіць свой лекарскі куфэрак і рэшткі смажанай па-фіванску гускі, якую Муці згатавала мне на абед. Загадаў я пагрузіць і віно, каб неяк бавіць час у дарозе, бо якая доля мяне чакала наперадзе, мне ўжо было ўсё адно.

## 2

На караблі ў мяне хапала часу на роздум, і разважыўшы над тым, што сказаў Харэмхеб, я пачаў прыспешваць весляроў як мог: я падганяў іх палкамі і абяцаў багатыя дарункі, бо чым болей думаў, тым больш разумеў, што на Егіпет з пустэльні насоўваецца вялікая небяспека. Я мог бы лёгка цяпер апраўдаць і нават уславіць сябе, сказаўшы, што рабіў усё гэта дзеля Егіпта, але сутнасць чалавечых паводзінаў не такая простая — віно яго ўчынкаў ніколі не бывае чыстым, у ім заўсёды змяшана шмат розных матываў. Гэтыя радкі я пішу для сябе і таму магу прызнацца, што наўрад ці ўзяўся б за гэтую справу, калі б не адчуў тою ноччу вялікі страх смерці ў сваім доме. Але каб выканаць гэтае даручэнне, мне давялося спачатку яго старанна ўпрыгожыць і апрануць у квяцістыя строі, каб самому паверыць, нібыта я стараюся дзеля дабрабыту зямлі Кэмет, ратуючы яе ад вялікай небяспекі. Толькі цяпер, на старасці гадоў, я ўжо не веру гэтаму, як тады, калі мяне калаціла ліхаманка нецярпення і прага дзеяння і я ляцеў на караблі ўніз па рацэ і ад узрушэння не мог нават спаць. Я зноў адчуваў сябе адзінокім, але мая самота была не тая, што ў іншых, яна большая, бо я нікому не мог адкрыць сваю таямніцу і ні ў каго не мог папрасіць дапамогі. Мая таямніца была таямніцаю фараонаў, і калі б яна адкрылася, загінулі б тысячы. Я павінен быў стаць болей увішнымі вёрткім, чым змяя, бо, калі б мае намеры раскрыліся, мяне чакала б жахлівая смерць ад рук хетаў.

Адначасова ўва мне расла спакуса проста ўцячы і схавацца, як некалі, у казцы, зрабіў мой цёзка Сінухе, падслухаўшы таямніцу фараона. Мной авалодвала вялікае жаданне кінуць усё і аддаць будучыню Егіпта на волю лёсу, і калі б я так зрабіў, падзеі пайшлі б зусім іншым шляхам і свет выглядаў бы цяпер інакш. Добра гэта было б ці дрэнна, сказаць не магу. Цяпер, на схіле сваіх дзён, я разумею, што ўсе ўладары і народы ўрэшце аднолькавыя і не мае значэння, хто сядзіць на троне і які народ прыгнятае другі, бо ў выніку пакутуе заўжды просты люд і, калі б я тады ўцёк, нічога не змянілася б.

Але я не ўцёк, бо я слабы чалавек, а слабы заўсёды падпарадкоўваецца волі іншага і выконвае чужыя, нават самыя жахлівыя даручэнні, замест таго, каб самому вырашаць свой лёс. Напраўду, слабы чалавек лепш дазволіць задушыць сябе, чым адважыцца парваць пятлю на сваёй шыі, і такіх людзей, на маю думку, на свеце шмат.

Так што Супату павінен быў памерці, і я, седзячы пад залатым балдахінам з гарлачом віна, напружваў увесь свой розум і вынаходлівасць, прыдумваючы такі спосаб забойства, які не дазволіў бы знайсці вінаватага і не паставіў бы Егіпет у небяспеку за мой учынак. Гэта было нялёгка, бо хецкі царэвіч, адпаведна яго царскай годнасці, падарожнічаў з вялікаю світай. Апроч таго, хеты — народ недаверлівы і заўсёды прымаюць усе магчымыя меры перасцярогі. Нават сустрэўшыся з ім сам-насам у пустэльні, я не мог бы забіць яго ні стралою, ні дзідай, бо тым самым пакінуў бы сляды свайго злачынства. Я думаў, што Супату можна было б завабіць на пошукі васіліска, у якога замест вачэй зялёныя каштоўныя камяні, а потым спіхнуць са скалы і сказаць, што ён сам падвярнуў нагу і забіўся насмерць. Але гэта было проста дзіцячаю

казкай, бо ніхто не адпусціў бы царскага сына аднаго ў пустэльню: кожны ў свіце адказвае за яго жыццём перад ягоным бацькам, вялікім царом Супілуліумам. Я мог быць упэўнены, што мне не дадуць нават пагутарыць з ім сам-насам. Што да піцця і ежы, то і тут усе знатныя хеты былі абачлівыя і, асцерагчыся атруты, звычайна трымалі пры сабе адмысловых людзей, якія каштавалі ўсё перш, чым падаць гаспадару. Атруціць знатнага хета такім спосабам было немагчыма. Урэшце я пачаў перабіраць розныя гісторыі пра таемныя атруты жрацоў і яды Залатога палаца. Я ведаў, што атрутай можна насыціць няспелы плод яшчэ на галінцы, і той, хто яго сарве, потым немінуча памрэ. Я ведаў, што скруткі з пісьмёнамі маглі прынесці смерць таму, хто іх разгортваў. Я ведаў, што чалавек можа памерці ад водыру кветкі, якую жрацы апрацавалі адпаведным чынам. Але таямніцы гэтых ядаў былі мне невядомыя, дый якімі таемнымі ведамі я не валодаў бы, карысці ад гэтага не было: я не мог вырасціць у пустэльні пладовыя дрэвы, у хецкіх вяльможаў не было звычкі самім разгортваць скруткі — яны гэта даручалі пісарам, а што да кветак, дык хетам больш звыкла было іх таптаць ды ссякаць бізуном, а не нюхаць.

Чым больш я думаў над даручанай справай, тым цяжэйшай яна здавалася. І тут патрэбна была ўся хітрамудрасць Каптаха, але даверыць гэтую таямніцу яму я не мог, дый сам ён пакуль заставаўся ў Сірыі, бо справядліва лічыў, што сірыйскі клімат пасля падзення царства Атона, быў яму болей карыснейшы за егіпецкі. Таму я заклікаў на дапамогу ўсю сваю вынаходлівасць і лекарскія веды, бо смерць для лекара старая знаёмая. Сваімі зёлкамі лекары могуць як залячыць хворага да смерці, так і зрабіць яго здаровым. Калі б Супату захварэў, і мне давялося б яго лячыць, і я лёгка звёў бы яго ў магілу так, што ніводзін лекар не папракнуў бы мяне, бо лекары заўсёды трымаюцца разам і разам хаваюць свае таямніцы і хібы. Але ж Супату не быў хворы, дый каб захварэў, наўрад ці даверыўся б егіпцяніну.

Я так падрабязна расказваю пра свае разважанні, каб было зразумела, якое цяжкае заданне мне даў Харэмхеб. Але напэўна, лепш расказаць, што я зрабіў. У мемфіскім Доме жыцця я папоўніў свае лекарскія запасы, і ніхто не здзівіўся, што я выпісаў шмат атруты: у руках дасведчанага лекара смяротныя для чалавека рэчывы ператвараюцца ў сродкі, якія спрыяюць выздараўленню. Потым я не марудзячы паехаў у Таніс, а адтуль у насілках і ў суправаджэнні світы рушыў у глыбіню пустэльні па адной з ваенных дарог. Такім чынам я хацеў паказаць, што падарожнічаю нетаропка, як чалавек, прызвычаены да раскошы, і як гэта адпавядае годнасці царскага лекара,— каб не выклікаць недаверу ні ў хетаў, ні ў маёй світы.

Звесткі Харэмхеба пра рух Супату аказаліся праўдзівымі і дакладнымі. Я сапраўды сустрэў яго з ягонаю світай праз тры дні дарогі ад Таніса, каля агароджанай крыніцы. Супату таксама падарожнічаў на насілках, зберагаючы свае сілы, і вёў з сабою вялікі караван аслоў, гружаных цюкамі з каштоўнымі падарункамі для царэўны Бэкетамон. Яго ахоўвалі цяжкія баявыя калясніцы, а лёгкія ішлі наперадзе, каб упэўніцца ў бяспецы дарогі, бо цар Супілуліума добра ведаў, што сватаўство яго сына будзе не даспадобы Харэмхебу. Такім чынам, нават калі я арганізаваў бы напад хеўры рабаўнікоў на царскі караван, я гэтым нічога не дабіўся б: каб перамагчы ахову Супату спатрэбілася б цэлая дружына калясніцаў егіпецкага войска, а гэта ўжо азначала б новую вайну.



Але мяне з маёй маленькаю світай хеты сустрэлі вельмі гасцінна, як робяць заўсёды, калі спадзяюцца атрымаць задарма тое, што іначай давялося б заваёўваць сілай. Яны прынялі нас у лагеры, пастаўленым для начлегу, дапамаглі паставіць намёты і акружылі нашу стаянку шматлікай аховай, кажучы, што хочуць абараніць ад нападу пустэльных рабаўнікоў, каб мы маглі спаць спакойна. Аднак, калі Супату даведаўся, што я прыехаў з пасланнем царэўны Бэкетамон, ён не здолеў стрымаць цікаўнасці і захацеў неадкладна пагутарыць са мною.

Так я ўбачыў яго ў шатры. Ён быў малады, статны, з вялікімі яснымі вачыма і цяпер быў не п'яны, як у дзень смерці Азіру каля шатра Харэмхеба, яго смуглы твар свяціўся цікаўнасцю, вялікі нос нагадваў дзюбу драпежнай птушкі, а асляпляльна белыя зубы — зубы драпежнага звера, яны свяціліся, калі царэвіч смяяўся ад задавальнення, гледзячы на мяне. Я аддаў яму пасланне царэўны, якое Эйе прымусіў яе напісаць, і схіліўся перад ім у глыбокім паклоне, апусціўшы рукі да калень, нібыта ён ужо быў маім уладаром. Мне было смешна глядзець на яго ў егіпецкай вопратцы, у якую ён пераапрануўся дзеля сустрэчы са мною, і адчувалася, што яму ў гэтым убранні вельмі нязручна. Ён сказаў:

— Калі мая боская жонка табе давярае, і ты сам — царскі лекар, то і я не буду хаваць ад цябе нічога. Як сын цара, я, уступаючы ў шлюб, звязваю сябе моцнымі вярыгамі з жонкай, чыя краіна павінна стаць маёй краінай, а егіпецкія звычаі — маімі звычаямі. Таму я пастараўся азнаёміцца з імі, каб па прыездзе ў Фівы не выглядаць чужаземцам. Я з нецярпеннем чакаю сустрэчы з егіпецкімі цудамі, пра якія так многа чуў, і вельмі хачу пазнаёміцца з магутнымі егіпецкім багамі, якія павінны стаць і маімі. Але больш за ўсё я прагну ўбачыць сваю Вялікую царскую жонку, бо мне наканавана разам з ёй заснаваць новую дынастыю і нараджаць дзяцей. Таму прашу, раскажы пра яе ўсё — якога яна росту, якую мае паставу і якая ў яе шырыня клубоў, раскажы так, нібы я ўжо стаў егіпцянінам. І не ўтойвай нічога, ніводнага яе хібу, бо ты можаш мне давяраць так, як я давяраю табе.

Яго давер кідаўся ў вочы: ён паставіў у мяне за плячыма сваіх узброеных ваяводаў, а ўваход у шацёр пільнавалі ахоўнікі з вострымі дзідамі. Але я зрабіў выгляд, што нічога не заўважаю, яшчэ раз глыбока пакланіўся і сказаў:

— Боская царэўна Бэкетамон — адна з найпрыгажэйшых жанчын у Егіпце. Дзеля сваёй свяшчэннай крыві яна да гэтай пары зберагла сваю недатыкальнасць, хоць нашмат старэйшая за цябе, яе прыгажосць не пачэзла з гадамі, і твар яе падобны да маладзіка, а вочы можна параўнаць толькі з кветкамі лотаса. Я лекар і магу сказаць, што яна яшчэ здольная вынасіць і нарадзіць дзіця, хоць клубы яе даволі вузкія, як і ва ўсіх егіпецкіх жанчын. Яна выслала мяне насустрач табе, каб упэўніцца, што твая мужчынская сіла дазволіць табе выканаць абавязкі, якія шлюб накладае на мужчыну, каб потым ёй не перажываць горкае расчараванне, і яна з нецярпеннем чакае вашай сустрэчы, бо дагэтуль не спазнала ніводнага мужчыны.

Супату напяў грудзі падняў локці на ўзровень плячэй і паказаў мне, як пераліваюцца мышцы пад скурай, а потым сказаў:

— Мае рукі могуць сагнуць самы тугі лук, і я магу задушыць асла каленямі, сеўшы на яго верхам. Мой твар, як ты можаш бачыць, даволі прывабны, і я нават не памятаю, калі я хварэў апошні раз.

— Ты, напэўна, зусім малады і недасведчаны, калі думаеш, што егіпецкая царэўна — гэта лук, каб яе згінаць, ці асёл, з якога трэба выціснуць усе сокі, здушыўшы каленямі. Тваё ўяўленне няправільнае, і як я бачу, мне трэба трошкі табе расказаць пра мастацтва кахання, каб ты не асарамаціўся перад царэўнай самым ганебным чынам. Мая гаспадыня зрабіла мудра, паслаўшы мяне, лекара, сустрэць цябе і пазнаёміць з егіпецкімі звычаямі.

Мае словы абразілі Супату. Гэта быў гарачы юнак, які, як усе хеты, асабліва ганарыўся сваёй мужчынскаю сілай. Яго ваяводы засмяяліся, і гэта яшчэ болей яго абразіла. Ён пабялеў і моцна сціснуў зубы. Але здолеў стрымацца і як мог ветла адказаў у мяккай егіпецкай манеры:

— Не такі ўжо я недасведчаны, як ты думаеш, і мая дзіда не адзін раз утыкалася ў мяккае цела! І я думаю, царэўна застанецца задаволеная, калі я навучу яе некаторым хецкім звычаям.

— Я веру ў тваю сілу, мой уладар,— адказаў я,— хоць ты памыляешся, кажучы, што нават не памятаеш, калі хварэў апошні раз, бо па тваіх вачах і шчоках я бачу, што твой жывот часта цябе непакоіць.

Няма на зямлі такога чалавека, які не паверыць у сваю хваробу, калі яго доўга і настойліва ў ёй пераконваць,— урэшце ён сам пачне прыслухоўвацца да сябе. У глыбіні душы кожны хоча, каб за ім падглядалі, як за малым дзіцём, бегалі вакол, клапаціліся, і лекары ва ўсе часы добра нажываліся на гэтай чалавечай слабасці. А я меў яшчэ адну перавагу, бо ведаў, што ў вадзе Сінайскай пустэльні шмат шчолаку, які аслабляе жывот нязвыклага да такой вады чалавека. Таму Супату ўсклікнуў:



— Ты памыляешся, Сінухе-егіпцянін, я не адчуваю сябе хворым, хоць павінен прызнацца, што мой жывот сапраўды не ў парадку і мне часта даводзілася прысядаць ля дарогі падчас дзённага пераходу. Не ведаю, як табе гэта стала вядома, але, мабыць, ты болей вялікі лекар, чым мой, бо гэты не заўважыў нічога.

Супату прыслухаўся да сябе, памацаў рукою лоб, вочы і сказаў:

— Я сапраўды адчуваю, што вочы ў мяне свярбяць, бо я цэлы дзень гляджу на чырвоны пясок пустэльні. І лоб у мяне гарачы. Можа, я, і праўда, адчуваю сябе горш, чым мне хацелася б.

Я адказаў:

— Твайму лекару трэба даць табе лекі, якія дапамогуць ад жывата і ўмацуюць сон. Хваробы жывата, што здараюцца ў пустэльні, рэч сур'ёзная, шмат егіпецкіх воінаў памерла ад іх падчас паходу ў Сірыю. І ніхто ладам не ведае ад чаго яны здараюцца. Адны кажуць, што іх прыносіць атрутны вецер, другія лічаць, што прычына — вада, а трэція вінавацяць саранчу. Але я цвёрда ўпэўнены, што заўтра ты будзеш здаровы і зможаш рушыць далей, калі твой лекар дасць табе сёння ўвечары добрае зелле.

Ён задумаўся над маімі словамі, яго вочы звузіліся, і ён, хітра зірнуўшы на сваіх ваяводаў, прапанаваў:

— Дык вось і зрабі мне такое зелле, Сінухе, калі ўжо ты ведаеш пра маю хваробу больш за майго лекара.

Але ён памыляўся: я быў не такі дурны, як ён думаў. Я ўзняў рукі ўгору і адказаў:

— Пазбаў мяне ад гэтага, я не адважуся рабіць такія лекі, бо калі ты адчуеш сябе горш — я буду вінаваты, і ты скажаш, што я, егіпцянін, жадаю табе зла. Дый твой лекар зробіць гэта, можа, нават лепш за мяне, бо лепш ведае тваё цела і ранейшыя твае немачы: тут не трэба адмысловага майстэрства — проста трэба даць лекі, якія вылечаць твой жывот.

Ён усміхнуўся і сказаў:

— Што ж, можа, твая парада не такая ўжо й дрэнная. Я збіраюся запрасіць цябе паесці і выпіць са мною, а ты мне тым часам раскажаш пра маю Вялікую царскую жонку і егіпецкія звычаі, і мне зусім не хочацца часта выскокваць па патрэбе з шатра пасярод твайго аповеду.

Супату загадаў паклікаць свайго лекара, сварлівага і недаверлівага хета. Мы з ім параіліся, і, зразумеўшы, што я не збіраюся з ім супернічаць, ён паставіўся да мяне прыязна. Паслухаўшыся маёй парады, ён зрабіў надзвычай моцнае зелле і, пакаштаваўшы яго, каб засведчыць,

што гэта не атрута, падаў лекі ўладару. Гэтага я і хацеў. Я ж ведаў, што Супату не хворы, але хацеў, каб ён паверыў, што захварэў, і выпіў гэтыя лекі, якія выклікалі б у яго запор. Я рабіў гэта, каб атрута, якую я збіраўся яму даць, затрымалася ў жываце як мага долей і раней часу не выйшла з цела. Перад тым як ісці на банкет, на які мяне запрасіў Супату, я зайшоў да сябе ў шацёр і выпіў столькі алею, што напоўніўся ім да краёў,— мяне так і цягнула званітаваць. Але такім чынам я ратаваў сваё жыццё. Потым я ўзяў гарлачык з віном, у якое падмяшаў міра, і зноў запячатаў яго. Гэта быў маленькі, усяго на дзве чашы, гарлачык. Я вярнуўся з ім у шацёр Супату, сеў на падушкі і пачаў есці і піць усё, што падавалі рабы і налівалі чашнікі, хоць мяне вярнула з душы, і расказваў пры гэтым розныя дурныя гісторыі пра егіпецкія звычаі, бо павінен быў неяк развесяліць царскага сына і ягоную світу. І Супату смяяўся, яго зубы блішчалі, ён ляпаў мяне па спіне і казаў:

— Ты добры хлопец, Сінухе, хоць і егіпцянін, і калі я ўсталююся на егіпецкім троне, я зраблю цябе сваім асабістым лекарам. Я сапраўды ледзь не лопнуў ад смеху і забыўся на сваю немач, калі ты расказваў пра егіпецкія шлюбныя звычаі, вялыя і нямоглыя, хоць і з імі таксама можна добра пацешыцца. Мне думаецца, што егіпцяне панавыдумлялі ўсе гэтыя дурныя спосабы, каб не зачынаць дзяцей. Але я навучу Егіпет хецкім звычаям і пастаўлю сваіх ваяводаў над усімі вобласцямі Егіпта, і гэта будзе вам толькі на карысць. Але спачатку я выканаю свой мужчынскі абавязак перад царэўнай.

Ён ляпнуў сябе па каленях і п'яна сказаў:

— Як бы я хацеў, каб мая царэўна чакала мяне ўжо ў ложку! Твае аповеды вельмі распалілі мяне, Сінухе! Я прымусіў бы яе стагнаць ад асалоды ў маіх руках! У імя свяшчэннага неба і Вялікай маці-зямлі! Увесь Егіпет будзе стагнаць ад асалоды, калі аб'яднаецца з краінай Хатці, бо нідзе на свеце не будзе такой дзяржавы, якая зможа супрацьстаяць нам, і ўсе чатыры бакі свету пяройдуць пад нашу ўладу, якая будзе распасціраццa на ўсе землі і воды. Але спачатку я ўтаймую Егіпет мечам і агнём, пакуль кожнаму егіпцяніну смерць не здасца лепшаю за жыццё. Усё гэта будзе так і будзе хутка!

Ён узняў свой кубак і пачаў піць, адначасова разліваючы віно ў ахвяру зямлі і паветру. Усе астатнія госці таксама моцна сп'янелі, і я вырашыў, што настаў час дзейнічаць. Я сказаў:

— Не хачу пакрыўдзіць цябе і твой пачастунак, Супату, але бачна, што ты ніколі не каштаваў мемфіскага віна, бо гэта такое віно, якога не забудзе ніколі той, хто хоць аднойчы адчуў яго смак. Усё віно на свеце пасля яго будзе здавацца вадой. Таму даруй, што я вып'ю свайго віна, але я хмялею толькі ад яго і заўсёды маю пры сабе гарлачык, калі п'ю з чужынцамі.



Я зламаў пячатку на вачах у хетаў і, прыкідваючыся моцна п'яным, пачаў наліваць віно толькі ў сваю чашу. Потым зрабіў глыток і ўсклікнуў:

— О, гэта мемфіскае віно! Віно пірамідаў, якое цэніцца на вагу золата, самае моцнае і п'янлівае віно ў свеце!

Віно, і праўда, было моцнае і вельмі добрае. Я падмяшаў у яго міра і яго водар разнёсся па ўсім шатры. Але я выразна адчуваў у ім пах смерці. Віно цякло па барадзе, а хеты думалі, што я такі п'яны. Супату таксама зацікавіўся і працягнуў мне сваю чашу, кажучы:

— Я для цябе не чужынец, бо заўтра стану тваім уладаром. Дай мне паспытаць твайго віна, інакшай я не паверу, што яно такое дзівоснае, як ты кажаш.

Але я прыціснуў гарлачык да грудзей і п'яна запярэчыў:

— Тут не хопіць на двух, а больш у мяне такога віна з сабою няма. А я сёння хачу напіцца п'яным, бо сённяшні вечар — гэта вялікі вечар вечнага хаўрусу паміж Егіптам і зямлёй Хатці! Й-а-а! — закрычаў я на асліны лад, яшчэ мацней прыціскаючы гарлачык да грудзей.— Сястра мая, каханая мая, маё горла — твой дом, не дай чужынцам завалодаць табою!

Хеты сагнуліся ад рогату, а Супату настойваў, бо прывык, што ўсе яго жаданні выконваліся беспярэчна. Ён падсунуў свой кубак яшчэ бліжэй і ўжо запатрабаваў наліць. Тады я са слязьмі на вачах наліў яму поўны кубак, цалкам спаражніўшы свой невялікі гарлачык. Слёзы ліліся ў мяне без ніякага намагання, бо ў гэтую хвіліну мяне сапраўды агортваў вялікі жах.

А дабіўшыся свайго, Супату абвёў усіх позіркам, нібы раптам адчуў небяспеку, і па хецкім звычаі працягнуў мне кубак са словамі:

— Ушануй маю чашу, як мой сябар, бо я хачу выказаць табе гэтым сваю прыхільнасць!

Ён зрабіў так таму, што не хацеў выглядаць надта недаверлівым і даваць паспытаць віна сваім адмысловым людзям, якія каштавалі пітво і стравы, каб выявіць атруту.

Я адпіў вялікі глыток, а потым Супату ўзяў чашу і апустошыў яе да дна, чмокнуў і, прыслухоўваючыся да сябе, сказаў:

— Гэта сапраўды добрае і моцнае віно, Сінухе, і лёгкай смугой падымаецца да галавы, нібы агонь палае ў жываце, але пакідае гаркавы смак у роце. Таму давай змыем гэты смак Егіпта віном маіх родных гор.

Ён зноў напоўніў чашу, але гэты раз ужо сваім віном, і асушыў яе да дна, а я ведаў, што атрута не падзейнічае да рання, бо яго жывот ужо не слабіў і ён еў вельмі многа.

Я выпіў колькі мог віна і, прыкідваючыся моцна п'яным, пачакаў яшчэ палову меры вадзянога гадзінніка, каб не выклікаць падазрэння ў недаверлівых і асцярожных хетаў, а потым загадаў адвесці сябе ў свой

намёт. З сабою я знёс і пусты гарлачык, каб хеты не змаглі праверыць яго. Пасля таго як хеты з грубымі жартамі ды смешкамі паклалі мяне на ложак і пайшлі прэч, я ўскочыў, засунуў пальцы ў горла і ачысціў жывот ад атруты і алею, які ўратаваў мне жыццё. Але мяне апанаваў страх: я баяўся, што атрута на мяне ўсё ж падзейнічала, і я некалькі разоў прамываў страўнік, пакуль мяне не званітавала ўжо проста ад страху.

Знясілены і слабы, цалкам выціснуты, як ануча, я ўзяўся за свой гарлачык, памыў яго і разбіў, а чарапкі закапаў у пясок. Потым я ляжаў у ложку, калоцячыся ад страху і ад атруты, і ўсю ноч на мяне з цемры глядзеў вясёлы твар Супату з вялікімі яснымі вачыма. Ён і праўда быў прыгожы юнак, і тут, у цемры, я не мог забыць яго твару, яго гордага бестурботнага смеху і бліскучай усмешкі.

### 3

Хецкая ганарыстасць паслужыла на маю карысць, бо ўранні Супату адчуў сябе нядобра. Але не захацеў сказаць пра гэта і адкласці ад'езд праз боль у жываце. Ён сеў у насілкі і не прызнаўся ў нямогласці, хоць гэта патрабавала ад яго вялікай вытрымкі. Так мы рухаліся цэлы дзень. Аднойчы, калі я абганяў яго насілкі, ён прыветна памахаў мне рукой і нават паспрабаваў засмяяцца. Але яго лекар у той дзень двойчы даваў яму лекі ад жывата, і тым толькі пагоршваў яго стан, бо атрута заставалася ў яго ў сярэдзіне. Толькі добра прамыты жывот мог бы яшчэ выратаваць Супату.

Адвячоркам ён страціў прытомнасць, вочы ў яго закаціліся і твар стаў зеленаваты. Спалохаўшыся, яго лекар паклікаў мяне на дапамогу. Я таксама жахнуўся, убачыўшы Супату ў такім цяжкім стане: мне нават не трэба было прыкідвацца спалоханым — я напраўду зледзянеў ад жаху, дый, апроч усяго, сам пачуваў сябе нядобра пасля ўчарашняй пачосткі. Але я сказаў, што пазнаю прыкметы пустэльнай хваробы, пра якую папярэджваў маладога хета яшчэ ўвечары, заўважыўшы яе сляды на яго твары. Караван спыніўся, і мы пачалі лячыць царэвіча прама ў яго насілках, мы давалі яму ачышчальныя лекі, прыкладалі да жывата гарачыя камяні, але пры гэтым я паводзіў сябе вельмі асцярожна, даручыўшы гатаваць лекі хецкаму лекару, які і ўліваў іх Супату ў рот праз сціснутыя зубы. Я ведаў, што ён памірае, і сваімі парадамі хацеў толькі аблегчыць яму боль, бо ўсё адно нічога болей не мог.

Увечары мы перанеслі яго ў шацёр, перад якім тоўпіліся хеты, яны галасілі і рвалі на сабе вопратку, пасыпалі галовы пяском і наносілі сабе раны нажамі, баючыся за сваё жыццё, бо ведалі, што цар Супілуліума бязлітасна пакарае кожнага, калі яго сын памрэ. Я разам з хецкім лекарам увесь час быў каля ложка Супату, дым паходняў выядаў мне вочы і казытаў у носе, а я глядзеў, як гэты прыгожы статны юнак, які



яшчэ ўчора быў здаровы й шчаслівы, сёння чэзнуў у мяне на вачах і пакрываўся смяротнай бледнасцю.

Я глядзеў, як ён памірае і яго вірлы наліваюцца крывёй, як іх засцілае смяротная смуга і зрэнкі робяцца чорнымі кропкамі велічынёй з вастрыё шпількі. Ад пены яго белыя зубы зжаўцелі, скура набыла хваравіты выгляд і абвісла, кулакі сутаргава сціскаліся і пазногці ўпіваліся ў далоні. З роспачным стараннем хецкі лекар аглядаў яго, не адыходзячы ні на крок ад ложка, але прыкметы гэтай хваробы не адрозніваліся ад прыкметаў захворвання жывата. Нікому нават у галаву не прыйшло, што Супату атруцілі, а калі б хто так і падумаў, дык абвінаваціць мяне было немагчыма, бо я піў тое самае віно, што і сын цара хетаў. Я добра выканаў даручэнне і выратаваў Егіпет ад вялікай небяспекі, а таму мог ганарыцца сваім спрытам. Але не было ў мяне гордасці, калі я глядзеў на паміраючага юнака, які жаласна клікаў:

— Мама, любая мая мама!

Перад смерцю ён апрытомнеў і боль пакінуў яго, ён усміхнуўся шырокай хлапечай усмешкай і ўспомніў пра сваю царскую кроў. Ён загадаў паклікаць да сябе военачальнікаў і сказаў ім:

— У маёй смерці нікога не вінаваціць, бо прыйшла яна да мяне з пустэльні, і лячыў мяне самы лепшы лекар царства Хатці разам з дасведчаным лекарам з Егіпта, які таксама лячыў мяне з усім магчымым майстэрствам. Іхняе майстэрства не змагло ўратаваць мяне. Мне наканавалі памерці Неба і Маці-зямля, бо над гэтым краем пануе не Маці-зямля, а егіпецкія багі, якія апякуюцца абаронай Егіпта. І хай ведаюць усе, што хетам не варта паглыбляцца ў пустэльні, і знакам таму служыць мая смерць, як была такім знакам і параза нашых калясніцаў у пустэльні. Але тады мы не здолелі гэтага зразумець. Лекараў пасля маёй смерці ўзнагародзьце багатымі дарункамі, у адпаведнасці з маёй годнасцю. А ты, Сінухе, перадай паклон Бэкетамон і скажы, што я вызваляю яе ад дадзенага мне слова, хоць і шкадую, што не змагу павесці яе да шлюбнага ложка. Напраўду, перадай ёй гэтае прывітанне і скажы, што, нават паміраючы, я бачу яе перад сабой, як казачную царэўну, і яе вечная прыгажосць паўстае перад маімі вачыма, хоць пабачыць яе пры жыцці мне не давялося.

Ён памёр з усмешкай на вуснах, як бывае, калі смерць робіцца ўцехай пасля вялікіх пакутаў. А мяне калаціла, калі я глядзеў на яго. Цяпер я бачыў у ім такога самага, як я, чалавека, незалежна ад мовы, колеру скуры ці прыналежнасці да нейкага племя. І я ведаў, што ён памёр ад маёй рукі, хоць быў чалавекам і маім братам. Якім бы сшэрхлым ні было маё сэрца пасля ўсяго, што мне давялося пабачыць, яно сціснулася пры выглядзе паміраючага Супату, слёзы паліліся з маіх вачэй і я разарваў на сабе вопратку з крыкам:

— Чалавек, браце мой, не памірай!

Але дапамагчы яму было ўжо немагчыма. Хеты паклалі цела царскага сына ў раствор з моцнага віна і мёду, каб адвезці на гару непадалёк ад Хатушаша, дзе хаваюць усіх хецкіх цароў і дзе толькі ваўкі ды арлы сцерагуць іх вечны сон.

Хеты расчуліліся ад маіх слёз і нават напісалі мне таблічку з пячаткамі ваяводаў, засведчыўшы, што я не вінаваты ў смерці Супату, а наадварот — прыкладаў усе намаганні, каб выратаваць яму жыццё. Яны мералі Егіпет на свой капыл і думалі, што за такую вестку царэўна Бэкетамон пакарае мяне смерцю.

Так я выратаваў Егіпет ад улады хетаў і, здаецца, павінен быў радавацца, але радасці ў мяне не было — мяне пераследавала пачуццё, што, дзе б я ні паяўляўся, смерць неадступна ішла за мной. Я стаў лекарам, каб дапамагаць людзям і змагацца са смерцю, а мае бацькі памерлі ад маёй распусты, Мінея — ад маю слабасці, Мэрыт і маленькі Тот — ад маёй слепаты, а фараон Эхнатон — ад маёй нянавісці і сяброўства, у імя Егіпта,— словам, усе, каго я любіў, памерлі праз мяне не сваёй смерцю. І вось цяпер памёр сын цара хетаў Супату, якога я паспеў палюбіць. Я пачаў баяцца сваіх рук і вачэй, бо бачыў, што нейкі праклён ідзе следам за мною. Я са страхам вяртаўся ў Таніс, адкуль па моры накіраваўся ў Мемфіс, а з Мемфіса — у Фівы. У Фівах я загадаў прыстаць да прычалу Залатога палаца і, адразу пайшоўшы да Эйе і Харэмхеба, сказаў ім:

— Усё зроблена па вашым жаданні. Супату памёр у Сінайскай пустэльні, але цень яго смерці не ўпаў Егіпет.

Пачуўшы гэта, яны ўзрадаваліся, і Эйе, зняўшы з сябе залаты ланцуг Носьбіта царскага жазла, надзеў яго на мяне, а Харэмхеб сказаў:

— Ідзі і паведамі пра гэта Бэкетамон, бо нам яна не паверыць, падумаўшы, што гэта я забіў хецкага прынца ад рэўнасці.

Я пайшоў да царэўны Бэкетамон, і яна адразу мяне прыняла. Яе твар быў ярка нафарбаваны, чырвоныя вусны гарэлі, але з цёмных вачэй струменілася смерць. Я сказаў:

— Твой абраннік, царэвіч Супату, памёр у Сінайскай пустэльні і вызваліў цябе ад дадзенага яму слова. Ён памёр ад хваробы жывата, і я, нягледзячы на ўсё сваё лекарскае мастацтва, не змог яго выратаваць, як і хецкі лекар таксама.

Царэўна Бэкетамон зняла залатыя бранзалеты з цэвак і, надзеўшы іх на мае рукі, сказала:

— Твая вестка, Сінухе, добрая, і я табе за яе дзякую. Цяпер я пасвечаная ў жрыцы Сэхмет, і мая чырвоная сукенка для свята перамогі пашытая. Але ж гэтая егіпецкая хвароба жывата нешта надта мне добра знаёмая: ад яе памёр мой брат Эхнатон, фараон, якога я любіла, як



родная сястра! Дык хай падзе за гэтыя хваробы мой праклён на цябе, Сінухе, будзь ты пракляты навечна, на ўсе часы, разам з тваёй магілай і тваім імем, якое хай будзе забытае ў будучыні, бо гэта ты зрабіў трон фараона месцам гульні злодзеяў і забойцаў, ты зганьбіў маю боскую царскую кроў!

Я схіліўся перад ёй у нізкім паклоне і, апусціўшы рукі да каленяў, адказаў:

— Хай так і збудзецца па тваім слове.

Я выйшаў, а яна загадала рабам памыць падлогу, дзе ступалі мае ногі, аж да самага выхаду з Залатога палаца.

**4**

Тым часам цела фараона Тутанхамона падрыхтавалі для вечнага змагання са смерцю, і Эйе загадаў жрацам як найхутчэй памясціць яго ў месца вечнага заспакаення, у грабніцу, высечаную ў Заходняй гары Даліны цароў. Разам з муміяй цара туды паклалі шмат розных дарункаў, але сапраўдных скарбаў сярод іх было мала, бо амаль усё каштоўнае Эйе прыбраў да сваіх прагных рук. Грабніца Тутанхамона выглядала беднай у параўнанні з іншымі, і малады фараон пасля смерці стаў выглядаць яшчэ больш нікчэмна, чым пры жыцці, калі гуляў у цацкі ў Залатым палацы. Як толькі на ўваход у грабніцу наклалі пячаткі, Эйе абвясціў, што перыяд жальбы скончыўся і загадаў узняць пераможныя сцягі абапал Алеі бараноў, а Харэмхеб выслаў калясніцы заняць усе плошчы і скрыжаванні ў Фівах. Зрэшты, ніхто і не спрабаваў выступаць супраць таго, што Эйе ўзышоў на трон фараонаў,— народ стаміўся ад вайны, знясілеўшы, як той бык, якога бясконца падганяюць уколамі дзідаў. Таму нікога ўжо не цікавіла, мае Эйе права на царскі трон ці не, і ніхто не чакаў ад яго нічога добрага.

Так каранаваўся Эйе, і падкупленыя вялікім хабарам жрацы памазалі яго свяшчэнным алеем у Вялікім храме і ўсклалі яму на галаву чырвоную і белую кароны — кароны лілеі і папіруса, кароны Верхняга і Ніжняга царства. Яны вынеслі Эйе ў залатым чоўне Амона да народа, і народ гучна ўславіў яго, бо новы фараон загадаў раздаваць людзям хлеб ды піва, і для фіванцаў гэта было напраўду вялікім дарункам, бо Егіпет збяднеў дарэшты. Я ведаў, як ведалі і многія іншыя, што ўлада Эйе ўяўная, а сапраўдным уладаром у Егіпце з гэтай хвіліны робіцца Харэмхеб, за якім стаяць дзіды ягонага войска. Шмат хто здзіўляўся, чаму Харэмхеб не ўзяў уладу адкрыта і сам, саступіўшы трон старому і нялюбаму Эйе.

Але Харэмхеб добра ведаў, што робіць, бо чаша людскога гневу яшчэ не апусцела, пакуты Егіпта яшчэ не скончыліся, і трывожныя весткі з зямлі Куш клікалі яго на новую вайну, гэты раз — супраць неграў.

Харэмхеб ведаў, што ўмацаваўшы ўладу на поўдні і паставіўшы на месца паваленыя памежныя камяні, яму давядзецца весці яшчэ адну вайну за Сірыю супраць хетаў. Таму ён хацеў, каб народ ва ўсіх бедах і пакутах вінаваціў Эйе, а яго, Харэмхеба, усхваляў потым як пераможцу, міратворцу і добрага ўладара.

А вось Эйе ні пра што такое не думаў,— улада і бляск царскіх каронаў зусім асляпілі яго, і ён з ахвотай пачаў ажыццяўляць другую частку дамовы з Харэмхебам, заключаную імі ў дзень смерці фараона Эхнатона. Таму жрацы прынеслі ў храм Сэхмет царэўну Бэкетамон, дзе апранулі яе ў барвовыя строі, аздобілі як багіню і ўзнялі на алтар. Харэмхеб са сваім войскам прыехаў да храма Сэхмет, каб адсвяткаваць перамогу над хетамі і вызваленне Сірыі. Фівы на ўвесь голас узносілі хвалу Харэмхебу, а ён раздаў перад храмам залатыя ланцужкі ды іншыя ўзнагароды сваім воінам і пусціў іх у горад святкаваць перамогу. Потым ён увайшоў у храм, і жрацы зачынілі за ім медную браму. Царэўна Бэкетамон з'явілася перад ім у выглядзе багіні Сэхмет, і ён авалодаў ёю, бо быў воінам і надта доўга чакаў.

Гэтай ноччу ў Фівах было свята ў гонар Сэхмет, і неба чырванела ад паходняў і яркіх свяцільняў, а Харэмхебавы зухі асушылі ўсе запасы віна і піва ў шынках, павыбівалі дзверы ў дамах уцехаў і перапалохалі ўсіх дзяўчат на вуліцах Фіваў. Шмат людзей гэтаю ноччу было паранена, некалькі дамоў воіны падпалілі ў гонар свята, але вялікіх беспарадкаў і разбурэнняў не было. А на світанні воіны зноў сабраліся перад храмам Сэхмет сустрэць Харэмхеба. Калі ён выйшаў з брамы, з усіх бакоў пачуліся гучныя крыкі і лаянка на розных мовах: было відаць, што львінагаловая Сэхмет паказала гэтаю ноччу свой звярыны нораў, бо ўсе рукі, плечы і твар у Харэмхеба пакрыліся крывавымі драпінамі ад ільвіных кіпцюроў багіні. Гэта вельмі развесяліла воінаў, і яны яшчэ больш палюбілі свайго вялікага ваяводу. А царэўну Бэкетамон жрацы, не паказваючы народу, аднеслі ў закрытых насілках назад у Залаты палац.

Тады воіны ўварваліся ў храм і падабралі з падлогі ласкуты барвовай сукенкі на амулеты, якія дапамаглі б дабіцца згоды ўпартых жанчын. Так прайшла шлюбная ноч майго сябра. Не магу сказаць, ці прынесла яна Харэмхебу якую-небудзь радасць, бо неўзабаве ён рушыў з войскам на поўдзень да Першага парога, каб распачаць вайну ў зямлі Куш.

А жрэц Эйе, аслеплены сваёй уладай, радасна казаў мне:

— Вось і няма ў Кэмет нікога вышэйшага за мяне, і няма цяпер розніцы памру я ці не, бо фараон не памірае — ён жыве вечна, і гэтак сама вечна буду жыць я, а калі памру, дык узыду на залаты човен майго бацькі Амона і паплыву проста ў краіну Захаду. Гэта вельмі добра, бо мне зусім не хочацца, каб Асірыс узважваў маё сэрца на сваіх шалях, а яго суддзі, справядлівыя павіяны, вінавацілі мяне ў жахлівых злачынствах, а потым кінулі маё Ба ў пашчу Ахмі. Я ўжо стары, і мае ўчынкі часта пазіраюць на мяне з начной цемры. Таму я радуюся, што я фараон, і мне не трэба баяцца смерці.



Так ён прамаўляў да мяне, бо мае справы і дзеі моцна звязалі нас разам, і я не мог ганіць яго, не ганячы сябе. А ён быў ужо вельмі стары і стомлены, пры хадзе яго калені дрыжалі, твар зморшчыўся і зблякнеў, а некалі чорныя валасы пасівелі. Але я жорстка з яго насміхаўся, кажучы:

— Ты ўжо стары і павінен быць мудрэйшы за мяне. Я не веру, што вохныя масці жрацоў падораць табе вечнае жыццё. Нават з царскім вянцом на галаве ты застаешся такім, якім быў без вянца. Ты хутка памрэш, і цябе ніколі болей не будзе.

Яго вусны пачыналі дрыжаць, у вачах узнікаў жах, і ён плаксіва скардзіўся:

— Дык што, я дарма нарабіў столькі ліха, дарма сеяў вакол сябе смерць ва ўсе дні свайго жыцця? Не, безумоўна, ты памыляешся, Сінухе, жрацы выратуюць мяне ад бяздоння апраметнай, яны зберагуць маё цела для вечнага жыцця, бо цяпер маё цела — боскае, і дзеі мае боскія, і ніхто не можа асуджаць мяне, бо я фараон!

Так у яго пачаў муціцца розум, і ўлада ўжо не прыносіла яму асалоды. У яго не засталося ў жыцці ніякае радасці: ад страху смерці ён не адважваўся адпіць нават глыток віна, харчуючыся аднымі сухарамі ды параным малаком; яго цялесная сіла даўно патрацілася і ён ужо не мог забаўляцца з жанчынамі, бо ў маладосці надта часта распаляў сябе любоўнымі зёлкамі, каб заваяваць прыхільнасць царыцы Тэйе. Цяпер ён усё больш баяўся таемных забойцаў і цэлымі днямі не дакранаўся ад ежы. Ён баяўся нават сарваць плод з галіны ў садзе Залатога палаца, баючыся, што і ён будзе насычаны атрутай. У сваім безупынным страху ён зрабіўся такім недаверлівым і жорсткім, што прыдворныя адышлі ад яго, а рабы разбегліся, і Залаты палац апусцеў яшчэ пры жывым фараоне.

Тым часам семя пусціла парасткі ў целе Бэкетамон, бо жрацы, каб дагадзіць Харэмхебу, дакладна выбралі самы спрыяльны час для зачацця, і яна ў бяссільнай злосці прычыняла свайму целу шкоду і высушвала сваю прыгажосць, каб толькі пагубіць дзіцё ў сваім чэраве, не думаючы нават пра сваё здароўе. Але жыццё ў яе целе аказалася мацнейшым за смерць, і прызначаны час яна ў вялікіх пакутах прынесла Харэмхебу сына, бо хлопчык нарадзіўся вялікі, а клубы ў маці былі надта вузкія. Павітухам і рабам давялося схаваць ад яе немаўлятку, каб яна не нарабіла шкоды. Пра дзіцё і яго нараджэнне расказвалі розныя байкі: адны, напрыклад, казалі, што яно нарадзілася з ільвінаю галавой, другія — што ў ён выйшаў з мацярынскага ўлоння ў медным баявым шле-

ме. Але я добра ведаў, што нічога звышчалавечага ў хлопчыка не было, ён быў проста моцны. Даведаўшыся пра добрую навіну, Харэмхеб прыслаў загад упісаць сына ў Кнігу жыцця пад імем Рамсэса.

Тады Харэмхеб усё яшчэ ваяваў у зямлі Куш, і яго калясніцы рухаліся ад поля да поля, наносячы неграм паразы, бо тыя не ўмелі ваяваць супраць калясніцаў. Харэмхеб паліў негрыцянскія вёскі, адсылаў жанчын і дзяцей у рабства ў Егіпет, а мужчын браў да сябе ў войска і рабіў з іх добрых воінаў, бо ў іх ужо не заставалася ні дзяцей, ні жонак. Так, яшчэ ваюючы ў зямлі Куш, Харэмхеб рыхтаваў войска для вайны з хетамі ў Сірыі.

Харэмхеб змог такім чынам забяспечыць Егіпет шматлікімі рабамі для апрацоўкі палёў, загадаў прыгнаць з зямлі Куш вялікія статкі гавяды, змог адрадзіць у Егіпце земляробства, і ў дзяцей з'явілася малако, а ў жрацоў — шмат ахвярных жывёлаў ды мяса. А ў краіне Куш цэлыя народы і плямёны пакідалі родныя мясціны і ўцякалі за памежныя камяні Егіпта ў дзікія лясы, у краі сланоў ды жырафаў, і многія землі спусцелі. Але Егіпту ад таго не было вялікае шкоды, бо і за часам фараона Эхнатона адтуль не атрымлівалі даніны, хоць пры вялікіх фараонах зямля Куш была надзейнай крыніцай егіпецкага багацця, болей надзейнай і багатай, чым Сірыя.

Пасля двух гадоў вайны Харэмхеб вярнуўся ў Фівы з вялізнай здабычай, засыпаў жыхароў Фіваў падарункамі і наладзіў дзесяцідзённае святкаванне перамогі. Усялякая праца ў горадзе спынілася, а п'яныя воіны поўзалі па вуліцах, бляялі казламі, а потым у належны час многія фіванскія жанчыны нарадзілі цемнаскурых немаўлят. А Харэмхеб браў свайго сына на рукі, вучыў яго хадзіць і з гордасцю казаў мне:

— Глядзі, Сінухе, гэта ад мяне нарадзіўся новы царскі род, і ў жылах майго сына цячэ боская кроў, хоць сам я нарадзіўся ў хляве на кучы гною.

Пайшоў Харэмхеб і да Эйе, але той зачыніў перад ім дзверы ў свае пакоі, падпёршы іх зэдлікамі, крэсламі і нават уласным ложкам. І крычаў з-за іх дрыготкім старэчым голасам:

— Ідзі прэч, Харэмхеб! Я фараон! Я ведаю, што ты прыйшоў забіць мяне і завалодаць маім тронам!

Але Харэмхеб толькі прыветна засмяяўся і адным штуршком разбурыў усе барыкады за дзвярыма. Ён абняў Эйе за плечы і, па-сяброўску страсянуўшы яго, сказаў:

— Ды не буду я забіваць цябе, стары ты ліс! Ты ж мне цяпер, як бы і цесць, і тваё жыццё мне даражэйшае за ўсё на свеце! Праўда, у грудзях у цябе нешта хрыпіць, з роту цячэ сліна, а калені калоцяцца, але ты павінен трымацца, Эйе, і пакуль мяне тут няма, вытрываць яшчэ адну вайну, каб у Егіпта быў уладар, якога можна было б ненавідзець.



Але Эйе не паверыў Харэмхебу, ён з плачам абняў яго калені і пачаў маліць з яго злітавацца. Тады Харэмхеб пашкадаваў старога і пайшоў прэч, але пасля той сустрэчы прыставіў да яго прыслужнікамі сваіх людзей — каб за яго адсутнасцю стары не нарабіў бяды. Час Эйе скончыўся, цяпер гэта быў проста звар'яцелы стары з дрыготкаю галавой, на якой царскія кароны ў час урачыстых цырымоніяў ледзьве трымаліся.

Харэмхеб прывёз жонцы багатыя падарункі, сярод якіх былі і вялікія кашы з залатым пяском, і скуры ільвоў, якіх ваявода ўпаляваў сваімі рукамі, і страўсавы пёры, і жывыя малпы. Але Бэкетамон не захацела нават зірнуць на гэтыя скарбы і сказала яму:

— Перад людзьмі ты мне муж, і я нарадзіла табе сына. Задавальняйся гэтым і ведай, што калі ты яшчэ хоць раз дакранешся да мяне, я апаганю твой ложак, зняславіўшы цябе так, як ніводная жанчына яшчэ не ганьбіла свайго мужа. Дзеля тваёй ганьбы я буду забаўляцца з рабамі і насільшчыкамі, я лягу на рынку Фіваў з паганятымі аслоў, і не будзе такога прасталюдзіна, з якім я адмоўлюся легчы, калі ты хоць адзін раз яшчэ асмелішся дакрануцца да мяне, бо ва ўсім Егіпце няма чалавека болей нікчэмнага і брыдкага, чым ты, бо твае рукі смярдзяць крывёй і тваё цела прапахнула ёю так, што мне робіцца млосна, калі ты да мяне набліжаешся.

Але яе супраціўленне толькі распаліла Харэмхеба, ён цяжка дыхаў, гледзячы на яе вузкія клубы і злую ўсмешку, і не змог стрымаць свае рукі. Потым ён прыйшоў да мяне і паскардзіўся:

— Сінухе, чаму ўсё так, і якое зло я ўчыніў, што мая жонка не хоча падзяліць са мной шлюбны ложак? Ты ж добра ведаеш, як многа мне давялося здзейсніць, каб заваяваць такую славу дзеля яе прыхільнасці. Ты ведаеш, што я не так ужо часта цешыўся з маладымі палонніцамі, якіх прыводзілі да мяне ў шацёр, — я аддаваў іх сваім малойцам. Усіх жанчын, з якімі я меў справу за апошнія гады, можна пералічыць на пальцах. Дый не было мне ад іх шмат радасці, бо я ўвесь час думаў толькі пра яе, пра Бэкетамон — яна адна вабіла мяне і была прыгажэйшай за маладзік! Што гэта за насланнё, якое агнём паліць маё цела і, як змяя, атручвае маю душу?

— Не звяртай увагі на дурную жанчыну, — параіў я, — яна пакутуе ад сваіх гонару і фанабэрыі яшчэ больш за цябе. У Фівах поўна маладых прыгожых жанчын, і любая рабыня дасць табе тое самае, што і яна.

— Ты кажаш супраць свайго сэрца, Сінухе, — запярэчыў ён. — Ты добра ведаеш, што сэрцу і каханню не загадаеш.

— Вось і не спрабуй загадваць яе каханню, — перасцярог я, — інакш не чакай дабра.

— Дай мне зелля, Сінухе, — не паверыў ён, — дай мне такога зелля,

каб я змог усыпіць яе і нацешыцца з ёю, бо гэтая жанчына шмат чаго мне вінаватая.

Але я адмовіўся даць яму такія лекі, і ён пайшоў да іншых лекараў, а тыя далі яму небяспечнае зелле, якое распальвае жаданне ў жанчыны і робіць яе бязвольнай. Такімі лекамі Харэмхеб таемна напаіў Бэкетамон і зрабіў з ёй усё, што хацеў, але пасля таго яна яшчэ мацней узненавідзела яго і сказала:

— Памятай, што я сказала табе, аб чым я цябе папярэдзіла!

Але Харэмхеб быў асляплены і бяздумны, хоць наўрад ці ўсцешыўся пасля таго, як зрабіў з Бэкетамон усё, што хацеў. Неўзабаве ён сабраўся ў Сірыю, каб падрыхтавацца да вайны з хетамі. Ад'язджаючы, ён казаў:

— Памежныя камяні Егіпта былі пастаўленыя ў Кадэшу яшчэ вялікімі фараонамі, і я не супакоюся, пакуль мае баявыя калясніцы не ўварвуцца ў палаючы Кадэш!

Калі царэўна Бэкетамон зразумела, што семя Харэмхеба зноў пусціла парасткі ў яе целе, яна зачынілася ў сваім пакоі, не жадаючы нікога бачыць, каб у самоце несці цяжар сваёй ганьбы. Прыслужніцы і рабыні пакідалі ёй ежу перад зачыненымі дзвярыма, але яна ела так мала, што прыдворныя лекары баяліся за яе жыццё. Па набліжэнні пары нарадзіць, лекары пачалі патаемна сачыць за ёю, баючыся, што яна захоча радзіць адна, а потым пусціць дзіцё ў трысняговым чоўніку ўніз па рацэ, але нічога такога яна не зрабіла, а ў належны час выклікала лекараў і нарадзіла Харэмхебу другога сына. Яна назвала яго Сэтам, не пытаючыся ні ў каго дазволу. Яна так ненавідзела Харэмхеба, што і хлопчыка называла Народжаным ад Сэта.

Ачуняўшы пасля родаў, Бэкетамон загадала нацерці сябе алеем, размаляваць твар і апрануць у царскія строі, а потым загадала перавезці сябе ў чоўне на той бераг. Там яна адна пайшла на рыбны рынак і пачала размаўляць з вазніцамі, ваданосамі і чысцільшчыкамі рыбы:

— Я царэўна Бэкетамон, жонка Харэмхеба, вялікага ваяводы Егіпта. Я нарадзіла яму двух сыноў, але ён нудны, лянівы, ад яго патыхае крывёй, так што мне мала ад яго радасці. Хадзем са мной, пацешце мяне і падарыце мне радасць, мне падабаюцца вашы далоні ў шнарах і мазалях, мне даспадобы пах гною, якім патыхае ад вашай скуры, мне даспадобы пах рыбы.

Людзі на рынку здзіўляліся і ставіліся да яе з асцярогай, стараючыся ўцячы, але яна ўпарта ішла следам, спакушала іх словамі, агаляла цела і ўгаворвала:

— Ці я недастаткова прыгожая? Чаго вы палохаецеся? Можа, я сапраўды ўжо старая і страшная, але я нічога ад вас і не прашу — усяго адзін невялікі каменьчык. Хай гэта будзе любы камень, які вам трапіцца пад руку, але чым большы ён будзе, тым больш радасці я вам прынясу. Я буду старацца з усяе сілы падарыць вам асалоду.



Такога яшчэ не было ніколі ва ўсім Егіпце. Людзі на рынку пачалі пажадліва паглядаць на царэўну, іх вочы загараліся ад яе прыгажосці, багатая вопратка заварожвала, а водар яе цела адбіваў усе думкі, і людзі казалі адзін аднаму:

— Такога не было спрадвеку! Яна, напэўна, нейкая багіня, і мы зробім няправільна, калі будзем супраціўляцца яе жаданню. Мы бачым, што яе нельга параўнаць з нашымі жонкамі, а значыць і радасць ад яе будзе незямная.

А некаторыя казалі:

— Як бы там ні было, асалода будзе каштаваць зусім танна, бо нават танныя негрыцянскія дзеўкі прадаюць сябе, патрабуючы за паслугі медзь! А гэта, мабыць, нейкая жрыца, якая збірае камяні на новы храм кошкагаловай Баст, і мы зробім добрую справу, спраўдзіўшы яе жаданне.

Людзі вагаліся, сумняваліся, але ішлі за ёй у чаратовыя зараснікі, куды яна заваблівала. І чысцільшчыкі рыбы сказалі:

— Не, далей мы не пойдзем. Можа, яны выйшла з вады і зацягне за сабой нас? А можа яна і ёсць кошкагаловая Баст, і яе галава ператворыцца ў галаву кошкі, і яна адкусіць нам мужчынскую годнасць, як толькі мы паглыбімся ў яе ўлонне, каб даць ёй асалоду?

Яны так казалі, але ішлі за ёй, зачараваныя яе прыгажосцю. А пагоншчыкі аслоў смяяліся і казалі:

— Хай яе галава зробіцца хоць рыбінай галавой! Мы не спалохаемся і яе кіпцюроў, каб толькі пазабавіцца з такой жанчынай!

Царэўна Бэкетамон прабыла ў зарасніках чароту ўвесь дзень і зрабіла ўсё, каб задаволіць кожнага, і людзі з задавальненнем неслі ёй камяні, нават вялізныя глыбы, якія дорага прадавалі з каменяломняў. І ўсе казалі адзін аднаму:

— Вось гэта жанчына! Такой мы ніколі не сустракалі — яе рот мае смак свежага мёду, грудзі падобныя да спелых яблыкаў, а ўлонне апальвае, як агонь, на якім смажаць рыбу!

Яны малілі яе прыйсці да іх на рынак і заўтра і абяцалі прынесці яшчэ больш камянёў, а яна ціха ўсміхалася і дзякавала за атрыманую асалоду. Да вечара яна набрала шмат камянёў і наняла вялікі човен перавезці іх да Залатога палаца.

На другі дзень яна ўзяла большы човен і загадала рабыням перавезці яе на другі бок ракі. Рабыняў і човен яна пакінула на прыстані, а сама пайшла на гароднінны рынак. Там яна пачала спакушаць сялян і падмятальшчыкаў вуліц, а таксама ахоўнікаў, кажучы ім:

— Я царэўна Бэкетамон, жонка Харэмхеба, вялікага ваяводы Егіпта. Ён занудлівы і лянівы, яго мужчынская сіла нічога не вартая, і ён не

можа прынесці мне асалоду. Ён адбірае ў мяне дзяцей, дрэнна са мной абыходзіцца і выганяе з дому, і ў мне няма даху над галавой. Хадземце са мной і падарыце мне радасць. Вы наўрад ці знойдзеце ў Фівах таннейшыя ўцехі нават ад негрыцянскіх жанчын, бо я патрабую ў аплату толькі звычайны камень!

Сяляне і чарнаскурыя ахоўнікі палохаліся яе словаў і казалі адзін аднаму:

— Не можа яна быць царэўнай, бо ніводная царская дачка сябе так не паводзіць!

Але яна не пераставала спакушаць іх словамі, агаляла перад імі цела, а потым завяла ў чараты ля ракі, і яны кідалі працу, кажучы:

— Не кожны дзень бедняку дастаецца такая смачная ежа! Яе скура не падобная на цёмную скуру нашых жонак, а яе вопратка — гэта вопратка вяльможных пані, і мы былі б дурнямі, адмовіўшыся ад такой спакуслівай прапановы! Пацешым яе як след, калі няма ў яе ў жыцці больш ніякай радасці.

Яны ўдосталь пацешыліся з царэўнай, прыносячы ёй камяні, што ляжалі пад парогам шынкоў, а ахоўнікі выварочвалі камяні з царскіх будынкаў. Але потым яны забаяліся:

— Калі гэта і праўда жонка Харэмхеба, дык ён, вярнуўшыся, заб'е нас усіх, калі даведаецца. Ён жа перавышае па лютасці льва, ён ганарлівы і самалюбны, хоць сам не можа задаволіць сваю жонку. Але калі нас будзе шмат, ён не зможа забіць усіх мужчын у Фівах. Дык няхай у яе будзе як мага больш камянёў!

І вярнуўшыся на рынак, яны пачалі расказваць пра царэўну ўсім сустрэчным, сябрам і знаёмым і вадзілі іх у чараты, так што за дзень пратапталі туды цэлую дарогу, і ўвечары зараснікі былі падобныя да лежбішча бегемотаў. На рынку панавала неразбярыха, шмат чаго раскралі, трубілі аслы, мычалі ад смагі быкі, а шынкары і карчмары бегалі па вуліцах у пошуках сваіх дарагіх каменных прыступак. Адвячоркам царэўна Бэкетамон сціпла падзякавала ўсім і загадала нагрузіць камянямі вялікі човен, і мужчыны з рынка дапамаглі данесці камяні да чоўна.

Тым жа вечарам па Фівах разнеслася чутка, што сама кошкагаловая багіня Баст з'явілася ў горадзе і забаўляецца з прасталюдзінамі. А потым па горадзе пайшлі яшчэ болей дзіўныя чуткі, а тыя, хто не верыў у багоў, спрабавалі даць сваё тлумачэнне:

— Можа, у часы пірамідаў багі і прыходзілі на зямлю, з'яўляючыся перад людзьмі, але цяпер свет так састарэў, што багі больш не прыходзяць. Можа, гэтая жанчына проста чыя-небудзь вяльможная жонка, калі асмельваецца сябе так паводзіць.

А царэўна Бэкетамон на трэці дзень паехала на вугальны рынак і ўвесь дзень бавілася з вугальшчыкамі так, што пад вечар чараты на



беразе Ніла пакрыліся вугальным пылам і пачэзлі. Жрацы шматлікіх маленькіх храмаў казалі, што ўсе прасталюдзіны — і гандляры вугалем таксама — проста бязбожнікі і паганцы, бо не баяцца абдзіраць камяні са сценаў іх храмаў, каб заплаціць за асалоду. А людзі аблізваліся і шэптам адзін аднаму казалі:

— Мы сапраўды паспыталі незямной асалоды: яе вусны раставалі пад нашымі пацалункамі, яе грудзі былі ў нашых руках, як дзве распаленыя чашы. Мы раней і не ўяўлялі, што на свеце бывае такое шчасце.

Калі ў Фівах даведаліся, што багіня з'явілася на людзях трэці раз, у горадзе пачалося вялікае хваляванне, нават прыстойныя мужы пакінулі сваіх жонак і пайшлі па шынках і корчмах, а ўначы пачалі абдзіраць камяні з царскіх будынкаў, і наступнаю раніцай амаль усе мужчыны ў Фівах хадзілі з камянямі пад пахай, нецярпліва чакаючы з'яўлення Кошкагаловай. Але тут занепакоіліся і жрацы, яны паслалі воінаў, каб тыя затрымалі жанчыну, якая выклікала такія беспарадкі, чуткі ды плёткі.

Але тым днём царэўна Бэкетамон не паехала ў горад, яна адпачывала ў Залатым палацы ад сваёй нялёгкай працы, прыветна ўсміхаючыся кожнаму, хто да яе прыходзіў. Прыдворныя здзіўляліся такім паводзінам звычайна недаступнай царэўны, і ніхто не думаў, што яна і была тая таямнічая жанчына, якая забаўлялася ў Фівах з прасталюдзінамі.

А царэўна Бэкетамон агледзела сабраныя ёю камяні розных колераў і памераў і паклікала да сябе будаўніка фараонавых хлявоў і стайняў. Яна звярнулася да яго самым ветлым чынам:

— Гэтыя камяні я сама сабрала на беразе, і для мяне гэта свяшчэнныя камяні, бо з кожным мяне звязвае прыемны ўспамін. Збудуй мне з іх альтанку, каб я мела дах над галавой, бо мой муж грэбуе мною і выганяе са сваіх пакояў. Я хачу, каб мая альтанка была прасторная, з высокімі сценамі, і каб ты пачаў будаваць яе неадкладна. А калі камяні скончацца, я здабуду яшчэ, ты не турбуйся.

Будаўнік фараонавых хлявоў і стайняў быў чалавек просты, яго вопратка была пакрытая каменным пылам, плечы сагнуліся ад цяжкіх камянёў, ён не прывык да размоў з высокімі асобамі, таму ён збянтэжана калупаў зямлю пальцам босай нагі і разгублена казаў:

— Яснавяльможная царэўна Бэкетамон! Я баюся, што ў мяне не хопіць ведаў і ўмення, каб пабудаваць альтанку, вартую тваёй годнасці і велічы, бо каменне тут рознакаляровае і розных памераў, і каб спалучыць іх патрэбна адмысловае майстэрства. Лепей пакліч якога-небудзь славутага храмавага будаўніка ці мастака, бо я магу сапсаваць тваю задуму, і ўвесь збор камянёў прападзе.

Але Бэкетамон сарамліва дакранулася да яго кашчавага пляча і адказала:

— Ах, муляр, я ўсяго толькі бедная жанчына! Мой муж грэбуе мной,

і я не маю сродкаў наняць славутых будаўнікоў. Я нават не магу заплаціць табе, як ты таго варты. Але думаю, калі альтанка будзе гатовая, я адплачу табе самым прыемным чынам: я правяду з табой час у забавах, якія нам абаім прынясуць асалоду. Гэта і будзе мая плата за тваю працу. Спадзяюся, што ты падорыш мне вялікую радасць, бо ты сапраўдны мужчына, і рукі твае дужыя, а я толькі слабая жанчына, я змаркоцілася па простых радасцях, у якіх мой муж адмаўляе мне.

Будаўніка распалілі яе словы і дотык рукі, ён паглядзеў на яе прыгажосць і ўспомніў казкі, у якіх царэўны кахалі простых юнакоў і забаўляліся з імі. Ён баяўся Харэмхеба, але пажаднасць была мацнейшай за страх, і словы Бэкетамон ударылі яму ў галаву. Ён з вялікай паспешлівасцю пачаў будаваць альтанку ў садзе Залатога палаца, мроячы наяве і ўвасабляючы свае мроі ў сценах пабудовы. Яго жаданне і каханнеператварылі яго ў вялікага мастака, бо ён кожны дзень бачыў царэўну Бэкетамон і пад позіркам зорных вачэй царэўны яго сэрца згарала, як сухі чарот, ён працаваў, як апантаны, знемагаў ад працы і жадання, але зрабіў альтанку такой прыгажосці, якой яшчэ не было на свеце. Але яшчэ задоўга да канца будаўніцтва камяні скончыліся, і царэўна Бэкетамон мусіла здабываць новыя. Яна зноў загадала перавезці сябе ў Фівы і збірала камяні на ўсіх рынках, у Алеі бараноў, і ў храмавых садах, і не засталося ніводнай часткі горада, з якой у яе не было б камянёў. Мужчыны, што прыносілі камяні, хавалі яе ад храмавых воінаў, але аднойчы тыя разам з фараонавымі ахоўнікамі змаглі затрымаць царэўну і хацелі за непрыстойныя паводзіны завесці яе ў суд, але яна ганарліва ўскінула галаву і сказала:

— Я царэўна Бэкетамон і з задавальненнем пагляджу на таго, хто адважыцца быць мне суддзёй, бо ў маіх жылах цячэ кроў вялікіх фараонаў і я — спадкаемца царскай улады. Але я не буду караць вас, воіны, за вашу няветласць, я з задавальненнем пазабаўляюся з вамі, бо вы прыйшліся мне даспадобы: як мужчыны вы маеце надта прывабны выгляд. Але кожны з вас мусіць мне заплаціць, прынёсшы камень, і было б добра, каб камень быў з дома суддзі ці храма, а я заплачу вам напоўніцу.

Ахоўнікі паглядзелі на яе і імі авалодала тая самая ліхаманка, што і ўсімі фіванскімі мужчынамі, яны зараз накіраваліся да дома суддзі і дзідамі выламалі прыступкі з ганка, яны выламалі каменныя пліты на двары храма Амона і прынеслі здабычу да царэўны Бэкетамон, якая сапраўды шчодра расплацілася з імі. Але пасля гісторыі з воінамі і ахоўвай яна мусіла перабрацца збіраць камяні ў дамы ўцехаў, і гаспадары нядрэнна на тым нажываліся, аднак царэўна бывала ў кожным месцы толькі па разе, а на другім дзень ішла на новае.

На той час ужо ўсе ведалі, чым займаецца царэўна, і прыдворныя стараліся лішні раз прайсціся па садзе, каб паглядзець на дзівосную альтанку, якую будаваў будаўнік фараонавых хлявоў і стайняў. Гледзячы на вышыню сценаў і колькасць маленькіх каменьчыкаў, прыдворныя паненкі ціха ўскрыквалі і прыцiскалі далоні да вуснаў ад сарамлівасці. Але сказаць хоць слова самой царэўне ніхто не адважваўся. Калі ж чуткі пра Бэкетамон дайшлі да Эйе, які сваёй фараонаўскай уладай мог бы яе стрымаць, той толькі зларадна захіхікаў, бо тое, што ішло на шкоду Харэмхебу, толькі радавала яго.



А Харэмхеб, ваюючы тым часам у Сірыі супраць хетаў, забраў у іх Сідон, Сіміру і Бібл. Ён адсылаў у Егіпет рабоў і багатую здабычу, а сваёй жонцы — раскошныя падарункі. У Фівах кожны ведаў, што дзеецца ў Залатым палацы, але ніхто не адважыўся данесці Харэмхебу, як паводзіць сябе яго жонка. Што до віжаў, якімі ён акружыў Бэкетамон, паставіўшы іх на высокія прыдворныя пасады, дык тыя казалі паміж сабой:

— Гэта справы сямейныя, і лепей усунуць руку паміж жорнамі, чым лезці ў звады між мужам і жонкай,— толькі ўзбудзіш абаіх супраць сябе і ўрэшце застанешся вінаваты.

Зрэшты, я таксама думаю, што гэта і добра, што Харэмхеб, ведучы вайну, нічога не ведаў пра падзеі ў Фівах. Гэта было на карысць Егіпту. Каб ён даведаўся пра паводзінах Бэкетамон, гэта пайшло б толькі на шкоду яго ваеннаму майстэрству.

## 5

Я ўжо дастаткова расказаў пра тое, што адбывалася ў часы фараона Эйе з іншымі, але нічога яшчэ не сказаў пра сябе. Прычына простая: мне амаль няма чаго расказваць. Маё жыццё ўжо не было бурлівым патокам, спачатку яно ціхамірна струменілася, і ўрэшце цалкам ператварылася ў стаячую ваду затокі. Год за годам я жыў у былым доме медніка, які Муці адбудавала пасля пажару, і яна даглядала за мной усе гэтыя гады. Мае ногі стаміліся ступаць па зямлі, вочы стаміліся глядзець на свет, а сэрца стамілася ад марнасці ўсяго існага. Увесь час я праводзіў у доме, але не прымаў болей хворых, і толькі час ад часу лячыў суседзяў ды зрэдку дапамагаў беднякам, якія не мелі чым заплаціць за лячэнне іншым лекарам. Я загадаў выкапаць у двары новую сажалку, запусціў у яе стракатых рыбак і, седзячы цэлымі днямі пад пальмай, назіраў, як яны плаваюць у вадзе. Некалі пашкоджаная агнём, пальма зноў пакрылася лісцем. Муці добра даглядала мяне, гатавала смачную ежу, паіла прыстойным віном і сачыла, каб я высыпаўся і не стамляў сваё цела.

Але ежа страціла для мяне смак, і віно не прыносіла радасці, бо калі я выпіваў, перада мной у вечаровым змроку ўсплывалі нежывы твар фараона Эхнатона і малады твар Супату, і я больш не хацеў лячыць

хворых сваімі рукамі, на якіх ляжаў праклён, бо яны неслі смерць людзям, якіх я любіў і якім жадаў несці дабро. Таму я сядзеў і глядзеў на рыбак у сажалцы, зайздросцячы, што ў іх халодная кроў і зусім невялікія страсці, што яны ўсё жыццё праводзяць у вадзе і не ўдыхаюць спякотнага паветра. Я сядзеў, назіраючы за рыбкамі, і размаўляў са сваім сэрцам: «Супакойся, маё неразумнае сэрца, ты не вінаватае, што ўсё існае на зямлі не мае сэнсу, што дабро і зло нічога не значаць і што сквапнасць, пажаднасць і нянавісць пануюць у свеце. І ты, Сінухе, ні ў чым не вінаваты, бо чалавек заўсёды застаецца самім сабою і не можа змяніць сваю прыроду. Мінаюць гады, людзі нараджаюцца, паміраюць, і іх жыццё падобнае да аднаго гарачага подыху. Яны нешчаслівыя, пакуль жывуць, і робяцца шчаслівымі толькі ў смерці. Няма нічога марнейшага за жыццё чалавека, і ў тым не твая віна, бо з веку ў век чалавек застаецца нязменны. Дарма ты пусціў чалавека ў плыню часу — яго сэрца ніколькі не зменіцца, і ён выйдзе з гэтае плыні такім, якім быў раней. Дарма ты будзеш выпрабоўваць яго вайной і незлічонымі бедамі, чумой, пажарамі, багамі ды дзідамі — ад такіх выпрабаванняў чалавек толькі разлютуецца і зробіцца горшым за кракадзіла. Толькі памерлы чалавек — гэта добры чалавек».

Але маё сэрца пярэчыла мне і казала: «Глядзі на рыбак, Сінухе, але я да скону не пакіну цябе ў спакоі і кожны дзень твайго жыцця буду сцвярджаць, што ты, Сінухе, вінаваты ва ўсім, бо я, тваё сэрца,— ненасытнейшае за кракадзіла і жадаю, каб твая мера была поўнай».

Я злаваўся і адказваў свайму сэрцу: «Ты бязладнае і дурное, і я стаміўся ад цябе, бо ты ўвесь час прыносіш мне толькі турботы і смутак. Я сам добра ведаю, што мой розум — забойца з чорнымі рукамі, але ж мае забойствы — драбяза ў параўнанні з тым, што дзеецца на свеце. Ніхто мяне не вінаваціць за іх. І я не магу зразумець, чаму ты ўвесь час кажаш мне пра віну і не пакінеш у спакоі: мне не дадзена выправіць свет і чалавечую прыроду!»

А сэрца пярэчыла мне: «Я не кажу пра твае забойствы і не вінавачу цябе, але ўдзень і ўначы буду паўтараць, што ты вінаваты, што праз цябе загінулі тысячы людзей — ад зброі, пад коламі баявых калясніцаў, ад знясілення ў паходах праз пустэльню, а ты не паспеў ім дапамагчы. Праз цябе загінулі дзеці ў чэравах маці, праз цябе на сагнутыя спіны рабоў падалі палачныя ўдары, праз цябе няпраўда дратуе праўду, а светам кіруюць рабаўнікі і бандыты. І нельга злічыць, колькі людзей загінулі праз цябе, бо не ведалі таго, што ведаеш ты, Сінухе. І ўсе гэтыя памерлыя і тыя, што яшчэ памруць,— гэта твае браты, і гінуць яны праз цябе, ты — адзіны, хто вінаваты ў іх смерці. Гэта іх плач ты чуеш у сне, іх стогн зрабіў тваю ежу нясмачнай, іх крык ад болю знішчыў у табе ўсякую радасць».



Я злаваўся і казаў: «Мае браты — рабы, бо яны марна не прамаўляюць. Мае браты — пустэльныя ваўкі і драпежныя львы, а не людзі, бо чалавек ведае, што робіць».

А сэрца смяялася: «Хіба чалавек, праўда, ведае, што робіць? Ты — ведаеш, бо ў цябе ёсць веды. Таму я і прымушаю цябе пакутаваць. Але іншыя не ведаюць, што робяць. А таму, вучоны Сінухе, ты і ёсць адзіны вінаваты ва ўсім зле на свеце».

Тады я парваў на сабе вопратку і закрычаў:

— Хай падзе праклён на мае веды і мудрасць, хай падзе праклён на мае вочы, а самы страшны праклён — на маё неразумнае сэрца, якое не дае мне спакойна жыць і паклёпнічае на мяне! Хай мяне зараз жа паставяць перад шалямі Асірыса і пакладуць на іх маё ілжывае сэрца, і хай сорак справядлівых павіянаў абвесцяць мне свой вырак, бо ім я дам болей веры, чым свайму звар'яцеламу сэрцу!

На крык з кухні выбегла Муці і прыклала мне да галавы халодны сасуд, а галаву абвязала намочанай у халоднай вадзе анучай. Яна злосна лаялася, калі ўкладвала мяне ў ложак ды паіла нейкімі горкімі лекамі, ад чаго я пакрысе супакоіўся. Але потым я доўга яшчэ хварэў і трызніў, зноў нешта вёрз пра шалі Асірыса, прасіў прынесці хлебны бязмен і бясконца згадваў Мэрыт і маленькага Тота. Муці самааддана даглядала мяне і, я думаю, была нават задаволеная, што ёй удаецца трымаць мяне ў ложку і карміць. Пасля гэтага яна забараніла мне сядзець на сонцы, кажучы, што мая лысая галава ўжо не можа трываць смертаноснага сонечнага прамення. Але я і не бываў на сонцы, я сядзеў у цяню пад пальмай і глядзеў на рыбак, якія былі маімі сябрамі, бо не ўмелі гаварыць.

З часам я паправіўся і паспакайнеў. Я нават змог дамовіцца са сваім сэрцам, і яно больш не дапякала мяне. Я больш не заводзіў з Муці размоваў пра Мэрыт і Тота, я зберагаў іх у сваім сэрцы, бо разумеў, што, калі ўжо мая мера мусіла напоўніцца да краёў, то іх смерць была непазбежнай: мне было наканавана заставацца аднаму, а калі б яны былі са мною побач, я быў бы шчаслівы і жыў спакойна, і маё сэрца змоўкла б назаўсёды. Мне было наканавана заставацца самотным, якім я стаў ужо ў першую ноч свайго нараджэння, калі плыў па рацэ ў трысняговым чоўніку.

Паправіўшыся, я ўпотай надзеў вопратку беднякоў, разуўся і пакінуў дом медніка з намерам ніколі больш туды не вяртацца. Я пайшоў у гавань і разам з насільшчыкамі цягаў грузы, пакуль мая спіна не пачала балець, а плечы не сагнуліся ад непасільнай працы. Я хадзіў на гароднінны рынак і падбіраў сапсаваныя плады сабе на ежу, я хадзіў на вугальны рынак і раздзімаў мяхі вугальшчыкам і кавалям. Я выконваў працу рабоў і насільшчыкаў, я еў іхні хлеб, піў іхняе піва і казаў ім:

— Паміж людзьмі няма розніцы, кожны выходзіць з матчынага ўлоння голы, і адзіная мера чалавеку — ягонае сэрца. Чалавека нельга мераць ні колерам скуры, ні мовай, ні вопраткай, ні аздобамі. Нельга мераць чалавека ні багаццем, ні беднасцю, а можна толькі ягоным сэрцам. Таму добры чалавек лепшы за злога, а праведнасць лепшая за распусту. Гэта ўсё, што я спасціг, гэта ўся мая мудрасць, а больш я нічога не ведаю.

Так я прамаўляў перад глінянымі хацінамі на змярканні, калі іх жонкі распальвалі на вуліцах вогнішчы і пах смажанай рыбы ўздымаўся ад агню высока ў паветра і разносіўся па ўсёй бядняцкай частцы горада. Але яны смяяліся мне ў адказ:

— Ты, Сінухе, проста вар'ят, таму ты і робіш працу рабоў, умеючы чытаць і пісаць, а можа ты ўчыніў якое злачынства і цяпер хаваешся сярод нас, а ад тваіх словаў так і патыхае Атонам, імя якога нам нельга прамаўляць і прыгадваць. Але мы не будзем даносіць на цябе, мы будзем цябе хаваць, каб ты нас забаўляў сваёй балбатнёй. Толькі не раўняй нас з бруднымі сірыйцамі ды паскуднымі неграмі, бо хоць мы рабы і насільшчыкі, але ж егіпцяне. І мы ганарымся колерам сваёй скуры, сваёй мовай, сваім мінулым і будучым.

— Нядобра вы кажаце,— адказваў я,— бо пакуль чалавек будзе ганарыцца сабой і лічыць сябе лепшым за іншых, да тае пары ланцугі і палачныя ўдары, дзіды і падлажэры будуць яго пераследаваць. Меркаваць пра чалавека і мераць яго можна толькі па яго сэрцы, а чалавечыя сэрцы ўсе падобныя і адно не лепшае за другое. І ўсе слёзы таксама аднолькавыя — гэта вада і соль, і няма розніцы паміж слязьмі чорных ці карычневых, сірыйцаў ці неграў, прасталюдзінаў ці вяльможаў.

Яны смяяліся яшчэ гучней, ляскалі сабе па каленях і казалі:

— Не, ты сапраўды вар'ят і не бачыў жыцця, а вырас недзе ў мяшку. Чалавек наогул не зможа жыць, калі не будзе лічыць сябе лепшым за іншых, і няма такой, нават самай нікчэмнай істоты, якая хоць бы ў чым-небудзь не адчувала сябе вышэйшай за іншых. Адзін ганарыцца спрытам рук, другі — дужымі плячыма, злодзей ганарыцца сваёй хітрасцю, суддзя — мудрасцю, сквапны — сквапнасцю, марнатраўца — марнатраўствам, добрая жонка пахваляецца сваёй сціпласцю, а самадайка — шчодрасцю свайго нораву. І няма нічога прыемнейшага чалавеку, чым ведаць, што хоць бы ў чым-небудзь ён вышэйшы за іншых. Таму і нам прыемна бачыць, што мы разумнейшыя і хітрэйшыя за цябе, хоць мы ўсяго толькі рабы і беднякі, а ты ўмееш чытаць і пісаць.

— І ўсё ж добры чалавек лепшы за злога, а праведнасць лепшая за распусту,— паўтараў я.

— Што такое добрае, што злое? — з горыччу казалі яны мне.— Калі мы заб'ем злога гаспадара, які лупцуе нас палкамі, крадзе нашы харчы і прымушае галадаць нашых дзяцей і жонак, мы зробім добрую справу, але воіны пацягнуць нас да фараонавых суддзяў, нам адрэжуць насы і вушы і павесяць дагары нагамі на гарадскім муры,— вось і ўся праведнасць і законнасць. А суд залежыць ад таго, што кладуць на шалі, таму ён і ператвараецца ў суд няправедны, бо нашы гіры не такія, як у фараонавых суддзяў.



Яны частавалі мяне смажанай рыбай, якую згатавалі ім жонкі, я піў іх слабае піва і казаў:

— Забойства — гэта найгоршае злачынства на свеце, якое можа ўчыніць чалавек. І не мае значэння, дзеля чаго ён забівае — дзеля дабра ці зла, бо чалавека нельга забіваць, а трэба вылечваць у ім усё злое.

Яны закрывалі рот далонямі, баязліва азіраліся вакол і казалі:

— А мы і не збіраемся нікога забіваць, бо палкі і бізуны зрабілі нас пакорлівымі і ціхамірнымі, мы церпім усе кухталі, абразы і прыніжэнні і нікога не забіваем. Але калі ты хочаш вылечыць людзей ад злога і вярнуць праведнасць замест беззаконня, дык пачні з царскіх вяльможаў і багацеяў ды фараонавых суддзяў і пагутары пра гэта з імі, бо сярод іх ты знойдзеш больш злога і беззаконнага, чым тут.

Так яны казалі, смеючыся і штурхаючы адзін аднаго локцямі. А я адказваў:

— Мне прыемней размаўляць з вамі, бо вы народ, вас безліч, як зорак на небе, усё ідзе ад вас, вы крыніца ўсяго — злога і добрага, праведнага і беззаконнага. І вы зусім не бязвінныя, бо калі вам кажуць: «Ідзіце!» — вы ідзяце і робіце, што вам загадваюць. Калі прыходзяць людзі ад фараона, яны даюць вам медзь, укладваюць вам у рукі дзіды і вядуць на вайну, а калі вы заўпарціцеся, яны вас звяжуць і пагоняць ваяваць бізунамі. А на вайне вы будзеце забіваць падобных да сябе і ганарыцца забойствамі. А ўсякае забойства — гэта зло і кроў, якая праліецца на вашы галовы. Таму віна ляжыць і на вашых душах.

Некаторыя абдумвалі мае словы і нявесела адказвалі:

— Сярод нас напраўду няма бязвінных, але мы нарадзіліся ў свеце зла і пачалі плакаць адразу пасля з'яўлення на свет. Гэты плач не пакідае нас усё жыццё, і рабства нам наканавана навечна, бо й пасля смерці жрацы сваім чарадзействам прымушаюць нас працаваць на гаспадароў, даючы нашы імёны драўляным фігуркам, якія кладуць у грабніцы вяльможам. Схадзі лепш да багатых і знатных і пагутары пра ўсё гэта з імі, бо, на нашую думку, усё зло — ад іх. І не крыўдуй на нас, калі за твае небяспечныя словы табе адрэжуць вушы і нос і пашлюць на руднікі ці павесяць на гарадскім муры дагары нагамі. Самыя небяспечныя твае словы — гэта словы пра вайну, бо забіваць на вайне — гонар, і наш славуты ваявода Харэмхеб без роздуму забіў бы цябе за такія размовы, хоць, кажуць, ён сам ужо ні на што няздольны — нават не можа задаволіць сваю жонку.

Паслухаўшыся іхняй парады, я пайшоў ад іх прэч. Босы, у шэрым бядняцкім адзенні, я хадзіў па вуліцах Фіваў і размаўляў з гандлярамі, якія падмешвалі ў муку пясок, з гаспадарамі млыноў, якія ўстаўлялі ў рот рабам палачкі, каб тыя не маглі есці зерне ў час памолу, я гаварыў з суддзямі, якія чынілі непраўдзівы суд і адбіралі спадчыну ў сіротаў за добры хабар. Я дакараў іх за іхнія справы, а яны палохаліся і казалі:

— Хто ён такі, гэты Сінухе, калі не баіцца казаць такія дзёрзкія словы? Можа, гэта выведчык фараона?

Таму яны выслухоўвалі мае прамовы, запрашалі мяне да сябе і давалі мне падарункі, а суддзі прасілі маіх парадаў і выносілі адпаведныя выракі. Так яны вырашалі справы на карысць беднякоў, нягледзячы на хабар, ад чаго сярод багатых пайшло вялікае нездавальненне, і яны казалі: «Цяпер фараонавы суддзі сталі горшыя за тых рабаўнікоў, якіх яны судзяць».

Аднак калі я пайшоў па дамах вяльможаў ды багацеяў, яны спусцілі на мяне сабак, і я бег па вуліцах Фіваў у разадранай вопратцы, з акрываўленымі нагамі, і сабакі гналіся за мной, а людзі смяяліся і паказвалі на мяне пальцамі. А гандляры, і суддзі пасля таго больш мне не верылі, яны гналі мяне прэч, кажучы:

— Калі ты яшчэ раз тут з'явішся са сваімі паклёпамі, мы засудзім цябе за ілжывыя плёткі, за падбухторванне народу, і ты будзеш вісець на гарадскім муры дагары нагамі.

Так я вярнуўся ў дом медніка зняслаўлены і зганьбаваны. Я ўпэўніўся ў марнасці сваіх спробаў, бо нікому, апроч крумкачоў, мая смерць не прынесла б карысці. Муці схапілася за галаву, убачыўшы мяне ў такім непрыстойным выглядзе.

— Вось яны ўсе такія мужчыны, — загаласіла яна, — і нічога не можа іх выправіць! Ці не сорамна табе, сталаму чалавеку, уцякаць з дому, як дурному падлетку. Ты паглядзі на сябе: твая скура зморшчылася, валасы вылезлі! Няўжо ты сапраўды прапіў у шынках сваю багатую вопратку і лез у бойкі, у якіх табе наставілі гэтулькі гузакоў і абадралі ўсе ногі? Навошта табе было ўцякаць з дому дзеля выпіўкі? Я і сама дала б табе віна, і можаш піць колькі ўлезе. І лаяць цябе болей не буду, калі ты запросіш у дом сваіх сяброў-п'янюгаў, бо я ўся звялася, хвалюючыся за цябе. Дарэчы, Каптах таксама пытаўся і непакоіўся. Ён ужо вярнуўся ў Фівы, і табе не будзе так самотна.

Яна пераапранула мяне ў чыстую вопратку і намазала раны алеем, прыгаворваючы:

— Напраўду, лепш бы мужыкам адразалі іх маленькую штуку, якую яны хаваюць пад вопраткай, бо ад яе толькі смута ды непрыемнасці, сваркі ды бойкі, што ў маладых, што ў старых. Калі ўжо ты, Сінухе, не можаш справіцца са сваёй мужчынскай прыродай, дык прывядзі ў дом маладую рабыню, якая супакоіць тваю пажадлівасць і задаволіць юрлівасць, а мне дапаможа ў хаце, бо я ўжо старая, мае рукі трасуцца, і смажанка падгарае, пакуль я раблю прыправу. Бойкі за дзевак у дамах уцехаў табе не да твару, Сінухе, пара б гэта ўжо зразумець.



Яе словы мяне моцна пакрыўдзілі, бо, нягледзячы на лысіну, я не лічыў сябе такім старым. Але я не адважыўся прызнацца, чаму ўцёк з дому, і пакінуў яе пры думцы, што я, як і ўсе мужчыны проста п'янюга і бабнік, інакш, калі б я расказаў пра свае хаджэнні ў народ і да багацеяў дзеля размоваў пра справядлівасць і беззаконне, яна пасадзіла б мяне ў цёмны пакой і зачыніла б там, а потым укруціла б у мокрыя просціны і паклікала б лекараў, каб тыя мне прыставілі п'явак. Таму я нічога не адказаў на яе насмешкі і дазволіў дагледзець сябе. Пасля чэрствага хлеба рабоў і рыбы, смажанай на ёлкім алеі, гуска па-фіванску ажно раставала ў роце, а віно пасля кіслага бядняцкага піва поўніла рот слодыччу. Маё сэрца суцішылася, і я спакойна мог абдумаць свае ўчынкі. Я глядзеў на іх вачыма лекара і разумеў, што нагадваю хворага, якому трэба ўскрыць чэрап, бо мая хвароба выглядала цяжкай, калі ўжо я лічыў сябе адказным за ўсё зло, што чыніцца на свеце.

І тады я зноў сеў пад пальмаю ў двары і пачаў назіраць за рыбкамі ў сажалцы, і мяне гэта супакоіла, а на вуліцы перад маім домам па-ранейшаму шумелі дзеці ды крычалі аслы. Неўзабаве мяне наведаў Каптах. Ён ужо не баяўся рабоў і насільшчыкаў, бо іх дух быў зламаны, і свой прыход да мяне абставіў велічна і пыхліва: яго неслі на стракатых насілках васемнаццаць рабоў, а ён сядзеў на мяккіх падушках, і на яго твары ільсніўся духмяны алей, якім ён шчодра намазаўся, каб адбіць смурод бядняцкай вуліцы. Ён зноў растаўсцеў, сірыйскі майстар зрабіў яму з золата і каштоўных камянёў штучнае вока, і ён вельмі ім ганарыўся, хоць вачніцу яно націрала так, што, застаўшыся са мной сам-насам, ён яго выняў.

Каптах абняў мяне і заплакаў ад радасці, што зноў мяне бачыць. Яго цяжкія далоні важылі на маіх плячах, як добрыя гіры, і сам ён быў такі цяжкі, што крэсла, якое яму падала Муці, адразу пад ім развалілася, і ён ляснуўся на падлогу, задраўшы падол. Ён расказаў, што вайна ў Сірыі набліжаецца да канца і баявыя калясніцы Харэмхеба ўжо ездзяць пад мурамі Кадэша, — праўда, горад яшчэ не ўзяты. Шэптам Каптах расказваў мне пра сваё багацце, пра вялікія здзелкі ў Сірыі, пра тое, што ён купіў у багатай частцы горада старыя палацы вяльможаў і наняў сотні будаўнікоў, каб тыя іх абнавілі. І цяпер яму, Каптаху, не да твару трымаць шынок каля гавані. Яшчэ ён казаў:

— Да мяне дайшлі кепскія чуткі, мой гаспадар! У Фівах кажуць, што ты падбухторваеш народ супраць Харэмхеба, а суддзі з багацеямі ды вяльможамі злуюцца, што ты, нібыта, узводзіш на іх паклёп. Таму я

кажу табе: будзь асцярожны. Калі ты думаеш і далей весці свае небяспечныя прамовы, яны могуць паслаць цябе на цяжкую працу ў руднікі! Зрэшты, я думаю, яны не асмеляцца, бо сам Харэмхеб ставіцца да цябе вельмі прыхільна. Але твой дом аднойчы ўжо гарэў, і ніхто не перашкодзіць ім прабрацца сюды яшчэ раз і зноў яго падпаліць, а цябе забіць, калі ты будзеш падбухторваць бедных супраць багатых. Дык скажы, што табе не дае спакою, якія мурашкі завяліся ў тваёй галаве, каб я мог дапамагчы табе, як добры слуга, якому належыць дапамагаць свайму гаспадару.

Я нахіліўся да яго і расказаў, пра што думаў і што не давала спакою майму сэрцу. А ён, слухаючы, ківаў галавой так, што яго тоўстыя шчокі трэсліся, нават калі я ўжо скончыў. Тады ён сказаў:

— Я заўжды ведаў, што ты, мой гаспадар, чалавек просты і дурнаваты, але спадзяваўся, што з гадамі дурасці ў цябе стане менш. Але не, мяркуючы па тваіх словах, яе стала болей, хоць ты на свае вочы бачыў, колькі бяды прычынілася праз таго Атона, які пагубіў і тваё шчасце. Думаецца мне, што ўся твая журба ды турботы толькі з прычыны гультайства, ад якога ў галаве заводзяцца марныя думкі і не даюць табе спакою. Было б лепей, каб ты зноў заняўся сваёй справай і пачаў лячыць хворых, бо, вылечыўшы хоць аднаго, ты прынясеш больш карысці, чым усімі сваімі словамі ды прамовамі, якімі толькі сам сабе шкодзіш дый іншых збіваеш з панталыку. Калі ж ты не хочаш болей займацца лекаваннем хворых, дык знайдзі сабе іншы прыстойны занятак, як гэта робяць багатыя людзі. Не думаю, што табе прыйдзецца даспадобы паляванне на бегемотаў ці што ты ўпадабаеш кашэчы пах, як Пэпітамон. Але ты можаш збіраць старадаўнія папірусы, разбіраць іх і апісваць, можаш калекцыянаваць старадаўнія аздобы ці іншыя рэчы, зробленыя ў часы пірамідаў, можаш збіраць сірыйскія музычныя інструменты ці статуі негрыцянскіх багоў, якімі гандлююць воіны, вярнуўшыся з зямлі Куш. Напраўду кажу табе, Сінухе, на свеце існуе процьма спосабаў бавіць вольны час, каб не пакутаваць ад марных думак і згрызотаў, і не самы горшы з іх — віно ды дзеўкі. Добра разганяе дрэнны настрой і гульня ў цыркі, але для слабых мужчын гэта небяспечнае захапленне, а ты, мой гаспадар, чалавек слабы, калі мне дазволена сказаць такое. Дзеля Амона! Гуляй у цыркі, растрачвай золата на баб, напівайся п'яным, рабі што хочаш, толькі не марнуй час на дурныя думкі. Я кажу табе гэта, бо люблю цябе ўсім сэрцам і не хачу, каб з табой здарылася якая-небудзь бяда.

І яшчэ ён сказаў:

— На свеце няма нічога дасканалага, бо кожная аладка мае падпалены бок, і ў любым плодзе ёсць чарвяточына, а п'яны сёння, назаўтра пакутуе ад пахмелля. Не бывае на свеце і чыстай праўды, у кожнай праўдзе ёсць свая крыўда, а добрыя справы могуць мець благія наступствы, і самыя лепшыя намеры могуць прынесці бяду і пагібель — пераканаўчым прыкладам гэтаму можа быць Эхнатон. А паглядзі на мяне, мой гаспадар, і ты ўбачыш, што я задаволены жыццём і багаццем ў згодзе з людзьмі і багамі, і фараонавы суддзі мне кланяюцца, і людзі ўслаўляюць маё імя, а табе нават сабакі і тыя хочуць ухапіць за пяту. Супакойся, мой гаспадар, ты зусім не вінаваты, што свет такі, які ёсць: усё складзена так спрадвеку і так будзе вечна.



Я паглядзеў на яго дзябёлую постаць, падумаў пра яго багацце і горка пазайздросціў спакою ягонага сэрца. Я адказаў яму:

— Хай будзе так, як ты кажаш. Я супакоюся і зноў пачну займацца сваёю справай. Але скажы: ці памятаюць людзі Атона або праклінаюць яго імя, якое забаронена вымаўляць, і вінаватых пасылаюць на руднікі ці вешаюць дагары нагамі на гарадскім муры?

Каптах адказаў:

— На Атона забыліся хутчэй, чым абваліліся калоны праклятага горада Ахетатона, хутчэй, чым абрынуліся яго муры і пясок засыпаў дол у дамах. Праўда, мне даводзілася бачыць малюнкі, зробленыя мастакамі ў манеры, што была прынятая пры Атоне, я чуў казачнікаў і спевакоў, якія расказвалі небяспечныя гісторыі і спявалі забароненыя песні, а часам нават бачыў на плошчах і на сценах гарадскіх прыбіральняў надрапаны крыж Атона. Так што, мабыць, Атон памёр не зусім.

— Хай будзе так, як ты кажаш,— адказаў я.— Я супакоюся і вярнуся да свайго лекарскага рамяства, а каб бавіць час, буду што-небудзь збіраць. Але я не хачу збіраць тое, што збіраюць іншыя,— я буду збіраць людзей, якія яшчэ памятаюць Атона.

Каптах падумаў, што я жартую, бо ведаў, колькі зла прынёс Атон усяму Егіпту і мне асабіста. Потым мы яшчэ доўга гутарылі ў поўнай згодзе пра самыя розныя рэчы, і Муці прынесла віна, якое мы пілі, пакуль не прыйшлі рабы і не дапамаглі Каптаху ўстаць, бо са сваёй дзябёласцю ён сам зрабіць гэта быў няздольны, і панеслі яго з майго дома на насілках. Назаўтра ён прыслаў мне багатыя падарункі, ад якіх маё жыццё зрабілася раскошным і яшчэ прыемнейшым. У мяне не было нястачы ні ў чым, я меў усё, што чалавеку патрэбна для шчасця.

**6**

Тады я загадаў зноў павесіць на варотах знак лекара і пачаў займацца сваім рамяством. Я лячыў хворых і прымаў ад іх падарункі ў залежнасці ад іх дастатку, а з беднякоў наогул не браў нічога. Таму, нягледзячы на вялікую колькасць хворых у маім двары, на сваім рамястве я нажыўся мала. Прымаючы хворых, я асцярожна распытваў іх пра Атона, але так, каб іх не напалохаць і каб яны не распусцілі пра мяне

дрэнныя чуткі, бо маё імя і без таго мела кепскую славу ў Фівах. Паступова я зразумеў, што на Атона забыліся і што памятаюць пра яго толькі зацятыя вернікі або тыя, хто моцна ад яго пацярпеў і таму цяпер лічыць, што Атон — несапраўдны бога, а яго крыж — чарадзейны знак, які нясе чалавеку шкоду.

Пасля разводдзя памёр жрэц Эйе. Казалі, што ён памёр ад голаду, бо нічога не еў, баючыся атруціцца. Харэмхеб адразу скончыў вайну, пакінуўшы хетам Кадэш. Вярнуўшыся Фівы, ён з вялікай урачыстасцю адсвяткаваў сваю перамогу, а абвяшчаць жалобу па Эйе зусім не збіраўся, бо не лічыў яго сапраўдным фараонам. Наадварот — ён абвясціў, што Эйе заняў царскі трон незаконна і замардаваў Егіпет войнамі ды непасільнымі падаткамі. Харэмхеб загадаў зачыніць браму ў храм Сэхмет і прымусіў народ паверыць, што ён усяго толькі выконваў волю ілжэфараона Эйе, а сам ніколі не хацеў ваяваць. Таму народ радаваўся, сустракаючы яго. Адразу пасля вяртання ў Фівы Харэмхеб запрасіў мяне да сябе і сказаў:

— Сінухе, мой дружа, з тае пары, як мы сустракаліся апошні раз, я пастарэў, і мяне непакоіць, што ты дрэнна пра мяне адгукаешся і несправядліва мяне вінаваціш. Ты называеш мяне крыважэрным і кажаш, што я прыйшоў пагубіць Егіпет. Але я дасягнуў, чаго я хацеў,— я вярнуў Егіпту былую сілу, і цяпер яму не пагражае ніякая небяспека, бо я абламаў наканечнікі хецкіх дзідаў. А заваёву Кадэша я пакіну свайму сыну Рамсэсу. Сам я стаміўся ўжо ад вайны і хачу перадаць яму моцную дзяржаву. Егіпет цяпер забруджаны, як бядняцкі хлеў, але хутка ты ўбачыш, як я пачну вывозіць з яго гной, аднаўлю праўду, выганю беззаконне і кожнаму дам належнае, каб яго мера была поўная. Напраўду, Сінухе, мой дружа, са мной у Егіпет вяртаюцца добрыя старыя часы, і ўсё пойдзе так, як раней. Таму я загадаў выкрасліць са спісу фараонаў нікчэмныя імёны Тутанхамона і Эйе, нібы іх не было ніколі, а пачаткам свайго царавання я назаву ноч смерці Вялікага фараона, калі я прыйшоў у Фівы з дзідай у руках, а перада мною ляцеў мой сокал.

Харэмхеб выглядаў невясёлым, ён падпіраў галаву рукой і яго твар рассякалі прарэзаныя вайной зморшчыны. У яго вачах не было радасці, калі ён казаў:

— Напраўду, свет быў зусім не такі, калі мы былі маладыя, калі бядняк атрымліваў сваю меру напоўніцу і ў гліняных хацінках хапала алею і тлушчу. Але старыя часы вернуцца ў Егіпет разам са мною, Сінухе, і краіна зноў стане квітучаю і багатай. Я буду пасылаць караблі ў Пунт. Я аднаўлю работы ў каменяломнях і закінутых рудніках, пабудую новыя яшчэ болей велічныя, чым раней храмы, і зноў насычу фараонаву скарбніцу золатам, срэбрам і меддзю. Напраўду, Сінухе, праз дзесяць



год ты не пазнаеш Егіпет! Ты больш нідзе не сустрэнеш знявечаных жабракоў. Слабыя не павінны стаяць на дарозе ў моцных і здольных, я выпушчу слабую кроў Егіпта, я знішчу рабаўніцтва і несправядлівасць, бо егіпецкі народ павінен стаць магутным, здаровым і здольным заваяваць увесь свет.

Але мяне не ўзрадавалі яго словы — у мяне схаладзелі ад іх усе вантробы, а сэрца апусцілася ў калені, і я моўчкі стаяў перад ім. Гэта раззлавала яго, ён спахмурнеў, хвастануў бізуном па назе і сказаў:

— А ты ўсё такі ж кісляк, Сінухе. У маіх вачах ты падобны да бясплоднай калючкі, і я не разумею, чаму вырашыў, што твой выгляд мяне парадуе. Я запрасіў цябе прыйсці першым — я нават не паспеў узяць на рукі сыноў і абняць жонку. Вайна зрабіла мяне самотным і самота мне наканавана ўладай, у Сірыі ў мяне не было нікога, з кім бы я мог падзяліцца скрухай і радасцю, а размаўляючы, я заўсёды мусіў узважваць кожнае слова і думаць, чаго хачу ад свайго суразмоўцы. Ад цябе ж, Сінухе, я не хачу нічога, апроч сяброўства, аднак, здаецца, твае сяброўскія пачуцці згаслі і ты не рады бачыць мяне.

Я схіліўся перад ім у глыбокім паклоне, і маё самотнае сэрца паклікала яго. Я сказаў:

— Харэмхеб, з усіх сяброў нашай маладосці ты адзін застаўся жывы пасля ўсяго, што адбылося. Я заўсёды буду любіць цябе. Улада цяпер у тваіх руках, ты хутка ўскладзеш на сябе абедзве фараонаўскія кароны, і ніхто не зможа пагражаць твайму трону. Таму я малю цябе, Харэмхеб, вярні Атона! Дзеля нашага сябра Эхнатона, вярні яго! Дзеля нашага супольнага жахлівага злачынства, вярні яго, каб усе людзі зрабіліся братамі, каб не было розніцы між людзьмі і каб людзі больш ніколі не ваявалі!

Харэмхеб з жалем патрос галавой:

— А ты ўсё такі самы дурань, Сінухе. Як ты не можаш зразумець, што Эхнатон, кінуўшы камень у ваду, ускаламуціў яе, а я яе супакоіў, і хутка паверхня зноў зробіцца гладкая, нібы й не было ніякіх пырскаў. Няўжо ты не разумееш, што мой сокал прывёў мяне ў Залаты палац у ноч смерці Вялікага фараона, каб Егіпет не загінуў, а збярогся пасля яго смерці: багі пажадалі, каб егіпецкае царства не знікла. Таму я вярну мінулае: чалавек ніколі не задаволены цяперашнім часам, яго цешаць толькі мінулае ды спадзяваннем на будучыню. А я аб'яднаю мінулае з будучыняй. Я выцісну багацеяў, якія занадта растлусцелі, я выцісну багоў, якія занадта разбагацелі,— каб у маім царстве багатыя не былі занадта багатымі, а бедныя — празмерна беднымі, і каб ніводзін чалавек, ніводзін бог не маглі б супрацьстаяць маёй уладзе. Але я марна кажу гэта табе — чалавеку, які, няздольны зразумець мае думкі, сам мае думкі нікчэмныя і слабыя. А ў слабасці і немачы няма права на

жыццё ў гэтым свеце! Слабых затопчуць моцныя, і гэта будзе справядліва. Гэтак сама моцныя народы з дужымі нагамі затопчуць слабых, бо большы заўсёды адбірае долю ў меншага. Так было і так будзе ва ўсе часы.

Так мы рассталіся з Харэмхебам, і з гэтай хвіліны мы больш не былі сябрамі. Калі я пайшоў, Харэмхеб накіраваўся ў пакоі сваіх сыноў, радасна абняў іх і пагушкаў, высока падкідваючы ўгору дужымі рукамі, а тады пайшоў да царэўны Бэкетамон і сказаў ёй:

— Мая боская жонка, ты, як маладзік, заўсёды ззяла ў маім сэрцы, і я вельмі сумаваў без цябе. Але нарэшце мая справа здзейсненая. Хутка ты станеш Вялікай фараонавай жонкай і сядзеш на трон побач са мной, як табе і належыць паводле права свяшчэннай крыві. Шмат крыві пралілося дзеля цябе, Бэкетамон, шмат гарадоў згарэла, і стогны людскія ўздымаліся да неба там, дзе праходзілі мае воіны. Дык ці заслужыў я гэтым узнагароду?

Бэкетамон ласкава ўсміхнулася і адказала, сарамліва дакрануўшыся да яго пляча:

— Ты сапраўды заслужыў узнагароду, Харэмхеб, вялікі егіпецкі ваявода. Таму я загадала пабудаваць у сваім садзе альтанку, якой яшчэ не было на свеце. Я хацела сустрэць цябе належным чынам, і кожны камень для гэтай альтанкі здабыла сама, маркоцячыся без цябе. Пойдзем туды, каб ты мог атрымаць узнагароду з маіх абдымкаў і я магла даць табе радасць.

Харэмхеб узрадаваўся такім яе словам, і Бэкетамон, праменячыся сціпласцю, узяла яго за руку і павяла ў сад. Прыдворныя ў жаху разбегліся, пахаваліся і, стаіўшы дыханне, чакалі, што зараз адбудзецца, а рабы і конюхі кінуліся прэч, і палац зусім спусцеў. Бэкетамон увяла Харэмхеба ў альтанку, і, калі ён у нецярпенні памкнуўся абняць яе, ціха ўхілілася і сказала:

— Стрымай на імгненне сваю мужчынскую прыроду, Харэмхеб, каб я магла распавесці табе, якою вялікаю працай збудавала гэту альтанку. Спадзяюся, ты памятаеш, што я табе сказала, калі ты згвалціў мяне апошні раз? А цяпер паглядзі на гэтыя камяні і ведай, што кожны камень ад падлогі да сценаў — а іх вялікае мноства — напамінае мне пра тых мужчын, з якімі я цешылася, аддаючыся ім. Дзякуючы гэтым забавам, я і збудавала альтанку — каб ушанаваць цябе, Харэмхеб! Вунь той вялікі белы камень мне прынёс чысцільшчык рыбы, які мяне вельмі добра пацешыў, а той вунь, зялёны, я атрымала ад гаўнавоза. А вось гэтыя восем карычневых камянёў, што ляжаць побач, падараваў мне гандляр зелянінай, які быў сапраўды ненасытны і вельмі хваліў мае здольнасці. Калі табе хопіць цярпення, Харэмхеб, я раскажу пра кожны каменьчык: наперадзе нас чакаюць доўгія гады жыцця, але нават у



дні нашай старасці, я думаю, мне хопіць апаведаў на кожны дзень, — калі ты зноў захочаш мяне абняць!

Харэмхеб спачатку не паверыў яе словам, падумаўшы, што гэта нейкі дурны жарт. Але паглядзеўшы ў яе вузкія вочы, убачыў у іх нянавісць, якая была страшнейшай за смерць. I тады ён паверыў. А калі паверыў і асэнсаваў сказанае, ашалеў ад злосці і выхапіў хецкі нож, каб забіць тую, якая яго зняславіла такім жудасным чынам. Але Бэкетамон з усмешкай агаліла грудзі і сказала:

— Давай, Харэмхеб, бі мяне нажом, бі па царскіх каронах на сваёй галаве! Я — жрыца Сэхмет, і ў маіх жылах цячэ свяшчэнная кроў. Забі мяне — і ў цябе не будзе законнага права на трон вялікіх фараонаў.

Гэтыя словы імгненна ўтаймавалі Харэмхеба. У сваіх адносінах з царэўнай ён мусіў захоўваць лад і згоду, бо толькі шлюб даваў яму права на трон. Так Бэкетамон звязала яго, і ён нічога не мог зрабіць. А яе помста была поўнай, і Харэмхеб не асмельваўся нават зруйнаваць альтанку, якая ўзнікала перад яго вачыма кожны раз, калі ён выглядаў з вокнаў сваіх пакояў. Разважыўшы, ён падумаў, што лепш зрабіць выгляд, быццам нічога не адбылося і ён нічога не ведае пра прыгоды сваёй жонкі Бэкетамон. Бо калі б ён загадаў разбурыць альтанку, то гэтым паказаў бы, што яму ўсё вядома. Таму ён вырашыў, што смех за спінай будзе лепш, чым адкрытая ганьба. Але з тае пары ён больш не дакранаўся да Бэкетамон, нічым яе не турбуючы, і жыў у самоце. Да гонару Бэкетамон трэба сказаць, што і яна больш не будавала новых будынкаў, задаволіўшыся альтанкай.

Пасля таго, што здарылася з Харэмхебам, я не думаю, каб ён меў шмат радасці ад сваіх каронаў. Ён зрабіўся недаверлівы і цалкам не давяраў ніводнаму чалавеку, думаючы, што ўсе смяюцца з яго ў яго за плячыма. Так і насіў ён гэтую стрэмку ў сэрцы, не ведаючы спакою, і не мог весяліцца з іншымі жанчынамі, бо надта вялікай была абраза, каб у яго засталася ахвота з кім-небудзь забаўляцца. Ён заглушаў свой боль і самоту працай, аддаючы ўсе сілы, каб ачысціць Егіпет ад бруду і паставіць праўду на месца несправядлівасці.

## 7

Будзе справядліва, калі я раскажу і пра добрыя здзяйсненні Харэмхеба, бо народ услаўляў яго імя і ўжо за першыя гады царавання лічыў яго роўным з Вялікімі фараонамі Егіпта. Ён прыціснуў багатых і знатных і не дазваляў, каб хто-небудзь у Егіпце быў занадта багатым і ганарыстым у сваім багацці і знатнасці і не мог супернічаць з ім ва ўладзе, а такое заўсёды вельмі падабаецца народу. Ён караў няправедных суддзяў і вярнуў беднякам іх старадаўнія правы, ён усталяваў новыя правілы збору падаткаў і даў зборшчыкам цвёрды заробак з царскай

скарбніцы, каб яны не нажываліся, вымагаючы хабар з простага люду.

Ён не ведаў спакою і бесперапынна ездзіў з адной вобласці ў другую, з вёскі ў вёску. Ён усталёўваў справядлівасць, і яго шлях быў адзначаны адрэзанымі вушамі і насамі несправядлівых зборшчыкаў падаткаў. І далёка ад месца, дзе ён чыніў суд, разносіўся свіст бізуноў і стогны асуджаных. Бедныякі маглі самі звяртацца да яго, і ніхто з царскіх чыноўнікаў не мог перашкаджаць ім выказваць свае скаргі, а тады Харэмхеб выносіў свой справядлівы вырак. Ён зноў пачаў пасылаць караблі ў далёкі Пунт, і зноў жонкі і дзеці мараплаўцаў цясніліся ля прычалаў і па старым звычаі драпалі сабе твары камянямі, а Егіпет непамерна багацеў, бо з дзесяці караблёў штогод вярталіся тры, якія прывозілі казачныя скарбы. Ён будаваў новыя храмы і аддаваў багам належнае паводле іх годнасці й права, не выказваючы асаблівай прыхільнасці ніводнаму храму, апроч Гора, чый храм у яго на радзіме, у горадзе Хетнечут, упрыгожвала яго асабістая статуя, і ён прыносіў ёй у ахвяру быкоў. Просты люд услаўляў Харэмхеба і яшчэ пры жыцці складаў пра яго легенды.

Каптах таксама квітнеў і багацеў год за годам, і нарэшце ва ўсім Егіпце не стала чалавека багацейшага за яго. У Каптаха не было ні дзяцей, ні жонкі, а таму ён напісаў запавет, у якім усё сваё багацце пакідаў Харэмхебу. Ён зрабіў гэта, каб жыць спакойна і бесперашкодна павялічваць свой набытак. Не дзіва, што і Харэмхеб з гэтай прычыны ніколі на яго не ціснуў і не дазваляў зборшчыкам падаткаў надта яму дапякаць.

Каптах часта запрашаў мяне ў свой дом, які стаяў у багатай частцы горада. Дом займаў цэлы квартал з садам, і ў Каптаха не было суседзяў, якія парушалі б яго спакой. Каптах еў з залатога посуду, вада ў яго доме цякла са срэбраных трубаў, як на Крыце, і купальня была срэбраная, а сядзенне ў прыбіральні — з чорнага дрэва, а каштоўныя камяні ў сценах дома стваралі прыемную для вока карціну. Ён частаваў мяне дзівоснымі стравамі і паіў віном пірамідаў, а падчас абеду яго забаўлялі музыкі ды спевакі, і самыя прыгожыя танцоўшчыцы Фіваў выконвалі незвычайна складаныя танцы, каб яго пацешыць. Ад жанчын яму было не надта многа радасці, бо яго жывот замінаў любоўным забавам, таму ён аддаваў перавагу радасцям чэрава.

Каптах часта наладжваў пачосткі ў сваім палацы, куды з вялікай ахвотай прыходзілі егіпецкія багацеі ды вяльможы, хоць гаспадар дома паходзіў з рабоў і дагэтуль не пазбавіўся многіх нізкіх звычак, напрыклад, выціраць нос пальцам ды адрыгаць за сталом. Але ён быў гасцінным гаспадаром і падносіў гасцям дарагія падарункі, а яго парады ў гандлёвых справах былі заўжды хітрамудрыя, і таму ўсе даражылі яго сяброўствам. Ён цешыў гасцей цікавымі і смешнымі апавяданнямі і часта сам пераапранаўся ў вопратку раба ды смяшыў гасцей, бо быў настолькі багаты, што не баяўся насмешак з свайго мінулага і нават фанабэрыўся перад егіпецкімі вяльможамі тым, што некалі быў рабом.



— Мой гаспадар Сінухе, — казаў ён мне, — чалавеку трэба хоць трошкі забагацець, і ён ужо не стаць бедным, — ён будзе багацець, сам таго не жадаючы, такі ўжо дзіўны наш свет. А маё багацце пачалося з цябе, Сінухе, і таму я буду заўсёды лічыць цябе сваім гаспадаром, і табе ніколі не давядзецца жыць у нястачы, а тое, што ты не маеш ніякага багацця, дык для цябе нават лепш, бо ты ўсё адно не ўмееш з ім абыходзіцца і чыніш усякае глупства сабе на разарэнне. Гэта добра, што ты пусціў на вецер сваё багацце ў часы ілжэфараона, — затое цяпер я паклапачуся пра тваю выгоду і прасачу, каб ты ні ў чым не цярпеў нястачы і каб усе твае разумныя жаданні выконваліся.

Каптах прыхільна ставіўся да мастакоў, а яны высякалі з каменя яго выявы, надаючы яму вяльможны і вытанчаны выгляд. Яго постаць яны рабілі танчэйшай, ногі і рукі — меншымі, а скулы на твары — вышэйшымі. Статуя Каптаха заўсёды мела двое вачэй, сядзела паглыбленая ў роздум і трымала на каленях разгорнуты папірус, а ў руцэ — трысняговае пісала, хоць сам ён ніколі нават не спрабаваў навучыцца чытаць і пісаць, а ўсе складаныя разлікі і перапіску за яго вялі шматлікія пісарчукі. Гэтыя скульптуры вельмі забаўлялі Каптаха, а жрацы Амона, якіх Каптах шчодра адорваў пасля вяртання з Сірыі, паставілі адну яго статую ў вялікім храме, за што ён сам і заплаціў.

Ён загадаў пабудаваць у Горадзе мёртвых раскошную грабніцу, чые сцены ўпрыгожвалі шматлікія карціны з яго жыцця — з будняў ды святаў. На малюнках ён быў таксама з двума вачыма, без вялізнага жывата і выглядаў даволі вяльможна. Каптах і тут спадзяваўся ашукаць багоў і трапіць у Краіну Захаду не такім, якім ён быў у сапраўднасці, а такім, якім хацеў быць. Зрэшты, пры жыцці ён хацеў заставацца менавіта самім сабой, бо гэта было не так турботна, як быць вяльможам. Для сваёй грабніцы ён загадаў напісаць адмысловую Кнігу мёртвых, якой я не бачыў ніколі раней, — гэтая Кніга складалася з дванаццаці скруткаў папіруса з пісьмёнамі, малюнкамі ды чарадзейнымі замовамі для ўтаймавання духаў апраметнай, каб усякімі хітрыкамі зрабіць цяжэйшай шалю на вагах Асірыса і каб задобрыць справядлівых павіянаў. Усё гэта ён зрабіў проста на ўсякі выпадак, бо, на яго думку, «ніякая перасцярога ніколі не пашкодзіць», але пра смерць ён ніколі не думаў і больш за іншых багоў шанаваў нашага скарабея.

Я шчыра радаваўся багаццю Каптаха, як радаваўся цяпер багаццю і шчасцю кожнага, бо я ўжо не хацеў пазбаўляць людзей іх марных спадзяванняў, якія дазвалялі ім быць шчаслівымі. Чалавечае жыццё збольшага якраз і сатканае з такіх марных спадзяванняў. А праўда бывае такой

горкай і злою, што чалавеку лепш пазбыцца жыцця, чым страціць свае памылковыя, але салодкія мроі. Таму я больш не імкнуўся абуджаць іх ад гэтых мрояў, якія дораць ім шчасце і не робяць нікому ліха.

Але мой гарачы лоб не ахалоджвалі сны, радасць не давала заспакаення сэрцу, а праца не прыносіла задавальнення, хоць усе гэтыя гады я шмат працаваў і вылечыў безліч хворых. Некалькі разоў я ўскрываў чарапы, і людзі вылечваліся, хоць трое памерлі. Мяне славілі, як вялікага лекара, але нездавальненне не пакідала мяне. А можа я пераняў у Муці яе сварлівасць, і таму ніхто мне не мог дагадзіць і я на ўсіх няспынна бурчэў і лаяўся. Я лаяў Каптаха за ненажэрнасць, беднякоў дакараў за ляноту, багатых папракаў самалюбствам, суддзяў асуджаў за абыякавасць, — я нічым не быў задаволены і раздражнёна чапляўся да ўсіх. Толькі хворых і дзяцей я не дапякаў сваімі прамовамі, а проста лячыў, імкнучыся не прычыніць ім болю. А Муці я прымушаў раздаваць мядовыя аладкі хлопчыкам, бо іх вочы напаміналі мне вочы маленькага Тота. А людзі пра мяне казалі:

— Гэты Сінухе люты і паганы чалавек, яго печань разбухла і жоўць ліецца ў яго з рота, калі ён яго раскрывае. З гэтай прычыны ён і састарэў рана, і больш не радуецца жыццю. А яго злыя дзеі ідуць за ім следам і не даюць яму спаць па начах. Дык пашкадуем яго і не будзем чапаць, бо сваім языком ён джаліць не нас, а самога сябе.

Так напраўду яно і было: набурчаўшыся і налаяўшыся, я потым пачынаў пакутаваць ад сваёй злосці, плакаў і даваў лайдаку зерня, скідваў з плячэй лайно і аддаваў яго п'янтосу, прасіў прабачэння за свае словы ў багацея і верыў у справядлівасць суддзі. Так было таму, што я заставаўся слабым чалавекам і быў няздольны змяніць свой характар.

Сварыўся я і на Харэмхеба, бо ўсе яго справы і ўчынкі былі злом у маіх вачах. Асабліва я лаяў яго малойцаў, якіх ён прыкормліваў з фараонавых запасаў, а яны лайдачылі, пахваляліся ў шынках сваімі подзвігамі, прабівалі адзін аднаму галовы ды гвалцілі дзяўчат з бедных частак горада. У выніку вуліцы Фіваў сталі небяспечныя для жанчын. А калі беднякі скардзіліся Харэмхебу на гэта, ён выгароджваў сваіх памагатых, трактуючы іх паводзіны ў лепшым сэнсе і кажучы, што ягоныя воіны ўліваюць новую сілу ў егіпецкую кроў. Харэмхеб ненавідзеў жанчын і лічыў іх прыдатнымі толькі для нараджэння дзяцей.

Людзі, якія жадалі мне дабра, шмат разоў перасцерагалі, каб я адкрыта не лаяў Харэмхеба. Яны закрывалі раты далонямі, калі я пачынаў ганіць яго ў грамадскіх месцах, — яны баяліся за сябе і за мяне, і ўрэшце пакідалі мяне аднаго. А Харэмхеб з гадамі рабіўся ўсё больш недаверлівы, ён хацеў ведаць, што і дзе пра яго кажуць, і ўрэшце не засталося ніводнага люднага месца, ніводнай віннай крамкі, ніводнага шынка, дзе не было б ягоных выведнікаў. Трэба, зрэшты, прызнацца, што



такім чынам Харэмхебу стала вядома і шмат пра якія злоўжыванні, скардзіцца на якія просты люд не адважваўся, і ён жорстка караў вінаватых. Але больш за іншых цярпелі тыя, хто асмельваўся судзіць яго ўчынкі: іх спіны сплывалі крывёй ад бізуноў ды палак, а самых зласлоўных ссылалі на руднікі, а некаторых нават кідалі на спажыву кракадзілам. Сваіх выведнікаў Харэмхеб таксама карміў з фараонавай скарбніцы, каб яны не нажываліся на сваіх даносах і не атрымлівалі ў спадчыну маёмасць тых, хто ад іх пацярпеў. Таму, каб уратавацца ад даносаў, людзям не заставалася нічога, апроч як даваць фараонавым віжам добры хабар, а беднякі аддавалі ім сваіх дачок і жонак, і такім чынам выведнікі вялі бесклапотнае жыццё і старанна служылі свайму ўладару. А Харэмхеб казаў:

— Я кожнаму даў па ягонай меры, і беднякі атрымалі сваю меру напоўніцу, і ў іхніх хацінах цяпер ёсць удосталь алею і тлушчу. Маё сэрца радуецца, калі я зноў бачу на Егіпецкай зямлі сытых дзяцей, бо дзеці — гэта багацце краіны, і са здаровых хлопцаў вырастуць добрыя воіны, а моцныя дзяўчаты народзяць дзяцей больш, чым слабыя і галодныя. Але гультайства і празмернасць нараджаюць неспакой і зламыснасць, таму мая ўлада прымушае мяне быць заўсёды напагатове, інакш егіпецкі народ адчуе сябе залішне вольна.

Таму ён наўмысна нагружаў народ цяжкімі грамадскімі работамі: будаваў новыя дарогі, капаў новыя каналы, — каб ад беспрацоўя і дабрабыту людзі не пачалі задумваць выступленні супраць ягонай улады. Адным словам, народ у часы Харэмхеба апынуўся ў становішчы добра ўкормленага быка, чые бакі былі паколатыя дзідай і якому ніколі не дазвалялася як след адпачыць. Харэмхеб загадаў выбіць на сценах храмаў пісьмёны, якія ўсхвалялі яго мудрасць, здзяйсненні й перамогі, каб людзі кожны дзень бачылі напамін пра тое, як фараон аднавіў у Егіпце праўду, выкараніў несправядлівасць і кожнаму даў належнае, каб яго мера напоўнілася. Ён загадаў раздаваць багатыя дарункі казачнікам і песнярам, якія паўсюдна ўсхвалялі ягоныя дзеі і расказвалі цудоўныя казкі пра яго паходжанне і нараджэнне. Але казачнікі — народ увішны і хітры, у іх няма нічога святога, і таму яны аздабляюць свае казкі такімі ўзорамі, якія служаць добрай пацехай простаму люду. Ды Харэмхеб быў залішне самалюбны і не здагадваўся, што тыя, каму ён плаціць, смяюцца з яго ў сваіх легендах ды казках. Зрэшты, і слухачы таксама не ўсе разумелі казачнікаў і маглі з разяўленым ротам слухаць, як бог Гор, праходзячы міма роднага Харэмхебава горада ў час яго нараджэння, прысеў па патрэбе каля дарогі.

Але падазронасць Харэмхеба ўзрастала, і настаў дзень, калі яго воіны прыйшлі ў мой дом, абулі мяне ў сандалі, сяк-так загарнулі ў вопратку і, выпхаўшы дрэўкамі дзідаў на вуліцу, павялі да Харэмхеба. І зноў

была вясна, вада спадала, і ластаўкі нястомна насіліся над бурай ад глею ракой. Воіны прывялі мяне і паставілі перад Харэмхебам. За апошнія гады ён пастарэў, яго галава схілілася, твар пажаўцеў, а мышцы тырчалі вузламі на доўгім сухарлявым целе. Ён паглядзеў на мяне невясёлымі вачыма і сказаў:

— Я шмат разоў папярэджваў цябе, Сінухе, але ты не прыслухаўся да маіх словаў і па-ранейшаму кажаш людзям, што рамяство воіна — самае ганебнае і нізкае з усіх рамёстваў, што хлопчыку лепш памерці ў матчыным чэраве, чым нарадзіцца ваяром, што жанчыне дастаткова дваіх ці траіх дзяцей і няма патрэбы нараджаць больш, што лепш выгадаваць траіх у дастатку і шчасці, чым дзевяцёх ці дзесяцёх у галечы. Ты казаў таксама, што ўсе багі аднолькавыя, а іх храмы — палацы цемры, і толькі ілжывы бог праклятага фараона стаіць вышэй за ўсіх. Ты казаў, што чалавек не павінен купляць і прадаваць іншых людзей, як рабоў, што зямля належыць тым, хто яе апрацоўвае і збірае з яе ўраджай, і што напоўненыя збожжам свірны таксама належаць ім, нават калі гэта храмавая ці фараонава маёмасць. Яшчэ ты казаў, што мая ўлада нічым не адрозніваецца ад улады хетаў, і яшчэ шмат чаго неразумнага, за што каго-небудзь іншага даўно ўжо паслалі б у каменяломні ці адлупцавалі б палкамі, але з табой я быў цярплівы і цярпеў доўга, бо ты быў маім сябрам, Сінухе, і пакуль быў жывы Эйе, ты быў мне патрэбен, як адзіны сведка супраць яго. Але цяпер ты мне не патрэбны, наадварот — робішся небяспечны, бо надта шмат ведаеш. Калі б ты быў крыху разумнейшы, то трымаў бы язык за зубамі і цешыўся з таго, што маеш, — а ў цябе ж ёсць усё, і ты ні ў чым не адчуваеш нястачы. Але замест таго ты толькі ганіш мяне, і я такое цярпець больш не буду.

Па меры таго, як ён гэта казаў, яго гнеў узрастаў, і ўсё больш пахмурнеючы, ён пачаў хвастаць сябе па назе залатым бізуном:

— Напраўду, ты стаў падобны да каменьчыка ў маім сандалеце, да авадня на маім плячы, і я не магу цярпець, што ў маім садзе расце калючы бясплодны куст з атрутнымі шыпамі. Цяпер у зямлі Кэмет пануе вясна, вада стаіць нізка, і ластаўкі ладзяць гнёзды ў глеі, буркочуць галубы і цвіце акацыя. Гэта дрэнны час, бо вясна заўсёды абуджае неспакой і непатрэбную балбатню, кроў кідаецца ў галаву ўзрушаным хлапчукам, яны хапаюць з зямлі каменне і б'юць ахоўнікаў, а мае статуі ў храмах пэцкаюць гноем. Таму мне не застаецца нічога іншага, як выслаць цябе з Егіпта, Сінухе, каб ты больш ніколі не ўбачыў зямлі Кэмет. Калі ж я дазволю табе застацца, то аднойчы настане дзень, калі я вымушаны буду загадаць цябе забіць, а мне гэтага не хочацца, бо ты калісьці быў маім сябрам. Твае неразумныя словы могуць паслужыць іскрай, якая падпаліць сухі трыснёг, а трыснёг не патухне, пакуль не згарыць на попел. Злое слова можа быць небяспечнейшае за дзіду, і я



хачу ачысціць зямлю Кэмет ад злых словаў, як добры земляроб ачышчае агарод ад пустазелля. Я цяпер добра разумею хетаў, якія садзілі чарадзеяў на паль і выстаўлялі абапал дарогі. І я не дазволю Егіпту зноў загарэцца пажарам ні за людзей, ні за багоў! І таму я выганяю цябе, Сінухе, са сваёй краіны, бо ты, напэўна, і не быў ніколі сапраўдным егіпцянінам — ты нейкі дзіўны вырадак, у жылах якога цячэ змяшаная кроў, таму і гняздзяцца ў тваёй хворай галаве розныя дурныя думкі.

Можа, ён і меў рацыю, можа, усе пакуты майго сэрца якраз і надараліся ад таго, што свяшчэнная кроў фараонаў змяшалася ўва мне з паміраючай крывёй мітаннійскай зямлі, зямлі вячэрняга змроку. Я спачатку быў захіхікаў ад яго словаў і прыкрыў рот рукамі, але потым жахнуўся ад пачутага: Фівы былі маім родным горадам, я тут нарадзіўся і вырас і не хацеў жыць нідзе ў іншым месцы. Мой смех раззлаваў Харэмхеба, які думаў, што я ўпаду перад ім ніцма і буду маліць аб літасці. У гневе ён зламаў царскі бізун і крыкнуў:

— Дык хай будзе так! Я выганяю цябе з Егіпта на вечныя часы, і калі ты памрэш, тваё цела не будзе пахавана ў Егіпце, хоць я і дазваляю зберагчы яго для вечнага жыцця па нашых звычаях. Але цябе пахаваюць на ўсходнім беразе, ад якога караблі адыходзяць у Пунт, — дзе я прызначаю месца твайго выгнання. Сірыя дзеля гэтага не падыходзіць — яна ўсё яшчэ нагадвае гарачы прысак, з якога не варта раздзімаць полымя. Зямля Куш таксама табе не падыходзіць, бо ты кажаш, быццам негры і егіпцяне роўныя, і можаш укласці гэтыя дурныя думкі ў галовы неграм. А вось бераг мора якраз табе будзе добры: ён бязлюдны, і там ты можаш маліцца, колькі хочаш, і можаш прамаўляць да чырвоных хваляў і чорнага ветру пустэльні, да крумкачоў, шакалаў і змеяў. Воіны адмераюць прастору, дзе табе будзе дазволена рухацца, але калі толькі ты выйдзеш за азначаныя межы, цябе заколюць дзідамі і ты памрэш. У астатнім ты не будзеш адчуваць нястачы: у цябе будзе мяккі ложак, далікатная ежа, і кожнае тваё разумнае пажаданне неадкладна будзе выконвацца. Самота — вось твая кара, і я не хачу рабіць яе болей жорсткай, бо калісьці ты быў маім сябрам. Але цяпер я павінен пазбавіцца ад тваёй небяспечнай і дурной балбатні.

Я не баяўся самоты, бо быў самотным усё жыццё і самота была мне наканаваная ад нараджэння. Але маё сэрца напоўнілася горыччу і сумам ад думкі, што я больш ніколі не ўбачу Фіваў, што мая нага больш ніколі не ступіць на мяккі глей зямлі Кэмет і мне больш ніколі не давядзецца напіцца вады з Ніла. Таму я папрасіў Харэмхеба:

— У мяне не шмат сяброў, бо людзі пазбягаюць мяне за маю з'едлівасць і злы язык, але, можа, ты дазволіш развітацца з імі. Я таксама хацеў бы развітацца з Фівамі, апошні раз прайсці па Алеі бараноў,

падыхаць паветрам, змешаным з дымам ахвярных алеяў, прайсці паміж featureрознакаляровых калонаў вялікага храма і па бядняцкіх кварталах, дзе разносіцца пах смажанай рыбы, калі адвячоркам жанчыны распальваюць вогнішчы перад сваімі глінунымі хацінкамі, а стомленыя мужчыны вяртаюцца дадому.

Можа, Харэмхеб і выканаў бы маю просьбу, калі б я расплакаўся, упаўшы ніцма перад яго тронам: ён быў славалюбны і ганарысты, і сапраўднай прычынай ягонага гневу было разуменне, што ў глыбіні душы я не магу ім захапляцца і не лічу яго законным фараонам. Але якім бы слабым і баязлівым чалавекам я ні быў, я не хацеў перад ім схіляцца, бо ведам не пасуе па-рабску схіляцца перад уладай. Таму я толькі паспешна закрыў рот рукой, бо ў хвіліны вялікага страху я нястрымана пазяхаў і тым, напэўна, адрозніваўся ад іншых. Харэмхеб адказаў:

— Не, я не дазволю ніякіх непатрэбных развітванняў ды апошніх «бывай» — я воін, і ўсе гэтыя развітальныя ласкі мне не даспадобы. Твой ад'езд будзе неадкладны і лёгкі: я адсылаю цябе зараз і прама адсюль, бо не маю патрэбы ні ў шуме, ні ў выказванні на твой адрас гарачых пачуццяў (бо ты ў Фівах значна болей славуты, чым думаеш). Таму ты зараз жа рушыш у дарогу ў закрытых насілках, а калі хтонебудзь захоча паехаць у выгнанне разам з табою, я пярэчыць не буду. Але гэтаму чалавеку давядзецца назаўжды застацца ў месцы твайго выгнання, і нават калі ты памрэш, яму таксама давядзецца чакаць сваёй смерці там. Зламысныя і шкодныя думкі лёгка перадаюцца ад чалавека да чалавека. А я не хачу, каб тваё вар'яцтва вярнулася ў Егіпет з кімнебудзь яшчэ. Калі ж, кажучы пра сяброў, ты маеш на ўвазе таго раба з паламанымі пальцамі ці п'янюгу-мастака, які маляваў багоў, прысеўшы на кукішкі нібы па патрэбе, ці некалькіх неграў, што прыходзілі да цябе, дык развітацца з імі ты не зможаш, бо яны выправіліся ў такое далёкае падарожжа, з якога ўжо ніколі не вернуцца.

У гэтыя хвіліны я ненавідзеў Харэмхеба, але яшчэ больш ненавідзеў сябе, бо мае рукі па-ранейшаму неслі смерць, хоць я не жадаў таго. Я не сумняваўся, што Харэмхеб загадаў забіць або паслаць на руднікі тых нешматлікіх сяброў, якіх я сабраў вакол сябе дзеля памяці аб Атоне. Таму я нічога не адказаў Харэмхебу, а моўчкі пакланіўся, апусціўшы да каленяў рукі, і потым воіны вывелі мяне з залы. Ён двойчы растульваў вусны, нібыта збіраючыся нешта сказаць, нават ступіў крок да мяне, але стрымаўся, хвастануў бізуном па назе і прамовіў:

— Фараон сказаў!

І тады воіны пасадзілі мяне ў шчыльна запнутыя з усіх бакоў насілкі і панеслі прэч з Фіваў. Мяне неслі на ўсход, па пустэльні, па пракладзенай Харэмхебам дарозе, забрукаванай камянямі. Мяне неслі дваццаць



дзён — да гавані, з якой раз на год караблі адплывалі ў Пунт. Але ў гавані было шмат жыхароў, і таму воіны панеслі мяне далей па ўзбярэжжы і неслі яшчэ тры дні — да спусцелай вёсачкі, дзе раней жылі рыбакі. Там яны адмералі мне прастору, па якой я мог хадзіць бесперашкодна, і пабудавалі дом, у якім я правёў шмат гадоў, пакуль не састарэў і не стаміўся ад жыцця. У мяне было ўсё, патрэбнае для заможнага жыцця, і ўсё, неабходнае для пісьма, выдатны папірус і куфэркі з чорнага дрэва, у якіх я зберагаю ўсё напісанае і свае лекарскія прылады. Але ўжо гэты скрутак, які я заканчваю, будзе пятнаццатым і апошнім. Мне няма больш чаго распавесці, я стаміўся пісаць. Стамілася мая рука, і стаміліся мае старыя вочы, якія ўжо ледзь разбіраюць накрэсленыя на папірусе знакі.

Я думаю, што не змог бы жыць, калі б не пісаў, і пакуль я пісаў, я зноў пражыў усё жыццё, хоць і не шмат добрага змог пра яго распавесці. Але я распавядаў дзеля самога сябе, дзеля таго, каб жыць, каб асэнсаваць пражытае і зразумець, навошта ж я жыў. На жаль, зразумець гэта мне не дадзена, і цяпер, калі я дапісваю пятнаццаты скрутак, я разумею гэта яшчэ менш, чым раней, калі пачынаў пісаць першы. Але само пісьмо суцяшала мяне ўсе гэтыя гады, калі я кожны дзень бачыў перад сабой толькі мора, я бачыў яго чырвоным і чорным, і зялёным пасярод дня і светлаю ноччу, а ў час самай спякоты — сінім, сінейшым нават за каштоўныя камяні, і я стаміўся ад гэтага відовішча, бо мора надта вялікае і застрашальнае, каб чалавеку глядзець на яго ўсё жыццё, — нават галава пачынае круціцца ад яго велічы, і сэрца абрываецца ў бяздонне, калі глядзіш на мора ў вячэрніх прыцемках.

І ўсе гэтыя гады я разглядаў чырвоныя горы і вывучаў пясчаных блох, маімі знаёмцамі зрабіліся змеі ды скарпіёны, яны не ўцякалі ад мяне, уважліва слухаючы мае словы, калі я размаўляў з імі. Аднак я лічу, што яны дрэнныя сябры чалавеку, і хутка яны мне ўстылі, нават больш за бясконцы шум марскіх хваляў.

Павінен яшчэ сказаць, што ў першы год майго жыцця тут, у закінутай вёсцы, сярод збялелых рыбіных костак і апусцелых хат, да мяне з Фіваў разам з фараонавым караванам, што прывёз грузы на караблі, якія збіраліся плыць у Пунт, прыехала Муці. Яна нізка схілілася перада мной, апусціўшы да каленяў рукі, і горка заплакала, бо мой стан быў жахлівы: я схуднеў, шчокі праваліліся, жывот знік, і да ўсяго я ставіўся абыякава, я проста сядзеў на беразе і глядзеў на мора, пакуль у мяне ў галаве не пачынала круціцца. Але даволі хутка Муці супакоілася і пачала, як заўсёды, бурчаць і лаяць мяне:

— Ці не папярэджвала я цябе тысячу разоў, Сінухе, каб ты не лез у пятлю, як робяць усе мужчыны — яны ж глухія, як камяні! Толькі і робяць, што, як дурні, б'юцца галавой аб сцяну, а тая нават не пахіс-

нецца! Хопіць! Ты ўжо дастаткова набіў сабе лоб. Пара ўгаманіцца і жыць спакойна, калі толькі тая штуковіна, якую мужчыны, саромеючыся, хаваюць пад вопраткай, больш цябе не турбуе і не абпальвае тваю галаву вар'яцкім полымем. Бо ўсе беды на свеце толькі ад яе!

Але я пачаў дакараць яе і казаць, што ёй не варта было пакідаць Фівы, бо цяпер, прыехаўшы, яна на ўсё жыццё звязала сябе са мною, выгнанцам, і я, калі б ведаў пра яе намеры, ніколі не дазволіў бы ёй гэта зрабіць. А яна, смеючыся, сказала:

— Усё не так! І тое, што з табой цяпер адбываецца,— самае лепшае з усяго, што адбылося з табой у тваім жыцці. Я думаю, фараон Харэмхеб — твой сапраўдны сябар, калі паслаў цябе ў такое ціхае месца дажываць дні старасці. Я таксама стамілася ад фіванскай ліхаманкі ды бясконцых звадаў з суседзямі, якія не вяртаюць пазычаных гаршчкоў і выкідваюць смецце ў мой двор. Праўду кажучы, пасля пажару былы дом медніка ўжо не змог зноў стаць такім, як раней: смажанка ў ім заўжды падгарала, алей псаваўся і ялчэў у гарлачах, ад падлогі скразіла, аканіцы бясконца рыпелі. А тут мы ўсё можам пачаць спачатку і наладзіць, як захочам. Я ўжо нагледзела добрае месца, дзе пасаджу гародніну і зеляніну на прыправы, якія ты так любіш, мой гаспадар. І знайду працу гэтым лайдакам, якіх фараон прыставіў да цябе,— яны будуць кожны дзень хадзіць на паляванне, каб у цябе заўжды было свежае мяса, будуць лавіць рыбу і збіраць па беразе ракавіны і крабаў. А з часам я і сабе знайду мясцейка для адпачынку, калі ты мне дазволіш, мой гаспадар, бо, дабраўшыся сюды, я больш не збіраюся нікуды ехаць — я дастаткова паездзіла, пакуль не знайшла цябе. Падарожжы мне ўвогуле не даспадобы, бо раней я з Фіваў нікуды ніколі не ездзіла і нават на крок не ступала за фіванскую браму.

Так Муці мяне суцешыла і парадавала сваёй буркатнёй, і напэўна, толькі дзякуючы ёй я пачаў новае жыццё і ўзяўся пісаць. Яна натхняла мяне, хоць і не ўмела чытаць і лічыла мой занятак чарговай дурасцю. Але яна хацела, каб у мяне быў хоць нейкі занятак, які надаў бы сэнс майму існаванню ў выгнанні. Яна сачыла, каб я не надта шмат часу сядзеў за пісьмёнамі на змярканні і не псаваў вочы, а працаваў памалу і рабіў перапынкі ў працы, каб пачаставацца ласункамі, якія яна мне гатавала. Яна выканала сваё абяцанне і прымусіла фараонавых ахоўнікаў працаваць да знямогі, за што яны на яе лаяліся і ў яе за плячыма называлі вядзьмаркай. Але пярэчыць Муці яны не адважваліся, бо тады яна накідвалася на іх з лаянкай, а язык у яе быў вастрэйшы за наканечнік дзіды, якой падколваюць быка, і яна ніколі не забывалася згадаць пра тую маленькую рэч, якую мужчыны хаваюць пад вопраткай. Тады воіны не ведалі, куды дзецца ад сораму, і толькі калупалі зямлю пальцамі босых ног.



Я лічу, што ўплыў Муці на іх быў дабратворны, бо яна заўсёды знаходзіла ім занятак, і час іх службы мінаў вельмі хутка. А не маючы вольнага часу, яны не маглі задумаць майго забойства, каб вызваліцца такім чынам ад нялюбай працы і вярнуцца ў Фівы. Яны хацелі толькі адпачынку. Зрэшты, Муці не пакідала іх і без узнагароды, робячы смачны хлеб і гатуючы густую брагу. Дзякуючы Муці, якая частавала воінаў яшчэ і зелянінай са свайго агарода, іх стол зрабіўся такім разнастайным, што хваробы, на якія пакутавалі іх папярэднікі, былі ім невядомыя. Кожны год разам з караванамі, якія везлі тавары на караблі, што выпраўляліся ў Пунт, Каптах па сваёй ініцыятыве накіроўваў мне цэлы караван аслоў, гружаных рознымі рэчамі, і прысылаў поўнае апісанне падзеяў, якія за апошні час адбыліся ў Фівах. Такім чынам, маё жыццё не было жыццём у мяшку.

І вось цяпер, калі я расказаў усё, я адчуваю, што вельмі стаміўся ад. Кошкі Муці скачуць мне на калені, труцца аб маю руку, у якой я трымаю пяро, і пісаць далей немагчыма. Маё сэрца таксама стамілася ад доўгага апавядання, і цела стамілася і прагне вечнага спакою. Можа, я не ведаў шчасця, але быў не такі ўжо нешчаслівы ў сваёй самоце, і чым больш самотны і далёкі ад людзей я быў, тым выразней бачыў і разумеў іх учынкі і іхнюю марнасць. Бо ўсе здзяйсненні чалавека ва ўсе дні яго жыцця — марныя.

Хай будзе блаславёны гэты папірус і гэтае пісала, якія падаравалі мне магчымасць зноў адчуць сябе маленькім хлопчыкам і праплыць уніз па рацэ ў прасмоленым трысняговым чоўне. Я зноў быў дзіцём у доме майго бацькі Сэнмута, і слёзы Мэці, чысцільшчыка рыбы, зноў капалі мне на рукі гарачымі кроплямі. Я блукаў па дарогах Вавілоніі з Мінеяй, і чароўныя рукі Мэрыт абдымалі маю шыю. Я плакаў з усімі няшчаснымі і раздаваў зерне беднякам. І ўсё гэта я буду помніць, а ўсё нядобрае, зробленае мною, як і горыч стратаў, я ўспамінаць не хачу.

Усё гэта напісана мною, Сінухе-егіпцянінам, толькі дзеля сябе самога. Не дзеля багоў, не дзеля людзей і не дзеля таго, каб маё імя зберагглося навечна, а дзеля мяне, нікчэмнага смяротнага, дзеля майго сэрца, чыя мера ўжо напоўнілася. Я не магу спадзявацца, што напісанае мной зберажэ маё імя, бо ведаю, што ахоўнікі знішчаць гэтыя скруткі, калі я памру. Яны знішчаць гэтыя папірусы і зруйнуюць мой дом, выконваючы загад Харэмхеба, але я не магу сказаць, што гэта надта мяне засмучае, бо пасля таго, што мне давялося перажыць і пабачыць, я не вельмі імкнуся да збераження ў вяках свайго імя.

Аднак я зберагаю ўсе пятнаццаць скруткаў і папрасіў Муці сплесці пад кожны трывалы ўкладнік з пальмавых валокнаў, потым змясціў скруткі ў гэтых укладніках у срэбны куфэрак, паставіў яго ў куфэрак з цвёрдага дрэва, і той — у зачыненую медную скрынку,— гэтак сама,

як зрабілі некалі са свяшчэннымі скруткамі Тота, якія потым апусцілі ў такіх куфэрках на дно ракі. Ці ўцалеюць гэтыя скруткі і ці паспее Муці схаваць іх мне ў магілу, я не ведаю, дый мне ўжо ўсё адно.

Бо я, Сінухе, — чалавек, і я жыў у кожным, хто жыў да мяне, і буду жыць у тых, хто прыйдзе пасля. Я буду жыць у іх плачы і радасці, у іх журбе і страху, у добрым і злым, у праведным і распусным, у слабым і моцным. Я, чалавек, буду жыць вечна ў іншых людзях, а таму не хачу ні ахвяраў на сваёй магіле, ні бяссмерця майго імя. Так запісаў я, Сінухе-егіпцянін, той, які быў самотны ва ўсе дні свайго жыцця.

# Змест

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

ПАПІРУС ПЕРШЫ. Трысняговы човен ........ 5
ПАПІРУС ДРУГІ. Дом жыцця ........ 31
ПАПІРУС ТРЭЦІ. Фіванская ліхаманка ........ 56
ПАПІРУС ЧАЦВЁРТЫ. Нефернеферннефер ........ 98
ПАПІРУС ПЯТЫ. Хабіры ........ 130
ПАПІРУС ШОСТЫ. Дзень фальшывага цара ........ 160
ПАПІРУС СЁМЫ. Мінея ........ 204
ПАПІРУС ВОСЬМЫ. Цёмны палац ........ 231
ПАПІРУС ДЗЕВЯТЫ. Кракадзілаў хвост ........ 264

ЧАСТКА ДРУГАЯ

ПАПІРУС ДЗЕСЯТЫ. Паднябесны горад ........ 309
ПАПІРУС АДЗІНАЦЦАТЫ. Мэрыт ........ 357
ПАПІРУС ДВАНАЦЦАТЫ. Клепсідра адмярае час ........ 422
ПАПІРУС ТРЫНАЦЦАТЫ. Царства Атона на зямлі ........ 476
ПАПІРУС ЧАТЫРНАЦЦАТЫ. Свяшчэнная вайна ........ 523
ПАПІРУС ПЯТНАЦЦАТЫ. Харэмхеб ........ 576

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Серыя «Літаратурная скарбонка»

**Валтары** Міка

**СІНУХЕ-ЕГІПЦЯНІН**

Жыццяпіс Сінухе, лекара фараона Эхнатона і Неферціці,
за гады 1390 – 1335 да н.э.,
у пятнаццаці папірусах, напісаная ім самім

Адказны за выпуск *Зміцер Колас*

Падпісана да друку 23.10.2006. Фармат 60x84 1/16. Папера афсетная.
Гарнітура Балтыка. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 36,5. Ул.-выд. арк. 40,26.
Наклад 500 асобнікаў. Заказ 71.

Выдавец Зміцер Колас
220023, Мінск, пр. Незалежнасці, 105–14.
ЛІ № 02330/0133412 ад 14.10.2004 г.

Надрукавана ў друкарні ТАА «ЮНІПОЛ»
220039, Мінск, вул. Чкалава, 38, корп. 2.
ЛП № 02330/0056884 ад 30.04.2004 г.

*Літаратурная скарбонка*

Міка Валтары

# Сінухе егіпцянін